# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ

## ТОМ ДРУГІ

## БЕЛАРУСЬ У ПЕРЫЯД ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

МІНСК
"СОВРЕМЕННАЯ ШКОЛА"
"ЭКОПЕРСПЕКТИВА"
2008

УДК 947.6
ББК 63.4 (4Беи)
Г51



Р э д а к т а р ы т о м а:
Ю. Бохан, Г. Галенчанка

А ў т а р ы:
Ю. Бохан, Г. Галенчанка, В. Голубеў, А. Дзярновіч, А. Доўнар,
Л. Іванова, М. Касцюк, П. Лойка, В. Насевіч, У. Падалінскі, Г. Сагановіч,
А. Самусік, Л. Собалева, М. Спірыдонаў, А. Янушкевіч

Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд Вялікага Княства
Г51 Літоўскага / Ю. Бохан [і інш.]; рэд. кал.: М. Касцюк (гал. рэд.) [і інш.] —
Мінск : Экоперспектива, 2008. — 688 с.; іл.

ISBN 978-985-513-317-0 (т. 2)
ISBN 978-985-513-105-3 (Современная школа).

ISBN 978-985-469-240-1 (т. 2)
ISBN 978-985-469-204-3 (Экоперспектива).

УДК 947.6
ББК 63.4 (4Беи)

ISBN 978-985-513-317-0 (т. 2)
ISBN 978-985-513-105-3 (Современная школа)

ISBN 978-985-469-240-1 (т. 2)
ISBN 978-985-469-204-3 (Экоперспектива)

# УВОДЗІНЫ

**Беларускія землі ў складзе Вялікага Княства Літоўскага.** Гісторыя беларускага народа ў Сярэднявеччы і ў пачатку Новага часу насычана як значнымі дасягненнямі ў розных сферах грамадска-палітычнай, дзяржаватворчай, этнаканфесійнай дзейнасці, стварэнні вялікіх матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей, так і разбуральнымі войнамі і іншымі ўскладненнямі. Эканамічнае, палітычнае, культурнае развіццё было вынікам працяглага далёка не простага ўзаемадзеяння розных сацыяльных і палітычных фактараў, міжнародных і ўнутраных дачыненняў.

Працяглым і самабытным гістарычным перыядам у сярэднявечным мінулым беларускага народа з'явіўся той час, калі беларускія землі ўваходзілі ў склад Вялікага Княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага (ВКЛ). Пры гэтым у многіх адносінах яны вызначалі сутнасць, накіраванасць, характар гэтай магутнай еўрапейскай дзяржавы.

Беларусь і ў пэўнай ступені іншыя ўсходнеславянскія землі былі тэрытарыяльнай, дэмаграфічнай, гаспадарчай, ваеннай, фінансавай, духоўнай асновай дзяржавы, вялікакняскага дамена. Тут закладваліся падмуркі самых вялікіх магнацкіх і царкоўных латыфундый, існавалі буйныя гарады, на гэтыя землі прыйшоўся асноўны цяжар доўгай і драматычнай для ўсіх бакоў цяжбы ВКЛ з Вялікім Княствам Маскоўскім у XV–XVI ст. за гегемонію ва Усходняй Еўропе.

У гэты перыяд упершыню продкі сучасных беларусаў пачалі асэнсоўваць сябе цэласным, непарыўным народам са сваёй гістарычнай спадчынай, культурай, светапоглядам, звычаямі, гаспадарскім і жыццёвым побытам. Іх здзяйсненні нямала садзейнічалі стварэнню разам з літоўцамі і некаторымі іншымі народамі новай шматэтнічнай дзяржавы на балта-славянскіх абшарах. Параўнальна высокі ўзровень папярэдняга развіцця беларускіх і шэрага суседніх зямель не толькі паскорыў агульную эвалюцыю Літвы і літоўскага этнасу, але, акрамя таго, спрыяў фарміраванню многіх неабходных перадумоў узнікнення і захавання гэтай дзяржаўнасці: павелічэнню агульнага тэрытарыяльнага абшару, колькасці насельніцтва, распаўсюджванню "рускай" (старабеларускай) кантактнай мовы для ўсіх народаў і этнічных груп, афіцыйнай пісьменнасці, справаводства. Грэка-візантыйскае хрысціянства, што панавала на землях Русі, значна паўплывала на эвалюцыю літоўскага язычніцтва і хрысціянізацыю Літвы ў канцы XIV – пачатку XV ст.

У XVI ст. на землях Беларусі і Літвы пачала развівацца культура еўрапейскага Адраджэння з яе высокімі духоўнымі здабыткамі і здзяйсненнямі. Спрыяльныя абставіны царкоўна-канфесійнай і этнаканфесій-

най талерантнасці, росквіт гуманістычнай культуры, кнігадрукавання, асветніцтва, пашырэнне міжнародных і ў першую чаргу еўрапейскіх сувязей далі падставы пераемнікам духоўнай спадчыны Беларусі назваць гэтае стагоддзе, згодна з антычнай метафарай, новым залатым векам.

У гэты перыяд, калі вызначаўся лёс і шляхі развіцця Усходняй Еўропы, перад старым еўрапейскім светам паўстала буйная дзяржава, цывілізаваная і самабытная, схільная да экспансіі і здольная адстаяць свае межы перад пагрозай знешніх сапернікаў і ворагаў, з незвычайнай супольнасцю розных этнасаў, разнастайнасцю моў, культурных і бытавых традыцый, перакрыжаваннем канфесій і цывілізацыйных павеваў. Здавалася, што гэтая дзяржава спыніць сваё існаванне адразу пасля ўзнікнення з-за ўнутраных супярэчнасцей і разладаў, этнічных і прасторавых дыспрапорцый, узрастаючага ціску звонку, несумяшчальнасці грамадскага і ваеннага ладу на землях язычніцкай Літвы з грамадскай, хрысціянскай ментальнасцю на беларускіх і іншых славянскіх землях.

Тым не менш гэтага не адбылося. Пры ўсіх сваіх разыходжаннях суб'екты агульнага гістарычнага працэсу, пануючыя палітычныя эліты, іншыя пласты насельніцтва праявілі незвычайную здольнасць да кампрамісаў, палітычнага супрацоўніцтва, агульнага стварэння новага этнапалітычнага і культурна-гістарычнага ландшафту.

Задоўга да таго як маскоўскія Рурыкавічы афіцыйна засведчылі сваё гістарычнае прызначэнне, ВКЛ стала апірышчам ледзь не дзвюх трацей зямель старажытнай Русі, а яго межы дасягнулі на поўначы азёрных і камяністых граніц Лівоніі, балот і лясоў Наўгародскай і Пскоўскай рэспублік, на ўсходзе – прытокаў Акі і самой Волгі, на поўдні выйшлі на стэпы Прычарнамор'я, на захадзе межавалі з мазавецкімі і некаторымі іншымі землямі Польшчы.

Беларусь і Літва заставаліся асноўным ядром Вялікага Княства Літоўскага і ў наступныя стагоддзі. Далучаныя да яго пазней землі Украіны былі ў значнай ступені абяскроўлены мангола-татарскім нашэсцем, часткова трапілі пад уладу Кароны.

Вялікае Княства Літоўскае адыгрывала адметную ролю ў палітычным і цывілізацыйным развіцці Усходняй Еўропы не толькі сваімі памерамі і грамадска-палітычным ладам. Яно было першым збіральнікам раздробленых зямель Заходняй Русі, паказала рэальную магчымасць такіх шырокіх дзяржаўных і шматэтнічных утварэнняў, моцна стымулявала развіццё цэнтраімклівых працэсаў сярод "буферных" прамежкавых княстваў (Цвярскога, Чарнігаўскага, Смаленскага і інш.), а таксама на землях Паўночна-Усходняй Русі.

Дзякуючы сваім ваенным магчымасцям і зменам у геапалітычным становішчы паўднёвых і ўсходніх рускіх княстваў у XIII ст. ВКЛ пазбегла працяглага і агульнага падначалення ўладзе Залатой Арды, чым забяспечыла ўмовы для далейшага гаспадарчага, палітычнага і духоўнага развіцця Беларусі і большасці "мнагалікага" насельніцтва ўсёй дзяржавы.

Вялікае Княства Літоўскае мацней, чым іншыя суседнія "рускія княствы", было ўцягнута ў агульнаеўрапейскія царкоўныя і культурныя працэсы і ў пэўнай ступені пасрэднічала ў распаўсюджанні еўрапейскіх палітычных і культурных ідэй і здабыткаў на Маскоўскую Русь і іншыя суседнія княствы.

У Вялікім Княстве Літоўскім упершыню ва Усходняй Еўропе ў XV–XVI ст. сфарміраваўся своеасаблівы дзяржаўна-палітычны лад еўрапейскага тыпу, іншы, чым у Паўночна-Усходняй Русі ў часы панавання самадзержцаў, адпаведная сацыяльная структура грамадства. У Беларусі і Літве раней і шырэй, чым у Вялікім Княстве Маскоўскім і Украіне, праявіліся павевы еўрапейскага Рэнесанса, узнікла кірылічнае кнігадрукаванне, распаўсюдзіліся універсітэцкая адукацыя, шматмоўная літаратура і пісьменнасць, рэфармацыйныя рухі ў еўрапейскім абліччы. Тут знаходзілі прытулак беглыя ерэтыкі, вальнадумцы з усходу і захаду Еўропы, развіваліся розныя царкоўныя структуры, умацоўваліся інстытуты саслоўнай (станавай) дэмакратыі.

Эвалюцыя ВКЛ, яго саслоўныя і канфесійныя "вольнасці", не характэрныя ў гэтым сэнсе нават для большасці дзяржаў Еўрапейскага кантынента, праявіліся таксама ў тым, што пасля Люблінскай уніі 1569 г. тут адначасова сталі развівацца супрацьлеглыя па сваіх культурных і палітычных тэндэнцыях грамадскія і канфесійныя рухі. З аднаго боку, пачалі ўзнікаць праваслаўныя мяшчанскія брацтвы з ідэямі ўзмацнення і падтрымкі моўных, культурных і канфесійных традыцый Беларусі, Украіны і Расіі, а з другога – праяўляліся прауніяцкія тэндэнцыі. Вянцом апошніх стаў Берасцейскі сабор 1596 г.

Структура кнігі даволі складаная і, зразумела, не ахоплівае ўсіх сфер далёкай мінуўшчыны. Аднак у пэўнай ступені яна дазваляе адлюстраваць гісторыю Беларусі ў перыяд ВКЛ у храналагічнай паслядоўнасці па розных напрамках – палітычная і ваенная эвалюцыя, развіццё эканомікі, сацыяльных адносін, культуры, царкоўнага жыцця, побыту, еўрапейскіх стасункаў і інш. Кніга падрыхтавана значным аўтарскім калектывам, што накладае на рэдакцыю тома адказнасць за максімальную захаванасць аўтарскіх падыходаў, хоць з некаторымі высновамі рэдакцыя не згодна.

**Этапы палітычнай эвалюцыі ВКЛ.** Асноўныя этапы палітычнай эвалюцыі ВКЛ дастаткова вядомыя. У навуковай літаратуры звычайна вылзяляюцца тры: 1) ад заснавання ВКЛ да Крэўскай уніі 1385 г.; 2) ад Крэўскай уніі да ўзнікнення Рэчы Паспалітай; 3) ад Люблінскай уніі 1569 г. да падзелаў Рэчы Паспалітай у канцы XVIII ст. Відавочна, што ў аснову гэтай перыядызацыі пакладзены кардынальныя змены ў формах дзяржаўнага ладу і (другі-трэці этапы) ва ўзаемаадносінах з найбольш моцнымі суседнімі краінамі. Правесці больш дробную перыядызацыю палітычнай эвалюцыі ВКЛ у межах кожнага з азначаных этапаў цяжэй з-за адсутнасці адзінага вызначальнага крытэрыю. Адсюль – істотныя разыходжанні ва ўсёй навуковай літаратуры, дзе зроблены спробы вызначэння гэтых перыядаў.

У межах дадзенай кнігі крытэрыі перыядызацыі ўлічваюць як змены ў палітычным становішчы ўсяго ВКЛ, асабліва беларускіх зямель, так і развіццё грамадскіх, перш за ўсё саслоўных, этнаканфесійных, адносін на розных сацыяльных і тэрытарыяльных узроўнях. Складанасць у тым, што гэтыя працэсы маюць сваю ўласную эвалюцыю, якая не зусім супадае з макрапалітычнымі зрухамі ў развіцці ВКЛ і асобных яго рэгіёнаў. На розныя храналагічныя этапы прыпадае пачатковая фаза фарміравання шляхецкага стану ў Літве і Беларусі, змены ў заканадаўчым статусе розных хрысціянскіх цэркваў і г.д. Толькі ў XVI ст., па меры таго як кан-

салідавалася сацыяльная і палітычная структура дзяржавы, яе ўнутрыпалітычная эвалюцыя (асабліва ў сацыяльных адносінах) стала больш інтэграванай на агульнадзяржаўным узроўні, што асабліва відавочна па Статутах ВКЛ 1529, 1566, 1588 гг. Аднак з улікам пэўных фактараў (змен у дзяржаўным ладзе, тэрытарыяльна-адміністрацыйнай і сацыяльнай структуры ВКЛ) можна вызначыць некалькі ўнутраных, больш дробных этапаў яго палітычнай эвалюцыі ў XIII–XVI ст.

Першы этап – фарміраванне Вялікага Княства Літоўскага і ўсталяванне неабмежаванай манархіі федэратыўнага тыпу на аснове літоўска-рускай (літоўска-беларускай) тэрытарыяльнай і палітычнай супольнасці сярэдзіны XIII – пачатку XIV ст.

Другі этап – развіццё цэнтралізатарскіх тэндэнцый у часы Гедыміна і Альгерда і тэрытарыяльнае пашырэнне дзяржавы, галоўным чынам за кошт далучэння да Вялікага Княства Літоўскага ўсходнебеларускіх, украінскіх і некаторых рускіх зямель. Дынастычная барацьба нашчадкаў Альгерда ў 70-х – пачатку 80-х гг. XIV ст. таксама ў пэўнай ступені адлюстроўвала развіццё цэнтраімклівых тэндэнцый і значэнне вялікакняскай улады.

Трэці этап – ад часоў Крэўскай, Віленска-Радамскай і Гарадзельскай уній канца XIV – пачатку XV ст. да пачатку 90-х гг. XV ст., этап значных знешне- і ўнутрыпалітычных пераўтварэнняў, саперніцтва і збліжэння з Польшчай, станавых і тэрытарыяльна-адміністрацыйных рэформ.

Наступны этап – з 1492 г. да Люблінскай уніі 1569 г. – характэрны фарміраваннем саслоўна-прадстаўнічага ладу, пашырэннем сацыяльных і палітычных прывілей пануючых станаў і значным ускладненнем знешнепалітычных адносін. У постлюблінскі час – да канца XVI ст. – заканчваецца працэс станаўлення Рэчы Паспалітай, адаптацыя ВКЛ да новых умоў дзяржаўна-палітычнай дзейнасці.

У межах гэтых этапаў магчыма выдзяленне больш дробных перыядаў па яшчэ больш вузкіх крытэрыях.

Непасрэдныя прынцыпы перыядызацыі ўлічваюць асноўныя фазы эвалюцыі ВКЛ і асаблівасці сацыяльна-палітычнага развіцця Беларусі. Агульныя храналагічныя межы тома супадаюць з асноўным перыядам самастойнага дзяржаўнага існавання ВКЛ: ад складання яго першаснага тэрытарыяльна-дзяржаўнага двухэтнічнага (літоўска-беларускага) ядра ў сярэдзіне XIII ст. да стварэння Рэчы Паспалітай у форме федэратыўнага аб'яднання з заканадаўча абмежаваным суверэнітэтам Польшчы і ВКЛ. Звычайна гэты перыяд у навуковай літаратуры завяршаецца прыняццем Люблінскай уніі 1596 г. У дадзенай працы верхняя граніца кнігі даведзена да канца XVI ст. Пры гэтым улічаны непасрэдныя вынікі дзяржаўнай уніі ў знешняй і ўнутранай палітыцы – завяршальны этап Інфлянцкай вайны, зацвярджэнне самастойнай прававой сістэмы ВКЛ у Статуце 1588 г., усталяванне саслоўна-прадстаўнічай сістэмы ў Княстве, аналагічнай дзяржаўнаму ладу ва ўсёй Рэчы Паспалітай, а таксама заключэнне царкоўна-рэлігійнай Берасцейскай уніі 1596 г., што таксама стала магчымым з кардынальнай перабудовай палітычных і канфесійных умоў постлюблінскага перыяду.

**Удакладненне некаторых тэрмінаў.** У сучасных медыявістычных даследаваннях прынята карыстацца тымі паняццямі, якія дастаткова трывала замацаваліся ў гістарыяграфіі. Пры гэтым нярэдка ўзнікаюць

праблемы: існуе шэраг тэрмінаў XIII–XVI ст., якімі не карыстаюцца зараз. Разам з тым лексічна падобныя паняцці не заўсёды супадаюць з тым значэннем, якое надавалася ім раней насельніцтвам Беларусі. У даследаваны перыяд існавалі і такія паняцці, для якіх у сучаснай навуцы яшчэ не выпрацаваны адпаведныя тэрміны. Нарэшце, шэраг паняццяў па прыродзе сваёй полісеміі (шматзначнасці) патрабуе сталых удакладненняў. З-за рознага разумення тэрмінаў сучаснымі даследчыкамі навуковыя дыскусіі нярэдка становяцца бессэнсоўнымі.

Каб пазбегнуць шматлікіх тлумачэнняў, падаецца мэтазгодным вызначыць, у якім сэнсе аўтарамі даследавання выкарыстоўваюцца некаторыя этнічныя, дзяржаўныя, гісторыка-рэгіянальныя тэрміны.

*Беларусь.* Пад гэтым сучасным дзяржаўна-палітычным і этнатэрытарыяльным паняццем у рэтраспектыве XIII–XVI ст. разумеецца этнаграфічная Беларусь, г.зн. землі, заселеныя беларусамі, і, у пэўнай ступені ўмоўна, тэрыторыя, абжытая іх продкамі. У апошнім кантэксце дадзенае паняцце выкарыстоўваецца, напрыклад, археолагамі для агульнага вызначэння тэрытарыяльнага арэала Беларусі яшчэ да ўтварэння беларускага этнасу[1]. У беларускіх гістарычных помніках XIII – сярэдзіны XVI ст. гэты тэрмін не сустракаецца. Тэрыторыя Беларусі ў XIII–XVI ст. уваходзіла ў гістарычныя рэгіёны – Літва, Русь, Палессе, Падляшша, поўнасцю ці часткова ахоплівала адпаведныя княствы, землі, ваяводствы, паветы і г.д. Іншыя этнічныя і тэрытарыяльныя тэрміны (акрамя вытворных – "беларусы", "украінцы") выкарыстоўваюцца ў даследаванні ў адпаведнасці з іх тагачасным сэнсам і назвамі.

*Русь.* Пад тэрмінам "Русь" мясцовае насельніцтва разумела: 1) землі ВКЛ, уласна заселеныя ўсходнімі славянамі – "русінамі" (у дачыненні да сучаснай тэрыторыі Беларусі – гэта рэгіён, які ахопліваў некаторыя цэнтральныя і пераважна ўсходнія землі ВКЛ, большасць якіх захоўвала значныя аўтаномныя правы); 2) асноўнае насельніцтва беларускіх, украінскіх і часткова рускіх зямель (княстваў), якія некаторы час уваходзілі ў склад ВКЛ; 3) усё праваслаўнае насельніцтва ВКЛ ці асобныя яго групы незалежна ад месца жыхарства; 4) землі і насельніцтва суседніх княстваў Русі (звычайна з удакладненнем: Маскоўская, Пскоўская Русь і інш.); 5) значна радзей у захаваных пісьмовых помніках, галоўным чынам летапіснай і царкоўнай традыцыі, сустракаюцца згадкі аб старажытнай (Кіеўскай) Русі[2].

У дадзеным даследаванні тэрмін "Русь" звычайна выкарыстоўваецца для вызначэння ўсяго беларускага ці ўсходнеславянскага насельніцтва ВКЛ, або гісторыка-тэрытарыяльнага арэала, які ў навуковай літаратуры канца XIX – першай паловы XX ст. атрымаў назву "Русь" у межах ВКЛ.

*Русіны, рускі народ, рускі люд.* Агульная назва і саманазва (эндаэтнонім) беларусаў і ўсяго ўсходнеславянскага насельніцтва ВКЛ. Дадзеныя тэрміны выкарыстоўваюцца ў кнізе для згадвання праваслаўных жыхароў ВКЛ славянскага паходжання, калі немагчымае ці рызыкоўнае

---

[1] Гісторыя Беларусі. У 6 т. Т.1. Старажытная Беларусь. Мн., 2000.

[2] *Любавский М.А.* Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута. М., 1892; *Спиридонов М.Ф.* «Литва» и «Русь» в Беларуси 16 в. // Наш радавод. Кн. 7. Гродна, 1996. С. 206–210.

больш дакладнае этнічнае вызначэнне. Напрыклад, пры ўпамінанні "русінаў" у агульнадзяржаўных (земскіх) граматах, у палемічных беларуска-ўкраінскіх творах, папскіх булах і інш.

У большасці выпадкаў па сукупнасці бясспрэчных або вельмі верагодных прамых ці ўскосных прыкмет (у адпаведнасці з прыведзенымі крыніцамі) гэтыя тэрміны замяняюцца на сучасныя вызначэнні – беларус, беларускі народ, люд просты беларускі.

*Літва*. Полісемічны тэрмін, які часцей за ўсё выкарыстоўваўся жыхарамі ВКЛ для вызначэння тэрыторыі і насельніцтва этнаграфічнай Літвы (ці яе часткі – Аўкштайція), гісторыка-тэрытарыяльнага рэгіёна з уключэннем Усходняй Літвы, Заходняй і часткова Цэнтральнай Беларусі, так званая Літоўская зямля, Літоўскае панства; усяго Вялікага Княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага і іншых зямель.

*Літвіны*. У XIII–XVI ст. – этнічныя літоўцы (нярэдка з адасабленнем жамойтаў), або жыхары "Літоўскага панства". У другой палове XVI ст. пад літвінамі часам разумелі палітычны народ шляхту ВКЛ незалежна ад яе паходжання і веравызнання.

*Вялікае Княства Літоўскае* (ВКЛ). Новая дзяржава з сярэдзіны XIII – пачатку XIV ст. называецца ў актах Літоўскім княствам, Вялікім Княствам Літоўскім, з часоў Гедыміна – Вялікім Княствам Літоўскім і Рускім, з 40-х гг. XIV ст. Вялікім Княствам Літоўскім, Рускім, Жамойцкім і іншых зямель, пасля падначалення Жамойці Нямецкаму ордэну – зноў Вялікім Княствам Літоўскім і Рускім, з другой чвэрці XV ст. – Вялікім Княствам Літоўскім, Рускім, Жамойцкім і інш.[1] У XVI ст. поўная назва дзяржавы яшчэ больш пашыраецца, адпаведна разрастанню тытулатуры польскага караля і вялікага князя літоўскага, але ў дакументах трапляецца і скарочаная назва: Вялікае Княства Літоўскае (напрыклад, у заключным акце Люблінскай уніі 1569 г.).

У некаторых публічна-прававых актах XIV–XVI ст. сустракаюцца і больш простыя назвы Вялікага Княства Літоўскага. Так, у перамірным лісце князя Фёдара Навасельскага і Адоеўскага з вялікім князем літоўскім Казімірам ад 20 лютага 1447 г. пазначана: "Нешто мыслит Бог над великим князем Казимиром, ино мне и моим детем служыти *Литовъскои земли*" (курсіў наш. – *Г.Г.*), которыи будетъ деръжати *Литовское княженье*, или его наместнику, хто будет после него держати *Великое княженье Литовское*"[2].

У дадзенай кнізе пераважна выкарыстоўваецца скарочаная назва дзяржавы (абрэвіятура – ВКЛ) з пачатку фарміравання яе да канца XVI ст. Пэўная некарэктнасць гэтай назвы ў дачыненні да XIII – пачатку XIV ст. кампенсуецца тым, што ў асобных афіцыйных пасланнях і дакументах папскай канцылярыі або Нямецкага ордэна Міндоўг і некаторыя з яго пераемнікаў называюцца вялікімі князямі ці нават каралямі.

---

[1] *Adamus J.* O tytule panującego i państwa litewskiego parę spostrzeżeń// Kwartalnik Historyczny (далей – КН). 1930. № 44.
[2] Расійскі дзяржаўны архіў старадаўніх актаў. Ф. 389, воп. 1, кн. 5, арк. 299–299 v.

## Гістарыяграфія

**Абагульняльныя працы.** Гісторыя Беларусі, Літвы, Украіны, некаторых рускіх зямель у межах ВКЛ, буйнога дзяржаўнага ўтварэння, якое некалькі стагоддзяў адыгрывала выдатную ролю ў розных рэгіёнах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, шмат у чым вызначала развіццё Польшчы, Вялікага Княства Маскоўскага, Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў, Прускага герцагства, Інфлянтаў і Крыма, здаўна прыцягвала ўвагу гісторыкаў-медыявістаў розных краін, навуковых школ і напрамкаў.

Эвалюцыя і змена канцэптуальных і гістарыяграфічных поглядаў прасочваецца па абагульняльных працах, якія асвятляюць гісторыю Беларусі, Вялікага Княства Літоўскага XIII–XVI ст. або разглядаюць яе на фоне ўсяго гістарычнага працэсу. Такіх прац нямнога, і яны вартыя ўвагі.

Першыя абагульняльныя працы па гісторыі Беларусі і Літвы XIII–XVI ст., ці ў больш шырокім кантэксце — па гісторыі ВКЛ, сталі з'яўляцца яшчэ ў часы яго дзяржаўна-палітычнага станаўлення. Крыху ўмоўна гэтую гістарыяграфію можна падзяліць на некалькі перыядаў. Крытэрыі падзелаў – выразныя змены ў тэматыцы, грамадска-палітычнай і этнасацыяльнай ангажаванасці, пануючых жанрава-стылявых формах. Першы перыяд звязаны галоўным чынам з развіццём агульнадзяржаўнага летапісання ў ВКЛ, перапрацоўкай і напісаннем чарговых летапісных зводаў[1]. Гэты перыяд завяршаецца ў другой палове XVI ст. з узнікненнем хронік і твораў новых літаратурна-гістарычных тыпаў (Хроніка Быхаўца, Мацея Стрыйкоўскага і інш.), пашырэннем арыгінальнай і перакладной гістарычнай пісьменнасці, прызначанай пераважна для свецкіх адукаваных колаў.

Практычна адначасова ў фарміраванні гістарычнай, сацыяльнай і палітычнай свядомасці ўсё большую ролю пачынае адыгрываць друкаваная прадукцыя. Варта параўнаць у гэтым сэнсе дзве блізкія па сваёй тэматыцы працы: Хроніку Стрыйкоўскага, надрукаваную у 1582 г. у Кёнігсбергу[2], якая надоўга стала найбольш вядомым і аўтарытэтным у ВКЛ гістарычным творам, і папярэднюю яго працу – "Аб пачатках, паходжанні, дзельнасці, рыцарскіх і дамовых справах слаўнага народа літоўскага, жамойцкага і рускага..."[3], што на чатыры стагоддзі стала амаль недаступным рукапісам нясвіжскіх прыватных збораў. Зусім невядомай сучаснай навуковай супольнасці засталася Хроніка Літвы (верагодна – ВКЛ) , дадзеная для азнаямлення Мікалаю Радзівілу (Чорнаму) у другой палове XVI ст. яе аўтарам – віленскім войтам і гуманістам Аўгусцінам Ратундасам.

Кнігадрукаванне ўпершыню надало некаторым гістарычным творам агульнадзяржаўную і адносна шырокую грамадскую вядомасць, спрыяла распаўсюджанню на тэрыторыі Беларусі гістарычных, палемічных,

---

[1] Летапісанне ў ВКЛ у XIV–XVI ст. насіла пераважна прыватна-арыстакратычны або царкоўны характар і вельмі адрознівалася ад больш цэнтралізаванага рускага летапісання.

[2] Która przedtem nigdy światła nie widziała Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiej Rusi / M. Stryikowski. Królewiec, 1582.

[3] Maciej Stryjkowski. O początkach, wywodach, dzielnościach, sprawach rycerskich i domowych sławnego narodu litewskiego, żemojdzkiego i ruskiego... / Oprac. J. Radziszewska. Warszawa, 1978 (завершана ў 1576–1578 гг.). Датаванне прапанавана Вайткавякам: *Wojtkowiak Z.* Maciej Stryjkowski – dziejopis Wielkiego Księstwa Litewskiego: Kalendarium życia i dzialalności. Poznań, 1990. S. 194.

праваных, іншых публіцыстычных твораў з гістарычнымі рэтраспекцыямі. У сярэдзіне XVII ст. незвычайную папулярнасць у адукаваных колах ВКЛ набыла Гісторыя Літвы, якую напісаў віленскі езуіт, прафесар Віленскай акадэміі Альберт Каяловіч (1609–1677) пераважна на падставе прац Стрыйкоўскага[1]. Гарадскія рукапісныя хронікі XVII – сярэдзіны XVIII ст. задавальнялі гістарычныя інтарэсы мяшчанства і духавенства Магілёва, Віцебска, Слуцка[2].

Трэці перыяд – другая палова XVIII ст., да падзелаў Рэчы Паспалітай. Многія гістарыяграфічныя творы гэтага перыяду прасякнуты агульнаеўрапейскімі асветніцкімі і рэфарматарскімі тэндэнцыямі, адлюстроўваюць развіццё нацыянальна-дэмакратычных, шляхецка-кансерватыўных, іншых грамадскіх і палітычных рухаў. Гісторыя ВКЛ і тым больш Беларусі закранаецца ў працах гэтага перыяду фрагментарна. Пад патранатам Станіслава Аўгуста Панятоўскага выйшла першая спроба сінтэтычнага апісання гісторыі польскага народа, падрыхтаваная ўраджэнцам Піншчыны Адамам Нарушэвічам, прыхільнікам моцнага манархічнага ладу[3].

З канца XVIII ст. пачынаюць акрэслівацца новыя контуры вялікадзяржаўнай расійскай дактрыны ў адносінах да "рускіх" зямель Літвы і Польшчы, паскораныя падзеламі Рэчы Паспалітай. Асноўны абрыс яе ўжо прасочваецца ў заканадаўчых актах і маніфестах Кацярыны II, службовых мемарыялах, палемічных артыкулах у перыядычным друку, адпаведных археаграфічных выданнях[4].

Станаўленне канцэптуальна цэласнай і пашыранай на падставе "вытрыманых" гістарычных крыніц гісторыі "рускіх" і іншых зямель ВКЛ адбылося пазней пад непасрэдным уплывам дзяржаўна-палітычнай рэчаіснасці пасля ўключэння беларуска-ўкраінскага і часткова літоўскага арэала ў склад Расійскай імперыі, развіцця супярэчлівых сацыяльна-палітычных тэндэнцый у метраполіі і далучаных да яе заходніх губернях. Галоўнымі цэнтрамі фарміравання спрэчных гістарычных ідэй і канцэпцый сталі вышэйшыя навучальныя ўстановы, іх навукова-грамадскае асяроддзе: у "Заходнім краі" – Віленская акадэмія, у цэнтральнай Расіі – Маскоўскі і Санкт-Пецярбургскі універсітэты.

Першыя спробы комплекснага асвятлення гісторыі Беларусі, Літвы, ВКЛ, а ў тагачаснай расійскай тэрміналогіі "Літвы", Паўночна-Заходняга краю, Заходняй Расіі, амаль адначасова пачалі прадстаўнікі дзвюх асноўных гістарыяграфічных плыняў (польскай і расійскай) пасля паўстання 1830–1831 гг. і выкліканага ім грамадска-палітычнага рэзанансу. З-пад пяра вядомага польскага вучонага, кіраўніка кафедры Віленскага універсітэта, старшыні польскага Патрыятычнага таварыства ў 1830–1831 гг. Іаахіма Лялевеля (1786–1881) паўстаў першы навуковы сінтэз аб'яднанай і ўзаемазалежнай гісторыі Літвы і Русі (1839), па сутнасці першы абагульняльны агляд "літоўска-рускай" дзяржаўнасці[5].

---

[1] Wijuk Wojciech Kojalowicz. Historiae Lithuaniae. Pars. I. Gdańsk, 1650; Pars. II. Antwerpia, 1669.

[2] *Улащик Н.Н.* Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985. С. 173–236.

[3] Historia narodu polskiego. 1780–1824. T. I–VII. Даведзена да Крэўскай уніі.

[4] *Карев Д., Дубовец С.* Политика российского царизма и формирование исторического прошлого Белоруссии в российской историографии дореформенного периода // Białoruskie Zeszyty Historyczne (далей – BZH). 2000. № 14. S. 90–92.

[5] Dzieje Litwy i Rusi aż do unii z Polską w Lublinie 1569 zawartej // Ioachim Lelewel. Dzieła. T. X. Warszawa, 1969.

У сваёй працы І. Лялевель паспрабаваў даць комплексную панарамную характарыстыку ўнутранага развіцця Літвы і Русі, дзяржаўна-палітычных адносін, знешніх фактараў, у тым ліку дзяржаўных і царкоўных уній з Польшчай. Кніга пачынаецца з часоў Кіеўскай Русі і заканчваецца Люблінскай уніяй. На думку даследчыка, ВКЛ было асноўным пераемнікам гістарычнай, традыцыйнай і культурнай спадчыны Кіеўскай Русі, што садзейнічала яго ўнутранаму развіццю і знешняй адпорнасці. Рэспубліканскія погляды Лялевеля адбіліся ў яго ідэалізацыі абшчынных парадкаў, "гмінаўладства", свабоды і роўнасці, у жорсткай крытыцы феадальных парадкаў у ВКЛ , самаўпраўства і панавання арыстакратыі, у яго прыхільнасці да саслоўна-прадстаўнічага (шляхецкага) дзяржаўнага ладу. Праца Лялевеля ахоплівае розныя бакі этнічнай, царкоўна-рэлігійнай, грамадскай, эканамічнай гісторыі Літвы і Русі. Аўтар прытрымліваўся класавай ацэнкі сацыяльных працэсаў, ускладваў гістарычныя надзеі на сярэднія і ніжэйшыя пласты грамадства, з улікам знешніх фактараў шукаў унутраныя прычыны для тлумачэння буйных палітычных зрухаў, дзяржаўных і царкоўных уній. Ацэньваючы перспектывы нацыянальна-вызваленчых рухаў, Лялевель спадзяваўся на падтрымку зняволенага царызмам рускага народа. Па сваёй разнабаковасці, этнічнай і палітычнай талерантнасці ў асвятленні самага значнага перыяду фарміравання і развіцця ВКЛ і ўрэшце па сваёй галоўнай тэматыцы, якая аб'ядноўвала Русь і Літву ў адным дзяржаўна-палітычным рэчышчы, кніга Лялевеля засталася унікальнай з'явай у гісторыі польска-літоўскай гістарыяграфіі. Усе наступныя абагульняльныя працы польскіх і літоўскіх гісторыкаў былі абмежаваны або адасобленай гісторыяй Літвы ці Русі або гісторыяй Літвы і Польшчы, Літвы і ВКЛ, ці разглядалі больш вузкія сферы[1].

Трыццатыя і асабліва шасцідзесятыя гады XIX ст. знамянальныя паскораным выспяваннем розных славянафільскіх і часткова на іх аснове (з пэўным пашырэннем і ўдакладненнем) вялікадзяржаўных канцэпцый гісторыі "Заходняй Русі". Менавіта ў гэты перыяд пры вырашальным удзеле гісторыкаў М. Пагодзіна і С. Шавырова[2] складваюцца першапачатковыя абрысы той тэарэтычнай канцэпцыі, якая атрымала пазней назву тэорыі афіцыйнай народнасці. Згаданая канцэпцыя прызвана была абгрунтаваць святасць і непахіснасць расійскай манархіі і дзяржаўнага ладу, а ў сваім рэгіянальным кантэксце таксама гістарычную правамернасць і законнасць вяртання ў расійскую імперыю "рускіх" зямель Рэчы Паспалітай. Яна выкарыстоўвалася ў мэтах абгрунтавання імперскай палітыкі ў далучаных землях ВКЛ, Рэчы Паспалітай і супрацьстаяла паланізацыйным і нацыянальна-вызваленчым працэсам. Невыпадкова пасля польскіх паўстанняў 1830–1831, 1863 гг., у якіх удзельнічалі і пэўныя пласты карэннага насельніцтва Беларусі і Літвы (пераважна з ліку шляхты, каталіцкага і уніяцкага духавенства), выйшлі ў свет найбольш адыёзныя панрасійскія гістарычныя працы, прысвечаныя гісторыі Заходняй Русі XIII–XVI ст.[3]

---

[1] Гл., напрыклад: *Narbut T.* Dzieje starożytne narodu litewskiego. T. 1–9. Wilno, 1835–1841; *Jaroszewicz J.* Obraz Litwy pod względem jej cywilizacji od czasów najdawniejszych do końca wieku XVIII. Wilno, 1844.

[2] *Качалов И.Л.* Теория официальной народности: к проблеме авторства // Веснік БДУ. Сер. 3. 1992. № 3. С. 15–187.

[3] *Устрялов Н.Г.* Русская история. Ч. 1. Разд. "Исследование вопроса, какое место в русской истории должно занимать княжество Литовское". СПб., 1839.

Калі заснавальнікі тэорыі афіцыйнай народнасці – міністр народнай асветы Увараў і згаданыя прафесары Маскоўскага універсітэта праацыравалі яе на агульнарускі гістарычны фон, то ў кантэксце "Заходняй Русі" яе першым абгрунтаваў М. Устралаў (1805–1870). Ён заклаў асновы так званай заходнерускай афіцыйнай ідэалогіі. Згодна з асноўнымі парадыгмамі гэтай канцэпцыі для ўсёй хрысціянскай Русі з даўніх часоў было характэрна спалучэнне трох "прыражоных" духоўных імператываў: праваслаўя, самадзяржаўя, народнасці. Устралаў звярнуў увагу на тэрытарыяльную, дэмаграфічную, культурную і рэлігійную перавагу рускага насельніцтва ВКЛ над этнічнымі літоўцамі. Гісторыю ВКЛ XIV–XVIII ст. ён выразна падзяліў на дзве часткі. "Русские княжества, – піcaў ён, – к западу от Днепра, кроме Галиции, присоединившейся к Польше, слились также в одно целое и образовали вместе с литовским народом самостоятельное государство, под именем Великого княжества Литовского, главою коего был дом Гедимина"[1].

"Западная Русь, – сцвярджаў аўтар, – до конца XVI века оставалась под властью Князей Литовских, в роде Гедимина, но так же, как и Восточная, спасла свою веру, свой язык, свои уставы гражданские. Следовательно, самые крепкие узы связывали ее с Восточной Россией, и народ, свято сохраняя законы прародителей, неоднократно обнаруживал живейшее желание возвратиться в подданство Царя православного, целыми областями присоединяясь к его державе"[2]. Не зусім, праўда, зразумела, чым былі выкліканы гэтыя імкненні. Па словах аўтара, "русские княжества" на захад ад Дняпра яшчэ з часоў Гедыміна зліліся ў адно цэлае і разам з літоўцамі ўтварылі магутную і самастойную дзяржаву. Пасля 1569 г. на землях Заходняй Русі ўсталявалася "иго польское, тягостнее татарского".

Ідэалагічная палеміка вакол гістарычных шляхоў развіцця Заходняй Русі прывяла да першых спроб апісання палітычнай і царкоўна-рэлігійнай гісторыі Беларусі як самастойнага аб'екта гістарычных даследаванняў[3], што, аднак, не вельмі замацавалася на фоне пануючай заходнерускай гістарыяграфіі[4].

У 50–60-х гг. XIX ст. апазіцыйныя гістарыяграфічныя тэндэнцыі сталі праяўляцца таксама сярод некаторых украінскіх гісторыкаў (М. Кастамараў і інш.), якія ў сваёй федэратыўнай канцэпцыі "двух рускіх народаў" падкрэслівалі больш моцныя гістарычныя сувязі Украіны з славянскай супольнасцю ВКЛ параўнальна з украінска-рускімі адносінамі. Паўстанне 1863 г. праходзіла пераважна пад лозунгам аднаўлення Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. , у тым ліку ВКЛ. Задачу тэарэтычнага і крыніцазнаўчага абгрунтавання гістарычных і этнаграфічных правоў Расіі ў адносінах да Заходняй Русі пасля паўстання 1863–1864 гг. (разам з крытыкай польскіх прэтэнзій на аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г., федэратыўнай і некаторых іншых украінскіх канцэпцый ) узяў на сябе ўраджэнец Гродзенскай губерні, выкладчык багаслоўя ў Пецяр-

[1] *Устрялов Н.Г.* Русская история. С. 15–17.
[2] Там жа. С. 15.
[3] *Турчинович О.В.* Обозрение истории Белоруссии с древнейших времен. СПб., 1857.
[4] *Цьвікевіч А.* "Западно-руссизм": Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. Мн., 1993.

бургскай духоўнай семінарыі, з 1869 г. загадчык кафедры рускай гісторыі Пецярбургскага універсітэта М. Каяловіч (1828–1891). Ён пашырыў і ў значнай ступені ўдакладніў гістарычныя погляды Устралава. Яго канцэпцыя была панрасійскай, славянафільскай (адначасова і антыпольскай, улічваючы заходнееўрапейскі характар польскай цывілізацыі). На яго думку, "западная Русь" ахоплівала "Белоруссию, западную Малороссию, или т.н. Украину, и Литву в собственном смысле слова"[1]. Дзяржаўнасць спачатку сфарміравалася ў межах рускага арэала "заходняй Русі", а потым у выніку перасяленчых рухаў (асабліва пасля мангольскіх нашэсцяў) была ўспрынята суседнімі літоўцамі. Да гэтага аб'яднальнага працэсу пад пагрозай Нямецкага ордэна з часам далучыліся і жамойты, якія ў XIII ст. ужо ўтварылі свае дзяржаўныя формы.

Гісторыя Заходняй Русі да канца XVIII ст., сцвярджаў Каяловіч, была прасякнута барацьбой польска-каталіцкай і рускай праваслаўнай цывілізацый. Збліжэнне з Польшчай, Люблінская і Берасцейская уніі дэфармавалі духоўнае жыццё ў ВКЛ, апалячылі, акаталічылі значную частку заходнерускай шляхты, але асноўныя пласты народа нязменна цягнуліся да Расіі, бо адчувалі сваё племяннoe (этнаграфічнае), культурнае, моўнае і рэлігійнае адзінства. Асноўнай апорай Русі з часоў фарміравання маскоўскага самадзяржаўя з яго земскімі саборамі, народным прызнаннем і непарушным праваслаўем аўтар лічыў цэнтральныя землі Расіі, якія, на яго погляд, захоўвалі сваю аб'яднальную, матэрыяльную, духоўна-цывілізацыйную і абарончую ролю і ў сярэдзіне XIX ст. Свае меркаванні Каяловіч падмацоўваў прыкладамі і характарыстыкай значнага кола гістарычных крыніц (летапісаў, хронік, заканадаўчых актаў і інш.), у тым ліку знойдзенымі і апублікаванымі ім асабіста. У яго работах выкарыстоўваліся і некаторыя іншыя аргументы: прэтэнзіі Польшчы на землі Беларусі і Украіны ў межах 1772 г. не мелі пад сабой "прыражоных" культурных, канфесійных і этнагістарычных падстаў. Само разуменне народа сярод прыхільнікаў тэорыі афіцыйнай народнасці (з галоўнай апорай на сялянства) прыкметна адрознівалася ад поглядаў апазіцыйнай польскай гістарыяграфіі з яе акцэнтаваннем палітычнай ролі шляхецкага стану ВКЛ і Польшчы, што характэрна нават для Лялевеля.

Канцэпцыя Каяловіча ў сваіх асноўных палажэннях арганічна ўпісалася ў афіцыёзную расійскую гістарыяграфію і публіцыстыку. На спрошчаным узроўні яна была размножана ў шматлікіх вучэбных, асветніцкіх і палемічных публікацыях.

Выключна адмоўная ацэнка поглядаў Каяловіча была дадзена прадстаўнікамі дэмакратычнай ліберальнай грамадскасці другой паловы XIX ст. і панегірычна-станоўчая – з боку афіцыёзных і царкоўных колаў. У найноўшай гістарыяграфіі яго погляды былі рэзка раскрытыкаваны У. Пічэтам, адным з заснавальнікаў савецкай канцэпцыі ўтварэння ВКЛ У. Пашутам, М. Улашчыкам, Д. Каравым і інш.[2] Спроба адраджэння старых поглядаў Каяловіча звязана з сучаснай палітычнай кан'юнктурай у Беларусі[3].

---

[1] Чтения по истории Западной России. СПб., 1884. С. 1.

[2] *Пичета В.* Введение в русскую историю. Источники и историография. М., 1922; *Пашуто В.Т.* Образование Литовского государства. М., 1959. С. 166–167.

[3] *Черепица В.И.* Михаил Осипович Коялович: История жизни и творчества. Гродно, 1998.

Другая палова XIX – пачатак XX ст. адзначаны незвычайнымі зрухамі ў развіцці гістарычных даследаванняў ва Украіне, у тым ліку па гісторыі ВКЛ. З даследчыкаў шырокага гістарычнага профілю, заснавальнікаў кіеўскай школы пры Кіеўскім універсітэце звычайна называюць М. Кастамарава, У. Антановіча, М. Грушэўскага. Погляды гэтых гісторыкаў на "літоўскі" перыяд у развіцці ўкраінска-беларускіх зямель нярэдка прынцыпова розныя, але некаторыя метадалагічныя рысы, дэмакратычны, "народніцкі" характар іх прац, непрыняцце распаўсюджанага ў расійскай гістарыяграфіі атаясамлівання дзяржаўнай і народнай гісторыі збліжаюць іх[1]. У работах Антановіча і яго навуковага апанента М. Дашкевіча падкрэслены своеасаблівы, пераважна мірны характар фарміравання ВКЛ у XIII–XIV ст., захаванне традыцый старога палітычнага ладу, узаемадзеянне двух пануючых этнаграфічных і культурна-бытавых пачаткаў.

У адрозненне ад Антановіча, які лічыў, што саперніцтва літоўскай і "рускай" народнасцей у палітычным і духоўным жыцці ВКЛ мела драматычныя вынікі ўжо на ранніх этапах яго гісторыі, Дашкевіч меркаваў, што гэты працэс пачаўся пасля уніі з Польшчай у 1385 г. Абодва даследчыкі адзначаюць вялікі ўплыў "рускіх" дзяржаўных інстытутаў, матэрыяльных і дэмаграфічных рэсурсаў, духоўнай і пісьмовай культуры на Літву, прычым, па слушнай заўвазе У. Пашуты, Дашкевіч першым паставіў пытанне пра сінтэз некаторых літоўскіх і рускіх элементаў у грамадскіх, палітычных і культурных адносінах ВКЛ[2].

Значнай вяхой у развіцці ўкраінскай гістарыяграфіі канца XIX – пачатку XX ст. сталі абагульняльныя працы. Найбольш аб'ёмнай і тэматычна разгорнутай была фундаментальная работа вядомага ўкраінскага даследчыка, грамадскага дзеяча і арганізатара акадэмічнай гістарычнай навукі М. Грушэўскага (1866–1934). Будучы прафесійным гісторыкам, ён адным з першых стаў даследаваць гісторыю Украіны ў шырокіх сувязях з грамадска-палітычнымі, сацыяльнымі і культурнымі працэсамі. Некалькі кніг яго шматтомнай працы "Історія України–Руси" (т. IV–VI) асвятляюць перыяд станаўлення і развіцця ВКЛ.

Для прац Грушэўскага характэрны выразны этнацэнтрызм, комплексны падыход да ацэнкі гістарычных з'яў і падзей, ацэнка нацыянальнай гісторыі як гісторыі ўсіх пластоў народа (княжацкіх дынастый, паноў, шляхты, магнатаў, сялянства, мяшчанства, казацтва), увага да дзяржаўна-палітычнага ладу, сацыяльных аспектаў, царкоўна-рэлігійных адносін, "культурна-нацыянальных" рухаў. Гісторыя Беларусі закранаецца ў яго творах галоўным чынам пры даследаванні агульнагістарычных працэсаў, што развіваліся ў ВКЛ або асабліва аб'ядноўвалі ўкраінскія і беларускія землі (грамадска-палітычныя традыцыі, духоўнае жыццё, царква, брацтвы і інш.). Грушэўскі адзначаў таксама асаблівую ролю беларускіх зямель у палітычным і духоўным развіцці ВКЛ, абгрунтоўва-

---

[1] *Ващенко В.В.* Лекції з історії історичної науки другої половини XIX – початку XX століття (М.І. Костомаров, В.Б. Антонович, М.С. Грушевській). Дніпропетровськ, 1998.

[2] *Дашкевич Н.П.* Заметки по истории Литовско-Русского государства. Киев, 1885; *Ён жа.* Литовско-Русское государство, условия его возникновения и упадка // Университетские известия (далей – УИ). Киев, 1882. С. 3, 5–10; *Пашуто В.Т.* Образование Литовского государства. С. 171–177.

ючы гэта іх геапалітычным становішчам і больш доўгім знаходжаннем у складзе Княства. Працы Грушэўскага вызначаюцца комплексным выкарыстаннем гістарычных крыніц, развітым навуковым апаратам, што ператварае іх у своеасаблівыя навуковыя даведнікі. Пераважна на дакументальных крыніцах па гісторыі Беларусі і Літвы пабудаваны грунтоўныя навуковыя даследаванні М. Любаўскага (1860–1934), І. Лапо (1869–1944), Ф. Леантовіча (1833–1911), М. Доўнар-Запольскага (1867–1934), М. Максімейкі (1870–1941). Іх працы – вяршыня расійскай (часткова і беларускай) гістарыяграфіі канца XIX – першых дзесяцігоддзяў XX ст.[1] Для іх характэрна ўвага да грамадска-палітычнай, саслоўнай, інстытуцыяльнай, прававой гісторыі ВКЛ, некаторых аспектаў дзяржаўна-эканамічных, арганізацыйных, фіскальных функцый.

Аўтарам шырокага гістарычнага даследавання, складзенага на падставе лекцыйнага курса ў Маскоўскім універсітэце, стаў выдатны прадстаўнік гэтай групы, старшыня Таварыства гісторыі і старажытнасцей расійскіх прафесар М.К. Любаўскі. Найбольш значная абагульняльная яго праца па гісторыі ВКЛ – "Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно" (М., 1910). Выданне падобнай працы, як тлумачыць у прадмове аўтар, стала неабходным з-за адсутнасці даступных абагульняльных дапаможнікаў, а ў навуковым сэнсе – для вывучэння парадаксальна розных шляхоў гістарычнага развіцця "Літоўскай" і Паўночна-Усходняй Русі і тым самым для лепшага разумення фарміравання і эвалюцыі апошняй. Любаўскі стаў асноўным пачынальнікам тыпалагічна-параўнальнага метаду ў вывучэнні гісторыі ВКЛ. У гістарыяграфіі аўтара традыцыйна залічваюць у групу пазітывістаў – гісторыкаў дзяржаўна-прававой школы, што патрабуе значнай карэкціроўкі[2]. Ён імкнуўся да шырокага асвятлення гісторыі ВКЛ, і толькі недахоп сур'ёзных культуралагічных і сацыяльна-эканамічных прац перашкодзіў яму ажыццявіць задуму.

---

[1] *Любавский М.К.* Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. М., 1892; *Ён жа.* Литовско-русский сейм. М., 1900; *Ён жа.* Основные моменты истории Белоруссии. М., 1918; *Ён жа.* К вопросу об удельных князьях и местном самоуправлении в Литовско-Русском государстве. СПб., 1894; *Ён жа.* О распределении владений и об отношениях между великими и другими князьями Гедиминова рода. Т. 1. М., 1896; *Ён жа.* Літоўска-Беларуская дзяржава ў пачатку XVI сталецця // Чатырохсотлецце беларускага друку. Мн., 1926. С. 59–75 і іншыя працы; *Довнар-Запольский М.В.* Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Киев, 1901; *Ён жа.* Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI в. Киев, 1905; *Лаппо И.И.* Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569–1586): опыт исслед. полит. и обществ. строя. СПб., 1901; *Ён жа.* Великое княжество Литовское во второй половине XVI столетия: Литовско-русский повет и его сеймик. Т. 1. Юрьев, 1911; *Леонтович Ф.И.* Сословный тип территориально-административного состава Литовского государства и его причины // Журнал Министерства народного просвещения (далей – ЖМНП). VI–VIII, 1895; *Ён жа.* Литовские господари и центральные органы управления до и после Люблинской унии // Юрид. зап., изд. Демидовским юридич. лицеем. 1908. Вып. 1; *Ён жа.* К истории административного строя Литовского государства // Варшав. унив. изв. 1899. № 4, 8, 9; 1900. № 1; *Ён жа.* Крестьянский двор в Литовско-Русском государстве. Вып. 1–3. СПб., 1897–1898; *Максимейко Н.А.* Сеймы Литовско-Русского государства до Люблинской унии 1569 г. Харьков, 1902; *Малиновский И.А.* Рада Великого княжества Литовского в связи с Боярской думой древней России. Ч. 1–2. Томск, 1903–1912.

[2] *Карев Д.В.* Академик М.К. Любавский. Судьба и наследие // Наш радавод. Кн. 6. Ч. 3. Гродна, 1994. С. 450–619.

Асноўнай тэмай згаданай працы Любаўскага з'яўляецца палітычная эвалюцыя ВКЛ з XIII ст. да Люблінскай уніі 1569 г., асвятленне галоўных пераломных этапаў, пераўтварэнняў і зрухаў, што слушна звязваецца з развіццём знешнепалітычных і ўнутрыпалітычных абставін, грамадскіх адносін. Значная ўвага надаецца характарыстыцы дзяржаўнага ладу, зменам дзяржаўна-адміністрацыйнай сістэмы, развіццю сацыяльна-палітычных рухаў, цэнтральнага і мясцовага кіравання, прывілеям пануючага саслоўя, землеўладанню, становішчу сялянства і мяшчанства. Прычынамі своеасаблівай палітычнай эвалюцыі ВКЛ і збліжэння з Польшчай у XV–XVI ст. аўтар лічыць першапачатковую слабую цэнтралізацыю дзяржаўнага ладу, што часткова тлумачыцца даволі працяглым захаваннем палітычнай спадчыны з часоў Кіеўскай Русі, супярэчнасці паміж невялікай Літвой і "літоўскай Руссю" з яе неагляднай тэрыторыяй, насельніцтвам, гаспадарчымі і ваенна-палітычнымі магчымасцямі, уласныя інтарэсы магнатаў і шляхты, ціскам з боку Ордэна, а з канца XV ст. — Маскоўскай Русі і Польшчы. Люблінскую унію 1596 г. аўтар ацэньвае як канец самастойнай гісторыі ВКЛ.

Асноўнай прычынай своеасаблівасці дзяржаўнага ладу ВКЛ, яго палітычнай слабасці аўтар лічыў старажытную карэнную аселасць мясцовага насельніцтва Літвы і Заходняй Русі – ад сялян, што спакон веку жылі тут "племяннымі гнёздамі", да князёў, паноў і баяр, якія стагоддзямі захоўвалі свае ўладанні. Гэта "вячыстая" ўстойлівая землеўласнасць мясцовых баяр (у адрозненне ад маскоўскіх, што жылі "гасударавым жалаваннем") разам з такімі ж старадаўнімі "вячыстымі" гарадамі забяспечылі (не характэрную для Маскоўскай дзяржавы) устойлівасць мясцовых саюзаў землеўласнікаў, гараджан, сялян, палітычных аб'яднанняў. Над усім гэтым моцна арганізаваным грамадствам можна было б надбудаваць уплывовую цэнтральную ўладу, калі б вялікія князі праяўлялі "больш творчай волі і розуму", а не абмяжоўваліся нязначнымі зменамі і рэформамі па прынцыпе "мы старыны не рушым, а навін не ўводзім".

Другой галоўнай прычынай асаблівасцей у дзяржаўным уладкаванні ВКЛ аўтар лічыў уплыў Польшчы. Ужо першая унія дала землеўласнікам польскія правы і вольнасці (асабліва важнае права выбіраць вялікага князя), садзейнічала пашырэнню саслоўных і палітычных набыткаў землеўласнікаў, што яшчэ больш абмяжоўвала вярхоўную ўладу, дапамагала развіццю феадалізму, які разлажыў дзяржаву і прывёў да росту абласнога і вотчыннага патрыятызму замест агульнадзяржаўнага.

Высновы Любаўскага заслугоўваюць увагі, але яны далёка не поўныя, да таго ж недакладныя. Перабольшана не толькі ступень аселасці насельніцтва (бо ўжо з XIII ст. на яе ўздзейнічала масавая міграцыя з поўдня пад уплывам мангола-татарскага нашэсця, іншыя войны, перасяленні сялян у гарады, каланізацыйныя працэсы), але і рэальныя магчымасці вярхоўнай улады. Пры тым раскладзе дэмаграфічных, матэрыяльных і іншых рэсурсаў у Літве і "літоўскай Русі" варыянт абсалютнай манархіі (аналагічнай маскоўскаму самаўладдзю) быў немагчымым. Спрэчнай з'яўляецца і трактоўка працэсу ўзнікнення буйной зямельнай уласнасці ў "літоўскай Русі", які звязаны не столькі са шматпакаленнай аселасцю баярства, колькі з асаблівасцямі фарміравання шляхецкага саслоў'я ў XV–XVI ст., інтарэсамі і палітыкай вярхоўнай улады і пануючых колаў грамадства.

Калі не ў канцэптуальным, то ў плане навукова-метадычным асноўныя працы Любаўскага, Доўнар-Запольскага, Грушэўскага канца XIX – пачатку XX ст. надоўга вызначылі новыя прафесійныя крытэрыі гістарычных даследаванняў. Пра высокі ўзровень рускай гістарыяграфіі гісторыі ВКЛ у пачатку XX ст. сведчыць таксама праца прафесара Санкт-Пецярбургскага універсітэта А. Праснякова, які фактычна стаяў на глебе эканамічнага матэрыялізму[1]. Сацыяльна-эканамічныя інтарэсы вярхоўнай улады, мясцовых князёў з іх вотчынамі, розных іншых пластоў насельніцтва знаходзяцца ў цэнтры яго абагульняльнай працы пры апісанні ўсіх унутры- і знешнепалітычных працэсаў і сацыяльна-палітычных рухаў. Храналагічна курс лекцый ахоплівае перыяд ад часоў Кіеўскай Русі, "тэрытарыялізацыі" яе сацыяльна-эканамічных адносін, да Люблінскай уніі і праўлення Стэфана Баторыя. Упершыню ў навуковых і дыдактычных працах такога ўзроўню гісторыя Заходняй Русі – Беларусі і Украіны – прадстаўлена самастойным аб'ектам даследавання і ў пэўнай ступені суб'ектам уласнай гісторыі і тэматычна выдзелена з агульнай гісторыі "Літоўска-Рускай" дзяржавы. Нямала месца адведзена ў лекцыях характарыстыцы нацыянальна-канфесійных адносін, дзяржаўнага ладу, палітычнай кансалідацыі шляхты, запрыгоньванню сялянства, развіццю іншых форм сацыяльнай залежнасці.

Праснякоў сфармуляваў дзве новыя канцэпцыі, якім суджана была доўгая дыскусійная гісторыя ў больш позняй гістарыяграфіі: 1) Кіеўская Русь, на яго думку, была пралогам зараджэння трох роднасных народнасцей – беларускай, украінскай, рускай; 2) у адрозненне ад Любаўскага аўтар прыйшоў да высновы, што дзяржаўнасць ВКЛ захоўвалася і пасля Люблінскай уніі. Лекцыі Праснякова былі апублікаваны толькі ў 1939 г., а ў пачатку XX ст. былі вядомы даволі абмежаванаму колу пераважна студэнцкай моладзі.

У канцы XIX – пачатку XX ст. у межах нацыянальна-дэмакратычнага руху паскорана развівалася сталая ўласна беларуская гістарыяграфія. Публікацыі па гісторыі Беларусі з'яўляюцца на старонках газеты "Наша ніва", у некаторых іншых перыядычных і асобных выданнях. З 1910 г. у "Нашай ніве" публікуецца папулярная "Кароткая гісторыя Беларусі" В. Ластоўскага, якая адначасова выйшла асобным выданнем. Асветніцкая і грамадска-палітычная арыентацыя прац Ластоўскага і іншых падобных публікацый, у якіх падкрэслівалася багатая шматвяковая гісторыя беларускага народа, выклікала вострае раздражненне ў прыхільнікаў шавіністычна-асімілятарскай палітыкі[2]. Пераважна для дыпламатычных колаў БНР і замежных чытачоў прызначалася брашура М. Доўнар-Запольскага "Асновы дзяржаўнасці Беларусі", якая на розных мовах была надрукавана ў 1918 г. у час акупацыі Беларусі кайзераўскімі войскамі. У 20-х гг. невялікі лекцыйны курс па беларусазнаўстве быў падрыхтаваны У. Пічэтам для студэнтаў Маскоўскага універсітэта.

Дваццатыя і пачатак трыццатых гадоў XX ст. былі азнаменаваны значным развіццём канкрэтна-гістарычных даследаванняў, якія канцэн-

---

[1] *Пресняков А.Е.* Лекции по русской истории. Т. 2. Вып. 1. Западная Русь и Литовско-Русское государство. М., 1939.

[2] *Кайка А.* Тут мой народ: Францішак Скарына і беларуская літаратура XVI – пачатку XX ст. Мн., 1989. С. 209–210.

траваліся ў навуковым асяроддзі Беларускага дзяржаўнага універсітэта і Інстытута беларускай культуры (пераўтворанага ў 1929 г. у Акадэмію навук). Узнавілася археаграфічная дзейнасць, сталі выходзіць перыядычныя навуковыя выданні. Аднак пашырэнне аўтакратычных тэндэнцый у часы сталінскай "дэмакратыі" і масавыя рэпрэсіі супраць беларускай інтэлігенцыі перакрэслілі гэтыя пачынанні. Не выйшла ў свет "Гісторыя Беларусі" Доўнар-Запольскага, быў забаронены для ўжытку школьны падручнік У. Ігнатоўскага "Кароткі нарыс гісторыі Беларусі" (1-е выд., 1919 г.), напісаны, па словах аўтара, з марксісцкіх пазіцый і поўнасцю прысвечаны гісторыі Беларусі, у тым ліку "Літоўска-Беларускай" дзяржаве XIII–XVI ст. У савецкай гістарыяграфіі ўсталяваліся шаблонныя схемы гістарычнага працэсу ў Беларусі, якія ў значнай ступені былі заснаваны на архаічнай дваранска-клерыкальнай і імперскай апалагетыцы. Навуковыя распрацоўкі гісторыі Беларусі XIII–XVI ст. засяродзіліся галоўным чынам на сацыяльна-эканамічнай, часткова этнагістарычнай, знешнепалітычнай, культуралагічнай тэматыцы. Пэўнае ажыўленне навуковай дзейнасці пачалося з сярэдзіны 50-х гг. Значна раскаванай у некаторых палітычных канстатацыях і для свайго часу грунтоўнай працай была манаграфія У. Пашуты "Образование Литовского государства" (М., 1957).

Канцэптуальныя погляды афіцыйнай беларускай гістарыяграфіі 60–80-х гг. без асаблівых змен выкладаліся ў абагульняльных акадэмічных выданнях. Адносна аб'ектыўным з далучэннем новых матэрыялаў быў першы том пяцітомнай "Гісторыі Беларускай ССР" (Мн., 1972). Паказальна, што шматвяковай гісторыі Беларусі з найстаражытнейшых часоў да адмены прыгоннага права ў 1861 г. адведзена менш чым пятая частка агульнага аб'ёму выдання, а часоў ВКЛ да канца XVI ст. – менш за 5%.

Каштоўныя працы беларускіх і рускіх навукоўцаў па гісторыі гарадоў Беларусі, сацыяльных, палітычных і культурных працэсаў (А. Грыцкевіча, З. Капыскага, М. Спірыдонава, у Маскве – А. Зіміна, Б. Флоры, М. Улашчыка, А. Харашкевіч) паступова рыхтавалі глебу для больш шырокіх гістарычных даследаванняў. Тым не менш вялікая комплексная праца па гісторыі Беларусі XIII–XVI ст., якая доўга стваралася групай прафесійных гісторыкаў АН БССР, так і засталася ў рукапісах. Публічны перагляд некаторых застарэлых палажэнняў і значнае абнаўленне матэрыялаў у абагульняльных гістарычных працах пачалося з акадэмічнага выдання "Нарысаў гісторыі Беларусі" ў двух частках (ч. 1. Мн., 1994).

Замежная беларуская гістарыяграфія не мае комплексных навуковых прац па гісторыі Беларусі XIII–XVI ст., што ў значнай ступені тлумачыцца немагчымасцю карыстацца асноўнымі архіўнымі фондамі і нярэдка занадта радыкальным стаўленнем да канцэптуальных і фактаграфічных набыткаў расійскай, а тым больш савецкай гістарычнай навукі. Пазітыўны сэнс некаторых замежных прац прасочваецца часцей у крытыцы афіцыёзных расійскіх стэрэатыпаў, навуковых работ беларускіх і іншых гісторыкаў, у абгрунтаванні патрыятычнага і грамадска-палітычнага значэння сярэднявечнай і новай гісторыі Беларусі на фоне ўсходнеславянскага, еўрапейскага і сусветнага гістарычнага працэсу. Варта дадаць, што ў палеміцы замежных і айчынных гісторыкаў 60–80-х гг. XX ст. палітычныя акцэнты нярэдка пераважаюць над навуковымі, што відавочна, напрыклад, па публікацыях Л. Абецэдарскага і яго асноўнага замежнага бела-

рускага апанента П. Урбана[1]. Іронія лёсу ў тым, што месцам "захавання" кніг эміграцкіх гісторыкаў пры "наспяваючай перамозе сіл сусветнага сацыялізму" былі выключна спецфонды бібліятэк.

У міжваенны перыяд у непасрэднай сувязі з развіццём уласнай дзяржаўнасці значных вынікаў дасягнулі польскія і літоўскія даследчыкі па асобных напрамках гістарыяграфіі. Маюцца на ўвазе працы такіх польскіх гісторыкаў, як Л. Калянкоўскі, О. Галецкі, В. Камянецкі, Г. Пашкевіч, К. Хадыніцкі, С. Кучынскі, В. Пацеха, літоўскіх – К. Буга, К. Авіжоніс, Я. Івінскіс, І. Матусас, А. Шапока, С. Заянчкоўскі і інш. Асабняком стаяць грунтоўныя працы польска-літоўскага гісторыка Генрыха Лаўмянскага (1898–1984), аднаго з найбольш выдатных даследчыкаў ранніх этапаў грамадска-палітычнай эвалюцыі ВКЛ[2]. На шырокім параўнальным фоне, з выкарыстаннем незвычайна вялікага кола разнастайных крыніц па гісторыі балцкіх народаў аўтар грунтоўна даследаваў працэс асадніцтва, палітычна-тэрытарыяльную структуру этнаграфічнай Літвы, фарміраванне літоўскай манархіі, зямельнай уласнасці, зараджэнне саслоўнага падзелу грамадства. У іншых сваіх працах ён прысвяціў шмат увагі раскрыццю сацыяльных і палітычных падстаў Крэўскай уніі 1385 г., наступнай гаспадарчай і сацыяльнай эвалюцыі ВКЛ да Люблінскай уніі 1569 г.[3]

У 1953 г. у Лондане на правах рукапісу быў выдадзены зборнік лекцый, прачытаных галоўным чынам шэрагам польскіх эмігрантаў для Акадэмічнай суполкі Універсітэта С. Баторыя ў замежжы: "Dzieje Ziem Wielkiego Księstwa Litewskiego: Cykl wykładów". Тэматыка досыць разнастайная, хоць не надта шырокая: большасць матэрыялаў прысвечана гісторыка-палітычным праблемам, у тым ліку дзяржаўным уніям, культуры, этнічным, канфесійным, моўным і прававым адносінам на землях ВКЛ. Галоўная ідэя зборніка – асвятленне гістарычных умоў, у якіх выспявалі плённыя палітычныя, грамадскія і цывілізацыйныя сувязі літоўцаў, беларусаў, палякаў. Рэдкія працы заходнееўрапейскіх і амерыканскіх даследчыкаў закраналі пераважна знешнепалітычную, культурную, царкоўную гісторыю ВКЛ (А. Брукнер, С. Станг, Бадуэн дэ Куртэне, Х. Ябланоўскі, О. Бакус і інш.).

У 50–80-х гг. сур'ёзныя навуковыя даследаванні былі падрыхтаваны літоўскімі гісторыкамі – Р. Батурам, Б. Дундулісам, Ю. Юргінісам, М. Ючасам, К. Яблонскісам, І. Стакаўскасам, І. Лукшайтэ і інш. Аднак абагульняльныя літоўскія працы[4] захоўвалі на сабе шматлікія "радзімыя плямы" савецкай гістарыяграфіі. Толькі ў апошнія гады ў Літве выдадзены некалькі новых сінтэтычных прац, напісаных асноўнымі спецыялістамі па гісторыі ВКЛ – Э. Гудавічусам, З. Кяўпам і інш.[5] Палітычныя парадыгмы гэтых работ захоўваюць значную пераемнасць з даследаваннямі літоўскіх гісторыкаў 20–30-х гг.

---

[1] *Абецэдарскі Л.С.* У святле неабвержных фактаў. Мн., 1969; *Урбан П.* У сьвятле гістарычных фактаў. Мюнхен; Нью Ёрк, 1972.

[2] *Łowmiański H.* Studia nad początkami społeczeństwa i państwa litewskiego. T. 1–2. Wilno, 1931–1932.

[3] *Łowmiański H.* Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983. Гл. таксама: Profesor Henryk Łowmiański. Życie i dzieło. Poznań, 1993.

[4] Гл., напрыклад: История Литовской ССР (с древнейших времен до наших дней). Вильнюс, 1978.

[5] *Gudavicius Ed.* Lietuvos istorija nuo seniausių laikų iki 1569 metu. Vilnius, 1999; *Kiaupa Z., Kiaupiene J., Kuncevicius A.* Lietuvos istorija iki 1795 metu. Vilnius, 1995.

Такім чынам, большасць навуковых прац, якія закраналі гісторыю Беларусі, ці ў больш шырокім кантэксце – гісторыю ВКЛ, была створана замежнымі даследчыкамі ў рэчышчы сваіх падыходаў, сваёй дзяржаўна-палітычнай (расійскай, польскай, літоўскай) гісторыі. Заслугай гэтых аўтараў была пастаноўка, а часткова і распрацоўка шэрага важных праблем гісторыі Беларусі, ВКЛ у значных гістарычных межах, выкарыстанне новых навуковых канцэптуальна-метадалагічных прынцыпаў, больш дасканалай методыкі гістарычных даследаванняў, назапашванне фактаграфічных матэрыялаў, увядзенне ў навуковы зварот новых крыніц і аргументаў.

Абмежаванасць многіх замежных прац XIX – пачатку XX ст. (у кантэксце нашай праблемы) звязана пераважна з іх ідэалагічнымі высновамі, палітычным і ў значнай ступені культурным, царкоўным этнацэнтрызмам, ідэямі ўмацавання "сваёй" дзяржаўнасці, што пакідала мала месца для асвятлення самастойнай ці хоць бы своеасаблівай гісторыі Беларусі. Не трэба тлумачыць, што палітызацыя гэтых прац мела сваю спецыфіку: пануючыя канцэпцыі афіцыёзнай расійскай гістарыяграфіі прыкметна адрозніваліся ад гісторыка-палітычных поглядаў беларускіх, польскіх, украінскіх, літоўскіх гісторыкаў, якія бачылі ў сваёй гістарычнай мінуўшчыне падставы для будучай незалежнасці. Большасць савецкіх гісторыкаў, у тым ліку і беларускіх, абгрунтоўвалі вядучую ролю сярэднявечнай Расіі ў гісторыі Усходняй Еўропы. Не адмаўляючы значнай ролі этнічных, культурных, царкоўных традыцый усходнеславянскіх народаў у развіцці цэнтраімклівых тэндэнцый, яны асобую ўвагу ўдзялялі сацыяльна-класавым супярэчнасцям і нацыянальна-вызваленчым рухам беларусаў і ўкраінцаў у ВКЛ, Рэчы Паспалітай, нярэдка перабольшвалі ў негатыўнай ацэнцы палітычных і канфесійных сувязей ВКЛ з Польшчай і Захадам.

Дасягненні і прагалы гістарычнай навукі ў даследаванні гісторыі Беларусі XIII–XVI ст. больш канкрэтна прасочваюцца ў асобных яе сферах.

**Палітычная гісторыя.** У другой палове XIX – пачатку XX ст. вызначыліся асноўныя тэмы палітычнай гісторыі ВКЛ, якія яшчэ і зараз прыцягваюць увагу даследчыкаў, з'яўляюцца аб'ектам дыскусій[1]. Гэта: за-

[1] Акрамя Любаўскага, Лапо, Грушэўскага, Праснякова, Пічэты, Пашуты, Флоры, Харашкевіч шмат увагі ўдзялялі міжнародным адносінам замежныя аўтары абагульняльных прац: Polska i Litwa w dziejowym stosunku. Kraków, 1914; *Halecki O.* Dzieje unii Jagiellońskiej. T. 1–2. Kraków, 1919–1920; *Kolankowski L.* Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. T. 1. 1377–1499. Warszawa, 1930; Polska Jagiellonów: Dzieje polityczne. Lwów, 1936; *Ochmański J.* Historia Litwy. Wrocław et al. 1990. (Wyd. 3); *Paszkiewicz H.* Jagełłonowie a Moskwa. Warszawa, 1933; Lietuvos istorija / red. A. Šapoka. Kaunas, 1936; *Šapoka A.* Lietuva ir Lenkija po 1569 m. unijos. Kaunas, 1938; *Kuczyński S.* Studia z dziejów Europy Wschodniej X–XVII w. Warszawa, 1965; *Ivinskis Z.* Lietuvos istorija iki Vytauto Did iojo mirties. Roma, 1978; *Jablonskis K.* Lietuvos valstybės ir teisės istoria XIV a. iki XVI a. vidurio. Vilnius, 1971; Studia z dziejów Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV–XVIII wieku // Zeszyty Nauk. Uniw. im. A. Mickiewicza w Poznaniu, Historia. № 11, 1971; *Jablonowski H.* Westrussland zwischen Wilna und Moscau. Leiden, 1955; *Kosman M.* Historia Białorusi. Wrocław et al., 1979; *Ochmański J.* Dawna Litwa; *Rowell S.C.* Lithuania ascending. A pagan empire within East-Central Europe. 1295–1345. Cambridge, 1994; *Wisner H.* Litwa: Dzieje państwa i narodu. Warszawa, 1999; *Bardach I.* Studia z ustroju i prawa Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV–XVII w. Warszawa, 1970; *Bardach J., Leśnodorski B., Pietrzak M.* Historia ustroju i prawa polskiego. Warszawa, 1994; *Gudavičius Ed.* Lietuvos istorija; *Łowmiański H.* Polityka Jagiellonów. Poznań, 1999; *Baranauskas T.* Lietuvos valstybės ištakos. Vilnius, 2000.

раджэнне, фарміраванне, развіццё ВКЛ у кантэксце этнасацыяльнай і этнапалітычнай гісторыі асобных народаў (беларусаў, літоўцаў, украінцаў, рускіх); знешняя палітыка вялікіх князёў літоўскіх; фактаграфічная і тыпалагічная характарыстыка дзяржаўнага ладу і тэрытарыяльна-адміністрацыйнага падзелу ВКЛ з вызначэннем іх своеасаблівасцей; характар і мэты ўнутранай палітыкі, у тым ліку ўплыў на яе эвалюцыю палітычных традыцый ("старыны"), поліэтнічнай, дэмаграфічнай і этнапалітычнай структуры ВКЛ, уздзеянне на гэтыя працэсы царкоўна-канфесійных і знешнепалітычных фактараў (палітычныя сувязі, войны, дзяржаўныя і царкоўныя уніі), і некаторыя іншыя.

Адзін з галоўных недахопаў значнай часткі польскай гістарыяграфіі XIX – першых дзесяцігоддзяў XX ст. заключаўся ў тым, што яна не бачыла ці не прымала ў разлік ВКЛ як самастойны суб'ект знешняй і ўнутранай палітыкі, разглядала яго амаль як правінцыю Польшчы. Толькі ў 20–30-х гг. XX ст. ва ўмовах пэўнай стабілізацыі палітычных рэжымаў у Літве (слабей у Польшчы) сталі фарміравацца новыя падыходы да палітычнай гісторыі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Менавіта ў гэты перыяд плённай працай літоўскіх і польскіх гісторыкаў (нярэдка на рознай палітычнай і ідэалагічнай падставе) былі створаны значныя навуковыя працы па палітычнай гісторыі ВКЛ, пераважна яе першых этапаў. Некалькі грунтоўных прац Лаўмянскага не толькі паклалі канец гэтай "такой доўгай адсутнасці" ў вывучэнні гісторыі ВКЛ, яны незвычайна высока ўзнялі планку навуковых гістарычных даследаванняў у сферы як метадалогіі, так і методыкі. Аўтары шэрага пазнейшых прац, пачынаючы ад Г. Пашкевіча і відных літуаністаў Вільні, не маглі не ўлічваць гэтага прыкладу, новых крытэрыяў і прапорцый у навуцы. Але падобных абагульняльных прац па гісторыі ВКЛ XV–XVI ст. створана не было. Гэты недахоп часткова запаўняецца даследаваннямі па гісторыі праўлення асобных прадстаўнікоў дынастыі Ягелонаў і электаральных манархаў[1].

Да высвятлення палітычнай гісторыі Беларусі ў гістарычным і лагічным кантэксце з палітычнай гісторыяй ВКЛ у апошнія гады актыўна прыступілі беларускія гісторыкі. Адной з цэнтральных тэм навуковай дыскусіі стала праблема ўзнікнення і фарміравання ВКЛ, якая непасрэдна звязана з высвятленнем этнагістарычных каранёў дзяржаўнасці ў кантрасце з больш познімі і значна палітызаванымі перыядамі палітычнай гісторыі Беларусі (у складзе Расійскай імперыі і СССР).

Першым, хто ў 80–90-х гг. надрукаваў у Беларусі некалькі кніг са сваёй трактоўкай узнікнення і развіцця ВКЛ як беларускай дзяржавы XIII–XV ст., быў беларускі даследчык М. Ермаловіч. Яго заслугі ў абуджэнні нацыянальнай і гістарычнай свядомасці беларусаў бясспрэчныя.

---

[1] *Prochaska A.* Dzieje Witolda w. księcia Litwy. Wilno, 1914; *Pfitzner J.* Grossfürst Witold von Litauen als Staatsmann. Brunn; Prag; Leipzig; Wien, 1930; Vytautas Didysis ir Lietuva. Kaunas, 1930; *Matusas J.* Švitrigaila Lietuvos didysis kunigaikštis. Kaunas, 1938; *Барвіньский Б.* Жигимонт Кейстутович, великий князь литовсько-руський (1432–1440). Жовква, 1905; *Paszkiewicz H.* Polityka ruska Kazimierza Wielkiego. Warszawa, 1925; *Biskup M., Górski K.* Kazimierz Jagiellończyk. Warszawa, 1987; *Pietkiewicz K.* Wielkie Księstwo Litewskie pod rządami Aleksandra Jagiellończyka. Poznań, 1995; *Wojciechowski Z.* Zygmunt Stary (1506–1548). Warszawa, 1946; *Kolankowski L.* Zygmunt August Wielki książe Litwy do roku 1548. Lwów, 1913; *Sucheni-Grabowska A.* Monarchia dwu ostatnich Jagiellonów a ruch egzekucyjny. Wrocław et al., 1974 і інш.

Складаней з навуковымі аргументамі. Некаторыя з яго пастулатаў былі выказаны раней у беларускай замежнай гістарыяграфіі (у тым ліку пра Полацкае княства як адну з першых форм беларускай дзяржаўнасці, вядучую ролю Наваградскага княства ва ўтварэнні БКЛ) або не пацвярджаюцца фактамі (полацкае паходжанне вялікіх князёў літоўскіх і шэраг іншых). Дастаткова сказаць, што ў сваёй версіі размяшчэння старажытнай Літвы ён не прывёў спасылак на крыніцы, адкуль узяты тапонімы з назвай "Літва", не згадаў сваіх папярэднікаў, якія прысвяцілі гэтай тэматыцы асноўныя ў гістарыяграфіі працы (Лаўмянскі, Пашкевіч), нават не заўважыў Аўкштайціі – другой побач з Жамойцю этнічнай зямлі літоўцаў, неаднаразова згаданай у тагачасных актах і нямецкіх хроніках. Зразумела, што гэтыя і некаторыя іншыя аргументы Ермаловіча не маглі быць адаптаваны сучаснымі даследчыкамі, і ацэнка яго поглядаў з боку аўтарытэтных гісторыкаў, як, напрыклад, Улашчыка, уяўляецца абгрунтаванай.

У апошнія гады да праблемы фарміравання ВКЛ звярнуліся беларускія прафесійныя гісторыкі: В. Насевіч, які прысвяціў гэтай тэме невялікую, але ўзважаную брашуру "Пачаткі Вялікага княства Літоўскага. Падзеі і асобы" (Мн., 1993), і А. Краўцэвіч, які абараніў па гэтай тэматыцы доктарскую дысертацыю і выдаў кніжку – "Стварэнне Вялікага княства Літоўскага" (Мн., 1998). Паводле Краўцэвіча, ВКЛ з самага пачатку складвалася на аснове літувіска-беларускай (літоўска-славянскай) супольнасці пры пераважнай палітычнай ролі Беларусі, бо Літва не мела яшчэ сваёй дзяржаўнасці. Аднак паняцце дзяржаўнасці аўтар грунтуе на архаічным выказванні аднаго з замежных філосафаў канца XIX ст. Вядомы з летапісу дагавор групы літоўскіх князёў з галіцка-валынскім князем 1219 г. ён не адносіць да ліку пераканаўчых сведчанняў. Цяжка сказаць, як можна абараніць гэтую гіпотэзу ў святле больш позняй сацыяльна-палітычнай і сацыяльна-эканамічнай гісторыі, у тым ліку Гарадзельскай уніі 1413 г., якая надала шырокія прывілеі практычна толькі літоўцам – каталікам. Не новы, але больш рэалістычны вывад выкладзены ў працы Насевіча: на ранніх стадыях фарміравання ВКЛ пэўны палітычны прыярытэт мела літоўская знаць, у той час як "рускія" (беларускія і ўкраінскія ) землі адыгрывалі прыярытэтную ролю ў культурным і сацыяльным развіцці поліэтнічнай дзяржавы.

Па агульных пытаннях фарміравання ВКЛ і наступнай яго гісторыі (прынамсі да Люблінскай уніі 1569 г.) сярод сучасных літоўскіх і іншых замежных гісторыкаў пануе адносна кансалідаваны і традыцыйны пункт гледжання: гэта была літоўская дзяржава, якая спачатку прайшла некалькі стадый станаўлення і паступова падначаліла сабе землі Беларусі, Украіны і некаторыя княствы Паўночна-Усходняй Русі. Разыходжанні тычацца храналогіі ўзнікнення (канец XII, пачатак, 30–40-я гг. ці сярэдзіна XIII ст.)[1], сацыяльнай асновы першых і наступных форм літоўскай

[1] Паводле літоўскага даследчыка Баранаўскаса, літоўская дзяржава ўзнікла ужо ў канцы XII ст., пра што сведчыць пераход літоўскіх дружын да сістэматычных набегаў на Русь. Аднак яго крытыка вядомых канцэпцый Лаўмянскага, Пашкевіча, Гудавічуса і яго разуменне дзяржаўнасці не маюць пад сабой дастатковай метадалагічнай базы. Гл.: *Baranauskas T.* Lietuvos valstybės ištakos.

дзяржаўнасці. Паводле Лаўмянскага, у першай чвэрці XIII ст. існавала пэўная палітычная і іерархічная супольнасць літоўскіх князёў мілітарнага дружыннага тыпу. На думку яго галоўнага апанента Г. Пашкевіча, улада і ўплывы літоўскіх кунігасаў ужо на гэтым этапе ў значнай ступені залежалі ад развіцця зямельнай уласнасці.

Супярэчліва ў гістарыяграфіі асвятляецца дзяржаўны лад ВКЛ. У большасці кампетэнтных на свой час прац прынята падаваць, што да смерці Вітаўта ў 1430 г. панавала абсалютная манархія, пазней, асабліва пасля пагаднення 1492 г. аб падзеле ўлады паміж вялікім князем літоўскім Аляксандрам і радай паноў ВКЛ, стала зацвярджацца саслоўна-прадстаўнічая манархія. Не ўлічваюцца пры гэтым значная дэцэнтралізацыя ВКЛ і ўплыў старажытнай палітычнай спадчыны, што яскрава выяўлялася ў тэрытарыяльна-адміністрацыйным падзеле, выразныя дэмаграфічныя і тэрытарыяльныя дыспрапорцыі паміж этнічна-літоўскім землямі і "рускім" арэалам ВКЛ. У сучасных даследаваннях беларускіх, рускіх, украінскіх гісторыкаў звернута ўвага на гэтыя гістарычныя рэаліі, якія рабілі немагчымым рэалізацыю абсалютысцкай формы праўлення ў яе тыповым еўрапейскім выглядзе. Паказальныя ў гэтым плане работы С. Падокшына і С. Сокала па гісторыі дзяржаўнасці і права Беларусі, Г. Штыхава і С. Тарасава па гісторыі Полацкага княства, Л. Аляксеева па Смаленшчыне, Л. Вайтовіча па ўдзельных княствах Рурыкавічаў і Гедымінавічаў, даўняя праца вучня О. Галецкага – С. Кучынскага па гісторыі Северскіх зямель[1]. Органы дзяржаўнай улады і кіравання, а таксама саслоўныя інстытуты, сістэму права і судаводства на падставе параўнальнага аналізу трох Статутаў ВКЛ даследаваў С. Вансявічус[2].

Агульным недахопам айчыннай і замежнай гістарыяграфіі можна лічыць недастатковую распрацаванасць так званай "рускай" праграмы вялікіх князёў літоўскіх, асабліва праблему ўнутраных палітычных стымулаў і ўдзелу ўласна "рускіх" зямель ва ўмацаванні і абароне ВКЛ. Слаба даследуюцца змены ва ўнутрыпалітычнай сітуацыі ВКЛ у канцы XV – сярэдзіне XVI ст., узрастанне палітычных уплываў беларуска-украінскай знаці і кансалідацыя ўсяго шляхецкага стану. Аналіз гэтай праблемы мог бы прынесці нямала новага ў характарыстыку поліэтнічнай дзяржаўнасці ВКЛ і этнаканфесійнай палітыкі вярхоўнай улады. Заслугоўваюць большай увагі і працэсы пераўтварэнняў тэрытарыяльна-адміністрацыйнай і судовай структуры ВКЛ, якія невыпадкова супадалі з этапамі палітычнага збліжэння з Польшчай (Крэўскі дагавор, Люблінская унія). Дагэтуль невядомы дакладныя назвы і колькасць паветаў у Беларусі і Літве далюблінскага перыяду.

Станаўленне і дзейнасць мясцовых форм шляхецкага самакіравання ў апошнія дзесяцігоддзі XVI ст. – павятовых сеймікаў ВКЛ – прасочва-

[1] *Падокшын С.А., Сокал С.Ф.* Дзяржаўнасць і права Беларусі са старажытных часоў да канца XVI стагоддзя. Мн., 2000; Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкае зямлі. Полацк, 1992; *Тарасаў С.В.* Полацк, IX–XVII стст.: Гісторыя і тапаграфія. Мн., 1998; *Штыхов Г.В.* Города Полоцкой земли (IX–XII вв.). Мн., 1978; *Войтович Л.* Удільні князівства Рюриковичів і Гедиміновичів у XII–XVI ст. Львів, 1996; *Kuczyński S.* Ziemie Czernihowsko-Siewierskie pod rządami Litwy. Warszawa, 1938. У апошнія гады распрацоўвае гісторыю Мсціслаўскага княства беларускі археолаг А. Мяцельскі.

[2] *Vansevičius S.* Lietuvos Didžiosios Kunigaikšystės valstybiniai-teisiniai institutai. Vilnius, 1981.

ецца ў працах сучаснага польскага даследчыка А. Закжэўскага[1]. Тыпалагічнае параўнанне дзяржаўнага ладу ВКЛ і Вялікага Княства Маскоўскага ажыццявіла ў манаграфічным даследаванні М. Бычкова, вядомая сваімі ранейшымі генеалагічнымі распрацоўкамі. Здзіўляе выкарыстанне ў працы гэтага, безумоўна, дасведчанага гісторыка недакладнай назвы ВКЛ: польска-літоўская, літоўская дзяржава. Навукова-папулярны, абагульняльны характар выкладу гісторыі дзяржаўнасці Беларусі ад старажытнасці да нашых часоў маюць калектыўная праца, падрыхтаваная беларускім згуртаваннем "Бацькаўшчына", і манаграфія гродзенскіх даследчыкаў[2].

Гістарыяграфія знешняй палітыкі ВКЛ, мабыць, самая занядбаная частка беларускай гістарычнай навукі. Яе адставанне абумоўлена як метадалагічнымі цяжкасцямі, бо Беларусь (у сучасным сэнсе гэтага дзяржаўна-палітычнага і грамадскага тэрміна) не праводзіла адасобленай знешняй палітыкі, калі не лічыць ВКЛ беларускай дзяржавай, так і ідэалагічнымі ўплывамі. У савецкай гістарыяграфіі 30–80-х гг. у якасці адзінага цэнтра "збірання" палітычнай спадчыны старажытнай Русі XIV–XVI ст. звычайна разглядалася толькі Вялікае Княства Маскоўскае, што перашкаджала аб'ектыўнаму вывучэнню знешняй палітыкі ВКЛ і становішча ўсходнеславянскіх зямель у яго складзе. Асобныя працы савецкіх гісторыкаў, дзе выкладаўся іншы пункт гледжання (дарэчы, не вельмі новы, бо яшчэ ў XIX – пачатку XX ст. некаторыя даследчыкі прызнавалі існаванне ў XIII–XV ст. двух ці больш гістарычных цэнтраў прыцяжэння ўсходнеславянскіх зямель), былі рэдкай з'явай На перыферыі тагачаснай савецкай гістарыяграфічнай супольнасці яны практычна не сустракаліся.

Адваротным бокам монацэнтрысцкай канцэпцыі была неабходнасць вывучэння самога працэсу збірання ўсходнеславянскіх зямель на розных гістарычных этапах і, зразумела, у пэўным кантактным асяроддзі. Рускія і ўкраінскія, у меншай ступені іншыя замежныя гісторыкі ўнеслі важкі ўклад у вывучэнне знешняй палітыкі Кіеўскай[3], Галіцка-Валынскай[4], Маскоўскай Русі[5] ў дачыненні да зямель Беларусі і Літвы, прыгра-

[1] *Zakrzewski A.B.* Sejmiki Wielkiego Księstwa Litewskiego XVI–XVIII w. Ustrój i funkcjonowanie: sejmčik trocki. Warszawa, 2000.

[2] Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржавы. Мн., 2001; *Сільчанка М., Басюк I.* Беларуская дзяржаўнасць. Гродна, 1977.

[3] *Греков Б.Д.* Киевская Русь. М.; Л. 1958; *Рыбаков Б.А.* Киевская Русь и русские княжества XII–XIII в. М., 1982; *Толочко П.П.* Київська Русь. Київ, 1995; *Котляр Н.Ф.* Древнерусская государственность. СПб., 1998. Гл.: таксама: Древнерусское государство и славяне: материалы симпозиума, посв. 1500-летию Киева / Под ред. Л.Д. Поболя, М.М. Чернявского, Г.В. Штыхова. Мн., 1983; *Пашуто В.Т., Флоря Б.Н., Хорошкевич А.Л.* Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. М., 1982.

[4] *Пашуто В.Т.* Очерки по истории Галицко-Волынской Руси. М., 1950; *Ён жа.* Внешняя политика Древней Руси. М., 1968; Галицько-Волинська держава: передумови виникнення, історія, культура, традиції. Львів, 1993; *Майоров А.В.* Галицко-Волынская Русь. СПб., 2001.

[5] *Базилевич К.В.* Внешняя политика Русского централизованного государства: Вторая половина XV века. М., 1952; *Черепнин Л.В.* Образование русского централизованного государства в XIV–XV веках: Очерки соц.-экон. и полит. истории Руси. М., 1960; *Греков И.Б.* Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV–XVI вв. М., 1963; *Горский А.А.* Русские земли в XIII–XIV вв. М., 1996; *Борисов Н.С.* Политика московских князей конца XIII – первой половины XIV в. М., 1999.

нічных рускіх княстваў (Цвярскога, Разанскага, Северскіх і інш.), аб'ектаў сустрэчнай экспансіі, усходняга зменнага арэала старажытнабеларускіх і ўкраінскіх зямель. Побач з гісторыкамі XIX – сярэдзіны XX ст. (І. Лялевелем, М. Грушэўскім, А. Прасняковым, М. Любаўскім, Форстэнам, Л. Калянкоўскім, Г. Лаўмянскім, К. Базілевічам, У. Каралюком ) гэтую праблему вывучалі новыя пакаленні рускіх, польскіх, літоўскіх, украінскіх, нямецкіх даследчыкаў (Э. Банёніс, А. Зімін, С. Шміт, Э. Клюге, А. Харашкевіч, Б. Флора, Д. Аляксандраў і інш.).

З беларускіх гісторыкаў часткова закраналі гэтую тэму Л. Абецэдарскі, А. Янушкевіч і Г. Сагановіч. Інфлянцкай вайне прысвечаны манаграфіі С. Бахрушына, У. Каралюка, В. Навадворскага, некаторых сучасных нямецкіх і скандынаўскіх даследчыкаў – Н. Ангермана, Е. Цібурга і інш.

Пэўным наглыбленнем тэматыкі вызначаюцца працы па гісторыі адносін ВКЛ з Ордэнам і Свяшчэннай Рымскай імперыяй. Паралельна з традыцыйнай гістарыяграфіяй, якая даследавала стратэгію і ваенна-палітычную экспансію Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў на землі Літвы і Беларусі, развіваюцца новыя напрамкі, якія дазваляюць больш сістэмна вывучаць станаўленне і палітыку гэтых незвычайных дзяржаўна-царкоўных арганізацый у Прыбалтыцы (гаспадарку, кіраванне, збор фінансавых сродкаў, сувязі з Захадам і інш.). "Рэйзам" (нашэсцям) крыжакаў на землі Літвы і Беларусі прысвечана манаграфія Гудавічуса, а ў больш шырокім еўрапейскім кантэксце з улікам Польшчы – двухтомная праца заходнееўрапейскага даследчыка В. Паравіцыні[1]. Ваенна-палітычную гісторыю каменных замкаў, збудаваных у Беларусі на паўночна-заходніх напрамках, сцісла апісаў беларускі археолаг М. Ткачоў[2]. Асноўныя змены ў геапалітычным становішчы Беларусі ахарактарызаваны ў артыкулах А. Грыцкевіча і іншых аўтараў.

Шматлікімі, фактаграфічна насычанымі і ўстойлівымі па сваіх галоўных палітычных высновах з'яўляюцца працы XIX–XX ст., прысвечаныя адносінам ВКЛ і Польшчы (Г. Лаўмянскі, Г. Пашкевіч, Ю. Бардах, Г. Віснер, Ф. Папэ, О. Галецкі і інш.). Каштоўную найноўшую працу па ўсім тэматычна-храналагічным дыяпазоне польска-літоўскіх кантактаў (на жаль, са значным абмежаваннем матэрыялаў па гісторыі Беларусі) падрыхтаваў прафесар Познаньскага універсітэта Г. Блашчык[3].

Істотна разышліся польскія, літоўскія і беларускія гісторыкі ў ацэнцы дзяржаўных уній ВКЛ з Польшчай. У шэрагу прац польскіх гісторыкаў XIX – першай паловы XX ст. ідэалізавалася палітычная роля Кароны ў паступовым зблiжэнні Літвы з Польшчай, не даследавалася належным чынам сацыяльна-эканамічная аснова экспансіі, на што адным з першых звярнуў увагу Лаўмянскі. На думку большасці літоўскіх гісторыкаў, Крэўская унія не была актам рэальнага аб'яднання дзвюх дзяр-

[1] *Gudavičius E.* Kry iaus karai Pabaltijyje ir Lietuva XIII am iuje. Vilnius, 1989; *Paravicini W.* Die Preussenreisen des Europäischen Adels. Theil 1 (1989), 2 (1995).
[2] *Ткачоў М.* Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII–XVIII стст. Мн., 1978.
[3] *Blaszczyk G.* Dzieje stosunków polsko-litewskich od czasów najdawniejszych do wspólczesności. T. 1: Trudne początki. Poznań, 1998. (Да Крэўскай уніі ўключна, выданне працягваецца.)

жаў, бо адлюстроўвала дынастычную палітыку Ягелонаў; пытанне пра ролю ўдзельных князёў і баярства ў яе заключэнні застаецца нявысветленым[1]. У адрозненне ад літоўскіх даследчыкаў, якія звычайна змяншалі інтэграцыйнае значэнне Крэўскай і Люблінскай уній, польскія гісторыкі падкрэслівалі паўнапраўны саюз дзвюх дзяржаў і пазітыўныя палітычныя, а часткова і канфесійныя вынікі абедзвюх уній[2]. У беларускай гістарыяграфіі негатыўны кантэкст уній, як правіла, звязваецца з польскай феадальнай і каталіцкай экспансіяй і ў пэўнай ступені з унутранай палітыкай кіруючых колаў ВКЛ і вялікіх князёў літоўскіх[3].

Недастаткова ў цэлым вывучаны адносіны з Крымскім ханствам, яго палітыка ў дачыненні да ВКЛ, Маскоўскай Русі, Польшчы XV–XVI ст. За крымскай дыпламатыяй і маштабнымі ваеннымі паходамі крымскіх татар заўсёды стаяла Атаманская Порта. Даследчыкі адзначаюць слабую каардынацыю сумесных дзеянняў Польшчы і ВКЛ супраць паўднёвых суседзяў[4]. Па-за межамі манаграфічных навуковых даследаванняў засталіся палітычныя сувязі ВКЛ XIV–XV ст. з Наўгародскай і Пскоўскай рэспублікамі.

**Сацыяльнае і эканамічнае развіццё.** Сацыяльныя аспекты гістарыяграфіі моцна зніταваны з сацыяльна-эканамічнай гісторыяй розных пластоў і груп беларускага насельніцтва, таму ў сціслым гістарыяграфічным аглядзе мэтазгодна разглядаць іх у адным комплексе. Навуковае вывучэнне гісторыі сялянства Заходняй Русі, абшчыны, аграрнай рэформы XVI ст., зямельнай уласнасці пачалося галоўным чынам з 60-х гг. XIX ст. пад уплывам адмены прыгоннага права ў Расіі, іншых палітычных і сацыяльна-эканамічных зрухаў[5].

На распрацоўку шэрага важных сацыяльных і сацыяльна-эканамічных праблем айчыннай гісторыі паўплывалі ідэалагічныя прыярытэты савецкай гістарыяграфіі. У пасляваенны час выходзяць абагульняльныя

---

[1] *Kiaupienė J.* Historiografia litewska o niektórych zagadnieniach stosunków litewsko-polskich między Krewem a Lublinem // Profesor Henryk Łowmiański: życie i dzieło. S. 116–122.

[2] *Halecki O.* Dzieje unii. Cz. 1–2; *Paszkiewicz H.* O genezie i wartości Krewa. Warszawa, 1938; *Bardach J.* Studia z ustroju i prawa Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV–XVII w.; *Wisner H.* Unia: Sceny z przeszłości Polski i Litwy. Warszawa, 1988; Unia Lubelska i tradycje integracyjne w Europie Środkowo-Wschodniej. Lublin, 1999; *Błaszczyk V.* Dzieje stosunków polsko-litewskich od czasów najdawniejszych do współczesności. T. 1.

[3] *Пичета В.И.* Белоруссия и Литва XV–XVI вв. М., 1961. С. 525–594; *Юхо Ю.А.* Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992. С. 82–86, 126–128.

[4] *Koneczny F.* Sprawy z Mengli Girejem. Wilno, 1927; *Kolankowski L.* Problem Kryma w dziejach jagiellońskich // KHV, 1935. Z. 279–300; *Греков И.Б.* Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV–XVI вв.; *Черепнин Л.В.* Образование русского централизованного государства в XIV–XV веках. Гл. 2–3; *Греков И.Б.* Восточная Европа и упадок Золотой Орды. М., 1975; *Batūra R.* Lietuva tautų kovoje prieš Aukso ordą. Vilnius, 1975 (гл. 2–3); *Думин С.В.* Татарские князья в Великом княжестве Литовском // Acta Baltico Slavica (далей – ABS). 1989. Т. 20. S. 49; *Tyszkiewicz J.* Tatarzy na Litwie i w Polsce. Warszawa, 1989; *Горский А.А.* Москва и Орда. М., 2000; *Хорошкевич А.Л.* Русь и Крым. От союза к противостоянию. Конец XV – начало XVI в. М., 2001.

[5] *Леонтович Ф.И.* Крестьяне Юго-Западной России по литовскому праву XV и XVI столетий. Киев, 1863; *Владимирский-Буданов М.Ф.* Крестьянское землевладение в Западной России до половины XVI в. Киев, 1891; *Довнар-Запольский М.В.* Западнорусская сельская община в XVI веке. СПб., 1897; *Ён жа.* Очерки по организации западнорусского крестьянства в XVI веке. Киев, 1905; *Леонтович Ф.И.* Крестьянский двор в Литовско-Русском государстве. Вып. 1–3. СПб., 1897–1898; *Пичета В.И.* Аграрная реформа Сигизмунда Августа в Литовско-Русском государстве. М., 1958.

працы ўкраінскага даследчыка Д. Пахілевіча, літоўскага – Ю. Юргініса, маскоўскага медыявіста А. Харашкевіч[1].

Кампетэнтнае і працаёмкае даследаванне з высвятленнем сутнасці, эвалюцыі, гаспадарчай і паднявольнай дзейнасці сялянства і храналагічных межаў працэсу яго запрыгоньвання зроблена М. Спірыдонавым у манаграфіі "Закрепощение крестьянства Беларуси (XV–XVI вв.)" (Мн., 1993). Галоўным падмуркам яго працы сталі актавыя матэрыялы Метрыкі ВКЛ XVI ст. і мясцовых судовых інстанцый, што дазволіла ажыццявіць паўнацэннае параўнанне юрыдычных норм і рэальнай сацыяльнай практыкі, паказаць паступовую інтэграцыю розных пластоў сялянства ў адзінае паднявольнае і залежнае саслоўе. Асобным катэгорыям сялян прысвечаны працы беларускіх даследчыкаў П. Лойкі і В. Голубева, павіннасцям прыватных сялян – познаньскага гісторыка І. Юркевіча[2]. Аграрную рэформу XVI ст. (Валочную памеру) даследавалі М. Доўнар-Запольскі, У. Пічэта, В. Концэ, Е. Ахманскі і іншыя гісторыкі[3].

Змястоўныя працы па гісторыі гаспадарчых і прыватных гарадоў Беларусі XVI–XVII ст. напісаны З. Капыскім, А. Грыцкевічам[4]. У іх работах ахоплены амаль усе бакі сацыяльна-эканамічнага, грамадска-палітычнага жыцця гараджан і жыхароў мястэчак, развіццё рамесніцкай, карпаратыўна-цэхавай, гандлёвай дзейнасці, ператварэнне буйных гарадоў Беларусі ў значныя культурныя цэнтры. Разам з тым ахарактарызаваны прычыны, па якіх мяшчанскае насельніцтва Беларусі не адыграла палітычнай ролі заходнееўрапейскага бюргерства ва ўзаемаадносінах феадалаў і вярхоўнай улады і не было прадстаўлена на вальных шляхецкіх форумах (соймах). Агульнай гісторыяй гарадоў і асабліва мястэчак ВКЛ плённа займаецца торуньскі гісторык Ст. Александровіч[5]. Пэўную ўвагу сталі ўдзяляць гарадам і дробным гарадскім пасяленням некаторыя беларускія даследчыкі[6].

Своеасаблівыя формы самакіравання шэрага гарадоў і мястэчак Беларусі і Літвы, замацаваныя ў XIV–XVI ст. магдэбургскімі прывілеямі, даследаваліся М. Уладзімірскім-Буданавым, Ф. Тараноўскім, А. Гру-

---

[1] *Похилевич Д.Л.* Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI–XVIII вв. Львов, 1957; *Jurginis J.* Baud iavos įsigalėjimas Lietuvoje. Vilnius, 1962; *Хорошкевич А.Л.* Очерки по социально-экономической истории Северной Белоруссии в XV в. Автореф. ... канд. ист. наук. М., 1974.

[2] *Лойка П.А.* Прыватнаўласніцкія сяляне Беларусі: Эвалюцыя феадальнай рэнты ў другой палове XVI–XVIII ст. Мн., 1991; *Jurkiewicz J.* Powinności włościan w dobrach przywatnych w Wielkim Księstwe Litewskim w XVI–XVIII wieku. Poznań, 1991.

[3] *Пичета В.* Аграрная реформа Сигизмунда Августа в Литовско-Русском государстве; *Conze W.* Agrarverfassung und Bevölkerung in Litauen und Weissrussland. T. 1. Leipzig, 1940.

[4] *Копысский З.Ю.* Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII в. Мн., 1966; *Ён жа.* Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII в. Мн., 1975; *Грицкевич А.П.* Частновладельческие города Белоруссии в XVI–XVIII вв. Мн., 1975; *Ён жа.* Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI–XVIII вв.). Мн., 1979.

[5] *Aleksandrowicz St.* Miasteczki Białorusi i Litwy jako ośrodki handlu w XVI i w 1 połowie XVII wieku // Rocznik Białostocki. T. 1. Białystok, 1961; *Ён жа.* Gospodarcze, prawne i etniczne osobliwości sieci miejskiej ziem Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVI–XVII w. // Miasta i kulturza ludowa... Kraków, 1996. S. 61–89.

[6] *Бохан Ю.М.* Мястэчкі вярхоўяў Віліі і нёманскай Бярэзіны ў XV–XVIII ст. (па археалагічных і пісьмовых крыніцах). Аўтарэф. ... канд. гіст. навук. Мн., 1994; *Місарэвіч Н.В.* Магдэбургскае права на Беларусі. Гродна, 2003.

шэўскім, пазней галоўным чынам беларускімі, літоўскімі і польскімі гісторыкамі – В. Дружчыцам, З. Капыскім, А. Грыцкевічам, С. Стрэнкоўскім, Ю. Бардахам, І. Яворскім, З. Кяўпам, Э. Рымшам[1].

Шмат нявырашаных пытанняў звязана з фарміраваннем і развіццём пануючых колаў ВКЛ, асабліва баярства, шляхты, духавенства. У параўнальным плане для вывучэння слаба даследаваных працэсаў эвалюцыі баярства Беларусі значную цікавасць уяўляюць працы Г. Лаўмянскага, Г. Пашкевіча, В. Камянецкага, У. Пашуты, сучасных літоўскіх гісторыкаў Ю. Юргініса, М. Ючаса, Э. Гудавічуса, новая канцэпцыя А. Нікжэнтайціса двух этапаў фарміравання сацыяльнай структуры Літвы ў XIII–XIV ст.[2]

Розную ацэнку працэсам станаўлення шляхты ў ВКЛ далі літоўскія даследчыкі Г. Лаўмянскі і К. Авіжоніс[3]. На думку апошняга, шляхта Літвы стала фарміравацца задоўга да таго, як склаліся ўмовы для Крэўскай і Гарадзельскай уній. Лаўмянскі звярнуў увагу на юрыдычныя і сацыяльна-гаспадарчыя крытэрыі працэсу, даказваў, што афармленне шляхецкага стану залежала ад пашырэння і замацавання правоў баярства на зямельную ўласнасць, росту прадукцыйнасці і гандлёвых сувязей гаспадаркі, заключэння дзяржаўных уній. Баярскае і шляхецкае землеўладанне (не гаворачы ўжо пра магнацкія латыфундыі) стала больш эфектыўным і карысным, чым служба ў войску і выкананне традыцыйна рыцарскіх абавязкаў. Інтэграцыя беларускага баярства ў шляхецкі стан ВКЛ у XV–XVI ст. – тэма асобнага даследавання У. Пічэты з крытычнай ацэнкай поглядаў М. Любаўскага, Ф. Леантовіча і іншых аўтараў[4].

Агульным пытанням гаспадарчага развіцця ВКЛ акрамя класічных прац М. Доўнар-Запольскага, Г. Лаўмянскага, У. Пічэты і іншых медыявістаў прысвечаны абагульняльны артыкул Е. Ахманскага[5].

Большасць беларускіх і замежных даследчыкаў звяртаюць увагу на значнае паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі і Літвы ў XVI ст., завяршэнне фарміравання саслоўна-класавай структуры сталага

---

[1] *Владимирский-Буданов М.Ф.* Немецкое право в Польше и Литве. СПб., 1868; *Тарановский Ф.В.* Обзор памятников магдебургского права западнорусских городов литовской эпохи. Варшава, 1897; *Грушевский А.С.* Города Великого княжества Литовского в XIV–XVI вв. Их старина и борьба за старину. Киев, 1918; *Jaworski J.* Studia nad ustrojem miast na prawie niemieckim w Wielkim Księstwie Litewskim w dobie jagiellońskiej // Wileński Rocznik Prawniczy. T. 5. Wilno, 1931; *Дружчыц В.Д.* Войты і іх улада ў беларускіх гаспадарскіх мястах з Майдэбургскім правам. Мн., 1928; *Bardach J.* Miasta na prawie magdeburskim w Wielkim Księstwie Litewskim od schyłku XIV do połowy XVII wieku // KHV, 1980. R. 87; Lietuvos miestų istorijos šaltiniai 2 / Sud. Z. Kiaupa ir E. Rimsza. Vilnius, 1992; *Стрэнкоўскі С.П.* Вольнасці і прывілеі беларускіх гарадоў у заходняй часткі Вялікага княства Літоўскага. Мн., 1997; Магдэбургскае права на Беларусі: Зб. прац. Мн., 1999.

[2] *Nikžentaitis A.* Pre-christian Lithuanian society, XIII–XIV centuries. Summary of a dissertation... dr. hab. Vilnius, 1999.

[3] *Avižonis K.* Die Entstelung und Entwickelung des litauischen Adels bis zur litauisch-polnischen Union 1385. Berlin, 1932; *Łowmiański H.* Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983. S. 365–454.

[4] *Пичета В.* Литовско-польские унии и отношение к ним литовско-русской шляхты // Сб. статей, посвященных В.О. Ключевскому его учениками, друзьями и почитателями... М., 1909.

[5] *Довнар-Запольский М.* Государственное хозяйство. Т. 1. Киев, 1901; *Пичета В.* Белоруссия и Литва XV–XVI вв. М., 1961; *Ochmański J.* Gesselschaft und Wirtschaft Litauens vom Ausgang des 14. Jahrhunderta bis 1655 // Studia Historia Oeconomicae. 1980. Vol. 15. Poznań, 1981. S. 131–159.

феадальнага грамадства, узрастанне ролі вярхоўнай улады і ўсяго стану феадалаў у спробах эфектыўнага рэгулявання сацыяльна-эканамічных працэсаў (аграрная рэформа, маштабныя гаспадарскія рэвізіі, развіццё агульназемскага заканадаўства і інш.). Цікава, што ўсе гэтыя з'явы назіраліся пры значным ускладненні знешнепалітычных абставін, нярэдка крытычным фінансавым становішчы, доўгіх і цяжкіх войнах. Вывучэнне сукупнасці гэтых, здаецца, несумяшчальных фактараў яшчэ чакае сваіх даследчыкаў.

**Царкоўныя і этнаканфесійныя адносіны.** З усёй Усходняй і Цэнтральнай Еўропы ВКЛ вызначалася асабліва складанай царкоўна-канфесійнай сістэмай. Канфесійныя ўплывы і традыцыі асноўных этнічных груп насельніцтва Беларусі і ўсяго ВКЛ, а таксама знешнецаркоўныя, у пэўнай ступені і палітычныя сувязі праваслаўнай і каталіцкай іерархіі з канстанцінопальскай патрыярхіяй або Рымам, царкоўнымі і кіруючымі коламі суседніх дзяржаў (у першую чаргу Польшчы, Вялікага Княства Маскоўскага) надавалі шматлікім гістарычным даследаванням гэтай сферы нацыянальна-палітычныя і царкоўна-амбіцыйныя адценні. У дачыненні да гісторыі Беларусі такімі рысамі выразна пазначаны манаграфіі праваслаўнага святара І. Чыстовіча, Г. Кіпрыяновіча, каталіцкага святара К. Прапалануса[1], шэрага пазнейшых айчынных і замежных аўтараў.

На фоне гэтых прымітыўна-апалагетычных работ выдзяляюцца распрацаванасцю асобных тэм, выкарыстаннем новых крыніц, адносным аб'ектывізмам (пры відавочнай схільнасці да той ці іншай канфесіі) некаторыя публікацыі царкоўных і свецкіх аўтараў. Па гісторыі праваслаў'я, часткова – каталіцызму і уніі ў Заходняй Русі захоўвае сваё першараднае значэнне абагульняльная шматтомная праца маскоўскага мітрапаліта другой паловы XIX ст. Макарыя[2]. Аўтарытэт духоўнай пасады і адукаванасць дазволілі аўтару не толькі сабраць і сістэматызаваць вялікі гістарычны матэрыял, але і больш свабодна выказацца па шэрагу вострых на той час гістарыяграфічных праблем (напрыклад, першым сярод праваслаўных іерархаў прызнаць верагоднасць "заходнерускага" пасланні да папы Сікста IV 1476 г.).

Значны ўклад у вывучэнне гісторыі праваслаўнай і уніяцкай царквы ўносяць сучасныя рускія, украінскія, польскія даследчыкі. Руская патрыярхія пачала выдаваць шматтомную праваслаўную энцыклапедыю, аднак у ваенных і рэвалюцыйных абставінах пачатку XX ст. выданне не было завершана. На высокім прафесійным узроўні, як і ўсе працы маскоўскага даследчыка Я. Шчапава, напісаны курс лекцый па ранняй гісторыі праваслаўнай царквы і дзяржавы на Русі X–XIII ст. Рэктарам Духоўнай акадэміі ў Львове Б. Гудзякам створана абагульняльная праца па старажытнай гісторыі ўкраінскай царквы (з уключэннем значных матэрыялаў па гісторыі Беларусі XV–XVI ст.)[3].

---

[1] *Чистович И.* Очерк истории западнорусской церкви. Ч. 1. СПб., 1882; *Киприянович Г.* Исторический очерк православия, католичества и унии в Белоруссии и Литве с древнейшего до настоящего времени. Вильна, 1899 (2-е выд.); *Propolanus K.* Polskie apostolstwo na Litwie. Szkic historyczny 1387–1912. Wilno, 1913.

[2] *Макарий, митр.* История русской церкви. (Апошняе выд. з камент. сучасных гісторыкаў: кн. 5 (М., 1996), кн. 6 (М., 1996.)

[3] *Shchapov Y. N.* State and Church in Early Russia, $10^{th}$–$13^{th}$ Centuries. New York, 1993; *Гудзяк Б.* Криза і реформа. Львів, 2000.

З польскіх даследаванняў па гісторыі праваслаўнай царквы варта адзначыць сінтэтычную працу К. Хадыніцкага[1], а таксама кампілятыўныя публікацыі М. Лапінскага, работы іншых аўтараў[2]. Гісторыяй праваслаўя ў Падляшшы займаецца беластоцкі даследчык А. Мірановіч[3]. Традыцыйна польскія і літоўскія гісторыкі дэталёва распрацоўваюць гісторыю хрысціянізацыі Літвы. Пры розных палітычных ацэнках яны пагаджаюцца з тым, што гэтая акцыя ўцягвала Літву ў еўрапейскую супольнасць, а ў дачыненні да зямель Русі ў складзе ВКЛ вяла да росту канфесійных і сацыяльнай напружанасці[4].

Польскія гісторыкі першымі акцэнтавалі ўвагу на талерантнай палітыцы польскіх каралёў і вялікіх князёў літоўскіх на землях Беларусі і Літвы, карпатліва даследавалі юрыдычныя падставы прававога статуса праваслаўнай і каталіцкай цэркваў. Недахоп абагульняльных прац у цэлым выяўляецца ў слабым даследаванні рэальных царкоўна-канфесійных адносін, якія нярэдка прыкметна разыходзіліся з дзяржаўным заканадаўствам.

З усіх хрысціянскіх канфесій на землях ВКЛ параўнальна лепш даследавана гісторыя каталіцкай царквы, перш за ўсё ў арэале Віленскага біскупства, якое з канца XIV ст. ахоплівала амаль усю сучасную тэрыторыю Беларусі. Пасля прац І. Курчэўскага[5] новыя значныя работы ў гэтай сферы, заснаваныя на вялікім комплексе дакументальных крыніц Віленскага епіскапства і капітула, напісаны познаньскім прафесарам Е. Ахманскім[6]. У іх ахарактарызаваны сацыяльна-эканамічная дзейнасць, зямельныя ўладанні і ўстановы віленскага біскупства, картаграфічна і храналагічна акрэслены этапы тэрытарыяльнай экспансіі каталіцкай царквы на землях Беларусі і Літвы, тлумачыцца канфесійная палітыка вярхоўнай улады і літоўскай знаці.

Павярхоўна вывучана гісторыя першых манаскіх ордэнаў у Беларусі. Выключэнне складае гісторыя Ордэна езуітаў, якой часткова прысвечаны некалькі грунтоўных прац ксяндзоў С. Заленскага, Л. Пехніка, С. Абірака, даследаванне дацэнта Гродзенскага універсітэта Т. Бліновай.

[1] *Chodynicki K.* Kościół prawosławny a Przeczpospolita Polska: Zarys historyczny. 1370–1632. Warszawa, 1934.

[2] *Лапінскі А.* Праваслаўе ў Вялікім княстве Літоўскім з часоў панаваньня Ўладыслава Ягайлы. Нью-Ёрк, 1978; *Ён жа.* Zygmunt Stary a Kościół prawosławny. Warszawa, 1937; *Лотоцький О.* Автокефалія. Т. 1: Засада автокефалі . Ки в, 1999 (1-е выд. – Прага, 1935); *Ён жа.* Соборні крилоси на Укра ні й Білій Руси в XV–XVI вв. // Записки Наукового товариства ім. Шевченка. Т. 9. Львів, 1896; Славяне и их соседи. Вып. 3. Католицизм и православие в средние века. М., 1991; *Флоря Б.Н.* Отношения государства и Церкви у восточных и западных славян (эпоха средневековья). М., 1992.

[3] *Mironowicz A.* Podlaskie ośrodki i organizacje prawosławne w XVII i XVII wieku. Białystok, 1991.

[4] *Wojtkowiak Z.* Chrystianizacja Litwy w historiografii polskiej ostatnego czterdziestolecia // Chrystianizącja Litwy. Kraków, 1987. S. 321–335; *Kosman M.* Od chrztu do chrystianizacji: Polska–Ruś–Litwa. Warszawa, 1992; Polska i Litwa w dziejowym stosunku. Kraków, 1914.

[5] *Kurczewski J.* Biskupstwo Wileńskie. Wilno, 1912; *Ён жа.* Kościyl zamkowy czyli katedra wileńska w jej dziejowym, liturgicznym, architektonicznym i ekonomicznym rozwoju. T. 1. Wilno, 1908.

[6] *Ochmański J.* Biskupstwo Wileńskie w średniowieczu: Ustrój i uposażenie. Poznań, 1972; *Ён жа.* Powstanie i rozwój latyfundium biskupstwa wileńskiego. 1387–1550. Poznań, 1963.

Для свайго часу небескарыснымі (пры ўсёй ідэалагічнай тэндэнцыйнасці) былі працы прафесара той жа ўстановы Я. Мараша[1].

Эвалюцыю хрысціянскіх цэркваў на адпаведнай тэрыторыі вывучаюць супрацоўнікі Інстытута Цэнтральна-Усходняй Еўропы ў Любліне пад кіраўніцтвам прафесара Е. Клачоўскага. Гістарыяграфічныя аспекты царкоўнай праблематыкі асвятляюцца ў заходнебеларускім Цэнтры гістарычных даследаванняў, які ўзначальвае прафесар Д. Караў[2].

Рэфармацыйная царква, якая была заснавана ў Беларусі у сярэдзіне XVI ст., у сукупнасці ўсіх яе напрамкаў даследавалася галоўным чынам у XX ст. Грамадска-палітычныя і філасофскія погляды вядучых прадстаўнікоў рэфармацыйнага руху ў Беларусі другой паловы XVI – пачатку XVII ст. характарызуюцца ў працы С. Падокшына[3], гістарычныя, канфесійныя, сацыяльныя, культуралагічныя аспекты асвятляюцца ў публікацыях І. Саверчанкі, Л. Івановай, Я. Парэцкага, М. Дзмітрыева, іншых беларускіх і рускіх даследчыкаў. Літоўскай і беларускай праблематыкай рэфармацыйных рухаў XVI ст. займаецца галоўным чынам М. Косман[4], асобныя змястоўныя публікацыі сістэматычна з'яўляюцца ў прэстыжным навуковым выданні "Reformacja w Polsce". Фундаментальнае даследаванне па гісторыі Рэфармацыі ў Літве падрыхтавала габілітаваны доктар гістарычных навук Літоўскай рэспублікі І. Лукшайтэ[5]. Галоўныя архіўныя матэрыялы Віленскага кальвінісцкага сінода загінулі ў 1611 г., таму вывучэнне асноўнага рэфармацыйнага руху ў Беларусі XVI ст. адбываецца з вялікімі цяжкасцямі. Спрэчнымі застаюцца пытанні аб перадумовах Рэфармацыі ў Беларусі XVI ст., яе сацыяльных уплывах па-за межамі шляхецкага стану, секулярызацыя царкоўных уладанняў, канкрэтныя гісторыя асобных беларускіх збораў.

Першыя спробы абагульняльнага, хоць і прадузятага, асвятлення гісторыі царкоўна-рэлігійнай уніі на землях Беларусі, Літвы, Украіны зроблены ў канцы XVIII–XIX ст. у працах Бантыш-Каменскага, Каяловіча, познаньскага царкоўнага гісторыка Э. Лікоўскага. Гісторыя уніі ў рэальнасці і ў гістарыяграфіі была заўсёды моцна сплецена з палітычнымі і царкоўнымі тэндэнцыямі, што яскрава адбілася ў большасці навуковых і папулярных прац. У 20–30-х гг. XX ст. гісторыяй уніі , у тым ліку розных праўніяцкіх плыняў вярхоўнай улады ВКЛ з часоў Ягайлы і Вітаўта, амаль выключна займаліся польскія гісторыкі К. Хадыніцкі, А. Прахазка, Я. Фіялэк, пазней – цэнтр базыльянскіх даследаванняў у Рыме. Шырокую панараму гісторыі уніі ад Фларэнтыйскага да Берасцей-

[1] *Załęski J.S.* Jezuici w Polsce. Lwów, 1908; *Obirek S.* Jezuici w Rzeczypospolitej Obojga Narodów w latach 1564–1668. Kraków, 1996; *Блинова Т.Б.* Иезуиты в Белоруссии. Мн., 1990; *Мараш Я.* Ватикан и католическая церковь в Белоруссии. Мн., 1971 і іншыя працы.

[2] Chrześcijaństwo Rusi Kijowskiej, Białorusi, Ukrainy i Rosji (X–XVII wiek) / Red. J. Kłoczowski. Kraków, 1997; Chrześcijaństwo w Polsce: Zarys przemian 966–1979 / Praca zepolowa pod red. J. Kłoczowskiego. Lublin, 1992; Наш радавод. Кн. 4. Ч. 1–3. Гродна, 1922.

[3] *Подокшин С.* Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (вторая половина XVI – начало XVII в.). Мн., 1979; *Дмитриев М.В.* Православие и Реформация: реформационные движения в восточнославянских землях Речи Посполитой во 2-й пол. XVI в. М., 1990.

[4] *Kosman M.* Reformacja i kontrreformacja w Wielkim Księstwie Litewskim w świetle propagandy wyznaniowej. Wrocław i in. 1973.

[5] *Luk* aitė I. Reformacija Lietuvos Did iojoje Kunigaik tystėje ir Ma ojoje Lietuvoje. Vilnius, 1999.

скага сабора і яе лёсу ва ўсходнеславянскім асяроддзі ВКЛ і Польшчы адлюстраваў О. Галецкі, аўтар грунтоўнай працы па гісторыі пратэстанцкай уніі ў Рэчы Паспалітай 1570 г.[1]

Цікавасць да гісторыі уніяцтва зноў узрасла ў 90-х гг XX ст. у сувязі з 400-гадовым юбілеем Берасцейскага сабора 1596 г. і адраджэннем уніяцкай царквы ва Украіне, часткова і ў Беларусі. За апошняе дзесяцігоддзе выйшла нямала аўтарскіх публікацый, зборнікаў, матэрыялаў навуковых канферэнцый, прысвечаных розным сферам канфесійнай, грамадска-палітычнай, асветніцкай дзейнасці уніятаў, непасрэдна Берасцейскай уніі. Новыя працы па гісторыі уніяцкай царквы ў Беларусі і Украіне ўлічаны ў манаграфіях Гудзяка і дацэнта Гродзенскага універсітэта С. Марозавай[2]. На супярэчлівыя высновы дыскусій па гісторыі уніі ўплываюць канфесійныя і палітычныя погляды іх удзельнікаў, традыцыі вельмі размежаванай старой гістарыяграфіі. Важнымі дыскусійнымі пытаннямі гэтай тэматыкі застаюцца перадумовы Берасцейскай уніі, уплыў палітычных і царкоўных тэндэнцый на дзейнасць уніяцай царквы, адносіны каталіцкай іерархіі, кіруючых колаў Рэчы Паспалітай, розных пластоў беларускага насельніцтва да уніятаў.

У апошнія дзесяцігоддзі пашырыліся даследаванні па гісторыі нехрысціянскіх цэркваў, канфесій у Беларусі, з'явіліся сур'ёзныя публікацыі прафесійных гісторыкаў па гісторыі татарскай абшчыны і мусульманства – І. Собчака, П. Бараўскага, С. Думіна, І. Канапацкага і інш.[3]

Сярод абагульняльных работ па гісторыі яўрэяў і іудаізму ў ВКЛ акрамя застарэлых прац С. Бершадскага пэўнай увагі заслугоўваюць даследаванні замежных гісторыкаў С. Барона, А. Цыгельмана[4]. Прававыя аспекты становішча яўрэйскіх абшчын у Беларусі і Літве закранаюцца ў публікацыях некаторых беларускіх і літоўскіх даследчыкаў.

**Этнічная гісторыя.** Этнічная гісторыя Беларусі – адна з тых нешматлікіх сфер гістарычных даследаванняў, якая ўзнікла пераважна ў канцы XIX–XX ст. і распрацавана галоўным чынам беларускімі этнографамі. Вялікі матэрыял, сабраны ў гэты час руплівымі даследчыкамі народнай духоўнай і матэрыяльнай спадчыны (П. Шэйнам, М. Доўнар-Запольскім, М. Нікіфароўскім, пазней В. Бандарчыкам, М. Грынблатам, Л. Малчанавай, М. Чаквіным, П. Церашковічам, М. Піліпенкам і інш.), польскімі і сучаснымі рускімі аўтарамі (М. Федароўскім, М. Талстым

---

[1] *Halecki O.* From Florence to Brest. Archon Books, 1958; *Ён жа.* Zgoda Sandomierska 1570 r.: jej geneza i znaczenie w dziejach Reformacji polskiej za Zygmunta-Augusta. Warszawa, 1915.

[2] *Марозава С.В.* Уніяцкая царква ў этнакультурным развіцці Беларусі (1596–1839 гады). Гродна, 2001; *Падокшын С.А.* Унія, дзяржаўнасць, культура (Філасофска-гістарычны аналіз). Мн., 1998; З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400-годдзя Брэсцкай уніі). Мн., 1996.

[3] *Borawski P.* Tatarskie chorągwie plemienne w armii Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVI i pierwszej połowie XVII w. // ABS. XV. 1983; *Ён жа.* Tatarzy w dawnej Rzeczypospolitej. Warszawa, 1986; *Sobczak J.* Położenie prawnie ludności tatarskiej w Wielkim Księstwie Litewskim. Warszawa; Poznań, 1984; *Tyszkiewicz J.* Tatarzy na Litwie i w Polsce. Studia z dziejów XIII–XVIII w. Warszawa, 1989; *Думін С.У., Канапацкі І.Б.* Беларускія татары: мінулае і сучаснасць. Мн., 1993.

[4] *Бершадский С.В.* Литовские евреи (1388–1569). СПб., 1883; *Cygielman A.* Jewish Autonomy in Poland and Lithuania until 1648. Jerusalem, 1997; A Social and Religionis History of the Jews by Salo Wittmayer Baron. Vol. XVI: Poland–Lithuania 1500–1650. New York; London, 1976.

і інш.). Іх даследаванні даюць падставы для навуковых абагульненняў шырокага тэматычнага профілю[1]. На жаль, сучасная гістарыяграфія дадзенай праблематыкі ў значнай ступені абмежавана эмпірычнымі распрацоўкамі і адпаведнымі публікацыямі. Дзве асноўныя праблемы – зараджэнне беларускага этнасу і фарміраванне "беларускай народнасці" (што традыцыйна фіксуецца большасцю навукоўцаў у межах XIV–XVI ст.) – у многім застаюцца спрэчнымі.

Праблемнай з'яўляецца таксама гісторыя Кіеўскай Русі ў этнаканфесійным кантэксце, асабліва фарміраванне новай этнасацыяльнай супольнасці – "старажытнарускай народнасці" (у тэрміналогіі савецкай і часткова сучаснай рускай і ўкраінскай гістарыяграфіі) або "ўсходнеславянскай", як прапануе беларускі даследчык М. Піліпенка[2]. Новую дыскусійную кнігу – "Древнерусская народность" (М., 1999) – на падставе археалагічных матэрыялаў і пісьмовых крыніц выдаў адзін з заснавальнікаў тэорыі балцка-славянскага сінтэзу (балцкага субстрату) маскоўскі археолаг В. Сядоў.

Бяздоказнасць і няведанне крыніц характэрны для значнай часткі навуковых і навукова-папулярных публікацый, дзе асвятляецца паходжанне і выкарыстанне тэрміна "Белая Русь" насельніцтвам Беларусі[3], яго этнічная саманазва (эндаэтнонім) – крывічы, літвіны, беларусцы, русіны. Тое, у чым лёгка разбіралася тагачаснае насельніцтва Беларусі, не гаворачы ўжо пра выдатных дзеячаў культуры – Францыска Скарыну, Васіля Цяпінскага і іншых, нечакана стала праблемай для сучасных даследчыкаў.

Багатая літаратура па этнічнай гісторыі і народнай культуры беларусаў вычарпальна асветлена ў найноўшым шматтомным выданні Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі – "Беларусы", а асноўныя праблемы, дасягненні і нявырашаныя пытанні часткова прадстаўлены ў калектыўнай працы: "Этнаграфія беларусаў: гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя" (Мн., 1985) і энцыклапедыі "Этнаграфія Беларусі" (Мн., 1989).

**Культура.** Дасягненні беларускіх даследчыкаў у вывучэнні матэрыяльнай і духоўнай культуры Беларусі XIII–XV і асабліва XVI ст. відавочныя[4]. Раннія этапы, як і перыядызацыя культурна-гістарычнага працэсу да канца XV–XVI ст., па комплексных крытэрыях практычна не паддаюцца вырашэнню, галоўным чынам з-за недахопу пісьмовых і наратыўных крыніц. Варта ўлічваць таксама запозненае развіццё ў Беларусі сярэднявечнай археалогіі па помніках XIII–XVI ст., што, тым не менш, дало ўжо багатыя матэрыяльныя здабыткі. У абагульняльнай працы гіс-

---

[1] Беларусы: Гісторыя этналагічнага вывучэння. Кн. 3. Мн., 1999; Беларусы: Вытокі і этнічнае развіццё. Кн. 4. Мн., 2001.

[2] *Пилипенко М.Ф.* Возникновение Белоруссии: Новая концепция. Мн., 1991.

[3] Рэдкае выключэнне: *Белы А.* Хроніка Белай Русі. Мн., 2000.

[4] Гістарыяграфія па праблемах культуры надзвычай шырокая. Гл.: Літаратура і мастацтва Беларусі. Энцыклапедыя: У 7 т. (Мн., 1984–1987), а таксама энцыклапедычныя даведнікі: Беларуская мова (Мн., 1994), Францыск Скарына і яго час. (Мн., 1988), зборнікі «Беларуская народная творчасць» (Мн.; 1970. Т. 1), Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі (Мн., 1984–1988. Т. 1–7), зборнікі Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Скарыны "Беларусіка-Albaruthenica" (Мн., 1993–2000. Кн. 1–15), Беларускага фонду культуры "Вяртанне", часопіс "Мастацтва" і інш.; Археалогія Беларусі. Т. 4. Мн., 2002.

торыя культуры Беларусі XIII–XVI ст. асвятляецца ў яе сувязях з развіццём культурна-гістарычных працэсаў у ВКЛ, асаблівасцямі фарміравання беларускай народнасці і статусам беларускай мовы[1].

Публікацыі па гісторыі культуры Беларусі – найбольш шматлікія з усіх гістарычных даследаванняў Сярэднявечча і пераходнага перыяду да Новага часу (пачынаючы з XVI ст.). Аднак розныя сферы і напрамкі гісторыі духоўнай культуры Беларусі вельмі дыферэнцыраваны па колькасці і навуковым узроўні даследаванняў. Прыкметныя поспехі дасягнуты ў вывучэнні старажытнай беларускай мовы, літаратуры, пісьменнасці, традыцыйнай народнай культуры, мастацкай спадчыны (пластыка, іканапіс, графіка, значна слабей – прыкладное артыстычнае рамяство, скульптура)[2]. Сярод сінтэтычных сфер беларускай культуры найлепей прадстаўлены даследаванні па гісторыі народнай і манументальнай царкоўнай, палацава-замкавай архітэктуры і дойлідства. Гэтыя працы пераважна наватарскія па сваёй сутнасці, бо апіраюцца не столькі на папярэднія даследаванні, колькі на вывучэнне канкрэтных захаваных помнікаў.

Агляд навуковай літаратуры і архіўных матэрыялаў (пераважна інвентароў прыватных і гаспадарскіх уладанняў) прадстаўлены ў каштоўным даведніку Ю. Якімовіча[3].

Зруйнаваныя помнікі манументальнага дойлідства Беларусі па архіўных і літаратурных крыніцах, старажытных графічных матэрыялах і больш позніх навуковых абследаваннях часткова ўзноўлены ва унікальнай калектыўнай манаграфіі беларускіх даследчыкаў[4]. Даследаваннем абарончых замкаў, палацавага і культавага дойлідства плённа займаліся М. Шчакаціхін, М. Ткачоў, А. Трусаў, А. Кушнярэвіч, народным дойлідствам – Ю. Якімовіч, Л. Малчанава і іншыя навукоўцы[5]. Асновы вывучэння мастацкага стылю барока ў дойлідстве, жывапісе, графіцы канца XVI–XVII ст. закладзены ў працах Т. Габрусь[6]. Неаднаразова выдаваўся багата ілюстраваны падручнік па гісторыі архітэктуры Беларусі, заснаваны на навуковай літаратуры і ўласных, у тым ліку палявых, працах У. Чантурыя (3-е выд. Т. 1, 1985).

Назапашаныя матэрыялы і навуковыя працы далі магчымасць беларускаму даследчыку А. Лакотку вызначыць істотныя нацыянальныя

---

[1] *Лыч Л., Навіцкі У.* Гісторыя культуры Беларусі. Мн., 1996. С. 18–48.

[2] *Чамярыцкі В.А.* Беларускія летапісы як помнікі літаратуры: узнікненне і літаратурная гісторыя першых зводаў. Мн., 1989; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977; *Жураўскі А.І.* Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967; *Нікалаеў М.* “Палата” кнігапісная: Рукапісная кніга на Беларусі ў X–XVIII стагоддзях. Мн., 1993; *Левшун Л.В.* Очерки истории восточнославянской средневековой книжности: Эволюция творческих методов. Мн., 2001; *Малчанава Л.А.* Матэрыяльная культура беларусаў. Мн., 1968; *Кацар М.С.* Выяўленчае мастацтва Беларусі дакастрычніцкага перыяду. Мн., 1969; *Ён жа.* Народна-прыкладное мастацтва Беларусі (ад першабытнага грамадства да 1917 г.). Мн., 1972; *Яніцкая М.М.* Беларускае мастацкае шкло (XVI–XVIII стст.). Мн., 1977. Гл. таксама калектыўныя манаграфіі: Промыслы і рамёствы Беларусі. Мн., 1984; *Кахапоўскі Г.А., Малаш Л.А., Цвірка К.А.* Беларуская фалькларыстыка (эпоха феадалізму). Мн., 1989.

[3] *Якимович Ю.* Зодчество Белоруссии XVI – середины XVII в. Мн., 1991.

[4] Страчаная спадчына / Т. Габрусь [і інш.]. Мн., 1998.

[5] *Шчакаціхін М.* Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Т. 1. Мн., 1928; *Ткачоў М.* Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII–XVIII ст. Мн., 1978; *Трусов О.А.* Памятники монументального зодчества Белоруссии XI–XVII вв. Мн., 1988; *Кушнярэвіч А.М.* Культавае дойлідства Беларусі XIII–XVI стст. Мн., 1993 і іншыя працы.

[6] *Габрусь Т.В.* Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура беларускага барока. Мн., 2001.

рысы беларускай архітэктуры[1]. Прафесійныя навуковыя публікацыі прысвечаны таксама іншым сферам культуры: кнігадрукаванню і кніжнай пісьменнасці, выяўленчаму мастацтву, музычнаму майстэрству, летапісанню і розным літаратурным жанрам, артыстычнаму рамяству, ткацтву, кераміцы і інш.[2] Гісторыкі філасофіі шмат увагі ўдзялілі даследаванню матэрыялістычных, гуманістычных, асветніцкіх тэндэнцый у духоўнай культуры Беларусі. Гісторыкі права пераважна займаліся такімі выдатнымі помнікамі нацыянальна-дзяржаўнай, еўрапейскай і сусветнай прававой культуры, якімі з'яўляюцца Статуты ВКЛ 1529, 1566 і 1588 гг.[3] Недастаткова даследаваны ў найноўшай беларускай і замежнай гістарыяграфіі сістэмы царкоўнай і свецкай адукацыі[4], культурныя сувязі паміж народамі ВКЛ, а таксама з суседнімі краінамі, роля праваслаўнай і каталіцкай цэркваў у культурна-гістарычным працэсе, ментальнасць, гістарычная і этнічная свядомасць беларусаў у цэлым і асобных пластоў і груп у прыватнасці.

Асноўныя навуковыя дыскусіі ў культуралагічнай сферы гуманітарна-гістарычных даследаванняў сканцэнтраваны вакол праблем вызначэння цывілізацыйнай арыентацыі культуры Беларусі XIII– XVI ст. (без пэўнай дыферэнцыяцыі народнай і нетрадыцыйнай культуры даследчыкі нярэдка прыходзяць да супрацьлеглых высноў) у кантэксце вядомай дылемы Усход – Захад; характарыстыкі духоўнай культуры эпохі Адраджэння ў Беларусі; выяўлення этнічна своеасаблівых і тыпалагічных рыс у помніках культурнай спадчыны. У беларускай гістарычнай культуралогіі асабліва адчувальны недахоп абагульняльных прац па культурна-гістарычных працэсах XIII–XVI ст., нават па найбольш бліскучым перыядзе (эпоха Адраджэння ў Беларусі) няма ніводнай комплекснай і цэласнай манаграфіі. Асобныя працы па гісторыі эстэтычнай, філасофскай ці гуманістычнай думкі ў Беларусі далёка не вычэрпваюць гэтай праблематыкі.

Сціслы агляд асноўных, пераважна абагульняльных, прац па гісторыі Беларусі і асобных яе сферах сведчыць пра значныя дыспрапорцыі ў развіцці айчыннай і замежнай гістарыяграфіі. Гісторыкі Беларусі, нягледзячы на слабае развіццё манаграфічных даследаванняў, найбольш спрычыніліся да распрацоўкі асобных праблем, у першую чаргу ў сферах культурнай, моўнай, этнічнай і сацыяльна-эканамічнай гісторыі. Развіц-

---

[1] *Лакотка А.І.* Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры. Мн., 1999. Гл. таксама: Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 1–6. Мн., 1987–1994.

[2] *Мілючэнка С.А.* Беларускае народнае ганчарства. Мн., 1984; *Церашчатава В.В.* Старажытнабеларускі манументальны жывапіс XI–XVIII стст. Мн., 1986; *Назина И.Д.* Белорусские народные музыкальные инструменты. Мн., 1979; Гісторыя беларускага тэатра. Т. 1. Мн., 1983; *Костюковец Л.Ф.* Кантовая культура в Белоруссии. Мн., 1975; Іканапіс Беларусі XV–XVIII стагоддзяў / аўтар тэксту і склад. альбома Н.Ф. Высоцкая. Мн., 1992 і іншыя працы.

[3] Нарысы гісторыі філасофскай і сацыялагічнай думкі Беларусі (да 1917). Мн., 1973; *Падокшын С.А.* Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі. Мн., 1990; *Пичета В.И.* Белоруссия и Литва XV–XVI вв. С. 283–524; *Юхо И.А.* Правовое положение населения Белоруссии в XVI в. Мн., 1978; *Сокол С.Ф.* Политическая и правовая мысль в Белоруссии в XVI – первой половины XVII в. Мн., 1984; *Bardach J.* O dawnej i niedawnej Litwie. Poznań, 1988.

[4] Дагэтуль асноўнай працай застаецца: *Харлампович К.* Западнорусские православные школы XVI – начала XVII века, отношение их к инославным, религиозное обучение в них и заслуги в деле защиты православной веры и церкви. Казань, 1898.

цё дзяржаўна-прававых інстытутаў ВКЛ, сацыяльна-палітычныя рухі, знешнепалітычныя і царкоўна-канфесійныя адносіны Беларусі з Расіяй – каронныя тэмы рускай гістарыяграфіі канца XIX–XX ст. У шырокім кантэксце гісторыі ВКЛ XIII–XVI ст. і Рэчы Паспалітай апошняй трэці XVI ст. найбольш відавочнымі дасягненнямі і інтэгральнымі працамі адзначана польская гістарыяграфія. Прыкметны рост прафесійнага ўзроўню ў 20–30-я гг. і апошнія дзесяцігоддзі мінулага стагоддзя прадэманстравалі многія працы літоўскіх даследчыкаў. Асноўным недахопам замежнай, асабліва польскай і літоўскай, гістарыяграфіі можна лічыць яе пераважную, нярэдка нават выключную замкнёнасць у сваёй нацыянальнай гісторыі (у вузкім яе разуменні), што не адпавядае гістарычнай рэчаіснасці і часткова з'яўляецца рэліктам старой дагматычнай гістарыяграфіі і водгукам палітычных абставін. Развіццю беларускай медыявістычнай гістарыяграфіі перашкаджае адсутнасць моцных гістарыяграфічных традыцый, нераспрацаванасць шмат якіх сфер і напрамкаў айчыннай гісторыі (ад знешняй і ўнутранай палітыкі да праблем дзяржаўнасці і царкоўна-канфесійных адносін), распаўсюджанасць спрошчаных гістарычных стэрэатыпаў і міфалагем у значнай частцы навуковай і папулярнай літаратуры, вучэбных падручнікаў і дапаможнікаў.

## Крыніцы

У сукупнасці гістарычных крыніц па гісторыі Беларусі, якія даследчыкі дзеляць па розных, нярэдка супярэчлівых прынцыпах (паводле зместу, функцый, паходжання і інш.), перыяд XIII–XVI ст. мае сваю спецыфіку[1]. Перш за ўсё трэба адзначыць, што ў адпаведнасці з тагачасным станам грамадства ва ўсіх яго вымярэннях гэтая сукупнасць вызначаецца адносна простай родава-відавой структурай, у якой адсутнічаюць некаторыя буйныя звёны (напрыклад, пераважная большасць статыстычных і масавых крыніц, характэрных для больш позніх эпох), а іншыя віды крыніц нярэдка менш інфарматыўныя. У той жа час некаторыя віды крыніц у класічных сваіх формах характэрны менавіта для гэтага перыяду (напрыклад, летапісы, земскія прывілеі), хоць таксама вылучаюцца сваёй спецыфікай.

---

[1] Цэласных навуковых прац па крыніцазнаўстве Беларусі XIII–XVI ст. пакуль што не створана. Пераважаюць агляды археаграфічных публікацый, архіўных фондаў і помнікаў або крыніц па асобных відах. Некаторыя расійскія і савецкія публікацыі, змешчаныя ў археаграфічных зборніках з 1824 па 1940 г., асветлены ў манаграфіі М.М. Улашчыка "Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода" (М., 1973) і яго "Введении в изучение белорусско-литовского летописания" (М., 1985). Гл. таксама: *Леонтович Ф.И.* Источники русско-литовского права. Варшава, 1894; *Пашуто В.Т.* Образование Литовского государства. С. 9–161 (крыніцы); *Пичета В.И.* Белоруссия и Литва XV–XVI вв. С. 503–524, 731–788 і інш.; *Копысский З.Ю.* Источниковедение аграрной истории Белорусии. Мн., 1978; *Kosman M.* Średniowieczna dyplomatyka litewska – stan i potrzeby badawcze // ZN. 1967. N. 7; *Jablonskis K.* Istorija ir jos šaltiniai. Vilnius, 1979; *Ковальский Н.П.* Источниковедение истории Украины XVI – первой половины XVII в. Ч. 1–7. Днепропетровск, 1977–1983; *Ivinskis Z.* Lietuvos istorijos šaltiniai. Klajpeda, 1995; Гістарычныя крыніцы: праблемы класіфікацыі, вывучэння і выкладання. Мн., 1998; *Тихомиров М.Н.* Источниковедение истории СССР. Ч. 1. М., 1962. *Юхо І.А.* Крыніцы беларуска-літоўскага права. Мн., 1991; *Ходзін С.М.* Крыніцы гісторыі Беларусі (гісторыка-генетычнае і кампаратыўнае вывучэнне). Мн., 1999; *Давыдова Э.Н., Рыбаков А.Е.* История и организация делопроизводства в Беларуси. Мн., 1999; *Грицкевич В.П., Каун С.Б., Ходин С.Н.* Теория и история источниковедения. Мн., 2000.

Другая асаблівасць пісьмовых гістарычных крыніц XIII–XVI ст. – у іх колькаснай і якаснай эвалюцыі. Выразная беднасць дакументальных і апавядальных (наратыўных) крыніц XIII–XIV ст., калі ўсе сферы свецкай, у тым ліку публічнай грамадска-палітычнай, дзейнасці развіваліся ў значнай ступені па-за межамі пісьменнасці, змяняецца павольным іх нарастаннем і тыпалагічна-відавым пашырэннем у XV і галоўным чынам у XVI ст. Нямногія з тых рэдкіх помнікаў старажытнай пісьменнасці дайшлі да нашых часоў, што дадаткова ўскладняе вырашэнне розных тэм даследавання.

Нарэшце, трэба адзначыць, што шэраг пісьмовых помнікаў (агульназемскія прывілеі, Статуты ВКЛ, большасць кніг Метрыкі і інш.) звязаны з гісторыяй усёй дзяржавы ці яе рэгіёнаў, якія выходзяць за межы этнаграфічных беларускіх, украінскіх, літоўскіх зямель. Дзіўна было б надаваць гэтым помнікам выключны этнатэрытарыяльны характар.

Глыбіня і доказнасць прац па старажытнай і сярэднявечнай гісторыі Беларусі прапарцыянальна стану захаваных крыніц, іх рэпрэзентатыўнасці, прафесіяналізму гісторыкаў. Пісьмовыя помнікі (разам з помнікамі матэрыяльнай і традыцыйнай народнай культуры) застаюцца найважнейшай крыніцай гістарычнай эўрыстыкі і ў значнай ступені вызначаюць навуковы ўзровень і навізну даследаванняў.

Большасць раздзелаў кнігі (акрамя выкарыстаных гістарычных прац) заснавана на разнастайных дакументальных і адносна рэдкіх наратыўных крыніцах.

**Дакументальныя крыніцы.** Па дакладнасці, распаўсюджанасці, грамадскай значнасці ў Беларусі XIII–XVI ст. і наяўнасці ў сучасных архівах першае месца правамерна належыць дакументальным крыніцам (актам, заканадаўчым дакументам, матэрыялам бягучага справаводства).

У публічна-прававых актах і граматах, якія ўзніклі ў сферы сацыяльна-эканамічных і сацыяльна-палітычных адносін Беларусі, зацвярджалася права на ўласнасць, улада феадалаў над непасрэднымі вытворцамі, вызначаліся аб'ём і формы імунітэту, павіннасцей сялянства, становішча гарадскога насельніцтва. Яны асвятляюць працэс фарміравання буйнога феадальнага землеўладання у XV–XVI ст., развіццё гаспадаркі, саслоўнай структуры, сацыяльную палітыку вярхоўнай улады. Акрамя таго, дакументы ўрадавага паходжання надавалі князям і набілітэту розныя пасады, дзяржанні, права на збор гандлёвых і мытных пошлін, уладкаванне гарадоў, мястэчак, кірмашоў, корчмаў[1], уключалі судовыя дэкрэты, "лісты" і "уставы" (дырэктыўныя настаўленні) вялікакняскай адміністрацыі, органам гарадскога самакіравання, гаспадарскім мяшчанам, сялянам і інш. Прыватныя акты звычайна не выходзілі за кола непасрэдных патрэб землеўласнікаў і рэгулявалі маёмасныя правы сям'і, нашчадкаў, падзелы ці набыццё маёнткаў, фінансавыя здзелкі, даніны цэрквам і г.д.[2]

---

[1] *Хорошкевич А.Л.* Жалованные грамоты Литовской метрики конца XV в. и их классификация // Источниковедческие проблемы истории народов Прибалтики. Рига, 1970.

[2] Прыватныя акты апублікаваны ў большасці серыйных і асобных выданнях, асабліва прысвечаных вядомым феадальным родам: Archiwum domu Radziwiłłów. Kraków, 1885; Archiwum domu Sapiechów. Lwów, 1892; Archiwum książąt Sanguszków w Sławucie..., T. I–VII. Lwów, 1887–1910.

Для гісторыі гаспадарскага землеўладання найбольш важныя гаспадарскія ўставы для заходніх і ўсходніх валасцей ВКЛ 1514, 1529, 1542 гг.[1], «устава» старостам, дзяржаўцам і ўраднікам сярэдзіны XVI ст.[2], «Устава на валокі» 1557 г. і спадарожныя ёй дакументы зацвярджалі прынцыпы аграрнай рэформы, арганізацыі фальваркова-паншчыннай сістэмы ў гаспадарскіх уладаннях[3]. Уставы (Мазырскай, Магілёўскай валасцям 1509, 1536 гг., кіраўнікам падняпроўскіх валасцей 1500 г., мяшчанам і сялянам Чачэрскай воласці 1554 г.) вызначалі памеры падаткаў і павіннасцей насельніцтва, узаемаадносіны з мясцовай уладай.

Першараднае значэнне для вывучэння сацыяльна-палітычнага, эканамічнага і культурнага развіцця беларускіх гарадоў і мястэчак, працэсу фарміравання гарадскога саслоўя маюць лакацыйныя акты (на заснаванне) і прывілеі на магдэбургскае права, самыя старажытныя з якіх адносяцца да канца XIV–XV ст. (Берасце 1390, 1408, 1440, Гародня 1391, 1496, Слуцк 1441, Полацк 1498, Менск, 1499, Наваградак 1511 г. і інш.). Яны ўстанаўлівалі новую, аднатыпную ў сваіх асноўных рысах сістэму гарадскога самакіравання, рэгулявалі грамадска-палітычнае жыццё і сацыяльна-эканамічную дзейнасць гараджан, іх саслоўна-прававое становішча, парадак выбрання магістрата, яго функцыі, дзяржаўныя павіннасці і гарадскія даходы. У іх сустракаюцца звесткі пра гандаль, рамяство, гарадское добраўпарадкаванне і ўстановы (ратушы, «важніцы», «пастрыгальні», «лазні»), канфесійныя ўстановы, юрыдыкі. У XV–XVI ст. падобныя прывілеі атрымалі каля 20 гаспадарскіх і прыватнаўласніцкіх гарадоў і мястэчак Беларусі[4]. Афіцыйныя пячаткі гарадоў і мястэчак ВКЛ з XIV да XVIII ст., у тым ліку Вільні, Барысава, Берасця, Гародні, Друі, Менска, Пінска, Полацка, Жыровіц і іншых, што пацвярджалі іх права самакіравання, дакументаваны і апісаны ў рэпрэзентатыўным выданні літоўскага сфрагіста Э. Рымшы і беларускага А. Цітова[5].

---

[1] Публікацыі: Акты, относящиеся к истории Западной России (далей – АЗР). СПб., 1848. Т. 2, № 86, 159, 195, 199; Архив Юго-Западной России (далей – архив ЮЗР). 1876. Ч. 6. Т. 1. Гл. таксама: *Любавский М.К.* Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. М., 1892, прил. № 23; *Пичета В.И.* Белоруссия и Литва XV–XVI вв. С. 161–163.

[2] Русская историческая библиотека (далей – РИБ). Т. 30. СПб., 1914. С. 599–622; *Бережков Н.* «Устава замков, держав и дворцов» Сигизмунда Августа, предшествовавшая «волочной уставе» // ЖМНП. 1911. № 5.

[3] РИБ. Т. 30. С. 539–591; Памятники, изданные Временною комиссиею для разбора древних актов, высочайше утвержденною при киевском военном, подольском и волынском генерал-губернаторе. Т. 2. Киев. 1846. С. 513–548; *Копысский З.Ю.* Новые документы об аграрном строе Белоруссии XVI – первой половины XVII в. // Сов. славяноведение. 1980. № 1.

[4] *Тарановский Ф. В.* Обзор памятников магдебургского права западнорусских городов литовской эпохи: Ист.- юрид. исследования. Варшава, 1897; *Jaworski J.* Studia nad ustrojem miast na prawie niemieckim w Wielkim Księstwie Litewskim w dobie jagiellońskiej // Wileński Rocznik Prawniczy. T. 5. Wilno, 1932; *Копысский З.Ю.* Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII в. Мн., 1975. С. 21–30; *Грицкевич А.П.* Частновладельческие города Белоруссии в XVI–XVIII вв. Мн., 1975. С. 177–201; *Бохан Ю.М.* Мястэчкі вярхоўяў Віліі і нёманскай Бярэзіны ў XV–XVIII ст. (па археалагічных і пісьмовых крыніцах). Аўтарэф. ... канд. гіст. навук. Мн., 1994; *Jarmolik W.* Rozwój niemieckiego prawa miejskiego na Podlasiu do Unii Lubelskiej 1569 roku // Przegląd Historyczny (далей – PH). 1982. T. 73, zesz. 1–2. S. 23–46 (з картай); *Стрэнкоўскі С.П.* Вольнасці і прывілеі гарадоў заходняй часткі ВКЛ. Мн., 1997; *Янин В.Л.* Новгород и Литва: пограничные ситуации XIII–XV веков. МГУ. 1998.

[5] *Rim a E.* Lietuvos Did iosios Kunigaikštystės miestų antspaudai. Vilnius, 1999; *Цітоў А.* Геральдыка беларускіх местаў (XVI–пачатак XX ст.). Мн., 1998.

Пераважна да сацыяльна-палітычнай сферы належаць акты, якія характарызуюць унутрыпалітычныя адносіны вярхоўнай улады з землямі і княствамі ВКЛ, граматы дзяржаўнага кіравання, прывілеі на дзяржаўныя пасады («вряды» ваявод, намеснікаў, старостаў, гетманаў, канцлераў, маршалкаў, кашталянаў і інш.).

Асобную катэгорыю складаюць афіцыйныя дакументы, якія асвятляюць знешнепалітычныя адносіны[1]. У сувязі з гібеллю архіваў і іншымі драматычнымі падзеямі слаба прадстаўлены ў сучасных зборах акты, што датычаць дыпламатычных і палітычных сувязей XIII–XIV ст. з суседнімі рускімі землямі: Наўгародскай і Пскоўскай рэспублікамі, Цвярскім, Уладзіміра-Суздальскім, Разанскім, Чарнігаўскім княствамі, некалькі шырэй – са Смаленскай зямлёй, што пераходзіла з рук у рукі[2]. "Даканчальныя" і дагаворныя граматы з Маскоўскім княствам і Наўгародскай рэспублікай прааналізаваны ў розных манаграфіях і зборніках[3]. Значную групу новых дакументаў, што характарызуюць палітычныя і сацыяльна-эканамічныя адносіны Полацкага княства з Літвой, Рыгай, Лівонскім ордэнам, выявіла і пракаменцiравала А.Л. Харашкевіч[4]. З сярэдзіны XV ст. асноўным контрагентам на ўсходзе з'яўляецца Вялікае Княства Маскоўскае[5]. Адносна няблага, асабліва з часоў Крэўскай уніі, асветлены адносіны ВКЛ з Польшчай[6] і Ордэнам[7], Ватыканам, Свяшчэннай Рымскай імперыяй, з другой чвэрці XVI ст. — з Прускім герцагствам[8].

---

[1] Частковы агляд публікацый, што ўключаюць дыпламатычныя дакументы: *Улащик Н.Н.* Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. Гл. таксама: Сборник Муханова. М., 1836; АЗР. Т. 1–4; Собрание государственных и частных актов, касающихся истории Литвы и соединенных с ней владений... Ч. 1. Вильно, 1858; Skarbiec dyplomatów papezkich, cesarskich, królewskich... / Zebrał i w treści opisał I. Daniłłowicz. T. 1–2. Wilno, 1860–1862; Acta Tomiciana. T. 1–18. Poznaniae, 1852 –1999; Akta Aleksandra, króla polskiego, wielkiego księcia litewskiego. Cracoviae, 1927; Regesta Lithuaniae ab origine usque ad Magni Ducatus cum Regno Poloniae unionem / Coll. H.Paszkiewicz. T. 1. Varsoviae, 1930 і іншыя працы.

[2] *Черепнин Л.В.* Русские феодальные архивы XIV–XV веков. Ч. 1. М.; Л., 1948; Смоленские грамоты XIII–XIV вв. / Сост. Л.В. Черепнин. М., 1963; Духовные и договорные грамоты великих и удельных князей XIV–XVI вв. М.; Л., 1950; Грамоты Великого Новгорода и Пскова. М.; Л., 1949 і іншыя працы.

[3] Духовные и договорные грамоты великих и удельных князей XIV–XVI вв. / Сост. Л.В. Черепнин; *Кучкин В.А.* Договорные грамоты московских князей XIV века: внешнеполитические договоры. М., 2003.

[4] *Хорошкевич А.Л.* Полоцкие грамоты XIII – начала XVI вв. М., Т. 1–6. 1977–1989.

[5] Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским // Сборник Русского исторического общества (далей – СбРИО). Т. 35 (1487–1533), 59 (1534–1559), 71 (1560–1571), 137 (1598–1608). СПб, 1882, 1887, 1892, 1912.

[6] Агляд асноўных крыніц па гісторыі польска-літоўскі адносін да Крэўскй уніі гл.: *Błaszczyk G.* Dzieje stosunków polsko-litewskich od czasów najdawniejszych do współczesności. T. 1. Poznań, 1998. Гл. таксама: Codex epistolaris Vitoldi Magni ducis Lithuaniae, 1376–1430 / Ed. A. Prochaska. Kraków, 1882; Akta unji Polski z Litwą 1385–1791 / Wyd. S.Kutrzeba, St. Semkowicz. Kraków, 1932 і іншыя працы.

[7] Liv-, Est- und Curländisches Urkundenbuch nebst Regesten / Hrsg. F.G. von Bunge. Bd. 1–11. Revel; Riga, 1853–1905; Kodeks Dyplomatyczny Litwy / Wyd. E. Raczyńskiego. Wrocław, 1845; Codex diplomaticus Prussicus / Ed. J. Voigt. T. 2–6. Königsberg, 1842–1861; Acten der Ständetage Preussens unter der Herrschaft des Deutschen Ordens / Ed M. Toeppen. T. 1–5. Leipzig, 1878–1886; Codex epistolaris saeculi XV. T. 1–3. Cracoviae, 1876–1894, etc.

[8] Vetera Monumenta Poloniae et Lithuaniae / Ed. A. Theiner. T. 1–2. Romae, 1860–1861; Analecta Vaticana. Cracoviae, 1914; Acta Nuntiaturae Poloniae. V. I–III, VI, IX (I). Romae, 1990–1993; Bullarum Polonia. T. I–III. Romae, 1982–1988, etc.

Дыпламатычныя дакументы ВКЛ дазваляюць высветліць некаторыя асаблівасці ўнутранай палітыкі вярхоўнай улады ў Беларусі, прасачыць гісторыю ўключэння ўсходнеславянскіх зямель у яго склад, ваенна-палітычную барацьбу за старажытнарускую палітычную спадчыну. У гэтых матэрыялах ёсць звесткі пра ўдзел беларускіх дзеячаў, паслоў, членаў рады ў знешнепалітычных зносінах, галоўным чынам з Расіяй, радзей – з Польшчай, Ардой, Крымскім ханствам, выпрацоўку знешнепалітычных дактрын. Закранаюцца ў іх і пытанні знешняга і транзітнага гандлю, царкоўна-рэлігійных і культурных сувязей, што датычаць Беларусі і іншых земляў ВКЛ. Зводных публікацый міжнародных актаў і пагадненняў, заключаных ВКЛ, няма. Спроба, зробленая ў свой час М. Догелем, не была даведзена да канца[1]. Асноўныя акты дзяржаўных уній ВКЛ з Польшчай увайшлі ва ўзорнае археаграфічнае выданне С. Кутшэбы і У. Сямковіча[2]. Дыпламатычныя, гандлёвыя сувязі, ваенна-палітычныя сутыкненні і войны ВКЛ з Маскоўскім княствам канца XV–XVI ст. падрабязна прасочаны ў матэрыялах Пасольскага прыказа, справаздачах і запісках паслоў, дагаворных граматах і праектах абодвух бакоў. У адрозненне ад першага, уласна інфлянцкага, этапу комплексна зусім не даследаваны крыніцы па гісторыі вайны на землях Беларусі, у тым ліку полацкі паход Івана IV[3].

Пэўнай спецыфікай вылучаюцца дакументы, якія датычацца дзяржаўна-царкоўных адносін, паколькі царкоўнае права мела сваю юрысдыкцыю, да таго ж розную ў розных цэрквах. Побач з даволі тыповымі актамі вярхоўнай улады ВКЛ і граматамі канстанцінопальскіх патрыярхаў і сабораў, якія санкцыянавалі існаванне, рознабаковую дзейнасць і знешнія сувязі Кіеўскай мітраполіі[4], істотнае значэнне ў кантэксце дзяржаўнай палітыкі і прыватнаўласніцкіх інтарэсаў мелі дакументы аб "фундушах" (заснаванні і жыццёвым забеспячэнні манастыроў, цэркваў, збораў), наданні зямель, "хлябоў духоўных" (пасад і данін), зацвярджэнні царкоўнага кліру і іерархіі.

Асаблівай увагі заслугоўваюць агульнадзяржаўныя прывілеі, якія вызначалі становішча праваслаўнай, каталіцкай, іншых царкоўных арганізацый у ВКЛ і іх прыхільнікаў у XVI ст., – адпаведныя артыкулы Статутаў ВКЛ, соймавыя пастановы, гарантыі элекцыйных манархаў, пастанова Варшаўскай канфедэрацыі 1573 г. Уласна царкоўныя адносіны ў Беларусі рэгуляваліся царкоўнай традыцыяй, дзеючым царкоўным

[1] *Dogiel M.* Codex diplomaticus Regni Poloniae et Magni Ducatus Lithuaniae... T. I, IV, V. Vilnius, 1758–1764.

[2] Acta unji Polski z Litwą... .

[3] Разрозненыя матэрыялы гл.: *Mienicki R.* Egzulanci poloccy (1563–1580) // Ateneum Wileńskie (далей – AW). 1934. № 9; *Королюк В.Д.* Ливонская война. М., 1954; *Буганов В.И.* Документы о Ливонской войне // Археогр. ежегодник, 1960. М., 1962; *Янушкевіч А.М.* Першая Інфлянцкая вайна (1558–1570 гг.) і яе ўплыў на развіццё сацыяльна-палітычных працэсаў у Вялікім княстве Літоўскім. Аўтарэф. ... канд. гіст. навук. Мн., 2002. Публікацыі: *Сапунов А.* Витебская старина. Витебск, 1885. Т. 4. Ч. 1; Сб. РИО. Т. 71; Sprawy wojenne króla Stefana Batorego. Kraków, 1887, etc.

[4] Акты Виленской археографической комиссии (далей – АВАК). Т. 33: Акты, относящиеся к истории западнорусской церкви. Вильно, 1908; Acta patriarchatus Constantinopolitani MCCCXV–MCCCCII... / Ed. F. Miklosich, I. Müller. T. 1. Vindobonae, 1862; РИБ. Т. 6 і іншыя выданні.

і часткова свецкім правам[1]. Рэдакцыі створанага ў царкоўных колах ВКЛ "Свитка Ярослава" і тэксты пацвярджальнай граматы Аляксандра (выданай полацкаму і луцкаму епіскапу Луку на гэты Устаў) апісаны Я. Шчапавым, сіноды Віленскага біскупства ў XVI ст. – І. Савіцкім[2].

Адносна поўна захаваліся канцылярскія кнігі каталіцкай царквы, асабліва Віленскага біскупства, якое ахоплівала амаль усю тэрыторыю Беларусі. У XV–XVI ст. тут панавала заходнееўрапейская сістэма царкоўнага справаводства[3]. Актавыя справаводчыя і іншыя матэрыялы праваслаўнай і пратэстанцкай цэркваў дайшлі фрагментарна[4], зусім мала дакументаў (за выключэннем судовых спраў у кнігах Метрыкі) звязана з духоўнай дзейнасцю нехрысціянскіх абшчын і цэркваў.

Выдадзены і часткова даследаваны рымскія і айчынныя дакументы па гісторыі Берасцейскага уніяцкага сабора 1596 г. і арганізацыі уніяцкай царквы, фарміраванні праваслаўнай свецкай і царкоўнай апазіцыі, у тым ліку акты берасцейскіх сабораў 90-х гг. XVI ст.[5] Амаль поўнасцю адсутнічаюць крыніцы, якія асвятляюць побыт, склад і дзейнасць галоўнага беларускага брацтва ў Вільні ў канцы XVI ст.

Гаспадарскія прывілеі вызначалі таксама сацыяльна-прававы статус некаторых этнічных і этнаканфесійных груп мясцовага насельніцтва: яўрэяў, татар, караімаў[6].

Большасць уцалелых актаў і грамат, што ўзніклі ў сферы сацыяльна-палітычных і сацыяльна-эканамічных адносін у Беларусі ў XIV–XV ст., узноўлены ў серыйных археаграфічных выданнях[7]. Значна меней апублікавана актаў XVI ст. Асноўны збор рукапісных такіх крыніц зберагаецца ў кнігах Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага (Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў (РДАСА), ф. 389, воп. 1)[8].

---

[1] *Щапов Я.Н.* Византийское и южнославянское правовое наследие на Руси в XI–XIII вв. М., 1978; *Ён жа.* Древнерусские княжеские уставы. М., 1976. С. 17, 93 і інш.

[2] *Щапов Я.Н.* Древнерусские княжеские уставы... С. 136–139, 187–193; *Sawicki J.* Consilia Poloniae. ródła i studia krytyczne. Cz. II: Synody diecezji Wileńskiej i ich statuty. Warszawa, 1948.

[3] Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej / Wyd. ks. J. Fijałek, Wł. Semkowicz. T. 1 (1387–1501). Kraków, 1948. Асноўныя дакументальныя зборы Віленскага біскупства захоўваюцца ў рукапісным аддзеле Цэнтральнай бібліятэкі АН у Вільнюсе.

[4] Матэрыялы пратэстанцкіх збораў захоўваюцца галоўным чынам у Цэнтральнай бібліятэцы АН Літвы, Нацыянальнай бібліятэцы Літвы імя Мажвідаса, Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве (AGAD). Асноўныя выданні актаў: Monumenta Reformationis Poloniae et Lithuaniae. Wilno, 1925; Acta synodów różnowierczych w Polsce / Oprac. M. Sipajłło. T. 2 (1560–1570).Warszawa, 1972.

[5] Documenta Unionis Berestensis eiusque auctorum (1590–1600) / Ed. A. Welykyj. Romae, 1970. P. 61–75; *Гудзяк Б.* Криза і реформа: Київська митрополія, Царгородські патріархат і генеза Берестейської унії. Львів, 2000.

[6] АВАК. 1901– 1902. Т. 28–29. Акты о евреях; *Бершадский С.А.* Документы и регесты к истории литовских евреев. Т. 1–2. СПб., 1882; АВАК. 1906. Т. 31. Акты о литовских татарах.

[7] Галоўным чынам: АВАК. 1865–1908. Т. 1–3, 5–7, 9–11, 13–14, 17–18, 24–25, 33; АЗР. Т. 1– 4; Археографический сборник (далей – АС). 1867–1870, 1890. Т. 1–9, 11; Беларускі архіў (далей – БА). 1927–1928. Т. 1–2; Историко-юридические материалы (далей – ИЮМ). 1890–1891. Вып. 20–21.

[8] *Хорошкевич А.Л.* К истории издания и изучения Литовской метрики // ABS. Т. 8. Białystok, 1973; Методические рекомендации по изданию и описанию Литовской метрики / Сост. А.Л. Хорошкевич, С.М. Каштанов. Вильнюс, 1985; *Grimsted P.K.* The "Lithuanian Metrica" in Moscow and Warsaw. Cambridge, Mass., 1984; *Яна ж.* What is and what was the Lithuanian Metrica? // Harvard Ukrainian Studies. September, 1982. Vol. 6. № 3.

Пашырэнне правоў пануючых станаў знайшло таксама адлюстраванне ў агульназемскіх і земскіх прывілеях, кодэксах і зводах права, дакументах вальных сеймаў, якія вызначалі асноўныя рысы грамадска-палітычнага ладу ў Беларусі і ва ўсім ВКЛ. Першыя земскія прывілеі, на думку большасці даследчыкаў, былі выдадзены для ВКЛ у вузкім значэнні гэтага слова Ягайлам 20 лютага 1387 г. у Вільні, Ягайлам і Вітаўтам 2 кастрычніка 1413 г. у Гародлі[1]. Першы агульназемскі прывілей быў падпісаны 6 мая 1434 г. Жыгімонтам Кейстутавічам у Троках, другі – 2 мая 1447 г. Казімірам IV Ягелончыкам у Вільні. З 1492 г. да Люблінскай уніі 1569 г. у Вільні і Гародні (адзін у Бельску) былі зацверджаны яшчэ 10 агульназемскіх прывілеяў[2]. Дзяржаўна-прававое становішча некаторых зямель Беларусі вызначалі асобныя прывілеі, першапачатковыя тэксты якіх не захаваліся. Па гістарыяграфічнай традыцыі іх часта называюць абласнымі (дакладней – земскія). Паводле даследаванняў М. Ясінскага і І. Якубоўскага[3], самыя старажытныя земскія прывілеі атрымалі Полацкая і Віцебская землі ў XIV ст. Вядомы пацвярджальныя граматы гэтым землям, выданыя ў 1503, 1509, 1511, 1547, 1561 гг., а таксама грамата Мсціслаўскаму княству ў 1511 г.[4] Гэткія ж прывілеі мелі некаторыя іншыя землі і княствы ВКЛ: Смаленскае, Кіеўскае, Валынь, Дарагіцкая зямля, Бельскі павет, Жамойць[5].

Развіццё феадальнага грамадства ў другой палове XV – першай трэці XVI ст. выклікала неабходнасць у агульнадзяржаўнай кадыфікацыі права. У 1468 г. быў зацверджаны кароткі збор законаў, вядомы як «Судзебнік Казіміра». Арыгінал яго не знойдзены, захаваліся тры спісы канца XV – пачатку XVI ст., прааналізаваныя І. Старасцінай. Судзебнік Казіміра рэгуляваў галоўным чынам крымінальнае права. Спрэчным з'яўляецца пытанне пра яго тэрытарыяльнае прызначэнне – ВКЛ у вузкім сэнсе або ўся дзяржава.

Кадыфікацыя асноўных нормаў феадальнага права ў агульнадзяржаўным маштабе была ажыццёўлена ў ВКЛ толькі ў XVI ст. Статуты

---

[1] Публікацыі: *Działyński A.T.* Zbiór praw litewskich od roku 1389 do roku 1529. Poznań, 1841. S. 1–2, 14–15; Akta unji Polski z Litwą... S. 64–67; БЭФ. Т. 1. Мн., 1959. С. 101–102.

[2] Усе агульназемскія прывілеі апублікаваны: Codex epistolaris saeculi XV / Ed. A. Lewicki. Kraków, 1894. T. 3, app. № 22 (1434), № 7 (1447); *Działyński A.T.* Zbiór praw litewskich... S. 28–35 (1447/1557); 58–66 (1492); АЗР. Т. 1. № 61 (1457); Codex diplomaticus Poloniae... Varsoviae, 1847. T. 1. P. 333– 337 (1447), 345–352 (1492); Archiwum Komisyi Prawniczej. Kraków, 1901. T. 7. C. 261–300 ( 1529, 1547, 1551, 1563); АЗР. Т. 3, № 32 (1563), № 38 (1565); *Любавский М.К.* Очерк истории Литовско-Русского государства...1915. Прилож. С. 323– 365; *Ён жа.* Литовско-русский сейм. М., 1900, прил. № 48 (1564); Архив ЮЗР. Т. 1, прил. с. 158– 164 (1568); Lietuvos Metrica. Kn. № 25 (1387–1546). Užrašymų Kn. 25 / Par. D. Antanavičius ir A. Baliulis. Vilnius, 1998. № 2.1–2.6, 3.

[3] *Ясинский М.* Уставные земские грамоты Литовско-Русского государства. Киев, 1889; *Якубовский И.* Земские привилеи Великого княжества Литовского // ЖМНП. 1903, № 4, 6.

[4] Расійскі дзяржаўны архіў старадаўніх актаў. Ф. 389, кн. зап. № 5, 25, 31, 41, 50. Публікацыі: *Любавский М.К.* Очерк истории Литовско-Русского государства... 1915. Прил. С. 365– 401, № 1–10; *Działyński A.T.* Zbiór praw litewskich... S. 82–91, 118–121; АЗР. Т. 2. № 70.

[5] *Любавский М.К.* Очерк истории Литовско-Русского государства... 1915. Прил. С. 365–401; *Ён жа.* Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства... .

ВКЛ 1529, 1566, 1588 гг. шматразова перавыдаваліся[1]. Статутам, іх рэдакцыям і спісам прысвечана вялікая гістарыяграфія, сістэматызаваная ў працах С. Барысёнка, Ю. Бардаха, Э. Гудавічуса, С. Лазуткі, В. Раўдзелюнаса, І. Юхо і іншых даследчыкаў. Сучаснае пяцітомнае навуковае выданне Статута 1529 г. разам з манаграфічным даследаваннем завяршаюць літоўскія гісторыкі[2].

Важнай крыніцай для вывучэння сацыяльна-палітычных і сацыяльна-эканамічных адносін у Беларусі, падатковай, фінансавай сістэмы, міжнароднага становішча і ваеннай арганізацыі ВКЛ з'яўляюцца дакументы вальных сеймаў XV–XVI ст. На сеймы выносілі праблемы, якія цікавілі вярхоўную ўладу, магнатаў і шляхту, іншыя пласты насельніцтва (духавенства, мяшчанства), асобныя землі Беларусі, Літвы і інш. Далёка не па ўсіх праблемах шляхта выступала салідарна. У XVI ст. на сеймах зацвярджаліся агульназемскія прывілеі, абмяркоўваліся праекты уніі з Польшчай, статутаў, кандыдатуры манархаў, адносіны з духавенствам.

На сеймах шляхта беларускіх і іншых зямель выстаўляла свае патрабаванні, якія заканадаўча замацоўвалі прывілеі і правы феадалаў і часткова іншых груп насельніцтва[3]. Амаль не захаваліся матэрыялы павятовых сеймікаў за першыя дзесяцігоддзі іх дзейнасці (утвораны ў 1565 г.), тым больш што прэрагатывы іх значна саступалі больш позній.

Карысным дапаможнікам для азнаямлення з эвалюцыяй заканадаўства і права Польшчы і ВКЛ з 1347 да 1793–1795 гг. з'яўляецца прыватнае выданне Ордэна піяраў – Volumina Legum. Шмат канкрэтных звестак па палітычных, гаспадарчых і адміністрацыйных справах у Беларусі ўтрымліваюць ухвалы сеймаў, канфірмацыі, канстытуцыі, прывілеі прыватным асобам, землям, вызначэнне межаў Полацкага, Падляшскага, Берасцейскага ваяводстваў і інш.[4]

Асобнай групай дакументальных крыніц па гісторыі Беларусі і іншых зямель ВКЛ былі матэрыялы бягучага справаводства. У вялікакняскай канцылярыі ў Вільні, якая была асноўным цэнтрам дзяржаўнага справаводства, у другой палове XV–першай чвэрці XVI ст. вяліся розныя, часам не вельмі размежаваныя віды дакументацыі, у тым ліку кнігі "данін", дэкрэтаў, арэнд, пасольстваў і "даканчанняў", "адпраў" і расхо-

---

[1] Асноўныя выданні Статута 1529: *Działyński A.T.* Zbiór praw litewskich...; Временник Московского общества истории и древностей российских. 1854. Кн. 18; Статут Великого княжества Литовского 1529... Мн., 1960. Асноўныя выданні Статута 1566: Временник Московского общества истории... 1855. Кн. 23; Archiwum Komisyi Prawniczej... Т. 7. Навуковае выданне Статута 1588 г. разам з манаграфічным даследаваннем: *Лаппо И.И.* Литовский Статут 1588 г. Т. 1–2. Каунас, 1934–1938; Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Давед. Камент. Мн., 1989.

[2] Первый Литовский Статут: Палеогр. и текстол. анализ списков / Сост. С. Лазутка, Е. Гудавичюс. Т. 1. Ч. 1. Вильнюс, 1983.

[3] Большая частка іх апублікавана: РИБ. Т. 30; Документы Московского архива Министерства юстиции (далей –ДМАМЮ). 1897. Т. 1; *Любавский М.К.* Литовско-русский сейм. Прил. С. 1–325; *Максимейко Н.А.* Сеймы Литовско-Русского государства до Люблинской унии 1569. Харьков, 1902. Прил. С. 1–205.

[4] Першае выд.: Warszawa, 1732–1739. Т. 1–6. Прадметна-тэматычны паказальнік: Konstytucye koronne i Wielkiego Księstwa Litewskiego od roku pańskiego 1550 do roku 1683. Warszawa, 1865. Матэрыялы XIV–XVI ст. уваходзяць у першы том.

даў на татар. У кнігі данін запісваліся велікакняскія даравальныя граматы на зямельныя ўладанні ў Беларусі, Літве, Украіне, імунітэтныя правы, дзяржаўныя пасады і іншыя дакументы.

Асноўны збор матэрыялаў гаспадарскай канцылярыі зберагаецца ў кнігах Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага[1].

Вялікі комплекс масавых крыніц, якія адлюстроўваюць шмат якія бакі паўсядзённага пабытовага, сацыяльнага, грамадска-палітычнага, гаспадарчага жыцця, уяўляюць справаводчыя дакументы судовых інстанцый Беларусі. У іх асвятляюцца маёмаснае і прававое становішча розных пластоў насельніцтва; працэсы, звязаныя з пераразмеркаваннем уласнасці, наследаваннем, рост прывілеяў шляхты, запрыгоньванне сялянства, уцёкі і выступленні залежнага люду і інш.[2] Найбольш раннія пісьмовыя акты копных судоў, якія ўзніклі ў глыбокай старажытнасці (важная крыніца для вывучэння сацыяльных інтарэсаў, псіхалогіі сялянства, побыту і традыцый грамады), адносяцца да сярэдзіны XVI ст.[3] Вялікая колькасць неапублікаваных матэрыялаў вышэйшых судовых устаноў – гаспадарскага суда, паноў-рады і іншых утрымліваецца ў кнігах Метрыкі ВКЛ.

У другой – трэцяй чвэрці XVI ст. у канцылярыі ВКЛ з'явіліся новыя віды дакументацыі, у тым ліку кнігі судоў маршалкаўскага, віленскага замкавага, "кнігі запісвання спраў судовых купецкіх і месцкіх", судовыя кнігі паноў-рады, "справы канцылярскія", кнігі "лістоў паточных". У судовыя і канцылярскія кнігі цэнтральных органаў заносілі галоўным чынам важныя дакументы, якія належалі беларускім, літоўскім і іншым князям, панам, шляхце, значна радзей – мяшчанам. У іх жа фіксаваліся рашэнні вярхоўнай улады, у тым ліку акты і граматы, якія мелі адносіны да Беларусі: прывілеі на права ўласнасці, службовыя прызначэнні, сеймавыя пастановы, дэкрэты аб надзвычайных падатках і г.д.

Да новых відаў урадавай дакументацыі, якія ўзніклі ў гэты час, адносяцца таксама «попісы» (вопісы) войска ВКЛ 1528, 1565 і 1567 гг.[4] «Попісы» з'яўляюцца надзвычай каштоўнай крыніцай па гісторыі вайсковай справы і арганізацыі шляхецкага войска. Яны даюць абагульняльныя

---

[1] Асноўны збор кніг Метрыкі захоўваецца ў РДАСА, ф. 389, воп. 1, адз. зах. 2, 6–53, кнігі запісаў, 224–271, судных спраў... Выдадзена нязначная частка кніг Метрыкі. Гісторыю Метрыкі і яе выданні гл.: *Бережков Н.Г.* Литовская метрика как исторический источник. М.; Л., 1946. С. 140–148; *Хорошкевич А.Л.* К истории издания и изучения Литовской метрики // ABS. Т. 8. Białystok, 1973; *Дайгяла З.* Літоўская Мэтрыка і яе каштоўнасць для вывучэння мінуўшчыны Беларусі // Спадчына. 1997. № 4; Методические рекомендации по изданию и описанию Литовской метрики / Сост. А.Л. Хорошкевич, С.М. Каштанов. Вильнюс, 1985; *Grimsted P.K.* The "Lithuanian Metrica" in Moskow and Warsaw; *Яна ж.* What is and what was the Lithuanian Metrica? // Harvard Ukrainian Studies. September, 1982. Vol. 6, № 3; *Banionis E.* Lietuvos Metrikos knygos: sąvoka, terminas, definicija // Lietuvos istorijos metraštis, 1988 m. Vilnius, 1989.

[2] Выдадзены асобныя кнігі земскіх і гродскіх судоў XV–XVI ст.: Брэсцкага – АВАК. 1867. Т. 2 (1431–1793), 1870. Т. 3 (1401–1699), 1871. Т. 5 (1388–1783), Гродзенскага – АВАК. 1865. Т. 1 (1540–1795), 1871. Т. 5 (1388–1783), 1874. Т. 7 (1510–1784), 1890. Т. 17 (1539–1565), 1894. Т. 21 (1555–1558), Слонімскага – АВАК. 1895. Т. 22 (1555–1570), значная група дакументаў з кніг Пінскага гродскага суда 1561–1563 гг. – *Грушевский А.* Пинское Полесье. Киев, 1903. Ч. 2 (XIV– XVI вв.), прил.

[3] АВАК. Т. 18 (1522–1707). 1891.

[4] РИБ. Т. 33. 1915. С. 1–236, 237–430, 431–1378.

звесткі пра землеўладанне прывілеяваных станаў, колькасць насельніцтва ў Беларусі і іншых землях[1].

У мясцовых дзяржаўных установах, органах гарадскога самакіравання, прыватнаўласніцкіх маёнтках існавалі разнастайныя віды бягучай дакументацыі, якія адлюстроўвалі розныя бакі сацыяльна-эканамічнага і сацыяльна-палітычнага развіцця Беларусі ў XIII – сярэдзіне XVI ст. У XVI ст. былі праведзены буйныя рэвізіі гаспадарскіх уладанняў, розных адміністрацыйных раёнаў (старостваў, эканомій, валасцей, княстваў і інш.), якія ахоплівалі, як правіла, заходнія вобласці Беларусі. Гэтыя матэрыялы ў большай частцы апублікаваны[2]. Пэўную сферу эканамічных і сацыяльных адносін (зямельная і іншая ўласнасць, панская гаспадарка, катэгорыі сялянства, павіннасці) адлюстроўваюць інвентары ўладанняў у Беларусі. Яны захаваліся толькі з XVI ст. і ў параўнанні з больш познімі інвентарамі XVII–XVIII ст. менш інфарматыўныя[3].

На больш высокім узроўні ў сярэдзіне XVI ст. былі складзены інвентарныя апісанні гаспадарскіх гарадоў і мястэчак Беларусі – Браслава, Берасця, Гародні, Мазыра, Пінска, Полацка, Пружан і інш.[4] Перапісы ўлічвалі колькасць гарадскога насельніцтва, якое абкладалася павіннасцямі, яго заняткі, тэрытарыяльнае размяшчэнне, юрыдыкі, стан абарончых збудаванняў, змяшчалі іншыя каштоўныя звесткі.

«Скарбавыя» кнігі арэнд, данін, у якія ўносіліся «лісты» на наладжванне таргоў, кірмашоў, збіранне мыт, – важная крыніца для даследавання гандлёва-прадпрымальніцкай дзейнасці мяшчан, фіскальнай палітыкі вярхоўнай улады. На жаль, мытныя кнігі Беларусі XIII–XVI ст. практычна не захаваліся. Асаблівую цікавасць у сувязі з гэтым набываюць дакументальныя матэрыялы тых краін, з якімі актыўна гандлявалі беларускія купцы, у прыватнасці справы Пасольскага прыказа, якія ўключаюць апісанні ўмоў гандлю, купецкіх іскаў і прэтэнзій, Рыжская гандлёвая кніга 1286–1352 гг., мытныя рэестры некаторых польскіх гарадоў XV–XVI ст.

**Апавядальныя крыніцы.** Летапісы і хронікі складаюць асноўны від наратыўных крыніц, якія дазваляюць даследаваць палітычную, а ў пэўнай ступені сацыяльна-эканамічную і культурную гісторыю беларус-

---

[1] *Łowmiański H.* Zaludnienie państwa Litewskiego w wieku XVI: Zaludnienie w roku 1528 / Do druku przyg. A.Kijas, K. Pietkiewicz. Poznań, 1998.

[2] Писцовая книга Пинского и Клецкого княжеств, составленная пинским старостою Станиславом Хвальчевским в 1552–1555 гг. Вильна, 1884; Писцовая книга бывшего Пинского староства, составленная... в 1561–1566 гг. пинским и кобринским старостою Лаврином Войною. Ч. 1–2. Вильна, 1874–1882; Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском..., составленная старостою мстибоговским Григорием Богдановичем Воловичем в 1559 г. Вильна, 1867; Описание староства Берестейского 1566 г. // ДМАМЮ. 1897. Т. 1; Ревизия Кобринской экономии, составленная в 1563 г. королевским ревизором Дмитрием Сапегою... Вильна, 1876; Писцовая книга Гродненской экономии... Ч. 1–2. Вильна, 1881–1882.

[3] АВАК. 1887. Т. 14; 1898. Т. 25; ДМАМЮ. 1897. Т. 1; БЭФ. Т. 1; *Jablonskis K.* Istorijos archyvas. T. 1. XVI amžiaus lietuvos inventoriai. Kaunas, 1934; Feodalinių emės valdų lietuvoje inventorių aprassymas / Sud. V. Abramavičius. Vilnius, 1963; Агляд інвентароў гарадоў і мястэчак, у тым ліку неапублікаваныя матэрыялы, гл.: *Копысский З.Ю.* Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII в.; *Грицкевич А.П.* Частновладельческие города Белоруссии в XVI–XVIII вв. С. 24–25.

[4] АС. Т. 1. 1867. С. 113–119; Писцовая книга Пинского и Клецкого княжеств. Вильно, 1884. С. 5–35; Писцовая книга Гродненской экономии. Ч. 2. Вильно, 1882. С. 26–64; ДМАМЮ. Т. 1. С. 205–238.

кіх зямель XIII–XVI ст. У сувязі з тым што беларускія летапісы XIII–XIV ст. не дайшлі да нас, для характарыстыкі ранняга перыяду гісторыі Беларусі даследчыкі выкарыстоўваюць некаторыя матэрыялы галіцка-валынскіх[1], уладзіміра-суздальскіх, наўгародскіх і пскоўскіх летапісаў. Падрабязны агляд гэтых помнікаў рускага летапісання з аналізам звестак, што датычаць Літвы і Заходняй Русі да канца XIII ст., ёсць у манаграфіі У. Пашуты[2]. У агульнарускіх летапісных зборах XV–XVI ст. адлюстравана знешняя палітыка Маскоўскай дзяржавы, якая імкнулася распаўсюдзіць сваю ўладу на ўсе ўсходнеславянскія землі.

Вялікае месца ў летапісных зборах займае апісанне знешнепалітычных акцый, якія спрыялі гэтай мэце, дыпламатычных перамоваў, войнаў, што нярэдка адбываліся на тэрыторыі Беларусі. Ёсць разрозненыя матэрыял таксама пра царкоўна-рэлігійныя адносіны, гандлёвыя і культурныя ўзаемасувязі з беларускімі землямі[3]. У «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» (канца XIV ст.), вядомым па Наўгародскіх I, IV, Ярмолінскім і іншых рускіх летапісах, пералічана каля 40 гарадоў Беларусі. Большасць помнікаў беларуска-літоўскага летапісання ўвайшла ў 17, 32, 35-ы тамы Поўнага збору рускіх летапісаў[4]. У беларуска-літоўскіх летапісных зборах XV–XVI ст. (Летапісец вялікіх князёў літоўскіх; Збор 1446; Хроніка Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага) знайшлі выразнае адлюстраванне палітычныя і ідэалагічныя канцэпцыі магнатаў і арыстакратыі ВКЛ, па заказе якіх і была створана большасць з іх[5].

Каштоўнай крыніцай па гісторыі палітычных адносін у Беларусі і ў ВКЛ, сацыяльных супярэчнасцей у асяроддзі пануючай эліты з'яўляецца Хроніка Быхаўца. У адзіным вядомым незавершаным спісе яна даведзена да 1506 г.[6] З публіцыстычных гісторыка-палітычных твораў сярэдзіны XVI ст. вылучаюцца запіскі Міхалона Літвіна «Аб норавах татар, літоўцаў і масквіцян»[7], у якіх рэзка крытыкаваліся судовая сістэма ВКЛ, хабарніцтва «ўраднікаў», усемагутнасць і самавольства знаці. Палітычнай гісторыі Беларусі, як і ўсяго ВКЛ, удзялялі ўвагу таксама польскія гісторыкі XV–XVI ст. Перш за ўсё варта назваць асноўную працу Я. Длугаша «Гісторыя Польшчы», напісаную ў 1455–1480 гг., хронікі XVI ст. Ю. Дэцыя, Б. Вапоўскага, М. Кромера, М. Бельскага, гістарычныя творы М. Мяхоўскага, А. Гваньіні[8]. Асаблівае значэнне мае «Хроні-

---

[1] Галицько-Волинський літопис. Дослідження, текст, коментар / Ред. М.Ф. Котляр. Київ, 2002.

[2] *Пашуто В.Т.* Образование Литовского государства.

[3] *Лурье Я.С.* Общерусские летописи XIV–XV вв. Л., 1976; *Лихачев Д.С.* Русские летописи и их культурно-историческое значение. М.; Л., 1947; *Jučas M.* Lietuvos metraščiai ir kronikos. Vilnius, 2002.

[4] ПСРЛ. Т. 17. СПб., 1907; Т. 32. М., 1975; Т. 35. М., 1980. Апошнія два тамы склаў і адрэдагаваў. М. Улашчык.

[5] *Jučas M.* Lietuvos metraščiai ir kronikos; *Чамярыцкі В.А.* Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. Мн., 1969; *Улащик Н.Н.* Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985.

[6] *Улащик Н.Н.* Введение в изучение белорусско-литовского летописания; *Ён жа.* «Литовская и жмойтская кройника» и ее отношение к хроникам Быховца и Стрыйковского // Славяне и Русь. М., 1968; Lietuvos metraštis: Bychovco kronika. Vilnius, 1971; ПСРЛ. Т. 32. С. 128–173.

[7] *Mykolas Lietuvis.* Apie totoriu, lietuviu ir maksvenu paprocius. Vilnius, 1966.

[8] *Barycz H.* Szlakami dziejopisarstwa staropolskiego. Wrocław et al., 1981; *Семянчук А.А.* Польскія хронікі 2-й паловы XVI ст. як крыніцы па этнакультурнай і рэлігійнай гісторыі Вялікага княства Літоўскага // Наш радавод. Кн. 7. Гродна, 1996; *Яна ж.* Беларуска-літоўскія летапісы і польскія хронікі. Гродна, 2000.

ка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі» М. Стрыйкоўскага («Która przedtem nigdy światła nie widziała Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiej Rusi». Królewiec, 1582). Аўтар выкарыстаў многія мясцовыя крыніцы, у тым ліку тыя, што не дайшлі да нас: беларуска-літоўскія летапісы, рукапісы і дакументальныя матэрыялы з архіваў Хадкевічаў, Слуцкіх, Гедройцаў[1].

Ордэнскія хронікі XIII–XIV ст. асвятляюць гісторыю Тэўтонскага і Прускага ордэнаў у Прыбалтыцы, іх наступленне на землі Літвы, Паўночна-Усходняй Русі, Беларусі. Гэта – хроніка Лівоніі Генрыха Латвійскага, каля 1225 г.; старэйшая Лівонская рыфмаваная хроніка XIII ст.; Хроніка Пятра з Дусбурга, 1326 г.; лівонская хроніка Германа з Вартберга, даведзеная да 1378 г.; рыфмаваная хроніка Віганда з Марбурга, канец XIV ст.[2]

Падзеі пачатковага этапу Інфлянцкай вайны 1558–1583 гг., у тым ліку актыўныя ваенныя дзеянні на тэрыторыі Беларусі, апісваюцца ў рускіх летапісах, закранаюцца ў замежных «лятучых» выданнях, нямецкіх хроніках[3]. Фрагментарны матэрыял пра Беларусь (пераважна палітычныя, гісторыка-этнаграфічныя, геаграфічныя, бытавыя звесткі) сустракаецца ў розных творах іншаземцаў – паслоў, дыпламатаў, гісторыкаў, пісьменнікаў XIV–XVI ст. П. Сухенвірта, Л. Халкакандзіла, Э. Пікаламіні, С. Герберштэйна, А. Шротэра і інш.[4]

У літаратурна-дакументальных апісаннях вальных сеймаў (Варшаўскага 1563 г. і асабліва Люблінскага 1569 г.) ёсць звесткі пра палітычную дзейнасць буйных феадалаў Беларусі і Літвы, якія прапаноўвалі свае планы палітычнага саюзу з Польшчай[5]. Выбарачна даследаваную групу крыніц складае перапіска вялікіх князёў літоўскіх з магнатамі і саноўнікамі Беларусі, Літвы, Украіны (Радзівіламі, Сапегамі, Хадкевічамі), карэспандэнцыя паноў-рады, сакратароў і пісараў гаспадарскай канцылярыі, паведамленні і рэляцыі дыпламатаў і агентаў. Эпістальярная спадчына вялікіх князёў Міндоўга, Гедыміна, Вітаўта, Свідрыгайлы даследавана ў разнастайных працах польскіх, літоўскіх, рускіх, нямецкіх гісторыкаў і амаль поўнасцю выдадзена[6]. Перапіска вялікіх князёў літоўскіх XV–XVI ст. увайшла ў розныя зборнікі палітыка-дыпламатычнага змес-

---

[1] *Рогов А.И.* Русско-польские культурные связи в эпоху Возрождения (Стрыйковский и его Хроника). М., 1966; *Улащик Н.Н.* Введение в изучение белорусско-литовского летописания. С. 82–129; *Wojtkowiak Z.* Maciej Stryjkowski – dziejopis Wielkiego Księstwa Litewskiego: Kalendarium życia i dzialalności. Poznań, 1990.

[2] Большасць ордэнскіх хронік выдадзена ў серыях: Scriptores Rerum Prussicarum. Bd. 1–5. Leipzig, 1861–1874; Scriptores Rerum Livonicarum. Bd. 1–2. Riga; Leipzig, 1848–1854; Monumenta Livoniae antique... Bd. 1–5. Riga etc., 1835–1847.

[3] Гл.: *Зутис Я.* Очерки по историографии Латвии. Ч. 1. Прибалтийско-немецкая историография. Рига, 1949; *Vachtre S.* Kroniki baltyckie (inflanckie) XIII–XVIII w. jako źródła historyczne (Stan badań) // Zapiski Historyczne. 1969. Z. 4.

[4] *Грыцкевіч В.* Вачыма даўніх падарожнікаў // Маладосць. 1969. № 2; *Maliszewski E.* Bibliografia pamiętników polskich i Polski dotyczących: (Druki i rękopisy). Warszawa, 1928; Cudzoziemcy o Polsce / Wybr. J. Gintel. T. 1. Kraków, 1971.

[5] Спісы апублікаваных і рукапісных «дыярыушаў» сеймаў гл.: *Konopczyński W.* Chronologia sejmów polskich 1493–1793. Kraków, 1948; *Finkel L.* Bibliografia historii polskiej. T. 1. Warszawa, 1955; Дневник Люблинского сейма 1569. Спб., 1869.

[6] Gedimino laiskai / Par. V. Pasuta ir J. Stal. Vilnius, 1966; *Kosman M.* Dokumenty łacińskie wielkiego księcia Witolda // Archeion. 1969. R. 51; *Prochaska A.* Codex epistolaris Vitoldi... Kraków, 1882; *Ochmański J.* Vitoldiana: Codex privilegiorum Vitoldi... Warszawa; Poznań, 1986.

ту[1]. У рукапісах XVI ст. і больш позніх копіях захоўваюцца дзесяткі тамоў слаба даследаваных эпісталярных "лістоў" магнатаў, простай шляхты, духоўнай іерархіі Беларусі і Літвы, якія яшчэ чакаюць сваіх даследчыкаў.

У сувязі з перспектывамі далейшага распаўсюджання каталіцызму ў Беларусі і іншых краінах асаблівую ўвагу гэтаму рэгіёну Еўропы ў XVI ст. удзялялі папскія дыпламаты. Вядома некалькі выданняў, якія змяшчаюць галоўным чынам сакрэтную перапіску нунцыяў з рымскай курыяй[2].

Да апавядальных крыніц, асабліва важных для даследавання працэсаў развіцця беларускай культуры і яе сувязей, належаць помнікі царкоўнаславянскай, старабеларускай, іншамоўнай пісьменнасці XIII–XVI ст.[3] Адносна няблага захаваліся беларускія "інкунабулы" XVI ст.: друкі Ф. Скарыны і яго паслядоўнікаў – Пятра Мсціслаўца, Івана Фёдарава ў Заблудаве, купцоў Мамонічаў у Вільні, рэфармацыйныя выданні берасцейскіх, Нясвіжскай, Лоскай друкарань, каталіцкія Віленскай акадэміі[4]. У палемічнай і гуманістычна-асветніцкай публіцыстыцы асабліва выдзяляюцца творы С. Буднага, В. Цяпінскага, М. Чаховіца, А. Волана, палемічныя трактаты П. Скаргі, І. Пацея і іх праваслаўных апанентаў; гэтыя творы закранаюць актуальныя тагачасныя праблемы: царкоўна-канфесійных разыходжанняў, дзяржаўнага ладу, запрыгоньвання сялянства, нявольніцтва, знешняй і ўнутранай палітыкі і інш.[5] Своеасаблівымі помнікамі палітычнага і духоўнага жыцця, псіхалогіі і ментальнасці шляхты, мяшчанства, іншых пластоў насельніцтва Беларусі і Літвы другой паловы XVI – пачатку XVII ст. з'яўляюцца дыярыушы соймаў, апісанні паломніцтваў, мемуары, пасланні ваяводаў і старостаў з прыгранічных межаў ВКЛ[6].

---

[1] Памятники дипломатических сношений Московского государства с Польско-Литовским... Т. 1–3; Acta Tomiciana. T. 1–17. Poznaniae etc., 1852–1966; Akta Aleksandra... Kraków, 1927.

[2] Relacye nuncyuszów apostolskich i innych osób o Polsce od roku 1548 do 1690. T. 1. Berlin; Poznań, 1864.

[3] *Ластоўскі В.* Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926; *Карский Е.Ф.* Белорусы. Т. 3. Очерки словесности белорусского племени, вып. 2. Старая западно-русская письменность. Пг., 1921; *Будовниц И.У.* Словарь русской, украинской, белорусской письменности и литературы до XVIII в. М., 1962; *Нікалаеў М.* «Палата» кнігапісная: Рукапісная кніга на Беларусі ў X–XVIII стагоддзях. Мн., 1993. *Саверчанка І.* Aura mediocritas: Кніжна-пісьмовая культура Беларусі. Мн., 1998.

[4] Кніга Беларусі 1517–1917: Зводны каталог. Мн., 1985; *Estreicher K.* Bibliografia Polska. Cz. 3, t. 12–34. Kraków, 1891–1951 (Апошнія тамы выдадзены С. Эстрайхерам); *Topolska M.B.* Czytelnik i książka w Wielkim Księstwie Litewskim w dobie Renesansu i Baroku. Wrocław, 1984; *Саверчанка І.* Aura mediocritas: Кніжна-пісьмовая культура Беларусі; Перавыдадзены толькі асобныя рукапісы і друкі свецкага або царкоўна-рэлігійнага зместу, у тым ліку Друцкае евангелле [перш. пал. XIV ст. ]. Мн., 2001, «Біблія руска» Скарыны 1517–1529 гг. Мн., 1990–1991; Нясвіжская біблія 1572 г. Paderborn et al., 1994 , некаторыя палемічныя, мемуарныя творы, панегірыкі і інш.

[5] Публікацыі: Памятники полемической литературы в Западной Руси. Кн. 1–3. СПб., 1878, 1882, 1903; Архив ЮЗР. 1887. Ч. 1, т. VII; *Студинський К.* Пам'ятки полемічного письменства кінця XVI и поч. XVII в. Т. 1. Львів, 1906; *Петров Н.Н.* Западнорусские полемические сочинения XVI века // Труды Киевской духовной академии. 1894. № 2–4.

[6] Лісты Ф.С. Кміты-Чарнобыльскага // Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці. Мн., 1975; Фёдар Еўлашэўскі. Успаміны // Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVII ст. Мн., 1983; Пэрэгрынацыя... Мікалая Крыштофа Радзівіла ў Святую зямлю // Кніга жыцій і хаджэнняў / Уклад. А. Мельнікава. Мн., 1994. С. 165–447.

Асноўныя крыніцы па гісторыі матэрыяльнай культуры асвятляюцца ў даследаваннях па археалогіі і этнаграфіі Беларусі XIII–XVI ст.[1], крыніцы па гістарычнай картаграфіі – у працах Ст. Александровіча[2].

Пісьмовыя крыніцы далёка не раўнамерна асвятляюць розныя бакі гісторыі Беларусі. На захаванасць крыніц уплываюць розныя фактары (натуральнае старэнне, войны, пажары і г.д.), але іх адбор вызначаўся галоўным чынам зацікаўленасцю магнатаў, шляхты, дзяржаўных, царкоўных устаноў, органаў гарадскога самакіравання ў працяглым захоўванні дакументаў параўнальна абмежаванага зместу. Акты і граматы сацыяльна-эканамічнага і сацыяльна-палітычнага характару, якія складаюць большасць усіх пісьмовых крыніц, прадстаўлены ў сучасных архівах у адносна значнай колькасці толькі з канца XV ст., абагульняльныя лічбавыя матэрыялы, неабходныя для статыстычнага вывучэння розных сфер айчыннай гісторыі, пачынаюць з'яўляцца пераважна з канца XVI ст.

Вельмі мала матэрыялаў, якія асвятляюць адносіны прыватнаўласніцкай адміністрацыі з залежнымі катэгорыямі насельніцтва, перш за ўсё – сялянствам, даных пра іх становішча, побыт, абшчынныя традыцыі, светапогляд, сацыяльную, палітычную, гістарычную свядомасць. Акрамя асобных фрагментаў, зусім не захаваліся мытныя, гандлёвыя, цэхавыя кнігі. Абмежаваная таксама колькасць літаратурна-пісьмовых помнікаў XIII–XVI ст., неабходных для даследавання гісторыі беларускай культуры, працэсу кансалідацыі, этнічнага развіцця беларусаў. Амаль адсутнічаюць тагачасныя пісьмовыя крыніцы па гісторыі духоўнай культуры «паспалітага» (простага) насельніцтва, фальклору, ерасей.

У рознай ступені (аб'ёме і відавой структуры) прадстаўлены крыніцы па гісторыі асобных зямель Беларусі. Больш поўнае асветленне атрымала ў іх унутрыпалітычнае жыццё ўсходніх зямель, у той час як матэрыялы па сацыяльна-эканамічных пытаннях лепш захаваліся ў крыніцах па заходніх землях Беларусі. Поўная або частковая адсутнасць многіх пісьмовых крыніц XIII–XV ст. не дае магчымасці ў дастатковай меры асвятліць удзел народных мас у грамадска-палітычных і іншых сацыяльных рухах, вызначыць удзельную вагу і суадносіны асноўных форм зямельнай уласнасці, развіццё сацыяльна-класавай структуры, колькасць насельніцтва, эвалюцыю грамадскай свядомасці, зрухі ў многіх галінах земляробства і рамесніцкай вытворчасці, матэрыяльнай культуры і г.д. Выкарыстанне іншых (археалагічных, фальклорных, этнаграфічных) матэрыялаў далёка не заўсёды кампенсуе адсутнасць пісьмовых крыніц. У цэлым крыніцы, якія захаваліся, дазваляюць даць канкрэтнае гістарычнае ўяўленне пра многія аспекты грамадска-палітычнага і царкоўна-рэлігійнага жыцця беларускіх зямель з XIII– XIV ст., сацыяльна-эканамічнага і культурнага – у асноўным з канца XV – пачатку XVI ст.

---

[1] Археалогія Беларусі. Т. 4. Мн., 2002; Этнаграфія беларусаў. Мн., 1985; Беларусы: прамысловыя і рамесныя заняткі. Т. 1. Мн., 1995; Беларусы: Гісторыя этналагічнага вывучэння. Т. 3. Мн., 1999; Беларусы: вытокі і этнічнае развіццё. Т. 4. Мн., 2001; *Цітоў В.С.* Народная спадчына: Матэрыяльная культура ў лакальна-тыпалагічнай разнастайнасці. Мн., 1994 і іншыя працы.

[2] *Alexandrowicz St.* Rozwój kartografii Wielkiego Księstwa Litewskiego od XV do połowy XVIII wieku. Poznań, 1989 (2-е выд.).

# РАЗДЗЕЛ 1

# БЕЛАРУСЬ І ЛІТВА Ў ДЗЯРЖАЎНА-ПАЛІТЫЧНЫХ, САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫХ І КАНФЕСІЙНЫХ ПРАЦЭСАХ XIII – СЯРЭДЗІНЫ XV ст.

## ГЛАВА 1

## ДЗЯРЖАЎНАЕ БУДАЎНІЦТВА (СЯРЭДЗІНА XIII – 70-я гг. XIV ст.)

### 1. Міждзяржаўныя адносіны

**У кантэксце заходніх геапалітычных зрухаў.** У першай палове XIII ст. Еўропа перажывала час значнага сацыяльнага гаспадарчага развіцця, узмацнення ролі буйных дзяржаў і кааліцый у вырашэнні наспелых праблем унутранай і міжнароднай палітыкі, агульнага ўскладнення міжнародных адносін. Асноўныя спектры міжнароднай палітыкі ў Еўропе вызначалі Ватыкан і некалькі буйных дзяржаўных фарміраванняў – Свяшчэнная Рымская імперыя, Францыя, Іспанія. Адносіны паміж рымскай курыяй і яе свецкімі контрагентамі, асабліва Свяшчэннай Рымскай імперыяй, адбіваліся на палітычным становішчы заходніх і паўднёвых суседзяў Беларусі і непасрэдна ці ўскосна ўздзейнічалі на іх палітыку ў Прыбалтыцы і на землях тагачаснай Русі.

З пачатку XIII ст. у Еўропе ўзмацніліся палітычныя і царкоўныя ўплывы папства. Тэакратычная дактрына аб вяршэнстве духоўнай улады над свецкай пры рымскім пантыфіку Інакенціі III (1198–1216) стала рэальна ўвасабляцца ў практыцы ўнутраных і міжнародных адносін. Яна была апрабавана ўсяленскім саборам і ўспрынята значнай часткай кіруючых колаў самых буйных еўрапейскіх дзяржаў. Аўтарытэт папства падтрымліваўся таксама крыжовымі паходамі ў Святую зямлю і язычніцкія краіны Міжземнамор'я з удзелам манархаў, біскупаў, рыцарства, бо рымская курыя была іх асноўным арганізатарам і духоўным апекуном.

Чацвёртая экспедыцыя (1202–1204) фактычна стала першым крыжовым паходам супраць хрысціянскай дзяржавы. Замест уладанняў турэцка-егіпецкага султана ўдзельнікі паходу пад уплывам Венецыі ў 1204 г. захапілі сталіцу яе галоўнага гандлёвага канкурэнта – Канстанцінопаль і замянілі Візантыйскую манархію Лацінскай, што адкрыла шлях да рэалізацыі праектаў уніі каталіцкай і грэка-праваслаўнай цэркваў. Латэранскі сабор 1215 г. зацвердзіў аб'яднанне цэркваў і прызнаў вышэйшыя прэрагатывы Рыма ў барацьбе з ерасямі. У 1261 г. Візантыйская манархія была адноўлена, але не змагла вярнуць сабе былой велічы. У XV ст. яе

заваявала Атаманская Порта, што дадаткова негатыўна адбілася на культурных і царкоўна-канфесійных сувязях Візантыі з Захадам і Усходам, у тым ліку з праваслаўнымі мітраполіямі ВКЛ і Маскоўскай Русі[1].

Завяршэнне эпохі агульнаеўрапейскіх міжземнаморскіх паходаў у канцы XII – пачатку XIII ст. часткова кампенсавалася фарміраваннем у Еўропе новых, больш вузкіх і пераважна кантынентальных формаў царкоўнай і духоўна-мілітарнай актыўнасці, узнікненнем манаскіх і рыцарскіх ордэнаў з місіянерскімі мэтамі. У 1198 г. папа Інакенцій III зацвердзіў статут Тэўтонскага ордэна. Нямецкія каралі сумесна з рымскімі папамі надалі Ордэну шырокія прывілеі, землі ў розных краінах: Германіі, Італіі, Францыі, Грэцыі і інш. Рост насельніцтва, збядненне і беззямелле дробнага рыцарства, палітычныя разлікі цэсараў і князёў, місіянерскія натхненні і арыстакратычна-прыгодніцкія традыцыі – розныя веравызнаўчыя і прагматычныя прычыны збіралі пад ордэнскімі харугвамі прыхільнікаў еўрапейскай (пераважна нямецкай) духоўнай, тэрытарыяльнай і палітычнай экспансіі. Для ўвасаблення крыжовых хрысціянска-місіянерскіх планаў (незалежна ад розных імкненняў іх удзельнікаў) з улікам пануючага ў Еўропе міжнароднага і кананічнага права і царкоўных уплываў Рыма заставаліся толькі Усходняя Прыбалтыка, адступніцкія (схізматычныя) княствы Русі і некаторыя дробныя землі, часткова заселеныя язычнікамі, напрыклад Куманія ў Закарпацці і інш. Гэты таямнічы і неспасціжны Усход уяўляўся новай абетаванай зямлёй для еўрапейскага рыцарства, Рыма, будучых каланістаў, моцных гандлёва-гарадскіх саюзаў, зацікаўленых у пашырэнні сфер сваёй дзейнасці (перш за ўсё Ганзы).

Значную перашкоду для развіцця гандлёвых сувязей і крыжовай экспансіі стваралі ўсходнія хрысціянскія дзяржавы – Польшча і Венгрыя, якія размяшчаліся на стрыжнёвых падыходах да Прыбалтыкі і Русі і слаба падтрымлівалі новыя кантынентальныя плыні. Акрамя таго, Ордэну не хапала прафесійных мілітарных рэзерваў, а супрацьдзеянне жыхароў звычайна падтрымлівалася мясцовай княскай уладай. Таму ў развіцці гэтай экспансіі прасочваецца шматгадовая зацягнутасць і ступеньчатасць. Замацаванне ўладанняў Ордэна на Усходзе, нярэдка на ўмовах леннай і васальнай службы, спалучалася са спробамі стварэння ў арбіце яго ўплываў сталых дзяржаўна-палітычных формаў з тэндэнцыяй да іх поўнай незалежнасці.

Увогуле, працэс каланізацыі і дзяржаўнага будаўніцтва на занятых Ордэнам землях відавочна пераважаў над яго місіянерскай дзейнасцю. У падтрыманні апошняй сапраўды была зацікаўлена рымская курыя, бо яе ўлада больш распаўсюджвалася над душамі, чым над землямі. Пэўная канкурэнцыя паміж папствам і Свяшчэннай Рымскай імперыяй стала нарастаць з развіццём усходняй тэрытарыяльнай экспансіі Ордэна і пашырэннем ці ўтварэннем каталіцкіх біскупстваў на гэтых землях. Супярэчнасці паміж Рымам і Цэсарствам, а таксама нямецкімі княствамі-донарамі (Саксонія, Брандэнбург), ад якіх моцна, асабліва ў мілітарных

---

[1] Historia dyplomacji polskiej. Warszawa, 1982. S. 153; *Пашуто В.Т.* Внешняя политика Древней Руси. М., 1968; *Греков И.Б.* Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV–XVI вв. М., 1963; *Rowell S.C.* Lithuania ascending. A pagan empire within east-central. Europe, 1295–1345. Cambridge, 1995.

справах, залежаў Ордэн, не вельмі ўплывалі на іх стратэгічныя адносіны і палітыку ў Прыбалтыцы і на Русі.

Пачатак экспансіі ва Усходняй Прыбалтыцы ў канцы XII ст. адпавядаў таксама інтарэсам нямецкага, шырэй кажучы паўночна-еўрапейскага купецтва[1]. З прычыны добрага папярэдняга ведання рэгіёна для заснавання нямецкай калоніі было абрана вусце Дзвіны, вялікай суднаходнай ракі, якая звязвала Балтыйскае ўзбярэжжа з язычніцкімі землямі і княствамі Заходняй Русі. Не вельмі далёка адсюль знаходзіўся галоўны кампаньён і канкурэнт Ганзы ва Усходняй Прыбалтыцы – Вялікі Ноўгарад.

На гэтым пачатковым этапе каланізацыі Падзвіння першынствавалі духоўныя місіянеры. Каля 1185 г. у літоўскай вёсцы Укскюл (Uxküll) аўгусцінцам Мейнгардам быў закладзены першы касцёл над Дзвіной[2]. Сам Мейнгард хутка атрымаў сан інфлянцкага біскупа. Хрысціянізацыя мясцовых ліваў праходзіла цяжка. Лівы намінальна былі залежныя ад полацкага князя, які ў той час не ўступаў у канфлікт з каланістамі. У 1198 г. пры пераемніку Мейнгарда Бертольдзе лівы былі падначалены архібіскупству. Трэці біскуп Альберт, паводле слушнай характарыстыкі Г. Лаўмянскага, атаясаміў храсціянізацыю прыбалтаў з навязваннем палітычнай улады і ў 1201 г. заклаў горад Рыгу як апорны пункт каланістаў і сталіцу біскупства.



Лівонскія рыцары

У 1207 г. Альберт замацаваў свае сувязі з Цэсарствам на правах леннага ўладальніка Лівоніі. Мілітарную, а часткова і духоўную ініцыятыву пазней пераняў заснаваны ў 1202 г. Ордэн мечаносцаў, першапачаткова падначалены рыжскаму біскупу. Нямецкая калонія мела абмежаваныя ваенныя сілы: поўныя мабілізацыйныя магчымасці рыцарства ў 1237 г. складалі каля 2 тыс. коннікаў. Карыстаючыся раздробленасцю прыбалтыйскіх плямён, перавагай у зброі і тактыцы, а таксама схіляючы на свой бок дробных мясцовых князькоў і родаплемянную старшыну, Ордэн і рыжскае біскупства за трэць стагоддзя амаль поўнасцю падначалілі сабе Інфлянты. Толькі разгром у 1236 г. ад жамойтаў пад Шаўлямі (Шаўляй) – загінуў сам вялікі магістр Водкевін – часова прытрымаў гэтую экспансію[3]. У 1237 г. Ордэн мечаносцаў быў інкарпараваны (уключаны) у Тэўтонскі, які меў больш шырокую падтрымку нямецкіх княстваў, Рыма і Цэсарства. Землі паўночнай Эстоніі зручна апанавалі датчане.

---

[1] *Łowmiański H.* Prusy – Litwa – Krzyżacy. Warszawa, 1989. S. 408.

[2] *Kiaupa Z., Kiaupiene J., Kuncevicius A.* The History of Lithuania before 1795. Vilnius, 2000.

[3] *Пашуто В.Т.* Образование Литовского государства. М., 1959. С. 371; Livländische Reimchronic / Ed. L. Mejer. Radeborn, 1876. S. 44; Liv-, Est- und Curländisches Urkundenbuch, nebst Regesten / Ed. F.G. Bunge. Bd. 1. Reval, 1853. N. 125.

Экспансія ў Інфлянтах спачатку мала закранала ўсходне-літоўскія (тым больш беларускія) землі, але ў 20–30-х гг. філіяльныя адгалінаванні нямецкіх ордэнаў замацавадіся ўжо ў сярэдняй Еўропе, паблізу ад межаў Заходняй і Галіцка-Валынскай Русі – у Венгрыі і Польшчы.

У 1211 г. тэўтонскія рыцары атрымалі ад венгерскага караля Андрэя надборскую зямлю у Семіграддзі, за што павінны былі ахоўваць краіну ад набегаў полаўцаў і спрыяць яе гаспадарчаму асваенню. Хутка высветлілася, што Ордэн мае намер стварыць уласнае прыдунайскае панства і ў якасці папярэдніх захадаў у 1224 г. перадаў свае семіградскія ўладанні папе Ганорыусу III. Падобны крок быў прадказальны, і ў 1225 г. рыцары пакінулі Венгрыю.

Разам з Польшчай Венгрыя з пачатку XIII ст. прэтэндавала на паўднёва-ўсходнія землі, што ўскосным чынам уплывала на збліжэнне галіцка-валынскіх князёў з некаторымі княствамі Русі і Літвы.

Асноўным заходнім суседам Беларусі з даўніх часоў была Польшча. У канцы XII–XIII ст. на змену цэнтралізаванай і аб'яднанай манархіі Пястаў прыйшлі раздробленасць і размежаванне асобных зямель і княстваў. Тон палітычнаму жыццю задавалі асноўныя гістарычныя "дзельніцы" (правінцыі) і княствы: Вялікапольская (Polonia), Малапольская, Мазавецкая і інш. Аслабленне княскага прынцыпату, гаспадарчае і палітычнае развіццё асобных зямель Польшчы мела вынікам агульны спад яе ваеннай дзейнасці. Прыблізна такая ж унутраная сітуацыя складвалася на землях Заходняй Русі, памежных з Польшчай. Ідэі прымусовай хрысціянізацыі Усходу, якія доўга падтрымлівалі місіянерскую актыўнасць Захаду ў адносінах да язычніцкіх і схізматычных краін, не былі папулярнымі ў Польшчы. Бескампраміснае стаўленне прыхільнікаў рымскага універсалізму да праваслаўнага свету не надта перашкаджала гандлёвым, дынастычным, палітычным зносінам Польшчы з суседнімі славянскімі княствамі.

З прычыны свайго геаграфічнага становішча, асабістай заангажаванасці некаторых польскіх князёў і духоўных іерархаў, пашырэння ўплываў Цэсарства, Брандэбургскага княства, Рыма, а таксама значных этнадэмаграфічных змен у сувязі з нямецкім асадніцтвам Польшча, аднак, стала мостам для каталіцкай і ордэнскай экспансіі. Яе стымулявалі, між іншым, частыя наезды на памежныя польскія правінцыі прусаў, ятвягаў, літоўцаў, радзей русінаў (зрэшты, набегі былі ўзаемнымі, здаўна пераважна грабежніцкімі).

У 20-х гг. XIII ст. вопыт Інфлянцкага ордэна паспрабавалі выкарыстаць мазавецкія князі. Мазавецкае княства (у той час па сутнасці незалежная краіна, кіруючыя дынастыі якой не аднойчы прэтэндавалі на кракаўскі трон), на паўночным усходзе межавала з Прусіяй, а на ўсходзе, праз рэгіён Падляшша, дзе не існавала выразных дзяржаўных граніц, – з Берасцейшчынай і іншымі заходнімі землямі Беларусі. Мазавецкі і куяўскі князь Конрад I разлічваў пры дапамозе рыцарства каланізаваць перыферыйныя ўласныя слаба заселеныя землі і рэальна падначаліць напаўзалежных ужо прусаў, якія не жадалі несці павіннасці і даймалі Мазовію набегамі. У 1226 г. у асобных артыкулах цэсарскай Залатой булы былі зацверджаны вынікі перамоў вялікага магістра Тэўтонскага ордэна Германа фон Сальза з Конрадам. Ордэн атрымаў уладанні ў Хелмшчыне і абяцаўся падпарадкаваць землі прусаў і прывесці іх да сапраўднай веры. У сувязі з удзелам Германа ў крыжовым паходзе на Блізкім Усходзе рэа-

лізацыя пагаднення зацягнулася, і Конрад у 1228 г. асадзіў над Віслай групу рыцараў Ордэна мечаносцаў з тымі ж мэтамі. Яны атрымалі даніну на Добжынскую зямлю і сталі называцца добжынскімі крыжакамі, у 1235 г. былі ўключаны ў Тэўтонскі ордэн[1], а ў 1237 г. пераведзены ў прыгранічны Драгічын для абароны ад Русі і прусаў[2].

Такім чынам, у блізкім і больш далёкім наваколлі беларуска-літоўскага арэала ўзніклі два сталыя плацдармы рыцарскай экспансіі. Палітычная эфектыўнасць каланізацыйнай акцыі інфлянцкіх рыцараў і іх тэрытарыяльныя набыткі былі больш важкімі. Гэтай экспансіі спадарожнічала актыўнасць Рыма. Тут паралельна ўзнікалі каталіцкія біскупствы, складвалася парафіяльная структура, будаваліся касцёлы. Паміж каталіцкай іерархіяй і ордэнскімі ўладамі часам узнікалі тактычныя супярэчнасці адносна метадаў каланізацыйнай і місіянерскай дзейнасці. Ордэнскія ўлады няблага выкарыстоўвалі свой статус дваістай залежнасці: у параўнанні з царкоўнымі ўплывамі Рыма паволі ўзрастала значэнне непасрэдных сувязей Ордэна з Цэсарствам і асобнымі нямецкімі княствамі.

Нельга сказаць, што місіянерская дзейнасць Польшчы ў гэтым рэгіёне славянскай Еўропы асабліва ўражвала. Варта таксама адзначыць, што і суседнія праваслаўныя княствы Заходняй Русі не падтрымлівалі місіянерскай дзейнасці на землях Польшчы і Венгрыі нават у часы вострых ваенных сутыкненняў і грабежніцкіх наездаў. Сітуацыя з абодвух бакоў мянялася толькі пасля ўстойлівага замацавання зямель за новым князем.

**Праявы цэнтрабежных і аб'яднальных тэндэнцый на землях Заходняй Русі.** У канцы XII – першай палове XIII ст. землі Беларусі, як і амаль усіх суседніх краін, знаходзілася ў стадыі палітычнай раздробленасці, якая суправаджалася пэўнымі пераўтварэннямі ў дзяржаўна-палітычным і царкоўным жыцці, узмацненнем ці аслабленнем рэгіянальных цэнтраў улады, ростам і рассяленнем насельніцтва, развіццём гаспадаркі, рамяства, гандлю[3]. Дзяржаўнасць рускіх (беларускіх) зямель захоўвалася ў новых гістарычна пераходных формах, як гэта адбывалася на пэўных стадыях станаўлення амаль ва ўсіх буйных манархіях Еўропы ў эпоху Сярэднявечча і больш позні перыяд. Для літоўска-беларускага арэала гэта перыяд першага ў гісторыі літоўскага народа палітычнага аб'яднання літоўскіх зямель і, што больш істотна для суседніх зямель Русі, – закладвання асноў новага дзяржаўнага арганізму з рознай гістарычнай, палітычнай, сацыяльнай і культурнай спадчынай.

Пераважна традыцыйным шляхам складваліся адносіны беларускіх зямель з іншымі княствамі Русі ў другой палове XII – пачатку XIII ст. Наіўна было б шукаць нейкай нязменнай, тым больш агульнай знешняй палітыкі для ўсіх рускіх зямель у той час, калі раздробленасць на былой тэрыторыі Кіеўскай Русі дасягнула вышэйшага ўзроўню[4] і адбівалася таксама на ўласным удзельным "паўраспадзе" і парцэляцыі старых княстваў – Полацкага, Турава-Пінскага, Валыні, Кіеўскай зямлі і інш.

---

[1] *Łowmiański H.* Prusy – Litwa – Krzyżacy. C. 436.
[2] Там жа.
[3] История России с древнейших времен до конца XVII века / Отв. ред. А.Н. Сахаров. М., 2000.
[4] *Войтовіч Л.* Удільні князівства Рюриковичів і Гедеміновичів у XII–XVI ст. Львів, 1996. С. 5.

У барацьбе за ўмацаванне і пашырэнне сваіх уладанняў буйныя князі выкарыстоўвалі залежнасць дробных княстваў, генеалагічныя сувязі і ўсе іншыя магчымыя сродкі, што было няпростай справай ва ўмовах генеалагічнага разрастання дынастый і аналагічных знешнепалітычных спадзяванняў суседзяў.

Знешнюю палітыку асобных беларускіх княстваў шмат у чым вызначалі іх вотчынна-прававыя прэтэнзіі, геаграфічнае і палітычнае становішча, тэрытарыяльныя памеры, узровень гаспадарчага развіцця, дэмаграфічныя і ваенныя рэсурсы, саюзныя ці варожыя адносіны з уплывовымі княствамі і інш. Некаторыя княствы, у тым ліку Полацкае, Наваградскае, Валынскае, калі-нікалі ўступалі ў часовыя кааліцыі з каталіцкімі і язычніцкімі краінамі – Польшчай, Венгрыяй, Усходняй Літвой, Ордэнам, але часцей з іншымі княствамі Русі. Прычын гэтаму нямала: умяшальніцтва чужаземцаў, якое нярэдка суправаджалася тэрытарыяльна-палітычнай экспансіяй, падштурхоўвала да аб'яднання намаганняў розных княстваў, гістарычная памяць нагадвала пра іх слаўную палітычную спадчыну і пэўную этнакультурную супольнасць, якая праяўлялася ў паўсядзённых жыццёвых і духоўных сферах: мэтаэтнічная свядомасць, адзінства ці падабенства быту, мовы, культуры, агульнае веравызнанне, дынастычныя сувязі і інш. Аднак палітычны кантэкст гэтых тэндэнцый нельга пераацэньваць. Тэрытарыяльная блізкасць, ваенна-палітычныя магчымасці, адчуванне даступнасці спараджалі ва ўладных колах асабліва моцных княстваў імкненні да падначалення суседніх зямель, экспансію, часам грабеж і вынішчэнне.

Канец XII – першая палова XIII ст. былі пазначаны не толькі распадам і расчляненнем некалі буйных дзяржаўных фарміраванняў; на рэгіянальным узроўні праяўляліся і пэўныя цэнтраімклівыя працэссы. Улічваючы, што ў эпоху Сярэднявечча большасць аб'яднальных працэссаў ажыццяўлялася вымушаным шляхам, можна канстатаваць, што ў пэўнай ступені яны мелі месца на землях Беларусі і некаторых іншых тагачасных княстваў Усходняй Еўропы. Фарміравалася сацыяльная аснова гэтых аб'яднальных тэндэнцый, бо феадальнае самавольства, анархія, войны, палон і разарэнні закраналі ўсё насельніцтва, найперш сялянскі і гарадскі люд. Рост колькасці гарадоў і іх сувязі з рынкам былі адным з найбольш відавочных сведчанняў гаспадарчага ўздыму ў Беларусі. Гандлёва-прадпрымальніцкія пласты мяшчанства былі кроўна зацікаўлены ў захаванні падтрымкі з боку вярхоўнай улады, ахове шляхоў зносін, нармалізацыі шматлікіх пабораў і пошлін. Істотнае значэнне, якое надавалася ў той час асноўным гандлёвым сухапутным і водным шляхам, відавочна нават па галоўных напрамках ордэнскай і літоўскай экспансіі ў Заходняй Русі або на шматлікіх гандлёвых дагаворах Полацкай, Віцебскай, Наўгародскай і Смаленскай зямель з Рыгай і "немцамі".

У апошняй трэці XII – пачатку XIII ст. на авансцэну знешняй палітыкі выйшла некалькі новых буйных княстваў, якія стала звязвалі сваю дзяржаўнасць са сваім стольным цэнтрам, хоць і ўлічвалі гістарычны і царкоўны прэстыж Кіева: Уладзіміра-Валынскае, Ноўгарад-Северскае, Растова-Суздальскае, Смаленскае і Чарнігаўскае[1]. Змена палітычных аб-

---

[1] *Коваленко В.* Київська Русь добі політичної роздрібненості: пошук нової концепції історії. Ч. 1. Одеса, 1999. С. 63.

ставін выразна прасочваецца ў падзеях 1169 г., калі вялікі ўладзімірскі князь Андрэй Багалюбскі напаў на Кіеў. Насуперак існуючай традыцыі ён не пажадаў асесці ў Кіеве, а разграбіў яго і вярнуўся ў сваю «отчину». Практычна ўсе новаўтвораныя княствы, разам з даўнімі – Кіеўскім, Валынскім, Галіцкім, Вялікім Ноўгарадам і Псковам у той ці іншай ступені былі звязаны з лёсам беларускіх зямель. Неафіцыйныя паўднёвыя межы і балоцістыя прасторы Палесся адасаблялі землі Беларусі ад Украіны. Адасабленне ўдзелаў у канцы XII – першай палове XIII ст. моцна скарацілa памеры знакамітага Кіеўскага княства. Пасля мангольскага разграблення ад Кіева застаўся толькі цень былой велічы і легендарная сакральная і палітычная спадчына. Нават кіеўскія мітрапаліты, што ўзначальвалі праваслаўную царкву ў ВКЛ у XIII–XVI ст., надзвычай рэдка наведвалі сваю галоўную кафедру.

У канцы XII – пачатку XIII ст. Галіцка-Валынская Русь стала першым асноўным пераемнікам аб'яднальных палітычных традыцый Кіеўскай Русі[1]. Новастворaная вялізная дзяржава, што прасціралася ад Дуная да Дняпра, пачала прэтэндаваць на землі суседніх княстваў, у тым ліку – Заходняй Беларусі, пазней не зусім дакладна акрэсленыя ў крыніцах як землі Чорнай Русі. Шырокім планам галіцка-валынскіх князёў перашкаджалі ўнутраная нестабільнасць, канфлікты з Польшчай, Венгрыяй і асабліва з Літвой і Наваградскім княствам за гегемонію ў Заходняй Русі. Немалыя знешнепалітычныя магчымасці Галіцка-Валынскай Русі былі падарваны мангола-татарскімі нашэсцямі і адрадзіліся толькі ў сярэдзіне XIII ст. пры князю Даніле Раманавічу.

Другім значным аб'яднальным арэалам у першай палове XIII ст. з'явіліся полацка-віцебскія і смаленскія землі. Сталыя палітычныя і гандлёва-гаспадарчыя стасункі даўно звязвалі полацкія і віцебскія землі са Смаленскім княствам, якое размяшчалася на старажытным шляху "з варагаў у грэкі" і пасрэднічала ў гандлёвых зносінах з Прыбалтыкай, наўгародска-пскоўскімі і маскоўскімі землямі. Узвышэнне Смаленскага княства прасочваецца з другога дзесяцігоддзя XIII ст., калі ў Кіеве зацвердзіўся смаленскі князь з роду Манамахавічаў, а іншыя прадстаўнікі дынастыі ў 1219 г. селі ў Смаленску, Оўручы, замацаваліся ў Галіцкай зямлі. Смаленскі князь Мсціслаў Давыдавіч памёр у 1230 г. У 1232–1238 гг. на смаленскім прастоле сядзеў Святаслаў Мсціслaвіч, які дамогся сталіцы пры падтрымцы палачан, дзе, верагодна, да гэтага ён княжыў[2]. Смаленскія князі час ад часу займалі полацкі прастол, але доўга на ім не затрымліваліся. Мангола-татарскае нашэсце абмінула Смаленскую зямлю. Звесткі пра гэта сустракаюцца толькі ў Жіціі Мяркурыя Смаленскага і хутчэй за ўсё маюць легендарны характар.

Паўднёва-ўсходнім суседам Беларусі і паўднёвым – Смаленшчыны была Чарнігаўская зямля, уладанні якой распасціраліся да Тмутаракані і ўключалі нямала буйных гарадоў Русі – ад Ноўгарад-Северска да Курска. Як і іншыя землі Русі, Чарнігаўшчына таксама мела свой удзельны перыяд. Вялікім чарнігаўскім князям дзякуючы пагадненню 1190 г. і

[1] *Головко О.* Польша в житті та діяльності галицько-волинського князя Романа Мстиславича // Україна–Польща: історична спадщина і суспільна свідомість. Київ, 1993. С. 41–48.

[2] *Войтовіч Л.* Удільні князівства Рюриковичів і Гедеміновичів у XII–XVI ст. С. 80.

рашэнню княскага з'езда 1226 г. удалося захаваць сваё сеньёральнае становішча ва ўсёй Чарнігаўшчыне. Чарнігаўскія Ольгавічы небеспаспяхова змагаліся з Манамахавічамі за Кіеў, прэтэндавалі на галіцкую спадчыну, а ў 1239 г., карыстаючыся наездам літоўцаў на Смаленшчыну, занялі стольны горад. Не захавалася звестак аб колькі-небудзь прыкметных сувязях Чарнігаўшчыны з блізкім Турава-Пінскім княствам, апрача, мабыць, гандлёвых. Чарнігаўшчына на Русі была вядома сваім шырокім гандлёвым прадпрымальніцтвам. У 1234–1238 гг. чарнігаўскі князь Міхайла Усеваладавіч і яго сын Расціслаў захапілі Галіч[1]. Пасля вяртання Данілы Раманавіча ў Галіч Расціслаў Міхайлавіч збег у Венгрыю. У 20–30-х гг. валынска-літоўскія адносіны былі пераважна саюзніцкімі[2].

Рэдкія захаваныя крыніцы, на жаль, мала што канкрэтна гавораць пра ўзаемадзеянне ўнутрыпалітычных, сацыяльных і гаспадарчых працэсаў у арэале беларуска-літоўскіх зямель. Развіццё гаспадаркі давала насельніцтву Беларусі магчымасць нядрэнна існаваць без пастаянных грабежніцкіх набегаў на памежныя землі ці ва ўсякім разе пры значна меншай знешняй ваенна-палітычнай актыўнасці. Зусім іншы працэс назіраўся на землях суседняй Літвы, для якой ваенныя здабыткі (спачатку без далёкіх палітычных мэт) заставаліся істотнай умовай выжывання.

У адрозненне ад зямель Беларусі, якія да XIII ст. прайшлі некалькі стадый дзяржаўна-палітычнага развіцця, Літва яшчэ толькі стаяла на парозе сваёй дзяржаўнасці. Яе ваенная дзейнасць, сістэматычныя набегі на суседнія і больш далёкія землі (як і абарона ўласнай тэрыторыі), былі жыццёвай неабходнасцю. Гэта дазваляла не адчуваць недахопу вытворчых сіл і замаруджвала іх эвалюцыю. Частае адцягненне сталага мужчынскага насельніцтва ад хатніх спраў (не кажучы ўжо пра людскія страты) далёка не заўсёды кампенсавалася трафеямі. Існаваў, праўда, іншы бок ваеннай актыўнасці. Для дасягнення сваіх мэт Літва нярэдка павінна была аб'ядноўваць намаганні некалькіх родаплемянных супольнасцей, заможных і ўплывовых князёў (кунігасаў), што спрыяла зараджэнню цэнтралізацыі на гэтай яшчэ дадзяржаўнай стадыі. Наколькі ваенныя поспехі маглі апярэджваць грамадскае і гаспадарчае развіццё краіны, сведчыць вопыт Жамойці, якая без дадатковай дапамогі нанесла некалькі моцных паражэнняў войску Тэўтонскага ордэна. Між тым яна заўсёды адставала ад другога рэгіёна Літвы, Аўкштайціі, па развіцці сацыяльных працэссаў, фарміраванні зямельнай уласнасці, колькасці гарадоў і насельніцтва і інш.

Фарміраванне літоўскай канфедэрацыі ў першай палове XIII ст. і яе пераход да новых палітычных адносін з суседнімі землямі, верагодна, спрыялі развіццю сустрэчных аб'яднальных тэндэнцый. На адносіны з Літвой уплывалі шматвекавое сумеснае жыццё заходнерускага і балцкага этнасаў, міграцыйныя працэссы, каланізацыя значнай часткі літоўскага абшару продкамі беларусаў. Невыпадкова ў Вільні і Троках і полацкіх калоніях у Герцыке і Кукейносе з даўніх часоў існавалі праваслаўныя цэрквы. Царква, як вядома, ішла поруч з пасяленцамі. Націск з

---

[1] Полное собрание русских летописей (далей — ПСРЛ). Т. 11. Ст. 776; *Пашуто В.Т.* Образование Литовского государства. С. 374.

[2] ПСРЛ. Т. 11. Ст. 217, 311 і інш.; Liv-, Est- und Curländisches Urkundenbuch... Bd. 1. N. 119.

паўночнага захаду і поўдня ўмацоўвала супольнасць літоўска-беларускіх зямель, якая яшчэ толькі ўсталёўвалася. Для беларускага насельніцтва пагроза мангольскага нашэсця ў 30–50-х гг. XIII ст. стала асноўнай у вызначэнні адносін з Літвой. Пра яго магчымыя драматычныя вынікі сведчылі шматлікія бежанцы з Кіеўшчыны і Усходняй Русі і непасрэдны палітычны вопыт першых сутыкненняў з Ардой. Для Літвы ўсё больш актуальнай станавілася пагроза нямецкай экспансіі, неабходнасць аб'яднання ўласных зямель, нармалізацыя і ўмацаванне адносін з беларускімі княствамі як найбольш блізкімі і рэальнымі яе саюзнікамі.

Мангола-татарскае нашэсце 30–50-х гг. XIII ст. падарвала і ў лепшым выпадку перафарміравала палітычныя і гаспадарчыя сувязі Беларусі з усходнімі і паўднёвымі княствамі Русі, павялічыла значэнне заходняга вектара. Унутры літоўска-беларускага арэала гэта вяло да ўзмацнення літоўска-беларускай супольнасці і захавання патэнцый да яе далейшага тэрытарыяльнага пашырэння.

## 2. Непасрэдныя перадумовы фарміравання Вялікага Княства Літоўскага

**Унутраныя і знешнія фактары.** Утварэнне Вялікага Княства Літоўскага і Рускага (як афіцыйна называлася дзяржава ў XIV ст.) было абумоўлена рэзкім змяненнем ваенна-палітычных абставін ва Ўсходняй Еўропе ў сувязі з татарскім нашэсцем на Русь. Аднак з'яўленне новай двухэтнічнай дзяржавы стала магчымым толькі таму, што для гэтага склаліся неабходныя ўнутраныя перадумовы, сярод якіх можна вызначыць тры асноўныя: асаблівасці палітычнай сістэмы Русі; пачатак цэнтралізацыі і выкліканае гэтым з'яўленне моцных уладароў у суседняй Літве; працяглы вопыт міжэтнічных кантактаў у верхнім Панямонні, якое стала цэнтрам дзяржаваўтваральнага працэсу.

**Сістэма перадачы ўлады ў рускіх княствах.** Кіеўская Русь XIII ст. уяўляла сабой рыхлае палітычнае ўтварэнне, пабудаванае на калектыўным сюзерэнітэце княскай дынастыі Рурыкавічаў[1]. Пры адсутнасці палітычнай цэнтралізацыі землі-княствы Русі (у тым ліку і тыя, што знаходзіліся на тэрыторыі сучаснай Беларусі – Полацкая, Турава-Пінская, Наваградская) мелі трывалыя гандлёва-эканамічныя і культурныя сувязі, адзіную царкоўную арганізацыю (праваслаўную мітраполію з цэнтрам у Кіеве), агульную літаратурную мову і традыцыю летапісання. Сведчаннем гэтай еднасці была агульная самасвядомасць: і ў замежных, і ў мясцовых крыніцах палітычна незалежныя адзін ад аднаго ўладары трывала называюцца "рускімі князямі", іх уладанні захоўваюць агульную назву "Русь", праваслаўная вера вызначаецца як «руская вера», а літаратурная мова – як "руський язык". У крыніцах няма доказаў таго, што мясцовая самасвядомасць і патрыятызм зямель-княстваў пераважвалі гэтую агульную самасвядомасць, хоць лакальныя адрозненні і асаблівасці безумоўна мелі месца.

[1] *Назаренко А.В.* Родовой сюзеренитет Рюриковичей над Русью (X–XI вв.) // Древнейшие государства на территории СССР: Материалы и исследования, 1985 год. М., 1985. С. 149–157.

Неаспрэчнае права дынастыі Рурыкавічаў на ўладу ва ўсіх без выключэння княствах было адной з прыкметных рыс палітычнай сістэмы Русі. У масавай свядомасці трывала замацавалася ўяўленне аб тым, што кожны прадстаўнік гэтага роду мае спадчыннае права на частку ("удзел") тэрыторыі, якой валодаў яго бацька (адсюль і тэрмін "вотчына" – бацькоўская спадчына). Як трапна адзначыў адзін з унукаў кіеўскага князя Уладзіміра Манамаха Ізяслаў Мсціславіч, "мне отчины в Угрех нетуть, ни в Ляхох, токмо в Рускои земли"[1]. Рысы ўдзельна-вотчыннай сістэмы прасочваюцца ўжо са смерці Уладзіміра Святаславіча ў 1015 г. і былі афіцыйна замацаваны на Любецкім з'ездзе князёў у 1097 г. Да сярэдзіны XIII ст. не было ніводнага выпадку парушэння манаполіі нашчадкаў Уладзіміра на ўладу, калі не лічыць часовы (на некалькі месяцаў) захоп улады ў Галічы мясцовым баярынам Уладзіславам падчас княжацкай усобіцы ў 1209 г.

Вельмі пільная ўвага да пытання перадачы княскага пасада тлумачыцца тым, што ва ўмовах дэцэнтралізацыі, калі ні кіеўскі, ні нейкі іншы князь не мог рэальна сачыць за парадкам па ўсёй Русі, агульнапрызнаная законнасць праўлення мясцовых князёў была адзінай гарантыяй ад усобіц. Парушальнік звычаю быў непажаданай асобай у вачах як суседзяў, так і ўласных падданых, бо калі яго правы нехта мог аспрэчыць, то насельніцтва рызыкавала зведаць усе разбуральныя наступствы барацьбы за ўладу, ад якой так пакутавала Русь у тыя часы. Толькі ў выключных выпадках узурпатар мог разлічваць на падтрымку.

Таму падзел дзяржавы на паўсамастойныя вотчыны і ўдзелы адбываўся амаль дакладна ў адпаведнасці з працэсам дэмаграфічнага разрастання і драблення княскай дынастыі: кожная буйная вотчына (зямля) належала адной з радавых галін Рурыкавічаў і ў сваю чаргу падзялялася на ўдзелы прадстаўнікоў гэтай галіны. У выпадку калі адна з галін згасала ці губляла ўладу, на яе месца прыходзіў прадстаўнік іншай, але абавязкова прамы нашчадак уладара ўсёй Русі Уладзіміра Святаславіча. У такім разе новы князь або прызначаўся вярхоўным суверэнам, якім працягваў лічыцца кіеўскі князь, або запрашаўся мясцовым насельніцтвам, але і ў гэтым выпадку вельмі пажаданай была хаця б фармальная згода з Кіева. Фактычна яго вяршэнства і зводзілася толькі да гэтага права распараджацца вымарачнымі вотчынамі. У астатнім землі-княствы не адчувалі патрэбы ў агульным палітычным цэнтры. Часам і сам кіеўскі князь ператвараўся ў падстаўную асобу, якой маніпуляваў уладар адной з моцных зямель-княстваў.

Такія ўмовы ў прынцыпе рабілі немагчымым укняжанне іншаземца да той пары, пакуль традыцыйная палітычная сістэма захоўвала раўнавагу. Разам з тым патэнцыяльна слабым месцам быў яе цэнтр – асоба кіеўскага князя, якая ўяўляла калектыўны суверэнітэт роду. Калі б Кіеў разам з кантралюючымі яго ўплывовымі галінамі Рурыкавічаў трапіў у залежнасць ад варожай дзяржавы (так і адбылося ў выніку мангола-татарскага нашэсця), гэтая залежнасць аўтаматычна распаўсюджвалася на ўсе княствы, нават на тыя, што дагэтуль адчувалі сябе самастойнымі і не зведалі непасрэднага заваявання. У такім (і толькі ў такім) выпадку за-

[1] ПСРЛ. Т. 2. Ипатьевская летопись. М., 1962. Ст. 405.

хоўванне лаяльнасці да старой дынастыі губляла для іх сэнс. Наадварот, прыход іншай дынастыі даваў шанц ухіліцца ад агульнага лёсу – пры ўмове, што новы ўладар быў здольны супрацьстаяць непазбежным спробам аднавіць "статус-кво".

Пра тое, што тагачаснай свядомасцю пераход рускіх княстваў пад уладу літоўскіх князёў успрымаўся менавіта так, сведчаць фальклорныя матывы бітваў татар з літоўскімі князямі, зафіксаваныя ў XVI ст. У адным з паданняў, паводле польскага храніста Мацея Стрыйкоўскага, татарскі ваявода Койдан (военачальнік Кодан сапраўды быў у войску Батухана ў 1240 г.) патрабуе ад літоўскага князя Эрдзівіла (верагодна, асоба легендарная) даніны менавіта як з уладальніка Наваградчыны і Падляшша, "як ён гэта прывык рабіць з іншымі рускімі князямі". Эрдзівіл, аднак, дае яму ўзброены адпор, выступаючы такім чынам абаронцам рускіх зямель[1]. Гістарычны кантэкст гэтага падання добра адпавядае рэаліям часоў Міндоўга, у прыватнасці паходу татарскага ваяводы Бурундая ў 1258 г.

**Балта-славянскія кантакты.** Верхняе Панямонне было трывала каланізавана ўсходнеславянскімі плямёнамі крывічоў і дрыгавічоў прыкладна на мяжы X–XI ст. У працэсе свайго рассялення яны асімілявалі рэдкае мясцовае насельніцтва – нашчадкаў культуры штрыхаванай керамікі. На правабярэжжы Нёмана і яго прытока Бярэзіны славяне сутыкнуліся з продкамі сучасных літоўцаў[2] – носьбітамі культуры ўсходнелітоўскіх курганоў, якая, паводле сучасных уяўленняў, утварылася ў IV–V ст. шляхам асіміляцыі той жа культуры штрыхаванай керамікі прышэльцамі з захаду – носьбітамі культуры шурпатай керамікі[3]. Такім чынам, і славяне, і літвіны наслаіліся на адзін і той жа субстрат, ад якога мусілі запазычыць шмат агульных звычаяў, міфалагічных і фальклорных сюжэтаў, моўных рыс. Гэта не магло не спрыяць добраму паразуменню між імі.



Літоўскі воін XIII ст.
Рэканструкцыя

Археалагічныя даныя сведчаць, што ў кантактнай зоне адсутнічала вы-

---

[1] *Stryjkowski M.* Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiej Rusi. T. 1. Warszawa, 1846. S. 238–239. Аналіз гэтага паведамлення з адзначэннем яго фальклорных матываў гл.: *Рогов А.И.* Русско-польские культурные связи в эпоху Возрождения (Стрыйковский и его хроника). М., 1966. С. 133–134.

[2] У сярэднявечных крыніцах жыхары Літвы называюцца, як правіла "літвінамі". Паколькі змест гэтага тэрміна часам не адпавядаў зместу этноніма "літоўцы" (быў шырэйшы альбо, наадварот, вузейшы за яго), у далейшым, каб пазбегнуць неадпаведных асацыяцый, жыхары гістарычнай Літвы будуць называцца "літвінамі", а пад "літоўцамі" разумеюцца сучасныя жыхары Літоўскай Рэспублікі.

[3] *Ушинскас В.А.* Роль культуры штрихованной керамики в этногенезе балтов // Славяне: Этногенез и этническая история. Л., 1989. С. 62–67; *Медведев А.М.* К вопросу о взаимоотношении западных балтов и носителей культуры штрихованной керамики в I тысячелетии н.э. // Насельніцтва Беларусі і сумежных тэрыторый у эпоху жалеза. Мн., 1992. С. 81–83.

разная этнічная мяжа. Рысы пахавальнага звычаю, характэрнага для ўсходнелітоўскіх курганоў (як і для каменных курганоў ятвягаў, што насялялі ваколіцы Гародні), прасочваюцца ўперамешку з чыста славянскімі рысамі ў могільніках каля Наваградка, Слоніма, Ваўкавыска і ў іншых месцах на левабярэжжы Нёмана. Славянскія помнікі былі пашыраны за Нёманам у Шчучынскім раёне, а таксама ля Крэва і Ашмян, на пераважна балцкай у той час тэрыторыі[1]. Такое змяшэнне магло адбывацца толькі пры параўнальна мірным характары адносін.

Разам з тым пэўны час Літва знаходзілася ў данніцкай залежнасці ад Русі. Польскі храніст XV ст. Ян Длугаш прыводзіць паданне аб тым, што даніна літвінаў Русі была чыста сімвалічнай – у выглядзе дубовай кары, бо больш з іх не было чаго ўзяць[2]. Магчыма, і сапраўды яна была не вельмі цяжкай. Кантроль над Літвой павінны былі ажыццяўляць гарады Браслаў, Ізяслаўль і Наваградак. Апошні быў заснаваны ў XI ст. – магчыма, пасля паходу Яраслава Мудрага ў Літву ў 1040 ці 1044 г., які, паводле В.Тацішчава, і прывёў да яе данніцкай залежнасці[3]. Функцыі непасрэднага збору даніны выконвала таксама ўмацаванае славянскае паселішча ў самым сэрцы арэала ўсходнелітоўскіх курганоў – у Вільні. Яно, паводле археалагічных даных, узнікла ў XI ст.[4] і, напэўна, было такім жа прасунутым фарпостам крывічоў на землях Літвы, як Герцыке і Кукейнос у Латыголі. Не выключана, што нейкі час там княжыў хтосьці з полацкіх Усяславічаў[5].

Каб забяспечыць рэгулярнае паступленне даніны, баярства азначаных гарадоў мусіла мець даволі цесныя сувязі з літвінамі, ведаць іх мову і звычаі. Можна меркаваць, што многія маладыя літоўскія арыстакраты пабывалі ў рускіх гарадах у якасці закладнікаў. Напэўна, былі неаднаразовыя выпадкі змешаных шлюбаў і пабрацімства. У другой палове XII ст. князі полацкай дынастыі не раз выкарыстоўвалі запрошаныя ці нанятыя літоўскія дружыны ў сваіх міжусобіцах: у 1162 г. "літву" выкарыстоўвае супраць палачан менскі князь Валадар Глебавіч, у 1180 г. – палачане супраць Друцка, у 1198 г. – зноў жа палачане супраць наўгародскай воласці Вялікія Лукі[6].

У канцы XII – пачатку XIII ст., калі літвіны не толькі цалкам вызваліліся ад данніцкай залежнасці, але і распачалі рабаўніцкія набегі на

---

[1] *Зверуго Я.Г.* Верхнее Понемонье в IX–XIII вв. Мн., 1989. С. 15, 73–76; *Краўцэвіч А.К.* Стварэнне Вялікага княства Літоўскага. Мн., 1998. С. 196 (карта 3).

[2] *Длугош Я.* Грюнвальдская битва. М.; Л., 1962. С. 15.

[3] *Татищев В.Н.* История Российская. Т.2. М.; Л.,1962. С. 78.

[4] *Голубовичи Е.* и *В.* Кривой город Вильно // Краткие сообщения Института истории материальной культуры. Вып. 11. М.; Л., 1945. С. 114–126.

[5] У 1540-я гг. у Маскве была створана версія паходжання літоўскай пануючай дынастыі ад Давіла і Маўколда Расціславічаў – міфічных полацкіх князёў, якія нібыта княжылі ў Вільні з 1129 г. Аб недакладнасці гэтых генеалагічных пабудоў, як і іншых маскоўскіх інтэрпрэтацый паходжання літоўскай дынастыі, пачынаючы з "Паслання Спірыдона-Савы" канца XV ст., гл.: *Дмитриева Р.П.* Сказание о князьях Владимирских. М.; Л., 1955. С. 73–109; *Бычкова М.Е.* Отдельные моменты истории Литвы в интерпретации русских генеалогических источников XVI в. // Польша и Русь: Черты общности и своеобразия в историческом развитии Руси и Польши XII–XIV вв. М., 1974. С. 365–377. Разам з тым магчымасць княжання ў Вільні прадстаўнікоў Полацкага княскага роду цалкам выключыць нельга.

[6] ПСРЛ. Т. 2. Ст. 519, 620; Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов (далей – НПЛ). М.; Л., 1950. С. 44.

Русь, гэтыя набегі закранала пераважна больш аддаленыя ад Літвы княствы, што непасрэдна з ёю не межавалі – Наўгародскае, Смаленскае, Уладзіміра-Суздальскае. Як падкрэслівае гісторык А. Краўцэвіч, у летапісах няма ніводнага паведамлення пра разбурэнні літвінамі Полацкага, Менскага альбо Наваградскага княства[1]. Праўда, азначаныя княствы ўвогуле практычна знікаюць у гэты час са старонак летапісаў, так што адсутнасць звестак пра набегі нельга лічыць за доказ адсутнасці саміх набегаў. Да таго ж храніст Рыжскага архібіскупства Генрых Латвійскі паведаміў пра спробы полацкага князя Уладзіміра і князя Кукейноса Вячкі заключыць мір з крыжакамі, каб "тым лягчэй супрацьстаяць літвінам"[2]. Але ў цэлым спецыфічны характар стасункаў Літвы, прынамсі з некаторымі яе бліжэйшымі суседзямі, выглядае цалкам верагодна. Прыкладам можа служыць характарыстыка князя Герцыке Усевалада, дадзеная тым жа Генрыхам Латвійскім пад 1209 г.: "Кароль Усевалад быў жанаты з дачкой аднаго з найбольш магутных літвінаў і, будучы як зяць яго для іх амаль сваім, звязаны з імі звыш таго і сяброўствам, часта кіраваў іх войскамі, аблягчаў ім пераправу праз Дзвіну і забяспечваў харчам, калі яны ішлі на Русь, Лівонію ці Эстонію"[3].

Такім чынам, княствы на тэрыторыі Беларусі да сярэдзіны XIII ст. мелі больш чым двухсотгадовы вопыт цесных сувязей з Літвой, у працэсе якіх абодва бакі добра вывучылі адзін аднаго. У далейшым гэты вопыт суіснавання паслужыў падмуркам для ўтварэння двухэтнічнай дзяржавы. Аднак сам па сабе ён не мог быць дастатковай падставай для палітычнага аб'яднання беларускіх і літоўскіх княстваў пад уладай літоўскага князя. Патрэбны былі яшчэ дадатковыя ўмовы.

**Пачатак цэнтралізацыі ўлады ў Літве.** Балцкія плямёны ў XI–XII ст. знаходзіліся на пераддзяржаўнай стадыі эвалюцыі, для якой характэрна спадчынная ўлада племянных князёў (у балтаў яны называліся "кунігасамі" – тэрмінам, родным славянскаму "князь" і германскаму "конунг"). Існавала таксама знаць, пазбаўленая неабходнасці займацца сялянскай працай (у крыжацкіх крыніцах яна вызначаецца лацінскім тэрмінам "нобілі"). Археалагічныя сведчанні наяўнасці знаці прасочваюцца ў арэале Літвы з сярэдзіны V ст.[4] Племянныя князі, а таксама старэйшыны арыстакратычных родаў мелі ўласныя дружыны, з якімі ажыццяўлялі грабежніцкія набегі на суседзяў. Напэўна, мелася патрыярхальнае рабаўладанне, але эканамічная эксплуатацыя свабодных абшчыннікаў з боку знаці адсутнічала. Няма звестак пра наяўнасць спецыялізаванай праслойкі рамеснікаў, якая б абслугоўвала патрэбы знаці і сялілася ў паселішчах гарадскога тыпу, за выключэннем Вільні, дзе пасад на Ніжнім замку ўзнік не пазней чым у пачатку XII ст., але гэта было выклікана хутчэй славянскай каланізацыяй, чым унутранымі працэсамі ў балцкім асяроддзі. Пра гэта гаворыць наяўнасць на віленскім пасадзе такіх тыповых для старажытнарускага горада рэчаў, як драўляныя маставыя, шыферныя прасліцы, шкляныя бранзалеты[5].

[1] *Краўцэвіч А.К.* Стварэнне Вялікага княства Літоўскага. С. 95.
[2] *Генрих Латвийский.* Хроника Ливонии. М.; Л., 1938. С. 102, 140–141.
[3] Там жа. С. 113.
[4] *Лухтан А., Ушинскас В.* К проблеме становления Литовской земли в свете археологических данных // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988. С. 93–95.
[5] Там жа. С. 100.

Параўнальна-гістарычныя матэрыялы сведчаць, што пераддзяржаўны сацыяльны лад быў даволі ўстойлівым і мог захоўвацца на працягу стагоддзяў. Аднак у ім ужо меліся неабходныя перадумовы для эвалюцыйнага скачка на ўзровень раннефеадальнай дзяржавы. Як правіла, такі скачок адбываўся пад моцным уздзеяннем знешніх стымулаў. У асяроддзі балцкіх плямён да пачатку XIII ст. не прасочваюцца фактары, якія б спрыялі іх эвалюцыі да дзяржавы. Хоць яны знаходзіліся побач з больш цывілізаванымі суседзямі (Польшчай і Руссю), кантакты з імі не мелі жыццёвага значэння, а рабаўніцкія набегі на гэтыя краіны не прыводзілі і не маглі ў тых умовах прывесці да тэрытарыяльных захопаў. Прыкладна ў XI ст. два памежныя з Руссю балцкія этнасы – латыголь і літва – трапілі ў данніцкую залежнасць ад яе, аднак і гэта не выклікала кардынальных зрухаў у іх сацыяльным ладзе.

Знешняя пагроза для балтаў узмацнілася з пачаткам крыжацкай экспансіі, якую ажыццяўляў з 1202 г. у Ніжнім Падзвінні Ордэн мечаносцаў (з 1237 г.ён называўся Лівонскім альбо Ліфляндскім ордэнам), а з 1230 г. з нізоўяў Віслы – Тэўтонскі (Нямецкі) ордэн. Аднак нават у такіх умовах большасць балцкіх плямён не паспелі зарганізавацца для цэнтралізаванага адпору. Да сярэдзіны 1230-х гг. землі куршаў і латыголі (латгалаў) трапілі пад уладу Ордэна мечаносцаў, а значная частка дробных княжанняў прусаў – пад уладу Тэўтонскага ордэна. У княствах роднасных прусам ятвягаў і сумежных з латыголлю земгалаў і селаў, нягледзячы на відавочную пагрозу, не назіраюцца выразныя зрухі да цэнтралізацыі – у далейшым там працягваюць дзейнічаць шматлікія самастойныя князькі, землі якіх адна за адной губляюць незалежнасць гэтак сама, як раней землі прусаў.

Адзіным выключэннем была Літва. Паводле сведчанняў Генрыха Латвійскага, там ужо каля 1209 г. на фоне іншых правадыроў вызначаецца постаць князя Даўгерутэ (відавочна, германізаваная форма літоўскага імя Даўгерд), названага "адным з найбольш магутных літвінаў". Менавіта ён быў цесцем і саюзнікам Усевалада з Герцыке. У 1213 г. Даўгерд ездзіў у Вялікі Ноўгарад – верагодна, з мэтай стварыць моцную кааліцыю супраць крыжакаў, але быў схоплены імі па дарозе назад і загінуў у няволі[1]. У тым жа годзе ў набегу на Лівонію загінуў не названы па імені "князь і старэйшына літвінаў", а неўзабаве – яго пераемнік, "правадыр і князь" Стэксе[2].



Рыцары Тэўтонскага ордэна

Палітычнае дамінаванне ў Літве, верагодна, перайшло ў спадчыну бліжэй-

[1] *Генрих Латвийский.* Хроника Ливонии. С. 113, 149.
[2] Там жа. С. 150.

3 Зак 1594

шым родзічам аднаго з гэтых князёў. У 1219 г. шматлікая кааліцыя літоўскіх князёў падпісала пагадненне з Уладзіміра-Валынскім княствам, прычым у складзе гэтай кааліцыі згадваецца група "старэйшых" князёў у складзе Жывінбуда і яго верагодных родзічаў: Даўспрунка з братам Міндоўгам і Даўята з братам Вілікайлам[1]. Такім чынам, кааліцыя не была саюзам роўных – адна княжацкая дынастыя дамінавала над астатнімі, прычым гэтае дамінаванне захоўвалася на працягу не менш чым двух пакаленняў. Праз некалькі дзесяцігоддзяў аўтар "Ліфляндскай рыфмаванай хронікі" (даведзенай да 1296 г.) памятаў, што бацькам Міндоўга быў нейкі "вялікі князь" (könig gross), які "не меў сабе роўных у Літве" прыкладна ў тыя гады, пра якія пісаў Генрых Латвійскі[2]. Магчымым кандыдатам на гэтую ролю выглядае або Даўгерд, або невядомы "князь і старэйшына літвінаў"; яны абодва загінулі за шэсць гадоў да першага ўпамінання Міндоўга. Пасля іх першынство, відавочна, належала Жывінбуду, названаму першым у спісе князёў 1219 г. (магчыма, ён быў дзядзькам Міндоўга), а маладыя Даўспрунк і Міндоўг (апошняму было на той момант каля 20 гадоў) унаследавалі дасягнуты іх бацькам статус "старэйшых князёў", уладзе якіх у той ці іншай ступені падпарадкоўваліся прадстаўнікі іншых княжацкіх дынастый. Праз некалькі дзесяцігоддзяў Міндоўг дасягнуў аднаасобнай улады ("самодержечь бысть во всеи земли Литовскои")[3]. Верагодна, тут дзейнічаў суб'ектыўны фактар, якога не хапіла іншым балцкім плямёнам, – асабістыя здольнасці спачатку бацькі Міндоўга, а потым яго самога. Наяўнасць таленавітых правадыроў дазволіла ва ўмовах знешняй небяспекі ператварыць гістарычную магчымасць у рэчаіснасць.

Можна прыблізна акрэсліць тэрыторыю, якую ахапіў дзяржаваўтваральны працэс. У дагаворы 1219 г. непасрэдна названы два племянныя княствы, уладары якіх дзейнічалі сумесна са "старэйшымі": Жамойць і Дзевалтва (Дзяволтва). Апрача таго, дзве княжацкія дынастыі, Рушкавічы і Булевічы, прыгаданы без пазначэння іх уладанняў. У іншых крыніцах XIII ст. неаднаразова ўпамінаецца геаграфічная вобласць Нальшчаны[4], а па разу – Упіта[5] і Нера[6]. Назва апошняй, магчыма, была іншым

---

[1] ПСРЛ. Т. 2. Ст. 735–736.

[2] Livländische Reimchronik. P. 146 (вершы 6383 – 6385).

[3] ПСРЛ. Т. 2. Ст. 858.

[4] Двойчы Нальшчаны ўпамінаюцца ў "Ліфляндскай рыфмаванай хроніцы": Livländische Reimchronik P. 42 (верш 1805 – каля 1228 г., Alsen у складзе Літвы); Там жа. P. 77 (верш 3319 – 1250 г., Nalsen асобна ад Літвы); *Paszkiewicz H.* Regesta źródłowe do dziejów Litwy od czasów najdawniejszych aż do unii z Polską. T. 1. Do r. 1315. Warszawa, 1930. N. 163–239. У падробленай грамаце Міндоўга 1260 г. (магчыма, подпісы на ёй захаваліся з сапраўднага прататыпу) прыгадваецца яго родзіч Гердзень Нальшчанскі (Gerdine de Naise): Там жа. N. 374. У Валынскім летапісе Нальшчаны прыгадваюцца пад 1260 і пад 1264 гг.: ПСРЛ. Т. 2. Ст. 847, 863. У 1268 г. пад пратэктарат рыжскага архібіскупа перайшоў літоўскі нобіль Суксе "de provincia Nalsen": *Paszkiewicz H.* Regesta źródłowe do dziejów Litwy... T. 1. N. 475.

[5] Прыгадваецца як "terra Opiten" у дакуменце рыжскага архіепіскапа наконт Земгаліі ў 1254 г.: Liv-, Est- und Curländisches Urkundenbuch... 1853. N. 265; *Łowmiański H.* Geografia polityczna Bałtów w dobie plemiennej // Lituano-Slavica Posnaniensia. Studia Historica. T. 1. Poznań, 1985. S. 88.

[6] У вышэйзгаданай грамаце Міндоўга 1260 г. сярод яго родзічаў названы "Parbuse de Nere": *Paszkiewicz H.* Regesta źródłowe do dziejów Litwy... T. 1. N. 374.

варыянтам назвы Дзевалтвы (невядомай крыжацкім крыніцам) і паходзіла ад літоўскай назвы р. Віліі – Нярыс[1].

Пра трывалае ўключэнне гэтых зямель у працэс кансалідацыі сведчыць тое, што яны называюцца ў крыніцах (пачынаючы ўжо з вышэйзгаданай дамовы 1219 г.) "літоўскімі" ў шырокім сэнсе, а іх уладары – літоўскімі князямі. У хроніцы Генрыха Латвійскага пры апісанні падзей 1210-х гг. не згадваюцца ні Жамойць, ні Нальшчаны і Дзевалтва, якія павінны былі непасрэдна межаваць з уладаннямі крыжакаў, а толькі Літва. Гэтак жа "Ліфляндская рыфмаваная хроніка", пералічваючы асноўныя балцкія народы і землі, побач з куршамі, селамі, земгаламі і іншымі называе адну Літву[2].

На карысць таго, што палітычнае аб'яднанне зямель у 1210-я гг. не было эпізадычным і захоўвалася пазней, сведчыць рэзкае ўзмацненне з пачатку XIII ст. ваеннай актыўнасці Літвы. Яе набегі пачынаюць дасягаць аддаленых на сотні кіламетраў мясцін, дзе раней пра іх не было чуваць. Каля 1210 г. яны ўпершыню дасягаюць Польшчы[3], у 1220 г. – Чарнігаўшчыны[4], у 1225 г. – шырокіх абшараў Наўгародскага і Смаленскага княстваў, прычым "бе бо рать велика, ака же не было от начала миру"[5]. Адначасова ў 1220–1240-я гг. Літва ператвараецца ў рэальны суб'ект міждзяржаўных стасункаў у маштабах Еўропы. У 1221 г. яе войска, ажыццяўляючы колішні намер Даўгерда, удзельнічае ў сумесным з Вялікім Ноўгарадам паходзе на эстонскія ўладанні крыжакаў[6], у 1229 г. і затым неаднаразова на працягу 1241–1246 гг. прымае ўдзел у міжусобнай барацьбе мазавецкага князя Конрада з іншымі польскімі князямі[7], у 1238 г. выкарыстоўваецца Данілам Галіцкім супраць той жа Мазовіі, а ў 1246 г. аказвае яму дапамогу супраць венграў.


Пячатка Міндоўга

У двух апошніх выпадках кіруе Літвой Міндоўг[8], які, напэўна, да гэтага часу дасягнуў палітычнага дамінавання над ін-

---

[1] Вілію ўпамінае як "fluvio Nare" тэўтонскі храніст Пётр з Дусбурга на мяжы XII–XIII ст.: Scriptores Rerum Prussicarum (далей – SRP). Bd. 1. Leipzig, 1861; *Петр из Дусбурга.* Хроника земли Прусской. М., 1997. С. 152. Іншы храніст, Герман з Вартберга, пад 1373 г. прыгадвае "terram Nerghe" вакол ракі Nerghe. Пра адпаведнасць яе Дзевалтве гл.: *Łowmiański H.* Geografia polityczna Bałtów... S. 94. Больш позняя традыцыя, адлюстраваная ў беларуска-літоўскіх летапісах XV–XVI ст., лічыла цэнтрам Дзевалтвы г. Вількамір (сучасны Укмерге). Недалёка ад яго вядома старажытнае паселішча Дзявілтоў, якое, напэўна, і дало назву Дзевалтоўскай зямлі, гэтак жа, як паселішча Упіта – Упіцкай зямлі.

[2] Livländische Reimchronik... / P. 8–9 (верш 326 – "Lettowen eine sint genant").

[3] *Błaszczyk G.* Dzieje stosunków polsko-litewskich od czasów najdawnejszych do współczesności. Poznań, 1998. S. 34–37.

[4] ПСРЛ. Т. 25. Московский летописный свод. М.; Л., 1949. С. 117–118; Там жа. Т. 7. Летопись по Воскресенскому списку. М., 1856. С. 128.

[5] ПСРЛ. Т. 1. Лаврентьевская и Суздальская летописи. М., 1962. С. 447–448.

[6] *Генрих Латвийский.* Хроника Ливонии. С. 206–207.

[7] *Błaszczyk G.* Dzieje stosunków polsko-litewskich... S. 34–37.

[8] ПСРЛ. Т. 2. Ст. 776, 801. У летапісе – недакладныя даты (адпаведна 1236 і 1248 гг.).

шымі князямі і дынастыямі (на ўмовах васальнай залежнасці). У больш позні́м (1413) дакуменце адзначана, што Жамойць з'яўляецца "вотчынай" (patrimonium) уладароў Літвы 168 гадоў, г.зн. з 1245 г.[1] Магчыма, каля 1245 г. сапраўды адбылося істотнае змяненне статуса жамойцкіх князёў у адносінах да Міндоўга. У гэты час ён, апіраючыся на Жамойць, распачынае барацьбу з Лівонскім ордэнам за кантроль над суседнімі куршамі, што праявілася ў яго няўдалым нападзе на замак Эмбоцен у канцы 1244 ці на пачатку 1245 г.[2] Неўзабаве Міндоўг упершыню характарызуецца "Ліфляндскай рыфмаванай хронікай" як "найвышэйшы кароль" і "ўладар Літоўскай зямлі"[3]. Падзеі, з якімі звязаны гэтыя характарыстыкі, літоўскі гісторык Э. Гудавічус даволі абгрунтавана адносіць да перыяду паміж восенню 1245 г. і восенню 1246 г.[4]

Відавочна, ва ўсіх гэтых выпадках назва "Літва" ўжывалася ў шырокім, этнічным сэнсе. Разам з тым у сярэдзіне XIII ст. гэтая назва ў больш вузкім сэнсе адносілася толькі да непасрэдных уладанняў Міндоўга (радавой вотчыны старэйшай дынастыі?). Яны знаходзіліся недзе на поўдзень ад Нальшчанскай зямлі, бо праз апошнюю ішоў паходам лівонскі ландмайстар на "Літву" ў 1250 г.[5] У 1258 г. татары "воеваша земли Литовьскую и Нальшчаньскую", а ў 1264 г. з бацькоўскай Літвы рушыў на ўтаймаванне мяцежных Нальшчан і Дзевалтвы сын Міндоўга Войшалк[6]. Гэта было, здаецца, апошняе ўпамінанне Літвы ў вузкім сэнсе. Верагодна, пасля паходу Войшалка Нальшчаны, Дзевалтва і, магчыма, Упіта трапілі пад непасрэдны кантроль вялікага князя і страцілі палітычную адметнасць, атрымаўшы той жа статус, што і радавая вотчына Міндоўга.

Жамойць у выніку гэтых падзей захавала пэўны ўзровень самакіравання, што прывяло ў далейшым да яе трывалага супрацьпастаўлення Літве. Выраз "літоўцы і жамойты" (Littoven und Sameiten) сустракаецца ў "Ліфляндскай рыфмаванай хроніцы" ўпершыню пры апісанні падзей 1250-х гг.[7] – незадоўга да таго, як Жамойць выступіла супраць Міндоўга, а той адмовіўся ад яе на карысць Лівонскага ордэна. Крыху пазней такое ж адрозненне пачынае сустракацца і ў рускіх летапісах[8].

Астатнія землі з канца XIII ст. або разглядаліся проста як часткі "Літвы", або паглыналіся абагульняльным тэрмінам "Аўкштота". Супрацьпастаўленне Жамойці і Аўкштоты як дзвюх частак уладанняў "літоўскага караля" ўпершыню ўжыта Пятром з Дусбурга (пры апісанні дзеянняў комтура Людвіга фон Лібенцэля ў 1294–1300 гг.)[9], а таксама ў да-

[1] Codex epistolariae saeculi decimi quinti. Vol. 1 // Monumenta medii acvi historica, res gestas Poloniae. Cracoviae, 1876. P. 46; *Halecki O.* Litwa, Rus i Żmódż jako części składowe Wielkiego księstwa Litewskiego. Kraków, 1916. S. 26.
[2] Livländische Reimchronik... P. 58–60. Датаванне гэтых падзей гл.: *Gudavičius E.* Mindaugas. Vilnius, 1998. P. 206.
[3] Livländische Reimchronik... P. 63–64.
[4] *Gudavičius E.* Mindaugas. P. 207–208.
[5] Livländische Reimchronik... P. 75–77 (верш 3325 – "durch Nalsen kein Littowen").
[6] ПСРЛ. Т. 2. Ст. 847, 863.
[7] Livländische Reimchronik... P. 75–76 (вершы 3239, 3293).
[8] У паходзе на Рыгу ў 1286 г. удзельнічалі "Литва вся и Жемоть вся": ПСРЛ. Т. 2. Ст. 896. Адрозненне Літвы ад Жамойці сустракаецца ў рускіх летапісах і пазней. Так, у паходзе Альгерда на Пераяслаў у 1373 г. удзельнічалі "Литва и Ляхи и Жемоть": ПСРЛ. Т. 18. Симеоновская летопись. СПб., 1913. С. 107–112.
[9] *Петр из Дусбурга.* Хроника земли Прусской. С. 152.

гаворы вялікага князя Гедыміна з Рыжскім магістратам у 1323 г.[1] Паход крыжакаў у 1373 г., паводле Германа з Вартберга, быў накіраваны "супраць літвінаў у зямлю Аўкштота" (contra Letwinos in terram Austheiten)[2]. Часам гэта інтэрпрэтуюць у тым сэнсе, што Жамойць і Аўкштота ўтваралі асобныя землі побач з уласна Літвой. Больш верагодна, аднак, што ў тагачасных уяўленнях этнічная Літва складалася з дзвюх частак: Жамойці і Аўкштоты (з якіх апошняя магла называцца "Літвой" у больш вузкім сэнсе). Гэта відавочна меў на ўвазе вялікі князь Вітаўт, калі ў 1420 г. у лісце да імператара Сігізмунда прывёў далі пашыраную ў далейшым інтэрпрэтацыю абедзвюх геаграфічных назваў: "З-за таго, што Жамойць ляжыць ніжэй за Літву, яна і называецца Жамойцю, што азначае па-літоўску «ніжэйшая зямля». А на Жамойці Літву называюць Аўкштотай, што значыць «вышэйшая зямля» ў параўнанні з самой Жамойцю"[3].

Аб пашырэнні тэрміна "Аўкштота" на колішнюю Дзевалтву выразна сведчаць звесткі Германа з Вартберга. У складзе Аўкштоты, ці "вышэйшай зямлі Літвы", у 1367, 1373 і 1374 гг. ён упамінае землі Нерге і Жэймы, а таксама асобныя паселішчы на верагодных абшарах Дзевалтвы: Вількамір, Ворлава, Шаты. Ён жа ў 1375 г. прыгадвае ў "зямлі літвінаў" шэраг паселішчаў на тым абшары, дзе раней павінны былі знаходзіцца Нальшчаны (Больнікі, Дубінкі, Гедройці, Малаты, Таўрагіні, Уцяна, Шашолы)[4].

Абшар Літвы ў шырокім сэнсе, залежнай ад дынастыі «старэйшых князёў», у сукупнасці займаў асноўную частку тэрыторыі сучаснай Літоўскай Рэспублікі[5] і прылеглыя тэрыторыі Беларусі (да возера Свір, правабярэжжа нёманскай Бярэзіны і ваколіц Ліды). Ён добра акрэсліваецца археалагічна[6]. Тэрыторыі Нальшчан і Дзевалтвы ў цэлым супадаюць з паўночнай (завілейскай) часткай арэала курганоў усходнелітоўскага тыпу (Аўкштайцкае і Свянцянскае ўзвышшы). "Літоўская зямля" ў вузкім сэнсе, напэўна, ахоплівала паўднёвую частку таго ж арэала (Дзукскае ўзвышша і большасць Ашмянскай грады, прыкладна ў межах чатырохвугольніка Коўна – возера Свір – Ліда – Мерач)[7]. Тэрыторыя Жамойці і Упіты супадае з арэалам грунтовых могільнікаў цэнтральнай і заходняй Літвы. Пры гэтым Жамойці адпавядае раён могільнікаў з трупапакладаннем на Жамойцкім узвышшы (воласці Крожэ, Лукава, Расіёны

---

[1] Liv-, Est- und Curländisches Urkundenbuch. Bd. 2. Reval, 1855. N. 694; Послания Гедимина / Подготовили В. Пашуто и И. Шталь. Вильнюс, 1966. № 8.

[2] SRP. Bd. 2. P. 104.

[3] Codex epistolaris Vitoldi, magni ducis Lithuaniae (1376–1430). Cracoviąe, 1882. № 861. P. 467–468.

[4] SRP. Bd. 2. P. 88, 104–106.

[5] Канчатковае фарміраванне этнічнай тэрыторыі літоўцаў адбылося пазней, калі ў выніку войн з крыжакамі да Літвы адышлі землі Цэкліс і Каршува на захадзе (паводле археалагічных даных – заходна родасныя куршам і скалвам), паўднёвая частка племянных княстваў земгалаў і селаў на поўначы, ятвяжскія землі Вяйсея, Дайнава і іншыя абапал сярэдняга Нёмана.

[6] Археология СССР: Финно-угры и балты в эпоху Средневековья. М., 1987. С. 382–395.

[7] *Гудавичюс Э.* «Литва Миндовга» // Проблема этногенеза и этнической истории балтов. Вильнюс, 1985. с. 226. Пра няслушнасць спробы М. Ермаловіча лакалізаваць яе па-за межамі арэала ўсходнелітоўскіх курганоў гл., напр.: *Насевіч В.Л.* Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: Падзеі і асобы. Мн., 1993. С. 20; *Краўцэвіч А.К.* Стварэнне Вялікага княства Літоўскага. С. 113–115.

і іншыя, вядомыя з граматы Міндоўга 1253 г.[1]), а Упіта займала паўночную зону могільнікаў з трупаспаленнем на абшарах Сярэднелітоўскай нізіны, у парэччы р. Невяжы. Цяжка сказаць, куды адносілася ў той час паўднёвая частка могільнікаў з трупаспаленнем (воласці Эйрагола і Бетыгола, згаданыя ў той жа грамаце 1253 г.), але ў больш познія часы яны бясспрэчна належалі да Жамойці[2].

Як для грунтовых, так і для курганных пахаванняў у канцы XII–XIII ст. прасочваецца шэраг агульных рыс, у тым ліку рытуальнае пахаванне коней разам з нябожчыкам ці яго попелам. Абрад гэты быў тыповым для літоўцаў ажно да часу іх хрышчэння (паводле яго быў пахаваны вялікі князь Альгерд у 1377 г.[3]). Разам з тым даныя археалогіі сведчаць, што дзве часткі арэала Літвы мелі істотна розныя пахавальныя звычаі і іншыя адметнасці, якія тлумачацца розніцай у этнічных працэсах папярэдніх часоў. Такім чынам, для супрацьпастаўлення Жамойці і Аўкштоты меліся не толькі палітычныя, але і этнаграфічныя падставы. Палітычныя фактары, аднак, пераважалі, бо зямля Упіта, этнічна больш родная Жамойці, у далейшым увайшла ў склад Літвы-Аўкштоты.

Менавіта палітычным аб'яднаннем арэалаў з курганным і грунтовым пахаваннем трэба тлумачыць іх даўняе аб'яднанне пад агульнай назвай "Літва". Яно захавалася і пазней: у хроніцы Пятра з Дусбурга, напрыклад, сустракаюцца выразы "літвін з Эйраголы" або "літвіны з Жамойці"[4], хоць ён і адзначаў моцны сепаратызм жамойтаў у адносінах да "караля Літвы" на мяжы XIII–XIV ст.[5] Даўнюю сувязь Жамойці з Літвой прыгадваў Вітаўт, калі ў 1420 г. сцвярджаў, што зямля жамойтаў "ёсць наша спадчына і ўласнасць як законная спадчына ад прадзедаў і дзядоў нашых, якою валодаем і цяпер, ды якая таксама заўсёды ёсць і заўсёды была адзінай з Літвой, бо адна і тая ж мова і адны і тыя ж людзі"[6]. Дзеля палітычнай кан'юнктуры Вітаўт, безумоўна, перабольшваў трываласць палітычнай інтэграцыі Літвы і Жамойці (ад якой сам жа двойчы адракаўся на карысць Тэўтонскага ордэна), але няма важкіх падстаў адхіляць яго сцверджанне пра этнічную і гістарычную блізкасць абодвух рэгіёнаў, якое цалкам стасуецца з больш раннімі звесткамі.

Такім чынам, у першай палове XIII ст. назва "Літва" ў шырокім сэнсе прыкладна адпавядала этнічнай тэрыторыі сучаснай Літвы (у далейшым, як будзе паказана ніжэй, сэнс яе істотна змяніўся). Усю гэтую тэрыторыю ўжо з пачатку XIII ст. ахапіў працэс палітычнай цэнтралізацыі. Але сам па сабе ён мог прывесці толькі да ўтварэння монаэтнічнай літоўскай дзяржавы, якая ў тагачасных умовах наўрад ці мела гістарычныя перспектывы. Хутчэй за ўсё яна была б урэшце заваявана моцнымі суседзямі. Для таго каб дзяржаваўтварэнне пераадолела этнічную мяжу і

---

[1] *Paszkiewicz H.* Regesta źródłowe do dziejów Litwy... T. 1. N. 270, 346; *Łowmiański H.* Geografia polityczna Baltów... S. 65–88.

[2] *Łowmiański H.* Geografia polityczna Baltów... S. 77. У сувязі з гэтым няўдалым уяўляецца прынятае шэрагам археолагаў вызначэнне помнікаў з трупаспаленнем як могільнікаў "аўкштайцкага тыпу".

[3] SRP. Bd. 2. P. 113; Белоруссия в эпоху феодализма (далей – БЭФ). Т.1. Мн., 1959. С. 86.

[4] *Петр из Дусбурга.* Хроника земли Прусской. С. 165, 173.

[5] Там жа. С. 152.

[6] Codex epistolaris Vitoldi... № 861. P. 467–468.

ахапіла тэрыторыі суседніх княстваў Русі, патрэбны быў моцны штуршок звонку.

**Наступствы мангола-татарскіх нашэсцяў на Русь.** На працягу 1237–1240 гг. войскі мангольскага хана Бату, унука Чынгіз-хана, паслядоўна заваявалі і спустошылі Разанскую, Уладзіміра-Суздальскую, Пераяслаўскую, Чарнігава-Северскую, Кіеўскую і Галіцка-Валынскую землі Русі[1]. Заваяванне насіла выключна жорсткі характар: гарады, якія аказвалі супраціўленне, цалкам вынішчаліся. Лесастэпавыя прасторы Паўднёвай Русі абязлюдзелі на два з паловай стагоддзі, астатняя тэрыторыя была ў глыбокім заняпадзе. Княствы на тэрыторыі сучаснай Беларусі гэтае нашэсце закранула ў значна меншай ступені. Ускосныя летапісныя паведамленні і матэрыялы археалагічных даследаванняў дазваляюць сцвярждаць пра разбурэнне ў гэты час хіба толькі ўскрайкаў беларускай тэрыторыі – гарадоў Гомеля, Магілёва[2], магчыма Берасця, Пінска[3] і некаторых іншых.

У 1243 г. Бату-хан прыступіў да сістэматычнага ўсталявання свайго рэжыму на ўсёй Русі. Мясцовыя князі былі пазбаўлены спадчыннага права на ўладанні і мусілі атрымліваць іх нанова ў якасці “пажалаванняў” з рук хана. Неўзабаве па Русі былі разасланы татарскія перапісчыкі, якія размяркоўвалі па гарадах і валасцях даніну – ясак[4]. Характэрна, што перапісчыкі накіроўваліся нават у тыя княствы, да якіх не дайшло татарскае войска: напрыклад, у 1257 г. яны прыбылі ў Вялікі Ноўгарад[5]. Гэта даказвае, што Бату добра ўяўляў палітычную сістэму Русі і лічыў сябе яе пераемнікам.


Мангола-татарскія воіны. Выява XIV ст.

[1] *Пашуто В.Т.* Героическая борьба русского народа за независимость (XIII век). М., 1956. С. 151–160.

[2] Пра разбурэнне Гомеля татарамі сведчаць матэрыялы археалагічных раскопак. А. Макушнікаў схільны датаваць гэтую падзею 1239 г. – часам паходу Бату-хана на Чарнігаўскую і Пераяслаўскую землі. Гл.: *Макушников О.А.* Стратиграфия раскопа 1988 г. на Гомельском детинце и некоторые вопросы истории летописного Гомія // Гісторыка-археалагічны зборнік. № 3. Мн., 1994. с. 187. Аналагічныя матэрыялы знойдзены і пры раскопках Магілёва, прычым характар знаходак дазваляе даволі дакладна датаваць яго разбурэние 1230-мі гг.: *Марзалюк І.* Магілёў у XII–XVIII стагоддзях. Мн., 1988. С. 18, 70.

[3] Звесткі пра тое, што паход Бату-хана на мяжы 1240–1241 гг. закрануў Піншчыну і Берасцейшчыну, змяшчае Валынскі (Іпацьеўскі) летапіс. Каля Берасця пасля прахоДу татар немагчыма было “ити в поле смрада ради и множьства избиеных”: ПСРЛ. Т. 2. Ст. 788. Тады ж і пінскія князі вымушаны былі ратавацца за мяжой, што сведчыць калі не пра разбурэнне іх вотчын, то, прынамсі, пра рэальную небяспеку.

[4] *Пашуто В.Т.* Героическая борьба русского народа за независимость (XIII век). С. 204–224.

[5] НПЛ. С. 82–83.

У княстваў на тэрыторыі Беларускага Панямоння і Падзвіння быў выбар: або чакаць непазбежнага з'яўлення татарскіх перапісчыкаў, як зрабілі ў Вялікім Ноўгарадзе і, верагодна, Смаленску, або рашуча парваць са старой сістэмай наследавання ўлады, якая ў новых умовах азначала маўклівае прызнанне суверэнітэту ардынскага хана. Паколькі сіл для самастойнага адпору не было, заставалася шукаць сабе новага сюзерэна, які б не пагражаў такім жорсткім прыгнётам, як татары, і адначасова меў магчымасці для арганізацыі супраціўлення апошнім. Такім сюзерэнам мог стаць у тагачасных умовах або далёкі каталіцкі Захад, або блізкі і добра знаёмы ўладар суседняй Літвы.

На поўдні князь Даніла Галіцкі апрача ўласных сіл спрабаваў абаперціся на Захад, нават каранаваўся дасланай з Рыма каралеўскай каронай[1]. Аднак усё гэта аказалася малаэфектыўным – пазбегнуць залежнасці ад татар і яе разбуральных наступстваў Галіцка-Валынская зямля не здолела[2].

Жыхары Пскоўскай і Полацкай зямель спрабавалі выкарыстаць змену дынастыі, не парываючы радыкальна з агульнарускай палітычнай сістэмай. У верасні 1248 г. була рымскага папы Інакенція IV была адрасавана "новаахрышчанаму князю" (яўна літоўскага паходжання) Полацка[3] ці, магчыма, Пскова (назвы абодвух у заходнееўрапейскіх крыніцах часам блізкія па напісанні). Пскавічы каля 1265 г. прынялі сваім князем уцекача з Літвы Даўмонта[4]. У Полацку ў 1250–1260-я гг. чаргаваліся літоўскія (Таўцівіл, Гердзень) і рускія (Канстанцін, Ізяслаў) князі[5]. Паралельна Полацк актывізаваў сувязі з Лівоніяй. У буле папы Урбана IV[6] і грамаце Гердзеня ў 1264 г. упамінаюцца полацкія воласці, незадоўга да таго падараваныя князем Канстанцінам лівонцам, а з больш позніх згадак (1366) вынікае, што на гэтых землях паўстаў замак Розітэн (на старабеларускай мове Рэжыца, сучасны горад Рэзэкне на ўсходзе Латвіі[7]. На мяжы XIII–XIV ст. нейкі полацкі князь (магчыма, той жа Канстанцін) перад смерцю ўвогуле перадаў княства пад пратэктарат Рыжскага архібіскупства[8].

Пэўны час абедзвюм землям удавалася захоўваць самастойнасць. Але Пскоўшчына засталася дробным перыферыйным княствам, так і не стаўшы ядром новага дзяржаваўтваральнага працэсу, а Полаччына ўрэшце ўвайшла ў склад Вялікага Княства Літоўскага.

---

[1] *Пашуто В.Т.* Очерки по истории Галицко-Волынской Руси. М., 1950. С. 238, 251–260.

[2] Там жа. С. 282–284.

[3] *Taube M.* Russische und litauische Fürsten an der Düna zur Zeit Eroberung Livlands (12. und 13. Jahrhundert) // Jahrbücher für Kultur und Geschichte der Slaven. 1935. Bd. 11. Heft 3/4. S. 405–406; *Пашуто В.Т.* Образование Литовского государства. С. 378.

[4] НПЛ. С. 85.

[5] ПСРЛ. Т. 2. Ст. 862; НПЛ. С. 83–84; Русско-ливонские акты. СПб., 1868. С. 13; БЭФ. Т. 1. С. 74–75; Полоцкие грамоты XIII – начала XVI в. / Сост. А.Л. Хорошкевич. М., 1977. С. 35.

[6] Liv-, Est- und Curländisches Urkundenbuch... Bd. 1. N. 380.

[7] Там жа. Bd. 2. N. 1036; Bd. 6/ Riga, 1871. N. 2884; *Пашуто В.Т.* Образование Литовского государства. С. 385.

[8] Пра гэта згадваецца ў рашэнні камісіі, прызначанай папам Кліментам V у 1309 г. для разгляду канфліктаў паміж архібіскупствам і Тэўтонскім ордэнам: Skarbiec diplomatów papezkich, cesarskich, królewskich... / Zebrał i w treści opisał I. Daniłowicz. Wilno, 1860. N. 270. S. 153.

Найбольш перспектыўным аказаўся шлях поўнай інтэграцыі з Літвой, па якім пайшлі княствы Панямоння. У выніку ўтварылася двухэтнічная дзяржава, якая не толькі адстаяла сваю незалежнасць у жорсткай барацьбе з суседзямі, але праз стагоддзе перайшла да актыўнай экспансіі, перахапіўшы з рук аслабелай Арды кантроль над паловай Русі. Яе жыццяздольнасць можа быць растлумачана тым, што князем Навагрудка і суверэнам іншых панямонскіх гарадоў каля 1248 г. стаў не ўцякач накшталт Даўмонта і не адзін з другарадных літоўскіх князёў накшталт полацкіх Таўцівіла і Гердзеня, а найбольш магутны ўладар – Міндоўг, які мог абаперціся не толькі на мясцовае баярства і сваю непасрэдную вотчыну ў "Літоўскай зямлі", але і на ўвесь ваенны патэнцыял Літвы ў шырокім сэнсе. Нават больш, менавіта з дапамогай рускіх княстваў Міндоўг, а затым яго сын Войшалк канчаткова ўстанавілі ў Літве цэнтралізаваную ўладу, для чаго не было неабходных стартавых пазіцый ні ў Даўмонта, ні ў Таўцівіла.

## 3. Дзейнасць першых вялікіх князёў літоўскіх і рускіх

**Пачатковы этап фарміравання ВКЛ. Міндоўг.** Пачатак працэсу ўтварэння ВКЛ быў пакладзены пераходам Навагрудскай зямлі пад уладу літоўскага князя Міндоўга. Упершыню ён прыгадваецца як уладар Навагрудка, Ваўкавыска, Слоніма і Здзітава падчас сутыкнення з галіцка-валынскім князем Данілам Раманавічам. Пры гэтым пад уладай Міндоўга заставалася і Літва (прынамсі, у вузкім сэнсе), адкуль ён накіраваў сваіх пляменнікаў на захоп Полацка і Смаленска, а сам скарыстаў іх адсутнасць, каб далучыць іх уладанні да сваіх (у летапісе гэты запіс датаваны 1252 г., але падзеі мелі месца хутчэй за ўсё у 1249 ці 1248 г.)[1].

Летапіс ніяк не тлумачыць з'яўленне ў Навагрудку літоўскага князя. Аднак у больш познім Густынскім летапісе (скончаны ў 1670 г.) ёсць паведамленне, што ў 1246 г. Міндоўг "принять веру христианскую от Востока со многими своими бояры"[2]. Беларускі гісторык М. Ермаловіч палічыў гэта доказам запрашэння Міндоўга ў Навагрудак па ініцыятыве мясцовага насельніцтва[3]. Але сам факт хрышчэння вельмі няпэўны, бо супярэчыць сцверджанню амаль сучаснага падзеям Валынскага летапісу[4], што Міндоўг хрысціўся толькі ў каталіцтва, прычым употай працягваў выконваць язычніцкія абрады. Пры такой добрай дасведчанасці летапісец яўна не ведаў аб праваслаўным хрышчэнні Міндоўга, якога хутчэй за усё ўвогуле не было. У цэлым трэба прызнаць, што на аснове наяўных фактаў немагчыма дакладна высветліць, якім чынам Навагрудак перайшоў пад уладу літоўскага князя. Але ў любым выпадку гэтая падзея мела выключна важныя наступствы.

---

1 ПСРЛ. Т. 2. 2-е изд. М., 1962. Ст. 815–816.
2 ПСРЛ. Т. 2. 1-е изд. СПб., 1843. С. 341.
3 *Ермаловіч М.* Па слядах аднаго міфа. Мн., 1989. С. 60.
4 Валынскі летапіс, які даведзены да 1292 г. і ўключаны пазней у Іпацьеўскі летапісны збор, з'яўляецца асноўнай крыніцай звестак пра падзеі панавання Міндоўга ў 1249–1264 гг., а таксама пасля яго смерці і ў час княжання Трайдзена ў 1270-я гг.: ПСРЛ. Т. 2. 2-е изд. Ст. 815–869.



Палітычнае аб'яднанне Навагрудскага княства з Літвой амаль адразу выклікала супрацьдзеянне як унутры Літвы, так і з боку суседзяў. У 1249 г. супраць Міндоўга ўтварылася магутная кааліцыя ў складзе яго пляменніка Таўцівіла, жамойцкага князя Выкінта, Данілы Галіцкага і ландмайстра Лівонскага ордэна Андрэя фон Сцірланда. Тройчы, прыкладна ў 1249, 1251 і 1253 гг., Даніла рабіў паходы на Наваградак і Гародню. У такіх умовах Міндоўг у канцы 1250 ці пачатку 1251 г. прыняў хрышчэнне па каталіцкім абрадзе, а ў 1253 г. каранаваўся[1] (паводле Густынскага летапісу – у Навагрудку[2]) каралеўскай каронай, дасланай з Рыма. Папа Інакенцій IV абвясціў, што прымае новае каралеўства пад сваё заступніцтва[3]. Гэта дапамагло Міндоўгу нейтралізаваць варожасць Лівоніі і перамагчы сваіх праціўнікаў у Літве. Праўда, часова ён вымушаны быў саступіць значную частку Жамойці крыжакам, а Наваградак, Слонім і Ваўкавыск – сыну Данілы Галіцкага Раману (на ўмовах васальнай залежнасці апошняга). Але Міндоўг захаваў за сабой вярхоўнае права на Навагрудскую зямлю, а пазней аднавіў поўны кантроль над ёю.

Між тым пераход шэрага рускіх княстваў пад уладу Літвы прывёў да канфлікту з Залатой Ардой, якая не адмовілася ад намеру падпарадкаваць усю Русь. Каля 1258 г. татарскі ваявода Бурундай здзейсніў спусташальны паход супраць Літвы[4]. Аднак і гэта не прывяло да адлучэння ад яе Беларускага Панямоння.

У 1260 г. Міндоўг раптоўна парваў з каталіцтвам і падтрымаў паўстанне супраць крыжакаў, якое ўспыхнула ў Жамойці. У выніку там замацаваўся стаўленік Міндоўга і сын яго сястры князь Траната[5]. Іншы пляменнік, Таўцівіл у гэты час княжыў у Полацку і, верагодна, таксама

---

[1] Літоўскі гісторык Э. Гудавічус датуе хрышчэнне Міндоўга ў каталіцтва канцом зімы – вясной 1251 г., а яго каранацыю – 6 ліпеня 1253 г.: *Gudavičius E.* Mindaugas. P. 225, 237.

[2] ПСРЛ. Т. 2. 1-е изд. С. 342.

[3] Пра падзеі, звязаныя з хрышчэннем Міндоўга, і пра яго стасункі з захадам Валынскі летапіс паведамляе вельмі сцісла (ПСРЛ. Т. 2. Ст. 816–817). Асноўная інфармацыя паходзіць з "Ліфляндскай рыфмаванай хронікі" (Livländische Reimchronik... P. 81–82), а таксама з дакументаў Рымскай курыі і грамат самога Міндоўга, дадзеных ім крыжакам (часткова падробленых імі ў той жа час). Рэестр гэтых звестак гл.: Skarbiec diplomatów... T. 1. S. 117, 121–124, 126, 131–132, 136, 148–150, 154–155, 161, 181, 187, 196; *Paszkiewicz H.* Regesta źródłowe do dziejów Litwy... T. 1. Do r. 1315. N. 249–253, 256, 269–273, 283, 289–293, 305–307, 313–314, 338, 346–347, 362, 374; *Пашуто В.Т.* Образование Литовского государства. С. 406–408.

[4] Апрача Валынскага летапісу (ПСРЛ. Т. 2. Ст. 846) пра гэты паход паведамляюць іншыя, напрыклад: НПЛ. М., 1950. С. 82, 310; ПСРЛ. Т. 10. Патриаршая или Никоновская летопись. М.; Л., 1949. С. 142; ПСРЛ. Т. 4. Ч. 1. Новгородская IV летопись. Пг., 1917. С. 232. Пра яго прыгадваюць і дзве булы папы Аляксандра IV у 1260 г. (*Paszkiewicz H.* Regesta źródłowe do dziejów Litwy... N. 377, 378).

[5] Пра тагачасныя падзеі ў Жамойці вядома галоўным чынам з "Ліфляндскай рыфмаванай хронікі": Livländische Reimchronik. S. 106–120, 125–127, 132, 146–159.

прызнаваў верхавенства літоўскага ўладара[1]. Пад непасрэднай уладай Міндоўга знаходзіліся іншыя літоўскія князі, якія прыгадваюцца як сведкі ў яго граматах крыжакам: Лугвен, Гердзень Нальшчанскі, Парбусе (верагодна, з Дзевалтвы) і інш.

Такім чынам, можна гаварыць пра ўтварэнне з сярэдзіны XIII ст. даволі ўстойлівай палітычнай структуры, у якой вярхоўнаму князю літоўскага паходжання непасрэдна належала частка этнічнай Літвы (Аўкштота) з Наваградскай зямлёй, а іншыя балцкія (Жамойць) і рускія (Полацкае княства) землі знаходзіліся ў пэўнай залежнасці ад яго. Гэта дазваляла эфектыўна супрацьдзейнічаць экспансіі, з аднаго боку, крыжакаў, з другога – татар і залежных ад іх галіцка-валынскіх князёў. У барацьбе з крыжакамі вялікі князь мог апірацца на рускія княствы, а ў барацьбе з татарамі і валынянамі – на этнічную Літву. Агульная плошча падкантрольнай літоўскім князям тэрыторыі ў гэты час складала, паводле падлікаў аўтараў, каля 153 тыс. кв. км, з якіх на этнічна балцкія землі прыпадала звыш 100 тыс. кв. км, ці каля 65% (у тым ліку на паўсамастойную Жамойць – каля 27 тыс. кв. км, на Літву-Аўкштоту – да 45 тыс., на літоўскія ці змешаныя літоўска-славянскія тэрыторыі ў сучаснай Беларусі – каля 26 тыс.), а на этнічна «рускія» – прыблізна 55 тыс. кв. км (з іх непасрэдна ўключаная ў дзяржаву Наваградская зямля займала каля 26 тыс. кв. км, паўсамастойная Полацкая – каля 29 тыс. кв. км.

Дадзеная структура аказалася настолькі жыццяздольнай, што няўхільна аднаўлялася пасля неаднаразовых крызісаў на працягу другой паловы XIII–XIV ст. Магчыма, яна пачала называцца Вялікім Княствам Літоўскім ужо з часоў Міндоўга[2]. У больш позні час (пачынаючы з Гедыміна) дзяржава называлася Вялікім Княствам Літоўскім і Рускім, а з 1442 г. яе афіцыйная назва стала трохчасткавай: "Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае"[3]. Пад "Літвой" у такім (палітыка-геаграфічным) сэнсе выступала не ўся этнічная тэрыторыя сучаснай Літвы і не ўся тэрыторыя федэратыўнай дзяржавы, а толькі непасрэдна падкантрольная вялікаму князю – Літва-Аўкштота разам з прылеглым Беларускім Панямоннем. Пад «Руссю» ў складзе новай дзяржавы мелася на ўвазе тэрыторыя тых княстваў (Полацкага, пазней таксама Віцебскага, Смаленскага і інш.), якія пры ўваходзе ў яе захавалі пэўнае самакіраванне.

---

[1] Таўцівіл упамінаецца як полацкі князь на чале палачан і літвы ў сумесным з Вялікім Ноўгарадам паходзе супраць Лівонскага ордэна ў 1262 г. і падчас сваёй гібелі ў 1263 ці 1264 г.: НПЛ. С. 83–84, 311, 313, 454–455; ПСРЛ. Т. 25. Московский летописный свод. М.; Л., 1949. С. 144—145; ПСРЛ. Т. 7. Летопись по Воскресенскому списку. СПб., 1856. С. 163–164; ПСРЛ. Т. 2. Ст. 862. Не выключана, што з яго ўкняжаннем у Полацку звязаны ўжо сумесны паход палачан і літвы на Смаленшчыну ў 1258 г.: НПЛ. С. 83; ПСРЛ. Т. 7. С. 162; ПСРЛ. Т. 4. Ч. 1. С. 232. Магчыма, Таўцівіл змяніў на полацкім пасадзе князя Канстанціна, які прыгадваецца разам з ім падчас паходу на Вендэн у 1262 г. як зяць наўгародскага князя Аляксандра Неўскага. Жонкай Канстанціна магла быць дачка Аляксандра ад шлюбу з полацкай князёўнай Брачыслаўнай, які адбыўся ў 1239 г. (НПЛ. С. 77, 239). Аднак слова "зяць" магло ўжывацца і ў іншых сэнсах, у тым ліку як брат жонкі, і тады Канстанцін мог быць сынам Брачыслава. У любым выпадку ён меў дачыненне да полацкай княскай дынастыі. Аб княжанні яго ў Полацку прыгадвае грамата князя Гердзеня ў 1264 г.

[2] *Краўцэвіч А.К.* Стварэнне Вялікага княства Літоўскага. С. 154.

[3] *Halecki O.* Litwa, Rus i Żmódź jako części składowe Wielkiego księstwa Litewskiego. S. 2–6, 41.

Познія звесткі пра Наваградак як месца каранацыі Міндоўга далі падставу некаторым даследчыкам сцвярджаць, што менавіта гэты горад быў першай сталіцай ВКЛ. Аднак хутка пасля каранацыі Наваградак быў часова перададзены Раману Данілавічу – са сталіцай так не абыходзяцца[1]. Хутчэй літоўскі князь наўмысна абраў для каранацыі спрэчны горад, каб падкрэсліць свае правы на яго. Хрышчэнне ж Міндоўга таксама позняя традыцыя, зафіксаваная ў беларуска-літоўскіх летапісах, звязвае з горадам Кернава ў Літве, які ў той час сапраўды быў, паводле археалагічных даных, значным абарончым цэнтрам і меў плошчу каля 8 гектараў[2]. У Валынскім летапісе прыгадваецца ў якасці рэзідэнцыі Міндоўга таксама загадкавы замак Варута, месцазнаходжанне якога не высветлена. Літоўскія даследчыкі на падставе археалагічных матэрыялаў мяркуюць, што цэнтрам дзяржавы магла быць Вільна – найбольш значнае на той час паселішча на тэрыторыі Літвы[3]. Найбольш верагодна, аднак, што трывалай сталіцы ў сучасным сэнсе ў ВКЛ на ранняй стадыі яго гісторыі ўвогуле не было.



Замак Варута. Рэканструкцыя В. Каваляўскаса

На пачатку 1260-х гг. Міндоўг дасягнуў, паводле Валынскага летапісу, неабмежаванай улады. Гэта выклікала змову супраць яго з боку моцных васалаў – жамойцкага Траняты, нальшчанскага Даўмонта і полацкага Таўцівіла, натхніцелем якіх, верагодна, быў вялікакняскі ваявода Яўстафій Канстанцінавіч. У 1263 г. Міндоўг быў забіты[4], а затым у барацьбе за ўладу загінуў і Таўцівіл. Пасля гэтага Траньята ажыццяўляў

---

[1] ПСРЛ. Т. 2. Ст. 831. На гэта звяртаў увагу яшчэ Г. Лаўмянскі: *Łowmiański H.* Geografia polityczna Baltów... T. 1. S. 90, przyp. 537.

[2] *Ochmański J.* Historia Litwy. 3-e wyd. Wrocław et al., 1990. S. 54.

[3] *Лухтан А., Ушинскас В.* К проблеме становления Литовской земли в свете археологических данных // Древности Литвы и Белоруссии. С. 102–103. Пра Вільна як колішнюю рэзідэнцыю Міндоўга гаворыцца ў адным з дакументаў часоў Вітаўта (1409 г.): Codex epistolaris Vitoldi, magni ducis Lithuaniae (1376–1430). P. 996–997. Гл. таксама: *Дашкевич Н.П.* Заметки об истории Литовско-Русского государства. Киев, 1885. С. 189; *Gudavičius E.* Mindaugas. P. 153–163, 239.

[4] Пра забойства Міндоўга і далейшыя падзеі апрача Валынскага летапісу (ст. 852–869) паведамляе хроніка Кракаўскага капітула: Monumenta Poloniae Historica. T. 2. Lwów, 1872. P. 807–808. Яна, у прыватнасці, называе дату смерці Міндоўга – 5 жніўня 1263 г. У шэрагу рускіх летапісаў пра гэтыя падзеі ёсць вельмі сціслыя ўпамінанні: НПЛ. С. 84, 313, 455; ПСРЛ. Т. 25. С. 145; ПСРЛ. Т. 7. С. 164–165 і інш.

кантроль над Літвой і Жамойцю, а ў Полацку заняў пасад яго стаўленік – нальшчанскі князь Гердзень[1].

У хуткім часе (каля 1264 г.) Транята таксама быў забіты змоўшчыкамі. Гэта выкарыстаў сын Міндоўга Войшалк[2], які папярэдне прыняў праваслаўе і нават манаскі сан. Пасля забойства бацькі ён уцёк у Пінск, дзе атрымаў дапамогу ад мясцовых князёў і ўладкаваўся спачатку ў Навагрáдку. Апіраючыся на яго, Войшалк заваяваў Літву ў вузкім сэнсе, а затым – з дапамогай валынскага войска – Нальшчаны і Дзевалтву, канчаткова далучыўшы іх да вялікакняскіх уладанняў. Ён пакараў віноўнікаў бацькавай смерці, у тым ліку Яўстафія Канстанцінавіча, а таксама, напэўна, расправіўся з усімі праціўнікамі цэнтралізаванай улады. Вяршэнства Войшалка прызнаў і новы князь Полацка Ізяслаў, які адначасова кантраляваў Віцебск[3]. У сваю чаргу Войшалк карыстаўся падтрымкай валынскага князя Васілька Раманавіча, васалам якога прызнаў сябе, і аднаго са сваіх шваграў – Шварна Данілавіча. Хутка Войшалк увогуле адмовіўся ад улады на карысць таго ж Шварна, а сам вярнуўся ў манастыр. Такі ход падзей дазваляе меркаваць, што Войшалк фактычна быў марыянеткай галіцка-валынскіх князёў, якія выкарысталі сваяцтва з ім дзеля падпарадкавання аслабленай усобіцамі Літвы.

Каля 1270 г. Шварн Данілавіч памёр. Адразу пасля гэтага ў Літве адбыўся пераварот, падрабязнасці якога нам невядомыя. Да ўлады прыйшоў князь Трайдзен, палітыка якога мела выразна антывалынскую накіраванасць[4]. Яго ўладзе падпарадкоўваліся Літва (разам з Навагрáдчынай) і Жамойць. Позні Васкрасенскі летапіс паведамляе, што пры Трайдзене да Літвы была далучана зямля ятвягаў (трэба меркаваць — яе частка абапал Нёмана, на поўнач ад Гародні, што цалкам магчыма)[5]. Полацкам у тыя часы валодаў князь Канстанцін[6] – магчыма, той, што ўжо княжыў там некалькі год раней. Пра яго адносіны з Літвой нічога не вядома. У гэты ж час

[1] Ад імя Гердзеня была складзена дамова Полацка з Рыгай у снежні 1264 г. У ёй таксама прыгадваецца папярэдні полацкі князь Канстанцін, які княжыў або кароткі час пасля смерці Таўцівіла, або яшчэ раней, да з'яўлення апошняга на полацкім княжанні: Русско-ливонские акты. СПб., 1868. С. 13; БЭФ. Т. 1. С. 74–75; Полоцкие грамоты XIII – начала XVI вв. / Сост. А.Л. Хорошкевич. С. 35.

[2] Хроніка Кракаўскага капітула называе Войшалка арганізатарам забойства Траняты: Monumenta Poloniae Historica. T. 2. P. 808.

[3] Пра княжанне ў Полацку Ізяслава і вяршэнства над ім Войшалка (названага Молшелгам) вядома з недатаванай граматы гэтага князя, складзенай каля 1267 г. (апублікавана разам з граматай Гердзеня). Магчыма, гэта той самы Ізяслаў, які прыгадваецца ў Валынскім летапісе пад 1256 г. як князь свіслацкі: ПСРЛ. Т. 2. Ст. 831.

[4] Валынскі летапісец называе Трайдзена "акаянным і беззаконным", а таксама параўноўвае з гістарычнымі персанажамі, якія ў царкоўнай традыцыі выступаюць найбольш адыёзнымі тыранамі: Ірадам, Неронам, Антыёхам Сірыйскім (ПСРЛ. Т. 2. Ст. 869). Пра падзеі яго княжання вядома галоўным чынам з таго ж летапісу (ст. 870–880), а таксама з "Ліфляндскай рыфмаванай хронікі" (Livländische Reimchronik... P. 181–194).

[5] ПСРЛ. Т. 7. С. 253. Разам з тым ятвяжскае княства Дайнава прыгадваецца сярод уладанняў, ад якіх Міндоўг быццам бы адмаўляўся на карысць крыжакаў, у грамаце 1253 г. (спрэчнай аўтэнтычнасці).

[6] Звестка про полацкага князя Канстанціна Бяэрука маецца ў "Наказанні" цвярскога епіскапа Сямёна (1271—1289) (Памятники старинной русской литературы. Вып. 4. СПб., 1860. С. 185). Магчыма, ён жа ўпамінаецца як адзін з князёў, залежных ад Вялікага Ноўгарада, у перапісцы апошняга з Ганзай у 1292 г. (Hansisches Urkundenbuch / Hg. K. Höhlbaum. Bd. 1. Halle, 1879. N. 1093). Гл. таксама: *Пашуто В.Т.* Образование Литовского государства. С. 385.

пад кантроль Смаленска трапіў Віцебск, інтарэсы якога ў стасунках з Рыгай прадстаўляў у 1280-я ці 1290-я гг. смаленскі князь[1].

Каля 1274 г. Трайдзен паслаў гарадзенскае войска на горад Драгічын у Падляшшы, які належаў галіцкаму князю Льву Данілавічу. Гэта сведчыць, што ён узнавіў палітыку экспансіі на Русь. У адказ каля 1275 г. адбыўся вялікі паход супраць Літвы, арганізаваны ханам Залатой Арды і залежнымі ад яго галіцка-валынскімі, пінскімі і смаленскімі князямі. Быў спалены вакольны горад у Наваградку, але ў цэлым паход не прывёў, здаецца, да тэрытарыяльных страт з боку Літвы. У 1277 г. адбыўся яшчэ адзін такі ж паход, які дасягнуў Гародні[2]. Аднак ужо ў наступным годзе Трайдзен адчуваў сябе дастаткова моцным, каб умяшацца ў міжусобную барацьбу польскіх князёў. Сведчаннем яго ўплыву ў Польшчы стаў і шлюб яго дачкі з мазавецкім князем Баляславам Плоцкім[3].

Трайдзен актыўна супрацьстаяў і спробам экспансіі Лівонскага ордэна, які ў 1278 г. заснаваў у Латыголі, на паўночным памежжы Літвы, замак Дынабург, а ў наступным годзе арганізаваў супраць Літвы крыжовы паход, які дасягнуў верагоднай сталіцы Трайдзена – Кернава. Трайдзен нанёс крыжакам паражэнне, а ў 1281 г. часова выцесніў іх з Дынабурга[4]. Аднак у гэты час найбольшая небяспека пачала адчувацца з боку іншага крыжацкага ордэна – Тэўтонскага, з якім лівонцы ўтваралі агульную канфедэрацыю. На працягу 1280–1283 гг. Тэўтонскі ордэн здзейсніў заваяванне Судавы на левабярэжжы сярэдняга Нёмана – апошняга прускага (ятвяжскага) княства, якое яшчэ захоўвала незалежнасць, і такім чынам выйшаў непасрэдна да межаў Літвы. Тэўтонцы праводзілі значна больш агрэсіўную палітыку ў параўнанні з лівонцамі, з якімі Літва суіснавала больш-менш устойліва. На пачатку 1283 г. з Жамойці быў здзейснены набег на прускія ўладанні тэўтонцаў, які меў, напэўна, характар прэвентыўнага ўдару. Аднак у тым жа годзе крыжакі перайшлі да ваенных дзеянняў непасрэдна супраць Літвы, захапіўшы памежны замак Бісену на Нёмане, на поўдні Жамойці, а ў 1284 г. упершыню ўварваліся на беларускія землі, спаліўшы Гародню[5]. У далейшым набегі крыжакаў сталі рэгулярнымі[6].

Да гэтага часу Трайдзен ужо, верагодна, памёр[7]. Хто стаў яго пераемнікам – дакладна невядома, бо звесткі пра Літву ў аўтэнтычных крыніцах вельмі скупыя[8]. У шэрагу летапісаў пад 1285 г. паведамляецца пра

---

[1] Русско-ливонские акты. С. 13.

[2] ПСРЛ. Т. 2. Ст. 871–874; 876–878. Магчыма, пра гэтыя ж паходы паведамляе Ніканаўскі летапіс пад памылковымі датамі – 1279 і 1282 гг.: ПСРЛ. Т. 10. Патриаршая или Никоновская летопись. С. 157, 161.

[3] Monumenta Poloniae Historica. T. 3. Lwów, 1878. P. 47

[4] Livländische Reimchronik. P. 178–195; SRP. Bd. 2. P. 48–49; *Пашуто В.Т.* Образование Литовского государства. С. 410, 413.

[5] *Петр из Дусбурга.* Хроника земли Прусской. С. 136, 138–139.

[6] Збор звестак аб далейшых нападах крыжакаў на землі Беларусі гл.: *Сагановіч Г.* Беларусь і Нямецкі ордэн (да Крэўскай уніі) // З глыбі вякоў. Наш край: Гіст.-культуралагіч. зборнік. Вып. 2. Мн., 1997. С. 116–133.

[7] Валынскі летапіс, пачынаючы княжанне Трайдзена з 1270 г., вызначае яго працягласць 12 гадамі – прыкладна да 1282 г.

[8] Беларуска-літоўскія летапісы XV–XVI ст. прыводзяць шэраг міфічных князёў, "братоў" Трайдзена, якія нібыта правілі Літвой у гэты час: Нарымонта, Даўмонта, Гольшу, Гедруся, а таксама "сына" Трайдзена – Рыманта-Лаўрыша, ад якога ўлада быццам бы перайшла да Віценя. На самай справе Валынскі летапіс ведае чатырох братоў Трайдзена, з якіх трое (Борза, Лесі, Свелкені) загінулі яшчэ да яго ўкняжання ў Літве, а чацвёрты – Сірпуці – быў яго галоўным ваяводам і апошні раз упамінаецца ў 1278 г.

набег літвінаў на землі Цвярскога княства ў вярхоўях Волгі, падчас якога загінуў іх князь Даўмонт[1]. У 1286 г. падчас удалага набегу крыжакаў загінуў у сваім маёнтку нейкі літоўскі князь, якога тэўтонскі храніст Пётр з Дусбурга называе "другім пасля караля літвінаў"[2]. "Ліфляндская рыфмаваная хроніка" каля 1290 г. прыгадвае таксама гібель князя Машэке[3]. У тым жа годзе лівонскі ландмайстар называе "каралём Літвы і Жамойці" князя Бутэгейдзе[4]. Не выключана, што гэты ж князь выступае ў 1289 г. у Валынскім летапісе пад імем Будзікіда, які кіраваў Літвой сумесна з братам Будзівідам. Абодва яны вымушаны былі саступіць валынскаму князю Мсціславу Данілавічу горад Ваўкавыск[5]. Такім чынам, на розных кірунках Літва несла страты, у тым ліку тэрытарыяльныя.

Крызіс быў пераадолены ў 1290-я гг. падчас панавання Пукувера, упамянутага ў хроніцы Пятра з Дусбурга пад 1291 г.[6] (некаторыя даследчыкі атаясамліваюць яго з вышэйзгаданым Будзівідам[7]), а затым яго сына Віценя, які выступаў на пасадзе вялікага князя з 1296 да 1316 г.[8] Супрацьстаянне з крыжакамі набыло характар абмену ўдарамі, у якім абодва бакі дзейнічалі з пераменным поспехам. Так, тэўтонцы, паводле Пятра з Дусбурга, у 1297, 1304, 1306 і 1311 гг. дасягалі ваколіц Гародні, а ў 1314 г. – нават Наваградка. Але і землі Прусіі ў гэты час неаднаразова зведалі жорсткае спусташэнне з боку Літвы. Калі ж у 1297 г. пачаўся працяглы канфлікт паміж Лівонскім ордэнам і гараджанамі Рыгі, Віцень рашуча ўмяшаўся ў яго на баку рыжан і нанёс крыжакам шэраг паражэнняў у Лівоніі. Верагодна, у гэты час былі вернуты страчаныя раней жамойцкія валасці. У цэлым граніца паміж ВКЛ і абодвума ордэнамі ў гэты час стабілізавалася і ў далейшым мянялася толькі нязначна.


Воін ВКЛ XIV ст.
Рэканструкцыя

Пра ўсходні вектар палітыкі Віценя вядома значна менш, бо ў гэты час летапісанне ў рускіх княствах, прылеглых да Літвы, амаль цалкам знікла (нават імя Віценя не прыгадваецца ў нешматлікіх тагачасных летапісах). Пры Віценю адбылося канчатковае ўключэнне ў склад ВКЛ Полацкай зямлі, якая папярэдне часова трапіла пад кантроль Рыжскага архібіскупства. Пра аваloданне літвінамі-язычнікамі Полацкам вядома з перапіскі рыжскага архібіскупа Фрыдрыха з папскай курыяй у 1305–1306 гг., а таксама з булы папы Клімента V у 1310 г., у якой гаворыцца

[1] ПСРЛ. Т. 7. С. 179; Т. 18. С. 81; Т. 23. С. 92.
[2] *Петр из Дусбурга.* Хроника земли Прусской. С. 140–141.
[3] Livländische Reimchronik... P. 273 (верш 11964).
[4] Preussisches Urkundenbuch. B. 1. Hälfte 2 / Ed. A. Seraphim. Königsberg, 1909. N. 568. P. 355–356; Skarbiec diplomatów... N. 243; *Paszkiewicz H.* Regesta źródłowe do dziejów Litwy... T. 1. N. 693.
[5] ПСРЛ. Т. 2. Ст. 933.
[6] *Петр из Дусбурга.* Хроника земли Прусской. С. 148.
[7] *Pużyna J.* Kim był i jak się naprawde nazywał Pukuwer ojciec Giedymina // Ateneum Wileńskie (далей – AW). T. 10. 1935. S. 1–43.
[8] *Петр из Дусбурга.* Хроника земли Прусской. С. 148–175.

пра захоп імі валасцей і замкаў, падараваных Лівоніі полацкім князем[1]. Полацкі епіскап Якаў каля 1309 г. выступаў у перамовах з Рыгай згодна «с сыном моим с Витенем»[2]. Такім чынам, да пачатку XIV ст. канчаткова замацавалася структура ВКЛ у складзе этнічнай Літвы-Аўкштоты, Жамойці, Наваградчыны і Полаччыны, упершыню створаная Міндоўгам.

Познія крыніцы прыпісалі Віценю таксама ўвядзенне дзяржаўнага герба «Пагоня», аднак гэтую звестку (як і версію пра ўвядзенне «Пагоні» князем Нарымонтам)[3] трэба адносіць да міфічных. У той час заходнееўрапейская геральдычная традыцыя яшчэ не дасягнула язычніцкай Літвы: гэта адбылося толькі праз некалькі дзесяцігоддзяў, напярэдадні ці адразу пасля Крэўскай уніі.

**Цэнтралізатарская палітыка Гедыміна і Альгерда.** Пасля смерці Віценя (каля 1316 г.) вялікім князем стаў яго брат або, магчыма, сын Гедымін[4]. За 25 гадоў яго княжання ВКЛ ператварылася ў магутную дзяржаву, якая выступіла адным з цэнтраў палітычнай кансалідацыі рускіх княстваў. Трывала злучыўся з дзяржавай Полацк, дзе пры Гедыміне княжыў яго брат Воінь. Ён прыгадваецца ў якасці полацкага князя ў 1326 г.[5] Некаторы час у 1323 г. пскоўскім князем быў стаўленік Гедыміна Давыд Гарадзенскі, што дало Гедыміну падставу ў тым жа годзе заключыць дагавор з Рыгай і Тэўтонскім ордэнам ад імя "Аўкштоты, Жамойці, Пскова і іншай Русі, якой мы валодаем"[6].

Праводзячы ўдалую дыпламатыю ў адносінах з Залатой Ардой, Гедымін дамогся падпарадкавання шэрага княстваў, якія раней, верагодна, залежалі ад татар. Яго паслом у 1326 г. выступае менскі князь Васіль[7], пасля смерці якога Менск, верагодна, быў непасрэдна далучаны да ўладанняў вялікага князя. Адзін са шматлікіх сыноў Гедыміна – Нарымонт-Глеб, магчыма, стаў уладальнікам Пінскага княства, пазней –

---

[1] Liv-, Est- und Curländisches Urkundenbuch... Bd. 2. N. 630, 638; *Paszkiewicz H.* Regesta źródłowe do dziejów Litwy... T. 1. N. 790, 813.

[2] Русско-ливонские акты. С. 21; Полоцкие грамоты XIII – начала XVI вв. / Сост. А.Л. Хорошкевич. С. 37.

[3] Звестка пра прыняцце "Пагоні" міфічным князем Нарымонтам з'явілася ўпершыню ў так званай "Хроніцы Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага", створанай каля 1530-х гг. і ўключанай пазней у шэраг беларуска-літоўскіх летапісаў: ПСРЛ. Т. 32. М., 1975. С. 136; Т. 35. М., 1980. С. 94, 151, 178–179, 199, 220. Версія пра ўвядзенне герба Віценем з'явілася ў "Рускім летапісцы" першай паловы XVII ст., адзін са спісаў якога ўключаны ў Густынскі летапіс: ПСРЛ. Т. 2. СПб., 1843. 1-е выд. С. 345–346.

[4] Беларуска-літоўскія летапісы аднадушна называюць Гедыміна сынам Віценя: ПСРЛ. Т. 32. С. 136; Т. 35. С. 95, 151, 179, 199, 220. Між тым у лісце Рыжскага магістрата ў 1338 г., адрасаваным Гедыміну, Віцень прыгадваецца як яго "брат і папярэднік": Послания Гедимина / Подготовили В. Пашуто и И. Шталь. Вильнюс, 1966. № 7. С. 58–59. Не выключана, аднак, што пры перапісцы дакумента слова "pater" (бацька) ператварылася ў блізкае па напісанні "frater" (брат): *Василевский В.* Переход Гедимина в католичество // ЖМНП. 1872. № 1. С. 144; *Ермаловіч М.* Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд. Мн., 1994. С. 11.

[5] Воінь Полацкі, брат Гедыміна, разам з Васілём Менскім і выхадцам са Смаленшчыны Фёдарам Святаславічам удзельнічалі ў літоўскім пасольстве ў Вялікі Ноўгарад, пра якое паведамляецца ў шэрагу летапісаў: НПЛ. С. 322; ПСРЛ. Т. 5. Псковские летописи. СПб., 1851. С. 217. У некаторых летапісных варыянтах гэтае паведамленне скажонае: Воінь выступае без тытула, тытул полацкага князя прыпісаны Васілю, а менскага – Фёдару Святаславічу. Апошні, верагодна, паходзіў са смаленскіх князёў і нейкі час валодаў Вязьмай і Дарагабужам: *Голубоский П.В.* История Смоленской земли до начала XV в. Киев, 1895. С. 202, 215.

[6] Послания Гедимина / Подготовили В. Пашуто и И. Шталь. № 18. С. 194–195.

[7] НПЛ. С. 322; ПСРЛ. Т. 5. С. 217.

яшчэ і Полацкага[1], а ў 1333 г. быў запрошаны ў якасці служылага князя ў Вялікі Ноўгарад, на які такім чынам распаўсюдзіўся ўплыў Літвы[2]. Другі сын, Альгерд, праз шлюб з адзінай дачкой апошняга віцебскага князя Яраслава атрымаў каля 1320 г. Віцебск[3]. Яго васаламі, верагодна, сталі князі Друцкія са сваімі вотчынамі.

Карыстаючыся згасаннем дынастыі галіцка-валынскіх князёў, Гедымін спачатку далучыў Берасцейскую зямлю, а ў самым канцы свайго панавання, магчыма, уладкаваў малодшага сына – Любарта ва Уладзіміра-Валынскім княстве[4]. Далучэнне Берасцейшчыны і Валыні адбылося, прынамсі, раней за 1348 г., калі ў бітве з крыжакамі на р. Стрэве ў складзе літоўскага войска было апалчэнне з Полацка, Віцебска, Берасця, Уладзіміра-Валынскага і нават Смаленска[5]. Беларуска-літоўскія летапісы паведамляюць таксама пра заваяванне Гедымінам Кіеўскага княства, але падрабязнасці гэтай падзеі выклікаюць вялікія сумненні: імёны амаль усіх дзеючых асоб яўна выдуманыя[6]. Аднак уплыў Гедыміна на Кіеў усё ж адчуваўся: у шэрагу больш надзейных летапісаў пад 1331 г. упамінаецца кіеўскі князь Фёдар, які дзейнічаў сумесна з татарскім баскакам супраць непажаданага для Гедыміна наўгародскага епіскапа Васілія[7]. Пэўную залежнасць ад ВКЛ адчувала і Смаленскае княства[8], хоць у асноўным яно яшчэ захоўвала самастойнасць.

---

[1] Пра княжанне Глеба-Нарымонта ў Пінску паведамляе "Летапіс вялікіх князёў літоўскіх", уключаны ў беларуска-літоўскія летапісы прыкладна праз стагоддзе пасля смерці Гедыміна: ПСРЛ. Т. 32. С. 138; Т. 35. С. 128 і інш.; Беларускія летапісы і хронікі. С. 89. Дакладнасць гэтай часткі летапісу праблематычная: яна ўжо не носіць яўна фантастычны характар, як папярэдняя легендарная "Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага", але цалкам дакладнымі яе звесткі пра часы Гедыміна і Альгерда лічыць таксама нельга. Пра тое, што Глеб быў полацкім князем, сведчыць яго пячатка на дагаворнай грамаце Полацка ў 1338 г.: Русско-ливонские акты. С. 20; БЭФ. Т. 1. С. 82–83; Полоцкие грамоты XIII – начала XVI вв. / Сост. А.Л. Хорошкевич. С. 39.

[2] НПЛ. С. 345–346.

[3] ПСРЛ. Т. 32. С. 137; *Stryjkowski M.* Kronica polska... T. 1. S. 381–382. Альгерд засведчыў у якасці віцебскага князя разам з Глебам-Нарымонтам вышэйзгаданую полацкую грамату 1338 г.

[4] Пра заваяванне Гедымінам Валыні і вылучэнне Уладзіміра і Луцка ва ўдзел яго сыну Любарту паведамляюць Хроніка Быхаўца (ПСРЛ. Т. 32. С. 136–137) і іншыя варыянты "Летапісца вялікіх князёў літоўскіх". М. Стрыйкоўскі датаваў заваяванне Валыні часам каля 1320 г. (*Stryjkowski M.* Kronica polska... S.368). Аднак калі паход супраць галіцка-валынскіх князёў Льва і Андрэя (у беларуска-літоўскіх летапісах названых Уладзімірам і Андрэем) сапраўды мог мець месца каля 1322 г., то да заваявання Валыні ён не прывёў. З 1323 па 1340 г. там правіў нашчадак мясцовай дынастыі па жаночай лініі Юрый-Баляслаў Трайдзенавіч (сын мазавецкага князя), грамату якога ў 1335 г. засведчылі падначаленыя яму ваяводы Белза, Луцка, Уладзіміра і Перамышля. Гл.: Болеслав-Юрий II, князь всей Малой Руси: Сб. материалов и исследований. СПб., 1907. С. 51, 138–140, 154–155. У гэтым пераліку няма ваявод Берасця і Падляшша, што можа сведчыць пра больш ранні адыход гэтых тэрыторый да ВКЛ.

[5] SRP. Bd. 2. P. 75, 511–512; БЭФ. Т. 1. С. 84.

[6] ПСРЛ. Т. 32. С. 136–137. Крытыку гэтага паведамлення гл.: *Антонович В.Б.* Очерк истории Великого княжества Литовского до смерти В.К. Ольгерда // Моиографии по истории Западной и Юго-Западной России. Т. 1. Киев, 1885. С. 47–53.

[7] НПЛ. С. 344; ПСРЛ. Т. 16. С. 68; Т. 25. С. 170. Частка даследчыкаў атаясамлівае яго з Фёдарам, братам Гедыміна: *Приселков М.Д., Фасмер М.Р.* Отрывки В.Н. Бенешевича по истории русской церкви XIV века // Известия ОРЯС АН. Т. 21. Кн. 1. Пг., 1916. С. 48–70; *Paszkiewicz H.* Jagiełłonowie a Moskwa. T. 1. Warszawa, 1933. S. 256, 330. Для гэтага, аднак, няма важкіх падстаў.

[8] У дагаворы з Рыгай у 1340 г. смаленскі князь Іван Аляксандравіч называе Гедыміна "брат мой старейший", што было тыповай формулай васальнай залежнасці (Skarbiec diplomatów... N. 337.)

Тэрыторыя ВКЛ (нават не лічачы Кіеўшчыны, Смаленшчыны і Вялікага Ноўгарада) у выніку гэтых набыццяў павялічылася больш чым удвая, прыблізна да 325–330 тыс. кв. км, з якіх нованабытыя Віцебскае, Друцкае, Менскае княствы займалі адпаведна каля 20, 17 і 19 тыс. кв. км; Піншчына са Слуцкам – каля 34 тыс., Берасцейшчына з Падляшшам – 29 тыс., Уладзіміра-Валынскае княства – да 55 тыс. кв. км. Старое дзяржаўнае ядро (Літва ў палітыка-геаграфічным сэнсе) ахоплівала зараз каля 30% дзяржаўнай тэрыторыі, ці каля 97 тыс. кв. км. Рэшту ўтваралі паўсамастойныя балцкія (Жамойць) і славянскія землі, прычым доля этнічна балцкіх ці змешаных тэрыторый у дзяржаве панізілася да 30%, а доля «рускіх» узрасла адпаведна амаль да 70%. Прыблізна палова, каля 150 тыс. кв. км, прыходзілася на землі Беларусі, а амаль 20% – на Украіну. Па-за межамі ВКЛ засталіся пакуль што, верагодна, Свіслацкае княства, а таксама ўсходнія і паўднёва-ўсходнія ўскрайкі тэрыторыі Беларусі, якія адносіліся да Смаленскага (Мсціслаў, магчыма, Магілёў, Орша), Чарнігаўскага (Гомель, Рэчыца) і Кіеўскага (Брагін, Мазыр) княстваў.



Верхні і Ніжні замкі ў Вільні.
Рэканструкцыя XIX ст.

Пры Гедыміне (магчыма, яшчэ пры Віцені) у ВКЛ упершыню з'явілася трывалая сталіца – Вільна, дзе былі пабудаваны мураваныя Верхні і Ніжні замкі[1]. Такія ж замкі паўсталі ў 1320–1330-я гг. у Медніках, Лідзе, Троках, а таксама ва ўдзельных цэнтрах Альгерда – Крэве і крыху пазней – Віцебску[2]. Значна пашырыліся кантакты з Заходняй Еўропай, адкуль у Літву былі запрошаны майстры-рамеснікі і гандляры, а таксама місіянеры-францысканцы. У 1322–1323 гг. нават абмяркоўвалася пытанне пра ўвядзенне ў Літве каталіцтва, аднак у апошні момант, відаць, прыхільнікі захавання веры продкаў узялі верх[3]. Таму ў адносінах з крыжакамі перыяды міру былі кароткімі, а ў асноўным працягвалася перманентная памежная вайна з абменам ударамі[4].

[1] У беларуска-літоўскіх летапісах прыведзена легенда пра заснаванне Вільна Гедымінам на чыстым месцы, дзе ён начаваў падчас палявання і ўбачыў прарочы сон. Яна, аднак, супярэчыць археалагічным даным.

[2] *Ткачоў М.А.* Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII–XVIII стст. Мн., 1978. С. 28, 34, 38–39.

[3] Послания Гедимина / Подготовили В. Пашуто и И. Шталь. № 2–7, 12–14.

[4] Апрача ўласных лістоў Гедыміна асноўнымі крыніцамі аб заходнім накірунку яго палітыкі з'яўляюцца творы тэўтонскіх і лівонскіх храністаў Пятра з Дусбурга (даведзена да 1326 г.), пазней – Германа з Вартберга (SRP. Bd. 2. P. 21–116) і Віганда з Марбурга (SRP. Bd. 2. P. 429–662). Гл. таксама: Сборник материалов и статей по истории Прибалтийского края. Т. 2. Рига, 1879. С. 83–106.

Каля 1341 г. пасля смерці Гедыміна вялікім князем стаў яго сын Яўнут. Аднак два іншыя сыны, Альгерд і Кейстут, каля 1345 г. скінулі яго з пасада і ўтварылі дуумвірат, у якім Альгерд атрымаў сталіцу дзяржавы Вільна і яе ўсходнюю палову (з Лідай, Крэвам, Віцебшчынай, Меншчынай), а Кейстут – заходнюю частку (Жамойць, беларускае Панямонне, Берасцейшчыну і Падляшша) з цэнтрам у Троках[1]. Пасля гібелі ў 1348 г. у бітве на р. Стрэве іх брата Нарымонта Полацкае княства таксама дасталося Альгерду, дзе ён уладкаваў свайго сына Андрэя[2]. Пінскае было, здаецца, пакінута за сынамі Нарымонта, а Яўнуту пасля яго вяртання ў ВКЛ было вылучана Заслаўскае княства. У 1348 г. апошні раз упамінаецца князь асобнага Свіслацкага княства[3] ў парэччы Бярэзіны і Пцічы, якое пазней было, відаць, падзелена паміж Альгердам і Кейстутам[4]. Пасля гэтага тэрыторыя ВКЛ дасягнула амаль 345 тыс. кв. км.

У сярэдзіне XIV ст. па Еўропе пракацілася страшэнная эпідэмія чумы. Залатая Арда, відаць, пацярпела ад яе вельмі моцна. Да таго ж там пачаўся працэс палітычнай дэцэнтралізацыі і барацьбы за ўладу[5]. Карыстаючыся гэтым, Альгерд разгарнуў шырокую экспансію на Русі. У 1350-я гг. да ВКЛ былі паслядоўна далучаны Бранскае, Чарнігава-Северскае княствы і заходняя частка Смаленскага (Тарапец, Орша, Мсціслаў)[6]. З гэтага часу ўся тэрыторыя сучаснай Беларусі апынулася ў складзе ВКЛ. У 1363 г. Альгерд перамог татар у бітве на Сініх Водах (у сучаснай Украіне), пасля чаго пад кантроль ВКЛ адышло парэчча Днястра і Паўднёвага Буга[7]. Неўзабаве Альгерд уладкаваў свайго сына Уладзіміра ў Кіеве[8]. Аднак уключэнне ў склад ВКЛ большай часткі тэрыторыі сучаснай Украіны не прывяло да яе поўнага пазбаўлення ад ардынскай даніны. Літоўскія і нават польскія князі, якія валодалі Падоллем, Валынню, Кіеўшчынай і Чарнігава-Севершчынай, працягвалі выплачваць Залатой Ардзе "выхад" са сваіх уладанняў яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў[9].

---

[1] Асноўныя падрабязнасці пра барацьбу за ўладу пасля смерці Гедыміна прыводзяць толькі беларуска-літоўскія летапісы: Беларускія летапісы і хронікі. С. 93–94. У рускіх летапісах паведамляецца пра ўцёкі Яўнута ў Маскву, дзе князь Сямён Іванавіч "крестил князя литовского именем Евнутия и его дружину литву": *Приселков М.Д.* Троицкая летопись: Реконструкция текста. М., 1950. С. 367.

[2] Упершыню Андрэй Альгердавіч выступае як полацкі князь у 1350 г.: Псковские летописи. Вып. 2. М.; Л., 1955. С. 27.

[3] Князь Сямён Свіслацкі ўдзельнічаў у літоўскім пасольстве ў Арду: ПСРЛ. Т. 6. С. 215; Т. 7. С. 205.

[4] Пра гэта сведчыць падзел валасцей колішняга Свіслацкага княства на віленскую і троцкую паловы, які ў Бабруйскай воласці захаваўся ажно да XVII ст.: *Любавский М.К.* Областное деление и местное самоуправление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута. М., 1892. С. 13–14, 103–106.

[5] *Егоров В.Л.* Золотая Орда перед Куликовской битвой // Куликовская битва. М., 1980. С. 178–196.

[6] Аналіз летапісных паведамленняў пра экспансію Альгерда на Русі гл.: *Черепнин Л.В.* Образование Русского централизованного государства в XIV–XV вв. М., 1960. С. 539–542.

[7] Упамінанне пра гэтую бітву змяшчаюць Рагожскі і Ніканаўскі летапісы: "Тое же осени Олгерд Синю Воду и Белобрежие повоева": ПСРЛ. Т. 15. Вып. 1. Ст. 75; ПСРЛ. Т. 11. М.; Л., 1949. С. 2. Больш падрабязны расказ, але без даты, прыводзіць Хроніка Быхаўца. Гл.: Беларускія летапісы і хронікі. С. 94–95.

[8] Паводле Густынскага летапісу, у 1363 г. Альгерд "Киев под Федором-князем взят и посади в нем Володымера сына своего" (ПСРЛ. Т. 2. 1-е изд. СПб., 1843. С. 350). У актавых крыніцах Уладзімір Кіеўскі ўпамінаецца з 1367 г.: Liv-, Est- und Curländisches Urkundenbuch... Bd. 2. N. 1041.

[9] Грамоти XIV ст. Київ, 1974. № 24, 58; *Флоря Б.Н.* Литва и Русь перед битвой на Куликовом поле // Куликовская битва. С. 146–147.



Мангола-татарскія цяжкаўзброеныя вершнікі. Ілюстрацыя XIV ст.

Альгерду разам з братамі Кейстутам і Любартам давялося весці працяглую барацьбу з Польшчай за Галіцка-Валынскую Русь, дзе дынастыя нашчадкаў Данілы Галіцкага канчаткова згасла пасля смерці Юрыя Баляслава Трайдзенавіча. У выніку неаднаразовых войн (1349, 1366, 1377) Галіцкая зямля і заходняя частка Валыні канчаткова адышлі да Польшчы, а ўсход Валыні (Ратна, Уладзімір, Луцк) – да ВКЛ, прычым мясцовыя ўдзельныя князі ў канцы 1377 г. часова прызналі сябе васаламі Польшчы[1].

На ўсходзе свядомай мэтай Альгерда было поўнае аб'яднанне Русі пад сваёй уладай[2]. На гэтым шляху ён непазбежна сутыкнуўся з іншым аб'яднаўчым цэнтрам – ва Уладзіміра-Суздальскай зямлі. За лідэрства там змагаліся Масква і Цвер, аднак да сярэдзіны XIV ст. намецілася перавага Масквы. 1350-я гады адзначаны напружанай барацьбой ВКЛ з Масквой за кантроль над Псковам і Ноўгарадам[3]. Альгерд заключыў таксама саюз з Ардой і цвярскімі князямі і паспрабаваў нанесці Маскве ваеннае паражэнне. Аднак ён сутыкнуўся з моцным патрыятычным рухам масквічоў, якія аказалі рашучае супраціўленне. Тры паходы Альгерда на Маскву (у 1368, 1370 і 1372 гг.) аказаліся безвыніковымі[4]. Гэта азначала захаванне на Русі двух аб'яднаўчых цэнтраў, канкурэнцыя паміж якімі ў далейшым вызначала палітычную атмасферу і ход этнічных працэсаў ва Усходняй Еўропе на працягу некалькіх стагоддзяў.

Тэрыторыя ВКЛ у гэты час складала 630 тыс. кв. км, што прывяло да змяншэння долі этнічна балцкіх і змешаных зямель да 16%. На тэрыторыю сучаснай Літвы (65 тыс. кв. км) прыпадала ўвогуле крыху больш за 10%, на тэрыторыю Беларусі – каля 1/3 агульнай плошчы дзяржавы. Яе ўнутраная структура ў гэты час характарызавалася пэўнай дэцэнтралізацыяй. Апрача ўладанняў Кейстута Альгерд раздаў шматлікім родзічам удзелы, унутры якіх яны карысталіся значнай самастойнасцю. У канцы яго панавання ўдзеламі валодалі, паводле прамых і ўскосных звестак, яго сыны Андрэй (Полацкае княства), Дзмітрый (Бранскае і Труб-

---

[1] *Ржежабек И.* Юрий II-й, последний князь всея Малыя Руси // Болеслав-Юрий II, князь всей Малой Руси. С. 29–49. Аб выніках паходу караля Польшчы і Венгрыі Людовіка на Валынь у 1377 г. паведамляецца ў яго лісце: *Halecki O.* Przyczynki genealogiczne do dziejow układu krewskiego // Miesięcznik Heraldyczny. XIV. 1935. S. 102, przyp. 28.

[2] Паводле Германа з Вартберга, падчас зносін з імператарам Карлам IV у 1358 г. аб магчымым хрышчэнні Літвы ў каталіцтва адной з умоў Альгерда было прызнанне таго, каб уся Русь належала Літве: SRP. Bd. 2. P. 79.

[3] Псковские летописи. Вып. 2. С. 25–27; НПЛ. С. 349, 375; ПСРЛ. Т. 10. СПб., 1885. С. 220.

[4] *Черепнин Л.В.* Образование Русского централизованного государства в XIV–XV вв. С. 562–575; *Флоря Б.Н.* Литва и Русь перед битвой на Куликовом поле. С. 152–155.

чаўскае), Уладзімір (Кіеўскае), Канстанцін (верагодна, Чарнігаўскае), Фёдар (Ратненскае), Ягайла (Віцебскае, Крэўскае). Крыху пазней удзелы атрымалі Дзмітрый Карыбут (Ноўгарад-Северскае княства) і Казімір Карыгайла (Мсціслаўскае). Статус удзельных князёў мелі сыны Кейстута Вітаўт (Гарадзенскае, Берасцейска-Падляшскае княствы) і, верагодна, Войдат (Наваградскае), брат Альгерда Любарт Дзмітрый (Уладзіміра-Валынскае і Луцкае), пляменнікі Юрый і Аляксандр Карыятавічы (Падольскае), Юрый Нарымонтавіч (Белзкае), верагодна, Міхаіл Нарымонтавіч (Пінскае) і Міхаіл Яўнутавіч (Заслаўскае), а таксама прадстаўнікі старажытных літоўскіх (Гальшанскія, Свірскія, Гедройцы) і рускіх родаў (Астрожскія, Друцкія, Чацвярцінскія і інш.). Сам Альгерд кантраляваў 10–15% тэрыторыі дзяржавы, Кейстут – прыкладна столькі ж, а ўдзелы ахоплівалі 70–75%.

**Дынастычная барацьба ў канцы 70-х – пачатку 80-х гг. Змены ў дзяржаўнай палітыцы.** Тэрытарыяльныя набыткі Гедыміна і асабліва Альгерда парушылі раўнавагу паміж этнічна літоўскім і «рускім» (беларуска-ўкраінскім) кампанентамі дзяржавы. Многія Гедымінавічы, якія атрымалі ўдзелы ў рускіх землях, прынялі праваслаўе і пачалі аддаваць перавагу мясцовым інтарэсам перад агульнадзяржаўнымі. Далейшае развіццё гэтых тэндэнцый магло прывесці да поўнага дамінавання ўсходнеславянскай культуры і асіміляцыі літоўскага пануючага слоя. Частка яго прадстаўнікоў, напэўна, свядома імкнулася пазбегнуць гэтага і як магчымы шлях далейшага развіцця разглядала інтэграцыю з заходнееўрапейскай цывілізацыяй, што цягнула за сабой адмову ад традыцыйнай верацярпімасці, ліквідацыю не толькі літоўскага паганства (час якога відавочна сышоў), але і раўнапраўя праваслаўнай большасці.

Партыя гэтая пачала групавацца вакол маладых сыноў Альгерда ад другога шлюбу[1], перш за ўсё Ягайлы і Скіргайлы. Асноўную яе сілу, напэўна, стваралі гандлёва-рамесніцкія вярхі Вільні, пазней узначаленыя купцом Ганулам (рыжскім немцам па паходжанні)[2], разам з вялікакняскім баярствам аўкштоцкіх каранёў. Магчыма, адным з натхніцеляў новай палітыкі быў спрытны прасталюдзін Вайдзіла – слуга, а потым фаварыт Альгерда, які, паводле беларуска-літоўскіх летапісаў, зрабіў імклівую кар'еру, стаўшы намеснікам Ліды, а пазней – нават шваграм Ягайлы, які аддаў за яго сваю сястру.



Вялікі князь літоўскі Альгерд. Гравюра XVI ст.

Памкненні гэтай групоўкі стрымліваліся пры жыцці Альгерда, які ў цэлым,

[1] Звод звестак аб колькасці і парадку старшынства сыноў Альгерда гл.: Skarbiec diplomatów... N. 460. S. 224–226; *Wolff J.* Ród Gedymina. Kraków, 1886.

[2] *Semkowicz W.* Hanul, namiestnik wileński (1382–1387) i jego ród // AW. 1930. N. 7. S. 1–20; Polski słownik biograficzny. T. 9. Wrocław et al., 1961. S. 284.

відаць, стаяў за захаванне традыцый. Аднак пасля яго смерці ў 1377 г. вярхоўная ўлада ў абыход старэйшых братоў перайшла да Ягайлы, што яўна было вынікам перамогі «празаходняй партыі». Адразу ж некаторыя ўдзельныя князі пачалі адасабляцца ад ВКЛ. Увосень таго ж года адзін са старэйшых Альгердавічаў, Фёдар Ратненскі, прынёс ленную прысягу каралю Польшчы і Венгрыі Людовіку Анжуйскаму, зазначаючы пры гэтым, што прызнае за сабой больш правоў на ўладу, чым за Ягайлам[1]. Зімой 1377/78 г. верагодны правадыр «рускай партыі» Андрэй Полацкі з'ехаў спачатку ў Пскоў, а потым – у Маскву[2]. Праз год пад вяршэнства Масквы перайшоў Дзмітрый Альгердавіч Бранскі[3]. Уладзімір Кіеўскі, верагодна, аддаўся пад пратэктарат Арды, бо пачаў выпускаць уласныя манеты з выявай татарскай тамгі[4]. Тым часам у 1378 г. Скіргайла зрабіў дыпламатычны вояж у Еўропу, дзе вёў перамовы аб магчымым хрышчэнні Літвы ў каталіцтва і шукаў падтрымкі ў барацьбе з маскоўскімі (а мабыць, і ўнутранымі) «схізматыкамі»[5].

Узрастанне ўнутранай напружанасці прывяло да фактычнага паралічу ўсходняй палітыкі ВКЛ у вельмі адказны момант. У 1380 г. Ягайла, будучы саюзнікам уладара Залатой Арды Мамая, ухіліўся ад удзелу на яго баку ў Кулікоўскай бітве[6] (магчыма, з-за ненадзейнасці свайго войска[7]), што ў значнай ступені вызначыла разгром Мамая Дзмітрыем Данскім. Не былі прыняты ніякія меры і для захавання самастойнай Літоўскай мітраполіі, калі мітрапаліт Кіеўскі і Літоўскі Кіпрыян пасля смерці мітрапаліта Маскоўскага Алексія стаў адзіным мітрапалітам усяе Русі і вясной 1381 г. пераехаў у Маскву[8].

Спробы рэзкага змянення курсу выклікалі незадаволенасць старога Кейстута. Яе яшчэ больш распальвалі інтрыгі Тэўтонскага ордэна, які ў 1380 г. заключыў сепаратнае пагадненне з Ягайлам[9]. Вынікам стала ўсобіца паміж Кейстутам і Ягайлам у 1381–1382 гг., у ходзе якой Кейстут спачатку змясціў Ягайлу і пакараў смерцю Вайдзілу, але потым загінуў сам. Сын яго Вітаўт цудам пазбег смерці і ўцёк да крыжакаў. Пераможцы Ягайла і Скіргайла з іх галоўным дарадцам Ганулам за падтрымку, аказаную крыжакамі, вымушаны былі восенню 1382 г. падпісаць шэраг пагадненняў з Тэўтонскім ордэнам і абавязаліся ў чатырохгадовы тэрмін прыняць каталіцтва[10].

Становішча ў краіне заставалася вельмі напружаным. Падчас усобіцы Андрэй Альгердавіч, відаць, аднавіў кантроль над Полацкам. Грозную небяспеку ўяўляў сабой і Вітаўт, які з братамі Таўцівілам і Жыгі-

[1] *Halecki O.* Pzryczynki genealogiczny do dziejów układu krewskiego. S. 102, przyp. 28.
[2] НПЛ. С. 375; Псковские летописи. Вып. 1. М.; Л. 1941. С. 24.
[3] ПСРЛ. Т. 15. Вып. 1. Ст. 138.
[4] *Gumowski M.* Numizmatyka litewska wieków średnich. Kraków, 1920. S. 68.
[5] *Smolka S.* Kejstut i Jagiełło // Pamiętnik Akademii Umiejętności. T. 7. Kraków, 1889. S. 89–98; *Флоря Б.Н.* Литва и Русь перед битвой на Куликовом поле. С. 156–157.
[6] ПСРЛ. Т. 15. Вып. 1. Ст. 139; Повести о Куликовской битве. М., 1959. С. 30, 38, 58.
[7] *Флоря Б.Н.* Литва и Русь перед битвой на Куликовом поле. С. 172–173.
[8] *Греков И.Б.* Место Куликовской битвы в политической жизни Восточной Европы конца XIV в. // Куликовская битва. С. 135.
[9] Skarbiec diplomatów... N. 467, 470; *Smolka S.* Kejstut i Jagiełło. S. 108–136; *Prochaska A.* Dzieje Witolda W. księcia Litwy. Wilno, 1914. S. 32–34.
[10] Беларускія летапісы і хронікі. С. 47–68; SRP. Bd. 2. P. 611–617; Skarbiec diplomatów... N. 474–482.

монтам аддаўся пад апякунства Тэўтонскага ордэна і з яго вайсковай дапамогай у 1383 г. распачаў набегі на Літву. Са старэйшых братоў Ягайлы яго падтрымліваў, відаць, толькі Канстанцін, які ў 1383 г. разам з ім вёў перамовы з крыжакамі[1].

У такіх умовах партыя, узначаленая Ягайлам, настойліва працягвала збліжэнне з каталіцкім Захадам, найпершым прадстаўніком якога была суседняя Польшча.

На такой глебе Ягайла летам 1384 г. нават прымірыўся з Вітаўтам, які вярнуўся ў ВКЛ і зноў атрымаў Гародню, Берасце і Падляшша. На пачатку 1385 г. літоўскія паслы выехалі ў Польшчу з прапановай аб дынастычнай уніі праз шлюб Ягайлы з юнай каралевай Ядвігай. Доўгія перамовы скончыліся капітуляцыяй перад умовай палякаў аб уключэнні ВКЛ у склад Польшчы[2]. Умовы уніі, падпісаныя ў Крэве 14 жніўня 1385 г. Ягайлам, Скіргайлам, Карыбутам і Лугвенам Альгердавічамі разам з Вітаўтам, далі пачатак новаму этапу гісторыі ВКЛ[3].

## 4. Роля беларускіх зямель ва ўтварэнні і ўмацаванні ВКЛ

**Беларусь і Літва ў другой палове XIII ст.** З самага пачатку свайго існавання ВКЛ было двухэтнічнай дзяржавай, у якой землі сучаснай Беларусі займалі значную частку тэрыторыі, а іх насельніцтва адыгрывала істотную ролю ў дзяржаваўтваральных працэсах. Літоўскі князь Міндоўг канчаткова дасягнуў аднаасобнай улады ў сваёй радавой вотчыне ("Літоўскай зямлі" ў вузкім сэнсе) толькі пасля таго, як атрымаў кантроль над княствамі Беларускага Панямоння. Вельмі верагодна, што менавіта баярскія дружыны Наваградка, Гародні і іншых гарадоў, якія прызналі Міндоўга сюзерэнам, далі яму магчымасць здзейсніць цэнтралізатарскія памкненні і захапіць вотчыны бліжэйшых родзічаў і васалаў (пляменнікаў Таўцівіла і Эрдзівіда)[4].

Наколькі можна меркаваць на падставе ўрывачных звестак, для Міндоўга этнічныя пытанні не адыгрывалі вызначальнай ролі пры ўмацаванні ўлады. У аўтэнтычных і падробленых граматах Міндоўга, выдадзеных ім Тэўтонскаму ордэну з 1253 па 1260 г., у якасці сведкаў выступаюць яго родзічы і "бароны" з выключна літоўскімі іменамі[5], але з Валынскага летапісу вядома, што яго ваяводам быў Хвал, які "велико убиство творяше земле Черниговскои". Мяркуючы па імені, ён быў, верагодна, русінам. Іншым ваяводам Міндоўга і, напэўна, бліжэйшым дарадцам быў рускі князь альбо баярын Яўстафій Канстанцінавіч "окаянный и беззаконный, бе бо збегл из Рязаня"[6]. Не выключана, што ў раду Міндоўга

---

[1] SRP. Bd. 3. P. 127; Codex epistolaris Vitoldi, magni ducis Lithuaniae (1376–1430). Cracoviae, 1882. N. 13–15; Skarbiec diplomatów... N. 483–495.

[2] *Łowmiański H.* Wcielenie Litwy do Polski w 1386 roku // Lituano-Slavica Posnaniensia. T. 2. Poznań, 1987. S. 41–67, 90 (przyp. 228).

[3] Acta unii Polski z Litwą. 1385–1791 / Wyd. S. Kutrzeba i W. Semkowicz. Kraków, 1932. N. 1. Агляд апошніх меркаванняў наконт аўтэнтычнасці гэтага дакумента гл.: *Błaszczyk G.* Dzieje stosunków polsko-litewskich... S. 252–267.

[4] ПСРЛ. Т. 2. М., 1962. Ст. 815.

[5] Preussisches Urkundenbuch. B. 1. Hälfte 2 / Ed. A. Seraphim. N. 39, 40, 79, 105; Liv-, Est- und Curländisches Urkundenbuch... Bd. 2. N. 286, 287, 363.

[6] ПСРЛ. Т. 2. Ст. 840, 855.

ўваходзілі і мясцовыя навагрудскія баяры, хоць непасрэдных звестак пра гэта няма. Затое вядома, што пры Таўцівіле ў бытнасць яго полацкім князем важную ролю адыгрываў мясцовы баярын, які выдаў яго намеры ("пронесе думу") саперніку князю Траняце, што і стала прычынай гібелі Таўцівіла[1].

Не выклікае сумненняў вызначальная роля, якую адыграла баярства беларускіх княстваў у прыходзе да ўлады сына Міндоўга – Войшалка. Пасля забойства бацькі ён знайшоў прытулак і дапамогу ў Пінску. Менавіта мясцовы князь даў яму войска, з якім Войшалк заняў Навагрудак і сабраў там прыхільнікаў бацькі, каб з імі падпарадкаваць "Літоўскую зямлю". У далейшым, пры прывядзенні да паслушэнства Нальшчанскай і Дзевалтоўскай зямель, істотную ролю адыграла дапамога з боку галіцкага князя Шварна Данілавіча[2] (якому Войшалк пазней і перадаў уладу), але без дружын панямонскіх гарадоў, напэўна, таксама не абышлося. У "Ліфляндскай рыфмаванай хроніцы" прыгадваецца ўдзел рускіх і ў дзеяннях Войшалка супраць Тэўтонскага ордэна, якія дазволілі яму захаваць кантроль над спрэчнымі жамойцкімі тэрыторыямі. Там жа адзначаецца, што пасля перамогі Войшалк "даў волю хрысціянам у Літве"[3].


Войшалк

Бясспрэчна, што рукамі Войшалка галіцка-валынскія князі дасягалі ўласных палітычных інтарэсаў, у тым ліку падпарадкавання яго дзяржавы сваёй уладзе. Аднак у разлікі жыхароў Беларускага Панямоння зусім не ўваходзіла ўключэнне іх зямель у склад Галіцка-Валынскага княства, залежнага ад Залатой Арды. Аказваючы падтрымку Міндоўгу і Войшалку, яны шукалі сваёй уласнай выгады. Аб трываласці гэтай падтрымкі сведчаць ускосныя, але вельмі красамоўныя факты: нягледзячы на ваенныя і палітычныя поспехі галіцка-валынскіх князёў, якія ў 1250-я гг. тройчы захоплівалі Панямонне, а пасля адрачэння Войшалка ўвогуле падначалілі ўсе яго ўладанні, сувязь Навагрудскай зямлі з Літвой захавалася. Нават больш, гарады Панямоння не адасобіліся ад Літвы і пры Трайдзене, якога валынскі летапісец малюе ворагам хрысціян. Падчас яго панавання галіцка-татарскае войска таксама двойчы штурмавала Навагрудак і Гародню. Калі б мясцовае насельніцтва лічыла Трайдзена ворагам і захопнікам, гэта быў бы вельмі зручны момант, каб выйсці з-пад яго ўлады. Такога, аднак, не адбылося, і няма падстаў лічыць, што панямонскія гарады ад валынян баранілі выключна літоўскія гарнізоны, а не самі жыхары.

Аб сумесным змаганні рускіх і літвінаў супраць крыжакаў ёсць непасрэдныя звесткі ў хроніцы Пятра з Дусбурга. Калі ў 1296 г. набег

[1] ПСРЛ. Т. 2. Ст. 862.
[2] Там жа. Ст. 861–863.
[3] Livländische Reimchronik... P. 164–165.

тэўтонскіх рыцараў дасягнуў Гародні, у сутычцы з імі ўдзельнічаў рыцар-"рутэн" (трэба меркаваць, мясцовы гарадзенскі баярын)[1]. Гэты ж храніст прыводзіць яшчэ адзін красамоўны выпадак: калі ў 1305 г. крыжацкае войска знянацку ўварвалася ў Літву, супраць яго выступіў сам вялікі князь Віцень са сваімі дарадцамі, якія якраз былі скліканы на "раду альбо парламент". Адзін з іх што загінуў у паядынку з нямецкім рыцарам, таксама аказаўся "рутэнам"[2]. Гэта сведчыць, што беларускія баяры ўваходзілі не толькі ў войска, але і ў раду Віценя.

**Беларускае насельніцтва ў дзяржаваўтваральных працэсах.** У цэлым адносіны паміж продкамі беларусаў і літоўцаў у другой палове XIII – першай палове XIV ст. можна вызначыць як сімбіёз, у якім кожны з бакоў меў сваю зацікаўленасць. Верагодна, толькі пры дапамозе літоўскіх князёў жыхары Беларускага Панямоння і Полаччыны пазбеглі ардынскай даніны ў часы, калі татары неаднаразова спрабавалі заваяваць іх[3]. Акрамя таго, наяўнасць у складзе ВКЛ беларускіх зямель істотна павялічвала яго магчымасці процідзейнічаць крыжацкай экспансіі. Вельмі цікава было б высветліць, якую ролю ў станаўленні ВКЛ адыгрывала славянскае насельніцтва, якое, паводле археалагічных даных, існавала на тэрыторыі Вільна (магчыма, у наваколлі) яшчэ з XII ст. Аднак пісьмовыя крыніцы нічога пра гэта не паведамляюць. Літоўскія ж археолагі па палітычных матывах прытрымліваюцца тактыкі замоўчвання гэтых фактаў. Між тым археалагічныя матэрыялы пры аб'ектыўным стаўленні да іх, магчыма, дазволілі б прасачыць, ці паменшала колькасць славянскіх матэрыялаў на тэрыторыі Літвы ў час вызвалення літвінаў ад данніцкай залежнасці і пазней, у перыяд утварэння ВКЛ. Магчыма, крывіцкі элемент у літвінскім асяроддзі адыгрываў не апошнюю ролю ў фарміраванні палітыкі першых вялікіх князёў, а таксама ў забеспячэнні пануючага слоя прадметамі раскошы, зброяй і іншымі рэчамі мясцовай вытворчасці.

Прадстаўнікі беларускіх зямель прымалі ўдзел у кіраванні дзяржавай і пазней. Пры Гедыміне выключную ролю адыгрываў гарадзенскі намеснік Давыд. Ён не толькі паспяхова бараніў ад крыжакаў Навагрудак падчас аблогі ў 1314 г., але і ўзначальваў войска ВКЛ у паходах у Прусію, Эстонію, Мазовію і Брандэнбургскую марку ў 1319–1326 гг.[4], а ў 1323 г. часова быў князем у Пскове[5]. Паходжанне Давыда дакладна невядома. Пскавічы звярталіся да яго пры запрашэнні на княжанне як "да князя свайго Давыда", што дало падставу некаторым даследчыкам лічыць яго сынам пскоўскага князя Даўмонта-Цімафея, выхадца з Літвы. Аднак нельга выключыць і чыста славянскае паходжанне Давыда. Нават калі ён і сапраўды меў літоўскае паходжанне, яго ўпамінанні выключна пад хрысціянскім іменем сведчаць пра яго русіфікацыю. Гэта, аднак, не перашкодзіла яму пэўны час быць ледзь не другім чалавекам у дзяржаве.

---

[1] *Петр из Дусбурга.* Хроника земли Прусской. С. 155.
[2] Там жа. С. 164.
[3] З летапісаў і заходнееўрапейскіх крыніц вядома, прынамсі, пра сем татарскіх паходаў на Літву, падчас якіх яны павінны былі праходзіць усю тэрыторыю Беларусі: у 1258, 1275, 1277, 1286, 1315, 1325 і 1338 гг.: ПСРЛ. Т. 2. Ст. 846, 871–874, 876–878; ПСРЛ. Т. 10. Патриаршая или Никоновская летопись. С. 157, 161, 168, 189, 208; SRP. Bd. 1. P. 286.
[4] ПСРЛ. Т. 10. С. 173, 178, 180–181, 184, 186.
[5] ПСРЛ. Т. 4. Псковские летописи. С. 15.



Пячатка
горада Віцебска XVI ст.

Спецыфічным было становішча ў складзе ВКЛ Полацкага і Віцебскага княстваў. Падпарадкаванне іх уладзе літоўскіх князёў прыводзіла не столькі да ўключэння гэтых княстваў у сферу агульнадзяржаўных інтарэсаў, колькі да прыняцця літоўскім князем ролі абаронцы мясцовых інтарэсаў Полаччыны і Віцебшчыны, звязаных перш за ўсё з гандлем па Заходняй Дзвіне. Прынамсі, асноўныя звесткі пра гэтыя гарады пад літоўскім панаваннем зводзяцца да гандлёвых дагавораў з Рыгай, якія літоўскія князі рэгулярна абнаўлялі ад імя Полацка і Віцебска, як гэта рабілі славянскія князі азначаных гарадоў, а таксама Смаленска. У адной з грамат у 1338 г. вялікі князь Гедымін выразна падкрэслівае, што яна складзена ад імя не толькі князёў, але і гарадоў Полацка і Віцебска[1]. Сын Гедыміна Нарымонт-Глеб, які, верагодна, княжыў у Полацку, падчас бітвы на Стрэве ў 1348 г. названы "рускім каралём"[2]. Каралеўскі тытул Нарымонта, ужыты храністам, сведчыць пра значную самастойнасць яго ўладанняў у складзе ВКЛ. Наступны полацкі князь, Андрэй Альгердавіч, таксама дзейнічаў пераважна ў інтарэсах Полацкай зямлі і амаль не прымаў удзелу ў агульнадзяржаўных акцыях. Адасобленасць Полацкай і шэрага іншых зямель ВКЛ (Віцебскай, Смаленскай, Валынскай, Кіеўскай, Падляшскай, Падольскай, як і этнічна балцкай Жамойцкай) захавалася і ў далейшым, а ў XV ст. была юрыдычна замацавана праз атрыманне імі так званых "земскіх прывілеяў"[3].

Разам з тым частка беларускіх зямель увайшла ў гістарычнае ядро дзяржавы, якое было непасрэдна падпарадкавана вялікаму князю. На іх на працягу другой паловы XIII–XIV ст. пашырылася назва "Літва" ў палітыка-геаграфічным сэнсе, якая не мела этнічнага значэння[4]. На гэтым абшары, які ахопліваў пераважна вадазбор верхняга і сярэдняга Нёмана і меў плошчу амаль 100 тыс. кв. км, не рабілася ніякіх адрозненняў у адміністрацыйным падзеле або прававым статусе паміж этнічна беларускай

[1] Русско-ливонские акты. № 83; Послания Гедимина / Подготовили В. Пашуто и И. Шталь. № 18. С. 194–195.

[2] SRP. Bd. 2. P. 75; БЭФ. Т. 1. С. 83.

[3] *Любавский М.К.* Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута. М., 1892. С. 1–62.; *Якубовский И.В.* Земские привилеи Великого княжества Литовского // ЖМНП. 1903. № 6. С. 245–303.

[4] Палітыка-геаграфічнае значэнне назвы "Літва", якое супадае з этнічиым, упершыню фіксуецца ўжо пры Міндоўгу ў 1250-я гг. – адзін з паходаў Данілы Галіцкага супраць яго быў накіраваны, паводле слоў летапісца, "на Літву на Новгородок": ПСРЛ. Т. 2. Ст. 827–828. Пра існаванне палітыка-геаграфічнага сэнсу назвы "Літва" ў часы Гедыміна сведчыць, напрыклад, тое, што ў 1323 г. пскавічы пасылаюць "у Літву" па князя Давыда (ПСРЛ. Т. 4. СПб., 1851. С. 15), які, паводле Пятра з Дусбурга, быў намеснікам у Гародні (хоць сам Пётр адрознівае гарадзенцаў-"рутэнаў" ад літвы). Разам з тым ні Полаччына, ні Палессе да Літвы ў гэтым сэнсе не адносіліся. Падчас бітвы на р. Стрэве ў 1348 г. вялікі князь Альгерд і яго супраўцель Кейстут (уладальнік Трокскага і Гарадзенскага княстваў) названы "літоўскімі каралямі", а іх брат Нарымонт (князь Полацка і, верагодна, Пінска) – "рускім каралём".

і літоўскай часткамі, якія былі прыкладна роўнымі – да 50 тыс. кв. км кожная. Верагодна, у такой жа прапорцыі падзялялася і войска, якое мелася ў распараджэнні вялікіх князёў у звычайных умовах (без склікання ўсеагульнага апалчэння).

Вярхоўная ўлада належала дынастыі літоўскага паходжання, але гэтая дынастыя распачала дзяржаўнае будаўніцтва, не маючы неабходных уласных традыцый. Замест таго каб ствараць іх нанова, быў выкарыстаны вопыт, які меўся ў славянскай частцы дзяржавы. У прыватнасці, было запазычана пісьменства. Аднак першыя створаныя пры двары вялікіх князёў дакументы, якія дайшлі да нас з XIII – першай паловы XIV ст., былі напісаны на лацінскай або нямецкай мове, бо адрасаваліся заходнееўрапейскім партнёрам – рымскай курыі, Ордэну, рыжскаму архібіскупу і магістрату. Цяжка сказаць, калі з'явіліся першыя пісьмовыя дакументы, разлічаныя на ўнутрыдзяржаўны ўжытак. Аднак амаль несумненна, што яны пісаліся на так званай старажытнарускай мове – літаратурнай мове Кіеўскай Русі, у якую вельмі рана пачалі пранікаць мясцовыя дыялектныя рысы і польскія запазычанні. На яе падставе ў канцы XIV–XV ст. сфарміравалася асноўная канцылярская мова ВКЛ, якую сучасныя беларускія даследчыкі, як правіла, называюць "старабеларускай", а ўкраінскія – "староўкраінскай". На гэтай мове напісаны не толькі дзяржаўныя і прыватныя акты, але і беларуска-літоўскія летапісы, стварэнне якіх пачалося прыкладна ў 1430-я гг. Нават тэндэнцыйныя легенды пралітоўскіх князёў – нашчадкаў Палемона, якія нібыта ажыццяўлялі шырокую экспансію на Русі яшчэ з XII ст.[1], – былі створаны ў асяроддзі нацыянальна арыентаваных арыстакратаў-літвінаў, але на старабеларускай мове.

Шматлікія славянскія тэрміны ўжываліся ў ВКЛ нават у дакументах, складзеных на лацінскай і нямецкай мовах. Бясспрэчна славянскае паходжанне маюць многія назвы службовых асоб ("дзецкі", "цівун", "намеснік"), відаў падаткаў ("палюддзе", "палуконне", "падводы"), адзінак падаткаабкладання ("саха", "устаў", "лукно", "пуд")[2]. Відавочна, гэтыя словы трапілі ў справаводства ВКЛ разам з паняццямі, якія яны абазначалі і якіх не было ў больш архаічнай тэрміналогіі літвінаў. Была запазычана нават славянская назва пануючага слоя "баяры", якая з XIV ст. пачынае сустракацца замест заходнееўрапейскіх тэрмінаў "нобілі" і "бароны", вядомых ужо з грамат Міндоўга.

Рускі надпіс "ПЕЧАТЬ" маюць першыя манеты ВКЛ, якія з'явіліся ў сярэдзіне ці другой палове XIV ст. (частка даследчыкаў схільная датаваць іх часам вялікага князя Альгерда і яго суправіцеля Кейстута)[3]. На пячатках Альгерда і Кейстута, якія выкарыстоўваліся ў 1360–1370-я гг.,

---

[1] ПСРЛ. Т. 32. Хроники: Литовская и Жомойтская, Быховца. М., 1975. С. 128–136; Беларускія летапісы // Старажытная беларуская літаратура: Зборнік. Мн., 1990. С. 106–118.

[2] Падборку славянскіх слоў у лацінскіх тэкстах XIV–XV ст. з архіва Віленскага біскупства выканаў П. Урбан. Нягледзячы на відавочную тэндэнцыйнасць яго працы ў цэлым, гэтая падборка ўяўляе цікавасць: *Урбан П.* Да пытання этнічнай прыналежнасці старажытных ліцьвіноў. С. 44–53.

[3] *Даркевич В.П., Соболева Н.А.* О датировке литовских монет с надписью "ПЕЧАТЬ" (по материлам Шанчайского клада) // Сов. археология. 1973. № 1. С. 83–95.

вядомы як лацінскія, так і рускія надпісы[1]. Пазней на пячатках князёў Гедымінавічаў пераважаюць лацінскія надпісы, але разам з тым пячаткамі з рускімі легендамі карысталіся ў 1380–1390-х гг. Карыбут і Лугвен Альгердавічы, Жыгімонт Кейстутавіч, Міхаіл Яўнутавіч, літоўскі князь Іван Альгімонтавіч Гальшанскі[2] і нават тыя баяры-літвіны, што ў канцы XIV ст. стваралі асноўную апору новай дзяржаўнай палітыкі, накіраванай на інтэграцыю з каталіцкім светам і дыскрымінацыю праваслаўнага насельніцтва. На рускай мове высечаны надпісы на пячатках фаварыта Ягайлы – лідскага намесніка Вайдзілы (1380), полацкага намесніка Мантыгерда (1396), вялікакняскага маршалка Чупурны Радзімавіча (1398, 1410), ковенскага намесніка Сунегайлы (1410)[3]. Напэўна, усе гэтыя пячаткі былі зроблены не заходнееўрапейскімі, а рускімі рэзчыкамі.

Невядома дакладна, на якой юрыдычнай падставе ажыццяўляўся на землях ВКЛ суд. Першы агульнадзяржаўны збор законаў – "Судзебнік" вялікага князя Казіміра Ягайлавіча – быў запісаны (таксама на старабеларускай мове) у 1468 г.[4] У XIV – пачатку XIV ст. вялікія, удзельныя князі і іх намеснікі, магчыма, карысталіся "Рускай праўдай" –зборам законаў часоў Кіеўскай Русі, які несумненна быў пашыраны на беларускіх землях да іх уваходу ў ВКЛ, ці блізкім да яе мясцовым звычаёвым правам Полаччыны і іншых беларускіх зямель. Хоць непасрэдных сведчанняў выкарыстання "Рускай праўды" на тэрыторыі Беларусі і Літвы ў часы ВКЛ няма, але вельмі малаверагодна, што яе нормы, распрацаваныя ва ўмовах класавага грамадства, маглі саступіць месца больш архаічнаму звычаёваму праву літвінаў[5]. Прынамсі, юрыдычная тэрміналогія, зафіксаваная ў "Судзебніку" Казіміра, вельмі блізкая да тэрміналогіі старажытнарускага права, хоць сэнс многіх тэрмінаў і меры пакарання істотна змяніліся за стагоддзі.

Да 1386 г. уладары ВКЛ і большасць іх літоўскага акружэння захоўвалі і падтрымлівалі паганскае веравызнанне. Разам з тым праваслаўе ў гэты перыяд не толькі не пераследавалася, але і афіцыйна падтрымлівалася дзяржавай, якая разглядала царкву як адзін з інструментаў сваёй экспансіі на Русі. Пра гэта сведчыць утварэнне на землях ВКЛ самастойнай мітраполіі, падначаленай непасрэдна канстанцінопальскаму патрыярху. Першую спробу стварэння праваслаўнай Літоўскай мітраполіі з цэнтрам у Наваградку ажыццявіў Гедымін. Тады мітраполія пра-

---

[1] *Gumowski M.* Pieczęcie książąt Litewskich // AW. T. 7. 1930. S. 702–703, 709–710.

[2] Там жа. S. 696–697, 702–705, 708.

[3] *Semkowicz W.* Braterstwo szlachty polskiej z bojarstwem litewskim w unii Horodelskiej 1413 roku // Polska i Litwa w dziejowym stosunku. Kraków, 1914. S. 410–412.

[4] Акты, относящиеся к истории Западной России (далей – АЗР). Т. 1. СПб., 1846. № 67. С. 83–83; *Старостина И.П.* Судебник Казимира 1468 г. // Древнейшие государства на территории СССР. Материалы и исследования 1988–1989 гг. М., 1991. С. 170–344.

[5] Звесткі аб існаванні ў ВКЛ адначасова "рускага" і "літоўскага" права маюцца ў прывілеі на магдэбургскае права Вільні 1387 г., на што звяртаў увагу ўжо У. Пашута: *Пашуто В.Т.* Образование Литовского государства. С. 322, 352. Аднак, паколькі ў той час тэрмін "Літва" ў палітыка-геаграфічным сэнсе ахопліваў не толькі этнічна балцкія землі, але і беларускае Панямонне, цяжка сказаць, ці мелася на ўвазе менавіта звычаёвае права літвінаў. Разам з тым яно, безумоўна, існавала і было нечым падобнае на права іншых балцкіх народаў, зафіксаванае на тэрыторыі Лівоніі ў XIII ст.: *Назарова Е.Л.* "Ливонские Правды" как исторический источник // Древнейшие государства на территории СССР. Материалы и исследования 1979 г. М., 1980. С. 5–218. З "Судзебнікам" Казіміра ў іх вельмі мала падабенства.

існавала з 1317 г. прыкладна да 1330 г., калі першы мітрапаліт Філафей памёр[1].

Другая спроба стварыць самастойную мітраполію была зроблена вялікім князем Альгердам у 1354 г. Ён актыўна прасоўваў свайго кандыдата Рамана (які, верагодна, паходзіў з цвярскіх князёў і быў сваяком Альгерда) на пасаду мітрапаліта усяе Русі. У той час Альгерд нават абяцаў канстанцінопальскаму патрыярху прыняць праваслаўе. Мітрапалітам усё ж стаў маскоўскі вылучэнец Алексій, але для Рамана была адноўлена асобная мітраполія Літоўская і Малай Русі (на землях ВКЛ і Галіччыны, з цэнтрам у Наваградку), якая праіснавала да смерці Рамана ў 1361 г. Пасля гэтага царкоўны сабор скасаваў падзел Русі на дзве мітраполіі, але Альгерд настойліва спрабаваў аднавіць яго, аб чым пісаў патрыярху ў 1368 і 1373 гг. У канцы 1375 г. стаўленік Альгерда балгарын Кіпрыян прыняў сан мітрапаліта Кіеўскага і Літоўскага. Аднак пасля смерці Алексія ў 1378 г. Кіпрыян павёў барацьбу за сан агульнарускага мітрапаліта, у выніку чаго абедзве мітраполіі зноў аб'ядналіся[2].

Уплыў беларускага насельніцтва прыводзіў да таго, што частка літоўскай знаці яшчэ да масавага хрышчэння Літвы пераходзіла ў праваслаўе. Хрысціліся князі Гедымінавічы, якія валодалі ўдзеламі на Русі. Ужо брат Гедыміна прыняў праваслаўе пад іменем Фёдар[3]. Магчыма, да яго папа Іаан XXII звяртаўся ў 1317 г. як да "літоўскага князя-схізматыка" (г.зн. праваслаўнага) з папрокам за напады на ўладанні Тэўтонскага ордэна[4]. Гэтым схізматыкам не мог быць сам Гедымін, бо летапісы называюць яго "паганым" нават у 1341 г. (год смерці)[5].

У далейшым праваслаўе прынялі сыны Гедыміна Нарымонт-Глеб, Яўнут-Іван, Карыят-Міхаіл і Любарт-Дзмітрый. Толькі пад хрысціянскімі імёнамі вядомы многія прадстаўнікі наступнага пакалення Гедымінавічаў: Андрэй, Дзмітрый, Уладзімір, Канстанцін і Фёдар Альгердавічы; Юрый, Патрыкей, Аляксандр і Міхаіл Нарымонтавічы (факт існавання двух апошніх няпэўны); Юрый, Аляксандр, Канстанцін і Фёдар Карыятавічы; Фёдар, Лазар і Сямён Любартавічы; Міхаіл і Сямён Яўнутавічы[6]. Ёсць непасрэдныя сведчанні таго, як далёка зайшоў працэс іх русіфікацыі. Напрыклад, паведамляючы пад 1431 г. пра смерць Фёдара (Фядушкі) Любартавіча, польскі храніст Ян Длугаш называе яго "русінам"[7].

---

[1] Літоўскі мітрапаліт прыгадваецца ў дакументах канстанцінопальскай патрыярхіі ў 1317, 1327 і 1329 гг.: Acta Patriarchatus Constantinopolitani (1315–1402) / Ed. F. Mikloshiech, Y. Müller. T. 1. Wien, 1860. P. 72, 143, 147; *Павлов А.С.* О начале галицкой и литовской митрополии и о первых тамошних митрополитах по византийским документальным источникам XIV в. М., 1894. С. 25–33; *Голубинский Е.* История Русской церкви. Период второй, Московский. Т. 2. Первая половина тома. М., 1900. С. 179–185.

[2] *Голубинский Е.* История Русской церкви... Т. 2. Первая половина тома. С. 190–193, 206–211, 232–235, 249; *Мейендорф И.* Византия и Московская Русь. Париж, 1990. С. 204.

[3] Царкоўны дар "Фёдара, брата Гедыміна" прыгадваецца ў грэчаскім зборніку XV ст.: *Приселков М.Д., Фасмер М.Р.* Отрывки В.Н. Бенешевича по истории русской церкви XIV века // Известия ОРЯС АН. Т. 21. Кн. 1. С. 48–70. Вынаходца гэтай звесткі М. Прысёлкаў атаясаміў яго з кіеўскім князем Фёдарам, які ўпамінаецца ў летапісах пад 1331 і 1363 гг. Для гэтага, аднак, няма важкіх падстаў. Хрысціянскае імя Фёдар магло належаць і брату Гедыміна Воіню Полацкаму.

[4] Skarbiec diplomatów... N. 288.

[5] Там жа. N. 264.

[6] *Wolff J.* Ród Gedymina. Kraków, 1886.

[7] *Ён жа.* Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. 202.

Пераходзілі ў праваслаўе і некаторыя арыстакраты-літвіны, маёнткі якіх знаходзіліся ў этнічнай Літве. Так, праваслаўным быў паплечнік Вітаўта ў канцы XIV ст. князь Іван Альгімонтавіч Гальшанскі, радавая вотчына якога – Гальшаны – знаходзілася хоць на тэрыторыі сучаснай Беларусі, але ў старажытным арэале ўсходнелітоўскіх курганоў – у першапачатковай Літве[1]. У дакуменце, складзеным у Тэўтонскім ордэне ў 1409 г. з мэтай скампраметаваць у вачах Захаду палітыку Уладзіслава Ягайлы, у палемічным запале нават сцвярджалася, што там, дзе сярод літоўскага этнасу (Litauwica lingua) адзін ахрышчаны паводле хрысціянскага (чытай – каталіцкага) абраду, знойдзецца добрая сотня ахрышчаных паводле "рутэнскага" абраду, прычым ёсць яны і сярод знаці[2].

Вялікая колькасць "рутэнаў" (магчыма, у іх склад залічвалі і ахрышчаных у праваслаўе літвінаў) была ў Аўкштоце ўжо ў другой палове XIV ст. Хроніка Віганда з Марбурга пры апісанні крыжацкіх набегаў на землі паміж Нёманам і Віліяй у 1360–1380-я гг. паведамляе пра захоп у палон не толькі літвінаў-паганцаў, але і "рутэнаў" (у адным выпадку яны былі захоплены нават у ваколіцах Пастова на захад ад р. Невяжы, г.зн. у Жамойці). Пад 1383 г. Віганд піша пра паход на Вільню як "абшчыну рутэнаў" (civitas Rutenica)[3]. У той час у Вільні праваслаўнае насельніцтва, напэўна, сапраўды складала большасць, аб чым сведчаць сабраныя польскім даследчыкам Ахманскім звесткі пра вялікую колькасць храмаў у канцы XIV ст. (12 праваслаўных у параўнанні з 6 каталіцкімі)[4].

Колькасць "рутэнаў" пастаянна павялічвалася за кошт прытоку мігрантаў з тэрыторыі Беларусі. У прывілеі Скіргайлу Альгердавічу на Трокскае княства ў 1387 г. прыгадваецца ў складзе воласці Сольчнікі (сучасны Шальчынінкай) "село Иваново, што Андрей держал Борисович", а таксама "на Ваце село, што Борис держал", і асобная воласць, цэнтрам якой быў маёнтак Новае Сяло[5]. Пазней, у XV–XVI ст., у тым жа Трокскім княстве (павеце), на тэрыторыі сучаснай Літоўскай Рэспублікі вядомы маёнткі са славянскімі назвамі Высокі Двор, Руднікі, а ў Віленскім павеце – Быстрыца, Падбярэззе і інш.

Апрача прасоўвання славян на тэрыторыю этнічнай Літвы адбываліся і сустрэчныя міграцыйныя рухі, у выніку чаго арэал змешанага насельніцтва ўключаў фактычна ўсю Літву ў палітыка-геаграфічным сэнсе. Верагодна, менавіта ў гэты час на Беларусі, па-за абшарам арэала ўсходнелітоўскіх курганоў, з'явіўся шэраг вёсак з назвамі тыпу Літва ці Ліц-

[1] *Wolff J.* Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. S. 95.

[2] Codex epistolaris Vitoldi, magni ducis Lithuaniae (1376–1430). App. IV. P. 972–1000.

[3] SRP. Bd. 2. P. 543, 559, 571, 579, 617. Адзначым, што беларускі эмігранцкі гісторык П. Урбан апрача гэтых фактаў звяртае ўвагу на паведамленні С. Борнбаха, які ў XVI ст. пісаў пра паход 1391 г. "на Русь да Трокаў" (in Reussen vor Traken). На думку П. Урбана, гэтае паведамленне ён запазычыў з нямецкамоўнага, больш поўнага варыянта той жа хронікі Віганда, які да нас не дайшоў: *Урбан П.* Да пытання этнічнай прыналежнасці старажытных ліцьвіноў. С. 94. Аднак больш верагодна, што тут і ў некаторых іншых месцах С. Борнбах вельмі вольна ставіўся да тэкстаў Віганда, замяняючы "Літву" на "Русь". У адным выпадку нават натуральная назва "Верхняя зямля Літвы" (Аўкштота) у яго ператварылася ў загадкавую "Верхнюю Русь" (Oberland der Reussen).

[4] *Ochmański J.* Historia Litwy. 3-e wyd. S. 62 (mapa). Гл. таксама: *Краўцэвіч А.К.* Стварэнне Вялікага княства Літоўскага. С. 90–91.

[5] Codex epistolariae saeculi decimi quinti. Vol. 1. P. 9–10; Полоцкие грамоты XIII – начала XVI вв. / Сост. А.Л. Хорошкевич. № 10. С. 50–54.

вяны, а таксама іншыя паселішчы над назвамі з літоўскімі каранямі: Айнаравічы, Бакшты, Ішкалдзь і інш. У сярэдзіне XV ст. вялікая колькасць літоўскіх імён (Трычыс, Свіркліс, Рымейшыс і інш.) прыгадваецца нават сярод насельнікаў Аболецкай валасці на паўднёвым захадзе Віцебскага княства[1], дзе ў 1387 г. быў заснаваны адзін з першых у ВКЛ касцёлаў. Няма падстаў лічыць гэтых літвінаў рэшткамі неасіміляванага дaславянскага насельніцтва, як гэта зрабіў Е. Ахманскі[2]. Напэўна, яны былі перасeлены ў Віцебскае княства ранейшымі ўладальнікамі – Ягайлам ці яшчэ яго бацькам Альгердам, якім аднaчасова належала і Крэўскае княства ў Літве.

У балцкім міграцыйным руху на Панямонні ўдзельнічалі не толькі літвіны, але і нашчадкі ятвягаў, першапачатковы арэал пражывання якіх фіксуецца археалагічна на падставе характэрнага пахавальнага абраду з закладкай курганоў насцілам з камення. Гэты абрад распаўсюджваўся на левабярэжжы Нёмана ў парэччы Росі і далей на захад, у Сувалкіі. У XII–XIV ст. адбываецца эвалюцыя гэтага абраду – нябожчыкаў пачынаюць хаваць у грунтовых магілах, таксама пакрытых каменным насцілам. Характэрна, што гэты больш позні абрад значна пашыраны за арэал каменных курганоў у ваколіцах Слоніма, Наваградка, парэччы нёманскай Бярэзіны і верхняй Віліі, адкуль эпізадычна пранікае нават у вярхоўі дняпроўскай Бярэзіны[3]. Яго пашырэнне сведчыць пра даволі масавае перасяленне на землі ВКЛ ятвягаў, зыходны арэал якіх (Сувалкія) у другой палове XIII ст. быў заваяваны Тэўтонскім ордэнам, Мазовіяй і Галіцка-Валынскім княствам. Верагодна, аднак, што на Беларусі рассяляліся ўжо не столькі ятвягі, колькі іх славянізаваныя нашчадкі, якія захавалі пэўныя рысы пахавальнага звычаю продкаў.

Узаемныя міграцыі балтаў і славян мелі розныя вынікі: на тэрыторыі Беларусі літвіны і ятвягі пaступова асіміляваліся, пераходзілі на мову мясцовага насельніцтва. У той жа час ніякіх звестак пра паглынанне славянскіх мігрантаў літоўскім асяроддзем няма. Наадварот, у Віленскім краі славяне, напэўна, паволі асімілявалі мясцовых літвінаў, у тым ліку нават тых, што былі ў канцы XIVст. ахрышчаны ў каталіцтва, пра што ўскосна сведчыць наступны факт: пераважная колькасць насельніцтва Віленскага краю ў больш позні часы захоўвала каталіцкае веравызнанне, але паводле мовы лічылася ў XIX ст. беларусамі, а ў XX ст. – палякамі.

Такім чынам, абодва этнасы ўносілі свой уклад у агульную дзяржаву. Літоўскаму элементу належала вышэйшая ўлада і палітычная ініцыятыва ў агульнадзяржаўных (але не мясцовых) справах. Рускі, усходнеславянскі элемент у кіраванні дзяржавай выконваў прыкметныя, але хутчэй кансультацыйныя функцыі. Затое ён унес рашаючы ўклад у фарміраванне нізавога дзяржаўнага апарату сістэмы падаткаабкладання і, верагодна, судовай сістэмы. Значная роля належала яму і ў стварэнні сістэмы справаводства, хоць тут не меншую ролю адыгрывалі спецыялісты з За-

[1] Документы Московского архива Министерства юстиции. Т. 1. М., 1897. С. 10; Lietuvos Metrika = Lithuanian Metrica = Литовская Метрика. Kn. 3. Vilnius, 1998. С. 27.

[2] *Ochmański J.* Ludność litewska we włości Obolce na Białorusi wschodniej w XIV–XVI w. // Acta Baltico-Slavica. T. 5. Białystok, 1967. S. 147–158; *Ён жа.* Biskupstwo Wileńskie w średniowieczu. Ustrój i uposażenie. Poznań, 1972. S. 83–85.

[3] *Зверуго Я.Г.* Верхнее Понеманье в IX–XIII вв. С. 30–42; *Квятковская А.В.* Ятвяжские могильники Беларуси (к. IX–XVII вв.). Вильнюс, 1998.

хаду. Цяжар вайсковай службы ў цэнтральнай частцы дзяржавы (двухэтнічнай Літве) абодва бакі неслі, відаць, прыкладна пароўну. Войска федэратыўных зямель (за выключэннем Жамойці) складалася амаль выключна з рускага баярства. Таксама рускімі майстрамі ствbooралася (прынамсі, на першых этапах існавання дзяржавы) асноўная маса зброі і іншай стратэгічнай прадукцыі мясцовай вытворчасці, чаканіліся першыя манеты ВКЛ.

У далейшым, з часоў Гедыміна, узмацняецца роля майстроў, запрошаных з Заходняй Еўропы і суседняй Лівоніі. Іх запрашэнне, безумоўна, было ініцыятывай вышэйшых (пераважна літоўскіх па паходжанні) пануючых колаў. Сумесныя дзеянні новага заходнееўрапейскага і старога літоўскага элементаў згралі рашаючую ролю ў агульнай пераарыентацыі дзяржаўнай палітыкі на Захад, якая адбылася ў апошняй чвэрці XIV ст. З гэтага часу рускі элемент, нягледзячы на сваю колькасную перавагу, страціў раўнапраўе і пачаў пасоўвацца на другі план, на правінцыйны (земскі) узровень. Працэс беларусізацыі ў Літве пры гэтым не спыніўся (хоць, магчыма, і запаволіўся), але на яго накладваецца новы працэс – паланізацыя, пачатак якой паклала Крэўская унія Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай у 1385 г.

# ГЛАВА 2

# ЗНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА (КАНЕЦ XIV – ПЕРШАЯ ПАЛОВА XV ст.)

## 1. Супрацьстаянне тэўтонскай агрэсіі

**Пачатак агрэсіі Тэўтонскага ордэна ў Прыбалтыцы.** Тэўтонскі ордэн быў заснаваны ў 1198 г. у Палесціне на базе шпіталя ў Іерусаліме, што ўзнік яшчэ ў 1118 г. Поўная яго назва – "Ордэн шпіталя Найсвяцейшай Панны Марыі нямецкага дома ў Іерусаліме". Менавіта той факт, што ордэн быў закладзены пры шпіталі для параненых крыжаносцаў нямецкага паходжання, абумовіў яго неафіцыйную назву Тэўтонскі ці Нямецкі.

Першыя тэўтонскія рыцары, пакліканыя мазавецкім князем Конрадам для барацьбы з ваяўнічымі балцкімі плямёнамі прусаў, пасяліліся ў раёне Торуня ў 1230 г. Ужо праз год іх магістр Герман фон Балк пачаў змаганне з прусамі і да канца 1230-х гг. немцам удалося амаль падпарадкаваць іх (за выключэннем самбійцаў). Першае прускае паўстанне супраць тэўтонцаў, узнятае дзякуючы падтрымцы паморскага князя Свентаполка, скончылася паражэннем, зафіксаваным Хрыстбургскай дамовай 1249 г., другое (1260–1261) таксама не дало станоўчых вынікаў. Такім чынам, да 1274 г. супраціўленне прусаў было канчаткова падаўлена, а рэшткі іх, што не пажадалі падпарадкавацца, уцяклі на землі Літвы. Яшчэ ў 1267 г. страцілі самастойнасць плямёны куршаў, а ў 1272 г. і земгалы. Да 1276 г. рыцары заваявалі і Скалву, адкуль таксама многія

карэнныя жыхары сышлі ў Літву. З 1277 г. Ордэн павёў барацьбу з ятвягамі. Ужо праз паўтара дзесятка год іх землі былі захопленыя, а апошні незалежны ятвяжскі князь Скурда ў 1283 г. пакінуў свой край і перайшоў за Нёман, на тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага. У тым жа годзе Тэўтонскі ордэн ажыццявіў напад на літоўскі замак Бізэну. "Скончылася вайна з Прусіяй. Пачалася вайна з Літвой", – запісаў на гэты конт храніст Пётр з Дусбурга[1]. Так Ордэн распачаў вайну з невялікай язычніцкай Літвой[2], вайну, якая абярнулася для яго амаль паўтарастагадовай цяжкай барацьбой з вялікай дзяржавай літвінаў і русінаў.

Агрэсія Тэўтонскага ордэна была скіраваная галоўным чынам на Жамойць ды на замкі сярэдняга Нёмана, але тэўтонцы не пакідалі ў спакоі і Беларускае Панямонне. Ужо праз год пасля пачатку вайны адбыўся першы паход нямецкіх рыцараў на Гародню, даволі поўна апісаны Пятром з Дусбурга. Летам 1284 г. прускі ландмайстар Конрад фон Тырберг, пераправіўшыся цераз Нёман з "моцным войскам", аблажыў і стаў штурмаваць гарадзенскі замак. Абаронцы доўга паспяхова адбівалі атакі, і ўсё ж рыцары ўварваліся ў замак, "пабілі ўсіх або забралі ў палон", умацаванні спалілі і, спустошыўшы ваколіцы, з вялікай здабычай вярнуліся ў ордэнскія ўладанні[3].

У канцы XIII ст. Ордэн яшчэ не быў гатовы да рэгулярнай вайны з ВКЛ, таму паходы рыцараў на Княства спачатку былі адносна рэдкімі. Напрыклад, у Беларускае Панямонне наступны паход адбыўся праз дзесяць гадоў. Актыўнасць рыцарскай дзяржавы стрымлівала і аддаленасць яе палітычнага цэнтра ад тэатра ваенных дзеянняў (да 1309 г. рэзідэнцыя вялікага магістра знаходзілася ў Венецыі). Замацоўваючы плацдарм у рэгіёне, рыцары будавалі на памежжы мураваныя замкі – свае апорныя базы. Так, яшчэ ў 1253 г. на марскім узбярэжжы паўстаў Мемель (цяпер Клайпеда). У 1289 г. рыцары ўзвялі свае замкі на Нёмане – Рагнет і Тыльзіт. Толькі пасля гэтага іх ваенныя акцыі пачасціліся.



Стары замак у Гародні. Канец XIV ст.

Вялікае Княства Літоўскае напачатку недаацэньвала небяспеку з боку ордэнскай дзяржавы, і паходы на землі Польшчы літоўскія князі арганізоўвалі часцей, чым на Прусію[4]. Вайна з Ордэнам уплывала і на ваенную арганізацыю ВКЛ. Калі раптоўнасць нападу паспрыяла поспеху першых паходаў, дык пасля адбудовы замкаў Бізэна і Гародня вялікі князь

[1] *Dusburg P.* Cronica Terre Prussie // Scriptores Rerum Prussicarum (далей — SRP). Bd. 1. Leipzig, 1861. S. 146.
[2] Пад словам "Літва" ў нямецкіх крыніцах разумелася дзяржава літоўскіх князёў, а не этнічная Літва.
[3] *Dusburg P.* Cronica Terre Prussie. S. 147–148.
[4] На польскія землі яны хадзілі ў 1290, 1292, 1296, 1300 і 1303 гг., тады як супраць Ордэна – толькі ў 1299, 1300 і 1302 гг.

Віцень узяў іх пад сваю апеку і ўвёў пастаянную гарнізонную службу, што павышала абараназдольнасць памежных фартэцый.

Перанос сталіцы Ордэна ў 1309 г. у Мальбарк азначаў, што яго ўлады адмовіліся ад ідэі вызвалення Святой зямлі і канчаткова аддалі перавагу сваім інтарэсам у Прыбалтыцы. Важнай вяхой у нарошчванні ваеннай сілы Ордэна стаў 1304 год, калі ў Прусіі пасля трыццацігадовага перапынку з'явілася першая партыя "гасцей" – крыжовых рыцараў з розных зямель нямецкай дзяржавы – Свяшчэннай Рымскай імперыі, што ехалі дапамагчы Ордэну ў яго барацьбе з новымі ворагамі хрысціянства – паганскай "Літвой". Дзякуючы прытоку еўрапейскага рыцарства ў XIV ст. Тэўтонскі ордэн валодаў бадай самым моцным ваенным патэнцыялам у цэнтральна-еўрапейскім рэгіёне, хоць памеры яго ўладанняў не перавышалі 58 тыс. кв. км, а самі немцы складалі толькі трэцюю частку насельніцтва гэтай дзяржавы.

**Актывізацыя барацьбы з Тэўтонскім ордэнам.** Хоць галоўнай праблемай знешняй палітыкі нямецкай ордэнскай дзяржавы яшчэ доўга (да 1343 г.) было саперніцтва з Польшчай, барацьба супраць ВКЛ актывізавалася з першага ж дзесяцігоддзя XIV ст. Хронікі паведамляюць, што ўжо ў 1305 г. Гарадзеншчыну паліў і рабаваў брадэнбургскі комтур Конрад Ліхтэнгайн, і толькі наяўнасць паблізу сіл Вялікага Княства прымусіла яго хутка пакінуць раён. Другое войска Нямецкага ордэна ў той самы час уварвалася ў глыб самой Літвы. Праз год, калі армія Віценя з Гародні выправілася на Польшчу, прускі магістар Конрад накіраваў спецыяльна на захоп гэтай нёманскай цвярдыні кантынгент рыцара Альберта фон Гагена. Паводле Пятра з Дусбурга, рыцары не змаглі ўзяць замак, але авалодалі горадам і вярталіся з такой вялікай здабычай, з якой толькі маглі рухацца. Неўзабаве каралявецкі комтур Эбергарт выслаў на гарадзенскі замак намнога большае войска, аднак Віцень паспеў прысланць сюды значныя сілы з вопытнымі военачальнікамі, якія стрымалі націск крыжаносцаў і адстаялі цвярдыню на Нёмане.

Калі ў 1311 г. тэўтонцы зноў спустошылі ваколіцы Гародні, вялікі князь Віцень з літоўска-беларускім войскам уварваўся ў Прусію, аднак рыцары дагналі і разграмілі яго сілы на зваротным шляху. Даволі частыя напады на Гародню сведчаць, што гэтая крэпасць з'яўлялася важнай перашкодай на шляхах усходняй экспансіі Нямецкага ордэна. Ніводзін іншы замак сучаснай Беларусі не прыцягваў тады такой увагі тэўтонцаў, як гарадзенская фартэцыя, што выконвала функцыю асноўнай базы для ваенных рэйдаў ВКЛ на захад. Невыпадкова сама яна на працягу ўсяго XIV ст. заставалася пастаянным аб'ектам ордэнскіх экспедыцый[1].

У адрозненне ад класічных крыжовых паходаў у Святую зямлю выправы ў Прусію і потым на Літву ў XIV ст. ужо не мелі выразна рэлігійнага характару. Яны былі своеасаблівым выпрабаваннем высакароднага рыцарства, якое імкнулася паўдзельнічаць у барацьбе з "ворагамі хрысціянства". У гэтым яно бачыла свой хрысціянскі абавязак (так званы "Heidenkampf"). У "рэйзах" супраць паганых брала ўдзел, як правіла, невялікая колькасць братоў-рыцараў (ад некалькіх чалавек да 100) і дапа-

---

[1] *Paravicini W.* Die Preussenreisen des europäischen Adels. T. 2. Sigmaringen, 1995. S. 59.

можныя сілы, часцей конныя, якіх былі сотні ці нават тысячы. За час, апісаны Пятром з Дусбурга (да 1330 г.), сама больш вершнікаў з братамі-рыцарамі прыйшло, верагодна, у 1306 г. – 6000 "коней". Паходзілі яны пераважна з Натангіі і Самбіі, хоць былі і з іншых, галоўным чынам нямецкіх, зямель.

"Рэйзы" на Літву найчасцей арганізоўвалі вялікі магістр і комтуры каралявецкі або рагнецкі. Звычайна не праходзіла і года, каб на які-небудзь раён Літвы ці Заходняй Беларусі не рабілася крыжацкая выправы. Бывала, што іх прыпадала і па некалькі на год, а ў другой палове XIV ст. колькасць уварванняў дасягала васьмі. Рыцары найчасцей збіраліся ў Караляўцы і выпраўляліся ў паход паміж студзенем і лютым, калі можна было не баяцца топкіх багнаў, але практыкаваліся і летнія выправы. Аналіз хронікі Германа з Вартберга паказвае, што інфлянцкія рыцары амаль палову сваіх паходаў правялі летам і ўвосень. Зімой рухаліся берагам ракі (Нёмана ці Дзвіны), а ўлетку плылі караблямі. Усцяж Нёмана да самай Літвы стаялі ордэнскія замкі – апорныя пункты агрэсіі. За дзень рыцары праходзілі да 45 км. Уся "рэйза" з Караляўца ў "зямлю паганых" і назад займала каля двух тыдняў.



Наваградскі замак. Рэканструкцыя Я. Куліка па даследаваннях М. Ткачова

У 1314 г. адбылося ажно тры спусташальныя паходы на ВКЛ: два першыя на этнічна літоўскія землі, а трэці, вераснёўскі – на Наваградак, або, па азначэнні Пятра з Дусбурга, у "Зямлю Крывічоў"[1]. Горад наезнікі захапілі, але замкам не авалодалі, а ў выніку ўдалых контракцый гарадзенскага старосты Давыда, які пазбавіў рыцараў правіянту і коней, рыцары на зваротным шляху і самі панеслі вялікія страты.

Пасля смерці вялікага князя Віценя беларуска-літоўская дзяржава некалькі гадоў заставалася пасіўнай. Толькі пад 1319 г. хронікі зафіксавалі паход "кашталяна гарадзенскага" Давыда на Прусію. На чале

[1] *Dusburg P.* Cronica Terre Prussie. S. 180.

800 коннікаў ён ажыццявіў рэйд у Натангію, дзе ўчыніў шмат знішчэняў і сабраў вялікую здабычу, але пры адыходзе быў разбіты. Наогул, Давыд Гарадзенскі псаваў тэўтонцам многа крыві, таму яны трымалі яго на асаблівым рахунку і са свайго боку імкнуліся адпомсціць ваяўнічаму кашталяну. У 1324 г. невялікі прускі аддзел (600 чалавек) з трыма братамі-рыцарамі на чале знішчыў яго ўладанні. У выніку 38 чалавек было забіта на месцы, а 100 коней забрана ў Прусію.

Пасля таго як у 1320 г. у бітве пад Меднікамі ордэнскае войска пацярпела паражэнне (загінулі ўсе 40 братоў-рыцараў і іх дапаможны кантынгент), ініцыятыва на нейкі час перайшла да Вялікага Княства. Да 1323 г. яно ажыццявіла чатыры паходы ў Прусію і Інфлянты, тады як рыцары адказалі толькі адным паходам[1].

У цяжкім супрацьстаянні Гедымін ініцыяваў праект хрышчэння Літвы, дзякуючы якому ў 1324 г. яму ўдалося дасягнуць чатырохгадовага перамір'я з Тэўтонскім ордэнам. Папа Іаан XXII заступіўся за Літву і нават забараніў рыцарам чыніць выправы на яе тэрыторыю. Польскі кароль Уладзіслаў Лакетак таксама зблізіўся з Гедымінам і заключыў з ім у 1325 г. саюз, замацаваны шлюбам Гедымінавай дачкі Ганны і каралевіча Казіміра. У выніку гэтага саюзу ў 1326 г. ваенны кантынгент ВКЛ (1200 коннікаў), узначалены Давыдам Гарадзенскім, браў удзел у спусташальным паходзе ўзброеных сіл Польшчы і Венгрыі на Брандэнбург (хоць Брандэнбургія тады і не была саюзнікам Ордэна). Гэты рабаўнічы рэйд, інспіраваны рымскім папам, адпавядаў толькі польскім інтарэсам і азначаў умяшанне ВКЛ у канфлікт імператара Людовіка і папы Іаана XXII на баку апошняга. Згодна з хронікай Яроша, пры завяршэнні гэтай акцыі ад рук мазавецкага рыцара Анджэя Госта загінуў і сам Давыд.

У 1328 г. комтуры памежных замкаў ажыццявілі ажно тры паходы на ВКЛ, прычым два з іх – на Гародню. Падчас апошняга 60 братоў-рыцараў з войскам падышлі да горада і спустошылі наваколле на 6 міль. У 1329 г. прускае войска ўварвалася ў Жамойць і хутка заняло там амаль усе ключавыя замкі. У тым жа годзе рыжане, якія знаходзіліся ў канфлікце з інфлянцкімі рыцарамі, перажывалі чарговую аблогу. Яны запрасілі дамапогі ў ВКЛ. Коннае войска літоўска-беларускай дзяржавы, узначаленае самім Гедымінам, увайшло ў ордэнскую вобласць Каркус і 6 дзён спусташала яе, аднак гэтая акцыя ўжо не ўратавала Рыгу: пасля доўгай барацьбы горад вымушаны быў капітуляваць перад інфлянцкімі рыцарамі.

Пасля падпарадкавання Рыгі і Рыжскага арцыбіскупства ваенныя дзеянні супраць ВКЛ цяпер зноў мог праводзіць і Інфлянцкі ордэн. Яго выправы аднавіліся ўжо ў 1331 г. Інфлянцкія кантынгенты дасягалі ваколіц самой Вільні (як у 1334 г., калі яны наблізіліся на 4 мілі да сталіцы). Цярпела ад іх і беларускае Падзвінне. Згодна з паведамленнямі Германа з Вартберга, "шматлікае войска" магістра Эвергарда ў 1333 і 1334 гг. падыходзіла да самага Полацка. Прускі ордэн, скончыўшы ў 1332 г."дэ факта" вайну з Польшчай і падпісаўшы з ёй замірэнне, таксама стаў актыўней дзейнічаць супраць ВКЛ. У тыя гады на беразе Нёмана

---

[1] *Nikentaitis A.* Litwa i Zakon krzyżacki w końcu XIII i w I połowie XIV w. (1283–1345) // Ekspansja niemeckich zakonów rycarskich w strefie Bałtyku od XIII do połowy XVI w. Toruń, 1990. S. 131.

быў узведзены спачатку ордэнскі замак Марыенбург, а потым побач яшчэ Баербург, які меўся стаць сталіцай падпарадкаванага літоўскага краю. У 1337 г. Нямецкі ордэн атрымаў ад імператара Людовіка Баварскага спецыяльны данацыйны акт на Літву. З тэксту гэтага дакумента вынікала, што рыцарскай дзяржаве перадавалася Літва як гістарычны рэгіён – з Жамойцю і Руссю (г.зн. сучаснай Беларуссю)[1]. Аднак у канцы 1330-х гг. націск рыцараў зусім нечакана зменшыўся. Прычынай гэтага найверагодней быў зварот вялікага князя Гедыміна з просьбай аб прыняцці хрысціянства, у выніку чаго ён быў атручаны сваімі ж набліжанымі.

**Супрацьстаянне ў перыяд найбольшай магутнасці Тэўтонскага ордэна.** У першыя гады пасля смерці Гедыміна абарона беларуска-літоўскай дзяржавы ад крыжаносцаў значна аслабла. Між тым палітычная сітуацыя пагоршылася. Калішскі мір 1343 г. паміж Тэўтонскім ордэнам і Каронай Польскай, пасля якога Польшча да канца XIV ст. не ведала нямецкай агрэсіі, даў рыцарам магчымасць увесь свой патэнцыял скіраваць на барацьбу з ВКЛ. Гэта быў час найбольшай магутнасці Нямецкага ордэна, з якім салідарызавалася ўсё заходняе рыцарства.

У 1348 г. вялікае прускае войска, у складзе якога былі таксама французскія і англійскія рыцары, на працягу тыдня беспярашкодна пустошыла панямонскія землі Літвы. Армія Альгерда і Кейстута, у якую апрача ўласна літоўскіх сіл уваходзілі палкі з Уладзіміра Валынскага, Берасця, Віцебска, Смаленска і, напэўна, з Полацка[2], сустрэлася з крыжаносцамі каля Коўны. На берагах Стрэвы адбылася жорсткая бітва. Сеча скончылася поўнай перамогай рыцараў, якія страцілі толькі 8 братоў і 42 воіны, тады як з боку літвінаў і русінаў загінулі дзесяткі тысяч[3], у тым ліку Альгердаў брат князь Нарымонт. Магчыма, нямецкія храністы перабольшвалі сваю перамогу, але ўсё роўна паражэнне ВКЛ было вельмі адчувальным.


Нямецкія рыцары
і лучнік XIV ст.

Пасля славутага паходу еўрапейскай эліты ў 1345 г., які сарваўся з прычыны недакладнай інфармаванасці кіраўнікоў акцыі і ранняй вясны, а таксама бітвы на Стрэве, у дачыненнях паміж Вялікім Княствам і Нямецкім ордэнам больш чым на дзесяцігоддзе ўсталяваўся адносны спакой. З 1345 па 1360 г. Прускі ордэн правёў толькі 10 паходаў, Інфлянцкі – 6, а беларуска-літоўская дзяржава адказала ім 10 выправамі[4]. Аслабленне ваенных дзеянняў

[1] *Łowmiański H.* Prusy–Litwa–Krzyżacy. Warszawa, 1989. S. 203.
[2] *Wartberge H.* Chronicon Livoniae (1200–1378) // SRP. Bd.2. Leipzig. 1863. S. 512.
[3] Троицкая летопись. Реконструкция текста / М.Д. Приселков. М.; Л., 1950. С. 369; Полное собрание русских летописей (далей — ПСРЛ). Т.25. М.; Л., 1949. С. 177.
[4] *Nik entaitis A.* Die friedliche Periode in den Bezienhungen zwischen dem Deutschen Ordens und dem Grossfürstentum Litauen (1345–1360) und das Problem der Christianisierung Litauens // Jahrbücher für Geschichte Osteuropas. NF. Bd. 41 (1993). Hf. 1. S. 2.

было абумоўлена дыпламатычнай актыўнасцю, звязанай з чарговымі спробамі хрысціянізацыі літоўцаў, хоць не выключана, што пэўную ролю адыграла і чума – "чорная смерць", якая ў 1349–1351 гг. лютавала ў Прусіі.

Шукаючы выхаду з міжнароднай ізаляцыі, а, магчыма, проста дзеля перадышкі ў вайне, у 1348 г. Кейстут звярнуўся да нямецкага імператара і багемскага (чэшскага) караля Карла IV з просьбай дапамагчы ахрысціць Літву. Праз тры гады з такой жа просьбай літоўскія князі звярнуліся ўжо да венгерскага караля Людовіка, а ў 1358 г. зварот зноў быў накіраваны да імператара Карла IV. Менавіта ў гэтым праекце ў якасці адной з умоў прыняцця хросту – калі верыць нямецкаму храністу Герману з Вартберга – фігуравала патрабаванне: "каб уся Русь належала Літве"[1]. Гэты тэзіс нельга ўспрымаць літаральна; сфармуляваны ў інтарэсах дыпламатычнай кан'юнктуры, у кантэксце патрабавання пераносу ордэнскай дзяржавы, ён сам па сабе не мог быць ажыццёўлены ў тых умовах.

Час актыўных перагавораў аб хрысціянізацыі Літвы стаў перадышкай для беларуска-літоўскай дзяржавы. Паміж Нямецкім ордэнам і ВКЛ двойчы заключаўся мір – на 1349–1351 і ў 1355/1356 гг. Але няўдача праекта 1358 г. прывяла да таго, што імператар Карл IV канчаткова адвярнуўся ад Балтыйскага рэгіёна, і Вялікае Княства Літоўскае засталося адно супраць Ордэна. У 1360 г. ваенныя дзеянні ўзнавіліся і наступіў самы цяжкі для беларуска-літоўскай дзяржавы перыяд процістаяння тэўтонцам.

"Рэйзы" ў Прусію і адтуль у Літву ў гэты час сталі асабліва папулярнымі сярод еўрапейскага рыцарства, таму Ордэн пастаянна меў прыток новых сіл. У Еўропе нават было модна гаварыць: "Рыцарам стаў у Прусіі". Прусія як плацдарм для барацьбы з "паганымі" зрабілася вайсковай школай цэлай Еўропы. У "рэйзах" супраць "няверных" брала ўдзел рыцарства самых розных заходніх краін, у тым ліку Польшчы. У часы панавання Казіміра Вялікага ды Людовіка Венгерскага польскае рыцарства ахвотна выпраўлялася паваяваць з "ворагамі хрысціянства" на землях ВКЛ.

Дзеянні рыцарскіх фарміраванняў набылі цяпер шэраг новых асаблівасцей. Рыцары сталі часцей практыкаваць паходы вялікага войска, і іх моцныя кантынгенты свабодна даходзілі да Вільні і Трокаў. Пры гэтым апрача самой Жамойці крыжакі сталі больш турбаваць іншыя землі Вялікага Княства Літоўскага – Аўкштоту (сюды асабліва настойліва выпраўлялася інфлянцкае войска), а таксама Русь – як Полацкую, так і Чорную (ёсць паведамленні пра паходы на Дзяляцічы, Беліцу і інш.). Характар жа вайны ў параўнанні з першым перыядам барацьбы з "паганай Літвой" не змяніўся: яна па-ранейшаму грунтавалася не на сутыкненні вялікіх войск, а на лакальных аперацыях, на імкненні аслабіць непрыяцеля спусташэннем яго зямлі, вывадам насельніцтва. За кошт палонных, практыка захопу якіх у часы Альгерда і Кейстута стала звычайнай справай, ордэнскія ўлады імкнуліся забяспечыць сябе рабочай сілай. Колькасць дарослых і дзяцей, выведзеных з Літвы і Беларусі, магла дасягаць 200 тысяч[2].

---

[1] *Wartberge H.* Chronicon Livoniae (1200–1378) // SRP. Bd. 2. S. 79.

[2] *Paravicini W.* Edelleute, Hansen, Brügger, Bürger: Die Finanzierung der westeuropäischen Preussenreisen im XIV Jh. // Hansische Geschichtsblätter. Bd. 104 (1986). S. 11.



Замак ў Коўне

Ужо ў 1362 г. рыцары захапілі Коўну, хоць залога і баранілася да апошніх сіл. У 1366 г. ландмагістр Вільгельм "павёў войска супраць русінаў на Полацк". У 1367 г. быў заключаны мір Вялікага Княства з Інфлянцкім ордэнам, што дазволіла Альгерду сканцэнтраваць сілы на ўсходнім напрамку і правесці тры паходы на Маскву. Праўда, мір з інфлянцкім ландмагістрам не перашкодзіў літоўскім князям у 1370 г. ажыццявіць рэйд углыб прускіх уладанняў Ордэна. У тым жа годзе Альгерд і Кейстут арганізавалі паход вялікіх сіл на Каралявец, але пад вёскай Рудавай рыцары навязалі ім бітву, у якой разграмілі Гедымінавічаў, хоць і самі панеслі значныя страты[1]. Гэта была трэцяя вялікая перамога тэўтонцаў над ВКЛ (пасля 1311 і 1348 гг.), у гонар якой вялікі магістр Вінрых фон Кніпродэ заклаў касцёл.

З 1373 г. аднавілася поўнамаштабная вайна з Ордэнам, і шалі вагаў у зацятым ваенным супрацьстаянні ўсё больш схіляліся на бок крыжаносцаў, якія мелі падтрымку Еўропы. Абарону ад няспынных "рэйзаў" Альгерд і Кейстут трымалі супольна. Нямецкі ордэн пачаў выкарыстоўваць так званую тактыку "абцугоў", калі кантынгенты інфлянцкіх і прускіх рыцараў дзейнічалі паралельна[2]. Так, калі вялікі магістр Вінрых фон Кніпродэ ў 1371 г. атакаваў зямлю Расены, дык інфлянцкі ландмагістр Вільгельм фон Фрымерсгайм у той самы час уварваўся ў Літву з поўначы, рухаючыся ўздоўж Невяжы. У наступным годзе, паўтараючы манеўр, вялікі магістр рушыў ад нізоўяў Невяжы да Віліі, а інфлянцкія рыцары дзейнічалі паміж Верхняй Невяжай і Кейданамі. Адначасовую акцыю крыжаносцы з Прусіі і Інфлянтаў арганізавалі і зімой 1377 г., калі літоўскія землі пустошыліся на працягу 11 сутак. Прускае войска, узначаленае вялікім магістрам, перайшло каля Коўна Нёман і аблажыла

[1] SRP. Bd. 3. Leipzig. 1866. S. 89, 90, 95–96.
[2] *Benninghoven F.* Zur Technik spätmittelalterlicher Feldzuge im Ostbaltikum // Zeitschrift für Ostforschung, 10 (1970). Hf. 4. S. 645–647.

Трокі, але не дамаглося поспеху і падступіла да Альгердавай сталіцы Вільні, у выніку частка горада была спалена[1].

Ваенныя акцыі ВКЛ у адказ ажыццяўляліся радзей і былі менш значныя. У 1373 г. Свідрыгайла, а потым Андрэй Альгердавіч з палачанамі правялі набегі на Дынабург. Кейстут і Андрэй Полацкі ўрываліся ў падзвінскія ўладанні Інфлянцкага ордэна і ў 1375 г. За гэта ў красавіку таго ж года розіцкі фогт арганізаваў паход у Полацкую зямлю (адначасова з ім сваю выправу правяло і прускае рыцарства). Са спустошанага Падзвіння наезнікі вывелі 86 палонных і каля 100 коней. Помсцячы, князь Андрэй з конніцай і ладдзямі па Дзвіне спусціўся да Дынабурга і таксама захапіў палонных, папаліў сена і вывеў статак. Падобныя ўварванні і полацкі князь, і інфлянцкія рыцары паўтаралі і ў наступным годзе.

Смерць вялікага князя Альгерда актывізавала рыцараў, тады як з боку ВКЛ паходы ў адказ часова спыніліся. У жніўні 1377 г. вялікае інфлянцкае войска на чале з ландмагістрам рушыла ўверх па Дзвіне да Полацкай зямлі. Яно аблажыла нейкі "новы замак русінаў, які ляжаў амаль за 12 міль" ад Дынабурга (найверагодней, гэта была Друя), і ўпершыню на абшарах сучаснай Беларусі выкарыстала артылерыю. Увосень таго ж года з Прусіі на Жамойць павёў войска граф Альбрэхт III Аўстрыйскі, які меў з сабой 2000 коннікаў (ягоны паход рамантычна апісаў паўднёванямецкі паэт Пётр Зухенвірт), а ў снежні балгскі комтур ажыццявіў яшчэ адзін напад на замак Беліца, што паміж Лідай і Гародняй. Некалькі паходаў крыжаносцы правялі таксама ў 1379 г. У прыватнасці, балгскі комтур у жніўні беспаспяхова штурмаваў замак Берасця, спустошыў раёны Мельніка, Драгічына, Бельска, Камянца, саму Гародню, пасля чаго з 4000 палоннымі павярнуў назад[2].

Ягайла і Кейстут не вытрымлівалі націску рыцараў. У 1379 г. ім удалося падпісаць дзесяцігадовае замірэнне з вялікім магістрам Вінрыхам фон Кніпродэ, але яно распаўсюджвалася толькі на некаторыя памежныя землі. З боку ВКЛ гэта былі акурат тыя, пераважна беларускія, раёны, якія так спустошыў комтур Балга: Ваўкавыск, Сураж, Драгічын, Камянец, Мельнік, Бельск, Берасце, Гародня[3]. Па ўмовах пагаднення жыхароў гэтых абшараў трэба было аберагаць ад ваенных знішчэнняў.

**Умяшанне тэўтонцаў у дынастычную барацьбу ў ВКЛ.** Магчыма, менавіта моцны ціск з боку Ордэна ў тыя гады і стаў адной з прычын таго, што Ягайла ў 1379 г. увайшоў у кантакт з крыжакамі і пачаў шукаць з імі сепаратнага паразумення. Ужо ў лютым 1380 г. ён падпісаў мірнае пагадненне з інфлянцкім ландмайстрам, якое не распаўсюджвалася на землі Кейстутавага княства і Жамойці. Пасля гэтага ў маі Ягайла заключыў сепаратны мір ужо з усім Тэўтонскім ордэнам, пакінуўшы яму на здабычу ўладанні старога Кейстута. А браты-рыцары не аслаблялі націску на заходнія землі ВКЛ. У 1381 г. вялікае войска з Прусіі, перайшоўшы Нёман там, дзе ў яго ўпадае Стрэва, атакавала Наваполле, што знаходзілася недалёка ад Трокаў. Замак быў цалкам знішчаны, а 3000 палонных выведзены ў Прусію. Знішчэнне гэтай цвярдыні азначала пераход

[1] *Boldt K.* Der Deutsche Orden und Littauen: 1370–1386. Königsberg, 1873. S. 25.
[2] *Marburg W.* Cronica nova Prutenica (1293–1394) // SRP. Bd. 2; Bd. 4. Leipzig, 1870. S. 103.
[3] *Boldt K.* Der Deutsche Orden und Littauen: 1370–1386. S. 37.

рыцараў, якія больш не задавальняліся спусташэннем зямель, да новай тактыкі вядзення вайны.

У такой сітуацыі паміж Ягайлам і Кейстутам разгарэлася барацьба, якая дзякуючы дапамозе нямецкіх мяшчан Вільні скончылася перамогай Ягайлы. 31 кастрычніка 1382 г. ён падпісаў новае пагадненне з Ордэнам, у якім за чатырохгадовы мір саступаў рыцарам землі Жамойці да ракі Дубісы і паабяцаў на працягу чатырох гадоў хрысціцца. Аднак Вітаўт, які ў 1382 г. збег з Ягайлавага палону ў Прусію, наабяцаў уладам Ордэна яшчэ болей: абавязаўся аддаць немцам у якасці лена ўсю Жамойць. Карыстаючыся сур'ёзным унутраным канфліктам у ВКЛ, Ордэн дзейнічаў па прынцыпе "divide et impera" (раздзяляй і ўладар). Парушыўшы мір, у верасні 1383 г. крыжаносцы супольна з Вітаўтавым войскам з 3000 жамойтаў арганізавалі вялікую выправу на абедзве сталіцы ВКЛ[1]. Спачатку захапілі Трокі, потым спалілі частку Вільні. Але Трокі Ягайла хутка адваяваў, а летам 1384 г. Вітаўт перабег з Ордэна ў ВКЛ.


Пячатка князя Кейстута

Дубіскі дагавор 1382 г., які абавязваў Ягайлу аддаць Ордэну ўсю Жамойць, ахрысціць Літву і надалей узгадняць з ім сваю замежную палітыку, паставіў яго ў надзвычай складанае становішча. Вялікі князь літоўскі шукаў альянсу для далейшай барацьбы з Ордэнам. Яго намаганні ўрэшце скончыліся вядомай Крэўскай уніяй – падпісаннем 14 жніўня 1385 г. саюзнага дагавора паміж Ягайлам і польскімі панамі, згодна з якім літоўскі манарх жаніўся з каралевай Ядвігай, займаў польскі каралеўскі пасад і, сярод іншых прынятых абавязкаў, мусіў ахрысціць літоўцаў і "назаўсёды далучыць" свае землі да Кароны Польскай.

## 2. Крэўская унія і змена знешнепалітычнага статусу ВКЛ

**Пошукі кіраўніцтвам ВКЛ знешнепалітычных саюзнікаў.** На пачатку 1380-х гг. ВКЛ апынулася ў крызісным становішчы. Уніфікацыйная праграма Ягайлы сутыкнулася з моцным супрацівам другога роду Гедымінавічаў – нашчадкамі Кейстута. У выніку ўнутрыдынастычнай барацьбы нецэнтралізаванае Вялікае Княства, што ўяўляла сабой кангламерат розных зямель і этнасаў, аказалася расколатым. Абцяжараны Дубіскім пагадненнем з Ордэнам і не маючы сіл для спынення нямецкай экспансіі, каб утрымаць цэнтральную ўладу і тэрытарыяльную цэласнасць сваёй дзяржавы, Ягайла быў вымушаны шукаць падтрымку знешняга саюзніка. Першым разглядаўся варыянт саюзу з Маскоўскай Руссю. Дзякуючы такой арыентацыі Ягайлы ўжо на пачатку 1380-х гг. выявілася тэндэнцыя збліжэння Вялікага Княства Літоўскага з Маскоўскай дзяр-

[1] *Heinl K.* Fürst Witold von Litauen in seinem Verhältnis zum Deutschen Orden in Preussen während der Zeit seines Kampfes um litauisches Erbe: 1382–1401. Berlin, 1925. S. 28.

жавай. Вялікі князь Дзмітрый Іванавіч (Данскі) наладзіў непасрэдныя зносіны з Ягайлам, і ў 1383–1384 гг. Масква і Вільня перайшлі ад канфрантацыі да палітычнага супрацоўніцтва. Ягайла праз сваю маці Ульяну – дачку цвярскога князя Аляксандра Міхайлавіча – дасягнуў папярэдняй дамоўленасці аб збліжэнні з вялікім князем Дзмітрыем Іванавічам. У 1384 г. паміж апошнім і Ульянай Аляксандраўнай было падпісана адпаведнае пагадненне. Яго ўмовамі прадугледжвалася, што Ягайла ажэніцца з дачкой маскоўскага князя Соф'яй, прыме праваслаўе і ахрысціць у тую ж веру сваіх суайчыннікаў. Да такога саюзу з Масквой прыхільна ставілася вялікая частка арыстакратыі Вялікага Княства, на якую і апіраўся Ягайла. Аднак падобны дзяржаўны саюз умацаваў бы пазіцыі беларуска-ўкраінскай большасці ВКЛ і паскорыў бы асіміляцыю літоўцаў. Да таго ж хрысціянства ўсходняга абраду не спыніла б агрэсіі Нямецкага ордэна, для якога русіны былі схізматыкамі, а не сапраўднымі хрысціянамі. Па меркаванні некаторых даследчыкаў, якраз дыпламатыя Ордэна і захады Заволжскай Арды таксама перашкодзілі віленска-маскоўскаму збліжэнню. Ва ўсякім разе, ужо ў 1384 г. Ягайла адмовіўся ад саюзу з Масквой і аддаў перавагу планам уніі з Польшчай, ідэю якой адстойваў віленскі староста немец Ганул[1]. Збліжэнне з Польшчай больш адпавядала інтарэсам віленскага двара. Польскае каралеўства магло разглядацца як стратэгічна найважнейшы саюзнік для барацьбы з Ордэнам. З аднаго боку, у адпаведнасці з тагачасным міжнародным правам прыняцце каталіцтва пазбавіла б Мальбарк галоўнай падставы нападаў на ВКЛ; з другога – для літоўцаў, якія складалі тады не больш за пятую частку насельніцтва Ягайлавай дзяржавы, саюз з палякамі і хрысціянства заходняга абраду давалі магчымасць не толькі захаваць сваё палітычнае дамінаванне ў ВКЛ, але і ўберагчыся ад рутэнізацыі, што набірала сілу[2]. Аднак яшчэ большую зацікаўленасць у збліжэнні з Літвой выявіў польскі бок.



Ягайла. Фрагмент роспісу на кракаўскім Вавелі. XV ст.

У Польшчы якраз тады заставаўся вакантным каралеўскі трон. Пасля смерці каралевы, якая кіравала намесніцкай уладай, польскія паны вялі перамовы з венгерскім дваром аб запрашэнні на кракаўскі стол Ядвігі – непаўналетняй дачкі Людовіка Андэгавенскага (Анжуйскага), хоць яна ўжо была заручаная з Вільгельмам Габсбургам. Незалежна ад кантактаў з венгерскай сталіцай Будай у сакавіку 1383 г. пачаліся перамовы і з Ягайлам[3], у выніку якіх з'явілася ідэя выдання Ядвігі за вялікага князя літоўскага. Малаполь-

---

[1] *Черепнин Л.* Русские феодальные архивы XIV–XV вв. Ч.1. М.; Л., 1948. С. 50.
[2] *Бардах Ю.* Крэва і Люблін. З праблемаў польска-літоўскае уніі // Штудыі з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Мн., 2002. С. 25.
[3] *Wyrozumski J.* Królowa Jadwiga. Między epoką piastowską i jagiellońską. Kraków, 1997. S. 78.

скія паны, роля якіх у польска-літоўскім збліжэнні была асабліва вялікая, імкнуліся атрымаць землі Валыні і Падолля, а саюз з Венгрыяй выглядаў для іх менш прывабна. Магчыма, размовы пра гэты шлюб вяліся яшчэ летам 1384 г.[1], але першым бясспрэчным фактам існавання такога плана стала пасольства Ягайлы, якое прыехала ў Кракаў 18 студзеня 1385 г. і прасіла пасольскіх дастойнікаў выдаць Ядвігу за іх вялікага князя. Польскі бок прыняў прапанову і накіраваў сваіх прадстаўнікоў разам з літвінамі ў Буду, каб атрымаць згоду каралевы Эльжбеты.

**Падпісанне крэўскага акта.** Венгерскае пасольства летам 1385 г. прыехала ў Вялікае Княства і разам з палякамі 14 жніўня ўдзельнічала ў гістарычнай сустрэчы з Ягайлам у Крэве (цяпер Смаргонскі раён Беларусі). У выніку сустрэчы вялікі князь літоўскі, бок якога прадстаўлялі таксама Скіргайла, Карыбут, Вітаўт і Лугвен, выставіў акт, у якім былі вызначаны ўмовы шлюбу вялікага князя літоўскага з польскай каралевай[2]. Фармальна гэты дакумент з'яўляецца пратаколам польска-венгерскага пасольства да Ягайлы, у якім пераказаны і вынікі перамоў з ранейшымі пасольствамі. Польскія паслы афіцыйна запрашалі Ягайлу заняць каралеўскі пасад у Кракаве і ажаніцца з дванаццацігадовай каралевай Ядвігай. Ад яго ж патрабавалася выканаць некаторыя ўмовы, у прыватнасці прыняць каталіцтва, перавесці ў гэтую веру сваіх неахрышчаных братоў, сваякоў і суайчыннікаў, вызваліць палонных хрысціян (галоўным чынам палякаў), коштам уласных сродкаў вярнуць землі, страчаныя Літвой і Польшчай, перавезці вялікакняскі скарб з Вільні ў Кракаў, выплаціць значную кампенсацыю Вільгельму Габсбургу за зрыў шлюбу з Ядвігай і нарэшце – што набыло асаблівае гістарычнае значэнне – далучыць свае землі да Каралеўства Польскага. У арыгінале апошні пункт сфармуляваны так: "Demum eciam Jagalo dux sepedictus promittit terras suas Litvanie et Russie Corone Regni Polonie perpetuo applicare"[3], што ў перакладзе азначае: "Напрыканцы той князь Ягайла абяцае таксама землі свае Літвы і Русі далучыць навечна да Кароны Польскага Каралеўства".

Менавіта змест і значэнне тэрміна "applicare" выклікалі зацятыя спрэчкі гісторыкаў, якія вядуцца з канца XIX ст. да нашага часу. Такая ўвага да аднаго слова невыпадковая. Паколькі недахоп крыніц не дазваляе вызначыць характар паслякрэўскіх адносін Польшчы і ВКЛ, то ад інтэрпрэтацыі яго зместу залежыць разуменне таго, у якім міжнародным дзяржаўна-палітычным становішчы апынулася Вялікае Княства пасля прыняцця крэўскага акта.

Сутнасць гістарыяграфічнай дыскусіі вакол крэўскага акта можна звесці да наступнага. Згодна з тэзісам пра поўную інкарпарацыю (applicare) манархіі Гедымінавічаў у склад Польшчы, уведзеным у літаратуру яшчэ ў канцы пазамінулага стагоддзя А. Лявіцкім[4], сцвярджалася, што крэўскі акт зусім скасаваў Вялікае Княства Літоўскае як дзяржаву, ператвараючы яго ў правінцыю Польскага Каралеўства, і толькі да-

---

1 *Szczur S.* Negocjatorzy unii Polski z Litwą i ich kariery // Analecta Cracoviensia. T. 18 (1987). S. 183–184.

2 Akta unji Polski z Litwą. 1385–1791 / Wyd. S. Kutrzeba, W. Semkowicz. Kraków, 1932. № 1. S. 1–3.

3 Akta unji Polski z Litwą. 1385–1791. S. 2.

4 *Lewicki A.* Powstanie Świdrygiełły // Rozprawy Akademii Umiejetności. T. 29. Kraków, 1892.

мова з Нямецкім ордэнам на Салінскім востраве ў 1398 г. ды Радамска-Віленская унія 1400–1401 гг. уваскрасілі дзяржаўнасць ВКЛ. Версію непасрэднай і поўнай інкарпарацыі абгрунтоўваў таксама Г. Лаўмянскі, які паказаў, што ў юрыдычным сэнсе тэрмін applicare ў дакументах таго часу азначаў менавіта далучэнне тэрыторый[1], а не ленную залежнасць. Аднак потым падобная пазіцыя крытыкавалася многімі польскімі гісторыкамі, асабліва Я. Адамусам, О. Галецкім і Г. Пашкевічам. Затое погляд на Крэўскую унію як на скасаванне дзяржаўнай самастойнасці ВКЛ трывала прапісаўся ў савецкай гістарыяграфіі, дзе ён распаўсюдзіўся дзякуючы ўплывам М. Любаўскага, які таксама прыняў тэорыю інкарпарацыі. Між тым яшчэ Я. Адамус паказаў, што пачынаючы ад Востраўскай дамовы 1392 г., калі падтрыманы апазіцыяй Вітаўт атрымаў уладу ў Літве, інкарпарацыйныя тэндэнцыі сталі занепадаць, а з 1398 і 1401 г. Вітаўт выступаў ужо як самастойны князь[2]. Рэальнасць інкарпарацыі катэгарычна аспрэчваў таксама Г. Пашкевіч[3], а пазней і Ю. Бардах[4].

Пад сумненне была пастаўлена і аўтэнтычнасць акта уніі. Так, эміграцыйны літоўскі гісторык Ё. Дайнаўскас у 1970-х гг. выступіў з катэгарычнымі абвяржэннямі сапраўднасці крэўскага акта, заявіўшы, што гэты дакумент – "аўтэнтычны фальсіфікат"[5]. Аўтар сцвярджаў, што, паколькі акт быў апублікаваны толькі ў XIX ст., то раней яго, маўляў, не ведаў ніхто з прадстаўнікоў польскай і літоўскай эліт, да таго ж формы ўжытых у тэксце тытулаў анахранічныя, а падвешаныя пячаткі не адпавядаюць сітуацыі жніўня 1385 г., таму няма ніякіх падстаў гаварыць, "быццам у 1385 г. у Крэве была заключана унія Літвы з Польшчай"[6]. Маўляў, гэта падробка XVI–XVII ст. Погляд на крэўскі дакумент як на фальсіфікацыю знайшоў і ў гістарыяграфіі Беларусі некаторых прыхільнікаў, якія нават у падручніках абвясцілі згаданы акт фальсіфікацыяй[7]. Аднак у шэрагу публікацый польскіх медыявістаў, справакаваных артыкулам Ё. Дайнаўскаса, была паказана тэндэнцыйнасць і беспадстаўнасць падобных сцверджанняў. У прыватнасці, даведзена, што крэўскі акт у сярэдзіне XV ст. захоўваўся ў тым жа архіве ў Кракаве і яго ведаў Ян Длугаш, які тэндэнцыйна пераказаў дакумент, замяніўшы applicare на incorporare. Зняты і сумненні ў сапраўднасці пячатак ды актуальнасці выкарыстаных у акце тытулаў[8]. Нават больш, нядаўна і даследаванні літоўскіх спецыялістаў паказалі, што пячаткі Карыбута, Лугвена і Вітаўта

[1] *Łowmiański H.* Wcelenie Litwy do Polski w 1386 r. // Ateneum Wileńskie (далей – AW). T. 12 (1937).
[2] *Adamus J.* Państwo litewskie w latach 1386–1389. Wilno, 1935. S. 15–79.
[3] *Paszkiewicz H.* O genezie i wartości Krewa. Warszawa, 1938. S. 252.
[4] *Бардах Ю.* Крэва и Люблін. З праблемаў польска-літоўскае уніі. С. 32, 34, 45 і далей.
[5] Упершыню яго праца выйшла ў Чыкага ў 1976 г. на літоўскай мове, а праз дзесяцігоддзе яе апублікавалі ў перакладзе на польскую ў Польшчы: *Dajnauskas J.* Autentyczność aktu krewskiego // LSP. T. II. Poznań, 1987. S. 125–142.
[6] Там жа. S. 140.
[7] *Юхо Я.* Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992. С. 84.
[8] *Koczerska.* Autentyczność documentu unii krewskiej 1385 r. // Kwartalnik Historyczny (далей – КН). 1992. N. 1. S. 63, 65, 68 і інш. Гл. таксама: *Kuczyński S. M.* Rozbiór krytyczny roky 1385 "Dzielów polskich" Jana Długosza // Studia Źródłoznawcze. T. 3 (1958). S. 224–228. Тэрмін "інкарпарацыя" ўпершыню сустракаецца ў акце Гарадзельскай уніі 1413 г.

можна лічыць аўтэнтычнымі, што яны сапраўды былі прымацаваны да прынятага ў Крэве акта, і гаварыць пра падробку гэтага дакумента няма ніякіх падстаў[1]. Праўда, сведчанняў пра тое, што ён быў вядомы элітам ВКЛ і Кароны падчас заключэння Люблінскай уніі, сапраўды няма[2], але пасля публікацыі літоўскіх калег, якія раней зацята не прызнавалі аўтэнтычнасці крэўскага акта, спрэчкі цяпер вядуцца не вакол праўдзівасці самаго дакумента, а наконт таго, ці можна яго называць актам "уніі" і да т.п.

З юрыдычнага пункту гледжання крэўскі акт фактычна азначаў інкарпарацыю Літоўска-Рускай дзяржавы ў склад Польскай Кароны. Сапраўды, Ягайла імкнуўся да інкарпарацыі сваіх вялікакняскіх уладанняў у склад Каралеўства Польскага. Невыпадкова ў віленскім прывілеі 1387 г. Літва трактавалася як адна з земляў Каралеўства Польскага[3], а польскія паны пасля Крэва ў перамовах з Ордэнам сцвярджалі, што літоўскія землі далучаныя да Каралеўства і залежныя ад яго[4]. Аднак крэўскі акт быў толькі "намерам інкарпарацыі", і ў другой палове 1380-х гг. польскаму боку ўдалося ажыццявіць, відаць, толькі частковую рэалізацыю гэтага плана.


Княжацкая вежа Крэўскага замка. Фота пачатку XX ст.

Версія рэалізаванай інкарпарацыі не стасуецца з далейшымі падзеямі. На яе карысць гавораць толькі гамагіяльныя акты ўдзельных князёў, што з 1386 г. прысягалі на вернасць Ягайлу, Ядвізе і Польскай дзяржаве. Аднак прысягалі не ўсе Гедымінавічы. Да таго ж, калі б ВКЛ ператварылася тады ў правінцыю Кароны і знікла як суб'ект міжнароднага права, Нямецкі ордэн спыніў бы вайну з ім, паколькі Польшчу і Ордэн звязваў мір, падпісаны ў 1343 г. у Калішы. Крыніцы сведчаць, што Ягайла спрабаваў пашырыць правамоцнасць калішскага акта і на ВКЛ, але Ордэн не згаджаўся і сам вёў перамовы з Вітаўтам аб замірэнні. У гэтай сувязі зусім непераканаўча выглядаюць распаўсюджаныя ў гістарыяграфіі (асабліва ў польскай і літоўскай) тлумачэнні мэтаў уніі як цалкам свядомага імкнення Ягайлы і яго прыхільнікаў "стварыць абарончы саюз з Польшчай супраць Ордэна і, апіраючыся на Польшчу, умацаваць сваё становішча ў самім Вялікім Княстве Літоўскім, а таксама панаванне ў беларускіх ды іншых усходніх землях"[5]. Нават сам Ягайла напачатку імкнуўся да зблі-

---

1 1385 m. rugpjūčio 14 d. Krevos aktas / Sud. J. Kiaupienė. Vilnius, 2002. P. 136–138.
2 Там жа. P. 138.
3 Zbiór praw litewskich od r. 1389 do roku 1569 / Wyd. T. Działyński. Poznań, 1841. N. 1.
4 *Voigt J.* Geschichte Preussens. Bd. 4. Königsberg, 1830. S. 138.
5 *Дундулис Б.* Борьба Литвы за государственную самостоятельность в XV в. Автореф. дисс. ... докт. ист. наук. Вильнюс, 1967. С. 11. Гл. таксама: *Jučas M.* Nuo Krevos suntaries iki Liublino unijes. Kaunas, 1970. P. 14; *Biskup M.* Wojny Polski z Zakonem Krzyżackim (1308—1521). Gdańsk, 1993. S. 40.

жэння з Ордэнам, запрашаючы вялікага магістра ў якасці хроснага бацькі на сваё хрышчэнне, а таксама на шлюбныя ўрачыстасці ў Кракаў (праўда, той не толькі адхіліў запрашэнне, а менавіта ў дні ўрачыстасці пачаў ваенныя дзеянні). Значна бліжэйшым да гістарычнай праўды падаецца меркаванне нямецкіх гісторыкаў, якія лічаць, што тэзіс аб тым, быццам Крэўская унія была свядомым стварэннем ваеннага саюзу супраць Ордэна, можа разглядацца толькі як недаказаная гіпотэза[1]. Факты неаднаразова сведчылі, што палітычныя мэты Кароны і ВКЛ рэдка супадалі. Так было і ў канцы 1380-х гг. Ва ўсякім разе падпісаны ў Крэве акт не стаў тым парогам, пасля якога рэзка мяняўся характар адносін паміж ВКЛ і Ордэнам. Ваенныя дзеянні і дыпламатычныя перамовы паміж імі працягваліся, і гэта сведчыла пра захаванне Вялікім Княствам пазіцыі суб'екта міжнароднага права. А ў Мальбарку і надалей разглядалі ВКЛ як патэнцыяльнага саюзніка супраць Польшчы[2].



Акт Крэўскай уніі 1385 г.

**Супрацьстаянне рэалізацыі уніі ў ВКЛ.** Падпісаны ў Крэве акт быў канчаткова зацверджаны ў лютым 1386 г., пасля хрышчэння Ягайлы, яго шлюбу з Ядвігай і ўрачыстай каранацыі ў Кракаве на Вавелі, якая адбылася 18 лютага. Ягайла пачаў афіцыйна тытулавацца "каралём Польшчы, вярхоўным князем літоўскім і дзедзічам рускім". Цяпер настала чарга абяцанага хросту Літвы. Выправа на Літву з місіяй хрысціянізацыі пачалася восенню 1386 г. і доўжылася да чэрвеня 1387 г.[3], пакуль Ягайла не ажыццявіў хрышчэння супляменнікаў (толькі Аўкштоты, бо землі Жамойці знаходзіліся пад уладай Ордэна). Каб забяспечыць падтрымку сваёй праграмы, баярам, якія прынялі каталіцтва (большасць простага люду яшчэ доўга заставалася ў паганстве), Ягайла выдаў прывілей, што даваў ім поўнае права ўласнасці на спадчынныя землі, вызваляў ад усіх абавязкаў на карысць уладара, за выключэннем вайсковай службы і даніны, ды інш. Аднак правы свецкіх феадалаў выглядалі даволі сціпла ў параўнанні з тымі прывілеямі, якія атрымаў у Літве каталіцкі касцёл. Стварыўшы з 1387–1388 гг. каталіцкае біскупства з катэдрай у Вільні, Ягайла заклаў і першыя парафіі. У дадатак да тых, якія ўжо існавалі ў Вільні і Навагрудку (а тут касцёл францысканцаў з'явіўся яшчэ пры Віцені), каталіцкія храмы паўсталі ў Вількаміры, Майшаголе, Медніках, Немянчыне, Крэве, Гайне і Абольцах. Манарх забяспечыў касцёлы част-

[1] *Boockman H., Rhode G.* Tezy do historii Zakonu Krzyżackiego // Zakon Krzyżacki a Polska w średniowieczu. Poznań, 1987. S. 19.
[2] *Nobel W.* Michael Küchmeister, Hochmeister des Deutschen Ordens 1414—1422. Bad Godesberg, 1969. S. 15.
[3] *Wyrozumski J.* Królowa Jadwiga. Między epoką piastowską i jagiellońską. S. 103.

кай дзяржаўных даходаў, а віленскай катэдры надаў прыкладна 50–60 вёсак з 600 дымамі падданага насельніцтва. Уладанні касцёла, якія сталі першай латыфундыяй у Літве і Беларусі, атрымалі поўны фінансавы і судовы імунітэт. Адразу займеўшы тое, чаго ў Еўропе духавенства дамагалася стагоддзямі, каталіцкі касцёл стаў магутнай сілай у Літве, а потым і ў Беларусі. Для праваслаўнай царквы стварэнне Віленскага біскупства стала моцным ударам, бо прадвызначыла аслабленне яе пазіцый.

Застаючыся вярхоўным уладаром Вялікага Княства, Ягайла атрымаў ад удзельных князёў прысяжныя лісты аб вернасці яму і Кароне Польскай ды ад'ехаў у Польшчу. Сваім намеснікам ён пакінуў трокскага князя Скіргайлу, узняўшы яго "вышэй за ўсіх братоў". Асобным прывілеем ад 27 красавіка 1387 г. Ягайла пацвердзіў правы Скіргайлы на Трокскае княства і надаў брату новыя ўладанні ў Беларусі – Менск, Свіслач, Бабруйск, Рэчыцу, Любеч, Прапойск, Любашаны, Ігумен, Лагойск і Лебедзева, а таксама Полацкае княства. Аднак становішча Ягайлы як суверэна ў Вялікім Княстве было нетрывалым, таму ён прызначыў віленскім старостам паляка Клеменса Маскажэўскага ды прыслаў яму ў Вільню польскую залогу. На Скіргайлу як намесніка ён мала спадзяваўся: той, згодна з паведамленнем М. Стрыйкоўскага, "больш імкнуўся памнажаць грэчаскія святыні, чым распаўсюджваць рымскую веру, бо з ранняга ўзросту выхоўваўся сярод русінаў".


Скіргайла. Гравюра XVI ст.

У Вялікім Княстве праграма інкарпарацыі выклікала супраціў. У Беларусі першым супраць Ягайлы выступіў полацкі ўдзельны князь Андрэй Альгердавіч, які заявіў, што, прыняўшы лацінства, той не можа быць уладаром Літвы і Русі. Каб захаваць за сабою Полацк, ён звярнуўся па падтрымку да Ордэна. Пасля адпаведных перагавораў 10 кастрычніка 1385 г. Андрэй Альгердавіч падпісаў з Робінам фон Эльцам акт аб перадачы "Полацкага каралеўства" на вечнае валоданне інфлянцкаму магістру за гарантыю апекі Ордэна над ім і яго пераемнікамі, а сам атрымліваў Полацкую зямлю ў якасці лена з рук магістра. Услед за гэтым ён падпісаў другі акт, у якім інфармаваў вялікага магістра пра заключанае з інфлянцкім лідэрам пагадненне. Атрымаўшы падтрымку Ордэна, полацкі князь узяўся дзейнічаць супраць Ягайлы і ў лютым 1386 г. разам са Святаславам Смаленскім распачаў ваенныя дзеянні на Віцебшчыне і Мсціслаўшчыне. З Інфлянтаў на Вільню і Ашмяны рушылі два рыцарскія кантынгенты, накіраваныя ландмагістрам Конрадам Цёльнерам. Аднак высланае Ягайлам войска разграміла смаленцаў пад Мсціславам, а вясною 1387 г. Скіргайла авалодаў Полацкам, у якім абараняўся Андрэй Альгердавіч, і паланіў бунтаўніка.

Удзел інфлянцкіх рыцараў у ваенных дзеяннях на баку праціўнікаў Ягайлы ў 1386 г. быў хоць няўдалы, але сімптаматычны. З гэтага часу роля Нямецкага ордэна як трэцяга боку ў супрацьстаянні прыхільнікаў і праціўнікаў уніі стала ўзрастаць. Праблема не толькі ў тым, што, аб'яднаўшы дзве дзяржавы пад вяршэнствам аднаго манарха, унія змяніла расстаноўку сіл у Цэнтральна-Усходняй Еўропе ў неспрыяльны для рыцараў бок (тэрытарыяльна Польшча і ВКЛ былі большыя, чым Германія і Францыя разам узятыя). Крэўскі акт і звязанае з ім хрышчэнне Літвы радыкальна пагоршылі міжнароднае становішча Ордэна, бо паставілі пад сумненне само далейшае існаванне яго ў гэтым рэгіёне: у Еўропе знікала апошняя паганская краіна, з якой рыцарства Хрыстова мусіла змагацца. Фактычна Ордэн страчваў ідэалагічныя падставы свайго далейшага існавання. Так у невялікім беларускім мястэчку быў завершаны класічны перыяд гісторыі Тэўтонскага ордэна і пакладзены пачатак першай фазы яго заняпаду.

Паколькі ажыццяўленне падпісаных у Крэве пагадненняў азначала для Ордэна цяжкае паражэнне, у Мальбарку шукалі выхаду з рэальнай сітуацыі. Існавала некалькі магчымых падыходаў: 1) прызнаць, што пастаўленая задача выканана, і ліквідаваць Ордэн як дзяржаву; 2) змяніць задачы Ордэна ў адпаведнасці з новымі абставінамі; 3) наогул не лічыць унію і хрысціянізацыю Літвы сапраўднымі ды працягваць барацьбу з паганцамі (Heidenkampf). Як вядома, прускія ўлады спыніліся на апошнім: яны не прызналі хрышчэння Літвы як рэальнага факта, імкнуліся ўсяляк супрацьдзейнічаць рэалізацыі уніі і працягвалі арганізоўваць "рэйзы" на Літву і Русь. Ужо ў 1385 г. яны распачалі шырокую дыпламатычную кампанію, задачай якой было даказаць несапраўднасць хрышчэння Літвы і справядлівасць сваёй барацьбы (Ордэн яшчэ цэлых 50 гадоў будзе спрабаваць дамагчыся гэтай мэты).


Вітаўт. Гравюра XVI ст.

**Прыход да ўлады Вітаўта.** Праз некаторы час пасля паўстання Андрэя Полацкага немцы ўдала выкарысталі для расколу саюзу Ягайлы і Вітаўта іх асабісты канфлікт. Узімку 1389/90 г. незадаволены сваім становішчам служылага князя Вітаўт скарыстаў апазіцыйнасць баяр Літвы і Русі да інкарпарацыйнай палітыкі Ягайлы і ўзняў супраць яго паўстанне. Пасля няўдалай спробы захапіць Вільню ён уцёк да прускіх рыцараў – другі раз перайшоў на бок Нямецкага ордэна, цяпер ужо са сваімі родзічамі, панамі і баярамі. Каб атрымаць ваенную дапамогу, Вітаўт 19 студзеня 1390 г. падпісаў каля Гародні пагадненне з уладамі Ордэна[1]. Згодна з гэтым трактатам ён стаў леннікам рыцараў, аддаючы ім Жамойць, Гародню, а

[1] *Heinl K.* Fürst Witold von Litauen in seinem Verhältnis... S. 62.

таксама іншыя гарады ў сваіх уладаннях у Беларусі[1]. Чакалася дапамога і ад маскоўскага князя Васіля I, за якога Вітаўт выдаў сваю дачку Соф'ю, аднак рэальна яго падтрымаў толькі Ордэн. Ужо ў верасні 1390 г. Вітаўт прывёў крыжаносцаў на Вільню, а праз год авалодаў Гародняй, яшчэ праз год захапіў Наваградак, Мерач, зноў пагражаў сталіцы. Неўзабаве Жамойць прыняла бок Вітаўта. У Караляўцы з'явілася 30 жамойцкіх пасланцоў, якія 20 мая 1390 г. падпісалі саюзнае пагадненне з Вітаўтам і ордэнскімі ўладамі. Трэці пункт дагавора прадугледжваў разрыў уніі з Польшчай і падпарадкаванне Літвы Нямецкаму ордэну[2]. Так вайна набыла яшчэ адно апраўданне і ўвайшла ў новую фазу. Важна падкрэсліць, што Вітаўт меў адкрытых прыхільнікаў не толькі на жамойцка-аўкштоцкіх землях, але і ва ўласна Беларусі, на тэрыторыі з праваслаўным насельніцтвам. Так, падчас ваенных дзеянняў залога ў Гародні, складзеная з русінаў і літвінаў, прымусіла польскіх жаўнераў здаць горад Кейстутавічу[3].

Вайна паміж сіламі Ягайлы і Вітаўта, якому не толькі дапамагалі нямецкія кантынгенты, але і аказвалі падтрымку шырокія колы літоўска-беларускага баярства, доўжылася каля двух гадоў. Яна паказала, што без кампрамісу Ягайла не ўтрымае ўлады над землямі Літвы і Русі (у Беларусі і Украіне ён сутыкнуўся з адкрытай непрыхільнасцю насельніцтва). Пераканаўшыся ў немагчымасці ўсталявання ўласнага кантролю ў ВКЛ, Ягайла ў чэрвені 1392 г. перадаў Вітаўту таемны ліст, у якім выклаў умовы прымірэння. Гэта змяніла пазіцыі Вітаўта. Яшчэ ў канцы чэрвеня ён спаліў Рытэрсвердэр, потым знішчыў і новыя цвярдыні Нойгартэн і Матэнбург, паланіўшы заспетых там нямецкіх рыцараў і купцоў, ды ўцёк у свае ўладанні. 5 жніўня 1392 г. каля Вострава, што пад Лідай, адбылася сустрэча і прымірэнне Вітаўта з Ягайлам, замацаванае дагаворам. На падставе Востраўскага трактата ўлада ў Вялікім Княстве пажыццёва перадавалася Вітаўту. Як адзначыў мясцовы летапісец, укняжанню Вітаўта "рада была ўся зямля Літоўская і Руская". Пагадзіўшыся пакінуць Вітаўта сваім намеснікам у ВКЛ і вярнуўшы яму вотчынныя ўладанні, Ягайла пазбавіў немцаў іх стратэгічнага саюзніка. Паміж братамі на тры гады ўсталявалася згода, што адразу павялічыла ваенны патэнцыял іх антыордэнскага фронту. У дадатак да гэтага Ордэн сутыкнуўся і з уласнымі ўнутранымі праблемамі (унутраная апазіцыя кіраўніцтву, санкцыі папы і імператара, рэзкае скарачэнне прытоку "гасцей" і г.д.), таму яго актыўнасць і патэнцыял у "вайне з паганымі" таксама часова аслаблі, што спрыяла стабілізацыі палітычнай сітуацыі ў ВКЛ.

Так, у 1392 г. пад вярхоўным суверэнітэтам Ягайлы непасрэдным уладаром дзяржавы стаў Вітаўт Кейстутавіч, які пачаў тытулавацца "supremus dux Lithuaniae" – "вялікім князем літоўскім" або "вялікім князем Літвы ды панам і дзедзічам зямель Русі". Хоць пасля прысягі на вернасць Ягайлу і Ядвізе ён і знаходзіўся ў васальнай залежнасці ад Каралеўства Польскага, пагадненне 1392 г. справядліва можа лічыцца першым юрыдычна-прававым крокам на шляху да аднаўлення дзяржаўнага

[1] SRP. Bd. 3. S. 162.
[2] *Boockmann H.* Der Deutsche Orden. Zwölf Kapiteln aus seiner Geschichte. München, 1994. S. 60.
[3] SRP. Bd. 2. S. 646; Bd. 3. S. 176.

суверэнітэту Вялікага Княства Літоўскага, бо сапраўды, у параўнанні з крэўскім актам яно давала дзяржаве пэўную самастойнаць. Пазней акт Радамска-Віленскай уніі 1401 г. пацвердзіў, што, атрымаўшы радавыя ўладанні і ўладу над ВКЛ, Вітаўт стаў пажыццёвым уладаром гэтай дзяржавы пры ўмове прызнання палітычнай праграмы Ягайлы і яго юрыдычнай зверхнасці.

Такім чынам, і пасля крэўскага акта дзяржава Гедымінавічаў па-ранейшаму існавала як асобны грамадска-палітычны арганізм. На практыцы ажыццявіць поўную інкарпарацыю літоўска-беларускай дзяржавы ў Каралеўства Польскае аказалася немагчыма, паколькі ў ВКЛ канца XIV–XV ст. не было грамадскіх сіл, зацікаўленых у захаванні стану інкарпарацыі. Дзякуючы актыўнасці тых колаў, што былі незадаволеныя прапанаванай польскім бокам формай уніі, інкарпарацыя стала толькі кароткачасовым эпізодам чыста юрыдычнай гісторыі. Аднак яе гістарычнае значэнне цяжка пераацаніць. Скептычна ацэньваючы палітычнае значэнне крэўскага акта, Курт Форштройтэр заўважыў, што для ВКЛ персанальная унія з Польшчай была больш важкай у культурным, чым у палітычным, плане, бо нямецкія ўплывы яна замяніла на польскія[1]. На думку многіх гісторыкаў, падпісаная ў Крэве унія стала мяжой, якая прадвызначыла лёсы народаў Усходняй Еўропы. Калі да 1385 г. захоўвалася перспектыва перарастання ВКЛ у чыста ўсходнеславянска-праваслаўную дзяржаву, заставалася актуальнай праграма аб'яднання ўсёй Русі вакол Вільні, дык прыняцце лацінскага хрысціянства пануючай дынастыяй і літоўцамі ўнесла недавер у стаўленне да іх русінаў. Славяна-балцкі грамадскі саюз быў азмрочаны канфесійным расколам, пісаў нямецкі гісторык Гюнтэр Шцёкль, які лічыў, што пасля Крэва вырашэннем гэтай праблемы магла быць ці асіміляцыя ўсходніх славян у ВКЛ, ці раздзел дзяржавы паводле канфесійна-культурнай мяжы[2]. Хоць падобнае трактаванне крэўскага акта ўяўляецца празмерна фаталістычным, бо, як паказваюць многія даследаванні, на працягу яшчэ двух стагоддзяў пасля яго падпісання розныя этнасы і канфесіі маглі добра ладзіць між сабою ў адной дзяржаве, цалкам адмаўляць унесены ім у грамадскае жыццё фактар антаганізму таксама не выпадае. Аднак у гістарычна-культурным плане прыняты ў Крэве дакумент стаў для Беларусі пачаткам новай эпохі, бо адкрыў яе землі для цывілізацыйных уплываў лацінскай Еўропы і абумовіў першую вестэрнізацыю краю.



Мангола-татарскі вершнік. Рэканструкцыя

**Усходняя палітыка. Паражэнне на Ворскле.** Нават пасля Крэўскай уніі заставаліся актуальнымі планы саюзу ВКЛ з Маскоўскай

[1] *Forstreuter K.* Deutschland und Litauen im Mittelalter. Köln, 1962. S. 13.
[2] *Stökl G.* Der Russische Staat im Mittelalter und Früher Neuzeit. Wiesbaden, 1981. S. 284—285.

дзяржавай. Адносіны паміж імі сталі паляпшацца дзякуючы ініцыятыве Вітаўта. Калі ў 1386 г. маскоўскі княжыч Васіль Дзмітравіч, уцякаючы з Арды праз Малдову, апынуўся ў Вялікім Княстве, то меў сустрэчу з Вітаўтам, на якой была дасягнута дамоўленасць пра шлюб Васіля з Соф'яй Вітаўтаўнай і антытатарскі саюз. Стаўшы вялікім князем, Васіль Дзмітравіч у 1390 г. прыслаў у Мальбарк пасольства, якое і сасватала Соф'ю. Дынастычны шлюб надоўга звязаў палітыку маскоўскага князя з праграмай Вітаўта, хоць з 1395 г., пасля разгрому Залатой Арды ханам Тамерланам, ажыццяўленне мэт вялікага князя літоўскага несла пагрозу планам узвышэння Масквы. Так, у тэкст Салінскай дамовы з Нямецкім ордэнам (1398) быў уключаны пункт аб тым, што Вітаўт адмаўляецца ад уплыву на Пскоў на карысць Ордэна, а Ордэн за гэта будзе дапамагаць яму займець кантроль над Ноўгарадам Вялікім[1]. Магчыма, вялікі князь прымаў гэтыя ўмовы толькі для таго, каб атрымаць дапамогу Нямецкага ордэна для генеральнага паходу супраць татар. Варта ва ўсякім разе ўлічваць, што ніякіх канкрэтных абавязкаў для Вітаўта тэкст Салінскага пагаднення не прадугледжваў.

Удала выкарыстоўваючы замацаваны дынастычным шлюбам саюз з Масквой, Вітаўт паспяхова пашыраў свой уплыў на ўсходнія славянскія землі, прычым вялікі князь маскоўскі Васіль Дзмітравіч не супрацьдзейнічаў гэтаму. У 1386 г. пасля разгрому смалян пад Мсціславам у Смаленску быў пасаджаны князь Юры Святаславіч у ролі намесніка вялікага князя літоўскага. У 1393 г. за сепаратызм Вітаўт замяніў яго на Глеба Святаславіча. А яшчэ праз два гады, калі Смаленск адпаў ад ВКЛ, вялікі князь прывёў войска і сілай падпарадкаваў горад, канчаткова выгнаўшы мясцовых Рурыкавічаў і паставіўшы сваіх намеснікаў Васіля Барэйкавіча і Ямонта. Частка гараджан яшчэ заставалася ў апазіцыі да Вітаўта і хацела мець сваім князем Юрыя Святаславіча. Але Масква зноў падтрымала Вітаўта, і смаленскі князь марна спрабаваў вярнуць свой стол пры дапамозе разанцаў. Такой жа прыхільнай пазіцыі ў дачыненні да ўсходняй палітыкі Вільні маскоўскі князь Васіль Дзмітравіч трымаўся і пазней. Канчаткова ж Смаленск быў уключаны ў склад Вялікага Княства з 1404 г., праз год пасля падпарадкавання Вязьмы. Смаленск здалі Вітаўту баяры, калі князь Юры Святаславіч паехаў прасіць дапамогі ў Маскве.

Поспехі ў правядзенні ўсходняй палітыкі далі Вітаўту падставу ўсур'ёз падумаць аб канчатковай рэалізацыі грандыёзных планаў па поўным падпарадкаванні ВКЛ усіх рускіх зямель. Здавалася б, гэтаму спрыялі падзеі ў Залатой Ардзе, якая працягвала заставацца сюзерэнам Паўночна-Усходняй Русі. У гэты час пазначылася тэндэнцыя па пераадоленні крызісу, які перажывала Арда ў 60–70-я гг. XIVст. Так званая Белая Арда (ці Ак-Арда), якая складала ўсходнюю частку былога Улуса Джучы і ў азначаны перыяд адасобілася ад Залатой Арды, пачала ўзвышацца і сама стала актыўна ўмешвацца ў залатаардынскія справы. На канец 70-х гг. прыпадае бурная дзейнасць ак-ардынскага царэвіча Тахтамыша. Пры падтрымцы самаркандскага правіцеля Цімура (Тамерлана) ён пасля некалькіх няўдалых спроб у 1377 г. усё ж такі здолеў падна-

[1] Die Staatsverträge des Deutschen Ordens in Preussen im XV Jh. Bd. 1 (1398–1437) / Ed. E. Weise. Marburg, 1970.

чаліць сабе Ак-Арду і ўзяў курс на падпарадкаванне Залатой Арды. У 1380 г. Тахтамыш на рацэ Калка разграміў цемніка Мамая, які паспеў сабраць пасля паражэння на Куліковым полі новае войска. У выніку ў яго руках сканцэнтравалася ўлада над агромністымі тэрыторыямі. Была адноўлена ўлада Арды і над Маскоўскай Руссю[1].

Аднак неўзабаве Тахтамыш неабачліва ўступіў у канфлікт са сваім былым заступнікам усемагутным Тамерланам (Цімурам). Прадметам спрэчкі былі Іран і Закаўказзе. У гэтым змаганні перамог Цімур, які выгнаў Тахтамыша з Арды і пасадзіў на залатаардынскае ханства свайго стаўленіка Цімур-Кутлука. Пакрыўджаны Тахтамыш мусіў шукаць паратунку ў Вітаўта, які якраз у той час праяўляў актыўную зацікаўленасць у татарскіх справах і зрабіў шэраг удалых паходаў у паўночнае Прычарнамор'е з мэтай падпарадкавання сабе татарскіх феадалаў, што адкалоліся ад Арды. Вялікакняскае войска даходзіла да Азова, а па звестках польскіх крыніц – і да Волгі; на ніжнім цячэнні Дняпра была закладзена крэпасць у гонар Святога Яна. Вынікам паходаў стала перасяленне ў Вялікае Княства значнай колькасці татар – ваеннапалонных, а таксама прыхільнікаў Тахтамыша і іншых перабежчыкаў[2].

Прыняўшы Тахтамыша і пасяліўшы яго ў Лідскім замку, Вітаўт спадзяваўся выкарыстаць былога хана ў сваёй палітычнай гульні. Вялікі князь выношваў планы падпарадкаваць Арду праз узвядзенне на ханства свайго стаўленіка. Прычым гаворка ішла не толькі пра Залатую, але і пра Белую Арду, г.зн. пра ўвесь даўні Улус Джучы. На гэтую ролю Тахтамыш падыходзіў лепш за ўсё. Узамен удзячны хан павінен быў выдаць Вітаўту ярлык на ўсе рускія землі, у тым ліку на тыя, якія вялікі князь толькі планаваў далучыць да сваіх уладанняў – Ноўгарад, Пскоў і Маскву. Гэта павінна было стаць важным крокам у дасягненні Кейстутавічам дамінавання ў цэнтральна-ўсходнееўрапейскім рэгіёне. Уваскрасенскі летапіс прыпісвае Вітаўту наступныя словы, якія павінны былі стаць лейтматывам знешнепалітычнай праграмы: "Я тебя посажу на Орде і на Сараи, и на Болгарех, и на Азтрахан, и на Озове, и на Заятцькой Орде, а ты мене посади на Московском великом княжении и на всей Семенатьцати тем и на Новгороде Великом, и на Пскове, а Тферь и Рязань моа и есть, а Немцы и сам возьму"[3].

Падрыхтоўку да выправы на Цімур-Кутлука Вітаўт імкнуўся выкарыстаць і для ўмацавання свайго іміджу хрысціянскага манарха, усяляк прапагандуючы гэтую акцыю ў рэчышчы барацьбы заходняга свету з "нявернымі". І трэба сказаць, яго намаганні атрымалі з Еўропе пэўны рэзананс. Стараннямі Вітаўта запланаваны паход набываў характар міжнароднай падзеі – да яго войска далучыліся атрады тэўтонскіх рыцараў (100 "коп'яў"), малдаван, валахаў і нават палякаў (400 "коп'яў"). Палякі з'явіліся ў войску Вітаўта, нягледзячы на негатыўнае стаўленне да выправы каралевы Ядвігі. Апошняя небеспадстаўна асцерагалася, што ў выпадку ўдачы Вітаўт занадта ўмацуе свае пазіцыі, каб надалей прыслухоўвацца да голасу з Кракава. Папа рымскі Баніфацый IX таксама пад-

---

[1] *Греков Б.Д., Якубовский А.Ю.* Золотоая Орда и ее падение. М.; Л. 1950. С. 315–329.
[2] *Насевіч В.Л.* Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: Падзеі і асобы. Мн. 1993. С. 133–136; *Корчинский И.* Витовт Великий. Каунас, 1930. С. 41–42.
[3] ПСРЛ. Т. 22, ч. 1. СПб., 1911. С. 423; *Греков И.Б.* Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV–XVI вв. М., 1963. С. 77.

трымаў план выправы на Арду і нават надаў яму статус крыжовага паходу. Аднак на практыцы дапамога замежных "гасцей" мела хутчэй ідэалагічнае, чым рэальнае ваеннае значэнне.

Летам 1399 г. літоўскія, беларускія і ўкраінскія сілы Вітаўта сумесна з прыхільнікамі Тахтамыша і замежнымі "гасцямі" рушылі з Кіева, які з'яўляўся апорным пунктам паходу. Усяго ў войску налічвалася каля 20 тыс. чалавек, мелася таксама артылерыя. У паходзе ўдзельнічала ўся вышэйшая знаць дзяржавы – каля 50 князёў. Войскі Вітаўта і Цімур-Кутлука сустрэліся на рацэ Ворскла. Нягледзячы на колькасную перавагу татар, Цімур-Кутлук не рызыкнуў пайсці на сутыкненне з грозным праціўнікам, уступіў з ім у перагаворы, згаджаўся на вялікія саступкі, у тым ліку на выплату вялікаму князю даніны, і нават называў Вітаўта сваім бацькам. Аднак замест таго каб скарыстаць момант, вялікі князь, упэўнены ў сваім ваенным шчасці, прад'яўляў хану ўсё новыя і новыя патрабаванні. Тым часам са свежымі татарскімі сіламі падышоў стары і вопытны Тамерланаў военачальнік і паплечнік Эдыгей. Гэта рэзка змяніла тон перагавораў. Заставалася яшчэ магчымасць ганаровага адыходу, аднак пыхлівае рыцарства палічыла гэта за ганьбу.

Напачатку ход бітвы, што адбылася 12 жніўня, развіваўся спрыяльна для войска Вітаўта. Калі верыць рускім летапісам, гэтаму садзейнічала выкарыстанне літвінамі і іх саюзнікамі агняпальнай зброі і арбалетаў. Але ў далейшым, па сведчанні тых жа летапісаў, татары "прииде с великою силою и обиде Витовта кругом, и подстреляше под ним кони...", што ўрэшце і абумовіла зыход бітвы. У выніку разгрому загінулі асноўныя сілы Вітаўта разам са шматлікімі прадстаўнікамі палітычнай эліты дзяржавы, сярод якіх было 20 князёў. Сам вялікі князь разам з Тахтамышам ледзь здолелі ўратавацца з нешматлікай дружынай. Па іх слядах татары дайшлі ажно да Кіева, дзе, задаволіўшыся вялікім выкупам, павярнулі назад. Аднак і татарам перамога каштавала шмат. Сам Цімур атрымаў у бітве сур'ёзныя раны і хутка памёр[1]. Па іншых звестках, прычынай смерці хана стала яго празмернае п'янства[2]. Аднак гэта не азначала страты Эдыгеем ягонага дамінуючага становішча ў Ардзе. Ханскі стол заняў яшчэ больш паслухмяны ягонай волі Шадыбек, які намінальна правіў да 1408 г.

У плане захавання Вітаўтам набыткаў папярэдняга часу паражэнне на Ворскле не выглядала для яго катастрофай. Пакрысе вялікім князем літоўскім быў адноўлены нават ягоны ўплыў у Прычарнамор'і. Адносіны Вялікага Княства з Залатой Ардой пасля 1399 г. не перарываліся; ужо ў 1400 г. да Вітаўта прыязджала пасольства татарскага хана. Аднак няўдача ў рэалізацыі планаў па ўзвядзенні на ханства свайго стаўленіка не толькі папсавала палітычны прэстыж наваяўленага змагара з "няверны-мі", але і азначала адсоўванне на няпэўны тэрмін яго грандыёзных планаў па ўсталяванні абсалютнай гегемоніі ва ўсходнееўрапейскім рэгіёне. Урэшце Вітаўт быў вымушаны пайсці на ўмацаванне саюзу з Ягайлам. Адно што каралева Ядвіга не дажыла да гэтага моманту, які нямала б яе

[1] ПСРЛ. Т. 11–12. Патриаршая или Никоновская летопись. М., 1965. С. 173; ПСРЛ. Т. 15. Летописный сборник, именуемый Тверской летописью. СПб., 1863. С. 458; *Długosz J.* Roczniki, czyli Kroniki sławnego Królewstwa Polskiego. T. 10. Warszawa, 1981. S. 295—296; *Барбашев А.И.* Витовт и его политика до Грюнвальдской битвы (1410 г.). СПб., 1885. С. 94—98.

[2] *Греков Б.Д., Якубовский А.Ю.* Золотая Орда и ее падение. С. 391.

парадаваў: тым самым летам (яшчэ 17 ліпеня) яна памерла пасля няўдалых родаў, так і не ўбачыўшы прыніжэння аднаго са сваіх галоўных палітычных апанентаў.

**Дзейнасць тэўтонцаў у новых абставінах.** У 90-я гг. XIV ст. Тэўтонскі ордэн сутыкнуўся з сур'ёзнымі праблемамі арганізацыі далейшай барацьбы з ВКЛ. Пачаліся канфлікты паміж "гасцямі", што прыехалі з розных краін Еўропы. Напрыклад, у выніку сутычкі англійскіх рыцараў з шатландскімі ў 1391 г. быў забіты пляменнік шатландскага караля, а ў наступным годзе англічане забілі аднаго прускага арыстакрата і яго слуг[1]. Нацыянальныя канфлікты паміж удзельнікамі выправаў падрывалі высакароднасць самой ідэі крыжовага паходу супраць "няверных". Таму з 1394 г. англійскія "госці" былі выключаны з удзелу ў выправах на Літву. Між тым па колькасці сярод удзельнікаў "рэйзаў" рыцары з Брытанскага каралеўства саступалі толькі французскім, так што прыток новых сіл быў істотна зменшаны. Акрамя таго, чэшскі кароль Вацлаў IV у 1395 г. заклікаў Ордэн больш не праводзіць ваенных акцый супраць Літвы і Русі. І рымскі папа звярнуўся да вялікага магістра з просьбай не ваяваць больш "землі літвінаў і русінаў"[2]. Гэтае ж патрабаванне Апостальская сталіца паўторыць ва ультыматыўнай форме, праўда, ажно праз 8 гадоў. А пакуль неафіцыйна палітыка рыцарскай дзяржавы па-ранейшаму карысталася падтрымкай Люксембургаў – і згаданага чэшскага караля, што стаў у 1400 г. імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі, і венгерскага караля Жыгімонта. Таму Ордэн знаходзіў магчымым працягваць "вайну з паганымі".

Ужо на пачатку 1393 г. ордэнскі маршал ажыццявіў два паспяховыя паходы на беларуска-польскае памежжа, дасягнуў Гародні, спаліў Вітаўтаў Сураж і вывеў многа палону[3]. Потым на гэтую ж беларускую фартэцыю, умацаванні якой не паспелі адбудаваць пасля папярэдняга нападу рыцараў, правялі рэйд злучаныя сілы балгскага комтура Конрада Кібурга і ордэнскага маршала. Пры пераправе праз Нёман рыцары панеслі вялікія страты, аднак лёгка здабылі гарадзенскі замак і спалілі яго.

Асабліва актыўна Ордэн пачаў дзейнічаць са снежня 1393 г., калі вялікім магістрам стаў Конрад фон Юнгінген. Ужо ў студзені 1394 г. была арганізавана вялікая экспедыцыя на ВКЛ з удзелам многіх "гасцей" з Германіі, Англіі і Францыі. Праз Гародню войска дасягнула вусця Віліі, дзе раздзялілася на тры групоўкі і пайшло, як піша храніст, "на Русь": па Наваградак, на Ліду, на Мерач і на Драгічын. Нідзе не сустракаючы адпору, крыжаносцы паваявалі "многа навакольных земляў", выпалілі паселішчы, нарабаваліся і з вялізнай здабычай вярнуліся ў Прусію[4].

Зімой наступнага года ў Прусіі зноў сабралася многа еўрапейскага рыцарства, якое запатрабавала новай выправы "на Літву". Экспедыцыя пачалася пад вясну. Ордэнскі кантынгент і "госці" абышлі Гародню і накіраваліся на Наваградак, жыхары якога паспелі спаліць горад і схавацца ў лесе. Адтуль тэўтонцы рушылі на Ліду, але і там было ўжо ўсё спалена. Затое спусціўшыся ніжэй, рыцары занялі Драгічын і колькі тыдняў

1 *Boockmann H.* Der Deutsche Orden... S. 163.
2 SRP. Bd. 3. S. 197.
3 *Koneczny F.* Vitoldiana // AW. R. 7 (1930). Z. 3/4. S. 503.
4 SRP. Bd. 2. S. 652; Bd. 3. S. 191, 627.



Кавалерысты ВКЛ. Выявы княжацкіх пячатак канца XIV – пачатку XV ст.

беспакарана гаспадарылі ў гэтай зямлі, пакуль вясновая паводка не прымусіла іх вяртацца. Зноў быў выведзены вялізны палон.

Вітаўт здолеў арганізаваць абарону толькі летам 1394 г., калі рыцары ажыццяўлялі новую вялікую выправу. На гэты раз вялікі магістр на чале кантынгента з прускіх і інфлянцкіх рыцараў падышоў да спаленага Вітаўтам Марыенвердэра, каб адбудаваць цвярдыню. Вітаўт са сваім войскам з'явіўся побач яшчэ да таго, як сканцэнтраваліся ўсе сілы Конрада фон Юнгінгена, і распачаў перамовы. Хутка дайшло да сечы, але з падыходам астатніх ордэнскіх фарміраванняў Вітаўт адступіў. Пасля пераможнай бітвы рыцары рушылі на саму сталіцу і 29 жніўня акружылі яе. Але 23 дні аблогі і артылерыйскага абстрэлу нічога не далі, і магістр вырашыў вяртацца. Гэтая безвыніковая экспедыцыя стала апошнім паходам нямецкіх рыцараў на Вільню.

Апрача ваенных экспедыцый у 1390-х гг. надзвычай актыўна працавала ордэнская канцылярыя, задачай якой было весці прапаганду, паказваць няслушнасць дзеянняў Ягайлы і Вітаўта ды правакаваць звадкі ў непрыяцельскім стане. Напрыклад, у 1393 г. крыжацкія пасланцы на франкфурцкім райхстагу сцвярджалі, што польскі кароль штодзённа ўмацоўвае "няверных" – літвінаў і русінаў, пастаўляючы ім зброю, даспехі, коней, майстроў і г.д., так што змагацца з ворагамі Хрыста робіцца ўсё цяжэй і цяжэй. Ордэн па-ранейшаму не згаджаўся прызнаваць права Польшчы на ролю пасрэдніцы ў хрысціянскай місіі, манапалізаваўшы яе выключна для сябе. Для збору падрабязнай інфармацыі вялікі магістр пасылаў у ВКЛ сваіх выведнікаў, наймаў платных агентаў. Як сведчаць ордэнскія дакументы, інфарматарамі і праваднікамі былі звычайна мясцовыя русіны і літвіны. Складзенае ў канцы XIV – пачатку XV ст. "Апісанне літоўскіх шляхоў" утрымлівае падрабязную інфармацыю больш чым пра сто маршрутаў з Прусіі ў Жамойць, Аўкштоту і Беларускае Панямонне[1].

Ягайла і Вітаўт карысталіся тымі ж метадамі, што і іх непрыяцель. Польскі кароль абвяшчаў, што Нямецкі ордэн – не абаронца, а вораг хрысціянства, і сцвярджаў, што на землях Літвы і Беларусі нямецкія рыцары знішчаюць парафіяльныя касцёлы, збудаваныя коштам Польшчы. Вялікі магістр абвяргаў гэта ў лісце да імператара, называючы падобнае злой выдумкай. Прапагандысцкая актыўнасць абодвух варагуючых бакоў на тэрыторыі еўрапейскіх дзяржаў стала ўзрастаць у 1390-х гг. у сувязі з тым, што паменшылася колькасць рыцараў, ахвочых ваяваць дзеля ідэі. Таму даводзілася ставіць на наймітаў, асабліва ў Сілезіі і Багеміі, адкуль і Ордэн, і Польшча вербавалі найбольш сваіх прыхільнікаў.

[1] SRP. Bd. 2. S. 662–708.

**Паляпшэнне адносін ВКЛ з Ордэнам. Салінскія пагадненні.** Пасля нападу крыжовых рыцараў на ўладанні Вітаўта, арганізаванага ў лютым 1396 г., вялікі князь літоўскі пайшоў на збліжэнне з Дэрптам. 26 сакавіка 1396 г. паміж ім, біскупам дэрпцкім, герцагам Альбрэхтам Мекленбургскім і біскупам віленскім быў заключаны "вечны мір дзеля ўзаемнай карысці і дабра". Пастунова склалася небяспечная для Інфлянцкага ордэна кааліцыя, у якую ўваходзілі Памеранія, Польшча, ВКЛ, інфлянцкія біскупствы, марскія піраты і вандроўныя рыцары (Stiftsritter). Выпадкова выкрыты план саюзнікаў прадугледжваў іх супольныя дзеянні і паход на Рыгу[1]. Так што ордэнскім уладам было чаго хвалявацца. Да таго ж у 1397 г. крыжаносцы пацярпелі страшнае паражэнне ад туркаў пад Нікапалісам.

У тых умовах Мальбарк схіляўся да перадышкі. Пасля часовага замірэння з Вітаўтам, падпісанага 28 ліпеня 1396 г., у адпаведнасці з дамовай на Дубісе чакалася сустрэча ордэнскіх паслоў з упаўнаважанымі ВКЛ, аднак вялікі князь не прыслаў сваіх прадстаўнікоў. Тады Конрад фон Юнгінген узяўся рыхтаваць чарговую экспедыцыю. Рагніцкі комтур уварваўся ў Жамойць, а рэйнскі – у паўднёвыя раёны Літвы, але з боку Вітаўта контракцый не было.

16 студзеня 1397 г. пачалася серыя перагавораў, якія зацягнуліся на цэлы год. Ордэн не пакідаў спадзявацца на разрыў саюзу Польшчы і ВКЛ. Цяпер добрыя магчымасці для гэтага адкрывала падтрымка незалежніцкіх планаў Вітаўта. Інтарэсам апошняга больш адпавядала экспансія на ўсход і поўдзень, што супярэчыла планам Польшчы. Заканфліктаваўшы з каралевай Ядвігай з-за даніны, вялікі князь літоўскі сам пачаў збліжацца з немцамі. У 1398 г. ён прыняў прапанову вялікага магістра Конрада фон Юнгінгена правесці перамовы аб замірэнні. Згодна з дамоўленасцю 21 красавіка паслы Нямецкага ордэна прыехалі да вялікага князя ў Гародню, дзе ўжо праз два дні быў прыняты праект пагаднення[2]. У верасні дакумент аб міры на аснове дасягнутага паразумення пацвярджаўся пячаткамі манархаў і высокіх дзяржаўных чыноў абодвух бакоў на нёманскім востраве Салін. Дагавор заключаўся без згоды Ягайлы, хоць і не быў для таго таямніцай. Сабраныя на востраве паны і баяры з літоўскіх і беларуска-ўкраінскіх земляў абвясцілі Вітаўта "каралём літвінаў і русінаў"[3] і падтрымалі яго антыпольскую настроенасць. Ратыфікаваны на Саліне акт дагавора пацвердзіў, што Жамойць належыць Ордэну, і абавязаў Вітаўта памагчы рыцарам здабываць Пскоў, а ў якасці кампенсацыі за ўчыненыя раней разбурэнні збудаваць ім два-тры памежныя замкі. Тэўтонцы ж узамен меліся падтрымаць Вітаўта ў ажыццяўленні яго ўсходніх планаў, у прыватнасці заваладаць Вялікім Ноўгарадам, і выпускалі на волю ягонага брата Жыгімонта ды іншых палонных[4].

З аднаго боку, Салінская дамова паставіла Ордэн у непрывабнае міжнароднае становішча. Атрымалася, што дзяржава, прызваннем якой бы-

---

[1] *Benninghoven F.* Die Gotlandfeldzüge des Deutschen Ordens 1398–1408 // Zeitschrift für Ostforschung. Jhg. 13 (1964). Hf. 3. S. 426.

[2] *Neitmann K.* Die Staatsverträge des Deutschen Ordens in Preussen, 1230–1449. Studien zur Diplomatie eines spätmittelalterlichen deutschen Territoralstaates. Köln; Wien, 1986. S. 150–151.

[3] SRP. Bd. 3. S. 224.

[4] Die Staatsverträge des Deutschen Ordens in Preussen im XV Jh. Bd. 1 (1398–1437). N. 2.

ло весці вайну з ворагамі хрысціянства, заключыла саюз з нехрысцямі: у лагеры Вітаўта былі не толькі "паганыя" літоўцы і праваслаўныя беларусы, якіх рымскі папа лічыў схізматыкамі, ледзь не горшымі за паганцаў, але і татары! Выглядае, што палітычная вага непасрэдных вынікаў гэтага саюзу вабіла прускія ўлады больш, чым іх міжнародны імідж. Але, з другога боку, на Нёмане Вітаўт адмовіўся ад Жамойці, і гэта з'яўлялася значным дыпламатычным поспехам рыцарскай дзяржавы, што цвёрда ступіла на ўсходняе ўзбярэжжа Балтыкі. Разам з анексіяй шведскага Готланда Салін пазначыў кульмінацыю тэрытарыяльнай экспансіі Нямецкага ордэна ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе.

Нядоўгі саюз Прусіі з беларуска-літоўскай дзяржавай адразу ўвасобіўся ў практычныя дзеянні. Рыцары ваявалі пад харугвамі Вітаўта, відаць, ужо адразу пасля падпісання Салінскага дагавора. А летам 1398 г. ордэнскія фарміраванні дапамаглі Вітаўту разграміць у паўднёвых стэпах татар. На Дняпры ў гонар перамогі вялікі князь узвёў замак на ўзор ордэнскіх крэпасцей, назваўшы яго Ёганэсбургам. Рыхтаваўся вялікі паход супраць Арды.

Але бітва на Ворскле скончылася няўдачай, якая парушыла далёкасяжныя планы Вітаўта і перакрыла шлях да яго ўсходнееўрапейскай гегемоніі. Пасля паражэння ён з'явіўся да Ягайлы ў Кракаве, а на пачатку 1400 г. польскі кароль сам прыехаў да яго ў Вільню. Мяркуецца, што ўжо тады Ягайла саступіў Вітаўту "supremum principatum" (вяршэнства) над усім ВКЛ.

Фармальна ад бітвы на Ворскле да падпісання Віленскай уніі 1401 г. паміж Вітаўтам і Нямецкім ордэнам захоўваліся прыязныя дачыненні, тады як паміж Каронай і рыцарскай дзяржавай нарастала напруга. Перад самай Ворсклай памерла каралева Ядвіга, якая пры жыцці не даводзіла супярэчнасці з тэўтонцамі да абвастрэння. І Вітаўт яшчэ нейкі час стараўся не канфліктаваць ні з Каронай, ні з Ордэнам, якому быў абавязаны за дапамогу. Летам 1401 г. у Прусію яшчэ ездзіла жонка Вітаўта, вялікая княгіня Ганна, і ён супольна з Ордэнам праўдападобна выношваў нейкія планы супраць татар[1]. Вялікі князь нават паспрыяў збліжэнню польскага караля з вялікім магістрам. Але пацярпеўшы страшнае паражэнне ад татар на Ворскле, Кейстутавіч мусіў адмовіцца ад усходняй палітычнай праграмы і змяніць напрамак сваёй палітычнай актыўнасці.

**Віленская унія. Ад збліжэння да канфрантацыі.** Пасля падпісання 11 сакавіка 1401 г. уніі ў Вільні ўзаемадачыненні ВКЛ і Ордэна набывалі іншы характар. На з'ездзе ў сталіцы былі складзены тры дакументы – ад літоўскага баярства, ад Вітаўта і акт польскіх магнатаў, прывезены з Радамля. Ягайла афіцыйна перадаў Вітаўту "supremum principatum" над землямі Літвы і Русі, хоць па смерці вялікага князя вярхоўная ўлада над ВКЛ павінна была вярнуцца да польскага караля. Фактычна гэта прызнанне раўназначнасці ВКЛ з Каронай і наданне Вітаўту пажыццёвага тытула вялікага князя (пры ўмове, што Ягайлу заставаўся supremus dux).

Ордэн устрывожана паставіўся да новай уніі, успрыняўшы яе як скрыты антынямецкі саюз. З Мальбарка ў еўрапейскія дзяржавы, у тым ліку ў Апостальскую сталіцу, паехалі пасланцы, якія гаварылі, што

---

[1] *Goyski M.* Wzajemne stosunki Polski, Litwy i Zakonu w latach 1399—1404 // Studium historyczne. Kraków, 1906. S. 14.

польскі кароль аб'яднаўся з русінамі і нават з маскоўскім князем[1]. Вялікі магістр скардзіўся на Вітаўта і Ягайлу, сцвярджаў, што яго вайна з імі цалкам легітымная, бо, маўляў, Польшча падтрымлівае паганцаў у Літве і дапамагае схізматыкам-русінам (scismatici Rutheni). Наогул, Віленская унія характарызавалася як небяспечная для хрысціянства, бо да яе належаць ерэтыкі (меліся на ўвазе русіны)[2], а Ягайла і Вітаўт абвяшчаліся "князямі паганцаў"[3].

Адразу пасля уніі Вітаўт радыкальна змяніў свае дачыненні з немцамі. Калі ў тым жа 1401 г. пачаліся хваляванні на ордэнскіх уладаннях Жамойці, сам вялікі князь, які год назад дапамагаў немцам утаймоўваць жамойтаў, на гэты раз падтрымаў бунтаўнікоў і рэзка парваў з рыцарамі. Жамойцкае паўстанне стала прычынай аднаўлення вайны з Ордэнам і новай серыі знішчальных рэйдаў на ВКЛ. У тым жа годзе экспедыцыю на ВКЛ арганізавалі інфлянцкія рыцары, а прускае войка ўварвалася непасрэдна ў Беларусь.

Тэўтонцы дзейнічалі па старым сцэнарыі, кіруючыся прынцыпам "vide et impera". На гэты раз яны паспрабавалі выкарыстаць Вітаўтавага саперніка Свідрыгайлу. Свідрыгайла ж, за якім стаяла ўся Русь, літаральна звязаў рукі Вітаўту: ужо восенню 1401 г. узбунтаваліся адразу Падолле і Смаленск, так што Вітаўту давялося ў тым жа годзе тэрмінова арганізоўваць паход на смалян[4]. На пачатку 1402 г. ордэнскі маршал некалькі дзён пустошыў ваколіцы Гародні.

Свідрыгайла адважыўся паўтарыць шлях Вітаўта. У сакавіку 1402 г. ён з'явіўся ў Мальбарку і падпісаў умову аб васальнай залежнасці ад Ордэна – на узор Салінскага дагавора. Тэўтонцы дапамагалі яму грашыма, накіроўвалі паслоў ва ўзбунтаваны Смаленск і на Падолле, арганізоўвалі ваенныя акцыі. Ужо ў лютым балгскі комтур напаў на Гародню[5]. Летам таго ж года з поўначы па Нёмане іх кантынгент рушыў на Вільню, але Вітаўт пашкодзіў рачныя шляхі, і акцыя сарвалася. Дзеянні ВКЛ у адказ праводзіліся крайне рэдка.

Па ініцыятыве Свідрыгайлы ўжо ў студзені 1403 г. прускі маршал Венер фон Тэтынг супольна з інфлянцкім магістрам Конрадам фон Вітынговэнам правёў двухтыднёвы паход у ВКЛ, падчас якога захапіў 4 тыс. палонных[6]. Помсцячы, Вітаўт у красавіку ўдарыў па Інфлянтах і спаліў Дынабург і Юргінгург. Падтрымліваючы паўстаўшых супраць улады Вітаўта, сам Свідрыгайла неаднаразова з Інфлянтаў спяшаўся ў Смаленск і адтуль назад. Аднак ужо 2 ліпеня паміж Вітаўтам і маршалам Ордэна быў падпісаны дагавор аб спыненні ваенных дзеянняў да асабістай сустрэчы з вялікім магістрам і абмене палоннымі. Сустрэча Конрада фон Юнгінгена і Вітаўта адбылася 8 верасня 1403 г. на Дубісе, праўда, завяршылася яна безвынікова. І ў якасці прычыны гэтага фігуравалі падтрымка немцамі бунтоўнага Свідрыгайлы ды складаная сітуацыя ў Смаленску. З польскімі дапаможнымі фарміраваннямі Вітаўт у наступным годзе мусіў сілай падпарадкоўваць гэты горад.

---

1 SRP. Bd. 3. S. 244.
2 *Voigt J.* (Hg.). Codex diplomaticus Prussicus. Bd. 6. Königsberg, 1861. N. 113.
3 *Boockmann H.* Der Deutsche Orden... S. 176.
4 ПСРЛ. Т. 17. С. 247.
5 SRP. Bd. 3. S. 256.
6 Там жа. S. 264–266.

Але прынцыповасць пазіцый Ордэна хутка змякчылася. Усяго на дзень пазней за дубіскую сустрэчу датуецца була рымскага папы Баніфацыя IX, які ўрэшце пагадзіўся з рэальным фактам хрысціянізацыі Літвы і забараніў рыцарам ваенныя экспедыцыі супраць ВКЛ. Пасланне з Апостальскай сталіцы, поўнае папрокаў у адрас крыжаносцаў, зрабіла моцнае ўражанне ў Ордэне, улады якога звярнуліся да папы з апеляцыяй. Праўда, і ў самым Мальбарку ўжо не працівіліся замірэнню з Вітаўтам, бо якраз тады рыцары вялі барацьбу з Даніяй за Готланд. Асцерагаючыся экспансіі Кальмарскай уніі, рыцарская дзяржава імкнулася пашырыць свой тэрытарыяльны плацдарм у Балтыйскім рэгіёне і яшчэ ў 1398 г. арганізавала вялікі паход сваіх сухапутных і марскіх (упершыню ў гісторыі) сіл на Готланд. У 1403 і 1404 гг. выправы паўтарыліся. Гэтыя паходы сталі самымі маштабнымі акцыямі Ордэна перад Грунвальдам. У выніку ўвесь Готланд – найважнейшы апорны пункт балтыйскага гандлю – быў заняты немцамі. Спроба Даніі адабраць востраў у 1404 г. не мела поспеху[1].

Для вырашэння канфлікту, што ўжо даволі-такі стаміў усіх, 18 мая 1404 г. у Рацёнж з'ехаліся першыя асобы ВКЛ, Кароны і Ордэна. Ягайла і Вітаўт паспелі паразумецца са Свідрыгайлам, і той удзельнічаў у перамовах на іх баку. Рацёнжскі дагавор, падпісаны 22–23 мая 1404 г., пацвердзіў папярэднія ўмовы міру з Ордэнам і тыя ж межы: Вітаўт "навечна" саступаў немцам Жамойць да Невяжы і частку Судавіі. Карона ж шляхам выкупу вярнула сабе Добжынскую зямлю, але пацвердзіла ўмовы Калішскага трактата 1343 г., падпісанага яшчэ Казімірам III[2]. Саюз Свідрыгайлы з Ордэнам быў скасаваны.

Спачатку мірны дагавор здаваўся трывалым. Калі летам 1404 г. узнялі паўстанне жамойты, падаўляць яго маршалу Ордэна дапамагала літоўска-беларускае войска на чале з Вітаўтам. У 1406 г., беручы ўдзел у паходзе Вітаўта супраць вялікага князя маскоўскага, рагнецкі комтур прывёў пад Бранск на падмогу Кейстутавічу цэлы аддзел нямецкіх рыцараў[3]. У верасні 1408 г. двухтысячны ордэнскі кантынгент зноў дапамагаў вялікаму князю ў акцыі супраць Масквы. А яшчэ раней, у лютым таго ж года, харугвы ВКЛ удзельнічалі ў паходзе інфлянцкага ландмайстра на Пскоўшчыну[4].

Аднак хутка канфлікт саюзнікаў стаў набываць новую вастрыню, асабліва пасля прыходу да ўлады вялікага магістра Ульрыха фон Юнгінгена. Летам 1409 г. у анексаванай Ордэнам Жамойці пачалося чарговае паўстанне, якое падтрымаў Вітаўт. Пасля таго як Ягайла запэўніў, што займе бок Вітаўта ў яго барацьбе за Жамойць, вялікі магістр Ульрых фон Юнгінген абвясціў першаму вайну. Так пачалася "Вялікая вайна", што прывяла да радыкальнага вырашэння канфлікту даўніх антаганістаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы – Нямецкага ордэна і славяна-балцкага блока.

---

[1] *Benninghoven F.* Die Gotlandfeldzuge des Deutschen Ordens 1398—1408. S. 421—477.
[2] *Neitmann K.* Die Staatsverträge des Deutschen Ordens in Preussen, 1230—1449. S. 154; *Biskup M., Labuda G.* Dzieje Zakonu Krzyżackiego w Prusach. S. 361.
[3] *Prochaska A.* Codex epistolari Vitoldi (далей – CEV). Cracoviae, 1882. S. 347.
[4] SRP. Bd. 3. S. 289.

## 3. "Вялікая вайна" і Грунвальдская бітва

**Прычыны і пачатак "Вялікай вайны". Падрыхтоўка да ўзброенага канфлікту варагуючых бакоў.** Прычынай вайны Польскага Каралеўства і ВКЛ супраць Нямецкага ордэна быў канфлікт з-за спрэчных тэрыторый на польска-ордэнскім памежжы (Добжынская зямля, Памор'е, Новая Марка) і Жамойці. Непасрэдна пачатак ваенных дзеянняў справакавала жамойцкае паўстанне супраць уладаў Ордэна, скрытна падтрыманае Вітаўтам. Жамойты паўсталі 31 мая 1409 г., але Вітаўт да паловы чэрвеня ў карэспандэнцыі з магістрам адмаўляў свае сувязі з імі, хоць выведка даносіла ў Мальбарк пра адваротнае. Толькі адкрытая мабілізацыя сіл Вітаўтам і аблога замка Фрайбург засведчылі пачатак неабвешчанай вайны, і жамойцкі войт Міхаэль Кюхмайстар заняўся эвакуацыяй людзей і маёмасці з Жамойці.



Вялікі магістр
Тэўтонскага ордэна
Ульрых фон Юнгінген

Ягайла рыхтаваўся да супольнай з Вітаўтам кампаніі супраць Ордэна, але не хацеў выглядаць агрэсарам у вачах хрысціянскай Еўропы. Польскае пасольства, якое выехала для перагавораў у Мальбарк, 1 жніўня 1409 г. прапанавала вынесці спрэчныя пытанні (у тым ліку жамойцкае) на міжнародны арбітражны суд, але ў дадатак заявіла, што ў выпадку атакі Ордэна на Літву Ягайла стане на бок Вітаўта. Пасля гэтага вялікі магістр Ульрых фон Юнгінген афіцыйна абвясціў польскаму каралю вайну[1]. У другой палове жніўня 1409 г. ордэнскае войска атакавала землі Паўночнай Польшчы. Так упершыню пасля 1343 г. у адкрыты ваенны канфлікт з Ордэнам уступіла і Каралеўства Польскае.

Пачатак вайны склаўся няўдала для Польшчы. Ордэнскія кантынгенты ўвайшлі ў Добжынскую зямлю ды паўночныя Куявы і хутка авалодалі імі, а таксама ажыццявілі напады на Мазовію. Армія ВКЛ абмежавалася неглыбокімі рэйдамі і толькі заняла Жамойць, пакінуўшы палякаў без дапамогі. Не гатовы да працяглых ваенных дзеянняў, Ягайла пайшоў на перамір'е з Ордэнам, падпісанае 8 кастрычніка 1409 г. Дагавор аб перамір'і грунтаваўся на ўмовах Калішскага міру (1343) і абавязваў варагуючыя бакі ўстрымлівацца ад вайны да 4 ліпеня 1410 г. Аднак ён не тычыўся ВКЛ, таму невыпадкова пасля яго заключэння Вітаўт накіраваў у Прусію войска на чале з сваім братам Жыгімонтам, які з агнём і мячом прайшоў па нямецкіх уладаннях, вярнуўшыся адтуль з багатым палонам[2]. Гэты паход выклікаў дыпламатычны скан-

---

[1] *Nowak Z.* Akt rozpoczynający "Wielką Wojnę". List wypowiedni wielkiego mistrza Ulryka von Jungingena z 6 sierpnia 1409 roku // Komunikaty Mazursko-Warmińskie (далей — KMW). 1976. N. 1. S. 79.

[2] *Długosz J.* Roczniki czyli kroniki sławnego Królewstwa Polskiego. T. 6. Ks. 10-11. Warszawa, 1982. S. 46.

дал, але не сарваў падпісанага пагаднення, патрэбнага абодвум бакам для падрыхтоўкі да вырашальнага сутыкнення.

Канфлікт вялікага магістра і польскага караля спрабавалі вырашыць і мірным шляхам. Роля пасрэдніка ў спрэчцы даручалася чэшскаму каралю Вацлаву IV Люксембургскаму. Згодна з яго рашэннем, абвешчаным у Празе 15 лютага 1410 г., права на валоданне не толькі Жамойцю, але і спрэчнымі раёнамі Сантака і Дрэздэнка пакідалася за Ордэнам[1]. Ягайлу забаранялася падтрымліваць Вітаўта ў яго канфлікце з Ордэнам, а гэта пагражала разрывам польска-літоўскай уніі. Зразумела, польскі кароль адмовіўся прызнаваць гэтае рашэнне. Польская дэлегацыя наогул не паехала ў Брэслаў (Вроцлаў), дзе ў маі павінна была адбыцца ратыфікацыя пастановы. Цяпер сілавое вырашэнне канфлікту стала непазбежным, хоць і раней Ягайла з Вітаўтам арыентаваліся на вайну. Так, яшчэ да прыняцця рашэння чэшскім каралём Вацлавам IV пачалася кампанія даўзбройвання ВКЛ: з Польшчы сюды скрытна перапраўляўся вайсковы рыштунак, што выклікала неаднаразовыя скаргі Ордэна, бо супярэчыла міжнароднаму праву. У пачатку снежня 1409 г. у Берасці таемна прайшла ваенная нарада Ягайлы і Вітаўта па распрацоўцы стратэгічнага плана ваеннай кампаніі супраць Ордэна[2]. Прадугледжвалася, што саюзнікі злучаць сілы, захопяць ініцыятыву, дэзарыентуюць непрыяцеля хуткім перамяшчэннем, скарыстаўшы для мабільнасці новыя сродкі пераадолення прыродных перашкод. Ваенныя дзеянні планавалася весці на тэрыторыі праціўніка, вымушаючы яго даць бітву ў адкрытым полі. Таму ў якасці галоўнага аб'екта ўдару вызначалася сталіца ордэнскай дзяржавы Мальбарк.

Важным аспектам падрыхтоўкі да вайны абодва бакі лічылі інфармацыйную прапаганду. Асноўным зместам прапагандысцкага супрацьборства сталі ўзаемныя абвінавачванні ў фальшы і несапраўднай хрысціянскасці. З Мальбарка амаль ва ўсе еўрапейскія дзяржавы рассылаліся адозвы, у якіх ордэнскае кіраўніцтва скардзілася на Ягайлу і Вітаўта ды прасіла дапамогі ў абароне хрысціянства[3]. Наследуючы ідэалогію крыжовых паходаў, яно выкарыстоўвала старую тэрміналогію: сам Ордэн называўся "абаронцам хрысціянства", літоўцы і русіны лічыліся паганцамі і схізматыкамі, а палякі – іх заступнікамі. У інфармацыйнай вайне Мальбарку важна было схіліць еўрапейскіх князёў і рыцараў узяць удзел у канфлікце супраць Ягайлы і Вітаўта.

Не менш актыўна займаўся прапагандай процілеглы бок. Ягайла таксама пасылаў еўрапейскім манархам, князям і рыцарству маніфесты, накіроўваў паслоў са скаргамі на Ордэн і пералічэннем яго грахоў[4]. Прапагандысцкая кампанія Вітаўта і Ягайлы не засталася безвыніковай. Напрыклад, у Брытаніі ім удалося значна зменшыць колькасць прыхільнікаў Ордэна[5]. У прыватнасці, англійскі кароль Генрых IV так і не дапамог

---

[1] *Nowak T.M.* Walki obronne z agresją Brandenburgii i Zakonu Krzyżackiego w l. 1308–1521 // Polskie tradycje wojskowe / Pod red. J. Sikorskiego. Cz. 1. Warszawa, 1990. S. 84.

[2] *Dlugosz J.* Roczniki... Ks. 10-11. S. 52.

[3] CEV. N 437, 440. S. 204–207.

[4] *Dlugosz J.* Roczniki... Ks. 10–11. S. 42–46.

[5] *Ekdahl S.* Ein Brief des Ritters Luppold von Köckritz an Hochmeister Ulrich von Jungingen vom April 1410 // Prusy – Polska – Europa / Red. A. Radzimiński, J. Tandecki. Toruń, 1999. S. 238.

вялікаму магістру ні сіламі, ні сродкамі, хоць раней дэманстраваў яму сваю прыхільнасць.

Рыхтуючыся да вялікай вайны, Ульрых фон Юнгінген 20 снежня 1409 г. падпісаў у Будзе антыпольскі дагавор з венгерскім каралём Жыгімонтам Люксембургскім, які абавязваўся ўжыць супраць Ягайлы сілу, калі той выкарыстае ў канфлікце з Ордэнам літвінаў, русінаў, татар або паганцаў, "ці якіх іншых схізматыкаў, адлучаных ад святога рымскага касцёла"[1]. Аднак, як выявілася пазней, Юнгінген дарэмна спадзяваўся на дапамогу венгерскага манарха. Адзіным рэальным крокам Жыгімонта Люксембургскага стала спроба адарваць Вітаўта ад Ягайлы: у лютым 1410 г. ён запрасіў вялікага князя на сустрэчу ў Кесмарк, дзе нават паабяцаў яму каралеўскую карону[2], але размова ні да чаго не прывяла.

Натуральным паплечнікам Мальбарка ў вайне бачыўся Інфлянцкі ордэн, ад якога вялікі магістр у маі 1410 г. запатрабаваў разарваць мір з Вітаўтам і ўварвацца ў ВКЛ, каб звязаць ягоныя сілы і не дапусціць іх злучэння з польскай арміяй. Аднак і гэтага не атрымалася, бо Інфлянты кіраваліся інтарэсамі сваёй бяспекі, а ў рэальных палітычных абставінах ім адпавядала захаванне міру з суседзямі. Справа ў тым, што Вітаўт, рыхтуючыся да вайны, забяспечыў сабе надзейныя межы на ўсходзе і поўначы: ён "памірыўся з усімі русінамі, асабліва з Псковам"[3], і 14 верасня 1408 г. заключыў "мір па-даўняму" з вялікім князем маскоўскім Васілём. Трактатам прадугледжвалася, што пра намер разарваць мір неабходна папярэджваць за месяц. Гэткае пагадненне, пацверджанае Масквой, 7 красавіка 1409 г. было дасягнута і з Псковам. Адносіны ж з Ноўгарадам Вялікім (у якім, да таго ж, намеснікам сядзеў Сямён Лугвен) рэгуляваліся мірным трактатам, падпісаным яшчэ ў 1407 г.

У такіх абставінах інфлянцкі магістр не мог пайсці на абвастрэнне адносін з суседнім Вялікім Княствам, бо баяўся выклікаць на сябе ўдар саюзнай Вітаўту ўсёй Паўночнай і Ўсходняй Русі[4]. Аднак яшчэ да вынясення прысуду чэшскага караля Вацлава IV Інфлянты таксама звязалі сябе сістэмай пагадненняў з суседзямі. Толькі што скончыўшы няўдалую вайну з Псковам, пакрыўджаны на Прусію ландмагістр Конрад фон Віцінгоф імкнуўся нармалізаваць адносіны з суседзямі і паспрыяць гандлю, ад развіцця якога залежала гаспадарка краю. За восень 1409 г. ён заключыў пагадненне аб міры з Псковам, Ноўгарадам Вялікім і Масквой[5]. Адна з умоў гэтых трактатаў патрабавала абвяшчаць пра разрыў дагавора за два тыдні да пачатку вайны.

Лічыцца, што тады ж або крыху пазней падобнае пагадненне магістр падпісаў і з Вітаўтам, прычым тэрмін паміж магчымым разрывам мірных адносін і пачаткам ваенных дзеянняў дасягаў ажно трох месяцаў. Таму невыпадкова ў маі 1410 г. у адказ на патрабаванні Юнгінгена інфлянцкі ландмагістр заявіў, што, хоць ён і гатовы абвясціць Вітаўту вайну, зрабіць гэта зможа толькі праз тры месяцы пасля разрыву адносін з ВКЛ.

---

[1] Codex diplomaticus Lithuaniae / Ed. E. Raczyński. S. 107–109.
[2] *Caro J.* Geschichte Polens. Th. 3. Gotha, 1869. S. 310–311.
[3] CEV. N. 434. S. 204.
[4] *Kuczyński S.M.* Wielka wojna z Zakonem Krzyżackim w latach 1409–1411. S. 331–332.
[5] CEV. N. 434; *Kostrzak J.* Stanowisko inflanckich władz zakonnych wobec wojeń polsko-krzyżackich w latach 1409–1422 (Cz.1) // Zapiski Historyczne. T. 39 (1974). Z. 4. S. 12.

Атрымаўшы такі адказ перад заканчэннем тэрміну перамір'я, Ульрых фон Юнгінген 15 чэрвеня запатрабаваў ад інфлянцкага магістра вярнуць пазычаныя яму грошы і гарматы[1]. Пасіўнасць Інфлянтаў магла быць часткова абумоўлена і пагрозай з боку ВКЛ, бо Вітаўт пакінуў у Княстве значныя сілы, якія трывожылі ордэнскія ўладанні і непакоілі інфлянцкага магістра[2]. Адсутнасць жа інфлянцкага рыцарства (за выключэннем адной харугвы) пад Грунвальдам прадвызначыла фатальны для Ордэна зыход генеральнай бітвы.



Цяжкія рыцары ВКЛ канца XIV – пачатку XV ст.

У цэлым жа ў канцы 1409 – першай палове 1410 г. саюзнікі падрыхтаваліся да вайны значна лепш, чым Ордэн[3]. Як толькі скончылася перамір'е, яны адразу пачалі ваенныя дзеянні: палякі атакавалі раён Торуня, а літвіны – землі ад Юрбарка да Мемеля (Клайпеды). Чакаючы падыходу найманых рыцараў, Ульрых фон Юнгінген прапанаваў падоўжыць перамір'е да 4 ліпеня, на што Ягайла ахвотна пагадзіўся, бо гэта давала яму магчымасць спакойна аб'яднацца з Вітаўтам і пераправіцца праз Віслу.

**Пачатак летняй кампаніі 1410 г.і Грунвальдская бітва.** 30 чэрвеня Ягайла і Вітаўт злучылі свае арміі на Віслe, недалёка ад Чэрвіньска, пераправіліся цераз раку па пантонным мосце і, перайшоўшы мяжу Ордэна, сталі рухацца па Прусіі ў напрамку да Мальбарка. Шлях саюзнікаў асвятлялі пажары мястэчак і вёсак. Іх з'яўленне на поўдні Прусіі заспела вялікага магістра знянацку. Ваеннае кіраўніцтва Ордэна да апошняга моманту было дэзарыентавана. Вялікаму магістру паступалі данясенні, што Ягайла плануе ўдарыць на Памор'е, а Вітаўт – на Астэроду[4]. Рыхтуючыся да абарончай вайны, ён сканцэнтраваў галоўныя сілы ў паўднёвым Памор'і і па межах сваёй дзяржавы. Хутка, аднак, фон Юнгінген разгадаў планы праціўніка і, пакінуўшы на ахову Памор'я комтура Генрыха фон Плаўэна, паспеў своечасова перавесці галоўныя сілы на поўдзень Прусіі, каб перакрыць шлях на сталіцу.

Армія вялікага магістра сустрэла непрыяцеля 10 ліпеня недалёка ад Кужэнтніка, на рацэ Дрвенцы. Апіраючыся на ўмацаваную пераправу, ён збіраўся даць тут абарончую бітву. Аднак Ягайла пасля нарады ўхіліўся ад бітвы і павёў армію ў зваротным накірунку, каб потым зноў павярнуць на паўднёвы захад, да сталіцы Ордэна. Раніцай 15 ліпеня сілы

---

[1] *Prochaska A.* Dzieje Witolda w. księcia Litwy. Wilno, 1914. S. 124.
[2] CEV. N. 300–301. S. 206–209.
[3] *Kuczyński S.M.* Wielka wojna... S. 286.
[4] *Biskup M.* Z badań nad "Wielką Wojną" z Zakonem Krzyżackim // KH. R. 66 (1959). N. 3. S. 682.

саюзнікаў спыніліся для адпачынку недалёка ад горада Дуброўна, які перад гэтым быў імі разрабаваны і спалены. Праз некалькі гадзін сюды падышла армія Ульрыха фон Юнгінгена, стомленая начным маршам, і стала ў калона-клінавым баявым парадку на полі паміж Стэмбаркам (Tannenberg) і Грунвальдам (Grünfelde). У 51 харугве[1] магло налічвацца 15 тыс. коннага рыцарства[2], прыкладна чвэрць якога складалі найміты[3]. Апрача нямецкіх і заходнееўрапейскіх рыцараў у ордэнскай арміі былі прусы, палякі, чэхі, маравы, сілезцы, памаране, кашубы і інш. Падлічана, што калі нямецкія рыцары маглі складаць да 40% войска, выстаўленага Прусіяй, то палякі і прусы – не менш за трэць[4]. Прыток "гасцей", якія раней істотна папаўнялі сілы Ордэна ў яго барацьбе з "сарацынамі", у 1410 г. аказаўся меншы, чым спадзяваўся вялікі магістр.

Ягайла і Вітаўт прывялі на генеральную бітву найверагодней каля 30 тыс. воінаў[5]. Армію Вітаўта, якая магла ненамнога перавышаць 10 тыс., складалі 40 харугваў, з якіх Ян Длугаш назваў толькі 18 земскіх (з абшараў сучаснай Беларусі – полацкая, віцебская, смаленская, пінская, лідская, наваградская, ваўкавыская, гарадзенская, берасцейская), а таксама харугву Жыгімонта Карыбутавіча, Сымона Лугвена і князя Юрыя[6]. Большасць харугваў ВКЛ мела на штандары "Пагоню". Этнічны склад гэтай арміі вызначыць цяжка, але ўдзельная вага воінаў з Беларусі несумненна была вельмі вялікай. Сучасныя даследчыкі праблемы лічаць, што русінаў магло быць ад 1/2 да 2/3 яе складу[7]. Прысутнасць кантынгента з Ноўгарада Вялікага не пацвярджаецца непасрэднымі крыніцамі. Апрача русінаў у армію Вітаўта ўваходзілі татары хана Джалал-ад-Дзіна. Паводле Длугаша, ён прывёў з сабой усяго 300 вершнікаў, аднак даследчыкі лічаць, што іх найверагодней было не менш за тысячу[8]. Што да ўзбраення, то пашыранае раней у польскай літаратуры меркаванне наконт прымітыўнасці зброі рыцарства з Беларусі, Літвы і Украіны, выразна сфармуляванае Длугашам[9] і падтрыманае С. Кучынскім[10], не адпавядала рэальнасці. Сучасныя збраязнаўцы сцвярджаюць, што розніца ва ўзбраенні харугваў з Каралеўства Польскага і ВКЛ была зусім невялікая[11].

Марна прастаяўшы не адну гадзіну ў чаканні, што Ягайла і Вітаўт выставяць свае сілы для бітвы, Ульрых фон Юнгінген у адпаведнасці з рыцарскім звычаем прыслаў непрыяцелю двух герольдаў, якія перадалі

---

1 Такую колькасць харугваў арміі Ордэна падае Длугаш (*Długosz J.* Banderia Prutenorum / Wyd. K. Górski. Warszawa, 1958; *Ён жа.* Roczniki... Ks. 11. S. 108–115), і яна пакуль застаецца агульнапрынятай у літаратуры, хоць даследчыкі даўно паказалі ненадзейнасць даных Длугаша.

2 *Nadolski A.* Grunwald. Problemy wybrane. S.111. Гэтая лічба, атрыманая ў выніку найбольш узважаных разлікаў, добра стасуецца з пазіцыяй нямецкай гістарыяграфіі, у якой сілы Ордэна пад Танэнбергам ацэньваюцца звычайна ў 12–15 тыс.

3 Das Soldbuch des Deutschen Ordens 1410/1411. Die Abrechnungen für die Soldtruppen / Ed. Sven Ekdahl. T. 1. Köln; Wien, 1988.

4 *Nadolski A.* Grunwald 1410. S. 43.

5 *Nadolski A.* Grunwald. Problemy wybrane. S. 113–115.

6 *Długosz J.* Roczniki... Ks. 10-11. S. 107–108.

7 *Biskup M.* Wojny Polski z Zakonem Krzyżackim, 1308–1521. Gdańsk, 1993. S. 59.

8 *Biskup M.* Grunwaldzka bitwa. S. 59.

9 *Długosz J.* Roczniki... Ks. 10-11. S. 107.

10 *Kuczyński S.M.* Wielka wojna... S. 371 і інш.; *Biskup M.* Grunwaldzka bitwa. S. 112.

11 *Nowakowski A.* Uzbrojenie wojsk krzyżackich w Prusach w XIV w. i na początku XV w. Łódź, 1980. S.137–138. Параўн. таксама: *Бохан Ю.* Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV – канца XVI ст. Мн., 2002. С. 267.

па мячу для Ягайлы і Вітаўта, прысароміўшы іх у баязлівасці і заклікаўшы выйсці ў поле для сечы[1]. Толькі пасля гэтага Ягайла распарадзіўся рыхтаваць харугвы да бітвы.

Выстаўленая ў баявым парадку армія саюзнікаў, як і ордэнская, расцягнулася фронтам на 2,5–3 км. Польскае войска стаяла на левым крыле, а літвіны – на правым. Бітва пачалася каля поўдня і доўжылася да 7 гадзін вечара. У гістарыяграфіі прынята лічыць, што войска Вялікага Княства пайшло ў атаку першым, распачаўшы бітву раней за палякаў. Але некаторыя даследчыкі, аналізуючы новыя крыніцы, сцвярджалі амаль адваротнае: сеча была распачата атакай ордэнскага рыцарства[2], а літвіны толькі контратакавалі першымі. З-за недахопу сведчанняў, аднак, усё гэта выглядае толькі як гіпотэзы.

Згодна з "Хронікай Быхаўца", у першыя ж хвіліны бітвы шмат хто з конніцы Вітаўта трапіў у загадзя падрыхтаваныя немцамі "воўчыя ямы"[3]. Аднак даследчыкі даўно паставілі пад сумненне факт наяўнасці падобных перашкод на полі бітвы[4]. Праўдападобна, сюжэт з "воўчымі ямамі" быў прыдуманы ў XVI ст. у асяроддзі эліты Вялікага Княства, блізкай да аўтараў "Хронікі Быхаўца".

Прыкладна праз гадзіну бітвы харугвы ВКЛ "былі вымушаныя адступаць". Длугаш сцвярджае, што пабеглі ўсе, акрамя трох смаленскіх харугваў[5]. Тэзіс пра ўцёкі Вітаўтавага крыла, што дзякуючы аўтарытэту гэтай хронікі быў прыняты амаль усёй гістарыяграфіяй, даўно выклікаў сумненні і жывую палеміку даследчыкаў[6]. Новую вастрыню яна набыла пасля публікацыі шведскім гісторыкам С. Экдалем невядомага раней дакумента, які сведчыў на карысць таго, што адступленне Вітаўтавага крыла было не ўцёкамі, а свядомым манеўрам[7]. Найбольш настойліва версію пра ўцёкі арміі ВКЛ адстойваў польскі гісторык С. Кучынскі, які



Грунвальдская бітва. Мініяцюра XV ст.

---

[1] Kronika konfliktu Władysława króla polskiego z Krzyżakami / Przel. J. Danka i A. Nadolski. Olsztyn, 1986. S.10; *Dlugosz J.* Roczniki... Ks. 10-11. S. 118–119.

[2] *Belch S.* Nieznane żródła do bitwy pod Grunwaldem // S. Belch. Prace historyczne. T. 1. London, 1965. S. 8–10; *Herbst S.* W sporze o Grunwald. S. 190.

[3] Хроника Быховца // ПСРЛ. Т. 32. М., 1975. С. 151.

[4] *Rhode G.* Polemiken um die Schlacht von Tannenberg 1410 // Zeitschrift für Ostforschung (далей – ZfO). Jg. 22(1973). Hf. 3. S. 478; *Ekdahl S.* Die Schlacht bei Tannenberg. S. 340– 351; *Nadolski A.* Grunwald. Problemy wybrane. S. 218.

[5] *Dlugosz J.* Roczniki... Ks. 10-11. S. 125.

[6] Праўдзівасць інтэрпрэтацыі Длугаша аспрэчыў яшчэ К. Шайноха, які першым выказаў меркаванне пра мэтанакіраванасць гэтага адступлення. Гл.: *Szajnocha K.* Jadwiga i Jagiełło 1374–1413. T. 3-4. Warszawa, 1974. S. 456–460.

[7] *Ekdahl S.* Die Flucht der Litauer in der Schlacht bei Tannenberg // ZfO. Jg. 12 (1963). Hf. 1. S.11–19, тэкст самога ліста – S. 16–17.

5 Зак. 1594

зводзіў яе ролю да другасных, дапаможных функцый. Ён, у прыватнасці, даказваў, што праўдзівасць уцёкаў пацвярджаюць: 1) гераічная пазіцыя смаленскіх палкоў; 2) уцёкі некаторых харугваў ажно да Літвы; 3) узяцце рыцарамі абозу арміі ВКЛ, 4) цяжкія страты ў харугвах вялікага князя[1]. Аднак пералічаныя аргументы ўзятыя з інфармацыі Длугаша, непрыязнасць якога ў стаўленні да літвінаў відавочная. Пры супастаўленні з данымі іншых крыніц амаль усе яны або выклікаюць сумненні, або наогул могуць інакш інтэрпрэтавацца.

Пытанне пра сапраўдны характар адступлення харугваў Вітаўта дасюль выклікае спрэчкі гісторыкаў. Калі сучасныя літоўскія даследчыкі лічаць яго запланаваным манеўрам і вырашальным тактычным ходам, які прадвызначыў пераможны зыход бітвы[2], дык у польскай гістарыяграфіі да апошняга часу нават сярод самых прызнаных спецыялістаў пераважала думка, што паведамленне храніста пра панічныя ўцёкі правага крыла ўсё ж адпавядала рэчаіснасці[3]. Праўда, уцякала толькі частка харугваў ВКЛ, іншыя ж засталіся з Вітаўтам на полі бітвы. Сярод іх, паводле Длугаша, былі тры смаленскія палкі, якія стаялі найверагодней на стыку правага і левага крыла ды вялікім коштам аплацілі сваю непарушнасць[4]. Пазней харугвы, што трохі ачуліся ад пераследавання і вярнуліся да галоўных сіл, былі перафарміраваныя і таксама ўключыліся ў бітву.

Чым бы ні быў адыход харугваў Вітаўта – выдатным манеўрам ці ўцёкамі, у выніку ён пазітыўна паўплываў на далейшы ход бітвы. Левае крыло ордэнскай арміі расстроіла свае баявыя парадкі і, захапіўшыся пераследаваннем, надоўга адлучылася ад галоўных сіл, што зменшыла ціск на цяжкую польскую конніцу. Нейкі час яе становішча было крытычным. Прускія рыцары сканцэнтравалі ўдар па харугве Кракаўскай зямлі, над якой уздымаўся штандар з белым арлом і дзе патэнцыяльна мог знаходзіцца і польскі кароль. Ім удалося нават зваліць штандар на зямлю, што магло быць успрынята як перелом, аднак харугва неўзабаве зноў узнялася. На паляпшэнне сітуацыі Ягайла кінуў фарміраванні з рэзерву, і тут разгарэўся самы жорсткі бой. Стомленая рыцарская конніца не вытрымлівала націску свежых харугваў, і правае крыло Ордэна паволі апынулася ў акружэнні.

Ульрых фон Юнгінген разумеў, што без радыкальнай змены ходу бітвы яго армію чакае канец, і адважыўся выкарыстаць апошнія сілы. Сабраўшы разам 15–16 харугваў, ён сам павёў іх у рашучую атаку проста на ўзгорак Ягайлы[5]. Наступіў вырашальны момант сечы: Юнгінген задзейнічаў усе свае сілы, тады як Ягайла, маючы вялізную колькасную перавагу, мог уводзіць у бітву новыя фарміраванні[6]. Пасля таго як корпус вя-

---

[1] *Kuczyński S.M.* Wielka wojna... S. 352; *Ён жа.* Taktyka walki skrzydła litevsko-ruskiego w bitwie pod Grunwaldem // Studia i materialy do historii wojskowości. T. X (1964). Cz. II. S. 44–46.

[2] Гл.: *Jurgėla C.* Tannenberg. New York, 1961. P. 48; *Jučas M.* algirio mūšis. P. 158 і далей; *Batūra R.* Lietuviškos taktikos reikšmė algirio mūšyje // Acta Historica Universitatis Klaipedensis. T. I (1993). P. 65–76; *Dolinskas V.* Naujienos iš algirio mūšio lauko // Lietuvos istorijos studijos. 2000. N. 8 і далей.

[3] *Biskup M.* Grunwaldzka bitwa. S. 95, спас. 31. Падобнае меркаванне ў Надольскага: *Nadolski A.* Grunwald. Problemy wybrane. S. 170.

[4] *Długosz J.* Roczniki... Ks. 10. S. 125 і далей.

[5] Kronika konfliktu... S. 13.

[6] *Caro J.* Geschichte Polens. Th. 3. S. 326.

лікага магістра ўвязаўся ў бітву, саюзнікі з двух бакоў ударылі па непрыяцелю і каля Танэнберга давяршылі яго акружэнне.

У сечы загінуў сам вялікі магістр, вялікі маршал і ўсе дастойнікі, за выключэннем трох комтураў, што збеглі з поля бітвы. Рэшткі арміі Ордэна вырваліся з акружэння і паспрабавалі арганізаваць супраціўленне ў абозе, умацаваным вазамі, аднак іх абарона была хутка зламана. На штурм абозу рынулася прагная да здабычы чэлядзь, якая, нічога не ўяўляючы пра рыцарскі этыкет, бязлітасна расправілася з усімі. Як сцвярджалася ў "Хроніцы канфлікту", у абозе трупаў было болей, чым на полі бітвы[1]. Іншыя спрабавалі ратавацца ўцёкамі[2] або скласці зброю, як гэта зрабіў Крыштаф фон Герсдорф са сваёй харугвай[3]. Яшчэ раней у поўным складзе капітулявала хелмінская харугва.

Так армія Нямецкага ордэна была фактычна ліквідавана. Палеглі ўсе галоўныя чыны Ордэна і амаль усе комтуры, а з 250 братоў і паўбратоў-рыцараў было забіта 203. У рукі пераможцаў трапіў і ўвесь абоз непрыяцеля. Баявыя штандары разгромленых харугваў у якасці трафеяў пазней трапілі ў Кракаў, частку ж іх (найверагодней 10) Вітаўт прывёз у Вільню. Гаворачы пра страты арміі вялікага магістра, няма падстаў даводзіць іх да 18 тыс. забітымі і 14 тыс. палоннымі, як сцвярджаў Кучынскі[4], а за ім паўтаралася і ў беларускіх выданнях. Аніводная крыніца не засведчыла, што з боку Ордэна загінула хоць бы палова войска. Пры падліках магчымых стратаў арміі Юнгінгена самымі прымальнымі ўяўляюцца падыходы Экдаля і Надольскага, якія дапускалі, што загінуць магла крыху больш чым палова арміі вялікага магістра (да 8 тыс.)[5], а з улікам палонных ордэнская армія страціла напэўна 70–80% асабовага саставу.

Што да страт арміі саюзнікаў, то меркаванне Кучынскага, які даводзіў, што ў крыле Вітаўта палегла ажно палова ратнікаў, а ў каронных харугвах загінула зусім мала – "толькі 12 выбітных рыцараў", са знакамітых жа наогул ніхто[6], таксама не можа быць прынята[7]. Проста неpraўдападобна, каб бітва такога маштабу, якая доўжылася 7 гадзін і падчас якой рыцарам і на польскім крыле здавалася, што перамога ўжо на іх баку, прывяла да настолькі непрапарцыянальных страт супрацьлеглых бакоў, а галоўнае – настолькі нязначнай колькасці забітых з польскага войска, якое складала дзве трэці саюзнай арміі.

Аргументацыя Кучынскага непераканаўчая. Гаворачы пра "палову" палеглых у войску Вітаўта, ён спасылаецца толькі на ліст ордэнскага ўрадніка да Генрыха Плаўэна[8] і выказванні віленскага ваяводы Войцэха Манівіда ў 1420 г., якія ўтрымліваюць пасланне інфлянцкага магістра ў Мальбарк[9]. Але калі ў першым дакуменце гаворыцца, што Вітаўт вяр-

1 Kronika konfliktu... S. 14.
2 Там жа... S. 14; *Długosz J.* Roczniki... Ks. 11. S. 132–134.
3 *Długosz J.* Roczniki... Ks. 11. S. 132.
4 *Kuczyński S.M.* Wielka wojna... S. 366; *Ён жа.* Spór o Grunwald. S. 153. Гэта лічба, якую ў 1411–1412 гг. ордэнскія ўлады называлі для Апостальскай сталіцы, імкнучыся максімальна ўразіць рымскага папу.
5 *Ekdahl S.* Die Schlacht bei Tannenberg. S. 182, спас. 6; *Nadolski A.* Grunwald. Problemy wybrane. S. 208–209.
6 *Kuczyński S.M.* Wielka wojna... S. 366; *Ён жа.* Spór o Grunwald. S. 154 – 155.
7 Адносна гэтай пазіцыі ў адрас С. Кучынскага выказвалася шмат прадметнай крытыкі. Гл. напрыклад: *Majewski W.* Wokół Grunwaldu. S. 560.
8 Ліст ад 21 кастрычніка 1410 г.: CEV. N. 456. S. 213.
9 Liv-, Est- und Curländisches Urkundenbuch (далей – LUB). Bd.5. Riga, 1876. N. 2455. S. 615.

нуўся ў Літву ўсяго з паловай войска, дык Манівід проста кажа пра вялікія страты ў вайне з Ордэнам. Калі нават прызнаць словы правінцыйнага ордэнскага ўрадніка праўдзівымі і прыняць страты Вітаўта за палову, то ў іх усё роўна трэба ўключаць і тых, хто загінуў пад мурамі Мальбарка, дзе войска ВКЛ шмат пацярпела ад яго абаронцаў і ад хваробаў.

**Аблога Мальбарка і завяршэнне "Вялікай вайны".** Для Ордэна паражэнне на Грунвальдскім полі сапраўды аказалася той ваеннай катастрофай, ад якой ён так і не акрыяў, але не смяротным ударам. Хоць прускія гарады і замкі адзін за другім здаваліся пераможцам, аднак Мальбарк, да якога армія Вітаўта і Ягайлы рушыла пасля трохдзённага адпачынку на полі бітвы, паспеў падрыхтавацца да яе прыходу. Комтур Свеця Генрых фон Плаўэн, які адказваў за абарону межаў на Памор'і, пасля вестак пра паражэнне ўзяў на сябе адказнасць за лёс дзяржавы. За некалькі дзён ён сабраў у замку да 4 тыс. рыцараў і ўжо 18 ліпеня падрыхтаваў сталіцу да абароны. Перадавыя харугвы саюзнікаў з'явіліся пад Мальбаркам толькі 22 ліпеня, а праз тры дні прыйшлі галоўныя сілы і пачалася аблога.


Умацаваны абоз ВКЛ.
З карціны XVI ст.

Недахоп правіянту і фуражу, цяжкія хваробы ў абозе, а галоўнае – актыўныя вылазкі абаронцаў[1] сталі прычынай таго, што армія саюзнікаў несла пад мурамі сталіцы значныя страты. Урэшце, сітуацыю пагоршыла тое, што на дапамогу Мальбарку паспяшаліся рыцары з Інфлянцкага ордэна і Нямецкай імперыі. Лісты з просьбай дапамогі і паслы да нямецкага магістра і венгерскага караля былі накіраваны з Мальбарка яшчэ ў ліпені 1410 г. У сярэдзіне жніўня сам нямецкі магістр Конрад фон Эрлёфштайн заклікаў высакароднае рыцарства як найхутчэй аказаць садзеянне Ордэну ў барацьбе супраць Ягайлы, які прыйшоў у Прусію і нішчыць яе пры дапамозе "няверных сарацынаў і паганцаў з Літвы, Татарыі ды іншых ворагаў святога Крыжа"[2].

У гэтых адозвах, зваротах і закліках, яшчэ больш чым перад Грунвальдскай бітвай, актуалізавалася праблема "справядлівай вайны" (bellis iustis). У адпаведнасці з сярэднявечнай дактрынай прысутнасць праваслаўных і язычнікаў у арміі саюзнікаў давала падставы сцвярджаць, што з боку Ягайлы і Вітаўта яна была несправядлівай[3]. Да прыкладу, у адпаведным маніфесце, накіраваным Генрыхам фон Плаўэнам у снежні 1410 г. да ўсіх еўрапейскіх манархаў, хрысціянская Еўропа заклікалася на дапамогу Ордэну, атакаванаму падступным польскім каралём, у войску якога "вялізная колькасць розных няверных – татараў, ерэтыкоў, паганцаў, русінаў, валахаў, жамойтаў і літоўцаў". Падобныя заклікі не мелі асаблівага эфекту ў плане рэальнай дапамогі Ордэну, затое спрыялі

[1] SRP. Bd. 3. S .321.
[2] *Biskup M.* Grunwaldzka bitwa. S. 121.
[3] *Ekdahl S.* Die Schlacht bei Tannenberg. S. 109–110.

таму, што ў заходнееўрапейскіх краінах Літву і Польшчу сталі больш атаясамліваць з ворагамі прававернага хрысціянства.

Калі на хуткі прыход войска з Чэхіі і Венгрыі не было вялікіх спадзяванняў, то найбольш эфектыўнай для выратавання Мальбарка аказалася дапамога Інфлянцкага ордэна. Перажываючы віну за Грунвальд, Інфлянты яшчэ 25 ліпеня, як толькі ў Рызе была атрымала вестка пра катастрофу Юнгінгена, выслалі большую частку сваіх сіл (каля 2 тыс. чалавек) на чале з маршалам Берндам Гевельманам у Прусію. Насустрач ім Ягайла накіраваў Вітаўта, але да бітвы не дайшло. Гевельману ўдалося распачаць з вялікім князем перагаворы, у выніку якіх 8 верасня было заключана 14-дзённае перамір'е[1], падчас якога інфлянцкія рыцары змаглі прайсці ў абложаны Мальбарк.

Але яшчэ да завяршэння перамір'я Вітаўт зняў аблогу і стаў адводзіць сваю армію дамоў. Ян Длугаш бачыў у гэтым здраду літоўскага князя. Магчыма, вялікі князь зрабіў такі крок з-за хвароб у войску, пра што і сказаў Ягайлу[2], а магчыма – з-за пагроз яго дзяржаве з боку Інфлянцкага ордэна ("над Літвою навіслі Інфлянты"[3]). Важным матывам нечаканага адыходу арміі ВКЛ магла стаць і непажаданасць для Вітаўта канчатковага знішчэння Ордэна, яшчэ патрэбнага вялікаму князю для стрымлівання дамаганняў Польшчы[4].



Харугва вялікага магістра Тэўтонскага

За Вітаўтам з лагера пад Мальбаркам сышлі мазавецкія князі Януш і Земавіт, а 22 верасня і Ягайла пачаў адводзіць польскую армію. На вяртанне Ягайлы, напэўна, найбольш паўплывала пагрозы ўварвання ў яго каралеўства сіл Жыгімонта Люксембургскага. Праўда, той распачаў дзеянні толькі ў кастрычніку, накіраваўшы на поўдзень Польшчы невялікае венгерскае войска. Так, нягледзячы на двухмесячную аблогу (з 25 ліпеня па 25 верасня 1410 г.), сталіца ордэнскай дзяржавы выстаяла. Магчымасці, адкрытыя разгромам арміі Ордэна ў генеральнай бітве, не ўдалося выкарыстаць да канца.

Улады Ордэна здолелі пасля паражэння пад Грунвальдам не толькі абараніць сталіцу, але і вярнуць усе свае землі, занятыя раней пераможцамі. Ужо ў кастрычніку 1410 г. ваенныя сілы Ордэна зноў дасягалі 10 тыс.[5] Хоць галоўная армія Ягайлы была распушчана, восенню 1410 г. небяспека ўзнаўлення поўнамаштабнай вайны заставалася. Па абодва бакі мяжы канцэнтраваліся войскі, сцягваліся найміты, адбываліся лакальныя сутычкі[6]. У кастрычніку 1410 г. Вітаўт таксама зноў збіраў вя-

[1] *Seraphim E.* Geschichte von Livland. Bd.1. Das livländische Mittelalter und die Zeit der Reformation (bis 1582). Gotha, 1906. S. 132; *Kostrzak J.* Rola Inflant w pierwszym okresie walki Zakonu Krzyżackiego... S. 17.

[2] *Барбашев А.И.* Витовт, последние двадцать лет княжения. СПб., 1891. С. 96.

[3] *Prochaska A.* Dzieje Witolda... S. 148.

[4] *Барбашев А.И.* Витовт и его политика до Грюнвальдской битвы (1410 г.). СПб., 1885. С. 130; *Stavenhagen O.* Livland und die Schlacht bei Tannenberg. S. 365–366.

[5] *Nowak T.M.* Walki obronne... S. 96.

[6] *Voigt J.* Geschichte Preussens. Bd. 7. Königsberg, 1836. S. 124–126.

лікае войска[1], аднак да новага паходу справа не дайшла. 9 снежня 1410 г. у Нешаве было падпісана замірэнне да 11 студзеня 1411 г. Праўда, сустрэча Ягайлы з Генрыхам фон Плаўэнам паказала, што саступаць ніводзін не мае намеру. Таму абодва бакі збіралі харугвы для далейшай вайны. У студзені на Куявах зноў аб'ядналіся войскі Польшчы і прыведзеныя харугвы Вітаўта, а вялікі магістр канцэнтраваў свае сілы. Замест ваенных дзеянняў, аднак, пачаліся перагаворы аб міры. Ад новага сутыкнення праціўнікаў утрымала тое, што Ягайла баяўся вайны на два фронты – з Ордэнам і імператарам Жыгімонтам Люксембургскім, які пагражаў Польшчы з поўдня, а Генрыху фон Плаўэну не хапала ўнутранай і знешняй падтрымкі яго ваяўнічай палітыкі.

Дагавор аб міры паміж Нямецкім ордэнам з аднаго боку і Каронай Польскай ды Вялікім Княствам Літоўскім з другога быў заключаны 1 лютага 1411 г. у Торуні. У падпісаным трактаце Ордэн пайшоў на тэрытарыяльныя страты: ён адмовіўся ад Жамойці і ятвяжскіх зямель на карысць ВКЛ, але толькі на перыяд жыцця Ягайлы і Вітаўта. Польскаму Каралеўству ён вярнуў Добжынскую зямлю і абавязаўся выплаціць 100 000 коп чэшскіх грошаў у якасці выкупу за палонных[2]. Гэтую велізную суму, на якую можна было б выставіць 10 тыс. баявых коней[3], патрабавалася ўнесці цягам аднаго года! Справа прыналежнасці Дрэздэнка і Сантока перадавалася на міжнародны арбітражны разгляд, а Гданьскае Памор'е і Хелмінская зямля заставаліся ў межах ордэнскай дзяржавы[4]. Пытанне пра вяртанне гэтых зямель польскім бокам нават не ставілася. Гэта паказальны факт, які сведчыць, што вайна з Нямецкім ордэнам тады яшчэ не мела этнічнага характару.

**Значэнне Грунвальдскай бітвы.** Заключаны ў Торуні мір адлюстраваў супярэчлівыя вынікі Грунвальдскай перамогі. З-за яго відавочнай неадпаведнасці маштабам ваеннай вікторыі ў Польскім Каралеўстве ён быў адразу ўспрыняты як "прайграны", ды і ў польскай гістарыяграфіі яму часцей даваліся негатыўныя ацэнкі. У гэтай сувязі заслугоўвае ўвагі пазіцыя С. Кучынскага, які не пагаджаўся з нізкімі ацэнкамі міру, што завяршыў пераможную вайну. Ён падкрэсліў, што пры ўсёй кампраміснасці Торуньскі трактат задавальняў усе тры пункты, якія Ягайла выстаўляў венгерскім пасрэднікам перад самай бітвай (5 ліпеня 1410 г.) у якасці прынцыповых умоў, пры выкананні якіх ён згадзіўся б на мір[5]. Гэтымі ўмовамі былі: 1) вяртанне Жамойці Вітаўту; 2) вяртанне Добжынскай зямлі Польшчы; 3) атрыманне кампенсацыі за ўчыненыя рыцарамі страты[6]. Таму яго ніяк нельга лічыць прайграным. Наадварот, у Торуні Ягайла і Вітаўт упершыню за ўсю гісторыю войн з Ордэнам падпісвалі мір як пераможцы.

Катастрофа пад Грунвальдам падкасіла Ордэн не толькі ў ваенным, але і ў фінансава-гаспадарчым плане. Падчас прускага паходу войскі пе-

[1] CEV. N. 213; Skarbiec dyplomatów papezkich, cesarskich, królewskich... / Zebrał i w treści opisał I. Daniłłowicz. T. 1. Wilno, 1860. N. 374.
[2] Die Staatsverträge des Deutschen Ordens in Preussen im 15. Jh. Bd. 1 (1398–1437) / Ed. E.Weise. Königsberg, 1939. S. 86–87.
[3] *Ekdahl S.* Die Schlacht bei Tannenberg und ihre Bedeutung in der Geschichte des Ordensstaates // Acta Historica Universitatis Klaipedensis. V. 1 (1993). P. 45.
[4] Die Staatsverträge des Deutschen Ordens in Preusen im 15. Jh. Bd. 1. S. 83–90.
[5] *Kuczyński S.M.* Spór o Grunwald. S. 166–168.
[6] *Długosz J.* Roczniki... Ks. 10–11. S. 80.

рамoжцаў актыўна рабавалі і пустошылі непрыяцельскую зямлю: палілі дамы і касцёлы, забіралі коней, кароў, зброю, металы, касцельную маёмасць і г.д. – гэта зафіксавалі так званыя "кнігі шкодаў"[1]. І хронікі, і дакументы засведчылі, як амаль штодзённа нарабаванае дабро вывозілася ў Карону і Вялікае Княства Літоўскае[2]. У дадатак да паражэння ў бітве, ваенныя спусташэнні і непасільныя грашовыя выплаты па ўмовах Торуньскага міру прывялі магутную калісьці ордэнскую дзяржаву да фінансава-гаспадарчага заняпаду. Яе ўлады як маглі шукалі сродкаў, каб паправіць сітуацыю: на ўсё насельніцтва Прусіі наклалі спецыяльны падатак, збіралі на біццё манеты ўсё золата і срэбра, здзіраючы яго нават з капліц і касцёлаў[3], і г.д. Аднак з-за масавай страты свайго рыцарства Ордэн мусіў карыстацца паслугамі наймітаў, што вымагала яшчэ большых грашовых выдаткаў. А гады неўраджаю, які запанаваў у Прусіі пасля ракавой бітвы, толькі паглыбілі постгрунвальдскі крызіс[4]. Урэшце, нечуванае паражэнне ад "няверных" абярнулася і маральным надломам. Рыцарства еўрапейскіх дзяржаў, якое раней кіравалася ў Прусію спаўняць свой хрысціянскі абавязак у змаганні з паганцамі і схізматыкамі, пасля 1410 г. стала мяняць сваё стаўленне да Нямецкага ордэна[5].



Рэзідэнцыя магістра Тэўтонскага ордэна ў Мальбарку

У сучаснай польскай гістарыяграфіі Грунвальдская баталія справядліва лічыцца найвялікшай пераможнай бітвай усходнееўрапейскага Сярэднявечча, якая стала пераломам у гісторыі адносін Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага з Нямецкім ордэнам[6]. Нямецкія знаўцы таксама пагадзіліся з тым, што бітва мела для Ордэна амаль катастрафічныя вынікі і што яна засведчыла з'яўленне ў рэгіёне новай сур'ёзнай сілы – Польшчы і ВКЛ[7]. Аднак, гаворачы пра значэнне Грунвальдскай перамогі для заняпаду Нямецкага ордэна, было б несправядліва забываць пра крэўскі акт, які задоўга да вялікай бітвы не толькі падарваў ідэалагічныя падставы самога існавання ордэнскай дзяржавы, але і адчувальна зменшыў прыток да яе людскіх рэсурсаў, які менавіта з 1390-х гг. пачаў

[1] *Krollmann C.* Die Bau- und Kunstdenkmäler des Ordenslandes Preussen in den Schadenbücher (1411/1419). Berlin, 1919. S. 10, 40–51; H.G. Die Schadenbücher des Deutschen Ordens // AF. H. 1/2. S. 143–145.
[2] SRP. Bd. 3. S. 321; GSA OBA. Reg. 1. N. 13135.
[3] *Pakulski J.* Nowe materiały numizmatyczne do sytuacji monetarnej Zakonu Krzyżackiego po klęsce Grunwaldzkiej // Ordines militares, II. S. 178–179.
[4] *Burleigh M.* Prussian Society and the German Order. An aristocratic corporation in crisis. 1410–1466. Cambridge University Press, 1984. P. 77f.
[5] *Kuczyński S.M.* Spór o Grunwald. S. 171.
[6] *Nadolski A.* Grunwald 1410. S. 136–137; *Biskup M.* Wojny Polski z Zakonem krzyżackim, 1308–1521. S. 85–86.
[7] *Boockmann H.* Der Deutsche Orden... S. 178.

значна слабець[1], і ў 1410 г. колькасць ахвотнікаў, што з'явіліся на заклікі вялікага магістра, зусім не адпавядала спадзяванням[2]. Нельга не пагадзіцца з Г. Бокманам, які падкрэсліў, што прычыны заняпаду Ордэна трэба шукаць не толькі ў яго ваенным паражэнні ды эканамічным цяжары (ваенныя спусташэнні, вялізныя выплаты), але перш за ўсё ва ўнутраных праблемах, якія перажывала ордэнская дзяржава з канца XIV ст.[3] Маецца на ўвазе як ідэалагічны крызіс, так і ўнутраная апазіцыя да цэнтральных уладаў, што нарастала не толькі ў асяроддзі прускага мяшчанства, але і сярод саміх рыцараў. Невыпадкова нямецкі гісторык Я. Кара, схіляючыся да крайнасці, мінімалізаваў значэнне ваеннага паражэння. Ён сцвярджаў, што Прускі ордэн яшчэ да Грунвальдскай бітвы быў смяротна падточаны ўнутранымі супярэчнасцямі, таму, маўляў, сам разгром мала што змяніў: "раніцай 15 ліпеня 1410 г. Ордэн быў не намнога менш разбіты, чым вечарам таго ж дня"[4].

Неабходна адзначыць, што пры ўсёй велічнасці перамогі пад Грунвальдам, яе значэнне звычайна перабольшваецца, асабліва ў падручніках па гісторыі. Гэта характэрна не толькі для Беларусі, але яшчэ ў большай ступені для Літвы і Польшчы[5]. У беларускай гістарыяграфіі пашыраны тэзіс пра Грунвальд як "выратаванне ўсходніх славян ад агрэсіі крыжакоў", ад "вынішчэння і анямечвання беларускага народа"[6], які цяжка прызнаць навукова абгрунтаваным. У гэтай сувязі варта згадаць, што Грунвальдская перамога практычна не знайшла ніякіх значных водгукаў у беларуска-літоўскім летапісанні, калі не лічыць невялікага апісання бітвы ў "Хроніцы Быхаўца". Невыпадкова і ў даваеннай айчыннай гістарыяграфіі яна ацэньвалася куды больш стрымана, чым у апошнія дзесяцігоддзі.

Сапраўды, як ужо адзначалася вышэй, пазіцыі Нямецкага ордэна былі моцна аслаблены яшчэ да Грунвальдскай бітвы. Час ваенных манаска-рыцарскіх дзяржаў мінуў, а персанальная унія Польскага Каралеўства і Вялікага Княства Літоўскага вяла да змены балансу сіл ва Усходняй Еўропе на іх карысць. У 5–6 разоў саступаючы ім па колькасці насельніцтва, Нямецкі ордэн фактычна перастаў быць тым суб'ектам патэнцыяльнай агрэсіі для славян і літоўцаў, якім яго часта паказваюць, гіпербалізуючы значэнне Грунвальда. Да сапраўды радыкальных зменаў на карце Усходняй Еўропы, звязаных з разгромам рыцарскай дзяржавы, дайшло толькі ў далейшай перспектыве, бліжэйшыя ж вынікі перамогі аказаліся малазначнымі.

Хоць пасля Грунвальдскай катастрофы Нямецкі ордэн і страціў сваё дамінуючае становішча ў Балтыйскім рэгіёне, ён не губляў надзеі на рэванш. Пруская ордэнская дзяржава ўсё яшчэ была дастаткова моцнай. Яе межы ахоплівалі землі Балтыйскага ўзбярэжжа ад Памор'я да літоўскай Палангі на поўначы і Торуні на поўдні. Ва ўладанні Мальбарка

---

1 *Paravicini W.* Die Preussenreisen des europäischen Adels // HZ. Bd. 232 (1981). S. 25–38.

2 *Boockmann H.* Der Deutsche Orden... S. 178; *Nadolski A.* Grunwald 1410. S. 41.

3 *Boockmann H.* Der Deutsche Orden... S. 179–180.

4 *Caro J.* Geschichte Polens. Th. 3. S. 332.

5 *Urban W.* Tannenberg and after. S. 135.

6 Падрабязней гл.: *Сагановіч Г.* Грунвальд у беларускай гістарыяграфіі // Беларускі гістарычны агляд. Т. 9 (2002). Сш. 1-2. С. 164–166.

заставаліся польскія Хелмінская зямля і Памор'е, а Жамойць і Судавы былі саступлены Вітаўту толькі на час яго жыцця. Маючы падтрымку Жыгімонта Люксембургскага, які, хоць у сакавіку 1410 г. таксама заключыў мір з Ягайлам, не пераставаў заклікаць да абароны Ордэна, ваяўнічы Генрых фон Плаўэн жывіў сябе надзеяй хуткага рэваншу. Тым больш, што і Інфлянты, аддзеленыя ад прускай дзяржавы саступленай па Торуньскім трактаце невялікай паласой жамойцкай зямлі, дэманстравалі цяпер больш салідарную пазіцыю, чым да Грунвальда. Таму, хоць у тэксце Торуньскага міру абодва бакі абяцалі ніколі больш не выступаць адзін супраць другога і не заключаць саюзу з непрыяцелямі, на справе яны не пераставалі рыхтавацца да вайны.

## 4. ВКЛ на вяршыні магутнасці

**Аднаўленне Вітаўтам знешнепалітычнай актыўнасці на ўсходзе.** Паражэнне на Ворскле не азначала канчатковай адмовы Вітаўта ад рэалізацыі сваіх планаў па падпарадкаванні рускіх зямель. Гэтаму спрыялі тыя абставіны, што Арда, у палітычныя планы якой не ўваходзіла празмернае ўмацаванне Масквы, сама зрабіла як пэўныя крокі ў нармалізацыі адносін з Вялікім Княствам Літоўскім, так і шэраг антымаскоўскіх захадаў. У 1400 г. хан Шадыбек накіраваў да Вітаўта пасольства, выдаў ярлык на вялікае княжанне даўняму апаненту Масквы – цвярскому князю, была зроблена спроба разарваць саюз паміж Маскоўскім і Ніжагародскім княствамі. Вынікі сталі адчувальнымі даволі хутка: ужо ў 1404 г. у склад Вялікага Княства Літоўскага быў вернуты Смаленск, у 1406 г. літоўскія войскі атакавалі Пскоў, захапілі г. Каложа і вывелі адтуль 11 тыс. палонных. Актывізавалася дзейнасць дыпламатыі Вітаўта ў Ноўгарадзе. Гэта адразу ж выклікала негатыўную рэакцыю ў Маскве, якая беспаспяхова спрабавала паваяваць падуладныя Вітаўту Вязьму, Серпейск і Казельск. У 1406 г. вялікае войска Вітаўта рушыла ў глыб Маскоўскай дзяржавы. Яно сустрэлася з сіламі Васіля I на р. Плаве каля Крапіўны, але да бітвы справа не дайшла. Быў заключаны мір, па ўмовах якога Васіль I адмовіўся ад падтрымкі Ноўгарада і Пскова, а таксама сепаратыстаў у Літве. Вынікі не прымусілі сябе чакаць: у наступным, 1407 годзе правіць Ноўгарадам быў запрошаны літоўскі князь Лугвен Сымон. Былі адноўлены ваенныя дзеянні, падчас якіх Вітаўт авалодаў Адоевам. Варагуючыя войскі зноў сутыкнуліся каля Вязьмы, але справа чарговы раз скончылася мірна[1].

Аднаўленне магутнасці ВКЛ прымусіла Эдыгея, які стаяў за спінай татарскага хана, зноў перагледзець сваю палітыку ў дачыненні Вітаўта і Масквы. Ён санкцыянаваў падпарадкаванне апошняй Разані, а ў 1406 г., падчас вайны Вільні і Масквы, аказаў маскоўскаму князю ўзброеную дапамогу. Падтрымліваў эмір і сепаратысцкія настроі ў Літве, ведучы перамовы са Свідрыгайлам і тураўскім епіскапам Антоніем аб выхадзе славянскіх зямель са складу Вялікага Княства. Усё гэта прыкрывалася дыпламатычнай дружалюбнай рыторыкай і запэўніваннямі ў сяброўстве[2].

[1] *Барбашев А.И.* Витовт и его политика до Грюнвальдской битвы (1410 г.). С. 116.
[2] *Греков И.Б.* Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV–XVI вв. С. 85–89; *Ён жа.* Восточная Европа и упадок Золотой Орды (на рубеже XIV–XV вв.). М., 1975. С. 250–251.

Пра актуальнасць сепаратысцкіх настрояў у асяроддзі літоўска-рускай знаці, выкліканых, з аднаго боку, пракаталіцкай палітыкай Вітаўта, а з другога – нявырашанасцю дынастычнага крызісу, сведчыць хоць бы пераход згаданага Свідрыгайлы на бок Масквы ў ліпені 1408 г. Гэты пераход не прынёс маскоўскаму князю Васілю тэрытарыяльных набыткаў і меў хутчэй ідэалагічнае значэнне. Свідрыгайла, наадварот, атрымаў за гэта шэраг ключавых зямель Паўночна-Усходняй Русі. Па сведчанні Сімяонаўскага летапісу, "вдаша ему гради мнози, мало не половину великого княжения московского, даша ему многославный Володимерь, еже есть стол земля русскыя и градъ Пречистые Богоматери, въ нем князи велиции Рустии первоседание и столъ земля Русскыя приемлють". Пры гэтым абодва бакі ставілі розныя мэты. Васіль разлічваў, што фігура Свідрыгайлы будзе ядром прыцягнення да Масквы іншых праваслаўных уладароў ВКЛ. Свідрыгайла ж, зрабіўшыся фактычна вялікім князем уладзімірскім, зусім не збіраўся заставацца ў фарватэры маскоўскай палітыкі. Ён спадзяваўся на павышэнне свайго прэстыжу на Русі для правядзення такой самай "агульнарускай" палітыкі, якую праводзілі і яго бацька Альгерд, і яго галоўны палітычны апанент Вітаўт. Апошні не пакінуў без увагі новы статус свайго стрыечнага брата, небеспадстаўна адчуўшы ў гэтым небяспеку для сваіх планаў. Ужо праз два месяцы пасля з'яўлення Свідрыгайлы ў Маскве войскі Вітаўта і Васіля зноў стаялі адно супраць аднаго, цяпер ужо на рацэ Угры. Аднак бітвы не адбылося.

У саюзе Свідрыгайлы з Васілём небяспеку ўбачыў і Эдыгей. Калі падчас стаяння на Угры ён яшчэ паслаў свае войскі на падняпроўскія ўладанні Вітаўта, то ў кастрычніку–снежні таго ж 1408 года правіцель Арды нанёс удар па землях Паўночна-Усходняй Русі, грунтоўна спустошыўшы яе. Асноўны ўдар прыходзіўся на падуладныя Свідрыгайлу тэрыторыі, якія ў далейшым былі раздроблены на асобныя княствы. Свідрыгайла не аказаў татарам сур'ёзнага супраціўлення і ад'ехаў назад у ВКЛ, разрабаваўшы па дарозе Серпухаў, тым самым выказаўшы сваю варожасць да Масквы. Вядомы расійскі гісторык Салаўёў тлумачыў гэта тым, што Альгердавіч быў расчараваны заключэннем міру паміж Васілём і Вітаўтам, які адсоўваў перспектыву яго прыходу да ўлады ў Літве на няпэўны тэрмін[1].

У Вялікім Княстве Свідрыгайлу чакаў непрыязны прыём: ён быў узяты пад пільны нагляд, а пасля выкрыцця ў падрыхтоўцы ўзброенага выступлення з удзелам крыжакаў (2 кастрычніка 1409 г. мяцежны князь заключыў адпаведную дамову з Ордэнам), быў змешчаны ў вязніцу ў Крамянцы. Праўда, велізарныя ўладанні Свідрыгайлы на поўдні ВКЛ адышлі да Ягайлы і кіраваліся непасрэдна польскімі старостамі, што выклікала незадавальненне Вітаўта[2].

Падзеі 1408 г. унеслі істотныя карэктывы ў расстаноўку сіл ва Усходняй Еўропе, узмацніўшы пазіцыі не толькі Эдыгея, але і Вітаўта. Насуперакор Маскве на ніжагародскі стол былі пасаджаны князі Даніла і Іван Барысавічы. Супрацьпастаўлялася маскоўскаму князю і Цвер, даўні саюзнік ВКЛ. У 1409 г. у Ноўгарад вярнуўся Лугвен Сымон, які год таму

[1] *Соловьев С.М.* История России с древнейших времен. 1054–1462. Кн. 2. М., 2001. С. 507.
[2] *Kolankowski L.* Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagellonów. T. 1. Warszawa, 1930. S. 86–87, 109.

страціў наўгародскі пасад на карысць Канстанціна Дзмітравіча, брата Васіля I[1]. Як паказалі далейшыя падзеі, паход 1408 г. не толькі азначаў апошні ўсплёск палітычнай магутнасці Арды і яе ўмацавальніка Эдыгея, але і ствараў магчымасць вяртання Вітаўта да сваёй "агульнарускай" палітыкі.

**Поспехі залатаардынскай палітыкі Вітаўта.** Пасля пагрому 1408 г. Эдыгей, здавалася б, мог быць спакойны за свой уплыў ва Усходняй Еўропе. Аднак пагроза для яго з'явілася там, дзе яе, здавалася б, можна было менш за ўсё чакаць – ад сыноў разгромленага хана Тахтамыша і перш за ўсё Джалал-ад-Дзіна. Пасля смерці бацькі яны на нейкі час знайшлі прытулак у Маскве. Затым, у 1409 г. Тахтамышавічы былі пасланы пад Кіеў, акрамя Джалал-ад-Дзіна. Той скіраваўся ў Гародню для пошуку саюзу з Вітаўтам супраць Арды і Ордэна. Энергічны Кейстутавіч убачыў у гэтым рэальную магчымасць рэалізаваць даўнія планы па ўмацаванні свайго ўплыву ў Ардзе, якія ён выношваў яшчэ ў дачыненні Тахтамыша. Знакам збліжэння Вітаўта з найбольш уплывовым Тахтамышавічам стаў удзел апошняга ў Грунвальдскай бітве як саюзніка ВКЛ. Па словах Длугаша, татарскі царэвіч прывёў з сабой толькі 300 чалавек, таму гэты акт меў не столькі ваеннае, колькі палітычнае значэнне[2]. Засведчыўшы сваю прыхільнасць вялікаму князю літоўскаму, Джалал-ад Дзін зімой 1410/1411 г. умацаваўся ў Крыме, які ў далейшым стаў яго плацдармам для барацьбы за ўладу ў Ардзе.

Грунвальдская перамога ў значнай ступені развязала Вітаўту рукі для больш энергічных дзеянняў на ўсходзе. Пасля заключэння Торуньскага міру ў 1411 г. вялікі князь літоўскі вярнуў сабе Падолле, страчанае ў 1409 г. на карысць Ягайлы. Умовай было, верагодна, выплачванне Кароне часткі падаткаў з гэтай тэрыторыі. Вясной і летам 1411 г. адбыўся аб'езд усіх зямель Вялікага Княства Ягайлам і Вітаўтам. Тады ж магла адбыцца перадача ў рукі Кейстутавіча ўсёй "спадчыны Свідрыгайлы" на поўдні Русі. Падчас знаходжання абодвух манархаў у Смаленску пратэктарат Вялікага Княства Літоўскага прызнаў князь Разані. С просьбай дапамагчы абараніцца ад лівонскіх рыцараў і прысланць ім на княжанне Лугвена Сымона звярнуліся да Вітаўта і Ягайлы наўгародцы[3].

У 1410 г. на залатаардынскім стале з'явіўся чарговы стаўленік Эдыгея – Цімур-хан, сын Цімур-Кутлука. Аднак неўзабаве ён павёў барацьбу супраць свайго "дабрадзея". Пад націскам сіл Цімур-хана Эдыгей уцёк у Харэзм. Скарыстаўшы адсутнасць абодвух сапернікаў у Ардзе, Джалал-ад-Дзін, пры падтрымцы войск Вітаўта, захапіў там уладу. Цімур-хан быў забіты адным са сваіх военачальнікаў, які паспяшаўся перакінуцца на бок новага залатаардынскага ўладара. Прыйшоўшы да ўлады, Джалал-ад-Дзін праводзіў пралітоўскую палітыку. Ён імкнуўся адарваць ад уладзімірскага княжання Ніжні Ноўгарад, сутыкнуць Цвер з Масквой. Тым не менш Джалал-ад-Дзін не здолеў умацаваць сваё становішча ў Ардзе. Спачатку войскі, пасланыя ім для канчатковага разгрому Эдыгея, былі разбіты, а затым і сам хан загінуў у жніўні 1412 г. у барацьб-

[1] *Греков И.Б.* Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV–XVI вв. С. 90; *Ён жа.* Восточная Европа и упадок Золотой Орды... С. 255.
[2] *Dlugosz J.* Roczniki... Ks. 10-11. S. 75–76.
[3] *Kolankowski L.* Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagellonów. T. 1. S. 110.

бе са сваім братам Керым-берды, за якім стаяў Эдыгей. У выніку ўвосень таго ж года Лугвен Сымон зноў мусіў пакінуць Ноўгарад, куды вярнуўся Канстанцін Дзмітравіч. З Ніжняга Ноўгарада былі выцеснены Даніла і Іван Барысавічы, якія цяпер не задавальнялі не толькі Маскву, але і Арду. Супадзенне інтарэсаў у дадзенай сітуацыі не выглядае выпадковасцю: перад пагрозай узмацнення ВКЛ у Маскву яшчэ ў жніўні 1410 г., адразу пасля Грунвальдскай бітвы, ездзіла ардынскае пасольства, якое паклала пачатак саюзу Эдыгея з Васілём I[1].



Татарскі хан

Такім чынам, у другім дзесяцігоддзі XV ст. у рэгіёне склалася новая сітуацыя: тут разгарнулася зацятая барацьба паміж Вітаўтам і Эдыгеем за ўплыў не толькі ва Усходняй Русі, але таксама ў самой Ардзе праз умацаванне там сваіх стаўленікаў. Барацьба вялася з пераменным поспехам, пры гэтым становішча самога Эдыгея было надзвычай хісткім. Не здолеўшы трывала ўмацавацца ў Харэзме, ён, верагодна, нейкі час валодаў Крымам, працягваючы варожую Вітаўту палітыку. У 1416 г. Эдыгей нават напаў на Кіеў, але ўзяць яго не змог, хоць, па словах Длугаша, гэты паход паспрыяў заняпаду старажытнай сталіцы Русі[2]. Змаганне з Вітаўтам за ўплыў у Ардзе было, відаць, для старога эміра справай далёка не лёгкай: у 1419 г. ён зрабіў спробу канчатковага прымірэння са сваім даўнім ворагам, прыслаўшы вялікаму князю разам з немалымі дарамі, у тым ліку трыма багата ўпрыгожанымі вярблюдамі і 27 дарагімі коньмі, прапанову аб міры і саюзе. Аднак намерам Эдыгея не наканавана было здзейсніцца: у 1419 ці 1420 г. ён быў забіты падчас сутыкнення з атрадам чарговага стаўленіка Вітаўта – хана Кадыр-берды.

Адмова Вітаўта ад саюзу з Эдыгеем, які пад канец свайго жыцця сапраўды мог усур'ёз схіліцца да падтрымкі ўсходнік планаў Кейстутавіча, сведчыць, што апошні ў ролі апекуна прэтэндэнтаў на ханскі стол пачуваўся настолькі ўпэўнена, што мог дазволіць сабе быць пераборлівым, аддаючы перавагу найбольш прадказальным і паслухмяным кандыдатам. Падобная палітыка Вітаўта выдатна адлюстравана адным з тагачасных аўтараў: "Живущу же ему в граде Киеве, присылаху к нему велицыи Ординстыи князи, просяще у него царя царствовати. Много бо бяше Ординскых царей и князей, служаще ему. Он же даяше им царя на царство. Егда же тои умре, князи же Ординстии никакоже смеюще не от его руки поставити царя, дабы не прогневали его, но посылаху к нему с великою честию, просяще у него иного царя; он же даяше им иного царя"[3]. Ёсць звесткі, што аднаго са сваіх стаўленікаў на ханскі стол – Бетсубулана (Бетсабулу) – Вітаўт узводзіў у ханскае званне проста ў Вільні, "убраўшы

[1] *Греков Б.Д., Якубовский А.Ю.* Золотая Орда и ее падение. С. 398–403; *Греков И.Б.* Восточная Европа и упадок Золотой Орды... С.267, 283; *Ён жа.* Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV–XVI вв. С. 97–98.
[2] *Dlugosz J.* Roczniki... Ks. 11. S. 67.
[3] *Корчинский И.* Витовт Великий. Каунас, 1930. С. 66; *Греков Б.Д., Якубовский А.Ю.* Золотая Орда и ее падение. С. 404–405; *Греков И.Б.* Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV–XVI вв. С. 92–95, 106–107.

яго ў пурпуровую, вышываную золатам шубу"[1]. Гэтыя ханы, фактычна кліенты Вітаўта, не толькі праводзілі выгадную яму палітыку ў рускіх землях, але і ўдзельнічалі ў яго вайсковых акцыях на правах ці то саюзнікаў, ці то васалаў[2].

Пасля смерці Кадыр-берды Вітаўт падтрымаў свайго чарговага стаўленіка на ханскі стол – Улуг-Мухамеда, які фармальна заставаўся на ім з 1421 да 1437 г., знаходзячы ў найбольш складаныя перыяды свайго праўлення прытулак у ВКЛ. Аднак спроба хана падпарадкаваць сабе Крым выклікала незадавальненне Вітаўта і крымскіх феадалаў, што вылучылі ў 1427–1428 гг. у якасці мясцовага ўладара Даўлет-берды, а ў 1430 г. Хаджы-Гірэя. Ужо ў часы Улуг-Мухамеда ад адзінства Улуса Джучы не засталося і следу – ён уяўляў сабой некалькі фактычна самастойных улусаў, толькі намінальна аб'яднаных пад уладай хана[3].

Як адзначаў украінскі даследчык Ф. Шабульдо, "Вітаўту так і не ўдалося дабіцца пастаўленай яшчэ ў 1398 годзе мэты – падпарадкаваць сваёй уладзе і палітычным інтарэсам Залатую Арду. Але вынікам яго ардынскай палітыкі стала тое, да чаго імкнуўся Амір Цімур у ходзе сваёй антыардынскай кампаніі 1395–1396 гадоў. А менавіта: у сярэдзіне 1420-х гадоў, г.зн. напрыканцы жыцця і палітычнай кар'еры Вітаўта, Ардынская дзяржава канчаткова распалася на некалькі варагуючых паміж сабой частак... Па сутнасці, і ваенныя паходы Вітаўта, і здзейсненыя ім паслядоўныя ваенна-палітычныя дэзынтэграцыйныя ў дачыненні Арды акцыі былі працягам, развіццём і замацаваннем вынікаў антыардынскай праграмы яго вялікага папярэдніка – вялікага князя літоўскага Альгерда (1345–1377)... Менавіта Альгерд сваёй антыардынскай кампаніяй 1362 г. у паўднёваўкраінскіх стэпах Дняпроўскага левабярэжжа і правабярэжжа нанёс непапраўны тэрытарыяльны, эканамічны і палітычны ўрон Залатой Ардзе, які ўкінуў яе ў глыбокі палітычны крызіс, з якога яна так ніколі і не змагла выйсці. Значыць, Альгерд пачаў, Цімур працягнуў і Вітаўт завяршыў знішчэнне Ардынскай дзяржавы як пануючай ва Усходняй Еўропе палітычнай сілы"[4].

**Намаганні па рэалізацыі "агульнарускай" праграмы.** Аслабленне Залатой Арды і ўсталяванне там сваіх прыхільнікаў было выкарыстана Вітаўтам для непасрэднага ваеннага ўмяшальніцтва ў Паўночна-Усходняй Русі. Чарговае адхіленне ў 1412 г. Лугвен Сымона ад улады ў Ноўгарадзе выклікала ў наступным годзе палітычны дэмарш кіраўніцтва ВКЛ. А ў 1414 г. Вітаўт перайшоў да больш важкіх аргументаў. Ён спаліў Себеж і блакіраваў Порхаў, вынікам чаго стаў новы дагавор з наўгародцамі і пскавічамі. Апошнія згадзіліся на выдаленне з Ноўгарада Канстанціна Дзмітравіча, якога замяніў намеснік і пляменнік Вітаўта Сымон Альгердавіч. У Пскове ўмацоўваўся літоўскі ж намеснік Юрый Нос. Акрамя та-

---

[1] *Długosz J.* Roczniki... Ks. 11. S. 93.

[2] *Kolankowski L.* Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagellonów. S. 126–127; *Карамзин Н.М.* История государства Российского: В 12 т. Т. 4–6. Тула, 1990. С. 286–287.

[3] *Греков И.Б.* Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV–XVI вв. С. 118–120.

[4] *Шабульдо Ф.М.* Витовт и Тимур: противники или стратегические партнеры? // Lietuva ir jos kaimynai. Nuo normanu iki Napoleono straipsniu rinkinys. Vilnius, 2001. P. 95–106; *Ён жа.* Битва біля Синіх Вод 1362 р.: маловідомі та незнані аспекти // Український історичний журнал. 1966. № 2. С. 3–15.

го, пскавічы мусілі выплочваць Вітаўту і яго нашчадкам па 5 тыс. залатых штогод, не лічачы значных партый футра, а наўгародцы – па 10 тыс. залатых і таксама футра[1].

На другое дзесяцігоддзе XV ст. прыпадае актывізацыя рэлігійнай палітыкі Вітаўта на ўсходзе, якая павінна была стаць важнай часткай яго "агульнарускай" праграмы. Калі пасля Крэўскай уніі 1385 г. ВКЛ пачало падкрэслена дэклараваць свой статус каталіцкай краіны, то гэта зменшыла яе прывабнасць як для тых зямель Русі, што з'яўляліся аб'ектам знешнепалітычных прэтэнзій Вільні, так і для тых, якія раней прызналі яе ўладу. Важнае месца ва ўзаемадачыненнях ВКЛ і рускіх зямель адыгрывала вышэйшая праваслаўная іерархія. Яшчэ ў канцы XIV ст. выявілася дваістая пазіцыя мітрапаліта Кіпрыяна. Пражываючы пераважна ў Маскве, ён падтрымліваў добрыя адносіны і з Вітаўтам, што было выклікана яго імкненнем забяспечыць беспрашкоднае кіраванне ўсёй даручанай яму паствай незалежна ад таго, пад чыёй уладай яна знаходзілася. Гэтым жа тлумачылася і падтрымка мітрапалітам "агульнарускай" праграмы ў прынцыпе, адкуль бы яна ні сыходзіла.



Пячатка вялікага князя Вітаўта

Такая пазіцыя ў цэлым задавальняла Вітаўта. Пасля смерці Кіпрыяна ў 1406 г. Кейстутавіч паспрабаваў знайсці яму адэкватнага пераемніка. Аднак намаганні вялікага князя літоўскага па ўзвядзенні ў сан свайго стаўленіка, полацкага епіскапа Феадосію, не падтрымаў Канстанцінопаль. Там была зроблена стаўка на грэка Фоція. У верасні 1409 – лютым 1410 г. ён знаходзіўся ў Кіеве, пасля чаго пераехаў у Маскву, дзе стаў актыўна падтрымліваць палітыку Васіля I. Гэта выклікала незадавальненне ў Вільні, дзе выспелі планы вылучэння ўласнага мітрапаліта з мэтай распаўсюдзіць яго рэлігійную ўладу на ўсёй тэрыторыі Русі ці хоць бы прадухіліць духоўны прыярытэт Масквы. Фармальна Фоцію прад'яўляліся прэтэнзіі ў ігнараванні спрадвечнай рэлігійнай сталіцы Русі – Кіева, збіранні занадта вялікай даніны і г.д. У лістападзе 1415 г. Вітаўт склікаў сінод праваслаўных іерархаў ВКЛ у Наваградку і адхіліў Фоція ад улады. Узамен у сан быў узведзены балгарын Рыгор Цамблак, кандыдатура якога разглядалася яшчэ год назад[2].

Сітуацыя двоеўладдзя ў праваслаўнай царкве Русі выклікала не толькі цалкам зразумелую барацьбу мітрапалітаў, якія ўзаемна "выкрывалі" і праклінаі адзін аднаго. Значна больш небяспечным для Кіеўскага мітрапаліта было тое, што крайне негатыўную ў дачыненні да яго пазіцыю занялі канстанцінопальскія патрыярхі Яўфімій і яго пераемнік Іосіф II. У такой складанай сітуацыі, пад пагрозай страты пазіцый свайго пратэ-

[1] *Греков И.Б.* Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV–XVI вв. С. 103–104.

[2] *Kochanowski J.K.* Witold wielki książe litewski. Studium historyczne. Lwów, 1900. S. 165; *Греков И.Б.* Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV–XVI вв. С. 108–110.

жэ і дыскрэдытацыі сваёй лініі сярод праваслаўных вернікаў Русі, Вітаўт праявіў максімум дыпламатычнай гнуткасці. Па-першае, ён яшчэ пры абвяшчэнні Рыгора Цамблака мітрапалітам пакінуў за сваімі падданымі права выбару, каму з іерархаў падпарадкоўвацца, стварыўшы тым самым прэцэдэнт верацярпімасці. Да таго ж ён выразна даў зразумець, што канфрантацыя з ім можа прывесці да страты пазіцый і Фоція, і канстанцінопальскага патрыярхату сярод праваслаўных падданых ВКЛ. Для гэтага Вітаўт арганізаваў паездку Рыгора Цамблака ў суправаджэнні пышнага прадстаўніцтва з усходняга духавенства ВКЛ, валошскіх і наўгародскіх зямель на Канстанцкі сабор у пачатку 1418 г.

Гэты сабор, які праходзіў у г. Канстанц з лістапада 1414 г., быў сапраўды лёсавызначальным для Еўропы XV ст. і пакінуў вялізарны след у гісторыі еўрапейскай цывілізацыі. Ініцыятарам склікання сабора быў венгерскі кароль Жыгімонт Люксембургскі. Атрыманы ім у 1410 г. тытул рымскага караля даваў яму права на карону Свяшчэннай Рымскай імперыі германскай нацыі. Такім чынам Жыгімонт як імператар імкнуўся да палітычнай гегемоніі ў Еўропе. Ён пераканаў аднаго з трох існуючых на той час пап – Іаана XXIII, абвешчанага ў далейшым "антыпапам", выдаць булу на скліканне сабора. На ім разглядаўся шэраг глабальных праблем як духоўнага, так і свецкага характару. Галоўнымі з іх былі: 1) рэформа каталіцкага касцёла, раздзіранага саперніцтвам паміж сабой трох пап; 2) вынясенне вердыкту ў дачыненні да вучэння чэшскага мысліцеля Яна Гуса; 3) спроба згуртавання заходняга свету перад турэцкай пагрозай.

Місія Цамблака заключалася ў дэклараванні намераў пошуку рэлігійнай уніі праваслаўнай царквы ВКЛ з каталіцкім касцёлам. Ідучы на гэты крок, Вітаўт моцна падвышаў у вачах папства і еўрапейскай грамадскасці свой імідж каталіцкага манарха і нават больш – прыхільніка пераадолення царкоўнага расколу ў самым шырокім сэнсе гэтага слова. Лішне нагадваць, як дарэчы гэта выглядала ў кантэксце самога духу Канстанцкага сабора. Аднак, відавочна, далей дэкларацый аб намерах справу заключэння уніі Вітаўт весці не жадаў. Прызнанне ўлады папы магло б канчаткова адштурхнуць ад ВКЛ праваслаўных вернікаў Русі і зрабіла б немагчымым рэалізацыю Кейстутавічам яго "агульнарускай" праграмы. Такім чынам, рэальная унія заключана не была. Цамблак толькі прапанаваў дыспут па пытанні злучэння цэркваў, які, тэарэтычна, мог закончыцца і перамогай апанентаў Рыма, а значыць рэлігійных пачуццяў прыхільнікаў "грэцкай веры" не абражаў. У 1418 г. Канстанцкі сабор быў распушчаны з-за пагрозы эпідэміі чумы; з роспускам сабора справа уніі прыпынілася[1].

Тым не менш унійная кампанія Вітаўта мела для яго пазітыўныя вынікі ўжо праз год пасля паездкі Цамблака ў Канстанц. З 1419 г. інфармацыя пра апошняга губляецца (напэўна ён скончыў сваё жыццё каля 1420 г.) і наступае збліжэнне вялікага князя літоўскага з Фоціем[2]. Маскоўскі мітрапаліт не толькі выступаў у якасці своеасаблівага арбітра па-

[1] *Kochanowski J.K.* Witold wielki książe litewski. S. 165–166, 196; *Греков И.Б.* Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV–XVI вв. С. 111–115.
[2] *Ochmański J.* Historia Litwy. Wrocław, etc., 1990. S. 82.

між Вітаўтам і Васілём І, найчасцей займаючы выгадную ВКЛ пазіцыю, але і абавязаў маскоўскага князя ў 1423 г. у духоўнай грамаце прызначыць Вітаўта апекуном сваіх дзяцей і жонкі Соф'і Вітаўтаўны.

Смерць Васіля І 23 лютага 1425 г. рабіла Вітаўта фактычным апекуном свайго ўнука – дзесяцігадовага Васіля II. Аднак гэта сустрэла незадавальненне яго дзядзькі – звенігарадскага князя Юрыя Дзмітравіча. Маючы рэпутацыю добрага ваяводы, Юрый спадзяваўся на падтрымку ўдзельных палкоў, але марна. На бок малалетняга маскоўскага князя сталі не толькі мясцовыя баяры, але і ўдзельныя князі. Дайшло да ўзброенага канфлікту, які развіваўся не на карысць Юрыя Дзмітравіча. Утаймаваць непаслухмянага звенігарадскага князя паспрабаваў мітрапаліт Фоцій, але яго місія не прынесла чаканага выніку. Юрый не адмовіўся ад прэтэнзій на вялікае княжанне, хоць і пагадзіўся вырашаць гэтае пытанне не сілай зброі, а праз суд у Ардзе. Маскоўская ж княгіня Соф'я ўскладала спадзяванні на свайго бацьку – Вітаўта. Як адзначаў апошні ў лісце да лівонскага магістра, "Вялікая княгіня маскоўская сама нядаўна была ў нас і разам са сваім сынам, землямі і людзьмі аддалася пад нашу абарону". Урэшце гэта і вырашыла справу: у 1428 г. Юрый прызнаў Васіля II "братам старэйшым" і адмовіўся ад прэтэнзій на вялікакняскі стол. Для Вітаўта гэта было буйной палітычнай перамогай, бо ў выніку, па словах Р. Скрыннікава, "застаючыся татарскім улусам, Русь аказалася ўцягнутай у арбіту літоўскага ўплыву"[1].

Надзвычай спрыяльныя для Вітаўта абставіны ў Маскве дазволілі яму прадпрыняць энергічныя захады па ўмацаванні свайго дамінавання ў Пскове і Ноўгарадзе. У 1426 г. у Пскоўскую зямлю ўступіла вялікая армія Вітаўта. У яе складзе былі і іншаземныя атрады, у тым ліку польскія, крыжацкія, чэшскія, валашскія і татары літоўскага стаўленіка – Улуг-Мухамеда[2]. Гэта павінна было падкрэсліць палітычную і ваенную магутнасць літоўскага ўладара, яго міжнародны прэстыж. Былі абложаны гарады Апочка, дзе Вітаўт сустрэў упартае супраціўленне жыхароў, іВаронач[3]. Пскавічы пагадзіліся на выплату вялікаму князю 1450 рублёў серабра, пасля чаго Вітаўт пакінуў межы пскоўскай зямлі.

У наступным годзе Вітаўт зрабіў падарожжа па ўсходніх уладаннях сваёй дзяржавы, якое вылілася ў трыумфальную дэманстрацыю яго моцы. На спатканне грознага валадара выязджалі князі Разані, Пераяслаўля, Пронска, Адоева, Варатынска, "білі яму чалом" і прыносілі багатыя дары. Гэта нагадвала цырымонію вітання ўсходніх правіцеляў[4].

У 1428 г. была арганізавана вялікая выправа на Ноўгарад, а прычынай названы памежныя спрэчкі і неасцярожныя словы наўгародцаў пра Вітаўта. Па словах Длугаша, у Ноўгарадзе спадзяваліся, што непраходныя багны зробяць прасоўванне войска ВКЛ немагчымым. Аднак вялікі князь пусціў наперадзе сваёй арміі людзей з сякерамі; яны рабілі грэблю,

---

[1] *Скрынников Р.Г.* История Российская. IX–XVII века. Возвышение Москвы. Ч. 3 // http://www.lants.tellur.ru/history/skrynnikov/skr33.htm

[2] Codex epistolaris Vitoldi Magni Ducis Lithuaniae. 1376–1430 / Ed. A. Prochaska // Monumenta medii aevi historica res gestas Poloniae illustrantia. T. VI, cz. 1. Cracoviae, 1882. S. 730.

[3] ПСРЛ. Т. 4. СПб., 1848. С. 204.

[4] *Ochmański J.* Historia Litwy. S.83; Codex epistolaris Vitoldi Magni Ducis Lithuaniae. S. 798–799.

па якой рухаліся асноўныя сілы. Нечакана з'явіўшыся пад Порхавам, Вітаўт прадэманстраваў пад яго сценамі моц сваёй артылерыі, што змусіла наўгародцаў да заключэння міру. Вітаўт адвёў свае войскі, толькі ўзяўшы вялізную па тых часах кантрыбуцыю – 10 000 рублёў серабра і яшчэ 1000 за палонных. Хроніка Літоўская і Жамойцкая сцвярджае, што Вітаўт абавязаў наўгародцаў, акрамя ўсяго іншага, пастаўляць у Вялікае Княства Літоўскае штогод "по сту фризов немецких"[1]. Актыўныя дзеянні Кейстутавіча на паўночна-ўсходнім напрамку не выклікалі ніякай рэакцыі ў Маскве: Вітаўт клятвай абавязаў свайго ўнука не ўмешвацца ні ў наўгародскія, ні ў пскоўскія справы[2].

Такім чынам, у канцы 20-х гг. XV ст. "агульнаруская" праграма Вітаўта была, здавалася, блізкая да поўнай рэалізацыі. У аслабленай унутранымі супярэчнасцямі Ардзе намінальны хан з'яўляўся стаўленікам літоўскага валадара. Маскоўская дзяржава, дзе правілі ўнук і дачка Кейстутавіча, знаходзілася пад яго апекай і давала фармальную згоду на дамінаванне ў рэгіёне. Вялікае Княства Літоўскае дасягнула вяршыні сваёй магутнасці.

**Рост прэстыжу Вітаўта ў Еўропе. Стасункі з Польшчай, германскім імператарам, гусітамі.** Перамога над крыжакамі ў бітве пад Грунвальдам у 1410 г. была важным фактарам умацавання прэстыжу Вялікага Княства Літоўскага ў Еўропе. Яшчэ напярэдадні "Вялікай вайны" Вітаўт стаў значнай фігурай у сур'ёзнай палітычнай гульні, развязанай Тэўтонскім ордэнам і венгерскім каралём Жыгімонтам Люксембургскім. Яе мэтай быў разрыў уніі ВКЛ і Польшчы, якая стаяла на шляху тэўтонскай гегемоніі ў рэгіёне. Паражэнне Ордэна яшчэ не азначала, насуперак распаўсюджанаму меркаванню, спынення крыжацкай агрэсіі. Перад пагрозай новай вайны 2 кастрычніка 1413 г. у Гародлі зноў была заключана унія ВКЛ з Польшчай. Ягайла як кароль польскі і найвышэйшы князь літоўскі абвяшчаў, што Літву да Каралеўства Польскага "у другі раз, нанова ўключае, прысвойвае, злучае, далучае, змірае і на векі прыдае". Аднак Вялікае Княства зусім не разглядалася як правінцыя Польшчы, а хутчэй як блізкі палітычны партнёр, прычым гэтае партнёрства павінна было працягвацца нават пасля смерці Вітаўта і Ягайлы. Палякі абавязваліся не выбіраць новага караля без згоды ВКЛ, і наадварот, на абранне вялікага князя патрабавалася згода Польшчы. Для больш цеснага збліжэння пануючых станаў абедзвюх дзяржаў 47 найбольш знакамітых літоўскіх родаў былі пабратаны з польскімі і прынялі іх гербы. На ўзор Польшчы ў ВКЛ ствараліся два ваяводствы – Віленскае і Трокскае. Прадугледжваліся агульныя з'езды і нарады паноў і шляхты[3].

У канцы ліпеня 1414 г. выбухнуў новы канфлікт з крыжакамі, падчас якога чарговы ордэнскі магістр Міхаэль Кюхмайстар выбраў пасіўную тактыку абароны замкаў, партызанскай барацьбы і выматвання праціўніка. "Галодная вайна", названая так з-за праблем у набыцці правіянту для польска-літоўскіх войск, была перапынена пасламі папы Іаана XXIII, якія запрашалі варагуючыя бакі на Канстанцкі сабор.

---

[1] *Dlugosz J.* Opera Omnia cura Alexandri Przedziecki edita. T. XIII. Cracoviae; Czas, 1877. S. 362–363; ПСРЛ. Т. 12. М., 1965. С. 8; ПСРЛ. Т. 32. М., 1975. С. 80.

[2] *Соловьев С.М.* История России с древнейших времен. 1054–1462. Кн. 2. С. 307.

[3] *Ochmański J.* Historia Litwy. S. 81.

Сабор стаў арэнай дыпламатычнай барацьбы паміж Тэўтонскім ордэнам з аднаго боку і Ягайлам і Вітаўтам – з другога. З улікам статуса сабора гэтае пытанне набыло агульнаеўрапейскае гучанне. У ролі трацейскага суддзі выступіў сам фактычны склікальнік сабора – германскі імператар Жыгімонт.

Сабор стварыў шырокае поле для рэалізацыі палітычных талентаў Вітаўта, які вёў складаную гульню. Вялікі князь праз сваіх прадстаўнікоў здолеў пераканаць папу Іаана XXIII у хрысціянскім статусе Літвы. У выніку пантыфік адклікаў ранейшыя папскія прывілеі Ордэну на поўнае валоданне тымі землямі, якія крыжакі заваююць у будучым. Нават больш, у красавіку 1416 г. Вітаўт атрымаў тытул абаронцы і пратэктара Рыжскай архідыяцэзіі, што знаходзілася на тэрыторыі самога Ордэна, дакладней, яго Лівонскай правінцыі. Тэўтонцы ў сваю чаргу спрабавалі настроіць заходні свет супраць Вітаўта і Ягайлы, прадказваючы нашэсце на Еўропу дзікіх і жорсткіх варвараў. Была нават выпушчана адпаведная брашура, дзе падобная перспектыва малявалася ў самых змрочных фарбах. Але гэтыя спробы поспеху не мелі, а аўтар згаданай брашуры быў арыштаваны. Такім чынам, падчас правядзення сабора ідэалагічная неправамернасць антылітоўскай скіраванасці Тэўтонскага ордэна набыла шырокі міжнародны рэзананс. Польскі бок нават выношваў прапанову перадыслакацыі Ордэна з Прусіі на Кіпр – з мэтай супрацьстаяння турэцкай пагрозе.

Унійная палітыка Вітаўта таксама малявала яго ў самым выгадным святле, ствараючы літоўскаму валадару імідж змагара з царкоўным расколам. Увогуле, пасля Канстанцкага сабора Вітаўт стаў фігурай не лакальнага, а агульнаеўрапейскага маштабу, што, як паказалі далейшыя падзеі, ён імкнуўся максімальна выкарыстаць у сваіх мэтах.

Адначасова Вітаўт не жадаў поўнага разгрому Тэўтонскага ордэна, спадзеючыся знайсці ў ім сродак стрымлівання амбіцый Польшчы. Акрамя таго, вайна з крыжакамі стала асабліва непажаданай у сувязі з уцёкамі з-пад варты ў Крамянцы Свідрыгайлы ў красавіку 1418 г. Мяцежны князь, які меў вялікі ўплыў на рускіх землях, мог уступіць у саюз з тэўтонцамі, і перспектыва такога альянсу абяцала стварыць для Вітаўта сур'ёзныя праблемы. Ён імкнуўся захаваць адносна прыязныя адносіны і з Жыгімонтам Люксембургскім. Тым не менш нават падчас Канстанцкага сабора напружаныя стасункі з Ордэнам неаднаразова пагражалі перарасці ў ваенны канфлікт[1]. У канцы 1418 г. пасля марных спроб знайсці паразуменне без выкарыстання зброі пачаліся ваенныя сутычкі.

Неўзабаве здарыўся выпадак, які істотна паўплываў на ход падзей у рэгіёне. У 1419 г. памёр старэйшы брат германскага імператара – чэшскі кароль Вацлаў IV. Ягоная спадчына павінна была перайсці да Жыгімонта Люксембургскага. Між тым яго асоба выклікала ў Чэхіі крайняе непрыманне, што было звязана з той негатыўнай роляй, якую адыграў імператар у працэсе над Янам Гусам на Канстанцкім саборы. Выдаўшы яму гарантыі недатыкальнасці, Жыгімонт груба парушыў свае абяцанні і фактычна асудзіў Гуса як ерэтыка на спаленне. Прысуд быў выкананы 6 ліпеня 1415 г. Гэтая падзея ўскалыхнула Чэхію, дзе гусіцкія ідэі былі

[1] *Kochanowski J.K.* Witold wielki książe litewski. S. 161–170.

надзвычай папулярнымі. Каб патушыць агонь гусізму і забяспечыць сабе чэшскі трон, Жыгімонту неабходна было спыніць канфлікт тэўтонаў з Вітаўтам і Ягайлам. Апошнія ў маі 1419 г. згадзіліся на прапанову імператара аб трацейскім судзе па спрэчных пытаннях з Ордэнам. 26 ліпеня 1420 г. было заключана перамір'е на год. Аднак рашэнне Жыгімонта, перададзенае на пачатку 1420 г. польскім паслам у Брэслау (Вроцлаве), выклікала буру абурэння ў Вітаўта і Ягайлы[1]. Жыгімонт прызнаваў права Ордэна на захопленыя ў ВКЛ і Польшчы землі, але запэўніваў вялікага князя літоўскага і караля польскага, што за Жамойць і Памор'е ім будзе выплачана кампенсацыя ў памеры 25 000 дукатаў. У адказ Вітаўт заключыў саюз з Даніяй і з Масквой, вырашыўшы пачаць ваенныя дзеянні[2].

Рашучасць літоўскага валадара падтрымлівалі і чэхі. Яны спадзяваліся, што разгром Ордэна аслабіць пазіцыі ненавіснага ім імператара, апекуна крыжакаў, які ў 1420 г. усё ж такі каранаваўся на пражскіх Градчанах[3]. Чэшскія прадстаўнікі звярнуліся да Ягайлы і Вітаўта з просьбай прыняць чэшскую карону. Ягайла адхіліў прапанову, а Вітаўт згадзіўся. Для вялікага князя літоўскага адкрывалася надзвычай спакуслівая перспектыва уніі з адной з найбольш развітых і культурных дзяржаў Еўропы. У выніку поспеху мог быць створаны моцны блок дзяржаў "ад Прагі па Залескую Русь"[4]. У той жа час карона "ерэтычнай" краіны магла прывесці да міжнароднай ізаляцыі, пераадоленню якой Кейстутавіч надаваў такое вялікае значэнне. Таму Вітаўт, згадзіўшыся на прыняцце кароны Св. Вацлава, на першы час вырашыў абмежавацца накіраваннем у Прагу свайго намесніка і дыпламатычнай падтрымкай гусітаў. Яшчэ восенню 1421 г. ён прапанаваў правесці тэалагічны дыспут з удзелам паслядоўнікаў Гуса і прадстаўнікоў афіцыйнага касцёла. Чэхі пагадзіліся. Аднак папа Марцін V, які па рашэннях Канстанцкага сабора абвяшчаўся адзіным сапраўдным папам, ставіўся да гэтай ідэі насцярожана. Пагадзіцца на дыспут з гусітамі, вучэнне якіх той жа самы сабор, што зацвердзіў яго пўнамоцтвы, адназначна абвяшчаў ерассю, было небяспечна.



Сутыкненне чэшскіх гусітаў з нямецкім рыцарам

Няўдалая спроба пошуку мірнага вырашэння канфлікту не астудзіла імпэт Вітаўта. Вясной 1422 г. ён сканцэнтраваў у Кракаве 5-тысячны кантынгент з літвінаў, русінаў і палякаў, які рушыў у Чэхію. На чале кантынгента стаяў пляменнік Ягайлы Жыгімонт Карыбутавіч з паўна-

[1] *Krzyżaniakowa J., Ochmański J.* Władysław II Jagiełło. Wrocław, etc., 1990. S. 253–254; *Grygiel J.* Życie i działalność Zygmunta Korybutowicza. Studium z dziejów stosunków polsko-czeskich w pierwszej połowie XV wieku. Wrocław, etc., 1988. S. 9–10.
[2] *Kochanowski J.K.* Witold wielki książe litewski. S. 173–175.
[3] *Grygiel J.* Życie i działalność Zygmunta Korybutowicza. S. 20.
[4] Там жа. S. 26–27; *Błaszczyk G.* Burza koronacyjna. Dramatyczny fragment stosunków polsko-litewskich w XV w. Poznań, 1998. S. 40–41.

моцтвамі прадстаўніка і намесніка вялікага князя літоўскага. Па дарозе да войска Жыгімонта далучаліся чэхі, так што сілы маглі павялічыцца да 7 тыс. чалавек. Карыбутавіч быў прыняты чэхамі з энтузіязмам і неўзабаве дабіўся значных поспехаў. Яму ўдалося нават істотна прасунуцца ў справе пераадолення расколу ў гусіцкім руху. Сам Ян Жыжка, правадыр грозных табарытаў, прызнаў вярхоўную ўладу Карыбутавіча і разам з некаторымі сваімі паплечнікамі ўвайшоў у склад ягонай рады[1].

**Аднаўленне баявых дзеянняў з Тэўтонскім ордэнам. Мельнаўскі мір.** Зусім іншую рэакцыю сустрэла з'яўленне літоўскіх сіл у Празе ў папы і імператара. Марцін V пагражаў Вітаўту прыняццем санкцый, ажно да абвяшчэння супраць ВКЛ і Польшчы крыжовага паходу. Трэба сказаць, што на гэтым этапе пазіцыі і аўтарытэт Кейстутавіча ў Польшчы былі надзвычай моцнымі. Практычна ўсе яго знешнепалітычныя ініцыятывы сустракалі ў Кракаве разуменне і падтрымку[2].

Германскі імператар, які цярпеў у Чэхіі паражэнне за паражэннем, спрабаваў выкарыстаць супраць Вітаўта Тэўтонскі ордэн. Аднак крыжакі, звязаныя мірнымі дамовамі, пайшлі на канфлікт толькі ў 1422 г. Фармальна вайна вялася як бы ў падтрымку трацейскага рашэння імператара 1420 г. Жыгімонт Люксембургскі зноў прапанаваў варагуючым бакам пасрэдніцтва, але пры ўмове адклікання Карыбутавіча з Чэхіі. Ягайла адказаў, што ён не можа адклікаць таго, каго не пасылаў, а Вітаўт заявіў, што "Чэхія знаходзіцца пад высокай пратэкцыяй Літвы".

Падчас вайны вялікі магістр Ордэна Павел Русдорф зноў выкарыстаў пасіўную тактыку, блізкую да тактыкі "галоднай вайны". Саюзнікі, на баку якіх была колькасная перавага, адразу ж завалодалі ініцыятывай. 25 ліпеня 1422 г. вялікая армія Вітаўта злучылася на Вісле каля Чэрвіньска з польскім войскам, пасля чаго аб'яднаныя сілы рушылі ў межы Прусіі. Спачатку войскі Кароны Польскай і Вялікага Княства Літоўскага, сярод якіх былі нават масквічы і татары, спустошылі Любаўскую зямлю, а потым перайшлі на Хелмінскую.

Кантынгенты Ордэна спрабавалі адплаціць непрыяцелю аналагічнымі акцыямі: яны ўварваліся ў раёны Куяў і паўночна-заходняй Вялікапольшчы, а рагнецкі комтур ажыццявіў рэйд у ВКЛ, напаўшы на нёманскі замак Велона. Аднак гэта не дало чаканага эфекту. Сілы былі занадта няроўныя. Пры набліжэнне вялікай арміі Ягайлы і Вітаўта ордэнскае рыцарства разбягалася па дамах[3]. Нягледзячы на прыход у Прусію на пачатку верасня невялікіх аддзелаў інфлянцкай дапамогі, а таксама набліжэнне фарміраванняў Жыгімонта Люксембургскага[4], становішча Ордэна было катастрафічным. Павел Русдорф не мог сабраць сілы, дастатковыя для таго, каб стрымаць харугвы Польшчы і ВКЛ, якія беспакарана пустошылі Хелмінскую зямлю. У сярэдзіне верасня пад уражаннем маштабаў гэтых спусташэнняў[5] вялікі магістр вырашыў спыніць супраціўленне і пачаць перагаворы аб міры.

---

[1] *Grygiel J.* Życie I działalność Zygmunta Korybutowicza. S. 59–65.
[2] *Kochanowski J.K.* Witold wielki książe litewski. S. 176–186.
[3] *Ekdahl S.* Der Krieg zwischen dem Deutschen Orden und Polen-Litauen im Jahre 1422 // ZfO. Jg. 13 (1964). Hf. 4. S. 637.
[4] Там жа. S. 640.
[5] *Biskup M.* Wojny Polski z Zakonem krzyżackim, 1308–1521. S. 138–139.

27 верасня 1422 г. у ваенным лагеры над возерам Мельна на сустрэчы Паўла Русдорфа і інфлянцкага магістра Зігфрыда Лангера з Ягайлам і Вітаўтам пасля працяглых перагавораў удалося падпісаць “вечны мір”. Паводле яго ўмоў Ордэн назаўжды вяртаў Вялікаму Княству Жамойць і Судавію, а Польшчы саступаў частку Куяў і палову рэчышча Віслы[1]. Павел Русдорф адмовіўся і ад часткі пустак (Wildnis), якія былі раздзеленыя паміж Прусіяй ды Вялікім Княствам.

З моманту заключэння Мельнаўскага міру заходняя (пруская) мяжа ВКЛ стагоддзямі не мянялася і стала адной з самых стабільных у еўрапейскай гісторыі[2]. Пасля яго ВКЛ на афіцыйным узроўні ўстрымлівалася ад удзелу ў войнах Каралеўства Польскага супраць Нямецкага ордэна. Дагавор 1422 г. фактычна паклаў пачатак эпохі нармалізацыі ўзаемаадносін ВКЛ з Нямецкім ордэнам.

Заключэнне Мельнаўскага міру без пасрэдніцтва германскага імператара развязвала Вітаўту рукі для дзейсных крокаў у Чэхіі. Аднак дзейнасць Жыгімонта Карыбутавіча не прыносіла тых вынікаў, на якія, магчыма, разлічваў вялікі князь літоўскі. Няўдачай скончылася аблога замка Карлштэйн, дзе захоўваліся каралеўскія рэгаліі і які меў каласальнае ідэалагічнае значэнне для яго як для намесніка будучага чэшскага караля. Спроба знайсці паразуменне з усімі групоўкамі, у тым ліку з каталікамі, вернымі імператару, узбудзіла падазрэнне радыкальна настроеных табарытаў. Жыгімонту так і не ўдалося згуртаваць табарытаў і утраквістаў (чашнікаў). Карыбутавіч, заняўшы Прагу, фактычна ўзначаліў апошніх, тады як бясспрэчным лідэрам крайняга крыла гусіцкага руху з цэнтрам у Табары заставаўся Ян Жыжка. Нават больш, у самой Празе радыкальна настроенымі слаямі насельніцтва пры падтрымцы табарытаў была зроблена няўдалая спроба адхілення Жыгімонта ад улады. І ўсё ж становішча Карыбутавіча працягвала заставацца досыць трывалым і нішто не прадказвала яго аслаблення. Яго стараннямі нават пацярпела няўдачу чарговая, трэцяя антыгусіцкая крыжовая выправа, арганізаваная восенню 1422 г. Крыжакі мусілі вярнуцца назад, хоць у адрозненне ад ранейшых крыжовых паходаў яны і не былі разгромлены гусітамі[3].

У снежні 1422 г. Жыгімонт Люксембургскі арганізаваў кааліцыю супраць ВКЛ і Польшчы, куды ўваходзілі князі Аўстрыі, Баварыі і Сілезіі. Вітаўт у сваю чаргу падумваў пра антыімперскі саюз з Турцыяй і татарамі. Аднак у Польшчы ў той час адбыліся змены, якія прывялі да паступовай страты пазіцый Кейстутавіча ў Кракаве. Каронным канцлерам стаў Збігнеў Алясніцкі, які прыклаў усе намаганні для аслаблення аўтарытэту Вітаўта. Адначасова новы канцлер схіліўся да паразумення з германскім імператарам. Пачалася падрыхтоўка з’езда ў Кежмарку, што ў Венгрыі. Планы Вітаўта апынуліся пад пагрозай, бо вайна з усёй Еўропай, у тым ліку і з Польшчай, была справай больш чым авантурнай. Таму вялікі князь літоўскі мусіў таксама прыняць удзел у з’ездзе, які адбыўся ў 1423 г. На ім было прынята рашэнне адклікаць кантынгент Карыбутавіча з Чэхіі. Імператару была абяцана дапамога ў будучай вайне з гусітамі. Рашэнні кежмаркскага з’езда азначалі для Вітаўта адчувальнае дып-

1 Die Staatsverträge des Deutschen Ordens... № 154. S. 157–164.
2 *Forstreuter K.* Deutschland und Litauen im Mittelalter. S. 14.
3 *Grygiel J.* Życie i działalność Zygmunta Korybutowicza. S. 68–76.

ламатычнае паражэнне. Аднак стасункі ВКЛ з гусітамі не спыніліся. Утраквісты ў 1424 г. зноў звярнуліся да Карыбутавіча, прапануючы карону цяпер ужо непасрэдна яму. Неўзабаве ён зноў скіраваўся ў Прагу, хоць цяпер гэтая яго выправа насіла характар прыватнай ініцыятывы[1].

**Намаганні Вітаўта па атрыманні каралеўскай кароны.** З гэтага часу назіраецца чарговая істотная карэкціроўка заходняга вектара знешнепалітычнай дзейнасці Вітаўта. Важнай падзеяй, якая таксама магла паўплываць на пахаладанне ў адносінах Вітаўта і Ягайлы, было нараджэнне ў польскага караля ў 1424 г. сына Уладзіслава ад маладой жонкі Соф'і Гальшанскай, з якой той уступіў у шлюб два гады раней. Гэта пазбаўляла Кейстутавіча ўсякіх шанцаў атрымаць польскую карону пасля смерці састарэлага Ягайлы, тым больш што ў 1427 г. у таго нарадзіўся другі сын. Магчыма не без удзелу вялікіга князя літоўскага сталі распускацца чуткі пра сумніўнасць бацькоўства караля, што кідала цень не толькі на Ягайлу, але і на яго жонку[2].



Германскі імператар Жыгімонт Люксембургскі. Партрэт XV ст.

Ва ўмовах пагаршэння адносін з Кракавам думкі Вітаўта ўсё часцей сталі скіроўвацца ў бок магчымага збліжэння з германскім імператарам Жыгімонтам Люксембургскім. Апошні перажываў не самыя лепшыя свае часы: шматлікія крыжовыя паходы, якія ён арганізоўваў супраць гусітаў, не мелі аніякага поспеху. Нават больш, у 1427–1428 гг. папа неаднаразова схіляў Ягайлу і Вітаўта да вайны з гусітамі, адсоўваючы ад чэшскіх спраў законнага караля Чэхіі, якім лічыўся Жыгімонт[3]. Паражэннем пад Голубцам (Сербія) 12 чэрвеня 1428 г. скончылася і спроба імператара спыніць прасоўванне туркаў на Балканах. Яго аўтарытэт моцна пахіснуўся нават у германскіх землях. У такіх умовах збліжэнне Жыгімонта і Вітаўта стала цалкам верагодным[4].

Падставай для збліжэння стала прапанова імператара каранаваць Вітаўта на караля Літвы. Падобная ідэя (без удзелу імператара) узнікала і раней – яшчэ ў 1398 г., але тады гэтаму перашкодзіла паражэнне на Ворскле. У наступны раз пытанне аб магчымай каранацыі Кейстутавіча ўзнікла ў красавіку 1410 г., падчас спробы мірнага ўрэгулявання канфлікту з крыжакамі. Ініцыятыва на гэты раз сыходзіла ад імператара

---

1 *Krzyżaniakowa J., Ochmański J.* Władysław II Jagiełło. S. 270–276; *Kochanowski J.K.* Witold wielki książe litewski. S. 189–192; *Grygiel J.* Życie i działalność Zygmunta Korybutowicza. S. 84–90.

2 *Błaszczyk G.* Burza koronacyjna. S. 35–36.

3 *Grygiel J.* Życie i działalność Zygmunta Korybutowicza. S. 106.

4 *Kochanowski J.K.* Witold wielki książe litewski. S. 196; *Błaszczyk G.* Burza koronacyjna. S. 43–44.

Жыгімонта, які спадзяваўся тым самым разарваць унію ВКЛ з Польшчай напярэдадні рашучага сутыкнення з Ордэнам. Некаторыя даследчыкі лічаць, што да гэтага пытання Жыгімонт і Вітаўт маглі вяртацца і пазней – напрыклад у 1412 г. У 1416 г. на Канстанцкім саборы палякі скардзіліся на крыжакаў, якія нібыта таксама выношвалі ідэю стварэння літоўска-рускага каралеўства ў абыход спадчынных правоў Ягайлы. Сярод каранацыйных праектаў Вітаўта варта ўзгадаць і спробу атрымання чэшскай кароны ў 1422–1423 гг. Аднак калі раней Вітаўт быў заняты рэалізацыяй сваіх знешнепалітычных планаў, што патрабавала шчыльнага саюзу з Польшчай, то ў канцы 20-х гг. ён адчуў сябе падрыхтаваным для канчатковага разрыву уніі. Як адзначалася, з'яўленне ў Ягайлы сыноў перакрэслівала ўсялякія спадзяванні Кейстутавіча на польскі трон. Нават больш, непрыязная ў дачыненні Вітаўта пазіцыя канцлера Алясніцкага перашкаджала рэалізацыі амбітных планаў Кейстутавіча на Захадзе, у прыватнасці ў Чэхіі. Мельнаўскі мір 1422 г. азначаў канчатковае вяртанне Жамойці, а аслаблены Ордэн не ўяўляў для ВКЛ сур'ёзнай небяспекі. Апека над малалетнім маскоўскім князем і знаходжанне на залатаардынскім стале стаўленіка ВКЛ забяспечыла Вітаўту трывалыя пазіцыі на ўсходзе.

Чарговы план каранацыі Вітаўта ўзнік, верагодна, у другой палове 1428 г., падчас наведвання Польшчы і Літвы імператарскімі пасламі. Было прынята рашэнне аб скліканні супольнага з'езда, на якім павінен быў быць разгледжаны шэраг важных пытанняў. Той факт, што Жыгімонт Люксембургскі прапаноўваў правесці гэты з'езд без удзелу палякаў, сведчыць пра магчымы намер імператара інспіраваць пытанне каранацыі Кейстутавіча. Апошні адхіліў гэтую прапанову, аднак па яго ініцыятыве месцам правядзення з'езда быў выбраны Луцк[1].

На з'ездзе, які распачаўся ў студзені 1429 г., і грымнула так званая "каранацыйная бура", якая магла кардынальна змяніць лёсы Вялікіга Княства Літоўскага. У Луцк з'ехаліся імператар Жыгімонт, Ягайла, прускі і лівонскі магістры, папскі легат, многія рускія князі – Васіль II Маскоўскі, Барыс Цвярскі, князі Разанскія, Адоеўскія і інш. Прысутнічалі мітрапаліт Фоцій, прадстаўнікі Перакопскай і Заволжскай ордаў. Вітаўт, выступаючы на з'ездзе як гаспадар, вырашыў уразіць сваіх тытуляваных гасцей, наладзіўшы ім пышны прыём[2]. На з'ездзе планавалася разгледзець малдаўскае і гусіцкае пытанні, польска-крыжацкія, польска-люксембургскія праблемы і, нарэшце, план каранацыі Вітаўта. Чэшскае пытанне і звязаная з ім праблема палітычнай прыналежнасці Сілезіі, вакол чаго круціўся польска-люксембургскі канфлікт, вырашаны не былі. Не сустрэла падтрымкі ў Ягайлы і Вітаўта і прапанова імператара арганізаваць сумесную выправу супраць Малдавіі, якая абвінавачвалася ў рабаўнічых набегах, парушэнні дамоўленасцей і неаказанні дапамогі Жыгімонту Люксембургскаму ў яго паходзе супраць туркаў[3]. Такім чынам, каранацыйнае пытанне стала на з'ездзе галоўным. Падчас аднаго з візітаў да Вітаўта (23 студзеня?) Жыгімонт Люксембургскі афіцыйна

---

[1] *Błaszczyk G.* Burza koronacyjna. S. 38–42.

[2] *Греков И.Б.* Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV–XVI вв. С. 117–118.

[3] *Długosz J.* Roczniki... Ks. 11. S. 262.

прапанаваў яму карону Літвы. Неўзабаве была атрымана і згода на каранацыю Кейстутавіча з боку Ягайлы, які быў заспеты адзін, без дарадцаў, што маглі б паўплываць на рашэнне караля.

Адразу ж пасля атрымання каралеўскай згоды адбыліся дзве рады – ВКЛ і Польшчы, прычым калі на першай ідэя каранацыі Вітаўта выклікала буру радасці і задавальнення, то на другой – непрыхаванае абурэнне. На сумесным пасяджэнні, якое пачалося адразу пасля гэтага, палякі, рупарам якіх стаў З. Аляснiцкі, абвінавацілі літвінаў у невыкананні ўмоў крэўскага акта і далейшых уній. Пад націскам палякаў Ягайла адмовіўся ад першапачатковай згоды на каранацыю. Абураная польская дэлегацыя пакінула Луцк, што адбылося, верагодна, 25 студзеня. Гэта стала пачаткам польска-літвінскага канфлікту[1].



Замак у Луцку

Важнай іскрай для раздзімання полымя канфлікту стаў ліст, высланы ў канцы студзеня з польскай канцылярыі Жыгімонту Люксембургскаму. Яго тэкст быў прасякнуты выразнымі інкарпарацыйнымі ідэямі, абвяшчалася пра канчатковую адмову Ягайлы ад згоды на каранацыю Вітаўта і прапаноўвалася зрабіць тое ж самае імператару. Сам ліст, дзе змяшчалася разгорнутая аргументацыя супраць надання Кейстутавічу каралеўскага тытула, раскрываў сапраўднае аблічча кіруючых колаў Польшчы ў дачыненні да Вітаўта і сведчыў пра яе намеры поўнага паглынання ВКЛ. Імператар не толькі даў адмоўны адказ на ліст, як таго і трэба было чакаць, але выслаў яго Вітаўту. Змест ліста толькі ўмацаваў патрыятычныя настроі Кейстутавіча і яго жаданне дзейнічаць “наперакор палякам”[2].

Згаданы ліст быў зачытаны на нарадзе вялікакняскай рады ў Ейшышках, што адбылася 13 лютага 1429 г. Пад яго ўплывам нарада, як можна меркаваць, набыла такі ж характар, як салінскі з’езд 1398 г., калі Вітаўт запытаў літвінаў, ці жадаюць яны быць падданымі палякаў і плаціць ім даніну. На гэта ўказвае змест двух лістоў, высланых вялікім

---

[1] *Błaszczyk G.* Burza koronacyjna. S. 46–58; *Długosz J.* Roczniki... Ks. 11. S. 268–271.

[2] *Ochmański J.* Historia Litwy. S. 83; *Błaszczyk G.* Burza koronacyjna. S. 60–66; *Krzyżaniakowa J., Ochmański J.* Władysław II Jagiełło. S. 289.

князем імператару і Ягайле. У лістах выказвалася абурэнне як прыніжэннем статуса ВКЛ, так і недаверам да яго. Гэты недавер вынікаў з факта звароту да імператара як да трацейскага суддзі ў "дамовых" справах стрыечных братоў. Адначасова даводзілася, што Гарадзельская унія агаворвала толькі парадак выбараў чарговых манархаў пасля смерці іх папярэднікаў, але не змяненне іх статуса[1].

27 сакавіка з Польшчы прыбыло пасольства, якое спрабавала адгаварыць Вітаўта ад яго планаў, але безвынікова. 17 красавіка ў Юрбарку адбыўся з'езд Вітаўта і вялікага магістра Тэўтонскага ордэна Паўла фон Русдорфа, што сведчыла пра збліжэнне Кейстутавіча з крыжакамі.

У ліпені 1429 г. ў Сандаміры адбыўся з'езд польскіх паноў, на якім была выпрацаваны праект новага пасольства да Кейстутавіча з прапановай яму кароны, але кароны польскай. Адны даследчыкі лічаць, што пры гэтым планавалася прымусовае адхіленне ад улады Ягайлы, іншыя – што ён сам пагадзіўся на такі крок. Аднак пасля смерці Вітаўта трон павінны былі заняць Ягайлавічы.

Пасольства ў складзе кракаўскага біскупа З. Алясніцкага і кракаўскага ваяводы Я. Тарноўскага Вітаўт прыняў, але прапанова палякаў была адхілена[2]. Вялікі князь адказаў, што "прыняцце кароны Польскага Каралеўства пасля адабрання яе ў брата з'яўляецца для яго срамотнай ганьбай". Сярод іншых прычын адмовы вялікага князя гісторыкі называюць яго магчымую кампраметацыю на міжнароднай арэне, сярод літоўскіх феадалаў, а таксама жаданне атрымаць моцную, рэальную ўладу, якую польская карона тады ўжо забяспечыць не магла. Акрамя таго, уся папярэдняя знешнепалітычная дзейнасць Вітаўта сведчыла, што ён калі і бачыў сябе каралём, то каралём Літвы і Русі[3].

З мэтай перацягнення на свой бок папы Марціна V, які і без таго схіляўся на бок Польшчы, польскія кіруючыя колы звярнуліся да Кракаўскай акадэміі з просьбай юрыдычнага абгрунтавання сваёй пазіцыі. У выніку восенню 1429 г. з'явіўся трактат (так званы кракаўскі кансіліум), які адмаўляў Жыгімонту Люксембургскаму ў праве раздаваць кароны. Падставай для гэтага паслужыла тое, што Жыгімонт фармальна з'яўляўся толькі рымскім каралём, што давала права на імператарскі тытул, але самога абраду каранацыі на імператара ён не праводзіў. Такі абрад Люксембург правёў толькі ў 1433 г. У шырокім сэнсе "кансіліум" абазначаў прызнанне польскай юрыдычнай навукай прыярытэту духоўнай улады над свецкай.

Адказам паслужылі два кансіліумы ў падтрымку рымскага караля – Яна Баптысты Цігалі і Венскі. Яны абгрунтоўвалі імператарскія паўнамоцтвы Жыгімонта. Пытанне ўладных паўнамоцтваў і праблема каранацыі Вітаўта ўздымалася і на імперскім рэйхстагу ў Прэсбургу ў снежні 1429 г. Гэта быў крытычны момант для Люксембурга, які быў абвінавачаны ў нясдольнасці вырашыць гусіцкую праблему і ледзь не пазбавіўся кароны. Разгляд пытання каранацыі Вітаўта быў адкладзены на веснавы рэйхстаг у Нюрнбергу[4]. Адначасова палякі разгарнулі бурную дзейнасць

---

[1] *Błaszczyk G.* Burza koronacyjna. S. 67–80.
[2] *Długosz J.* Roczniki... Ks. 11. S. 278–282.
[3] *Błaszczyk G.* Burza koronacyjna. S. 80–98; *Kochanowski J.K.* Witold wielki książe litewski. S. 201.
[4] *Błaszczyk G.* Burza koronacyjna. S. 99–108.

па прадухіленні каранацыі. На сакавіцкім з'ездзе ў Ельні ВКЛ была абвешчана спадчынай Ягайлы і яго нашчадкаў; пра элекцыю новага вялікага князя пасля смерці Вітаўта ўвогуле не згадвалася. Рэакцыяй на гэты крок было ўзмацненне Вітаўтам замкаў на польскай мяжы і пошук збліжэння з крыжакамі. Наступнай мерай, прынятай польскім бокам, была апеляцыя на дзеянні Жыгімонта Люксембургскага і Вітаўта, складзеная на Нюрнбергскім рэйхстагу ў красавіку 1430 г. Працягвалася "канцылярская вайна", дзе кожны з бакоў адстойваў сваю рацыю ў шматлікіх лістах[1].

Між тым ішла падрыхтоўка каранацыі, прызначанай на 8 верасня. Да таго часу ў Літву неабходна было даставіць кароны для Вітаўта і яго жонкі Ганны. У ліпені 1430 г. з Вены да Кейстутавіча выехала пасольства з важнымі каранацыйнымі дакументамі. Аднак на пачатку жніўня яно было затрымана палякамі, што арганізавалі з гэтай мэтай блакаду межаў ВКЛ. Сярод адабраных у паслоў дакументаў быў праект саюзу Германіі, Чэхіі, Венгрыі, Ордэна і Літвы, які, на думку польскіх гісторыкаў, меў антыпольскую скіраванасць. Па адной з версій, канфіскавана была і сама карона; пазней яна была рассечана на дзве часткі і далучана да кароны кракаўскага біскупа[2]. Па другой версіі, больш верагоднай, карону, выробленую ў Нюрнбергу, везла другое пасольства, на чале з магдэбургскім арцыбіскупам Гюнтэрам II фон Шварцбургам. Дазнаўшыся пра лёс сваіх папярэднікаў, яно нібыта павярнула назад і спадзявалася даставіць карону пазней іншым шляхам[3].

Палякі выкарысталі затрымку для таго, каб канчаткова перацягнуць на свой бок папу. Існуе версія, не падмацаваная крыніцамі, што польскія паслы яшчэ 8 верасня, г.зн. у дзень, прызначаны для каранацыі, прапаноўвалі Вітаўту прыняць літоўскую карону з папскіх рук, пры ўмове што пасля смерці Кейстутавіча яна пяройдзе да таго з сыноў Ягайлы, хто стане і каралём Польшчы. Такім чынам, нібыта прапанавалася захаваць унію, але унію цалкам раўнапраўную. Так ці іначай, але ў вызначаны тэрмін карона да Вітаўта не прыбыла. Каранацыя была перанесена на 29 верасня, аднак чаканні састарэлага валадара зноў аказаліся марнымі. Ён яшчэ вёў перамовы з імператарам аб шляхах дастаўкі кароны, але каранацыйныя турботы, спадзяванні і расчараванні аказаліся для яго занадта цяжкімі. 27 кастрычніка Вітаўт памёр[4].

Вітаўт увайшоў у гісторыю як самы легендарны ўладар Вялікага Княства Літоўскага, арэол вакол якога пачалі ствараць яшчэ яго сучаснікі[5]. Вітаўту ўдалося вырашыць амаль што ўсе знешнепалітычныя праблемы, якія дасталіся яму ў спадчыну. Дзейнасць гэтага вялікага князя пачалася ў надзвычай неспрыяльных умовах фактычнай страты Вялікім

[1] *Błaszczyk G.* Burza koronacyjna. S. 108–130.
[2] ПСРЛ. Т. 17. СПб., 1907. К. 527–528.
[3] *Długosz J.* Roczniki... Ks. 11. S. 299–303.
[4] *Ochmański J.* Historia Litwy. S. 83; *Błaszczyk G.* Burza koronacyjna. S. 130–161.
[5] Найбольш панегірычна выказваецца так званая "Пахвала вялікаму князю Вітаўту": ПСРЛ. Т.17. К. 176–178; маюцца таксама хвалебныя характарыстыкі замежных аўтараў XV ст.: *Długosz J.* Roczniki... Ks. 11. S. 317–318; *Niemcewicz J.U.* Zbior pamiętników historycznych o dawnej Polsce z rękopismow, tudzież dzieł w różnych językach o Polsce wydanych, oraz z listami oryginalnymi królów i znakomitych ludzi w kraju naszym. T. I. Warszawa, 1822. S. 8.

Княствам незалежнасці і інкарпарацыі ў склад Польшчы. Аднавіўшы суверэннасць дзяржавы дэ-факта, ён да самай смерці імкнуўся зрабіць гэта дэ-юрэ. Вітаўту ўдалося зрабіць тое, што не ўдалося зрабіць іншым вялікім князям, яго папярэднікам: пры ім Вялікае Княства не толькі дасягнула максімальнага тэрытарыяльнага росту, але было на роўных прызнана на міжнароднай арэне, а з ягоным уладаром лічыліся самыя магутныя манархі Еўропы. Тэўтонскі ордэн, барацьба з якім цягнулася амаль 200 гадоў, быў аслаблены і не ўяўляў ніякай пагрозы для ВКЛ. Цяпер само яго існаванне ў Прыбалтыцы магло б быць пастаўлена пад сумненне, калі б не намеры Вітаўта мець тут супрацьвагу амбіцыям Польшчы.

Вельмі блізка знаходзіўся Вітаўт ад канчатковага вырашэння "агульнарускай" праграмы, якую сфармуляваў яшчэ Альгерд у славутай формуле: "Уся Русь павінна належаць Літве". Выдатны расійскі гісторык М. Карамзін адзначаў: "Гэты князь, тады самы слаўны з Гаспадароў паўночнай Еўропы, быў для нашай айчыны [Расіі] страшнейшым за Гедыміна і Альгерда, сваімі заваёвамі сціснуўшы межы Расіі на поўдні і захадзе; у целе малым меў душу вялікую... З ім, па словах гісторыка польскага [Длугаша] зазззяла і зацьмілася слава народа літоўскага, на шчасце Расіі, якая без сумнення загінула б навекі, калі б Вітаўтавы пераемнікі мелі ягоны розум і славалюбства"[1].

Аднак нягледзячы на грандыёзныя поспехі, Вітаўт не здолеў зрабіць апошні крок, які падсумаваў бы ўсе яго намаганні, – не здолеў ператварыць Вялікае Княства Літоўскае ў каралеўства, што замацавала б яго статус, роўны са статусам іншых наймагутнейшых дзяржаў Еўропы. Без гэтага набыткі Кейстутавіча так і засталіся толькі яго персанальнымі набыткамі, не стаўшы падмуркам для далейшага росту магутнасці гаспадарства. Смерць магутнага гаспадара азначала для Вялікага Княства завяршэнне найбольш слаўнага перыяду. У далейшым у дзяржаве пачаліся ўнутраныя канфлікты, а аднаўленне персанальнай уніі з Каронай Польскай пры Казіміры прывяло фактычна да адмовы ад правядзення ВКЛ самастойнай актыўнай знешняй палітыкі.

## 5. Грамадзянская вайна 1430-х гг. і аднаўленне дынастычнай уніі з Каронай Польскай

**Прыход да ўлады Свідрыгайлы і абвастрэнне адносін з Польшчай.** Згодна з беларуска-літоўскімі летапісамі і нямецкімі хронікамі, пасля смерці Вітаўта Ягайла сам як вярхоўны суверэн ВКЛ вызначыў вялікім князем свайго роднага брата Свідрыгайлу (Баляслава). Баяры і князі, што з'ехаліся ў Вільню з усёй Літвы і Русі, таксама адзінагалосна абвясцілі яго сваім гаспадаром. Аднак для паноў-рады Польскай Кароны, якая лічыла Літву часткай каралеўства, такі ўладар на віленскім стале быў непрымальны, асабліва пасля іх нядаўняга канфлікту з Вітаўтам ("каранацыйнай буры").

Свідрыгайлу добра ведалі на беларускіх і ўкраінскіх землях як заўзятага Вітаўтавага саперніка. Гэта была яркая і неардынарная асоба. Паз-

[1] *Карамзин Н.М.* История государства Российского: В 12 т. Т. 4–6. С. 308–309.

ней нядобразычліўцы, найперш Ян Длугаш, а пад яго ўплывам і аўтары некаторых беларуска-літоўскіх летапісаў[1], малявалі яго неўраўнаважаным і недалёкім чалавекам, інтрыганам, схільным да п'янства і шаленства. Аднак цяжка паверыць у словы гэтага храніста – заядлага каталіка і гарачага польскага патрыёта, адзначаў яшчэ Я. Каро[2], асабліва калі ўлічыць, што за Свідрыгайлу аднолькава горача ўступаліся як русіны, так і Нямецкі ордэн. Жанаты з дачкой цвярскога князя, Свідрыгайла дэманстраваў выразную зычлівасць да праваслаўнай царквы. Яго выступленні супраць Ягайлы і Вітаўта ў 1393 г. у Віцебску, у 1402 г. на Падоллі, у 1406 г. у Ноўгарадзе Северскім, Бранску і Старадубе заўсёды апіраліся на русінаў, якія бачылі ў Свідрыгайлу абаронцу сваіх інтарэсаў. Невыпадкова Ян Длугаш падкрэсліў, што гэты Альгердавіч, хоць сам быў каталіком, парадаксальным чынам "большую прыхільнасць выяўляў да веры" русінаў. З-за аднаго гэтага панаванне такой асобы паставіла б пад пытанне поспехі 30-гадовай дзейнасці рыма-каталіцкага касцёла ў ВКЛ. З улікам жа выразнай тэндэнцыі Вялікага Княства да ўмацавання сваёй самастойнасці прыход Свідрыгайлы да ўлады не абяцаў польска-літоўскай уніі ніякіх добрых перспектыў.



Замак у Камянцы-Падольскім

Праблемы адносін паміж Кракавам і Вільняй спадзяваліся рэгуляваць шляхам сустрэч і нарадаў. Тытулуючыся вялікім князем "з Божай ласкі", 7 лістапада Свідрыгайла сам паабяцаў летам наступнага года вырашыць спрэчкі на з'ездзе з палякамі[3]. Аднак пакуль Ягайла быў у Літве, каронная рада без яго ведама сілай авалодала Камянцом і Падоль-

[1] Уражвае, напрыклад, прадлугашаўская характарыстыка, дадзеная Свідрыгайлу ў Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай. Гл.: ПСРЛ. Т. 32. М., 1982. С. 81.
[2] *Caro J.* Geschichte Polens. Th. 4. S. 4.
[3] *Kolankowski L.* Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. T. 1 (1377–1499). S. 166.

скам. Так у напружаных адносінах паміж дзяржавамі асцярожная палітыка караля была сарваная адкрытым выклікам каронных паноў. Ягайла выслаў суровы загад, каб захоплены горад і Падолле былі вернуты камісару вялікага князя літоўскага. Зрываючы выкананне загаду, паны кароннай рады пайшлі на фальшаванне дакументаў, абвясціўшы, што кароль арыштаваны Свідрыгайлам, а гэтае распараджэнне выдаў пад прымусам у няволі.

Спрэчкі за Падолле ўжо ў канцы 1430 г. перараслі ва ўзброеную барацьбу. Свідрыгайла са свайго боку прыняў захады па ўтрыманні памежных замкаў пад сваёй уладай. Былі заняты Уладзімір, Гародля, Збараж. Гэта выклікала разрыў паміж Свідрыгайлам і Ягайлам ды іх напружаныя перамовы.

Рыхтуючыся да вайны, Свідрыгайла шукаў саюзнікаў. Адным з першых стаў малдаўскі ваявода Аляксандр. Адпаведную дамову падпісалі з колішнім Вітаўтавым стаўленікам татарскім ханам Улуг-Мухамедам. Яшчэ на пачатку 1431 г. быў падпісаны мірны дагавор і з Вялікім Ноўгарадам. Дзякуючы стараням Жыгімонта Карыбута вымалёўваўся нават альянс з гусітамі, аднак замест ерэтыкоў каталік Свідрыгайла выбраў куды больш важнага саюзніка – імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі. Жыгімонт Люксембургскі падтрымаў вялікага князя літоўскага і абяцаў яму каралеўскую карону. Бакі абмяняліся пасольствамі. За Свідрыгайлу ў яго канфлікце з Польшчай гатовы быў уступіцца і Нямецкі ордэн, магістру якога імператар рэкамендаваў пайсці на цеснае збліжэнне з вялікім князем літоўскім. У чэрвені 1431 г. Свідрыгайла падпісаў абаронча-наступальны саюз з вялікім магістрам Нямецкага ордэна Паўлам Русдорфам (1422–1441), скіраваны супраць Польскага Каралеўства і гусітаў.

Польская магнатэрыя не збіралася саступаць Свідрыгайлу, які пайшоў на самае цеснае збліжэнне з яе даўнім ворагам. Яшчэ ў лютым 1431 г. на з'ездзе ў Сандаміры паны-рада абвінавацілі Ягайлу ў самавольным прызначэнні вялікага князя літоўскага і прадыктавалі ўмовы, на якіх яны маглі б цярпець Свідрыгайлу: той мусіў нанова папрасіць паўнамоцтваў на вялікакняскую ўладу паводле гарадзельскіх артыкулаў, пасля чаго саступіць Кароне землі Падолля, Валынь і Луцк. Натуральна, Свідрыгайла адмовіўся прымаць такія ўмовы, пасля чаго з абодвух бакоў пачалася падрыхтоўка да ваенных дзеянняў.

У чэрвені 1431 г. Ягайла абвясціў ВКЛ вайну і накіраваў свае войска на Валынь. У ліпені 1431 г. польская армія падышла да валынскай сталіцы Луцка і сутыкнулася з нешматлікімі фарміраваннямі Свідрыгайлы, які пасля бітвы адступіў. Затое Луцкі замак на чале са старостам Юршам увесь жнівень трымаў аблогу, пакуль Ягайла са Свідрыгайлам не падпісалі двухгадовае замірэнне, якое тычылася і саюзнікаў (Нямецкага ордэна і малдаўскага ваяводы).

Каронная рада рыхтавалася пасля заканчэння тэрміну гэтай дамовы абвясціць вайну Ордэну. Да яе пачатку важна было заручыцца дапамогай саюзнікаў ці нейтралітэтам суседзяў. Свідрыгайла ж перад пагрозай новага польскага націску аднавіў дагавор з немцамі: 15 мая 1432 г. у Хрыстмемелі прадстаўнікі ордэнскага кіраўніцтва, рыцарства, прускіх ды інфлянцкіх гарадоў, з аднаго боку, а таксама баяры і гарады Літвы ды Русі,

з другога, сваімі подпісамі пацвердзілі саюз паміж Вялікім Княствам і Нямецкім ордэнам.

**Змена кіраўніцтва ВКЛ.** Тым часам у самім Вялікім Княстве сфаміравалася моцная апазіцыя Свідрыгайлу. Перспектыва поўнага разрыву з Польшчай ды страта палітычнай манаполіі, гарантаванай Гарадзельскім прывілеем, выклікала актыўнае супрацьдзеянне літоўскага баярства, якое падтрымлівала унію. Трывога каталіцкага духавенства не была дарэмнай. Свідрыгайла адразу пасля прыходу да ўлады парушыў 9-ы артыкул Гарадзельскай уніі 1413 г. і стаў раздаваць русінам важныя дзяржаўныя пасады, акружаючы сябе «схізматыкамі». Кракаўскі біскуп Збігнеў Алясніцкі ў 1432 г. абурана пісаў, што ў ВКЛ «русіны ўзялі перавагу над літоўцамі, яны трымаюць у сваіх руках амаль усе найважнейшыя гарады і пасады, чаго не бывала пры нябожчыку Вітаўту». Не маглі дараваць Свідрыгайлу і тыя, хто быў пры ўладзе ў гады княжання Вітаўта, але страціў яе пасля прыходу Вітаўтавага саперніка.



Ягайла. Надмагілле ў кракаўскім Вавелі

Апазіцыя Свідрыгайлу сама па сабе, аднак, наўрад ці адважылася б замахнуцца на манарха. План дэтранізацыі нежаданага князя выспеў у кароннай радзе[1], якая актыўна рыхтавалася да вайны з Ордэнам. Палякам важна было перацягнуць Свідрыгайлу на свой бок або хоць заручыцца яго нейтральнасцю. Але ўсе старанні іх дыпламатыі натыкаліся на цвёрдасць літоўскага князя; ён ні пры якіх умовах не жадаў зрываць саюз з немцамі. "Нічога на свеце не можа нас з вамі разлучыць"[2], – пісаў ён вялікаму магістру, а палякам катэгарычна адказаў, што ў выпадку іх нападу на Ордэн ён разам з татарамі ўдарыць па Кароне[3].

Калі не ўдавалася разарваць саюз вялікага князя з Ордэнам – заставалася вывесці з гульні яго самога. Вядома, што польскае пасольства на чале з серадскім ваяводам Зарэмбам Ваўрынцом, высланае ў ВКЛ 30 мая 1432 г., мела тайнае даручэнне падбухторыць літоўскіх князёў і баяр, каб тыя "не далі Свідрыгайлу панаваць". 20 ліпеня каронная пасольства зноў наведала ВКЛ з такім самым заданнем. Прапольская партыя ў Вялікім Княстве прыгатавалася да выступу і чакала сігналу. Знак быў пададзены напрыканцы лета, калі Свідрыгайла з жонкай і дваровай чэляддзю выбіраўся на нараду з Ягайлам у Берасце. Замах

[1] Сам Свідрыгайла вінаваціў у аўтарстве вайны за Луцк і ўсіх канфліктаў гнёзненскага арцыбіскупа Ястрабца, кракаўскага біскупа Алясніцкага ды іншых паноў кароннай рады.
[2] LUB. T.VIII, 530.
[3] Там жа, 532.

на вялікага князя адбыўся ўначы з 31 жніўня на 1 верасня 1432 г. у Ашмянах. Напад ажыццявілі яго стрыечны брат Жыгімонт Кейстутавіч, што быў князем у Старадубе, і Сымон Гальшанскі, здаўна блізкі да Кейстутавічаў. У апошні момант папярэджаны Івашкам Манівідавічам, Свідрыгайла здолеў уратавацца і ўцёк у Полацк, а яго жонка і чэлядзь трапілі ў няволю.

Вільня, Трокі, Коўна, Гародня і Жамойць прызналі ўладу Жыгімонта Кейстутавіча, чаму паспрыяла рыма-каталіцкае духавенства. Пазней сілай яму было падпарадкавана і Берасце. У выніку ўласна Літва і частка Заходняй Беларусі пайшлі за Жыгімонтам. Валоданне Вільняй давала яму падставы на ролю вялікага князя. Аднак Полацкая, Віцебская і Смаленская землі, а таксама ўся Украіна не прызналі яго і па-ранейшаму лічылі сваім вялікім князем Свідрыгайлу. Так дзяржава часова падзялілася на Літву і Русь: як адзначыў аўтар Хронікі Быхаўца, "князі і панове літоўскія пры дапамозе караля Ягайлы ўзялі сабе гаспадаром вялікага князя Жыгімонта", а "князі рускія і баяры пасадзілі князя Свідрыгайлу на вялікае княжанне Рускае"[1].

Атрымаўшы ўладу пры дапамозе палякаў, Жыгімонт адразу ж пайшоў на аднаўленне уніі з Польскай Каронай, падпісаўшы яе ў Гародні 15 кастрычніка таго ж года[2]. Паводле новай дамовы, Ягайла як вярхоўны суверэн ("princeps supremus") Літвы перадаў Жыгімонту Кейстутавічу ВКЛ толькі на пажыццёвае валоданне, за што той абавязаўся дапамагаць Кароне ў кожнай патрэбе, а пасля смерці Жыгімонта ўсе землі ВКЛ меліся перайсці ва ўладанне Польскага Каралеўства ("Вялікае Княства Літоўскае і належныя да яго землі разам з Руссю да таго ж караля Уладзіслава, яго дастойных сыноў Уладзіслава ды Казіміра і іх наступнікаў, а таксама да кароны Каралеўства Польскага павінны вярнуцца згодна з правам дзедзічным"). Толькі Трокі як дамен вялікага князя заставаліся яго дзецям, але на ўмовах лена. Жыгімонт адрокся ад усялякіх правоў на Падолле, а Валынь была раздзелена паміж Каронай і Княствам. У знешняй палітыцы ён абавязаўся разарваць усе міжнародныя дамовы, заключаныя Свідрыгайлам, і ніколі не ісці на антыпольскія інспірацыі.

Хоць, як адзначалі многія даследчыкі (А. Лявіцкі, М. Грушэўскі, А. Капысцянскі), у тэксце Гарадзенскай уніі 1432 г. засталася саступка літоўскім панам (двойчы згадваліся будучыя вялікія князі літоўскія, на абранне якіх патрабавалася двухбаковая згода), яе падпісанне стала трыумфам польскай інкарпарацыйнай палітыкі. Пасля уніі 1413 г., якая прадугледжвала адносна раўнапраўныя адносіны Кароны і Княства, цяпер становішча апошняга было зніжана да статуса польскага лена. Гарадзенскі акт легітымізаваў уладу Жыгімонта Кейстутавіча ў Вялікім Княстве, пазбаўляючы бунтоўнага Свідрыгайлу ўсялякіх прэтэнзій на яе, але па смерці Жыгімонта ўся ўлада мела перайсці да Ягайлавічаў. Менавіта так разумелі унію 1432 г. польскія паны, у ратыфікацыйным акце якіх праз пяць гадоў зазначалася, што літоўскія замкі могуць быць аддадзены толькі тым, хто прысягне, што пасля смерці Жыгімонта верне іх польскаму каралю.

---

[1] ПСРЛ. Т. 32. С. 154.
[2] *Барвінський Б.* Жигимонт Кейстутович. Жовква, 1905. Додаток № 1.

**Пачатак грамадзянскай вайны.** Тым часам звергнуты Свідрыгайла зусім не лічыў сваю справу прайгранай. Ён меў уладу вялікага князя ў землях-анексах, але нават на тэрыторыі Літвы сацыяльныя нізы (у большасці праваслаўнай веры) былі яго прыхільнікамі. Апіраючыся пераважна на Полацк, ужо восенню 1432 г. Свідрыгайла пачаў ажыццяўляць паходы на падуладныя Жыгімонту землі. У лістападзе дэтранізаваны вялікі князь з палачанамі і смалянамі дайшоў да Вільні, валоданне якой было вырашальным у барацьбе за страчаны стол. Аднак 8 снежня пад Ашмянамі яму давялося даць бітву арміі Жыгімонта Кейстутавіча. Сеча доўжылася да ночы і скончылася яго паражэннем[1]. Свідрыгайла мусіў зноў адступіць у свае надзейныя тылы – да Полацка (хоць вялікаму магістру напісаў, што гэта ён перамог Жыгімонта).

На канфлікт у ВКЛ спрабаваў уплываць Базельскі сабор, які прапанаваў варагуючым бакам сваё пасрэдніцтва. На пачатку 1433 г. спецыяльнае пасольства сабора, узначаленае біскупам Дэльфінам, спрабавала памірыць Карону з Нямецкім ордэнам. Але ўсе яго старанні сышлі на марна, адно што былі ясна акрэслены патрабаванні абодвух бакоў: палякі, як і раней, хацелі вяртання Памор'я, Хелмінскай і Міхалаўскай зямель, а таксама кампенсацыі за страты ў суме 400 000 грыўнаў, а немцы настойвалі на прызнанні наяўных межаў ордэнскіх уладанняў, вяртанні Свідрыгайлу Альгердавічу вялікакняскага стала і разрыве саюзу палякаў з чэшскімі ерэтыкамі[2].

Пасля гучнага паражэння Свідрыгайлы пад Ашмянамі яго галоўны саюзнік Павел Русдорф пачаў праводзіць двудушную палітыку. З аднаго боку, ён праз ганцоў надалей падахвочваў звергнутага літоўскага князя, у лістах да імператара і на сабор пісаў, што мусіць ратаваць Свідрыгайлу, з другога ж боку, трактаваў яго як ужо асуджанага, якому, каб вырашыць праблему, можна даць “пару далёкіх закуткоў зямлі”[3]. Верагодна, на магістра ўплывала мабілізацыя ў Польшчы і асабліва ў Чэхіі. Геранім Пражскі на саборы ў Базелі пагражаў Ордэну нападам двухсоттысячнай арміі ерэтыкоў (хоць у рэальнасці армія гусітаў ледзь дасягнула 6–7 тыс.). Галоўную паслугу для Польшчы гусіты зрабілі яшчэ ў верасні 1432 г., калі напісалі пагрозлівы ліст Русдорфу і забяспечылі яго неўмяшанне ў справы дэтранізаванага Свідрыгайлы.

Страціўшы арыентацыю ў палітыцы Мальбарка і жадаючы дапамагчы Свідрыгайлу, зімой 1433 г. інфлянцкі магістр ажыццявіў грабежніцкі набег на землі Жамойці[4]. Адказнасць за гэты дзесяцідзённы паход у стылі даўніх рабаўнічых рэйзаў, які нікому не прынёс жаданых вынікаў, лягла на ўвесь Ордэн. Яго вынікам стаў напад жамойтаў на Прусію ў цяжкі для Ордэна момант, калі пасля падпісання канчатковага пагаднення паміж Польскай Каронай і гусітамі (красавік 1433) палякі з чэхамі летам ударылі па Новай Марцы і Усходнім Памор'і.

---

[1] У Пскоўскім летапісе гэтая бітва апісваецца як вельмі значная і стратная (праўда, яна датавана днём 8 снежня 1433 г.): “и бысть сеча и бой велик, и побегну князь Свитригайло с побоища к Полотьску, а князь Жиднмонт ста на костех, а паде рати много и того князя и сего князя, у Свитригаила падоша полочани, а инех много руками поимаша” (Псковская летопись. Т. 1. 1941. С. 40).

[2] SRP. Bd. 3. S. 499, 1.

[3] *Caro J.* Geschichte Polens. Th. 4. S. 55.

[4] SRP. Bd. 3. S. 499.

Князь Свідрыгайла, хоць абяцаў вялікаму магістру выступіць супраць агульнага ворага вялікай арміяй (да яго сіл з Беларусі меліся далучыцца аддзелы Федзькі Астрожскага і татары), распачаў дзеянні толькі ў канцы жніўня. Агульная сітуацыя ў Вялікім Княстве была дастаткова спрыяльнай для яго, бо неапраўданай жорсткасцю Жыгімонт Кейстутавіч аслабіў сваю партыю, настроіўшы супраць сябе многіх літоўскіх паноў. Праўда, да Свідрыгайлы прывялі сваю дапамогу толькі інфлянцкі магістр і цвярскі князь Ярослаў Аляксандравіч. Іх сілы злучыліся пад Браславам і, не сустракаючы істотнага супраціўлення, лёгка дайшлі да Ашмянаў, Вільні і Трокаў. Праціўнік ухіляўся ад вялікай бітвы, тоячыся ў гарадах і лясах ды чакаючы лепшых часоў. А Свідрыгайла не стаў браць гарадоў. Пасля нязначнай сутычкі было ўзята Заслаўе і захоплена Крэва, а таксама некалькі неўмацаваных гарадкоў. Так і не дасягнуўшы ніякага важнага выніку, Свідрыгайла ўрэшце мусіў вяртацца і распускаць армію. Спачатку ён прыйшоў у Лукомль, а потым падаўся да Кіева. Безвынікова скончыліся і дзеянні магістра Франка Керскорфа. Калі ў сярэдзіне жніўня 1433 г. ён яшчэ знаходзіўся пад Вільняй[1], дык ужо 19 верасня 1433 г. паведамляў вялікаму магістру, што вяртаецца з ВКЛ са стратамі[2].

Больш паспяхова дзейнічаў князь Фёдар Астрожскі, які быццам захапіў на Валыні шэраг замкаў з польскімі залогамі, а луцкі староста Аляксандр Нос пустошыў Берасцейскі павет, пакуль не пацярпеў паражэнне пад Клецкам ад князя Алелькі[3]. Аднак іх дзеянні не ўплывалі на агульную сітуацыю. Падтрыманы палякамі Жыгімонт Кейстутавіч тым часам ажыццявіў паход у глыб беларускіх зямель. У кастрычніку 1433 г. ён дайшоў да Мсціслава і тры тыдні трымаў горад у аблозе[4], але таксама беспаспяхова.

На землях Беларусі і Украіны звергнуты князь усё яшчэ карыстаўся шырокай падтрымкай, дзякуючы чаму меў колькасную перавагу ў сілах, аднак не ўмеў яе эфектыўна выкарыстаць. Яго асноўнай сацыяльнай базай былі заможныя праваслаўныя роды, якія захавалі вернасць яму як вялікаму князю, тады як Жыгімонт апіраўся галоўным чынам на каталікоў (хоць каталікі былі і на баку Свідрыгайлы, а праваслаўныя баяры – у лагеры Жыгімонта). Гэтая акалічнасць надае вайне быццам бы нацыянальна-рэлігійны характар. У сапраўднасці яна была барацьбой не столькі нацыянальнай, колькі сацыяльнай – змаганнем княжацка-баярскіх партый між сабою. Інтарэсаў шырокіх слаёў насельніцтва яна не кранала. Ні веравызнанне, ні этнічнае паходжанне неігралі ў гэтай вайне вызначальнай ролі. Называючы сябе каталіком, Свідрыгайла ўзначальваў галоўным чынам праваслаўны паводле складу лагер баяр і князёў, але і яны змагаліся не за веру, а за сваё дамінуючае становішча ў дзяржаве. Нездарма сярод яго прыхільнікаў былі і заможныя літоўскія роды каталіцкага веравызнання – тыя, хто выступаў супраць уніі з Польшчай і за саюз з Тэўтонскім ордэнам.

**Дыпламатычная барацьба.** З уварваннем польска-чэшскага войска ў Новую Марку і яго падыходам да Гданьска становішча вялікага магістра

---

1 LUB. T. VIII. 715.
2 Там жа. 724.
3 *Halecki O.* Z Jana Zamoyskiego inwentarza archiwum koronnego. Kraków, 1917. S. 56.
4 ПСРЛ. Т. 32. С. 155.

Русдорфа радыкальна ўскладнілася. Хоць імператар Жыгімонт Люксембургскі надалей патрабаваў ратаваць Свідрыгайлу, як прускі герцаг ён не мог ігнараваць інтарэсы сваіх падданых і мусіў выйсці з канфлікту ў ВКЛ. Пагадзіўшыся на перамовы, 15 снежня 1433 г. у Ленчыцах ён падпісаў замірэнне з Каронай на 12 гадоў. Прынятыя ўмовы патрабавалі ад Ордэна спыніць вайну і адрачыся ад падтрымкі дэтранізаванага літоўскага князя. Так Свідрыгайла страціў галоўнага саюзніка і застаўся адзін на адзін з Каронай і Літвой Жыгімонта Кейстутавіча.



Імператар Жыгімонт Люксембургскі. Партрэт А. Дзюрэра

Вызначальным для зыходу вайны стаў вялікі земскі прывілей, выдадзены Жыгімонтам 6 мая 1434 г. у Троках. Гэтым актам абвяшчалася раўнапраўе русінаў і літоўцаў у межах цэлай дзяржавы, так што правы, гарантаваныя каталікам Гарадзельскім прывілеем, пашыраліся цяпер на ўсіх падданых незалежна ад іх веравызнання (каталікі захоўвалі манаполію толькі на пасады ваяводы і кашталяна віленскага і трокскага). Два гады назад (1432) такі ж прывілей Ягайла выдаў для Луцкай зямлі[1]. Цяпер і беларуска-ўкраінскае баярства атрымала гарантыі недатыкальнасці сваіх зямельных уладанняў, свабоду распараджэння зямлёй, ільготы ў дзяржаўных павіннасцях, а таксама права на адопцыю рыцарскіх гербаў ад літоўскіх родаў, пабратаных з польскай шляхтай.

У гістарычным плане Трокскі прывілей, выданне якога матывавалася кан'юнктурай барацьбы са Свідрыгайлам, стаў першай пасля 1386 г. законнай асновай раўнапраўя праваслаўных і каталікоў у ВКЛ. Ураўняўшы правы ўсіх зямель дзяржавы, ён спрыяў кансалідацыі ўсяго баярства, аб'яднанню Літвы і Русі. Фактычна гэта быў першы агульнадзяржаўны прывілей, які выдаваўся, як падкрэслівалася ў тэксце, дзеля таго, каб не было няроўнасці і разладу паміж народамі Княства, каб усе ў згодзе дбалі пра агульную дзяржаву.

Прывілей 1434 г. аказаўся фатальнай перашкодай для Жыгімонтавага праціўніка. Свідрыгайла спадзяваўся на дапамогу каталіцкай Еўропы, у вачах якой хацеў быць апекуном лацінскай веры. Карыстаючыся парадай вялікага магістра Паўла Русдорфа (па іншых звестках, магістр перадаў вялікаму князю пасланне саміх айцоў сабора[2]), ён вырашыў звярнуц-

---

[1] Падобны Ягайлаў прывілей, выдадзены праваслаўным баярам 15 кастрычніка 1432 г. у Гародні, не выпадае лічыць правамоцным, бо на ім не было каралеўскай пячаткі.

[2] *Dombrowski L.* Die Beziehungen des Deutschen Ordens zum Baseler Konzil bis zur Neutralitäterklärung der deutschen Kurfürsten. Berlin, 1913. S. 47.

ца да Базельскага сабора і дэкларавaць гатоўнасць прывесці сваіх падданых да уніі. Сабраныя ў Віцебску праваслаўныя паны і баяры 22 сакавіка 1433 г. напісалі ліст у Базель, у якім выказаліся за унію з рымскім касцёлам і рашуча падтрымлівалі правы Свідрыгайлы на вялікакняскі стол. Тады ж Свідрыгайла назваў ордэнскага прадстаўніка на саборы доктара Андрэаса Пфафендорфа сваім асабістым прадстаўніком у Базелі[1].

Ад самога князя на сабор паехала спецыяльная дэлегацыя з дзвюх асоб, узначаленая русінскім паслом Іаанам Перлінгам, які не ведаў лаціны, таму за інтарэсы Свідрыгайлы выступаў пракуратар Нямецкага ордэна Пфафендорф. Упершыню гэта адбылося 16 чэрвеня 1433 г., калі пасланцы Свідрыгайлы з'явіліся перад саборам. Пфафендорф зачытаў згаданы віцебскі ліст русінаў, зацверджаны іх пячаткамі, і пасланне вялікага магістра ад 25 красавіка. Невядома, ці прымалася якое рашэнне, бо ў пратаколе зафіксавана толькі, што легат кардынала выказаў пасланцам князя падзяку сабора[2].

Свідрыгайла сапраўды верыў у магчымасць аб'яднання цэркваў. Гучны ліст з Віцебска ў Базель стаў пралогам яго бурных намаганняў па падрыхтоўцы уніі. Галоўным было атрымаць згоду мітрапаліта Герасіма. Шэраг даследчыкаў дапускалі, што кіеўскі мітрапаліт урэшце пагадзіўся з ідэяй[3], бо ў 1434 г. у Рым ад Свідрыгайлы паехала дэлегацыя, якая засведчыла, што Герасім гатовы з'явіцца ў Апостальскай сталіцы ў справе царкоўнай уніі. Аднак Ёзаф Пузына лічыў, што гэтая дэлегацыя яшчэ нічога не даказвала, а толькі фіксавала праграму вялікага князя. Пасля таго як Жыгімонт Кейстутавіч даў праваслаўным правы каталікоў, валявыя дзеянні Свідрыгайлы па ўвядзенні уніі падрывалі яго аўтарытэт, адштурхоўвалі праваслаўных прыхільнікаў, павялічвалі колькасць незадаволеных. З вясны 1435 г. у лагеры Альгердавіча пачаліся здрады і паўстанні. На чале найбольшай змовы стаў мітрапаліт Герасім[4].

Некалькі праваслаўных князёў з ліку прыхільнікаў Жыгімонта звязаліся з мітрапалітам Герасімам, заявіўшы, што хочуць яго пасрэдніцтва ў пераходзе на бок Свідрыгайлы. Потым, аднак, выявілася, што Герасім быццам рыхтаваў перадачу Смаленска князю Жыгімонту. Здраду выкрыў смаленскі "кашталян" Юры Бутрым (рыма-каталік!). Кіеўскі мітрапаліт быў арыштаваны, завезены ў Віцебск і 28 ліпеня 1435 г. жыўцом спалены на вогнішчы (у Еўропе так каралі ерэтыкоў).

**Паражэнне Свідрыгайлы. Уз'яднанне дзяржавы.** Губляючы прыхільнікаў, Свідрыгайла спяшаўся нанесці вырашальны ўдар па непрыяцелю. Рыхтавалася супольнае выступленне ўсіх антыпольскіх альянтаў. Летам 1435 г. у Памор'і супраць Польшчы мусіў пачаць дзеянні Русдорф, а з поўдня ў каронныя землі збіраўся ўварвацца імператар Жыгімонт Люксембургскі (забягаючы наперад, варта заўважыць, што яго выступленне сарвала польская дыпламатыя.). Дзеянні на трох франтах не дазволілі б палякам прыслаць значную дапамогу свайму літоўскаму са-

[1] *Forstreuter K.* Preussen und Russland. S. 52.
[2] *Dombrowski L.* Die Beziehungen des Deutschen Ordens zum Baseler Konzil... S. 50.
[3] *Caro J.* Geschichte Polens. Th. 4; *Lewicki A.* Powstanie Swidrygiełły. Ustęp z dziejów unii Litwy z Koroną. Kraków, 1892. S. 371.
[4] *Puzyna J.* Switrigail von Litauen. Die politische Bedeutung seiner Erhebung zum Grossfürsten. Freiburg, 1914. S. 128–129.

юзніку і павялічылі б шансы Свідрыгайлы. З Чэхіі праз Мальбарк ды Інфлянты да яго з аддзелам наймітаў – сілезцаў і чэхаў нарэшце прыйшоў Жыгімонт Карыбутавіч, які даўно рваўся на дапамогу брату. У ліпені 1435 г. у Віцебску неўтаймоўны Свідрыгайла пачаў збіраць сілы для генеральнай кампаніі. Да яго беларуска-літоўскіх палкоў і аддзела Карыбутавіча далучылася каля 6 тыс. татар[1]. З Віцебска Свідрыгайла пайшоў да Браслава, дзе сустрэўся з рыцарамі Керскорфа (каля сотні) і адтуль накіраваўся ў Літву Завілейскую. Яго аб'яднаныя сілы ўзначаліў герой гусіцкіх войн князь Жыгімонт Карыбутавіч. Арміяй Жыгімонта Кейстутавіча, складзенай з літоўцаў і палякаў, кіраваў Януш з Кабылян. Яна рухалася насустрач Свідрыгайлу з Вільні.

Сустрэўшыся падІлькамірам, праціўнікі два дні стаялі, раздзеленыя рэчкай Святой. Зыход бітвы немагчыма было прадказаць. Яе лёс вызначыла дробязь: 1 верасня Карыбут распарадзіўся адвесці сваіх на больш выгодныя пазіцыі, але як толькі яго сілы распачалі адыход, Кабылянскі імгненна атакаваў іх. Свідрыгайла пацярпеў поўнае паражэнне і ўцёк у Полацк літаральна «на 30 конех». З 25 князёў, якія былі з ім, 13 загінулі, астатнія разам з тысячамі баяр трапілі ў палон. Як зазначана ў Густынскім летапісе, менавіта ад гэтага паражэння «руские князи начаша оскудевати и обнищевати». Паранены Карыбут найверагодней быў атручаны ў няволі[2]. Загінуў і сам інфлянцкі магістр Керскорф, а яго ордэн панёс таксама вялікія страты. Невыпадкова сучаснікі пісалі, што бітва пад Вількамірам была большай, чым Грунвальдская.

Пасля катастрофы на рацэ Святой Нямецкі ордэн падпісаў у Брэсце Куяўскім «вечны» мір з Ягайлам і Жыгімонтам Кейстутавічам. Вялікі магістр Русдорф адмовіўся ад усялякіх сувязей са Свідрыгайлам і прызнаў уладаром ВКЛ Жыгімонта Кейстутавіча, абавязваючыся і ў будучым прызнаваць толькі таго манарха Літвы, які будзе абраны са згоды Польскага Каралеўства, ды не падтрымліваць вялікіх князёў літоўскіх у іх антыпольскіх захадах. Трактатам пацвярджаліся ранейшыя дзяржаўныя межы паміж бакамі і дэкларавалася свабода гаспадарчых сувязей.

Разбіты князь Свідрыгайла і надалей меў у Полацку і Віцебску трывалую падтрымку. Яшчэ напачатку свайго вялікага княжання ён даў гэтым гарадам у намеснікі князя Міхаіла Іванавіча Гальшанскага і Васіля Сямёнавіча Краснага з друцкіх Рурыкавічаў. Але калі ў 1435 г. Полацк і Віцебск яшчэ адбіліся ад войска Жыгімонта, дык напрыканцы лета наступнага года, не маючы ніякай дапамогі, прызналі яго ўладу[3]. Смаленск падпарадкаваўся Кейстутавічу яшчэ ў 1435 г. Найдаўжэй Свідрыгайла трымаўся на Кіеўшчыне і Валыні. У яго саюзніках заставалася Арда. Хан Улуг-Мухамед прысылаў старому Альгердавічу свае войска, з дапамогай якога той у 1436 г. ваяваў Падолле, а ў 1437 г. разбіў літоўскі аддзел, высланы Жыгімонтам Кейстутавічам для авалодання Кіевам. Пазней Свідрыгайла пакінуў і Украіну, атрымаўшы прыстанішча ў Малдавіі. Толькі пасля смерці Жыгімонта ён вярнуўся на свае землі, пасяліўся ў Луцку на Валыні, дзе і завяршыў свой жыццёвы шлях.

---

[1] *Skrzypek J.* Bitwa nad rzeką Swiętą // PHW. T. X (1938). Z. 1. S. 43.
[2] *Prochaska A.* Książe Husyta // Księga pamiątkowa ku czci B. Orzechowicza. T. 2. Lwów, 1916. S. 273.
[3] Інфлянцкі магістр паведамляў пра гэта Паўлу Русдорфу 15 верасня 1436 г.: LUB. T. IX. N. 102.

Поўную перамогу Жыгімонта летапісец адзначыў як усталяванне яго "на вялікім княжанні на Літоўскім і Рускім", што азначала аб'яднанне дзвюх галоўных частак дзяржавы. У гэтым выявілася і ўмацаванне цэнтралістычнай, "пралітоўскай" арыентацыі насельніцтва беларускіх зямель.

Палітыка Кейстутавіча, які, з аднаго боку, аддаў палякам Падолле, а з другога – пярэчыў Кракаву і, умацоўваючыся на вялікакняскім стале, імкнуўся аслабіць залежнасць ад Польшчы, памножыла партыю ягоных праціўнікаў. Крайняй жорсткасцю да арыстакратыі, як адзначана ў Хроніцы Быхаўца, спробамі падарваць яе пазіцыі і акружыць сябе новымі, асабіста яму адданымі людзьмі Жыгімонт аб'яднаў супраць сябе князёў і баяр абодвух веравызнанняў.

Віленскі і трокскі ваяводы Даўгірд і Лелюша пры падтрымцы князя Аляксандра Чартарыйскага падрыхтавалі замах на вялікага князя. 20 сакавіка 1440 г. яго выканалі згаданы князь Чартарыйскі і кіяўлянін Скабейка, якія таемна праехалі ў Трокскі замак, схаваўшы сваіх людзей у вазах з сенам. Смерцю Жыгімонта абрывалася на вялікакняскім пасадзе лінія Кейстутавага роду. Заставаліся Альгердавічы, але з іх толькі нашчадкі Ягайлы сцвердзілі сваю дынастыю – дынастыю Ягайлавічаў.

Адразу пасля забойства Жыгімонта Кейстутавіча на Валыні зноў з'явіўся Свідрыгайла, які ўжо называў сябе «вярхоўным князем Літвы». Заняць віленскі стол разлічвалі таксама сын Жыгімонта Кейстутавіча князь Міхалюшка (Міхалка) ды Уладзіслаў Ягайлавіч Варненьчык, які з 1434 г. быў каралём Польшчы. Аднак апошні затрымаўся ў венгерскім паходзе. 29 чэрвеня 1440 г. у Вільні рада вяльмож, узначаленая трокскім ваяводам Янам Гаштаўтам, без паразумення з каронНай радай абвясціла вялікім князем 13-гадовага Ягайлавага сына Казіміра.

Непаўналетняму гаспадару Казіміру і яго рэгентам давялося тэрмінова аб'ядноўваць дзяржаву, бо пасля забойства вялікага князя Жыгімонта землі-вобласці зноў "адпалі" ад цэнтра. Жамойць амаль адразу прызнала вялікага князя, хутка прынялі яго і землі Полацкая ды Віцебская, затое на падпарадкаванне Смаленска, дзе з тытулам «гаспадара Смаленскага» засеў Юры Лугвенавіч, новаму манарху давялося пасылаць войска. Урэшце ў 1442 г. мяцежны нашчадак Альгерда ўцёк у Ноўгарад, і смаленскім намеснікам зноў стаў Андрэй Саковіч. Лаяльнасць смалян Казімір Ягайлавіч забяспечыў устаўной граматай, якая замацоўвала мясцовыя нормы і звычаі. Хутка ўдалося замацаваць за цэнтрам і ўкраінскія землі, дзе Кіеўская зямля вярнулася князю Алельку – малодшаму сыну Уладзіміра Альгердавіча, а на Валыні было ўтворана ўдзельнае княства для старога Свідрыгайлы, якому даваўся пажыццёвы тытул вялікага князя.

**Аднаўленне персанальнай уніі з Польшчай.** Самастойным абраннем Казіміра Ягайлавіча на віленскі пасад была аўтаматычна разарвана персанальная унія ВКЛ з Каронай, якую так прынцыпова аднаўляў у 1432 г. Жыгімонт, прыведзены да ўлады з польскай дапамогай. З 1440 г. юрыдычна абедзве дзяржавы Ягайлавічаў зноў нішто не яднала. Але як толькі ў 1444 г. у бітве пад Варнаю згінуў без вестак польскі кароль Уладзіслаў, палякі прапанавалі карону Казіміру як яго малодшаму брату. Радныя паны ў Вялікім Княстве спачатку не дазвалялі вялікаму князю

існі на гэта, але пасля новых прапаноў яны становча паставіліся да перспектывы уніі, бо вызначылі яе ўмовы: у акт аб'яднання не павінна было трапіць ні слова пра інкарпарацыю ці падпарадкаванне, злучэнне магло быць толькі добраахвотным саюзам дзвюх раўнапраўных дзяржаў.

Так у чэрвені 1447 г. са згоды паноў-рады Казімір Ягайлавіч прыняў польскую карону. Заключаная унія мела персанальны характар: вялікі князь літоўскі адначасова з'яўляўся і каралём польскім. Хоць палякі яшчэ неаднаразова патрабавалі вярнуць прававую сілу крэўскага акта, гэта сустракала катэгарычны супраціў у Вільні. Але ўзаемадачыненні Кароны і Вялікага Княства пагаршаліся не толькі з-за розных падыходаў да прынцыпаў аб'яднання; псавалі іх і тэрытарыяльныя спрэчкі. Канфлікт за Валынь не перарос у вайну толькі дзякуючы палітыцы Казіміра, які паспяваў уладжваць асабліва вострыя сутычкі.

У знешняй палітыцы ВКЛ адным з прыярытэтных напрамкаў заставаўся ўсходні. Уплыў на землі Усходняй і Паўночнай Русі, дасягнуты ў часы княжання Вітаўта, быў даўно страчаны, і трэба было прыкласці нямала намаганняў, каб зусім не здаць там сваіх пазіцый. Спачатку ў Казіміра Ягайлавіча, відаць, была адпаведная ўсходняя праграма. Гэта засведчыла яго актыўнасць, выкліканая абвастрэннем адносін з Масквой у сярэдзіне 1440-х гг. Аднак неўзабаве ад вострых праблем усходняй палітыкі Казіміра Ягайлавіча надоўга адарвалі адносіны з Нямецкім ордэнам.

Пруская дзяржава выяўляла ўсё большую слабасць. Жорсткая фіскальная палітыка, скіраваная на паляпшэнне фінансаў і гаспадаркі, у сярэдзіне XV ст. моцна пагоршыла адносіны паміж ордэнскімі ўладамі і мяшчанствам ды рыцарствам, якія і раней былі далёка не ідылічныя. Для абароны сваіх інтарэсаў падпарадкаваныя Ордэну станы ў 1440 г. утварылі так званы Прускі саюз. Калі вялікі магістр Людвіг Эрліхсгаўзэн паспрабаваў ліквідаваць іх арганізацыю, тайная рада Саюза стала рыхтавацца да пераходу пад уладу Польшчы. У Кракаве ўсведамлялі, што падобны акт немінуча прывёў бы да вайны. Хоць кардынал і кракаўскі біскуп Збігнеў Алясніцкі настойваў на захаванні міру з Ордэнам, Казіміра Ягайлавіча і малапольскую шляхту больш вабіла перспектыўнае ўмяшанне ў аслабленую Прусію.

Падрыхтаваўшы паўстанне, тайная рада Прускага саюза ў пачатку лютага 1454 г. ажыццявіла адначасовы напад амаль на ўсе ордэнскія замкі і за тры тыдні авалодала практычна ўсёй краінай. У вялікага магістра засталіся толькі Мальбарк, Штум і Хойніцы[1]. 20 лютага 1454 г. пасольства Прускага саюза з'явілася ў Кракаве і перадало каралю просьбу ўзяць Прусію пад свой пратэктарат, а ўжо 6 сакавіка пераход пад уладу Польшчы быў зацверджаны. У Мальбарк з каралеўскай канцылярыі выслалі акт абвяшчэння вайны.

Тым часам Ордэн зусім не збіраўся мірыцца з перадачай яго ўладанняў польскаму каралю. Падтрыманы імператарам, вялікі магістр рашуча пачаў вайну, якая доўжылася 13 гадоў. Такі паварот справы не ўваходзіў у разлікі польскіх уладаў. Свабоду дзеянняў Казіміра ўскладняў канфлікт паміж Кракавам і Вільняй за валынскія і падольскія землі, а таксама апазіцыйнасць магнатаў Вялікага Княства. Не жадаючы ўмаца-

[1] *Biskup M.* Wojny Polski z Zakonem Krzyżackim (1308–1521). S. 209.

вання Кароны, апошнія і не збіраліся падтрымліваць у гэтай вайне палякаў. Больш заклапочаная адносінамі з Масквою, Вільня ўпершыню за часы супольных войнаў з Ордэнам не парушыла міру з Мальбаркам і захавала нейтралітэт[1], хоць у 1455 г. ордэнскімі сіламі была занята партовая Клайпеда.

Між тым адсутнасць дапамогі з ВКЛ ускладніла становішча палякаў. Увосень 1454 г. пад Хойніцамі найманыя жаўнеры Ордэна нанеслі польскай арміі, злучанай з сіламі прускіх станаў, сакрушальнае паражэнне[2]. Вялікі магістр неўзабаве вярнуў уладу над значнай часткай Усходняй Прусіі і Караляўцом, а потым Казімір страціў і рэшту ўсходнепрускіх зямель. Толькі ў 1460-х гг., пасля таго, як у каронай арміі паспалітае рушэнне было заменена наймітамі, вайна стала прыносіць больш карысці палякам[3]. Урэшце, знясіліўшы Ордэн у ваенна-гаспадарчым плане і зноў заняўшы амаль усе прускія замкі, Польшча ўвосень 1466 г. прымусіла яго да перагавораў аб міры. 19 кастрычніка ў Торуні быў прыняты і зацверджаны прысягамі тэкст трактата, які ў асноўных рысах пацвердзіў кракаўскі акт інкарпарацыі Прусіі ў склад Кароны (1454). Паўднёвыя і заходнія ўладанні Ордэна перадаваліся Польшчы. Эрліхсгаўзэн прынёс каралю Казіміру Ягайлавічу прысягу вернасці (цяпер гэта мусіў рабіць кожны новаабраны вялікі магістр), абавязваўся ўдзельнічаць у каронай радзе як сенатар, пры патрэбе пастаўляць ваенную дапамогу і выконваць іншыя васальныя абавязкі.

Умовы гэтыя паставілі крыж на моцнай нямецкай дзяржаве над Балтыкай. Страціўшы палітычны суверэнітэт, Прускі ордэн яшчэ захоўваў свае тэрыторыі – ва ўладанне яму пакідалася ўсходняя частка Прусіі, але ўсё яго існаванне цяпер залежала ад Кракава. І ордэнскія землі Прусіі, і ўсе яго падданыя цяпер будуць утвараць з Польшчай “адно непадзельнае цела, адзін род, адзін народ у прыязні, міры і еднасці”, — гаварылася ў тэксце Торуньскага трактата[4].

Калі інкарпарацыя Прусіі значна ўмацавала пазіцыі Польшчы ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе, то гэтага нельга было сказаць пра ВКЛ. Стратэгічна не зацікаўленае ў ліквідацыі Нямецкага ордэна як суб’екта еўрапейскай палітыкі, яно дыстанцыявалася ад вайны і не атрымала ад змены сітуацыі ніякіх дывідэндаў. Наадварот, пакуль Казімір Ягайлавіч быў захоплены вайной з Ордэнам, віленскі ўрад занядбаў праблемы ўсходняй палітыкі і становішча ВКЛ у адносінах з Маскоўскай дзяржавай значна пагоршылася.

---

[1] З ВКЛ у вайне ў 1460-х гг. узялі ўдзел толькі надворныя харугвы Казіміра Ягайлавіча.
[2] *Górski K.* Wojna trzynastoletnia (1454 – 1466) // Przegląd Zachodni. T. 10 (1954).
[3] *Biskup M.* Trzynastoletnia wojna z Zakonem Krzyżackim 1454–1466. Warszawa, 1967; *Ён жа.* Wojny Polski z Zakonem Krzyżackim (1308–1521). S. 218–252.
[4] Die Staatsverträge des Deutschen Ordens. Bd.2. Marburg, 1955. S. 275.

ГЛАВА 3

# УМАЦАВАННЕ ДЗЯРЖАЎНА-ПАЛІТЫЧНАГА ЛАДУ, УНУТРЫПАЛІТЫЧНАЕ І ГАСПАДАРЧАЕ РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСІ (XIV – СЯРЭДЗІНА XV ст.)

## 1. Улада і кіраванне ў ВКЛ. Адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел Беларусі

**Княствы і землі. Іх дзяржаўна-прававы статус.** Ад сярэдзіны XIII да 60–70-х гг. XIV ст. нязначная, заціснутая ў сутонні дробных княстваў, пры суседстве з моцнымі дзяржавамі, Літва стала Вялікім Княствам Літоўскім і Рускім. Гэтая шматэтнічная дзяржава раскінула свае абшары на вялізнай прасторы (каля 800 тыс. кв. км) ад Прыбалтыкі да Чарнамор'я, і ад Падляшша да Смаленшчыны і Брагіншчыны[1].

Першапачатковая форма адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу, арганізацыі кіравання і ўлады на беларускіх землях у другой палове XIII–XIV ст. цалкам адпавядала сістэме, створанай яшчэ ў часы феадальнай дробнасці. Асноўнымі найбуйнейшымі адміністрацыйнымі ўтварэннямі з'яўляліся княствы. У XIII ст. на тэрыторыі Беларусі існавала каля 20 удзельных княстваў[2]. Яны ўяўлялі сабою дробныя дзяржаўныя ўтварэнні. Князі, што стаялі на чале іх, мелі ўсе правы суверэнных валадароў: распараджаліся ўнутранымі справамі, маглі надзяляць землямі сваіх васалаў, аб'яўляць войны і падпісваць пагадненні, заключаць любыя саюзы[3]. Летапісы ўпамінаюць княствы Полацкае, Віцебскае, Менскае, Друцкае, Ашмянскае, Гарадзенскае, Навагрудскае, Кобрынскае, Пінскае, Клецкае, Слуцкае ды інш. Нярэдка княствы ў летапісах, дагаворных граматах і іншых тагачасных дакументах названы землямі (напрыклад, Полацкая, Віцебская, Мсціслаўская, Друцкая ды інш.)[4]. Гэтыя два тэрміны ўяўляюцца ідэнтычнымі. Землі паўстаюць сукупнасцю тэрыторый, эканамічна, палітычна і культурна звязаных з пэўным цэнтрам і адміністрацыйна яму падпарадкаваных[5]. Узаемасувязь абодвух вызначэнняў абумоўлена, відаць, тым, што першапачаткова княствы фарміраваліся на тэрыторыі ("зямлі") старажытнага рассялення таго ці іншага племяннного саюзу[6]. У большасці выпадкаў пад тэрмінам "княства" выступала дзяржаўна-палітычная адзінка, пад тэрмінам "зямля" – тэрытарыяльна-геаграфічная.

Сярод адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак XIII–XIV ст. згадваюцца таксама воласці. Яны, хутчэй за ўсё, генетычна звязаны з сельскімі абшчынамі, на тэрыторыі якіх ажыццяўлялася кіраванне шэрагам

[1] *Ochmański J.* Historia Litwy. Wyd. II. Wrocław, 1982. S. 60.
[2] *Леонтович Ф.И.* Очерки историн литовско-русского права. Вып 1. Образование территорни Литовского государства. СПб., 1893.
[3] *Рыбаков Б.А.* Киевская Русь и русские княжества XII–XIII вв. М., 1982. С. 475.
[4] Полное собрание русских летописей (далей – ПСРЛ). Т. 35. М., 1980. Ст. 42, 49, 53, 64, 70, 71, 88, 129, 223, 226 ды інш.
[5] Древнерусские княжества X–XIII вв. М., 1975. С. 203.
[6] *Рыбаков Б.А.* Киевская Русь и русскне княжества. XII–XIII вв. С. 474.

сельскіх пасяленняў. Ва ўсякім выпадку з дакументаў яны паўстаюць як часткі, а то і асобныя адзінкі дзяржаўна-княжацкіх уладанняў. Так, воласці як складовую адміністрацыйна-тэрытарыяльную частку княжацкіх уладанняў згадвае, напрыклад, грамата 1229 г.: «... од Витьбеского князя Вълсти и од Полотьского князя вълсти»[1].

Усе названыя адміністрацыйныя адзінкі падпадалі пад падзел на дзве агульныя, вельмі прыкладна акрэсленыя дзяржаўныя паловы Вялікага Княства Літоўскага і Рускага: "Літву", ці "зямлю літоўскую", і "Русь", ці "землі рускія". Пад вызначэнне тэрміна "Літва" траплялі Трокская і Віленская землі, Чорная Русь (Наваградак, Гародня, Слонім, Ваўкавыск), Падляшша з Берасцейскай зямлёй, Палессе з Піншчынай, Менская зямля, воласці на Бярэзіне, а таксама воласці на сярэднім Дняпры і Сажы, якія былі адарваныя ад зямель Смаленскай, Чарнігава-Северскай і Кіеўскай, заходняя частка Полацкай зямлі з Браславам. Тэрмінам "Русь" ахопліваліся землі Полацкая, Віцебская, Смаленская, Кіеўская, княствы Чарнігава-Северскай зямлі, Валынь і Падолле[2].

На працягу другой паловы XIII–XIV ст. вярхоўная ўлада Вялікага Княства Літоўскага, не парушаючы ўзнікшага раней тэрытарыяльнага-адміністрацыйнага падзелу на землі, княствы, воласці, кіравала беларускімі землямі праз князёў-васалаў. Сярод іх былі прадстаўнікі мясцовых княжацкіх дынастый: тыя ж князі Лукомскія, Друцкія. У наўгародскім летапісе пад 1326 г. упамінаецца менскі князь Васіль, які браў удзел у вялікакняскім пасольстве ў Ноўгарад Вялікі ў якасці васала Гедыміна[3]. Буйныя ўдзелы вялікія князі надавалі (часам са згоды мясцовага баярства) прадстаўнікам вялікакняскай фаміліі. Так, вялікі князь Гедымін яшчэ пры жыцці размеркаваў удзелы сваім сынам: «Великого князя Кгедмина Литовского было сынов 7: ... Монивиду дал отец Корачев да Слоним, Наримонту – Пинск. Олгирду – королеву отцу Крево. Евнутия осадил во Вильни на великом княжении. А Кестутию – Троки. Корьяту – Новгородок. А Либорта принял володимерский князь к дотьце – во Володимер и в Луцеськ и во всю землю Волыньскую»[4].



Замак у Троках

[1] Русско-литовские акты. Приложение №1.
[2] *Любавский М.К.* Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. М., 1892. С. 3–8; *Halecki O.* Litwa, Ruś i Żmudź jako części składowe Wielkiego księstwa Litewskiego. Kraków, 1916. S. 5, 9, 12, 20.
[3] ПСРЛ. Т. 4. Вып. 1. Пг., 1915. С. 234.
[4] Белоруссия в эпоху феодализма (далей – БЭФ). Т. 1. Мн., 1959. С. 88.

У буйных беларускіх княствах – Полацкім і Віцебскім ужо па традыцыі спачатку запрашаліся на княжанне, а потым княжылі па волі вялікага князя асобы манаршага дому. У XIII ст. князямі полацкімі былі Таўцівіл і Гердзень. У XIV ст. у Полацку княжылі спачатку Воінь, брат Гедыміна, потым Андрэй Альгердавіч, нарэшце Скіргайла Альгердавіч. У Віцебску паслядоўна княскі пасад займалі Альгерд Гедымінавіч, яго-ны сын Ягайла, затым удава Альгерда Ульяна, пасля Свідрыгайла Альгердавіч. Прычым, ніхто з удзельных князёў ці то з мясцовых дынастый, ці з вялікакняскай фаміліі не парушаў усталяванага ў папярэдні час унутранага жыцця княстваў, напрацаваных традыцый, звычаяў, веравызнанняў. Нават больш, некаторыя з князёў літоўскіх (сын Гедыміна – Нарымунт, сын Альгерда – Андрэй ды інш.) прымалі "грэцкую веру". Княскім атачэннем з'яўляліся тыя ж "рускія" (г.зн. мясцовыя) баяры, для якіх змена гаспадара не мела ніякага значэння[1].

Удзельны князь быў сапраўдным гаспадаром у сваёй вотчыне. Амаль усе ўладныя прэрагатывы: судовыя, вайсковыя, гаспадарчыя, фінансавыя, фіскальныя належалі яму. Праваdыры мясцовых («рускіх») дынастый, што захавалі сваю ўладу ў параўнальна невялікіх княствах, перадавалі свае ўладанні ў спадчыну, мелі права на вольнае распараджэнне зямлёй, раздорваючы яе цэрквам, манастырам, прыбліжаным служылым баярам.

Інакш складваліся адносіны з вярхоўнай уладай па пытаннях спадчыннасці і зямельных падараванняў у князёў, што належалі да роду Гедымінавічаў і валодалі найбуйнейшымі тэрыторыямі. Перадача гэтых уладанняў у спадчыну паўсюдна не практыкавалася. Падзел жа зямлі паміж сынамі наогул адсутнічаў. Так, напрыклад, пасля смерці ў Пінску Нарымунта Гедымінавіча, на яго месцы застаўся княжыць адзін з сыноў – Міхаіл, астатнія ж неслі службу ў іншых уладаннях ці ў іншых дзяржавах. Здараліся выпадкі змены вярхоўным уладаром аднаго княскага ўладання другім для прадстаўніка сваёй фаміліі. Не мелі князі – прадстаўнікі вялікакняскага роду і магчымасці свабодна распараджацца зямельнымі ўладаннямі. Пры вялікім князі Альгердзе, напрыклад, ні адзін з Гедымінавічаў, за выключэннем Кейстута, не карыстаўся правам надзяляць сваіх сыноў ці прыбліжаных асоб зямельнымі ўладаннямі ў межах сваіх княстваў.

Падобная практыка сведчыць, што ўладанні Гедымінавічаў не сталі для іх да канца спадчыннымі ўдзельнымі княжаннямі. Залежнасць іх ад вялікага князя была дастаткова моцнай. Праяўлялася яна і ў абавязку ваеннай службы ўсіх князёў-уладароў, а таксама ў выплаце штогадовай даніны. Абласныя князі былі хутчэй суправіцелямі вялікага князя, чым аднаасобнымі, незалежнымі ад цэнтра ўладарамі. Варта ў гэтым выпадку згадаць, што ўсе значныя, лёсавызначальныя рашэнні для дзяржавы вялікі князь прымаў з іх удзелам[2].

Тым не менш вярхоўная ўлада была толькі аб'яднальным механізмам кангламерату зямель Вялікага Княства Літоўскага і Рускага. Таму дзеля цэнтралізацыі дзяржавы і ўмацавання вялікакняскай улады з 90-х гг.

[1] *Любавский М.К.* Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. М., 1910. С. 34–35, 38.
[2] Там жа. С. 36–38.

XIV ст. удзельныя княствы ліквідуюцца, а замест іх уводзяцца намесніцтвы. Інстытут намесніцтва абсалютна ніякім чынам не ламаў традыцыйнага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу і сістэмы кіравання. Намесніку належалі тыя ж самыя ўсёабдымныя функцыі галоўнага военачальніка і суддзі, гаспадарчага і фінансавага распарадцы[1]. Сутнасць у тым, што намесніцкая пасада была прызначальнай вялікім князем і цалкам перад ім адказнай. Гэта быў першы крок па ліквідацыі былых значных удзельных аўтаномій.

Каб не выклікаць паўсюднай незадаволенасці падданых падобнымі рашучымі дзеяннямі, вярхоўная ўлада знайшла амартызуючыя сродкі, першым сярод якіх трэба назваць захаванне дробных удзельных княстваў. На тэрыторыі Беларусі іх было некалькі: Кобрынскае (існавала да 1519 г.), Давыд-Гарадокскае, Пінскае, Клецкае (усе тры – да 1524 г.), Мсціслаўскае (да 1529 г.), Слуцкае (да 1592 г.). Валодалі імі ў асноўным прадстаўнікі вялікакняскай фаміліі. Гэтыя княствы мелі ўнутраную аўтаномію, але ў палітычным плане не былі вызначальнымі з-за сваёй дробнасці. Тым больш у ваенных адносінах яны падначальваліся вялікакняскаму намесніку. У астатнім валадары княстваў праводзілі ў сваіх землях самастойную падатковую палітыку, надзялялі сваіх васалаў землямі і сялянамі, чынілі суд над падданымі[2].

Другім важным сродкам захавання спакою ў дзяржаве падчас змен у адміністрацыйна-кіруючай сістэме было выданне буйным ускраінным землям прывілеяў. Такія земскія прывілеі атрымалі Полацкая і Віцебская землі.

**Абласныя прывілеі.** На сённяшні дзень захаваліся віцебскія (1503, 1509, 1547, 1561) і полацкія (1511, 1547) земскія прывілеі. Але даследчыкамі ўстаноўлена, што ў сваёй старажытнай частцы дакументы XVI ст. узыходзяць да грамат Вітаўта 90-х гг. XIV ст. А тыя ў сваю чаргу звязаны з першымі дагаворамі ("рядами") мясцовага баярства з літоўскімі князямі[3]. Нават больш, са зместу дакументаў XVI ст. вынікае, што раней падобныя прывілеі выдаваліся і пацвярджаліся вялікімі князямі Вітаўтам, Свідрыгайлам, Казімірам, Аляксандрам, Жыгімонтам Старым і Жыгімонтам Аўгустам.

Земскія прывілеі тычыліся ўсіх бакоў грамадска-палітычнага і гаспадарчага жыцця зямель. Найбольш старажытная іх частка закранае магчымасць гвалтоўнай міграцыі насельніцтва зямель у межах Вялікага Княства Літоўскага (практыка, характэрная для Маскоўскай дзяржавы). На гэты конт вялікі князь літоўскі даваў гарантыі жыхарам, для прыкладу Віцебскай зямлі, спакойнага жыцця "всякому, покуль хто всхочеть" і абавязваўся "местичов Витебских з города Витебска не вести вон". Таксама гаспадар абяцаў насельнікам Полацкай і Віцебскай зямель не пасылаць іх жыхароў "в заставу" ў іншыя гарады і да іх не ставіць "застав" з іншых месцаў "без их воли". Далей, вялікі князь абавязваўся не

---

[1] *Любавский М.К.* Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. С. 143–164.

[2] Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. Мн., 1972. С. 171.

[3] *Якубовский И.В.* Земские привилеи Великого княжества Литовского // Журнал Министерства народного просвещения (далей – ЖМНП). 1903. № 5. С. 239–278; № 6. С. 245–303; *Ясинский М.И.* Уставные земские грамоты Литовско-Русского государства. Киев, 1889.

ўмешвацца ў царкоўныя справы, не адбіраць без прычыны маёмасць у землеўладальнікаў і мяшчан. Вызваляліся палачане і ад цяжкай падводнай павіннасці.

Прывілеі ўтрымліваюць значную колькасць заўваг і абавязацельстваў з боку вярхоўнай улады. Пастараемся выдзеліць галоўныя з іх, якія б сведчылі пра захаванне ў старажытных беларускіх дзяржаўных утварэннях элементаў аўтаноміі ва ўнутраным жыцці.

Перш за ўсё, згодна з прывілеем, выдадзеным Вітаўтам, а пазней пацверджаным усімі вялікімі князямі да Жыгімонта Аўгуста ўключна, намеснік (затым ваявода) у Полацкай і Віцебскай землях прызначаўся вялікім князем "по воли" мясцовых баяр і мяшчан. Гаспадар гарантаваў "... им давати ваяводу по старому, по их воли, и который им будет нелюб воевода, а обмовят его перед нами: ино нам воеводу им иного дати: по их воли". Намеснік павінен быў, "приехавши ... к Полоцку первого дня ... крест целовати к полочанам на том, што ж без их справы полочанина не казнити ни в чом". Такім чынам, полацкае і віцебскае баярства і мяшчанства мелі права кантролю, а значыць, і непасрэдна ўплывалі на рашэнні першай асобы ў сваёй зямлі.

Істотнай рысай мясцовага кіравання ў Полацкай і Віцебскай землях было абмежаванне судовай улады намеснікаў і ваявод. Усе справы, якія тычыліся мясцовага насельніцтва, "хотя бы смертной вине", павінны былі разглядацца намеснікамі непасрэдна ці ў Віцебску, ці ў Полацку, як сказана ў прывілеі, «по их праву с полочанами по испросу». На намесніцкім судзе была абавязковай прысутнасць старэйшых баяр і мяшчан, што спецыяльна агаворвалася ў земскіх граматах вялікіх князёў літоўскіх: "А воевода нашому полоцкому мешчан адному не судити, судити ему с бояры и мещаны".

Шматлікія пытанні мясцовага кіравання ў Полацку і Віцебску, сярод якіх было выбранне службовых асоб, выкананне вайсковай службы, судовыя разборы, гаспадарчыя гарадскія справы, вырашаліся на мясцовых сеймах. Гэткая практыка брала пачатак ад старажытнага веча. Праўда, ва ўмовах Вялікага Княства Літоўскага XIV ст. і пазнейшага часу вядучую ролю ў традыцыйным органе мясцовай улады набылі феадальная знаць і вярхі гарадскога мяшчанства. Пра гэта сведчыць запіс гаспадара ў грамаце XV ст., адрасаванай жыхарам Полацка, у якой адзначалася, што "... без бояр мещанам и дворянам городским и черни соймов не надобе чинить"[1], хоць фармальна на мясцовыя сеймы дазвалялася збірацца ўсяму "поспоству" Полацка і Віцебска[2].

Практычна судова-фінансава-гаспадарчую незалежнасць мела ў сваіх землях полацкае і віцебскае баярства. Земскія прывілеі надавалі ім манапольнае права "держания", г.зн. кіравання і судовай улады ў валасцях. Толькі з мясцовых баяр прызначаліся служылыя людзі полацкай і віцебскай адміністрацыі, такія як цівун, ключнік, гараднічы, баброўнічы, мастаўнічы ды інш. Дакладна вядома, что полацкія баяры трымалі

[1] Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею (далей – АЗР). Т. 1. СПб., 1846. С. 73.

[2] АЗР. Т. 1. С. 351–353; Т. 2. СПб., 1848. С. 86–90. Гэтая спасылка распаўсюджваецца на ўсе цытаванні з земскіх прывілеяў; *Любавский М.К.* Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. С. 136–137, 156.

пад сваім кіраўніцтвам, як сказана ў дакументах, "по годам" воласці Дрысяцкую і Себежскую[1]. Падобная сітуацыя заўсёды гарантавала мясцоваму баярству прыбытак, які не пакідаў межы зямлі, а таксама стабільны ўдзел у палітычным жыцці як Полацкай і Віцебскай зямель, так і Вялікага Княства Літоўскага ў цэлым. Менавіта гэтая акалічнасць дазваляла полацка-віцебскаму асяродку захаваць дастаткова значнае кола мясцовай арыстакратыі, якое перыядычна дапаўнялася буйным баярствам. Не выпадкова, а заканамерна, што адсюль выйшла абсалютная большасць знакамітых родаў беларускага паходжання, прадстаўнікі якіх займалі кіруючыя пасады ў мясцовых і цэнтральных органах улады Вялікага Княства Літоўскага. Тут было радавое гняздо князёў Друцкіх (да якіх акрамя саміх Друцкіх належалі князі Горскія, Сакалінскія, Прыхабскія, Любецкія, Азярэцкія, Красныя, Талачынскія, Пуцяцічы), князёў Лукомскіх, Адынцэвічаў. Адсюль жа пайшлі такія вядомыя фаміліі, як Глябовічы, Ілынічы, Неміровічы, Рамейкавічы, Шапкі, Алфер'евічы, Мітковічы, Аляхновічы, Копцевічы, Валадковічы, Корсакі, Зяноўевічы, Рагозы, Сялявы.

**Мясцовыя органы ўлады.** Хто б ні стаяў на чале асобных буйных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак: ці то князь, ці намеснік, у яго быў у наяўнасці дастаткова значны апарат служачых-памагатых, што практычна не адрозніваўся па сваім складзе ні ў залежнасці ад віду ўладання, ні ў залежнасці ад тэрытарыяльнага размяшчэння. Так, пры намесніку берасцейскім згадваюцца такія пасады, як ключнік, баброўнічы, лоўчы, пры намесніку гарадзенскім – канюшы, гараднічы, ляснічы, цівуны асобных валасцей, пры наваградскім – канюшы, ключнік, гараднічы, валасныя цівуны. Яшчэ дакументы згадваюць сакольнічых, гаёўнікаў, мастаўнічых[2]. Ключнікі загадвалі харчовымі запасамі ва ўладаннях. У абавязкі гараднічага ўваходзіла арганізацыя будаўнічых работ агульнагарадскога характару, у першую чаргу абарончых аб'ектаў. Гаёўнікі даглядалі бортныя дрэвы, ляснічыя назіралі за тым, каб без спецыяльнага дазволу ў пушчах не білі звяроў і не гналі смалу, дзёгаць, ці не выпальвалі попел[3]. Назвы астатніх службовых асоб самі гавораць пра абавязкі выканаўцаў.


"Калюмны"


Жамойцкага княства




Кіеўскага ваяводства


Наваградскага ваяводства


Смаленскага ваяводства

Гербы зямель ВКЛ. Канец XVI ст.

---

[1] *Пашуто В.Т., Флоря Б.Н., Хорошкевич А.Л.* Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. М., 1982. С. 125.

[2] *Любавский М.К.* Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. С. 136–137, 156.

[3] Там жа; *Пашуто В.Т., Флоря Б.Н., Хорошкевич А.Л.* Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. С. 117–119.

Найбольшая частка бягучай працы па мясцовым кіраванні клалася на цівуноў. У іх абавязкі ўваходзіла разнастайная адміністрацыйна-гаспадарчая дзейнасць ва ўладаннях, яны былі фінансавымі распарадцамі, а таксама абавязаны былі прысутнічаць на намесніцкім судзе і выконваць судовыя абавязкі па валасцях. На вышэйпералічаныя пасады прызначаліся намеснікам ці князем прадстаўнікі з дробнаслужылага люду – баяр, а таксама маглі быць пастаўлены сяляне "лепшых служоб"[1].

Найніжэйшым звяном мясцовай улады з'яўлялася вясковая адміністрацыя. Яна паўставала ў асобах прыставаў, сотнікаў, сарочнікаў, дзесятнікаў, старцаў. Такі доўгі пералік асоб вясковай адміністрацыі – гэта не сведчанне наяўнасці вялікага штату сялянскіх служэбнікаў; ён адлюстроўваў адметнасць у іх найменнях у розных рэгіёнах Беларусі. Так, у Радашковіцкай воласці ў наяўнасці былі прыставы, на землях Наваградчыны, Слонімшчыны, Гарадзеншчыны, Ваўкавышчыны аналагічную ролю адыгрывалі сотнікі, сарочнікі, дзесятнікі, у Падняпроўскіх і Падзвінскіх валасцях фігуравалі старцы[2]. Але нягледзячы на розніцу ў найменнях, дзейнасць названых адміністрацыйных асоб нічым істотным не адрознівалася. У іх функцыі ўваходзіла размеркаванне і збор данін і чыншаў з сялян, назіранне за сялянскай працай у панскай гаспадарцы. Вясковая адміністрацыя была прадстаўлена выключна мясцовымі сялянамі, але, як падае крыніца XVI ст. (безумоўна, яна адлюстроўвае і сітуацыю XIV ст.), каб "... старцы, приставы, сорочники обирали што з лепших служоб, верных, которым бы больше стерегли работы, пашни и инших пожитков"[3]. Хутчэй за ўсё сялянскія адміністратары былі асобамі выбарнымі. Пра гэта сведчыць той факт, што яшчэ ў першай палове XVI ст. у некаторых валасцях (Любашанская, Магілёўская, Гомельская, Барысаўская) старцаў яшчэ выбіралі сяляне[4].

У беларускіх гарадах у «дамагдэбургскі» перыяд уладу ажыццяўляла веча. У Полацку, напрыклад, веча выбірала 30 "мужов старцов", калегія якіх, хутчэй за ўсё, з'яўлялася выканаўчым і судовым органам вечавых сходаў. Падобная сістэма кіравання зафіксавана летапісам[5] у раздзеле "О Полоцкой Венеции, або свободиности". Там згадваецца час, калі палачане "волно пановали себе и жадной зверхности над собою не мели, толко 30 мужов старцов с посродку Речи Посполитое (рэспублікі. – *П.Л.*) своей на поточине справы, суд и яко сенаторов прекладали, а наболшей за знаком звону великого, которого впосеред места был завешоный, где все збиралися там и по справах своих по потребах ... бо держали на тот час землю Русскую сами мещане полоцкие и на колкодесят миль справуючи. То ж волности уживал на тот час Псков и Новгород Велики..."[6]. "Мужи" былі яшчэ вядомы ў Барысаве (1396), "мужи" і "старцы" захаваліся па тра-

---

[1] *Любавский М.К.* Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. С. 134.

[2] Там жа. С. 135; Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей – НАРБ). Ф. 694, воп. 4, спр. 1556, арк. 4–7, 11; Документы Московского архива министерства юстиции (далей – ДМАМЮ). Т. 1. М., 1897. С. 80, 102, 130–138.

[3] АЗР. Т. 2. С. 198.

[4] *Довнар-Запольский М.В.* Очерки по организации западнорусского крестьянства в XVI веке. Киев, 1905. С. 57–58.

[5] БЭФ. Т. 2. Мн., 1960. С. 440.

[6] Там жа.

дыцыі ў Магілёве (1447), Крычаве (канец XV ст.), "старцы" – у Глыбокім (1514). Іншымі службовымі асобамі гарадскога кіравання ў XVI ст. былі, падобна як у вёсках, сотнікі, дзесятнікі, звесткі аб якіх ёсць па многіх гарадах. Падобныя выканаўчыя ўладныя асобы захаваліся і пры сістэме гарадскога самакіравання згодна з магдэбургскім правам[1].

Такім чынам, сістэма адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу і мясцовага кіравання ў другой палове XIII–XIV ст. ішла эвалюцыйным шляхам ад федэратыўнага кангламерату зямель да ўнутранага дзяржаўнага ўтварэння. Але наяўнасць такіх аўтаномных абласцей, як Полацкая і Віцебская, сведчыла пра федэратыўную аснову будовы Вялікага Княства Літоўскага і Рускага.

## 2. Унутраная палітыка

**Узнікненне "рускага" пытання, выкарыстанне яго ва ўнутрыпалітычных канфліктах.** Апошнія дзесяцігоддзі XIV – пачатак XV ст. сталі асобным, супярэчлівым, насычаным падзеямі этапам ва ўнутраным жыцці Вялікага Княства Літоўскага і Рускага. Ён прынёс здабыткі, што ўвасобіліся ва ўмацаванні цэнтральнай улады. Спарадзіў ён і супярэчнасці, што ўзніклі ў форме так званага "рускага" пытання, якое прыйшлося вырашаць на працягу ўсяго наступнага стагоддзя і нават пазней.

Да канца XIV ст. Вялікае Княства Літоўскае ўяўляла сабою федэратыўнае дзяржаўнае ўтварэнне, дзе вакол ядра ("уласна Літва"), аб'ядноўваліся "земли прислухаючие". Пад Літвой разумелася верхняе і сярэдняе Панямонне, Павілле, якія стаялі ля дзяржаўных вытокаў Вялікага Княства, а таксама Берасцейшына, Меншчына, Палессе. Да "прислухаючих" адносіліся "рускія" тэрыторыі Заходняга Падзвіння (Полацкая і Віцебская землі), Падняпроўя, Смаленшчыны і Кіеўшчыны, Валыні, Падолле, пазней Жамойць, што далучыліся да Княства ў XIV – пачатку XV ст. "Руские" княскія роды Рурыкавічаў захоўвалі ў сваёй большасці ўладу, палітычную сістэму, культурна-рэлігійныя традыцыі ў сваіх землях, аказваючыся пры гэтым толькі ў васальнай залежнасці ад вялікага князя літоўскага. Падобнае становішча іх задавальняла, не спараджала ўнутрыдзяржаўных канфліктаў. Нават больш, прадстаўнікі вялікакняскай фаміліі, атрымліваючы ва ўладанні "руские" землі, часцяком прымалі праваслаўе і "абрушчваліся". Прыкладам таму можа служыць пінскі князь, сын Гедыміна Нарымунт і яго сыны[2].

Дынастычная барацьба другой паловы 70-х – першай паловы 80-х гг. XIV ст. з умяшаннем у яе знешніх сіл прывяла да акаталічвання язычніцкай Літвы і да паглыблення рэлігійных супярэчнасцей у шматэтнічным, полірэлігійным гаспадарстве.

Першай ластаўкай будучых канфліктаў на антыпольскай, антыкаталіцкай глебе стаў выступ у 1386 г. супраць вялікага князя літоўскага і ў хуткім часе караля польскага Ягайлы яго старэйшага брата Андрэя Альгердавіча, князя Полацкага. У лютым 1386 г. Андрэй (гэта яго права-

[1] *Копысский З.Ю.* Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII в. Мн., 1975. С. 74–78.

[2] *Любавский М.К.* Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. С. 38.

слаўнае імя, язычніцкае ж – Вінгальт) пачаў ваенныя дзеянні, падначаліўшы сваёй уладзе гарады і замкі Дрысу, Друю, Лукомль. Яго верны саюзнік смаленскі князь Святаслаў Іванавіч узяў у аблогу Мсціслаў, які раней належаў Смаленскаму княству, а таксама Віцебск і Оршу[1]. Пасля каранацыі на Люблінскім сейме 1386 г. Ягайлы і прыняцця ім каталіцтва Андрэй Полацкі адмовіўся прысягаць польскаму каралю і вялікаму князю літоўскаму, матывуючы свае дзеянні немагчымасцю манарха-каталіка валадарыць на праваслаўных землях[2].



Шлем рускага воіна, згублены падчас аблогі Мсціслаўскага замка

Гэткая пазіцыя і адкрытае ваеннае выступленне не маглі не прывесці да ўнутранага канфлікту. Першы ўдар аб'яднанага войска Альгердавічаў – Скіргайлы (практычна намесніка Ягайлы ў Вялікім Княстве Літоўскім), Дзмітрыя Карыбута, Сымона Лугвена – быў нанесны па смаленскіх рацях, якія на працягу ўжо дзесяці дзён здабывалі Мсціслаў. Бітва паміж імі адбылася 29 красавіка 1386 г. на рацэ Віхры пад Мсціславам і закончылася паражэннем смалян: "И побито было многое множество людей князей и бояр", – адзначыў летапіс[3]. Быў забіты смаленскі князь Святаслаў Іванавіч, а на яго месца пасаджаны стаўленік Скіргайлы Юры Святаславіч[4].

Праз год – у сакавіку 1387 г. – быў арганізаваны вялікі паход князя Скіргайлы на Полацк. Закончыўся ён узяццем горада; полацкі князь Андрэй быў паланёны і адпраўлены да Ягайлы, а яго бліжэйшыя спадзвіжнікі, у тым ліку сын, – забіты. Граматай ад 28 красавіка 1387 г. Ягайла афіцыйна перадаў Полацкае княства разам з іншымі вялікакняскімі землямі пад уладу брату Скіргайле[5].

Увогуле 1387 год можна лічыць годам змянення сацыяльна-прававога становішча беларускіх зямель у Вялікім Княстве Літоўскім і Рускім. Грамата "караля польскага, вялікага князя літоўскага і спадкаемца Русі" (так Уладзіслава Ягайлу называлі афіцыйныя дакументы) ад 20 лютага 1387 г. аб прывілеях феадалам за пераход у каталіцкую веру была непасрэдным спараджальнікам "рускай" праблемы ў Вялікім Княстве. Паводле вышэйназванай граматы знаць каталіцкага веравызнання, якая ў большасці была балцкага паходжання, атрымлівала неабмежаваныя правы валодання і распараджэння сваімі вотчынамі, а таксама вызвалялася ад выканання шэрага дзяржаўных павіннасцей. На праваслаўных землеўладальнікаў, што вялі сваю радаслоўную з "рускіх" (сённяшніх беларускіх, украінскіх, часткова велікарускіх), а некаторыя і з гістарычна літоўскіх зямель, гэты прывілей не распаўсюджваўся[6].

Натуральна, такі дыскрымінацыйны для значнай колькасці арыстакратыі Вялікага Княства Літоўскага і Рускага акт выклікаў у іх асярод-

---

[1] ПСРЛ. Т. 17. СПб., 1907. Ст. 78, 90–91, 162–163, 198–199.
[2] *Соловьев С.М.* История России с древнейших времен. Т. 3. М., 1998. С. 294.
[3] ПСРЛ. Т. 35. М., 1980. С. 136.
[4] БЭФ. Т. 1. С. 100–101.
[5] *Соловьев С.М.* История России с древнейших времен. Т. 3. С. 294.
[6] БЭФ. Т. 1. С. 101–102.

ку рэзкае незадавальненне. Апошняй падзеяй, якая абвастрыла да крайняй мяжы антыягайлаўскія настроі і мабілізавала ў антыпольскі лагер нават некаторых прадстаўнікоў наваяўленай каталіцкай знаці, стала прызначэнне ў канцы 1389 г. на месца віленскага старосты паляка. Рэакцыя, якую зафіксаваў летапіс, была красамоўная: "... таго перад тым не бывало в земли литовской, чужинец владеет Великим княжеством"[1].

Неспрыяльныя для Ягайлы абставіны ўдала выкарыстаў даўні апанент караля польскага і вялікага князя літоўскага, яго стрыечны брат Вітаўт. Напачатку 90-х гг. XIV ст. ён выступіў з праграмай стварэння самастойнага вялікакняскага гаспадарства, якое б супрацьстаяла, з аднаго боку, Польшчы, а з другога – Маскве[2]. Унутры дзяржавы для ажыццяўлення сваёй праграмы Вітаўт узяў у саюзнікі апазіцыйную польска-каталіцкай экспансіі знаць, за межамі Вялікага Княства – крыжацкі Ордэн, якому былі выгадныя як пагаршэнне адносін паміж Княствам і Польскім Каралеўствам, так і ўнутраныя канфлікты ў суседнім гаспадарстве.

Скарыстаўшы момант, калі князь Скіргайла, што быў галоўнай апорай Ягайлы ў Вялікім Княстве Літоўскім, пакінуў Вільню і накіраваўся ў Полацк, Вітаўт запрасіў да сябе многіх князёў і баяр з усіх зямель дзяржавы і пачаў агітацыю супраць чужаземнага засілля ў Вялікім Княстве Літоўскім. Агітацыя закончылася ўсезгоднай пастановай адваяваць для літвінаў Вільню. Князі і баяры – антыягайлаўская апазіцыя – раз'ехаліся для падрыхтоўкі выканання прынятага рашэння.

Кароль польскі і вялікі князь літоўскі імгненна зрэагаваў на арганізаваны Вітаўтам мяцеж і ўжо ў лютым 1390 г. павёў польскія войскі на Берасце, Камянец і Гародню – умацаваныя апорныя пункты Вітаўта. Пачалося ўпартае ваеннае супрацьстаянне. Пасля дастаткова доўгай аблогі Берасце і Камянец скарыліся польскім аддзелам. Найдаўжэй трымалася Гародня. Але на дапамогу Ягайлу прыйшлі атрады Скіргайлы, Уладзіміра і Карыбута Альгердавічаў. У красавіку 1390 г. і гэтая цвярдыня пала[3].

Вітаўту нічога не заставалася, як ратавацца ўцёкамі да сваіх саюзнікаў у Ордэн. Там ён набраў новыя сілы і пры дапамозе крыжакаў летам 1390 г. здзейсніў паход на Вільню. Яе абарона была самым драматычным момантам дынастычнай вайны Вітаўта і Ягайлы, асобныя эпізоды якой дазваляюць даць ёй вызначэнне грамадзянскай.

Пры абароне віленскага Крывога горада, які ўдалося адваяваць Вітаўтаву войску, загінуў брат Ягайлы Карыгайла. Аднак Высокі і Ніжні замкі віленскай цвярдыні, якія абаранялі атрады польскія і "рускія" (сярод абаронцаў быў князь Фёдар Астрожскі), трымаліся моцна, адбіваючы ўсе штурмы. У час аднаго з іх быў забіты брат Вітаўта Таўцівіл[4]. Вільня так і не была занята Вітаўтам.

Наогул, 1390 год не даў перавагі ніводнаму с варагуючых бакоў. Развязка наступіла ў наступным 1391 годзе. Вітаўту з вялікай ваеннай сі-

---

[1] *Ochmański J.* Historia Litwy. S. 79–80.
[2] *Греков И.Б.* Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV–XVI вв. М., 1963. С. 94.
[3] БЭФ. Т. 1. С. 103–107; *Любавский М.К.* Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. С. 45.
[4] *Ochmański J.* Historia Litwy. S. 80.

лай, у тым ліку крыжацкай, удалося завалодаць, не без дапамогі гарадзенскага гарнізона, дзе была значная колькасць воінаў з Вялікага Княства, моцнай крэпасцю Гародняй. Затым яму падпарадкаваўся Навагрудак. Ягайла ў гэтых абставінах шукаў выйсце шляхам адабрання ў свайго стаўленіка Скіргайлы Трокаў і перадачы іх Вітаўту. Скіргайлу ж быў аддадзены Кіеў.

Але польскім каралём ініцыятыва была ўпушчана, і ў жніўні 1392 г. Ягайла і Вітаўт сустрэліся ў Востраве, дзе заключылі пагадненне. Згодна з ім на чале Вялікага Княства зноў станавіўся асобны манарх, які не з'яўляўся адначасова польскім каралём. Праўда, такая сітуацыя павінна была захоўвацца толькі на час жыцця Вітаўта. Але гэта была ўжо практычная ануляцыя Крэўскай уніі. Дэкларатыўна Вітаўт, згодна с Востраўскім пагадненнем, абавязваўся быць верным каралю, каралеве і Польскай Кароне. Пра тое, што гэта былі фармальна абяцанні, гавораць далейшыя падзеі ды заўвага летапісца, што ўкняжанню Вітаўта "рада была целая земля литовская и руская"[1].

Але "рускага" пытання прыход Вітаўта да ўлады не вырашыў. Шэраг знешнепалітычных праблем, у першую чаргу паражэнне на Ворскле ад татар у 1399 г., прывёў да дагавору паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Польшчай 1401 г. Ён, у працяг прывілея 1387 г., зноў узвышаў каталіцкую знаць над праваслаўнай.

Названыя дакументы падрыхтавалі прыняцце пастановы Гарадзельскага сейма 1413 г., паводле якой праваслаўная знаць Вялікага Княства Літоўскага і Рускага ставілася ў яшчэ больш дыскрымінацыйнае становішча. Параграф трэці Гарадзельскага прывілея, працягваючы традыцыю пастаноў 1387 і 1401 гг., устанаўліваў, што толькі "каталікі, Рымскай царкве падуладныя", маглі валодаць і карыстацца эканамічнымі і палітычнымі перавагамі і падараваннямі пануючаму саслоўю з боку вярхоўнай улады.У параграфе шостым пацвярджалася забарона на шлюбы паміж каталікамі і праваслаўнымі. Асаблівае значэнне ў ходзе далейшай унутрапалітычнай барацьбы ў Вялікім Княстве Літоўскім меў параграф дзевяты Гарадзельскага прывілея, па якім на "дастоінствы, месцы і пасады" прызначаліся "толькі каталіцкай веры прыхільнікі і падуладныя святой Рымскай царкве. Таксама і ўсе пастаянныя ўрады земскія... надаюцца толькі прыхільнікам хрысціянскай каталіцкай веры і да савета нашага (вялікакняскай рады. – *П.Л.*) дапускаюцца і ў ім прысутнічаюць, калі абмяркоўваюцца пытанні дзяржаўнага дабрабыту, таму што часта розніца ў веравызнаннях прыводзіць да розніцы ў пазіцыях і аказваюцца цераз гэта вядомымі такія рашэнні, якія неабходна ў тайне захоўваць". Параграфы адзінаццаты і дванаццаты пазбаўлялі праваслаўную знаць права выбрання вялікага князя, якім зноў жа карысталіся толькі "паны і шляхціцы зямлі літоўскай, прыхільнікі хрысціянскай рэлігіі, Рымскай царкве падуладныя, не схізматыкі ці іншыя паганыя"[2].

Тым самым Гарадзельскі прывілей 1413 г., як і папярэднія 1387 і 1401 гг., рабіў "рускую" праблему галоўным канфліктным полем, што ставіла пад пагрозу перспектыўнае унітарнае адзінства шматэтнічнага і

---

[1] *Ochmański J.* Historia Litwy. S. 80; БЭФ. Т. 1. С. 95–96.
[2] БЭФ. Т. 1. С. 115–118.

шматканфесійнага дзяржаўнага ўтварэння, якім з'яўлялася Вялікае Княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае і іншых зямель.

Праўда, неабходна адзначыць, што ў часы Вітаўта прывілеі практычна не дзейнічалі. Вырашаць рэлігійныя супярэчнасці вялікі князь хацеў шляхам уніі дзвюх плыняў хрысціянства ("закону рымскага і грэцкага"). З гэтай мэтаў ён збіраў у 1415 г. у Навагрудку з'езд праваслаўных мітрапалітаў і выпраўляў у Канстанц на Усяленскі сабор мітрапаліта Рыгора Цамблака. Пасля няўдалай спробы рэалізацыі свайго пачынання вялікі князь літоўскі прытрымліваўся рэлігійнай талерантнасці, выкладзенай ім у формуле: "... каторы б русін... хацеў бы па сваёй волі хрысціцца, няхай хрысціцца, а каторы б не схацеў, хай будзе ў сваёй веры"[1].

Але пасля смерці Вітаўта "рускае" пытанне сваю разбуральную для Вялікага Княства Літоўскага ролю адыграла ў часы грамадзянскай вайны 30-х г. XV ст., антыказіміраўскай кіеўскай змовы 1481 г. і, урэшце, мяцяжу Глінскага 1508 г.

**Захады па цэнтралізацыі ўлады.** Выкарыстаўшы "рускую" праблему дзеля захопу вялікакняскай улады ў ВКЛ, Вітаўт галоўнай задачай сваёй унутранай палітыкі ў 90-х гг. XIV – пачатку XV ст. зрабіў умацаванне ўласных пазіцый. У першую чаргу гэта ажыццяўлялася шляхам больш цеснага падпарадкавання цэнтру існуючых адміністрацыйных адзінак дзяржавы – абласных княжанняў. Метады правядзення гэтай палітыкі ў залежнасці ад сітуацыі вагаліся ад адміністрацыйных распараджэнняў да ваенна-гвалтоўнага ўціску. Маштабнасць справы ліквідацыі ўдзельных княстваў была відавочная (яна павінна была ахапіць геаграфічны арэал ад Падзвіння да Падолля), таму патрабавала і часу, і значнай падтрымкі. Справа ў тым, што за час расцягнутай на паўтара дзесяцігоддзі дынастычнай барацьбы ўдзельныя князі адчулі сябе сапраўднымі манархамі ў сваіх землях. Сувязь з цэнтральнай уладай у іх практычна адсутнічала, яны гаспадарылі і рабілі палітычны выбар самастойна. Маючы свае ўладанні на ўскраінах, абласныя правадыры ўяўлялі сабой небяспечную сепаратысцкую сілу, якая дэцэнтралізавала дзяржаву. Напрыклад, князь Падольскай зямлі Фёдар Карыятавіч на пачатку 90-х гг. XIV ст. прызнаў сваю залежнасць ад венгерскага караля[2]. Пасля смерці другой жонкі вялікага князя Альгерда княгіні Ульяны, якая па спадчынным праве княжыла ў Віцебску, адзін з яе сыноў, будучы вялікі князь Свідрыгайла Альгердавіч, самавольна заняў віцебскі княскі пасад[3].

Менавіта ў сувязі з гэткай набіраючай моц адасобленасцю ўдзельных князёў навядзенне парадку ў абласных княствах было актуальнай праблемай для гаспадара Вялікага Княства Літоўскага. Немалаважную ролю для пачатку працэсу ліквідацыі ўдзелаў адыгрывала перспектыва папоўніць і ўмацаваць княскі скарб за кошт даходаў абласных валадароў.

Маючы за плячыма моцны тыл у выглядзе падтрымкі буйных баяр і дробных князёў, што змагаліся разам з Вітаўтам за яго прыход да ўлады, гаспадар на працягу 1393–1395 гг. ліквідаваў буйныя ўдзельныя кня-

---

[1] *Kosman M.* Historia Białorusi. Wrocław, 1979. S. 76.

[2] *Шабульдо Ф.М.* Земли Юго-Западной Руси в составе Великого княжества Литовского. Киев, 1987. С. 87, 99.

[3] *Любавский М.К.* Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. С. 51.

жанні ў Полацку, Віцебску, Смаленску, Ноўгарадзе Северскім, Кіеве, на Валыні і Падоллі. Там, дзе Вітаўту не было аказана супраціўлення, мясцовыя былыя валадары надзяляліся іншымі княствамі, але больш дробнымі і невызначальнымі (кіеўскі князь Уладзімір Альгердавіч, напрыклад, атрымаў Капыль). Калі ж абласныя правадыры спрабавалі даць вялікаму князю ваенны адпор, то пазбаўляліся сваіх пасад, а замест дробнага княжання атрымлівалі турэмнае зняволенне (князь Ноўгарада Северскага Дзмітрый Карыбут, падольскі князь Фёдар Карыятавіч)[1].

Найбольш драматычныя падзеі пад час адабрання ў былых валадароў абласных княжанняў адбываліся ў Смаленску, якому належала частка беларускіх зямель. На пачатку 90-х гг. XIV ст. у гэтым старажытным цэнтры княжыў былы стаўленік князя Скіргайлы Альгердавіча Юры Святаславіч, вядомы па падзеях выступлення супраць Ягайлы Андрэя Полацкага. У час ліквідацыйнай кампаніі Вітаўт здрабніў яго княжанне да невялікага Рослаўльскага. У Смаленску гаспадар пасадзіў гаспадарыць брата Юрыя – Глеба. Паміж смаленскімі князямі пачалася цяжба за першынство. Трацейскім суддзёй стаў вялікі князь Вітаўт. Распусціўшы чуткі, што ідзе на татар, гаспадар нечакана з'явіўся пад Смаленскам. Там Вітаўт прапанаваў усім мясцовым князям, якія сабраліся на з'езд у свой сталічны горад, з'явіцца да вялікага князя для вырашэння канфліктаў. Тыя з задавальненнем згадзіліся. Спрэчка за першынство ў Смаленскай зямлі была вырашана Вітаўтам самым простым спосабам. Усе князі смаленскія былі арыштаваны і адпраўлены ў глыб Вялікага Княства Літоўскага, а намеснікам у Смаленску быў прызначаны стаўленік Вітаўта. Праўда, князю Юрыю Святаславічу ўдалося збегчы ад вялікага князя да свайго цесця князя Алега Разанскага. Праз шэсць гадоў Юры здолеў вярнуць сабе Смаленскае княжанне. Але ў 1405 г. Вітаўт з вялікім войскам і артылерыяй зноў быў пад сценамі цвярдыні на Дняпры. На гэты раз ён скарыў Смаленск канчаткова. Там валадарылі толькі стаўленікі вялікіх князёў літоўскіх[2].


Герб Трокскай зямлі.
Пачатак XVI ст.

Як і ў Смаленску, ва ўсіх падначаленых удзелах Вітаўт садзіў сваіх намеснікаў. Напрыклад, у Віцебску гэта быў Фёдар Вясна, у Кіеве – Іван Гальшанскі і г.д. Усе яны былі служылымі людзьмі і свята выконвалі волю гаспадара, абяцаючы яму, як, напрыклад, Іван Гальшанскі ў 1401 г., сваю вернасць "со всем с моим имением и с тым што держю ныне и потом от моего господаря великого князя Витовта с городами с месты и с землями"[3]. Ва ўсім жа астатнім у далучаных да Вялікага Княства Літоўскага ў XIV ст. землях нічога не змянялася. Вітаўт не парушаў выпрацаваную продкамі

[1] ПСРЛ. Т. 32. М., 1975. С. 70–71; *Шабульдо Ф.М.* Земли Юго-Западной Руси в составе Великого Княжества Литовского. С. 84, 100–101.
[2] *Соловьев С.М.* История России с древнейших времен. Т. 4. М., 1988. С. 363, 367.
[3] ПСРЛ. Т. 32. С. 70; *Шабульдо Ф.М.* Земли Юго-Западной Руси в составе Великого княжества Литовского. С. 84–85.

традыцыю "старины не рухати, новины не вводити", захоўваючы за абласцямі поўную аўтаномнасць і самабытнасць. Пра гэта сведчаць тыя ж абласныя прывілеі, якія выдаваліся як Вітаўтам, так і яго спадкаемцамі.

Але ўсё ж неабходна адзначыць, што ўвядзенне намесніцтваў, па-першае, скіравала абласныя ўскраіны Вялікага Княства Літоўскага да больш шчыльнай сувязі з цэнтрам, па-другое, давала матэрыяльныя сродкі для падтрымкі ўнутранага адзінства і цэласнасці дзяржавы. Калі раней вялікі князь атрымліваў даходы непасрэдна ад сваіх уладанняў і дапаўняў іх дастаткова нязначным агульнадзяржаўным падаткам (у землях Полацкай і Віцебскай ён называўся сярэбшчынай, а на Палессі – пасошчынай), то з ліквідаваннем удзельных княжанняў у яго скарб пайшлі прыбыткі, якія да гэтага належалі абласным валадарам. А сродкі то былі немалыя: грашовая даніна, мядовая, бабровая, кунічная, ваверкамі, лісамі, хлебная, мясная, разнастайныя мыты, судовыя спагнанні ("вины")[1] ды інш. Да таго ж усе былыя гаспадарчыя двары мясцовых князёў перайшлі ў рукі вялікага князя. Павялічылася ў вялікакняскім фондзе агульная колькасць зямель, на якіх ён мог развіваць далей сваю ўласную гаспадарку ці перадаваць іх за службу іншым асобам.

Такім чынам, умацаванне вялікакняскай улады, як палітычнае, так і эканамічнае, праз ліквідацыю ўдзелаў і ўвядзенне намесніцтваў, было вельмі значным. З аднаго боку, былі ліквідаваны карані магчымага сепаратызму ці дынастычных прэтэнзій, з другога – вялікі князь атрымаў непасрэдна пад сваю ўладу мноства ваеннага служылага люду, згоднага служыць за адпаведную ўзнагароду манарху і дзяржаве.

**Сацыяльная палітыка вярхоўнай улады.** Якія б унутраныя і знешнія перыпетыі ні перажывала дзяржава, яе сацыяльная арыентацыя была адназначнай – скіраванай на падтрымку інтарэсаў землеўладальнікаў. Менавіта напрыканцы XIV ст. пачаўся працэс уціску шырокага кола знаці – ад дробнага баярства (уключаючы княжацкіх асоб) да вярхоўнай улады – з мэтай надання ёй сацыяльна-эканамічных прывілеяў, на якіх яны ўмацоўвалі б сваё сацыяльна-палітычнае і маёмаснае становішча. Пачатак гэтаму быў пакладзены вядомым прывілеем Ягайлы 1387 г. Як ужо адзначалася, прывілей зрабіў феадалаў-каталікоў землеўласнікамі (калі ўладальніку зямлі даравалася права свабодна ёю распараджацца і валодаць вечна). Праваслаўным феадалам падобнае права было дадзена ў 1432 г. Акрамя таго, прывілей 1387 г. дазваляў знаці свабодна выдаваць сваіх дачак і швагерак замуж; даваў права ўдовам валодаць маёнткам мужа да смерці ці да паўторнага выхаду замуж, пасля чаго зямля адыходзіла дзецям ці родным мужа; вызваляў феадалаў ад адпрацовачных павіннасцей на карысць вялікакняскага двара. Практычна ў іх заставаўся адзін абавязак – ваенная служба ды ўтрыманне і будаўніцтва дзяржаўных абарончых збудаванняў[2]. Праўда, прывілей 1387 г. яшчэ не вызваляў цалкам баярства і князёў ад выплаты грашовых і натуральных данін і пакідаў іх пад вялікакняскай юрысдыкцыяй. Далейшая барацьба феадалаў за пашырэнне сваіх правоў ішла ў напрамку здабычы

[1] *Любавский М.К.* Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. С. 52–53.
[2] БЭФ. Т. 1. С. 102.

судовага і скарбовага імунітэту. Урэшце для гэтага ў іх быў прыклад – Віленскае біскупства, якое Ягайла ў 1387 г. вызваліў ад усіх павіннасцей і падаткаў на карысць дзяржавы, а таксама вывеў з-пад вялікакняскай ды наогул свецкай юрысдыкцыі. Каб дабіцца жаданага выніку, землеўласнікам не спатрэбілася шмат часу. Ужо прывілеі 1413 і 1432, 1434 гг. фіксавалі недатыкальнасць як уладанняў феадалаў, так і іх асоб. Без судовага разбіральніцтва баярын не падлягаў юрысдыкцыі карання. Гэтыя ж прывілеі канчаткова вызвалялі уладальнікаў зямель ад дзяржаўных і дваровых павіннасцей і падаткаў[1].

Грунтуючыся на дзяржаўным праве, прадстаўнікі ўплывовых родаў праз асабістрыя капіталы нарошчвалі свае багацці. Менавіта ў канцы XIV ст. – пачатку XV ст. з'яўляюцца першыя латыфундыі. Напрыклад, прыбліжаны да Вітаўта староста, а потым ваявода віленскі Манівід атрымаў ад гаспадара ў 1396 г. ва ўладанне вёску Геранёны Ашмянскага павета, затым у 1403 г. яму дасталіся Жупраны і Мікулішкі. У 1407 г. вялікі князь аддаў свайму вернаму служэбніку воласць Шоптава на Смаленшчыне і некалькі маёнткаў на Бярэзіне дняпроўскай, а ў 1409 г. яшчэ шэраг вёсак у Ашмянскім павеце. Такім чынам ва ўладанні Манівіда сканцэнтравалася 500 сялянскіх дымоў, а ў яго сына Івашкі Манівідавіча ў сярэдзіне XV ст. было ўжо 2 тыс. дымоў падданых, у чатыры разы болей! Падобнае пашырэнне сваіх уладанняў на працягу першай паловы XV ст. здзейснілі прадстаўнікі родаў Кезгайлаў, Гаштаўтаў, Радзівілаў і інш. Аб інтэнсіўнасці працэсу шляхетызацыі зямельных уладанняў у Вялікім Княстве на працягу практычна аднаго стагоддзя красамоўна сведчаць лічбы. Так, калі ў XIV ст. пад уладай вялікага князя было 80% сялян, то ў 20-х гг. XV ст. іх колькасць зменшылася да 30%[2].

Такім чынам, канец XIV ст. – пачатак XV ст., калі вялікакняская знаць атрымлівала з рук вярхоўнай улады новыя правы, землі, можна назваць часам пачатку складвання асобнага, прывілеяванага шляхецкага саслоўя.

У дачыненні да найбольш шматлікай часткі насельніцтва вялізнай прасторы Княства – сялян-земляробаў – сацыяльная палітыка вярхоўнай улады была ў гэты час досыць кансерватыўнай. Яна тычылася толькі пераразмеркавання іх павіннасных і падаткавых абавязкаў у дачыненні да дзяржавы і землеўладальнікаў. Кола дзяржаўных павіннасцей і падаткаў сялян было дакладна акрэслена ўжо ў XIV ст. Яно заключалася ў працы па пабудове і ўтрыманні абарончых збудаванняў, прадуктовай дані, грашовым падатку і ваеннай павіннасці. Аднак, згодна з прывілеем Ягайлы 1387 г., падданыя прыватных феадалаў-каталікоў ужо цалкам аддаваліся ў распараджэнне сваіх уладальнікаў, а на дзяржаву адпрацоўвалі толькі замкавыя работы і па традыцыі прымалі ўдзел у "пагоні", якая ў XIV ст. была абавязкам усіх мужчын, якія маглі насіць зброю[3].

Наступныя прывілеі першых дзесяцігоддзяў XV ст. скрупулёзна ўдакладнялі тыя павіннасці, ад якіх прыватнаўласніцкія сяляне вызваляліся, і тыя, якія яны павінны былі выконваць: "селяне и подданные княжатом, рытерам, шляхтичом, боярам и местычом наших земель Ве-

---

[2] *Ochmański J.* Historia Litwy. S. 92, 107.
[3] БЭФ. Т. 1. С. 101.

ликого княжества Литовского, от всего данья и заплати, собранья вытяниеня серебщизны и тех мер, которыи же дякла реченыи суть, от воженя каменя ... иных несправедливых работ выпущеный и будуть вольны и выняты, выме135нуючы работы на будованье городов нашых новых потребных, а старых поправенья; тем княжатом, рытером, шляхтичем селян данных и подданых и через нас им дарованных також выимаючех. А теж из стародавна зыченые на нас и на наши будущии уреды поборы, стацыи, мостов новых чинея, старых поправенья, а городов отправленя, непорушне заховаем, а и хочем всегда имети неслободных"[1]. Падобнае правіла спагнання дзяржаўных павіннасцей і падаткаў мела моц на працягу XV – першай паловы XVI ст.[2]


Узоры касцюмаў жыхароў ВКЛ XV ст.
З мініяцюр Радзівілаўскага летапісу

Канец XIV ст. прынёс змены ў грамадска-эканамічнае жыццё гарадоў і яго насельніцтва, якое называлася мяшчанствам. Менавіта ў гэты час мяшчане атрымліваюць свае першыя саслоўныя прывілеі. Так, 15 жніўня 1390 г. жыхары Берасця атрымалі ад вялікага князя Ягайлы прывілей на самакіраванне па магдэбургскім праве[3]. У наступным годзе такое ж права, верагодна, атрымала Гародня. Грамата на магдэбургію, якая выдавалася і пацвярджалася вялікім князем, уяўляла сабой дакумент, дзе фіксаваліся асноўныя прынцыпы гарадскога самакіравання: органы ўлады, кіравання, суда, адносіны з прадстаўнікамі вярхоўнай улады, унутрыгарадскія стасункі, асобныя прывілеі ды ільготы, павіннасці і падаткі на карысць дзяржавы. Галоўным здабыткам гарадоў, якія атрымлівалі магдэбургскае права, было самастойнае вырашэнне ўласных праблем, вызваленне ад улады і падсуднасці дзяржаўных чыноўнікаў (старостаў, намеснікаў), што давала юрыдычныя гарантыі іх эканамічнай дзейнасці. Магдэбургскае права садзейнічала фарміраванню мяшчанскага саслоўя, якое канчаткова склалася ў XVI ст.

## 3. Гаспадарчае развіццё Беларусі (XIII – першая палова XVст.)

**Асаблівасці феадальнай і сялянскай гаспадарак.** Утварэнне і станаўленне моцнай цэнтралізаванай дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага, у склад якога ўвайшлі і беларсукія землі, аказала станоўчы ўплыў на развіццё эканомікі Беларусі. У XIII – першай палове XV ст. на беларускіх землях працягваўся працэс фарміравання і ўсталявання феадальных адносін. Сацыяльна-эканамічнай асновай феадальнага грамад-

[1] БЭФ. Т. 1. С. 119–121.
[2] АЗР. Т. 1. СПб., 1846. № 61; Статут Великого княжества Литовского 1524 г. Мн., 1960 (раздз. 1, арт. 2).
[3] Акты Литовско-Русского государства. Вып. 1. М., 1899. № 1.

ства з'яўлялася сельская гаспадарка. Разам з тым менавіта ў гэты час пачынае ўсё больш шырока развівацца таварная вытворчасць, рамяство, гандаль, што знайшло сваё адлюстраванне ў развіцці ўнутранага рынку і ва ўмацаванні гарадской гаспадаркі.

Вярхоўным уласнікам усёй зямлі ў ВКЛ у азначаны час з'яўляўся вялікі князь (гаспадар). Да сярэдзіны XV ст. у яго асабістую ўласнасць уваходзілі не толькі спадчынныя, але і дзяржаўныя землі, якія складалі так званы дамен, што ў сярэдзіне XVI ст. займаў амаль палову тэрыторыі дзяржавы[1]. Гаспадарскія ўладанні не толькі ўяўлялі сабой ворыўныя землі, але ўключалі іншыя сельскагаспадарчыя, а таксама лясныя ўгоддзі (гаспадарскія лясы і пушчы), дзе адбывалася нарыхтоўка драўніны, вытворчасць попелу, вугалю і інш.

За права палявання ў пушчах плацілася спецыяльная даніна. Мясцовае насельніцтва мела права паляваць і займацца рыбнай лоўляй у гаспадарскіх уладаннях толькі ў спецыяльна вызначаных месцах, названых у дакументах як "уступы" ці "ўваходы". У склад дзяржаўных уладанняў уключаліся таксама гарады і мястэчкі, што размяшчаліся на землях дамена. Некаторыя з іх былі буйнымі гандлёва-прамысловымі паселішчамі, жыхары якіх жылі выключна ці пераважна з гандлю і рамяства (Вільня, Берасце, Навагрудак, Менск, Полацк, Віцебск). Насельніцтва іншых гарадскіх паселішчаў часта займалася рамяством і гандлем у якасці дадатку да земляробства[2]. Асноўныя прыбыткі з гаспадарскіх уладанняў ішлі ў дзяржаўны скарб, на патрэбы войска, утрыманне адміністрацыі і вялікакняскага двара. Натуральна, што развіццё гаспадаркі на дзяржаўных землях аказвала значны, а часта і рашаючы ўплыў на агульнаэканамічны стан краіны.

Акрамя таго, развівалася гаспадарка і ва ўладаннях свецкіх і духоўных феадалаў Беларусі[3]. Гэтыя ўладанні пастаянна пашыраліся і ў асноўным за кошт дзяржаўных зямель. Справа ў тым, што дамен з часоў утварэння ВКЛ стаў фондам для ўзнагароджвання вялікім князем феадалаў, якія мелі асабістыя заслугі перад дзяржавай ці гаспадаром. Гэтыя раздачы станавіліся з кожным годам усё больш значнымі, дастаткова вялікая колькасць зямлі з дзяржаўнага фонду пераходзіла ў сферу прыватнага землеўладання[4]. На думку Б. Грэкава, у XIII–XV ст. "на гэтых землях новыя землеўласнікі не мелі магчымасці і патрэбы заводзіць сваю гаспадарку, а задавольваліся аброкам з сялян"[5].

Толькі прыблізна з сярэдзіны XV ст. становішча стала мяняцца, і ў ВКЛ з'явіліся першыя феадальныя гаспадаркі, арыентаваныя на вытворчасць таварнай прадукцыі. Да гэтага ж часу асноўны ўпор у эканамічным развіцці краіны прыходзіўся на сялянскі двор. Сяляне, абавязаныя выплачваць феадальную рэнту ў той ці іншай форме (у асноўным даніну ці грашовую

[1] *Похилевич Д.Л.* Статус домена Великого князя Литовского и его населения в XV–XVI вв. // Тезисы докладов и сообщений XV сессии межреспубликанского симпозиума по аграрной истории Восточной Европы. М., 1974. С. 52.

[2] *Любавский М.К.* Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. С. 107.

[3] Гісторыя сялянства Беларусі. Т. 1. Мн., 1997. С. 56.

[4] *Пичета В.И.* История сельского хозяйства и землевладения в Белоруссии. Ч. 1 (до конца XVI века). Мн., 1928. С. 50.

[5] *Греков Б.Д.* Крестьяне Руси с древнейших времен до XVII века. М.; Л., 1946. С. 435.

рэнту – чынш), вымушаны былі не толькі весці, але і па магчымасці пашыраць сваю гаспадарку, выходзіць са сваёй прадукцыяй на мясцовы рынак. Таму зразумела, што менавіта сялянская гаспадарка з'яўлялася адной з асноўных частак эканомікі краіны. Гэта натуральна і таму, што пры феадалізме абсалютную большасць насельніцтва складала сялянства, якое было і асноўнай вытворчай сілай грамадства.



Рыцары і сяляне. Фрагмент алтарнага роспісу ў Гданьску. Канец XV ст.

Эканоміка сялянскай гаспадаркі ў гэты перыяд была заснавана ў першую чаргу на земляробстве, жывёлагадоўлі, хатнім рамястве. Дапаможнымі заняткамі было бортніцтва, паляванне, рыбалоўства. Асноўнай сельскагаспадарчай культурай заставалася жыта. Шырока былі распаўсюджаны таксама авёс, ячмень, проса, грэчка, лён, каноплі. Вырошчваліся рэпа, агуркі, морква, буракі, цыбуля, часнок, боб, гарох і інш.[1] Разам з земляробствам развівалася і жывёлагадоўля. Як у панскіх маёнтках, так і ў гаспадарках сялян утрымліваліся коні, каровы, свінні, козы, авечкі. З хатняй птушкі разводзілі курэй, гусей, качак. Колькасць кароў, асабліва ў панскіх гаспадарках, часта перавышала патрэбы гаспадаркі ў малаку. Найбольш верагодным тлумачэннем гэтага з'яўляецца ўтрыманне іх для вытворчасці ўгнаенняў.

Асноўнай цяглавай сілай былі коні і валы. Крыніцы выразна паказваюць першасную ролю земляробства ў сельскай гаспадарцы. Жывёлагадоўля была накіравана на вытворчасць прадуктаў харчавання для панскага маёнтка ці сялянскага двара і на абслугоўванне запатрабаванняў земляробчай галіны. Бортніцтва, рыбалоўства, лясныя промыслы ў гэты час складалі дадатковы занятак для сялян і, як правіла, яны імі займаліся ў вольны ад земляробства час.

Сельскае рамяство насіла ў асноўным хатні характар. У гэты час амаль кожны сялянскі двор выступаў як самастойны вытворчы калектыў, дзе выраблялі ўсе неабходныя для гаспадаркі і жыцця рэчы. Выключэннем быў толькі выраб складаных прадметаў пераважна для сельскагаспадарчай вытворчасці. Таму спецыялізаванае сельскае рамяство ў гэты час прадстаўлялі ў асноўным рамёствы, што былі звязаны з вырабам прылад працы і жыццёва неабходных прадметаў: кавальскае, бондарскае, ганчарнае і інш.

**Асноўныя фактары эканамічнага развіцця.** Гаспадарчая сістэма Вялікага Княства Літоўскага сфарміравалася не адразу. Яна складвалася паступова, на працягу доўгага часу і канчаткова аформілася, па выказванні М. Доўнар-Запольскага, "толькі ў праўленне двух апошніх Ягело-

[1] Эканамічная гісторыя Беларусі. Мн., 1996. С. 82–83.

наў"[1] – Жыгімонта Старога (1506–1548) і Жыгімонта Аўгуста (1548–1572). Эканамічная арганізацыя ВКЛ не толькі стала вынікам сацыяльна-эканамічнай палітыкі яго кіраўніцтва (правядзенне якой станоўча ўплывала на развіццё гаспадаркі), але і ўвабрала ў сябе "разнастайныя праявы фінансавай дзейнасці дзяржавы больш ранняй эпохі"[2]. Калі беларускія землі ўвайшлі ў склад ВКЛ, новая дзяржава змагла карыстацца здаўна сфарміраваным эканамічным патэнцыялам некалькіх дзесяткаў развітых беларускіх гарадоў[3]. Сярод іх можна адзначыць Полацк, Віцебск, Менск, Барысаў, Копысь, Слуцк, Лагойск, Невель, Дуброўну, Оршу, Наваградак, Гародню, Ваўкавыск, Слонім, Ліду, Здзітаў, Кобрын, Драгічын, Пінск, Давыд-Гарадок, Берасце, Мазыр і інш.[4]

Сапраўды, нельга недаацэньваць уклад у гаспадарчае развіццё ВКЛ, напрыклад, тэрыторый былога Полацкага княства. Вядома, што да XIII ст. Полацк быў горадам высокага ўзроўню развіцця рамяства, цэнтрам мясцовага рынку і актыўным удзельнікам міжнароднага гандлю[5]. Полацкая зямля са сваёй сталіцай Полацкам, які быў магутным эканамічным, палітычным і культурным цэнтрам, шмат садзейнічала ўзнікненню гаспадарчага і культурнага адзінства гэтых зямель і стварэнню перадумоў для фарміравання беларускай народнасці[6]. Так, вядомы дагаворныя граматы XIII ст. полацкіх князёў з Інфлянцкім ордэнам і Рыгай аб свабодзе гандлю. Напрыклад, грамата 1263 г. абвяшчала: "Верху того, немечькому гостю в Полочькую волно ехат/и/ торго/ват/и, купити и продат/и/. Тако ж полочаном и видиблянину волн/о/ гостити в Ригу и на Готьскы берег"[7]. Шмат унеслі ў станаўленне гаспадаркі ВКЛ і іншыя беларускія гарады і землі: Віцебск, Менск, Гародня, Берасце, Пінск і г.д.

На гаспадарчае развіццё, несумненна, аказвала ўплыў і палітычнае становішча пэўных рэгіёнаў у агульнай сацыяльна-палітычнай сістэме ВКЛ. Так, Віцебская і Полацкая землі, якія ўвайшлі ў ВКЛ на аснове спецыяльных дагавораў, пэўны час уяўлялі сабой не толькі асобныя адміністрацыйна-тэрытарыяльныя, але і гаспадарчыя адзінкі, якія самі вызначалі для сябе гандлёвыя і эканамічныя прыярытэты. У XIV–XV ст. асабліва моцнай была сувязь Віцебска і Полацка з Псковам і Ноўгарадам на паўночным усходзе і з Рыгай на паўднёвым захадзе[8]. Найбольш актыўна гандлёвыя сувязі гарадоў поўначы Беларусі з рускімі гарадамі развіваліся ў канцы XIV – пачатку XV ст. і сярэдзіне 40-х гг. XV ст.[9] Гэта несумненна сведчыць аб даволі значным развіцці эканомікі ў дадзеным рэгіёне Беларусі. Сведчаннем гандлёвых сувязей з'яўляецца і берасцяная грамата XIII–XIV ст., знойдзеная ў Віцебску: "Ад Сцяпана к Няжылу. Калі ты прадаў адзенне, то купі мне жыта на 6 грыўняў. А калі чаго не прадаў, то прышлі мне ў наяўнасці. Калі ж прадаў, то, дабрадзей мой, ку-

[1] *Довнар-Запольский М.* Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Т. 1. Киев, 1901. С. 1.
[2] Там жа. С. 2.
[3] *Пашуто В.Т.* Образование Литовского государства. М., 1959. С. 269.
[4] Там жа. С. 268.
[5] *Штыхов Г.В., Лысенко П.Ф.* Древнейшие города Белоруссии. Мн., 1966. С. 16–20.
[6] Там жа. С. 26.
[7] *Вішнеўскі А.Ф., Юхо Я.А.* Гісторыя дзяржавы і права Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Мн., 1998. С. 24–25.
[8] *Левко О.Н.* Торговые связи Витебска в X–XVIII вв. Мн., 1989. С. 18.
[9] Там жа.

ці жыта"[1]. Пасля ўваходжання Полацкай і Віцебскай зямель у склад ВКЛ урад не толькі не імкнуўся прыпыніць іх замежны гандаль, а наадварот, стараўся падтрымаць і ўмацаваць ранейшыя гандлёвыя сувязі. Напрыклад, у 1338 г. у мірным дагаворы паміж ВКЛ і Інфлянцкім ордэнам спецыяльна падкрэслівалася, што "Дзвіна павінна быць свабоднай для кожнага купца, ці будзе ён хрысціянін, ці паганін"[2].

Захоп крыжакамі вусцяў Нёмана і Заходняй Дзвіны, ваенныя дзеянні на заходнім напрамку, усталяванне татарамі кантролю над паўднёвымі гандлёвымі шляхамі, як і напружанае змаганне за першынство з Маскоўскай дзяржавай (што звязана з паходамі Альгерда на Маскву ў 1368, 1370 і 1372 гг.), крыху прыпыніла знешнеэканамічныя кантакты Вялікага Княства. Але гэты працэс меў і адваротны бок: абмежаванне знешняга гандлю ўскосным чынам станоўча паўплывала на развіццё ўнутранага рынку, перш за ўсё на ўмацаванне лакальных (рэгіянальных) зносін. Тлумачыцца гэта ў першую чаргу тым, што да сярэдзіны XV ст. многія землі (былыя ўдзельныя княствы) у гаспадарчым сэнсе ўяўлялі сабой даволі самастойныя адзінкі, а працэс развіцця таварна-грашовых адносін, які тут ужо распачаўся, патрабаваў пашырэння рынкавых сувязей.

Да сярэдзіны XV ст. выразна праяўляюцца своеасаблівасці эканамічнага развіцця некаторых рэгіёнаў Беларусі. У першую чаргу гэта датычыць рэгіёнаў Падзвіння і Панямоння, дзе як горад, так і вёска здаўна былі звязаны са знешнім рынкам. Ст. Александровіч адзначае, што гандлёвыя кантакты з Рыгай водным шляхам праз Дзвіну спрыялі працэсам гаспадарчага развіцця ў некаторых старых гарадах ВКЛ над Дзвіной і Дняпром: Полацку, Віцебску і Смаленску[3]. Гародня і рэгіён таксама мелі выхад да Балтыйскага мора праз Нёман. Даследчыкі адзначалі, што склад выяўленых тут сельскагаспадарчых раслін дазваляе меркаваць аб высокай культуры земляробства[4].

Падняпроўе і Палессе былі менш шчыльна заселенымі, выраблялі сельскагаспадарчую прадукцыю ў асноўным для ўласнага ўжытку і выплаты даніны і, такім чынам, былі менш звязанымі не толькі са знешнім, але і з унутраным рынкам. Аднак нельга пагадзіцца з меркаваннем У. Пічэты аб тым, што земляробства на тэрыторыі Беларусі да канца XIV ст. найбольшае распаўсюджванне атрымала ў заходніх рэгіёнах як больш заселеных, "тады як Прыдзвінскія і Прыдняпроўскія воласці былі краінай прамысловай гаспадаркі"[5]. Апошнія даследаванні паказваюць дастаткова высокі ўзровень развіцця сельскай гаспадаркі ў Падзвінні[6]. Значны працэнт збожжа ў складзе феадальнай рэнты сялян-даннікаў гаспадарскіх Падняпроўскіх валасцей таксама сведчыць, на наш погляд, пра інтэнсіўнае развіццё сельскай гаспадаркі мясцовага сялянства.

---

[1] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 2. Мн., 1994. С. 19.
[2] *Вішнеўскі А.Ф., Юхо Я.А.* Гісторыя дзяржавы і права Беларусі ў дакументах і матэрыялах. С. 32.
[3] *Aleksandrowicz St.* Gospodarcze, prawne i etniczne osobliwości sieci miejskiej ziem Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVI–XVII w. // Miasto i kultura ludowa w dziejach Białorusi, Litwy, Polski i Ukrainy. Kraków, 1996. S. 62.
[4] *Пашуто В.Т.* Образование Литовского государства. С. 269.
[5] *Пичета В.И.* История сельского хозяйства и землевладения в Белоруссии. Ч. 1. С. 39.
[6] *Спиридонов М.Ф.* Закрепощение крестьянства Беларуси (XV–XVIII вв.). Мн., 1993. С. 54–55.

Феадальная гаспадарка не дасягнула тут такога ўзроўню, як на захадзе і ў цэнтры Беларусі, у першую чаргу з прычыны аддаленасці ад еўрапейскіх рынкаў і цяжкасці вывазу сельскагаспадарчай прадукцыі. Другая, не менш важная прычына гэтага – наяўнасць на памежжы з Маскоўскай дзяржавай вялікай колькасці ваенных гарнізонаў, на ўтрыманне якіх увесь час патрабавалася значная колькасць збожжа, аўса, іншай сельскагаспадарчай прадукцыі. Пастаўлялі яе менавіта падняпроўскія сяляне-даннікі. Калі б сельскагаспадарчая вытворчасць была тут недастаткова развітай, то хлеб і авёс прыйшлося б завозіць сюды з іншых рэгіёнаў. Дастаткова развітым эканамічным раёнам было і Падляшша[1].

**Складванне ў ВКЛ агульнадзяржаўнага рынку.** З умацаваннем і паступовай цэнтралізацыяй дзяржавы, прыблізна з канца XIV – пачатку XV ст., не толькі пачынаюць развівацца лакальныя, рэгіянальныя рынкі, але фарміруецца агульнадзяржаўны ўнутраны рынак ВКЛ. У гарадах і мястэчках рэгулярнымі сталі кірмашы. Яны прыцягвалі не толькі мясцовых гандляроў, але таксама купцоў з замежжа. Ізноў жа, унутраны рынак не ўзнікаў з нічога, а засноўваўся на ранейшых традыцыях міжгарадскога і міжрэгіянальнага гандлю, але цяпер ён усё часцей знаходзіў юрыдычную падтрымку дзяржавы, у першую чаргу ў дачыненні да гарадоў, якія атрымлівалі права на самакіраванне. У. Пашута звярнуў увагу на тое, што калі вялікі князь Жыгімонт Кейстутавіч ў 1432 г. дараваў віленскім гараджанам свабоду гандлю, то адзначыў, што месцічы карысталіся правам свабоднага гандлю здаўна, і згадаў гарады, з якімі вяла гандаль Вільня: Коўна, Наваградак, Менск, Луцк, Берасце, Кіеў, Смаленск ды інш.[2]

Больш дакладна спасылаўся на даўніну вялікі князь Казімір, калі даваў у 1440 г. тым жа віленскім мяшчанам, каталікам і русінам, якія знаходзіліся "пад правам магдэбургскім", вызваленне "ад плачэння мыта ва ўсім Княстве Літоўскім і ў Русі згодна з адвечнымі звычаямі, зацверджанымі яшчэ продкамі вялікага князя: дзедам Альгердам, некалі вялікім князем літоўскім будучым, і бацькам Уладзіславам, каралём польскім, які тады быў і князем Літвы"[3]. Гэта сведчыць, што ўжо ў XIV ст. ішло актыўнае фарміраванне ўнутранага рынку і дзяржава падтрымлівала гэты працэс шляхам адмены ў першую чаргу мытных збораў для найбольш эканамічна развітых цэнтраў.

Сведчаннем умацавання ўнутранага рынку з'яўляецца развіццё таварна-грашовых адносін, пашырэнне грашовага абарачэння. Практыка паказвае, што менавіта грошы звязваюць геаграфічную прастору, ператвараючы яе ў эканамічную. Пры княжанні вялікага князя Кейстута (1345–1382) пачынаецца эмісія ўласных грошай ВКЛ, так званых літоўскіх дынараў. У XIV–XV ст. на тэрыторыі ВКЛ шырокае распаўсюджанне атрымаў пражскі грош, які склаў аснову грашовага абарачэння дзяржавы і за яе межамі нават стаў вядомы як літоўскі грош (манета з такой назвай пачала выпускацца толькі ў канцы XV – пачатку XVI ст.)[4].

---

[1] *Пашуто В.Т.* Образование Литовского государства. С. 269.
[2] Там жа. С. 268.
[3] Skarbiec diplomatów papezkich, cesarskich, królewskich ... / Sebrał i w treści opisał J. Daniłowicz. T. 2. Wilno, 1862. S. 173.
[4] *Рябцевич В.Т.* О чем рассказывают монеты. Мн., 1977. С. 92–94.

Той факт, што ў ВКЛ у канцы XIV ст. быў уведзены спецыяльны грашовы падатак на войска – сярэбшчына таксама сведчыць пра даволі шырокае развіццё ўнутранага рынку, распаўсюджанне таварна-грашовых адносін і ўцягванне ў іх шырокіх колаў насельніцтва, у тым ліку сялянства.





Шпоры XV–XVI ст., выробленыя менскімі майстрамі

Наданне гарадам права на самакіраванне, так званага магдэбургскага права – таксама сведчанне іх эканамічнага росту, ператварэння ў развітыя цэнтры эканамічнай вытворчасці і рэгіянальныя цэнтры гандлю. Важнымі элементамі магдэбургскага права былі льготы ў падаткаабкладанні, арганізацыі рамеснай і гандлёвай дзейнасці. Гэты працэс пачаўся з канца XIV ст., у час, калі стала даваць першыя вынікі палітыка цэнтралізацыі дзяржавы. Першай грамату на самакіраванне атрымала Вільня (1387), потым Гародня (1391), Слуцк (1441). Гарады з магдэбургскім правам не толькі набывалі статус самастойнасці ў судова-адміністрацыйных справах, але станавіліся для дзяржавы самастойнымі фінансава-гаспадарчымі адзінкамі. Значная частка прыбыткаў ад гаспадарчай дзейнасці гараджан заставалася непасрэдна ў скарбніцы гарадоў з магдэбургскім правам. Таму магістраты шмат чаго рабілі для падтрымкі рамяства і гандлю. Менавіта ў магдэбургскіх гарадах з'явіліся першыя спецыялізаваныя арганізацыі рамеснікаў, якія пазней ператварыліся ў цэхі.

На падтрымку гараджан, на развіццё гарадскога рамяства ішла і дзяржава. Насельніцтва найбольш эканамічна развітых гарадоў, такіх як Вільня, Полацк, Навагрудак, Менск, было вызвалена ад ранейшых сумесных с воласцю цяглых і іншых павіннасцей[1]. Гэта сведчыла, што дзяржаўная ўлада ўжо зразумела як адрозненне ў эканамічным становішчы і арганізацыі жыцця паміж вёскай і горадам, так і важнасць працы мяшчан (рамеснікаў, гандляроў, купцоў) і таму дала жыхарам некаторых гарадоў магчымасць займацца толькі сваёй прафесійнай дзейнасцю. Такі быў пачатак тэндэнцыі, якая з XVI ст. стала правілам для мяшчанства гарадоў з магдэбургскім правам. Развіваліся рамяство і гандаль таксама ў прыватных і царкоўных гарадах і мястэчках. Не ў апошнюю чаргу гэтаму спрыяў уласнік, які таксама разлічваў на павелічэнне прыбытку.

Дастаткова шырока, асабліва з другой паловы XIV ст., развіваўся гандаль з замежжам. Вядома, што Полацкая і Віцебская землі здаўна вялі гандаль з Ноўгарадам, Псковам, іншымі паўночна-ўсходнімі тэрыторыямі. На мясцовыя рынкі таксама прыбывалі шматлікія замежныя купцы з Маскоўскай дзяржавы, Польшчы, Прыбалтыкі, Малдавіі, Чэхіі, Венгрыі, Германіі, Турцыі і іншых зямель[2]. Праўда, як ужо адзначалася, у папярэдні час з прычыны засілля крыжакаў і перакрыцця мангола-та-

---

[1] *Любавский М.К.* Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. С. 138–139.
[2] *Рябцевич В.Т.* О чем рассказывают монеты. С. 91.

тарамі паўднёвых гандлёвых шляхоў сувязі як з Захадам, так і з Усходам крыху скараціліся. У далейшым аслабленне засілля крыжакаў на берагах Балтыйскага мора і аднаўленне гандлёвых адносін з Заходняй Еўропай мела велізарны ўплыў на гаспадарчае развіццё беларускіх зямель, асабліва размешчаных у басейне Нёмана[1].

Умацоўваліся гандлёвыя сувязі і з Усходам. Напрыклад, гандлёвыя сувязі купцоў ВКЛ з Ноўгарадам да першай чвэрці XV ст. настолькі ўмацаваліся, што вялікі князь Свідрыгайла змог заключыць з Ноўгарадам дагавор, па якім купцы з ВКЛ мелі тут вялікія гандлёвыя перавагі[2]. Пасля падаўлення Масквой незалежнасці Ноўгарада стаў больш актыўна разгортвацца гандаль з Масквой. Для маскоўскіх купцоў у Вільні быў пабудаваны спецыяльны гасціны двор[3]. Вывозілася дрэва, паташ, скуры, мёд, іншыя тавары. Асноўнымі прадметамі ўвозу былі воск, смала, сала, хмель, соль, медзь, волава, тканіна, віно[4].


Грыўны так званага літоўскага тыпу

Такім чынам, уваходжанне беларускіх зямель у склад Вялікага Княства Літоўскага, вынікам чаго стала ліквідацыя феадальнай раздробленасці і цэнтралізатарская дзяржаўная дзейнасць як у палітычнай, так і сацыяльна-эканамічнай сферы, прывяло да станоўчых зрухаў у іх гаспадарчым развіцці. Да канца XIV – пачатку XV ст. эканоміка ВКЛ пры актыўнай падтрымцы дзяржавы выйшла на новы ўзровень развіцця, які знайшоў сваё найбольшае выяўленне ў станаўленні ўнутранага рынку, пашырэнні таварна-грашовых адносін, пачатку актыўнага ўключэння гаспадаркі Беларусі ў сферу еўрапейскіх гандлёва-эканамічных дачыненняў. Стабілізацыя ўнутранага жыцця краіны, імкненне да правядзення адзінай гаспадарчай палітыкі на ўсёй тэрыторыі, пашырэнне ўнутранага рынку рэалізацыі сельскагаспадарчай прадукцыі і з'яўленне перспектывы вывазу яе на знешні рынак несумненна стымулявала вытворчасць у аграрным і іншых сектарах эканомікі краіны.

Ужо з пачатку XV ст. назіраецца нарастанне тэндэнцый, якія хутка сталі выразнымі паказчыкамі развіцця эканомікі: 1) рост буйнога землеўладання (вялікія феадальныя гаспадаркі, як паказваюць крыніцы, значна хутчэй пераходзілі да вытворчасці таварнай прадукцыі); 2) пашырэнне плошчы ворнай зямлі ў выніку распрацоўкі лясоў, а таксама ў выніку павелічэння колькасці сельскага насельніцтва (рост насельніцтва – адзін з найважнейшых паказчыкаў стабільнасці эканамічнага развіцця); 3) паляпшэнне магчымасцей збыту за мяжу прадукцыі сельскай і лясной гаспадаркі[5].

---

[1] *Пичета В.И.* История сельского хозяйства и землевладения в Белоруссии. Ч. 1. С. 33.
[2] *Пичета В.И.* Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве. М., 1958. С. 39.
[3] Там жа. С. 40.
[4] *Пашуто В.Т.* Образование Литовского государства. С. 282–283.
[5] *Łowmiański H.* Studia nad dziejami Wielkego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983. S. 424.

Падагульняючы сказанае, можна таксама адзначыць, што ў XIII – першай палове XV ст. аснову эканомікі Беларусі складала сельская гаспадарка. Сельскагаспадарчая вытворчасць яшчэ не набыла таварнага характару, таму асноўны цяжар у эканамічным развіцці прыпадаў на сялянскую гаспадарку. Разам з цэнтралізацыяй краіны ішло станаўленне ўласнай грашовай сістэмы. З пашырэннем вытворчасці развіваўся і гандаль з замежжам. Важную ролю ў гаспадарчым развіцці краіны адыгрывалі гарады і мястэчкі, а сярод іх – гарады з магдэбургскім правам. Рамесная вытворчасць развівалася пераважна ў гарадах. Сельскае насельніцтва ў разгляданы перыяд у большасці само забяспечвала сябе неабходнай рамесніцкай прадукцыяй: рамяство насіла ў асноўным хатні характар. Да сярэдзіны XV ст. развіццё таварна-грашовых адносін, пашырэнне сувязей з Еўропай, дзе рос попыт на прадукцыю сельскай гаспадаркі, выклікала сярод пануючага класа разуменне неабходнасці рэарганізацыі ўласных маёнткаў для вырабу прадукцыі на продаж. Пастаяннай тэндэнцыяй гэта стала ў другой палове XV–XVI ст.

# ГЛАВА 4

# ЦАРКВА І КАНФЕСІІ

## 1. Еўрапейскі феномен царкоўна-канфесійнай супольнасці

**Асноўныя этапы развіцця царкоўна-канфесійных адносін у ВКЛ (XIII–XVI ст.).** Фарміраванне этнаканфесійнай, а пазней і дзяржаўна-хрысціянскай супольнасці ВКЛ прайшло некалькі значных этапаў. З пачатку складвання новага дзяржаўнага ўтварэння ў сярэдзіне XIII ст. да хрышчэння Літвы ў канцы XIV – пачатку XV ст. (з улікам Жамойці) і уніі з Польшчай – гэта этап своеасаблівага этнаканфесійнага і дзяржаўнага сімбіёзу, што грунтаваўся на гістарычна розных узроўнях папярэдняга палітычнага, сацыяльнага і духоўнага развіцця і нязвыклай рэлігійнай цярпімасці.

На землях Беларусі, Польшчы, Украіны ў гэты час панавала хрысціянства[1], на тэрыторыі этнічнай Літвы – язычніцтва[2]. Прычыны працяглага захавання архаічных канфесійных традыцый у апошняй язычніцкай краіне Еўропы караніліся ў запозненым у параўнанні з некаторымі

[1] З захаваннем пэўных рэліктаў язычніцтва ў свядомасці і побыце насельніцтва. Гл.: *Богданович А.Е.* Пережитки древнего мировоззрения у белорусов. Гродно, 1895; *Зайкоўскі Э.М.* Познесярэдневяковыя язычніцкія свяцілішчы і культавыя аб'екты // Археалогія Беларусі. Т. 4. Помнікі XIV–XVIII стст. Мн., 2001. С. 133–142.

[2] *Ivinskis Z.* Senovės Lietuvių religijos bibliografija. Kowno, 1938; *Kosman M.* Drogi zaniku pogaństwa u bałtów. Wrocław etc., 1976; *Rowell S.C.* Lithuania ascending: A pagan empire within east-central. Europe, 1295–1345. Cambridge, 1995; *Vaitkevičius V.* Senosios Lietuvos šventvietės. Zemaitija. Vilnius, 1998; Baltų religijos ir mitologijos šaltiniai / Sud. N. Vėlius. T. 1–2. Vilnius, 1996–2001.

суседзямі (Кіеўскай Руссю, Польшчай і інш.) працэсе гаспадарчага развіцця, станаўлення і эвалюцыі ранніх форм уласнай дзяржаўнасці, адпаведных сацыяльных і царкоўных адносін і інстытутаў, а пазней у своеасаблівым характары ВКЛ, пры ўзрастаючай этнічнай і канфесійнай перавазе грэка-візантыйскага праваслаў'я ва ўсіх "рускіх" землях і ва ўсім Княстве. Імкненне вярхоўнай улады і літоўскага баярства да захавання дасягнутых дзяржаўна-палітычных пазіцый у новым дзяржаўным утварэнні і эвалюцыя самога літоўскага язычніцтва таксама замаруджвалі хрысціянізацыю Літвы. Неаднаразовыя спробы зрабіць гэта з боку яе суседзяў – Польшчы і асабліва Нямецкага ордэна – ацэньваліся манархамі ВКЛ у кантэксце ўласных палітычных інтарэсаў і планаў яго контрагентаў, якія да таго ж былі нярэдка апасродкаваны тэрытарыяльнымі прэтэнзіямі і ваенна-палітычным саперніцтвам.

Палітычны сімбіёз язычніцка-хрысціянскай супольнасці ў працэсах фарміравання і ўзмацнення ВКЛ пры захаванні выразнай адасобленасці найбольш распаўсюджаных канфесій – самы дзіўны феномен еўрапейскай дзяржаўнай і этнаканфесійнай гісторыі. Дзякуючы гэтаму феномену былі закладзены падставы для захавання значнай унутрыпалітычнай і грамадскай талерантнасці на наступным этапе дзяржаўнай эвалюцыі ВКЛ, ускладненай ва ўнутраных этнаканфесійных узаемаадносінах каталіцкім хрышчэннем Літвы, збліжэннем з каталіцкай Польшчай, націскам Тэўтонскага ордэна і іншымі вядомымі фактарамі. Важнай цэзурай у межах непасрэднай гісторыі праваслаўнай мітраполіі Кіеўскай і ўсяе Русі быў яе канчатковы падзел на дзве незалежныя мітраполіі ў 1448 г.[1] Праўда, гэтая падзея, як і пастановы Ферара-Фларэнтыйскага сабора 1439 г., не вельмі адбілася на тагачасных узаемаадносінах каталіцкай царквы і каталіцкага этнасацыяльнага асяроддзя з Кіеўскай мітраполіяй ВКЛ і праваслаўным насельніцтвам Беларусі і Украіны.

Другі значны этап этнаканфесійнай гісторыі ВКЛ працягваўся з немалымі зменамі прыблізна да сярэдзіны XVI ст. – перыяду ўзмацнення рэфармацыйных уплываў, фарміравання пратэстанцкай царкоўнай арганізацыі ва ўсіх яе канфесійных абліччах. У Беларусі – пераважна на падставе мадыфікаванага кальвінізму[2]. Суіснаванне і саперніцтва трох хрысціянскіх цэркваў на землях ВКЛ было яскравым, але нядоўгім адносна самастойным этапам. Пасля Люблінскай уніі, Інфлянцкай вайны, каталіцкай рэформы ў Цэнтральнай і Заходняй Еўропе ўзмацніліся пазіцыі каталіцкай царквы ў Польшчы і ВКЛ, якая хутка набыла рысы дзяржаўнай канфесіі Рэчы Паспалітай. Нягледзячы на шэраг талерантных актаў, гэты час адзначаны ростам рэлігійнай канверсіі ў асяроддзі магнатаў і заможнай шляхты, іх пэўнай культурнай і канфесійнай паланізацыі пры захаванні традыцыйных пануючых уплываў праваслаў'я сярод паспалітага мяшчанскага і асабліва сялянскага насельніцтва Беларусі і

[1] Фактычна падзел заняў больш працяглы час, але 1448 год быў у значнай ступені вырашальным.

[2] *Падокшин С.А.* Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (вторая половина XVI – начало XVII в.). Мн., 1970; *Kosman M.* Reformacja i kontrreformacja w Wielkim Księstwie Litewskim. Wrocław etc., 1973; *Lukšaitė I.* Reformacija Lietuvos Didžiojoje Kunigaikštystėje ir Mažojoje Lietuvoje. XVI a. – trečias dešimtmetis. Vilnius, 1999; De reformatorischen Kirchen Litauens. Ein historischer Ariss von A.Hermann [u.] Erlander, 1998.

Украіны. Спробай вырашэння наспелых царкоўна-канфесійных і палітычных праблем сталі Берасцейскія саборы 1596 г., з якіх пачынаюцца новыя, не менш складаныя этапы царкоўна-канфесійнай гісторыі ВКЛ.

Гісторыя асобных хрысціянскіх канфесій (праваслаўе, каталіцызм, пратэстанцтва) мае свае ўнутраныя падзелы, якія не заўсёды супадаюць з асноўнай, больш універсальнай перыядызацыяй. Такая знамянальная падзея, як каталіцкае хрышчэнне Літвы, слаба адбілася на ўнутранай эвалюцыі праваслаўнай царквы ВКЛ. У сваю чаргу канчатковы падзел мітраполіі Кіеўскай і ўсяе Русі на дзве незалежныя дзяржаўна-царкоўныя структуры практычна не закрануў каталіцкую царкоўную арганізацыю. Рэфармацыйная царква ў ВКЛ пачынае фарміравацца ў першай палове XVI ст., а адасабленне арыянскіх збораў у Беларусі і Літве ў яе рэчышчы прыпадае на 60-я гг. гэтага стагоддзя.

Сціслае вызначэнне асноўных этапаў царкоўна-канфесійнай гісторыі ВКЛ (пераважна хрысціянскай царквы) пры ўсіх асаблівасцях падкрэслівае іх пэўную залежнасць і ўзаемадзеянне з іншымі значнымі працэсамі, што развіваліся на розных палітычных, дзяржаўных, рэгіянальных і этнаканфесійных узроўнях. Рэальнае ўвасабленне гэтых сувязей відавочней прасочваецца ў канкрэтныя, больш вузкія перыяды згаданай эвалюцыі, пачынаючы з самых ранніх.

**Хрысціянства – язычніцтва ва ўнутраным жыцці ВКЛ (да 1385–1387 гг.): межы супольнасці і асобнасці.** Хрысціянска-язычніцкія ваенна-палітычныя, гандлёвыя, гаспадарчыя, моўныя кантакты народаў старажытнай Русі і Прыбалтыкі вядомы з канца X – пачатку XI ст. Мяркуючы па крыніцах, яны нярэдка набывалі форму ваенна-палітычных сутыкненняў, узаемных наездаў, радзей іншых, у тым ліку саюзніцкіх, адносін[1]. Да сярэдзіны XIII ст. працэс хрысціянізацыі ўсходнеславянскага арэала, і ў першую чаргу яго пануючых пластоў – Рурыкавічаў і адасобленых княжацкіх дынастый Полацкага, Навагрудскага, Тураўскага, Кіеўскага і іншых княстваў, – быў у цэлым завершаны. Пануючыя колы новага дзяржаўнага ўтварэння вымушаны былі лічыцца і выкарыстоўваць у сваіх і агульных мэтах палітычныя і канфесійныя структуры паралельнага, у значнай ступені незалежнага хрысціянскага свету. Мясцовае насельніцтва Беларусі і іншых славянскіх зямель ВКЛ бачыла ў гэтым сімбіёзе перспектыву захавання і адраджэння традыцыйных форм дзяржаўнасці.

Такім чынам, адно з першых і пазітыўных наступстваў утварэння ВКЛ – забеспячэнне адносна хуткага і даволі ўстойлівага ператварэння напружаных і нярэдка варожых "паганска"-хрысціянскіх кантактаў у пераважна ўзаемавыгадныя, ленныя ці саюзніцкія адносіны. Ужо карны паход Міндоўга супраць літоўскай апазіцыі, распачаты пры ўдзеле праваслаўнага навагрудскага баярства, выявіў гэтую тэндэнцыю.

Неспрыяльныя абставіны часцей узнікалі на перыферыі ВКЛ у выніку яго тэрытарыяльнай і палітычнай экспансіі. Моцныя праваслаўныя княствы са сваімі дынастычнымі прэтэнзіямі і саўдзельнікамі, як, на-

[1] *Paszkiewicz H.* Regesta Lithuaniae ab origine usque ad Magni Ducatus cum Regno Poloniae unione. T. 1. Varsoviae, 1930; *Пашуто В.Т.* Образование Литовского государства. М., 1959; *Gudavičius E.* Mindaugas. Vilnius, 1998; *Baranauskas T.* Lietuvos valstybės istakos. Vilnius, 2000.

прыклад, Смаленскае, памяталі пра свае вотчыны, нават страціўшы самастойнасць.

Своеасаблівыя рысы язычніцка-праваслаўнага сімбіёзу праяўляліся ў слабацэнтралізаваным, кансерватыўным характары дзяржаўнага ладу ВКЛ, дзякуючы чаму на землях Беларусі, Украіны, некаторай часткі пазней далучаных паўночна-ўсходніх рускіх княстваў доўга захоўвалася ледзь не ўся палітычная, гаспадарчая, сацыяльная, канфесійная, духоўная спадчына папярэдніх этапаў.

Працэс фарміравання і станаўлення ВКЛ, яго ператварэння з часоў Гедыміна і Альгерда ў адну з найбольш значных геапалітычных дзяржаў Усходняй і Цэнтральнай Еўропы праходзіў ва ўзважаным раўнадзеянні двух афіцыйна пануючых веравызнанняў: хрысціянства грэка-візантыйскай абраднасці (спрошчаныя некананічныя назвы – грэчаская, руская вера, праваслаўе) і язычніцтва (паганства – па многіх палемічных і царкоўных помніках лацінскай і славянскай кніжнасці).

Пад раўнадзеяннем маецца на ўвазе пэўная раўнавага суадносін, якая з нязначнымі зменамі ўсталявалася з першых этапаў фарміравання ВКЛ, найбольш відавочна падзяліўшы асноўныя этнаканфесійныя групы насельніцтва: літоўцаў (шырэй кажучы ўсе балцкія рода-племянныя аб'яднанні – носьбіты язычніцкай духоўнай культуры і веры) і пераважна хрысціянізаваных славян (русіны, рускі люд, людзі рускага звычаю), якія карысталіся агульным недыферэнцыраваным эндаэтнонімам. Да інтэгравання ўкраінскіх зямель у склад ВКЛ і пазней у выніку тэрытарыяльнай і этнаканфесійнай блізкасці да этнаграфічнай Літвы аснову гэтай групы складалі праваслаўныя жыхары Беларусі. Язычніцтва ў пэўным сэнсе злітоўвала ўсе пласты літоўскага насельніцтва, грэка-візантыйская вера была вызначальнай прыкметай усходнеславянскага этнічнага арэала.

Да 80-х гг. XIV ст. у этнаканфесійным кантэксце стабільна захоўвалася гэтая раўнавага (пры яе ўнутраным этнатэрытарыяльным падзеле). Балцкае і славянскае насельніцтва (пры шмат якіх супярэчнасцях і падзелах, кампрамісах і сутыкненнях) у цэлым выразна супрацоўнічала ва ўтварэнні і развіцці ВКЛ ва ўсіх вырашальных сферах яго дзейнасці. Палітычнае, гаспадарчае і духоўнае ўзаемадзеянне народаў ВКЛ з рознымі канфесійнымі традыцыямі можна ў пэўным сэнсе назваць дзяржаўнай этнаканфесійнай супольнасцю. Менш за ўсё яна звязана з непасрэднымі рэлігійнымі кантактамі, якія не варта перабольшваць: акрамя гістарычных, этнасацыяльных і ўласна канфесійных разыходжанняў ім перашкаджалі тэрытарыяльная і моўная адасобленасць, розніца ў светапоглядзе і ментальнасці, адсутнасць цэнтралізаванай царквы ў Літве, развітой іерархіі і інш. Праваслаўная царква вяла ідэалагічную палеміку супраць язычніцтва, якая, аднак, рэдка набывала публічны і дэманстрацыйны характар, выходзячы за межы праваслаўнага асяроддзя. Місіянерская дзейнасць царквы ў канцы XIII–XIV ст. на землях Аўкштайціі (і тым больш Жамойці) зусім не прыкметная. Праваслаўныя цэрквы і манастыры ўзнікалі там амаль выключна ў Вільні, дзе пражывала значная колькасць русінаў-месцічаў. Відавочна, што згаданая супольнасць, у тым ліку кантактнасць праваслаўя і язычніцтва, выяўлялася не столькі ў канфесійных адносінах (тут існавала і зразумелая, праўда, нерадыкальная супярэчнасць), колькі ў розных мірскіх сферах, дзе гэтыя разы-

ходжанні зусім ці не вельмі перашкаджалі ўзаемадзеянню: развіццё дзяржаўнага ладу ВКЛ, яго тэрытарыяльна-адміністрацыйнай і царкоўна-канфесійнай сістэм, звычаёвага і пісьмовага права, сумесная адміністрацыйная, ваенна-палітычная дзейнасць, гандлёвыя, гаспадарчыя, службовыя, прыдворныя і іншыя кантакты і сувязі. Гэта, нарэшце, палітычная апрабацыя язычніцкай манархіі з боку большасці палітычна заангажаваных пластоў праваслаўнага насельніцтва Беларусі і Украіны (разам з тымі дынастамі, якія атрымлівалі свае ўдзелы на землях усходнеславянскага арэала).

Дзякуючы гэтай супольнасці сацыяльна-палітычныя, гаспадарчыя і духоўныя, моўныя і пісьмовыя традыцыі Беларусі аказвалі стымулюючае ўздзеянне на эвалюцыю самой Літвы, паўнае рэфармаванне язычніцтва і паступовае выспяванне ўмоў для пераходу да хрысціянскай канфесіі. Важнымі цэнтрамі гэтага ўздзеяння былі гарады Беларусі, асабліва з адчувальнай прысутнасцю нехрысціянскага насельніцтва, паколькі язычніцкія свяцілішчы ў такіх гарадах не дзейнічалі.

У кантэксце дадзенай тэмы варта спыніцца яшчэ на дзвюх больш вузкіх і спецыфічных праблемах: як ставіліся манархі і дынасты ВКЛ да еўрапейскага, у тым ліку ўсходнеславянскага, хрысціянства і што доўга перашкаджала Літве ўспрыняць манатэістычную канфесію?

Большасць манархаў ВКЛ да часоў Ягелонаў захоўвалі свае язычніцкія традыцыі. Пры гэтым яны не маглі не ўлічваць пануючай ролі праваслаўя ў асяроддзі колькасна пераважнага беларуска-ўкраінскага насельніцтва. У самым пачатку фарміравання ВКЛ, верагодна, існавала магчымасць праваслаўнага хрышчэння Літвы, але пераход у праваслаўе Войшалка і нядоўгае панаванне параднёнага з ім выхадца з галіцкіх княжацкіх колаў Шварна не знайшло адпаведнага працягу ў вялікакняскай дынастычнай традыцыі.

З часоў Міндоўга значна актывізаваліся спробы каталіцкага хрышчэння Літвы з боку Нямецкага ордэна, Рыжскага архібіскупства, рымскіх пантыфікаў. Манархі ВКЛ ставіліся да гэтых праектаў прагматычна, рэдка рэалізуючы старонніх канфесійныя прапановы. Толькі Міндоўг завяршыў справу сваёй канверсіі (змена веры) пры дапамозе каталіцкага біскупа Хрысціяна[1], і то чыста інструментальна. Падараваўшы Ордэну значныя землі і ўладанні ў Жамойці, ён атрымаў магчымасць узброенай рукой справіцца са сваёй апазіцыяй[2].

Акрамя палітычных матываў, не было ніякіх перашкод да заключэння змешаных дынастычных шлюбаў. З васьмі сыноў Гедыміна засталіся язычнікамі да сваёй смерці толькі тры (Альгерд, Кейстут, Манвід). Некалькі разоў без асаблівых праблем змяняў сваё афіцыйнае веравызнанне да крэўскага акта 1385 г. Вітаўт, з астатніх – прынялі праваслаўе звязаныя з беларуска-ўкраінскімі землямі ці княжацкім пасадам у Вялікім Ноўгарадзе – Нарымунт, Карыят, Дзмітрый Любарт, збеглы ў Маскву пасля страты ўлады ў ВКЛ Яўнут. З шасці дачок Гедыміна тры звязалі свой лёс з вядучымі контрагентамі ВКЛ, уплывовымі палітычнымі асоба-

[1] *Жлутка А.* Міндаў кароль Літовіі ў дакументах і сьведчаньнях. Мн., 2005. С. 108–110.
[2] *Gudavičius E.* Mindaugas. P. 262–281.

мі: Альдона (шлюб з польскім каралём Казімірам Вялікім у 1325 г.), Марыя (з вялікім цвярскім князем Дзмітрыем Грозныя Вочы, прэтэндэнтам на вялікае княства Уладзімірскае, 1320 г.), Айгуста (Настасся пасля праваслаўнага хрышчэння, шлюб з сынам Івана Каліты – Сямёнам Гордым зімой 1333/34 г.); прыняла каталіцтва жонка Баляслава плоцкага Эльжбета, каля 1316 г., і праваслаўе – дзве дачкі Гедыміна, парадненыя з галіцка-уладзімірскім князем Баляславам Юрыем II у 1331 г. і князем Андрэем Казельскім.

З пяці сыноў Альгерда ад першага шлюбу чытыры прынялі праваслаўе, адзін (невядомай канфесіі) загінуў у 1353 г. – праваліўся пад лёд у час ваеннага паходу. Абедзве дачкі таксама былі праваслаўнымі[1]. Такім чынам, адносіны вялікіх князёў літоўскіх да сваіх праваслаўных ці каталіцкіх партнёраў не выклікалі ніякіх канфесійных ускладненняў і дыктаваліся толькі прагматычнымі разлікамі. Што да самога Альгерда, то новая гіпотэза польскага даследчыка Т. Васілеўскага аб праваслаўнай катэхізацыі вялікага князя[2] патрабуе большага абгрунтавання.

Польскі даследчык М. Косман прыкмеціў цікавую асаблівасць узаемаадносін вялікіх літоўскіх князёў ці іх родзічаў з каталіцкімі краінамі Цэнтральнай Еўропы, якія ў сярэдзіне XIV ст. афіцыйна падтрымлівалі ідэі пакаёвай або прымусовай хрысціянізацыі літоўскіх язычнікаў і рускіх схізматыкаў. У асобных выпадках (праўда не вельмі частых) каталіцкія ўлады згаджаліся на замацаванне дасягнутых пагадненняў па звычайнай язычніцкай абраднасці, так званымі крывавымі прысягамі (казус Кейстута)[3]. Уздзеянне праваслаўя на язычніцкую, а пазней і каталіцкую Літву выявілася, між іншым, у значным пашырэнні праваслаўнай царкоўнай тэрміналогіі ў літоўскай мове.

З сярэдзіны XIII ст. да смерці Альгерда не менш за дзевяць разоў на самым высокім узроўні завязваліся перамовы аб хрышчэнні Літвы – і заўсёды зрываліся. Існавалі свае прычыны гэтай шматразовасці: неспрыяльныя палітычныя мэты з боку замежных дзяржаў, ордэнскіх утварэнняў і кааліцый, унутранае сапернііцтва прэтэндэнтаў на захаванне ці пашырэнне сваёй улады, што шукалі падтрымкі розных этнаканфесійных груповак, кансерватызм паспалітага літоўскага люду (найбольш характэрны для Жамойці) і інш. Самай вялікай перашкодай у самім ВКЛ да каталіцкага хрышчэння Літвы было панаванне праваслаўнай царквы і канфесіі на большай частцы ўсяго дзяржаўнага арэала і неабходнасць лічыцца з гэтай рэальнасцю.

Гістарычным вынікам эвалюцыі дзяржаўна-канфесійнай супольнасці стала фарміраванне пераважна талерантных адносін да звычаяў і традыцый народаў і этнічных груп ВКЛ і ў пэўным сэнсе таксама да замежных народаў і канфесій. Гэтая талерантчасць выяўлялася на розных узроўнях гаспадарчых, гандлёвых, побытавых кантактаў, у палітычнай і духоўнай дзейнасці вялікіх князёў літоўскіх, дынастаў, паспалітых і іншых пластоў насельніцтва, дзяржаўных і царкоўных інстытуцый. Дзяржаўна-канфесійная супольнасць садзейнічала знаёмству і паступовай ду-

[1] Гл. *Tęgowski J.* Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Wrocław, 1999.
[2] *Wasilewski T.* Prawosławne imiona Jagiełły i Witolda // Analecta Cracoviensia, 1987. Vol. XIX. S. 109.
[3] *Kosman M.* Drogi zaniku pogaństwa u Bałtów. S. 16.

хоўнай адаптацыі пануючай дынастыі да хрысціянскай канфесіі, эвалюцыі і спробам рэфармавання язычніцтва ў Літве, наладжванню палітычных і гандлёвых узаемаадносін з іншымі княствамі. Пераход да грэчаскай (праваслаўнай) веры і абраднасці літоўскіх дынастаў стаў звычайнай справай пры іх рассяленні ва ўсходнеславянскіх землях ВКЛ, што адначасова супала з яго выхадам на шырокую міжнародную арэну.

## 2. Мітраполія Кіеўская і ўсяе Русі ў палітыцы вярхоўнай улады ВКЛ

**Пераемнасць традыцый. Змены ў дзяржаўна-тэрытарыяльнай арганізацыі. Галіцка-Валынская, Літоўская мітраполіі.** Царкоўная арганізацыя на землях старажытнай Русі пачала фарміравацца пасля прыняцця грэка-візантыйскай веры ў канцы X ст. і заснавання Кіеўскай мітраполіі. Працэс яе эвалюцыі быў абумоўлены дзяржаўным і сацыяльным развіццём Русі, а доўгае існаванне Кіеўскай мітраполіі ва ўмовах распаду былой дзяржаўнай структуры, як слушна адзначыў Я. Шчапаў, у пэўнай ступені кампенсавала недахоп палітычнай цэнтралізацыі[1].

Адноснае адзінства Кіеўскай мітраполіі было істотна разладжана ў другой палове XIII–XIV ст. у сувязі з развіццём і значнай пераарыентацыяй знешнепалітычных і дзяржаўных адносін ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе. Праваслаўная царква працягвала непадзельна панаваць у тых рускіх княствах, якія ў значнай ступені фарміравалі палітычную структуру ВКЛ, захоўвалі пэўную незалежнасць за яго межамі ці сталі падуладнымі больш буйным дзяржаўным утварэнням Паўночна-Усходняй Русі. Сеньёральная ўлада мангола-татарскіх ханаў не ліквідавала праваслаўную царкву ў гэтым арэале Еўропы, але паставіла яе (звычайна пры дапамозе мясцовых князёў) пад свой пільны нагляд.

У ВКЛ праваслаўная царква ўпершыню апынулася ў незвычайным становішчы: тэрытарыяльна і этнадэмаграфічна яна выразна панавала ў дзяржаве і ў той жа час была ў пэўнай ступені залежнай ад пануючай літоўскай дынастыі і суіснавала з язычніцтвам. Розныя парогі этнаканфесійнай ментальнасці і духоўнай культуры балцкага і славянскага насельніцтва, як і сацыяльна-палітычныя інтарэсы літоўскіх князёў і баярства ў канцы XIII–XIV ст., абмяжоўвалі місіянерскую дзейнасць праваслаўнай царквы ў Літве. Разам з тым працяглае суіснаванне і ў некаторых сферах – супрацоўніцтва з язычнікамі (пры захаванні рэлігійнай непрыхільнасці) стала адным з першых парасткаў этнарэлігійнай талерантнасці для абодвух бакоў, не суправаджалася ні крыжовымі паходамі, ні смяротнымі пакараннямі, чым нярэдка пазначана гісторыя старой Еўропы. Відавочна, што дзяржаўны статус праваслаўнай царквы меў сваё асаблівае аблічча ва ўсіх буйных княствах і дзяржаўных фарміраваннях Усходняй і Цэнтральна-Усходняй Еўропы і ў значнай ступені вызначаўся этнадэмаграфічнымі і грамадска-палітычнымі фактарамі.

Паўднёвая мангола-татарская экспансія і апека, унутраныя канфлікты ўлады з баярствам перакрэслілі асноўныя дзяржаватворчыя і ваен-

[1] *Щапов Я.Н.* Государство и церковь Древней Руси в X–XIII вв. М., 1989. С. 190.

на-палітычныя памкненні Галіцка-Валынскай Русі. Некаторыя яе землі ў канцы XIII – пачатку XIV ст. падпалі пад уладу Польшчы або ВКЛ. Праваслаўная царква ў Польскай Кароне, не маючы такіх падмуркаў, як у ВКЛ, апынулася ў больш складаным становішчы, што не перашкаджала польскім каталіцкім манархам часам рэалізоўваць свае планы адносна асобнай праваслаўнай мітраполіі.

Фарміраванне і развіццё новых дзяржаўна-тэрытарыяльных утварэнняў, іх знешнепалітычная экспансія на землі Русі (у шырокім тагачасным значэнні апошняй) акрэслілі саперніцтва некалькіх асноўных дзяржаў, якія імкнуліся да падначалення ўсёй ці часткі кананічнай царкоўна-адміністрацыйнай структуры Кіеўскай мітраполіі: Польшча з яе рэгіянальнымі прэтэнзіямі на Галіцка-Валынскую Русь, ВКЛ, якое ў часы Гедыміна і Альгерда атрымала большую частку зямель Беларусі і Украіны, і Вялікае княства Уладзімірскае (Цвер і галоўным чынам Масква), якое спалучала палітыку паглыблення ці пашырэння сваіх уплываў на дасягальныя рускія княствы, не цураючыся пры гэтым падтрымкі мангольскіх ханаў. Чацвёртым дзяржаўна-канфесійным цэнтрам заставаўся Канстанцінопаль (Канстанцінопальская патрыярхія, візантыйскія імператары да 1453 г.), які не разлічваў, праўда, на ўласныя тэрытарыяльныя набыткі і намагаўся захаваць свае ўплывы і даходы з усёй непадзельнай мітраполіі Кіеўскай і ўсяе Русі.

Пэўная рэгенерацыя і перабудова былой епархіяльнай структуры Кіеўскай мітраполіі ва ўмовах яе глыбокага крызісу пасля разбуральных мангола-татарскіх нашэсцяў і падзелаў Русі пачалася ў канцы XIII – першай палове XIV ст. у даволі абмежаваным абсягу, дзе сыходзіліся палітычныя інтарэсы Польскага Каралеўства і не вельмі ўмацаванага яшчэ ВКЛ. Амаль адначасова на гэтых заходніх і паўднёва-заходніх землях Русі сталі фарміравацца новыя царкоўныя структуры – Галіцка-Валынская і Літоўская мітраполіі. Узнікненне першай найбольш сцісла і паказальна прадэманстравала залежнасць рэгіянальнага царкоўнага ўтварэння ад дзяржаўнай палітыкі Польскага Каралеўства, якое само яшчэ доўга заставалася слаба цэнтралізаванай дзяржавай.

Заснаванне Галіцка-Валынскай мітраполіі ў 1303 г. адбылося пры ўдзеле канстацінопальскага патрыярха Афанасія, візантыйскага імператара Андроніка II і было выклікана як палітычнымі інтарэсамі Польшчы ў замацаванні сваёй улады на землях старадаўніх праціўнікаў, так і сепаратысцкімі разлікамі князя Юрыя Галіцкага і мясцовага духавенства. На думку І. Мейендорфа, сепаратызм у Галічы і Літве падтрымліваўся не супрацьдзеяннем візантыйскаму праваслаўю, а перамяшчэннем рэальнага цэнтра Кіеўскай мітраполіі ва Уладзімірска-Суздальскую Русь, адкуль праваслаўным архірэям было цяжка ажыццяўляць свае пастырскія абавязкі на аддаленым паўднёвым захадзе[1]. На наш погляд, гэтае меркаванне злёгку перабольшана. Пазней пры далучэнні Галіцка-Валынскай і Літоўскай мітраполій да мітраполіі Кіеўскай і ўсяе Русі яе вышэйшыя іерархі як-ніяк спраўляліся са сваімі пастырскімі абавязкамі, нярэдка пры дапамозе намеснікаў. Даволі верагодная іншая гіпотэза даследчыка,

[1] *Мейендорф И.* Единство империи и разделение христиан. Святой Григорий Палама и православная мистика. Византия и Московская Русь. М., 2000. С. 398.

быццам параўнальна хуткае зацвярджэнне Галіцка-Валынскай і Літоўскай мітраполій канстанцінопальскім патрыярхатам у пачатку XIV ст. было выклікана бояззю "заходняга празелітызму", схільнасці да заходняга хрысціянства галіцкіх і літоўскіх князёў[1].

Адносна некаторых галіцкіх князёў – гэта праўда. Вялікія літоўскія князі паспяшалі паволі. Вядомая каталіцкая канверсія Міндоўга была выклікана надзвычай цяжкімі знешнепалітычны абставінамі і скончылася яго вяртаннем у язычніцтва. Здаецца, што асноўнай прычынай кампрамісу з боку патрыярхату стала імкненне да захавання сваіх уплываў у тых рэгіёнах "кіеўскай правінцыі", якія ўжо не паддаваліся былой залежнасці ў старых царкоўна-кананічных формах, а пазіцыя польскай і "літоўскай" улады дыктавалася іх новым палітычным статусам і магчымасцю выкарыстання "рускага фактару", у тым ліку для вырашэння наспелых рэгіянальна-памежных праблем. Галіцка-Валынская мітраполія ахоплівала Галіцкую, Луцкую, Перамышльскую, Тураўскую, Уладзімірскую, Холмскую епархіі.

Утварэнне Галіцка-Валынскай мітраполіі і яе дзейнасць закраналі таксама заходнія і паўднёва-заходнія землі ВКЛ (рэгіёны Падляшша, Тураўшчыны і інш.), а яе ўключэнне ў склад Кіеўскай мітраполіі пашырала ўплывы і тэрыторыю апошняй.

Пра дзейнасць першых галіцка-валынскіх мітрапалітаў вядома няшмат. Першым, верагодна, быў Ніфант, зацверджаны ў 1303 г. Пасля смерці мітрапаліта ўсяе Русі Максіма ў 1305 г. і пазней Ніфанта Царград наведалі прэтэндэнт на месца Максіма, стаўленік Міхайлы Яраславіча Цвярскога Геронтый і галіцкі кандыдат Пётр. Гэта было першае ўвасабленне царкоўна-палітычных прэтэнзій на аддаленыя паўднёва-заходнія землі Русі з боку Вялікага княства Уладзімірскага[2].

Пасля зацяжных спрэчак у канстанцінопальскім патрыярхаце ў маі–чэрвені 1308 г. пасада кіеўскага мітрапаліта нечакана дасталася Пятру, што выклікала вялікае раздражненне Міхаіла Аляксандравіча. У выніку такога рашэння з боку канстанцінопальскага патрыярха Афанасія знікла Галіцка-Валынская мітраполія і было адноўлена адзінства Кіеўскай і ўсяе Русі. Цвярскі епіскап Андрэй[3], верагодна, сам спадзяваўся заняць месца мітрапаліта. З падачы свайго цвярскога сеньёра ён у пасланнях да канстанцінопальскай патрыярхіі стаў абвінавачваць Пятра. У 1309 г. на судзе ў Пераяславе Залескім Пётр здолеў абараніцца. Пазней Міхаіл Аляксандравіч і епіскап Андрэй спрабавалі выкарыстаць манаха Акундзіна для абвінавачвання Пятра ў патуранні сіманіі (хабарніцтву) і іншых грахах, але ўсё дарэмна. Пётр хутка перанёс кафедру мітрапалітаў усяе Русі ў Маскву.

Амаль аднначасова з Галіцка-Валынскай "правінцыяй" на заходніх землях ВКЛ узнікла так званая Літоўская мітраполія (назва вядома па грэчаскіх крыніцах і хутчэй за ўсё з'яўляецца скарочанай канцылярскай формай). З-за блытаніны ў грэчаскіх каталогах мітрапаліцкіх кафедраў даследчыкі доўга прытрымліваліся дзвюх супярэчлівых версій аб храна-

---

[1] *Мейендорф И.* Единство империи и разделение христиан... С. 398.

[2] Гэты тытул тады меў цвярскі князь.

[3] Сын нальшчанскага і полацкага князя Гердзеня, захоплены ў малалецтве князем Даўмонтам пры яго ўцёках у Пскоў.

логіі заснавання Літоўскай мітраполіі. Згодна з разлікамі Я. Фіялка, Літоўская мітраполія была зацверджана каля 1300 г., паводле А. Паўлава – у 1317, Е. Галубінскага – у 1316 г.[1] Высновы апошняга былі нядаўна зноў пацверджаны: прыпіска аб заснаванні Літоўскай мітраполіі ў адным з грэчаскіх каталагоў каля 1300 г. аказалася больш позняй падробкай, а сама паслядоўнасць вызначэння Галіцка-Валынскай і Літоўскай мітраполій (№ 81 і 83) засведчыла, хто ранейшы[2]. Акрамя таго, патрыярх Іаан XIII Гліка, што ў Канстанцінопалі кансекраваў стаўленіка вялікага князя літоўскага , атрымаў свой сан у маі 1315 г. і меў, верагодна, шмат клопату, каб ужыцца ў рэаліі[3].

Па меркаванні Фіялка, Літоўская праваслаўная мітраполія была без "авечак і бараноў", бо большасць літоўцаў прытрымлівалася язычніцтва, а шмат хто пад уплывам місійнай дзейнасці францысканцаў паспеў прыняць каталіцтва[4]. На самой справе канстанцінопальскія пісары мелі на ўвазе не этнічных літоўцаў, а жыхароў згаданай імі Літоўскай правінцыі, фактычна галоўным чынам тагачаснае праваслаўнае насельніцтва Беларусі. Праблема язычніцтва для патрыяршаства была другараднай у параўнанні з мноствам праваслаўных княстваў, якія пад уплывам палітычных падзей пачатку XIII ст. апынуліся без надзейнага грэка-візантыйскага пастырства. Другі аргумент, які дадаткова аспрэчвае згаданую думку, – няма ніякіх пераканаўчых фактаў, якія б засведчылі масавую прыхільнасць літоўцаў да праваслаўя ў часы Гедыміна.

Даволі няпроста высветліць тыя матывы, якімі кіраваўся манарх ВКЛ у гэтай сваёй ініцыятыве, тым больш што ён не цураўся кантактаў з заходнім светам і каталіцкімі місіямі. Вельмі верагоднай з'яўляецца версія, быццам утварэнне Літоўскай мітраполіі было лагічным адказам на ўзнікненне Галіцка-Валынскай. Памятныя былі яшчэ часы супрацоўніцтва і спаборніцтва з галіцка-валынскімі князямі ў другой палове XIII ст. за панаванне ў Заходняй Русі. Удзел мазавецкага князя і Польшчы ў згаданай камбінацыі з мітраполіяй не мог дадаткова не насцярожыць Гедыміна. У адрозненне ад Міндоўга, які "льсціве" прыняў каталіцтва для нейтралізацыі сваіх праціўнікаў, Гедымін сам не хрысціўся. Задоўга да хрышчэння ўсёй Літвы ён зрабіў першую рэальную спробу з боку свецкай улады ВКЛ па арганізацыі ўласнай мітраполіі для русінаў – пераканаўчае сведчанне асэнсавання ім значнай ролі афіцыйнага хрысціянства ў грамадскіх і палітычных працэсах. Тэрытарыяльна арэал Літоўскай мітраполіі прыблізна адпавядаў тым землям Беларусі, якія ўваходзілі ўжо ў склад дзяржавы, і часткова ахопліваў шэраг спрэчных анклаваў, дзе крыжаваліся інтарэсы з Польшчай (Валынь, Падляшша, Тураўшчына).

[1] *Fijałek J.* Średniowieczne biskupstwa kościoła wschodnego na Rusi i Litwie // Kwartalnik Historyczny (далей – КН). 1896. Z. 3. S. 513–552; *Павлов А.* О начале Галицкой и Литовской митрополии и о первых тамошних митрополитах по византийским документальным источникам XIV в. М., 1894 (работа засталася невядомай Я.Фіялку); *Голубинский Е.* История русской церкви. Период второй, московский. Т. 2, первая половина тома. М., 1900. С. 128–129.

[2] *Darrouzčs J.* Notitiae Episcopatus Ecclesiae Constantinopolitanae. Texte critique. Paris, 1981. Not. 17, 18. P. 391–410; *Rowell S.C.* Lithuania ascending... P. 155–159.

[3] На думку Ровела, Літоўская мітраполія ўзнікла паміж маем 1315 г. і жніўнем 1317 г., хутчэй за ўсё ў 1316 г.: *Rowell S.C.* Lithuania ascending... P. 156.

[4] *Fijałek J.* Średniowieczne biskupstwa... // КН. 1896. S. 515.

Кафедра Літоўскай мітраполіі дзейнічала ў Наваградку, вядомым царкоўнымі традыцыямі, праваслаўнымі храмамі, мноствам вернікаў. Лепшае месца адшукаць было цяжка. Разам з Гародняй Наваградак заставаўся важным палітычным, абарончым, гандлёвым і вытворчым цэнтрам, ахоўваў шляхі з Вільні на поўдзень, нават да Візантыі. Гандляры конскімі статкамі нярэдка суправаджалі ў Канстанцінопаль пасольствы прэтэндэнтаў на сан мітрапаліта. У Наваградку, верагодна, каранаваўся Міндоўг і адсюль ён пачаў свой паход на падначаленне ўсёй Літвы.



Наваградская Барысаглебская царква. Заснавана ў XII ст.

Буйныя гарады паўднёвай Русі яшчэ не былі падуладныя Гедыміну, не поўнасцю ачунялі ад мангола-татарскіх нашэсцяў ці знаходзіліся пад рэальнай пагрозай новых[1].

Гістарычныя крыніцы згадваюць толькі аднаго мітрапаліта за ўсе гады дзейнасці Літоўскай правінцыі, з 1316 па 1330 г., – Феафіла. Ён упісаны ў пастанове канстанцінопальскага сінода 1329 г. Іншыя ўпамінанні літоўскіх мітрапалітаў пад сінадальнымі дэкрэтамі 1317 і 1327 гг., праўдападобна, належаць той жа асобе.

Літоўская мітраполія ахплівала землі Наваградскай (з намесніцтвам у Вільні), Полацкай і Тураўскай епархій. Свае правы на апошнюю прад'яўлялі таксама галіцка-валынскія князі і архірэі. Дакладна межы Літоўскай мітраполі не прасочваюцца. Паспяховая экспансія Гедыміна ў Падляшша, паўднёвыя і ўсходнія землі Русі адбівалася на магчымасцях пашырэння Літоўскай мітраполіі і ўплывах мітрапаліта. Відавочней за ўсё сведчыць пра гэта напісаны на грэчаскай мове вопіс рухомай маёмасці, каштоўных падарункаў і пазык, складзены, як мяркуюць, пасля смерці Феафіла ў канцылярыі новага мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Русі грэка Феагноста.

Сапраўды, размах кантактаў і ўплываў "літоўскага" мітрапаліта ўражвае. Уласнасць нябожчыка (пераважна пазыкі, каштоўныя падарункі, сярэбраныя кубкі, радзей – сткаткі жывёлы) толькі ў апошні перыяд яго жыцця была раскідана ледзь не па ўсёй Русі (уключна з "рускімі" землямі ВКЛ – Беларуссю і часткова Украінай): у гарадах – Наваградак, Друцк, Менск, Смаленск, Сураж, Бранск, Пскоў; на ўсходзе – Масква, Кастрама, Казельск, Мурам, Юр'еў; на паўднёвым захадзе – Галіч, Пера-

[1] Праўда, падначаленне Гедыміну Валыні і Кіеўшчыны ў найноўшых даследаваннях аспрэчваецца. Гл.: *Русина О.В.* Україна під татарами і Литвою. Київ, 1998. С. 47–55.

яслаў, Кіеў, Уладзімір[1]. Некаторыя пункты рэестра звязаны непасрэдна з царкоўнай дзейнасцю Феафіла: так у Бранску засталіся даўгі яму за літургічныя прыналежнасці. Ці абмяжоўваліся яго кантакты пастырскімі паслугамі, падтрымкай тэрытарыяльнай экспансіі Гедыміна (напрыклад, у дачыненні да Бранска), ці рыхтавалі глебу для пашырэння Літоўскай мітраполіі, сказаць цяжка. (Бранск перайшоў да ВКЛ у канцы 1350-х гг.) Занадта вузкім здаецца сцверджанне У. Пашуты, які пісаў, што гэты «багаты духоўны феадал меў магчымасць кіраваць з Навагрудка праваслаўнай царквой Літвы пад уладай вялікага князя – язычніка»[2]. «Літва» ў той час ужо бясспрэчна была Вялікім Княствам Літоўскім. Не ўсякі мітрапаліт таксама ўдзельнічаў у сінодах Канстанцінопальскай мітраполіі і меў свае інтарэсы ледзь не ва ўсіх канцах Русі.

**Саперніцтва вярхоўнай улады ВКЛ і ВКМ за падначаленне мітраполіі Кіеўскай і ўсяе Русі.** З паступовымператварэннем ВКЛ ва ўплывовую геапалітычную дзяржаву пачынаюцца маштабныя захады па арганізацыі праваслаўнай мітраполіі на новых дзяржаўна-тэрытарыяльных падставах, падначаленне вышэйшага духавенства вярхоўнай уладзе, рэгуляванне міжнародных царкоўных сувязей. Гэтыя захады спалучаліся з даволі працяглымі перыядамі цэласнага аднаўлення Кіеўскай мітраполіі ва ўсёй Усходняй Еўропе, што для ВКЛ часцей за ўсё было абумоўлена зменамі знешнепалітычнай кан'юнктуры, паляпшэннем адносін з Масквой і Канстанцінопалем, разлікамі на пашырэнне ці выкарыстанне сваіх уплываў за ўласнымі дзяржаўнымі межамі, сталым захаваннем кананічных царкоўна-рэлігійных традыцый ва ўсім усходнеславянскім арэале.

Звычайна ўсе княствы і землі Русі (у ВКЛ і за яго межамі) прызнавалі правы і аўтарытэт канстанцінопальскага патрыярхату і кананічна абраных кіеўскіх мітрапалітаў. Патрыярхат, які, зразумела, не быў зацікаўлены ў падзелах Кіеўскай мітраполіі, у сваіх міжнародных адносінах пераважна схіляўся да падтрымкі маскоўскага кандыдата, улічваючы ўплывы Масквы ў Паўночна-Усходняй і Паўночна-Заходняй Русі і практычна поўную монаканфесійнасць рускага насельніцтва. Царкоўныя адносіны патрыярхату з ВКЛ да канца XIV ст. ускладняліся язычніцтвам вялікіх князёў літоўскіх і этнаграфічнай Літвы, пазней яе каталіцкім хрышчэннем , збліжэннем з Польшчай і Захадам.

Тым не менш спробы непасрэднага падначалення ўсёй Кіеўскай мітраполіі ці значнай яе часткі дзяржаўна-палітычным інтарэсам пануючых ва Усходняй Еўропе дынастый у другой палове XIV – сярэдзіне XV ст. набылі больш выразны характар. Пасля Гедыміна грунтоўныя планы ў гэтым сэнсе выношваў Альгерд, у час праўлення якога дзяржаўная тэрыторыя ВКЛ у асноўным дасягнула сваіх максімальных памераў. Улічваючы фактычную падначаленасць Кіева вярхоўнай уладзе ВКЛ і зацверджаны Канстанцінопалем перанос новага "седалішча" мітрапаліта ўсяе Русі ва Уладзімір, Альгерд пайшоў на сустрэчныя акцыі.

---

[1] Отрывки В.Н. Бенешевича по истории русской церкви XIV века / Подг. М. Приселков, М. Фасмер // Известия Отделения русского языка и словесности. 1916. Т. 21. С. 48–71; *Rowell S.C.* Lithuania ascending... P. 160, табл.
[2] *Пашуто В.Т.* Образование Литовского государства. С. 321.

У Кіеве быў пасаджаны Феадарыт, які ў 1352 г. нейкім чынам атрымаў сан кіеўскага мітрапаліта ў балгарскага патрыярха ў Тырнаве.

Лёс Феадарыта, верагодна, быў незайздросны. Деманстрацыйная акцыя канстанцінопальскага патрыярха Філафея, які пацвердзіў права мітрапалітаў кіеўскіх і ўсяе Русі пражываць ва Уладзіміры Суздальскім, і падтрымка ўладзімірска-маскоўскага іерарха Залатой Ардой істотна абмежавалі магчымасці яго канкурэнта. Можна не сумнявацца, што праваслаўнае духавенства Беларусі і Украіны не надта было задаволена разрывам з патрыярхатам, традыцыйныя сувязі з якім доўжыліся больш за тры стагоддзі. Ніводнае з усходніх рускіх княстваў, не гаворачы ўжо пра Маскву, не пайшло гэтым шляхам. Пад націскам патрыярха мусіў адступіцца ад сваіх планаў прыхільны ВКЛ архіепіскап Вялікага Ноўгарада Маісей[1].

У другой трэці XIV ст. царкоўныя і свецкія ўлады ВКЛ былі занепакоены выразнымі прэтэнзіямі Маскоўскай Русі на ўласнае самаўладдзе ў межах агульнай мітраполіі Кіеўскай і ўсяе Русі і перыядычным ускладненнем адносін з Польшчай з-за спрэчных епархій галіцка-валынскіх зямель.

Што да паўднёва-заходніх зямель, дык тут значную ролю ў развіцці царкоўных адносін працягвалі адыгрываць мясцовыя роды, што знаходзіліся ў сваяцтве з правячай дынастыяй.

Галіцка-Валынская мітраполія была адноўлена ў 1330-х гг. пры галіцка-валынскім князі Баляславе Юрыі II, што ўзяў шлюб з дачкой Гедыміна. Нечаканай смерцю Юрыя ў 1340 г.[2] скарыстаўся сын Гедыміна Дзмітрый Любарт, які ў 1342 г. дамогся зацвярджэння галіцкім мітрапалітам свайго прыхільніка Фёдара. У 1347 г. у выніку ўмяшальніцтва маскоўскага мітрапаліта Феагноста і князя Сямёна Гордага хрызавулам (актам) новага візантыйскага імператара Іаана VI Кантакузена Галіцка-Валынская мітраполія зноў была зведзена да ўзроўню перыферыйнай епархіі Кіеўскай мітраполіі. Захаваны ліст Кантакузена да Любарта пераконвае, што гэты крок быў зроблены Паўночна-Усходняй Руссю з мэтай змяншэння ўплываў ВКЛ на Русь Галіцкую[3]. Пашырэнне кананічнай тэрыторыі Кіеўскай мітраполіі з'яўлялася, на думку даследчыкаў[4], першым выразным праяўленнем імкненняў Масквы падпарадкаваць сабе ўсю старажытнарускую царкоўную спадчыну.

Змена імператарскай улады ў Візантыі і паляпшэнне адносін з Балгарыяй[5] дазволілі Альгерду і новаму патрыярху Калісту прыйсці да пэўнага кампрамісу па праблемах Кіеўскай мітраполіі. Верагодна ў пачатку 1355 г. патрыярх афіцыйна зацвердзіў чарговага кандыдата Альгерда, родзіча яго другой жонкі – цвярской княжны Ульяны і, па некаторых звестках, цвярскога баярына Рамана ў якасці "літоўскага мітрапаліта",

---

[1] *Rowell S.C.* Lithuania ascending... P. 164–165.

[2] Ёсць версія, што быў атручаны мясцовымі баярамі ў 1340 г.: *Paszkiewicz H.* O genezie i wartości Krewa. Warszawa, 1938. S. 42–43.

[3] *Chodynicki K.* Kościół prawosławny a Rzeczpospolita Polska: Zarys historyczny. Warszawa, 1934. S. 7; Русская историческая библиотека (далей –РИБ). Т. 6. N. 6. С. 30. Пра ліст патрыярха да Любарта ў 1347 г. гл.: *Rowell S.C.* Lithuania ascending... P. 163, спас. 59.

[4] *Fijałek J.* Średniowieczne biskupstwa... // KH. S. 497, 510.

[5] *Мейендорф И.* Единство империи и разделение христиан... С. 450.

пакінуўшы за маскоўскім архірэем Алексіем тытул мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі. Патрыяршы сабор размежаваў землі, падуладныя абодвум мітрапалітам, зыходзячы ў асноўным з іх палітычнай залежнасці. За Раманам былі замацаваны мітрапаліцкія епархіі з кафедрамі ў Навагрудку, Полацку і Тураве, алеададзены галіцка-валынскія – "Малай Русі" з цэнтрамі ва Уладзіміры, Луцку, Холме, Галічы, Перамышлі[1]. У параўнанні з тэрыторыяй Літоўскай мітраполіі часоў Гедыміна гэта было надзвычай вялікае прырашчэнне. Царкоўна-адміністрацыйнай уладзе Рамана падлягалі таксама нованабытыя землі Браншчыны і фактычна Цверы. Вярнуўшыся ў Кіеў, Раман (не без ведама Альгерда) аб'явіў сябе мітрапалітам кіеўскім і ўсяе Русі.

Раскол мітраполіі не прынёс задавальнення ніводнаму з бакоў, тым больш Маскве, якая прывыкла разлічваць на прыхільнае адносіны да яе з боку былога цэсара Візантыі. Вельмі нервова паставіліся ў Маскве да ўдзелу Рамана ў якасці аўтарытэтнага сведкі пры падпісанніі дамоўленасці новага імператара Іаана V і цара Іаана-Аляксандра Балгарскага аб шлюбе іх дзяцей. Гісторыкі лічаць, што канфлікт Рамана з Аляксеем насіў бескампрамісны характар. Кожны з мітрапалітаў разлічваў пры падтрымцы свецкай улады рэальна вярнуць сабе правы першасвяшчэнніка на ўсёй кананічнай тэрыторыі мітраполіі Кіеўскай і ўсяе Русі. Па словах грэчаскага гісторыка Грыгоры, які сімпатызаваў Раману, Альгерд сцвярджаў, што прыме праваслаўнае хрышчэнне пры поўнай рэалізацыі сваіх мітрапаліцкіх планаў. І хоць гэтае выказванне знакамітага царкоўнага аўтара мае белетрыстычнае адценне, яно няблага стасуецца з наступальнай палітыкай вялікага князя літоўскага ў адносінах да ўсходніх суседзяў і Маскоўскай Русі[2].

Фактычнае размежаванне Кіеўскай мітраполіі прымусіла абодвух іерархаў зрабіць некалькі падарожжаў у Канстанцінопаль. Сам Алексій у пачатку 1358 г. пры звычайным у іншых абставінах наведванні сваіх уладанняў (як "пастух і вучыцель") быў затрыманы ў Кіеве, абрабаваны і амаль на 15 гадоў зарокся наведваць ВКЛ. У 1361 г. патрыярх Каліст адправіў сваіх прадстаўнікоў на Русь для непасрэднага даследавання працяглай справы. Яна закончылася нечакана са смерцю мітрапаліта Рамана ў канцы года.

Цэласнасць Кіеўскай мітраполіі на чале з Алексіем была адноўлена.

Незадоўга да смерці польскі кароль Казімір пад пагрозай стварэння лацінскай мітраполіі для русінаў патрабаваў ад патрыярхату аднаўлення Галіцкай[3]. Канстанцінопальскі сінод у 1371 г. кансекраваў новага галіцкага мітрапаліта Антонія. Прэтэнзіі ВКЛ і Маскоўскай дзяржавы на панаванне на ўсіх землях мітраполіі Кіеўскай і ўсяе Русі дасягнулі піку ў канцы 70-х гг. XIV ст.[4] Несумненна яны былі звязаны з узмацненнем сустрэчнай ваенна-палітычнай і дыпламатычнай экспансіі з абодвух ба-

[1] *Мейендорф И.* Единство империи и разделение христиан... С. 450; РИБ. Т. 6. N. 13.
[2] *Rowell S.C.* Lithuania ascending... P. 165; РИБ. Т. 6, дадатак № 24. С. 135–140.
[3] РИБ. Т. 6. N. 23. З падначаленнем епархій Холмскай, Перамышльскай, Уладзімірскай і Тураўскай. Апошняя наўрад ці магла ўвайсці ў склад мітраполіі, падначаленай Польшчы.
[4] *Черепнин Л.В.* Образование Русского централизованного государства в XIV–XV веках. М., 1960. С. 562–565.

коў у барацьбе за палітычныя арыенціры Цвярскога княства (відавочна цягнула да Літвы пры Міхаіле Аляксандравічы) і іншых буферных земляў Русі[1]. Альгерд, улічваючы выразную прамаскоўскую палітыку мітрапаліта Алексія і павагу да яго пры двары маладога князя Дзмітрыя Іванавіча, вырашыў дапоўніць свае ваенныя поспехі (напярэдадні трэцяй "літоўшчыны", як называлі яго паходы на Маскву рускія летапісцы) узмацненнем сваіх царкоўных уплываў у Паўночна-Усходняй Русі. У 1370 г. ён звярнуўся да канстанцінопальскага патрыярха Філафея з патрабаваннем заснаваць новую мітраполію, у склад якой уваходзілі б акрамя іншых зямель ВКЛ Кіеў, Смаленск, Цвер, Малая Русь, Навасіль і Ніжні Ноўгарад[2]. "Бязбожны Альгерд", як нярэдка называў яго ў сваіх граматах Філафей, і яго князі – "ворагі крыжа, брыдкія і бязбожныя паклоннікі агню" папярэдзілі ўпартага патрыярха, што ў выпадку адмовы яны будуць вымушаны заснаваць у ВКЛ лацінскую мітраполію для праваслаўнага насельніцтва. (Супадзенне пагрозы з лістом Казіміра наўрад ці можна лічыць выпадковым.)

У ліку асноўных аргументаў называліся парушэнні Масквой папярэдніх пагадненняў, ваенная актыўнасць у рэгіёне, які Альгерд лічыў падуладным ("узялі ў мяне гарады Ржэву, Лукі Вялікія, Мцэнск"), захоп шваґра цвярскога князя Міхаіла Аляксандравіча і інш. Мітрапаліт Алексій абвінавачваўся ў тым, што ён "благословляет Москвитян на пролитие крови, и ни к нам не приходит, ни в Киев не наезжает»[3].

Незвычайнасць тэрытарыяльных дамаганняў Альгерда паказвае, што ён сапраўды верыў у свае палітычныя магчымасці і яго скаргі на наступленне Масквы перабольшаны. Агульная тэрыторыя новай мітраполіі з улікам епархій ВКЛ пераўзыходзіла б усё тое, што заставалася за Алексіем і Масквой[4].

Царкоўная праграма Альгерда была разлічана не толькі на заснаванне адасобленай мітраполіі (з перспектывай яе далейшага пашырэння), якая складала істотны элемент унутранай сацыяльна-палітычнай і этнаканфесійнай структуры Княства. Выступаючы ў ролі афіцыйнага абаронцы праваслаўнай царквы, вярхоўная ўлада ў спаборніцтве за землі і княствы Русі магла ў пэўнай ступені нейтралізаваць абвінавачанні маскоўскіх палітыкаў і ідэолагаў у сталым супрацьстаўленні хрысціянскага і язычніцкага свету.

Няўстойлівая раўнавага ў саперніцтве Вільні і Масквы за панаванне над мітраполіяй Кіеўскай і ўсяе Русі і ўласныя разлікі вярхоўнай улады яскрава адбіліся на царкоўна-іерархічным лёсе балгарына Кіпрыяна, вельмі адукаванага і здольнага дзеяча і пісьменніка, асобы, набліжанай да патрыярха Філафея Кокіна. У пачатку 70-х гг. Кіпрыян удзельнічаў у часовай нармалізацыі адносін Альгерда і яго саюзніка вялікага князя

[1] *Черепнин Л.В.* Образование Русского централизованного государства в XIV–XV веках. С. 562–565.

[2] РИБ. Т. 6, дадатак. N. 24. С. 135–140.

[3] Там жа. С. 138; *Голубинский Е.* История русской церкви... Т. 2, первая половина тома. С. 210. Тэрыторыя Галіцкай мітраполіі з 1347 г. уваходзіла ў склад мітраполіі Кіеўскай і ўсяе Русі.

[4] *Грушевський М.* Історія України–Руси. Львів, 1905. Т. 5. С. 391–392; *Rowell S.C.* Lithuania ascending... P. 167; *Мейендорф И.* Единство империи и разделение христиан... С. 466–467.

цвярскога з Алексіем, наведаў Пераяслаў Залескі і Літву[1]. 2 снежня 1375 г. умоўна пастаўлены ў Канстанцінопалі мітрапалітам кіеўскім і ўсяе Русі да завяршэння справы па абвінавачаннях з літоўскага боку састарэлага Алексія; адно з асноўных – невыкананне пастырскіх абавязкаў да праваслаўнай царквы ВКЛ.

Можна меркаваць: навала абурэння, што ахапіла духоўную іерархію Маскоўскай Русі з абраннем у Канстанцінопалі новага стаўленіка на мітраполію пры жывым яшчэ папярэдніку, значна перабольшана ў царкоўных гісторыкаў. Прычыны былі хутчэй у цесных сувязях Кіпрыяна з ВКЛ і рэальнай пагрозе пашырэння "літоўскіх" уплываў на ўсю мітраполію. Доказвае гэта своеасаблівая рэакцыя Алексія і вялікага князя маскоўскага Дзмітрыя Іванавіча (Данскога), якія прапанавалі сваю кандыдатуру – архімандрыта прыдворнага Спаскага манастыра ў Маскве Міхаіла (Міцяя). Алексій памёр 12 лютага 1378 г. Летам 1380 г. у сан чарговага мітрапаліта "Кіеўскай і Вялікай Русі" быў узведзены ў Канстанцінопалі грэк Пімен. За Кіпрыянам засталася мітраполія Малой Русі і Літвы. Як паўнапраўны мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі Кіпрыян асталяваўся ў Маскве ў 1381–1382 гг. Пасля нашэсця Тахтамыша на Маскву ён зноў быў заменены на Пімена. Адчувалася, што вялікі князь Дзмітрый Іванавіч пастаянна не давяраў Кіпрыяну, хоць апошняга больш прывабліваела маскоўская, чым "літоўская" кафедра, а яшчэ лепей – аб'яднаная мітраполія. Абедзве кафедры былі залежнымі ад свецкай улады, а маскоўская яшчэ і ад ардынскай. Узважваючы ўсё гэта, Кіпрыян слушна ацэньваў уплывы і перспектывы маскоўскай мітраполіі, падтрыманай вярхоўнай уладай, у Паўночна-Усходняй Русі і суседніх княствах. У 1389 г. ён быў адноўлены на пасадзе мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі і да смерці ў 1406 г. захоўваў пераважна нармальныя адносіны з Васілём І, Ягайлам і Вітаўтам. На пасху 1396 г. ён суправаджаў Васілія І на сустрэчу з яго цесцем Вітаўтам (які толькі што заняў Смаленск), пасля чаго заставаўся у ВКЛ яшчэ паўтара года[2]. Амаль столькі ж ён пражыў там у свой наступны прыезд у 1401 г. У Вільні яго ўрачыста сустрэў Вітаўт са значным аршаком князёў і паноў. Пазней Кіпрыян наведаў Кіеў, змяніў свайго намесніка і па жаданні Вітаўта саслаў у маскоўскі Сіманаў манастыр тураўскага епіскапа Антонія. Апошні абвінавачваўся ў зносінах з ардынскім ханам Шадыбекам.

Добрыя стасункі праваслаўнага мітрапаліта з Ягайлам і Вітаўтам пасля каталіцкага хрышчэння Літвы і Віленска-Радамскай уніі не могуць быць растлумачаны толькі паляпшэннем адносін з вялікім князем маскоўскім Васілём. Як зазначыў адзін з лепшых знаўцаў гісторыі рускай царквы Е. Галубінскі, "цяжка... вырашыць, ці шукаў Кіпрыян гэтых вельмі добрых адносін на карысць праваслаў'я, ці наадварот не вельмі клапаціўся аб ім..."[3]

---

[1] Як сцвярджаецца ў панегірычнай літаратуры, Кіпрыян у 1374 г. перанёс астанкі забітых па загадзе Альгерда трох літоўскіх пакутнікаў-хрысціян з Вільні ў Канстанцінопаль і арганізаваў там іх кананізацыю. Гл: *Яскевіч А.* Падзвіжнікі і іх святыні. Мн., 2001. С. 144, 146. Версія гэтая – няпэўная. Гл. падрабязней: *Baronas D.* Trys vilniaus kankiniai: gyvenimas ir istorija. Vilnius, 2000.

[2] *Голубинский Е.* История русской церкви... Т. 2, первая половина тома. С. 337.

[3] Там жа. С. 341.

Кіпрыян быў першым мітрапалітам, згодным абмяркоўваць з каталіцкімі ўладарамі Польшчы і ВКЛ праблемы царкоўнай уніі. Ён памёр 16 верасня 1406 г. у сваёй падмаскоўнай вёсцы Галяніпічава. Звесткі аб яго смерці спаткалі выкліканага ім сваяка Грыгорыя Цамблака[1] на Нёмане на шляху да Вільні[2], дзе ён надоўга і застаўся.

Пачатая ў тым жа 1406 годзе вайна ВКЛ з Масквой з-за панавання на Пскоўшчыне і іншых напаўзалежных рускіх землях адбілася на царкоўна-мітрапаліцкіх адносінах. Амаль адначасова ў Царград накіраваліся два пасольствы прасіць зацвярджэння кандыдатаў. Пасольства з Вільні ўзначаліў полацкі ўладыка Феадосій. У яго абранні электам зноў выявіліся ўласныя планы вярхоўнай улады ВКЛ, незадаволенай манаполіяй Канстанцінопаля і Масквы ў вышэйшых кананічных справах. Полацкі епіскап быў галоўнай духоўнай асобай на Наваградскім саборы 1415 г., на якім быў абраны Цамблак. У абежнай грамаце Вітаўта, выдадзенай з нагоды таго ж сабора, так акрэслена гэтае вылучэнне: "Про тож мы усмотревше по смерти Киприана митрополита послали есмо в Царьград владыку Полоцкого Феодосиа к царю и патриарху, прося, штобы его нам поставили митрополитом, штобы седел на столе Киевское митропольи по старине, строил бы церковь по давному, яко наш: занеж Божьим изволеньем, мы место то обладаем, Киев"[3].

Паходжанне полацкага ўладыкі і яго ранейшыя духоўныя службы не высветлены. Існуе спрэчная думка, што ён быў мясцовым ураджэнцам, на што, магчыма, паказвае акцэнтаванае вызначэнне Вітаўта – "наш" (кандыдат на мітраполію)[4]. Згаданы акт Вітаўта вядомы толькі па пашкоджанай копіі, якая захоўвалася ў Кормчай XVI ст.[5] Гісторык царквы Ігнацій Кульчынскі, які апублікаваў у 1734 г. больш поўную копію акта ў перакладзе на лацінскую мову, зразумеў гэты фрагмент, як: "tanquam noster indigena" ("паколькі наш ураджэнец")[6]. У кантэксце ўсяго фрагмента зразумела, што Вітаўт вызначаў "свайго" кандыдата на сталец як прадстаўніка вярхоўнай улады ВКЛ. У рускіх летапісах XV–XVI ст. Феадосія называлі грэкам і доўга памяталі пра яго адступніцтва. У пасланні Фоція, звязаным з Наваградскім саборам 1415 г., Феадосій (ускосна і яго апякун – Вітаўт) абвінавачваўся ў сіманіі. "Рци ми, ты, паче прелщеный не-епископе полочьскый Феодосие, – пісаў Фоцій, – по преставлению святого почившаго митрополита Киприана не ты ли был, погыбелнице, шел на митрополию? И ты сам, окаянне, веси, елика еси порекл сребра и злата о том ставлении. Аще бы еже по мзде деемое было се, к тебе же бы не отслали безделна, но уничижением великым и студом отслаша, глаголюще то сице: «Злато твое и сребро твое с тобою в пагубу да будет!»". Абвінавачанне ў сіманіі канстанцінопальскіх архіпастыраў бы-

---

[1] Звесткі аб тым, што Цамблак быў пляменнікам Кіпрыяна, зараз аспрэчваюцца некаторымі балгарскімі даследчыкамі.

[2] *Дончева-Панайотова Н.* Слово на Григорий Цамблак за митрополит Киприан. Велико Търново, 1995. С. 97.

[3] Акты, относящиеся к истории Западной России (далей – АЗР). Т. 1. № 25. С. 36; Vitoldiana. Codex privilegium Vitoldi magni ducis lithuaniae 1386–1430 / Coll. J. Ochmański. Warszawa; Poznań, 1986. N. 207. P. 183–186.

[4] *Rowell S.C.* Lithuania ascending... P. 181–182.

[5] У бібліятэцы графаў Тарноўскіх у Дзікаве, № 273.

[6] Vitoldiana... N. 207. P. 185.

ло звычайным у тагачаснай палеміцы абодвух бакоў і не патрабавала канкрэтных доказаў. У сваю чаргу Вітаўт сцвярджаў, што грэка Фоція ў Канстанцінопалі паставілі подкупам.

У канцы 1409 г. Фоцій з басламі візантыйскага імператара і патрыярха прыбыў у Кіеў і з паўгода распараджаўся там усімі царкоўнымі справамі. Пазней ён вярнуўся ў Маскву. Фоцій вядомы сваімі рашучымі захадамі па адшуканні вотчын і іншай царкоўнай маёмасці ў Паўночна-Усходняй Русі, што выклікала значнае незадаволенне зацікаўленых баярскіх і прыдворных колаў. Ёсць звесткі, што некаторыя з западозраных ці пакрыўджаных баяр і прыдворных асоб збеглі ў ВКЛ і пасварылі яго з Вітаўтам. Падставы для разрыву з Фоціем былі больш грунтоўнымі, не вельмі залежнымі ні ад яго гаспадарчай дзейнасці, ні ад наступных папрокаў, быццам ён мала клапаціўся пра Кіеў і заходнюю частку сваіх духоўных уладанняў. Фактычна Вітаўт не пакідаў планаў аднаўлення незалежнай Кіеўскай мітраполіі і хутка пераканаўся, што прамаскоўская дзейнасць Фоція не адпавядала яго намерам.

Цяжка сказаць, ці сапраўды была праведзена згаданая ў Ніканаўскім летапісе секулярызацыя ўладанняў мітрапаліцкай кафедры ў Кіеве, хутчэй яны былі ўзяты пад больш пільны гаспадарскі нагляд. Ініцыяваны арышт і аграбленне Фоція ў Кіеве перакрэслівалі ўсе бліжэйшыя спадзяванні на супрацоўніцтва. Вітаўт пачаў рыхтаваць свайго ўласнага кандыдата на Кіеўскую мітраполію. У Полацку яшчэ жыў Феадосій, былы кандыдат Вітаўта, але, здаецца, для новых планаў з парушэннем кананічнай традыцыі больш падыходзіў фармальна незалежны выхадзец з арыстакратычнага балгарскага роду Цамблакаў. У Беларусі, Літве і Украіне добра памяталі пра царкоўную дзейнасць яго тырнаўскага земляка і суродзіча, мітрапаліта ўсяе Русі Кіпрыяна.

Верагодна ў першай палове 1414 г. "епіскапы кіеўскай мітрапольі" абвясцілі пасланне да Фоція, у якім адмаўляліся ад паслушэнства яму за адступленні ад апостальскіх правіл і іншыя грахі. Недзе пасля чэрвеня 1414 г. у Канстанцінопаль накіраваўся Цамблак з пасланнямі Вітаўта і епіскапаў. Патрыярх Яўфімій II па просьбе паслоў Фоція за вялікае ўзбуджэнне царквы адлучыў Цамблака і "изверг" яго з сану. Пасля вяртання Цамблака ў ВКЛ Вітаўт рашуча правёў свае акцыі: сабор епіскапаў з беларускіх і ўкраінскіх епархій вырашыў самастойна паставіць мітрапаліта. Патрыярху быў дадзены тэрмін для адказу на новае пасланне Вітаўта ў сакавіку 1415 г., прадоўжаны да 14 лістапада 1415 г., па просьбе цэсарскага і патрыяршага пасланнікаў, якія вярталіся з Масквы праз Княства[1].

15 лістапада ў наваградскай царкве св. Багародзіцы сабраўся вырашальны сабор епіскапаў, "князей литовскых и русскых земль и иных стран", ігуменаў, манахаў і папоў, якія самастойна ўзвялі Цамблака на кіеўскую кафедру: "понеже видехом презираему от митрополита Фотиа церковь кіевськую, яже глава есть всей Руси, и стадо Христово небрегомо...". У саборнай грамаце Фоцій абвінавачваўся ў карыслівым стаўленні да спраў Кіеўскай мітраполіі і падначаленні іх Маскве: "...точію приходы церковныа сбирая и живяше инде, и старая устроеніа і честь кіевское

[1] *Голубинский Е.* История русской церкви... Т. 2, первая половина тома. С. 378.

царкви на ино место полагаше"[1]. Сваё адступленне ад прынятай практыкі сабор абгрунтоўваў спасылкамі на правілы св. апосталаў, што дазваляюць ставіць мітрапалітаў некалькім епіскапам, і гістарычнымі прэцэдэнтамі: на Русі пры вялікім кіеўскім князі Ізяславе, у хрысціянай "преже нас" Балгарыі, Сербіі: "Та же не толика есть (не такая вялікая. – *Г.Г.*) срьбская земля, елика есть русская, яже есть в области господина великого князя Александра, преже реченаго Витовта, но есть велми мала и землёю и людми...»

У саборнай грамаце не абыдзены тыя з канстанцінопальскіх патрыярхаў, што пазіраюць "на злато и сребро много". Адтуль бываюць даўгі, праторы, цежы, забойствы, і што ўсяго "лютейше безчестие церкви киевской и всей Руси". Сярод справядліва пастаўленых мітрапалітаў на кіеўскую царкву "в днех наших" згадваюцца Кіпрыян (1375–1406), Пімен (1382–1385), Дыянісій (1384–1385).

Царкоўныя справы кіеўскага мітрапаліта Цамблака вядомы слаба. Пасля нашэсця нагайскага хана Эдыгея на Кіеў ён перанёс кафедру мітраполіі з Наваградка ў Вільню, нямала садзейнічаў развіццю кніжнасці, пісьменнасці, увёў значныя навацыі ў праваслаўную літургію. У 1418 г. узначаліў вялікае пасольства на Канстанцкі сабор. Памёр зімой 1419 або ў пачатку 1420 г. Версія аб тым, что ён да 1451 г. быў манахам пад імем Гаўрыіла ў Нямецкім манастыры у Малдавіі – абсалютна няслушная[2]. У лісце Ягайлы да папы Марціна V згадваецца як нябожчык[3].

Паляпшэнне адносін з Маскоўскай дзяржавай, а таксама жаданне захаваць пэўную ўстойлівасць этнаканфесійных адносін, закранутых наданнем каталіцызму вышэйшага сацыяльнага і дзяржаўна-палітычнага статуса, абумовілі аднаўленне мітраполіі Кіеўскай і ўсяе Русі ў яе поўных кананічных межах у апошняе дзесяцігоддзе панавання Вітаўта. Ён рэалістычна ацэньваў поліэтнічны і поліканфесійны склад Княства і нармалізацыю адносін з Масквой, дзе сядзеў яго ўнук Васіль Васільевіч, успрымаў як пэўную супрацьвагу памкненням значнай часткі ўплывовай польскай знаці да інкарпарацыі ВКЛ ці ў лепшым выпадку да абмежавання яе палітычнай самастойнасці.

У 20-х гг. XV ст. Фоцій прымірыўся з вялікім князем літоўскім, наведваў ВКЛ, атрымаў там свае ўладанні, хрысціў воінаў Вітаўта, быў запрошаны на яго каранацыю. Пакінуў Вільню за тры дні да яго смерці. Фоцій быў апошнім агульным мітрапалітам усяе Русі, які змог кампрамісна вырашаць некаторыя агульныя праблемы абедзвюх дзяржаў і духоўнай іерархіі.

**Унутраная структура праваслаўнай царквы. Іерархія. Статус.** Сабраныя матэрыялы сведчаць, што ў канцы XIII – сярэдзіне XV ст. на землях ВКЛ існавала некалькі буйных царкоўных арганізацый, якія адпавядалі кананічным крытэрыям мітраполіі, бо акрамя адпаведнай тытулярнай назвы мелі ў сваёй структуры епархіі і былі зацверджаны ў

[1] РИБ. Т. 6. С. 311.

[2] Версію выказаў А.І. Яцымірскі ў сваёй книзе "Григорий Цамблак. Очерк его жизни, административной и книжной деятельности" (СПб., 1904). Зараз яе падтрымлівае А. Яскевіч. Гл.: *Яскевіч А.* Падзвіжнікі і іх святыні. С. 150.

[3] Ліст Ягайлы выявіў Прахазка, якія датуе яго 1422 г. Гл.: Przegląd Powszechni. 1897. T. VII. S. 64.

Канстанцінопалі. Некаторыя з гэтых мітраполій існавалі часова або са значнымі храналагічнымі прагаламі, уваходзілі ў некалькі дзяржаў ці княстваў (Галіцка-Валынская мітраполія), іншыя ахоплівалі ўсю кананічную тэрыторыю мітраполіі Кіеўскай і ўсяе Русі ці адасобленыя яе дзяржаўна-царкоўныя ўтварэнні. У гістарыяграфіі апошнія нярэдка называюцца па палітычных прыкметах – "літоўская" і "маскоўская" (або "ўладзіміра-маскоўская") мітраполіі. Гістарычна гэтыя мітраполіі, нягледзячы на фактычны падзел, звычайна і традыцыйна захоўвалі вельмі падобныя назвы, нярэдка з перспектывай на аднаўленне былой цэласнасці. Патрыярхат, як правіла, вельмі негатыўна ставіўся да ўсіх спробаў раздрабнення "кіеўскай правінцыі", слушна ацэньваючы іх як умяшальніцтва свецкай улады, пагрозу грэка-візантыйскім духоўным, царкоўным і палітычным уплывам, даходам і манапольнаму панаванню на Русі.

За захаванне кананічнай цэласнасці мітраполіі Кіеўскай і ўсяе Русі стала выступала таксама Вялікае Княства Маскоўскае (Уладзімірскае). У сукупнасці з залежнымі рускімі княствамі яно мела для гэтага і значныя гістарычныя падставы: адзіная пануючая канфесія манархіі і практычна ўсёй Паўночна-Усходняй і Паўночна-Заходняй Русі, паволі ўзрастаючыя ваенна-палітычныя і матэрыяльныя магчымасці, устойлівыя сувязі з Канстанцінопалем і інш. Некаторыя з гэтых фактараў дзейнічалі і ў ВКЛ, але праваслаў'е тут не прэтэндавала на манапольны агульнадзяржаўны статус, вярхоўная ўлада звычайна была язычніцкай ці каталіцкай (з канца XIV ст.), а кантакты з лацінскай Еўропай больш інтэнсіўнымі і разгалінаванымі.

На развіццё цэнтраімклівых і цэнтрабежных тэндэнцый у мітраполіі Кіеўскай і ўсяе Русі ўплывалі і геапалітычныя і геацаркоўныя зрухі, узрастанне ва Усходняй Еўропе ў XIV – першай палове XV ст. палітычнай ролі ВКЛ і Маскоўскай Русі, пры захаванні значнай залежнасці апошняй ад Залатой Арды і ўнутранага становішча мангола-татарскай імперыі, уніі ВКЛ з Польшчай, падзенне Візантыйскага цэсарства і захоп Канстанцінопаля Портай у 1453 г., саборны крызіс каталіцкай царквы і інш.

Своеасаблівымі, можна сказаць, сваяцкімі былі ўзаемаадносіны свецкай улады ВКЛ з уласнымі царкоўна-тэрытарыяльнымі ўтварэннямі (Галіцкая, Літоўская мітраполія ў розных гістарычных формах, часам de facto), бо яны ў большай ступені былі звязаны з унутранымі этнаканфесійнымі і заходнімі знешнепалітычнымі ўплывамі, у тым ліку дзяржаўнымі і царкоўнымі уніямі.

Улады ВКЛ і Маскоўскай Русі (і ў пэўным кантэксце – Польшчы) рэальна ацэньвалі значэнне грэка-візантыйскіх традыцый, праваслаўнай царквы ў духоўным, канфесійным і палітычным жыцці сваіх краін і, за выключэннем асобных перыядаў і царкоўна-палітычных катаклізмаў, імкнуліся выкарыстоўваць прэстыж канстанцінопальскага патрыярхату ў сваіх мэтах, іншы раз не зусім законна і кананічна. З гэтай нагоды, а таксама з-за недахопу арыгінальных крыніц гісторыкі нярэдка блытаюцца, спрабуючы вызначыць кананічную тытулатуру вышэйшых архірэяў усіх згаданых мітраполій.

Важным структурным элементам Кіеўскай мітраполіі заставаліся праваслаўныя епархіі, лёс якіх значна змяніўся ў XII–XIII ст. пад уздзеяннем палітычнага падзелу зямель і княстваў Русі, мангольскіх нашэсцяў і іншых фактараў (табл. 1, 2).

*Табл. 1.* Епархіі Старажытнай Русі (канец X – сярэдзіна XIII ст.)

| № п/п | Епархіі | № п/п | Епархіі |
|---|---|---|---|
| 1 | Белгародская* | 10 | Растоўская |
| 2 | Галіцкая | 11 | Смаленская |
| 3 | Кіеўская (мітрапаліцкая) | 12 | Тураўская |
| 4 | Луцкая | 13 | Ўграўская (Холмская) |
| 5 | Наўгародская | 14 | Уладзімірска-Валынская |
| 6 | Перамышльская | 15 | Уладзімірска-Клязьмінская |
| 7 | Пераяслаў-Залеская | 16 | Чарнігаўская |
| 8 | Полацкая | 17 | Юр'еўская* |
| 9 | Разанская | | |

* Закрыты пасля мангольскага нашэсця.

У другой палове XIII ст. за межамі ВКЛ былі створаны Сарайская і Цвярская епархіі, у першай палове XIV ст. – Суздальская, у другой – Каломенская і Пермская. У пачатку другой паловы XIV ст. пад адміністрацыйна-царкоўнай юрысдыкцыяй кіеўскага ("літоўскага") мітрапаліта знаходзіліся 8 епархій: акрамя ўласна мітрапаліцкай Галіцкая, Перамышльская, Холмская, Уладзімірска-Валынская, Тураўская, Луцкая, Полацкая. На Навагрудскім саборы 1415 г. прысутнічалі тыя ж "смирении епискупы Русскых стран" (за выключэннем галіцкага), чарнігаўскі і смаленскі ўладыкі.

*Табл. 2.* Праваслаўныя епархіі ВКЛ і Польшчы XIV–XV ст.

| 1355 г. | 1415 г. | Сярэдзіна XV ст. |
|---|---|---|
| Галіцкая | | Галіцкая |
| Кіеўская (фактычна) | Кіеўская (фактычна) | Кіеўская (фактычна) |
| Луцкая | Луцкая | Луцкая |
| Перамышльская | Перамышльская | Перамышльская |
| Полацкая | Полацкая | Полацкая |
| Тураўская | Смаленская | Тураўская |
| Уладзімірская | Тураўская | Уладзімірская |
| Холмская | Уладзімірская | Холмская |
| Чарнігаўская (Бранская – з канца 1350-х) | Холмская | Чарнігаўская |
| | Чарнігаўская | |

З а ў в а г а. У першай вертыкальнай графе ўлічаны епархіі, што былі адведзены мітрапаліту Раману па пастанове Канстанцінопальскага патрыяршага сабора ў 1355 г. У другой – звесткі аб епархіях, якія ўваходзілі ў склад Польшчы і ВКЛ пры Цамблаку. У трэцяй – епархіі ВКЛ і ўсходняй Польшчы пасля падзелу Кіеўскай мітраполіі ў канцы 40-х гг. XV ст.

Л і т а р а т у р а да табл. 1–2: *Макарий, митр.* История русской церкви. Кн. 3–5. М. 1996; *Gelzer I.* ed. Zur Zeitberechnung der griechischen Notitiae episco-

patuum // Jahrbücher für protestantische Theologie. 1886. T. XII. S. 337–372, 528–575; *Fijałek J.* Średniowieczne biskupstwa...// KH, 1896. R. X, z. 3. S. 487–521; R. XI, z. 1. S. 16–36; *Покровский И.М.* Русские епархии в XVI–XVII вв. Казань, 1897. Т. 1; *Янин В.Л.* Заметки о комплексе документов Смоленской епархии XII века // Отечественная история. 1994. № 6. С. 104–120. *Щапов Я.Н.* Государство и церковь Древней Руси. С. 207–213; *Поппэ А.* Истоки церковной организации Древнерусского государства // Становление раннефеодальных славянских государств. Киев, 1972; *Голубинский Е.* История русской церкви... Т. 2, первая половина тома. М., 1900; Русский феодальный архив XIV – первой трети XVI века / Сост. и комм. А.И. Плигузов, Г.В. Семенченко, Л.Ф. Кузьмина. Вып. 1–5. М., 1989–1992.

Структура епархій амаль не змянялася да Люблінскай уніі 1569 г. Землі Беларусі ў XIII–XV ст. уваходзілі ў склад Наваградскай, Полацкай (Полацка-Віцебскай), Тураўскай, часткова – мітрапаліцкай, Уладзімірскай (Уладзімірска-Берасцейскай), Смаленскай епархій. Невялікая частка паўднёва-ўсходніх зямель з Гомелем і Чачэрскам былі аднесены да Чарнігаўскай епархіі.

Практычна немагчыма вызначыць колькасць прыходскіх і іншых цэркваў на тэрыторыі Беларусі, Украіны, Літвы і ва ўсім Княстве Літоўскім у XIII–XV ст. Адсутнічаюць звесткі нават па асобных паветах і ваяводствах. Улічваючы даўнасць працэсу хрысціянізацыі, тэрытарыяльныя і этнадэмаграфічныя крытэрыі, а таксама звычайныя памеры прыходаў, якія ў той ці іншай ступені павінны былі захоўваць сувязі з прыхаджанамі, з упэўненасцю можна сказаць толькі, што агульная колькасць цэркваў шматкратна пераўзыходзіла колькасць каталіцкіх касцёлаў. Сельскія праваслаўныя цэрквы звычайна будаваліся з дрэва (у вопісах Полацкага павета XVI ст. яны называліся “клеткі”, без адрознення ад жылых ці іншых дваровых забудоў) і каштавалі нядорага. Некаторыя цэрквы ставілі на свае абшчынныя грошы самі сяляне, чаго ніколі не рабілі яны для храмаў іншых хрысціянскіх канфесій. Жыццё простых папоў, дзякоў, псаломшчыкаў за межамі храма амаль не адрознівалася ад паўсядзённага побыту паспалітага беларускага сялянства, мяшчанства. Яны толькі на словах і па сваіх абавязках мелі нейкае ўскоснае дачыненне да прывілеяванага духоўнага стану. Многія папоўскія сем’і перадавалі свой статус па спадчыне. Кафедральныя (нярэдка каменныя) цэрквы былі створаны ў епархіяльных і мітрапаліцкіх цэнтрах з развітой дваровай структурай, памяшканнямі для белага духавенства, служак і інш.

У другой палове XIII–XV ст. на землях Беларусі дзейнічалі некалькі дзесяткаў праваслаўных манастыроў, больш за ўсё ў старых рэгіёнах рассялення “рускага” насельніцтва (Полаччына, Наваградчына, Піншчына). Дакументальных звестак пра раннія этапы іх дзейнасці нямнога, і час заснавання іх вызначаецца па царкоўнай традыцыі або па першых вядомых актах, згадках у летапісах, іншых рукапісах. Большасць манастыроў налічвала вельмі нязначную колькасць чорнага духавенства (да 15–20 манахаў), і толькі некаторыя з іх ператвараліся ў значныя цэнтры царкоўна-манастырскага выхавання, адукацыі, літургічных і багаслоўскіх традыцый, пісьменнасці, царкоўных спеваў, артыстычнага рамяства і мастацтва, гаспадарчай і рамесніцкай дзейнасці.

Вяршыняй духоўнай іерархіі былі архірэі: мітрапаліты і епіскапы. Сярод іх па меншай меры 23 архіпастыры ўзначальвалі мітраполію Кіеўскую і ўсяе Русі (да пераносу мітрапаліцкай рэзідэнцыі ва Уладзімір-на-Клязьме), верагодна, адзін мітрапаліт кіраваў Літоўскай мітраполіяй у першую трэць XIV ст., адзін некананічны мітрапаліт – Цамблак быў абраны саборам епіскапаў (пракляты і звергнуты патрыярхатам), дзве духоўныя асобы даволі доўга выконвалі архірэйскія функцыі ў адасобленай (літоўскай) частцы Кіеўскай мітраполіі – Раман і Кіпрыян.

Пералік кіеўскіх і "літоўскіх" мітрапалітаў (пасля ад'езду Максіма ва Уладзімір) і іх паходжанне прыведзены ніжэй.

1. Максім, 1283–1305, грэк.
2. Пётр, 1308–1326, русін.
3. Феафіл (ВКЛ), 1316–1329/1930, грэк.
4. Феагност (Тэагност), 1328–1353, грэк.
5. Феадарыт (Тэадарыт) (ВКЛ), 1352–1353?, грэк.
6. Раман (ВКЛ), 1355 – канец 1361 ці пачатак 1362, рускі (верагодна цверычанін).
7. Алексій, 1354–1377, рускі, сын чарнігаўскага баярына.
8. Кіпрыян, 1375–1406, балгарын ці грэк, магчыма не сваяк Цамблака.
9. Міхаіл (Міцяй) 1377–1379, рускі, поп з Каломны, духоўнік Дзмітрыя Іванавіча (Данскога).
10. Пімен, 1382–1385, рускі.
11. Дыянісій, 1384–1385, рускі.
12. Фоцій, 1408–1431, грэк, марэец.
13. Грыгорый (Цамблак), 1415–1419, балгарын.
14. Герасім (Смаленскі), 1433–1435, "масквіцін".
15. Ісідор, 1436–1458, грэк, марэец.
16. Грыгорый (Балгарын), 1458–1472, балгарын ці грэк[1].

Фактычна некаторы час у пачатку XV ст. функцыі мітрапаліта ў ВКЛ выконваў полацкі архіепіскап Феадосій, грэк.

З 23 мітрапалітаў кіеўскіх і ўсяе Русі ( з 988 г. да смерці Кірыла II у 1281 г.) усяго два былі русінамі – Іларыён (1051–1054) і Клім Смаляціч (1147–1155). У наступны перыяд – ад мітрапаліта Максіма да Грыгорыя Балгарына з 16 архіпастыраў рускімі (велікаросамі) па паходжанні дакладна можна лічыць палову (не менш за 7 асоб), грэкаў 7, балгар 2.

Калі пакінуць мітрапалітаў, якія рэальна распараджаліся на землях ВКЛ (з 16 трэба выключыць Феадарыта, Міцяя, Пімена, Дыянісія), застаюцца тры русіны – Пётр, Раман, Герасім, сем грэкаў, два балгарыны. Усе тры русіны пачалі сваю мітрапаліцкую кар'еру на землях ВКЛ. Ніхто, акрамя Пятра, не змог стаць фактычным мітрапалітам кіеўскім і

---

[1] Літаратура да спіса: *Макарий, митр.* История русской церкви... Т. 3–4; *Барсов Т.* Константинопольский патриарх и его власть над русской церковью. СПб., 1878; *Голубинский Е.* История русской церкви...; *Рыбинский В.П.* Киевская митрополичья кафедра с половины XIII до конца XVI века. Киев, 1891; *Соколов П.П.* Русский архиерей из Византии и право его назначения до начала XV в. Киев, 1913; *Щапов Я.Н.* Государство и церковь... С. 191–206 з біяграмамі (склаў А.В. Попэ); *Mončak I.* Florentine ecumenism in the Kyivan church. Rome, 1987. P. 354–355; *Rowell S.C.* Lithuania ascending...; *Гудзяк Б.* Криза і реформа: Київська митрополія, Царгородський патріархат і генеза Берестейської унії. Львів, 2000. С. 353.

ўсяе Русі. Затое сепаратысцкія ці ўніяцкія тэндэнцыі (незалежна ад таго, хто быў іх інспіратарам) мацней за ўсё выявіліся ў ВКЛ у дзейнасці двух русінаў – Рамана, Герасіма, трох грэкаў – Феафіла, Феадарыта, Ісідора, двух балгар– Цамблака, Грыгорыя (магчыма – грэк), амаль дзве трэці ад 12. Пытанне наконт дзейнасці балгарына Кіпрыяна канчаткова не высветлена. Ва ўсякім разе негатыўнае стаўленне Дзмітрыя Іванавіча да кандыдатуры Кіпрыяна і выкрывальныя граматы маскоўскіх іерархаў у перыяд яго адсутнасці ў Маскве чагосьці, верагодна, вартыя.

Што да епіскапаў, удзельная вага мясцовых святароў тут была большая. Меркаваць пра гэта можна на падставе спісаў іерархаў, якія ўладарылі ў Беларусі і іншых землях ВКЛ.

Цэласная тэрытарыяльна-адміністрацыйная структура праваслаўнай царквы ў Беларусі, Літве, Украіне і іншых рэгіёнах ВКЛ усталявалася ў другой палове XIV – сярэдзіне XV ст. Наступныя не вельмі значныя змены залежалі галоўным чынам ад тэрытарыяльных межаў ВКЛ і Рускай дзяржавы.

**Узаемаадносіны праваслаўнай царквы са свецкай уладай.** У канцы XIII – сярэдзіне XV ст. праваслаўная вера і грэка-візантыйская (праваслаўная) царква панавалі на ўсіх рускіх[1] землях ВКЛ, паўднёва-ўсходняй Польшчы, паўднёвай, усходняй і паўночна-заходняй Русі ў зменлівай супольнасці, межах, лёсе розных палітычных утварэнняў. Па хрысціянскіх канонах праваслаўная царква, як і каталіцкая, не павінна была прэтэндаваць на палітычную ўладу, якая належала мірскім колам, а тыя – ўмешвацца ў яе духоўныя справы[2].

Пры ўсіх значных супярэчнасцях царкоўнага і свецкага права, палітыкі вярхоў, жыццёвай рэальнасці праваслаўная царква заставалася ў Беларусі і іншых рускіх землях ВКЛ самай уплывовай, распаўсюджанай, паспалітай (па колькасці прыхаджан, храмаў, кліру, памерах сваёй кананічнай тэрыторыі, устойлівасці традыцый).

Выключнае этнаканфесійнае становішча царквы ў Беларусі даказаць не складана. Яго пацвярджаюць між іншым: 1) значныя поспехі хрысціянізацыі славянскага насельніцтва Беларусі, тым больш яе княжацкага стану, да сярэдзіны XIII ст.[3]; 2) гістарычныя сведчанні XIII–XV ст. (папскія булы, акты Свяшчэннай Рымскай імперыі, Тэўтонскага ордэна, хронікі і інш.), дзе згаданая царква называецца грэчаскай, схізматычнай[4] ці проста "рускай". Унутры ВКЛ звычайна выкарыстоўваліся раўназначныя тэрміны – "грэчаская вера" ці радзей – "руская вера". Як сінонімамі карысталіся імі праваслаўныя жыхары ВКЛ, хоць тэрмін "руская" вера не быў кананічным. Ніводная іншая вера ў Беларусі да канца XVI ст. не

---

[1] Пад рускімі землямі ВКЛ разумеюцца землі Беларусі і Украіны ў іх тагачасным вызначэнні, а таксама некаторыя землі суседніх рускіх княстваў, якія ўваходзілі ў склад ВКЛ у выніку яго ўсходняй экспансіі. Калі крыніцы выразна датычацца толькі ці пераважна зямель Беларусі, намі з пэўнай гістарычнай умоўнасцю выкарыстоўваюцца тэрміны "Беларусь", "беларусы" і вытворныя.

[2] У рэальным жыцці сярэднявечнай Еўропы праблемы суадносін свецкай і духоўнай улады не заўсёды былі такімі апостальскімі. Царкоўная іерархія адстойвала прыярытэт духоўнай улады над свецкай, што было відавочна, напрыклад, у працяглым канфлікце рымскіх пантыфікаў з цэсарствам Свяшчэннай Рымскай імперыі і з саборнай схізмай.

[3] Нягледзячы на рэдкую змену канфесій і захаванне рудыментаў язычніцтва.

[4] Хрысціянскай, але не рымскай, не каталіцкай.

называлася "рускай"; 3) паколькі "русіны" (беларусы, украінцы, часткова жыхары ўсходніх рускіх княстваў, што ў XIV – першай палове XV ст. апынуліся ў складзе ВКЛ) прадстаўлялі большасць усяго насельніцтва і абжытая імі тэрыторыя шматкратна пераўзыходзіла этнічныя землі літоўцаў, зразумела, што праваслаў'е заставалася пануючай канфесіяй па сваіх этнатэрытарыяльных маштабах; 4) царква панавала ў паўсядзённым, духоўным, культурным жыцці Беларусі, у звычайных умовах была адным з асноўных інстытутаў сацыяльнага існавання і канфармізму. Яна асвячала сямейныя падзеі, грамадскае жыццё, купецтва, уладу, нярэдка падтрымлівала жыхароў у бядотах, змагалася з ерасямі і грахамі, несла прыхаджанам надзею і веру. Не дзіва, што большасць дынастаў, у часы Гедыміна і Альгерда аселых на землях Беларусі і Украіны, хутка асіміляваліся ў культурных, моўных і царкоўных адносінах. Агульную этнаканфесійную перавагу праваслаўнага насельніцтва ў Беларусі і Украіне з канца XIV – пачатку XV ст. прызнаюць амаль усе інфармаваныя назіральнікі (дыпламаты, нунцыі, купцы і інш.). Між тым адзначаны перыяд ужо вылучаецца значнай каталіцкай экспансіяй на землях Беларусі, што надае гэтым звесткам пераканаўчы рэтраспектыўны характар.

Статус і сферы дзейнасці праваслаўнай царквы вызначаліся царкоўным і свецкім правам, актамі духоўнай іерархіі, мітрапалітаў, епіскапаў, сабораў, уставамі князёў, "раднымі" (дагаворнымі) граматамі, агульназемскім, земскім і гарадскім заканадаўствам, гаспадарскімі і прыватнымі прывілеямі, даравізнамі, традыцыямі.

На землях Беларусі і Украіны працягвала дзейнічаць кананічнае царкоўнае права, рабіліся спробы яго прыстасавання да зменлівых грамадска-палітычных і канфесійных умоў, капіраваліся, рэдагаваліся, дапаўняліся і спісы зборнікаў царкоўных і свецкіх законаў грэка-візантыйскага, паўднёваславянскага, старажытнарускага генезісу[1]. Гісторыкі адзначаюць спробу ўпарадкавання звычаёвага права ва ўзаемаадносінах княжацкай і царкоўнай уладаў Турава-Пінскай зямлі ў сярэдзіне XIV ст.[2], сталае выкарыстанне намаканонаў ці кормчых кніг як дзеючых зводаў права. На Полаччыне ў пачатку XV ст., верагодна, узнікла Архангельская рэдакцыі устава князя Уладзіміра[3], з дзейнасцю полацкага архіепіскапа Феадосія[4] звязваюць Архіўны звод помніка. Папулярнасцю карысталіся ў Беларусі спісы кормчых кніг Рускай, Валынскай рэдакцый. Пашырэнню Сербскай рэдакцыі садзейнічала паўднёваславянскае паходжанне мітрапалітаў Кіпрыяна і Цамблака і іх дзейнасць у ВКЛ[5].

Спецыфічныя рысы царкоўнай юрысдыкцыі ў ВКЛ былі нярэдка звязаны з асаблівасцямі дзяржаўнага ладу, тэрытарыяльна-адміністрацыйнай структуры, зямельнага і дзяржаўнага права.

---

[1] *Щапов Я.Н.* Византийское и южнославянское правовое наследие на Руси в XI–XIII вв. М., 1978. С. 40–233; *Пашуто В.Т., Флоря Б.Н., Хорошкевич А.Л.* Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. М., 1982. С. 114–115.

[2] *Щапов Я.Н.* Туровские уставы XIV в. о десятине //Археологический ежегодник за 1964 год. М., 1965. С. 271–273); *Ён жа.* Древнерусские княжеские уставы XI–XV вв. М., 1976. С. 199–200.

[3] *Пашуто В.Т., Флоря Б.Н., Хорошкевич А.Л.* Древнерусское наследие... С. 114–115.

[4] На думку А. Харашкевіч, магчыма, царкоўнага цэнтра ў Наваградку. Гл.: *Пашуто В.Т., Флоря Б.Н., Хорошкевич А.Л.* Древнерусское наследие... С. 115.

[5] *Щапов Я.Н.* Византийское наследие... С. 152–154.

Поўнасцю прысвечаны царкоўным справам княжацкія граматы ўладыкам украінскіх і беларускіх епархій, у тым ліку прывілей і статут луцкага і ўладзімірскага князя Любарта Гедымінавіча, датаваны 8 снежня 1321 г.[1], прывілей і статут кіеўскага князя Аляксандра Уладзіміравіча Сафійскай царкве ў Кіеве і мітрапаліту Ісідору ад 5 лютага 1441 г. і інш.

У прывілеі князя Аляксандра Уладзіміравіча (Алелькі) агаворваюцца царкоўныя пошліны мітрапаліцкай кафедры, зямельныя ўладанні ў Кіеўскім княстве, "што издавна прислушала митрополии», умовы сумеснага суда, права мітрапаліцкага намесніка[2]. На думку І. Якубоўскага, спецыяльны артыкул пра захаванне традыцыйных правоў праваслаўнай царквы ў полацка-віцебскіх прывілеях, верагодна, генетычна звязаны з "раднымі"[3] дагаворамі, якія выдаваліся ўдзельнымі полацкімі і віцебскімі князямі жыхарам гэтых зямель. Радныя граматы Полацка і Віцебска не дайшлі да нас (асобныя пагадненні маглі заключацца вусна), але некаторыя артыкулы вялікакняскіх прывілеяў часоў Вітаўта, Свідрыгайлы, Казіміра амаль даслоўна паўтараюць артыкулы вядомых наўгародскіх радных актаў[4].

З раднымі граматамі першай паловы XIV ст. Якубоўскі звязвае артыкул аб захаванні правоў полацкай царквы: "Штож в церкви Божьи тобе [княже] не вступатися, в дом Божій Святой Софіи и в дом Божій Святого Спаса и в иные церкви не вступатися тобе"[5]. Практычна тоесны тэкст артыкула паўтораны ў полацкім і віцебскім прывілеях Вітаўта, якія датуюцца 1392–1399 гг., і ў полацкім прывілеі Жыгімонта Кейстутавіча (другая палова 40-х гг. XV ст.)[6]. Яшчэ адзін старажытны пункт абедзвюх грамат абгаворвае збор епіскапа з кліру: "а также владыце на попех полоцких (витебских) куница соборная шерстью"[7].

У прывілеі Жыгімонта[8] сустракаюцца і новыя царкоўныя пункты: 26. "а владычнему слузе і боярскому по гомуж децкованье" (ад рубля па 4 грошы, а памільнага па грошу); 32. "а также владыце на попех полоцких куница соборная шерстью"; 33. " а в пригон попом и игуменом ко владыце не ходити"; 34. " а церковные домы присмотрити старостам городским"; 35. "а церковных земль владычным слугам не держати"[9]. Як бачым, земскія (зямельныя) прывілеі аддзяляюць свецкую юрысдыкцыю ад гарадской, епіскапскай, удакладняюць некаторыя сродкі матэрыяльнага забеспячэння ўладык, абгаворваюць пэўную незалежнасць святароў.

---

[1] Дата недакладная: *Щапов Я.Н.* Древнерусские княжеские уставы XI–XV вв. С. 173–174.

[2] Там жа. С. 179–181.

[3] Радныя – ад тэрміна "ряд" – пагадненне, дамоўленасць.

[4] *Якубовский И.* Земские привилеи Великого княжества Литовского. Ч. 2 // ЖМНП. 1903. Ч. 347, июнь, 1903. С. 276.

[5] Там жа. С. 296.

[6] У полацкім згадваюцца храмы св. Сафіі і св. Спаса, у віцебскім – Святадухаўскай і Дабравешчанскай цэркваў. Гл.: *Кулагін А.М.* Праваслаўныя храмы на Беларусі. Мн., 2001. С. 39, 229.

[7] *Якубовский И.* Земские привилеи Великого княжества Литовского. Ч. 2 // ЖМНП. Ч. 347. С. 263, 297–298. Параўн.: *Ochmański J.* Vitoldiana... N. 1. P. 5–6.

[8] У яго прывілей уключаны яшчэ "дачы" Свідрыгайлы.

[9] *Якубовский И.* Земские привилеи Вяликого княжества Литовского // ЖМНП. Ч. 347. С. 275–300. Нумарацыя пунктаў – даследчыка.

Асноўныя "дачы" і імунітэтныя правы царкве ў XIII–XV ст. надавалі Рурыкавічы, праваслаўныя князі Гедымінавічы, Альгердавічы, іх праваслаўныя жонкі, духоўныя іерархі, месцічы. Даніны афармляліся асобнымі актамі або ўпісваліся ў царкоўныя Евангеллі[1], што часам параджала спрэчкі і падлогі. Але ў большасці выпадкаў свецкія ўлады і судовыя органы прызнавалі правамоцтва такіх запісаў[2].

На эвалюцыю царкоўнага права на землях Беларусі і Украіны з канца XIV – пачатку XV ст. уплывалі змены ў канфесійнай палітыцы кіруючых колаў ВКЛ і Польшчы, умяшальніцтва свецкіх прывілеяваных станаў, дзейнасць некаторых маскоўскіх мітрапалітаў усяе Русі, якія слаба ўлічвалі традыцыі і патрэбнасці замежнай духоўнай іерархіі і больш клапаціліся пра свае асноўныя даходы[3].

Спроба ўзмацніць уладу мясцовых архірэяў, ліквідаваць парушэнні, спалучыць і размежаваць права духоўнай і свецкай улады ў ВКЛ адбілася ў так званым Скрутку (Свитку) Яраслава Уладзіміравіча (Мудрага). Аўтарытэт вялікага кіеўскага князя (панаваў у 1019–1054 гг.) быў выкарыстаны ў XV ст. для стварэння гэтага прававога помніка з мэтай узмацнення адзінства царкоўнай арганізацыі, інтэграцыі яе ў прававую структуру ВКЛ, вызначэння асноўных судовых спраў, падлеглых духоўнай юрысдыкцыі (шлюбы, разводы, ерасі, адступленні ад канонаў сямейнага жыцця)[4].

Для суда над феадаламі па справах аб разводзе Скрутак прадугледжваў паралельнае захаванне вялікакняскай інстанцыі, што сведчыла аб пашырэнні правоў прывілеяванага стану[5].

Узнікненне Скрутка ў першыя дзесяцігоддзі XV ст., верагодна, звязана з прававой дзейнасцю Кіпрыяна або Цамблака, меней верагодна – Фоція. У 1443 г. Скрутак князя Яраслава згадваецца ўжо ў пацвярджальнай і даравальнай грамаце Юрыя Сымонавіча Лугвенавіча мсціслаўскаму Ануфрыеўскаму манастыру на сёлы Галоўчына, Калеснікоўскае, Камаровічы, даннікаў бацькі яго Сымона Лугвена, з вызваленнем манастырскіх людзей ад дваровых павіннасцей і падаткаў: "тых людей монастырских нашим наместником и тивунам и всим нашим заказником не судить, а ни рядить, ни детских не посылать; а на наше дело ни на которое не ходить, ни с сохою, ни с серпом, ни с топором, и ни подвод у тых людей не имать; а дач на нас у них никоторых не имать, ни серебщизны, ни ямщины, и никаких наметов на их не метать, а ни весчого, ни померного, ни повозного, никаких пошлин... нашим заказником с тых людей монастырских не имати...»[6]. Грамата князя вызваляла манастыр ад

---

[1] Без неабходных элементаў канцылярскай натыфікацыі (подпісаў сведкаў, пячаці і інш.).

[2] Нават у 1595 г. напярэдадні царкоўнай уніі вярхоўная ўлада палічыла неабходным зацвердзіць "захавание церквей при давном наданью их в добрах, на которые хотя бы привилья жадного не были, бы се одно у евангелеях вписаные знайдовали» (БЭФ. Т. 1. С. 371.)

[3] Неад'емнай гістарычнай і кананічнай спадчынай усіх мітрапалітаў кіеўскіх лічылася багатая кіеўская кафедра з прыналежнымі землямі і іншай царкоўнай маёмасцю.

[4] *Щапов Я.Н.* Древнерусские княжеские уставы...С. 136–137; *Ён жа.* Государство и церковь... С. 123; *Бардах Ю.* Штудыі з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Мн., 2002. С. 235.

[5] *Щапов Я.Н.* Древнерусские княжеские уставы... С. 121, 123.

[6] АЗР. Т. 1. № 43. С. 58.

суда і падводнай павіннасці мітрапаліту ў выпадку яго праезду і са спасылкай на Скрутак Яраслава адхіляла епіскапа ад удзелу ў справах духоўных: "А владычным десятником и городским тых людей монастырских в духовных делех не судить, а ни рядить, и детских не посылать, и вин не имать на владыку, што в свитку Ерославли стоить, судить и рядить и вины имать в духовных делех ...самому архимандриту»[1]. Афіцыйнае прызнанне Скрутка не пашырыла ні сферы дзейнасці царквы, ні яе юрысдыкцыі; яно мела хутчэй пэўнае нарматыўнае значэнне ва ўзаемаадносінах духоўных і свецкіх уласнікаў.

Перыядычная адсутнасць уласных мітрапаліцкіх цэнтраў у ВКЛ, ускладненне адносін з Маскоўскай Руссю, афіцыёзны прымат каталіцкай царквы ў этнаканфесійнай палітыцы першых ягелонскіх манархаў не маглі не адбіцца на ўзаемаадносінах праваслаўнага духавенства з цэнтральнымі і мясцовымі ўладамі, свецкай арыстакратыяй, панамі, шляхтай, заможным баярствам. Епіскапы нярэдка парушалі правы мітрапалітаў і іх намеснікаў, юрысдыкцыя над прычтам кцітарскіх манастыроў і цэркваў усё часцей пераходзіла да князёў і баярства[2], атрымала распаўсюджанне некананічнае права падавання, што падрывала і абмяжоўвала царкоўную юрысдыкцыю.

Дзяржаўная ўлада, што ўсё часцей выступала з пазіцый вярхоўнага падаўцы і абаронцы правоў праваслаўнай царквы і яе пасадаў ("хлябоў духоўных"), слаба ўплывала на дэструктыўныя ўнутрыцаркоўныя тэндэнцыі, але ўлічвала палітычную і этнаканфесійную вагу праваслаўя ў размежаваным поліэтнічным Княстве і захаванні дзяржаўнай уніі.

Новы ўзровень касцельных і сацыяльных правоў, які прынеслі з сабой збліжэнне з Польшчай, эмансіпацыя літоўскага баярства, беларускага і ўкраінскага набілітэту патрабавалі сталых афіцыйных гарантый у забеспячэнні высокага статуса каталіцкай і больш традыцыйнага праваслаўнай царквы ў грамадскім жыцці Княства.

Правы праваслаўнай царквы і асобных яе інстытуцый з канца XIV ст. закранаюцца ў прывілеях, наданых каралеўскім і вялікакняскім намеснікам на кіраванне землямі Русі. Так, у грамаце Ягайлы Скіргайле ад 25 красавіка 1387 г. на Трокскае, Менскае і Полацкае княжанні пазначаны імунітэтныя правы царквы св. Іаана ў Полацку[3]. Скіргайла па ўмовах крэўска-ваўкавыскага пагаднення захаваў за сабой права заставацца ў праваслаўнай веры (падобна некаторым іншым дынастам, што аселі на землях Беларусі ці Украіны, у тым ліку Алелькавічам). На такі выбар найбольш даверанага і блізкага брата Ягайлы асабліва паўплывалі настроенасць полацкіх месцічаў ды баяр і апазіцыйная ваенна-палітычная дзейнасць вялікага полацкага князя Андрэя Альгердавіча.

Больш шырока юрысдыкцыя праваслаўнай іерархіі абгаворана ў шэрагу агульназемскіх, земскіх, гарадскіх прывілеяў, граматах, наданых мітрапалітам і епіскапам разам з агульным пашырэннем правоў беларуска-ўкраінскага баярства.

---

[2] *Щапов Я.Н.* Государство и церковь... С. 122.

[3] Полоцкие грамоты XIII – начала XVI вв. / Сост. А.Л. Хорошкевич. [Вып. 1]. М., 1977. № 10. С 50–54.

Незадоўга да вырашальнай бітвы пад Вількамірам новы прэтэндэнт на вялікакняскі стол Жыгімонт Кейстутавіч выдаў агульназемскі прывілей з мэтай абмежаваць ўдзел жыхароў беларускіх і ўкраінскіх зямель у паўстанні Свідрыгайлы. Дадзены прававы акт у агульнай форме пацвярджаў пашыраныя правы князёў і баяр Літвы і Русі, не акцэнтуючы ўвагу на рэлігійных адрозненнях. Толькі ў апошнім восьмым артыкуле падкрэслена, што навечна ўзнаўляюцца ўсе граматы, прывілеі і міласці, дараваныя цэрквам, князям і баярам "нашым братам" (Вітаўтам) і дазволеныя правам патранату[1].

Не асабліва паўплываў на рэальныя правамоцтвы праваслаўнай царквы ВКЛ прывілей Уладзіслава III, выдадзены уніяцкаму мітрапаліту Ісідору ў 1443 г. і прызначаны для зямель Кароны. У судовых справах Беларусі другой паловы XV ст. спасылкі на гэты акт практычна не сустракаюцца. Толькі ў пачатку XVI ст. у сувязі з пэўным адраджэннем планаў царкоўнай і новай палітычнай уніі прывілей Уладзіслава стаў ацэньвацца ў вярхоўных колах Польшчы і ВКЛ як асноўны публічна-прававы акт для " прыхільнікаў усходняй веры ва ўсёй польска-літоўскай федэрацыі"[2].



Казімір Ягелон.
Надмагілле ў кракаўскім Вавелі.

У вялікім прывілеі Казіміра 1447 г. увагу прыцягваюць два артыкулы, якія закранаюць права духоўнага стану. У пачатку акта дэкларатыўна сказана, што прэлатам, княжатам, рыцарам, шляхце, баярам, месцічам Вялікага Княства Літоўскага, Рускага, Жамойцага навечна даруюцца тыя ж правы, якімі карыстаюцца станы Польскай Кароны. Па агульным змесце прывілея можна меркаваць, што пад прэлатамі (звычайна – каталіцкімі пастырамі) маецца на ўвазе ўся духоўная іерархія[3]. У наступным вялікім артыкуле ўпершыню ў агульназемскіх прывілеях пацвярджаюцца даніны і прывілеі ўсяго хрысціянскага духавенства і ўдакладняецца права вярхоўнай улады на вызначэнне пастыраў у галоўныя пустуючыя храмы: "А напервей, вся дарованя, привиліа, твердости церквей головных, зборных і кляшторных, в землях наших великого князьства Литовского и Руского, Жемоитского и иных, поставленых и заложеных, а и потом которыи будуть заложены, хочом без порушеніа и без обид ховати, боронити и щитити, подлуг всее нашее моци. Которая ж то церква голов-

[1] *Любавский М.К.* Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. М., 1910. С. 323– 325.

[2] *Halecki O.* From Florence to Brest (1439–1596). Rome, 1958. P. 124; *Флоря Б.Н.* Привилей короля Владислава III православной церкви на территории Польского королевства // Балканские исследования. Вып. 17. М., 1997. С. 32–43.

[3] Праваслаўная царква, як і іншыя некаталіцкія цэрквы ВКЛ, ніколі не атрымала правоў, роўных польскім. Вольнасці і правы прэлатаў згадваюцца і ў іншых пунктах прывілея разам з правамі іншых станаў.

ная, зборная, кляштырная, по смерти... иж бы пуста была, а пастыря не държала, которое ж поданье к нам и к нашим наместником пригодило бы ся; тогды им с полного права, не иного, а любо не иных, пастыря, а любо пастырев давати маем, нижьли великого князьства нашого Литовского, прироженого, аж достойными обычаи найден будеть; аж пак не будеть, тогды иншого рожаю парсуну ужиточную, почестливую, згодную, которая ж бы могла рядить и вжиточна быти, маем дати, только крат, колько будеть надобе"[1]. Згаданае права падавання давала ў ВКЛ прастор умяшальніцтву іншых свецкіх уладальнікаў у справы чыста царкоўныя (бо вызначаць просты клір павінны былі епіскапы, а іх ставіць – мітрапаліты). Акрамя таго, за вярхоўнай уладай заставалася права пры неабходнасці ставіць у цэрквы і манастыры пастыраў замежнага паходжання. Несумненна, гэты дадатак прызначаўся таксама для забеспячэння касцёлаў польскім клірам, бо для праваслаўных храмаў праблемы з "парсунамі мясцовага рожаю" не ўзнікалі.

Цяжка ацаніць агульныя памеры царкоўнага землеўладання XIII–XV ст., таму што большасць захаваных крыніц не дае канкрэтных звестак пра аб'ём уладанняў, колькасць залежнага сялянства, месцічаў. Можна адзначыць толькі, што землеўладанне праваслаўнай царквы пачало складвацца яшчэ да ўзнікнення ВКЛ і паволі пашыралася ў далейшым дзякуючы галоўным чынам данінам праваслаўных князёў, паноў і баярства, некаторым імунітэтным і даравальным актам з боку вярхоўнай улады.

Даравізны вялікіх князёў літоўскіх у канцы XIV – першай трэці XV ст. былі зусім рэдкай з'явай і не адрозніваліся размахам, напрыклад наданні некалькіх вёсак Вітаўтам і польскім каралём Казімірам епіскапіі Тураўскай і Пінскай або прывілей Вітаўта знакамітаму Лаўрышаўскаму манастыру на права пабірання драўніны ў пушчах Негневіцкай і Налібоцкай[2].

ПаведамленнеНіканаўскага летапісу пра раздачу мітрапаліцкіх "градаў", валасцей і сёлаў "панам" Вітаўта звязана хутчэй за ўсё з перыядам яго вострага канфлікту з Фоціем і рэвізіяй уладанняў кіеўскай кафедры або мае больш позні палемічны характар[3].

Праваслаўная царква ВКЛ ва ўсе перыяды яе гісторыі захоўвала асноўныя кананічныя сферы сваёй дзейнасці. У рэальным жыцці і спецыфічных умовах ВКЛ яна выконвала шэраг іншых і важных функцый, якія ў шырокім сэнсе адпавядалі яе канфесійнай, культурнай і сацыяльна-палітычнай ролі. У XIII–XIV ст. яна забяспечвала пашырэнне і паглыбленне хрысціянізацыі Русі паралельна з працэсам далейшага асваення, засялення зямель Беларусі і Украіны, дэмаграфічных і тэрытарыяльных змен. Пашырэнне абжытых і нованабытых тэрыторый, узнікненне новых населеных пунктаў ці рост старых гарадоў, мястэчак, вёсак суправаджаліся будаўніцтвам новых храмаў, падрыхтоўкай кліру, развіццём прыходскай структуры. Царква не абмяжоўвала сябе канфесій-

---

[1] АЗР. Т. 1. С. 74.

[2] Vitoldiana. № 54. P. 59. Акты не датаваны, бо вядомы па пазнейшых згадваннях.

[3] Полное собрание русских летописей (далей – ПСРЛ). Т. 11. С. 224; *Клосс Б.М.* О составе копийной книги московского митрополичьего дома // Вспомогательные исторические дисциплины. Вып. 5. Л., 1973. С. 110.

на-службовымі функцыямі, яна супрацоўнічала (а часткова і канкурыравала) з гаспадарскімі, мяшчанскімі і княскімі органамі ў забеспячэнні жыццяздольнасці і цэласнасці сельскіх абшчын, гарадскіх і іншых супольнасцей, усталёўвала нормы грамадскага жыцця, маралі, у пэўнай ступені асвячала ўнутраную і знешнюю палітыку цэнтральных і мясцовых улад. Непасрэдна ў палітычнай і дыпламатычнай дзейнасці пануючых свецкіх колаў, мясцовых і рэгіянальных з'ездах і пагадненнях царкоўная іерархія ўдзельнічала рэдка.

У сферы знешніх зносін царква захоўвала кананічныя сувязі з канстанцінопальскім патрыярхатам, а таксама царкоўнай іерархіяй Паўночна-Усходняй Русі ў перыяды кананічнага і рэальнага існавання агульнай мітраполіі, кантактавала з духавенствам іншых праваслаўных краін і рэгіёнаў, у тым ліку царкоўнай іерархіяй Цвярскога княства, Уладзімірскага, Бранскага, Балгарыі. Ва ўсходніх землях Беларусі ў XIII–XIV ст. полацкія епіскапы клапаціліся пра захаванне гандлёвых і прававых пагадненняў з суседнімі княствамі, Інфлянтамі, Рыгай, мяшчанскіх і купецкіх правоў Полацка, Віцебска, грашова-вагавых эквівалентаў.

Важнай унутранай, а часткова і знешняй функцыяй праваслаўнай царквы заставалася забеспячэнне матэрыяльных, сацыяльных і гаспадарчых умоў яе дзейнасці, царкоўнага кліру, іерархіі. Царкоўныя судовыя органы былі інтэгральнай і разгалінаванай часткай дзяржаўнай судовай і прававой сістэмы, дапаўняючы яе ў тых сферах, якія патрабавалі спецыфічных кананічных ведаў і сталага сужыцця з усімі пластамі грамадства, у тым ліку з гарадскім і сельскім паспольствам.

Духоўныя, абрадавыя, святочныя і іншыя ўзнёслыя і звычайныя побытавыя функцыі царквы ў значнай ступені фарміравалі рэлігійную і этнічную свядомасць праваслаўных усіх станаў, захоўвалі "старыну", знітоўвалі і пераўтваралі структураванае і сацыяльна размежаванае грамадства ў адчувальную ўсім "рускую" супольнасць адэкватнага гістарычнага ўзроўню. Гэтыя рысы царкоўнага і грамадскага жыцця забяспечылі канфесійнае і духоўнае панаванне праваслаўя ў беларускіх і іншых усходнеславянскіх землях ВКЛ, нягледзячы на яго збліжэнне з каталіцкай Польшчай з канца XIV ст., праекты царкоўных і дынастычных уній, няпростыя адносіны з праваслаўнымі княствамі Паўночнай і Усходняй Русі.



Пацір. Канец XV – пачатак XVI ст.

Ускладненне матэрыяльнага і прававога становішча праваслаўнай царквы з канца XIV – пачатку XV ст. (у параўнанні з шырокім практычна аўтаномным статусам каталіцкага касцёла) не вельмі паўплывала на канфесійныя традыцыі праваслаўнага насельніцтва Беларусі і Украіны, хоць у пэўнай ступені ўзмацніла рост апазіцыйных тэндэнцый. Яны відавочна адбіліся ў так званай хатняй вайне прэтэндэнтаў на прастол ВКЛ у 30-я гг. XV ст.

## 3. Хрышчэнне Літвы і арганізацыя каталіцкай царквы ў ВКЛ (канец XIV–пачатак XУ ст.)

**Спробы хрысціянізацыі Літвы і Русі ў XIII – сярэдзіне XIV ст.Рэцэпцыя каталіцтва ў канцы XIV ст.пры польскім пасрэдніцтве.** Спробы хрысціянізацыі Літвы вядомы практычна ва ўсе перыяды панавання самаўладных манархаў ВКЛ – ад Міндоўга ў сярэдзіне XIII ст. да галоўных нашчадкаў Альгерда і Кейстута ў 70-х – пачатку 80-х гг. наступнага стагоддзя. Перарывістасць і паўторнасць гэтых спроб сведчыць, што вялікія князі літоўскія і іх уплывовае асяроддзе добра ведалі пра ролю хрысціянскай канфесіі ва ўзаемаадносінах з іх еўрапейскімі партнёрамі і сапернікамі, аднак выкарыстоўвалі свае абяцанні часцей за ўсё ў тактычных мэтах.

Значны кансерватызм унутраных канфесійных і палітычных адносін доўга дазваляў вярхоўнай уладзе ВКЛ захоўваць уласныя рэлігійныя традыцыі і манеўраваць у знешняй і ўнутранай палітыцы. Геапалітычнае становішча ВКЛ, а таксама аслабленне Візантыйскай імперыі, падзенне міжнародных уплываў патрыярхату, раздробленасць і мангола-татарскае заняволенне Паўночна-Усходняй Русі, прывялі да таго, што імкненні літоўскай эліты да хрысціянізацыі Літвы з усходу і поўдня (Русь і Візантыя) былі звычайна значна слабейшымі, чым з захаду.

Лічыцца, што Цэнтральная і Заходняя Еўропа (Рымскае папства, Польшча, Тэўтонскі ордэн, Рыжскае архібіскупства, Свяшчэнная Рымская імперыя, Чэхія і Венгрыя) былі галоўнымі ўдзельнікамі эпізадычных спробаў хрысціянізацыі Літвы, яе правіцеляў і дынастаў, падрыхтавалі глебу для завяршэння дадзенага працэсу ў канцы XIV ст. Гэтая празмерна прасталінейная схема не ўлічвае таго, што з часоў першых вялікіх князёў літоўскіх і рускіх ВКЛ ужо ўяўляла па колькасці праваслаўнага насельніцтва і арэале яго распаўсюджання пераважна хрысціянізаваную дзяржаву. Яе кіруючыя колы выкарыстоўвалі праваслаў'е для пашырэння сваіх уплываў на ўсходнюю і паўднёвую Русь, галоўныя напрамкі знешняй экспансіі ВКЛ. Ахрышчаныя нашчадкі вялікіх князёў літоўскіх адыгрывалі ў сваіх удзелах на землях Беларусі і Украіны інтэгруючую, а нярэдка і сепаратысцкую ролю ў тэрытарыяльна-адміністрацыйнай і палітычнай структурах ВКЛ.

Адна з асноўных прычын шматлікіх правалаў каталіцкіх місій каранілася ў тым, што многія заходнія дзяржавы недастаткова ўлічвалі канфесійны склад ВКЛ і яго ўстойлівасць. Яны нярэдка імкнуліся да паралельнай хрысціянізацыі літоўцаў-язычнікаў і "русінаў-схізматыкаў", ажыццяўленне якой было відавочна немагчымым.

Такім чынам, асэнсаванне духоўнай, сацыяльнай і палітычнай значнасці хрысціянскай царквы, знаёмства з яе канонамі і абрадамі, унутраныя пераўтварэнні ў самім язычніцтве[1] пачаліся ў Літве задоўга да яе афіцыйнага хрышчэння і ў значнай ступені падрыхтавалі пэўныя пласты грамадства да вырашальных духоўных зрухаў. Усе спробы хрысціянізацыі Літвы з усходу ці захаду толькі тады набывалі нейкія ўяўныя ці рэальныя абрысы, калі грунтаваліся на ўласных інтарэсах і разліках яе па-

[1] *Rowell S.C.* Lithuania ascending... P. 118–148, 189–228.

нуючых колаў і ў першую чаргу вялікіх князёў літоўскіх. Пры змене гэтых матываў яны не пакідалі за сабой нічога істотнага, хоць і пракладвалі шляхі да новых высілкаў. Гэта пацвярджаецца шэрагам найбольш буйных падобных акцый.

Самыя плённыя і шматабяцальныя захады па хрышчэнні Літвы ў XIII – сярэдзіне XIV ст. былі зроблены ў часы панавання двух найбольш значных стваральнікаў ВКЛ: аб'яднальніка Літвы і заходніх зямель Русі Міндоўга і першага ўплывовага манарха ў геапалітычным вымярэнні Цэнтральнай і Усходняй Еўропы – Гедыміна. Яны займаліся арганізацыяй апостальскіх місій у Літву (непасрэдна ці ўскосна іх падтрымлівала ўся Заходняя Еўропа), дзейнічалі ў рэчышчы каталіцкіх усяленскіх імператываў, што знаходзіла выяўленне і ў пастановах шэрага царкоўных сабораў. Супярэчнасці паміж дынастычнымі кааліцыямі, папствам і Свяшчэннай Рымскай імперыяй аслаблялі гэты працэс. Нямала ўскладняла яго адставанне язычніцкай Літвы ад большасці еўрапейскіх краін па ўзроўні сацыяльнага, гаспадарчага і культурнага развіцця, адсутнасць уласнай пісьменнасці і развітых канцылярскіх традыцый. Справаводства каталіцкай царквы ў Еўропе было амаль узорным.

За паўтара стагоддзя панавання язычніцкіх манархаў на землях ВКЛ вядома каля дзесяці прыкметных спробаў хрышчэння Літвы, не ўлічваючы адносна самастойнай дзейнасці розных манаскіх карпарацый. Галоўныя намаганні былі звязаны са спробамі хрышчэння вялікіх князёў літоўскіх і іх бліжэйшага асяроддзя, за чым павінна была пaследаваць хрысціянізацыя ўсіх язычнікаў. Працэс хрышчэння Літвы, здаецца, даследаваны да дробязей, аднак узгодненых вывадаў не так многа. Істотная перашкода – разыходжанні ў ацэнцы захаваных вялікакняскіх актаў, многія з якіх залічаны да падложных.

Рэальным (з дагматычнага пункту гледжання) і паказальным было хрышчэнне Міндоўга. Літоўскія кунігасы ведалі не толькі знешні бок хрысціянства. У сваіх дачыненнях з суседнімі хрысціянскімі княствамі яны ўсвядомілі іх еўрапейскія сувязі і магчымасці. Шмат што пазналі яны ад нямецкіх магістраў, рыжскіх архібіскупаў, манахаў місіянерскіх ордэнаў і аддзячылі ім з лішкам.

Каталіцкае хрышчэнне Міндоўга мела для Літвы не менш значныя палітычныя вынікі, чым знакамітая перамога жамойтаў над крыжакамі пад Шаўляем ў 1236 г. Яна на нейкі час абмежавала ордэнскую экспансію. Хрышчэнне галоўнага кунігаса ператварыла Ордэн з найбольш грознага праціўніка ў афіцыйнага прыхільніка, паскорыла распад кааліцыі, якую складалі інфлянцкія, галіцка-валынскія войскі, дружыны двух братоў Міндоўга – Даўспрункавічаў, некаторы час – ятвягі, жамойты, патэнцыяльна – палякі, што моцна цярпелі ад літвінаў. Такі крок жорсткага непісьменнага кунігаса[1] нядрэнна гаворыць пра яго стратэгічнае мысленне і незвычайны на той час рэлігійны рэлятывізм. Па палітычным прадбачанні Міндоўг не саступаў ордэнскім магістрам, якія падтрымлі-

[1] Канцылярскія справы хутчэй за ўсё вялі францысканскія манахі ці іншыя чужаземцы, што ведалі лацінскую мову. Сцверджанне літоўскага акадэміка З. Зінкевічуса аб першых літоўскамоўных малітвах часоў Міндоўга мае вельмі гіпатэтычны характар. Гл.: *Zinkevičius Z.* Lietuvių poteriai // Kalbos mokslo studija. Vilnius, 2000.

валі яго намер аб змене веры, а займелі ў выніку сваіх захадаў шмат уладанняў у Жамойці, якімі часам не маглі авалодаць[1].

Акт хрышчэння Міндоўга з сынамі, жонкай Мартай і шэрагам знатных асобаў з яго бліжэйшага атачэння[2] адбыўся ў канцы 1250 ці пачатку 1251 г.[3] Ордэн пастараўся, каб рыжскі архібіскуп Альберт Суэрбер застаўся за кулісамі пагаднення (раней у Рызе прыняў хрост сапернік і пляменнік Міндоўга – Таўцівіл)[4], і накіраваў пасольства Міндоўга да папы ў Мілан.

У 1252 г., верагодна, у Наваградку[5] ў прысутнасці кульмскага (хелмскага) біскупа дамініканца Хайдэнрыка, ландмістра Андрэя фон Сцірланда і ордэнскага прэсвітэра Хрысціяна адбылася каранацыя Міндоўга. Згаданаму архібіскупу Лівоніі і Прусіі Суэрберу папа загадаў выбраць і высвяціць біскупа для Літвы. Як падкрэслена ў папскай буле, кароль даспеў і "гатовы за свой кошт нанава выставіць кафедральны касцёл і ўпасажыць яго"[6].

Восенню 1253 г. Альберт Суэрбер пры вымушанай падтрымцы Ордэна і згодзе Міндоўга высвяціў свайго кандыдата Хрысціяна, які вызначыўся ўжо папярэдняй місіянерскай дзейнасцю, на літоўскае біскупства. У лістападзе гнезненскі архібіскуп узвёў у Мазовіі ў сан літоўскага біскупа дамініканца Віта. На думку даследчыкаў, гэта была, магчыма, першая праява саперніцтва немцаў і палякаў у спробах навяртання Літвы[7].

Спроба не ўдалася па розных прычынах: арганізацыя хрысціянскай царквы, як слушна адзначаюць даследчыкі, была прыстасавана да развітых грамадскіх адносін, што не адпавядала тагачаснаму ўзроўню Літвы, асабліва Жамойці, нальшчан і ятвягаў; з-за канкурэнцыі і ўнутраных праблем Ордэна з папствам, Рыжскім архібіскупствам, самім Міндоўгам; супраціву значнай часткі язычнікаў, якія асцерагаліся жорсткага заняволення (на ўзор прусаў) і інш. Не будзе перабольшаннем сцвярджаць, што негатыўна ставіліся да дзейнасці каталіцкай місіі праваслаўныя жыхары заходняй Беларусі (Чорнай Русі), якія знаходзіліся ў арбіце ўплываў Міндоўга і галіцка-валынскіх князёў. У пачатку 60-х гг. Міндоўг негалосна падтрымаў паўстанне жамойтаў супраць Ордэна і, верагодна, ажыццявіў акт апастазіі (адступніцтва)[8].

---

[1] У кантэксце магчымых спрэчак з сапернікамі, у тым ліку з утвораным Літоўскім біскупствам, Ордэн у 1252–1253 гг. задавальняла афіцыйнае прызнанне яго права на гэтыя дравізны з боку Міндоўга: *Stopka K.* Próby chrystianizacji Litwy w latach 1248–1263 // Analecta Cracoviana. [Vol.] XIX. 1987. S. 23–24.

[2] Невядома дакладна, хто быў аднaчасова ахрышчаны.

[3] На думку Е. Ахманскага – падманна (Historia Litwy. Vilnius, 1990. С. 47). Гл. таксама: *Gudavičius E.* Mindaugas. P. 215–227.

[4] *Stopka K.* Próby chrystianizacji Litwy... S. 16.

[5] Згодна з пазнейшым паведамленнем Мацея Стрыйкоўскага (Kronika polska... T. 1. S. 289); Гл. таксама: Густынскі летапіс // ПСРЛ. Т. 2. Ст. 342.

[6] *Stopka K.* Próby chrystianizacji Litwy... S 22; Vetera Monumenta Poloniae et Lithuaniae... T. 1. N. 111; Liv-, Est- und Curländisches Urkundenbuch nebst Regesten / Ed. F.G. von Bunge. [Abt. 1]. Bd. 6. Riga, 1873. N. 2733; *Жлутка А.* Міндаў кароль Літовіі... С. 60–61.

[7] *Błaszczyk G.* Dzieje stosunków... S. 167. *Stopka K.* Próby chrystianizacji Litwy.... S. 52; Historia Kościoła w Polsce. T. 1. Poznań; Warszawa, 1974. S. 202.

[8] Па меркаванні Е. Ахманскага (Historia Litwy... S. 49; *Stopka K.* Próby chrystianizacji Litwy... S. 63), апастазія Міндоўга згадваецца ў пратаколе папскага інквізітара 1413 г. у справе злоўжыванняў Нямецкага ордэна, што пакідае праблему дыскусійнай. Гл.: *Жлутка А.* Міндаў кароль Літовіі... С. 98. У шэрагу іншых папскіх і ордэнскіх сведчанняў адступніцтва Міндоўга не ўпамінаецца.

Заблытанымі і часткова нават таямнічымі ўспрымаюцца адносіны "язычніцкага караля Літвы і Русі і князя Жамойці" Гедыміна (як тытулуецца ён у шэрагу грамат) да хрысціянскіх місій Захаду. Талерантнае стаўленне Гедыміна да каталіцкай і праваслаўная веры не выклікае сумнення. Яно пацвярджаецца арганізацыяй праваслаўнай "Літоўскай" мітраполіі, звязанай з канстанцінопальскай патрыярхіяй, шлюбамі дачок Гедыміна з каталіцкімі князямі, у тым ліку з каралём Польшчы Казімірам Вялікім, дазволам на заснаванне манастыроў і касцёлаў францысканцаў і дамініканцаў у ВКЛ і іншымі шматлікімі фактамі яго дзейнасці.

Складаней канкрэтна вызначыць характар і асабліва прычыны эвалюцыі поглядаў Гедыміна на спробы заходняй хрысціянізацыі Літвы, тым больш што даследчыкі не ведаюць бясспрэчных доказаў яго аўтарства ў большасці захаваных грамат. Агульна кажучы, у сваіх канкрэтных фазах гэтыя змены былі звязаны з развіццём узаемаадносін з усімі суб'ектамі працэсу, уключаючы Польшчу, Ордэн, Рыжскае архібіскупства, рымскіх (тады авіньёнскіх) пантыфікаў, і ўнутранай палітычнай і этнаканфесійнай сітуацыяй. Мелі значэнне і пазіцыі замежнай праваслаўнай Русі, Залатой Арды, дзе па-свойму ацэньвалі гэтыя кантакты з Захадам. Ноўгарад, між іншым, у 1324 г. разбіў войска літвінаў пад Вялікімі Лукамі, а з 1333 г. там ужо сядзеў на кармленні старэйшы сын Гедыміна – праваслаўны князь Нарымунт[1], потым яго нашчадак Аляксандр[2].

Асноўнымі сведчаннямі намераў Гедыміна адносна каталіцкай місіі ў ВКЛ з'яўляюцца тагачасныя (на жаль, пераважна ўскосныя) аўтэнтыкі, галоўным чынам акты папскай канцылярыі.

У папскай буле да Гедыміна ад 1 чэрвеня 1324 г. адзначана, што ён у мінулыя гады двойчы звяртаўся ў Рым з просьбай аб паскарэнні місіі, прызнаў асноўныя догматы, вяршэнства пантыфіка і хадайнічаў аб даручэнні справы спецыяльна дасланаму легату і рыжскаму архібіскупу. (Апошняе, зразумела, у сувязі з варожасцю Ордэна да гэтых самастойных планаў вялікага князя[3].)

У асобных булах да двух легатаў пантыфік надаваў ім права арганізацыі каталіцкай мітраполіі ў Літве, упасажэння касцёлаў і іншых храмаў, выбару духоўных асоб, паралельнага навяртання схізматыкаў да веры, паведамляў аб талерантнасці Гедыміна, які ў знешніх канфліктах толькі абараняў сваю дзяржаву.

У дадатковых пасланнях, адрасаваных каталіцкай іерархіі і манаскім аб'яднанням, папа наказваў дапамагаць легатам у ажыццяўленні іх місіі хрысціянізацыі Літвы і прыхільнікаў артадоксіі (праваслаўя).

Спецыяльныя паслы папскіх легатаў мелі некалькі даверных размоў з Гедымінам і яго "адвакатам" у Вільні і пераканаліся ў лаяльным стаўленні Гедыміна да каталіцкай царквы і папы. У пачатку лістапада 1324 г. адбылася афіцыйная сустрэча з Гедымінам у прысутнасці амаль усёй княскай рады (каля 20 асоб), дзе ён раптоўна змяніў свае планы.

---

[1] "...Хацеў пакланіцца св. Сафіі", як адзначылі наўгародскія летапісцы. Гл.: *Tęgowski I.* Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów... Poznań; Wrocław, 1999. S. 21; ПСРЛ. Т. 3. Ст. 345–346.

[2] Сама рэспубліка з цяжкасцямі захоўвала сваю незалежнасць у няўстойлівай раўнавазе паміж Масквою, Вільняй, Ордэнам, Рыгай, Сараем і інш.

[3] Рыга здаўна была вядома па гандлёвых сувязях з полацка-віцебскімі, смаленскімі землямі і Літвой, а ў часы Гедыміна канфліктавала з Інфлянцкім ордэнам.

Гедымін нагадаў паслам пра свае лісты да пантыфіка, розных заходніх гарадоў, рыжскага архібіскупа, але катэгарычна адмовіў, што гэта звязана з каталіцкай місіяй. “Калі меў такі намер, – груба сказаў ён (па словах паслоў), – няхай мяне забярэ д'ябал”. Зазначыўшы зноў сваю павагу да папы, ён дадаў, што жадае, каб хрысціяне шанавалі свайго Бога па сваіх звычаях, русіны – сваіх, “а мы літвіны шануем Бога адпаведна з нашымі абрадамі, а ўсе шануюць аднаго Бога”. Далей Гедымін у сваёй філіпіцы абрушыўся на католікаў, якія адступілі ад хрысціянскіх запаветаў і, асабліва, крыжакаў, якія лічыліся рэлігійнымі. Паказальна, што словы вялікага літоўскага князя пра аднаго Бога сведчылі пра яго добрае знаёмства з хрысціянствам і асэнсаванне непазбежнасці такой эвалюцыі ў Літве.

Працяглае супрацьстаянне Ордэну, разгорнутая пры Гедыміне шырокая экспансія на Русі і іншыя інтарэсы ўсіх зацікаўленых бокоў затармазілі далейшае развіццё місіянерскай дзейнасці ў ВКЛ. У гэтым ланцугу адкладзеных праблем асноўнай, магчыма, заставалася пазіцыя праваслаўнай знаці, царквы, баярства і іншых уплывовых і паспалітых пластоў Беларусі і заходняй Украіны. Як Гедымін ставіўся да ўплываў царквы нават за межамі Вялікага Княства, паказваюць яго спробы навязаць Ноўгараду сваю кандыдатуру праваслаўнага архіепіскапа Арсенія ў 1331 г.[1]

У час панавання двуумвірату Кейстута і Альгерда спробы хрысціянізацыі Літвы і Русі з боку еўрапейскіх дзяржаў набылі больш практычны і паслядоўны характар, а ў міжнародным кантэксце да згаданых ужо партнёраў актыўна далучыліся Польшча і, эпізадычна, Чэхія і Венгрыя.

У рэалізацыі планаў хрысціянізацыі Польшча і Тэўтонскі ордэн бачылі важны прававы, ідэалагічны і канфесійны сродак для абгрунтавання тэрытарыяльнай экспансіі на заходніх землях ВКЛ перад каталіцкай еўрапейскай супольнасцю (у першую чаргу перад Апостальскай сталіцай) і вырашэння ўласных значна абвостраных польска-ордэнскіх супярэчнасцей. Тактычнымі пераважна мэтамі дыктаваліся канфесійныя ініцыятывы Альгерда і Кейстута, якіх непакоілі галоўным чынам праблемы захавання цэласнасці Жамойці і Валыні і пошукі палітычных саюзнікаў. З гэтымі сустрэчнымі ці аднабаковымі планамі былі звязаны прынамсі тры акцыі. Прыблізна праз год пасля цяжкага паражэння Літвы ад Ордэна на рацэ Стрэве (8 лютага 1348 г.) польскі кароль Казімір Вялікі ажыццявіў захоп Валыні пад прыкрыццём разгорнутай кампаніі па хрысціянізацыі Літвы і Русі. 16 верасня папа Клімент VI выдаў дзве булы, у якіх прапанаваў гнезненскаму архібіскупу выслаць святароў на землі ВКЛ з мэтай навяртання літвінаў, а ў трэцяй, ад 19 верасня, падтрымліваў Кейстута і яго братоў, якія абралі гэты шлях[2].

Матывы спалучэння абедзвюх акцый не зусім зразумелыя. Літоўскія гісторыкі падкрэсліваюць, што прапанова прыняць хрост была па тактычных матывах зроблена Кейстутам[3], каб папярэдзіць выправу Казімі-

[1] *Макарий, митр.* История русской церкви. Т. 3. С. 27–28; *Rowell S.C.* Lithuania ascending... P. 175; ПСРЛ. Новгородская IV летопись. СПб., 1848. С. 52.

[2] Vetera monumenta... T. 1. N. 691–693.

[3] Гл.: *Nik entaitis A.* Lietuvos D.K. u sienio politikos veiksmų programa XIV a. – XV a. ... // Lithuanistika. 1990. N. 3. S. 37; *Błaszczyk G.* Dzieje stosunków... S. 172.

ра[1]. На думку Г. Блашчыка, розныя інтэпрэтацыі патрабуюць даследавання. Згодна з яго ўласнай гіпотэзай, місіянерскія планы Казіміра маглі быць накіраваны супраць прэтэнзій Ордэна на выключнае, ледзь не манапольнае права хрысціянізацыі Літвы[2]. Хоць абвешчаная царкоўна-канфесійная акцыя (у адрозненне ад ваеннай) завяршылася правалам, гэта была першая актыўная спроба польскай манархіі стварыць польска-літвінскае супольніцтва супраць Ордэна[3]. Верагодна, правячыя колы ВКЛ на гэта яшчэ не разлічвалі.

У сакавіку 1351 г. папа звярнуўся да прэлатаў Польшчы, каб яны аддалі сабраную дзесяціну каралю Казіміру для працягвання навяртання русінаў, а ў лістападзе 1353 г. патрабаваў ад князя Мазовіі і каралевы Венгрыі не дазваляць іх падданым дапамагаць літвінам і русінам супраць Ордэна[4].

Моцным пабуджальным матывам для спробаў хрысціянізацыі Літвы было ператварэнне ВКЛ у часы Гедыміна, Альгерда і Кейстута ў вялікую поліэтнічную дзяржаву, якая патэнцыяльна магла стаць важным ваенна-палітычным саюзнікам, новым, больш важкім, чым раней, гандлёвым партнёрам, што пашыраў шляхі на Усход. Транскантынентальнае значэнне гэтай дзяржавы раней чым блізкія яе суседзі асэнсавала рымская курыя ва ўсіх палітычных і канфесійных аспектах. У сярэдзіне XIV ст., здаецца, гэта зразумелі ў сваіх больш абмежаваных мэтах цэсары Свяшчэннай Рымскай імперыі (нярэдка адначасова каралі Чэхіі) і Тэўтонскі ордэн са сваім інфлянцкім філіялам.

У гэтых міжнародных разліках ляжалі вытокі трэцяй у той перыяд значнай акцыі па хрысціянізацыі Літвы ў 1357–1358 гг., дзе сышліся інтарэсы Польшчы і Свяшчэннай Рымскай імперыі. Цэсар Карл IV, перахапіўшы ініцыятыву Казіміра Вялікага, у пасланні да Гедымінавічаў ад 18 красавіка 1356 г. прапанаваў ім прыняць хрышчэнне на ўмовах далейшай падтрымкі і абароны[5]. Пасля перамоў у Нюрнбергу цэсар адправіў у ВКЛ пасольства. Акцыя стала нерэальнай для цэсарства, калі Альгерд с Кейстутам выказалі перад пасламі свае ўмовы: вызваленне занятых Ордэнам тэрыторый ВКЛ, перанос Тэўтонскага ордэна на памежныя землі Русі і татарскай Арды.

У наступныя дзесяцігоддзі і Польшча, і Ордэн пераканаліся ў тым, што вырашэнне наспелых і найбольш канфліктных праблем геапалітыкі ў гэтым рэгіёне Цэнтральнай і Усходняй Еўропы немагчымае без удзелу ВКЛ і вельмі праблематычнае пры яго палітычнай нейтралізацыі.

Апошняя спроба хрысціянізацыі Літвы пры вырашальным удзеле Польшчы адбылася ў 1373 г. пасля пасланняў папы Грыгорыя IV Альгерду, Кейстуту, Любарту, польскаму і венгерскаму каралю Людовіку Вялікаму[6]. У гэтых перамовах з літвінамі выявілася актыўная пасрэдніцкая роля мазавецкай палітычнай эліты, асабліва зацікаўленай у пад-

---

[1] Падрабязней гл.: *Blaszczyk G.* Dzieje stosunków... S. 171.
[2] Там жа.
[3] *Nikzentaitis A.* Lietuvos D.K. uzsienio... S. 37.
[4] Vetera monumenta... T. 1. P. 353–354.
[5] *Blaszczyk G.* Dzieje stosunków... S. 174.
[6] Там жа. S. 175; Vetera monumenta... N. 934 (да князёў літвінаў); N. 934 (да каралевы Эльжбеты, каб дамагалася ад падданых літвінаў згоды прыняць каталіцую веру); N. 935 (пра тое ж да Людовіка Вялікага, караля Венгрыі).

трыманні добрых адносін з суседнімі беларуска-літоўскімі землямі. Мазавецкі князь Земавіт III яшчэ ў 1356 г. атрымаў дазвол папы Інакенція VI на заснаванне трох аўгусцінскіх манастыроў на Мазовіі для місіянерскай дзейнасці на сумежных землях "Літвы і Русі"[1].

Самай, верагодна, парадаксальнай спробай хрысціянізацыі Літвы быў праект пачатку 80-х гг. XIV ст., ускосныя звесткі пра які захаваліся ў вопісе дакументаў Пасольскага прыказа 1626 г. Гэта праект шлюбу Ягайлы з дачкой вялікага князя маскоўскага Дзмітрыя Іванавіча. Незалежна ад яго вынікаў узнікненне такога праекта, як і шматлікія дачыненні з Захадам і нават спробы заканадаўчай абароны прывілей новага каталіцкага стану, сведчыла, што час хрысціянізацыі Літвы настаў. У ліку асноўных унутраных фактараў гэтых зрухаў, несумненна, былі і дэмаграфічныя, этнаканфесійныя фактары, рост і развіццё "рускай нацыі" ВКЛ, беларусаў і ўкраінцаў, якая сталі набываць новую сацыяльна-палітычную якасць.

**Арганізацыя каталіцкай царквы ў Літве і Беларусі.** Арганізацыя каталіцкага касцёла ВКЛ складвалася пераважна на заходнееўрапейскі і польскі ўзор і таму ў значнай ступені мела тыповыя царкоўная формы. Спецыфіка ВКЛ, рэгіянальна-дзяржаўныя асаблівасці больш адбіліся ў нераўнамерным па часе і выніках фарміраванні тэрытарыяльна-адміністрацыйнай структуры (біскупстваў), адсутнасці ўласнай мітраполіі, дастатковай колькасці вышэйшых духоўных асоб і простага кліру, паступовай канцэнтрацыі парафій галоўным чынам у паўночна-заходніх і заходніх землях і арэалах. Калі па сваёй інфраструктуры і даходах каталіцкая царква ВКЛ заўсёды моцна адставала ад Польшчы, то па аб'ёме сваіх правоў і прывілей адразу дасягнула таго, чаго польскае духавенства дамагалася некалькі стагоддзяў. Галоўныя акты апостальскага прастола і дзяржаўныя прывілеі вярхоўнай улады былі выдадзены ўжо ў канцы XIV – пачатку XV ст.

Хрост Ягайлы разам з некаторымі яго сваякамі і службоўцамі адбыўся 15 лютага 1386 г. у касцёле св. Станіслава ў Кракаве. Праз год, у час каталіцкага свята Папяльца, прылучыліся да рымскай веры сабраныя на з'езд у Вільні ўплывовыя і заможныя літвіны. Зімой 1386 г. польскі кароль і вялікі князь літоўскі Ягайла са значным аршаком польскіх духоўных і свецкіх асобаў прыбыў у Вільню, дзе адбыўся першы акт каталіцкага хрышчэння пераважна знаці і баяр Літвы, фактычна – па палітычных умовах – галоўным чынам Аўкштайціі. Затым пачалася неабмежаваная па часе акцыя хрышчэння простага літоўскага люду. Пэўныя рэцыдывы язычніцтва ў Літве захаваліся да XVI ст. і далей. Прасочваюцца яны і ў даволі прыкметным выкарыстанні літоўскіх язычніцкіх імёнаў, у тым ліку патронімаў.

Прававы статус каталіцкай царквы ВКЛ пачаў фарміравацца з вялікага фундацыйнага прывілея Ягайлы ад 17 лютага 1387 г.[2] Ён прадугледжваў утварэнне Віленскага біскупства з кафедрай пры пабудаваным касцёле св. Станіслава і св. Уладзіслава, вызначаў касцёлу матэрыяльнае забеспячэнне (землі, даходы і павіннасці з боку падданага насельніцтва) і

[1] *Błaszczyk G.* Dzieje stosunków... S. 175.
[2] Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej / Wyd. J. Fijałek, W. Semkowicz (далей – KDKW). Kraków, 1948. N. 1. P. 5–9.

надаваў яго ўладанням поўны скарбовы і судовы імунітэт. На скліканым у Вільні з'ездзе князёў і баяр літоўскіх і з іх згоды Ягайла ўрачыста абавязаўся прывесці ва ўсім Вялікім Княстве Літоўскім і Рускім "усіх літоўцаў абодвух полаў, кожнай кандыцыі і статусу" да каталіцкай веры і ў той жа дзень – 22 лютага 1387 г. дараваў аналагічныя правы ўсім новаўтвораным касцёлам[1].

Пасол Ягайлы – пазнанскі біскуп Дабрагост 12 сакавіка 1388 г. атрымаў ад папы Урбана VI булу, якая дазваляла яму заснаваць кафедру ў Вільні і вызначала кандыдата на пасаду першага віленскага біскупа – сярэцкага (малдаўскага) тытулярнага біскупа Андрэя[2]. 17 красавіка 1388 г. Урбан VI надаў Ягайле сваю благаслаўлёную грамату[3]. У бліжэйшым асяроддзі Ягайлы ў час яго хрысціянскай місіі ў Літве знаходзіліся таксама "схізматыкі" – Скіргайла, Уладзімір (князь кіеўскі), Карыбут (князь наўгародска-северскі)[4].



Фрагмент фрэскавага роспісу замкавай капліцы ў Любліне з выявай Уладзіслава Ягайлы. 1418 г.

Выразны ўдзел Вітаўта ў справах хрышчэння Літвы праглядваецца пасля Востраўскага пагаднення 1392 г., прызнання яго намеснікам Ягайлы, фактычным кіраўніком ВКЛ. У выдадзенай у той час уставе[5] Вітаўт прадпісваў мясцовым і тэрытарыяльным уладам па ўсёй дзяржаве дапамагаць віленскаму біскупу ці яго намеснікам у хрышчэнні яшчэ не ахрышчаных літоўцаў, а русінаў – па іх волі, "а хто не пажадае таго, хай застаецца ў сваёй веры".

Імунітэтныя і іншыя правы каталіцкай царквы ВКЛ неаднаразова пацвярджаліся пазней[6]. У галіне царкоўнай юрысдыкцыі канца XIV–XV ст. каталіцкай іерархіі ВКЛ заставалася галоўным чынам руцінная справа захавання правоў каталіцкага духавенства, інтэграваных у агульназемскія прывілеі ці замацаваных асобна. Падобным чынам былі зацверджаны правы каталіцкай іерархіі ў Гарадзельскім прывілеі 1413 г. Толькі з пачатку XVI ст. з дазволу каталіцкага духавенства з яго уладанняў стаў выплачвацца ў дзяржаўны скарб незвычайны налог (сярэбшчына), а з другой паловы таго ж стагоддзя пад націскам шляхты касцёл пагадзіўся выстаўляць коннікаў у войска з зямельных купляў і закладных маёнткаў, але не ў якасці сталай прававой нормы.

У першыя гады пасля заснавання Віленскае біскупства было непасрэдна падначалена Рыму. Пэўная самастойнасць дыяцэзіі і сепаратысц-

---

[1] KDKW. N. 6. P. 12–15. Прывілей ад 22 лютага 1387 г.
[2] Там жа. N. 10. P. 20–22. 12.03.1388 г. у Перуджы.
[3] Там жа. N. 12. P. 23–24. 17.04.1388 г.
[4] *Ochmański J.* Biskupstwo wileńskie w średniowieczu: Ustrój i uposażenie. Poznań, 1972. S. 11.
[5] KDKW. N. 23. P. 39.
[6] Гл., напрыклад, Акт 1395 г. Ул. Ягайлы віленскаму касцёлу (KDKW. N. 34. P. 40).

кія тэндэнцыі Вітаўта адлюстраваліся ў яго планах стварыць адасобленую каталіцкую мітраполію ў межах ВКЛ, уключна з Уладзімірскім і іншымі біскупствамі. На апошняе прэтэндавала ў той час і Львоўскае архібіскупства[1]. Пра гэтыя планы Вітаўт паведамляў папе Марціну V у лісце ад 3 лютага 1418 г.[2] Царкоўныя планы Вітаўта не былі падтрыманы Ягайлам, пануючай польскай элітай. Віленскае біскупства з 1415 г. стала суфраганіяй (намесніцтвам) Гнезненскага архібіскупства[3].

Царкоўныя сувязі каталіцкай іерархіі ВКЛ з Польшчай былі больш моцнымі, залежнымі і ўстойлівымі, чым узаемаадносіны саміх Ягелонаў, якія патрабавалі шматразовага публічнага пацвярджэння, нярэдка ўскладняліся і зведалі крызісныя перыяды. На ўстойлівасць унутранай структуры каталіцкай царквы ў ВКЛ і яе сувязі з Польшчай і Рымам вырашальным чынам уплывалі дзяржаўныя уніі з Каронай, у пэўнай ступені ўласныя інтарэсы пануючых колаў ВКЛ, а ў царкоўным кантэксце – цэнтралізаваны характар каталіцтва ў цэлым, высокі міжнародны статус і палітычныя магчымасці рымскіх першасвяшчэннікаў.

Унутраная структура Віленскай дыяцэзіі стабілізавалася ў асноўных сваіх звёнах: само біскупства, парафіі, цэнтральныя і мясцовыя царкоўныя інстытуцыі. Тэрытарыяльна Віленскае біскупства ахоплівала Аўкштайцію і землі, якія ўвайшлі ў склад пазней арганізаванай Кіеўскай дыяцэзіі[4]. Яно ўключала таксама амаль усю тэрыторыю Беларусі, некаторыя ўсходнія землі – аб'ект нарастаючай канфрантацыі з Маскоўскай Руссю.

У спробах утрымаць Жамойць пад сваёй уладай Тэўтонскі ордэн нават пасля паразы пад Грунвальдам доўга спадзяваўся на падтрымку цэсарства Свяшчэннай Рымскай імперыі, шэрага краін Заходняй Еўропы, апеляваў да рымскай курыі і Канстанцкага каталіцкага сабора. Існавалі пэўныя юрыдычныя падставы, бо ўлада Ордэна над Жамойцю была прызнана ў некалькіх дагаворах з Польшчай і ВКЛ у крызісны перыяд канца XIV–пачатку XV ст. Новыя ваенныя няўдачы Ордэна ў так званай галоднай вайне з польска-літвінскім войскам, больш актыўная падтрымка Рыма, растучы міжнародны аўтарытэт Польшчы і ВКЛ і ў пэўнай ступені выбар жамойцкага баярства змянілі сітуацыю. Канстанцкі каталіцкі сабор па просьбе пасольства Ягелонаў выслаў сваіх легатаў, якія на месцы азнаёміліся з планамі Вітаўта і 24 кастрычніка 1417 г. зацвердзілі заснаванне Жамойцкага біскупства, кафедры пры галоўным касцёле ў Медніках і першы фундуш у форме грашовага і натуральнага забеспячэння, што тлумачыцца параўнальна больш слабым, чым у Аўкштайціі, развіццём феадальных адносін[5].

У 20–40-х гг. Жамойцкае біскупства і канонікі мелі ўжо землі і падданых у розных валасцях. У пачатку 20-х гг. біскупства было непасрэдна падначалена Рыму, пазней – гнезненскаму архібіскупу. Тэрыторыя яго

---

[1] *Kumor B.* Organizacja diecezji litewskich do końca XV wieku // Chrzest Litwy: Geneza, przebieg, konsekwencje. Lublin, 1990. S. 79–80.
[2] CE. T.2. 1891. N. 89. P. 109–110.
[3] *Ochmański J.* Biskupstwo wileńskie w średniowieczu... S. 11.
[4] *Kumor B.* Organizacia diecezji litewskich do końca XV wieku. S. 78.
[5] *Błaszczyk G.* Diecezja Żmódzka od XV do początku XVII w.: Uposażenie. Poznań, 1992. S. 11–12; *Ochmański J.* Powstanie i rozwój łatyfundium biskupstwa wileńskiego (1387–1550). Poznań, 1963. S. 33–35.

ахоплівала каля 23 тыс. кв. км і на поўначы межавала з уладаннямі Інфлянцкага ордэна[1]. Жамойць непасрэдна не ахоплівала зямель Беларусі, але яе біскупы ўваходзілі ў склад вялікакняскай рады, а некаторыя з іх закончылі сваю кар'еру пры віленскай кафедры. Першым жамойцкім біскупам быў віленскі пробашч Мацей, віленскі біскуп у 1422–1453 гг. – літовец па паходжанні, вядомы ў канцы 30–40-х гг. сваёй апазіцыяй Ферара-Фларэнтыйскай уніі.

Першага красавіка 1428 г. гродзенскім прывілеем Вітаўт аднавіў Луцкае біскупства, генетычна звязанае з Уладзімірскай дыяцэзіяй XIII ст. і некаторымі іншымі паўднёва-заходнімі ўкраінскімі землямі. У Луцкае біскупства ўвайшла невялікая частка паўднёва-заходняй Берасцейшчыны.

З 1387 г. пачала складвацца сетка каталіцкіх касцёлаў і парафій, пераважна ў Аўкштайціі і заходніх землях Беларусі. З 27 парафіяльных касцёлаў, заснаваных да смерці Вітаўта ў Віленскім біскупстве[2], каля трэці знаходзілася на землях Беларусі: Абольцы (1387 г.), Крэва (каля 1387 г.), Наваградак (каля 1393 г.), Ліда (1397 г.), Браслаў (да 1423 г.), Гародня, Ваўкавыск (да 1430 г.) і інш. Некалькі касцёлаў было заснавана на беларуска-літоўскім і беларуска-польскім памежжы – у населеных пунктах, набліжаных да этнаграфічных граніц Літвы ці Польшчы (Ашмяны, Геранёны, Суботнікі, Гонёндз у Падляшшы). Роля гаспадарскіх прывілеяў у заснаванні парафій у гэты перыяд дасягала, па падліках Е. Ахманскага, 88,5%[3]. Ніколі пазней вярхоўная ўлада Польшчы і ВКЛ не дэманстравала такой супольнай прыхільнасці да касцёла. Наступнае разрастанне парафіяльнай структуры Віленскага біскупства было ўжо ў значнай ступені абавязана каталіцкаму князёўскаму, шляхецкаму і баярскаму чыннікам.

У буйных заходніх і памежных населеных пунктах склад мясцовага насельніцтва быў больш разнастайным, чым у глыбіні беларускіх і ўкраінскіх зямель, у гарадах адчувалася прысутнасць службовых іншаземцаў, разнамоўнай шляхты, наёмнікаў, купцоў, рамеснікаў і інш. Меркаванне даследчыкаў аб тым, што парафіяльныя касцёлы ў канцы XIV – сярэдзіне XV ст. на заходніх і паўночна-заходніх землях Беларусі ствараліся дзеля задавальнення рэлігійных служб і патрэбаў пераважна некарэннага насельніцтва, у пэўнай меры слушнае. Цікавы прыклад пра адну са значных калоній карэнных літоўцаў, што некалькі ста-



Уселюбскі касцёл. XV ст.

[1] *Kumor B.* Organizacja diecezji litewskich do końca XV wieku // Chrzest Litwy. S. 81.
[2] *Ochmański J.* Biskupstwo wileńskie... S 63.
[3] Там жа. S. 80; *Olczak St.* Fundacje kościolów parafialnych w diecezji wileńskiej do końca XVII stólecia // Chrzest Litwy... S. 91–108; *Туронак Ю.* Фарміраваньне сеткі рыма-каталіцкіх парафіяў у Беларусі (1387–1781) // Беларускі гістарычны агляд. 1995. Т. 2. Сш. 2. С. 177–194.

годдзяў пражывалі нават далёка ад Літвы (у беларускіх Абольцах), дзе быў заснаваны адзін з першых парафіяльных касцёлаў, здаецца, пацвярджае гэтую тэндэнцыю.

У 30–40-х гг. XV ст. у Віленскім біскупстве былі пабудаваны яшчэ каля 20 парафіяльных касцёлаў (канкрэтныя даты заснавання большасці з іх невядомы даследчыкам).

У Жамойці ў першай палове XV ст. дзейнічала не менш за восем парафіяльных касцёлаў, з іх сем вялікакняскай фундацыі і адзін – шляхецкай[1]. Адначасова з фарміраваннем тэрытарыяльна-адміністрацыйнай структуры каталіцкай царквы ў ВКЛ узнікалі і дзейнічалі адпаведныя цэнтральныя і мясцовыя органы (капітулы, курыі, прыватныя двары біскупаў).

Параўнальныя звесткі па землеўладанні розных біскупскіх кафедраў ВКЛ канца XIV – першай паловы XV ст. неабвержна даводзяць выключную ролю Віленскай дыяцэзіі пры вырашальнай падтрымцы вярхоўнай улады ў фарміраванні царкоўнай каталіцкай структуры на землях Літвы і Беларусі. Ягайла і Вітаўт праявілі нязвыклую актыўнасць у стварэнні матэрыяльнага фундаменту Віленскага біскупства і забеспячэнні парафій. Ужо першы прывілей Віленскаму біскупству надаваў яму значны комплекс літоўскіх зямель пераважна на Віленшчыне (вялізны "дыстрыкт" з замкам у Таўрогіне і шэрагам дробных валасцей і вёсак) і дзве значныя воласці ў Беларусі – Бакшты і Дуброўна.

У 1388 г. Віленскае біскупства атрымала даніны непасрэдна ад Вітаўта з зямель, выдзеленых яму Ягайлам пасля апошняга разрыву Кейстутавіча з Лівонскім ордэнам. На гэты раз тут пераважалі беларускія ўладанні: вёскі Цярэбунь, Калодна (Берасцейская воласць), Вехотна (Дубіцкая, пазней – Ваўкавыская) і інш. У 1412 г. Вітаўт дараваў касцёлу воласць Убарць у кіеўскай зямлі і пад канец жыцця – вялікую воласць Ігумен у Беларусі.

Істотныя дараванні ў Беларусі з гаспадарскай рукі атрымалі і некаторыя іншыя інстытуцыі біскупства. У 1390–1391 гг. віленскай капітуле па прывілеях Ягайлы дасталася літоўская вёска Панары, на тых жа правах, на якіх ёю валодаў яшчэ Альгерд, і надзвычай расцягнутая па берагах Дняпра Стрэшынская воласць (абсягам больш за 1200 кв. км). Юрыдыка біскупства ў Вільні прасціралася ад ніжняга вялікакняскага замка па Вялікай вуліцы да больш позняй Вострай брамы. Па рэтраспектыўных падліках Е. Ахманскага, зямельная маёмасць Віленскага біскупства да 1430 г. дасягнула сама меней 100 вёсак, 1300 дымоў[2]. Гэта была першая вялікая латыфундыя, якая пачала працэс фарміравання буйной магнацкай уласнасці на землях ВКЛ з наступным усё больш выразным удзелам заможных прадстаўнікоў каталіцкай шляхты, паноў і князёў недынастычнага паходжання. Дробныя наданні біскупству вядомыя ў часы панавання Жыгімонта Кейстутавіча.

У 1421 г. Вітаўт падпісаў асноўны фундацыйны акт Жамойцкаму біскупству, надаўшы яму тры воласці і па 10 падданых з іх землямі ў пяці

[1] Гл. табл.: *Kumor B.* Organizacja diecezji litewskich... S. 86 (на падставе выд. Codex Mednicensis seu Samogitiae Diocesis / Coll. P. Jatulis. Roma, 1984); *Błaszczyk G.* Diecezja Żmódzka od XV do początku XVII wieku. Ustrój. Poznań, 1993.

[2] *Ochmański J.* Powstanie i rozwój... .

розных паветах. Даравізна Вітаўта склала каля 300 дымоў, што прыблізна ў два разы меней, чым першая даніна 1387 г. Віленскай дыяцэзіі[1]. У Берасцейскім павеце луцкі біскуп Андрэй атрымаў вёску Пархава і млын у Крачэльніцы, у Драгічынскім – сяло Шэрашаў. Меліся свае юрыдыкі ў Берасці і Луцку[2].

Да сярэдзіны XУ ст. на віленскай кафедры змянілася пяць прадстаўнікоў вышэйшай іерархіі Віленскага біскупства: Андрэй (1388–1398), Якуб Пліхта, вікарый францысканскага ордэна "братоў меншых" (1398–1407), літоўскага або польскага паходжання, верагодны кандыдат Вітаўта, Мікалай з Гожкава (1407–1414), Пётр (1415–1421), Мацей (1422–1453), усяго – тры (або чатыры) палякі, адзін, магчыма, літовец, і таксама адзін з інфлянцкага купецкага роду. Большасць біскупаў паходзілі з сямей духавенства і шляхты, некаторыя ведалі літоўскую і беларускую мовы, звычайнай была вышэйшая адукацыя. Віленскага біскупа Мацея экзаменаваў на ступень магістра прафесар Пражскага універсітэта Ян Гус. Пазней Мацей стаў рэктарам знакамітай акадэміі ў Балоны.

Балючай праблемай для пашырэння хрысціянізацыі Літвы заставалася няведанне мовы літоўскага насельніцтва польскім клірам. Персанальны склад курыі, капітулы, канцылярыі, іншых адміністратараў і служэбнікаў Віленскага біскупства няблага высветлены Е. Ахманскім, іншымі польскімі і літоўскімі даследчыкамі.

Незалежнымі ад біскупаў ВКЛ і Гнезненскага арцыбіскупства былі першыя манаскія ордэны ў Літве і Беларусі.

Непасрэдна рымскаму папе і курыі былі падначалены манаскія жабрацкія ордэны. Першыя сляды іх місіянерскай дзейнасці на землях ВКЛ ледзь прасочваюцца ў крыніцах. Безвыніковымі здаюцца місіянерскія спробы Лукаўскага біскупства на чале з францысканцам Барталамеем з Прагі XIII ст. Больш вядома пра рыжскага біскупа мінарыта Фрыдэрыка фон Перстайна, які ў 1311 г. атрымаў прывілей папы на заснаванне францысканскіх і дамініканскіх манастыроў (кляштараў, канвентаў) у Літве і ўдзельнічаў у папскіх царкоўных і дыпламатычных місіях, седзячы ў Авіньёне[3]. У часы праўлення Віценя і Гедыміна былі пабудаваны некалькі францысканскіх касцёлаў і каля 1320 г. дамініканскі – у Наваградку.

Пэўнае ажыўленне дзейнасці манаскіх ордэнаў у ВКЛ пачалося з канца XIV ст. пасля прыняцця хрысціянства Літвой. Першыя два віленскія біскупы належалі да ордэна мінарытаў (францысканцаў). Пры іх былі заснаваны канвенты ў Лідзе (03.04.1397 г.) і Старых Ашмянах[4]. Францысканскі касцёл у Лідзе згарэў у пачатку XV ст. і ў 1414 г. быў узноўлены як парафіяльны[5]. Трэці францысканскі канвент у Пінску быў асвечаны ў пачатку XV ст.[6]

---

[1] *Ochmański J.* Powstanie i rozwój... S. 35. На думку Блашчыка, гэтыя разлікі не зусім дакладныя, бо невядома, колькі дымоў мелі згаданыя тры воласці. Ахманскі прымае сярэднюю лічбу – 60 дымоў: *Błaszczyk G.* Diecezja Żmódzka... S. 19–22 etc.

[2] Codex epistolaris Vitoldi magni ducis Lithuaniae... 1376–1430 / Coll. opera A. Prochaska. Cracoviae, 1882. N. 1322.

[3] *Rowell S.C.* Lithuania ascending... P. 14–15, 190, 196–197 etc.

[4] KDKW. N. 127, 180, 420, 421, 448, 458, 459.

[5] *Kantak K., ks.* Franciszkanie Polscy. T. 1. Kraków, 1937. S. 304.

[6] Захаваны дыплом Жыгімонта Кейстутавіча ад 25.05.1396 г. з'яўляецца відавочным фальсіфікатам. Гл.: KDKW. N. 27.

У другой палове XV ст. францысканскія манастыры ВКЛ уключаюцца ў польскую правінцыю Ордэна. У 1468 г. Казімір Ягелончык, адзначаючы дбайнасць бернардынцаў у распаўсюджанні каталіцызму ў ВКЛ, прасіў папу Паўла II зацвердзіць заснаванне пяці манастыроў у Польшчы і пяці ў Княстве[1]. Павел II даручыў абату цысцерыянскага манастыра ў Магіле Пятру Гіршбергу прыняць меры да сталага зацвярджэння бернардынскіх кляштараў на землях ВКЛ і дараваў яму ўсе ордэнскія прывілеі.

З другой паловы XIII ст. пачынае цікавіцца язычніцкімі і схізматычнымі землямі Украіны, Беларусі, Літвы дамініканскі ордэн. Паблізу ад заходніх граніц ВКЛ ва ўладанні мазавецкага князя Земавіта ў канцы 1253 ці ў пачатку 1254 г. быў асвечаны (кансекраваны) гнезненскім біскупам Пэлкам другі пасля Хрысціяна біскуп Літвы – Віт з ордэна дамініканцаў[2]. Саперніцтва з Нямецкім ордэнам вымусіла яго хутка згарнуць сваю місію.

Дамініканцы адыгралі немалую ролю ў прапагандзе каталіцызму пры двары князя Гедыміна, у наладжванні яго заходніх палітычных і царкоўных кантактаў. У XIV–XV ст. яны асабліва актыўна дзейнічалі на ўкраінскіх землях Кароны ў межах так званай рускай кантраты, ці нацыі (аднаго з рэгіёнаў польскай правінцыі Ордэна). Вікарый літоўскай кантраты дамініканскага ордэна Ян з Бзова з 1400 г. быў капеланам рымскага пантыфіка Баніфацыя IX[3].

У сярэдзіне XV ст. дайшло да афіцыйнага аб'яднання ўкраінскіх і беларуска-літоўскіх канвентаў. Ва ўсякім разе чарговы генеральны капітул, які ў 1462 г. сабраўся ў Глогаве, урачыста адзначыў, што тры папярэднія капітулы (у тым ліку ў Полацку) канчаткова пацвердзілі далучэнне кляштараў Русі, Літвы і Падолля да польскай правінцыі[4].

21 мая 1490 г. Ягайла падпісаў у Маладзечне даніну аўгусцінскаму касцёлу ў Быстрыцы на некаторыя дробныя ўладанні[5]. У наступным годзе быстрыцкаму канвенту быў падначалены касцёл у Медніках, што сведчыла пра яго пераважную арыентацыю на літоўскіх каталікоў. 17 красавіка 1499 г. пасля знаёмства з маёмаснай забяспечанасцю канвента папа Баніфацый IX дараваў дадатковую бенефіцыю парафіяльнаму ксяндзу кляштара Андрэю[6].

Другі аўгусцінскі канвент быў заснаваны Вітаўтам у Берасці ў 1410 г. Ён дараваў канвенту корчмы і даходы з мыта, дзесяціну з мяшчан Берасця і вёсак Бучэмля і Трасцяніцы. Манахі мелі юрыдыкі ў Берасці і валодалі сялом Кастамлоты ў Бельскім павеце[7]. Францысканскія канвенты ў

---

[1] KDKW. N. 258.
[2] Popie ių bulės dėl kry iaus ygių prieš prūsus ir lietuvius XIII a. / Sud. P. Pakarklis. Vilnius, 1987. P. 293; *Gudavičius E.* Mindaugas. P. 159, 248–250.; *Szweda A.* Problem biskupa litewskiego Wita // Komunicaty Mazursko-Warmińskie (далей – KMW). 2002. N. 3. S. 329.
[3] KDKW. N 39.
[4] *Kłoczowski J.* Kontrata ruska w polskiej prowincji dominikańskiej XIV–XVI wieku // Prosphonema: Історичні та філологічні розвідки, присвячені 60-річчю академіка Ярослава Ісаевича. Львів, 1998. С. 301–307. Гл. таксама: Acta Capitulorum Provinciae Poloniae Ordinis Praedicatorum / Ed. F.Madura. T. 1. Roma, 1972.
[5] KDKW. N. 18.
[6] Там жа. N. 37.
[7] *Gozdawa M.* Augustjanie w Brzeście Litewskim // Rocznik Towarzystwa Przyjaciol Nauk w Wilnie. Wilno, 1910. T. III. S. 95–99.

складзе асобнага вікарыяту (намесніцтва) уваходзілі ў Чэшска-Польскую, з 1467 г. у Польскую ордэнскую правінцыю, аўгусцінцы – у Баварскую з генеральным правінцыялам ў Кракаве[1]. Усе манаскія ордэны, якія дзейнічалі ў Беларусі ў XIV – сярэдзіне XV ст., належаць да катэгорыі жабрацкіх, статут якіх забараняў назапашванне нерухомай маёмасці. Практыка паказала, што зямельныя ўладанні згаданых кляштараў у большасці выпадкаў былі даволі абмежаванымі.

Не дабіліся манаскія ордэны значных поспехаў і ў сваёй місіянерскай дзейнасці сярод праваслаўнага насельніцтва. Больш адчувальнымі, верагодна, былі іх намаганні ў пашырэнні каталіцкай свядомасці сярод язычніцкага і нехрысціянскага насельніцтва, задавальненні ўласных патрэб самой манаскай абшчыны. Дзейнасць ордэнаў у Беларусі і Літве ў значнай ступені насіла эпізадычны і нерэгулярны характар[2].

**Царква і канфесія ў кантэксце дзяржаўнай палітыкі.** Сярод спрэчных тэм царкоўнай гістарыяграфіі ВКЛ і да таго ж адной з самых застарэлых і дыскусійных з'яўляецца праблема афіцыйных царкоўна-канфесійных абмежаванняў, якія датычацца праваслаўя. Яны зафіксаваны ў актах дзяржаўнай палітыкі канца XIV – пачатку XV ст. і ў той ці іншай ступені адбіліся ў практыцы этнаканфесійных адносін.

Даўнія спрэчкі па пытаннях этнаканфесійнай сутнасці прывілеяў і іншых публічна-прававых актаў, якія закранаалі сферы царкоўна-рэлігійных адносін у ВКЛ канца XIV – першай трэці XV ст., мелі выразныя палітычныя і ідэалагічныя падставы. У польскай і літоўскай гістарыяграфіі адкрыта пракаталіцкі характар згаданых актаў звычайна тлумачыцца рэаліямі эпохі, палітычнымі дагаворамі з Польшчай, радзей – імкненнем захаваць этнічную цэласнасць літоўцаў у ВКЛ, дзе дэмаграфічна і тэрытарыяльна панавала праваслаўнае насельніцтва.

Расійскія гісторыкі імперскай і кансерватыўна-славянафільскай арыентацыі ацэньвалі згаданыя абмежаванні ў парадыгмах польска-каталіцкай агрэсіі (мяккі варыянт – экспансіі), у савецкай, у тым ліку айчыннай, медыявістыцы ходавай была схема рэлігійна-нацыянальнага прыгнёту беларусаў і ўкраінцаў пануючымі коламі ВКЛ і Польшчы. Непад'ёмнай сталася гэтая праблема таксама для прыхільнікаў прамалінейнага развіцця беларускай дзяржаўнасці з самага пачатку фарміравання ВКЛ, бо яна сур'ёзна пярэчыла гэтым ідэалістычным поглядам. Сцверджанні аб тым, што яшчэ да крэўскага акта 1385 г. значная частка «рускага» насельніцтва ВКЛ ужо была каталіцкай, не маюць ні фактычнага, ні рэтраспектыўнага пацвярджэння. (Пераход многіх дынастаў у праваслаўе на землях Беларусі і Украіны ў сярэдзіне XIV ст. якраз праява адваротнай тэндэнцыі.)

Згаданыя праблемы «прывілеяў» храналагічна аб'ёмна (да Люблінскай уніі 1569 г.) даследаваў польскі гісторык К. Хадыніцкі, што дазваляе абысціся без разгляду іншых менш дакладных ці вузкіх тлумачэнняў[3]. Ён выказаў некалькі палажэнняў, якія маюць рысы праўдападоб-

[1] Zakony męskie w Polsce w 1772 roku: Materiaiy do Atłasu historycznego chrześcijaństwa w Polsce. T. 1. Lublin, 1972.
[2] Polska i Litwa w dziejowym stosunku. Kraków, 1914. S. 4–16; *Kłoczowski J.* Zakony na ziemiach polskich w wiekach średnich // Kościół w Polsce. Kraków, 1966. S. 519–522.
[3] *Chodynicki K.* Kościół prawosławny a Rzecs pospolita Polska. Warszawa. 1934. S. 76–171.

насці. Па-першае, што так званыя абмежаванні праваслаўя ва ўсіх іх вымярэннях не з'яўляюцца чымсьці незвычайным для тагачаснай хрысціянскай і каталіцкай Еўропы, у тым ліку каталіцкай Польшчы і ВКЛ. (Апошняе залічыў у гэты рад няслушна.) Ва ўсіх каталіцкіх краінах, згодна з тагачаснай еўрапейскай практыкай царкоўнага і свецкага каталіцкага права, усе іншыя канфесіі, рэлігійныя секты, схізматыкі, язычнікі, ерэтыкі не маглі мець роўных з каталіцкай царквой і іерархіяй правоў і магчымасцей.

Другі, больш тэарэтычны і дыскусійны вывад аўтара – што гэтыя абмежаванні былі патрэбны Ягелонам і іх прыхільнікам у Літве для супрацьдзеяння магчымаму адступніцтву новых каталікоў і пашырэнню праваслаўнай веры на землях Літвы. Варта ўдакладніць, што праваслаўная царква ў другой палове XIV – пачатку XV ст. не ажыццяўляла актыўнай місіянерскай дзейнасці сярод літоўскага насельніцтва на землях этнічнай Літвы і Беларусі, у асноўным яна апекавала і абслугоўвала адасобленыя арэалы русінаў у Вільні і Троках, дзе здаўна існавалі праваслаўныя манастыры і храмы.

Трэці, найменш карэктны вывад – што згаданыя абмежаванні дзейнічалі на тэрыторыі ВКЛ у вузкім сэнсе[1], г.зн. Віленскага і Трокскага ваяводстваў, і таму не закранаілі інтарэсаў праваслаўнага насельніцтва. (Фактычна і на гэтых землях значная частка карэннага насельніцтва захоўвала праваслаўныя традыцыі.) На ўсходніх землях ВКЛ, сцвярджае аўтар, усё было інакш і праваслаўе карысталася поўнай свабодай. Гэты тэзіс супярэчыць першаму. З чым нельга не пагадзіцца (з пэўнымі агаворкамі), дык гэта тое, што ўсе гэтыя абмежаванні ніколі не дзейнічалі ў поўнай меры.

У выказваннях К. Хадыніцкага ледзь закрануты палітычныя і сацыяльныя падставы царкоўных прывілеяў, бо каталіцкае ўзнясенне Літвы і літоўскай знаці (акрамя хрысціянскіх ідэалаў) павінна было зблізіць яе з Польшчай, умацаваць дзяржаўную унію і нават (на думку пэўных колаў польскай эліты) садзейнічаць узмацненню інкарпаратыўных тэндэнцый у абедзвюх краінах.

Сярод тых пунктаў, якія прама ці ўскосна закраналі сацыяльныя і палітычныя правы праваслаўных феадалаў у актах Гарадзельскай уніі 1413 г., важнейшымі з'яўляюцца артыкулы трэці (аб карыстанні гаспадарскімі данінамі, прывілеямі, дараваннямі панамі , шляхтай, баярамі «зямель нашых літоўскіх..., бы толькі былі падданымі рымскаму касцёлу» і мелі гербы)[2], і дзесяты.

У перакaзе польскага гісторыка тэкст гарадзельскіх прывілеяў прыведзены з істотнымі скарачэннямі. У арыгінале сказана (арт.10) : «Таксама годнасці, месцы і пасады, як заведзены ў Польшчы, так павінны быць пастаноўлены і заснаваны (у ВКЛ, г.зн. у Вільні. – *Г.Г.*) – ваявода і кашталян віленскі, а потым у Троках і на іншых месцах, дзе нам будзе патрэбна згодна з нашым жаданнем, каб існавалі вечна. А на тыя годнасці (дыгнітарства) няхай будуць абірацца толькі прыхільнікі каталіцкай веры і падданыя святому рымскаму касцёлу. Таксама і ўсе сталыя земскія

[1] *Gudavičius E.* Lietuvos istorija. T. 1. Vilnius, 1999.
[2] Akta unji Polski z Litwą... N. 51. P. 64–65. Гародля, 2 кастрычніка 1413 г.

пасады, годнасці, кашталяніі і інш. даруюцца толькі людзям хрысціянскай веры. Яны дапускаюцца да нашай рады, няхай у ёй удзельнічаюць, калі вырашаюцца пытанні аб важных дзяржаўных справах. Бо нярэдка разыходжанні ў верах прыводзяць да розніцы думак, і не захоўваюцца таемныя пастановы»[1].

У пункце 13 зноў падкрэслена, каму надаюцца прывілеі – панам і шляхце зямлі Літоўскай «хрысціянскай веры, падданым рымскаму касцёлу», прынятым у гербовыя роды шляхты Каралеўства Польскага. Канкрэтна адзначана, хто не мае правоў на гэтыя вольнасці: «схізматыкі і іншыя няверныя»[2]. З тэксту галоўнага гарадзельскага прывілея (пункт 14) відавочна, што дадзены акт завяршае пэўны этап упрывілеявання Польскага Каралеўства і «зямель літоўскіх», звязаны пачаткова з каранацыяй Ягайлы (прывілеі для Польшчы ад 18 лютага і 29 жніўня 1386 г. і для Літвы ад 20 лютага 1387 г.[3]) і прадоўжаны прывілеямі «сем або восем гадоў» таму назад. Гэтыя прывілеі часоў Вітаўта дакладна не вызначаны.

Паказальна, што супрацьстаўленне рымскай і схізматычнай (праваслаўнай) веры выразна акцэнтавана менавіта ў галоўным гаспадарскім прывілеі, а ў іншых актах Гарадзельскай уніі згадваецца проста *рымская вера* і нярэдка вызначэнне канфесіі падмяняецца эўфемізмамі – *хрысціянская, усяленская, прынятая вера, у набажэнстве прынятая вера, агульная вера*; тэрмін “касцёлы” часам выкарыстоўваецца без вызначэння канфесіі[4].

Адзначаная юрыдычная норма не закранаецца ў земскіх прывілеях 1434, 1457 гг., у статутах ВКЛ, але маецца ў некаторых абагульняльных пацвярджальных актах, што выдаваліся ад імя новых кандыдатаў на прастол ВКЛ (гл. прывілеі 1524, 1547, 1551 гг.)[5].

Рэальнае значэнне гэтай прававой нормы змянялася з узмацненнем палітычнай ролі беларускай і ўкраінскай шляхты, пашырэннем персанальнага складу рады і яе функцый, паступовым станаўленнем элементаў саслоўна-прадстаўнічага ладу (у тым ліку сеймаў), пэўнай кансалідацыяй шляхецкага стану ў адносінах да каралеўскай і вялікакняскай улады, фарміраваннем значных фартун і латыфундый на падставе змешаных радавых і міжканфесійных сувязей і інш. Застаецца невыпадковым фактам, што гэта адзіная абмежавальная норма галоўнага гарадзельскага прывілея, якая афіцыйна была адменена толькі ў 1563 г. напярэдадні Люблінскай уніі, пасля таго, як даўно было вычарпана яе рэальнае юрыдычнае значэнне. Прычыны доўгай, амаль фантомнай прысутнасці гэтай архаічнай нормы ў земскім праве ў значнай ступені караніліся ў групавых інтарэсах часткі ўплывовай каталіцкай і прыдворнай эліты, якая востра адчувала канкурэнцыю беларускай і ўкраінскай магнатэрыі, палітычныя, сацыяльныя і царкоўныя зрухі ў ВКЛ і Кароне. Сваю ролю

---

[1] Akta unji Polski z Litwą... N. 51. P. 66–67.

[2] Там жа. P. 68. (У польскім перакладзе слова «іншыя» апушчана, што некалькі змяняе сэнс клаузулы. У афіцыйных актах рымскай курыі і заходніх краін схізматыкі звычайна адрозніваюцца ад язычнікаў.)

[3] Там жа. Спас. 51.

[4] Там жа. P. 62–64, 66.

[5] *Любавский М.* К вопросу об ограничении политических прав православных князей, панов и шляхты в княжестве Литовском до Люблинской унии // Сборник статей, посвященных Василию Осиповичу Ключевскому. М., 1910. С. 3–18.

адыгрывала дваістасць манархічнага статуса Ягелонаў, якія не маглі не ўлічваць, з аднаго боку, рост палітычных амбіцый польскай шляхты, уплывы каталіцкага духавенства, адраджэнне планаў «рэальнай» уніі абедзвюх дзяржаў, а з другога – рост ваенна-палітычных і канфесійных амбіцый Маскоўскай Русі на ўсходзе.

Гарадзельскі артыкул аб віленскіх і трокскіх ваяводскіх і кашталянскіх пасадах, прызначаных для набілітаванай каталіцкай шляхты, мае расплывістае дапаўненне з пэўным пашырэннем зместу: "Таксама ўрады земскія вечныя – пасады, кашталянства і інш."[1] "Вечныя" – значыць пажыццёвыя пасады атрымлівала большасць ураднікаў, зацверджаных у XV–XVI ст. вялікімі князямі літоўскімі[2]. Гэты пункт гарадзельскага прывілея ніколі не выконваўся цалкам, у дачыненні да ўсіх "вечных" пасад.

Канфесійна-палітычныя абмежаванні ў слаба цэнтралізаванай дзяржаве з развітымі традыцыямі рэгіянальна-мясцовага жыцця ў тую пару менш закраналі беларускае і ўкраінскае баярства, князёў і паноў «рускай» веры, чым сацыяльныя прывілеі літоўскай шляхты і яе асабістыя вольнасці. Невыпадкова гэтыя прывілеі ў першую чаргу былі пашыраны на «русінаў», праз некалькі гадоў пасля смерці Вітаўта.

Іншыя адпаведныя пункты гаспадарскіх прывілеяў канца XIV – пачатку XV ст. мелі эмпірычны характар, былі пераважна абумоўлены цяжкасцямі складанага і працяглага працэсу хрысціянізацыі літоўцаў, асабліва сялянства (пры амаль поўнай адсутнасці ўласнага каталіцкага кліру і значным захаванні язычніцкіх перажыткаў), спробамі супрацьстаяння асіміляцыйным этнічным і канфесійным тэндэнцыям з боку праваслаўнага (пераважна беларускага) люду, уплывам кансерватыўных традыцый пэўных колаў польскай, літоўскай і заходнееўрапейскай іерархіі.

Да такіх пунктаў адносіцца дазвол неафітам-літоўцам «абодвух полаў» заключаць змешаныя шлюбы толькі з тымі «рускімі абодвух полаў», якія перайшлі ў каталіцтва: «...districte prohibemus, ut nullus Lithvanus utriusque sexus Rutheno similiter utriusque matrimonialiter copuletur, nisi prius obediat Romane Ecclesie cum effectu"[3]. Прывілей выдадзены ў самым пачатку хрысцянізацыі літоўцаў 22 лютага 1387 г. у Вільні і акрамя іншага меў на мэце падкрэсліць актыўнасць апостальскай місіі Ягелонаў у святле абвінавачванняў Тэўтонскага ордэна, быццам Польшча і ВКЛ толькі ствараюць бачнасць сваіх апостальскіх поспехаў. Акт прадугледжваў жорсткія пакаранні адступнікаў ад веры[4].

На думку К. Хадыніцкага, гэтая забарона ў XVI ст. ніколі не захоўвалася і змешаныя шлюбы былі звычайнай справай[5]. Заўвага даследчыка патрабуе пэўных паправак. Няведома чаму, але ён абмінуў XV стагоддзе.

Забарона змешаных шлюбаў каталікоў з нехрышчонымі асобамі са схізматыкамі, ератыкамі, няверными стала кананічнай нормай рымскай

---

[1] Akta unji Polski z Litwą... P. 67.

[2] *Lulewicz H., Rachuba A.* Urzędnicy centralni i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego XIII–XVII wieku: Spisy. Kórnik, 1994. S. 9.

[3] KDKW. P. 11–14, прывілей ад 22.02.1387 г.; Codex epistolaris saeculi decimiquinti / Coll. opera A. Lewicki. T. III. Cracoviae, 1894. N. 50, з прагаламі.

[4] KDKW. P. 13–14; *Halecki O.* Dzieje unii... S. 255.

[5] *Chodynicki K.* Kościół prawosławny... S. 78.

царквы з XII ст.[1] Папа Грыгорый IX у пасланні да дамініканцаў польскіх 24 лютага 1233 г. абвінавачваў "злаславацць русінаў", якія жывуць у цемры "вечнага асуджэння", але часам шлюбуюць суседніх з імі малжонак, і нанава хрысцяць іх. Ён загадваў дамініканцам усімі спосабамі працівіцца такім "непрыстойным і нецярпімым" шлюбам[2]. Адносіны рымскай курыі да парушэнняў гэтай нормы (прамой сферы яе юрысдыкцыі) у сярэдзіне XV ст. былі амаль такімі ж катэгарычнымі, як у згаданым акце 1387 г. Булай ад 26 мая 1452 г. папа Мікалай V абавязаў віленскага біскупа Мацея забараніць шлюбы католікоў з няверными і схізматыкамі, прызнаць рознаканфесійныя сем'і несапраўднымі. Дадаткова даў права біскупу прысвячаць асоб, народжаных у такіх шлюбах, надаваць ім бенефіцыі[3]. Звестак пра вынікі гэтай акцыі мы не маем.

Пасля Фларэнтыйскай уніі адносіны каталіцкага духавенства да абрадаў і сакраментаў грэка-візантыйскай царквы сталі больш паблажлівымі, але ў дачыненні да хрышчэння і змешаных хрысціянскіх шлюбаў доўга заставаліся дыскусійнымі.

Канфесійныя разыходжанні (impedimentum cultos disparitas) перасталі быць кананічнай перашкодай для змешаных шлюбаў з прызнаннем грэка-візантыйскага сакрамента хрышчэння ў пацвярджэнні акта Фларэнтыйскай уніі ў пачатку XVI ст.

Каталіцкая іерархія і рымская курыя з асаблівай увагай ставіліся да шлюбаў "між зацнымі станамі". У сваю чаргу магнаты ВКЛ, улічваючы ўплывы каталіцкага права, імкнуліся аформіць падобныя шлюбы строга адпаведна царкоўна-кананічнай працэдуры. У цэлым царкоўныя абмежаванні змешаных шлюбаў ніколі цалкам не вытрымліваліся ў практыцы паўсядзённага жыцця XV – пачатку XVI ст., у тым ліку на землях уласна Літвы і асабліва ў асяроддзі заможных станаў, уключаючы і дынастаў.

Да ліку абмежавальных актаў даследчыкі адносяць таксама забарону будаваць цэрквы. Не захавалася ніводнага дакумента вярхоўнай улады ці вялікакняскай канцылярыі канца XIV – першай паловы XVI ст., дзе былі б канкрэтна выкладзены яго ўмовы. Нярэдкія спасылкі на нейкі акт Казіміра Ягелончыка (часам датуюць яго 1480 г.) дакладнымі дакументамі не пацверджаны. Пытанні выклікае таксама невядомы ў арыгінале недатаваны акт Вітаўта, згаданы ў Ленчыцкім статуце 1527 г. У ім забаранялася будаўніцтва «рускіх» цэркваў у Віленскім і Жамойцкім біскупствах ("... privilegia Vytholth olim magni ducis Lythphaniensis de non construendis oratoriis Ruthenorum")[4]. Згодна з пастановай сінода, каталіцкая іерархія павінна была звярнуцца да Жыгімонта I з просьбай пацвердзіць прывілей Вітаўта і ліквідаваць пабудаваныя храмы. Прагматычная мэта духавенства відавочная: на фоне драматычных для ВКЛ ваенна-палітычных сутыкненняў з Масквой у канцы XV – першай трэці XVI ст. абмежаваць дзейнасць праваслаўнай царквы ў Вільні і Віленскім біскупстве, дзе яны ўплывалі на настрой беларускага насельніцтва і пера-

[1] *Pelczar J.* Prawo małżeńskie katolickie. Cz. 1. Kraków, 1898. S. 368–378. § 63.
[2] Theiner. 1, № 44, 55.
[3] KDKW. N. 210. P. 237–239.
[4] Там жа. N. 120; *Fijałek J.* Pierwszy synod diecezji wileńskiej w katedrze sw. Stanisława 1520/21 g. // Kwartalnik teologiczny Wileński. 1923. R. 1, z. 1. S. 81–82.

важалі колькасна Згаданы ў матэрыялах сінода (дарэчы, не датаваны) акт Вітаўта здаецца надзвычай падазроным, паколькі ў кнігах Метрыкі ВКЛ пацверджання Жыгімонта намі не знойдзена. Акрамя таго, ад часоў Вітаўта захавалася нямала актаў, якія сведчаць пра яго больш гнуткую і асцярожную палітыку ў дачыненні да праваслаўных ВКЛ, чым гэта было характэрна для Ягайлы і польскай духоўнай іерархіі. У настаўленні ваяводам, намеснікам, цівунам (пасля 5 жніўня 1392 г.) Вітаўт пакідаў права выбару канфесіі для русінаў.

У перыяд місіянерскіх аб'ездаў віленскім біскупам і яго намеснікамі літоўскіх і беларускіх зямель уласнай дыяцэзіі Вітаўт наказваў цівунам і іншым мясцовым урадпікам не прымушаць русінаў да змены веры: "хто пажадае па сваёй волі, хай хрысціцца, хто будзе супраць, хай застаецца ў сваёй веры"[1]. Не згадваюць пра разбурэнні праваслаўных цэркваў ці абмежаванні ў іх будаўніцтве ў Беларусі і тагачасныя мітрапаліты ўсяе Русі.

Значна пазней, у перыяд палітычнай напружанасці ў адносінах з Маскоўскай Руссю канца XIV – пачатку XV ст., вялікі князь літоўскі Аляксандр у дыпламатычных мэтах неаднаразова спасылаўся на нейкую пастанову сваіх каранаваных продкаў – "каб нам рускіх цэркваў не прыбаўляці", ніколі, аднак, дакладна не называючы гэтых актаў. На большасці зямель усяго Княства, дзе пераважала беларускае, украінскае, часткова рускае насельніцтва, заўсёды панавалі нормы праваслаўнага царкоўнага права, нават калі яны супярэчылі актам, наданым віленскім біскупам, і іншым граматам. Невыпадкова ў прывілей Віцебскай зямлі, зацверджаны вялікім князем літоўскім Казімірам, па жаданні віцебскага паспольства быў уключаны пункт аб канфесійнай недатыкальнасці літоўцаў, хрышчаных у рускую веру: «Так же которіи будуть, Літвін або Лях, крещены были у Витебску в Рускую веру, а хто ис того роду и тепере живеть, того нам не рушити, права их крестіянского ні в чом не ломити»[2]. Такім чынам, большасць адзначаных так званых абмежавальных актаў, прынятых у канцы XIV – пачатку XV ст., былі другарадным і ўскосным дапаўненнем да асноўнай мэты заканадаўцаў: забеспячэнне хрысціянізацыі літоўцаў на землях Літвы этнічнай і ВКЛ у вузкім сэнсе, аптымальных умоў для ўтрымання літоўскага баярства, князёў, рыцарства ў новай веры, новым сацыяльным і палітычным статусе.

Рэальныя прывілеі Літвы, шляхты і пэўная незадаволенасць значных колаў "рускай" знаці, баярства, паспольства палітычнымі і канфесійнымі вынікамі уніі з Каронай сталі адным з важных фактараў, што абумовілі так званую хатнюю вайну ў ВКЛ у 30-х гг. XV ст.

## 4. Пошукі кампрамісаў. Спробы рэалізацыі царкоўнай уніі

**Палітычны і этнаканфесійны кантэкст планаў уніі. Дзейнасць Герасіма і Свідрыгайлы.** У канфесійнай палітыцы вярхоўнай улады ВКЛ пэўнае месца займалі планы царкоўнай уніі, якія ўзмацніліся пасля хрышчэння Літвы і замацавання больш-менш сталых адносін з каталіцкай Польшчай. Ідэі царкоўнай уніі ў сваіх узаемасувязях мелі універсальнае,

[1] KDKW. N. 23. P. 39.
[2] РИБ. Т. 27. С. 843.

рэгіянальнае і больш вузкае палітычнае падложжа, што вызначала і іх дзяржаўную, гістарычную і этнаканфесійную спецыфіку. У еўрапейскім кантэксце планы адраджэння хрысціянскага адзінства, парушанага ў 1024 г., пры шэрагу адпаведных умоў заўсёды падтрымліваліся Рымам, увасабляючы адну з галоўных ідэй каталіцкай усяленскай місіі за межамі лацінскай Еўропы. Вымушанымі і разборлівымі партнёрамі рымскай курыі была Візантыйская імперыя, зведзеная пад націскам Порты ў канцы XIV ст. да малога тэрытарыяльнрага абсягу, і канстанцінопальскі патрыярхат. Свае кантынентальныя інтарэсы мелі Свяшчэнная Рымская імперыя, Тэўтонскі ордэн і кааліцыі дзяржаў, якія ўдзельнічалі ва ўсяленскіх каталіцкіх саборах і імкнуліся пашырыць свае ўплывы. Моцным раздражняльным фактарам для Рыма і каталіцкіх дзяржаў Еўропы ў першыя дзесяцігоддзі XIV ст. сталі неператожныя гусіцкія рухі ў Чэхіі, якія разлічвалі на падтрымку Польшчы і асабліва ВКЛ, улічваючы іх супрацьстаянне цэсару і Нямецкаму ордэну, асноўным палітычным праціўнікам гусітаў, і параўнальна талерантнае суіснаванне розных народаў і канфесій. Некаторыя тэалагічныя аспекты збліжалі гусіцкіх рэфарматараў з праваслаў'ем (прычасце пад двума відамі, адмаўленне філіокве). Спадзвіжніка Яна Гуса Іераніма Пражскага абвінавацілі на саборы ў Канстанцы ў патуранні схізматыкам у час яго падарожжа з Вітаўтам па землях усходняй Беларусі і ўрэшце спалілі на стосе. З бліжэйшых суседзяў ВКЛ акрамя Венгрыі, якая доўга была спадчынай цэсараў Свяшчэнная Рымскай імперыі, негатыўную пазіцыю да уніяцкіх планаў рымскіх пантыфікаў у канцы XIV – пачатку XV ст. нярэдка займаў Інфлянцкі ордэн. Прама супрацьстаяла ім Атаманская Порта. Менш закранаілі яны Залатую Арду, якая ў той стадыі свайго дзяржаўнага распаду не вельмі спадзявалася на новыя набыткі ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе.

Непрымальнымі былі ідэі уніі для Маскоўскай Русі і іншых рускіх княстваў, бо іх рэалізацыя пры вяршэнстве папы прывяла б да кардынальнага зруху геапалітычнай раўнавагі ва Усходняй Еўропе і падарвала б прэстыж галоўнай дзяржавы ў праваслаўным свеце, у тым ліку у пэўных царкоўных і свецкіх колах ВКЛ, паўднёваславянскіх землях, Грэцыі.

Інспіратарамі царкоўна-канфесійных планаў уніі ў канцы XIV – пачатку XV ст. былі першыя Ягелоны, якія разлічвалі тым самым паглыбіць дзяржаўна-палітычны саюз, а ў ВКЛ зняць ці хоць аслабіць этнаканфесійныя супярэчнасці.

Збліжэнне з каталіцкай Польшчай, хрышчэнне Літвы і замацаванне за каталіцкай царквой і каталіцкім (пераважна літоўскім) баярствам значных прывілей у канцы XIV – пачатку XV ст. пагражала ўсталяванаму ў ВКЛ і адносна ўзважанаму суіснаванню каталікоў з большасцю ўсяго насельніцтва, што здаўна трымалася грэка-візантыйскай ці праваслаўнай веры.

Палітычная і этнаканфесійная эвалюцыя ВКЛ адразу "адгукнулася" на землях Беларусі і Украіны і адбілася на адносінах вярхоўнай улады з літоўскімі праваслаўнымі дынастамі, незадаволенымі адцясненнем іх ад прыдворнай палітыкі. Не прамінулі скарыстацца ўскладненнем этнаканфесійных адносін маскоўскія ўлады, якія ў сваіх мэтах выкарыстоўвалі асобных беглых князёў і падтрымлівалі прамаскоўскія колы ў Полацку і Смаленску.

Практычна аднačасова з рэалізацыяй планаў каталіцкага хрышчэння Літвы ў асяроддзі вярхоўнай улады пачалі распрацоўвацца праекты рэгіянальнай царкоўнай уніі, якая б дазволіла зняць ці ва ўсякім разе паменшыць прадказальныя неспрыяльныя вынікі палітычнага і царкоўнага збліжэння з Польшчай і Захадам. Было відавочна, што царкоўная унія магла б вырашыць некалькі ўзаемазвязаных праблем: кансалідаваць, наколькі гэта магчыма, у канфесійным сэнсе праваслаўнае і каталіцкае насельніцтва ВКЛ (і паўднёва-ўсходняй Польшчы)[1]; зменшыць канфесійныя ўплывы Масквы; нейтралізаваць аргументы Тэўтонскага ордэна і яго еўрапейскіх саюзнікаў аб недапушчальнасці па хрысціянскіх канонах ваенна-палітычнага супрацоўніцтва каталіцкіх дзяржаў са схізматыкамі (асабліва ў войнах супраць хрысціянскіх дзяржаў); умацаваць і пашырыць палітычныя і іншыя сувязі з каталіцкай Еўропай.

Храналагічна рэалізацыя уніяцкіх царкоўна-канфесійных планаў Ягайлы і Вітаўта пачалася з часоў мітрапаліцкай дзейнасці ў ВКЛ двух выхадцаў з зямель паўднёваславянскіх – Кіпрыяна і яго пераемніка Цамблака.

У сучаснай гістарыяграфіі захоўваюцца прынцыповыя разыходжанні ў ацэнцы спрычыненасці выдатных дзеячаў славянскай культуры і багаслоўя да уніі. Не ўвязваючыся ў палеміку і не ацэньваючы палітычнае ўздзеянне на іх, варта нагадаць звесткі, якія маюць дакументаванае пацвярджэнне: зварот Кіпрыяна да канстанцінопальскага патрыярха ў 1396 г. (захаваўся адказ Антонія II, які лічыў неабходным пасля паражэння грэкаў у 1397 г. пад Нікапалісам спачатку стварыць агульную антыасманскую кааліцыю)[2]. У тым жа польска-літвінскім праекце 1396 г. прапанавалася з улікам цяжкага становішча грэкаў і канфесійна-палітычнага расколу ў лацінскай Еўропе[3] правесці уніяцкі сабор на "рускіх" (беларуска-ўкраінскіх) землях ВКЛ. Прапанова – невядомая ў аналах узаемадносін Канстанцінопаля і Кіеўскай мітраполіі, якая б значна замацавала яе міжнародны царкоўны статус[4]. Грэкі, аднак, апасаліся, што правядзенне такога сабора недзе на землях Беларусі ці Украіны пашкодзіць іх адносінам з Масквой, якая была больш актыўнай калі не ў ваеннай, то ў фінансавай дапамозе патрыярхіі. Не ўспрынялі гэтай прапановы і на Захадзе, дзе ўсе канфесійныя праблемы традыцыйна імкнуліся вырашаць у сваіх царкоўных і палітычных цэнтрах.

Пасля 1397 г. невядомы новыя захады Кіпрыяна адносна уніі, а сам ён зручна балансаваў у фактычна падзеленай мітраполіі, захоўваючы свой тытул мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Русі. Кандыдатура новага стаўленніка Вітаўта – полацкага архіепіскапа Феадосія, як адзначалася вышэй, у Канстанцінопалі не была падтрымана. Пасля Вялікай вайны з Ордэнам і Гарадзельскай уніі 1413 г. зноў узніклі ўмовы для аднаўлення старых намераў. Масква загразла ў перыпетыях "хатняй" вайны, а жорсткія канфесійныя пункты гарадзельскіх прывілеяў патрабавалі заспа-

[1] Пытанне пра ліквідацыю прывілей для каталіцкіх свецкіх і духоўных колаў пры гэтым не ставілася.
[2] *Halecki O.* Od unii florenckiej do unii brzeskiej. T. 1. Lublin, 1997. S. 35–36.
[3] Так званая заходняя схізма, раскол паміж прыхільнікамі вяршэнства папства і ўсяленскіх каталіцкіх сабораў.
[4] *Halecki O.* Od unii florenckiej do unii brzeskiej. T. 1. S. 37.

каення праваслаўнай супольнасці. Частковым адказам на незадаволенасць князёў, баяр, духавенства, простага паспольства радыкальнымі канфесійнымі зрухамі (ці хутчэй дадаткам да іх) быў згаданы ўжо неаднойчы Наваградскі сабор 1415 г., дзе абралі Грыгорыя Цамблака. З дзейнасцю гэтага архірэя з тытулам мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Русі звязаны самы выразны эпізод уніяцкіх ініцыятыў абодвух манархаў Польшчы і ВКЛ.

19 лютага 1418 г. святочнае пасольства ВКЛ на чале з епіскапамі, рускімі князямі, прадстаўнікамі буйных гаспадарскіх гарадоў (пераважна паўднёва-заходніх і ўсходніх зямель ВКЛ – Галіч, Крамянец, Кіеў, Луцк, Львоў, Наваградак, Віцебск, Полацк, Смаленск) увайшло ў Канстанц, размешчаны на берагах Бодзенскага возера ў графстве Швабія. Тут Цамблак адслужыў літургію па правілах грэка-візантыйскай царквы, а на параднай аўдыенцыі ў новаабранага Канстанцкім саборам папы Марціна V выказаўся за хутчэйшую рэалізацыі планаў уніі. Па яго сцверджанні, унію падтрымліваюць канстанцінопальскі мітрапаліт і імператар, а ў ВКЛ шмат намаганняў прыкладаюць Ягайла і Вітаўт[1].

На думку М. Грушэўскага, у сваіх выступленнях на саборы Цамблак зусім не адступіўся ад шляху, які лічылі адпаведным яго папярэднікі і ўся Усходняя царква – саборнае паразуменне ўсёй Усходняй і Заходняй цэркваў: "для переведення того вказував папі далеку дорогу – приготовання руської церкви да унії проповідю, развинення перед неї добровільної гравітації до римської церкві"[2].

У ацэнцы адносін Цамблака да уніі прынцыпова разыходзяцца і сучасныя даследчыкі. Разглядаючы гэтыя спрэчкі, варта не забываць, што ўсё шматлікае і святочнае пасольства ў Канстанц было арганізавана Вітаўтам і Ягайлам не дзеля багаслоўскіх дыспутаў, а для дыскрэдытацыі ордэнскай прапаганды аб тым, што яны супрацоўнічаюць са схізматыкамі і ўсе заявы аб іх апостальскай місіі – падлог і фальсіфікацыя. Згодна з тагачаснай заходняй традыцыяй – з ерэтыкамі і адступнікамі, якія не лепшыя за язычнікаў. Для абвяржэння гэтага тэзісу ў Канстанц была таксама дастаўлена група хрышчаных у каталіцтва жамойтаў.

Пра ўнутраную сувязь гэтых дзвюх імпрэз ("пасольстваў" Цамблака і жамойтаў) паведамляюць самі гаспадары Польшчы і ВКЛ у сваім пасланні айцам сабора ад 25 жніўня 1417 г. Яны падкрэсліваюць поспехі каталіцкай хрысціянізацыі Жамойці пры ўдзеле кракаўскага арцыбіскупа Яна і віленскага біскупа Пятра і дадаюць далей, што на вялікіх абшарах абедзвюх дзяржаў жывуць таксама прыхільнікі Усходняй царквы, якія называюцца русінамі ("qui nos vulgariter Ruthenus nuncupamus")[3]. Пасланне разглядае унію абодвух касцёлаў як аб'яднанне, вяртанне русінаў да сапраўднай хрысціянскай веры і просіць не ставіць пытання аб іх рэбаптызацыі (перахрышчэнні). Тут, безумоўна, выявіліся дакладныя

---

[1] Адзіная падрабязная справаздача аб прамове Цамблака перад папам захавалася ў мала вядомым ананімным дзённіку сабора ў Канстанцы (прыпісваецца кардыналу Філіатры), хоць яшчэ ў пачатку XX ст. М. Грушэўскі апублікаваў найбольш цікавыя фрагменты з гэтай лацінамоўнай крыніцы: *Грушевський М.* Історія України-Руси... Т. 5. С. 516.
[2] Там жа.
[3] *Kłoczowski J.* Jagiełło i Witold wobec prawosławnych: próba ich dowartościowania w 1417 roku // Balticum. 1992. S. 176–179; *Grabski A.F.* List Władysława Jagiełły i Witolda do sobora w Konstancji // Nasza Przeszlość. [N.] XXV. 1966. S. 277–284.

ўяўленні ўладароў аб трываласці праваслаўя ў асяроддзі беларускага і ўкраінскага насельніцтва, значнай канфесійнай асіміляцыі літоўцаў-дынастаў, ролі гэтых традыцый у адносінах з замежнымі праваслаўнымі краінамі. Заварухі з палачанамі і смалянамі ў канцы XIV – пачатку XV ст. шмат чаму навучылі вярхоўную ўладу.

У адрозненне ад больш позніх і некаторых сучасных інтэрпрэтацый місіі Цамблака ў Канстанц царкоўныя і палітычныя колы Вялікага Княства Маскоўскага адразу адмоўна паставіліся да яе. Інакш і не магло быць, улічваючы, якія эпітэты надаваліся ў Маскве епіскапам і самому Цамблаку з нагоды абрання яго кіеўскім мітрапалітам на Наваградскім саборы 1415 г.

Сапраўдная ацэнка місіі Цамблака дадзена ў граматах Фоція, што былі накіраваны падначаленым яму епіскапам з папярэджаннем наконт бязбожных намераў лацiннікаў, што сеюць разлад у "Рускай мітраполіі". У Сафійскім першым летапісе (па спісе Царскага), які, па назіраннях гісторыкаў, стаў асновай усяго агульнарускага маскоўскага летапісання другой паловы XV–XVI ст., паездка Цамблака на Захад непасрэдна звязана з яго наваградскім адступніцтвам. Спачатку ў даволі афарыстычнай форме выкладаецца міфічны дыялог Цамблака з Вітаўтам, каб не закралася падазрэнне, што гэта ўвогуле звычайны спосаб кантактаў праваслаўных архірэяў з Захадам: "Что ради ты, княже, сам вере ляцькои, а не во православнои вере христианьскои?" И отвеща ему Витовт: "Аще хощеши не токмо мене единого видети во своеи православнои вере, но и всех людеи неверных моея земли Литовъскыя, то иди в Рим и имеи прю с папою и с его мудреци. И аще их преприши, то вси мы боудем христьяне. И аще ли не преприши, то имам вся люди своя земли в свою немецкоую превратити вероу"[1]. Цамблак, вядома, не пераспорыў папу з ягоным канклавам, бо людзі ў Літве і сам Вітаўт засталіся ў "ляцкай" веры. Непасрэдна пасля паведамлення аб падарожжы Цамблака ў Рым (трэба – у Канстанц. – *Г.Г.*) летапісец тлумачыць, чаму так адбылася: "О том Григорие Цамъблаце , Фотеи, митрополит роусьскый, писа: «Яко то и мятежник церковныи зовется митрополитом киевъскым, и поставлен бысть от неправеднаго сборище в литовьском Новегородце, не избранием святых отець, ни испытанием сборных, не разсоужением правилным, ни роукоположением святого патриарха, ни по преданию церковному.... но мирьскыми властьми и по хотению своемоу и желанию обрете на пребывающаго мене митрополита по достоанию в животе. Яже о нем и первие явлена быша на сборе в Цариграде, елико смоущение створи на Христовоу церков, от святеишаго вселеньскаго патриарха Еоуфимия и от божественнаго и священнаго сбора изверже́н бысть из саноу, от поповьства и проклят бысть»"[2]. Канстанцінопальскі сабор сапраўды пракляў Цамблака і выклікаў Фоція для дадатковых тлумачэнняў і, верагодна, новага зацвярджэння. Маскоўскі мітрапаліт адмовіўся ад паездкі ў Царград. Канстанцінопальскія духоўныя іерархі разам з імператарам шукалі дапамогі дзе толькі магчыма, і не выключана, што маглі пайсці на кампраміс з Захадам і Цамблакам.

[1] ПСРЛ. Т. 39. М., 1994. С. 141.
[2] Там жа.

Усе наступныя мітрапаліты, стаўленікі вярхоўнай улады ВКЛ, да канчатковага падзелу мітраполіі Кіеўскай і ўсяе Русі ў справах уніі наследавалі Цамблаку. Чарговая спроба рэалізацыі планаў царкоўнай уніі абумоўлена незвычайнымі палітычнымі абставінамі і неўзабаве набывае дэкаратыўныя і палітызаваныя рысы. Не выклікае сумнення, што ініцыятарам і галоўным арганізатарам яе быў сам Свідрыгайла[1]. У ваенна-палітычным сапернiцтве з Жыгімонтам Кейстутавічам ён паступова страчваў свае пазіцыі. У польска-літоўскіх і замежных колах існавалі сур'ёзныя сумненні наконт законнай пераемнасці вялікакняскага стала Свідрыгайлам са згоды караля і юрыдычна асноўнага носьбіта вярхоўнай улады ў сваёй дынастычнай спадчыне. Дамовы і падтрымка шмат якіх ваенных і палітычных акцый Свідрыгайлы з боку Тэўтонскага ордэна задавальнялі далёка не ўсіх прыхільнікаў вялікага князя. Актыўны ўдзел беларускага і ўкраінскага баярства, а таксама праваслаўных мяшчан шэрага буйных гарадоў Беларусі і Украіны (Полацка, Віцебска, Луцка і інш.) у ваеннай і палітычнай дзейнасці Свідрыгайлы ўспрымаліся ў заходніх палітычных і царкоўных колах (папства, цэсарства, саборны рух) як парушэнне грунтоўных і кананічных прынцыпаў хрысціянскай місіі ў язычніцкіх і схізматычных краінах. Бліскучыя юрыдычныя трактаты, складзеныя кракаўскімі гуманістамі для Канстанцкага сабора, з абгрунтаваннем юрыдычных і натуральных боскіх правоў язычніцкіх і праваслаўных народаў, і магчымасці супрацоўніцтва з імі каталіцкіх краін не ліквідавалі гэтых пераканнняў. Айцоў Базельскага сабора (1431–1449) непакоілі таксама кантакты чэшскіх гусітаў з князем Жыгімонтам Карыбутавічам, прэтэндэнтам на карону Чэхіі ў 20-х гг. XV ст., а ў пачатку 30-х гг. прыхільнікам Свідрыгайлы і ўдзельнікам яго ваенных акцый. Для абвяржэння гэтай прадузятасці і падрыву пазіцый Жыгімонта Кейстутавіча ў Заходняй і Цэнтральнай Еўропе Свідрыгайла вырашыў публічна падтрымаць планы грэка-каталіцкай уніі. Невядома, наколькі самастойную ролю адыгрываў праваслаўны мітрапаліт Герасім, але, бясспрэчна, што ён браў удзел у ажыццяўленні гэтых планаў.

Пры тайнай падтрымцы Свідрыгайлы група яго праваслаўных прыхільнікаў паслала ліст да Базельскага сабора з абаронай царкоўных і палітычных пачынанняў вялікага князя. У гэтым пасланні, прынятым на з'ездзе ў Віцебску 22 сакавіка 1433 г., сцвярджалася, што насуперак злосным плёткам Свідрыгайла застаўся шчырым каталіком, а самі яны жадаюць царкоўнай уніі[2].

Дакумент захаваўся ў нядбайным стане, прозвішчы баяр гісторыкамі не адчытаны, а подпісы князёў загадкавыя. Яраслаў Лугвенавіч і Андрэй Міхайлавіч не былі "брацціямі Ягайлы" (мабыць што этыкетна) і толькі Федзька нясвізскі "dux" не выклікае пытанняў як даўні спадзвіжнік Свідрыгайлы і яго намеснік у Луцку. Тым не менш віцебскае пасланне было змацавана пячаткамі, афіцыйна зачытана на саборы і схіліла папу Яўгена IV у кастрычніку 1433 г. запрасіць да сябе ў Фларэнцыю мітрапаліта Герасіма з делегацыяй. Паездка не адбылася, па невядомых прычы-

[1] *Matusas J.* Švitrigaila lietyvos dydysis kunigajkštis. Kaunas, 1938.
[2] *Halecki O.* Od unii florenckiej do unii brzeskiej. T. 1; Veterum Scriptorum amplissima collectio / Ed. E. Martene, U. Durand. T. VIII. Paris, 1733. P. 575.

нах. Верагодна, Свідрыгайла быў заняты неадкладнымі справамі або да яго дайшлі чуткі аб саперніцтве пантыфіка з Базельскім саборам. Меркаванне О. Галецкага, што гэтаму перашкодзіла заўчасная смерць мітрапаліта, не здаецца пераканаўчым, бо заставалася яшчэ шмат часу да гэтай трагедыі[1].

Наўрад ці уніяцкія прапановы Свідрыгайлы былі дастаткова прапрацаваны з тэалагічнага пункту гледжання, затое няблага прасочваецца іх сувязь з яго палітычнымі разлікамі. Адначасова ён звязваўся з саборам і з папскай курыяй, а іншы раз намагаўся прыцягнуць да сваіх планаў нават Ордэн. Ваенныя няўдачы ў саперніцтве з Жыгімонтам Кейстутавічам абумовілі халаднаватае стаўленне да яго уніяцкай ініцыятывы ледзь не ўсіх зацікаўленых бакоў.

Магчыма, адчуванне канчатковай паразы Свідрыгайлы ў барацьбе за прастол ВКЛ схіліла мітрапаліта Герасіма да пошуку самастойных кантактаў з апазіцыйнымі коламі, у тым ліку з прыхільнікамі Жыгімонта Кейстутавіча. Ідэя царкоўнай уніі пры польскай "аранжыроўцы" ніколі не была староннім для тых вялікіх князёў літоўскіх, якія разлічвалі на захаванне дзяржаўнай супольнасці з Каронай.

Апошні акт царкоўнай і грамадскай дзейнасці Герасіма вядомы па аднабаковых сведчаннях, якія цяжка лічыць непрадузятымі. Яны выкладзены ў пасланнях Свідрыгайлы Базельскаму сабору і рымскаму папе, да якіх прыкладзены копіі з лістоў Герасіма[2]. Ён абвінавачваецца ў змове супраць Свідрыгайлы, планах тэрытарыяльнага ўшчамлення ВКЛ і іншых недаравальных дзеяннях.

У цяжкіх ланцугах Герасім быў дастаўлены са свайго смаленскага падвор'я ў Віцебск і праз некалькі месяцаў турэмнага зняволення спалены на стосе. Папа яшчэ адправіў свайго пасланніка Нікльсдорфа да Свідрыгайлы для працягвання перамоў аб уніі, але агульнае аслабленне пазіцый апошняга ў цэнтральных землях ВКЛ – Літве і Беларусі перакрэсліла гэтыя намаганні.

**Ферара-Фларэнтыйская унія 1439 г.і яе лёс у Беларусі і Украіне.** Важным этапам у спробах рэалізацыі планаў царкоўнай уніі ў паўднёвай і цэнтральна-ўсходняй Еўропе стаў Ферара-Фларэнтыйскі сабор 1439 г. Пераход шэрага заходніх манархаў і візантыйска-канстанцінопальскіх уладаў да пераважнай падтрымкі рымскага пантыфіка і рашучасць Яўгена IV, як і яго базельскіх праціўнікаў, нясхільных да кампрамісных рашэнняў, прывялі да разрыву іх фармальнага супрацоўніцтва.

25 ліпеня 1439 г. папа Яўген IV быў асуджаны ў Базелі як ерэтык, а 5 лістапада сабор абраў герцага Амадэя Савойскага новым пантыфікам пад імем Філіп V. Грэчаская дэлегацыя, якая больш разлічвала на падтрымку Яўгена IV у вырашэнні сваіх крызісных геапалітычных праблем, вымушана была адправіцца ў паўночную Італію, дзе пачаліся сесіі новага самастойнага сабора. З пачаткам чумы ўсе перабраліся з Ферары ў Фларэнцыю. На саборы разам з "лацціннікамі" і візантыйскім імператарам Іаанам Палеолагам з яго братам прысутнічалі іерархі ўсходніх цэркваў, канстанцінопальскі патрыярх Іосіф II, прадстаўнікі Александрыйскай,

[1] *Halecki O.* Od unii florenckiej do unii brzeskiej. T. 1. S. 59; *Mončak I.* Florentine ecumenism in the Kyivan church. Rome, 1987. P. 162.
[2] Codex diplomaticus Lithuaniae / Ed. E. Raczyński. Wrocław, 1848. P. 363, 366.

Анціахійскай, Іерусалімскай патрыярхій, больш за 20 праваслаўных епіскапаў.

Адкрыццё Фларэнтыйскага сабора зацягвалася, бо доўга чакалі мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі Ісідора. Для грэкаў гэтая мітраполія заставалася апошнім апірышчам іх царкоўных уплываў на Русі і Балканах.

Відавочна, вялікі князь Васіль ІІ не быў поўнасцю азнаёмлены з планамі Ісідора, таму ягонае падарожжа ацэньвалася ў маскоўскіх колах як даволі звычайная царкоўна-дыпламатычная акцыя. Другараднасць гэтай місіі, з афіцыйнага пункту гледжання, пацвярджаецца і тым, як доўга і якім акружным шляхам дабіраўся Ісідор да месца прызначэння, і яшчэ больш – як вяртаўся. Калі б ён кіраваўся загадам вялікага князя, несумненна, усё было б іначай. Вышэйшая іерархія праваслаўнай царквы прызнавала сем усяленскіх сабораў, і ёй непатрэбны былі ў гэтай сферы нейкія нечаканасці. Маршрут пралягаў праз паўночна-заходнія епархіі Маскоўскай Русі, паўночную Прыбалтыку, краіны Цэнтральнай Еўропы: Цвер, Ноўгарад, Пскоў (дзе ён паставіў новага епіскапа), Рыгу, Любек, Лейпцыг, Ціроль да Канстанцінопаля. Вялікі князь літоўскі Жыгімонт Кейстутавіч падтрымліваў Базельскі сабор, таму пасольства пераважна абмінула Літву і Польшчу, а ў яго складзе зусім адсутнічалі ўладыкі з беларускіх і ўкраінскіх зямель. Не выключана, праўда, што гэта была пазіцыя маскоўскіх колаў, якія з часоў Цамблака пабойваліся залішняй самастойнасці замежных епіскапаў. Ісідор адпаведна свайму духоўнаму сану сам прадстаўляў усю мітраполію Кіеўскую і ўсяе Русі. Пасольства прыбыло са спазненнем, паколькі чакала сродкаў для аплаты судна. У параўнанні з дэлегацыяй Цамблака світа Ісідора выглядала больш сціпла. Яго суправаджалі суздальскі епіскап Аўраамій, іераманах Сімяон, пазнейшы пераемнік кіеўскай кафедры Грыгорый Балгарын, прадстаўнік Цвярскога княства і аршак іншых духоўных і службовых асоб.

Асноўнымі праблемамі сабора былі ўрэгуляванне шэрага дагматычных і некаторых абрадавых разыходжанняў, заключэнне уніі з грэка-візантыйскай царквой і залежнымі ад яе мітраполіямі. Вынікі сабора здаваліся прадказальнымі, бо апазіцыя грэчаскай царквы была амаль поўнасцю зломлена катастрафічным становішчам Канстанцінопаля і адсутнасцю рэальнай дапамогі ад Захаду, а адносіны Ісідора да уніі не былі тайнымі для Рыма і грэкаў-уніяністаў з 1437 г., калі ён стаў даверанай асобай іерусалімскага патрыярха па справах экуменічнага сабора.

Галоўны акт уніі быў зацверджаны 5 ліпеня 1439 г., Ісідор падпісаўся па-грэчаску, Аўраамій па-руску. Пазней, пасля ўцёкаў ад Ісідора прызнаваў у Маскве, што зрабіў гэта пад значным націскам. Для ўзвышэння мітрапаліта ў каталіцкім і праваслаўным асяроддзі і пашырэння яго паўнамоцтваў папа надаў яму 17 жніўня годнасць апостальскага легата ў правінцыях Літвы, Лівоніі, усёй Русі, Лехіі (Польшчы), а 18 снежня дараваў яму сан кардынала.

Дзіўным быў зваротны маршрут Ісідора: праз Венгрыю і Польшчу ў ВКЛ да сваёй гістарычнай кафедры. У Будзе Ісідор выдаў сваю знакамітую акружную грамату, дзе апавясціў усіх праваслаўных аб пастанове Фларэнтыйскага сабора са значным пашырэннем некаторых пунктаў уніі. У грамаце адзначалася, што унія прынята на падставах поўнай роўнасці лацінскай і грэчаскай цэркваў, пры захаванні традыцыйнай грэчаскай абраднасці. Па некаторых дагматычных пытаннях мітрапаліт

(верагодна, з тактычных меркаванняў) значна адышоў ад літары саборнага акта і злёгку "прыфарбаваў" унію. Побач з зацвярджэннем прымату папы ў царкоўных справах і ўзаемаадносінах унія, па яго словах, санкцыяніравала поўную роўнасць цэркваў у захаванні традыцыйнай абраднасці і прызнала сапраўднасць і святасць праваслаўнага хрышчэння (што ў такой форме адсутнічала ў акце уніі). Польская і літоўская каталіцкая іерархія не падтрымала дзейнасць Ісідора ў ВКЛ, паколькі ў той час была больш звязана з Базельскім саборам ці ва ўсякім разе займала нейтральныя пазіцыі. У сваіх неафіцыйных лістах мітрапаліт пераважна абвінавачваў віленскага біскупа Мацея. Сваю скептычную ролю ў Польшчы адыграў уплывовы кракаўскі біскуп і шматгадовы апякун малалетняга Уладзіслава III Збігнеў Алясніцкі. Цяжка растлумачыць, якія іншыя прычыны абумовілі доўгую апазіцыю акту Фларэнтыйскай уніі з боку кіруючых колаў Польшчы і ВКЛ. Да ліку гіпотэз можна аднесці меркаванні аб нежаданні каталіцкай і свецкай іерархіі надаваць роўныя царкоўныя (і звязаныя з імі палітычныя) правы і магчымасці Маскоўскай дзяржаве ці, напрыклад, зусім свежая памяць аб выкарыстанні планаў уніі з боку Свідрыгайлы – дынастычнага канкурэнта Жыгімонта Кейстутавіча ў барацьбе за прастол ВКЛ.

У праваслаўных землях ВКЛ дзейнасць Ісідора была больш відавочнай: ён паставіў некалькі новых епіскапаў, наведаў Полацк, Тураў і іншыя гарады Беларусі і Украіны, гасцяваў у Кіеве, дзе ягоныя царкоўныя і маёмасныя правы афіцыйна прызнаў у сваіх граматах князь Алелькавіч (без згадвання уніі).

За паўгода сваёй дзейнасці ў Беларусі, Літве і Украіне Ісідор не мог не ўбачыць фактычнага правалу сваёй місіі ў ВКЛ і Польшчы і тым больш разлічваць на цёплы прыём у Маскве. Яму было вядома, што многія маскавіты з яго пасольства даўно збеглі і пакаяліся маскоўскім уладам, у тым ліку і суздальскі епіскап, аўтар твора, вядомага ў рускай літаратурнай традыцыі пад назвай "Исхождение Авраамия Суздальскага на осмый собор с митрополитом Исидором в лето 6945".

Трэба аддаць Ісідору належнае. 19 сакавіка 1441 г. ён прыбыў у Маскву і на ўрачыстай абедні ў крамлёўскім Успенскім храме абвясціў пра вялікі грэка-каталіцкі сабор, які прывёў да злучэння канфесій і дазволіў духоўным асобам "служить в их церквах, а им в наших христианских" і папоў ставіць[1]. Іерадыякан мітрапаліта зачытаў з амвона папскую булу аб уніі. Мяркуючы па летапісах другой паловы XV – пачатку XVI ст., масквічоў асабліва ўразілі памінанні ў літургічных малітвах цэсара і рымскага папы раней за вялікага маскоўскага князя і царградскага патрыярха, адступленні ад некаторых канонаў праваслаўя (асабліва ад канона святой Троіцы), нязвыклыя працэсіі з вынасам каталіцкага крыжа і інш. Сцвярджалася, што публічная дзейнасць Ісідора ў Маскве адразу выклікала вялікую збянтэжанасць і абурэнне. У кантрасце з гэтымі палемічнымі замалёўкамі цікавым здаецца пасаж у Ніканаўскім патрыяршым зводзе XVI ст., дзе (несумненна, таксама з панегірычным перабольшаннем) параўноўваецца абыякавая рэакцыя маскоўскай свецкай і духоўнай знаці з рэзка негатыўным умяшальніцтвам Васіля II: " Достоит

[1] Тверские летописи. Тверь, 1999. С.147.

же удивитися разуму и великому смыслу великого князя Василия Васильевича, понеже о сем Исидоре митрополите вси умолчаша князи и бояре и ини мнози, еще же паче и епископы Русьские вси умолчаша и вздремаша и уснуша, един же сей богомудрый и христолюбивый государь... скоро обличив, посрами его и вместо пастыря и учителя злым и губителным волком назвал его»[1]. На думку О. Галецкага, "маўчанне" баяр і духоўных асоб было выклікана аўтакратызмам вярхоўный улады, чаканнем яе рашэння, з якім адразу і пагадзіліся[2]. Мяркуюць, што так паставіцца да місіі Ісідора Васіля II схілілі ранейшыя звесткі пра "фальшывы" Фларэнтыйскі сабор, атрыманыя ў Маскве ад Аўраамія Суздальскага і іншых збегаў з замежнага атачэння Ісідора[3]. Здаецца, што гэта мала што значыла ў кантэксце агульнай геапалітычнай і царкоўна-канфесійнай сітуацыі Паўночна-Усходняй Русі. Праз некалькі дзён у "крестопоклонную середу" Ісідор быў пасаджаны "за приставы" (у некаторых летапісах – "окован") у крамлёўскі Чудаў манастыр, дзе рэжым утрымання быў, верагодна, не вельмі жорсткім. У тым жа Ніканаўскім летапісе засведчана, што прыставам даручылі сцерагчы яго да пакаяння: пакуль "не отлучится от Латыньскаго съединения и обратится и покается и милость получит...»[4]. Духоўныя настаўленні скліканага князем царкоўнага сабора ні ў чым не пераканалі Ісідора[5]. З паўгода ў Маскве разважалі, як даць рады нязвыклай і небяспечнай справе і як выкарыстаць яе ў сваіх мэтах[6]. Перамог прагматычны разлік на зацверджанне ўласнага кандыдата ў Канстанцінопалі, дзе ў той перыяд востра сапернічалі уніяцкія і праваслаўныя духоўныя іерархі. Вырашэнне лёсу "сядзельца" любым афіцыйным спосабам ускладніла б адносіны з Царградам, а асуджэнне мітрапаліта – з Рымам і шэрагам еўрапейскіх краін, якія падтрымлівалі Яўгена IV. Хутчэй за ўсё Ісідор быў негалосна адпушчаны. Рэальнаму ўцекачу з такім важкім тытулам наўрад ці ўдалася б непрыкметна захапіць з сабой нязменнага сябра і спадарожніка Грыгорыя (Балгарына) і грэчаскія рукапісы. Нежаданне ўвязвацца ў міжнародны канфлікт адчуваецца і ў рашэнні цвярскога князя Барыса Аляксандравіча (бясспрэчна са згоды Васіля II) выпусціць перахопленых у Цверы "збегаў " на іх шляху ў Літву. Адносіны Масквы з цвярскім князем палепшыліся ў канцы 30-х – пачатку 40-х гг.[7], а ў пачатку 50-х дачка Барыса Аляксандравіча была прасватана за сына Васіля II.

Летапісы паведамляюць, што Ісідор з Грыгорыем накіраваліся ў заходнебеларускі Навагрaдак для сустрэчы з вялікім князем літоўскім Казімірам IV Ягелончыкам. Мэта магла быць толькі адна – атрымаць ад яго падтрымку ў справе рэалізацыі уніі ў беларускіх і ўкраінскіх епархіях. Ліквідацыя дзяржаўнай уніі з Польшчай у 1440 г., здаецца, спрыяла намерам падарожнікаў. Але 15-цігадовы Казімір IV, малодшы сын Ягайлы і яго жонкі Соф'і Гальшанскай, атрымаўшы вялікакняскі стол пасля

[1] ПСРЛ. Т. 12. Никоновская летопись. М.; Л., 1963. С. 40–41.
[2] *Halecki O.* Od unii florenckiej do unii brzeskiej. T. 1. C. 88.
[3] Там жа.
[4] ПСРЛ. Т. 12. С. 41.
[5] *Halecki O.* Od unii florenckiej do unii brzeskiej. T. 1. S. 88–89; *Зноско К.* Исторический очерк церковной унии. М., 1993. С. 62.
[6] *Chodynicki K.* Kościół prawosławny... S. 51.
[7] *Черепнин Л.* Образование Русского централизованного государства... С. 770.

забойства Жыгімонта Кейстутавіча, знаходзіўся пад моцным уплывам віленскага біскупа Мацея і 2 лютага 1442 г. аб'явіў, што падтрымлівае Базельскі сабор[1]. Папскі кардынал і легат "ад рабра апостальскага" Ісідор быў крэатурай асуджанага ў Базелі Яўгена IV. Малаверагодна, каб у такіх умовах адбылася ў Наваградку сустрэча мітрапаліта з князем і зусім неймаверна, каб яна дала нейкія пазітыўныя вынікі. Рымскі пантыфік са спазненнем даведаўся аб зняволенні Ісідора ў Маскве і ў сваіх пасланнях 1442 г. дарэмна разлічваў на пасрэдніцтва Казіміра і іншых дзяржаўных асоб (трокскага ваяводы Яна Гаштольда ці віленскага – Яна Даўгірда)[2].

Згодна з гіпотэзай Я. Лур'е, рэакцыя маскоўскіх улад на дзейнасць Ісідора ў Маскве, верагодна, не была такой адназначнай. Ён мог спакойна пакінуць Маскву і вывезці з сабой манускрыпты. Звесткі больш позніх летапісаў абвяргаюцца, на яго погляд, маскоўска-цвярскім дагаворам, складзеным пасля вайны з Улуг-Мухамедам у 1439 г. У ім адзначана, што ён заключаны "по благословению отца нашего митрополита Киевского и всея Руси Исидора»[3]. Меркаванне даследчыка заслугоўвае ўвагі, але яго сцверджанне, што мірны дагавор падпісаны пасля вяртання Ісідора з Фларэнцыі, вельмі спрэчнае. Згадванне Ісідора ў дадзеным акце магло быць проста звычайнай дыпламатычнай формулай у перыяд яго адсутнасці ў Маскоўскай Русі[4]. У асяроддзі духоўнай каталіцкай іерархіі ВКЛ галоўным працўнікам уніяцкай дзейнасці Ісідора ў Беларусі быў згаданы віленскі біскуп – Мацей, з інфлянцкіх купцоў, аселых у Вільні. Гэты царкоўны дзеяч і тэолаг у 1408 г. атрымаў ступень магістра ў Карлавым універсітэце ў Празе (пад апекай Яна Гуса), пазней быў рэктарам у Сіене, першым жамойцкім біскупам, з 1422 г. узначаліў віленскую кафедру[5]. Значна пашырыў зямельныя ўладанні Віленскага біскупства ў Беларусі, удзельнічаў у гаспадарскай радзе, у шматлікіх публічных і міжнародных актах першых Ягелонаў, асвячаў шлюб Ягайлы з Соф'яй Гальшанскай, спрыяў каранацыі Вітаўта, некаторы час дапамагаў Свідрыгайлу і мітрапаліту Герасіму ў кантактах з Рымам. У студзені 1436 г. Яўген IV дараваў Мацею поўнае адпушчэнне грахоў на выпадак смерці[6], што не перашкодзіла яму хутка падтрымаць базельскі праект саборнай грэка-каталіцкай уніі.

У канцы верасня 1439 г. удзельнікі "легальнага" Базельскага сабора даслалі біскупу сінадальныя дэкрэты аб звяржэнні рымскага папы, яго намаганнях узаконіць Фларэнтыйскую унію, а таксама просьбу давесці гэта да ведама каталіцкага духавенства, літоўскага і беларускага насельніцтва Віленскай дыяцэзіі[7].

---

[1] *Бучиньский Б.* Студії з історії церковної унії. I. Ісидорова унія // Записки наукового товариства ім. Шевченка (далей – ЗНТШ). 1908. Т. 85, вып. 5. С. 40.
[2] *Marcati G.* Scritti d'Isidore il cardinale Ruteno. Roma, 1926. P. 158.
[3] *Черепнин Л.В.* Договорные и духовные грамоты великих и удельных князей литовских XIV–XVI вв. М.; Л., 1950. № 37.
[4] Аб набегах Улуг-Мухамеда на Русь гл.: *Черепнин Л.В.* Образование Русского централизованного государства... С. 768.
[5] *Ochmański J.* Wileńskie biskupstwo... S. 13–14.
[6] KDKW. N. 142, 144.
[7] Пра адносіны царкоўнай і палітычнай эліты ВКЛ 30–40-х гг. ХУ ст. да спраў уніі гл.: *Fijałek J.* Mistrz Jakób z Paradyża: universytet krakówski w okresie soboru bazylejskiego. T. 1. Kraków, 1900. S. 157–158, 437–439.

На думку некаторых даследчыкаў[1], разыходжанні Ісідора з Мацеем па пытаннях канфесійнай уніі мелі таксама фундаментальныя (тэалагічныя) падставы. Віленскі біскуп лічыў неабходным поўнае захаванне каталіцкіх сакраментаў, тады як ягоны апанент выступаў за прызнанне роўных правоў для грэка-візантыйскіх таінстваў (уключаючы першае з іх – хрышчэнне). Фактычна ў буле Фларэнтыйскай уніі з грэкамі – "Узрадуйцеся нябёсы" (6 ліпеня 1439 г.) згаданая праблема ў такім кантэксце не ставілася, таму Ісідор меў пэўную вольнасць для ўласнага яе трактавання.

Галоўнай царкоўна-канфесійнай і прававой перашкодай для дзейнасці Ісідора ў Беларусі ўсё ж было імкненне віленскага біскупа, падтрыманае значнай часткай літоўскай і польскай знаці (у тым ліку З. Алясніцкім), да захавання прывілеяванага становішча каталіцкай царквы ў ВКЛ, зафіксаванага ў публічных актах вялікіх князёў літоўскіх канца XIV – першай паловы XV ст. Другой – не менш важнай – заставалася прыхільнасць праваслаўнага насельніцтва да сваіх "вячыстых" канфесійных традыцый, што былі здаўна інтэграваны ў паўсядзённае і духоўнае жыццё паспалітага люду Беларусі. 2 лютага 1442 г. Казімір IV[2] адкрыта выказаўся ў падтрымку Базельскага сабора, што перакрэсліла спадзяванні Ісідора на ўзаемадзеянне з вярхоўнай уладай.

Правал уніяцкай дзейнасці Ісідора ў Беларусі вымусіў яго вярнуцца на паўднёва-заходнія землі Украіны ў прыгранічныя рэгіёны ВКЛ і Кароны, дзе яшчэ памяталі яго ранняе пастырства. У пачатку 40-х гг. (Холм, 1442 г.) Ісідор высвяціў холмскага і, магчыма, перамышльскага біскупаў[3], але сустрэўся з процідзеяннем львоўскага архібіскупа, які выконваў абавязкі легата Базельскага сабора і антыпапы Фелікса V[4].

На шляху ў Італію Ісідор не мог прамінуць Буду, дзе 22 сакавіка 1443 г. польскі і венгерскі кароль Уладзіслаў III абнародаваў свой прывілей, які прызначаўся Усходняй царкве, яе іерархіі ("прылажоным") і ўсяму духавенству грэчаскага і рускага набажэнства ў "широкости панств наших и панованью нашему подлеглых". Фактычна – галоўным чынам правінцыям Польшчы, асабліва "землям нашим Руским и Подолским». Незвычайнасць часу выдання прывілея наводзіць на думку, што ён нейкім чынам быў звязаны з планамі крыжовага паходу супраць Порты. Пры ўсёй іх ілюзорнасці і адсутнасці рэальнага ўдзелу з боку большасці еўрапейскіх дзяржаў яны абяцалі вызваліць краіны Балканскага паўвострава, палепшыць становішча Візантыі, Канстанцінопальскай патрыярхіі. Ідэі крыжовага паходу прапагандавалі папскія эмісары, якія наведвалі і суседнія з Венгрыяй краіны: Малдавію, Валахію, Літву (ВКЛ)[5]. Афіцыйная падтрымка царквы ў гэтых умовах магла пазітыўна адбіцца на пазіцыі шэрага краін Балканскага паўвострава, праваслаўных жыхароў прыгранічных і часткова спрэчных зямель Падоліі, Валыні, узняць міжнародны прэстыж Яўгена IV і Уладзіслава III, падарваны пра-

[1] *Ziegler A.* Die Union des Konzils von Florenz in der russischen Kirche. Würzburg, 1938. S. 131.
[2] *Chodynicki K.* Kościół prawosławny... S. 90.
[3] Там жа. S. 91.
[4] Там жа.
[5] *Halecki O.* Od unii florenckiej do unii brzeskiej. T. 1. S. 95.

цяглай саборнай арыентацыяй каталіцкага духавенства Польшчы, ВКЛ і Казіміра IV. Упершыню манарх пераважна каталіцкіх Польшчы і Венгрыі рашуча выказаўся ў падтрымку Фларэнтыйскай уніі. Уладзіслаў прызнаў факт пэўнай нераўнапраўнасці праваслаўя – "за тою разностью и розорваньем неяко утисненье поносили", абвясціў пра наданне царкве адэкватных вольнасцей і ўсякіх свабод, якімі карысталіся і з якіх "весяліліся" ўсе касцёлы і каталіцкае духавенства ў падуладных яму каралеўствах.

З юрыдычнага пункту гледжання ў згаданым публічным акце канкрэтна акрэслены толькі забарона дзяржаўнымураднікам і іншым абывацелям умешвацца ў судовую юрысдыкцыю і царкоўныя звычаі, права праваслаўнага духавенства на валоданне "сёламі і дзяржавамі", а таксама вяртанне незаконна адлучаных зямель[1].

Прывілей Уладзіслава III не змог змяніць дзяржаўнага статуса цэркваў (з-за процідзеяння значных колаў каталіцкай свецкай і духоўнай знаці) , не стварыў рэальнай юрыдычнай базы для адаптацыі царкоўнай уніі, прававой роўнасці канфесій. Ён застаўся прыкметным, але адасобленым юрыдычным сведчаннем эвалюцыі вярхоўнай улады Кароны ў адносінах з рымскім папствам, еўрапейскім саборным рухам, паўднёвымі "рускімі" землямі і не меў непасрэднага працягу. Ускосным чынам ён, верагодна, паўплываў на падпісанне Казімірам Ягелончыкам вялікага агульназемскага прывілея 1447 г., які ўраўноўваў сацыяльныя правы "рускага" (беларускага і ўкраінскага) баярства ВКЛ, князёў і паноў з літоўскай шляхтай і арыстакратыяй. Ён жа аднавіў унію Кароны з ВКЛ[2]. У сярэдзіне 1443 г. Ісідор здаў сваю справаздачу рымскаму пантыфіку ў Сіене[3], а 28 жніўня накіраваўся ў Царград у сувязі са смерцю патрыярха Мітрафана і расколам грэчаскай іерархіі на прыхільнікаў і праціўнікаў Фларэнтыйскай уніі. Мяркуюць, што пасля Грэцыі ён збіраўся вярнуцца на Русь, каб прадоўжыць сваю справу.

Трагічная смерць Уладзіслава ў бітве пад Варнай 11 лістапада 1444 г. і распад польска-венгерскай уніі ўзмацнілі пазіцыі праціўнікаў актыўнага ўдзелу Польшчы і ВКЛ у маштабных антыасманскіх акцыях (якія падтрымліваў Яўген IV). Цяжкае ваенна-палітычнае становішча Грэцыі і зацяжная сумятня, звязаная з рознымі кандыдатамі на пасаду канстанцінопальскага патрыярха, паглыналі ўвагу Ісідора. Толькі ў ліпені 1445 г. візантыйскі цэсар зацвердзіў новага патрыярха уніята – Грыгорыя III Маму.

Не зусім слушным здаецца меркаванне Б. Бучынскага, быццам мітрапаліт у гэты перыяд быў спакойным за справы уніі на Русі. "При вижидаючім становиску Москва, Україна й Біла Русь оставали ся statu quo ante"[4]. Гэтаму супярэчаць намаганні маскоўскіх уладаў пазбавіць Ісідора яго сану і іх пасланні ў Царград. У 1447 г. Польшча афіцыйна прызнала папу Яўгена IV, але ўстрымалася ад удакладнення сваёй ацэнкі Фларэн-

[1] *Флоря Б.Н.* Привилей короля Владислава III православной церкви на территории Польского королевства // Балканские исследования. М., 1997. Вып. 17. С. 32–43.

[2] Прывілей Уладзіслава 1443 г. у пачатку XVI ст. стаў юрыдычнай падставай для чарговых спроб адраджэння уніяцкіх тэндэнцый ў ВКЛ і пэўнай нармалізацыі каталіцка-праваслаўных адносін.

[3] *Halecki O.* Od unii florenckiej do unii brzeskiej. T. 1, S. 100.

[4] *Бучинський Б.* Студії з історії церковної унії... // ЗНТШ. С. 8–9.

тыйскай уніі. Новы польскі манарх Казімір Ягелончык, заняты пераважна кароннымі і заходнімі справамі, быў зацікаўлены ў найхутчэйшай стабілізацыі палітычных і канфесійных адносін у ВКЛ. Нядоўгая вайна з Масквой, саперніцтва з прэтэндэнтам на вялікакняскі трон – палітычную спадчыну свайго бацькі – Міхаілам Жыгімонтавічам, які часова авалодаў Кіевам і Севершчынай, а таксама палітычная фронда сепаратысцкіх колаў ВКЛ, узначаленых згаданым ваяводам Янам Гаштольдам[1], дадаткова ўскладнялі яго планы. У 1449 г.[2] Казімір падпісаў з Васілём II трактат аб згодзе, які забяспечыў Ягелончыку адносны спакой на ўсходзе, і паступова схіліў яго да прызнання поўнай юрысдыкцыі маскоўскага стаўленіка на мітраполію Кіеўскую і ўсяе Русі ва ўсіх падуладных ёй епархіях ВКЛ і Польшчы. Гэтае вырашэнне дылемы – Ісідор ці Іона – было паскорана і доўгай адсутнасцю кананічнага мітрапаліта, "загразлага" ў Канстанцінопалі, на землях ВКЛ, Польшчы, сціплымі вынікамі яго дзейнасці, нежаданнем польскай і літоўскай духоўнай іерархіі на чале з кракаўскім кардыналам Збігневам Алясніцкім і віленскім біскупам Мацеем падзяліцца правамі каталіцкай царквы з уніятамі. Алясніцкі адстойваў непасрэдны пераход да каталіцтва для ўсіх "схізматыкаў". У міжэтнічных умовах ВКЛ рэалізацыя згаданай ідэі прывяла б да страты літоўскай каталіцкай элітай свайго прывілеяванага канфесійнага статуса і ўвогуле была нязбытнай з-за вядомай прыхільнасці паспалітага "рускага" люду да бацькоўскіх традыцый.

31 студзеня 1451 г. у Вільні ад імя Казіміра Ягелончыка Іона быў афіцыйна абвешчаны[3] агульным мітрапалітам Кіеўскім і ўсяе Русі (без правоў на Галіцкую мітраполію), што сведчыла пра рост прэрагатыў свецкай улады ў кананічных царкоўных справах[4]. Няцяжка пераканацца ў гэтым і па складзе асобаў, што падпісалі акт 1451 г. З 12 персон (Гальшанскі памылкова залічаны Бучынскім. – *Г.Г.*) толькі адна належала да духоўнага стану – віленскі біскуп Мацей. Астатнія былі свецкія члены гаспадарскай рады, звязаныя пераважна з рознымі рэгіёнамі ВКЛ: два першыя – уплывовыя ў беларуска-ўкраінскім асяроддзі дынастыі – "стрыйко" наш Свідрыгайла (луцкія землі) і "брат" наш – Аляксандр Уладзіміравіч (Кіеўшчына). Далей падпісаліся: віленскі ваявода Гаштольд, трокскі Іван Манівідавіч, наваградскі Пётр Мантыгірдавіч, ковенскі намеснік пан Судывой, смаленскі намеснік і віленскі кашталян у 1451 г. Сямён Гедыголдавіч, сын полацкага старосты Андрэй Неміровіч, полацкі намеснік Андрэй Саковіч, староста браслаўскі пан Юрша, канцлер Міхайла (Кезгайлавіч)[5]. Подпіс віленскага біскупа, які паслядоўна ў 30–40-х гг. перашкаджаў дзейнасці стаўленіка папы Яўгена IV ў Беларусі, не выклікае здзіўлення. (Дапушчэнні Грушэўскага і Лявіцкага, быццам у аснове прынцыповага процідзеяння уніі з боку лацінскага духавенства ляжалі "нетолеровані католиками ріжні відміні православного обряду", здаюцца значным спрошчаннем – без уліку кансіліатарскіх тэндэнцый і прывілей лацінскага касцёла ў Польшчы і ВКЛ[6].)

---

[1] *Halecki O.* Od unii florenckiej do unii brzeskiej. T. 1. S. 133.

[2] 31 жніўня 1449 г.: *Бучинський Б.* Студії з історії церковної унії... // ЗНТШ. С. 19.

[3] Там жа.

[4] Там жа.

[5] РИБ. Т. 6. № 67; *Бучинський Б.* Студії з історії церковної унії... // ЗНТШ. С. 19.

[6] *Грушевський М.* Історія України-Руси... Т. 5. С. 528.

Звяртае ўвагу подпіс пачынальніка роду князёў Слуцкіх – Аляксандра Уладзіміравіча (Алелькі), які ў 40-х гг. быў у ліку рэальных прэтэндэнтаў на прастол ВКЛ і адным з нямногіх родзічаў Казіміра, што адразу прызналі мітрапаліцкі статус Ісідора без акцэнтацыі яго уніяцкай місіі[1]. У канцы 40-х гг. кіеўскі князь Алелька, талерантны прыхільнік праваслаўных традыцый, зноў спрабаваў высветліць кананічнасць дзейнасці Ісідора і яго юрысдыкцыю і з гэтай нагоды паслаў у Канстанцінопаль свайго "вернага слугу" двараніна Сцецку. Па словах царградскага патрыярха уніята Грыгорыя Мамы, Сцецка "говорил нам и лист принесл до нас, і спрашивал нас о единочестве нашем с латыною на котором деле состалось, гл(агол)емая во всеи русіи многаа разделеніа и несоглашения"[2]. Патрыярх прывёў вядомыя довады наконт ледзь не поўнай тоеснасці галоўных пастулатаў і цырымоній абедзвюх цэркваў: "і свершену чают нашу службу б(о)ж(е)ственую и кр(е)щеніе с(вя)тое..., і не приложили есмь ни уложили всяких дел священых». Нечаканае настаўленне ў канцы паслання Грыгорыя да кіеўскага князя – "не принимать в православие "мітрапалітаў, уладык, некаторых манахаў з "чужых епіскопий" – верагодна, сведчыла пра незадавальненне патрыярха спробамі маскоўскай улады падначаліць свайму мітрапаліту і залежным епіскапам таксама землі Беларусі і Украіны. Бучынскі прапанаваў іншую, даволі спрэчную, версію, звязаную з канкурэнцыяй вышэйшых іерархаў і свецкай улады Польшчы, ВКЛ і Маскоўскай Русі за панаванне над галіцкімі епархіямі.

Амаль адначасова Аляксандр Уладзіміравіч атрымаў пасланне ад маскоўскага мітрапаліта Іоны, узведзенага ў сан 5 снежня 1448 г., які заклікаў князя да захавання адзінства расколатай царквы: "...да совокупится, по-прежнему, святейшаа Кіевьскаа и всея Руси митрополіа воедино»[3]. Іона ўсхваляў Алельку як шчырага "заступника всему православному христіаньству, и тоа державы Литовьскіа земля всем христіаном тутошніим и похвала и поможеніе»[4]. Аляксандр Уладзіміравіч сапраўды быў прыхільнікам праваслаўных традыцый, захаваўся яго запіс у Лаўрышаўскім евангеллі, ды і пахаваны ён у знакамітай Кіева-Пячэрскай лаўры. Улічваў ён і пануючыя настроі праваслаўнага насельніцтва ў сваіх уласных і службовых уладаннях. Варта не забываць, аднак, што ён быў кандыдатам на прастол ВКЛ з боку пэўных колаў беларускай, украінскай і літоўскай эліты і, разлічваючы на яе падтрымку, не мог займаць жорстка акрэсленую канфесійную пазіцыю. Казіміру Алелька быў абавязаны вяртаннем яму Кіеўскага княства, а дынастычныя сувязі з маскоўскім гасударом таксама не прайшлі бясследна[5]. Адказ князю з боку канстанцінопальскага патрыярха уніята Грыгорыя Мамы можна было прадбачыць. Ён усхваляў дзейнасць Ісідора і абяцаў, што ў свой другі прыезд "возлюбленыи брат и сослужебник нашего смирения научит и на-

---

[1] *Грушевський М.* Історія України-Руси... Т. 5. С. 528.

[2] *Попов А.* Историко-литературный обзор полемических сочинений против латинян. (XI–XV вв.) М., 1875. С. 332.

[3] Там жа. С. 334.

[4] Там жа. С. 335.

[5] У 1417 г. шлюб Алелькі з дачкой Васіля Дзмітравіча і Соф'і Вітаўтаўны – кн. Анастасіяй – святкавалі ў ВКЛ цэлы тыдзень. Яго старэйшага сына Сямёна ў 1420 г. хрысціў мітрапаліт Фоцій.

кажет вас о всем словом и делом»[1]. Няма звестак пра тое, ці наведаў Ісідор зноў Беларусь і Украіну, хутчэй – не.

Сталае знаходжанне яго ў Італіі і часовае ў Грэцыі, дзе ён, між іншым, удзельнічаў у абароне Канстанцінопаля ад туркаў у 1453 г., сведчыць, што ён канчаткова пераканаўся ў немагчымасці хуткага зацвярджэння уніі на ўсіх землях Польшчы і ВКЛ. У 1458 г. Ісідор афіцыйна адрокся ад Кіеўскай мітраполіі на карысць свайго сябра Грыгорыя Балгарына і хутка атрымаў ад папы Пія II намінальны сан канстанцінопальскага патрыярха. Канстанцінопальскі патрыярхат пад патранатам Атаманскай Порты вярнуўся да кананічнага ўсходняга праваслаўя. У яго захаванні Порта бачыла пэўную супрацьвагу ваенна-палітычным імкненням Рыма[2] і лацінскіх краін да выцяснення яе з падначаленага арэала паўднёва-ўсходняй Еўропы[3]. У гістарычнай літаратуры даўно пераважае думка, быццам канчатковы падзел мітраполіі Кіеўскай і ўсяе Русі адбыўся ў 1448 г. Гэтае небеспадстаўнае сцверджанне патрабуе пэўнай карэкцыі. З кананічнага пункту гледжання, такія рашэнні магла прымаць толькі вышэйшая царкоўная ўлада, якая традыцыйна належала канстанцінопальскаму патрыярхату. У 40–50-х гг. XV ст. пасаду канстанцінопальскага патрыярха займалі як прыхільнікі Фларэнтыйскай уніі, так і яе праціўнікі. Неадназначнай была таксама пазіцыя розных візантыйскіх цэсараў. Прауніяцкія колы Грэцыі разам з папам Яўгенам IV прызналі Ісідора мітрапалітам усяе Русі ўжо ў 1439 г., а афіцыйна ў самім Царградзе унія была святочна абвешчана пазней. Па ўмовах Фларэнтыйскай уніі вярхоўным главой уніяцкай царквы прызнаваўся ўжо рымскі папа. 3 верасня 1458 г. новы рымскі пантыфік Пій II падзяліў мітраполію на дзве часткі, надаўшы заходнія епархіі канстанцінопальскаму манаху, даўняму сябру і спадарожніку Ісідора Грыгорыю (Балгарыну). Паўночна-ўсходнія епархіі фармальна засталіся за Ісідорам[4], які хутка адмовіўся ад сваіх паўнамоцтваў, атрымаў намінальны сан патрыярха Канстанцінопальскага і перадаў іх Грыгорыю[5]. Суправаджаць новага мітрапаліта ў Кіеў і Маскву ўзяўся прызначаны папам рыцар і граф Латэранскага Палаца Мікалай Загупіці (Якуб, Ягупіці (?)[6]. Грыгорый не змог наведаць Маскву. Адмовіліся яго прыняць таксама нярэдка франдуючыя перад Масквой епіскапы Вялікага Ноўгарада і Пскова[7]. У пасланнях Грыгорыя Мамы і Ісідора пачатку 1459 г. падуладныя кіеўскія і маскоўскія епархіі згадваюцца ўжо адасобленa[8].

Неўзабаве пасля ўзвядзення ў 1447 г. вялікага літоўскага князя Казіміра на польскі каралеўскі прастол і аднаўлення палітычнай уніі ён адмовіўся ад падтрымкі "базельскага" папы Мікалая V. Не без ваганняў да яго далучыліся Збігнеў Алясніцкі, якому абяцалі ў Рыме (і Базелі) чырвоны кардынальскі плашч[9], віленскі біскуп Мацей і іншыя вядомыя асо-

[1] *Попов А.* Историко-литературный обзор полемических сочинений... С. 333.
[2] Падрабязней гл.: *Греков И.Б.* Восточная Европа и упадок Золотой Орды (на рубеже XIV–XV вв.). М. 1973.
[3] Там жа.
[4] *Mončak I.* Florentine ecumenism... P. 197.
[5] Там жа. С. 198.
[6] *Halecki O.* Od unii florenckiej do unii brzeskiej. T. 1. S. 122.
[7] *Mončak I.* Florentine ecumenism... P.198.
[8] Там жа. P. 198.
[9] *Mončak I.* Florentine ecumenism... P. 195, спас. 161.

бы. Мірны дагавор з Масквой, апрабацыя вярхоўнай уладай ВКЛ юрысдыкцыі Іоны, іншыя, у тым ліку венгерскія, справы і пэўныя разыходжанні з рымскім папам (асабліва па праблемах узаемадзеяння в еўрапейскай антыасманскай лігай), нарэшце катастрафічнае падзенне Канстанцінопаля ў 1453 г. адсунулі пытанне аб грэка-каталіцкай уніі на другі план. Сітуацыя змянілася пазней, калі ўлады змаглі пераканацца ў тым, што Іона з'яўляецца непахісным абаронцам маскоўскіх свецкіх і царкоўных інтарэсаў на землях ВКЛ, да таго ж прэтэндуе на падначаленне галіцкіх і валынскіх епархій і зманьвае епіскапаў. Кансекраваны (рукапаложаны) Ісідарам уладзімірска-берасцейскі епіскап Даніла[1] ў 1451 г. перабраўся ў Маскву і склаў там сваю спавядальную грамату, у якой абяцаў падпарадкавацца толькі свайму ўладыку праасвяшчэннаму мітрапаліту Кіеўскаму і ўсяе Русі Іоне, прытрымлівацца ўстаноў сямі ўсяленскіх сабораў (адмятаючы папскі і Ісідараў восьмы), выкрываў Фларэнтыйскую унію, уніятаў армян, лацiннікаў[2].

У красавіку 1460 г. Грыгорый Балгарын быў афіцыйна прызнаны Казімірам і шляхтай ВКЛ і Польшчы на з'ездзе ў Берасці як легальны кіеўскі мітрапаліт, юрысдыкцыя якога распаўсюджвалася і на паўднёва-ўсходнія польскія епархіі[3].

Працэс аддзялення Кіеўскай мітраполіі ад усходняй заняў фактычна каля 40 гадоў (пасля вымушанага ад'езду Ісідора з Масквы ў 1441 г.), а па рымскім царкоўным праве (спачатку толькі ў форме тэрытарыяльнага падзелу на дзве часткі) – ён быў карацейшы і вызначаны галоўным чынам булай папы ў верасні 1458 г.[4] Прызнанне легальнага статуса асобнага мітрапаліта ў Берасці хутка пасля санкцыі папы не было кананічна неабходным, хоць забяспечвала уніяцкаму іерарху дадатковую прававую прастору і падтрымку ўлады.

Мітрапаліт Іона ўпершыню быў абраны ў парушэнне рускіх даўніх царкоўных традыцый саборам епіскапаў без санкцыі Канстанцінопаля ў 1448 г., зацверджаны другім маскоўскім саборам у канцы 1449 г. пры адсутнасці наўгародскага і цвярскога ўладыкаў[5]. Вялікі маскоўскі князь і мітрапаліт Іона тлумачылі гэты адыход ад традыцыі спасылкамі на першае апостальскае правіла і схолію ў Кормчыі, што дазваляла абранне мітрапаліта ў выпадку вялікай патрэбы саборам епіскапаў. Успомнім, што кананічныя аргументы і спасылкі на прыклады іншых славянскіх краін выкарыстоўваліся ў ВКЛ пры абранні Цамблака[6]. Маскоўскія ўлады не пажадалі папулярызаваць свайго непасрэднага папярэдніка.

Зацвярджэнне Іоны на маскоўскім саборы заклала асновы маскоўскай аўтакефаліі (пэўнай царкоўнай самастойнасці)[7], што адбілася на некаторых, праўда, нязначных, зменах ў тытулатуры. Развіццё мас-

---

[1] *Гудзяк Б.* Криза і реформа... С. 61–62; Русский феодальный архив. Т. 3, № 36. С. 685–688.
[2] Русский феодальный архив. Т. 3. С. 686–687.
[3] *Качан Н.І.* Флорентійська унія і Київська митрополія: до характеристики розвитку та втілення ідеї унії // УІЖ. 1996. № 1(406). С. 39–40.
[4] Па меркаванні А. Плігузава, праект, верагодна, быў распрацаваны Ісідарам і Вісарыёнам Нікейскім // Русский феодальный архив. Т. 4. М., 1988. С. 895.
[5] *Mončak I.* Florentine ecumenism... P. 199.
[6] Русский феодальный архив. Т. 4. С. 914–915.
[7] *Гудзяк С.* Криза і реформа... С. 62.

коўскай аўтакефаліі было некалькі замаруджана афіцыйнымі спробамі захаваць пэўныя сувязі з грэчаскімі іерархамі ў Царградзе[1] і часовым пашырэннем юрысдыкцыі Іоны на епархіі ВКЛ. Пасля смерці Іоны ў 1461 г. яго пераемнік Феадосій стаў больш паслядоўна называць сябе маскоўскім мітрапалітам[2]. Падзел мітраполій набыў незваротны характар.

Такім чынам, можна падвесці некаторыя вынікі.

Царкоўна-канфесійная палітыка свецкай улады і духоўнай іерархіі ў XIII – сярэдзіне XV ст. у ВКЛ і Маскоўскай Русі развівалася ў двух асноўных і ўзаемазвязаных напрамках: фарміраванне і стабілізацыя царкоўнай арганізацыі ў арэалах свайго палітычнага панавання і спробы падначалення ўсёй ці значнай часткі мітраполіі Кіеўскай і ўсяе Русі. (Царкоўна-канфесійная палітыка Галіцка-Валынскай Русі, Польшчы, Цвярскога і іншых рускіх княстваў адлюстроўвала, за рэдкімі выключэннямі, іх лакальныя і тэрытарыяльныя інтарэсы і не прэтэндавала на ўзровень усёй Кіеўскай мітраполіі.)

Пазіцыі Масквы ў перыяды існавання агульнай мітраполіі Кіеўскай і ўсяе Русі ў канфесійным плане былі больш моцнымі, чым ВКЛ, што тлумачыцца асаблівасцямі дзяржаўна-палітычнага ладу, пераважна монаэтнічным і монарэлігійным складам насельніцтва і сімбіёзам праваслаў'я з манархічнай уладай пры палітычным вяршэнстве апошняй. Пэўныя магчымасці для развіцця праваслаўнай царквы ў Маскоўскай Русі давала талерантная царкоўная палітыка Залатой Арды, якая выкарыстоўвала яе як дадатковы сродак палітычнага ўздзеяння на насельніцтва і праваслаўных князёў Паўночна-Усходняй, Паўночна-Заходняй і часткова Паўднёва-Усходняй Русі. Гэты фактар непасрэдна не ўплываў на ўнутраную канфесійную палітыку вярхоўнай улады ВКЛ.

Улічваючы ўсё гэта, маскоўскія ўлады разам з вышэйшай духоўнай іерархіяй паслядоўна стаялі за захаванне цэласнасці ўсёй кананічнай тэрыторыі мітраполіі Кіеўскай і ўсяе Русі, а пэўныя значныя спробы яе падзелу зыходзілі з ВКЛ. З другой паловы XIV ст. з узмацненнем абодвух дзяржаўных утварэнняў і адпаведна саперніцтвам паміж імі за прамежкавыя княствы і рэгіёны Русі пачасціліся і спробы ўтварэння ўласнай мітраполіі ў ВКЛ. Каталіцкае хрышчэнне Літвы і персанальная унія з Польшчай прывялі да стварэння прывілеяванай каталіцкай царквы, ускладнення ўнутраных этнаканфесійных і сацыяльных адносін і спробаў вырашэння гэтых праблем шляхам царкоўна-канфесійнай уніі з лацінскай Еўропай, а таксама да перыядычнага ўзрастання тэндэнцый да ўтварэння асобнай праваслаўнай мітраполіі з захаваннем традыцыйнай яе назвы.

Асноўныя канфесійныя падставы падзелу Кіеўскай мітраполіі ўсяе Русі на дзве незалежныя правінцыі – Кіеўскую і Маскоўскую – былі закладзены Ферара-Фларэнтыйскай уніяй 1439 г., апазіцыйнымі акцыямі маскоўскіх свецкіх і духоўных уладаў, а таксама часткі канстанцінопальскага патрыярхату. Прычыны гэтага падзелу для ВКЛ караніліліся

[1] Русский феодальный архив. Т. 4. С. 915 (зварот да Канстанцінопальскага сабора з боку вялікага маскоўскага князя ў 1451 г.).

[2] *Mončak I.* Florentine ecumenism... P. 183.

не столькі ў заняпадзе Візантыйскай імперыі, асманскай экспансіі ці крызісе грэчаскай царквы, а ў значнай пераарыентацыі знешнепалітычных, у меншай ступені гандлёвых і духоўных інтарэсаў пануючых колаў ВКЛ і дынастыі на Захад у пэўнай яго палітычнай канфігурацыі, але з манапольнай канфесійнай структурай. Уздзейнічалі на гэтую эвалюцыю розныя фактары, у тым ліку нарастаючае саперніцтва з ВКМ за панаванне над землямі Русі, уціск Ордэна на паўночна-заходніх межах, катастрафічны заняпад Візантыйскай імперыі і канстанцінопальскага патрыярхату, якія самі ўсё больш спадзяваліся на ваенна-палітычную дапамогу заходняй кааліцыі супраць Турцыі, што не спраўдзілася. Але былі і іншыя знешнепалітычныя імпульсы, якія нярэдка абмінаюць пры асвятленні царкоўнай гісторыі ВКЛ.

Палітыка вялікіх князёў літоўскіх (асабліва ў канцы XIV – першай палове XV ст.) улічвала палітычныя і царкоўныя ўплывы каталіцкай царквы ў Еўропе, яе незвычайны статус і прывілеі, якія прызнаваліся Захадам (пры ўсіх унутраных катаклізмах, саборнай схізме, разыходжаннях у знешняй палітыцы вядучых еўрапейскіх дынастый), высокі ўзровень цэнтралізацыі.

Развіццё аўтакефальных тэндэнцый у Маскоўскай Русі было ў значнай ступені абумоўлена зацікаўленасцю пануючых колаў у супрацьдзеянні кантынентальным палітычным і царкоўным інтарэсам Рыма, Польшчы, ВКЛ, крызісам грэчаскага праваслаўя і ў канчатковым выніку вяло да выразнага адмежавання Масквы ад удзелу ў шэрагу рэлігійна-культурных працэсаў Заходняй і Цэнтральнай Еўропы і залежнага ад турак канстанцінопальскага патрыярхату. Праваслаўе ў значнай ступені захоўвала свае пазіцыі ў ВКЛ, асабліва ў Кіеўскай зямлі, аднак у цэлым тут развіваліся іншыя тэндэнцыі і адчуваліся павевы, абумоўленыя падзелам Кіеўскай мітраполіі, пашырэннем кантактаў з Польшчай і Захадам і ўздзеяннем асабліва прывілеяванай у ВКЛ каталіцкай царквы.

# РАЗДЗЕЛ 2

# СТАНАЎЛЕННЕ І РАЗВІЦЦЁ САСЛОЎНА-ПРАДСТАЎНІЧАЙ МАНАРХІІ

## ГЛАВА 1

## УСТАЛЯВАННЕ ФАЛЬВАРАЧНА-ПАНШЧЫННАЙ СІСТЭМЫ Ў БЕЛАРУСІ

### 1. Умацаванне зямельнай уласнасці феадалаў

**Дзяржава —найбуйнейшы ўласнік зямлі.** У XV–XVI ст. у Беларусі працягвалася развіццё зямельнай уласнасці – эканамічнай асновы палітычнага панавання феадалаў, а такама фарміраванне прывілеяваных саслоўяў гэтага класа. Істотным фактарам дадзеных працэсаў была дзяржава. Яна ў асобе вялікага князя літоўскага, або гаспадара ("господаря") у сэнсе манарха, з'яўлялася не толькі вярхоўнай уласніцай усёй тэрыторыі дзяржавы, але і непасрэдна уласніцай шматлікіх так званых гаспадарскіх уладанняў, або валасцей ("волостей").

Фонд дзяржаўных, або гаспадарскіх, уладанняў фарміраваўся рознымі шляхамі[1]. У перыяд актыўнай тэрытарыяльнай экспансіі Літоўскай дзяржавы ў рукі вялікага князя перайшлі ўладанні тых мясцовых князёў Рурыкавічаў і іх васалаў, якія не падпарадкаваліся яго ўладзе ці па іншых прычынах зніклі з палітычнай арэны. У далейшым гэты фонд пашыраўся за кошт канфіскаваных, падараваных, завешчаных і вымарачных ("спадковых") маёнткаў. Так, каля 1500 г. пасля ўцёкаў князя С.І. Бельскага ў Рускую дзяржаву быў канфіскаваны яго маёнтак Смаляны (Аршанскі павет)[2]. У 1542 г. уласнасцю Жыгімонта сталі ўсе маёнткі

[1] *Любавский М.К.* Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского Статута. М., 1893. С. 304–312, 581–585; *Довнар-Запольский М.В.* Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Т. 1. Киев, 1901. С. 7–83, 135–143.

[2] Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею (далей – АЗР). Т. 2. 1506–1544. СПб., 1848. № 118. Тут і далей даюцца пераважна гістарычныя назвы населеных пунктаў, г.зн. так, як яны звычайна называюцца ў адпаведных крыніцах XV–XVI ст., але ў беларускай транскрыпцыі. Аднак тады, калі яны істотна адрозніваюцца ад сучасных, у дужках і двукоссі прыводзяцца іх гістарычныя назвы на "рускай" мове – асноўнай мове крыніц XV–XVI ст., а таксама сучасныя па слоўніках Я. Рапановіча: Слоўнік назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці. Мн., 1977; Слоўнік назваў населеных пунктаў Брэсцкай вобласці. Мн.,1980; Слоўнік назваў населеных пунктаў Мінскай вобласці. Мн., 1981; Слоўнік назваў населеных пунктаў Магілёўскай вобласці. Мн., 1983; Слоўнік назваў населеных пунктаў Гомельскай вобласці. Мн., 1986. Адміністрацыйна-тэрытарыяльная (пераважна павятовая) прыналежнасць населеных пунктаў ВКЛ тут і далей вызначаецца па стане пасля адпаведнай рэформы 1565 г.

вымерлага роду паноў Гаштольтаў, у тым ліку ў Беларусі Быхаў (Аршанскі павет), Валожын (Ашменскі), Геранёны (Ашменскі), Глуск (Наваградскі), Парэчча (Менскі), Радашковічы (Менскі), Трабы (Ашменскі) і інш.[1] Такім шляхам у складзе гаспадарскіх уладанняў апынулася шмат гарадоў, мястэчак і вёсак ("сёл") Беларусі, як і іншых частак ВКЛ[2]. Такім чынам, значная частка даходаў, якімі распараджаўся вялікі князь літоўскі, ішла з Беларусі.

Аднак у выніку шматлікіх падараванняў[3] зямель з сялянамі васалам за адданую службу, а таксама каталіцкай царкве фонд гаспадарскіх уладанняў да сярэдзіны XVI ст. істотна скараціўся: з 80% па колькасці падданых у канцы XIV ст. да 30% у 1528 г.[4]



Кароль польскі
і вялікі князь літоўскі
Жыгімонт II Аўгуст.
Гравюра XVI ст.

Прыкладна да сярэдзіны XVI ст. дакладнага падзелу гаспадарскіх уладанняў на асабістыя вялікага князя і дзяржаўныя не было. Яны выконвалі функцыю дзяржаўнай уласнасці: даходы з іх ішлі як на ўтрыманне манарха і яго двара, так і на пакрыццё дзяржаўных расходаў[5]. Аднак неабходнасць матэрыяльнага забеспячэння магчымых нашчадкаў, якія не будуць абраны на вялікакняскі прастол ("стол"), прымусіла апошніх прадстаўнікоў дынастыі Ягелонаў энергічна ўзяцца за стварэнне ўласнага дамена. У выніку ўтварыўся значны фонд асабістай зямельнай уласнасці апошняга Ягелона Жыгімонта Аўгуста. У складзе яго толькі ў Беларусі апынуліся: у Ашменскім павеце – маёнткі Геранёны, Куранец і Трабы, у Берасцейскім – Кобрын і Шарашова, у Ваўкавыскім – Лыскава, Межырэч, Мсцібагаў і Палонка, у Гародзенскім – Гародна, Дубна, Ожа і Перстунь, у Лідскім – Васілішкі, Ішчална і Новы Двор, у Менскім – Радашковічы, у Наваградскім – Ляхавічы, у Рэчыцкім – Рагочоў, а таксама многія іншыя. Большасць з гэтых маёнткаў дасталася

---

[1] *Любавский М.К.* Литовско-руский сейм: Опыт по истории учреждения в связи с внутренним строем и внешнею жизнью государства. М., 1901. С. 547; *Довнар-Запольский М.В.* Государственное хозяйство... Т. 1. С. 143.

[2] Русская историческая библиотека (далей – РИБ). Т.30. Литовская метрика. Отд. 1–2. Ч. 3. Книги публичных дел. Т.1. Юрьев, 1914. С. 562–565.

[3] Так у адрозненне ад дароў прыватных асоб аўтар абазначае ўзнагароджанне вялікімі князямі літоўскімі як суверэнамі дзяржавы феадалаў – васалаў землямі з сялянамі ў часовае ўладанне або ва ўласнасць за адданую ваенную і іншую службу.

[4] *Ochmański J.* Struktura feudalnej własności ziemskiej na Podlasiu w XVI w. // Akta Baltico-Slavica (далей – ABS). 1964. T. 1. S. 162; *Ён жа.* Historia Litwy. Wyd. 3, popr. i uzupeln. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1990. S. 101.

[5] *Любавский М.К.* Литовско-русский сейм... С. 396–398; *Ён жа.* Разбор сочинения М. Довнар-Запольского «Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах». СПб., 1904. С. 37–46, 49, 50; *Ён жа.* Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. 2-е изд. М., 1915. С. 95, 154; *Довнар-Запольский М.В.* Государственное хозяйство... С. 136–137, 148, 150–161; *Похилевич Д.Л.* Право крестьян Белоруссии, Литвы и Украины на землю и выход в XV–XVI вв. // Вопросы истории. 1973. № 12. С. 52.

Жыгімонту Аўгусту ў спадчыну ад маці Боны, якая набыла іх рознымі шляхамі, але пераважна ў якасці пажалаванняў яе мужа караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгмунта[1].

За год да смерці, у 1571 г., Жыгімонт Аўгуст, які не меў сваіх дзяцей, завяшчаў уласныя маёнткі тром сваім сёстрам, а пасля іх смерці – Рэчы Паспалітай[2].

Канчатковае мэтавае выдзяленне са складу дзяржаўных уладанняў так званых сталовых ("сталовых") для забеспячэння даходамі прастола адбылося на каранацыйным сейме ў 1588 г. у Кракаве. Сталовымі ўладаннямі сталі Берасцейскае і Гародзенскае староствы, Камянецкая, Кобрынская, Магілёўская, Аліцкая і Шавельская дзяржавы са шматлікімі фальваркамі[3]. Пазней сталовыя маёнткі звычайна называліся "эканоміямі".

**Землеўладанне феадалаў.** Вялікі князь літоўскі ўзначальваў іерархічную піраміду сваіх васалаў – свецкіх і духоўных феадалаў. Свецкімі феадаламі з'яўляліся воіны, або рыцары. Спачатку яны называліся баярамі, а з канца XIV ст. пад уздзеяннем польскага шляхецкага права – таксама шляхціцамі і зямянамі. Патомкі "рускіх" і літоўскіх княжацкіх родаў звычайна захоўвалі тытул "князь". Тыя ж шляхціцы, якія займалі высокія пасады ў дзяржаўных органах улады, кіравання і суда і мелі сваіх васалаў, сталі карыстацца польскім тытулам "пан", які перадаваўся ў спадчыну. Пазней, з сярэдзіны XVI ст. гэты тытул звычайна абазначаў усіх шляхціцаў, якія мелі прыгонных сялян.

Духоўнымі феадаламі па паходжанні і статусе з'яўляліся іерархі шматлікіх і разнастайных устаноў праваслаўнай, каталіцкай і іншых цэркваў. Самі такія ўстановы былі карпаратыўнымі духоўнымі феадаламі.

Па сваім месцы ў іерархіі свецкіх феадалаў адрозніваліся феадалы – васалы непасрэдна вялікага князя і феадалы – васалы іншых сеньёраў (князёў і паноў)[4].

У поліэтнічнай дзяржаве пануючы клас складаўся з розных па этнічным паходжанні і рэлігійнай прыналежнасці груп. Сярод яго былі літоўскія і "рускія" феадалы, а таксама татары, палякі, "москвичи" і іншыя былыя "чужоземцы", г.зн. выхадцы з іншых краін, якія рознымі шляхамі натуралізаваліся ў ВКЛ[5]. Звычайна літоўскія і польскія феадалы вызнавалі каталіцызм, "рускія" – праваслаўе, татарскія – іслам.

---

[1] Беларускі архіў (далей – БА). Т. 1. Мн., 1927. № 1; Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при Управлении Виленского учебного округа (далей – АСД). Т. 3. Вильна, 1867. № 10; *Довнар-Запольский М.В.* Государственное хозяйство... С. 150–154.

[2] *Baliński M.* Historia miasta Wilno, 1837. Dodatki. № 8; Volumina legum (далей – VL). Т. 2. Pb., 1860. S. 29.

[3] Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею (далей – АВК). Т. 7. Вильна, 1874. № 23; Т. 8. Вильна, 1875. № 122.

[4] *Любавский М.К.* Очерк истории Русско-Литовского государства... С. 15–16, 37–41, 46–71, 77–81, 95, 122–127 і інш.

[5] *Мухлинский А.* Исследование о происхождении литовских татар. СПб., 1857. С. 5 і інш; *Любавский М.К.* Областное деление... С. 117–121, 529–531; *Ён жа.* Очерк истории Русско-Литовского государства... С. 291–294, 297, 300, 311; *Wolff J.* Kniaziowie litewsko-rusky od końca XIV w. Warszawa, 1895. S. 635–646; *Довнар-Запольский М.В.* Государственное хозяйство... Т. 1. С. 241–243, 646; *Леонтович Ф.И.* Правоспособность литовско-русской шляхты // Журнал Министерства народного просвещения (далей – ЖМНП). 1908. № 6. С. 296–297; *Dąbkowski P.* Stanowisko cudzoziemców w prawie litewskiem w drugiej połowie XV i XVI w. (1447–1588). Lwów, 1912. S. 3–78.

Мяркуючы па прыблізных падліках, асноўная маса феадалаў, што мела маёнткі ў Беларусі, была мясцовага паходжання[1].

У сярэдзінне XVI ст. у Беларусі феадалаў было прыблізна 162 тыс. чалавек, г.зн. 9% усяго яе насельніцтва ( каля 1,8 млн чалавек), альбо 46% усіх феадалаў ВКЛ (прыкладна 350 тыс. чалавек)[2].

Сацыяльны статус феадала ў ВКЛ вызначаўся не столькі паходжаннем і вызнаннем, колькі велічынёй зямельнай уласнасці. Прыблізна яе можна падлічыць на падставе даных перапісаў войска ВКЛ 1528 і 1567 гг. аб колькасці "коней", г.зн. конных воінаў, якія выстаўляліся кожным феадалам прапарцыянальна колькасці сялянскіх "служб", г.зн. адзінак абкладання павіннасцямі, што належалі ім. У 1528 г. адзін конь выстаўляўся з васьмі служб, а ў 1567 г. – з дзесяці служб ці з дзесяці валок. Пры гэтым служба прыраўноўвалася да двух сялянскіх "дымоў" (гаспадарак)[3].

На падставе адпаведных даных усіх феадалаў можна згрупаваць у пяць умоўных сацыяльных катэгорый: 1) найдрабнейшыя (1 конь); 2) дробныя (2–10); 3) сярэднія (11–50); 4) буйныя (51–100); 5) найбуйнейшыя, або магнаты (больш за 100 коней) (табл.3).

*Табл. 3.* Сацыяльныя катэгорыі феадалаў па велічыні зямельнай уласнасці

| Катэгорыі феадалаў | Колькасць коней | Велічыня маёнткаў | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | 1528 г. | | 1567 г. | |
| | | у службах | у дымах | у службах | у дымах |
| Найдрабнейшыя | 1 | 0–15 | 0–31 | 0–19 | 0–39 |
| Дробныя | 2–10 | 16–87 | 32–175 | 20–109 | 40–219 |
| Сярэднія | 11–50 | 88–407 | 176–815 | 110–509 | 220–1019 |
| Буйныя | 51–100 | 408–807 | 816–1615 | 510–1009 | 1020–2019 |
| Найбуйнейшыя (магнаты) | Больш за 100 | Больш за 807 | Больш за 1615 | Больш за 1009 | Больш за 2019 |

10 178 феадалаў, што фігуруюць у перапісе войска ВКЛ 1528 г., выстаўлялі 19 858 коней[4]. У сярэднім на аднаго феадала прыходзілася каля 1,9 каня. Гэта азначае, што большую частку ў ВКЛ па велічыні сваёй зямельнай уласнасці складалі найдрабнейшыя або дробныя феадалы. 2562 шляхціцы тых паветаў, што цалкам ці часткова былі размешчаны ў Беларусі, выстаўлялі 3873 кані, г.зн. па 1,5 каня.

[1] *Грицкевич А.П.* Распределение магнатских и шляхетских владений в Белоруссии по их величине и этнической принадлежности владельцев (XVI в.) // Вопросы истории: межвед. сб. Мн., 1978. С. 101–104.

[2] Падлічана па: Гісторыя Беларускай ССР: У 5 т. Т. 1. Мн., 1972. С. 195.

[3] Документы Московского архива Министерства юстиции (далей – ДМАМЮ) / Сост. М.В. Довнар-Запольский. Т. 1. М., 1897. С. 507; РИБ. Т. 33. Литовская метрика. Отд. 1. Ч. 3. Книги публичных дел. Т. 1. Переписи войска литовского. Пг., 1915. С. 7; АЗР. Т. 2. № 161; РИБ. Т. 30. С. 410–412.

[4] *Менжинский В.С.* Структура феодального землевладения в Великом княжестве Литовском (По материалам Переписи войска 1528 г.) // История СССР. 1987. № 3. С. 168 і інш.

Частка найдрабнейшай шляхты не мела ні зямлі, ні сялян і ў адрозненне ад заможных яе прадстаўнікоў лічылася "голотой"[1], г.зн. не з'яўлялася феадаламі ў дакладнам сэнсе гэтага паняцця. Такія шляхціцы неслі ваенную службу асабіста, а іншы раз – па чарзе.

Магнаты складалі нешматлікую, але вядучую ў палітычным жыцці ВКЛ групу феадалаў. У 1528 г. 14 магнатаў выстаўлялі ў войска ВКЛ 3892 кані, г.зн. па 278 коней; а ў 1567 г. адпаведна 16, 4401 і 275 (табл. 4). Большасць асоб гэтай сацыяльнай катэгорыі феадалаў з'яўляліся прадстаўнікамі літоўскай каталіцкай знаці. Рознымі шляхамі, асабліва ў выніку вялікакняскіх падараванняў, яна сканцэнтравала ў сваіх руках значную частку фонду шляхецкай зямельнай уласнасці. Яе радавыя невялікія маёнткі былі размешчаны на этнічнай літоўскай тэрыторыі, але пераважная колькасць набытых ёю іншых маёнткаў, звычайна латыфундый, знаходзілася ў Беларусі, асабліва ў яе заходняй і цэнтральнай частках[2].

*Табл. 4.* Магнаты, якія выстаўлялі ў войска ВКЛ больш за сто ўзброеных коннікаў (па даных перапісаў войска ВКЛ 1528 і 1567 гг.[3])

| Магнат | Колькасць коннікаў | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 1528 г. | | 1567 г. | |
| | "с повиности" | іншыя | "с повинности" | "на ласку" |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| Астрожскага І.К. – Б.А. Касцянецкая, княгіня, жонка О. Ласкага | – | – | 203 | – |
| Астрожскі К.І., князь | 426 | – | – | – |
| Астрожскі К.К., князь | – | – | 200 | – |
| Вішнявецкі А.І., князь | – | – | 122 | – |
| Валовіч А.Б. | – | – | 107 | 100 |
| Гальшанскі П.А., князь | 122 | – | – | – |
| Гаштаўт А.М. | 466 | – | – | – |
| Глябовіч Я.Ю. | 148 | 88 | – | – |
| Забярэзінскі Я.Я. | 197 | – | – | – |
| Збаражскі С.А. | – | – | 173 | – |
| Ільініч Ю.Шч. | – | – | 142 | – |
| Кезгайла М.М. | 151 | – | – | – |
| Кезгайла С.С. | 371 | 246 | – | – |

[1] Метрыка (Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389. "Литовская метрика"). Воп. 1, а.з. 247, а. 448–448 адв., 578–578 адв., 801–803; АВК. Т. 28. Вильна, 1901. № 66.
[2] *Спиридонов М.Ф.* Закрепощение крестьянства Беларуси (XV–XVI вв.). Мн., 1993. С. 42–45.
[3] Падлічана па: РИБ. Т. 33. С. 8, 9, 15, 17, 431–433, 440–445, 450–453, 469–471, 504–505.

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| Кішка М.П. | – | – | 170 | 230 |
| Кішка П.С. | 224 | – | – | – |
| Кішчыная С.П. – Радзівілаўна Г.Я. | – | – | 407 | – |
| Мікіцініч Я.М., князь | – | – | 170 | – |
| Осцікавіч Г.Г. | 117 | – | – | – |
| Осцікавіч Ю.Ю. | 131 | – | – | – |
| Радзівіл (Сіротка) М.К.М. | – | – | 539 | – |
| Радзівіловіч М.М. – Сакавічоўна А.Б. | 260 | – | – | – |
| Радзівіл (Руды) М.Ю. | – | – | 400 | – |
| Радзівіловіч Ю.М. | 321 | – | – | – |
| Сапега П.І. | – | – | 120 | – |
| Слуцкі Алелькавіч Ю.С., князь | 433 | – | – | – |
| Слуцкі Ю.Ю., князь | – | – | 478 | – |
| Хадкевіч А.І. | 191 | – | – | – |
| Хадкевіч Г.А. | – | – | 200 | 100 |
| Хадкевіч Ю.А. | – | – | 122 | 58 |
| Хадкевіч Я.Г. | – | – | 360 | – |
| Усяго | 3558 | 334 | 3913 | 488 |

Поруч з феадаламі-васаламі непасрэдна вялікага князя літоўскага значную частку шляхты ВКЛ складалі васалы тых феадалаў, якія абавязаны былі выстаўляць у войска больш за аднаго ўзброенага конніка. Яны атрымлівалі ад сваіх сеньёраў маёнткі і абавязаны былі несці з іх ваенную службу ў складзе іх атрадаў ("почтов"). Вотчынную шляхту можна лічыць шляхтай другога рангу. Напрыклад, у 1523 г. князь А.П. Гальшанскі пацвердзіў навечна свайму гальшанскаму баярыну-васалу В.Ю. Міхалоўскаму свой ранейшы дар людзей з землямі і абавязаў яго з вотчыны ("отчизны") і выслугі "служить баярскую службу конно и збройно". Пасля сваёй смерці князь дазваляў баярыну служыць з гэтага маёнтка таму сеньёру-пану, якому ён сам пажадае. У 1555 г. гэты дар князя Міхалоўскаму пацвердзіў Жыгімонт Аўгуст, васалам яго стаў баярын[1].

Колькасць васалаў у розных сеньёраў вызначалася галоўным чынам агульнай велічынёй іх зямельнай уласнасці.

[1] *Любавский М.К.* Областное деление... С. 614–624; *Леонтович Ф.И.* Крестьянский двор в Литовско-Русском государстве. Вып. 1. Варшава, 1897. С. 253–257; *Ён жа.* Правоспособность литовско-русской шляхты // ЖМНП. 1909. № 2. С. 265–267; *Wawrzyńczyk A.* Rozwój wielkiej własności na Podlasiu w XV i XVI w. Wrocław, 1951. S. 284–288; Метрыка. А.з. 39, а. 98–100.

Сацыяльны статус вотчыннай шляхты быў ніжэйшы, чым павятовай. Таму яна імкнулася пазбавіцца ад вотчыннай юрысдыкцыі сваіх сеньёраў шляхам законнага пераходу ў склад павятовай шляхты, г.зн. непасрэдных васалаў вялікага князя. У прыватнасці, у другой палове XVI ст. частцы шляхты спадкавых маёнткаў, што ўжо сталі ўласнасцю Жыгімонта Аўгуста, гэта ўдалося: яна была прыведзена пад павятовую юрысдыкцыю і цалкам ураўнавана ў правах з павятовай[1].

Як ужо адзначалася, частку пануючага класа ВКЛ складалі ўраджэнцы іншых краін ("чужоземцы"), якія рознымі шляхамі змаглі тут натуралізавацца.

У канцы XIV ст. значную колькасць палонных, а таксама іншых татар, якія згадзіліся служыць вялікаму князю літоўскаму, рассяліў у ВКЛ Вітаўт. Іх маёнткі ў Беларусі знаходзіліся пераважна ў Ашменскім, Наваградскім і Менскім паветах[2].

Пачынаючы з Крэўскай уніі 1385 г., польская шляхта ("ляхи"), нягледзячы на пэўныя заканадаўчыя абмежаванні, тым не менш знаходзіла розныя шляхі набыцця зямельнай уласнасці, а тым самым і натуралізацыі ў ВКЛ[3]. Яскравым прыкладам усталявання польскай шляхты ў ВКЛ з'яўляецца натуралізацыя Фронцка Каспіровіча Радзімінскага з Радзіміна Мазавецкага ваяводства і яго нашчадкаў[4].

---

[1] Пинские акты XV–XVI вв. // А.С. Грушевский. Пинское Полесье XIV–XVI вв. Исторические очерки. Киев, 1903. Приложение. № 75; *Спірыдонаў М.* З сівой даўніны // Памяць: Гістор.-дакум. хроніка Ляхавіцкага раёна. Мн., 1989. С. 34–36, 63–65; *Лаппо И.И.* Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569–1586). СПб., 1901. С. 292–293; Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г.: Тэксты. Давед. Камент. Мн.,1989. Раздз. III, арт. 5, 30; АВК. Т. 13. Вильна, 1886. № 19.

[2] *Muchliński A.* Zdanie sprawy o tatarach litewskich, przez jednego z tych tatarów złożone sultanowi Sulejmanowi w r. 1558. Z języka tyreckiego przełożył, obiasnił i materiałami historycznemi uzupelnił... // Teka Wileńska. 1858. № 4. S. 241–272; № 5. S. 121–179; № 6. S. 139–183; *Jankowski Cz.* Powiat Oszmiański: Materiały do dziejów ziemi i ludzi. Cz. 1. Kraków, 1896. S. 237–260; *Dziadulewicz S.* Herbarz rodzin tatarskich w Polsce. Wilno, 1929; *Kryczyński S.* Tatarzy litewscy: Próba monografii historyczno-etnograficznej. Warszawa, 1938. S. 1–100; *Sobczak J.* Połozenie prawne ludności tatarskiej w Wielkim Księstwie Litewskim. Warszawa; Poznań, 1984; *Borawski P.* Tatarzy w dawnej Rzeczypospolitej. Warszawa, 1986; *Tyszkiewicz J.* Tatarzy na Litwie i w Polsce. Studia z dziejów XIII–XVIII w. Warszawa, 1989. S. 144–169 і інш.; *Думин С.В.* Татарские князья в Великом Княжестве Литовском // ABS. Т. 20. 1991. S. 7–49; *Ён жа.* Служилые татары в Великом княжестве Литовском в конце XIV – начале XVI в. (Формирование группы) // Наш радавод. Кн. 3, ч. 3. Гродна, 1991. С. 439–448; *Думін С.У., Канапацкі І.Б.* Беларускія татары: Мінулае і сучаснасць. Мн., 1993. С. 7, 29 і інш.; РИБ. Т. 33. С. 109–120, 424–428, 1355–1375.

[3] Гл. напр.: *Dąbkowski P.* Stanowisko cudzosiemców w prawie litewskiem... S. 33–60; *Kosman M.* Polacy w Wielkim Księstwie Litewskim: Z badań nad mobilnością społeczeństwa w dobie unii jagiellońskiej 1386–1569 // Społeczeństwo Polski średniowiecznej: Zbiór studiów.Warszawa, 1981. T. 1. S. 347–378; *Toloska M.B.* Polacy w Wielkim Księstwie Litewskim w XVI–XVIII w. (Przyczynek do dziejów polskiej emigracji na wschód w okrese staropolskim) // Lituano-Slavica Posnaniensia: Studia Historica. Poznań, 1987. T. 2. S. 147–161; *Wojtkowiak Z.* Maciej Stryjkowski – dzijopis Wielkiego Księstwa Litewskiego: Kalendarium życia i działalności. Poznań, 1990. S. 18–22, 85–86, 89–98, 107–114, 158–161, 167–172, 227.

[4] *Niesiecki K.* Herbarz Polski... T. 4. Lipsk, 1839. S. 46–48; *Boniecki A.* Herbarz Polski. T. 5. Warszawa, 1902. S. 310; Метрыка. А.з. 17, а. 139 адв. – 140, 302 адв. – 304; а.з. 231, а. 48–55; а.з. 234, а. 18 адв. – 20; Полоцкая ревизия 1552 г. / К изд. подготовил И.И. Лаппо. М., 1905. С. 62, 123–125; *Mienicki R.* Stanisław Dowojno wojewoda połocki // Ateneum Wileński (далей – AW). 1937. Rocznik 12. S. 454–455; Метрыка. А.з. 569, а. 783 адв. – 792, 921–922; а.з. 38, а. 599–600; РИБ. Т. 33. С. 832; Метрыка. А.з. 51, а. 171–173; а.з. 69, а. 88–88 адв.; а.з. 85, а. 156–156 адв.

Каля 1530 г. кіеўскі ваявода Андрэй Якубавіч Неміровіч, уласнік Уселюба, падараваў свайму служэбніку Фронцку Каспіровічу двор Несутычы ("Несутичи") у Наваградскім павеце, а потым там жа – селяніна Карнача, тады ж гэты дар пацвердзіў Жыгімонт. У 1535 г. той жа Неміровіч падараваў у Несутычах яму ж яшчэ трох сялян (адну службу) з умовай несці як васал конную службу. Пасля смерці ваяводы вялікі князь у 1539 г. пацвердзіў гэты дар з правам служыць "кому хотя".

У 1543 г. далей Фронцка з'яўляўся намеснікам полацкага ваяводы Станіслава Станіслававіча Давойны. Да 1552 г. полацкі намеснік Давойна паспеў набыць справядлівымі і несправядлівымі шляхамі ў Полацкім ваяводстве восем маёнткаў з 66 дымамі сялян розных павіннасных катэгорый. З гэтых маёнткаў ён павінен быў ставіць у полацкую харугву тры кані. У 1560 г. Ф. Каспаровіч – полацкі харужы.

У перапісе татар ВКЛ 1559 г. Ф. Каспаравіч фігуруе як адзін з найбольш актыўных крыўдзіцеляў наваградскіх татар.

У 1566 г. сыну Ф. Каспіровіча Міхалу Фронцкавічу замест грошай "за службу жолнерскую" ў суме 263 капы грошаў Жыгімонт Аўгуст пажалаваў у часовае ўладанне сяло Папковічы ("Попковичи") Наваградскай воласці, у якім было 24 валокі зямлі. У 1567 г. М. Фронцкавіч з Несутыч і іншых маёнткаў выставіў у войска чатырох коннікаў на чале са шляхціцам Станіславам Мікалаевічам Троскам, бо сам служыў віленскаму ваяводзе Мікалаю Юр'евічу Радзівілу.

У 1568 г. Жыгімонт Аўгуст па хадайніцтве віленскага ваяводы, канцлера ВКЛ, мазырскага і лідскага старосты, барысаўскага пана М.Ю. Радзівіла пацвердзіў Міхалу Фронцкавічу навечна ранейшае пажалаванне за ваенныя заслугі сяла Ждановічы Наваградскай воласці з 24 валокамі зямлі.

У 1582 г. Міхаіл Фронцкавіч з Радзіміна просіць у Стэфана Баторыя дазволу перадаць у пажыццёвае ўладанне свайму сыну Крыштофу Фронцкавічу Несутыцкаму з Радзіміна два сялы ў Мазырскай воласці, што былі пажалаваны яму Жыгімонтам Аўгустам у часовае ўладанне ("до очищения отчины"), г.зн. да вяртання яго полацкіх маёнткаў з рук захапіўшых іх рускіх войск; а таксама сяло Гарадзечна Наваградскай воласці і некалькі іншых, што былі таксама часова пажалаваны яму самім Стэфанам "за верную цнотливую службу". Пры гэтым ён аргументаваў просьбу перш за ўсё сваімі значнымі ваеннымі паслугамі Рэчы Паспалітай на працягу многіх гадоў службы, асабліва пры ўзяцці замкаў Сітна ў 1579 г. і Азярышча ў 1580 г. Стэфан Баторый задаволіў просьбу вернага рыцара. Пасля смерці Крыштофа падкаморы Полацкага ваяводства Міхайла Фронцкавіча з Радзіміна Несутыцкі ў 1601 г. звяртаецца з аналагічнай просьбай да Жыгімонта III ужо на карысць свайго другога сына Яна. Рада і ўраднікі, асабліва канцлер ВКЛ Леў Сапега, падтрымалі гэтую просьбу, і яна таксама была задаволена.

Такім чынам, Фронцка Каспаравіч натуралізаваўся ў ВКЛ дзякуючы перш за ўсё сваёй вернай службе буйным прадстаўнікам мясцовай эліты А.Я. Неміровічу і С.С. Давойне ў якасці іх васала.

Насуперак пэўным заканадаўчым абмежаванням пажалаванняў іншаземцам польскія шляхціцы іншы раз атрымлівалі маёнткі нават у якасці пажалаванняў вялікіх князёў[1].

[1] Белоруссия в эпоху феодализма: Сборник документов и материалов: В 3 т. (далей – БЭФ). Т. 1. С древнейших времен до середины XVII в. Мн., 1959. № 49; VL. T. 2. S. 32, 90–91; Статут 1588. Раздз. III, арт. 12; Метрыка. А. з. 73, а. 141–142, 517 адв. – 518 адв.

У 1555 г. Бона за вялікія заслугі падарыла свайму пінскаму, кобрынскаму і клецкаму старосту С. Фальчэўскаму – аднаму з кіраўнікоў "померы волочной" у яе ўладаннях і яго жонцы ў пажыццёвае ўладанне маёнтак Сялец (Берасцейскі павет) "зо всим панством, властностью"[1].

Поруч са службай звычайным шляхам набыцця маёнткаў польскімі шляхціцамі ў ВКЛ былі шлюбы з мясцовымі шляхцянкамі.

У выніку шлюбу любленскага зямяніна М. Уралеўскага з дачкой Я.Б. Храбтовіча (Літавора) С.Я.Храбтавічоўнай у рукі іх дзяцей перайшлі маёнткі Свержань (Навагрудскі і Менскі паветы), Сваротва (Навагрудскі і Слонімскі паветы), Косава (Слонімскі павет) і інш.[2]

У 1557 г. Неміроўна са згоды мужа падаравала дачцы Раіне і яе мужу польскаму шляхціцу Я. Красоўскаму сваю частку маёнтка Вераскава. У 1567 г. Я. Красоўскі выстаўляў з гэтага маёнтка аднаго конніка[3].

Дачка Л.С. Дароўскага і Г.В. Неміроўны Барбара насуперак волі бацькі і папярэдняй дамове аб шлюбе з польскім шляхціцам Станіславам Майкоўскім пайшла замуж за польскага шляхціца А.Я. Гастомскага. У выніку гэтага ён стаў уласнікам шэрага маёнткаў[4].

Шлюб дазволіў польскаму шляхціцу В. Рудкоўскаму стаць адным з уласнікаў сяла Багушэвічы Менскага павета[5].

Таксама ў выніку шлюбу Андрэя Цёлка, шляхціца Варшаўскага павета Мазавецкага ваяводства, з Ганнай Падарэўскай, уласніцай маёнтка Косічы, апошні ў канцы XVI ст. апынуўся ў руках іх сына Адама – зямяніна Кароны Польскай[6].

Польскія шляхціцы іншы раз станавіліся ўласнікамі маёнткаў у ВКЛ шляхам іх куплі[7] і нават звычайнага перасялення[8].

Пануючы клас ВКЛ папаўняўся таксама асобнымі прадстаўнікамі такога ж класа Рускай дзяржавы, якія па палітычных і іншых прычынах пераходзілі на службу да вялікага князя літоўскага. У ВКЛ ураджэнцы гэтай дзяржавы называліся звычайна масквічамі ("москвичами" або "москвитинами").

Так, баярскі сын Грышка Кашкурнік з Вялікага Ноўгарада Маскоўскай зямлі пераехаў служыць каралю польскаму і вялікаму князю лі-

---

[1] АВК. Т. 13. № 11.

[2] Метрыка. А.з. 19, а. 190–191; а.з. 23, а. 92–94 адв.; а.з. 239, а. 4 адв. – 5; а.з. 247, а. 306 адв. – 307; а.з. 249, а. 219–219 адв., 352 адв. – 353 адв.; а.з. 262, а. 251 адв. – 252 адв.; а.з. 275, а. 259 адв. – 260, 264–266 адв.; а.з. 268, а. 499 адв. – 501 адв.

[3] *Спірыдонаў М.* Вераскава, 1557 год // Памяць: Гістор.-дакум. хроніка Навагрудскага раёна. Мн., 1996. С. 132–135; РИБ. Т. 33. С. 817.

[4] *Boniecki A.* Herbarz Polski. T. 6. Warszawa, 1903. S. 344–345; АВК. Т. 22. Вильна, 1895. № 231; Метрыка. А.з. 247, а. 985–987 ; РИБ. Т. 33. С. 830; Метрыка. А.з. 266, а. 95 адв. – 96, 189 адв. – 190 адв.; Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей – НГАБ). Ф. 694, воп. 4, а.з. 1627, а. 100–100 адв.; а.з. 1654, а. 1.

[5] Метрыка. А.з. 41, а. 494–495; а.з. 247, а. 848 адв. – 849 адв.; а.з. 256, а. 211–215, 568–569; а.з. 265, а. 168, 230; а.з. 268, а. 107; Социально-политическая борьба народных масс Белоруссии: Сб. документов и материалов: в 3 т. Т.1. Конец XIV в. – 1648 г. Мн., 1988. № 35, 37.

[6] Метрыка. А.з. 285, а. 161–162 адв.

[7] Там жа. А.з. 15, а. 89 адв. – 91 адв.; а.з. 25, а. 70–71; АВК. Т. 22. № 620.

[8] Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском с присовокуплением грамот и привилегий на входы в пущи и на земли, составленная старостой мстибоговским Григорием Богдановичем Воловичем в 1559 г. С прибавлением другой актовой книги, содержащей в себе привилегии, данные дворянам и священникам Пинского повета, составленной в 1554 г. Вильна, 1867. С. 33.



Баярын ВКЛ

тоўскаму Казіміру. Яму быў пажалаваны маёнтак Новы Двор (Менскі павет)[1].

У 1483 г. у ВКЛ збег князь В.М. Вярэйскі. Тут ён атрымаў шэраг буйных маёнткаў: Валожын, Койданава, Радашковічы, Рубяжэвічы і інш.[2]

У 1556 г. Жыгімонт Аўгуст пажалаваў у леннае ўладанне былому баярыну з Рускай дзяржавы пану У.С. Забалоцкаму маёнтак Дзераўная Слонімскага староства. У 1566 г. Забалоцкі за пэўныя заслугі атрымаў у пажыццёвы заклад асабісты маёнтак Жыгімонта Аўгуста Ляхавічы[3].

Дробныя баяры-масквічы атрымлівалі звычайна невялікія маёнткі і, як правіла, толькі ў пажыццёвае ўладанне[4].

Сярод шляхты ВКЛ сустракаюцца таксама армяне[5], італьянцы ("влохи")[6], яўрэі ("жиды")[7].

Такім чынам, іншаземцы, амаль выключна прадстаўнікі прывілеяваных саслоўяў суседніх краін, якія набылі рознымі шляхамі маёнткі і натуралізаваліся ў ВКЛ, пераставалі быць чужаземцамі і ператвараліся ў паўнапраўных шляхціцаў гэтай поліэтнічнай дзяржавы і асядалі тут назаўсёды.

**Царкоўная ўласнасць.** Поруч з зямельнай уласнасцю свецкіх феадалаў у Беларусі, як і ў іншых частках ВКЛ, развівалася таксама зямельная ўласнасць карпаратыўных духоўных феадалаў: праваслаўных епіскапстваў, цэркваў і манастыроў, а таксама аналагічных устаноў каталіцкай царквы і іх іерархаў.

Установы праваслаўнай царквы захавалі свае ўладанні, што ўзніклі яшчэ ў перыяд Кіеўскай Русі[8]. У XV–XVI ст. яны працягвалі павяліч-

---

[1] Метрыка. А.з. 31, а. 191–195 адв.

[2] *Wolff J.* Kniaziowie... S. 549–550; *Бычкова М.Е.* Русское государство и Великое княжество Литовское с конца XV в. до 1569 г. Опыт сравнительно-исторического изучения политического строя. М., 1996. С. 120–121; РИБ. Т. 27. Литовская метрика. Отд. 1, ч. 1. Книги записей. Т. 1. СПб., 1910. С. 390–391, 754–757.

[3] АВК. Т. 22. № 40, 138, 385, 454; Метрыка. А.з. 266, а. 89–91; а.з. 57, а. 15–18; а.з. 66, а. 160–163; *Спірыдонаў М.* З сівой даўніны. С. 32–36, 63.

[4] Метрыка. А.з. 25, а. 129 адв. – 130; а.з. 37, а. 436 – 436 адв.; а.з. 51, а. 145–147; а.з. 85, а. 266 адв. – 268.

[5] Сборник материалов, относящихся к истории панов-рады Великого княжества Литовского / Сост. И.А. Малиновский. Томск, 1902. С. 307–308.

[6] НГАБ. Ф. 1733, воп. 1, а.з. 152, а. 127–128; ф. 1751. воп. 1, а.з. 1, а. 194 – 195 адв.; Метрыка. А.з. 60, а. 23–25; а.з. 85, а. 289 адв. – 290.

[7] *Бершадский С.А.* Литовские евреи. История их юридического и общественного положения в Литве от Люблинской унии. 1388–1569. СПб., 1883. С. 404–407, 421; *Ён жа.* Аврам Езофович Ребичкович, подскарбий земский, член Рады Великого княжества Литовского. Отрывок из истории внутренних отношений Литвы в начале XVI в. Киев, 1888. С. 59–63, 71–72, 139, 145–147, 152–155.

[8] *Фроянов И.Я.* Киевская Русь: Очерки социально-экономической истории. Л., 1974. С. 73–87; *Свердлов М.Б.* Генезис и структура феодального общества в Древней Руси. Л., 1983. С. 120, 196; *Щапов Я.Н.* Государство и церковь Древней Руси X–XIII вв. М., 1989. С. 74–90.

ваццa, хоць і не вельмі значна, у выніку пажалаванняў вялікага князя літоўскага, але ў асноўным – дароў "рускіх" праваслаўных феадалаў[1]. Бо існаванне царкоўных установ матэрыяльна забяспечвалася не толькі пры іх заснаванні, але і ў далейшым. Царкоўныя маёнткі былі размешчаны ў тых паветах ВКЛ, дзе пераважала праваслаўнае, "закону руского", насельніцтва, або "люди руские".

Так, пан Д.Я. Храбтовіч, уласнік маёнтка Шчорсы (Наваградскі павет), у 1488 г. падараваў царкве Божай Маці Лаўрышаўскага манастыра сваіх данніка і парабка[2].

У пачатку XVI ст. значнае матэрыяльнае забеспячэнне грашыма, збожжам, зямлёй і іншым атрымала ад князя І.В. Яраславіча і яго сына Фёдара, нашчадкаў вялікага маскоўскага князя Івана Данілавіча Каліты, саборная царква Дзмітрыя ў Гарадку Давыдавым. Пазней гэтыя дары пацвердзілі Жыгімонт і Бона[3].

У 1569 г. па просьбе сялян, "людей руского народу", і з дазволу Жыгімонта Аўгуста ў яго сяле Сухаполь (Берасцейскі павет) была пабудавана "руская" царква. Яна таксама была забяспечана зямлёй[4].

Пэўнае ўяўленне аб землеўладанні праваслаўнай царквы, у прыватнасці ў Полацкім ваяводстве, даюць адпаведныя даныя апісання ("рэвізіі") гэтага ваяводства 1552 г. Згодна з імі, 38 розным установам праваслаўнай царквы, якія поўна апісаны ў рэвізіі, належала 911 (55,9% усіх 1627) сядзібных участкаў у Полацку і 1368 (17,8% усіх 7701) сялянскіх гаспадарак у 110 сёлах. Большасць іх уладанняў была зруйнавана ў гады Лівонскай вайны[5].

Адным з буйных праваслаўных духоўных феадалаў Беларусі быў Кіеўскі Пячорскі манастыр. Толькі тут яму належалі сёлы Барсукі, Пячэрск, Хомічы і Цвіркава ў Аршанскім павеце ("на руси"); Аравічы ("Оревичи") і Гдзень ("Гдень") у Кіеўскім; Дзямідава ("Демидово") у Мазырскім; Вольніца, Даколь, Дуброва і Харомцы ў Наваградскім павеце ("в Полесье"); Моталь і Опаль ("Ополье") у Пінскім павеце і інш.[6]

---

[1] *Будилович А.С.* Историческое исследование о недвижимых церковных имуществах в Западной России. 2. Порядок образования недвижимой собственности церковной в Западной России. Вып. 1. Историческое исследование о религиозных побуждениях к имущественным на церковь пожертвованиям. Варшава, 1882; *Ён жа.* Историческое исследование о недвижимых церковных имуществах в Западной России: Перечневая опись недвижимым имениям западно-русской церкви за X–XIX вв. Приложение к исследованию о времени и порядке образования недвижимой собственности церковной в Западной России. Варшава, 1882. С. I–XLVII; *Владимирский-Буданов М.Ф.* Церковные имущества в Юго-Западной России XVI в. // Архив Юго-Западной России, издаваемый Временной комиссией для разбора древних актов, высочайше учрежденной при киевском, подольском и волынском генерал-губернаторе (далей – Архив ЮЗР). Ч. 8. Акты о землевладении в Юго-Западной России XV–XVIII вв. Т.4. Киев, 1907. Введение. С. 1–224.

[2] *Спірыдонаў М.* Шчорсы // Памяць: Гістор.-дакум. хроніка Навагрудскага раёна. С. 77, 547–548.

[3] РП. С. 347–351, 129–132, 219–225, 255–256, 316, 321–325; РИБ. Т. 20. СПб., 1903. С. 881–884, 932–936, 966–970; АЗР. Т. 2. № 105.

[4] Метрыка. А.з. 52, а. 71 адв. – 72.

[5] *Спірыдонаў М.Ф.* Полаччына: XVI стагоддзе // За передовую науку. 1990. 19, 26 янв., 16 февр.; *Ён жа.* Землеўладанне Праваслаўнай Царквы на Полаччыне ў сярэдзіне XVI ст. // Тэзісы навуковай канферэнцыі, прысвечанай 1000-годдзю Праваслаўнай Царквы на Беларусі. 25 верасня 1992 г. Мн., 1992. С. 51–52; Описание полоцких владычных, монастырских и церковных земель ревизорами 1580 г. // Чтения в имп. Обществе истории и древностей российских при Московском университете. 1907. Кн. 3.

[6] Архив ЮЗР. Т. 7, ч. 1. Киев, 1886. № 16, 91.

Зямельныя ўладанні ў Беларусі мелі іншыя розныя ўстановы праваслаўнай царквы[1].

Такім чынам, праваслаўная царква заставалася адным з феадальных уласнікаў зямлі ў ВКЛ. Аднак яна была бяднейшая, чым каталіцкая[2].

З канца XIV ст. у працэсе дзяржаўнай палітыкі насаджэння каталіцызму, што актыўна праводзілася вялікім князем літоўскім і літоўскай знаццю, у Беларусі, як у іншых частках ВКЛ, узнікла і хутка пашыралася зямельная ўласнасць шматлікіх установ каталіцкай царквы: біскупстваў, касцёлаў, кляштараў і г.д. Яна пашыралася ў выніку пажалаванняў і гарадоў. Яе розныя ўстановы, што ў вялікай колькасці засноўваліся пераважна ў паўночна-заходняй частцы Беларусі, шчодра забяспечваліся зямлёй з сялянамі, а таксама іншы раз дзесяцінамі з панскіх гаспадарак[3]. У выніку гэтага да сярэдзіны XVI ст. каталіцкая царква стала адным з буйнейшых феадалаў ВКЛ. У гэты час толькі Віленскаму біскупству, капітулу і парафіяльным касцёлам Віленскай дыяцэзіі належала больш за 11,5 тыс. сялянскіх і іншых дымоў (гаспадарак), г.зн. каля 2,8% усіх 417 тыс. дымоў у ВКЛ[4]. Значная колькасць буйных валасцей належала Віленскаму біскупству. Большасць іх знаходзілася ў Беларусі: Бакшты Пяршай – у Ашмянскім павеце, Бяродзічы – у Берасцейскім, Віды (Відзы) – у Браслаўскім, Гервяты – у Віленскім, Дуброўна – у Лідскім, Блужа, Воўча, Ігумен (Чэрвень) і Шыпяны – у Менскім, Убарць – у Мазырскім, Мядзведзічы – у Наваградскім, Стрэшын – у Рэчыцкім і многія іншыя[5]. Шматлікія маёнткі ў Беларусі належалі таксама іншым установам каталіцкай царквы[6].

Уласнікамі зямельных уладанняў былі і каталіцкія ордэны. У цэлым у сярэдзіне XVI ст. каталіцкай царкве належала каля 5% усёй зямельнай уласнасці ВКЛ[7].

Запрошаны ў пачатку 70-х гг. у ВКЛ езуіцкі ордэн дзякуючы падтрымцы вялікага князя літоўскага і літоўскай каталіцкай знаці стаў хутка ператварацца ў буйнога феадальнага ўласніка зямлі[8]. У працэсе пер-

---

[1] Белорусский архив древних грамот. Ч. 1. М.,1824. № 2, 8, 10, 31, 5, 7; АВК. Т. 1. Вильна, 1865. №; 16, 19, 33; Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографической комиссией (далей – АЮЗР). Т. 2. СПб., 1865. № 64; АВК. Т. 11. Вильна, 1880. № 24; Архив ЮЗР. Ч. 1, т. 1. Киев, 1859. № 90; РП. С. 129–132, 294–295, 316, 321–325, 224–225, 252, 255, 219–221, 221–224, 252–253; АЗР. Т. 2. № 105.

[2] *Любавский М.К.* Литовско-русский сейм... С. 362–365.

[3] *Ochmański J.* Powstanie i rozwój latyfundium biskupstwa wileńskiego (1387–1550): Ze studiów nad rozwojem wielkiej własności na Litwie i Białorusi w średniowieczu. Poznań, 1963. S. 17–107; *Ён жа.* Biskupstwo Wileńskie w średniowieczu. Poznań, 1972. S. 80, 95–107.

[4] *Ochmański J.* Powstanie i rozwój latyfundium biskupstwa wileńskiego... S. 95–98; *Ён жа.* Biskupstwo Wileńskie w średniowieczu. S. 106–107.

[5] *Ochmański J.* Powstanie i rozwój latyfundium biskupstwa wileńskiego... S. 17–98; *Ён жа.* Biskupstwo Wileńskie w średniowieczu. S. 95–97.

[6] Акты Литовско-Русского государства (далей – АЛРГ). Вып. 1. М., 1899. № 4; Метрыка. А.з. 43, а. 53 адв. – 56; БЭФ. Т. 1. № 55; *Ochmański J.* Biskupstwo Wileńskie w średniowieczu. S. 99–107; *Wawrzyńczyk A.* Rozwój wielkiej własności na Podlasiu... S. 326–331.

[7] *Любавский М.К.* Литовско-русский сейм... С. 362–365; *Ochmański J.* Powstanie i rozwój latyfundium biskupstwa wileńskiego... S. 98; *Ён жа.* Historia Litwy. S. 101; *Ён жа.* Biskupstwo Wileńskie w średniowieczu. S. 80, 95–98, 106–107.

[8] *Блинова Т.Б.* Иезуиты в Белоруссии. Мн., 1990. С. 21–22, 34–40.

шапачатковага фарміравання латыфундый езуіцкага ордэна ў Беларусі найбольш значнымі актамі стала заснаванне езуіцкай калегіі ў Полацку і пажалаванне ёй Стэфанам Баторыем у 1582 г. усіх маёнткаў полацкіх цэркваў і манастыроў, акрамя ўладычных, "рускай", або "грэчаскай", веры з мэтай насаджэння тут "сапраўднага, каталіцкага веравызнання", а таксама передача ёй усіх былых дзяржаўных даходаў з іх[1]. Для барацьбы з іншаверцамі езуіцкую калегію ў Нясвіжы ў 1584 г. заснаваў і матэрыяльна забяспечыў вядомы дзяржаўны дзеяч ВКЛ магнат М.К.М. Радзівіл Сіротка. У прыватнасці, падараваў ёй вялікую Ліпскую воласць у Наваградскім павеце[2].

Уласнікам зямлі феадальнага тыпу з'яўляліся і найбольш заможныя вярхі мяшчанства гаспадарскіх гарадоў з магдэбургскім правам[3]. Пра менавіта такую сутнасць часткі мяшчанскага землеўладання ў ВКЛ сведчаць даныя, у прыватнасці, рэвізіі Полацкага ваяводства 1552 г. Тут 81 мешчанін меў 420 сялянскіх гаспадарак. З выслужаных або набытых шляхам здзелак маёнткаў яны, як і шляхта, неслі ваенную службу[4].

Развіццё ВКЛ не прывяло да карэннай ломкі існуючых на той час у Беларусі формаў феадальнага землеўладання[5].

Старажытнай і асноўнай формай феадальнай зямельнай уласнасці заставалася вотчына ("отчина", "отчизна"). Так называліся маёнткі, што былі атрыманы ў спадчыну ад бацькоў альбо пажалаваны вялікім князям у якасці вотчыны, г.зн. з правам передачы ў спадчыну. Маёнткі, што пераходзілі ў спадчыну ад дзеда, дзядзькі ці іншых сваякоў, называліся адпаведна "дедизнами", "материзнами", "дядьковщинами" и "близкостями".

Прыкладна да сярэдзіны XV ст. зямельныя адносіны паміж "рускімі" феадаламі рэгуляваліся галоўным чынам нормамі, што сфарміраваліся ў папярэдні перыяд і часткова былі зафіксаваны яшчэ ў "Рускай праўдзе". У агульнай форме яны былі пацверджаны ў канцы XIV ст. Вітаўтам прывілеямі Віцебскай, Полацкай і некаторым іншым землям ВКЛ[6]. Прывілеямі 1387 і 1413 гг. на ўзор прывілеяў польскай шляхты было ўзаконена права ўласнасці на вотчыны тых літоўскіх феадалаў, якія прынялі ка-

---

[1] Витебская старина / Сост. и изд. А.П. Сапунов. Т. 5, ч. 1. Витебск, 1888. № 49, 51; Метрыка. А.з. 275, а. 17 авд. – 21; АЗР. Т. 3. СПб., 1848. № 143; Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской, хранящихся в Центральном архиве в Витебске... Вып. 25. Витебск, 1894. № 33.

[2] Метрика. А.з. 275, а. 417 адв. – 424, 426–431; LV. Т. 2. S. 288–289; *Załęski S.* Jezuici w Polsce. T. 4, cz. 1. Kraków, 1905. S. 430–431; *Спірыдонаў М.* З сівой даўніны. С. 38, 73–74.

[3] *Любавский М.К.* Областное деление... С. 312–313, 520–521, 526–529; *Довнар-Запольский М.В.* Государственное хозяйство... С. 638–641; *Пичета В.И.* Аграрная реформа Сигизмунда Августа в Литовско-Русском государстве. 2 изд. М., 1958. С. 458, 462–463.

[4] *Спірыдонаў М.Ф.* Полаччына... // За передовую науку. 1990. 26 янв., 16 февр.; *Ён жа.* Закрепощение... С. 48–49.

[5] *Пашуто В.Т.* Образование Литовского государства. М., 1959. С. 319; *Ён жа.* Страна Прибалтийского региона // А.П. Новосельцев, В.Т. Пашуто, Л.В. Черепнин. Пути развития феодализма (Закавказье, Средняя Азия, Русь, Прибалтика). М., 1972. С. 297.

[6] *Ясинский М.Н.* Уставные земские грамоты Литовско-Русского государства. Киев, 1889. Отд. 2. С. 2–5, 25–36, 51–57, 73–83; *Довнар-Запольский М.В.* Государственное хозяйство... С. 55–87; *Якубовский И.В.* Земские привилеи Великого княжества Литовского // ЖМНП. 1903. № 6. С. 247, 263–279, 289, 296–302.

таліцызм[1]. Прывілеі 1434 і 1447 гг., а таксама статуты ВКЛ 1529, 1566 і 1588 гг. пацвярджалі і пашыралі гэтае права феадалаў – непасрэдных васалаў вялікага князя літоўскага[2].

Законы гарантавалі толькі феадалам магчымасць перадаваць вотчыны ў спадчыну, прадаваць, мяняць, дарыць і закладваць іх ва ўстаноўленым парадку, г.зн. з абавязковай рэгістрацыяй зямельных здзелак у адпаведных дзяржаўных органах[3].

Аднак у канцы XV ст. права распараджэння вотчынамі было абмежавана правам членаў роду на выкуп, што было абумоўлена неабходнасцю забяспячэння ваеннай службы. Таму да Статута 1566 г. забаранялася адчужаць больш за трэць вотчыны[4].

Фонд вотчыны пашыраўся за кошт гаспадарскіх зямель у выніку росту колькасці пажалаванняў маёнткаў у вотчыну і паступовага ператварэння часовых выслуг у вотчыны[5].

Поўнай свабодай распараджэння вызначаўся юрыдычны статус "куплі", г.зн. маёнткаў, што былі куплены навечна ("навечность")[6].

Вельмі распаўсюджанай формай часовага ўладання маёнткамі або іх часткамі былі "застава"–"закуп", г.зн. перадача маёмасці ва ўладанне крэдытору да звароту доўгу[7].

Шырокія правы феадалаў на распараджэнне вотчынамі, куплямі і заставамі былі важнай умовай пераразмеркавання зямельнай уласнасці паміж рознымі слаямі феадалаў шляхам разнастайных зямельных здзелак. Такім шляхам, у прыватнасці, фарміраваліся латыфундыі магнатаў і буйных феадалаў за кошт іншых сацыяльных катэгорый[8].

---

1 БЭФ. Т. 1. № 34, 43; *Любавский М.К.* Литовско-русский сейм... С. 33–35, 48–50, 429, 463–464; *Ён жа.* Очерк истории Литовско-Русского государства... С. 60–65; *Czermak W.* Sprawa równouprawnienia schizmatyków i katolików na Litwie (1432–1563). Kraków, 1903. S. 3.

2 БЭФ. Т. 1. № 45, 49; Первый Литовский Статут. Тексты на старобелорусском, латинском и старопольском языках. Т. 2, ч. 1. Вильнюс, 1991. Раздз. I, арт. 15–16, 27; Статут Великого княжества Литовского 1566 г. // Временник имп. Московского общества истории и древностей российских. М., 1855. Кн. 23. Раздз. III, арт. 33 і адпаведна: IV – 66, VII – 1–5. С. 190–198; Статут 1588. Раздз. III, арт. 41 і адпаведна: VII – 1; *Любавский М.К.* Областное деление... С. 404–406, 550–585; *Ён жа.* Литовско-русский сейм... С. 75–76, 89–91, 97–100, 430, 460, 465; *Ён жа.* Очерк истории Русско-Литовского государства... С. 69–71, 77–81; *Довнар-Запольский М.В.* Государственное хозяйство... Т. 1. С. 599–622; *Czermak W.* Sprawa równouprawnienia... S. 10–48; *Леонтович Ф.И.* Правоспособность литовско-русской шляхты... // ЖМНП. 1909. № 2. С. 241–264; № 3. С. 67–88; *Dąbkowski P.* Dobra rodowe i nabyte w prawie litewskiem od XIV do XVI w. Lwów, 1916. S. 80–101; *Wawrzyńczyk A.* Rozwój wielkiej własności na Podlasiu... S. 135–149, 168–175.

3 Статут 1529. Раздз. I, арт. 15; РИБ. Т. 30. С. 186–188; Статут 1566. Раздз. VII, арт. 1–5; С. 190–198;

4 Статут 1529. Раздз. I, арт. 15, 16, 27; Статут 1566. Раздз. III, арт. 33 і адпаведна: IV – 66, VII – 1–5. С. 190–198; Статут 1588. Раздз. III, арт. 41; *Любавский М.К.* Областное деление... С. 560–585; *Леонтович Ф.И.* Очерки из истории литовско-русского гражданского права. Гражданское право- и дееспособность // Журнал министерства юстиции. 1909. № 2. С. 251, 254–262; *Bardach J.* O. dawnej i niedawnej Litwie. Poznań, 1988. S. 120–139.

5 *Владимирский-Буданов М.Ф.* Очерки по истории литовско-русского права. 1. Поместья Литовского государства. Киев, 1889. С. 31–51; *Любавский М.К.* Областное деление... С. 550–601; *Довнар-Запольский М.В.* Государственное хозяйство... Т. 1. С. 598–622; *Wawrzyńczyk A.* Rozwój wielkiej własności na Podlasiu... S. 135–174.

6 *Любавский М.К.* Областное деление... С. 568–587; *Довнар-Запольский М.В.* Государственное хозяйство... С. 614–615.

7 *Довнар-Запольский М.В.* Государственное хозяйство... Т. 1. С. 163–168, 176–190; *Adamus J.* Zastaw w prawie litewskiem XV i XVI w. Lwów, 1925. S. 20–94.

8 *Спиридонов М.Ф.* Закрепощение крестьянства Беларуси... С. 37, 43–46.

Адной з распаўсюджаных форм феадальнага землеўладання былі "выслуги", або "данины", г.зн. маёнткі, пажалаваныя вялікім князем літоўскім на розных умовах.

Пры Вітаўце сістэма пажалаванняў зямель з сялянамі як галоўны спосаб узнагароджання і мабілізацыі васалаў набыла масавы характар. Існавалі дзве асноўныя формы пажалаванняў: у часовае ("дочасное") і пастаяннае ("вечистое") уладанне[1].

Добрым феадалам маёнткі (бенефіцыі) жалаваліся пераважна ў часовае ўладанне: "до воли и ласки господарской", "до очищения (вызвалення. – *М.С.*) отчизны", "до живота", г.зн. пажыццёва, і г.д. Права распараджэння такімі маёнткамі было абмежавана неабходнасцю дазволу вялікага князя. Таму паступова феадалы дабіліся ператварэння многіх з іх у вотчыну яшчэ да Люблінскай уніі 1569 г.[2]

Буйным феадалам і да гэтага часу за асаблівыя заслугі маёнткі, нярэдка вялікія, жалаваліся звычайна ў поўную ўласнасць: "навечность", "в отчизну", " с полным правом и панством" і г.д. Такія даніны атрымлівалі пераважна прадстаўнікі літоўскай каталіцкай знаці, а таксама кіруючыя ўстановы каталіцкай царквы[3].

Прамежкавай формай былі пажалаванні маёнткаў на ленным праве, г.зн. з правам наследавання нашчадкамі толькі мужчынскага полу. Такія выслугі некаторым феадалам, асабліва буйным, таксама ўдавалася ператварыць у вотчыны[4].

Асноўнай тэрыторыяй пажалаванняў з'яўлялася Беларусь, перш за ўсё яе заходнія і цэнтральныя тэрыторыі. Асаблівая зацікаўленасць феадалаў у пажалаваннях маёнткаў менавіта тут абумоўлена галоўным чынам тым, што гэтыя часткі ВКЛ у XV–XVI ст. не падпадалі пад ваенныя разбурэнні і знаходзіліся ў басейнах сплаўных рэк Заходні Буг і Нёман. Таму якраз пераважна тут фонд гаспадарскіх зямель у выніку пажалаванняў скараціўся значна больш, чым ва ўсходняй частцы Беларусі. Да сярэдзіны XVI ст. пажалаванні прывялі да істотнага змянення структуры феадальнай уласнасці на карысць свецкіх і духоўных каталіцкіх феадалаў за кошт дзяржаўнай[5]. Яны ж былі адным з асноўных шляхоў фарміравання латыфундый магнатаў, перш за ўсё літоўскіх каталіцкіх, а таксама каталіцкай царквы.

---

[1] *Владимирский-Буданов М.Ф.* Очерки по истории литовско-русского права. 1. Поместья Литовского государства. С. 1–52; *Любавский М.К.* Областное деление... С. 587–601; *Довнар-Запольский М.В.* Государственное хозяйство... Т. 1. С. 585–630; *Леонтович Ф.И.* Правоспособность литовско-русской шляхты // ЖМНП. 1909. № 2. С. 267–269; № 3. С. 44–57; *Dąbkowski P.* Dobra rodowe i nabyte w prawie litewskiem... S. 29–79; *Wawrzyńczyk A.* Rozwój wielkiej własności na Podlasiu... S. 149–168.

[2] Статут 1566. Раздз. III, арт. 34 і адпаведна: VII – 1,5; Статут 1588. Раздз. III, арт. 41 і адпаведна: VII – 1; Метрыка. А.з. 51, а. 93–95.

[3] *Semkowicz W.* O litewskich rodach bojarskich, zbratanych ze szlachta polska w Horodle r. 1413 // Lituano-Slavica Posnaniensia. T. 3. Poznań, 1989. S. 7–139; *Ён жа.* Przywileje Witolda dla Moniwida, starosty wileńskiego i testament jego syna Jana Moniwidowicza // AW. 1923. Rocznik. 1. S. 253-267; *Przezdziecki A.* Jagiellonki polskie w XVI w.: Obrazy rodziny i dworu Zygmunta I i Zygmunta Augusta, królów polskich. T. 1. Kraków, 1868. Dodatki. № 27; *Ochmański J.* Powstanie i rozwój latyfundium biskupstwa wileńskiego... S. 17–98; *Ён жа.* Biskupstwo Wileńskie w średniowieczu. S. 95–107.

[4] Метрыка. А.з. 31, а. 55–56; а.з. 50, а. 220 адв. – 222; а.з. 51, а. 177–178.

[5] *Łowmiański H.* Studia nad początkami spoleczeństwa i państwa Litewskiego // H. Łowmiański. Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983. S. 142 і інш.; *Ochmański J.* Struktura feudalnej własności na Podlasiu... S. 162; *Ён жа.* Historia Litwy... S. 101.

У сувязі з пагрозай поўнага знікнення дзяржаўнай зямельнай уласнасці на Люблінскім сейме 1569 г. была прынята спецыяльная пастанова, згодна з якой у далейшым пажалаванні такой маёмасці "вечным правом" без згоды сейма Рэчы Паспалітай забараняліся. Шляхецкія ж маёнткі, што траплялі ў склад дзяржаўных, павінны былі раздавацца "людям польского и литовского шляхетского народа" па-ранейшаму, каб не скарачалася колькасць войска. Гэта ў далейшым і рабілася[1].

Усе формы феадальнага землеўладання мелі ўмоўны характар. Усе свецкія феадалы, а з пэўнымі выключэннямі і духоўныя абавязаны былі адбываць ваенную службу вялікаму або сваім іншым сеньёрам. Ухіленне ад яе вяло да канфіскацыі маёнткаў[2].

Поруч з умацаваннем зямельнай уласнасці феадалаў ішоў працэс заканадаўчага афармлення і пашырэння падатковага і судовага імунітэту. Асабліва істотнае значэнне мелі прывілеі, што надаў феадалам Прывілей 1447 г.[3]

У выніку заканадаўчага афармлення і пашырэння шматлікіх прывілей свецкіх і духоўных феадалаў прыкладна да сярэдзіны XVI ст. завяршылася фарміраванне двух прывілеяваных саслоўяў пануючага класа: шляхты і духавенства. Разам з тым адбылося адасабленне іх ад іншых саслоўяў феадальнага грамадства. Ператварэнне шляхты ў замкнёнае саслоўе зрабіла амаль немагчымым пранікненне ў яго прадстаўнікоў іншых саслоўяў[4]. Аднак набілітацыя "людей простых", як і раней, была магчыма толькі за выключныя заслугі перад дзяржавай[5]. Напрыклад, у час Лівонскай вайны, асабліва пры ўзяцці Ульскага замка, вызначыўся селянін Павел Росчына ("Росчина"), які меў выдатныя ваенныя здольнасці. Ульскі дзяржаўца князь К. Лукомскі, "дознавши... (яго. – *М.С.*) быти годного и верного ку службам господарским и земским", даў яму "до воли и ласки господарской" разбуранае вайной сяло Цярабешава ("Теребешово", цяпер Цербяшова ў Шумілімскім раёне Віцебскай вобласці), якое пасля ўзяцця ў 1563 г. рускімі войскамі Полацка было падпарадкавана Віцебскаму замку, а таксама адзін пляц у замку Ула, а другі – у мястэчку ("месте") Ула. У чэрвені 1570 г. Росчына прыехаў у Варшаву на вальны сейм Рэчы Паспалітай і звярнуўся да Жыгімонта Аўгуста з просьбай пацвердзіць гэтую выслугу навечна. Пры гэтым за яго хадайнічалі не толькі некаторыя члены рады караля польскага і вялікага князя

---

[1] VL. T. 2. S. 91, 212; БЭФ. Т. 1. № 66; Метрыка. А.з. 51, а. 267 адв. – 269; а.з. 284, а. 33–36 адв.; а.з. 285, а. 492 адв. – 493 адв.; а.з. 60, а. 23–25.

[2] *Любавский М.К.* Областное деление... С. 310–312, 404, 551, 558–560, 607–624; *Довнар-Запольский М.В.* Государственное хозяйство... Т. I. С. 46, 585–630, 643–644; Статут 1588. Раздз. II, арт. 1–17; VL. T. 2. S. 288–289.

[3] БЭФ. Т. 1. № 49; РИБ. Т. 30. С. 271–272, 334–336, 356–357; *Любавский М.К.* Литовско-русский сейм... С. 517–543, 551–558, 582, 592, 599, 606, 639; *Пичета В.И.* Аграрная реформа Сигизмунда Августа в Литовско-Русском государстве. 2-е изд. С. 73–82; *Ён жа.* История сельского хозяйства и землевладения в Белоруссии (до конца XVI в.). Ч. 1. Мн., 1927. С. 71–72.

[4] РИБ. Т. 20. С. 1114; *Любавский М.К.* Литовско-русский сейм. С. 428–496; *Леонтович Ф.И.* Правоспособность литовско-русской шляхты // ЖМНП. 1908. № 3. С. 58–87; № 5. С. 136–167; № 6. С. 245–298; № 7. С. 1–56; 1909. № 2. С. 225–269; № 3. С. 44–88; *Грицкевич А.П.* Формирование феодального сословия в Великом княжестве Литовском и его правовые основы // Первый литовский статут 1529 г.: Материалы респ. науч. конф., посвящ. 450-летию Первого статута. Вильнюс. 1982. С. 65–73.

[5] Метрыка. А.з. 31, а. 139–140; а.з. 50, а. 148–149; а.з. 51, а. 170–171, 267 адв. – 269; а.з. 61, а. 125–126.

літоўскага, але і паслы Каралеўства Польскага і ВКЛ. Нягледзячы на пастанову Люблінскага сейма 1569 г., якой вялікаму князю забаранялася "добр столу нашого", г.зн. вялікакняскага, у ВКЛ "правом вечным" даваць, Жыгімонт Аўгуст, улічваючы адпаведныя пажаданні, задаволіў просьбу Росчына, абавязаўшы яго несці ваенную службу "конно, збройно", "яко и иные земяне наши, шляхта"[1].

Такім чынам, на працягу XV–XVI ст. заканадаўча ўмацавалася манапольнае права феадалаў на зямельную ўласнасць і іншыя прывілеі пануючага класа, а на гэтай аснове сфарміраваліся прывілеяваныя саслоўі шляхты і духавенства. Умацаванне эканамічных і палітычных пазіцый феадалаў ішло ў значнай ступені шляхам прыстасавання феадальных інстытутаў як Старажытнай Русі, ВКЛ так і асабліва Каралеўства Польскага для патрэбаў пануючага класа.

## 2. Панская і сялянская гаспадаркі

**Станаўленне фальварачна-паншчыннай сістэмы.** Уласная гаспадарка феадалаў вядома з часоў старажытнай Русі[2]. Для забеспячэння асабістых і гаспадарчых патрэб у сельскагаспадарчай прадукцыі феадалы стваралі такія гаспадаркі амаль ва ўсіх сваіх "дварах" – адміністрацыйна-гаспадарчых цэнтрах маёнткаў. Таму ў крыніцах тэрмінам "двор" абазначана звычайна і сама панская гаспадарка. У XVI ст. яна часта стала называцца і польскім словам "фальварак" (ад. ням. Vorwerk – хутар).

Прыкладна да сярэдзіны XV ст. панская гаспадарка мела натуральны характар. Сельскагаспадарчая прадукцыя выраблялася ў ёй на аснове працы "челяди невольной" (рабоў) і данін прадукцыяй сялянскіх гаспадарак для патрэб феадалаў[3]. Але пад уздзеяннем галоўным чынам росту попыту на сельгаспрадукцыю на ўнутраным і асабліва знешнім рынку характар панскай гаспадаркі паступова, але істотна мяняецца[4].

Ва ўмовах спрыяльнай рыначнай кан'юнктуры для збыту сельгаспрадукцыі феадалы, перш за ўсё буйныя, адным з асноўных шляхоў павышэння даходнасці сваіх маёнткаў выбралі павелічэнне як вытворчасці такой прадукцыі ў сваіх гаспадарках, так і яе збыту з мэтай атрымання грошай. Гэты працэс выявіўся ў пашырэнні ворыва старых двароў і арганізацыі новых. Напрыклад, у маёнтках Віленскага каталіцкага біскупства, большая частка якіх была размешчана на тэрыторыі Беларусі, у XV ст. было 23 двары, а ў сярэдзіне XVI ст. ужо 50 двароў[5].

---

[1] Метрыка. А.з. 51, а. 267 адв. – 269.

[2] *Свердлов М.Б.* Генезис и структура феодального общества в Древней Руси. Л., 1983. С. 65–74, 106–135; *Kasperczak S.* Rozwój gospodarki folwarcznej na Litwie i Białorusi do połowy XVI w. Poznań, 1965. S. 17–42.

[3] *Wawrzyńczyk A.* Rozwój welkiej własności na Podlasiu... S. 197, 202, 305–306; *Kasperczak S.* Rozwój gospodarki folwarcznej... S. 39.

[4] *Пичета В.И.* Аграрная реформа... С. 36–82; *Łowmiański H.* Uwagi w sprawie podłoża społecznego i gospodarczego unji jagiellonskiej // H. Łowmiański. Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. S. 424–432, 438–442, 446; *Похилевич Д.Л.* О реакционном характере аграрной реформы Сигизмунда-Августа в Литовском государстве // Уч. зап. Ярославск. гос. пед. ин-та. Ярославль, 1945. Вып. 7 (17). История. С. 3–42; *Wawrzyńczyk A.* Rozwój welkiej własności na Podlasiu... S. 176–267; *Kasperczak S.* Rozwoj gospodarki folwarcznej... S. 67–72.

[5] *Ochmański J.* Powstanie i rozwój latyfundium biskupstwa wileńskiego... S. 134–140.

Да сярэдзіны XVI ст. тыя рэгіёны Беларусі, што былі размешчаны ў басейнах сплаўных рэк Заходні Буг і Нёман і на прылеглых да іх тэрыторыях, пакрыліся густой сеткай панскіх двароў з фальваркамі. Ва ўсходняй жа частцы Беларусі, якая знаходзілася ў басейнах Заходняй Дзвіны і асабліва Дняпра, панскія двары з фальваркамі ствараліся значна радзей. Гэта было абумоўлена пераважна такімі істотнымі няспрыяльнымі для развіцця фальваркаў фактарамі, як пастаянныя ваенныя разбурэнні гэтых рэгіёнаў у ходзе амаль бесперапынных шматлікіх войн канца XV–XVI ст. паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай, а ў Падняпроўі – яшчэ і адсутнасць зручных водных шляхоў для транспарціроўкі сельскагаспадарчых тавараў у буйныя цэнтры міжнароднага гандлю – парты Балтыйскага мора Гданьск, Каралявец (Кёнігсберг, цяпер Калінінград) і Рыгу, а таксама іншыя буйныя эканамічныя і палітычныя цэнтры ВКЛ і суседніх краін[1].


Праца сялян у фальварку. Гравюра XVI ст.

Поруч з прыкметным ростам таварнасці панскай гаспадаркі другой істотнай рысай яе рэарганізацыі было ўвядзенне і павелічэнне паншчыны, прымус да яе выканання ўсё большай колькасці сялян. Усё гэта абумовіла ператтварэнне даўняй натуральнай панскай гаспадаркі ў фальварак (у навуковым разуменні гэтага тэрміна), г.зн. у такую гаспадарку, у якой вытворчасць сельгаспрадукцыі была заснавана на працы прыгонных сялян, а не нявольнай чэлядзі, і мела, як правіла, у значнай ступені таварны, а не натуральны характар.

Паводле шматлікіх даных разнастайных крыніц, да сярэдзіны XVI ст. панскі двор з фальваркам усталяваўся ў той частцы Беларусі, што была размешчана на захад ад вельмі прыблізнай умоўнай лініі Пінск–Слуцк–Менск–Полацк.

Усталяванне ў Беларусі да сярэдзіны XVI ст. фальварка ў якасці пануючай формы арганізацыі ўласнай гаспадаркі феадалаў з'яўляецца найбольш важнай рысай яе эвалюцыі тут у XV–XVI ст.

Такім чынам, да сярэдзіны XVI ст. склаліся аптымальныя ў тых умовах сетка фальваркаў і іх плошчы. Таму ў ходзе аграрнай рэформы ("памеры валочной") не адбылося істотных змен ні ў колькасці фальваркаў, ні ў іх плошчы. Аднак шэрагам мер яна садзейнічала значнаму паляпшэнню гаспадарання ў фальварках[2].

---

[1] *Любавский М.К.* Разбор сочинения М. Довнар-Запольского "Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах". С. 48; *Ён жа.* Очерк истории Литовско-Русского государства... С. 100; *Łowmiański H.* Uwagi w sprawie podłoża społecznego... S. 441–442; *Wawrzyńczyk A.* Rozwój welkiej własności na Podlasiu... S. 199; *Kasperczak S.* Rozwoj gospodarki folwarcznej... S. 31–33.

[2] *Łowmiański H.* Uwagi w sprawie podłoża społecznego... S. 438–440; *Улащик Н.Н.* Кобринская экономия после проведения волочной померы // Уч. зап. Ин-та славяноведения. Т. 15. М., 1957. С. 265–266; *Ochmański J.* Reforma włoczna na Litwie i Białorusi w XVI w. // J. Ochmański. Dawna Litwa. Olsztyn, 1986. S. 169–171.

У вузкім сэнсе панскі двор – гэта перш за ўсё сядзіба, месца пастаяннага жыхарства феадала або яго ўпраўляючага ("врядника", "наместника"). Таму яны, як ужо адзначалася, па сутнасці з'яўляліся адміністрацыйна-гаспадарчымі цэнтрамі малых і вялікіх маёнткаў ("волостей"). Многія двары знаходзіліся каля населеных пунктаў рознага тыпу, а некаторыя – у іх. На тэрыторыі вялікіх маёнткаў звычайна былі двары не толькі іх уласнікаў, але і васалаў апошніх. У 30-х гг. XVI ст. ролю адміністрацыйна-гаспадарчага цэнтра вялікай воласці іграў, напрыклад, двор Радашковічы (Менскі павет) пана А.М. Гаштольта. У воласці гэтага двара былі замак, мястэчка і яшчэ яго два двары, а таксама некалькі маёнткаў з дварамі яго васалаў[1]. Памеры двароў і фальваркаў, а таксама іх колькасць у розных сацыяльных катэгорый феадалаў былі неаднолькавымі. Гэта абумоўлівалася перш за ўсё велічынёй іх маёнткаў, а таксама колькасцю апошніх[2]. Частка феадалаў мела па некалькі двароў, што былі размешчаны ў розных маёнтках як аднаго павета, так і некалькіх. Так, у кожнага з паноў Корсакаў было па некалькі маёнткаў з дварамі, што знаходзіліся каля аднайменных мястэчак і сёл Полацкага ваяводства[3].

Вялікія князі літоўскія і іншыя буйныя ўласнікі не маглі самі кіраваць сваімі шматлікімі маёнткамі. Таму яны даручалі ўпраўленне імі давераным асобам – "наместникам", або "врядникам": "державцам", "старостам", "тивунам" і г.д. Апошнія ў сваёй распарадча-гаспадарчай дзейнасці павінны былі кіравацца адпаведнымі інструкцыямі ("уставами"). За выкананне такіх функцый яны атрымлівалі пэўную долю даходаў маёнткаў[4].

Паводле даных крыніц XVI ст., што захаваліся, панскі двор з фальваркам у гэты час, як, верагодна, у пэўнай ступені і ў XV ст., уяўляў сабою комплекс разнастайных жылых і гаспадарчых пабудоў, а таксама сельскагаспадарчых угоддзяў[5].

Фальваркі з'яўляліся шматгаліновымі гаспадаркамі. Пераважнае значэнне мела раслінаводства. Яго асновай была вытворчасць збожжа, асабліва жыта. Плошча раллі асобных фальваркаў большасці феадалаў звычайна складала некалькі дзесяткаў гектараў. Але ў буйных феадалаў яна, як правіла, перавышала 100 га.

Каля 1520 г. у 41 двары Радзівілаў, размешчаным у розных рэгіёнах ВКЛ, было раллі на 12 000 бочак пасеву збожжавых, або ў сярэднім па 292 бочкі (каля 10 валок) на двор. Па фрагментарных даных, у першай палове XVI ст. ралля ў панскіх гаспадарках складала ў сярэднім 2–6 валок (40–120 га) на двор[6].

---

1 ДМАМЮ. Т. 1. № 7.
2 *Kasperczak S.* Rozwoj gospodarki folwarcznej... S. 153–156.
3 Полоцкая ревизия 1552 г. (далей – ПР) / К изд. подготовил И.И. Лаппо. М., 1905. С. 73–105.
4 *Любавский М.К.* Областное деление... С. 64–71, 420–422 і інш.; *Пичета В.И.* Аграрная реформа...С. 83–142; *Kasperczak S.* Rozwój gospodarki folwarcznej... S. 214–218.
5 *Kasperczak S.* Rozwój gospodarki folwarcznej... S. 43–102, 149–153.
6 Там жа. S. 51–79, 149–153; *Malczewska M.* Latufundium Radziwiłłow w XV do połowy XVI w. Warszawa; Poznań, 1985. S. 102–103, 108–110, 115, 117–121, 145–149, 152, 156–159, 161–163; *Jurkiewicz J.* Powinnosci włościan w dobrach prywatnych w Wielkim Księstwa Litewskiem w XVI–XVII w. Poznań, 1991. S. 359–362.

Паводле падлікаў аўтараў даных рэестра вымярэння зямлі на валокі ў Гародзенскім старостве ў 60-х гг. XVI ст., у сярэднім у кожным з 11 двароў, (Скідзель, Мількавічы, Масты, Мікалеўшчына, Новы Двор, Мінчоўка, Лабна, Квасоўка, Краснік, Гарадніца, Верцялішкі) пад пабудовамі было каля 65 прутоў (0,15 га) зямлі, пад агародамі – 105 (0,25 га), садамі – 6 (0,02 га), раллёй – 13 041 (30,9 га), выганамі – 809 (1,9 га), сенажацямі – 3211 (7,6 га), хмызнякамі і лясамі – каля 622 прутоў (1,4 га) зямлі. Акрамя таго, частка зямлі двароў (2162 пруты, або 5,1 га) была перададзена 131 селяніну-агародніку. Калі ў Гародзенскім старостве ў сярэднім на адзін фальварак прыпадала 17,8 валокі, то ў Кобрынскім – 29,7 (634,4 га), у Берасцейскім – 17,5 (364,5 га), у Пінскім – 12 (256 га) валок[1].

У буйных феадалаў пасевы і запасы асноўных збожжавых культур былі значна большымі, чым у іншых (гл. табл. 4), што ўскосна можа сведчыць пра таварны кірунак гэтай галіны панскай гаспадаркі.

Другой важнай галіной з'яўлялася жывёлагадоўля, асабліва конегадоўля[2]. У фальварках утрымліваліся розная свойская жывёла: валы, коні, каровы, авечкі, свінні і інш., а таксама хатнія птушкі: куры, гусі і інш.

У панскіх гаспадарках, як правіла, меліся розныя прадпрыемствы па апрацоўцы і перапрацоўцы сельскагаспадарчай сыравіны (млыны, бровары і інш.). Алкагольныя напіткі збываліся ў корчмах, якія былі амаль ва ўсіх маёнтках[3].

Звычайна феадалы, асабліва ўласнікі буйных маёнткаў, арганізоўвалі эксплуатацыю сваіх прамысловых (рыбных, борцевых, паляўнічых і інш.) угоддзяў[4].

Канкрэтнае ўяўленне пра панскія двары і іх фальваркі даюць інвентары маёнткаў феадалаў розных катэгорый пераважна другой паловы XVI ст. Так, паводле інвентара 1549 г., у двары Камянец вялікага маёнтка Радашковічы, які пасля смерці ўдавы магната пана А.М. Гаштольта княгіні С.В. Вярэйскай як вымарачны перайшоў у склад гаспадарскіх уладанняў, былі царква, а таксама розныя жылыя і гаспадарчыя пабудовы: два дамы, хата чорная, склеп з бярвення, два свірны з бярвення, кухня. Каля двара знаходзіліся пчальнік з адной пчалінай сям'ёй, абора з хлявамі для ўтрымання хатняй жывёлы, гумно з клуняй для малацьбы, ёўняй для сушкі снапоў, адрынай для захоўвання саломы. Акрамя таго, гэтаму двару належаў вялікі абшар зямлі, які складаўся з розных сельгасугоддзяў і лясоў. Дваровай ворнай зямлі тут было на 477,5 бочкі сяўбы збожжавых культур, або каля 339 га, калі прыняць, што ўчастак зямлі на бочку сяўбы роўны прыкладна 0,71 га, або аднаму моргу. Ня-

[1] Писцовая книга Гродненской экономии с прибавлениями (далей – ПКГЭ). Ч. 1. Вильна, 1881. С. 76–78, 120–122, 187–191, 251–253, 255–257, 282–286, 438–443, 514–517; Ч. 2. Вильна, 1882. С. 96–98, 141–142; Ревизия Кобринской экономии, составленная в 1563 году королевским ревизором Дмитрием Сапегою...(далей – РКЭ). Вильна, 1876. С. 74–75, 105–107, 133–135, 206–209, 259, 302–303; ДМАМЮ. № 17. С. 260, 333–335, 369–370, 404–406, 428, 433–434, 441–447; Писцовая книга бывшего Пинского староства, составленная по повелению короля Сигизмунда Августа в 1561–1566 годах пинским и кобринским старостою Лаврином Войною. Ч. 1. 1874. С. 113–114, 244–246; Ч. 2. Вильна, 1874. С. 2, 178–186.

[2] *Kasperczak S.* Rozwój gospodarki folwarcznej... S. 80–88.

[3] Там жа. S. 94–100.

[4] Там жа. S. 89–94.

значная частка яе – 1,5 бочкі (0,3%) – была выдзелена пад агарод. Астатнія ж дзевяць дзялянак раллі плошчай ад 1,5 да 300 бочак знаходзіліся ў розных месцах як каля двара, так і на значнай адлегласці (да вярсты – каля 2 км) ад яго. Усе палі ў адпаведнасці з трохпольным севазваротам былі падзелены на тры часткі ("лета"), але вельмі няроўныя па плошчы: першая частка – 91 бочка, другая – 57 бочак і трэцяя – 328 бочак. Да таго ж звычайна апрацоўвалася толькі нязначная частка ворыва. Так, пад жытам была 31 бочка (6,5% усяго ворыва), пад папарам – 57 бочак, (11,9%), пад яравы палетак прызначалася 28 бочак (5,9%), а ўсяго 116 бочак (24,3%). Астатнія палі на 360 бочак (75,4%) працяглы час ("30 лет") не апрацоўваліся і таму ператварыліся ў аблогу, якая зарасла хмызняком і выкарыстоўваліся як паша. Такім чынам, у гэтай панскай гаспадарцы трохпольны севазварот быў істотна парушаны: штогод засявалася не дзве трэці ворыва, як пры рэгулярным трохполлі, а значна менш за трэць.

Асноўнымі сельскагаспадарчымі культурамі, якія вырошчваліся на камянецкіх палях, былі жыта, авёс, ярыца, пшаніца, ячмень, грэчка, гарох, каноплі. Паводле фрагментарных даных, 1549 год быў неспрыяльны для развіцця раслін: ураджайнасць іх тут, як і ў іншых дварах маёнтка Радашковічы, склала ўсяго каля сам-2, г.зн. адно пасеянае зерне давала толькі каля двух зярнят.

У панскай гаспадарцы двара Камянец колькасць хатняй жывёлы была нязначная: карова, вол, бык, 3 цялушкі, ялавіца, 10 авечак, 3 казы, 6 свіней, 19 курэй і 5 гусей. Кіравала ў аборы рыкуння. Улічваючы тое, што сенажацяў тут было шмат – на 326 вазоў сена, можна меркаваць, што жывёлагадоўля ў гаспадарцы таксама была ў заняпадзе. Пра заняпад гэтай гаспадаркі сведчыць і тое, што ў дрэнным стане знаходзіліся існуючыя стаў, грэбля, млын і сажалкі, хоць спрыяльныя прыродныя ўмовы давалі магчымасць пабудаваць іх некалькі.

Да двара Камянец прылягала вялікая балоцістая пушча, якая распасціралася з поўначы на поўдзень на дзве мілі (каля 16 км), з захаду на ўсход – таксама на дзве мілі, г.зн. яе плошча складала каля 243 кв. км, або 24 300 га. У ёй вадзіліся мядзведзі, ласі і іншыя звяры.

Усе сельскагаспадарчыя работы ў панскай гаспадарцы выконвалі нявольныя чэлядзь, цяглыя людзі, бортнікі, а таксама часткова путныя баяры і агароднікі[1].

Як сведчыць рэестр 1563 г. двара Відагошча (Менскі павет), які належыў пану А.М. Івашэнцавічу, на сядзібе былі розныя пабудовы ("харомы"): два дамы на падклецях, скарбовы свіран, чатыры клеці, пякарня, чалядня, жытнік, бровар, кухня, склеп, дзве стайні, дзве адрыны і лазня. Каля двара знаходзіліся гумно з пуняй, дзвюма клунямі і адрынай, абора, два млыны. У свірне захоўваліся галоўным чынам прадметы ваеннага рыштунку: панцыры, прылбіцы, стрэлы і інш. На гарышчы аднаго з дамоў зберагалася свіное мяса ў выглядзе полцяў і кумпякоў, а ў падклецях – грэчка, розны солад і сена. У гумне было складзена шмат збажыны: 66 коп снапоў жыта, 50 коп аўса, 45 коп ярыцы, 35 коп пшаніцы, 30 коп ячменю, 13 коп грэчкі, усяго 239 коп снапоў.

---

[1] ДМАМІЮ. № 7. С. 110–116.

У аборы размяшчалася розная жывёла: два валы, пяць кароў, 12 свіней, столькі ж авечак і казёл. Тут жа знаходзіліся 12 гусей[1].

Паводле рэестра 1598 г. фальварка Чурылавічы таго ж павета, які належыў менскаму касцёлу, тут былі розныя пабудовы, у тым ліку чорныя хаты, піўніца, сырнік, свірны, пуні для жывёлы, хлявы для свіней, гусей і качак, гумно з пунямі для збажыны і сена і асеццю з токам і інш. Дваровае ворыва было засеяна жытам – 80 бочак, грэчкай – 16 бочак, ячменем – 12 бочак і просам паўбочкі, а ўсяго – 108,5 бочкі. Значная колькасць збажыны захоўвалася ў свірне: 30 бочак жыта, 15 – пшаніцы, 12 – ячменю, 9 – ярыцы і па 8 бочак – аўса і грэчкі. У фальварку Чурылавічы мелася значная колькасць рознай свойскай жывёлы: 17 валоў, 8 рабочых кляч, 8 кароў, 4 цялушкі, 3 быкі, 35 авечак, 26 свіней, 42 гусі, 88 качак, 75 курэй і 12 каплуноў[2].

Вялікімі сядзібамі былі двары Гатава і Новы Двор у Менскім павеце, якія ў 1590 г. атрымалі ў спадчыну паны Мікалай, Крыштоф і Аляксандр Мікалаевічы Служкі – крычаўскія старосцічы, г.зн. сыны крычаўскага старосты – сярэдняга феадала (1567 г. – 13 коней). У двары Гатава былі чатыры дымы, у тым ліку адзін для ткачоў, а другі для чэлядзі, грыдніца для вазніц і працак, кухня, дзве хаты, дзве стайні, чатыры свірны, пякарня, піўніца, бровар з адпаведным начыннем і іншыя пабудовы.

У аборы гэтага двара з чатырма хлявамі ўтрымліваліся 2 валы, 3 каровы, 6 быкоў, 6 цялят, 8 авечак, 8 коз, 24 свінні, 8 курэй. У гумне з трыма адрынамі і асеццю захоўвалася шмат немалочанага збожжа: пшаніца – 60 коп снапоў, ярыца – 20 коп, жыта – 3 капы, а таксама па некалькі бочак малочанага ячменю і жыта. Разам з тым тут у шматлікіх свірнах захоўвалася вялікая колькасць розных рэчаў: адзенне, пасцельныя прыналежнасці, сталовыя прыборы, посуд рознага прызначэння, тканіны і інш. Большая частка іх была куплена. Пры гэтым некаторыя з іх мелі, магчыма, іншаземнае паходжанне (напрыклад, сярэбраныя лыжкі і кубкі). У многім аналагічнай была забудова і другога двара паноў Служак – Новы Двор. Тут таксама захоўвалася вялікая колькасць немалочанага збожжа і ўтрымлівалася шмат рознай хатняй жывёлы. На р. Свіслач быў млын[3].

Даволі поўнае ўяўленне пра маёмасны стан незаможных шляхціцаў даюць рэдкія падрабязныя апісанні іх маёнткаў. Такі дэталёвы інвентар маёнтка Беліца Г. Войшнара з ацэнкай ("шацункам") многіх рэчаў і сялян быў складзены ў 1594 г. у сувязі з перадачай яго за даўгі па рашэнні суда пану Л. Мамонічу – скарбнаму ВКЛ. Так, дом быў ацэнены ў 5 коп грошаў; свіран на падклеці – у 1 капу; сырніца на падклеці – у 2 капы; стайня на шэсць коней – у 30 грошаў; прадметы хатняга начыння – у 3–30 грошаў кожны; розная жывёла – 3–40 грошаў кожная; рознае збожжа – у 3–8 грошаў за капу снапоў. Путны баярын быў ацэнены ў 30 коп 30 грошаў, двое сялан – у 20 коп і пустоўшчына – у 5 коп. Кошт усяго маёнтка Беліца склаў каля 146 коп грошаў[4].

---

[1] ДМАМЮ. № 10.
[2] Метрыка ВКЛ. А.з. 417–419.
[3] АВК. Т. 14. Инвентари имений XVI ст. Вильна, 1887. № 39.
[4] Там жа. № 66.

Падобны ж інвентар маёмасці шляхціца быў складзены і ў 1599 г. у сувязі з перадачай за даўгі ў 350 коп грошаў двара Пруд маёнтка Відагошча С. Хлудзеня пану Г. Макаравічу – земскаму суддзі Менскага павета. Тут розныя дваровыя пабудовы былі ацэнены ў 10 коп грошаў – 3 капы 20 грошаў кожная; рознае збожжа ў снапах – у 10 – 20 грошаў за капу; розная хатняя жывёла – у 1 грош – 2 капы грошаў; увесь шматлікі "спрат домовый" (бочкі, вёдры, кадзі, ушаткі і інш.) – у 3 капы 30 грошаў; розны гаспадарчы інвентар (вазок, долаты, косы, нарогі, сані, сярпы, сякеры, хамуты і інш.) – у 2 пенязі – 12 грошаў ("детина недорослый") і ў 20 коп грошаў ("девка дорослая"). Пры гэтым судовы выканаўца ("генерал") "малой" чэлядзі шацунку не чыніў. Увесь кошт маёмасці двара Пруд склаў каля 125 коп грошаў[1].

У XVI ст. многія феадалы, асабліва ўласнікі вялікіх лясоў ("пущ"), разгарнулі інтэнсіўную вытворчасць лесаматэрыялаў, попелу і іншых "лесных товаров", што карысталіся значным попытам на знешнім рынку[2].

Развіццё панскай гаспадаркі вяло да павелічэння вытворчасці сельскагаспадарчай і прамысловай прадукцыі. Пашырэнне яе збыту ўзмацняла сувязі панскай гаспадаркі з унутраным і знешнім рынкамі. Пры гэтым большасць феадалаў была звязана амаль выключна з унутраным рынкам, бо непасрэдна экспарт і імпарт для іх быў немагчымым[3]. Знешні гандаль вялі галоўным чынам буйныя феадалы. Пры гэтым яны звычайна карысталіся паслугамі вядомых купцоў-пасрэднікаў[4]. Пасля продажу сваёй прадукцыі феадалы за атрыманыя грошы набывалі не толькі вырабы рознага утылітарнага прызначэння мясцовых і замежных рамеснікаў і мануфактур з чорных, каляровых і каштоўных металаў (зброю, посуд, нажы, замкі і г.д.), шкла (посуд і г.д.) і іншых матэрыялаў (паперу, пергамент і г.д.), але і прадметы раскошы: ювелірныя вырабы, сукно, шоўк, вострыя прыправы (гваздзіку, карыцу, перац), віно і іншыя імпартныя тавары.

Ператварэнне панскай гаспадаркі ў фальварак, рост сувязей апошняга з унутраным і знешнім рынкам абумовілі значнае павышэнне яе ролі ў структуры крыніц даходаў феадалаў з маёнткаў[5]. Фальварак становіцца адной з асноўных крыніц іх прыбыткаў.

Рост таварна-грашовых сувязей феадалаў абумовіў значнае пашырэнне іх разнастайных асабістых патрэб і ўсё больш поўнае задавальненне іх праз рынак. Таму яны, імкнучыся павысіць даходнасць сваіх маёнткаў,

---

1 АВК. Т. 14. Инвентари имений XVI ст. № 87.

2 *Hedemann O.* Dawne puszczy i wody. Wilno, 1934. S. 38–52; *Wawrzyńczyk A.* Rozwój welkiej własności na Podlasiu... S. 276–280; *Kasperczak S.* Rozwój gospodarki folwarcznej... S. 100–102, 276–280.

3 *Wawrzyńczyk A.* Rozwój welkiej własności na Podlasiu... S. 267, 276; *Копысский З.Ю.* Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII в. Мн., 1966. С. 67–72.

4 Метрыка. А.з. 39, а. 293–294, 311–314; а.з. 269, а. 56 адв. – 60; а.з. 271, а. 44–58; *Wawrzyńczyk A.* Rozwój welkiej własności na Podlasiu... S. 267–280; *Jurkiewicz J.* Powinności włościan w dobrach prywatnych... S. 60–61.

5 *Ochmański J.* Gospodarka folwarczna w dobrach hospodarskich na Kobryńszczyźnie: Studium z dziejów folwarku na Białorusi. Koniec XV – pocz. XVII w. // Kwartalnik Historii Kultury Materialnej. Warszawa, 1958. № 3. S. 393; *Ochmanski J.* Powstanie i rozwój latyfundium biskupstwa wileńskiego... S. 148–149; *Ён жа.* Historia Litwy. S. 102.

дасягаюць гэтай мэты пераважна шляхам далейшага ўзмацнення эксплуатацыі сялянства.

Такім чынам, у XV–XVI ст. у выніку ўмацавання зямельнай уласнасці феадалаў, пашырэння іх эканамічных, палітычных і іншых прывілей, росту таварна-грашовых адносін істотна мяняецца сутнасць панскай гаспадаркі. Яна ператвараецца ў фальварак – у вялікай ступені таварную гаспадарку, вытворчасць у якой апіралася на працу і інвентар прыгонных сялян. Пашырэнне фальваркаў, увядзенне і павелічэнне паншчыны і рост на такой аснове вытворчасці сельгаспрадукцыі для збыту з'явіліся асноўнымі шляхамі рэалізацыі феадаламі Беларусі, як і ўсяго ВКЛ, спрыяльнай рыначнай кан'юнктуры з мэтай павышэння даходнасці сваіх маёнткаў. Да сярэдзіны XVI ст. фальварак стаў пануючай формай арганізацыі панскай гаспадаркі ў паўночна-заходняй Беларусі.

**Сялянская гаспадарка.** У XIV–XVI ст. пераважным па сваёй колькасці, асноўным вытворчым непрывілеяваным саслоўем феадальнага грамадства было эксплуатуемае і залежнае ад феадалаў сялянства. У пісьмовых крыніцах сяляне звычайна называліся "людьми" або "поддаными"[1].

Агульныя назвы сялян, як правіла, дапаўняліся вызначэннямі іх канкрэтнага сацыяльнага статуса. Яны характарызавалі, па-першае, прыналежнасць сялян той ці іншай катэгорыі феадалаў: дзяржаўныя ("господарские"), шляхецкія ("княжеские", "панские", "боярские"), духоўныя ("церковные" або "костельные"); па-другое, выкананне той ці іншай галоўнай павіннасці: "люди данные", або "данники", "люди тяглые", "люди осадные", "слуги" і інш.; па-трэцяе, ступень асабістай залежнасці ад феадалаў: "люди похожие", або "вольные", "люди непохожие", або "отчизные" и "отчичи".

Асобнай катэгорыяй сельскага залежнага насельніцтва была "челядь невольная" (рабы). Яе можна аднесці да сялянства толькі ўмоўна, бо ў яе статусе разам з рысамі падабенства да яго статуса меліся і істотныя адрозненні. Прыкметная спецыфіка сацыяльнага статуса розных груп сялянства дазваляе гісторыкам па пэўных крытэрыях вызначыць у яго структуры некалькі асноўных катэгорый.

Асноўнай вытворчай ячэйкай сельскай гаспадаркі з'яўлялася гаспадарка селяніна. У гістарычных крыніцах яна фігуруе пад тэрмінам "дым". Дым уяўляў сабой гаспадарку, як правіла, адной малой, або індывідуальнай, сялянскай сям'і. Найбольш тыповай яе формай была сям'я ў складзе бацькоў і дзяцей, якія яшчэ не стварылі сваіх сямей. Напрыклад, у маёнтку Ганута Ашменскага павета ў 1569 г. такіх сямей было 36 з усіх 65. У сяле Рудчычы гэтага маёнтка ў адным дыме жылі Ф. Сапожчыч з двума сынамі, у другім – яго брат з трыма сынамі і ў трэцім – іх стрыечны брат з двума братамі. У сяле Цітва Менскага павета ў 1590 г. такіх гаспадарак было 75 са 105. Даныя інвентароў іншых маёнткаў так-

[1] РИБ. Т. 20. СПб., 1903. С. 31, 69; АВК. Т. 17: Акты Гродненского земского суда. 1539–1565 гг. Вильна, 1890. № 68, 95, 550; Акты Литовской метрики (далей – АЛМ). Т. 1. Вып. 1. 1413–1498 гг. Варшава, 1896. № 275; АСД. Т. 6. Вильна, 1869. С. 31; *Любавский М.К.* Областное деление... С. 300, 315, 356–358, 713.

сама сведчаць, што ў асяроддзі сялян пераважалі індывідуальныя сем'і, якія вялі гаспадарку асобна[1].

Сустракаліся таксама гаспадаркі вялікіх сем'яў розных відаў, якія складаліся з некалькіх сямей, што не раздзяляліся. Варыянты шматсямейных дымоў былі разнастайныя. Напрыклад, у маёнтку Цітва такія дымы ўяўлялі сабой гаспадаркі бацькоў і іх жанатых сыноў; бацькоў і іх замужніх дачок; бацькоў і іх жанатага сына і замужняй дачкі; бацькоў, іх сыноў і жанатага брата. Непадзельнасць гаспадаркі такіх сямей выражалася ў тым, што яны жылі "на том же хлебе в одном дыму" (хаце).

Шматсямейныя дымы з'яўляліся сямейнымі абшчынамі, ці вялікімі сем'ямі. У папярэдні перыяд яны былі распаўсюджаны, верагодна, больш, чым у XVI ст.[2]

Адным з істотных элементаў гаспадарчых рэсурсаў дыма была рабочая сіла. З-за выключнай абмежаванасці адпаведных даных можна прывесці толькі адзін прыклад, які дае ўяўленне аб населенасці дымоў і, значыць, забяспечанасці іх рабочай сілай. У 1569 г. у інвентары маёнтка Ганута ў 65 дымах пералічана 186 чалавек мужчынскага полу, у тым ліку 95 сыноў, што складае ў сярэднім 2,9 чалавека (у тым ліку 1,5 сына) на дым. Большасць іх (130 чалавек) жыла ў дымах, дзе было па два–чатыры чалавекі (44 дымы). У 14 дымах адзначаны толькі гаспадары, а ў астатніх сямі жыло па пяць–восем чалавек. У дадзеным рэдкім выпадку ўлічаны, верагодна, усе асобы мужчынскага полу (дарослыя і дзеці), бо ёсць звесткі нават аб унуках. Пры ўмове, што прыблізна 60% членаў сям'і былі дарослымі (пасля 15 гадоў), тут на гаспадарку прыходзілася ў сярэднім па 1,7 работніка. У дыме жыло прыкладна столькі ж дарослых асоб жаночага полу. Такім чынам, у гэтым маёнтку на дым у сярэднім прыпадала 3,4 работніка і работніцы, а сярэдняя населенасць дыма складала 5,8 чалавека. Прыкладна такія ж вынікі даюць падлікі адпаведных даных і іншых інвентароў маёнткаў Беларусі[3].

Такім чынам, у сялянскім дыме ў сярэднім жылі прыблізна шэсць чалавек, з якіх чатыры былі дарослымі работнікамі і работніцамі.

Асноўнай формай сельскіх паселішчаў з'яўляліся вёскі, якія тады абазначаліся толькі тэрмінам "село". Населенасць вёсак была рознай: ад аднаго да некалькіх дзесяткаў дымоў. Гаспадаркі аднаго сяла складалі суседскую абшчыну, а некалькі бліжэйшых сёл, якія належалі звычайна аднаму пану, – валасную абшчыну ("волость").

Паводле даных крыніц XVI ст., сялянская гаспадарка ўяўляла сабою складаны гаспадарчы комплекс. На сялянскіх сядзібах ("дворищах")

---

[1] Istorijos archyvas. T. 1. XVI am iaus Lietuvos inventoriai (далей – IA) / Sur. K. Jablonskis. Kaunas, 1934. № 20; АВК. Т. 14. Инвентари имений XVI ст. Вильна, 1887. № 40, 42, 45, 56, 62, 77, 84; БА. Т. 2. Мн., 1928. № 79; АВК. Т. 17. № 18, 20, 47, 75, 88, 911, 958; АВК. Т. 14. № 40.

[2] АВК. Т. 17. № 67; *Łowmiański H.* Początki Polski. Z dziejów słowian w I tysiącleciu n.e. T. 3. Warszawa, 1967. S. 356–372; IA. № 20.

[3] *Łowmiański H.* Początki Polski... S. 295; АВК. Т. 13. № 98; Т. 14. № 40, 45, 62, 67, 77, 84; Т. 33: Акты, относящиеся к истории западно-русской церкви. Вильна, 1908. № 105; РИБ. Т. 20. С. 1519–1523; Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў (далей – РДАСА). Ф. 389 (Метрыка ВКЛ), воп. 1, а.з. 229, а. 128–129.

знаходзіліся жылыя дамы, розныя гаспадарчыя пабудовы (гумны, клеці, пуні, хлявы і інш.). Звычайна сяляне-гаспадары мелі ўвесь неабходны гаспадарчы інвентар: бароны, калёсы, косы, сані, сохі, сякеры, сярпы і іншыя прылады працы[1].

Кожная сялянская гаспадарка карысталася зямлёй, якой сялян надзялялі феадалы – уласнікі зямлі. Гэта было неабходнай і істотнай рысай сістэмы феадальных вытворчых адносін і абумоўлівала павіннасны характар сялянскага землеўладання. Апошняе знайшло адлюстраванне нават у адной з асноўных назваў надзела – "службы". Феадалы звычайна прызнавалі яго спадчыннасць, але толькі пры ўмове плацежаздольнасці сялян. Сутнасць гэтага прынцыпу вызначана лаканічнай нормай судовай практыкі: "...мужик, пакуль добр, потуль есть отчич", г.зн. можа карыстацца зямлёй бацькі ("отчиной")[2].

Правы сялян на распараджэнне надзеламі былі істотна абмежаваны. Сяляне не мелі права перадаваць зямлю ў часовае ці пастаяннае ўладанне без дазволу свайго пана шляхам закладу ("заставы"), продажу і іншых здзелак. Але насуперак забароне яны нярэдка ўчынялі такія здзелкі. Апошнія ліквідаваліся ў адміністрацыйным ці ў судовым парадку, калі супярэчылі інтарэсам уласнікаў зямлі, на той падставе, што "мужик простый не мает моцы земли господарской обель продавати"[3].

Такім чынам, сутнасць зямельных пагадненняў сялян заключалася ў тым, што яны перадавалі толькі правы ўладання і карыстання зямлёю, а не права ўласнасці, якога не мелі. Таму фактычная магчымасць сялян распараджацца сваімі надзеламі без дазволу ўласнікаў зямлі магла ў некаторай ступені суіснаваць з манаполіяй феадалаў на асноўны сродак вытворчасці. У зямельных пагадненнях сялян своеасабліва выяўлялася характэрная для феадальных вытворчых адносін некаторая гаспадарчая самастойнасць непасрэдных вытворцаў[4].

Асноўнымі сельскагаспадарчымі ўгоддзямі ў складзе сялянскіх надзелаў былі ворыва і сенакосы. Да сярэдзіны XVI ст. надзелы розных гаспадарак, як правіла, вельмі адрозніваліся па сваёй плошчы не толькі ў розных маёнтках, але іншы раз нават у адной і той жа вёсцы. Напрыклад, у гаспадарскім маёнтку Мядзель Ашменскага павета ў 1545 г. у асобных гаспадарках надзелы складалі 3,5–32 бочкі (2,5–22,4 га) раллі і да 20 вазоў (да 10 га) сенажаці, а ў сярэднім – 7,7 бочкі (5,4 га) раллі і 5,1 воза (2,6 га) сенажаці на дым. У 1549 г. у маёнтку Радашковічы Менскага павета былі гаспадаркі (дымы) з надзеламі 2–50 бочак (1,4–35 га) раллі і 2–12 вазоў (1–6 га) сенажаці на дым. У 1571 г. маёнтку Глуск Наваградскага павета зямельны надзел адной гаспадаркі ў сярэднім складаў 5,6 бочкі (3,9 га)

---

[1] АВК. Т. 17. № 292; БА. Т. 2. № 296; Метрыка ВКЛ. А.з. 225, а. 182.

[2] Статут 1529. Т. 2, ч. 1. Раздз. VIII, арт. 21; Статут Великого княжества Литовского 1566 г. (Статут 1566) // Временник имп. Московского общества истории и древностей российских. М., 1855. Кн. 23. Раздз. IX, арт. 18; Статут 1588. Раздз. IX, арт. 27.

[3] АВК. Т. 17. № 214, 832, 861,881; *Спірыдонаў М.Ф.* Аб сутнасці продажу-куплі зямлі сялянамі Беларусі ў першай палове XVI ст. // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1971. № 3. С. 92–100; *Ён жа.* Застава закуп земли государственными крестьянами Белоруссии в XVI в. // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы 1971 г. Вильнюс, 1974. С. 57–64.

[4] *Довнар-Запольский М.В.* Введение // ДМАМЮ. Т. 1. М., 1897. С. XVII. № 5, 7; АСД. Т. 3. Вильна, 1867. № 26.

раллі і 7,8 воза (3,9 га) сенажаці[1]. Такім чынам, у сярэднім на адзін сялянскі дым прыпадала прыблізна да 10,6 га розных асноўных угоддзяў.

У тых выпадках, калі сялянам зямлі не хапала, яны ў залежнасці ад патрэб і магчымасцей сваіх гаспадарак з дазволу феадалаў распрацоўвалі дзялянкі, занятыя лесам, бралі пустуючыя землі ("пустовщины"), а калі-нікалі набывалі зямлю за грошы ў часовае ці ў пастаяннае карыстанне.

Акрамя індывідуальных надзелаў сяляне адной або некалькіх суседніх сельскіх абшчын мелі права карыстацца рознымі агульнымі ўгоддзямі пераважна ў навакольных лясах.

Сяляне працягвалі асвойваць землі, занятыя лясамі, але прыдатныя для сельскай гаспадаркі. Падсечка, вырубка і спальванне хмызняку і дрэў з'яўляліся неабходнымі этапамі ператварэння лясоў у сельскагаспадарчыя ўгоддзі. Працэс асваення ішоў пастаянна і паўсюдна, хоць і з рознай ступенню інтэнсіўнасці ў розных рэгіёнах[2]. З асваеннем сялянамі зямель, занятых лясамі, павялічвалася агульная плошча сельскагаспадарчых угоддзяў, пашыраліся арэалы старажытных сёл, узнікалі новыя паселішчы. Сялянская каланізацыя была адной з важных умоў павелічэння вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі.

Працягваўся таксама працэс удасканалення культуры земляробства, г.зн. розных спосабаў захавання, аднаўлення і павышэння ўрадлівасці глебы. Да валочнай памеры прымянялася ў асноўным папаразбожжавая сістэма земляробства. Панаваў нерэгулярны трохпольны севазварот, блізкі па сваёй сутнасці да двухполля, бо засявалася звычайна не дзве трэці раллі, як пры рэгулярным трохпольным севазвароце, а толькі палова ці нават меншая яе частка. Ралля дзялілася на тры палі, хоць звычайна і не роўныя па плошчы. Чаргаванне сельскагаспадарчых культур на адным і тым жа полі адбывалася ў адпаведнасці з тыповым для папаразбожжавай сістэмы земляробства трохпольным цыклам севазвароту: азімае жыта, ярына, папар[3]. Рэгулярны трохпольны севазварот у сялянскай гаспадарцы замацаваўся ў якасці пераважнага ў выніку валочнай памеры.

Асноўнымі прыладамі земляробства былі драўляная двухзубая саха, на рабочыя часткі якой насаджваліся жалезныя наканечнікі ("нарогі"), і драўляная барана. Кусты і дрэвы высякаліся з дапамогай сякер[4].

У якасці цяглавай сілы выкарыстоўваліся валы і коні. Паводле крыніц XVI ст., на захадзе Беларусі пераважалі двухваловыя запрэжкі, а на ўсходзе – аднаконныя. Забяспечанасць сялянскіх гаспадарак рабочай

---

[1] Да аграрнай рэформы плошча раллі вымяралася колькасцю неабходных для сяўбы бочак (салянак) зерневых, а плошча сенажацей – колькасцю накошаных вазоў сена. Тут і далей дзялянка раллі, на якой высявалася адна бочка зерня, прынятая роўнай 0,7 га ці аднаму моргу, а дзялянка сенажаці, на якой можна было накасіць адзін воз сена, – 0,5 га ці 0,7 морга. Гл.: АЮЗР. Т. 1. СПб., 1863. № 182; АВК. Т. 17. № 46, 59, 70, 110, 137, 443; АСД. Т. 3. Вильна, 1867. № 109; *Wysłouch S.* Rozwój granic i terytorjum powiatu Kobryńskiego do połowy XVI w. Wilno, 1930. S. 3–13, 20–25, 30–35; *Topolska M.B.* Dobra dereczyńskie od XV do połowy XVII w. // Zeszyty naukowe Uniwersitetu im. A. Mickiewicza w Poznaniu. № 74. Historia. Studia z dziejów Wielkiego Księstwa Litewskiego XV–XVIII w. Poznań, 1971. Z. 11. S. 55–56.

[2] *Юргинис Ю.М.* О земледельческой системе, предшествовавшей трехполью // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы 1962 г. Мн., 1964. С. 95–100.

[3] РИБ. Т. 20. С. 1522–1523; Метрыка ВКЛ. А.з. 225, а. 55–56, 151–152; а.з. 228, а. 64–65; а.з. 229, а. 128–129.

[4] РИБ. Т. 20. 1522–1523; Метрыка ВКЛ. А.з. 229, а. 128–129; АВК. Т. 17. № 996; Метрыка ВКЛ. А.з. 264, а. 65–76.

жывёлай у розных маёнтках была неаднолькавай, складаючы ў сярэднім па 0,5–1,7 вала і 0,3–1,2 каня на дым (табл. 5).

*Табл. 5.* Забяспечанасць сялянскіх гаспадарак рабочай жывёлай у XVI ст.[1]

| Назва маёнтка | Павет | Год | Дымы | Рабочая жывёла | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | усяго | | на 1 дым | |
| | | | | валы | коні | валы | коні |
| Сакаўшчына | Ашменскі | 1522 | 73 | 94 | 86 | 1,3 | 1,2 |
| Розны | Розныя | 1539 | 3797 | 5728 | 4318 | 1,5 | 1,1 |
| Мядзель Стары | Ашменскі | 1545 | 140 | 97 | 107 | 0,7 | 0,8 |
| Радашковічы | Менскі | 1549 | 142 | 174 | 151 | 1,2 | 1,1 |
| Раванічы | Менскі | – | 79 | 42 | 78 | 0,5 | 0,9 |
| Барадзічы | Берасцейскі | 1554 | 85 | 115 | 62 | 1,4 | 0,7 |
| Ятвезск | Гарадзенскі | 1555 | 33 | 43 | – | 1,3 | 1,7 |
| Гняздзілавічы | Ашменскі | – | 69 | 116 | – | 1,7 | – |
| Глыбокае | Ашменскі | 1557 | 60 | 58 | 31 | 0,9 | 0,5 |
| Нестановічы | Менскі | 1559 | 36 | 43 | 35 | 1,2 | 0,9 |
| Ляды | Наваградскі | 1561 | 54 | 60 | 16 | 1,1 | 0,3 |
| Відагошча | Менскі | 1563 | 33 | 48 | 42 | 1,4 | 1,2 |
| Свержань | Наваградскі | 1569 | 46 | 66 | 53 | 1,4 | 1,2 |
| Ганута | Ашменскі | 1569 | 65 | 71 | 76 | 1,1 | 1,2 |

У сялянскай гаспадарцы галоўную ролю адыгрывала раслінаводства. Сяляне вырошчвалі жыта, авёс, грэчку, ячмень, пшаніцу, проса, а таксама бабовыя і тэхнічныя культры. Зерневыя жалі для прасушкі, а затым звозілі ў гумны для далейшага захавання і абмалоту[2].

Ураджайнасць асноўных зерневых культур складала каля сам-3, значыць прыкладна чатыры цэнтнеры з гектара. У той час яна ў значнай ступені залежала ад прыродных умоў, таму была не толькі нізкай, але і няўстойлівай. Ураджаі мяняліся ў дастаткова шырокіх межах, неўраджаі здараліся часта[3].

На сваіх агародах сяляне вырошчвалі капусту, моркву, буракі, рэдзьку, рэпу, цыбулю, часнок, кроп, мак і іншыя культуры.

Разам з раслінаводствам у сялянскай гаспадарцы развівалася жывёлагадоўля. Яна забяспечвала гаспадарку цяглавай сілай і арганічнымі ўгнаеннямі, а насельніцтва – прадуктамі харчавання і сыравінай.

---

[1] ДМАМЮ. № 3; *Ochmański J.* Powstanie i rozwoj latyfundium biskupstwa wileńskiego. S. 132; *Довнар-Запольский М.В.* Введение // ДМАМЮ. С. XVII; ДМАМЮ. № 7; Аддзел рукапісаў Бібліятэкі АН Літвы (далей – АРБ АНЛ). Ф. 43, а.з. 3690; АВК. Т. 14. № 2; MDR. S. 203–207; НГАБ. Ф. 1727, воп. 1, а.з. 23, а. 484–491; ф. 694, воп. а.з. 1625; ДМАМЮ. № 10; ІА. № 20.

[2] *Kasperczak S.* Rozwój gospodarki folwarcznej... S. 149–153; *Żytkowicz L.* Plony zbóż w Polscę, Czechach, na Węgrach i Słowacji w XVI–XVIII w. // Kwartalnik Historii Kultury Materialnej. Warszawa, 1970. № 2. S. 227–253.

[3] НГАБ. КМФ 5. Воп. 1, а.з. 4292, 4294.

Акрамя цяглавай жывёлы, якая выкарыстоўвалася пры апрацоўцы зямлі, перавозцы грузаў і ў паездках, сяляне разводзілі таксама розныя віды прадукцыйнай жывёлы (кароў, свіней, курэй, гусей, качак і інш.). Зноў жа паводле фрагментарных даных, забяспечанасць розных сялянскіх гаспадарак свойскай жывёлай была вельмі рознай. Так, у 1569 г. у сялян маёнтка пана А.Б. Валовіча Свержань Наваградскага павета на адзін дым прыходзілася ў сярэднім па 1,4 вала, 1,2 каня, 1,2 галавы буйной рагатай жывёлы, 4,1 авечкі, 2,7 казы, 3,1 свінні, 6,3 курыцы і па 2,4 гусі. Тут у некаторых гаспадарках колькасць асобных відаў жывёлы на адзін дым даходзіла да 6 кароў, 10 авечак, 7 коз, 7 свіней, 15 курэй і 10 гусей, а ў часткі сялян таго ці іншага не было зусім[1].

Наяўнасць у Беларусі вялікіх і багатых прамысловых угоддзяў спрыяла шырокаму распаўсюджванню разнастайных промыслаў, якія былі звязаны з эксплуатацыяй такіх угоддзяў. Першапачаткова яны знаходзіліся ў непасрэдным карыстанні сялян, якія абавязаны былі за гэта выконваць на карысць феадалаў пэўныя павіннасці звычайна ў форме даніны прадукцыяй адпаведных промыслаў. Аднак паводле даных крыніц XVI ст., да гэтага часу пераважна з-за скарачэння найбольш каштоўных прамысловых угоддзяў феадалы ў тых маёнтках, дзе былі іх двары, асабліва ў заходняй частцы Беларусі, забаранілі сялянам карыстацца імі і арганізавалі эксплуатацыю апошніх на сваю карысць пры дапамозе сялян спецыяльных служб.



Пчальнік. Догляд саду. Гравюра першай паловы XVI ст.

Адным з распаўсюджаных промыслаў было бортніцтва, г.зн. догляд і збор мёду і воску пераважна лясных пчол. Аб гэтым, у прыватнасці, сведчыць наяўнасць у складзе павіннасцей сялян амаль усіх катэгорый па характары галоўных павіннасцей, асабліва даннікаў Падняпроўя, даніны мёдам нават у другой палове XVI ст. Статуты ВКЛ прадугледжвалі высокія штрафы за псаванне борцяў, а таксама за крадзеж мёду. З воску выраблялі свечкі. Мёд і воск з'яўляліся таксама каштоўным таварам[2].

Шматлікія рэкі і азёры Беларусі былі багатыя на разнастайныя віды рыбы. Акрамя натуральных вадаёмаў, рыбу лавілі і ў шматлікіх ставах, якія меліся амаль пры кожным панскім двары. Найбольш каштоўныя рыбныя ўгоддзі ("езы", "ловы", "тоні") знаходзіліся звычайна ў непасрэдным уладанні і карыстанні феадалаў. Догляд такіх рыбных угоддзяў і вылаў у іх рыбы паны даручалі сялянам спецыяльных службаў: "пруднікам" і рыбаловам. Пры наяўнасці ў маёнтку панскага двара сяляне

[1] АВК. Т. 13. № 100; АСД. Т. 3. № 109; Статут 1529. Раздз. IX, арт. 11; Статут 1588. Раздз. X, арт. 13, 14; *Hedemann O.* Dawne puszcze i wody. S. 125–144; *Kasperczak S.* Rozwój gospodarki folwarcznej... S. 91–92.

[2] Архив ЮЗР. Ч. 7. Акты о заселении Юго-Западной России. Т. 1. Киев, 1886. № 85; НГФБ. Ф. 694, воп. 7, а.з. 936; АВК. Т. 13. № 100; Статут 1529. Раздз. IX, арт. 2, 8–9; Статут 1588. Раздз. IV, арт. 98; *Kasperczak S.* Rozwój gospodarki folwarcznej... S. 89–91.

маглі лавіць рыбу звычайна толькі за адпаведную плату ва ўказаных месцах і ў абмежаванай колькасці. У тых рэгіёнах Беларусі, дзе амаль усе рыбныя ўгоддзі былі ў непасрэдным карыстанні сялян, яны за гэта ўносілі панам спецыяльныя плацяжы. Рыба ў сушаным, вяленым, вэнджаным і салёным выглядзе ішла на харчаванне, а таксама служыла звычайным таварам[1].

У вялікіх лясах і пушчах, а таксама рэках і азёрах Беларусі вадзілася шмат разнастайных паляўнічых жывёл: алені, бабры, барсукі, ваверкі, ваўкі, выдры, гарнастаі, дзікі, зайцы, зубры, казулі, куніцы, лані, ласі, ласкі, лісы, мядзведзі, рысі, трусы і інш. Асабліва каштоўныя паляўнічыя ўгоддзі звычайна знаходзіліся ў непасрэдным уладанні і карыстанні феадалаў і эксплуатаваліся пры дапамозе сялян-слуг асобнай катэгорыі: асочнікаў, баброўнікаў, сакольнічых, стральцоў і інш. Паляванне ж на вельмі каштоўных звяроў было не толькі забавай, але і прывілеяй паноў. Яны разводзілі шмат парод паляўнічых сабак і драпежных птушак. Штрафы за іх крадзеж або забойства былі выключна высокія і даходзілі да 720 грошаў за бабровага і іншых паляўнічых сабак і да 1200 грошаў за чырвонага крэчата і сокала. Высокімі былі штрафы і за браканьерства. Сяляне звычайна маглі паляваць толькі на дробных жывёл. Калі ж ім даводзілася злавіць ці забіць каштоўнага звера, то скуру яны павінны былі аддаць свайму пану. Праўда, у Падзвінні і Падняпроўі ў тых маёнтках, дзе панскіх двароў не было, паляўнічымі ўгоддзямі карысталіся сяляне, але ўносілі за гэта спецыяльныя плацяжы. Паляванне давала пушніну і мяса. Футра служыла адным з найкаштоўнейшых тавараў на ўнутраным і знешнім рынках[2].

Значную ролю ў забеспячэнні разнастайных патрэб насельніцтва ігралі розныя традыцыйныя сельскія рамёствы, звязаныя з ручной апрацоўкай прадукцыі раслінаводства, жывёлагадоўлі і промыслаў, а таксама драўніны. Узвядзенне жылых і гаспадарчых пабудоў, выраб шмат якіх прылад працы, рэчаў хатняга ўжытку, адзення, абутку і іншых прадметаў былі даступныя амаль кожнаму селяніну, бо, як правіла, не патрабавалі асаблівых ведаў і навыкаў, і вопыт гэты перадаваўся з пакалення ў пакаленне.

Аднак найбольш спрактыкаваная ў адпаведным рамястве частка сялян займалася ім пераважна і таму ператварылася ў сельскіх рамеснікаў, якія тым не менш былі па-ранейшаму цесна звязаны і з сельскай гаспадаркай. Улічваючы гэта, феадалы прымушалі частку сялян-рамеснікаў у якасці павіннасці вырабляць разнастайныя звычайна адносна простыя рэчы з дрэва (бароны, бочкі, калёсы, посуд, сані, сохі і інш.), з гліны (посуд, цэгла і інш.), з ільну і воўны (адзенне, палатно, сукно і інш.), са скур

[1] Метрыка ВКЛ А.з. 48, л. 394–397; *Любавский М.К.* Областное деление... Приложения. № 7; Статут 1529. Раздз. VIII, арт. I і адпав.: IX–2, XII–10, 12; Статут 1566. Раздз. X, арт. 1; Статут 1588. Раздз. X, арт. 2, 9 і адпав.: XIII–8, 12; *Hedemann O.* Dawne puszcze i wody... S. 99–124; *Kasperczak S.* Rozwój gospodarki folwarcznej... S. 92–94.

[2] РИБ. Т. 20. С. 822–825, 1130–1133; Метрыка ВКЛ. А.з. 224, л. 312–313; Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском... С. 247–251; АВК. Т. 11. Акты Главного Литовского Трибунала. Вильна, 1880. № 14; ПР. С. 85, 86, 88 і інш.; *Kasperczak S.* Rozwój gospodarki folwarcznej... S. 102–103, 207–210.

(абутак, адзенне, футра і інш.), з жалеза (косы, нарогі для сох, сярпы, сякеры і інш.). Частка вырабаў сялян-раменікаў збывалася сярод аднавяскоўцаў, а таксама на рынках бліжэйшых гарадоў і мястэчак.

Такім чынам, сяляне выраблялі або здабывалі амаль усе неабходныя прадукты харчавання, матэрыялы і рэчы ў сваіх гаспадарках.

У цэлым сялянская гаспадарка Беларусі ў XIV–XVI ст. развівалася як шматгаліновая. Вядучая роля ў ёй належала раслінаводству, што грунтавалася на папаразбожжавай сістэме земляробства з севазваротам у форме архаічнага трохполля, якое з сярэдзіны XVI ст. замянялася рэгулярным. Разам з раслінаводствам развівалася і жывёлагадоўля, а таксама разнастайныя промыслы і сельскія рамёствы. Паступовае, хоць і маруднае, павелічэнне вытворчасці сельскагаспадарчай і іншай прадукцыі было абумоўлена ўсё большымі і большымі спажывецкімі і гаспадарчымі патрэбамі не толькі вёскі, але і горада. Галоўнай фігурай шматвяковага працэсу развіцця гаспадаркі з'яўляўся селянін – непасрэдны вытворца. Аднак нягледзячы на пэўныя дасягненні, агульная культура земляробства, а таму і прадукцыйнасць сялянскай гаспадаркі былі адносна нізкімі. Рост вытворчасці сельскагаспадарчай і іншай прадукцыі дасягаўся пераважна экстэнсіўнымі метадамі, г.зн. шляхам пашырэння плошчы сельгасугоддзяў і павелічэння колькасці хатняй жывёлы.

У XIV–XVI ст. у сувязі з далейшым паглыбленнем грамадскага падзелу працы і значным развіццём на гэтай аснове таварна-грашовых адносін роля гандлю як адной з галін феадальнай эканомікі ўзрастала. У Беларусі да канца XVI ст. колькасць гарадоў – буйных цэнтраў рамяства і гандлю, адміністрацыйнай, рэлігійнай, культурнай і іншай дзейнасці – узрасла прыблізна да 30, а мястэчак – аграрна-рамесна-гандлёвых паселішчаў – амаль да 400. Павелічэнне ў сувязі з гэтым колькасці насельніцтва гарадоў і мястэчак суправаджалася ростам попыту на прадукцыю сельскай гаспадаркі і промыслаў. Разам з тым у пэўнай ступені сяляне таксама не маглі абысціся без некаторых рамесніцкіх вырабаў і грошай для выплаты часткі рэнты і падаткаў. Але грошы можна было набыць толькі шляхам продажу прадукцыі сваіх гаспадарак на рынку. Рост феадальных павіннасцей у грашовай форме вымушаў сялян іншы раз прадаваць не толькі лішкі, але і частку прадукцыі, неабходнай ім самім. Пра разнастайныя сувязі сялянскіх гаспадарак з рынкам сведчаць фрагментарныя даныя шматлікіх крыніц XVI ст.[1] Паводле гэтых даных, сяляне прывозілі на рынкі самую розную прадукцыю раслінаводства (збожжа, ільновалакно, пянька і інш.), жывёлагадоўлі (рабочая і прадукцыйная жывёла, мяса, воўна, скуры і інш.), промыслаў (мёд, воск, рыба і інш.) і рамёстваў (вырабы з валакна, воўны, скуры, дрэва, лазы, лыка, гліны і г.д.).

Сяляне не толькі прадавалі сваю прадукцыю, але, як правіла, і куплялі неабходныя вырабы перш за ўсё гарадскіх раменікаў, а часта і патрэбную ім прадукцыю іншых сялянскіх гаспадарак, у асноўным прылады

[1] РИБ. Т. 20. С. 1522–1523; Метрыка ВКЛ. А.з. 225, а. 196; АВК. Т. 17. № 470, 547, 813, 866; АРБ АНЛ. Ф. 16, а.з. 8; АВК. Т. 21; Акты Гродненского земского суда. Вильна, 1894. № 34. НГАБ. Ф. 1737, воп. 1, а.з. 1, а. 156; Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў. Ф. 823, воп. 1, а.з. 53; АВК. Т. 17. № 1013; Т. 22. № 338, 378, 435.

працы з жалеза (косы, нажы, нарогі, пілы, сякеры, сярпы і інш.), металічны і гліняны посуд, іншае начынне, а таксама соль і алкагольныя напіткі.

Пра сувязі сялянскіх гаспадарак з рынкам сведчаць таксама шматлікія даныя судовых спраў аб наяўнасці ў многіх сялян грошай і купленых рэчаў[1]. Напрыклад, у 1540 г. гародзенскі гаспадарскі селянін Р. Якубовіч у гандлёвы дзень пасля працяглага адпачынку ў карчме мястэчка Індура (Гародзенскі павет) не знайшоў на сваім возе мёд, воск і кола для воза, якія ён купіў. У красавіку 1582 г. ноччу на дарозе адбылася бойка паміж дзвюма групамі сялян з маёнткаў Дзяксняны і Уша (Менскі павет), якія вярталіся дамоў з нядзельнага рынку ў мястэчку Радашковічы. Дарожная сутычка звялася пераважна да ўзаемнага рабунку маёмасці. У яе пераліках, што былі перададзены ў Менскі гродскі суд уласнікамі адпаведных маёнткаў у складзе іскавых заяў, фігуруюць грошы, а таксама розныя рэчы, якія сяляне купілі на рынку[2].

Звычайна месцамі збыту сялянамі прадукцыі сваіх гаспадарак і набыцця неабходных тавараў былі рынкі бліжэйшых гарадоў і асабліва шматлікіх мястэчак, якія даволі густа размяшчаліся ў Беларусі, пераважна ў яе заходняй частцы[3]. Напрыклад у Гародзенскім павеце, акрамя горада Гародня , сяляне ў якасці прадаўцоў і пакупнікоў наведвалі рынкі мястэчак Азёры, Берастовіца, Галавачы, Жараслаўка, Індура, Каменка, Ліпск, Лунная, Масты, Адэльск, Ожа, Паравалка, Паралом, Пяскі, Сапоцкін, Свяцк, Скідзель, Ятвезск і інш.[4]

Сувязі сялянскай гаспадаркі з рынкам пад уздзеяннем розных фактараў пастунова пашыраліся і станавіліся пастаяннымі. Аднак нягледзячы на гэта, яна па-ранейшаму заставалася ў асноўным натуральнай. У ёй выраблялася амаль усё, што было неабходна для яе нармальнага фунцыяніравання.

У XIV–XVI ст. у асяроддзі сялянства Беларусі развівалася маёмасная дыферэнцыяцыя. Пра яе наяўнасць сведчаць вялікія адрозненні ў забяспечанасці асобных сялянскіх гаспадарак зямлёй, рабочай і прадукцыйнай жывёлай і іншымі сродкамі вытворчасці. Разам з самастойнымі ў гаспадарчых адносінах сялянамі ў многіх маёнтках былі і малазямельныя – "огородники", якія мелі толькі агароды, а таксама "убогие" сяляне, якія не мелі нічога і таму не вялі сваёй гаспадаркі[5]. У 1549 г., напрыклад, у маёнтку Радашковічы Менскага павета жылі 31 агароднік і 14 убогіх сялян, а ў сяле Раванічы таго ж маёнтка некаторыя сяляне-даннікі па прычыне адсутнасці цяглавай жывёлы не маглі апрацоўваць

---

[1] АВК. Т. 36. № 43, 44.

[2] *Wawrzyńczyk A.* Rozwój wielkiej własności na Podlasiu... S. 220–223; *Alexandrowicz S.* Miasta i miasteczka Białorusi i Litwy około 1650 r. (w granicach Wlk. Ks. Litewskiego z 1582 r.) (1:2 220 000) // St. Alexandrowicz. Geneza i rozwój sieci miasteczek Białorusi i Litwy do połowy XVII w. // ABS. Białystok, 1970. T. 7. Dodatek; *Спиридонов М.Ф.* Беларусь в конце XVI в. 1:1 000 000 // М.Ф. Спиридонов. Закрепощение крестьянства Беларуси... Приложение.

[3] АВК. Т. 17. № 191, 260, 291, 296, 343, 353, 463, 468, 470, 479, 488, 515, 540, 547, 653, 713, 770, 772, 813, 833, 849, 859, 866, 893, 947, 951.

[4] НГАБ. КМФ 5. Воп. 1, а.з. 2483; Метрыка ВКЛ. А.з. 31, а. 55–56; ДМАМЮ. № 6, 7, 10; АВК. Т. 14, № 3; Materyały do dziejów rolnictwa w Polsze w XVI i XVII w., poprzedzone wiadomością o życiu i pismach Jana Ostroroga wojwody Poznańskiego / Zebrał i opracował W. Chomętowski. Warszawa, 1876. S. 203–207.

[5] ДМАМЮ. № 7.

сваe надзелы самі і вымушаны былі здаваць іх у арэнду ці пад залог сваякам або іншым асобам, у якіх было па два валы і два кані[1]. У сяле Брашавічы Барадзіцкай воласці Берасцейскага павета ў 1558 г. жыў селянін, які збяднеў настолькі, што, паводле выразу аўтара інвентара, уся яго маёмасць складалася толькі "из тела и души"[2].



Радашковічы. Замак.
Рэканструкцыя А.Я. Міцяніна

Пра разарэнне сялянскіх гаспадарак сведчыць вялікая колькасць "пустовщин", г.зн. зямельных надзелаў, пакінутых збяднелымі сялянамі. Яны станавіліся "людьми волочащими", якія ў пошуках сродкаў існавання ішлі "в покормы" – на заробкі ці жабраваць[3]. Некаторыя з іх станавіліся «закупамі», якія пагашалі пазыку сваёй працай на крэдытора[4], а таксама "наймитамі", г.зн. наёмнымі работнікамі.

Такім чынам, у XIV–XVI ст. у Беларусі, нягледзячы на адмоўнае ўздзеянне прыродных і сацыяльных фактараў, дзякуючы ўпартай працоўнай дзейнасці сялян – непасрэдных вытворцаў сялянская гаспадарка працягвала развівацца, хоць і марудна. Сяляне сваёй цяжкай працай як ва ўласнай , так і ў панскай гаспадарцы стваралі галоўную частку эканамічнага патэнцыялу ВКЛ, які з'яўляўся асновай гаспадарчага, сацыяльнага і палітычнага развіцця гэтай дзяржавы.

**Павіннасці сялян.** За карыстанне зямлёй сяляне абавязаны былі выконваць на карысць зямельных уласнікаў разнастайныя павіннасці. Па сваёй эканамічнай сутнасці павіннасці гэтыя ўяўлялі сабой тры тыповыя для феадалізму формы зямельнай рэнты: прадуктовую, адработачную і грашовую. Разнастайнасць феадальных павіннасцей абумовіла існаванне некалькіх катэгорый сялянства па характары галоўных павіннасцей. Пры гэтым сяляне розных катэгорый разам з галоўнай выконвалі яшчэ і шэраг розных па аб'ектах, спосабах і змесце іншых асноўных і дадатковых павіннасцей, якія лічыліся "селянскими", "мужицкими" ці "цяглыми" (у шырокім сэнсе)[5], што служыла адной з галоўных адзнак прыналежнасці сялян да непрывілеяванага ("простого") і эксплуатуемага класа-саслоўя феадальнага грамадства ВКЛ і разам з тым адрознівала сялянства ад прывілеяваных саслоўяў.

---

[1] АВК. 25; Инвентари и разграничительные акты. Вильно, 1898. С. 6.

[2] АЛМ. Т. 1, вып. 2. 1499–1507 гг. Варшава, 1897; ДМАМЮ. № 3, 4, 7; АРБ АНЛ. Ф. 43, а.з. 3645, 3690; АВК. Т. 1. Вильна, 1865. № 28. С. 108; Т. 14. № 44; Т. 17. № 272; РИБ. Т. 20. С. 242–243.

[3] РИБ. Т. 20. С. 242–243; Метрыка ВКЛ. А.з. 225, а. 36; АВК. Т. 17. № 272; Т. 21. № 18, 289.

[4] АВК. Т. 17. № 330, 356, 364; Т. 21. № 66, 188, 228; Т. 22. № 55, 56, 153; Т. 17. № 44; НГАБ. Ф. 1727, воп. 1, а. 1139–1140, 1152–1154.

[5] Ревизия пущ и переходов звериных... С. 285, 346, 338, 330; РДАСА. Ф. 389 (Метрыка ВКЛ), воп. 1, а.з. 3L, а. 191–195 адв.

Паводле фрагментарных даных, прыкладна да канца XV ст. пераважнай формай зямельнай рэнты была даніна ("дань", ці па-літоўску "дякло") прадукцыяй сялянскіх гаспадарак, якая ў той ці іншай ступені спалучалася з рознымі відамі іншых форм рэнты. Тады ж найбольш распаўсюджанай катэгорыяй сялянства з'яўляліся даннікі ("данники", "люди данные")[1]. Галоўнай павіннасцю іх былі даніны.

У складзе сялянскіх данін фігуруюць збожжа, сена, лён, каноплі, гусі, куры, яйкі, футра, мёд, воск і некаторыя іншыя віды прадукцыі сялянскіх гаспадарак[2]. Асноўнай адзінкай абкладання даннікаў служыла сялянская гаспадарка ("дым"). Аднак жыхары сяла і нават воласці неслі калектыўную адказнасць за своечасовыя плацяжы ўстаноўленай даніны. Склад і нормы апошняй з часам мяняліся і не былі аднолькавымі ў розных маёнтках. Неабходна падкрэсліць, што ў адпаведных крыніцах даных пра канкрэтныя віды даніны дастаткова, але звесткі пра нормы абкладання ёю, як правіла, адсутнічаюць. Таму меркаваць пра нормы даніны звычайна немагчыма.

Напрыклад, у пачатку XV ст. сяляне вялікага князя адной з вёсак Віцебскай зямлі давалі з дыму па адной куніцы, па тры грошы «житщины» (плата за жыта), па адной курыцы, па дзесяць яек і па паўгроша. Акрамя таго, яны былі абавязаны плаціць баброўніку па грошу, а таксама хадзіць на жніво шэсць дзён у год, касіць і складаць чатыры стагі сена, забіваць ез, г.зн. загародку для лоўлі рыбы ў р. Усвяча, і даваць падводы пры праездзе вялікага князя праз Віцебск у Полацк або Смаленск[3].

У пачатку XVI ст. асноўнымі павіннасцямі сялян сяла Дзятлавічы ("Дятлово", Наваградскі павет) былі даніны мёдам, воскам, футрамі куніц, баброў і вавёрак[4].

Да сярэдзіны XVI ст. асноўным рэгіёнам даннікаў па-ранейшаму заставаліся Падняпроўскія, або "Руские", гаспадарскія воласці: Бабруйская, Гомельская, Крычаўская, Любашанская, Магілёўская, Мазырская, Прапойская, Свіслацкая і Чачэрская. Сяляне гэтых валасцей плацілі вялікаму князю даніну мёдам, футрамі баброў і куніц, воскам і грашыма, а розным службовым асобам – разнастайныя дадатковыя плацяжы натурай і грашыма. Акрамя таго, яны абавязаны былі таксама рамантаваць і будаваць замкі, дарогі і масты; даваць ганцам і паслам фурманкі і "стацию", г.зн. прадукты харчавання і фураж для коней; несці вартаўнічую службу ў замках і выконваць некаторыя іншыя павіннасці.

Напрыклад, паводле шэрага гаспадарскіх інструкцый ("устав"), даннікі Магілёўскай воласці ("волощане") плацілі даніну (грашовую, баб-

---

[1] *Любавский М.К.* Областное деление... С. 316–321, 338–340, 342, 475, 477–480; *Леонтович Ф.И.* Крестьянский двор в Литовско-Русском государстве. Вып. 1. С. 306–311; *Довнар-Запольский М.В.* Государственное хозяйство... Т. 1. С. 192–194, 225–229; *Похилевич Д.Л.* Движение феодальной земельной ренты в Великом княжестве Литовском в XV–XVI вв. // Исторические записки. Т. 31. М. 1950. С. 195–209; *Ён жа.* Форма земельної ренти і розмір визиску селян України та Білорусії (в XV– першій половині XVI ст.) // Український історичний журнал. 1973. № 11. С. 137–143; *Wawrzyńczyk A.* Rozwój wielkiej własności na Podlasiu... S. 178–180, 187–200, 206–214, 284, 303–304; *Jurkiewicz J.* Powinności włościan w dobrach prywatnych... S. 52–59; *Спиридонов М.Ф.* Закрепощение крестьянства Беларуси... С. 58–63.

[2] *Jurkiewicz J.* Powinności włościan w dobrach prywatnych... S. 59–95, 101–106.

[3] БА. Т.2. Мн., 1928. № 58, 62.

[4] РИБ. Т. 20. С. 71–72.

роўшчыну, ялаўшчыну, васкоўшчыну, цівуншчыну, куніц, мёд і інш.) князю; даходы (грошы, бабры, вашчыла, пісчае) – падскарбію; даходы ("въезд", "полюдье" і інш.) – дзяржаўцу. Акрамя таго, яны абавязаны былі плаціць сярэбшчыну ("колько...положим") і шматлікія адміністрацыйна-судовыя плацяжы ("мыто", "вины" і інш.), а яшчэ рамантаваць і будаваць замак і несці ў ім варту[1].

Як сведчаць даныя апісання ("ревизии") Мазырскай воласці 1552 г., даннікі плацілі вялікаму князю даніну мёдам і грашыма, на якую была заменена ранейшая даніна натурай. Акрамя таго, яны абавязаны былі рамантаваць і будаваць Мазырскі замак і масты на дарогах воласці, наймаць вартаўнікоў, рабіць езы альбо плаціць "езовщину", лавіць невадам рыбу альбо плаціць "неводовщину", даваць падводы і стацыі ў натуры альбо плаціць грошы, а таксама ўносіць іншыя "подачки" і выконваць іншыя розныя "потягли" альбо плаціць за іх грошы ("въезд", "полюдье» і інш.)[2].

У XVI ст. даннікі заставаліся адной з асноўных катэгорый сялянства па характары галоўных павіннасцей і ў Падзвінні[3].

Паводле даных апісання ("ревизии") Полацкага ваяводства 1552 г., у маёнтках розных катэгорый зямельных уласнікаў зафіксаваны тры групы даннікаў: "люди данные" – 1,7% усіх (7701) сялянскіх гаспадарак, "люди пригонные" – 9,8%; "дольники" – 53%[4].

Павіннасці "людей данных", або «данников», складаліся звычайна з даніны мёдам і грашыма, а таксама розных прадуктаў харчавання (сыр, куры, крупы, хлеб, авёс, хмель і інш.), набор якіх у розных маёнтках не быў аднолькавы. Акрамя таго, у некаторых маёнтках яны абавязаны былі выконваць розныя іншыя павіннасці на карысць як сваіх паноў, так і службовых асоб[5].

Даннікамі з'яўлялася і тая частка прыгонных людзей Полаччыны, у якіх "служба пригонная" яшчэ не ператварылася ў штотыднёвую (рэгулярную) паншчыну як галоўную павіннасць. Так, прыгонныя сяляне гаспадарскага сяла Няшчэрда (цяпер не існуе) павінны былі даваць розным службовым асобам даніну аўсом, мёдам, грашыма, хлебам і шчупакамі. Гэтых сялян "пригоняли" таксама на розныя работы ("службу прыгонную"): касіць сена, лавіць рыбу і будаваць двор у Полацкім замку[6].

Асобную і значную групу даннікаў складалі дольнікі. Галоўнай іх павіннасцю была даніна ў выглядзе чацвёртай часткі ("доли") ураджаю.

[1] АЛРГ. Вып. 1. № 152, 164; АЗР. Т. 2: 1506–1544. СПб., 1848. № 86; *Довнар-Запольский М.В.* Очерки по организации западнорусского крестьянства в XVI в. Киев, 1905. Приложения (ДЗОП). № 10, 11, 15, 29; БЭФ. Т. 1. № 90.

[2] АЛРГ. № 126, 184; ДЗОП. № 1, 30; Архив ЮЗР. Ч. 7. Акты о заселении Юго-Западной России. Т. 1. Киев, 1886. № 85; *Любавский М.К.* Областное деление... С. 490–491, 692; *Довнар-Запольский М.В.* Государственное хозяйство... Т. 1. С. 93–94.

[3] БЭФ. № 86, 61; Витебская старина / Составил и издал А.П. Сапунов. Т. 1. Витебск, 1883. № 153; Памятники, изданные Временной комиссией для разбора древних актов, высочайше учрежденной при киевском военном, подольском и волынском генерал-губернаторе. Т. 1. Киев, 1845. Отд. 2. № 3.

[4] *Спірыдонаў М.Ф.* Полаччына: XVI стагоддзе // За передовую науку. 1990. 16 февр.; *Jurkiewicz J.* Powinności włościan w dobrach prywatnych... S. 72, 93–94, 366.

[5] ПР. С. 83, 84, 93, 115, 165; Метрыка ВКЛ. А.з. 31, а. 59–60; Ал. 41. А.з. 96.

[6] БА. Т. 2. № 178, 213; ПР. С. 55–62, 65–69, 72–73, 168, 176; АВК. Т. 13. Акты Главного Литовского Трибунала. Вильна, 1886. № 74; Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской, хранящихся в Центральном архиве в Витебске... Вып. 29. Витебск, 1901. №27.

Яны выконвалі таксама і іншыя асноўныя павіннасці: хадзілі на талокі да 12 дзён улетку, будавалі і рамантавалі дваровыя пабудовы і масты, уносілі стацыю і баброўшчыну і давалі падводы[1].

Прыкладна з сярэдзіны XV ст. пад уздзеяннем далейшага развіцця таварна-грашовых адносін і па гэтай прычыне паступовага ператварэння панскай гаспадаркі ў фальварак у Пабужскім і Панёманскім рэгіёнах, што былі звязаны зручнымі рачнымі шляхамі з буйнымі цэнтрамі міжнароднага гандлю – балтыйскімі партамі Гданьск і Каралявец, становіцца прыкметным працэс выцяснення даніны адработачнай і грашовай формамі рэнты. У выніку гэтага ў названых рэгіёнах удзельная вага даннікаў у структуры катэгорый сялянства па характары галоўных павіннасцей паступова скарачаецца. Ужо ў XVI ст. і асабліва ў другой яго палове тут і ў суседніх месцах яны працягваюць сустракацца звычайна толькі ў тых маёнтках, што былі размешчаны ў лясістых і значна аддаленых ад гарадоў – цэнтраў унутранага гандлю – рэгіёнах[2].

Варта адзначыць, што ў Падзвінні, нягледзячы на спрыяльныя для развіцця фальварка геаграфічныя ўмовы, традыцыйна данніцка-дольніцкі варыянт феадальнай эксплуатацыі сялянства па шэрагу прычын заставаўся пераважным і ў XVI ст.

У XV–XVI ст. адбываецца выцясненне данніцкага варыянта сістэмы феадальнай эксплуатацыі сялянства ў значнай ступені паншчынным.

Першапачаткова адработачныя павіннасці сялян былі звязаны з выкананнем розных работ ("служб") па будаўніцтве і рамонце замкаў ("городовое дело", "замковая работа"), дарог і мастоў ("мостовщина"), перавозцы грузаў і службовых асоб ("подводы"), а таксама з выкарыстаннем прамысловых угоддзяў. Але прыкладна з сярэдзіны XV ст. у сувязі з ператварэннем пад уздзеяннем спрыяльнай кан'юнктуры на прадукцыю сельскай гаспадаркі і промыслаў панскай гаспадаркі ў фальварак значнае развіццё атрымалі павіннасці сялян у выглядзе разнастайных сельскагаспадарчых работ на феадалаў: аранне, баранаванне, сяўба, касьба, жніво, малацьба і інш.[3] Паншчына, г.зн. праца сялян у фальварках з ва-

---

[1] ПР. С. 65, 106–108, 110–112, 138–139, 141–143, 158, 165–168, 171–179.

[2] ДМАМЮ / Сост. М.В. Довнар-Запольский. Т. 1. М., 1897. № 7 (Раваніцкая воласць маёнтка Радашковічы Менскага павета, 1549 г.); АРБ АНЛ. Ф. 43, а.з. 6127 (Бародзіцкая воласць Берасцейскага павета, 1554 г.); *Spiridonow M.F.* Podzielenie przez szlachtę pańszczyznianych chłopów-danników // Lituano-Slawica Posnaniensia: Studia Historica. T. 7. 1997. S. 245–258 (сёлы Вольберавічы і Гняздзілавічы Ашменскага павета маёнтка Салечнікі Віленскага павета, 1555 г.); *Спірыдонаў М.Ф.* Здзелкі на сялян маёнтка Докшыцы. Каментарый і тры акты (1557 і 1560 гг.) // З глыбі вякоў. Наш край: Гіст.-культуралаг. зб. Вып. 2. Мн., 1997. С. 196–222; Метрыка ВКЛ. А.з. 256, а. 271– 276, 571–576 (сяло Мацеевічы Менскага павета, 1560, 1561 гг.); НГАБ. Ф. 1737, воп. 1, а.з. 2, а. 92–93 (сяло Горкі Менскага павета, 1562 г.); РИБ. Т. 33: Литовская метрика. Отд. 1. Ч. 3: Книги публичных дел. Т. 1. Переписи войска литовского. Пг., 1915. С. 444, 515, 567 і інш. (маёнткі Татарковічы і Забашэвічы Менскага павета, Брадзец і Максімавічы Аршанскага павета, 1567 г.); НГАБ. КМФ 5. Воп. 1, а.з.1687, а. 81–83 (сяло Дзяніскавічы Наваградскага павета, 1575 г.); ф. 694, воп. 2, а.з. 4960, а. 510 (сяло Балоньня Менскага павета, сяло Мільча Ашменскага павета, 1581 г.); АВК. Т. 13. № 98 (маёнтак Лунінец Наваградскага павета, 1588 г.). Вып. 1.

[3] *Леонтович Ф.И.* Крестьянский двор в Литовско-Русском государстве... Вып. 1. С. 293–295; *Wawrzyńczyk A.* Rozwój wielkiej własności na Podlasiu... S. 185–186, 192, 197, 199, 206–219, 284, 303–304; *Ochmański J.* Powstanie i rozwój latyfudium biskupsfwa wileńskiego... S. 114–117, 132– 133; *Похилевич Д.Л.* Форма земельноі ренты... С. 138–143; *Kasperczak S.* Rozwój gospodarki folwarcznej... S. 157–159, 173, 180, 183–184, 187–189, 194.

ламі, коньмі, сахой, сярпом, касой альбо сякерай і г.д., называлася "делом", "работой", "пригоном" (пераважна ў Падзвінні), але звычайна "службой тяглой" (у вузкім сэнсе)[1]. Сяляне, галоўнай павіннасцю якіх была цяглая служба ў памеры адзін і больш дзён у тыдзень, называліся "людьми тяглыми" (у вузкім сэнсе).

Да валочнай памеры, калі ў якасці асноўнай адзінкі абкладання сялян была ўведзена валока, такой адзінкай з'яўлялася "служба". У Пінскім павеце яна называлася "дворищем", а ў Берасцейскім – "жребием". Гэтымі тэрмінамі абазначаліся перш за ўсё ўчасткі зямлі, за карыстанне якімі сяляне абавязаны былі выконваць устаноўленыя пэўныя цяглую і іншыя асноўныя павіннасці. Іх сукупнасць таксама, як правіла, называлася службай. Службай у сэнсе ўчастка зямлі карысталіся звычайна некалькі сялянскіх гаспадарак (дымоў). Апошнія і неслі адпаведную службу. Адзінкі абкладання звычайна не былі аднолькавымі ні па плошчы зямлі, ні па колькасці дымоў на ёй, ні па іншых паказчыках не толькі ў розных маёнтках, але нават у межах аднаго. Гэта тлумачыцца галоўным чынам наступным. Сялянскія сем'і разрасталіся, пашыралі свае зямельныя надзелы і ўтваралі новыя гаспадаркі. Аднак каб пазбегнуць павелічэння павіннасцей, яны ўхіляліся ад раздзелу на некалькі служб, застаючыся ў складзе адной ранейшай. У XVI ст. службы ў Беларусі складаліся ў сярэднім пераважна з двух дымоў, гаспадары якіх звычайна былі сваякамі. У складзе дворышчаў і жэрабяў дымоў налічвалася, як правіла, больш. У склад "потужников", г.зн. сялян, што сумесна неслі адну службу, рознымі шляхамі траплялі і чужыя людзі[2].

Цяглая служба ўзнікла і першапачаткова развівалася, напэўна, у форме талок, г.зн. згонаў сялян на сельскагаспадарчыя работы ў час іх разгару па некалькі дзён у год[3]. З сярэдзіны XV ст. спарадычныя работы пастулова трансфармуюцца ў рэгулярную паншчыну, г.зн. цяглую службу ад аднаго да некалькіх дзён у тыдзень. Талокі ж у розных памерах застаюцца адной з іншых асноўных павіннасцей цяглых сялян. Да пачатку XVI ст. у Бельскім павеце ўсталёўваецца паншчына ў памеры адзін дзень у тыдзень і, акрамя таго, чатыры дні талок у год з валокі[4]. Такім чынам, за 100 гадоў тут паншчына павялічылася амаль у чатыры разы.

Да сярэдзіны XVI ст. паншчына ў маёнтках з фальваркамі вырасла яшчэ больш чым у два разы, дасягнуўшы двух, а іншы раз і больш дзён

---

[1] БЭФ. Т. 1. № 47; Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej. T. 1. Kraków, 1932–1948. № 340; АЛМ. Т. 1. Вып. 1. 1413–1498 гг. № 275; РИБ. Т. 20. С. 785–787, 833–836; Полоцкие грамоты XIII–начала XVI вв. / Сост. А.Л. Хорошкевич. Вып. 2. М., 1980. № 328; Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при Управлении Виленского учебного округа. Т. 7. Вильна, 1870 № 11; *Спірыдонаў М.Ф.* Нягневічы: першыя звесткі // Памяць: Гістор.-дакум. хроніка Навагрудскага раёна. С 127; *Любавский М.К.* Областное деление... Приложения. № 43; БА. Т. 2. № 72, 101, 178, 203–213, 414; НГАБ. КМФ 5. Воп. 1, а.з. 2483; АРБ АНЛ. Ф. 16, а.з. 8; Метрыка ВКЛ. А.з. 246, а. 327 адв. – 329; АВК. Т. 31: Акты о литовских татарах. 1555–1570 гг. Вильна, 1906. № 4; АЗР. Т. 3: 1544–1587 гг. СПб., 1848. № 134.

[2] *Jurginis J.* Baudziavos isigalejimas Lietuvoje. Vilnius, 1962. P. 249–264; *Спиридонов М.Ф.* Закрепощение крестьянства Беларуси... С. 65.

[3] *Любавский М.К.* Областное деление... С. 316, 321–322, 359; *Похилевич Д.Л.* Форма земельноï ренти... С. 138–143.

[4] *Ясинский М.Н.* Уставные земские грамоты Литовско-Русского государства. Киев, 1889. С. 134; БА. Т. 2. № 58, 62.

("кождый день"[1], г.зн. шэсць дзён) у тыдзень з цяглай службы. Аднак найбольш распаўсюджанай нормай цяглай службы была двухдзённая работа штотыднёва ў панскай гаспадарцы. Такім чынам, за паўтара стагоддзя паншчына павялічылася з 14 да 102 дзён у год, г.зн. у 7,4 раза.

Паншчына – галоўная павіннасць цяглых сялян – спалучалася з іншымі асноўнымі, а таксама дадатковымі павіннасцямі. Найбольш тыповы варыянт комплексу павіннасцей з цяглай службы складаўся з талок (па чатыры дні ў год летам), грошай (каля 30 грошаў), даніны, ці "дзякла", жытам (па бочцы), аўсом (па бочцы), курамі (па адной), яйкамі (па дзесятку), сенам (па возу) і інш. Акрамя названых асноўных сяляне выконвалі і шэраг дадатковых павіннасцей: будавалі, рамантавалі і вартавалі панскія двары, перавозілі грузы і г.д. Віды і нормы павіннасцей цяглых сялян нават у межах аднаго маёнтка былі нярэдка неаднолькавымі.

Напрыклад, у 1545 г. у гаспадарскай Мядзельскай воласці (Ашменскі павет) цяглыя людзі са службы хадзілі на паншчыну адзін дзень у тыдзень з чым загадаюць, давалі даніну мёдам (па 2,5 бязмена ці па 10 грошаў), дзякла жытам (па бочцы ці па 10 грошаў), аўсом (па бочцы), сенам (па возу ці па 3 грошы), невадам (па сажню), а таксама хлеб (па калачу), лён (па дзесяць "горцей") і вавёрак (па адной). Пры 52 днях паншчыны кошт усіх гэтых павіннасцей быў роўны 61,5 гроша з адной службы. Пры гэтым доля паншчыны (26 грошаў) у структуры рэнты складала 42,3%, а даніны (35,5 гроша) – 57,7%.

Цяглыя сяляне суседняй Заварноцкай воласці таго ж маёнтка неслі амаль такія ж павіннасці, акрамя мёду, але давалі яшчэ курэй і яйкі. Агульны іх кошт складаў 52,5 гроша са службы, у тым ліку паншчыны – 26 грошаў (49,5%), а даніны – 26,5 гроша (50,5%).

У Скленікаўскай воласці таго ж уладання цяглыя сяляне выконвалі паншчыну ад аднаго да чатырох дзён у тыдзень са службы. Пры гэтым тыя з іх, якія служылі адзін дзень, дадаткова давалі такую ж даніну ("дачки"), акрамя вавёрак, і ў такіх ж памерах, што і сяляне Заварноцкай воласці. Сяляне, якія служылі два дні, давалі толькі трэцюю частку даніны. Кошт іх павіннасцей складаў 60,7 гроша, у тым ліку паншчыны – 52 грошы (85,7%), даніны – 8,7 гроша (14,3%). Цяглыя сяляне з трох- і чатырохдзённай паншчынай ніякай даніны не давалі. Кошт іх павіннасцей быў роўны адпаведна 78 і 104 грошам са службы[2].

Цяглыя сяляне Свер접жаньскай воласці (Наваградскі павет), што належала пану А.Б. Валовічу, у 1568 г. служылі паншчыну па чатыры дні ў

---

[1] *Герберштейн С.* Записки о Московии / Пер. с нем. А.И. Малеина, А.В. Назаренко; вступ. ст. А.Л. Хорошкевич; под ред. В.Л. Янина. М., 1988. С. 192; *Спірыдонаў М.Ф.* Нягневічы... С. 127; IA. Т. 1. XVI amziaus Lietuwos inventoriai / J. Surinko, K. Jablonskis. № 3; ДМАМЮ. № 6, 7; Метрика ВКЛ. А.з. 238, а. 187 адв – 188 адв.; ПР. С. 6, 64 і інш.; Метрыка ВКЛ. А.з. 256, а. 154–155; НГАБ. Ф. 694, воп. 4, а.з. 1625; Гістарычны архіў Літоўскай дзяржавы. Ф. Старажытныя акты. А.з. 176, а. 155–158; НГАБ. КМФ 5. Воп. 1, а.з. 2069; *Jurkiewicz J.* Powinności włościan w dobrach prywatnych... S. 31.

[2] ДМАМЮ. № 5. Кошт павіннасцей падлічаны па даных гэтага інвентара, а таксама іншых крыніц: РИБ. Т. 30: Литовская метрика. Отд. 1–2. Ч. 3. Книги публичных дел. Т. 1. Юрьев, 1914. С. 551–552, 613; АЗР. Т. 2. № 159; Архив ЮЗР. Ч. 6. Акты об экономических и юридических отношениях крестьян в XVI–XVII вв. (1498–1795 гг.). Т. 1. Киев, 1876. № 7; Метрика ВКЛ. А.з. 264, а. 154–156.

тыдзень са службы і давалі даніну грашыма (па 30 грошаў), мёдам (па паўвядра), жытам (па бочцы), аўсом (па дзве бочкі), курамі (па тры), яйкамі (па 15 штук), гусямі (па адной), сенам (па возу), ільном (па 20 жмень) і каноплямі (па 10 жмень)[1]. Агульны кошт гэтых павіннасцей быў роўны амаль 181 грошу.

Да сярэдзіны XVI ст. у басейнах Заходняга Буга, Нёмана і часткова Заходняй Дзвіны, дзе ўсталяваўся фальварак, паншчына стала вядучай формай феадальнай эксплуатацыі сялянства. У гэтых рэгіёнах цяглыя сяляне па сваёй колькасці ў структуры катэгорый сялянства па характары галоўных павіннасцей пераважалі ў маёнтках большасці феадалаў.

Адначасова развіццё таварна-грашовых адносін абумовіла далейшае пашырэнне грашовай рэнты. Працэс частковай змены натуральных павіннасцей на плацяжы грашыма ("куница", "чинш", "осада") і фарміравання на гэтай аснове катэгорый сялян – "куничников", "людей осадных", або "чиншевиков", галоўнай павіннасцю якіх была грашовая рэнта, становіцца асабліва прыкметным з пачатку XVI ст. Ён ішоў паўсюдна, але найбольш інтэнсіўна ў маёнтках гаспадара, а таксама буйных свецкіх і духоўных феадалаў. Да сярэдзіны XVI ст. плацяжы грашыма сталі галоўнай або істотнай складовай часткай асноўных павіннасцей значнай колькасці сялян ва ўсіх рэгіёнах Беларусі[2].



Жыхары Вялікага Княства

Натуральны характар феадальнай гаспадаркі абумовіў наяўнасць вялікай па колькасці катэгорыі сялян-слуг, галоўнай павіннасцю якіх былі разнастайныя службы, што патрабавалі спецыяльных навыкаў. У склад слуг уваходзілі сяляне, якія займаліся доглядам коней (конюхі), промысламі (баброўнікі, бортнікі, асочнікі, рыбаловы і інш.) ці рамяством (бондары, ганчары, кавалі і інш.). Частка сялян гэтай катэгорыі выконвала ніжэйшыя адміністрацыйна-гаспадарчыя функцыі (сотнікі, старцы, цівуны і інш.), з'яўлялася дваровай прыслугай (кухары і інш.) ці вайсковымі слугамі феадалаў (путныя і панцырныя слугі, ці баяры). Разам з галоўнай многія слугі выконвалі і іншыя павіннасці (дзяклы, талокі і інш.). У сярэдзіне XVI ст. пераважная большасць вайсковых слуг размяшчалася ва ўсходніх памежных ваяводствах ВКЛ, асабліва ў Полацкім[3]. У тых рэгіёнах Беларусі, дзе зямля была памерана на валокі, значная частка сялян-слуг была пераведзена ў разрад цяглых і асадных людзей і таму тут колькасць некаторых груп сялян-слуг скарацілася. У канцы XVI ст. у структуры сялянства яны складалі нязначную частку.

---

[1] НГАБ. Ф. 696, воп. 2, а.з. 7710, а. 37–44, 53–55; КМФ 5. воп. 1, а.з. 4292.
[2] *Jurkiewicz J.* Powinności włościan w dobrach prywatnych... S. 107–120; *Спиридонов М.Ф.* Закрепощение крестьянства Беларуси... С. 68–70.
[3] Спірыдонаў М.Ф. Полаччына... // За передовую науку. 1990. 26 янв.

Збяднелыя сяляне карысталіся толькі невялікімі ўчасткамі зямлі ("огородами") і таму называліся агароднікамі ("огородниками"). Па характары іх розных павіннасцей яны складалі асобную катэгорыю сялянства. Адны з іх працавалі ў гаспадарцы феадала, другія плацілі грошы, трэція выконвалі розныя павіннасці, але ў меншых памерах, чым больш заможныя ў гаспадарчых адносінах сяляне. Агароднікі ў нязначнай колькасці меліся амаль ва ўсіх маёнтках. У канцы XVI ст. колькасць гэтай катэгорыі сялянства некалькі павялічылася за кошт нявольнай чэлядзі, якая надзялялася невялікімі зямельнымі ўчасткамі[1].

Асобную катэгорыю эксплуатуемага вясковага насельніцтва складала нявольная чэлядзь ("челядь невольная"). Прыкладна да сярэдзіны XV ст., калі ўласная гаспадарка феадалаў была развіта слаба, яна з'яўлялася асноўнай працоўнай сілай. У далейшым у сувязі з ператварэннем панскай гаспадаркі ў фальварак і прымусам да працы ў ім сялян роля працы чэлядзі значна знізілася. У XVI ст. яна выконвала разнастайныя дапаможныя работы ў гаспадарцы феадала: у прыватнасці, мужчыны апрацоўвалі дваровыя палі, пасвілі хатнюю жывёлу; жанчыны даглядалі агароды, жывёлу, пралі, ткалі і вышывалі. На канец XVI ст. колькасць нявольнай чэлядзі ў сувязі з пераводам значнай яе часткі ў агароднікі істотна скарацілася[2].

Частку прыбавачнага прадукта ці працы сялян феадальная дзяржава і феадалы прысвойвалі ў выглядзе адміністрацыйных, судовых, гандлёвых і іншых плацяжоў, а таксама розных дзяржаўных павіннасцей[3].

Адной з самых цяжкіх дзяржаўных павіннасцей было будаўніцтва і рамонт замкаў, г.зн. абарончых збудаванняў. Будаўніцтва і рамонт абарончых умацаванняў вяліся пастаянна. На гэтыя работы зганяліся тысячы сялян. Разам з будаўніцтвам і рамонтам умацаванняў у сваёй мясцовасці сяляне Беларусі часта прыцягваліся для такіх работ на ўскраінах ВКЛ, у прыватнасці ва Украіне. Напрыклад, у 1496 г. на рамонт крэпасці ў Кіеве толькі з Падняпроўскіх гаспадарскіх валасцей было паслана каля 400 сялян[4]. Сяляне Беларусі, пераважна гаспадарскія, будавалі і рамантавалі замкі ў Віцебску, Мсціславе, Оршы, Полацку, Тыкоціне і многіх іншых месцах[5]. У XIV–XVI ст. на тэрыторыі ВКЛ, у тым ліку і Беларусі, была пабудавана вялікая колькасць дзяржаўных і прыватных замкаў.

Цяжкімі для сялян былі і іншыя дзяржаўныя павіннасці: будаўніцтва і рамонт дарог і мастоў, перавозка грузаў і службовых асоб, дазорная служба і інш.

---

[1] *Похилевич Д.Л.* Крестьяне-"огородники" в Великом княжестве Литовском в XVI–XVII вв. // Академику Борису Дмитриевичу Грекову ко дню семидесятилетия. М., 1952. С. 157–165.

[2] *Ён жа.* Рабы в поместье XIII–XVI веков в Великом княжестве Литовском // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы 1970 г. Рига, 1977. С. 31–45.

[3] *Довнар-Запольский М.В.* Государственное хозяйство... Т. 1. С. 2–3, 102–131, 363–374, 678–759, 770–774.

[4] АЛМ. Т. 1. Вып. 1. № 275.

[5] Сборник материалов, относящихся к истории панов-рады Великого княжества Литовского / Сост. Н.А. Малиновский. Томск, 1902. С. 195–200; Метрыка ВКЛ. А.з. 15, а. 271–271 адв.; а.з. 19, а. 55–450; а.з. 23, а. 177 адв.–180; а.з. 531, а. 96 адв.–97, 168 адв.– 169 адв., 186–189 адв.; *Ochmański J.* Organizacja obrony w Wielkim Księstwie Litewskim przed napadami tatarów krymskich w XV–XVI w. // Studia i materiały do historii wojskowości. T. 5. Warszawa, 1960. S. 372–373.

Акрамя адработачных павіннасцей на карысць феадальнай дзяржавы ішлі таксама розныя падаткі: "стацыя", "сярэбшчына" і іншыя выплаты натурай і грашыма.

Стацыя (па-літоўску – "мезлевы"), што ўзнікла ў сувязі з палюддзем ("полюдьем"), бралася з сялян натурай ці грашыма і ішла на ўтрыманне тых, хто прыязджаў у воласць гаспадара, ці яго службовых асоб. Напрыклад, гаспадарскія сяляне Браслаўскай воласці ў пачатку XVI ст. уносілі стацыю ялавіцамі, свіннямі, баранамі, курамі, яйкамі, маслам, сырам і грашыма. У сярэдзіне XVI ст. стацыя ў гаспадарскіх уладаннях спаганялася ў асноўным грашыма. Адзіных норм абкладання сялян стацыяй у ВКЛ не існавала[1].

У другой палове XV ст. быў уведзены перыядычны дзяржаўны падатак на вайсковыя мэты – сярэбшчына ("серебщина"). Ва ўмовах значнага росту ваенных выдаткаў гэты падатак у XVI ст. браўся амаль штогод. Асноўнай адзінкай абкладання з'яўлялася саха, з якой сяляне павінны былі плаціць па 15–30 грошаў. У 1568 г., напрыклад, са службы і валокі сярэбшчына бралася ў памеры 48 грошаў, а з дыму – 24. У той жа час у ВКЛ разам з сярэбшчынай на вайсковыя патрэбы часам збіралася і "поголовщина", г.зн. падатак па некалькі грошаў з чалавека ("головы").

У цэлым развіццё феадальнай эксплуатацыі сялянства Беларусі да сярэдзіны XVI ст. (да аграрнай рэформы) характарызуецца істотным змяненнем суадносін розных форм рэнты. У сярэдзіне XVI ст. у паўночна-заходняй частцы Беларусі ў выніку ўсталявання фальварка пачала пераважаць паншчынная сістэма эксплуатацыі сялянства. У той жа час у маёнтках буйных зямельных уласнікаў вялікае распаўсюджанне ў якасці галоўнай павіннасці значнай часткі сялян атрымала і грашовая рэнта. У паўднёва-ўсходняй жа частцы Беларусі даніна натурай у значнай ступені была выцеснена ў асноўным рэнтай грашыма. Пры гэтым ва ўсіх рэгіёнах Беларусі ў структуры павіннасцей сялян разам з галоўнай вялікую ўдзельную вагу складалі іншыя дадатковыя павіннасці. Па гэтай прычыне сукупная рэнта ўяўляла сабой, як правіла, разнастайныя камбінацыі адработачнай, грашовай і харчовай форм рэнты. Такім чынам, у сярэдзіне XVI ст. на Беларусі панавала змешаная рэнта, у структуры якой важнае месца належала паншчыне і чыншу. Умоўную мяжу паміж рэгіёнамі цяглых сялян і сялян-даннікаў, якія ў значнай меры ўжо ператварыліся ў чыншавікоў, можна правесці прыкладна па лініі Пінск–Слуцк–Менск–Орша.

Развіццё феадальнай эксплуатацыі сялянства Беларусі характарызуецца не толькі істотным змяненнем яе форм, але і яе ўзмацненнем. Апошняе выяўлялася як у павелічэнні традыцыйных павіннасцей, так і ва ўвядзенні новых. Калі меркаваць па скаргах сялян на парушэнні "старыны", г.зн. традыцыйных павіннасцей, і на ўвядзенне "навін", г.зн. новых павіннасцей, і павелічэнне ранейшых, то вынікае, што феадалы пастаянна імкнуліся павялічыць свае даходы. Шматлікасць падобных

[1] АЛРГ. № 174; *Довнар-Запольский М.В.* Государственное хозяйство... Т. 1. С. 102, 122, 678–698.

скаргаў сялян сведчыць пра тое, што ўзмацненне феадальнай эксплуатацыі было вядучай тэндэнцыяй яе развіцця[1].

Новы этап у працэсе эвалюцыі сістэмы феадальнай эксплуатацыі сялянства ВКЛ, як і Беларусі, пачаўся ў сярэдзіне XVI ст. у сувязі з масавым правядзеннем валочнай памеры ("померы волочной").

## 3. Аграрная рэформа

**Аграрныя мерапрыемствы ў дзяржаўных уладаннях.** У сярэдзіне XVI ст. надта складаная па сваіх прынцыпах архаічная сістэма землекарыстання сялянства і абкладання яго павіннасцямі, якая склалася ў Беларусі, стала адной з асноўных перашкод на шляху далейшага павелічэння даходаў феадалаў. Гэтая сістэма, як было паказана, апіралася на разнастайныя па сваім складзе адзінкі абкладання (дымы, службы, дворышчы, жрэбіі) і недастаткова поўна і дакладна ўлічвала вытворчыя рэсурсы сялянскай гаспадаркі, перш за ўсё памеры зямельных надзелаў. Выкарыстоўваючы гэтую акалічнасць, сяляне часта на працягу некаторага часу маглі ўтойваць ад абкладання нанава асвоеныя імі сельскагаспадарчыя і прамысловыя ўгоддзі. Таму прыкладна ў сярэдзіне XVI ст. рэарганізацыя архаічнай павіннаснай сістэмы землекарыстання і абкладання павіннасцямі з мэтай павышэння даходаў землеўласнікаў стала важнай задачай эканамічнай палітыкі пануючага класа. Гэтая задача была вырашана шляхам правядзення комплексу разнастайных мерапрыемстваў, якія фігуруюць у крыніцах звычайна пад агульнай назвай "помера волочная", а ў гістарычнай літаратуры – "аграрная рэформа"[2].



Бона Сфорца (1494–1557), каралева польская і вялікая княгіня літоўская

Новую сістэму землекарыстання сялянства і абкладання яго павіннасцямі, асновай якой было прыняцце ў якасці адзінкі абкладання аднолькавых па плошчы ўчасткаў зямлі – валок (21,36 га), асобныя буйныя феадалы пачалі ўводзіць яшчэ ў XV ст., але эпізадычна. У шырокіх маштабах вымярэнне ("помера") зямлі на валокі ўпершыню было праведзена ў канцы 40-х – пачатку 50-х гг. XVI ст. ва ўладаннях каралевы Боны Гарадзец (Давыд-Гарадок), Пінск, Клецк, Кобрын, а таксама па яе ініцыятыве ў дзяржаўных Гародзенскім і Берасцейскім староствах.

---

[1] РИБ. Т. 30. С. 442–444; *Довнар-Запольский М.В.* Государственное хозяйство... Т. 1. С. 698–759, 770–774; *Ён жа.* Очерки по организации западнорусского крестьянства... С. 13–47, 80–101.

[2] *Ochmański J.* Reforma włóczna na Litwie i Bialorusi w XVI w. // J. Ochmański. Dawna Litwa. S. 158–174.

Аграрная рэформа ва ўладаннях Боны праводзілася на аснове спецыяльнай інструкцыі ("уставы"). Вядомы дзве яе рэдакцыі: 1549 і 1552 гг.[1]

У гаспадарскіх уладаннях аграрная рэформа была пачата па загадзе караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста амаль адначасова з памерай ва ўладаннях яго маці Боны. Пра гэта сведчаць, напрыклад, рэестр памеры Ашменскай валасці (жнівень 1551 г.) і беспаспяховая спроба шляхты на Віленскім сейме (кастрычнік 1551 г.) дабіцца адмены прад'яўлення дакументаў на маёнткі ў сувязі з памерай[2].

Да 1557 г. на валокі былі вымераны землі амаль ва ўсіх гаспадарскіх уладаннях у Ашменскім, Берасцейскім, Браслаўскім, Ваўкавыскім, Лідскім і Слонімскім паветах[3].

У гэты час памера праводзілася паводле спецыяльнай інструкцыі, якая пакуль не знойдзена, але яе прынцыпы часткова можна высветліць па даных рэестра памеры Ашменскай валасці. Яна адрознівалася ад інструкцыі Боны і больш позняй "Уставы на валокі" 1557 г., у прыватнасці, адсутнасцю дыферэнцыяцыі валок па якасці глебы – істотнага элемента новаўвядзенняў Боны[4].

Пасля завяршэння першай ("старой") памеры, здзейсненай з парушэннямі інструкцый, было вырашана правесці яе поўную праверку ("ревизию"). Для рэвізораў распрацавалі новую інструкцыю – "Уставу на валокі", зацверджаную 1 красавіка 1557 г., але ў тым жа і наступным годзе дапоўненую і выпраўленую[5]. Яна служыла кіраўніцтвам не толькі для рэвізораў, але ў далейшым і для ўсіх упраўляючых гаспадарскімі ўладаннямі.

Рэвізія першай памеры суправаджалася перамерам зямлі на валокі і ўвядзеннем новай сістэмы абкладання сялян павіннасцямі ў адпаведнасці з патрабаваннямі "Уставы на валокі" 1557 г. Гэтая рэвізія была скончана ў 1568 г. На тэрыторыі Беларусі яна ахапіла ўсе гаспадарскія ўладанні ў Ашменскім, Берасцейскім, Браслаўскім, Ваўкавыйскім, Віленскім, Гародзенскім, Лідскім, Менскім, Наваградскім, Пінскім і Слонімскім паветах[6].

У 1569 г., калі рэвізія памеры на падставе "Уставы на валокі" 1557 г. была скончана, пачалася новая агульная рэвізія стану гаспадаркі ва ўсіх гаспадарскіх уладаннях. Рэвізоры праводзіліі яе па спецыяльнай інструкцыі. У далейшым такія рэвізіі адбываліся неаднаразова[7].

У гаспадарскіх Падняпроўскіх ("Руских") валасцях архаічная сістэма землекарыстання сялянства і яго абкладання феадальнымі павіннас-

---

[1] Архив ЮЗР. Ч. 6: Акты об экономических и юридических отношениях крестьян в XVI–XVII вв. (1498–1795). Т. 1. Киев. № 10; Писцовая книга Пинского и Клецкого княжеств, составленная пинским старостой Станиславом Хвальчевским в 1552–1555 гг. (далей – ПКПКК). Вильна, 1884. С. 3–5; *Пичета В.И.* Волочная устава королевы Боны и устава на волоки // В.И. Пичета. Белоруссия и Литва XV–XVI вв. Исследования по истории социально-экономического, политического и культурного развития. М., 1961. С 21–42; *Ён жа.* Проверка прав на землю во владениях королевы Боны // Белоруссия и Литва XV–XVI вв. С. 11–20.

[2] НГАБ. КМФ 5, воп. 1, а.з. 2973; ф. 694, воп. 4, а.з. 1336, а. 112–113; РИБ. Т. 30: Литовская метрика. Отд. 1–2. Ч. 3: Книги публичных дел. Т. 1. С. 179–180.

[3] *Пичета В.И.* Аграрная реформа Сигизмунда-Августа... С 235–237 і інш.

[4] НГАБ. КМФ 5, воп. 1, а.з. 2972.

[5] РИБ. Т. 30. С. 535–592.

[6] *Пичета В.И.* Аграрная реформа Сигизмунда-Августа... С. 228–237.

[7] *Довнар-Запольский М.В.* Очерки по организации западнорусского крестьянства... С. 224–235; *Пичета В.И.* Аграрная реформа Сигизмунда-Августа... С. 506–522.

цямі была рэарганізавана па загадзе Жыгімонта Аўгуста ў 1560 г. рэвізорамі панамі Р. Валовічам і М. Нарушэвічам на аснове пакуль не выяўленай спецыяльнай інструкцыі. Мяркуючы па захаваных матэрыялах гэтай "ревизии", яна істотна адрознівалася ад "Уставы на валокі" 1557 г.[1]

У гаспадарскіх уладаннях у Падзвінні, якое стала ў гады Лівонскай вайны адной з асноўных арэн ваенных дзеянняў, аграрная рэформа не праводзілася.

Пачынаючы з 60-х гг. XVI ст. прыклад гаспадара паступова пераймалі і многія іншыя зямельныя ўласнікі, пераважна буйныя, бо ажыццяўленне аграрнай рэформы патрабавала вялікіх сродкаў. Да канца XVI ст. валокі і заснаваная на іх новая сістэма землекарыстання сялян і абкладання іх феадальнымі павіннасцямі былі ўведзены ў маёнтках Уселюб, Нягневічы (Наваградскі павет), Дзяменічы (Берасцейскі), Лебедзева (Ашменскі), Ішкалдзь (Наваградскі), Здзяцель (Слонімскі), Бародзічы (Берасцейскі), Буцавічы, Лагойск (Менскі), Стары Мядзель (Ашменскі), Смалявічы, Гатава (Менскі) і іншых, якія знаходзіліся ў рэгіёне развітой панскай гаспадаркі. У іх яна праводзілася на аснове ўласных інструкцый феадалаў, якія запазычвалі толькі некаторыя прынцыпы "Уставы на валокі" 1557 г., бо яна мела абавязковую сілу толькі ў гаспадарскіх маёнтках.

**Рэарганізацыя сістэмы землекарыстання сялянства і яго павіннасці.** Інструкцыя 1557 г. паставіла перад рэвізорамі ў якасці галоўнай задачы павелічэнне даходнасці ("розмноженье пожитков") гаспадарскіх уладанняў[2]. Гэта дасягалася шляхам ажыццяўлення шырокага комплексу землеўпарадкавальных, эканамічных і сацыяльных мерапрыемстваў[3]. Важнейшым з іх з'явілася поўная рэарганізацыя архаічнай сістэмы землекарыстання сялянства і абкладання яго феадальнымі павіннасцямі. Яна засноўвалася на вымярэнні ўсёй зямлі на валокі і ўвядзенні іх у якасці асноўнай адзінкі абкладання. Пры гэтым абмяраліся ўсе землі, якія знаходзіліся ў карыстанні сялян, у тым ліку купленыя імі і набытыя ў якасці закладу, бо вялікі князь зыходзіў з устаноўленага феадальнага прынцыпу, згодна з якім "кметъ и вся его маетность наша есть"[4].

---

[1] *Пичета В.И.* Аграрные реформы в восточных областях Литовско-Русского государства во второй половине XVI в. и начале XVII в. // В.И. Пичета. Белоруссия и Литва XV–XVI вв. С. 124–144.

[2] РИБ. Т. 30. С. 179, 201, 237, 585; НГАБ. Ф. 694, воп. 1, а.з. 1336, а. 112.

[3] *Довнар-Запольский М.В.* Берестейское староство в XVI в. Киев, 1898. С. 1–33; *Ён жа.* Государственное хозяйство... Т. 1. С. 292–318; *Ён жа.* Очерки по организации западнорусского крестьянства... С. 157–159, 186, 195–210, 243–253, 267–286; *Пичета В.И.* Аграрная реформа Сигизмунда-Августа... С. 183–205, 215–222; *Kolankowski L.* "Pomiara włóczna" // AW. 1927. R 4. S. 235–251; *Conze W.* Agrarverfassung und Bevölkerung in Litauen und Weißrußland. 1 Teil: Die Hufenverfassung in enemaligen Großfurstentum Litauea. Leipzig, 1940. S. 54–55; *Зеленецкая В.Н.* Землеустроительная политика второй половины XVI в. в Белоруссии и Литве и положение различных разрядов сельского населения // Труды историко-архивного института. М., 1947. Т. 3. Кафедра истории СССР. С. 70–99; *Похилевич Д.Л.* Землеустройство и поземельный кадастр в Белоруссии, Литве и Украине в XVI–XVII вв. // Материалы по истории земледелия СССР. Сб. 1. М., 1952. С. 323–396; *Улащик Н.Н.* Кобринская экономия после проведения волочной померы // Учен. зап. Ин-та славяноведения. Т. 15. М., 1957. С. 246–268; *Ochmański J.* Płozenie spoleczno-gospodarcze i walka klasowa chłopów w ekonomii kobryńskiej w drugiej połowie XVI i pierwszej połowie XVII w. // Roczniki Dziejów Spolecznych i Gospodarczych. T. 19. Poznań, 1958. S. 79–80; *Ён жа.* Reforma włoczna... S. 164–174; *Kosman M.* Pomiara włoczna na Polesiu pińskim // Roczniki Dziejów Spolecznych i Gospodarczych. T. 31. Poznań, 1970. S. 103–141.

[4] РИБ. Т. 30. С. 570.

Па "Уставе на валокі" 1557 г. у гаспадарскіх уладаннях зямля вымяралася на валоку не па 30, а па 33 (23,5 га), а часам і больш моргаў. Дадатковымі наддаткамі "наддавками" кампенсавалася ўключэнне ў валокі нязручных для земляробства ўчасткаў. Нягледзячы на тое што плошча валокі з наддаткамі перавышала плошчу звычайнай трыццаціморгавай валокі, такая валока лічылася адной адзінкай абкладання: наддаткі павіннасцямі не абкладаліся. Паводле інструкцыі цяглыя і чыншавыя сяляне, а таксама сяляне-рамеснікі ў адрозненне ад іншых сялян-слуг (путных, конюхаў і інш.) маглі атрымаць па адной валоцы зямлі[1]. Аднак яны бралі, як правіла, толькі па паўвалокі на гаспадарку, г.зн. у сярэднім каля 12 га.

У час рэформы быў праведзены вялікі аб'ём землеўпарадкавальных работ. Шляхам абмену зямель ліквідавалася цераспалосіца. Зведзеныя ў адзін водруб сельскія землі ў адпаведнасці з патрабаваннямі рэгулярнага трохпольнага севазвароту падзяляліся на тры роўныя палі і ў кожным з іх наразаліся кавалкі па 11 моргаў. Такім чынам, кожная валока складалася з трох участкаў, якія знаходзіліся на розных палях. Валокі ўяўлялі сабой у асноўным раллю, але ў іх складзе маглі знаходзіцца таксама сенажаці, хмызняк, лес; сяляне на сваіх валоках нярэдка касілі сена, секлі дровы, палявалі на звяроў. Сядзібы сялян звычайна пераносіліся на сярэдняе поле. Пры гэтым жыллёвыя пабудовы знаходзіліся на адным баку сельскай вуліцы, а гаспадарчыя – на другім.

Паводле дадатка да уставы 1557 г. адной валокай зямлі мог карыстацца як асобны селянін, так і гаспадар разам з сынам ці два браты[2]. Як правіла, пасля рэформы на адной валоцы зямлі вялі гаспадарку ў сярэднім прыкладна дзве гаспадаркі цяглых ці чыншавых сялян. Звычайна яны былі сваякамі.

Акрамя ўласных надзелаў сяляне маглі карыстацца агульнымі ўгоддзямі, пасвіць жывёлу на пустуючых валоках і выганах, нарыхтоўваць у лясах толькі для сваіх патрэб будаўнічыя матэрыялы і дровы, збіраць ягады, грыбы, лавіць у рэках і азёрах рыбу. За асобную плату сяляне маглі карыстацца і валокамі, што проста пуставалі.

Усе валокі сяла ў залежнасці ад канкрэтных умоў (наяўнасць фальварка, велічыня плошчы яго раллі і г.д.) па характары галоўных павіннасцей размяркоўваліся на цяглыя (па сем валок на адну фальварачную валоку) і асадныя. Частка валок адводзілася для сялян-слуг. Іх валокі называліся "вольнымі", бо гэтая катэгорыя сялянства была вызвалена ад звычайных павіннасцей цяглых і асадных падданых і выконвала ў асноўным свае спецыяльныя службы. Пры размеркаванні валок сяляне пераводзіліся з адной катэгорыі ў іншую незалежна ад іх жадання. Многія сяляне-слугі насуперак іх жаданню несці ранейшую павіннасць былі пераведзены ў катэгорыю асадных ці цяглых.

Невялікія ўчасткі зямлі па тры моргі перадаваліся нявольнай чэлядзі, якая тым самым станавілася агароднікамі.

У гаспадарскіх уладаннях у структуры валок па характары галоўных павіннасцей абсалютна пераважалі асадныя, ці чыншавыя, валокі, а таму і асадныя сяляне. Удзельная вага цяглых валок, напрыклад, складала: у Гарадзенскім старостве 41,3%, у Кобрынскім 30, у Берасцейскім 20,6, у Пінскім 12,4%[3].

---

[1] РИБ. Т. 30. С.581, 591–592.
[2] Там жа. С. 590–591.
[3] *Довнар-Запольский М.В.* Государственное хозяйство... Т. 1. С. 310, 312; *Ochmański J.* Reforma włoczna... S. 170; *Kosman M.* Pomiara włoczna... S. 137.

У час правядзення аграрнай рэформы з кожнай валокі зямлі былі ўстаноўлены дакладна вызначаныя павіннасці. Іх галоўныя і іншыя віды залежалі ад павіннаснага характару валок, а нормы – у значнай ступені ад якасці зямлі. Апошняя па гэтай прыкмеце дыферэнцыравалася на чатыры катэгорыі: добрая, сярэдняя, кепская і вельмі кепская (табл. 6.) Такім чынам, агульны памер павіннасцей за карыстанне валокай зямлі быў устаноўлены ў строгай залежнасці ад яе якасці, г.зн. з улікам рознай эфектыўнасці працы на землях неаднолькавай урадлівасці.

*Табл. 6.* Віды і нормы асноўных павіннасцей з цяглых і асадных валок па "Уставе на валокі" 1557 г.[1]

| Нумар п/п | Віды павіннасцей | Адзінкі вымярэння | Нормы павіннасцей | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | цяглых сялян | | | | асадных сялян | | | |
| | | | Якасць зямлі | | | | | | | |
| | | | добрая | сярэдняя | кепская | вельмі кепская | добрая | сярэдняя | кепская | вельмі кепская |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| 1 | Паншчына | дні (у тыдзень) | 2 | 2 | 2 | 2 | – | – | – | – |
| 2 | Толокі ці грошы | дні ў год<br>грошы | 4 | 4 | 4 | 4 | 12<br>12 | 12<br>12 | 12<br>12 | 12<br>12 |
| 3 | Асада | грошы | – | – | – | – | 30 | 30 | 30 | 30 |
| 4 | За гвалты: жыта ці грошы | бочкі<br>грошы | – | – | – | – | 1<br>10 | 1<br>10 | 1<br>10 | 1<br>10 |
| 5 | Чынш | грошы | 21 | 12 | 8 | 6 | 21 | 12 | 8 | 6 |
| 6 | Дзякла:<br>авёс ці грошы<br>за дастаўку | <br>бочкі<br>грошы<br>грошы | <br>2<br>10<br>10 | <br>2<br>10<br>10 | <br>1<br>5<br>5 | <br>–<br>–<br>– | <br>2<br>10<br>10 | <br>2<br>10<br>10 | <br>1<br>5<br>5 | <br>–<br>–<br>– |
| | сена ці грошы<br>за дастаўку | вазы<br>грошы<br>грошы | 1<br>3<br>2 | 1<br>3<br>2 | 1<br>3<br>2 | –<br>–<br>– | 1<br>3<br>2 | 1<br>3<br>2 | 1<br>3<br>2 | –<br>–<br>– |
| | гусі ці грошы | штукі<br>грошы | 1<br>1,5 | 1<br>1,5 | 1<br>1,5 | 1<br>1,5 | 1<br>1,5 | 1<br>1,5 | 1<br>1,5 | 1<br>1,5 |
| | куры ці грошы | штукі<br>грошы | 2<br>1,6 | 2<br>1,6 | 2<br>1,6 | 2<br>1,6 | 2<br>1,6 | 2<br>1,6 | 2<br>1,6 | 2<br>1,6 |
| | яйкі ці грошы | штукі<br>грошы | 20<br>0,4 | 20<br>0,4 | 20<br>0,4 | 20<br>0,4 | 20<br>0,4 | 20<br>0,4 | 20<br>0,4 | 20<br>0,4 |

[1] РИБ. Т. 30. С. 551–553, 579–581 (арт. 15, 17, 36–38).

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | На невады | грошы | 2 | 2 | 2 | 2 | 2 | 2 | 2 | 2 |
| 8 | Стацыя ці:<br>ялавіцы<br>бараны<br>куры<br>яйкі | грошы<br>галовы<br>галовы<br>штукі<br>штукі | 2,5<br>0,03<br>0,07<br>1<br>10 | 2,5<br>0,03<br>0,07<br>1<br>10 | 2,5<br>0,03<br>0,07<br>1<br>10 | 2,5<br>0,03<br>0,07<br>1<br>10 | 2,5<br>0,03<br>0,07<br>1<br>10 | 2,5<br>0,03<br>0,07<br>1<br>10 | 2,5<br>0,03<br>0,07<br>1<br>10 | 2,5<br>0,03<br>0,07<br>1<br>10 |
| | Кошт чыншу, дзякла, невадоўшчыны і стацыі | грошы | 54 | 45 | 31 | 14 | 54 | 45 | 31 | 14 |
| | Кошт усіх павіннасцей | грошы | 106 | 97 | 83 | 66 | 106 | 97 | 83 | 66 |

Заўвагі. 1. Цяглыя сяляне за 4 дні талок вызваляліся ад 6 дзён паншчыны на працягу трох тыдняў падчас зімовых і вясновых рэлігійных свят.

2. Дзякальны авёс сяляне павінны былі адвозіць на адлегласць да 20 міль (каля 160 км), а сена – да 15 міль (каля 120 км).

3. Акрамя павіннасцей, што паказаны ў табліцы, сяляне павінны былі таксама касіць фальварачныя сенажаці, дастаўляць па адным возе сена туды, куды загадаюць, перавозіць розныя грузы, будаваць і рамантаваць масты, сцерагчы двары.

4. Вялікі князь сам вызначаў спосаб аплаты: натурай ці грашыма.

У складзе асноўных галоўнай павіннасцю з цяглай валокі была паншчына па два дні ў тыдзень на працягу 49 тыдняў. Замест шасці дзён паншчыны на працягу трох тыдняў зімовых і вясенніх рэлігійных свят цяглыя сяляне павінны былі адбываць чатыры талакі летам. Такім чынам, на працягу года яны хадзілі на працу ў фальварак 102 дні.

Галоўнай павіннасцю з асаднай валокі з'яўлялася "асада", г.зн. грашовая плата замест паншчыны па 30 грошаў. Акрамя таго, неабходна было плаціць яшчэ па 12 грошаў за талокі і па 10 грошаў за "гвалты", г.зн. тэрміновыя работы, абумоўленыя надзвычайнымі абставінамі (пажары, паводкі і г.д.). Асада, талокі і гвалты ў асадных сялян у грашовым эквіваленце складалі 52 грошы з валокі зямлі незалежна ад яе якасці.

Астатнія асноўныя павіннасіці як з цяглых, так і асадных валок былі наступныя: чынш складаў 21 грош – з валокі добрай зямлі, 12 – з сярэдняй, 8 – з кепскай і 6 – з вельмі кепскай. Дзякла аўсом складала 2 бочкі (ці 10 грошаў) і 10 грошаў за дастаўку з добрай і сярэдняй зямлі, бочка (ці 5 грошаў) і 5 грошаў за дастаўку з кепскай зямлі, з вельмі кепскай зямлі дзякла аўсом не выбіралася. Дзякла сенам (воз ці 3 грошы і 2 грошы за дастаўку) бралася ў аднолькавых памерах, але толькі з зямель трох першых катэгорый. Нормы ж дзякла гусямі (па адной ці 1,5 гроша), курамі (па дзве ці 1,6 гроша), яйкамі (па 20 ці 0,4 гроша), а таксама "неводовщины" (па 2 грошы), стацыі грашыма (па 2,5 гроша) ці ялавіцамі (па адной з 30 валок, г.зн 0,03), баранамі (па адным з 15 валок, г.зн. 0,07), курамі (па адной) і яйкамі (па дзесятку) незалежна ад якасці зямлі.

Такім чынам, віды асноўных павіннасцей (чынш, дзякла, невадоўшчына і стацыя) як з цяглых, так і з асадных валок былі аднолькавымі. Аднак нормы чыншу і дзякла аўсом і сенам былі абумоўлены якасцю зямлі.

Сукупны кошт усіх павіннасцей з валокі таксама залежаў ад гэтага. З асаднай валокі ён быў: з добрай зямлі – 106 грошаў, з сярэдняй – 97, з кепскай – 83 і з вельмі кепскай – 66 грошаў.

Такім чынам, дыферэнцыраваны ўлік якасці зямлі абумовіў значную розніцу памераў сукупнага кошту ўсіх павіннасцей з валокі зямлі рознай якасці. Напрыклад, кошт усіх павіннасцей з валокі добрай зямлі на 40 грошаў, або ў 1,6 раза, быў большы, чым адпаведны паказчык для валок з вельмі кепскай глебай.

З улікам меркавання аб роўнасці сукупнага кошту ўсіх асноўных павіннасцей з цяглых і асадных валок, а таксама з таго, што агульны кошт асноўных павіннасцей як з цяглых, так і з асадных валок з зямлёй роўнай якасці быў аднолькавым, кошт паншчыны і талок з цяглых валок можна прыняць роўным кошту асады, талок і гвалтаў з асадных валок, якія складаў 52 грошы[1]. У такім выпадку дзень працы цяглых сялян на паншчыне ці талацэ каштаваў у сярэднім каля 0,5 гроша (52 грошы : 102 дні). З гэтай лічбы ўдзельная вага паншчыны з цяглых валок у сукупным кошце рэнты складалася: 47,2% – з добрай зямлі, 51,5 – з сярэдняй, 60,2 – з кепскай і 75,7% – з вельмі кепскай. Удзельная вага рэнты грашыма, г.зн. асады разам з чыншам, з асадных валок з зямлёй рознай якасці была значнай і складала адпаведна 48,1% – з добрай, 43,3 – з сярэдняй, 58,59 – з кепскай і 54,5% – з вельмі кепскай.

Акрамя асноўных сяляне павінны былі таксама выконваць і шэраг дадатковых павіннасцей: касіць фальварачныя сенажаці, перавозіць розныя грузы, будаваць і рамантаваць масты, хадзіць на варту панскіх двароў. За кошт пагашэння часткі плацяжоў сяляне зганяліся на любыя работы. Так, у 1569 г. на будаўніцтва Тыкоцінскага замка было адпраўлена 1500 сялян з суседняга Гародзенскага староства. Пры гэтым работнікам з канём і возам з чыншу адпускалася па 2 грошы за тыдзень працы, а пешым – па 1,6 гроша[2].

Сяляне-слугі, частка якіх (путныя баяры) атрымала па дзве валокі, а частка (рамеснікі) па адной, па-ранейшаму неслі спецыяльныя службы, але ва "Уставе на валокі" іх павіннасці дакладна не вызначаны.

Агароднікі за тры моргі зямлі павінны былі адбываць паншчыну па адным дні на тыдзень, а іх жонкі хадзіць шэсць дзён летам на талокі.

Інструкцыя рэгламентавала парадак выканання павіннасцей. Цяглыя сяляне павінны былі працаваць у фальварках ад усходу да заходу сонца. За адсутнасць на працы сяляне строга караліся: за першы дзень штраф складаў адзін грош, за другі дзень забіралі барана, а за трэці – білі бізуном[3].

Рэарганізацыя ў 1560 г. сістэмы землекарыстання і абкладання сялянства ў гаспадарскіх Бабруйскай, Гомельскай, Крычаўскай, Магі-

---

[1] *Ochmański J.* Reforma włóczna... S. 168–169.
[2] Метрыка ВКЛ. А.з. 531, а. 188–189.
[3] РИБ. Т. 30. С. 554 (арт. 19).

лёўскай, Мазырскай, Свіслацкай і іншых валасцях Падняпроўя заключалася ў тым, што рэвізоры "поровняли грунты", г.зн. вымералі сялянскую раллю на "службы" – роўныя па плошчы ўчасткі на 30 салянак (бочак) пасеву збожжавых, што адпавядала 30 моргам ці валоцы зямлі[1], і ўвялі іх замест былой адзінкі абкладання – дыму. Пры гэтым вызначалася якасць зямлі кожнай службы: добрая, сярэдняя і кепская. Службу зямлі бралі ў карыстанне, як правіла, дзве сялянскія гаспадаркі (дымы). Высвятлялася таксама наяўнасць сенажацей, бортных, рыбалоўных і паляўнічых угоддзяў, якія размяркоўваліся паміж службамі пароўну. Удакладняліся і апісваліся межы сёл.

Рэвізоры таксама ўстанавілі са служб і прылеглых сельскагаспадарчых і прамысловых угоддзяў новыя "певные и врочистые платы", г.зн. віды і нормы асноўных павіннасцей, галоўным чынам грашыма. Памеры плацяжоў залежалі не толькі ад якасці зямлі, але і ад наяўнасці і велічыні даходаў ад прамысловых угоддзяў. Таму агульныя памеры плацяжоў са служб у розных сёлах былі неаднолькавымі.

Нормы павіннасцей са службы былі наступнымі: 60 грошаў – з добрай зямлёй, 50 – з сярэдняй, 40 грошаў – з кепскай. Акрамя таго, сяляне ўносілі з кожнай службы па адной бочцы жыта і адной бочцы аўса. За адзін воз сена яны плацілі па 4 пенязі (0,4 гроша), а за адзін пуд (медніцу) мёду – 20 ці 25 грошаў у залежнасці ад велічыні мясцовых вагавых мер. Выплаты за паляўнічыя і рыбалоўныя ўгоддзі ўстанаўліваліся ў памерах, якія адпавядалі велічыні прыбытку ад іх[2].

Акрамя названых асноўных гаспадарскія сяляне Падняпроўскіх валасцей павінны былі па-ранейшаму выконваць і шэраг дадатковых павіннасцей: будаваць і рамантаваць замкі, утрымліваць у памежных замках вартаўнічыя пасты, збіраць грошы на аплату падвод, а таксама плаціць натурай і грашыма рознымураднікам. Такім чынам, у выніку аграрнай рэформы 1560 г. у гаспадарскіх валасцях Падняпроўя сістэма абкладання сялян феадальнымі павіннасцямі стала апірацца на дакладны ўлік колькасці і якасці сельскагаспадарчых і промысловых угоддзяў, якімі яны карысталіся. Віды і нормы павіннасцей з новай адзінкі абкладання – службы сталі адзінымі для ўсіх гаспадарскіх сялян гэтага вялікага рэгіёна. Адным з важных вынікаў аграрнай рэформы з'явілася канчатковае ператварэнне сялян-даннікаў у сялян-чыншавікоў, бо ў структуры іх рэнты сталі абсалютна пераважаць грашовыя плацяжы.

**Валочная памера ва ўладаннях свецкіх і духоўных феадалаў.** Істотныя змены ў сістэме землекарыстання і абкладання сялян у выніку аграрнай рэформы адбыліся таксама і ў тых маёнтках свецкіх і духоўных феадалаў, у якіх яна была ажыццёўлена[3]. Але ўведзеныя ў іх новыя нормы абкладання павіннасцямі адрозніваліся ад норм, устаноўленых у дзяржаўных уладаннях, бо, як ужо адзначалася, Устава на валокі 1557 г. не была для іншых феадалаў абавязковай (табл. 7).

---

[1] АСД. Т. 3. Вильна, 1867. № 109. С 262–263; Метрыка ВКЛ. А.з. 37, а. 451.

[2] НГАБ. Ф. 694, воп. 7, а.з. 936; АСД. Т. 3. № 109; Аддзел рукапісаў Бібліятэкі АН Літвы (АРБАН Літвы). Ф 16, а.з. 2; АВК. Т. 13: Акты Главного литовского трибунала. № 100; Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы (ДГАЛ). Ф. Старажытныя акты (СА). А. з. 115, а. 266–283.

[3] *Ochmański J.* Reforma włóczna... S. 175–197.

*Табл. 7.* Віды і нормы асноўных павіннасцей цяглых і асадных (чыншавых) сялян з валокі ў маёнтках свецкіх і духоўных феадалаў[1]

| Нумар п/п | Маёнткі | Паветы | Гады | Уласнасць | Віды і нормы павіннасцей цяглых сялян асадных (чыншавых) сялян | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Паншчына | Чынш | Асада | Талокі | Дзякла (даніна) | | | | | |
| | | | | | | | | | жыта | авёс | сена | гусі | куры | яйкі |
| | | | | | дні ў тыдзень | грошы | | дні ў год | бочкі | | вазы | штукі | | |
| 1 | Іўе | Ашм. | 1561 | Ш | 2<br>– | 40 | –<br>60 | 4<br>12 | –<br>1 | 2<br>1 | 1 | 1 | 2 | 20 |
| 2 | Рось | Ваўк. | 1569 | Ш | 2 | 42 | –<br>92 | <br>4 | 1<br>1 | 1<br>1 | | 1<br>1 | 1<br>1 | 10<br>10 |
| 3 | Быцень | Слон. | 1570 | Ш | 3<br>– | 25 | –<br>60 | 8<br>12 | | <br>1 | 1<br>1 | 1<br>1 | 2<br>1 | 10<br>10 |
| 4 | Лебедзева | Ашм. | 1575 | Ш | 3<br>– | 20 | –<br>120 | 10 | 1<br>1 | 1<br>1 | | 1<br>1 | 2<br>2 | 20<br>20 |
| 5 | Свіслач | Ваўк. | 1575 | Ш | 2<br>– | 17 | –<br>60 | <br>12 | 1<br>1 | 1<br>1 | | 1<br>1 | 1<br>1 | 10<br>10 |
| 6 | Ішкалдзь | Нав. | 1579 | Ш | 3<br>– | 20 | –<br>100 | 2 | 1<br>1 | 1<br>1 | | 1<br>1 | 2<br>2 | 20<br>20 |
| 7 | Рудава | Ваўк. | 1579 | Ш | 2<br>– | 32 | –<br>120 | 3<br>3 | 1<br>1 | 1<br>1 | | 1<br>1 | 1<br>1 | 10<br>10 |
| 8 | Здзяцель | Слон. | 1580 | Ш | 2<br>– | 48 | –<br>120 | 6<br>6 | 1<br>1 | 2<br>2 | 1<br>1 | 1<br>1 | 2<br>2 | 20<br>20 |
| 9 | Бародзічы | Пін. | 1580 | Кц | | | 87 | | | | | | | |
| 10 | Вязавец | Слон. | 1583 | Ш | 3<br>– | 30 | –<br>120 | 12 | 1 | 1 | | | 2 | 20 |

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 11 | Стары Мядзель | Ашм. | 1584 | Ш | 5 | 30 | –<br>90 | | 1 | 1 | – | – | – | – |
| 12 | Смалявічы | Мен. | 1586 | Ш | 4<br>– | | –<br>120 | 12 | 1<br>1 | 1<br>1 | | | 2<br>2 | 20<br>20 |
| 13 | Савічы | Нав. | 1587 | Ш | 3 | 48 | –<br>180 | +<br>12 | 1<br>1 | 1<br>2 | 1<br>1 | 1<br>1 | 2<br>2 | 20<br>20 |
| 14 | Прышыхвосты | Бер. | 1589 | Ш | 2 | 30 | – | 1 | 1 | | | 1 | 1 | 10 |
| 15 | Магільная | Нав. | 1592 | Ш | 3<br>– | 50 | –<br>120 | 12 | 1 | 2 | 1 | 1 | 2 | 20 |
| 16 | Сваротва | Нав. | 1594 | Ш | 2 | 50 | – | | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 10 |
| 17 | Косава | Слон. | 1597 | Ш | 3<br>– | | –<br>120 | 12<br>12 | 1 | 1 | 1 | 0 | 2 | 10 |
| 18 | Ражанка | Лід. | 1599 | Ш | 5<br>– | 10 | 120 | 3<br>3 | 2 | 2 | | | 1 | 10 |

[1] 1) НГАБ. КМФ 5. Воп. 1, а.з. 1467; 2) АСД. Т. 4. Вильна, 1867. № 66; 3) АСД. Т. 3. Вильна, 1867. № 110; 4) Materyały do dziejów rolnictwa w Polcze w XVI i XVII w. ... (MDR). Warszawa, 1876. S. 126–171; 5) Аддзел рукапісаў Навуковай бібліятэкі Вільнюскага універсітэта (АРНББУ). Ф. 4, а.з. 91; 6) НГАБ. Ф. КМФ 5, воп. 1, а.з. 1379; 7) АСД. Т. 3. № 111; 8) АВК. Т. 14: Инвентари имений XVI ст. Вильна, 1887. № 18; 9) Аддзел рукапісаў Бібліятэкі АН Літвы (АРБАН Літвы). Ф. 43, а.з. 3645; 10) АРНББУ. Ф. 4, а.з. 3977; НГАБ. Ф. 1785, воп 1, а.з. 7, а. 95–108; 11) НГАБ. КМФ 5, воп. 1, а.з. 1696, а. 388–389; 12) АВК. Т. 6. Вильна, 1872. С. 55–59; 13) Inwentarz majętności Sawiczez 1587 г. (IMS) // M. Kałamajska-Saeed. Portrety i zabytki ksiąząt Olelkowiczów w Słucku. Inwentaryzacja Józefa Smolińskiego z 1904 r. Warszawa, 1996. Aneks 2. S. 73– 94; 14) АВК. Т. 14. № 51; 15) АВК. Т. 28: Акты о евреях. Вильна, 1901. № 5б; 16) АВК. Т. 14. № 83; 17) АВК. Т. 14. № 89; 18) АВК. Т. 14. № 89.

З а ў в а г і. 1. Нормы павіннасцей у маёнтках Іўе, Здзяцель, Вязавец, Стары Мядзель паказаны з адной валокі добрай зямлі, а ў маёнтках Лебедзева, Смалявічы – з сярэдняй.

2. Указанні на якасць зямлі ў інвентарах іншых маёнткаў адсутнічаюць.

Напрыклад, у маёнтку удавы пана С. Кішкі Г. Радзівілаўны Іўе (Ашменскі павет) у 1561 г. цяглыя сяляне з адной валокі добрай зямлі павінны былі хадзіць два дні ў тыдзень на паншчыну і чатыры дні ў год на талокі, плаціць 40 грошаў чыншу, даваць дзве бочкі аўса (ці плаціць 20 грошаў), адзін воз сена (ці 5 грошаў), адну гусь (ці 2 грошы), дзве курыцы ( ці 2 грошы), 20 яек (ці 0,8 гроша), стацыю ялавіцамі (па адной з 30 валок), баранамі (па адным з 15 валок) і, акрамя таго, касіць фальварачныя сенажаці.

Як бачым, тут чынш у цяглых сялян амаль у два разы быў большы, чым у цяглых сялян гаспадарскіх уладанняў, а астатнія павіннасці (дзякла жытам, сенам, гусямі, курамі, яйкамі, невадоўшчына, стацыя і касьба) былі такімі, як і ва ўладаннях вялікага князя, але іх кошт быў вышэйшы. Таму агульны кошт павіннасцей (без паншчыны, талок і касьбы) цяглых сялян складаў 74,2 гроша, г.зн. перавышаў кошт адпаведных павіннасцей па Уставе на валокі 1557 г. на 20,2 гроша, ці 37,4%.

Асадныя сяляне з адной валокі ўносілі 60 грошаў "пенежного плата", але не плацілі асобнага чыншу, хадзілі на талокі летам 12 дзён (ці плацілі 12 грошаў), давалі па адной бочцы аўса, а астатнія павіннасці гэтай катэгорыі сялян былі такімі ж, як і ў цяглых. Агульны кошт іх павіннасцей быў роўны 106,2 гроша, г.зн. амаль супадаў з адпаведным паказчыкам (106 грошаў) Уставы 1557 г.[1]

Больш значная розніца ў відах і нормах асноўных павіннасцей у параўнанні з Уставай на валокі 1557 г. была ў 1569 г. у маёнтку Рось (Ваўкавыскі павет), што належаў пану Ю. Хадкевічу[2]. Тут, як і ў многіх іншых маёнтках, якасць зямлі наогул не ўлічвалася. Большая частка цяглых сялян за валоку зямлі выконвала паншчыну па два дні ў тыдзень і плаціла чынш па 42 грошы, а другая частка хадзіла на паншчыну па тры дні ў тыдзень, але плаціла чынш у меншых памерах – па 22 грошы. Дзякла ("подачки") жытам (па бочцы), аўсом (па бочцы), гусямі (па адной), курамі (па адной) і яйкамі (па дзесятку) уносілася пароўну. Чыншавыя сяляне з валокі плацілі па 92–120 грошаў, хадзілі па чатыры дні на талокі і давалі роўнае з цяглымі сялянамі дзякла. Нягледзячы на паказаную розніцу, агульны кошт усіх павіннасцей як з цяглых (59,5 гроша без кошту двухдзённай паншчыны), так і з чыншавых (109,5 гроша пры чыншы па 92 грошы і 137,5 гроша пры чыншы 120 грошаў) нязначна перавышаў кошт павіннасцей з валок добрай зямлі па Уставе 1557 г.

Мяркуючы па фрагментарных даных, у другой палове XVI ст., г.зн. пасля аграрнай рэформы, у розных межах пры значным падабенстве структуры відаў асноўных павіннасцей з валокі прыкметны пэўныя, часам істотныя адрозненні іх нормаў. Так, нормы паншчыны з валокі вагаліся ад двух да пяці дзён у тыдзень, чыншу – ад 20 да 50 грошаў, асады – ад 60 да 120 грошаў, талок – ад поўнай адсутнасці да 12 дзён у год. Напрыклад, у маёнтках Лебедзева і Хожава Ашменскага павета, якія належалі М.К. Радзівілу, у 1575 г. цяглыя сяляне з кожнай валокі зямлі працавалі ў фальварку па тры дні ў тыдзень, хадзілі на талокі па дзесяць дзён у год, плацілі чынш па 20 грошаў і дзякла па адной бочцы жыта і

[1] НГАБ. КМФ 5. Воп. 1, а.з. 1467.
[2] АСД. Т. 4. Вильна, 1867. № 66.

аўса, адной гусі, дзве курыцы і 12 яек[1]. З асадных (чыншавых) сялян чынш спаганяўся памерам 90–120 грошаў, а дзякла было такім жа, як у цяглых сялян. У 1579 г. у цяглых сялян маёнтка Ішкалдзь (Наваградскі павет) удавы С.С. Давойны княгіні Б.І. Саламярэцкай паншчына складала летам пяць дзён у тыдзень, а зімой – тры, чынш раўняўся 8 грошам, а даніна збіралася ў такім жа памеры, як і ў названых маёнтках М.К. Радзівіла[2].

У шэрагу маёнткаў пасля аграрнай рэформы побач са звычайнымі відамі і нормамі асноўных павіннасцей з валокі па-ранейшаму захоўваліся асобныя віды даўніх павіннасцей. Так, у 1573 г. у маёнтку Я. Хадкевіча Бобр Аршанскага павета чыншавыя сяляне плацілі чынш памерам 50–60 грошаў, па адной бочцы жыта і аўса, па паўтара пуда мёду, "кликуновщину" (1 грош), "вепровщину" (4 грошы), "бирчее" (5–6 грошаў), "поповщину" (1 грош) і па адным кольцы ільну, а таксама павінны былі рамантаваць двор, масты, гаці і млыны[3].

Акрамя асноўных сяляне павінны былі выконваць і шэраг дадатковых павіннасцей: перавозіць зерне і іншыя сельскагаспадарчыя прадукты, вартаваць двары феадалаў, будаваць масты, касіць і г.д. Характар і памеры дадатковых павіннасцей у розных маёнтках не былі аднолькавымі.

Такім чынам, свецкія і духоўныя феадалы ў працэсе ажыццяўлення аграрнай рэформы значна павялічылі нормы паншчыны і чыншу ў параўнанні з нормамі Уставы на валокі 1557 г.

У маёнтках свецкіх і духоўных феадалаў, асабліва дробных і сярэдніх, удзельная вага цяглых сялян была па-ранейшаму значна вышэйшая, чым чыншавых. Напрыклад, суадносіны цяглых і чыншавых валок складалі ў маёнтку Іўе 58,3 і 47,1%, у маёнтку Рось 85,2 і 14%, у маёнтку Лебедзева 86,6 і 13,4%, у маёнтку Здзяцель 60 і 40%, у маёнтку Вязавец 95,1 і 4,9%, у маёнтку Стары Мядзель 74 і 26%.

У адрозненне ад гаспадарскіх уладанняў, дзе ў час рэформы ўся нявольная чэлядзь была пераведзена ў разрад сялян-агароднікаў, у адных шляхецкіх маёнтках нявольная чэлядзь захоўвалася і па-ранейшаму атрымлівала месячыну, г.зн. прадукты харчавання, а ў іншых яна атрымлівала невялікія надзелы (па некалькі моргаў зямлі) і тым самым таксама ператваралася ў агароднікаў.

Рэарганізацыя землекарыстання і абкладання сялянства на прынцыпах валочнай сістэмы ў другой палове XVI ст. была здзейснена толькі ў некаторай частцы маёнткаў свецкіх і духоўных феадалаў пераважна ў паўночна-заходняй частцы Беларусі. У многіх жа маёнтках і надалей па-ранейшаму існавала архаічная сістэма землекарыстання і абкладання сялянства, са службаў і дымоў[4].

---

[1] Materyały do dziejów rolnictwa w Polsce... S. 126–171.

[2] НГАБ. Ф. КМФ 5. Воп. 1, а.з. 1379.

[3] АВК. Т. 14: Инвентари имений XVI ст. Вильна, 1887. № 11. Клікуноўшчына – аплата за вартаўнічую павіннасць, вепраўшчына – аплата за даніну свінінай, бірчае – аплата пры ўзяцці даніны, папоўшчына – аплата за ўтрыманне святара.

[4] ДМАМЮ. Т. 1. № 10; НГАБ. Ф. КМФ 5. Воп. 1, а.з. 4292; Ф. 694, воп. 2, а.з. 7711; IA. Т. 1. XVI amžiaus Lietuvos inventoriai. № 20; АСД. Т. 3. № 26; АВК. Т. 36: Акты Минского гродского суда. 1582–1590. № 17, 32; Т. 14. № 35; Т. 13: Акты Главного литовского трибунала. № 40–42, 98; Т. 33: Акты, относящиеся к истории западнорусской церкви. Вильна, 1908. № 100,105 і інш.

Аграрная рэформа ў выніку павелічэння норм феадальных павіннасцей сялянства, а таксама ўвядзення больш поўнага і дакладнага ўліку і абкладання ўсіх крыніц даходаў, перш за ўсё зямлі, паляпшэння агратэхнікі, арганізацыі дакладнага кантролю, павышэння ўзроўню кіравання прывяла да значнага павелічэння прыбыткаў гаспадара, свецкіх і духоўных феадалаў, г.зн. да ўзмацнення эксплуатацыі сялянства.

Напрыклад, у час вымярэння зямлі на валокі ў Пінскім старостве ўсюды, дзе ранейшыя павіннасці аказаліся меншымі, чым прадугледжвалі Устава Боны 1552 г. і Устава на валокі 1557 г., яны павялічваліся ў адпаведнасці з нормамі гэтых інструкцый. Калі ж былыя павіннасці былі большымі, чым па Уставе на валокі, яны захоўваліся ў ранейшым памеры[1]. У выніку аграрнай рэформы даходы з Берасцейскага староства ўзраслі прыкладна з 1000 коп грошаў у год да 5527 коп грошаў, г.зн. у пяць з палавінай разоў[2]. Даходы ж з усіх гаспадарскіх уладанняў, паводле далёка не поўных даных, павялічыліся прыблізна з 20 000 коп грошаў у год да 80 000, г.зн. у 4 разы[3].

Такім чынам, рэарганізацыя сістэмы землекарыстання і абкладання павіннасцямі з'явілася пачаткам новага этапу ў працэсе далейшага ўзмацнення феадальнай эксплуатацыі сялянства. Аграрная рэформа на доўгі час вызначыла асноўныя рысы аграрнага ладу Беларусі.

## 4. Запрыгоньванне сялянства

**Узмацненне асабістай залежнасці сельскага насельніцтва.** Запрыгоньванне сялянства Беларусі было абумоўлена комплексам узаемазвязаных эканамічных, сацыяльных і палітычных фактараў, якія склаліся на пэўным этапе развіцця феадальнага грамадства. Важнейшым з іх быў усё больш выразны грамадскі падзел працы і далейшае развіццё на яго аснове таварна-грашовых адносін. Ва ўмовах спрыяльнай кан'юнктуры попыту і цэн на сельскагаспадарчую прадукцыю ў краінах Заходняй Еўропы з развітой гандлёвай рамеснай і мануфактурнай вытворчасцю гэты працэс прывёў да значнага пашырэння сувязей сельскай гаспадаркі з унутраным і асабліва знешнім рынкам. Магчымасць выгаднага збыту сельскагаспадарчай прадукцыі і больш поўнага задавальнення ўзрастаючых патрэб з дапамогаю рынка стымулявала зацікаўленасць феадалаў у павышэнні прыбыткаў са сваіх маёнткаў. Гэтай мэты яны дасягалі галоўным чынам шляхам далейшага ўзмацнення эксплуатацыі сялянства. Аднак значнаму павышэнню нормаў традыцыйных павіннасцей і ўвядзенню новых сур'ёзна перашкаджала права сялян пры выкананні пэўных умоў пераходзіць з маёнткаў адных феадалаў ва ўладанні іншых. Гэтае права склалася яшчэ ў працэсе феадалізацыі. У такіх абставінах прыгонніцтва і заклікана было стаць галоўным сродкам пазаэканамічнага прымусу сялянства да ўсё больш працяглай працы на феадалаў.

[1] ПКПКК. С. 176; Писцовая книга бывшего Пинского староства, составленная по повелению короля Сигизмунда Августа в 1561–1566 годах пинским и кобринским старостой Лаврином Войной (ПКПС). Ч. 2. С. 200, 204, 206, 264, 358, 372, 384–386 і інш.
[2] *Довнар-Запольский М.В.* Государственное хозяйство... Т. 1. С. 317.
[3] *Ochmański J.* Reforma włóczna... S. 169.

У Беларусі прыгонніцтва па захаваных крыніцах выразна прасочваецца прыкладна з сярэдзіны XV ст. З гэтага часу ў крыніцах упершыню з'яўляюцца і ў далейшым усё часцей сустракаюцца дзве асноўныя па характары асабістай залежнасці ад феадалаў катэгорыі сялянства: 1) "люди похожие", ці "вольные", і 2) "люди непохожие", ці "отчизные" ("отчичи"). Ранейшая назва сялян "люди" стала, як правіла, дапаўняцца вызначэннямі, якія адлюстроўвалі розныя формы іх асабістай залежнасці. Сутнасць іх абазначалася тэрмінамі "воля" і "няволя".

Воля пахожых людзей зводзілася да магчымасці служыць таму феадалу, якому яны захочуць, г.зн. пры выкананні пэўных умоў яны мелі права перайсці ад аднаго землеўласніка да іншага. Тэрмінам "няволя" ў судовай практыцы абазначалася асабістая залежнасць нявольнай чэлядзі і непахожых людзей. Няволя гэтых катэгорый сельскага насельніцтва зводзілася да адсутнасці ў іх права перайсці з маёнтка аднага феадала ў іншы[1].

Адным з асноўных юрыдычных прынцыпаў пазбаўлення феадаламі пахожых людзей волі з'яўлялася даўнасць, г.зн. працяглы час пражывання сялян у адным і тым жа маёнтку. Дзеянне прынцыпу даўнасці, што ўжо склалася ў якасці нормы феадальнага права, прасочваецца па крыніцах толькі з сярэдзіны XV ст., аднак высветліць час яго ўзнікнення немагчыма[2].

З гэтага часу разам з найбольш распаўсюджаным тэрмінам "люди непохожие" для абазначэння сялян, якія не мелі права на выхад, шырока ўжываецца тэрмін з наяўнасцю элемента даўнасці: "люди звечные", г.зн. сяляне, якія здаўна належалі феадалам; "люди дедизные" ці "отчизные", г.зн. сяляне, якія карысталіся зямлёй сваіх бацькоў па спадчыне; "люди заседлые", г.зн. сяляне, якія пражылі ("заседели") у маёнтках феадалаў працяглы тэрмін.



Першая старонка Статута ВКЛ 1529 г.

У статутах ВКЛ 1529 і 1566 гг. у якасці аднаго з агульных прынцыпаў феадальнага права быў устаноўлены дзесяцігадовы тэрмін "давности земской", на працягу якога феадалы маглі аднавіць сваё парушанае права[3]. Хоць у гэтых зборах законаў і адсутні-

[1] *Спиридонов М.Ф.* «Воля» и «неволя» в период действия Статута Великого княжества Литовского 1529 г. // Первый Литовский Статут (1529). Вильнюс, 1982. С. 104–111.

[2] *Спірыдонаў М.Ф.* Роля даўнасці ў запрыгоньванні сялянства Беларусі // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1980. № 1. С. 61–68.

[3] Статут 1529. Т. 2, ч. I. Раздз. I, арт. 15, 16, 27 і адпав.: I–18, 27; VII–27, X–1; Статут 1566 // Временник имп. Московского общества истории и древностей российских. Кн. 23. Раздз. I, арт. 29 і адпав.: III–29, IV–66, VII–10, XII–8.

чае норма аб ператварэнні "похожих" людзей у "непохожих" на аснове прынцыпу дзесяцігадовай даўнасці, але ў адпаведных судовых справах маюцца даныя, якія сведчаць пра тое, што даўнасць наогул і дзесяцігадовая ў прыватнасці функцыянавала ў якасці асноўнага прынцыпу запрыгоньвання "похожих" людзей[1]. Напрыклад, у 1542 г. жамойцкі староста, гаспадарскі маршалак і ваўкавыскі дзяржаўца пан М.В. Янавіч тлумачыў сваё рашэнне аб прыгоннай залежнасці сялян, якія спрабавалі пакінуць маёнтак, што быў пажалаваны феадалу каля 20 гадоў таму назад, тым, што "в Статуте прав земских есть описано, естли бы который чоловек за паном своим десять лет жил, таковый вже маеть быти за отчыча"[2].

Прынцып дзесяцігадовай даўнасці, што шырока выкарыстоўвалі феадалы для запрыгоньвання сялян, быў заканадаўча аформлены ў Статуце ВКЛ 1588 г. У артыкуле "О заседанью давности чоловека прихожого, волного" ўстанаўлівалася, што вольным "похожий" чалавек, які засядзеў за панам дзесяць гадоў, мог пайсці ад яго толькі пры ўмове выплаты выкупу ў памеры дзесяці коп грошаў і аплаты доўгу-пазыкі, г.зн. "запоможенья" – дапамогі інвентаром, зернем, жывёлай, грашыма і інш. Гэтае патрабаванне распаўсюджвалася і на дзяцей засядзеўшых дзесяцігадовую даўнасць вольных людзей. У выпадку ўцёкаў такіх людзей і іх дзяцей пан мог шукаць "збегов" дзесяць гадоў. Збегі павінны былі выдавацца яму ў якасці отчычаў[3]. У гэтым Статуце захаваліся і ранейшыя нормы аб дзесяцігадовай земскай даўнасці як адным з агульных прынцыпаў феадальнага права. Пры гэтым частка з іх рэгулявала адносіны паміж феадаламі ў сувязі з уцёкамі іх "атчызных" людзей[4].

Прымяненне прынцыпу даўнасці да патрэб прыгонніцкай палітыкі пануючага класа было адной з важнейшых заканамернасцей працэсу запрыгоньвання сялянства.

Прыгонніцкія функцыі выконвалі і іншыя эканамічныя і юрыдычныя меры пануючага класа і феадальнай дзяржавы. Феадалы, фармальна прызнаючы права "похожих" людзей на выхад, у форме звычаю ці закона ўводзілі розныя нормы, якія істотна абмяжоўвалі рэальную магчымасць яго выкарыстаць.

Сярод норм звычаёвага права, што рэгулявалі выхады вольных людзей, асноўнымі былі: 1) плата за выхад ("выход", "куница выходная", "отходное"); 2) зварот ці аплата розных пазык, г.зн. атрыманых ад пана жылых і гаспадарчых пабудоў, рабочай і прадукцыйнай жывёлы, гаспадарчага інвентару, насення і іншага "запоможенья"; 3) просьба пану ("чоломбите") аб дазволе на выхад у выглядзе "листа вызволеного", "добровольного" або "отвороного"; 4) пасяленне замест сябе іншага селяніна; 5) выкуп волі сваёй і

---

[1] РДАСА. Ф. 389 («Літоўская метрыка» – Метрыка ВКЛ). Воп. 1, а.з. 233, а. 81 адв.–85 адв.; а.з. 246, а. 476 адв. –478; а.з. 263, а. 88–89; а.з. 271, а. 17–18; а.з. 274, а. 80–81; НГАБ. Ф. 1744, воп. 1, а.з. 3, а. 3–4.

[2] Литовская Метрика. Книга 225: Книга судных дел 6 (1528–1547) (далей – ЛМ 225) / Подгот. И. Валиконите, С. Лазутка и др. Вильнюс, 1995. № 295.

[3] Статут 1588. Раздз. XII, арт. 13.

[4] Там жа. Раздз. III, арт. 35, 38, 45 і адпав.: IV–91, VII–10, XII–12, 16. Гл. таксама: НГАБ. Ф. 694, воп. 7, а.з. 655, а. 310, 311–311 адв., 314–316 адв., 318–318 адв.; Ф. 1727, воп. 1, а.з. 1, а. 311–312, 362–363, 537, 557–559.

сваіх сыноў[1]. Адыход без выканання гэтых патрабаванняў лічыўся ўцёкамі: такога селяніна шукалі і вярталі ўжо як прыгоннага[2].

У сістэме прыгонніцкіх мер вялікую ролю іграла ўвядзенне аднастайных норм выхаду і прыняцця "похожих" людзей, бо іх адрозненні ў розных маёнтках з'яўляліся адным з асноўных стымулаў пераходаў і ўцёкаў сялян. Адзіныя адпаведныя нормы ўводзіліся ў асобных землях пагадненнямі феадалаў гэтых зямель[3].

Вялікае значэнне ў працэсе далейшага ўмацавання рэжыму прыгоннага права мела адносная нівеліроўка феадальнай эксплуатацыі сялянства ў маштабах амаль усёй дзяржавы ў выніку ажыццяўлення аграрнай рэформы.

Прыгонніцкія артыкулы статутаў 1529, 1566 і 1588 гг. заканадаўча не толькі пацвярджалі нормы, што рэгулявалі выхад "похожих" людзей, якія засядзелі "волю", г.зн. у дадзеным выпадку тэрмін часовага вызвалення ад павіннасцей, але і ўводзілі новыя, якія яшчэ больш абмяжоўвалі фактычную магчымасць іх пераходу[4].

Такім чынам, пераход ад індывідуальных дагавораў феадалаў з пахожымі людзьмі аб умовах іх выхаду і прыняцця да пагадненняў феадалаў асобных зямель, а затым і заканадаўчае рэгуляванне часткі гэтых умоў у маштабах усяго Вялікага Княства Літоўскага – важныя этапы развіцця прыгонніцкай палітыкі. Гэтыя меры істотна абмяжоўвалі пераходы "похожих" людзей і садзейнічалі іх запрыгоньванню на аснове прынцыпу даўнасці.

У выніку актыўнай прыгонніцкай палітыкі пануючага класа і феадальнай дзяржавы прыкладна да сярэдзіны XVI ст. асноўная маса сялянства Беларусі была запрыгонена[5].

**Ператварэнне нявольнай чэлядзі ў прыгоннае сялянства. Запрыгоньванне вольных «похожих» людзей.** У Беларусі ў XV–XVI ст. таксама мела распаўсюджанне старажытная форма асабістай залежнасці – закупніцтва, г.зн. залог ("застава") селянінам сваёй асобы ў часовую няволю да адпрацоўкі ці аплаты дадзенай яму крэдыторам у доўг пэўнай сумы грошай. У першай палове XVI ст. закупамі станавіліся таксама неплацежаздольныя даўжнікі незалежна ад прычыны паходжання доўгу[6].

Старажытнай і найбольш грубай формай асабістай залежнасці з'яўлялася рабства. У такой залежнасці знаходзілася нявольная чэлядзь. Несвабода нявольнай чэлядзі разам з адсутнасцю права на выхад была і ў тым, што феадал меў неабмежаванае права ўласнасці на яе.

Асноўнай крыніцай папаўнення нявольнай чэлядзі з'яўляліся сяляне. Нявольнымі прызнаваліся дзеці, якія нарадзіліся ў законным шлюбе

[1] Метрыка ВКЛ. А.з. 228, а. 67–69; а.з. 246, а. 476 адв. –478; *Спиридонов М.Ф.* Закрепощение крестьянства Беларуси... С. 109–110.

[2] *Спиридонов М.Ф.* Розыск и возврат беглых крепостных крестьян Белоруссии в XVI в. // Социально-политическое и правовое положение крестьянства в дореволюционной России. Воронеж, 1983. С. 42–50.

[3] *Пичета В.И.* Юридическое положение сельского населения на частновладельческих землях ко времени издания Литовского статута 1529 г. // В.И. Пичета. Белоруссия и Литва XV–XVI вв. С. 323–327, 330–332, 402–408.

[4] Статут 1529. Раздз. VIII, арт. 20 і адпав.: XI–8; Статут 1566. Раздз. VIII, арт. 5 і адпав.: IX–19, XII–9. С. 206–207; Статут 1588. Раздз. XII, арт. 8 і адпав.: IX–29, XII–13, 14, 24.

[5] *Спиридонов М.Ф.* Закрепощение крестьянства Беларуси... С. 127–132, 198–205.

[6] Статут 1529. С. 234. Раздз. XI, арт. 5–7. С. 310; Статут 1566. Раздз. XI, арт. 8 і адпав.: XII–5, 7, 11; Статут 1588. Раздз. IX, арт. 27 і адпав.: XII–9, 11, XIV–7.

нявольных са свабоднымі. Але дзеці, што нарадзіліся ў незаконным шлюбе такіх людзей, лічыліся свабоднымі. Сяляне, якія бралі законны шлюб з нявольнай чэляддзю, па феадальных законах таксама павінны былі станавіцца несвабоднымі. Аднак ужо ў першай палове XVI ст. вольныя людзі фактычна захоўвалі свай статус, нягледзячы на тое, што бралі законны шлюб з нявольнымі[1].

Часта сяляне станавіліся нявольнай чэляддзю ў выніку вымушанага самапродажу ці продажу сваіх дзяцей у вечную няволю. Гэтая з'ява ў час голаду і іншых бедстваў насіла масавы характар. Хоць у XVI ст. законы ВКЛ ужо прызнавалі гэтыя пагадненні несапраўднымі, яны па-ранейшаму практыкаваліся[2].

Колькасць нявольнай чэлядзі папаўнялася перш за ўсё за кошт натуральнага прыросту, бо яе дзеці набывалі статус бацькоў. На працягу азначанага перыяду важнай крыніцай павелічэння колькасці нявольнай чэлядзі былі палонныя. У крыніцах XVI ст., як ужо адзначалася, прыкметнае ўзмацненне працэсу адмірання рабства, якое станавілася ва ўмовах інтэнсіўнага запрыгоньвання сялянства эканамічна нявыгадным для феадалаў. Яны надзялялі нявольную чэлядзь невялікімі зямельнымі ўчасткамі і тым самым ператваралі іх у прыгонных сялян-агароднікаў. Гэтая з'ява ў перыяд правядзення аграрнай рэформы набыла масавы характар, у выніку чаго частка нявольнай чэлядзі ўвайшла ў склад прыгоннага сялянства[3].

Такім чынам, у Беларусі ў канцы XVI ст. у выніку запрыгоньвання асноўнай масы сялянства і збліжэння яго па сацыяльна-эканамічным статусе з нявольнай чэляддзю ў агульных рысах сфарміраваўся адносна адзіны клас-саслоўе феадальнага грамадства – прыгоннае сялянства.

Ва ўмовах інтэнсіўнага запрыгоньвання сялянства колькасць пахожых людзей ужо да сярэдзіны XVI ст. істотна скараціліся. Аднак гэтая катэгорыя сялянства ўсё-такі поўнасцю не знікла і ў наступны перыяд. Частка "похожих" людзей змагла займець волю шляхам перыядычных пераходаў ад адных феадалаў да іншых, а некаторая частка нявольнай чэлядзі і "непохожих" людзей стала "похожими" людзьмі ў выніку атрымання імі волі, а таксама праз выкуп, уцёкі і г.д.[4]

Аднак пры манаполіі феадалаў на зямлю "похожие" людзі, якія вызваляліся тым ці іншым шляхам ад няволі адных феадалаў, павінны былі зноў закладвацца за іншых і з часам зноў ператвараліся ў прыгонных.

**Заканадаўчае афармленне прыгоннага права.** Адначасова з запрыгоньваннем сялянства ішоў працэс фарміравання і заканадаўчага афар-

---

[1] Статут 1529. Раздз. XI, арт. 12; Статут 1566. Раздз. XII, арт. 13.

[2] Статут 1529. Раздз. XI, арт. 10; Статут 1566. Раздз. XII, арт. 11; Статут 1588. Раздз. XII, арт. 19; АВК. Т. 17. Акты Гродненского земского суда. 1539–1565 гг. Вильна, 1890. № 66.

[3] Статут 1529. Раздз. XI, арт. 12; Статут 1566. Раздз. XII, арт. 13; Статут 1588. Раздз. XII, арт. 21 і адпав.: XIV–36; ПСРЛ. Т. 35: Белорусско-литовские летописи. М., 1980. С. 236; *Колычева Е.И.* Холопство и крепостничество (конец XV–XVI в.). М., 1971. С. 33–48. *Похилевич Д.Л.* Крестьяне-«огородники» в Великом княжестве Литовском в XVI–XVII вв. // Академику Борису Дмитриевичу Грекову ко дню семидесятилетия. С. 157–165; *Ён жа.* Рабы в поместье XIII-XVI веков в Великом княжестве Литовском // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы. 1970 г. Рига, 1977. С. 36–45.

[4] Статут 1529. Раздз. VII, арт. 27; Статут 1566. Раздз. III, арт. 29 і адпав.: XII–5, 8; Статут 1588. Раздз. III, арт. 35, 38 і адпав.: XII–9, 12, 13, 16.

млення сістэмы юрыдычных норм, заклікaных ахоўваць права ўласнасці феадалаў на прыгонных сялян. Развіццё такіх норм было абумоўлена як актывізацыяй барацьбы сялянства ў форме ўцёкаў супраць узмацнення сацыяльнага прыгнёту, так і ўзрастаннем парушэнняў прыгоннага заканадаўства, асабліва з боку буйных зямельных уласнікаў. У такіх абставінах асноўная маса феадалаў дабівалася забароны прыняцця ўцекачоў, а таксама забеспячэння іх пошуку і вяртання.

Першым вядомым нам заканадаўчым актам, што забараніў прыём уцекачоў, з'яўляецца Прывілей 1447 г. феадалам ВКЛ. Паводле яго вялікі князь і іншыя феадалы ўзаемна абавязаліся не прымаць у свае маёнткі з чужых "людей данных, извечных, селянитых, невольных"; "людей непохожих, данных, и невольных мужчизн, ани жон, ани жадных поданных"[1]. Гэты артыкул, які ўзаконіў права феадалаў на пошук і вяртанне ўцекачоў, а таксама абавязак феадалаў, што іх прынялі, выдаваць іх таму, ад каго яны ўцяклі, з'явіўся першым асноўным законам сістэмы норм па ахове прыгонніцтва, што складвалася. Таму Прывілей 1447 г. паклаў пачатак заканадаўчаму афармленню і замацаванню прыгоннага права ў ВКЛ.

Важнейшай асаблівасцю складвання прыгонніцкага заканадаўства ВКЛ у далейшым з'яўляецца не толькі стварэнне новых юрыдычных норм, але і прыстасаванне артыкулаў "Рускай праўды" аб уцёках халопаў да новых сацыяльна-палітычных умоў. Так, у Судзебніку 1468 г. прадугледжвалася смяротная кара за "вывод" людзей і нявольнай чэлядзі ў выпадку, калі вінаватага зловяць на месцы злачынства. А ў "Рускай праўдзе" злодзей за крадзеж халопа караўся толькі штрафам[2]. Такім чынам, у параўнанні з "Рускай праўдай" Судзебнік 1468 г. не толькі перанёс адпаведную норму на нявольную чэлядзь і "нехожих" людзей, але і зрабіў больш жорсткім пакаранне за іх крадзеж.

У перыяд да ўвядзення ў дзеянне Статута ВКЛ 1529 г. у судовай практыцы пры пошуку і вяртанні нявольнай чэлядзі і "нехожих" людзей, якія ўцяклі, шырока выкарыстоўваліся нормы звычаёвага права, угрунтаваныя артыкуламі "Рускай праўды" аб парадку адшуквання беглых халопаў, аб узнагароджанні за іх злаўленне, аб пакараннях за дапамогу і прыняцце ўцекачоў. У значна перапрацаваным выглядзе гэтыя нормы былі ўключаны ў Статут ВКЛ 1529 г., а затым і ў статуты 1566 і 1588 гг., дзе склалі асноўную частку сістэмы норм, што рэгулявалі адносіны паміж феадаламі па пытанні аб пошуку і вяртанні ўцекачоў[3].

У выпадку ўцёкаў нявольнай чэлядзі ці "нехожих" людзей феадал мог прылюдна абвясціць аб гэтым у грамадскім месцы (кірмаш, царква і г.д.) і абяцаць узнагароду ("переем") за іх адшуканне. Вінаваты ў якой-небудзь дапамозе ўцекачам павінен быў знайсці і вярнуць іх, а таксама заплаціць штраф ("навязку") за маруднасць у іх выдачы з разліку 6 грошаў за кожнага ў тыдзень за ўвесь час, на працягу якога ўцекачы не служылі свайму пану. Калі феадал затрымліваў у сябе ўцекача на працягу аднаго года і болей, то навязка была роўнай кошту штрафу за забойства ("головщине") та-

[1] БЭФ. Т. 1. № 49. Ст. 11.
[2] Там жа. № 51. Ст. 24.
[3] Статут 1529. Раздз. XI, арт. 8, 9 і адпав.: XII–7. С. 286; Статут 1566. Раздз. III, арт. 29 і адпав.: IX–19, XII–8. 10, XIII–5, XIV–29; Статут 1588. Раздз. III, арт. 35, 38 і адпав.: IX–29, XII–12–18.

го ці іншага залежнага чалавека. Феадал, які не выдаў знойдзенага ў яго ўцекача або дазволіў яму ўцячы зноў, адмовіўся ці не змог яго адшукаць, павінен быў аплаціць галоўшчыну, навязку, кошт маёмасці, а таксама судовыя выдаткі, звязаныя з пошукам і вяртаннем уцекача. Асобы, якіх перанялі на дарозе ў момант незаконнага вываду, г.зн. крадзяжу, нявольнай чэлядзі ці "нехожих" людзей, падлягалі смяротнаму пакаранню. Феадалы захоўвалі права на пошук, лоўлю і вяртанне ў судовым парадку ўцекачоў у нявольную чэлядзь бестэрмінова, а "нехожих" людзей – на працягу дзесяці, а ў асобных выпадках і больш за 20 гадоў.

Нягледзячы на заканадаўчую і судовую ахову прыгоннага права, многія феадалы, асабліва буйныя, па-ранейшаму парушалі законы. Рознагалоссі паміж асобнымі сацыяльнымі слаямі феадалаў у пытанні аб прынцыпі ўцекачоў перашкаджалі поўнай рэалізацыі прыгонніцкага рэжыму.

Разам з адмаўленнем асабістай свабоды сялян істотнымі атрыбутамі прыгоннага права з'яўляліся шырокія правы феадалаў на распараджэнне прыгоннымі падданымі. Яны перадавалі іх у спадчыну, дарылі, мянялі, закладвалі і прадавалі з зямлёю, а часам і без яе.

Істотным атрыбутам феадальнай уласнасці на зямлю з'яўлялася права феадалаў, якое склалася ў часы "Рускай праўды", судзіць і караць падданых у межах сваіх уладанняў. Прывілей 1447 г., Судзебнік 1468 г. і Статуты ВКЛ 1529, 1566 і 1588 гг. умацавалі юрысдыкцыю свецкіх феадалаў[1]. У выпадку ўзнікнення грамадзянскага іску да падданых феадала з боку трэціх асоб іх судзіў і караў сам феадал. Толькі пры адмове феадала "вчинить справедливость", г.зн. разгледзець канфлікт і задаволіць пацярпелага, справа перадавалася прадстаўнікам адміністрацыі вялікага князя. У якасці мер уздзеяння на сялян феадалы і іх адміністрацыя ўжывалі штрафы, канфіскацыю маёмасці, цялесныя пакаранні, зняволенне ў турме і нават смяротную кару. Заключаючы здзелкі на маёнткі, у тым ліку і аб закладзе, феадалы перадавалі адзін аднаму таксама і права юрысдыкцыі[2].

Напрыклад, гаспадарскі дваранін В.С. Уколаў у сваім лісце 1552 г. аб закладзе маёнтка Брольнікі Наваградскага павета агаворваў права крэдытора "винных горлом карать". У 1567 г. князь Р.Ф. Сангушка заклаў маёнтак Палонка Слонімскага павета з усімі падданымі, з іх "...послушенством... с присудом и всякою владностью...", у тым ліку і правам судзіць сялян "подле воли своей и як сам похочет" і караць іх штрафамі і смерцю. У 1600 г. у Менскім гродскім судзе ўсеўладдзе паноў над сялянамі шляхціц А. Ахрэмавіч выказаў наступным словамі: "...а хотя бы се деи то трафило, яко на своей властности мешкаючи, которого подданного за непослушенство бити, карати и пограбити, за то я бых се деи никому не повинен справовати"[3].

Таксама значна былі абмежаваны ў параўнанні з прывілеяванымі саслоўямі і правы сялян ва ўсіх сферах сацыяльнага жыцця. Нізкі юрыдычны статус сялянства ярка адлюстраваны ў заканадаўча афармленай сістэме штрафаў за забойства і збіванне (табл. 8).

---

[1] БЭФ. Т. 1. № 49. Ст. 12; № 51. Ст. 9–11; Статут 1529. Раздз. VI, арт. 3, 5, 6 і адпав.: XIII–4, 5; Статут 1566. Раздз. VI, арт. 29, 46; Статут 1588. Раздз. III, арт. 37.

[2] Гл., напрыклад: РИБ. Т. 20. Литовская метрика. Отд. 1. Ч. 2. Книги судных дел. Т. 1. СПб., 1903. С. 1248–1250, 1265–1267; АВК. Т. 17. № 73, 218; Т. 22. Акты Слонимского земского суда. 1555–1570. Вильна, 1895. № 159, 422, 504, 507; Т. 36. Акты Минского городского суда. 1582–1590 гг. Вильна, 1912. № 65.

[3] Метрыка ВКЛ. А.з. 240, а. 375–377; а.з. 265, а. 131–139; НГАБ. Ф. 1727, воп. 1, а.з. 1, а. 917–918.

*Табл. 8.* Грашовыя штрафы за забойства і збіванне шляхціцаў і «людей простых» па Статутах 1529, 1566 і 1588 гг.[1]

| Катэгорыі насельніцтва | 1529 г. | | 1566 г. | | 1588 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Штрафы | | | | | |
| | за забойства («головщина») | за збіванне («навязка») | за забойства («головщина») | за збіванне («навязка») | за забойства («головщина») | за збіванне («навязка») |
| | грошы | | грошы | | грошы | |
| Шляхціцы | 6000 | 1200 | 6000 | 1200 | 6000 | 1200 |
| “Люди простые”: | | | | | | |
| панцырныя слугі | – | – | 3000 | 600 | 3600 | 600 |
| путныя слугі | 1200 | 300 | 1800 | – | 3000 | 300 |
| цівуны | 1200 | 300 | 2400 | 300 | 2400 | 300 |
| цівуны нявольныя | 600 | 100 | 1200 | – | 1200 | 120 |
| рамеснікі | 1200 | 100 | 1800 | 300 | 1800 | 300 |
| бортнікі | 800 | 100 | 1500 | 200 | 2400 | 200 |
| цяглыя | 600 | 50 | 1200 | 100 | 1500 | 120 |
| парабкі | 300 | 30 | 600 | 50 | 1200 | 50 |

Заўвага. Штрафы за забойства і збіванне жонак шляхціцаў і “людей простых” былі ўдвая вышэйшыя. Знак “–” абазначае, што адпаведныя даныя ў статутах адсутнічаюць.

Так, паводле Статута 1588 г. штраф за забойства шляхціца быў у чатыры разы большы, чым за забойства “цяглага мужыка”. Крымінальная адказнасць паноў за забойства чужых сялян сведчыць не столькі пра гуманізм феадальнага права, колькі пра ахову права ўласнасці феадалаў на прыгонных сялян.

Такім чынам, на пачатак XVII ст. у выніку пашырэння прывілей шляхты і зацвярджэння прыгонніцтва сяляне апынуліся ў поўнай уладзе феадалаў.

## 5. Сацыяльна-класавыя супярэчнасці і канфлікты

**Скаргі на злоўжыванні феадалаў і ўраднікаў. Адмовы сялян ад выканання павіннасцей.** Узмацненне ўсіх форм феадальнага прыгнёту сялянства з'яўлялася галоўнай прычынай абвастрэння сацыяльных супярэчнасцей і канфліктаў у Беларусі XV–XVI ст.

Адной з легальных, а таму найбольш распаўсюджаных форм антыфеадальнага супраціўлення сялянства былі скаргі-просьбы. Зацвярджэнне, а затым і заканадаўчае афармленне Прывілеем 1447 г. вотчыннай юрысдыкцыі феадалаў выключала права нявольнай чэлядзі і прыгонных сялян звяртацца са скаргамі ў дзяржаўныя органы ўлады, кіравання і суда на сваіх паноў, але буйныя феадалы, у тым ліку і гаспадар, кіраванне сваімі шматлікімі маёнткамі на пэўных умовах і па спецыяльных інструк-

[1] Статут 1529. Раздз. III, арт. 14 і адпав.: VII–28, IX–1–4; Статут 1566. Раздз. X, арт. 12 і адпав.: XII–1–3; Статут 1588. Раздз. XI, арт. 27 і адпав.: XII–3–5.

цыях ("уставах") даручалі намеснікам ("врядникам"). З мэтай абагачэння прадстаўнікі вотчыннай адміністрацыі, парушаючы патрабаванні інструкцый, павялічвалі памер устаноўленых павіннасцей. Каб абараніць сваіх падданых ад поўнага разарэння, буйныя феадалы разглядалі скаргі на злоўжыванні ўпраўляючых маёнткамі і адпаведным чынам рэагавалі. Сяляне маглі таксама скардзіцца сваім панам на іншых феадалаў, калі апошнія парушалі іх маёмасныя і іншыя інтарэсы; такія канфлікты часам разглядаліся і ў дзяржаўных установах.

Скаргі, як і наогул абсалютная большасць усіх іншых відаў пісьмовых крыніц па гісторыі сялянства Беларусі, захаваліся амаль выключна толькі за XVI ст. і пераважна дзяржаўных (гаспадарскіх) сялян.

У сваіх скаргах вялікаму князю гаспадарскія сяляне выкрывалі факты захопу свецкімі і духоўнымі феадаламі дзяржаўных зямель, якімі яны карысталіся. Калі ім удавалася даказаць незаконнасць дзеянняў феадалаў, суд пацвярджаў права сялян на карыстанне такімі землямі[1].

Аднак у выпадку пажалавання гаспадарскіх зямель феадалам разам з сялянамі іх спробы адстаяць з дапамогаю скаргаў сваю волю і землі, якімі яны карысталіся, а значыць, і падданства вялікаму князю былі, як правіла, беспаспяховымі, бо прывілеі-падараванні перадавалі феадалам права ўласнасці як на гаспадарскія землі, так і на іх отчычаў, якія тут жылі. Разам з тым барацьба гаспадарскіх сялян супраць такіх актаў сведчыць пра тое, што яны ўспрымалі падданства гаспадару як менш цяжкую ў параўнанні з падданствам іншым феадалам форму асабістай залежнасці.

Адной з прычын скаргаў было ўзмацненне феадальнай эксплуатацыі шляхам парушэння "старыны" ці ўвядзення "навін" у павіннасцях, г.зн. павелічэння іх традыцыйных відаў і норм і ўстанаўлення новых. Так, даннікі гаспадарскіх Падняпроўскіх валасцей, як правіла, калектыўна – цэлымі валасцямі, якія складаліся з некалькіх ці некалькіх дзесяткаў сельскіх грамад, неаднаразова скардзіліся на празмернае абцяжарванне павіннасцямі. Гаспадар, які клапаціўся перш за ўсё пра ўласныя даходы, улічваючы памежнае становішча гэтых валасцей, вымушаны быў лічыцца з такімі скаргамі. У выніку даннікі Падняпроўскіх валасцей дабіліся фіксацыі традыцыйных павіннасцей у так званых уставах. Аднак, нягледзячы на гэта, злоўжыванні адміністрацыі, а таму і супраціўленне сялян тут, як і ў іншых рэгіёнах, не спыняліся[2].

Барацьбу супраць самавольства адміністрацыі вялі таксама сяляне буйных зямельных уласнікаў. Напрыклад, у 1590 г. усе падданыя Сольскай воласці (Ашменскі павет) скардзіліся свайму пану Я. Кішку на чатырохдзённую паншчыну летам і зімой, якая давяла іх да галечы, прасілі

[1] РИБ. Т. 27. Литовская метрика. Отд. 1. Ч. 1. Книги записей. Т. 1. СПб., 1910. С. 634–635, 675–676; БА. Т. 2 (XV–XVI ст.). Мн., 1928. № 26, 34, 68, 733, 132, 308; АВК. Т. 17. Акты Гродненского земского суда. 1539–1565 гг. Вильна, 1890. № 343, 468, 542, 969, 973.

[2] РИБ. Т. 20: Литовская метрика. Отд. 1. Ч. 2: Книги судных дел. Т. 1. С. 806–808; *Довнар-Запольский М.В.* Очерки по организации западнорусского крестьянства в XVI в. Киев, 1905. Приложения (ДЗОП). № 9; АЗР. Т. 2: 1506–1544. СПб., 1848. № 203; РДАСА. Ф. 389; («Літоўская метрыка» – Метрыка ВКЛ). Воп. 1, а.з. 265, а. 76–77; а.з. 268, а. 178–179; а.з. 269, а. 27–31; ЛМ. Кн. 225: Книга судных дел 6 (1528–1547) / Подгот. И. Валиконите, С. Лазутка и др. № 21; АЛРГ. Вып. 1. М., 1899. № 172.

зменшыць яе норму. Пан, баючыся далейшага разарэння і збяднення сялян і, значыць, скарачэння сваіх даходаў, вымушаны быў знізіць норму паншчыны на адзін дзень[1].

З дапамогай скаргаў супраціўляліся гаспадарскія сяляне-даннікі і павелічэнню павіннасцей, калі адміністрацыя збірала даніну за надзелы, што па розных прычынах (злоўжыванні, ваенныя разбурэнні, голад, галеча і інш.) пакінулі іх карыстальнікі[2].

Сацыяльным пратэстам былі таксама скаргі сялян на рост павіннасцей у выніку раздачы іх патужнікаў феадалам, якія адмаўляліся выконваць ранейшыя агульныя павіннасці[3].

Сяляне, якія перадаваліся вялікім князем феадалам, шляхам скаргаў, як правіла, беспаспяхова, спрабавалі таксама змагацца супраць павелічэння павіннасцей[4].

Своеасаблівым праяўленнем сацыяльнага пратэсту з'яўляліся таксама шматлікія спробы сялян скаргамі-просьбамі дабіцца пазбаўлення ад найбольш цяжкіх павіннасцей шляхам пераводу з адной катэгорыі сялян у другую. Звычайна сяляне імкнуліся трапіць у склад катэгорыі сялян-слуг, асабліва путных і панцырных. Доўга і ўпарта, напрыклад, імкнулася атрымаць статут панцырных баяр вялікая група гаспадарскіх цяглых людзей з Госмір Любашкаўскай воласці (Віцебскае ваяводства)[5].

Такім чынам, скаргі былі распаўсюджанай формай барацьбы сялянства Беларусі супраць узмацнення феадальнай эксплуатацыі. У першай палове XVI ст. яна праходзіла галоўным чынам пад лозунгам захавання "старыны" ў павіннасцях, г.зн. іх традыцыйных відаў і норм. Аднак толькі ў асобных выпадках з дапамогаю скаргаў сялянам удавалася дабіцца некаторага паслаблення павіннаснага прыгнёту і абмежавання злоўжыванняў і самавольства адміністрацыі маёнткаў.

Скаргі з'яўляліся таксама адной з асноўных форм барацьбы "похожих" людзей супраць узмацнення асабістай залежнасці і запрыгоньвання[6].

Шырокае распаўсюджанне легальнай барацьбы сялянства ў форме скаргаў было абумоўлена тым, што феадалы не толькі дапускалі магчымасць падачы іх сялянамі, але і задавальнялі некаторыя з іх. Захоўванне судовымі органамі пэўнай законнасці ў адносінах да сялянства садзейнічала зацвярджэнню ў яго масавай свядомасці палітычна наіўнай веры ў справядлівасць феадальных інстытутаў, асабліва гаспадара – вялікага князя. Тым самым у значнай меры запавольвалася развіццё нелегальных форм барацьбы сялянства.

Аднак рэзкае ўзмацненне феадальнага прыгнёту падымала сялян і на актыўныя выступленні супраць землеўласнікаў, на непадпарадкаванне сваім панам. Асабліва ўпарта сяляне супраціўляліся ўвядзенню і значна-

[1] НГАБ. Ф. 694, воп. 4, а.з. 1336, а. 203.
[2] Метрыка ВКЛ. А.з. 14, а. 251–252; ЛМ. Кн. 224: Книга судных дел 4 (1522–1530) / Подгот. С. Лазутка, И. Валиконите и др. Вильнюс, 1997. № 428; Метрыка ВКЛ. А.з. 267, а. 75, 78; АЛРГ. № 169; ДЗОП. № 4.
[3] РИБ. Т. 27. С. 727–729; АЛРГ. № 196; ДЗОП. № 22.
[4] ЛМ. Кн. 224. № 293.
[5] БА. Т. 2. № 52, 101; Метрыка ВКЛ. А.з. 228, а. 78–79.
[6] *Пичета В.И.* Юридическое положение сельского населения на частновладельческих землях ко времени издания Литовского статута 1529 г. // В.И. Пичета. Белоруссия и Литва XV–XVI вв. С. 291, 327–329, 332–336.

му павелічэнню розных відаў адработачнай рэнты, перш за ўсё паншчыны. Адным з прыкладаў такой барацьбы з'яўляецца масавае выступленне летам 1532 г. сялян Аболецкай валасці (Аршанскі павет), якая належала ў той час Боне – жонцы караля польскага і вялікага князя літоўскга Жыгімонта. Сяляне гэтай валасці плацілі даніну, а таксама павінны былі працаваць пасля поўдня ў сераду і суботу ў панскім двары. Далейшае пашырэнне вялікакняскай гаспадаркі патрабавала значнага павелічэння ўжо існуючай тут нормы паншчыны. Бона з адабрэння Жыгімонта вырашыла павялічыць яе ў два разы. З гэтай мэтай у чэрвені 1532 г. у Аболецкую валасць быў накіраваны віцебскі ваявода Я.Ю. Глябовіч. Даведаўшыся ў мясцовага намесніка пра характар і памеры павіннасцей сялян, ён сабраў іх і ад імя Боны загадаў працаваць у сераду і чацвер з раніцы да позняга вечара, г.зн. два поўныя дні ў тыдзень, як гэта ўжо было ўстаноўлена ў многіх іншых панскіх гаспадарках гэтага рэгіёна. У адказ на гэта ўсе сяляне заявілі, што яны не будуць працаваць больш, чым раней, нягледзячы на пагрозу любога пакарання. Яны сапраўды дружна не выйшлі на працу нават тады, калі намеснік пачаў канфіскацыю іх маёмасці. Улічваючы памежнае становішча гэтай валасці і асцерагаючыся масавых уцёкаў сялян, ваявода загадаў дзяржаўцы часова, да атрымання дадатковых распараджэнняў Боны, дазволіць ім адбываць паншчыну па-ранейшаму. Поспех, хоць, магчыма, толькі часовы, гэтага выступлення сялян супраць узмацнення паншчыны быў значным, калі ўлічыць, што ў гэты час двухдзённая паншчына была ўжо звычайнай нормай у Віцебскім ваяводстве[1].

У цэлым барацьба сялян у форме адмовы выконваць тыя ці іншыя павіннасці, як правіла, не прыносіла сялянам жаданых вынікаў, была неэфектыўнай.

**Пераходы вольных сялян. Уцёкі – асноўная форма барацьбы сялянства супраць узмацнення прыгнёту.** Да сярэдзіны XVI ст. у абставінах інтэнсіўнага запрыгоньвання сялянства на аснове юрыдычнага прынцыпу даўнасці для пахожых людзей адзінай легальнай магчымасцю захаваць, хоць і часова, сваю свабоду, а таксама палегчыць цяжар павіннасцей былі перыядычныя пераходы з маёнткаў адных феадалаў у маёнткі другіх. Каб не засядзець дзесяцігадовы тэрмін даўнасці і тым самым не пазбавіцца права на выхад, пахожыя людзі павінны былі пакідаць абжытыя месцы і перасяляцца на новыя землі, якія часта трэба было яшчэ асвойваць. Пераходы адмоўна ўплывалі на стан гаспадаркі пахожых людзей, але яны ў імкненні захаваць сваю свабоду не спыняліся перад цяжкімі вынікамі вымушаных перасяленняў[2].

Феадальнае заканадаўства прызнавала права "похожих" людзей на выхад, але, як ужо адзначалася, права гэтае было настолькі абмежавана, што звычайна яны не мелі рэальнай магчымасці выкарыстаць яго. Не маючы сродкаў разлічыцца з феадаламі і асцерагаючыся ператварэння ў "непохожих" пры сканчэнні тэрміну даўнасці, "похожия" людзі вымушаны былі насуперак забароне адыходзіць ад феадалаў без дазволу, г.зн. уцякаць.

[1] БА. Т. 2. № 124, 414.
[2] *Пичета В.И.* Юридическое положение сельского населения... С. 314–336.

Свае, прычым вельмі моцныя, стымулы для ўцёкаў існавалі і ў нявольнай чэлядзі, а таксама ў непахожых людзей. Ва ўсякім выпадку яны для іх былі амаль адзіным шляхам вызвалення, хоць і часовага, з няволі: да сканчэння дзесяцігадовага тэрміну даўнасці ўцекачы не лічыліся прыгоннымі феадала, які прыняў іх. Так, каля 1580 г. з маёнтка Буцавічы пана Я. Вяжэвіча ўцёк яго отчыч В. Церах. Праз больш чым дзесяць гадоў пан даведаўся, што ён жыве ў суседнім маёнтку Старыя Саламярэчы князя Б.І. Саламярэцкага. Аднак паколькі, паводле Статута ВКЛ 1588 г., Вяжэвіч ужо не меў права патрабаваць выдачы свайго селяніна як отчыча, што знаходзіўся ў новага пана больш за дзесяць гадоў, у 1595 г. ён быў вымушаны заявіць аб тым, што назаўсёды адракаецца дабівацца выдачы свайго былога прыгоннага[1].

Варта падкрэсліць тое, што росту колькасці ўцёкаў спрыяў шэраг аб'ектыўных фактараў. Адзін з асноўных – рознагалоссі паміж асобнымі феадаламі ў пытанні прыёму ўцекачоў. Кожны феадал быў зацікаўлены ў павелічэнні колькасці сваіх падданых – галоўнай крыніцы сваіх даходаў. Магчымасць павышэння даходнасці ўласных маёнтаў такім шляхам абумовіла тое, што феадалы, з аднаго боку, усяляк перашкаджалі выхадам і ўцёкам залежных людзей, а з другога – насуперак забароне не толькі пераманьвалі іх з маёнткаў суседзяў і дапамагалі ім у перасяленні ў свае, але і ахвотна прымалі ўцекачоў. З большым поспехам усіх гэтых мэт дасягалі пераважна буйныя феадалы. Менавіта яны маглі рэальна перашкаджаць выхадам і ўцёкам сялян са сваіх маёнткаў, арганізаваць пошук уцекачоў і дабіцца іх вяртання, а таксама, парушаючы заканадаўства, з большай вынікавасцю шляхам матэрыяльнай дапамогі і часовых ільгот у павіннасцях "прихожим" пераманьваць, вывозіць і прымаць у свае маёнткі сялян з маёнткаў іншых феадалаў і не выдаваць іх. Уцекачы, што збеглі ў маёнткі буйных федалаў, як правіла, былі недасягальнымі для свайго былога пана. Таму сяляне ўцякалі звычайна ў такія маёнткі.

У выпадку ўцёкаў сялян феадалы рабілі захады па іх пошуку, знаходжанні і вяртанні. Але гэта была цяжкая справа, бо патрабавала часу, працы і вялікіх грошай. Да таго ж феадалы, якія прынялі ўцекачоў, звычайна на розных падставах адмаўляліся іх выдаваць. Пацярпелыя феадалы вымушаны былі звяртацца па дапамогу ў суды. Аднак з-за моцнага процідзення феадалаў, якія прынялі ўцекачоў, дабіцца задавальнення свайго іску ім удавалася далёка не заўсёды[2].

Усё згаданае абумоўлівала пэўную эфектыўнасць пераходаў і ўцёкаў сялян і спрыяла пашырэнню гэтых форм барацьбы супраць феадальнага прыгнёту. Феадальныя суды, апіраючыся на прыгонніцкае заканадаўства, істотна дапамагалі феадалам у барацьбе з уцёкамі прыгонных сялян. Аднак у ВКЛ адсутнічалі спецыяльныя дзяржаўныя органы па пошуку і вяртанні ўцекачоў. Гэтая цяжкая задача вырашалася ў асноўным самімі зацікаўленымі феадаламі. Зыход канфлікту залежаў перш за ўсё ад рэальных суадносін сіл канфліктуючых феадалаў. Таму дробным феа-

[1] НГАБ. Ф. 1324, воп. 1, а.з. 4, а. 5-45; *Спиридонов М.Ф.* Бегство крепостных крестьян Белоруссии в XVI ст. // Из истории крестьянства Белоруссии. Мн., 1978. С. 93–102.

[2] *Спиридонов М.Ф.* Розыск и возврат беглых крепостных крестьян Белоруссии в XVI ст. // Социально-политическое и правовое положение крестьянства в дореволюционной России. С. 42–50.

даламдабіцца рэалізацыі свайго прыгоннага права на ўцекачоў звычайна было вельмі цяжка. У сувязі з прыёмам уцекачоў паміж асобнымі феадаламі ўзнікалі шматлікія канфлікты. Яны сведчаць пра значныя рознагалоссі ўнутры пануючага класа ў пытанні аб дакладным выкананні нормаў прыгонніцкага заканадаўства ВКЛ. Аднак пад пагрозай вялікіх штрафаў за яго парушэнні іншы раз феадалы, што прынялі ўцекачоў, па рашэнні судоў вымушаны былі выдаваць збегаў іх ранейшым панам, якія іх адшукалі.

Так, у 1586 г. пахожы чалавек І. Заславец "добровольно" прыйшоў у маёнтак Гатава (Менскі павет) пана І.С. Корсака і пасяліўся ("заложился") у яго. Пан выдзеліў прыхожаму селяніну надзел і абавязаў служыць на вадзяным млыне на р. Свіслач. Жывучы ў пана, селянін ажаніўся, у яго нарадзіліся чатыры сыны і дачка. У пачатку красавіка 1600 г. ён, падгавораны менскім гаспадарскім зямянінам А.Т. Пажукоўскім, пры яго дапамозе ўцёк разам з сям'ёй у яго маёнтак Пашкавічы. Пры гэтым І. Заславец захапіў з сабою вялікую колькасць збожжа і млынарскага інвентару, што належаў пану. Гатаўскі цівун Г. Купрыч адразу ж заявіў аб уцекачах у Менскі гродскі суд, падкрэсліўшы, што І. Заславец "вжо давно от колька лет ... давность земскую промешкавши, заседел". 16 красавіка слуга пана Ф. Барташэвіч разам з возным адшукаў збега ў маёнтку Пашкавічы. 14 мая 1600 г. тут адбыўся суд. Прыведзены на суд па загадзе А.Т. Пажукоўскага І. Заславец заявіў, што ён дзесяцігадовай земскай даўнасці ў пана не "засядзеў", бо жыў у яго толькі восем гадоў. Але пакліканыя ўпаўнаважаным пана І.С. Корсака Ф. Барташэвічам сведкі (шэсць сялян-суседзяў і цівун) паказалі, што І. Заславец "засядзеў" у Гатаве не 10, а 14 гадоў. І. Заславец не стаў аспрэчваць гэта надалей. Ф. Барташэвіч на падставе 13 артыкула XII раздзела Статута ВКЛ 1588 г. запатрабаваў у Пажукоўскага выдачы ўцекача, яго дзяцей і ўсёй маёмасці яго і пана. Апошні вымушаны быў задаволіць гэтыя патрабаванні[1].

Сяляне ўцякалі, як правіла, групамі разам са сваімі сем'ямі, часам са сваякамі і суседзямі, і забіралі звычайна асноўную маёмасць: рабочую і прадукцыйную жывёлу, збожжа, гаспадарчы інвентар і г.д. Уцякалі яны звычайна ў маёнткі ці гарады, размешчаныя ў межах аднаго і таго ж павета. Але ў асобных выпадках збеглыя отчычы маглі апынуцца вельмі далёка ад пакінутых маёнткаў. Гэтыя і іншыя меркаванні наконт уцёкаў сялян апіраюцца на шматлікія адпаведныя факты. З некалькіх дзесяткаў трэба абмежавацца толькі некаторымі як прыкладамі-аргументамі, што знайшлі адлюстраванне пераважна ў кнізе Менскага гродскага суда за 1600 г.

У сакавіку 1582 г. Я. Прыбытка –ураднік двара Беларуч пад'ехаў парожнімі вазамі і вывез з сяла Лускаў маёнтка Відагошча пана Г.А. Макаравіча дзве сям'і яго отчычаў з усёй іх маёмасцю. Калі верыць заяве пана, у І. Аляксеевіча былі 2 валы, 3 кані, 2 каровы, 11 авечак, 14 коз, 3 свінні і 5 гусей, усяго – 40 галоў рознай хатняй жывёлы; а таксама 5 бочак жыта, 7 аўса, 3 грэчкі, 4 ярыцы, 3 пшаніцы, усяго 22 бочкі рознага збожжа. Ва ўдавы М. Курэяўны былі 2 валы, 2 кані, 2 каровы, 14 авечак, 2 казы, 5 свіней, 6 гусей і 10 курэй, усяго 43 галавы; а таксама 2 бочкі жыта,

[1] НГАБ. Ф. 1727, воп. 1, а.з. 1, а. 311–312, 537, 557–559.

4 аўса, 2 грэчкі, 1,5 ярыцы, 1,25 пшаніцы, 3 гароху, усяго амаль 13 бочак збожжа. Акрамя збожжа і хатняй жывёлы яны захапілі з сабой і шмат рознага адзення, боты і некаторыя прылады працы (нарогі і сякеру), відавочна, купленыя[1].

У красавіку 1582 г. з маёнтка Пярэжыр пана Я.М. Скіндзера ў сяло Затычына маёнтка Старое Сяло княгіні Ю.Ю. Алелькавігаўны збег сялянін М. Кузміч. Як заявіў Скіндзер, ён захапіў з сабой усю сваю маёмасць і статак, у тым ліку 3 кані, 4 валы, 3 быкі, 3 каровы, 2 цялят, 15 авечак, 18 свіней і 8 коз[2].

Уначы з 25 на 26 лютага 1597 г. пяць сямей отчычаў (усяго 19 чалавек) уцяклі з сяла Ботчычы Касцінскія пана Ф. Шалухі ў сяло Прадашэвічы (Менскае ваяводства) князя А.І. Палубенскага. Калі Шалуха паслаў следам за ўцекачамі сваіх слуг з возным, то прадашэвіцкі старац С. Еўтуховіч выдаць іх адмовіўся і заявіў, што яны з'яўляюцца падданымі яго пана. Аднак Галоўны трыбунал пастанавіў: сялян Шалухі, калі ў выніку прысягі высветліцца, што яны з'яўляюцца яго отчычамі, выдаць яму і заплаціць "за неробеньє" штраф па 6 грошаў за тыдзень за кожнага. У выпадку іх нявыдачы, згодна з адпаведнымі артыкуламі Статута 1588 г., Палубенскі абавязаны быў заплаціць за кожнага отчыча галоўшчын па 25 коп грошаў, а за іх жонак – па 50 коп грошаў; а ўсяго – 1697 коп грошаў[3].

Уначы з 13 на 14 сакавіка 1600 г. з маёнтка Буцавічы пана В. Забалоцкага ўцёк селянін С. Заяц, які засядзеў тут на "слободе" восем год. Да таго ж ён не вярнуў і не адпрацаваў запамажэнне (2 капы грошаў), 2 бочкі жыта, сякеру, сярмягу і іншыя рэчы) і, акрамя таго, падгаварыў на ўцёкі яшчэ дзве сялянскія сям'і[4].

15 сакавіка 1600 г. з маёнтка Відагошча пана Г. Макаравіча збег пруднік С. Лаўрынавіч, які ўжо "засядзеў" дзесяцігадовую даўнасць, а таксама каваль Блажэй, які служыў у гэтага пана 15 гадоў. Каваль з усім сваім рыштункам збег да бацькі сваёй жонкі слесара М. Савінскага ў мястэчка Лагойск пана Я. Тышкевіча. Праз два дні сяляне з гэтага ж маёнтка вывелі з сяла Чэчаны маёнтка Гарадок князя Б.І. Саламярэцкага ў сваё сяло атчызнага селяніна Ю. Матыса[5].

Уначы з 18 на 19 сакавіка 1600 г. з маёнтка Буцавічы пана Г. Вяжэвіча збег "отчич непохожий" путны баярын Я. Лойка, які некалькі дзесяцігоддзяў быўураднікам гэтага маёнтка. Аказалася, што яго разам з жонкай, чатырма сынамі і дзвюма дочкамі, статкам (8 коней, 6 валоў, 5 кароў і іншая дробная жывёла), збожжам і іншай маёмасцю вывез баярын М. Кардзямяка маёнтка Гарадок Астрожчыцкі К.М. Радзівіла. Праз дзесяць дзён ад Вяжэвіча разам з сям'ёй уцёк другі яго селянін – цівун Ю. Банель, які "засядзеў" земскую даўнасць. Ён захапіў з сабой трох коней, двух валоў, чатыры авечкі з ягнятамі і шмат іншай маёмасці[6].

---

[1] АВК. Т. 36: Акты Минского гродского суда. 1582–1590 гг. Вильна, 1912. № 50.
[2] Там жа. № 162.
[3] НГАБ. Ф. 694, воп. 10, а.з. 3, а. 16–18.
[4] Там жа. Ф. 1727, воп. 1, а.з. 1, а. 230–230 адв.
[5] Там жа. А. 264 адв.–265 адв., 279 адв.–280, 294 адв.–295.
[6] Социально-политическая борьба народных масс Белоруссии: Сб. документов и материалов. Т. 1. Конец XIV в. – 1648 г. Мн., 1988 (далей – СПБ). № 78; НГАБ. Ф. 1727, воп. 1, а.з. 1, а. 299 адв.–301.

У красавіку 1600 г. з сяла Угляны маёнтка Буцавічы пана Я. Вяжэвіча ўцяклі чатыры сям'і "отчичов непохожих". Як звычайна, з сабой яны забралі ўвесь свой статак[1].

Уначы з 29 на 30 красавіка таго ж года з маёнтка Ісрач койданаўскага васала М.К. Радзівіла К. Скарульскага збеглі двое непахожых отчычаў, захапіўшы свае статкі і збожжа. У аднаго з іх, у прыватнасці, былі 2 кані, 2 валы, 3 каровы, 2 падцёлкі, 15 авечак, 8 свіней, 12 курэй. Калі слуга Скарульскага дагнаў збегаў на рынку ў мястэчку Старое Сяло княгіні З.Ю. Алелькаўны Слуцкай і хацеў весці іх назад, сяляне сяла Дубінцы гэтага маёнтка на чале з войтам Ф. Навасадавічам слугу збілі, а сялян прынялі ў сваё сяло[2].

Уначы з 18 на 19 ліпеня таго ж года з маёнтка Гатава-Корсакавічы пана І. Совіча Корсака ў сяло Цітва аднайменнага маёнтка Менскага павета князя Шч. Я. Галоўчынскага ўцёк яго "властный отчич" Ф. Сямёнавіч. У адрозненне ад звычайных уцёкаў цэлымі сем'ямі ён збег адзін, пакінуўшы не толькі бацькоў, але і сваю жонку. Пры гэтым ён захапіў з сабой у бацькі "речей... и статку немало": кажух, дзве сярмягі, 45 локцяў тонкага кужэльнага палатна, дзве просціцы, двух валоў і каня[3].

Нярэдка ўцёкі прыгонных сялян суправаджаліся крадзяжом маёмасці феадалаў, вывадам іх нявольнай чэлядзі, а калі-нікалі збіццём ці забойствам ненавісных ім цівуном і іншых ураднікаў. У 1565 г., напрыклад, ад пана Б.В. Угліка ўцяклі трое яго отчычаў з сям'ёй і са сваёй маёмасцю. Аселі яны ў мястэчку Косава (Слонімскі павет) князя Л.А. Кашырскага. У кастрычніку 1565 г. сын аднаго з гэтых сялян, даведаўшыся аб з'яўленні ў мястэчку ўрадніка былога пана, падрыхтаваў у лесе засаду і забіў яго, пасля чаго ўцёк у невядомым кірунку[4].

Масавае нездавальненне сялянства выклікала аграрная рэформа. Мяркуючы, напрыклад, па "реестру померы волок" Гародзенскага староства за 1558–1563 гг., гаспадарскія падданыя часта адмаўляліся прымаць валокі і пераходзілі ў іншыя гаспадарскія воласці ці ўцякалі ў маёнткі іншых феадалаў і нават за мяжу. У шэрагу выпадкаў рэвізоры, асцерагаючыся ўцёкаў усіх сялян з таго ці іншага сяла, вымушаны былі задавальняць некаторыя іх патрабаванні. Часам яны прызнавалі глебу па якасці горшай у параўнанні з раней прынятай імі ацэнкай; як кампенсацыю давалі за землі з вельмі кепскай глебай значныя "наддатки", г.зн. дадатковыя ўчасткі зямлі звыш валокі, за якія сяляне не павінны былі выконваць павіннасці; зніжалі памер павіннасцей у параўнанні з нормамі Уставы 1557 г. ці нават наогул вызвалялі ад павіннасцей на пэўны тэрмін[5].

Незадаволенасць сялян-слуг выклікаў перавод іх у катэгорыю асадных і цяглых сялян, які адбываўся ў перыяд рэформы ў шырокіх маштабах[6]. У сваіх шматлікіх скаргах гаспадару многія сяляне-слугі прасілі

---

1 СПБ. Т. 1. № 79.
2 НГАБ. Ф. 1727, воп. 1, а.з. 1, а. 390–391.
3 Там жа. А. 931–931 адв.
4 АВК. Т. 22: Акты Слонимского земского суда. Вильна, 1895. № 352.
5 ПКПС. Ч. 1. Вильна, 1874. С. 1–3; Писцовая книга Гродненской экономии с прибавлениями, изданная Виленской комиссией для разбора древних актов. Ч. 1. Вильна, 1881. С. 7, 150–151, 222–223 і інш.
6 *Пичета В.И.* Аграрная реформа Сигизмунда-Августа... С. 387–412.

пакінуць іх на былых павіннасцях. Гаспадар, асцерагаючыся больш рашучых дзеянняў падданых, у некаторых выпадках задавальняў такія просьбы. Так, у 1560 г. тры пекары Лабненскай воласці Гародзенскага староства скардзіліся гаспадару на рэвізораў С. Дыбоўскага і Л. Война, якія ў час новага вымярэння зямлі на валокі адабралі ў іх шэсць валок зямлі, што былі раней у іх карыстанні, а далі ім толькі па адной. Пры гэтым замест пекарскай службы, якую, згодна з лістамі былых вялікіх князёў, яны выконвалі спадчынна здаўна, іх абавязалі несці цяглую службу. Вялікі князь у адказ на скаргу загадаў лабненскаму намесніку В. Грычынавічу часова, да канчатковага рашэння адносна ўсіх сялян-слуг, пакінуць гэтых пекараў на ранейшай службе і даць ім толькі па адной валоцы зямлі. Пры гэтым гаспадар падкрэсліў, што ў хуткім часе ён збіраецца па сваім меркаванні і ў залежнасці ад патрэб свайго двара пакінуць частку слуг на дваровай службе, а ўсіх астатніх "в тягль альбо осаду, яко порадок волочный есть, обернути..."[1].

**Узброенае супраціўленне сялян.** Пры асабліва значным узмацненні феадаламі прымусу і эксплуатацыі супраціўленне сялян рэзка ўзрастала. Ад скаргаў, адмоў выконваць павіннасці, уцёкаў яны пераходзілі да больш актыўных форм барацьбы – гвалтоўных дзеянняў разбойнага характару, часам з прымяненнем зброі. Такія выступленні сялян, хоць і былі накіраваны канкрэтна супраць самавольства толькі пэўных асоб, тым не менш выяўлялі пратэст супраць усіх форм сацыяльнага прыгнёту, які ўвасаблялі гэтыя феадалы. Прыкладам можа служыць барацьба сялян сяла Багушэвічы (Менскі павет) са сваім панам В. Рудкоўскім у 60-я гг. XVI ст. Атрымаўшы ў канцы 1560 г. у якасці замены за свой маёнтак Сакаўшчына (Ашменскі павет) сяло Багушэвічы ў Свіслацкай воласці (Менскі і Аршанскі паветы), ён заснаваў тут свой двор і гаспадарку, увёўшы паншчыну і іншыя павіннасці, якіх раней сяляне гэтай вёскі не ведалі. Узмацненне эксплуатацыі і асабістай залежнасці сустрэла дружны адпор большасці сялян, галоўным чынам у форме адмовы выконваць іх. Але ўсіх непаслухмяных Руткоўскі пачаў прымушаць да падпарадкавання метадамі жорсткага насілля: штрафамі, цялеснымі пакараннямі і нават смяротнай карай. Усё гэта выклікала бунт падданых.

Дзесяць найбольш актыўных сялян, даведзеных гвалтамі В. Руткоўскага да адчаю, у сакавіку 1564 г. "не хотячи быти послушны и службы пригонное служити, збунтовавшися", уцяклі з сем'ямі і маёмасцю ў суседняе гаспадарскае сяло Задобрычы Свіслацкай воласці. У снежні 1565 г. сюды ж з Багушэвічаў уцяклі яшчэ 14 сялянскіх сем'яў. Збеглі сяляне пры актыўнай падтрымцы гаспадарскіх свіслацкіх валашчан, асабліва даннікаў з сяла Задобрычы, на працягу пяці гадоў вялі адкрытую ўзброеную барацьбу са сваім панам. Яны неаднаразова нападалі на яго маёнтак, прыносячы яму значныя матэрыяльныя страты, спрабавалі падпаліць двор, рабілі замах на яго жыццё і нават двойчы паранілі пана. У маі 1569 г., пасля неаднаразовых скаргаў В. Руткоўскага, Жыгімонт

[1] Метрыка ВКЛ. А. з. 42, а. 33; *Пичета В.И.* Аграрная реформа Сигизмунда-Августа... С. 400–401.

Аўгуст прыгаварыў найбольш актыўных удзельнікаў гэтага выступлення да смяротнай кары, а ўсіх астатніх абавязаў заплаціць вялікія штрафы. Акрамя таго, адміністрацыя Свіслацкай воласці і ўсе феадалы, што прынялі збеглых сялян В. Руткоўскага, павінны былі выдаць іх пад пагрозай суровага пакарання[1].

Антыфеадальную барацьбу сяляне вялі ва ўмовах жорсткіх рэпрэсій. За парушэнні заканадаўчых норм землеўласнікі штрафавалі сялян, білі, знявольвалі і нават каралі смерцю. Напрыклад, у 1560 г. мяшчане і валашчане гаспадарскага Прапойскага замка скардзіліся вялікаму князю на чачэрскага і прапойскага дзяржаўцу Ю.М. Зяновіча, які, у прыватнасці, за адмову касіць, араць і выконваць іншыя работы забраў у іх вялікую колькасць мёду. Акрамя таго, сялян, што ішлі скардзіцца да гаспадара на злоўжыванні дзяржаўцы, ён перапыняў на дарогах і збіваў[2].

Такім чынам, тры галоўныя сацыяльна-эканамічныя фактары пагаршэння становішча сялянства: умацаванне манапольнага права ўласнасці феадалаў на зямлю, узмацненне феадальнай эксплуатацыі і зацвярджэнне прыгонніцтва – абумовілі развіццё трох асноўных кірункаў яго антыфеадальнай барацьбы: за забяспячэнне сваіх гаспадарак зямлёй, аблягчэнне павіннасцей і асабістую свабоду. У шэрагу антыфеадальных выступленняў сялянства гэтыя тры кірункі ў той ці іншай ступені выяўляліся адначасова.

Пэўная спецыфіка аграрных адносін у розных выпадках абумовіла вялікую разнастайнасць канкрэтных выступленняў. Звычайна спалучаліся розныя формы: скаргі, адмовы падпарадкавацца сваім панам, пераходы і ўцёкі. Пераважалі індывідуальныя, утоеныя, легальныя і мірныя сацыяльныя пратэсты, аднак іншы раз сяляне выкарыстоўвалі і калектыўныя, адкрытыя, нелегальныя і гвалтоўныя формы.

Антыфеадальнай барацьбе сялянства Беларусі быў уласцівы шэраг рыс, абумоўленых палітычнай неразвітасцю яго як класа. Сацыяльная свядомасць сялян, што грунтавалася на пануючай тады рэлігійнай ідэалогіі з яе ўстаноўкай на пакорлівасць, арыентавалася на наіўную веру ў справядлівасць феадальных інстытутаў, самога вялікага князя літоўскага. Таму сацыяльнае супраціўленне сялян мела абарончы і стыхійны характар: яны падымаліся на барацьбу ў адказ на канкрэтныя акты самавольства феадалаў і звычайна толькі пад кансерватыўным агульным лозунгам захавання традыцыйных звычаяў ("старины").

Істотнай рысай антыфеадальных выступленняў сялян з'ўлялася таксама лакальнасць, абумоўленая адсутнасцю адзінства і неарганізаванасцю. Адзначаныя рысы сацыяльнай барацьбы сялянства сведчаць, што на тым этапе развіцця феадалізму на Беларусі яно яшчэ не склалася ў палітычную сілу, якая б усведамляла свае класавыя інтарэсы і была здольная адстойваць іх.

[1] СПБ. Т. 1. № 35, 37; Метрыка ВКЛ. А.з. 269, а. 19–27.
[2] НГАБ. Ф. 694, воп. 4, а.з. 1556, а. 46–47.

## ГЛАВА 2

# ГАРАДЫ І МЯСТЭЧКІ БЕЛАРУСІ

### 1. Урбанізацыйныя працэсы

**Прычыны урбанізацыйнага росту ў XV–XVI ст.** Гэты перыяд характарызаваўся хуткім павелічэннем на абшарах Беларусі, як і ў цэлым у Вялікім Княстве Літоўскім, колькасці гарадскіх пасяленняў. Даволі густая сетка гарадоў на землях гэтай дзяржавы склалася яшчэ ў папярэднія часы, у тым ліку і да ўтварэння Вялікага Княства. Паводле даных, прыведзеных М. Ціхаміравым, у "далітоўскі" перыяд існавалі такія беларускія гарады, як Барысаў, Берасце, Віцебск, Гарадок (Давыд-Гарадок), Гомель, Гародня, Друцк, Клецк, Копысь, Лагойск, Мазыр, Менск, Мсціслаў, Наваградак, Орша, Пінск, Полацк, Рагачоў, Тураў, Усвяты і Чачэрск[1]. Так званы спіс рускіх гарадоў дальніх і бліжніх, складзены на мяжы XIV і XV ст., узгадвае таксама Абольцы, Беразуеск, Быхаў, Варабееўск,Ількамір, Вільню, Гальшаны, Горваль, Заслаўе, Капыль, Кернава, Коўна, Крычаў, Крэва, Лебедзева, Ліду, Лоск, Лучын, Лукомль, Меднікі, Мейшаголу, Мерач, Мікулін, Магілёў, Нямігу, Прапойск, Прэлаі, Пуні, Пярэраў, Распа, Родна, Рэчыцу, Славенск, Слуцк, Смердынь, Стрэшын, Свіслач, Трокі Старыя і Новыя, Цяцерын, Шумск. Прычым, асобныя гарады, такія як Заслаўе, маглі існаваць і раней[2]. Такім чынам, да пачатку XV ст. у Вялікім Княстве Літоўскім (у межах 1569 г.) налічвалася не менш як 62 гарады. Да канца XVI ст. іх колькасць (разам з мястэчкамі) вырасла да 669, г.зн., што за два стагоддзі колькасць населеных пунктаў гарадскога тыпу павялічылася больш чым у 10 разоў.

Прыведзеныя лічбы з'яўляюцца, натуральна, даволі ўмоўнымі, таму што некаторыя населеныя пункты маглі з'яўляцца ў пісьмовых крыніцах са значным спазненнем і іх узнікненне варта адносіць на больш аддаленыя часы, чым тыя, калі яны пачынаюць фігураваць на старонках летапісаў. Разам з тым не заўсёды зразумела, ці былі гарады, што ўзгадваліся да XV ст., уласна гарадамі ці толькі ўмацаванымі "градамі", інакш кажучы крэпасцямі-замкамі. У якасці прыкладу такіх населеных пунктаў можна прывесці Быхаў, які пералічаны яшчэ ў "спісе рускіх гарадоў дальніх і бліжніх", аднак гарадскі статус (права на закладанне мястэчка) атрымаў толькі ў 1551–1552 гг., або Рэчыцу, дзе горад пры ўжо існуючым замку быў закладзены толькі ў 20-х гг. XVI ст.[3]

Новы этап урбанізацыі, які распачаўся ў XV і працягваўся ў XVI ст., быў выкліканы інтэнсіфікацыяй эканамічнага развіцця дзяржавы і патрэбамі ўнутранага рынку. Гэты перыяд быў шчыльна звязаны з закладаннем таргоў, якія былі неабходныя для абмену сельскагаспадарчай прадукцыі на грошы, патрэбныя, акрамя ўсяго іншага, і для выплаты

[1] *Тихомиров М.Н.* Древнерусские города. 2-е изд. М., 1956. С. 13, 33–42, 362–374.
[2] *Ён жа.* Список русских городов дальних и ближних // Исторические записки. № 40. М., 1952. С. 223–225.
[3] *Alexandrowicz St.* Geneza i rozwój sieci miasteczek Białorusi i Litwy do połowy XVII w. // Acta Baltico-Slavica. T. VII. Białystok, 1970. S. 96, 98.

грашовай рэнты, якой з XV ст. усё больш пачынаюць абкладвацца сяляне. Ужо да пачатку XVI ст. у рыначны абарот былі ўцягнуты даволі значныя людскія масы, для абслугоўвання якіх дзейнасці таргоў ва ўжо існуючых гарадах было недастаткова, галоўным чынам па той прычыне, што і гарадоў было мала. У выніку ўжо ў XV ст. пачынаецца рэзкі рост колькасці гарадскіх пасяленняў, які дасягнуў свайго апагея ў XVI ст., пасля чаго пайшоў на спад[1].




Побытавая сцэна ў Гародні. З гравюры другой паловы XVI ст.

Акрамя эканамічных прычын інтэнсіфікацыі урбанізацыйных працэсаў у Вялікім Княстве Літоўскім XV–XVI ст. спрыялі і сацыяльна-палітычныя фактары, найперш у выглядзе атрымання феадаламі спачатку каталіцкага, а з 30–40-х гг. XV ст. і праваслаўнага веравызнання маёмасных імунітэтаў, што стымулявала іх імкненне да павелічэння прыбыткаў у выглядзе не толькі грашовай рэнты ад сялян, але і разнастайных гандлёвых мыт (“targовага”, “бочкавага”, “памернага”), а таксама пабораў, звязаных з дзейнасцю рамеснікаў і гандляроў моцнымі напоямі, якія канцэнтраваліся ля таргоў як асяродкаў масавага наплыву прыезджага насельніцтва і найбольш спрыяльных месцаў збыту тавараў. У выніку пазначылася тэндэнцыя да закладання гарадскіх пасяленняў ва ўладаннях духоўных і свецкіх феадалаў, а таксама стварэння ў вялікакняскіх гарадах так званых юрыдык, заселеных падданымі таго ці іншага феадала.

З’яўленне новых прыватнаўласніцкіх гарадскіх пасяленняў закранала інтарэсы вялікага князя, паколькі стварала канкурэнцыю тым гарадам, якія знаходзіліся ў яго ўладаннях, а значыць, і змяншала яго прыбыткі. Таму для заснавання кожнага новага населенага пункта гарадскога тыпу патрабаваўся спецыяльны прывілей, а самавольнае ўсталяванне новых мыт прыватнымі асобамі строга забаранялася I і III статутамі Вя-

[1] *Alexandrowicz St.* Geneza i rozwój sieci miasteczek Białorusi i Litwy do połowy XVII w. // Acta Baltico-Slavica. T. VII. S. 58.

лікага Княства Літоўскага. Акрамя таго, гаспадар забараняў засноўваць новыя таргі бліжэй чым за 3 мілі ад вялікакняскіх "мест" (гарадоў), што знайшло адлюстраванне ў 14 артыкуле Уставы на валокі 1557 г.[1] Клопат пра тое, каб новыя "места" не стваралі празмернай канкурэнцыі вялікакняскім гарадам, дзяржава праяўляла і раней. Так, Жыгімонт Стары дазволіў у 1530 г. Яну Мікалаевічу Радзівілу ў Пячкоўскім Гарадку "мястэчка садзіці – і торг у суботу і карчмы меці без шкоды таргоў нашых"[2].

Аднак нягледзячы на шматлікія абмежаванні і цяжкасці, звязаныя з закладаннем новых таргоў, колькасць іх працягвала расці. Некаторыя "места" засноўваліся без прывілея і толькі пасля атрымлівалі неабходны юрыдычны дазвол. Настойлівасць феадалаў урэшце мела плён – пад націскам прыватных уладальнікаў у першы раздзел III Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. быў уключаны артыкул 29, які дазваляў засноўваць гарадскія пасяленні без спецыяльных прывілеяў і фактычна здымаў у гэтым сэнсе ўсе абмежаванні[3].

**Асаблівасці новага урбанізацыйнага этапу.** Фарміраванне гарадской сеткі пры ўсёй сваёй інтэнсіўнасці не адбывалася на тэрыторыі Беларусі раўнамерна. У XV і першай палове XVI ст. найбольш хуткі працэс адзначаўся на захадзе, у межах Трокскага, Віленскага, Наваградскага і заходняй часткі Берасцейскага ваяводства. У другой палове XVI ст. усё часцей назіралася з'яўленне гарадскіх пасяленняў на абшарах усходніх ваяводстваў – Менскага, Полацкага, Віцебскага, Мсціслаўскага і ўсходняй часткі Берасцейскага, аднак дасягнуць такой густаты, як на захадзе, гарадская сетка да канца XVI ст. тут так і не змагла.

На нераўнамернасць сеткі гарадскіх населішчаў уплывала некалькі фактараў: геаграфічнае асяроддзе, вялікія лясныя і балоцістыя масівы на ўсходзе і поўдні, неаднолькавыя заселенасць і эканамічны ўзровень заходняй і ўсходняй частак Беларусі і, нарэшце, фактар пастаяннай знешняй пагрозы. Разам з тым і ў межах усходніх ваяводстваў гарадскія пасяленні канцэнтраваліся далёка не раўнамерна. На паўночным захадзе Менскага, паўднёвым захадзе Полацкага і Віцебскага, а таксама захадзе Мсціслаўскага ваяводства густата гарадской сеткі была даволі значнай і набліжалася да паказчыкаў захаду Беларусі. Найбольшая шчыльнасць гарадскіх пасяленняў назіралася ў басейнах сплаўных рэк, асабліва Нёмана, Віліі, Буга, Дзвіны, па якіх вёўся гандаль з заходнімі краінамі, што выступалі ў якасці асноўных спажыўцоў сельскагаспадарчай прадукцыі беларускай вёскі[4].

Колькасны прырост новых гарадоў у Беларусі адбываўся ў XV–XVI ст. галоўным чынам за кошт невялікіх населеных пунктаў – мястэчак (ад агульнаславянскага "места" – горад), якія з'яўляліся найбольш прымітыўнай, першай стадыяй гарадскога развіцця, хаця і мелі ўсе асноўныя рысы сярэднявечнага горада. Мястэчкі выступалі ў якасці адміністрацыйных і гаспадарчых цэнтраў невялікіх сельскагаспадарчых раёнаў –

[1] Русская историческая библиотека (далей – РИБ). Т. 30. Юрьев, 1914. С. 550–551.
[2] Archiwum Główny Akt Dawnych (далей – AGAD): Zdior dokumentów pergaminowych. N. 7570.
[3] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г.: Тэксты. Давед. Камент. Мн., 1989. С. 98–99.
[4] *Alexandrowicz St.* Geneza i rozwój sieci miasteczek Białorusi i Litwy... S. 60–62.



Замак у Наваградку. Пачатак XVI ст.

дробных вотчын, валасцей, староствау[1]. Яны развіваліся з таргоў і згуртаванняў рамесніцкага насельніцтва побач з феадальнымі замкамі і неўмацаванымі дварамі, на месцы ці побач з ужо існуючымі вёскамі і нават на незаселеных месцах ("на суровым кораню"). Узнікненне мястэчак абумоўлівалі патрэбы, звязаныя з абслугоўваннем ажыўленых камунікацыйных шляхоў (забеспячэнне начлегам, пракорм і г.д.), а таксама наяўнасць асяродкаў рэлігійнага культу. Часам мястэчкі ўзнікалі побач з ужо існуючымі гарадамі[2].

Спецыфічныя функцыі мястэчак па абслугоўванні лакальных сельскагаспадарчых рынкаў, а таксама іх вялікая шчыльнасць, што абумоўлівала значную канкурэнцыю, перашкаджалі ўзбуйненню падобных населеных пунктаў. Колькасць дамоў у іх, як правіла, не перавышала 250–300[3]. Невялікія памеры абумоўліваліся яшчэ і тым, што функцыі гарадоў выконвалі буйныя пасяленні, якія ўзніклі і набылі значнасць у папярэднія часы, на першай хвалі урбанізацыі. Ужо ў грамаце вялікага князя Казіміра за 1444 г. у ліку 15 "меншых" гарадоў Вялікага Княства называліся Берасце, Віцебск, Гародня, Менск, Наваградак, Полацк, Слуцк; найбуйнейшымі з іх з'яўляліся Віцебск, Полацк, Берасце і Менск, якія ў 1551 г. выплачвалі ў гаспадарскі скарб больш за 100 коп грошаў. Такую ж суму выплачвалі ў сярэдзіне XVI ст. таксама Магілёў і Пінск.

Паказальна, што амаль усе буйныя гарады XVI ст. выступалі як адміністрацыйныя цэнтры значных тэрытарыяльных адзінак (4 – сталіцы ваяводстваў, 2 – буйных паветаў і 1 – сталіца Княства). Акрамя адміністрацыйнага статуса вялікіх гарадоў іх памеры абумоўліваліся таксама зручнасцю геаграфічнага становішча. Магілёў, напрыклад, у Аршанскім павеце, не з'яўляўся значным адміністрацыйным цэнтрам, аднак дзякуючы выгаднаму размяшчэнню на суднаходным Дняпры па памерах апярэдзіў цэнтр павета Оршу, які знаходзіўся ў менш зручным месцы.

Адносна нешматлікую групу ў параўнанні з дробнымі гарадскімі пасяленнямі складалі і сярэднія гарады, куды да сярэдзіны XVII ст. уваходзілі

[1] *Копысский З.Ю.* Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII в. Мн., 1975. С. 19.

[2] *Alexandrowicz St.* Geneza i rozwój sieci miasteczek Białorusi i Litwy... S. 52–54.

[3] *Ён жа.* Zaludnienie miasteczek Litwy i Białorusi w XVI–XVII w. // Roczniki dziejów Społecznych i Gospodarczych. T. XXVII – Rok 1965. Poznań, 1966. S. 38; *Копысский З.Ю.* Города Белоруссии во второй половине XVI – первой половине XVII в. Автореф. дисс. ... докт. ист. наук. Мн., 1967. С. 15–16; *Грицкевич А.П.* Частновладельческие города Белоруссии в XVI–XVIII вв. (Социально-экономическое исследование истории городов). Мн., 1975. С. 37.

дзілі Шклоў, Быхаў, Орша, Мсціслаў, Наваградак, Кобрын, Нясвіж, Слонім, Барысаў, Бабруйск, Клецк, верагодна таксама Крычаў, Тураў, Мазыр, Друя і Камянец. Некаторыя з іх былі вядомыя як значныя гарады яшчэ да XV ст. (Наваградак, Слонім, Тураў і інш.), у той час як шэраг падобных гарадоў узнік пазней – пры вядомых здаўна замках-крэпасцях (Быхаў (1551–1552), Дзісна (перад 1566)), а такі горад, як Друцк, раней за XV ст. не ўзгадваецца наогул.

Інтэнсіўнасці урбанізацыйных працэсаў на Беларусі ў XV–XVI ст. выявілася не толькі ў хуткім колькасным росце новых гарадскіх пасяленняў, але і ў даволі шпаркім павелічэнні іх насельніцтва. Так, калі ў Берасці ў канцы XIV ст. жыло каля 2 тыс. чалавек, то ў 1566 г. – амаль 6 тыс., а ў сярэдзіне XVII ст. – больш за 10 тыс. Калі ў 1552–1555 гг. домаўладальнікаў у Пінску было 654, то ў 1648 г. іх налічвалася ўжо 5–6 тыс. У Клецку колькасць дамоў вырасла з 150 у 1552 г. да 490 у 1645 г.[1]

Моцна вырасла колькасць насельніцтва і ў многіх іншых беларускіх гарадах, што прыводзіла да змены колькаснага крытэрыю вялікіх і сярэдніх гарадоў. У выніку такі населены пункт, як Наваградак, адзначаны ў сярэдзіне XV ст. у спісе "лепшых" гарадоў, да канца XVI ст. апусціўся да разраду сярэдніх, у той час як да ўзроўню вялікіх гарадоў падняліся Пінск і Магілёў. Значэнне апошняга асабліва ўзрасло пасля страты Вялікім Княствам Літоўскім на пачатку XVI ст. Смаленска. Да сярэдзіны XVII ст. сярэднім горадам зрабілася былое мястэчка Клецк[2].

На практыцы, аднак, абсалютныя колькасныя памеры таго ці іншага горада Вялікага Княства маглі не супадаць з яго рэальнай значнасцю. На Украіне, напрыклад, гарады ўвогуле вызначаліся меншымі памерамі, што тлумачыцца, верагодна, меншай шчыльнасцю насельніцтва ў цэлым[3]. Падобныя рэгіянальныя асаблівасці маглі існаваць і ў Беларусі, дзе адносна невялікія ў параўнанні з найбуйнейшымі гарадамі дзяржавы населеныя пункты мусілі на пэўных этапах свайго існавання выконваць функцыі рэгіянальных цэнтраў, у тым ліку і гаспадарчых. Такія гарады могуць разглядацца як вялікія толькі ў параўнанні з малымі гарадамі і мястэчкамі рэгіёна, якія ўцягвалі ў сферу свайго ўплыву толькі дробныя сельскагаспадарчыя раёны, а таксама адносна невялікімі (сярэднімі) пасяленнямі, што не мелі рэгіянальнага значэння, але рынак якіх ахоплівае лакальныя рынкі некалькіх ці некалькіх дзесяткаў мястэчак[4].

**Шляхі папаўнення гарадскога насельніцтва.** Папаўненне насельніцтва гарадоў ажыццяўлялася некалькімі шляхамі. У шэрагу выпадкаў гараджанамі станавіліся жыхары вёсак, асабліва ў выпадках закладання новых гарадскіх пасяленняў на месцы сёлаў альбо пашырэння межаў таго ці іншага горада, які паглынаў суседнія вёскі, як, напрыклад, сяло Рылоўцы каля Гародні, што ўтварыла ў горадзе вуліцу з той жа назвай[5]. Перасяля-

---

1 *Alexandrowicz St.* Zaludnienie miasteczek Litwy i Białorusi... S. 58.
2 *Ён жа.* Geneza i rozwój sieci miasteczek Białorusi i Litwy..., mapa.
3 *Сас П.М.* Феодальные города Украины в конце XV – 60-х годах XVI в. Киев, 1989. С. 147.
4 *Ястребицкая А.Л.* Городское развитие в средневековой Европе и славянский город (к вопросу о так называемых малых городах) // Труды пятого международного конгресса славянской археологии. М., 1987. Т. III, вып. Іб, секция V. С. 138–146.
5 *Копысский З.Ю.* Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII в. Мн., 1966. С. 37–38.

ліся ў гарады і жыхары больш аддаленых вёсак, асабліва тыя, што валодалі рамесніцкімі спецыяльнасцямі. Часта ініцыятыва па перасяленні вяскоўцаў у гарады належала феадалам, якія арганізоўвалі іх у прыватныя "юрыдыкі". Прыкладам, у 1586 г. узгадвалася, што ў Менску "князи, Панове и земяне ... духовного и светского стану, з давних часов набывши пляцов, подданных своих там осадили, которые в месте мешкаючи, торгов, ремесла, гандлев и всяких пожитков местских ... уживают"[1].

Даволі масавай з'явай было і самавольнае перасяленне сялян, асабліва вольных – "похожих", а часам і асабіста залежных, якія спадзяваліся знайсці за гарадскімі сценамі паратунак ад свавольнай улады паноў. Такая крыніца папаўнення насельніцтва гарадоў была даволі звычнай, паколькі ўжо ў пачатку XVI ст. вярхоўная ўлада пры выдачы прывілеяў на заснаванне асобных гарадскіх пасяленняў агаворвалла іх засяленне толькі людзьмі вольнымі, "похожими". Аднак гэтыя прадпісанні сістэматычна парушаліся, а спрыялі парушэнням інтарэсы як гарадоў, так і іх уладальнікаў. Часам гаспадарская ўлада сама заплюшчвала вочы на перасяленне сваіх залежных сялян ва ўласныя ж гарады, як у выпадку з прыгоннымі каралеўскай эканоміі, якім вялікі князь дазволіў у 1526 г. заставацца ў Гародні, куды яны перад тым перасяліліся[2].

Нярэдка на абарону ўцекачоў станавіліся гарадскія магістраты. У 1499 г. баяры Полацкай зямлі скардзіліся на полацкіх мяшчан, а таксама войта, што "хлопье их невольная и рабы и иншыи люди, в пенезех будучи, втекают до войта и до мещан, и они их им не выдают, а хотят их правом немецким судити"[3]. Прымаў феадальна залежных сялян-уцекачоў з феадальных маёнткаў і магістрат Вільні, з нагоды чаго гаспадар выдаў у 1547 г. кампраміснае рашэнне аб трохгадовым тэрміне, на працягу якога магчымае было вяртанне збеглых падданых; у той жа час асобы, якія пражылі ў горадзе 3 гады, "вжо при месте зостати мают вечне, а вы их оттоль выводити не маете". На будучае вызначаўся 10-гадовы тэрмін вяртання ўцекачоў. Рашэнне не закранала толькі халопаў і "нявольніц", катэгорыі, якая ў той час ужо пакрысе знікала. Адмаўляліся выдаваць уцекачоў таксама войты Камянца ў 1514 г. і Менска ў 1586 г.[4]

У прыватнаўласніцкіх гарадах у абарону збеглых сялян выступалі ўладальнікі. Так, у пачатку XVI ст. супраціўленне вяртанню ўцекачоў, што шукалі прытулку ў Ляхавічах, аказала адміністрацыя ўладальніка "места", віленскага ваяводы Альбрэхта Гаштаўта[5].

Нярэдкімі былі выпадкі перасялення ў гарады выхадцаў з іншых гарадоў і нават замежжа. Найбольш часта фіксаваліся ў інвентарах гарадоў выхадцы з Польшчы і Маскоўскай дзяржавы, аднак сустракаліся ў беларускіх гарадах таксама ўраджэнцы больш аддаленых краёў – немцы, шатландцы і нават французы. У шэрагу населеных пунктаў існавалі цэлыя вуліцы, што атрымалі назвы па нацыянальнай прыналежнасці насельнікаў, напрыклад нямецкая вуліца ў Берасці ці Татарская вуліца ў Менску.

[1] *Копысский З.Ю.* Экономическое развитие городов Белоруссии... С. 40.
[2] Там жа. С. 37.
[3] *Alexandrowicz St.* Zaludnienie miasteczek Litwy i Białorusi... S. 42.
[4] Там жа. С. 43; *Бохан Ю.* Мінск – ваяводскі цэнтр у Вялікім княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай // Гісторыя Мінска. Мн., 2006. С. 145.
[5] *Alexandrowicz St.* Zaludnienie miasteczek Litwy i Białorusi... S. 43.

Пачынаючы з канца XIV ст. у буйных беларускіх гарадах, такіх як Берасце і Гародня, з'яўляюцца яўрэі, якія атрымлівалі ад вялікіх князёў спецыяльныя прывілеі, што рэгламентавалі іх пражыванне ў гэтых населеных пунктах. У XVI ст. яўрэі складалі тут ужо даволі значную частку насельніцтва. У 60-х гг. гэтага стагоддзя ў Берасці пражывала 10,4% яўрэяў, у Гародні – 8,3, у Кобрыні – 8,9, у Пружанах – 4,3% і г.д.[1] З канца XVI ст. яўрэі пачалі сяліцца і ў мястэчках, дзе яны пераважна выступалі ў якасці арандатараў корчмаў, млыноў, гандлёвых мытаў і іншых крыніц прыбытку[2].

У мэтах прыцягнення новых пасяленцаў у гарады іх уладальнікі карысталіся практыкай закладання часовых "воль" ці "слабод" для новапрыбыўшага насельніцтва, вызваляючы яго ад падаткаў на сваю карысць. Напрыклад, падчас закладання мястэчка Барань у 1598 г. у капыскіх уладаннях Крыштофа Мікалая Радзівіла тыя людзі, "якія прыходзіць будуць", атрымлівалі 14 гадоў "волі", хоць гэта тычылася толькі чужакоў, якія не з'яўляліся падданымі князя. У той жа час пры заснаванні ў 1586 г. мястэчка Смалявічы "вольнасць, г.зн. слабоды" абяцаліся ўсім прыбываючым, як чужакам, так і падданым князя[3]. Падобныя ж "волі" выдаваліся і асобам (перш за ўсё, вядома ж, свабодным), што папаўнялі вялікакняскія гарады. У 1507 г. яны былі выдадзены Высокаму (сучасн. Польшча), у 1525 – Полацку, у 1563 – Наваградку, у 1566 – Дзісне, у 1570 – Суражу і г.д.

Важным крокам па прыцягненні насельніцтва ў гарады служыла наданне ім самакіравання – магдэбургскага права, якое ў канцы XIV–XVI ст. атрымалі Берасце, Гародня, Наваградак, Полацк, Менск, Віцебск і іншыя населеныя пункты. Прыватныя асобы таксама актыўна дабіваліся магдэбургскага права для сваіх гарадоў і мястэчак. Так у 1590 г. Крыштоф Радзівіл надаў самакіраванне Любчы, што з'явілася аргументам для вярбоўкі мяшчан з Менска і Наваградка, якія маглі б папоўніць колькасць любчанцаў. З гэтай мэтай жыхары Любчы атрымалі ад князя даручэнне: "каб у месце яго каралеўскай міласці Менскім людзей добрых, захавання добрага і местскіх звычаяў свядомых да места майго Любецкага вербавалі". Падобную ж агітацыю планавалася праводзіць і ў Менску, прычым з парадай "як найпатаемней тыя справы рабіць, каб ад ураду перашкоды не было"[4]. Для прыгонных сялян гарады з самакіраваннем былі тым больш прывабнымі, што гарантавалі дадатковую абарону ад былых уладальнікаў з боку магістрата. Акрамя таго, падобныя гарады


Tretiiy
Bozoiv Milostiv Korol
Polski Welikiy Kniaz Lito
ski Ruskiy Prusk Zmoydski
Mazowecki Inflian
skiy y Szwedskiy
Kgotski Wandalski De
dyczny Korol

Прывілей вялікага князя і караля Жыгімонта Вазы на магдэбургскае права Віцебску. 1597 г.

[1] *Копысский З.Ю.* Экономическое развитие городов Белоруссии... С. 206. Табл. 2.
[2] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей – НГАБ). КМФ-5. Воп. 1., спр. 1941, а. 25; AGAD, Archiwum Radziwiłłowskie, dz. XXV, n. 457, k. 2–3.
[3] *Alexandrowicz St.* Zaludnienie miasteczek Litwy i Białorusi... S. 44, przyp. 48.
[4] Там жа. S. 46.

вызваляліся ад усіх ці шэрага феадальных павіннасцей, што значна аблягчала падатковае становішча жыхароў.

Прававое становішча таго ці іншага горада ў сувязі з набыццём ім магдэбургскага права не заўсёды супадала з яго рэальнай гаспадарчай ці адміністрацыйнай значнасцю. У выніку здаралася, што дробныя гарадскія пасяленні, у якіх гарадскія рысы выяўляліся менш поўна, набывалі самакіраванне і лічыліся гарадамі (civitas), у той час як даволі значныя гарады без магдэбургскага права (у тым ліку і цэнтры буйных адміністрацыйных адзінак) лічыліся фактычна мястэчкамі (oppidum). Падобная сітуацыя знайшла адлюстраванне, напрыклад, на карце Вялікага Княства Літоўскага, складзенай па замове Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі Тамашом Макоўскім і выдадзенай у Амстэрдаме ў 1613 г., альбо ў Статуце 1588 г.[1] Аднак на практыцы пры размежаванні тых ці іншых гарадскіх пасяленняў улічвалася іх рэальная гаспадарчая і адміністрацыйная значнасць, а таксама памеры.

**Функцыі гарадскіх пасяленняў.** Апроч гаспадарчых і адміністрацыйных задач гарады Вялікага Княства Літоўскага выконвалі ў XV–XVI ст. таксама ролю рэлігійных, культурных і ваенных цэнтраў. Буйныя гарады з'яўляліся месцамі знаходжання епархій (Наваградскай, Полацкай, Турава-Пінскай, Уладзіміра-Берасцейскай) і асяродкамі канцэнтрацыі цэркваў і манастыроў. У Наваградку і Менску звычайна знаходзіліся заходнерускія мітрапаліты. У буйных гарадах размяшчаліся таксама найбольш значныя каталіцкія кляштары. У XVI ст. гарады і мястэчкі былі цэнтрамі пратэстанцкага руху.

Значэнне гарадоў як культурных цэнтраў абумоўлівалася значнай колькасцю ў іх рамеснікаў розных спецыяльнасцей – як тых, што выраблялі шэдэўры матэрыяльнай культуры (ювеліры, дойліды і г.д.), так і занятых у сферы, звязанай з духоўнай культурай (скамарохі, музыканты, батлеечнікі і інш.). У XV–XVI ст. закладаюцца царкоўныя і прыватныя бібліятэкі, пры праваслаўных брацкіх школах і езуіцкіх калегіумах узнікаюць тэатры. З развіццём у XVI ст. у Беларусі кнігадрукавання ў гарадах і мястэчках засноўваюцца друкарні, найбольш вядомымі з якіх з'яўляліся друкарні ў Берасці, Нясвіжы і Лоску. На глебе гарадскога жыцця развіваліся ідэі асветы, тут жылі і працавалі выдатныя мысліцелі свайго часу – Ф.Скарына, С.Будны, Л.Зізаній і інш.

Важную ролю адыгрывалі гарады ў сістэме абароны Вялікага Княства Літоўскага ад знешняга ворага. Землеўладальнікі, мяшчане разам з феадаламі мусілі несці вайсковую службу ў складзе паспалітага рушэння. Падаткі з гарадоў служылі важнай крыніцай папаўнення грашовых сум, якія ішлі на ўтрыманне наёмнага войска. Тут жа выраблялася зброя і вайсковая амуніцыя. Гарадскія сцены служылі асноўным фарпостам, на які прыпадаў цяжар ваенных кампаній. На гараджан ускладаліся функцыі па абароне і ўзнаўленні ўмацаванняў; практычна кожны гарадскі жыхар у выпадку патрэбы станавіўся воінам. Гарадская міліцыя высту-

[1] *Alexandrowicz St.* Mapa Wielkiego Księstwa Litewskiego Tomasza Makowskiego z 1613 r. tzw. Rodziwiłłowska, jako żródło do gziejów Litwy i Białorusi // Studia ródłoznawcze. T. X. Warszawa; Poznań, 1965, mapa; Статут Вялікага княства Літоўскага 1588. С. 133, 314.

нала ў якасці важнага атрыбута беларускага сярэднявечнага горада, як вялікакняскага, так і прыватнаўласніцкага. Яна прымала актыўны ўдзел не толькі ў знешніх войнах, але і ў магнацкіх усобіцах.



Полацк. З гравюры 1579 г.

Калі на пачатку XV ст. галоўная небяспека для Вялікага Княства Літоўскага пагражала з паўночнага захаду, то разгром крыжакаў пад Грунвальдам у 1410 г., з аднаго боку, і актывізацыя Маскоўскай дзяржавы і Крымскага ханства ў канцы XV ст. – з другога, паспрыялі пераняcенню асноўнага цяжару знешняй барацьбы на ўсходні і паўднёвы напрамкі. Таму найбольшую актуальнасць у XV ст. набыло ўмацаванне ўсходніх і паўднёвых гарадоў – Полацка, Віцебска, Гомеля, Мазыра і іншых, якія з'яўляліся найбольш моцнымі цытадэлямі дзяржавы[1]. У той жа час на паўночным захадзе Беларусі, адным з самых бяспечных рэгіёнаў Вялікага Княства, моцныя цытадэлі гублялі сваё былое значэнне, што выявілася ў адсутнасці знешняга пояса абарончых умацаванняў вакол такіх гарадоў, як Гародня, Ваўкавыск, Наваградак, Ліда, Слонім і іншыя, ролю цытадэлі ў якіх выконвалі толькі адносна невялікія замкі. Як правіла, не было сцен і вакол дробных гарадскіх пасяленняў – мястэчак, якія не валодалі дастатковымі фінансавымі магчымасцямі для іх узвядзення. Выключэнне складалі толькі асобныя мястэчкі, такія як Мір, Свіслач або Любча, што належалі найбуйнейшым магнатам Вялікага Княства Літоўскага. Тыя ж населеныя пункты, якія ўзнікалі ў XVI ст. побач з вёскамі, неўмацаванымі дварамі ці "на суровым караню", зазвычай не мелі нават замкаў[2].

У сувязі са змяненнем ролі былых дзядзінцаў як агульнагарадскіх цытадэляў і ператварэннем іх ва ўладальніцкія замкі, а таксама ў сувязі з пашырэннем эканамічных функцый гарадоў у XV–XVI ст. назіраюцца змены ў гарадской планіроўцы. Цэнтрам горада ў гэты час пакрысе робіцца не дзядзінец-замак, як было раней, а гандлёвая плошча – рынак, дзе знаходзіліся найбольш важныя будынкі грамадскага прызначэння і куды сыходзіліся галоўныя і самыя заселеныя вуліцы[3]. Найбольш яскрава праявіліся змены ў планіроўцы тых гарадскіх пасяленняў, якія былі заснаваны не раней чым у XV ст., у той час як у больш старажытных га-

---

[1] *Якимович Ю.А.* Зодчество Белоруссии XVI – первой половины XVII в. Мн., 1991. С. 208–209, 263–268; *Ткачев М.А.* Замки Белоруссии. Мн., 1987. С. 47–50, 68, 74–75; Архив Юго-Западной России (далей – Архив ЮЗР). Ч. 7. Т. 1. Киев, 1886. С. 614–616.

[2] *Бохан Ю.М., Шаблюк В.У.* Агульная характарыстыка мястэчак. Тыпы планіроўкі // Археалогія Беларусі: У 4 т. Т. 4. Помнікі XIV–XVIII стст. Мн., 2001. С. 55.

[3] *Краўцэвіч А.К.* Гарады і замкі Беларускага Панямоння (планіроўка, культурны слой). Мн., 1991. С.61–62.

радах, дзе існавалі пэўныя планіровачныя мадэлі папярэдніх часоў, назіраліся рысы біцэнтрычнасці[1].

Такім чынам, у развіцці гарадоў XV–XVI ст. назіраўся новы этап, які характарызаваўся, з аднаго боку, іх хуткім колькасным ростам, вылучэннем на першы план эканамічных функцый і актыўным уцягваннем у сферу гаспадарчага ўплыву гарадоў сельскай акругі і, з другога – набыццём гарадамі пэўнай прававой самастойнасці ў выніку атрымання некаторымі з іх магдэбургскага права. Гарады гэтага часу не толькі з'яўляліся заканамерным параджэннем эканамічнага развіцця краіны, але і самі ў меру сваіх магчымасцей пачалі гэтае развіццё вызначаць. Далёка не ўсе гарады XV–XVI ст. у аднолькава роўнай ступені здолелі праявіць усе свае функцыі, аднак у іх назіралася большая, чым у папярэднія часы, уніфікаванасць з пункту гледжання наяўнасці гэтых функцый.

## 2. Рамяство і гандаль у Беларусі XV–XVI стст.

**Развіццё рамяства і паглыбленне рамесніцкай спецыялізацыі.** У XV–XVI ст. адным з галоўных фактараў эканамічнага развіцця на тэрыторыі Беларусі было развіццё рамяства і гандлю. Ажыццяўляўся эвалюцыйны пераход рамеснікаў ад працы на заказ да працы на продаж, рынак, хоць сама праца на заказ захоўвалася. Рамеснікі жылі ў паселішчах гарадскога тыпу і па вёсках, як дзяржаўных, так і прыватных, а таксама ў царкоўных уладаннях. Адсутнасць дакладных звестак пра колькасць рамеснікаў і іх прафесій у XV–XVI ст. не дазваляе з высокай ступенню верагоднасці вызначыць дынаміку і кірункі развіцця рамесніцкай вытворчасці ў гэты час. Тым не менш можна канстатаваць, што колькасць рамеснікаў пастаянна расла. Рамесніцкая вытворчасць у XV–XVI ст. пераважна канцэнтравалася ў гарадах, прапарцыянальная колькасць сельскіх рамеснікаў адносна гарадскіх паступова памяншалася. Гэтая тэндэнцыя стала выразна праяўляцца з канца XV ст. Колькасць гарадскога рамесніцтва павялічвалася ў выніку трансфармацыі цэнтраў зямельных уладанняў (двароў, цэнтральных вёсак) у гарады і мястэчкі, шляхам перасялення сельскіх рамеснікаў у гарады і ў той жа час пераводу сельскіх рамеснікаў на звычайныя сялянскія павіннасці. Патрэба ў рамесніцкіх вырабах і працы ў такім выпадку задавальнялася праз куплю тавараў і паслуг на рынку.

У XVI ст., асабліва з другой паловы, адбывалася далейшая спецыялізацыя і дыферэнцыяцыя рамяства. Спецыялізацыі падвяргаліся найперш тыя рамёствы, якія былі цесна звязаны з рынкам, г.зн. рамёствы па апрацоўцы металаў, скур, па вырабе прадуктаў харчавання і г.д.

Па падліках З. Капыскага ў XVI – першай палове XVII ст. у буйных гарадах налічвалася да 80 рамесніцкіх спецыяльнасцей, у сярэдніх – ад 40 да 60, а ў невялікіх – да 30. Згодна з яго данымі, у гэты час у дзяржаўных гарадах усяго налічвалася каля 200 рамесніцкіх спецыяльнасцей, з якіх 41 была звязана са здабычай і апрацоўкай металаў, 27 –

[1] *Мокеев Г.Я.* Черты своеобразия в структурах городов восточных и западных славян // Архитектурное наследство. 1975. № 23. С. 9–13.

з апрацоўкай дрэва, 25 – са скуранай і футравай вытворчасцю, 26 – з вырабам тканін і пашывам адзення, 21 – з вырабам прадуктаў харчавання, напояў і інш. У прыватных гарадах, па падліках А. Грыцкевіча, у аналагічны час адзначалася каля 120 рамесніцкіх прафесій[1]. У цэлым у XVI ст. найбольшае распаўсюджванне мелі тыя рамесніцкія спецыяльнасці, якія былі непасрэдна звязаны з задавальненнем патрэб насельніцтва: кавалі, цесляры, сталяры, бондары, калеснікі, ганчары, ткачы і г.д.



Гарбар. Мініяцюра пачатку XVI ст.

Рост рамесніцкай спецыялізацыі адбываўся і ў гарадскіх пасяленнях. У XVI ст. у Слуцку зафіксаваны 20 рамесніцкіх спецыяльнасцей. Інвентар Клецка 1575 г. згадвае 41 рамесніка 26 спецыяльнасцей. Сярод іх былі і замкавыя рамеснікі, якія працавалі на абслугоўванне патрэб феадалаў і іх адміністрацыі: шкляр, карэтнік, пячнік, вугляр, калеснік, возніцы, пушкары. У другой палове XVI ст. у Нясвіжы налічвалася 45 рамесніцкіх спецыяльнасцей. Інвентар Копысі 1606 г. гаворыць пра 42 рамеснікаў 20 прафесій[2]. У 1560 г. у Геранёнах згадваюцца такія гарадскія рамеснікі, як майстар па гадзінніках (зэгармістр) Себасцьян Станіслaвіч і доктар (бальвер) Ільяш Якубавіч Ютольдавіч, які людзей "с хороб выправует"[3]. У 1556 г. у тых жа Геранёнах Аляксандр Турчына атрымаў 3 валокі зямлі "на службе фарберской" і павінен быў вучыць гэтаму рамяству сваіх дзяцей[4]. У цэлым рамесніцкае насельніцтва гарадоў было значным. Напрыклад у Радашковічах у 1549 г. яно складала 57,7% жыхароў горада, у Берасці ў 1565 г. – 21,7, у Іўі ў 1561 г. – каля 20, у Койданаве ў 1588 г. – 23, а ў Магілёве ў 1604 г. – 33–40%[5]. Назіралася пэўная спецыялізацыя ў распаўсюджванні рамёстваў. Так, у Гародні шырока былі прадстаўлены будаўнічыя спецыяльнасці – вапельнікі, мялоўнікі, кафельнікі, брукары, каменацёсы, у Полацку і Віцебску – прафесіі, звязаныя з абслугоўваннем рачных партоў – стырнавыя, грузчыкі і інш. Магілёў і Слуцк вылучаліся вялікай колькасцю вузкіх спецыялістаў у гарбарнай і металаапрацоўчай вытворчасці і г.д.[6]

---

[1] Гісторыя Беларусскай ССР: У 5 т. Т. 1. Мн., 1972. С. 202; *Копысский З.Ю.* Экономическое развитие городов Белоруссии... С. 79–81; *Грицкевич А.П.* Частновладельческие города Белоруссии в XVI–XVIII вв. С. 65–66.

[2] *Грицкевич А.П.* Частновладельческие города Белоруссии в XVI–XVIII вв. С. 60–61, 63.

[3] НГАБ. Ф. КМФ-18. Воп. 1 (далей – Метрыка ВКЛ). Спр. 42, арк. 56 адв.

[4] Метрыка ВКЛ. Спр. 38, а. 46.

[5] *Бохан Ю.М.* Аб месцы мястэчка ў структуры гарадскіх пасяленняў XV–XVIII ст. (па матэрыялах мястэчак вярхоўяў Віліі і нёманскай Бярэзіны) // Гістарычна-археалагічны зборнік. № 1. Мн., 1993. С. 21; *Alexandrowicz St.* Kierunki produkcji rzemieślniczej i przemysłowej w miasteczkach Białorusi i Litwy (XVI do połowy XVII w.) // Zeszyty naukowe uniwersytetu im. Adama Mickiewicza, Historia. Zeszyt 6. Poznań, 1964. S. 38–39.

[6] *Копысский З.Ю.* Экономическое развитие городов Белоруссии... С. 82–83.

Паколькі ў XVI ст. праца пераважнай большасці рамеснікаў Беларусі была скіравана на задавальненне асабістых, гаспадарчых і вытворчых патрэб мясцовага насельніцтва, даволі значная колькасць рамеснікаў працавала на рынак: піўвары, медавары, рэзнікі, хлебнікі, пірожнікі і іншыя былі поўнасцю звязаны з рынкам; кавалі, слесары, бондары, гарбары, кушняры, шубнікі, замшавікі, сядзельнікі працавалі як па заказе спажыўцоў, так і на рынак, а прадстаўнікі будаўнічых спецыяльнасцей (муляры, цесляры, капачы, печнікі, брукары, суднабудаўнікі і г.д.) працавалі на заказ спажыўцоў.

Важнай галіной рамяства з'яўлялася апрацоўка металаў. Кавалі ў той час меліся паўсюдна. З кавальскай прафесіі вылучыліся ў якасці самастойных прафесіі слесара, мечніка, зэгармістра, пушкара, злотніка і інш. Так, у Слонімскім замку па даручэнні слонімскага старосты Р. Валовіча быў пушкаром баярын Станіслаў Белаус. Ён быў адказны за спраўнасць замкавых гармат, пораху, стрэльбаў. Пінскі замкавы пушкар Васька Бакуловіч павінен быў у год вырабіць 6 аркебузаў з замкавага жалеза і 2 – са свайго (расходныя матэрыялы на іх ложа выдавала замкавая адміністрацыя), а таксама камень гарматнага пораху. Аналагічную працу павінны былі рабіць пушкары Магілёва, Віцебска, Берасця, Мазыра і іншых замкаў[1]. У XVI ст. інтэнсіўна развівалася ювелірная справа. Майстры па вырабе залатых і сярэбраных прадметаў побыту, упрыгожанняў славіліся нават па-за межамі краіны.

Асабліва шырокую дыферэнцыяцыю з другой паловы XVI ст. атрымалі ў Беларусі гарбарнае, рымарскае і шавецкае рамёствы. Рамеснікі, якія займаліся апрацоўкай шкур, дзяліліся па гарбароў, "которые робят скоры дубленые, скоры дубленые жолтые, и чырвоные, и чорные". Апрацоўкай шкур займаліся таксама кажамякі, балтушнікі, дубатолкі. З прафесіі шаўца вылучыліся прафесіі шаўца-саф'янніка, шаўца "влоскай работы", шаўца чорнага рамяства[2]. Значную ролю ў апрацоўцы шкур і вырабе з іх розных прадметаў штодзённага ўжытку і вупражы адыгрывала татарскае насельніцтва беларускіх гарадоў.

У XIV–XVI ст. шырока былі прадстаўлены рамёствы, звязаныя з апрацоўкай дрэва. Да іх можна залічыць будаўнічыя спецыяльнасці: цесляроў, пільнікаў, рамеснікаў па вырабе транспартных сродкаў (вазоў, рачных суднаў, вёслаў і інш.), прыладаў працы, посуду і сталовага начыння (вёдраў, талерак і інш.), бондарскіх вырабаў (бочак, кадзяў, конавак і інш.).

У шэрагу выпадкаў цяслярскія работы разглядаліся як важная форма выканання феадальных павіннасцей. Так, цесляры магілёўскага замка Арцём і Процка Якімовічы павінны былі ў замку "всякое будованье рубити и старую роботу справовати маючи люди з волости ку роботе колько потреба вкажет"[3]. А цесляры маёнтка Дзярэўна Менскага павета ў канцы XVI в. будавалі касцёл у цэнтры ўладання[4]. Майстры з усходняй Беларусі ўдзельнічалі ў пабудове замка ў Кіеве і замкаў непасрэдна на

---

[1] Метрыка ВКЛ. Спр. 41, арк. 154 адв. (1559 г.), 261 (1561 г.); спр. 37, арк. 514 адв., 547–548 (1561 г.); Архив ЮЗР. Ч. 7. Т. 1. С. 615 (1552 г.) і інш.

[2] *Мелешко В.И.* Могилев в XVI – середине XVII в. Мн., 1988. С. 24–25; *Копысский З.Ю.* Экономическое развитие городов Белоруссии... С. 81–82.

[3] Метрыка ВКЛ. Спр. 37, арк. 515 (1561 г.).

[4] НГАБ. Ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 733, арк. 31, 40, 42.

ўсходзе Беларусі. Для выканання будаўнічых павіннасцей насельніцтва пры неабходнасці наймала майстроў-прафесіяналаў[1].

У разгляданы час атрымала далейшае развіццё ганчарства. Формы і тыпы ганчарных вырабаў сталі больш разнастайнымі, распаўсюдзілася іх аздабленне зялёнай і паліхромнай палівай. Сталі выраблядь пячную кафлю, дахоўку і іншыя віды будаўнічай керамікі.

Рамеснікамі маглі быць прадстаўнікі ўсіх пластоў простага саслоўя: мяшчане, даннікі, цяглыя і асадныя сяляне, баяры путныя, агароднікі, чэлядзь нявольная і г.д. Характэрнай рысай тагачаснага рамяства была спадчыннасць, перадача прафесійных навыкаў бацькамі сваім дзецям і ўнукам. Як адзначалася, рамесніцтва развівалася не толькі ў гарадах, але і ў сельскай мясцовасці. Аднак найбольш кваліфікаванымі былі гарадскія рамеснікі. У гарадах і мястэчках перш за ўсё праяўляліся перадавыя тэндэнцыі і кірункі развіцця рамесніцкай вытворчасці.

З канца XV ст. на тэрыторыі ВКЛ стаў развівацца фальварак як сістэма вядзення гаспадаркі. Асабліва інтэнсіўна яго распаўсюджанне адбывалася ў сярэдзіне XVI ст. У сувязі з гэтым расла неабходнасць у абслугоўванні патрэб фальварка прафесійнымі рамеснікамі. Частка гэтых патрэб задавальнялася праз найм гарадскіх рамеснікаў ці праз набыццё рамесніцкай прадукцыі на гарадскім рынку. Але ў ВКЛ у канцы XV–XVI ст. існавала і такая практыка: сялянам давалі зямельныя надзелы за выкананне разнастайных рамесніцкіх павіннасцей. Падобная практыка была распаўсюджанай у гэты час таксама ва Усходняй Германіі, Польшчы, Расіі, г.зн. у рэгіёне "другога выдання прыгонніцтва". Такім чынам, у XV–XVI ст. у дзяржаўных і прыватных уладаннях Вялікага Княства для задавальнення патрэб двароў, а таксама для абслугоўвання праезджага люду існавала асобная група рамеснікаў розных спецыяльнасцей, для якіх выкананне рамесніцкай працы было асноўнай павіннасцю[2]. Пераважна гэта былі кавалі, цесляры, бондары, карчмары, піввары і інш. Прычым сяляне-рамеснікі маглі выкарыстоўвацца адміністрацыяй маёнтка па сваёй спецыяльнасці не толькі ва ўладаннях, у якіх яны пражывалі, але пры неабходнасці і за іх межамі. Так, у пачатку XVI ст. гарадзенскія муралі (муляры) прыцягваліся да працы ў Віленскім замку. У 1562 г. цесляры-дойліды з заходніх рэгіёнаў ВКЛ (у тым ліку 12 чалавек з Геранёнскай дзяржавы Ашмянскага павета і 4 рамеснікі Слонімскага староства) былі накіраваны на 2 месяцы да Віршуп каля Вільні для пабудовы звярынца[3].

У Гарадзенскім старостве падчас правядзення валочнай памеры было шмат рамеснікаў, якія абслугоўвалі войска ВКЛ, у першую чаргу абоз. Саннікі павінны былі "робить сани, спицы до кол и инше потребы до обозни и.к.м.". На стэльмахаў ускладаліся абавязкі "кола звонисте, стпице до кол і инше потребы до обозни ... робить", Кашоўнікі мусілі "коше до возов посполитых робить"[4].

[1] Метрыка ВКЛ. Спр. 21, а. 92 адв. – 93 адв., 187 (1537 г.); Архив ЮЗР. Ч. 7. Т. 1. С. 616–617 (1552 г.).

[2] Литовская Метрика. Отд. 1-2. Ч. 3; Книги публичных дел. Т. 1 // РИБ. Т. 30. С. 585, арт. 48.

[3] Метрыка ВКЛ. Спр. 18, арк. 136; Lietuvos Metrika–Литовская Метрика (далей – ЛМ): Kn. 564 (1553–1571). Vilnius, 1996. S. 82.

[4] Писцовая книга Гродненской экономии с прибавлениями, изданная Виленской комиссией для разбора древних актов: В 2 т. Вильно, 1881–1882 (далей – ПКГЭ). Ч. 1. С. 362, 317; Ч. 2. С. 113.

У паўночна-заходняй Беларусі і Літве пражывалі спецыялісты па ўзвядзенні мастоў – борці. У час вайны яны рамантавалі і будавалі масты для праходжання войск, а ў мірны час выконвалі звычайныя чыншавыя павіннасці сялян. Акрамя таго, за імі замацоўваліся масты, якія яны рамантавалі. Па распараджэнні вялікага князя борці павінны былі таксама ўзводзіць і рамантаваць не замацаваныя за імі масты, але тады ім памяншаўся чынш адпаведна выкананай працы[1]. Існавалі і іншыя спецыялісты па абслугоўванні мастоў. Так у 1566 г. у в. Красна (ці Дзерашэвічы) Панёманскага войтаўства Шэмбялеўскай воласці Гарадзенскага староства былі ліннікі, якія выраблялі канаты для мастоў. У в. Мікелевічы Ельненскага войтаўства Мастоўскай воласці Гарадзенскага староства дзве вольныя валокі былі выдзелены "на трачтва (пільнецтва. – *А.Д.*) до тарчиц (дошак. – *А.Д.*)" маставых (1566 г.)[2].

Нешматлікімі з'яўляюцца прадстаўнікі такога рамяства, як саленнікі (маёнткі Лішчна 1577 г., Ляды 1561 г. Лідскага павета і інш.), якія атрымлівалі высакаякасную соль з солі нізкіх гатункаў[3]. Спецыялізацыя рамесніцкай вытворчасці аператыўна рэагавала на патрэбы рынка. Так, у XVI ст. павялічыўся попыт на шкляныя вырабы, у сувязі з чым у многіх гарадах і мястэчках з'явіліся шкляры. З другой паловы XVI ст. у Шыдлаўцы на Падляшшы стала працаваць шкляная гута.



Шавец. Гравюра пачатку XVI ст.

У XVI ст. пачала шырока распаўсюджвацца наёмная праца. Паколькі цэнтрам эканамічнага жыцця ВКЛ была яго сталіца Вільня, то туды імкнуліся жыхары блізкага і далёкага наваколля. У сярэдзіне XVI ст. гэты працэс стаў такім маштабным, што вялікі князь вымушаны быў звярнуць увагу на парадак найму ў горадзе. Па ўстаноўленых правілах было забаронена наймацца на працу без публічнай дамовы. Загадвалася, каб усе жадаючыя павінны былі "на одно месцо, што по краковску прозывается микстат на кождый день по рану як будеть година на ден(ь)" (1 гадзіна па ўзыходзе сонца. – *А.Д.*) сыходзіцца да ратушы. Сюды ж павінны былі прыходзіць таксама наймальнікі і публічна наймаць сабе работнікаў і дамаўляцца пра цану работы. За выкананнем такога парадку сачылі гарадскія ўлады[4].

Рамеснікі мелі высокі сацыяльны статус у дзяржаве. Дзень працы вясковага рамесніка ў сярэдзіне XVI ст. ацэньваўся у тры разы даражэй, чым

---

[1] *Охманский Е.* Иноземные поселения в Литве XII–XIV вв. в свете экономических местных названий // Балто-славянские исследования 1980 г. М., 1981. С. 112; РИБ. Т. 30. С. 543, арт. 2.
[2] ПКГЭ. Ч. 1. С. 204, 455.
[3] НГАБ. Ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 2069, арк. 4 адв.; ф. 694, воп. 4, спр. 1625, арк. 2 адв.
[4] Собрание древних грамот и актов г. Вільна, Ковна, Трок. Вільна, 1846. С. 145; Метрыка ВКЛ. Спр. 31, арк. 105 адв. – 106.

цяглага селяніна[1]. Акрамя таго, у XVI ст. рамеснікі плацілі сярэбшчыну і пагалоўнае па стаўках, якія адрозніваліся ад звычайных ставак падаткаў[2]. Так, пагалаўшчына 1566 г. бралася "з мещанъ (...), которые ганъдлють и ремества вживають, с кожъдого домового г(о)с(по)д(а)ра братьи и суседовъ ихъ от головы по шести грошеи, а от жонъ и детеи ихъ такежъ с кождои головы по шести грошеи, а зъ шинъкаровъ и перекупъниковъ от головы по чотыри гроши. ... А тые татарове, которые воины не служать, а ремествомъ, фурманъствомъ и иными речми живятся, с кождое головы их самых по десети грошеи, а от жонъ и детеи по пети грошеи". У той жа час простыя мяшчане плацілі гэты падатак у памеры 3 грошы[3].

Пра важнае месца ў грамадстве рамеснікаў сведчаць і высокія памеры штрафаў за забойства (галаўшчыны) і за пабоі (навязкі) для рамеснікаў. Паводле статутаў ВКЛ 1529 і 1566 г. памер галаўшчыны за забойства рамесніка быў аналагічны таму, які прымяняўся ў дачыненні путных слуг і большы, чым для мяшчан, цяглых і іншых сялян, нявольнікаў[4].

**Узрастанне гандлёвай актыўнасці. Формы і кірункі гандлю.** Развіццё рамяства самым непасрэдным чынам было звязана з развіццём гандлю. Павелічэнне рамесніцкай вытворчасці садзейнічала актывізацыі гандлёвай дзейнасці, уцягванню ў яе мяшчан і сялян. XV–XVI стагоддзі ў развіцці гандлю сталі пераломнымі у плане як аб'ёмаў гандлёвага абароту, так і мэтаў правядзення гандлёвых аперацый. У XV ст. працягваў дамінаваць прынцып феадальнага грамадства перыяду панавання натуральнай гаспадаркі, які патрабаваў існавання стабільных, так званых "справядлівых" цэн. У сувязі з гэтым прадаваць тавар даражэй, чым ён быў куплены, і атрымліваць такім чынам прыбытак лічылася неэтычным, амаральным. Для завуаліравання атрымання гандлёвага прыбытку існавала сістэма стабілізацыі цэн шляхам змянення (лабільнасці) велічыні адзінак вымярэння тавараў[5]. Згодна з такой сістэмай пры адносна аднолькавай цане на тавар адзінка вымярэння яго ў месцы закупкі была большай за адзінку вымярэння ў месцы збыту. Розніца ў вазе і складала прыбытак купцоў.

Такая сістэма існавала на традыцыйных гандлёвых кірунках. Так, адным з асноўных пунктаў экспарту Полацка ў Рыгу быў воск, а з Рыгі ў Полацк – срэбра. У сувязі з гэтым гандлёвы дагавор паміж Полацкам і Рыгай 1406 г. (Копыскі дагавор) і яго праекты зафіксавалі правіла "восковый вес держати по старому закону, што же наш (полацкі. – *А. Д.*) берковеск восковый больши вашего (рыжскага. – *А. Д.*) берковеска полпудом

---

[1] *Доўнар А.Б.* Становішча сялян-слуг у сярэдзіне XVI стагоддзя // Весці Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Сер. гуманітар. навук. 1999. № 3. С. 59.

[2] Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданые Археографическою камиссиею: В 5 т. (далей – АЗР). СПб., 1846–1853. Т. 3. 1848. С. 192, 248; Volumina Legum. Przedruk zbioru praw staraniem XX Pijarów w Warszawie od roku 1732 do roku 1762 wydaniego. W 10 t. Petersburg, 1859–1952. T. 3, 1859. S. 107–108.

[3] Метрыка ВКЛ. Спр. 529, арк. 113.

[4] Статут Великого княжества Литовского 1529 года. Мн., 1969. Раздз. XI, арт. 2[1]. С. 114; Статут Вялікага княства Літоўскага 1566 г. Мн., 2003. Раздз. XII, арт. 3. С. 192; Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Мн., 1989. Раздз. 12, арт. 5. С. 314.

[5] *Клейненберг И.Э.* Цены, вес и прибыль в посреднической торговле товарами русского экспорта в XIV – начале XV в. // Экономические связи Прибалтики с Россией. Сб. статей. Рига, 1968. С. 36–37.

ризьского весу. А серебреный вес ризьскии держати больши полочьких весов серебреных полузолотником"[1].

У XVI жа стагоддзі атрыманне прыбытку ад гандлю і нават ад ліхвярства стала ўспрымацца як звычайная, неабходная з'ява. Прыбытак у дадзеным выпадку расцэньваўся як узнагарода гандлярам за іх працу, рызыку[2]. Гэтаму садзейнічала павышэнне ролі гандлю ў эканамічным жыцці грамадства, павелічэнне аб'ёмаў гандлю, якія у XVI ст. былі выкліканы "рэвалюцыяй цэн" у Еўропе.

Цэнтрам гандлёвых аперацый у гэты час быў гарадскі рынак. Асноўнымі гандлёвымі агентамі на рынку з'яўляліся: айчынныя і замежныя купцы, якія займаліся продажам мясцовых і імпартных тавараў; рамеснікі, што гандлявалі сваімі вырабамі; "перакупні", "прасолы", якія гандлявалі на мясцовым рынку таварам, купленым у купцоў, рамеснікаў, сялян[3]. Апошняя катэгорыя гандляроў з'явілася ў канцы XV ст.

Актыўную пазіцыю на рынку займалі і сяляне, якія гандлявалі прадуктамі сваёй гаспадаркі. Пры гэтым яны не абмяжоўваліся толькі мясцовым рынкам, а ўдзельнічалі і ў функцыянаванні даволі аддаленых рынкаў. Так, селянін в. Дуброва Галаўчынскай воласці Аршанскага павета ў 1580 г. вазіў воз пянькі ў Вільну. А селянін в. Іскані Магілёўскай воласці таго ж павета Гапон Фёдаравіч нават называў сябе "гандлёвым чалавекам", гандляваў у Магілёве, выпраўляўся са сваімі таварамі ў Менск (1599 г.)[4].

Айчынныя купцы і рамеснікі займаліся гандлем у асноўным асабіста, індывідуальна, хоць існавала таксама практыка вядзення гандлю праз сваіх слуг ці даверапых асоб. Часта ў замежныя гандлёвыя паездкі купцы адпраўляліся сумесна, аб'ядноўваючыся па некалькі, а то і па дзесяць, дваццаць чалавек. Прасочваецца адносная спецыялізацыя купцоў: адны займаліся транзітам заходнееўрапейскіх, расійскіх тавараў, другія вялі гандаль толькі з украінскімі землямі, трэція гандлявалі толькі на рэгіянальным рынку, чацвёртыя – толькі ў крамах і г.д. Даволі пашыранай з'явай у асяроддзі гандляроў было аб'яднанне сваіх капіталаў і вядзенне сумеснага гандлю. У такіх выпадках гандляры аб'ядноўвалі свае сродкі (грошы, тавары) у роўных долях ці прапарцыянальна сваім магчымасцям і атрыманы прыбытак ад сумеснай дзейнасці дзялілі ў залежнасці ад долі кожнага[5].

**Знешні гандаль. Гандлёвыя шляхі.** Беларусь знаходзілася на перакрыжаванні важных гандлёвых шляхоў у кірунках усход–захад, поўдзень–поўнач. У сувязі з гэтым купцы займаліся транзітным гандлем замежных тавараў. Так, у Заходнюю Еўропу праз Беларусь з Расіі вывозіліся футра, скуры, воск, асобныя віды тканіны і інш. Гэтыя тавары скупля-

---

[1] Полоцкие грамоты XIII – начала XVI в. / Сост. А.Л. Хорошкевич. Т. 1. М., 1977. С. 105–106, 109–112; Белоруссия в эпоху феодализма: Сборник документов и материалов (далей – БЭФ). Т. 1. Мн., 1959. С. 258.

[2] *Марзалюк І.* Прыбытак ці ўратаванне душы? Крэдыт і ліхвярства ў Беларусі XVI–XVII ст. // Спадчына. 2000. № 4. С. 23–24.

[3] *Копысский З.Ю.* Экономическое развитие городов Белоруссии... С. 145.

[4] Там жа. С. 151; Гісторыя сялянства Беларусі. Т. 1: Ад старажытнасці да 1861 г. Мн., 1997. С. 114.

[5] *Мелешко В.И.* Могилев в XVI – середине XVII в. С. 134–135; *Копысский З.Ю.* Экономическое развитие городов Белоруссии... С. 159.

ліся на рынках Усходняй Беларусі, непасрэдна ў Расіі і праз Гародню, Берасце вывозіліся ў Кракаў, Познань, Гданьск, Люблін, Каралявец. Частку тавараў правозілі непасрэдна расійскія купцы. З канца XV ст. дамінуючым у знешнім гандлі стаў заходні кірунак – гандаль з Заходняй Еўропай праз Каралявец, Рыгу, а таксама польскія гарады Гданьск, Познань, Люблін і інш.

Асноўнымі прадметамі экспарту ВКЛ з'яўлялася сыравіна. У XV ст. галоўнымі кампанентамі вывазу былі воск і футра, а пачынаючы з другой паловы стагоддзя сталі інтэнсіўна вывозіцца таксама лён, пянька і лясныя тавары: попел, дзёгаць, драўніна для караблебудавання і г.д. З канца XV ст. у Заходнюю Еўропу праз Рыгу і Каралявец стала экспартавацца збожжа. У структуры экспарту адлюстроўвалася рэагаванне гандляроў на кан'юнктуру знешняга рынку, згодна з якой попыт на гэтыя віды тавараў і адпаведна высокія цэны на іх сталі стабільнымі. У XVI ст. з тэрыторыі Беларусі працягвалі вывозіць воск, футра, скуры. Так, кобрынскі яўрэй Шмойла Нахімавіч у 1537 г. набыў для продажу шубы з куніцы, футры собаля, гарнастая, баброў на агульную суму 610 коп грошаў, а яго таварыш берасцейскі яўрэй Еска Песаховіч меў аналагічнага тавару на 950 коп грошаў. Увесь тавар быў закуплены на паўднёвым усходзе Беларусі[1]. Важнае месца ў экспарце працягвалі займаць лясныя тавары: дрэва і вырабы з яго (ванчос, васількі, клёпкі і інш.), попел, дзёгаць, паташ. Сярод імпарту з Заходняй Еўропы найважнейшае месца займалі соль, розныя віды тканін, жалеза і жалезныя вырабы (косы, сярпы, сякеры, нажы і інш.).

Падтрымліваліся ажыўленыя гандлёвыя зносіны з Расіяй. Туды вывозілі заходнееўрапейскія тавары: тканіны (сукны, шоўк), металічныя вырабы (нажы, цвікі, косы, іголкі, дрот), галантарэю (капелюшы, паясы і інш.), прыправы, паперу. У вялікай колькасці вывозіліся вырабы мясцовых майстроў: скураны абутак, вупраж, юхт, адзенне, гаршкі, саф'ян. У гандлі з Расіяй галоўнае месца займалі магілёўскія купцы. З Расіі у асноўным завозіліся футры (собаля, гарнастая, куніцы, ваверкі, лісіцы, выдры, мядзведзя) і скуры. З Украіны на тэрыторыю Беларусі паступалі соль, усходнія тавары (турэцкія дываны, шоўк і шаўковыя вырабы і г.д.)[2].

Адным з самых прыбытковых відаў гандлю быў гандаль рыбай. З Заходняй Еўропы завозілі селядцы. З Украіны з басейна Дняпра ў XVI ст. масава завозілі рачную рыбу. Але асноўным пастаўшчыком рыбы на беларускі рынак былі ўласныя рэгіёны. Прадавалі жывую і "бітую" рыбу (жывая каштавала даражэй), вяленую і салёную, гандлявалі оптам і ў розніцу. Цэны на рыбу былі высокімі: у гарадзенскім рэгіёне ў 1569 г. шчупак "галаўны" ацэньваўся ў 24 грошы, "паўгалаўны" – у 12, а "лакатны" – у 6 грошаў; ласось – у 15, лешч – у 4, акунь – ў 1 грош[3].

Дзяржава абкладала рыбны гандаль асобным падаткам. Так, у Пінску ў 1568 г. дзейнічала правіла, па якім усе купцы, рыбаловы, хто ў

---

[1] Метрыка ВКЛ. Спр. 20, арк. 82–84.

[2] *Мелешко В.И.* Могилев в XVI – середине XVII в. С. 107–130; *Копысский З.Ю.* Экономическое развитие городов Белоруссии... С. 160–199; *Wawrzyńczyk A.* Studia z dziejów handlu Polski z Wielkim księstwem Litewskim i Rosją w XVI wieku. Warszawa, 1956. S. 41–78.

[3] Метрыка ВКЛ. Спр. 53, арк. 12.

Пінску ці ў Пінскім старостве на рынку, торгу, сёлах, рацэ і г.д. "живые и вялые осетри, щуки, уюны и всякие иные риби великие и мала продовал и ими перекуповал", павінны былі даваць у якасці падатку кожную дзесятую рыбу. Акрамя таго, хто саліў рыбу ў бочках для продажу, павінен быў бочкі "нацеховати" і ўзяць аб гэтым квіты ў адказнага па зборы гэтага падатку. Да таго ж трэба было заплаціць "цехового" 1 грош і 1 грош даць за квіт[1]. Дзесяціпрацэнтны пабор ад прададзенай ці прывезенай на продаж рыбы існаваў і ў іншых рэгіёнах[2].



Купцы Вялікага Княства Літоўскага (нямецкі малюнак XVI ст.)

Для забеспячэння гандлёвай дзейнасці, перавозу тавараў выкарыстоўваліся як сухапутныя дарогі, так і рэкі. Найбольш важнае транспартнае значэнне мелі водныя артэрыі – Нёман, Вілія, Заходні Буг, Дзвіна, Днепр, Сож, Прыпяць і іх буйныя прытокі. У XVI ст. пры неабходнасці рэчышчы ачышчаліся для больш бяспечнага праходжання рачных суднаў. У зімовы час замёрзлыя рэкі выкарыстоўваліся як дарогі, па якіх грузы везліся "сухім лёдам"[3]. Летам як транспартныя сродкі выкарыстоўвалі плыты (асабліва ў басейне р. Вілія), разнастайныя рачныя судны: дубасы (XV ст.), шкуты, стругі (басейн Дзвіны), камягі, паўкамягі (басейн рэк Нёмана, Заходняга Буга, Дняпра), байдакі (басейн Дняпра), чаўны рознай канструкцыі. Напрыклад, па Віліі павінны былі сплаўляцца плыты з дрэва не шырэй чым на 30 бярвёнаў; у 1542 г. гэтае абмежаванне было знята[4].

У межах Беларусі існавала разгалінаваная сетка і сухапутных гандлёвых шляхоў. Важнае значэнне мелі дарогі Мазыр – Пінск – Кобрын – Берасце, Смаленск – Орша – Барысаў – Менск – Койданаў – Гародня, Барысаў – Крайск – Вільня, Вільня – Берасце, Вільня – Наваградак – Пінск – Валынь, Слуцк – Наваградак – Гародня і інш.[5] У якасці сухапутных транспартных сродкаў летам выкарыстоўвалі разнастайныя вазы, зімой – сані. Крыніцы звычайна гавораць пра купецкія вазы, якія былі запрэжаны адным ці двума коньмі, але сустракаюцца і 4-конныя, а то і 6–8-конныя запрэжкі[6]. Для задавальнення патрэб у транспарціроўцы тавараў многія жыхары Беларусі наймаліся да купцоў у якасці перавозчы-

[1] Метрыка ВКЛ. Спр. 48, арк. 199 – 199 адв.
[2] Архив ЮЗР. Ч. 7. Т. 1. С. 619 (Мазыр, 1552 г.).
[3] Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею. Т. 7. С. 89.
[4] Собрание древних грамот и актов г. Вільна, Ковна, Трок. С. 75–77; Метрыка ВКЛ. Спр. 231, а. 234.
[5] *Копысский З.Ю.* Экономическое развитие городов Белоруссии... С. 152–154; *Wawrzyńczyk A.* Studia z dziejów handlu Polski z Wielkim księstwem Litewskim i Rosją... S. 26–40.
[6] Метрыка ВКЛ. Спр. 77, арк. 545 (1561 г.); спр. 31, арк. 166 (1547 г.).

каў (фурманаў). Фурманскім рамяством займалася значная колькасць татарскага насельніцтва. Перавозка грузаў была справай прыбытковай. Мяшчане Оршы, улічваючы значныя даходы ад возніцтва і дэфіцыт гарадскога бюджэту, добраахвотна згадзіліся ўносіць у мясцовы скарб падатак з прыбытку, які атрымлівалі ад наймання да купцоў для перавозкі тавараў сухапутным ці рачным транспартам[1]. У цэлым транспартная сістэма на Беларусі ў XV–XVI ст. задавальняла існуючыя патрэбы і забяспечвала эфектыўную дастаўку ўсяго аб'ёму тавараў на месцы прызначэння.

**Выплата гандлёвых пошлін.** Пры ажыццяўленні гандлёвых аперацый і па гандлёвых шляхах браліся разнастайныя пошліны (мыты). Купцы пры перасячэнні дзяржаўнай мяжы, а таксама па шляху прасоўвання ў межах краіны павінны былі на мытных каморах, прыкаморках перапісваць свой тавар, паведамляць яго склад і колькасць, кошт і месца прызначэння. На першай каморы купец плаціў неабходнае мыта з тавараў, атрымліваў квітанцыю і мог свабодна ехаць да месца прызначэння. Аднак на кожнай мытні павінен быў прад'яўляць свой тавар для агляду. У выпадку выяўлення незаяўленага тавару ён канфіскоўваўся на карысць вялікага князя і мытнікаў. Па даных канца 80-х гг. XV ст. на тэрыторыі цэнтральнай і паўднёвай Беларусі мыты збіраліся ў Глуску, Пагосце, Давыд-Гарадку, Тураве, Пінску, Берасці, Камянцы, Слоніме, Навагрудку, Менску, Оршы, Магілёве, Рагачове, Лучыне, Стрэшыне, Рэчыцы, Гомелі, Чачэрску, Прапойску, Крычаве, Мсціславе, Мазыры, Грэску[2].

Адной з асноўных дзяржаўных мыт было так званае старое мыта. Яно спаганялася з агульнага кошту тавару (толькі лясныя тавары, воск, соль, пэўныя віды сукна, жывёла мелі спецыяльныя тарыфы). У межах ВКЛ узровень тарыфу старога мыта залежаў ад мясцовых традыцый. З 1529 г. па прывілею вялікага князя стала спаганяцца галаўное (старое) мыта ў вёсцы Гароднай Пінскага павета. Як і на іншых мытнях, па гарадзенскай тавар ацэньваўся і ад кожнай капы грошаў бралася па 2 грошы (3,3% кошту тавару), а ад кожнай "телеги" солі – 20 грошаў і дадаткова з кожнай камягі солі старога мыта спаганялася 12 грошаў[3]. Па даных сярэдзіны XVI ст. старое мыта збіралася па стаўцы 2 грошы з капы, прычым замежныя купцы плацілі гэтую пошліну поўнасцю, а купцы ВКЛ толькі 50%[4].

Пры Жыгімонце Старым было ўведзена "мыта новае"[5]. Стаўкі новага мыта вызначаліся на пэўны час і па асобных відах тавару. Мыты збіраліся па мытных уставах, інструкцыях, універсалах, якія да сярэдзіны XVI ст. зацвярджаў вялікі князь, а з другой паловы XVI ст. – сейм. У цэлым у 1526 г. новае мыта бралася па стаўцы 1 грош з капы (1,7% кошту тавару); у 1577 г. – 2,5 гроша з капы (4,2%); у 1583 г. – 2 грошы з капы (3,3%)[6].

У 1536 г. у ВКЛ згадваюцца наступныя дзяржаўныя мытныя каморы: Віленская, Ковенская, Гарадзенская і Мастоўская, Бельская з Драгічынскай, Берасцейская, Полацкая і Віцебская. Акрамя таго, збіраліся мен-

---

[1] Метрыка ВКЛ. Спр. 59, арк. 29 адв. (1559 г., 1577 г.).
[2] ЛМ. Книга записей 4. Vilnius, 2004. С. 146–147; БЭФ. Т. 1. С. 261.
[3] Метрыка ВКЛ. Спр. 7, арк.1049 (30.11.1529 г.); спр. 18, арк. 63 адв. (1532 г.).
[4] *Довнар-Запольский М.В.* Государственное хозяйство Великого Княжества Литовского при Ягеллонах. Т. 1. Киев, 1901. С. 506–507.
[5] Там жа. С. 496–505; Метрыка ВКЛ. Спр. 17, арк. 319 адв.
[6] *Копысский З.Ю.* Экономическое развитие городов Белоруссии... С. 162.

скае, бабруйскае, наваградскае, друйскае, магілёўскае, аршанскае мыта і інш.[1] Пры неабходнасці (змяненне старых ці з'яўленне новых гандлёвых шляхоў) дзяржава адкрывала новыя мытныя каморы і прыкаморкі. У XV–XVI ст. практыкавалася здача збору гандлёвых пошлін на той ці іншай каморы ці нават у межах усёй краіны ў арэнду. Арандатарамі мыт былі багатыя купцы, ліхвяры яўрэі (асабліва ў першай палове XVI ст.), буйныя феадалы. Апошнія сталі дамінаваць у арэндзе мыт у другой палове XVI ст.

Акрамя дзяржаўных мыт на спецыяльных каморах у межах краіны браліся розныя пошліны ў асобных прыватных населеных пунктах. Напрыклад, ва ўладанні Віленскага біскупства Стрэшыне мыта бралася нават з кіеўскіх мяшчан, якія былі вызвалены ад выплаты мыт у межах ВКЛ[2]. Мяшчане Магілёва, Быхава і іншых падняпроўскіх гарадоў плацілі вадзяное мыта ў Рэчыцы, Любечы, Гомелі, Стрэшыне ад камягі па 30 грошаў, ад паўкамягі – 15, з парома – 12, з чаўна – 6, ад малага пад'ездка – 3 грошы[3].

Існавала сістэма вызвалення ад мыт[4]. Мяшчане і яўрэі Берасця былі вызвалены ад платы старога мыта вялікім князям Вітаўтам[5]. З канца XV ст. мяшчане Гародні вызваляліся ад мыта на Нёмане на шляху да Коўна, а на шляху ў Прусію – на Неце[6]. Вялікі князь Аляксандр вызваліў ад усіх мыт па р. Дзвіне князёў Масальскіх. Іх мяшчане з Друі павінны былі плаціць на шляху ў Рыгу толькі васкавое і шастаўнічае на мытніка, а ад меха солі – па 4 грошы і па 2 пенезі на мытніка[7]. Жыгімонт Аўгуст, Стэфан Баторый і Жыгімонт Ваза вызвалілі мяшчан Крычава ад мыт "сухим и водяным путем" у памежных замках і гарадах, што знаходзіліся ў басейне Дняпра, Сажа і Прыпяці: Кіеве, Чаркасах, Каневе, Магілёве, Чачэрску, Прапойску, Гомелі, Любечы, Чарнобылі і інш. Мяшчанам было дазволена "ходити и солью, рыбами, медом пресным, воском, кожми, полотном и иными всякими товарами торговати (...) таковые товары продавати и скуповати не даючи мыта" старога, новага, важчага, "головщин, шостового и от пописанье товаров своих"[8].

Віцебскія купцы былі вызвалены ў XV ст. вялікім князем Казімірам ад платы ўсіх мыт у межах ВКЛ, акрамя васкавога і салянога (яшчэ яны павінны былі плаціць мыта за попел, які быў выпалены ў дзяржаўных лясах)[9]. У 1576 г. Стэфан Баторый вызваліў іх і ад новага мыта[10]. Мяшчане Нясвіжа ў 1586 г. вызваляліся на 50 гадоў ад платы ўсіх мыт у ВКЛ: ад маставога, грабельнага, "старого головного и скопного мыта, так теже подляского и волинского мыта и пограничных мыт, которые до

[1] Метрыка ВКЛ. Спр. 21, арк. 45 адв. – 46; *Довнар-Запольский М.В.* Государственное хозяйство... Т. 1. С. 536–539;

[2] Метрыка ВКЛ. Спр. 37, арк. 252–252 адв. (1558 г.); спр. 73, арк. 394 адв. (1588 г.).

[3] Беларускі архіў (далей – БА). Т. 1 (XV–XVIII ст.). Мн., 1927. С. 38 (1588 г.), 42–43 (1593 г.); Метрыка ВКЛ. Спр. 45, арк. 127 (1562); спр. 56, арк. 19–19 адв. (1576 г.); спр. 36, арк. 62 (1555).

[4] *Довнар-Запольский М.В.* Государственное хозяйство... Т. 1. С. 511–530.

[5] Метрыка ВКЛ. Спр. 83, арк. 81 адв.

[6] АВК. Т. 7. С. 61, 71–72, 87.

[7] Метрыка ВКЛ. Спр. 41, арк. 271–272 адв. (пацв. 1561 г.).

[8] Там жа. Спр. 49, арк. 31 адв. (1568); спр. 73, арк. 395 адв. – 396 адв. (1588 г.).

[9] Там жа. Спр. 41, арк. 135–136 адв. (1559 г.).

[10] Там жа. Спр. 63, арк. 170 адв.

скарбу Великого княства Литовского належат, и од воску восковничого, од соле солничого, от збожъя вшелякого так же перевозного, важного од ваги, шостовщины, береговщины, головщизны, езовщизни и од быдла всякого и од коней, ку тому обвесток, подужного, торгового, возового од фурманов, фалковщизны, звального" і ад іншых мыт і пабораў. Але нясвіжцы ўсё ж былі абавязаны паказваць у мытнях свае тавары і перапісваць іх[1].

Вызваляліся ад платы мыт і пабораў і асобныя мяшчане. Напрыклад, у 1565 г. азярыцкі мешчанін атрымаў на 4 гады вольнасць ад платы мыт, таргавага, важчага і іншых пошлін па ўсім ВКЛ ад сваіх тавараў, якія каштавалі больш за 100 коп грошаў[2].

У XVI ст., адчуўшы сваю палітычную значнасць і сілу, шляхта ВКЛ імкнулася вызваліць ад выплаты розных мыт сябе і сваіх падданых. У 1541 г. мсціслаўская і радомльская шляхта дамаглася скасавання для сваіх людзей "поводнай" пошліны ад прадажу ў сваіх сёлах коней і іншай жывёлы, а таксама мёду, солі і "иншие дробные речи". Але пры продажы адзначаных тавараў у Мсціславе і Радомлі гандлёвая пошліна імі плацілася на агульных падставах[3]. У 1551 г. шляхта дабілася права бяспошліннага вывазу за мяжу лясных тавараў з сваіх лясоў, у 1559 г. – права бяспошліннага вывазу збожжа і жывёлы са сваіх гаспадарак, у 1565 г. – права бяспошліннага ўвозу іншаземных тавараў, але толькі на свае патрэбы.

Ад пошлін маглі вызваляцца не толькі жыхары ВКЛ, але і замежныя падданыя. Так, у 1533 г. атрымаў "волю" на адзін год ад усялякіх пошлін купец турэцкага султана Андрэй Грэк з Канстанцінопаля[4]. У 1577 г. быў вызвалены на 4 гады ад платы мыта ў ВКЛ купец "землі арменской" Марат Міхайловіч[5].

**Арганізацыя ўнутранага гандлю.** Унутраны гандаль быў накіраваны на задавальненне бягучых патрэб насельніцтва. Існавалі наладжаныя гандлёвыя сувязі паміж рознымі гарадамі, рэгіёнамі, што садзейнічала нармальнаму функцыянаванню рынку тавараў. У Полацку прадавалі вырабы слуцкіх рамеснікаў, у Менску – гарадзенскае і магілёўскае мыла, гарбарныя вырабы, скуры са Слуцка. У другой палове XVI ст. у Магілёве вялі закупку тавараў купцы з усіх буйных гарадоў Беларусі[6].

Цэнтрамі гандлёвай дзейнасці ў XV–XVI ст. з'яўляліся гарадскія паселішчы. Галоўнымі формамі арганізацыі гандлёвых аперацый у беларускіх гарадах, як і ў цэлым у Вялікім Княстве Літоўскім, былі стацыянарны гандаль (крамы, яткі), таргі і кірмашы. Адной з умоў гандлю была публічнасць ажыццяўлення гандлёвых аперацый. Для забеспячэння гэтага прынцыпу існавала сістэма норм і правіл. Адны з іх дзейнічалі штодня і рэгулявалі парадак куплі-продажу тавараў у крамах, ятках і г.д. Другія вызначалі правілы льготнага ў плане падаткаабкладання вядзення гандлю ў часы таргоў і кірмашоў.

---

[1] Метрыка ВКЛ. Спр. 73, арк. 191 адв. – 192; спр. 77, арк. 604–604 адв. (пацв. 1595 г.).
[2] Там жа. Спр. 47, арк. 39 адв.
[3] Там жа. Спр. 35, арк. 57–57 адв. (пацв. 1551 г.).
[4] Там жа. Спр. 17, арк. 443.
[5] Там жа. Спр. 58, арк. 203.
[6] Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. С. 208.

Матывам надання гарадам права правядзення новых таргоў і кірмашоў было імкненне садзейнічаць развіццю рамяства і гандлю, росту дабрабыту як самога горада, так і навакольнага краю, краіны ў цэлым. Таргі праводзіліся кожны тыдзень у адны і тыя ж дні. У час іх правядзення дазваляўся свабодны рознічны і аптовы гандаль усіх удзельнікаў гандлю. Кірмашы праводзіліся ў адзін і той жа тэрмін кожны год. Кірмаш мог цягнуцца ад аднаго дня да аднаго месяца. Падчас кірмашу ўсе яго ўдзельнікі вызваляліся ад платы мыт на месцы іх правядзення. Так, згодна з прывілеем 1571 г. на кірмашы ў Менску ўсе яго ўдзельнікі вызваляліся ад платы старога і новага мыта, торговага і іншых пабораў, падаткаў на мытнікаў, старосту менскага, гарадскія ўлады – "от жита, и от иного всякого збожья, от быдла живого и от мяса, вялых и мерзлых (рыб), от белужины, осетрыны и от икри осетриное, от юнов и иных всяких рыб великих и малых, от меду пресного, от соли и селедцов и от иных всяких речей ку живности належачых"[1]. Нават не патрэбна было плаціць абвесткі[2]. Але мытныя зборы на мяжы, мастовыя і іншыя мыты па шляху да месца кірмашу трэба было плаціць[3]. Таксама плаціліся мыта торговае (кірмашовае), памернае ад збожжа, чопавае ад корчмаў, мяснічае ад рэзнікаў[4]. У Гародні па пастанове каралевы Боны 1540 г. у выпадку калі купцы, не паспеўшы прадаць свае тавары ў час кірмашу, прадавалі іх пасля, то, па прыкладу Любліна, яны павінны былі заплаціць 1 грош ад кожнай капы грошаў (1,66%)[5].

Пытанні аб наданні права правядзення таргоў і кірмашоў, а таксама аб вызначэнні тэрміну іх правядзення знаходзіліся ў кампетэнцыі вялікага князя літоўскага. Падчас правядзення аграрнай рэформы сярэдзіны XVI ст. права надання таргоў дзяржаўным мястэчкам было дадзена гаспадарскім рэвізорам. Так, у 1567 г. рэвізор Берасцейскага староства Дзмітрый Сапега ўстанавіў у Дзівіне торг у чацвер[6]. Згодна са Статутам ВКЛ 1588 г. шляхта атрымала вольнасць засноўваць у сваіх уладаннях мястэчкі і вызначаць для іх торговыя дні[7]. Але і ў такіх выпадках шляхта імкнулася атрымаць на таргі і кірмашы прывілеі вялікіх князёў літоўскіх, бо ўмовай закладання і функцыянавання новага торгу і кірмашу было непанясенне эканамічнай шкоды ўжо існуючым таргам і кірмашам. Напрыклад, 3 лістапада 1537 г. быў адменены торг у нядзелю, які быў устаноўлены прывілеем ад 27 ліпеня 1537 г.[8] у мястэчку Дзевятковічы Слонімскага павета, што належала гаспадарскаму дваранiну Данiле Мялешку. Прычынай такога рашэння было змяншэнне пасля ўвядзення торгу ў Дзевятковічах даходаў ад торгу ў Слоніме[9].

Прызначаючы час правядзення таргоў і кірмашоў, вялікі князь мог пагадзіцца з прапанаванымі тэрмінамі, пакінуць вырашэнне гэтага пытання за самімі мяшчанамі ці шляхціцамі, а таксама мог вызначыць свае

[1] Метрыка ВКЛ. Спр. 50, арк. 373.
[2] Метрыка ВКЛ, (Мазыр, 1593 г.).
[3] ЛМ. КЗ 12. Vilnius, 2001. С. 244 (1523 г.); БА. Т. 1. С. 36 (1588 г.); Метрыка ВКЛ. Спр. 41, арк. 101; спр. 77, арк. 447.
[4] Метрыка ВКЛ. Спр. 54, арк. 51 адв.
[5] АВК. Т. 7. С. 73.
[6] Метрыка ВКЛ. Спр. 50, арк. 383.
[7] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Мн., 1989. Раздз. I, арт. 29. С. 99.
[8] Метрыка ВКЛ. Спр. 21, арк. 201 адв.
[9] Там жа. Спр. 20, арк. 91 адв.

тэрміны. Напрыклад, у 1559 г. Е. Хадкевіч атрымаў прывілей на заснаванне мястэчка Шклоў на р. Бобр. Паводле гэтага прывілея ён мог торг “на кождую неделю встановити, который день (...) сам собе обереть и похочет”[1]. У 1558 г. князь Раман Сангушка прасіў надаць яго мястэчку Турэйску Лідскага павета кірмаш у дзень св. Марціна, а Жыгімонт Аўгуст вызначыў такім днём свята св. Спаса[2].

Дзяржаўныя мяшчане і ўласнікі прыватных мястэчак імкнуліся пашырыць тэрміны кірмашоў і вызначыць найбольш спрыяльны час іх правядзення. Напрыклад, князі Вішнявецкія 8 верасня 1559 г. атрымалі прывілей на правядзенне кірмашу ў Брагіне ў дзень св. Марціна, а ўжо 27 верасня мелі прывілей на кірмаш на працягу цэлага тыдня, пачынаючы ад дня св. Марціна[3]. У 1568 г. па просьбе князя Юрыя Слуцкага тэрмін правядзення кірмашу ў яго мястэчку Петрыкаве Мазырскага павета быў перанесены з дня св. Юрыя вясенняга на дзень св. Пятра і Паўла. У якасці прычыны называлася вясенняя паводка Прыпяці, што рабіла немагчымым у гэты час прыезд на кірмаш купцоў[4]. Тэрміны правядзення кірмашу ў мястэчку Цырын Наваградскага павета былі звязаны з часам правядзення кірмашу ў Капылі. Гэта было зроблена для таго, каб купцы, якія варочаліся з капыльскага кірмашу, заязджалі ў Цырын[5].

Удалы зыход гандлёвых аперацый у многім залежаў і ад часу правядзення таргоў. Так, Высокае Берасцейскага павета мела з часоў вялікага князя Аляксандра таргі ў нядзелю. У 1549 г. уласнік Высокага гаспадарскі дваранін Юрый Петкевіч Юдко выпрасіў у Жыгімонта Аўгуста прывілей на торг яшчэ і ў чацвер, бо ў нядзелю “яко дня светого добрый торг збиратися не может”[6]. А мяшчане Віцебска мелі таргі ва ўсе будныя дні, г.зн ад панядзелка да суботы ўключна, акрамя святочных дзён (па каталіцкім абрадзе) і нядзель[7].

Права мець таргі рэалізоўвалі не толькі дзяржаўныя мяшчане, шляхта-хрысціяне, але і татары-шляхціцы. Напрыклад, 6 кастрычніка 1532 г. было дазволена мець торг у суботу харужаму татарскаму Ахмету Улану у яго частцы маёнтка Малюшыч Наваградскага павета[8]. Кірмашы праводзіліся не толькі ў гарадскіх паселішчах, але і ў вясковай мясцовасці – пры цэрквах, касцёлах. У 1596 г. быў пацверджаны кірмаш пры царкве св. Спаса ў вёсцы Райцы Наваградскага павета. Ён адбываўся на праваслаўнае свята св. Спаса, а даход ішоў на святара царквы і *дажывотнага* пана той зямлі Аляксандра Бральніцкага[9]. У 1582 г. згадваецца кірмаш пры царкве Маці Божай у маёнтку Асцейкоўскім Менскага павета, прычым за час яго правядзення была сабрана значнага памеру пошліна – 20 коп грошаў[10].

У час торгу патрэбна было плаціць спецыяльны падатак – тарговае, памернае. Тарговае бралася за продаж вала ці каровы (1 грош), жывой

[1] Метрыка ВКЛ. Спр. 45, арк. 8 адв. – 9.
[2] Там жа. Спр. 38, арк. 176.
[3] Там жа. Спр. 38, арк. 223 адв.; спр. 41, арк. 142 адв.
[4] Там жа. Спр. 50, арк. 181 адв.
[5] Там жа. Спр. 83, арк. 345 адв. (1598 г.).
[6] Там жа. Спр. 31, арк. 238 адв.
[7] Витебская старина. Т. 1. Витебск, 1883. С. 79; Метрыка ВКЛ. Спр. 83, арк. 222–222 адв.
[8] Метрыка ВКЛ. Спр. 17, арк. 330.
[9] Там жа. Спр. 83, арк. 83.
[10] АВК. Т. 36. Вільна, 1912. С. 314.

(5 пенезяў) ці забітай (3 пенезі) свінні, барана, казы , цяляці (па 3 пенезі), каня (1 грош у таго, хто купіў). Памернае бралася ў колькасці 1 пенезь з бочкі (Рэчыца 1561, пацверджана 15.05.1596)[1], з бочкі на 4 карцы – 4 пенезі (Орша 1593)[2]. Асобна абкладаліся рэзнікі – яны павінны былі даваць падатак з лою і ад кожнай забітай жывёлы – лапатковае[3]. Мяшчане прывілеяваных гарадоў, якія падлягалі гарадской юрысдыкцыі, былі ў сваіх гарадах вольныя ад платы торговага і памернага[4].

У час кірмашоў існаваў асобны парадак судаводства[5]. Так, судовая справа, якая ўзнікала на кірмашы ў дзяржаўным горадзе паміж гаспадарскімі падданымі і прыезджымі купцамі, паміж самімі прыезджымі купцамі або паміж прыватнаўласніцкімі падданымі, разглядалася гаспадарскім (замкавым) судом[6]. Мяшчан магдэбургскіх гарадоў па ўсіх справах, якія ўзніклі на таргах, кірмашах, патрэбна было судзіць у іх родным горадзе[7].

Для штодзённага гандлю і для складзіравання тавараў прыезджых купцоў у час таргоў і кірмашоў выкарыстоўваліся крамы[8]. Каморы крамныя размяшчаліся на рынку. Імі валодалі мяшчане горада, яўрэі, набывала шляхта. Так, Ізраім Песаховіч меў у Пінску ў 1550 г. некалькі крам. Баярын Гарадзенскага павета ў 1536 г. на рынку меў 2 крамы[9]. Да 1510 г. у Менску толькі каля моста праз Свіслач было не менш за 10 крам[10]. У 1595 г. мяшчане і яўрэі Берасця атрымалі дазвол на пабудову мураваных крам на рынку пад замкам[11]. Крамы ўзводзіліся з дазволу ўлад, на чыіх землях яны размяшчаліся. У выпадку пабудовы крам без такога дазволу яны разбураліся[12].


Замкі XVI ст.

Памеры гандлю ў XVI ст. пастаянна раслі, што прымушала гарады павялічваць колькасць крам; у некаторых гарадах нават не хапала месца на рынку для іх размяшчэння. У Мазыры ў 1576 г. на рынку знаходзілася 44 крамы і каморы (11,5% ад колькасці ўсіх жылых дамоў у горадзе)[13]. У Магілёве ў 1577 г. "в рынку (было) комор и клеток крамных 137, яток резницких 17" (12,2% ад колькасці ўсіх жылых дамоў)[14]. У 1595 г. у Оршы для пабудовы новых крам была павялічана плошча рынку. А ўжо ў 1600 г. аршанскі ста-

1 Метрыка ВКЛ. Спр. 83, арк. 90.
2 Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею. Т. 1. СПб., 1863. С. 253; Метрыка ВКЛ. Спр. 77, арк. 633.
3 Метрыка ВКЛ. Спр. 50, арк. 383.
4 Там жа. Спр. 77, арк. 35 адв. (Пінск, 1581 г.), 161–161 адв. (Ліда, 1590 г.).
5 Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Раздз. XIV, арт. 4. С. 332–334.
6 Метрыка ВКЛ. Спр. 38, арк. 144 адв. (Слонім, 1558 г.).
7 БА. Т. 1. С. 35; Метрыка ВКЛ. Спр. 73, арк. 433 адв. (Магілёў, 1588 г.).
8 Метрыка ВКЛ. Спр. 85, арк. 96 адв.
9 Там жа. Спр. 33, арк. 24 адв.; ЛМ. КЗ 25. Vilnius, 1998. С. 212.
10 БЭФ. Т. 1. С. 135.
11 Метрыка ВКЛ. Спр. 77, арк. 615.
12 БА. Т. 2. С. 48 (Магілёў, 1592 г.).
13 НГАБ. Ф. 694, воп. 2, спр. 4871, арк. 1–8 адв.
14 БЭФ. Т. 1. С. 279.

роста Андрэй Сапега павінен быў вызначыць дадатковае месца для пабудовы новых крам, бо існуючых не хапала для задавальнення гандлёвых абаротаў[1]. Існавала спецыялізацыя ў дзейнасці крам: адны гандлявалі прамысловымі таварамі, другія толькі хлеба-булачнымі вырабамі, трэція (яткі) мясам, лоем і інш. За гандаль у крамах іх трымальнікі і ўласнікі плацілі па вызначаных нормах падаткі органам кіравання. Так, у Оршы (1593 г.) крамары плацілі замку "з лавки хлебнай и з ыншого от локтя по п(е)н(е)езей два на недели", а рэзнікі (мяснікі) павінны былі кожны год на замак даваць адзін камень лою ці 15 грошаў у год. Пры гэтым як гарадскія, так і вясковыя рэзнікі, якія прыедуць на гарадскі торг, павінны былі па звычаі выдаваць на замак ад кожнай забітай жывёліны па "полгрудины мяса"[2]. Віцебскія рэзнікі па даўнім звычаі давалі сэрца "яловичное и баранье сокольником земским"[3].

Пры ажыццяўленні гандлёвых аперацый існавалі розныя правілы, якія насілі характар звычаю. Напрыклад, згодна з дакументам 1601 г. яўрэі ў ВКЛ не мелі права скупляць і экспартаваць збожжа, соль, селядцы і іншыя прадукты харчавання ("жыўнасць"), а маглі гандляваць "только малыми дробными крамными рэчами" і рэалізаваць алкагольныя напоі[4]. Існаваў звычай, па якім у нетарговыя дні сяляне і прыезджыя купцы мелі права прадаваць тавары ў гарадах толькі "уздоймам" (оптам) і толькі мяшчанам горада, дзе адбывалася здзелка[5]. Толькі тады, калі мяшчане не хацелі б купляць оптам, сялянам і купцам дазвалялася "торговати и шынковати"[6]. Памер аптовага гандлю вызначаўся звычаем і фіксаваўся спецыяльнымі дакументамі. Напрыклад, такія нормы ўтрымліваюць прывілеі на магдэбургскае права Полацка (1498), Менска (1499), Наваградка (1511)[7]. Існавалі і іншыя абмежаванні. Так, іншагароднія гандляры мелі права прывозіць у Гародню не менш за 3 камяні воску[8]. Не мелі права ў нетарговыя дні ажыццяўляць гандлёвыя аперацыі паміж сабой і замежныя купцы. Яны павінны былі гандляваць толькі з мяшчанамі тых гарадоў, у якіх адбывалася здзелка. У выпадку парушэння гэтага правіла ўвесь тавар канфіскоўваўся[9]. Акрамя таго, замежныя купцы маглі праводзіць гандлёвыя аперацыі толькі ў гарадскіх паселішчах. Закупляць сыравіну, гандляваць сваімі таварамі па сёлах ім было забаронена.

Мяшчане ж гарадоў ВКЛ мелі права вольнай куплі тавараў у сельскай мясцовасці. Так, дакумент 1593 г. фіксуе, што "вольно мещаном (Оршы. – *А.Д.*) ездити по волости скуповат(ь) вшелякие речи торговые и вести на торг свой Оршаньскии". Калі ж не мешчанін не паспеў прадаць у Оршы, то мог ехаць на торг у іншае месца[10]. Лагішынскім мяшчанам да-

---

[1] Метрыка ВКЛ. Спр. 77, арк. 630; спр. 85, арк. 96 адв.
[2] Акты ЮЗР. Т. 1. С. 252; Метрыка ВКЛ. Спр. 77, арк. 632.
[3] Метрыка ВКЛ. Спр. 54, арк. 12 (1571 г.).
[4] АВК. Т. 7. С. 104 (Гродна, 1601 г.).
[5] Метрыка ВКЛ. Спр. 77, арк. 633 (Орша, 1593 г.); спр. 83, арк. 90 (Рэчыца, 1561 г., пацв. 15.05.1596).
[6] АЗР. Т. 2. СПб., 1848. С. 92 (Наваградак, 1511 г.); Т. 3. С. 113 (Магілёў, 1561 г.); Метрыка ВКЛ. Спр. 83, арк. 90 (Рэчыца, 1561 г., пацв. 15.05.1596).
[7] АЗР. Т. 1. СПб., 1846. С. 180, 188; Т. 2. С. 91.
[8] АВК. Т. 7. С. 60.
[9] Метрыка ВКЛ. Спр. 41, арк. 137 (Віцебск, 1559 г.).
[10] Там жа. Спр. 77, арк. 632 адв. (1593 г.).

12 Зак 1594

звалялася паміж рэкамі Ясельдай і Прыпяццю "по селах ездити торговати, куповати, продовати" без ніякіх перашкод[1]. Аналагічныя правы мелі мяшчане і іншых гарадоў і мястэчак[2]. У сваю чаргу жыхарам воласці дазвалялася прадаваць сваю рухомую маёмасць: валоў, збожжа і інш. У XV – першай палове XVI ст. сяляне мелі права свабоднага продажу "куницы, рыся, белок, бобров" і інш.[3] У дадзеных выпадках права першачарговай пакупкі было ў панскай адміністрацыі (пры неабходнасці). Але і пры гэтым скупка павінна была адбывацца па рыначных цэнах. У выпадку калі панская адміністрацыя вырашала прадаць на таргу прадукцыю свайго фальварка (напрыклад, солад), яна прадавалася па рыначным кошце, аднак ніхто іншы не мог прадаваць такі самы прадукт, пакуль не раскупяць панскі[4].

Адной з неабходных умоў нармальнага вядзення гандлю было існаванне трывалай сістэмы мер і вагі. Іх адзінкі вызначала дзяржаўная адміністрацыя. Падобная практыка існавала ўжо пры Вітаўце[5]. Статут ВКЛ 1588 г. патрабаваў усталяваць у межах дзяржавы аднолькавую сістэму мер і вагі, якая б адпавядала віленскай. За выкананнем гэтай нормы павінны былі сачыць мясцовыя ўлады: ваяводы, старосты, гарадскія органы самакіравання[6]. Згодна са зместам дакумента 1531 г., мяшчане Берасця мелі ў сваім распараджэнні вагі, "меры жытныи и овсяные збоже и ведра медовые, и меры шынковые, и столцы скупничие, и хлебницы, и шинк медовый и пивной и вино земское и горелое (...), и ятки местные, клетки крамные и постригальню и за бой восковый и лазню мескую посполитую"[7]. Такім чынам, гарадскія ўлады кантралявалі ўсю сістэму гандлёвых мер і вагі, бо прыбыткі з яе функцыянавання ішлі ў гарадскі бюджэт. Аналагічнае становішча было ў Гародні, Наваградку, Полацку, Мазыры, Віцебску і ў іншых месцах[8].

У гарадах, якія валодалі правам мець васкабойню, устанаўліваўся асобны парадак падрыхтоўкі воску да продажу. Мяшчане не мелі права тапіць воск у сваіх дамах, а павінны былі рабіць гэта на гарадской васкабойні. Тым самым забяспечвалася не толькі належная якасць воску, але і грашовыя паступленні ў бюджэт горада. Вытаплены воск патрэбна было адвезці ў гарадскую важніцу, там яго ўзважыць і "запечатаваць" (на воску ставілася пячатка, якая сведчыла яго якасць і вагу). Пасля гэтага патрабавалася заплаціць васкавое мыта – і воск можна было свабодна прадаваць на адкрытым гандлі[9].

Улады рознага ўзроўню кантралявалі цэны, прымалі меры па іх стабілізацыі і ліквідацыі дарагавізны. Так, Жыгімонт Аўгуст даручыў бурмістрам і радцам Вільні вызначыць правілы гандлю прадуктамі харчавання з мэтай абмежавання дзеянняў перакупшчыкаў, якія штучна трымалі

---

[1] Метрыка ВКЛ. Спр. 48, арк. 338 адв. (1569 г.); спр. 52, арк. 147 (1570 г.).
[2] Там жа. Спр. 83, арк. 90 адв. (Рэчыца, 1561 г., пацв. 15.05.1596 г.).
[3] Там жа. Спр. 36, арк. 81 адв. (1555 г.).
[4] Там жа. Спр. 254, арк. 250 (Васілішкі, 1561 г.).
[5] Собрание древних грамот и актов г. Вільна, Ковна, Трок. С. 94–96; Метрыка ВКЛ. Спр. 18, арк. 129 адв.
[6] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Мн., 1989. Раздз. III, арт. 36. С. 132–133.
[7] Метрыка ВКЛ. Спр. 17, арк. 161 адв.
[8] АВК. Т. 7. С. 60; АЗР. Т. 1. С. 180–181; Т. 3. С. 262; Метрыка ВКЛ. Спр. 83, арк. 222 адв. і інш.
[9] БА. Т. 2. С. 286–287 (Полацк, 1538 г.).

высокія цэны[1]. Ваяводы, старосты, войты павінны былі сачыць за станам рынку і вызначаць межы цэн, па якіх патрэбна прадаваць тавары (у першую чаргу алкагольныя напоі і прадукты харчавання, тканіны і інш.). Пры гэтым патрэбна было ўлічваць сезон гандлю і суадносіны попыту і прапановы на тавар. Яны ж вызначалі стаўку гандлёвай нацэнкі пры продажы купцам, гандлярам, рамеснікам у адпаведнасці з іх затратамі па набыцці ці вырабе тавару[2]. Напрыклад, адносна войта, бурмістраў і радцаў Навагрудка ў 1595 г. адзначалася, што яны "подлуг дорогости мают меру вставити как мед кислый по корчмам мает быти шинкован, або прибавяти, або вменшати". А ў 1584 г. магістрат Магілёва прыняў рашэнне пра выраб і продаж "хлебнікамі" хлеба-булачных вырабаў невялікіх памераў і вызначыў іх цану: 2, 4, 8, 16 пенезяў. Дадзенае рашэнне мела мэтай забеспячэнне магчымасці і здольнасці пакупкі пэўнай прадукцыі не толькі заможнымі, але і беднымі гараджанамі[3].

Улады сачылі, каб рынак не адчуваў недахопу тавараў. Пры неабходнасці імі ўводзілася манаполія на гандаль тым ці іншым таварам. Так, на пачатку праўлення Жыгімонта Вазы ў гарадзенскім рэгіёне адчуваўся "шкла на потребы домовые до оболон, так же и скляниц недастаток", у сувязі з чым на рынку панавалі завышаныя цэны на шкляныя вырабы. Для вырашэння дадзенай праблемы вярхоўная ўлада ў 1588 г. даручыла гарадзенскаму мешчаніну Сцяпану Ільковічу купляць за мяжой разнастайныя шкляныя вырабы і прадаваць іх у Гародні. Пры гэтым ён павінен быў "с пильностью пострегати (...) жебы завжды в месте (...) Городеньском, яко шкла, так и шклениц, горщков илжецких достаток был, и абы побожне, а не з утяженьем людским продавано". Як узнагарода за працу і расходы яму было нададзена пажыццёвае манапольнае права гандлю ў Гародні гэтымі відамі тавараў. Замежныя купцы і тутэйшыя мяшчане, якія б прыязджалі ў горад з адпаведным таварам, павінны былі яго прадаваць толькі Ільковічу[4].

Яшчэ раней аналагічная практыка была ўведзена ў Вільні. У сярэдзіне XVI ст. шляхціц Марцін Палецкі атрымаў права на пабудову і эксплуатацыю тут гуты. З яе ён павінен быў даваць у год на замак 400 шкляніц. За гэта Палецкі атрымаў манапольнае права на продаж у сталіцы шкляных вырабаў і адказваў за тое, каб у горадзе не было дэфіцыту на азначаныя тавары. На Віленскім сейме 1551 г. шляхта і віленскія мяшчане прасілі, каб "одному того вживати не дапустили". Але Жыгімонт Аўгуст не адмяніў свайго рашэння, агаварыўшы ўмовы гэтай манаполіі. Згодна з імі, дарагія імпартныя шкляныя вырабы венецыянскай работы заставаліся ў свабодным гандлі. Астатнія вырабы меў права прадаваць у Вільні толькі Палецкі. Купцы, якія прывозілі сюды азначаны тавар, мусілі прадаваць яго непасрэдна яму. Пры аптовай скупцы Палецкі павінен быў набываць тавар па дамоўленасці з купцамі, а пры рознічным гандлі шклянымі вырабамі "слушне и побожне продавати (...) без обтяжливости людской". У выпадку парушэння гэтага патрабавання манапольнае права продажу скасоўвалася, а тавар канфіскоўваўся[5].

---

[1] Собрание древних грамот и актов г. Вільна, Ковна, Трок. С. 87–89, 144–145; Метрыка ВКЛ. Спр. 31, арк. 105–105 адв. (1547 г.).
[2] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Раздз. III, арт. 36. С. 132–133.
[3] БЭФ. Т. 1. С. 288.
[4] Метрыка ВКЛ. Спр. 73, арк. 497 адв. – 498.
[5] Там жа. Спр. 35, арк. 93 адв. – 94.

**Грашова-крэдытныя аперацыі.** Ажыццяўленне гандлёвых аперацый як унутры дзяржавы, так і за яе межамі патрабавала дастатковай колькасці паўнацэнных грошай. Пры Аляксандры ў Вільні быў заснаваны манетны двор. Кіраўніцтва ВКЛ імкнулася праводзіць прадуманую, узважаную палітыку па выпуску грашовых наміналаў і аператыўна рэагаваць на патрэбы рынку[1]. Функцыянаванню рамяства і гандлю спрыялі грашова-крэдытныя аперацыі, якія шырока выкарыстоўваліся ўжо ў XVI ст. Крэдыторамі выступалі як мясцовыя, так і замежныя заможныя купцы, ліхвяры. У крэдыт браліся ў асноўным грашовыя сумы, але распаўсюджанай з'явай было і ўзяцце ў крэдыт тавараў. Мінімальная стаўка за крэдыт у другой палове XVI ст. раўнялася 6%. У сярэднім працэнтная стаўка крэдыту ў гэты час складала 10–20%. Найбольш высокія працэнты браліся з кароткатэрміновых крэдытаў[2]. Шырока прымянялася выдача крэдытаў пад "заставу" (заклад) маёмасці. У 1551 г. кракаўскім яўрэям Сімону Дактаровічу і Ізраэлю Езефавічу было дазволена ажыццяўляць закладныя аперацыі з рухомай маёмасцю: "на заставу речей рухомых на фанты п(е)н(е)зи давати, а от того водле обычаю ихъ и ведля умовы лифу (працэнт) брати". Вызначаўся і парадак правядзення такіх аперацый, якія з'яўляліся прататыпам сучаснага ламбарда. Рухомая маёмасць бралася ў заставу звычайна тэрмінам на год, пасля чаго рэчы павінны былі быць выкуплены. На закладзеныя рэчы коштам 20 і больш коп грошаў патрэбна было абавязкова заключаць пісьмовае пагадненне паміж бакамі з указаннем таго, што застаўлена, на які час, з якой працэнтнай стаўкай.


Грош ВКЛ 1556 г.

Улады рэкамендавалі пацвярджаць пісьмовай дамовай і заставу на меншую суму, каб пазбегнуць спрэчных пытанняў аб тэрміне выкупу і памерах працэнтных ставак. У выпадку ж узнікнення спрэчнага пытання і адсутнасці пісьмовых пагадненняў ліхвяры павінны былі даваць прысягу аб змесце спрэчкі. Працэнтная стаўка на застаўныя аперацыі вызначалася па ўзаемнай згодзе. У выпадку нявыкупу ў вызначаны тэрмін застаўленых рэчаў ліхвяры павінны былі звярнуцца ў замкавы суд і паведаміць аб пратэрміноўцы выкупу, што замацоўвалася пісьмовым пасведчаннем суда. Суд пасылаў ліхвяра і судовага віжа да застаўніка з паведамленнем аб неабходнасці выкупу сваіх рэчаў. Калі і пасля гэтага ён не выкупляў іх на працягу 6 тыдняў, то ліхвяры мелі права свабодна прадаць закладзеныя рэчы на сваю карысць[3]. У сярэдзіне XVI ст. ліхвярства і перакупніцтва дасягнула такіх памераў, што ўрад вырашыў для па-

[1] *Довнар-Запольский М.В.* Государственное хозяйство... Т. 1. С. 576–583; *Рябцевич В.Н.* Нумизматика Беларуси. Мн., 1995. С. 157–183.
[2] *Копысский З.Ю.* Экономическое развитие городов Белоруссии... С. 156–158; *Мелешко В.И.* Могилев в XVI – середине XVII в. С. 135–139.
[3] Метрыка ВКЛ. Спр. 35, арк. 65 адв. – 66.

паўнення дзяржаўнага бюджэту абкласці гэты від дзейнасці спецыяльным падаткам у памеры 10% ад абароту[1].

Такім чынам, аналіз існуючых даных эканамічнага характару дазваляе канстатаваць, што ў XV–XVI ст. эканамічнымі цэнтрамі, цэнтрамі рамяства і гандлю краіны сталі паселішчы гарадскога тыпу: гарады і мястэчкі. Рамяство і гандаль у Беларусі эвалюцыйна развіваліся ў агульнаеўрапейскім кірунку. У выніку пашырэння вытворчасці, яго спецыялізацыі і дыферэнцыяцыі, узнікнення вузкіх рамесніцкіх спецыяльнасцей, удасканалення тэхнікі вытворчасці рамяство набывала рысы таварнай вытворчасці. Значная колькасць рамеснікаў стала працаваць на рынак. З'явіліся скупшчыкі-пасрэднікі рамесніцкай прадукцыі.

Гандаль развіваўся пад уплывам патрэб унутранага рынку. Імпарт і экспарт тавараў адлюстроўваў рыначную кан'юнктуру. Сярод купцоў усталёўвалася пэўная спецыялізацыя па відах гандлю (аптовы, транзітны, пасрэдніцкі і інш.), па асобных групах тавараў, якімі яны гандлявалі, па краінах, у якіх яны ажыццяўлялі гандлёвыя аперацыі. Паступова складваўся агульнадзяржаўны рынак.

## 3. Сацыяльнае развіццё

**Выдзяленне гарадскога насельніцтва ў мяшчанскае саслоўе.** Спецыфічныя эканамічныя функцыі, якія выконвалі з XV–XVI ст. беларускія гарады, ці, згодна з тагачаснай тэрміналогіяй, "места", вымагалі выдзялення іх жыхароў у асобнае саслоўе – мяшчан. "Месцічы" як катэгорыя насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага ўзгадваецца ўжо ў прывілеі Казіміра Ягайлавіча 1447 г.[2] Тэрмін "мяшчане" фігуруе ў дачыненні жыхароў Полацка ў дакументах 1465 і 1486 гг. У XVI ст. дадзеная форма вызначэння гараджан выступае як агульнапрынятая, што сведчыць пра выдзяленне іх у досыць спецыфічную групу.

Разам з тым у кожным канкрэтным выпадку цяжка сказаць, наколькі поўна праяўляліся ў жыхароў таго ці іншага горада саслоўныя прыкметы. Прынамсі, уяўляецца бясспрэчным, што працэс сацыяльна-прававога выдзялення гараджан з агульнай масы жыхароў воласці не з'яўляўся аднамомантным актам, а расцягнуўся на доўгі тэрмін; адбываўся ён і ў часы, пазнейшыя за XVI ст.

Істотным фактарам у працэсе саслоўнага адасаблення мяшчанства ў Беларусі з'яўляліся змены ў падатковым статусе гараджан. Доўгі час насельніцтва многіх "мест" і асабліва мястэчак павінна было выконваць натуральныя павіннасці гэтак жа, як і сяляне вёсак. Напрыклад, Орша была вызвалена ад такіх павіннасцей толькі ў канцы XVI ст. Мяшчане Слуцка былі пазбаўлены "гвалтаў" ажно ў 1521 г., і тым не менш пэўныя катэгорыі случан былі абцяжараны гэтай павіннасцю да канца XVI ст. Мяшчане Магілёва мусілі выконваць тыя ж павіннасці, што і сяляне воласці, да 1561 г. Толькі ў 60-х гг. XVI ст. былі вызвалены ад талок жыхары такога значнага гаспадарчага і адміністрацыйнага цэнтра, як Га-

[1] ЛМ. Кп. 564. С. 104; *Довнар-Запольский М.В.* Государственное хозяйство... Т. 1. Приложение. С. 61 (1562 г.).
[2] *Юхо Я.А.* Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992. С. 148.

родня[1] і г.д. Падабенства ўзмацнялася яшчэ і тым, што частка гараджан займалася сельскай гаспадаркай, якая служыла альтэрнатыўнай ці нават асноўнай крыніцай іх існавання.

Важнай асаблівасцю статуса мяшчан была, як правіла, іх асабістая свабода, што сама па сабе стварала глебу для больш-менш прывілеяванага становішча горада ў параўнанні з вёскай. Вынікам падобнага становішча была даволі шырокая магчымасць міжгарадской міграцыі, што ў сваю чаргу патрабавала выкарыстання непрымусовых форм прыцягнення насельніцтва ў канкрэтныя гарадскія пасяленні, у развіцці якіх быў зацікаўлены феадал альбо вярхоўная ўлада. Гэта выявілася ў наданні гарадам разнастайных прывілеяў эканамічнага і юрыдычнага характару.



Літоўская карчма. Гравюра XVI ст.

Пытанні, якія закраналіся ў прывілеях, маглі быць рознымі. Нізавы пласт складалі прывілеі, што тычыліся гаспадарчай дзейнасці гарадоў, асабліва тыя, дзе агаворвалася права правядзення таргоў, кірмашоў, утрымання корчмаў і г.д. Тым не менш ужо гэтыя прывілеі набывалі характар спецыфічна гарадскіх, паколькі гандлёвая дзейнасць была ўласціва толькі "местам" і давала падставу для іх выдзялення з агульнай масы населеных пунктаў[2]. Такім чынам, ужо факт існавання сам па сабе абумоўліваў спецыфічнае становішча жыхароў места як калектыўнага носьбіта вузкаспецыяльных функцый незалежна ад таго, наколькі поўна кожны асобны член гарадской супольнасці рэалізаваў іх на практыцы. Горад выступаў як калектыўны ўласнік і пры наданні яму іншых гаспадарчых прывілей, такіх як права карыстання зямельнымі надзеламі, сенакосамі, пушчамі, гонамі і інш. Дзякуючы гэтаму закладваліся асновы выдзялення гарадскога насельніцтва ў саслоўе мяшчан, хоць ступень забяспечанасці асобных "мест" і мястэчак дадатковымі правамі не была аднолькавай.

**Гарадское самакіраванне на магдэбургскім праве.** Найбольш поўна сацыяльна-прававая адметнасць гарадоў у параўнанні з іншымі населенымі пунктамі выявілася ў атрыманні шэрагам "мест" самакіравання. У некаторых гарадах яно нейкі час развівалася на базе старажытнай вечавай арганізацыі. Аднак з канца XVI ст. распаўсюджанне атрымлівае самакіраванне, арганізаванае на ўзор кіравання ў нямецкім горадзе Магдэбургу. Першым з беларускіх гарадоў атрымала магдэбургскае права ў

---

[1] *Копысский З.Ю.* Социально-политическое развитие городов Белоруссии... С. 18–19; *Грицкевич А.П.* Социальная борьба городов Белоруссии XVI–XVIII вв. Мн., 1979. С. 21–22; *Мелешко В.И.* Могилев в XVI – середине XVII в. С. 166; АВК. Т.7. Вильна, 1874. С. 82.

[2] Паказальна, што "места" Куранец было заснавана ў 1509 г. Мікалаем Радзівілам паводле атрыманага прывілея на торг і корчмы (AGAD. ML 194), а прывілей на заснаванне мястэчка Пячкоўскі Гарадок суправаджаўся дазволам на торг і корчмы (AGAD. Zbior dokumentów pergaminowych. N. 7570). Падобная практыка сустракаецца ў XVI ст. даволі часта.

1390 г. Берасце. Годам пазней няпоўнае права было нададзена Гародні. У XV ст. магдэбургскае права набылі Слуцк (1441), Высокае на Падляшшы (1494), Гародня (поўнае права ў 1496), Полацк (1498), Менск (1499), а ў XVI ст. – большасць значных гарадоў і некаторыя мястэчкі.

Атрыманне магдэбургскага права з'явілася лагічным працягам надання гарадам гаспадарчых прывілеяў, якія сведчылі фарміраванне гарадскіх абшчын як носьбітаў калектыўных "мескіх" функцый. Пасля надання самакіравання гэтыя абшчыны ператварыліся ў зноў жа калектыўнага васала свайго сюзерэна, прычым дзейнасць кожнага асобнага індывіда рэгламентавалася статутам абшчыны. Граматы на магдэбургскае права абвяшчалі тры прынцыпы: адмену існуючага перад тым звычаёвага, літоўскага і рускага права; адмену ўлады і суда над мяшчанамі з боку адміністрацыі ўладальніка, за якой пакідаліся толькі функцыі апеляцыйнай інстанцыі; заснаванне самакіравання ў выглядзе выбраных мяшчанамі органаў, якія складалі магістрат.

Цэнтральнай фігурай органаў самакіравання з'яўляўся войт, якому належалі функцыі кіраўніка суда, а таксама вярхоўнай адміністрацыйнай улады ў горадзе. У шэрагу выпадкаў увядзенне пасады войта папярэднічала наданню магдэбургскага права; у такім разе яно выступала як першы крок да самакіравання або ўключала войта ва ўжо існуючыя, традыцыйныя выбарныя структуры. Шляхі ўсталявання войта на пасадзе былі розныя. Часцей ён прызначаўся феадалам або вярхоўнай уладай з асяроддзя шляхты ці багатых мяшчан. У гэтым сэнсе войт з'яўляўся сувязным звяном паміж гарадской адміністрацыяй і сюзерэнам. Існавала таксама практыка выбірання войта або кандыдатаў у войты, адзін з якіх зацвярджаўся ўладальнікам. Для вырашэння бягучых спраў войт мог прызначаць сабе памочніка – ленвойта.

Уласна магістрат складаўся з рады і лавы. Найбольш уплывовым калектыўным органам самакіравання з'яўлялася рада. У яе ўваходзіла ад 6 да 24 радцаў (райцаў), якія, як правіла, выбіраліся штогод агульным сходам мяшчан. На чале рады стаялі бурмістры (звычайна два), якія маглі прызначацца ці зацвярджацца войтам з ліку радцаў. Рада выступала ў якасці гарадскога ўрада; ёй жа належалі таксама функцыі суда па маёмасных і грамадзянскіх справах. Бурмістраўска-радзецкія суды разглядалі справы рамеснікаў і рамесніцкіх карпарацый, гандлёва-крэдытныя пытанні і спрэчкі па іх, справы, звязаныя з сямейнымі адносінамі і маральнасцю. Кампетэнцыі рады падлягалі таксама справы, звязаныя з абвінавачваннем у чарадзействе.

Апроч выканання судовых функцый рада актыўна займалася і адміністрацыйнай дзейнасцю. Яна не толькі вызначала агульны напрамак развіцця гарадской гаспадаркі, але і кантралявала дробныя аспекты дзейнасці гарадоў: назірала за ажыццяўленнем гандлю, вырабам і продажам жыццёва важных для горада харчовых тавараў, займалася зборам падаткаў і арганізоўвала выбары, сачыла за справаздачнасцю органаў самакіравання, загадвала гарадской маёмасцю, усталёўвала нормы і правілы ўнутрыгарадскога жыцця. Радзе падпарадкоўваліся рамеснікі горада. Падобнае палажэнне адлюстравана, напрыклад, у прывілеі менскаму цэху краўцоў у 1592 г.[1]

[1] *Цітоў А.К.* Менск – места майстроў: Рамесныя цэхі XVI–XVIII стст. Мн., 2002. С. 27.

Важны бок дзейнасці рады складалі крокі па забеспячэнні добраўпарадкавання горада і бяспекі яго жыхароў. Гэты пункт з'яўляўся прадметам асаблівага клопату рады, якая жорстка карала ўсіх парушальнікаў гарадской бяспекі. Вінаваты ў падпале, напрыклад, сам падлягаў спаленню. Клапацілася рада і пра боегатоўнасць горада на выпадак ваеннай небяспекі; у яе падпарадкаванні знаходзіліся "мескія" ўмацаванні і арсеналы. У адстойванні гарадскіх інтарэсаў рада не спынялася перад супрацьдзеяннем феадальнаму самаўладдзю. І ўсё ж гэтыя інтарэсы разумеліся пераважна як інтарэсы заможных мяшчан, таму дзейнасць рады насіла даволі ярка выражаны класавы і групавы характар.

Больш абмежаваныя функцыі адводзіліся лаве, члены якой, або лаўнікі (прысяжнікі), выбіраліся магістратам ці прызначаліся войтам з ліку найбольш карысных для горада мяшчан хрысціянскага веравызнання. Лаўнікі ўваходзілі ў склад вайтоўска-лаўніцкага суда, які мусіў займацца крымінальнымі справамі. У рэальнасці ж вайтоўска-лаўніцкі суд у беларускіх гарадах займаўся таксама справамі, у якіх адзін з бакоў не падлягаў юрысдыкцыі магістрата, і выступаў у якасці апеляцыйнай інстанцыі на рашэнні бурмістраўска-радзецкага суда. Апошні, такім чынам, выступаў фактычна як самае нізкае звяно гарадской судовай сістэмы. Аднак па меры развіцця самакіравання роля бурмістраўска-радзецкага суда ўзрастала, адцясніўшы да канца XVI ст. вайтоўска-лаўніцкі суд да межаў кампетэнцыі, вызначанай яму класічным магдэбургскім правам[1].

Абодва судовыя органы часам дзейнічалі паралельна без дакладнага размежавання функцый. Практыкаваліся таксама сумесныя пасяджэнні для вырашэння спраў, якія тычыліся горада ў цэлым, або калі кампетэнцыі аднаго з судоў не хапала для вынясення пастановы. На сумесных судах разбіраліся выпадкі выступленняў супраць магістрата, хваляванні гарадскіх нізоў, непаразуменні на рэлігійнай глебе. Абодва органы збіраліся і для выбару службовых асоб, што займаліся непасрэдна бягучымі справамі. Да гэтых асоб належалі пісары, збіральнікі падаткаў – шафары, "слугі мескія", за якімі былі замацаваны паліцэйскія функцыі, інстыгатары, што кантралявалі дзейнасць рады, а таксама асобы, якія загадвалі магістрацкімі турмамі, гасцінымі дварамі, рынкамі, гарадскімі вагамі і інш.


Герб Полацка. XVI ст.

У шэрагу выпадкаў магдэбургскае права накладвалася на мясцовыя традыцыі, што выяўлялася як у спецыфічных рысах самакіравання ў беларускіх "местах" у цэлым, так і ў лакальных асаблівасцях. Аднак у Беларусі не прыжылася характэрная для класічнага магдэбургскага права пасада бургграфа, функцыі якога выконваў войт з больш шырокімі, чым у нямецкіх фогтаў, паўнамоцтвамі. Побач з магістрацкімі судовымі органамі існавалі копныя суды, а ў асобных прыватных гарадах

[1] *Копысский З.Ю.* Социально-политическое развитие городов Белоруссии... С. 119.

улада магістрата распаўсюджвалася не толькі на мяшчан, але і на ўсё насельніцтва таго ці іншага ўладання, у тым ліку сельскае.

Далёка не ў кожным населеным пункце гарадскога тыпу праца ўсіх звёнаў магістрата была прадстаўлена ў аднолькава поўным аб'ёме, што патрабавала час ад часу пашырэння правоў на самакіраванне і іх тлумачэння. Менску прывілеі на магдэбургскае права выдаваліся ў 1499, 1552, 1569, 1591, 1613 гг., прычым кожны чарговы прывілей меў новыя палажэнні ці ўдакладненні[1]. Берасцю з 1390 па 1603 г. было выдадзена не менш за 14 грамат, прычым прынамсі чатыры з іх (1390, 1408, 1440 і 1495 гг.) утрымлівалі прывілеі на магдэбургскае права і кожны раз з удакладненнямі па арганізацыі судовай і адміністрацыйнай улады. Пашырэнне і тлумачэнне магдэбургскіх норм адзначаецца ў пазнейшых граматах гэтаму гораду.

Карэкціроўка норм самакіравання магла быць выклікана таксама імкненнем мяшчанства да больш поўнага кантролю над нядобрасумленнымі членамі магістрата. Так, напрыклад, у Магілёве ў 1588 г. мяшчане адмовіліся выплачваць падаткі на гарадскія патрэбы, якія выкарыстоўваліся гарадскімі ўладамі для свайго ўзбагачэння. У выніку гэтага канфлікту, які суправаджаўся патрабаваннямі справаздачнасці, было вырашана выбіраць калегію з дванаццаці асоб, не прадугледжаную магдэбургскім правам, якая павінна была кантраляваць фіскальную дзейнасць рады[2].

Набыццё беларускімі гарадамі магдэбургскага права з'явілася вяршыняй афармлення мяшчан у асобнае саслоўе, паколькі стварала для гэтага неабходную юрыдычную аснову. Нездарма падобнае права часам фігуруе ў пісьмовых крыніцах як "меское"[3]. Разам з тым для многіх гарадоў яно выступала не як існуючая рэальнасць, а як ідэал, рэалізацыя якога была справай больш-менш аддаленай перспектывы і залежала ад волі ўладальніка. Тым не менш працэс фарміравання мяшчанскага саслоўя закрануў і гэтыя гарадскія пасяленні, якія кіраваліся непасрэдна адміністрацыяй гаспадара ці феадалаў. Досыць яскрава ілюструюць падобную з'яву фармулёўкі Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г., дзе фігуруюць "мещане подданые наши, яко мест упрывильеваных, так и местечек менших наших, также князские, паньские и шляхетские"[4].

Магдэбургскае права не набыло ў беларускіх гарадах усеабдымнага характару, што выявілася не толькі ў наяўнасці "мест" без самакіравання, але і ў існаванні нават у прывілеяваных гарадах пэўных катэгорый насельніцтва, непадуладных магістрату. "Гарадское" права закранала толькі частку гарадскога насельніцтва, і ў гэтым сэнсе беларускі горад у сацыяльна-прававым плане выглядаў даволі страката.

**Катэгорыі гарадскога насельніцтва, іх павіннасці, маёмасны і юрыдычны статус.** Ядро гарадскога насельніцтва беларускай зямлі складалі асабіста свабодныя домаўладальнікі хрысціянскага веравызнання. У гарадах з магдэбургскім правам менавіта яны ў першую чаргу падпадалі пад юрысдыкцыю магістрата, карыстаючыся гарадскімі прывілеямі і папаўняючы за кошт падаткаў гарадскі скарб. Найбольш універсальнай

[1] *Бохан Ю.М.* Мінск – ваяводскі цэнтр у Вялікім княстве Літоўскім. С. 136–139.
[2] *Копысский З.Ю.* Социально-политическое развитие городов Белоруссии... С. 174.
[3] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. С. 131–132, 314.
[4] Там жа. С. 133.

формай падаткаў, што выплачваліся гэтай катэгорыяй гараджан, былі грашовыя выплаты за права валодання дваровымі ўчасткамі – пляцамі, прычым кошты на пляцы вагаліся ў залежнасці ад іх размяшчэння ў агульнай структуры горада. Паводле Уставы на валокі 1557 г. уладальнікі рынкавых пляцаў мусілі плаціць з кожнага прута (23,7 кв. м) па 7,5 пенезя, вулічных – па 5 пенезяў, а прадмесных – па 1 пенезю[1].

Важнай крыніцай прыбыткаў для ўладальнікаў гарадоў былі павіннасці з зямельных надзелаў. Першапачаткова яны насілі натуральны характар, аднак у далейшым, як правіла, замяняліся грашовым паборам у выглядзе чыншу. Ліквідацыя натуральных павіннасцей ці замена іх грашовай выплатай суправаджала наданне таму ці іншаму гораду магдэбургскага права. Падаткаабкладанню падлягалі і рамесніцкія, а таксама гандлёвыя заняткі гараджан ("капшчызна" – плата за права ўтрымання корчмаў, зборы з гандлёвага абароту і г.д.). Вялікакняскія гарады выплачвалі сумы на агульнадзяржаўныя патрэбы ў выглядзе "ардыншчыны", "сярэбшчыны", збору на ўтрыманне памежных замкаў і інш.[2]

Па сваім маёмасным становішчы вышэйназваная катэгорыя гарадскіх жыхароў, на аснове якой і фарміравалася мяшчанскае саслоўе, не была аднароднай. Значная частка мяшчан апроч рамесніцкіх і гандлёвых спецыяльнасцей валодала зямельнымі надзеламі і нават цэлымі маёнткамі разам з сялянамі. Мяшчане – уладальнікі маёнткаў складалі сацыяльную эліту гарадской абшчыны, і для іх было абавязковым, як і для шляхты, нясенне асабістай вайсковай службы. У 1582 г. віцебскія "конныя мяшчане" нават дабіліся права судзіцца "яко шляхта", пацверджанага ў 1593 г. Аднак гэта выклікала негатыўную рэакцыю "мяшчан паспалітых", якія адхілілі конных мяшчан ад удзелу ў гарадскіх справах і нават "грабежи им немалые чинили" і саджалі "до везенья". Спробы ўрэгуляваць канфлікт мірнымі сродкамі сутыкнуліся з катэгарычнай адмовай дапускаць конных мяшчан "до справованья важницы и до всих иньших справ меских", у выніку чаго ўлады мусілі звярнуцца да рэпрэсіўных захадаў. Тым не менш ужо падчас выдачы Віцебску прывілея на магдэбургскае права ў 1597 г. абедзве катэгорыі мяшчан ураўніваліся ў саслоўна-прававым статусе: "так иж ... вси одное кондыции быти мают"[3].

Апроч тых маёнткаў, якія мелі багатыя мяшчане, шэраг магдэбургскіх гарадоў, такіх як Віцебск, Полацк, Навагрудак, Берасце ці Гародня, атрымлівалі або набывалі маёнткі "на опатренья всяких потреб и порядка ратушного", выступаючы ў якасці калектыўнага феадала, прычым прыбыткі ў выглядзе рэнты ўзбагачалі, відавочна, найперш членаў магістрата, якія і без таго выбіраліся з найбольш заможных мяшчан. У выніку фарміраваўся гарадскі патрыцыят, матэрыяльная магутнасць якога апіралася як на гандлёва-рамесніцкую дзейнасць, так і на феадальную гаспадарку, а нярэдка падмацоўвалася таксама палітычнай уладай праз прадстаўніцтва ў органах самакіравання.

Статус гарадоў як калектыўнага феадала падмацоўваўся яшчэ і тым, што паводле рашэнняў Віленскага сейма 1563 г. яны мусілі выстаўляць

---

[1] РИБ. Т. 30. С. 548. Аналагічныя выплаты практыкаваліся ў м. Мядзель яшчэ да прыняцця Уставы на валокі, у 1554 г. (НГАБ. Ф. 149, воп. 3, спр. 4. С. 5).

[2] *Бохан Ю.М.* Наёмнае войска ў Вялікім княстве Літоўскім у XV–XVI стст. Мн., 2004. С. 39–46.

[3] *Копысский З.Ю.* Социально-политическое развитие городов Белоруссии... С. 170–171.

на вайну пешых драбаў[1]. Гэтае палажэнне было зацверджана і ў Статуце 1588 г., які патрабаваў, каб не толькі мяшчане – уладальнікі маёнткаў, але і “вси подданные наши мещане часу навалное потребы з иншими людми нашими войну служили або с дозволеньем нашим на войну выпровывали водлуг постановенья соймового”[2].


Узоры касцюмаў жахароў ВКЛ XV ст. З мініяцюр Радзівілаўскага летапісу.

Ваенныя функцыі мяшчан не абмяжоўваліся ўдзелам у паспалітым рушэнні. У гарадах, асабліва буйных, існавалі ўласныя апалчэнні міліцыйнага тыпу, прызначаныя найперш для абароны “мескіх” умацаванняў. Разам з тым мяшчане, нават гарадскі патрыцыят, разглядаліся як “людзі простага стану” разам з панцырнымі і путнымі слугамі, а таксама “людзьмі цяглымі”. Спроба наблізіць статус некаторых катэгорый мяшчан да шляхецкага натыкаліся на супрацьдзеянне не толькі феадалаў, але і, як ужо адзначалася, шырокіх пластоў самога мяшчанства. Успрыманне мяшчанскага саслоўя як другараднага было настолькі трывалым, што паводле Статута 1588 г. нават шляхціц, які “занехавши именья и обыстья своего шляхетского, ушол бы до места и мешкал там, торг местский ведучи або и шинок в дому маючи, и локтем меречи або ремесло робечи на варстате, таковый вжо з волностей шляхетских веселитесе не маеть”[3].

Праўда, такая суровая мера пагражала толькі тым феадалам, якія жадалі займацца рамяством ці гандлем асабіста. Пражыванне шляхты ў гарадах не забаранялася і нават у горадзе феадал захаваў свае саслоўныя прывілеі, не падпарадкоўваўся магістрату і не ўліваўся ў саслоўе мяшчан[4]. Нават больш, права асабістага непадпарадкавання гарадскім уладам феадалы, асабліва ў дзяржаўных гарадах, пераносілі і на сваіх падданых, якіх яны перасялялі сюды з мэтай максімальнага выкарыстання таварна-грашовых адносін для павелічэння сваіх прыбыткаў. Феадальныя і духоўныя юрыдыкі выступалі як неад'емная частка “мест” і буйных мястэчак, якая накладала значны адбітак на сацыяльна-палітычнае развіццё гарадскіх пасяленняў. Юрыдыкі характарызаваліся трыма элементамі: саслоўнай уласнасцю, прыватным падданствам са сваёй адміністрацыяй, а таксама падатковай аўтаноміяй.

Падпарадкаванне часткі гараджан феадалам падрывала пазіцыі магістрата і парушала цэласнасць гарадской абшчыны. Разам з тым яно не азначала перанясення на гарадскую тэрыторыю феадальных сельскіх адносін і не змяняла спецыфічнага эканамічнага статуса горада. Перасяляючы сваіх падданых у гарады, феадал быў зацікаўлены ў тым, каб яны найбольш поўна ўпісваліся ў гаспадарчую дзейнасць “мест”; толькі тады

---

[1] *Любавский М.К.* Литовско-русский сейм. Опыт по истории учреждения и связи с внутренним строем и внешнею жизнью государства. М., 1900. С. 642–643.
[2] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. С. 102.
[3] Там жа. С. 123.
[4] Там жа. С. 137.

ў гэтым перасяленні быў сэнс. Апроч таго, шляхі папаўнення насельніцтва юрыдык не абмяжоўваліся перасяленнем сюды ўласных сельскіх рамеснікаў і нечым нагадвалі тыя, што мелі месца пры закладанні новых гарадскіх пасяленняў. У сувязі з гэтым падатковы цяжар тут мог быць нават меншым, чым у той частцы горада, якая знаходзілася па-за межамі юрыдыкі.

У вялікакняскіх гарадах феадалы, карыстаючыся сваімі саслоўнымі прывілеямі, імкнуліся вызваліць сваіх падданых ад агульнагарадскіх і агульнадзяржаўных павіннасцей, якія выконвалі падуладныя магістрату мяшчане. Таму нярэдкімі былі выпадкі пераходу мяшчан з-пад улады магістрата пад уладу прыватных асоб, што выклікала пратэсты рады Полацка ў 1527 г., Гародні ў 1540 і 1544 гг. і інш.[1] У супрацьдзеянні пашырэнню прыватных юрыдык за кошт падуладнага магістрату насельніцтва мяшчане выкарыстоўвалі і больш радыкальныя сродкі. Так, у 1590 г. мяшчане Менска прынялі пастанову аб канфіскацыі маёмасці тых асоб, якія выйдуць з-пад гарадской юрысдыкцыі, і судзе над імі[2].

Канцэнтрацыя часткі гандлёва-рамесніцкага насельніцтва ў юрыдыках прыводзіла да стварэння ў межах горада аўтаномных абшчын. У буйных юрыдыках зараджаліся элементы ўласнай адміністрацыі. У канцы XVI – пачатку XVII ст. у юрыдыках такіх гарадоў, як Камянец, Менск ці Берасце, узгадваюцца войты. Падобная з'ява надавала юрыдыкам рысы своеасаблівага горада ў горадзе. Аднак аўтаномнасць юрыдыкавых абшчын была адноснай. Існавала практыка апеляцыі падданых юрыдык да магістрацкіх судоў, прычым нават у тых выпадках, калі абодва бакі не былі падуладныя магістрату.

Адносная недасканаласць юрыдык у беларускіх гарадах, якая выявілася ў адсутнасці адасобленага эканамічнага жыцця, уласных рынкаў, таргоў і кірмашоў, прымушала іх насельнікаў у той ці іншай ступені ўключацца ў сістэму агульнагарадскіх адносін, што рэгуляваліся ў гарадах з магдэбургскім правам радай. Апошняя, асабліва з канца XVI ст., імкнулася да атрымання грашовых сум на гарадскія патрэбы і з насельніцтва юрыдык, прычым захады ў гэтым накірунку не заўсёды былі беспаспяховымі. У Полацку, напрыклад, да сярэдзіны XVI ст. замацаваўся парадак, пацверджаны спецыяльным гаспадарскім указам, па якім усе ўладальнікі рамесніцкіх і гандлёвых спецыяльнасцей, у тым ліку і падданыя прыватных юрыдык, мусілі плаціць падаткі і несці павіннасці па ўтрыманні і ахове замка[3]. У прыватнаўласніцкіх гарадах павіннасці на карысць уладальніка неслі ўсе гараджане незалежна ад іх юрысдыкцыі[4]. Таму агульная саслоўная супольнасць у беларускіх гарадах распаўсюджвалася і на насельніцтва юрыдык, якое нязменна вызначалася тэрмінам "мяшчане". Выключэнне складалі падуладныя замкавай юрысдыкцыі яўрэі, аб'яднаныя ў асобага саслоўнага характару нацыянальна-рэлігійныя абшчыны – "кагалы" на чале са старшынамі. Яўрэям дазвалялася займацца гандлем, ліхвярствам і некаторымі відамі рамяства. Аднак іх прававы статус рэгуляваўся не гарадскімі прывілеямі, а асобнымі гра-

---

[1] *Копысский З.Ю.* Социально-политическое развитие городов Белоруссии... С. 34–35.
[2] История Минска. Мн., 1957. С. 46.
[3] *Копысский З.Ю.* Социально-политическое развитие городов Белоруссии... С. 47.
[4] *Грицкевич А.П.* Частновладельческие города Белоруссии в XVI–XVIII вв. С. 55.

матамі, што выдаваліся вялікакняскай уладай выключна гэтай этнічнай групе насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага яшчэ з канца XIV ст.[1]

Істотнай часткай насельніцтва гарадоў з'яўляліся сацыяльныя нізы, якія выступалі пад назвамі "люзныя людзі" і "гультаі". Падобная катэгорыя гараджан папаўнялася за кошт збяднелага беззямельнага сялянства, якое шукала ў горадзе паратунку ад галоднай смерці. Уключэнне "люзных" у склад мяшчанскага саслоўя на правах паўнавартасных членаў абцяжарвалася тым, што для гэтага быў патрэбны пэўны маёмасны мінімум, галоўным чынам у выглядзе сталай "аселасці", г.зн. дома. У большасці выпадкаў для беднаты гэта было недаступна. Часта такія гараджане наймалі памяшканні ў больш заможных мяшчан і выступалі як "каморнікі". Тыя ж, каму ўдавалася пабудаваць нейкае падабенства дома, пераходзілі ў разрад "халупнікаў". У "халупнікі" пераходзіла і частка збяднелых домаўладальнікаў. Спектр заняткаў гарадскіх нізоў быў вельмі шырокім: яны маглі займацца перапродажам тавараў ("перакупнікі"), працаваць па найме ("наймiты", "малойцы", "парабкі"), знаходзіцца на паслугах ("слугі"). На самым нізе гарадской сацыяльнай лесвіцы стаялі жабракі.

Гарадскія нізы выступалі як фактар дэстабілізацыі, таму магістраты імкнуліся абмежаваць прыток у гарады збяднелага люду. Так, у пастанове рады Нясвіжа за 27 верасня 1589 г. патрабавалася "не прымаць у горадзе гультаёў, люзных, а калі такі з'явіцца, то паведаміць пра яго"[2]. Аднак на практыцы падобныя патрабаванні найчасцей не выконваліся. Да канца XVI ст. плебейская частка магла складаць не менш за трэць насельніцтва буйных гарадоў Беларусі[3]. Таму ўлады імкнуліся хаця б утаймаваць стыхійнасць плебса, уключыць яго ў агульную гарадскую сістэму, у тым ліку і падатковую. У 1567 г. падатковы універсал патрабаваў рэгістрацыі "люзных" і "гультаёў". Паводле пастановы Ваўкавыскага сейма 1578 г. падобныя гараджане плацілі ў вялікіх гарадах па 30 грошаў падатку, а ў мястэчку – па 15 грошаў; асобную плату за права карыстання дваровымі ўчасткамі ўносілі і "халупнікі"[4]. Уваходжанне "люзных" у жыццё гарадоў стымулявалася яшчэ і тым, што ў шэрагу "мест" існавала сталая патрэба ў наёмнай рабочай сіле для працы на прадпрыемствах прамысловага характару, на пагрузачна-разгрузачных работах, абслугоўванні транспарту і г.д.

У шэрагу "мест" у XVI ст. фіксуецца такая катэгорыя насельніцтва, як агароднікі. Ад сельскіх агароднікаў яны адрозніваліся тым, што ўносілі, як і мяшчане, падатак за права карыстання дваровымі ўчасткамі. Паводле Уставы на валокі 1557 г. ён складаў 2,5 пенезя за кожны пляцавы прут[5].

**Цэхі як форма саслоўнай арганізацыі мяшчанства.** Уключэнне ў сістэму гарадскіх сацыяльных адносін аблягчалася для тых асоб, нават непадуладных магістрату, якія валодалі рамесніцкімі ці гандлёвымі спецыяльнасцямі. Нават не маючы сталай "аселасці", рамеснікі маглі ўвай-

---

[1] *Грицкевич А.П.* Социальная борьба городов Белоруссии... С. 7.
[2] НАРБ. Ф. 694, воп. 4, № 1338, а. 31.
[3] *Копысский З.Ю.* Социально-политическое развитие городов Белоруссии... С. 65.
[4] Там жа.
[5] РИБ. Т. 30. С. 548.

сці ў "мескую" саслоўную структуру праз уступленне ў цэхі. Падобная форма карпаратыўнай арганізацыі гарадскіх жыхароў дзейнічала ў буйных беларускіх гарадах яшчэ больш паслядоўна, чым магдэбургскае права, якое не распаўсюджвалася на насельніцтва прыватных юрыдык. Ужо першая з вядомых грамат на заснаванне цэхаў у беларускіх гарадах, а менавіта грамата Менску за 1552 г., патрабавала, каб "каждый в месте тамошним мешкаючи от сего часу всякое ремесло в цех уписавшисе робил. А хто бы смел ремесло робити и его вживати не вписавшися в цех, таково ремесло от войта и бурмистра на ратуш забирано быти мает"[1]. Такім чынам, тут быў сфармуляваны галоўны прынцып цэхавай арганізацыі – аб'яднанне ў сацыяльна акрэслены калектыў усіх рамеснікаў горада незалежна ад іх юрысдыкцыі. Падобны прынцып агаворваўся і ў граматах іншым асобным цэхам. Выключэнне рабілася толькі для рамеснікаў, што працавалі на замкавыя і дворскія патрэбы, і для яўрэяў, якіх улада разглядала як манапольную крыніцу прыбыткаў.

Кожны цэх меў свой статут, у якім замацоўвалася прывілеяванае становішча цэхавых рамеснікаў у параўнанні з няцэхавымі. Забеспячэнне гэтага становішча з'яўлялася прадметам клопатаў рады, якая не спынялася нават перад выгнаннем пазацэхавых вытворцаў – "пакутнікаў" або "партачоў". Апека магістратаў над цэхамі вынікала з той цеснай сувязі, у якой знаходзілася цэхавая арганізацыя і самакіраванне на магдэбургскі ўзор. Разам з тым у аснове статутаў беларускіх цэхаў маглі ляжаць не толькі магдэбургскія прадпісанні, але і мясцовыя традыцыі, якія цесна перапляталіся. Статуты рэгламентавалі практычна ўсе бакі адносін паміж членамі цэха і прадугледжвалі цэлую сістэму пакаранняў за парушэнне норм вытворчай дзейнасці, асабістых адносін і абавязкаў перад царквой і радай. Кожны член цэха павінен быў ведаць правы і абавязкі, адлюстраваныя ў статуце.

Статутамі павінна была кіравацца ў сваёй дзейнасці цэхавая адміністрацыя, якая выбіралася на сходцы ўсіх членаў цэха тэрмінам на год. Сходка таксама заслухоўвала справаздачы мінулагодняй адміністрацыі, тут агалошваліся статут і нованыдадзеныя прывілеі цэху, збіраліся складкі, разглядаліся выпадкі парушэння статута і прэтэнзіі паміж членамі цэха, вырашаліся судовыя справы па пытаннях, прадугледжаных статутам. Наведванне сходак было абавязковым, за няяўку пагражаў грашовы штраф[2].

Аснову цэха складалі самастойныя рамеснікі – майстры, што мелі пэўны маёмасны, кваліфікацыйны, сямейны і маральны цэнз. Майстрам падначальваліся падмайстры, якія атрымлівалі ад майстра грашовую плату, хоць і не з'яўляліся наёмнымі работнікамі, паколькі іх адносіны з майстрамі рэгламентаваліся не асабістай дамовай, а статутам цэха. Адпрацаваўшы нейкі час у майстра, падмайстар мог сам стаць майстрам, для чаго ён павінен быў самастойна зрабіць кваліфікацыйны выраб – "штуку", унесці ў цэхавы скарб грашовую суму і пачаставаць майстроў вячэрай ("даць каляцыю"). У шэрагу "мест" практыкавалася "вандроўка" – стажыроўка ў іншых гарадах краіны.

---

[1] БА. Т. 3. Мн., 1931. С. 31.
[2] *Цітоў А.К.* Менск – места майстроў. С. 29.

Самую нізкую прыступку ў цэхавай іерархіі займалі вучні, колькасць якіх у майстра ў розных цэхах не была аднолькавай. Тэрмін вучнёўства рэгламентаваўся статутам. Пасля заканчэння навучання вучні пераходзілі ў падмайстры. Аднак існавалі і парушэнні ў досыць складаным працэсе надання звання майстра, выкліканыя сямейнымі ці іншымі сувязямі прэтэндэнтаў і звязанай з гэтым пратэкцыяй.

На чале цэха стаялі цэхмістры. Яны захоўвалі цэхавы скарб і скрынку, у якой знаходзіўся статут, прывілей, пячатка, цэхавая харугва і бубен, праводзілі сходкі, кантралявалі выкананне статута. Як правіла, цэхмістры выбіраліся з майстроў, падуладных "мескай" юрысдыкцыі, што аблягчала кантроль за іх дзейнасцю з боку рады. Пільная ўвага звярталася на асабістыя якасці кандыдатаў у цэхмістры, якія найчасцей выяўляліся ў іх дзелавых здольнасцях, а значыць, і заможнасці. У дапамогу цэхмістрам маглі выбірацца яшчэ некалькі асоб, а таксама члены цэхавай адміністрацыі – ключнікі, шафары, пісары, інстыгатары, саглядатаі.

**Царкоўныя брацтвы.** Спецыфічнай формай саслоўнай арганізацыі мяшчан беларускіх гарадоў з XVI ст. сталі царкоўныя брацтвы. У аснове іх узнікнення ляжала імкненне братчыкаў да арганізацыі па карпаратыўнай прыкмеце максімальнай колькасці аспектаў свайго жыцця, у тым ліку і рэлігіі. Стварэнне брацтваў ставіла таксама такія мэты, як забеспячэнне школьнай адукацыі і дабрачыннасць. Адметнай рысай брацтваў было тое, што яны ўтвараліся не па спецыяльнай ці прафесійнай, а па канфесійнай прыкмеце, хоць былі і выключэнні. Так, у 1589 г. быў зацверджаны статут магілёўскага брацтва кушняроў, у якое маглі ўваходзіць людзі "якого ж кольвек стану Римского и Греческого закону"[1].

Аднак і тут у дзейнасць брацтва дапускалася шляхта, купцы і іншыя "обчыя" людзі. У статуце прадугледжвалася пабудова дома для брацкіх сходак, на якіх абмяркоўваліся царкоўныя справы і ўтрыманне шпіталя. Статут прадугледжваў і выбарную адміністрацыю, а таксама брацкі суд, пабудаваны на таварыскіх пачатках.

Большую канфесійную скіраванасць мелі брацтвы, закладзеныя пры цэрквах, такія як брацтва пры царкве св. Мікалая ў Берасці, у якое ўваходзілі праваслаўныя – прадстаўнікі розных рамесніцкіх спецыяльнасцей. Менавіта канфесійная прыкмета брацтваў зрабілася найбольш актуальнай у часы рэлігійнага супрацьстаяння, звязанага з заключэннем і рэалізацыяй Брэсцкай цароўнай уніі.

Такім чынам, да канцы XVI ст. у беларускіх гарадах склалася цэлая сістэма саслоўных, карпаратыўных структур, якія вызначалі літаральна ўсе сферы жыцця і дзейнасці мяшчан. Асобы, якія знаходзіліся па-за рамкамі гэтых структур, разглядаліся як элемент, чужародны гарадской абшчыне. Супраць іх вялася пастаянная барацьба з мэтай ці ўключэння ў вышэйназваныя структуры, ці выцяснення з горада. Найбольш важным крокам у афармленні мяшчанскага саслоўя стала набыццё беларускімі гарадамі самакіравання, што надавала ім рысы юрыдычна-прававой адметнасці і саслоўнай аўтаномнасці.

---

[1] ЮЗР. Т. 1. С. 222–223.

ГЛАВА 3

# СТАНАЎЛЕННЕ САСЛОЎНА-ПРАДСТАЎНІЧАЙ МАНАРХІІ. РОЛЯ БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ

## 1. Эвалюцыя саслоўнай структуры грамадства

**Змены ў катэгорыях феадальнага саслоўя.** Вялікае Княства Літоўскае ў XV–XVI ст. як развітая феадальная дзяржава мела тыповую для феадальнага грамадства саслоўна-класавую структуру, заснаваную ў першую чаргу на эканамічным прынцыпе – адносінах да асноўнага сродку вытворчасці – зямлі. Феадальная зямельная ўласнасць складала аснову эканомікі тагачаснага грамадства, і натуральна, што людзі, якія валодалі зямлёй, з'ўляліся асноўным яго кіруючым класам, а тыя, хто працаваў на чужой зямлі, знаходзіліся ў падпарадкаваным стане.

Разам з тым сацыяльна-саслоўны падзел грамадства засноўваўся не толькі на ўласніцкіх дачыненнях да зямлі, а і на іншых, характэрных для феадалізму прынцыпах: магчымасці распараджэння той ці іншай уласнасцю, наяўнасці ці адсутнасці ў чалавека ўласнай свабоды, паходжанні, пэўных асабістых абавязках (ваенная альбо прыдворная служба і да т.п.) перад дзяржавай ці вышэйстаячай асобай і г.д.

Пры феадалізме грамадства звычайна падзелена на дзве асноўныя часткі – прывілеяваную, пануючую (феадалаў) і непрывілеяваную, падначаленую (феадальна-залежнае насельніцтва). Вельмі блізкім да такой стандартнай формулы быў падзел грамадства ў Вялікім Княстве Літоўскім у ў XV–XVI ст. Па сваёй сацыяльна-эканамічнай структуры насельніцтва ВКЛ падзялялася на дзве асноўныя часткі – прадстаўнікоў пануючага класа феадалаў, ці "людзей шляхецкага роду", і феадальна-залежных людзей, ці "людзей простага стану".

Саслоўна-сацыяльнае становішча насельніцтва, правы і абавязкі пэўных катэгорый, розныя змены, ільготы ці абмежаванні ў правах той ці іншай групы жыхароў ВКЛ фіксаваліся звычайна ў агульнадзяржаўных юрыдычна-прававых актах, у першую чаргу ў вялікакняскіх граматах (1387, 1413, 1434, 1447, 1492 гг. і інш.), Статутах Вялікага Княства Літоўскага 1529, 1566, 1588 гг., абласных валасных граматах, граматах жыхарам гарадоў на магдэбургскае права і інш.[1] Найбольш поўна і дакладна сацыяльна-саслоўны падзел грамадства быў зафіксаваны ў Статуце ВКЛ 1588 г., дзе не толькі ў асобных артыкулах прадэклараваны правы і абавязкі розных сацыяльных і саслоўных груп насельніцтва (абываценяў) краіны, але ў самым першым артыкуле абазначана сама саслоўная структура дзяржавы: "Напрод мы, господар, обецуем и шлюбуем под тою ж присегою, которую учинили есмо всим обывателем всих земль паньства нашого Великого князства Литовского, иж всих княжат, панов рад, духовных и светских, панов хоруговных, шляхту, места и всих подданых наших и всих станов в том паньстве нашом Великом князстве Литовском и иных всих земль, здавна к тому паньству прислухаю-

[1] *Юхо І.А.* Крыніцы беларуска-літоўскага права. Мн., 1991.

чых, почонцы от вышшого стану аж до нижшого, тыми одными правы и артыкулы, в том статуте нижей писаными и от нас даными, судити и справовати маем"[1].

Артыкул гэты, які, па сутнасці, з'яўляўся прысягаю гаспадара ўсяму жыхарству Вялікага Княства Літоўскага, называе дзве асноўныя саслоўныя групы (станы) насельніцтва – вышэйшага стану (феадалаў) і ніжэйшага (сялян і мяшчан), а таксама называе некаторыя своеасаблівыя катэгорыі насельніцтва ўнутры саміх саслоўных груп.

Самым прывілеяваным саслоўем, якое склалася з даўніх часоў, была шляхта. Яна сама па сабе не ўяўляла адзінага цэлага, не была аднастайнай і аднароднай, а была прадстаўлена асобнымі катэгорыямі, прыналежнасць да якіх вызначалася рознымі фактарамі – паходжаннем, памерамі зямельнай уласнасці, колькасцю залежных людзей, дзяржаўнай ці духоўнай пасадай і г.д.[2] Да найбольш прывілеяванай катэгорыі адносілася арыстакратыя ВКЛ – асобы, якія мелі тытул князя ці графа. Князямі ці "княжатамі"(у лацінамоўных дакументах dux – герцаг) у гэты час называлі ў першую чаргу спадчыннікаў старадаўніх княжацкіх родаў Рурыкавічаў і Гедымінавічаў, а таксама нашчадкаў тых удзельных князёў, якія пасля ўваходжання ў склад Вялікага Княства Літоўскага змаглі захаваць пэўныя элементы аўтаноміі сваіх княстваў. Менавіта такі статус мелі ў XVст. князі Полацкія, Смаленскія, Пронскія, Саламярэцкія, Вяземскія і інш. Такія самыя прывілеі займелі пры вялікім князю Вітаўту князі Чацвярцінскія, Дольскія, Гальшанскія, Гарадзецкія, Кобрынскія, Карэцкія, Крошынскія, Лукомскія, Мсціслаўскія, Нясвіжскія, Ружанскія, Сангушкі, Слуцкія[3]. Акрамя вышэйзгаданых можна назваць яшчэ некалькі найбольш вядомых княжацкіх родаў ВКЛ – гэта князі Друцкія, Друцкія-Сакалінскія, Друцкія-Горскія, Прыхабскія, Любецкія, Азярэцкія, Астрожскія, Талачынскія, Заслаўскія, Адзінцэвічы, Свірскія і інш.

Становішча розных княжацкіх сем'яў (як і асобных іх прадстаўнікоў) не было аднолькавым. У першую чаргу гэта зноў жа залежала ад колькасці зямлі і сялян, якія былі ў іх распараджэнні. Разам з тым трэба адзначыць, што многія з пералічаных княжацкіх родаў змаглі ў XV–XVI ст. значна павялічыць свае ўладанні ці, прынамсі, захаваць унутры дзяржавы свае ўласныя княствы.

Найвышэйшы княжацкі тытул у дзяржаве займаў яе кіраўнік – вялікі князь. Поўны яго тытул у другой палове XVI ст. – вялікі князь літоўскі, рускі, прускі, жамойцкі, мазавецкі, інфлянцкі[4]. Вялікі князь называўся таксама гаспадаром і меў шырокае кола паўнамоцтваў: весці міжнародныя справы, уступаць у саюзы, абвяшчаць вайну і заключаць мір, распараджацца ўзброенымі сіламі дзяржавы, дзяржаўнай маёмасцю, даходамі і скарбамі, ажыццяўляць вышэйшы суд і памілаванне асуджаных і інш. Яму належала заканадаўчая ініцыятыва, усе асноўныя законы і прававыя акты выдаваліся за яго подпісам[5]. Роля вялікага князя

[1] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г.; Тэксты. Давед. Камент. Мн., 1989. С. 80.
[2] *Юхо І.А.* Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992. С. 99–100.
[3] *Вольф Ю.* Князі на абшарах Вялікага княства Літоўскага ад канца XIV ст. // Спадчына. 1992. № 4. С. 103.
[4] Статут Вялікага княства Літоўскага 1558 г. С. 42.
[5] *Маслыка Г.А.* Вялікі князь // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 2. Мн., 1994. С. 438.

ўзрастала яшчэ і таму, што ён з'яўляўся буйным землеўласнікам – яму належалі велізарныя зямельныя ўладанні, акрамя таго, ён быў вярхоўным уласнікам усіх зямель у дзяржаве[1].

Вядомы польскі даследчык Генрык Лаўмянскі, спасылаючыся на К. Шайноху, Ст. Кутшэбу, А. Прахазку, М. Любаўскага і іншых, сцвярджаў, што "у адпаведнасці са здаўна распаўсюджаным у навуцы поглядам, вялікі князь літоўскі быў уладаром абсалютным"[2]. У беларускай гістарыяграфіі пераважае іншы пункт гледжання: улада вялікага князя расцэньваецца як абмежаваная манархія, абмежаваная ў першую чаргу выбарнасцю вялікага князя, яго прысягай, дзейнасцю рады Вялікага Княства Літоўскага і дзяржаўнага сейма[3].

Род вялікага князя займаў у краіне цэнтральнае становішча. Частка членаў дынастыі, звычайна малодшыя сыны і браты вялікага князя, пастаянна знаходзіліся пры ім. Яны, як правіла, уваходзілі ў склад невялікай дружыны, засядалі ў радзе, у якой ажыццяўлялася кіраўніцтва краінай і якая гэтаксама выконвала функцыі накшталт галоўнага штаба[4]. Асобы, якія належалі да вялікакняскай сям'і мелі, такім чынам, пэўныя перавагі ў параўнанні з астатняй арыстакратыяй.

Становішча іншых княжацкіх родаў ці фамілій (сем'яў) не было такім устойлівым. З прычыны забароны любога іншага шляху набыцця княжацкага стану, акрамя як па нараджэнні, і з-за паступовага эканамічнага заняпаду многіх даўніх княжацкіх родаў значэнне іх княскага тытула паступова змяншалася. Па-сутнасці, у азначаны час катэгорыя князёў папаўнялася толькі за кошт перабежчыкаў ці прышлых з Маскоўскага княства або за кошт татарскіх князёў. Пасля Люблінскай уніі 1569 г. катэгорыя феадалаў, што карысталася тытулам "князь" у сацыяльна-палітычным сэнсе пасунулася з найвышэйшай прыступкі сацыяльнай лесвіцы, крыху саступіўшы "новай арыстакратыі", якая не толькі вызначалася высокім паходжаннем, але яшчэ і займала пэўныя дзяржаўныя пасады. Нават больш, пасля ўтварэння Рэчы Паспалітай княжацкія тытулы былі захаваны толькі нашчадкам старадаўніх княжацкіх родаў[5]. "Князі, якія гублялі спадчыннае права на зямлю, – адзначае Ю.Вольф, – залічваліся да стану рыцарскага, і хоць не мелі асаблівых прывілей, але намінальна складалі клас архіпрывілеяваных, бо напачатку ў іерархіі дзяржаўнай улады ішлі пасля пануючых князёў, перад найвышэйшымі саноўнікамі, як сведкі дакументаў, выданых вялікім князем, і подпісы свае клалі на першым месцы перад панамі вялікакняскай рады і сенатарамі"[6]. Пасля Люблінскага сейма 1569 г. князі былі канчаткова ўраўнаваны ў правах з астатняй шляхтай. Разам з гэтым яны атрымалі запэўніванні ў тым, што княжацкі стан не ніжэй за стан паноў, але

---

[1] *Похилевич Д.Л.* Статус домена Великого князя Литовского и его населения в XV–XVI вв. // Тез. докл. и сообщ. XV сессии межресп. симпоз. по аграрн. истории Восточн. Европы. М., 1974. С. 51.

[2] *Łowmiański H.* Studia nad dziejami Wielkiego księstwa Litewskiego. Poznań, 1983. S. 367.

[3] *Галенчанка Г.Я., Лойка П.А.* Гісторыя Беларусі. Другая палова XIII–XVIII ст. Мн., 1997. С. 11–13; *Маслыка Г.А.* Вялікі князь. С. 438 і інш.

[4] *Łowmiański H.* Studia nad dziejami Wielkiego księstwa Litewskiego. S. 384.

[5] *Грыцкевіч А.* Беларуская шляхта // Спадчына. 1993. № 1. С. 13.

[6] *Вольф Ю.* Князі на абшарах Вялікага княства Літоўскага. С. 103–104.

роўны яму і дае роўнае права займаць сенатарскія пасады. Аднак якраз з гэтага часу прэстыжнасць даўніх мясцовых княжацкіх тытулаў рэзка ўпала. Пачалі прызнавацца і даволі высока каціравацца сярод вышэйшых пластоў шляхты тытулы графаў і князёў, атрыманыя за мяжой, у першую чаргу ад імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі германскай нацыі.

Першымі ў Вялікім Княстве Літоўскім тытул імперскіх князёў атрымалі ў першай палове XVI ст. прадстаўнікі буйнога магнацкага роду Радзівілаў. Прыблізна з гэтага ж часу ў ВКЛ стаў вядомы і тытул “граф”, калі некаторыя прадстаўнікі беларускай магнатэрыі атрымалі яго ад імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі. Ён лічыўся ганаровым, але замежным, таму яго ўладальнікі не мелі ў ВКЛ якіх-небудзь юрыдычных ці сацыяльных пераваг, акрамя асабістага прэстыжу. Магнаты, якія валодалі гэтым тытулам, свае ўладанні называлі графствамі. Напрыклад, з 1555 г. Юрый Шчаснавіч Ільініч стаў графам на Міры. У 1568 г. Ян Геранім Хадкевіч атрымаў тытул графа на Шклове, Мышы, Быхаве і Глуску, якія сталі аднайменнымі графствамі. Графства на Ляхавічах было ў Хадкевічаў, потым у Сапегаў. У 1568 г. Васіль Тышкевіч стаў графам на Лагойску і Бярдзічаве. Радзівілы побач з тытулам князёў мелі і графскі тытул на Міры, Шыдлоўцы, Койданаве, Копысі, Заблудаве, Кейданах, Крожах і Белай, Сапегі – на Чарэі, Дуброўне і Горы-Горках[1].

Разам з панамі-радай тытулаваныя асобы склалі аснову беларускага магнацтва як найбагацейшай і найрадавіцейшай арыстакратычнай знаці. Менавіта магнаты аказвалі ў гэты час рашаючы ўплыў на знешнюю і ўнутраную палітыку дзяржавы. Аднак неабходна яшчэ раз падкрэсліць, што асноўным паказчыкам месца, якое займаў феадал у грамадскім жыцці, было не толькі паходжанне, але і ў значнай ступені велічыня зямельных уладанняў. Як слушна заўважыў М.Ф. Спірыдонаў, нават унутры асобнага роду не было аднастайнасці, “асобныя прадстаўнікі таго ці другога роду маглі стаць магнатамі, а ў той жа час некаторыя іншыя іх родзічы па-старому заставаліся дробнымі феадаламі”[2].


Замак князёў Астрожскіх у Астрогу

З пачатку XV ст. тыя буйныя зямельныя ўласнікі, якія займалі пасады ў дзяржаўным апараце і мелі сваіх васалаў, пачалі тытулавацца “панамі”. У лацінамоўных дакументах паны выступаюць пад тэрмінам “барон”. Пасля Люблінскай уніі гэтым тытулам сталі называць усіх шляхціцаў, у якіх былі залежныя сяляне[3]. Такім чынам, ужо ў

---

[1] *Грыцкевіч А.* Графства // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 3. Мн., 1996. С. 117.
[2] *Спиридонов М.Ф.* Закрепощение крестьянства Беларуси (XV–XVI вв.). Мн., 1993. С. 33.
[3] Там жа. С. 29–30.

сярэдзіне XVI ст. тэрмін "пан" ператварыўся з тытула, які абазначаў адну з найвышэйшых катэгорый класа феадалаў, у тэрмін, што характарызаваў прыналежнасць чалавека да шляхецкага стану. Напрыклад, у кнізе Слонімскага земскага суда за 1593 г. пры разглядзе судовых спраў любы прадстаўнік класа феадалаў праходзіць з тытулам "пан" – ад "княжацi" да зямяніна гаспадарскага. Так, судовы вырак ад 16 студзеня 1593 г. па скарзе пана Васіля Гарабурды аб невяртанні здзяцельскай зямянкай Маркоўскай Людмінай доўгу ваяводу кіеўскаму князю Канстанціну Астрожскаму ўтрымлівае тытул "пан" у дачыненні да кожнай з гэтых асоб[1].

Уладальнікі вышэйзгаданых тытулаў складалі хоць і найвышэйшую, але не самую шматлікую частку пануючага класа. Другую групу складалі сярэднія і дробныя феадалы, якія валодалі залежнымі сялянамі. Колькасную большасць ва ўсе часы мелі ваеннаслужылыя людзі, якія за сваю службу набывалі ўласнасць ці пэўныя прывілеі, ці тое і другое разам. Ваеннаслужылае саслоўе пачало складвацца з моманту з'яўлення першых княстваў-дзяржаў на нашай зямлі, а канчаткова аформілася са сваімі правамі і прывілеямі якраз у XIV–XVI ст. Баяры-рыцары, якія бралі на сябе абавязак несці ваенную службу на карысць гаспадара, як правіла, атрымлівалі ад яго зямельныя падараванні. Людзі гэтыя называліся баярамі. Надавалі зямлю баярам за абавязак пры неабходнасці ісці на вайну і буйныя прыватныя феадалы. Так, у XV ст. княгіня Мар'я, удава Сямёна Аляксандравіча Алелькавіча, са сваім сынам Васілём Сямёнавічам падаравала баярыну Даніле Русановічу дварышча Капліна – "мает службу земьскую с иншыми боярами нашыми пинскими конем служыти"[2]. Большая ж частка баяр была абавязана службай самому гаспадару, вялікаму князю. Сярод іх былі такія знакаміцейшыя роды, як Глябовічы, Ільінічы, Немяровічы, Аляхновічы, Мітковічы, Валадковічы, Корсакавічы і інш.[3] Так пачынала складвацца баярскае, ці шляхецкае, землеўладанне.

З пачатку XV ст. (пасля заключэння Гарадзельскай уніі 1413 г.) шырокае распаўсюджанне для вышэйназванай групы ваеннаслужылага насельніцтва атрымаў тэрмін "шляхта". Паказальна, што ў самім тэксце пастановы Гарадзельскага сейма тэрміны "баяры" і "шляхта" не проста ўжываюцца побач, нароўні, а як адно паняцце-тэрмін – "бояре-шляхта земель наших"[4]. Само геапалітычнае становішча нашай краіны вымагала мець значнае войска. Таму і атрымалася так, што шляхта, асноўнай павіннасцю якой была служба на вайне, склала значную ўдзельную вагу ад агульнай колькасці насельніцтва – не менш за 10%, па падліках розных даследчыкаў[5].

Да пачатку XVI ст. шляхта ўсталявалася ўжо не толькі як прывілеяванае ваеннаслужылае саслоўе, але і, у асноўным, як клас землеўласнікаў. Цікавую думку выказаў Г. Лаўмянскі, заўважыўшы, што пасля та-

---

[1] НДАРБ. Ф. 1785, воп. 1, спр. 13, а. 86.

[2] *Хорошкевич А.Л.* Исторические судьбы белорусских и украинских земель в XIV – начале XVI в. // Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. М., 1982. С. 91.

[3] Там жа.

[4] Белоруссия в эпоху феодализма (далей – БЭФ). Т.1. Мн., 1959. С. 116.

[5] *Грыцкевіч А.П.* Беларуская шляхта. С. 13; *Крукоўскі У.* Срэбная страла ў чырвоным полі: З гісторыі беларускае шляхоцкае геральдыкі // Спадчына. 1995. С. 162; *Галенчанка Г.Я., Лойка П.А.* Гісторыя Беларусі. С. 39.

го як баярын атрымліваў зямлю, ён ужо жадаў спакойна гаспадарыць на ёй, а не ісці ваяваць. "Баярын-рыцар перакоўвае меч на лемех і ператвараецца ў зямяніна, для якога ваенная служба ёсць цяжар, а вайна – бедства"[1]. Сапраўды, менавіта ў гэты час у ВКЛ прыходзіць у заняпад паспалітае рушэнне, заснаванае на абавязковай ваеннай службе шляхты, абсалютная большасць дробнай і сярэдняй шляхты праходзіць у актавых кнігах сярэдзіны – другой паловы XVI ст. як зямяне.



Вершнік ВКЛ.
Гравюра другой паловы XVI ст.

Акрамя таго, да саслоўя шляхты ў Вялікім Княстве Літоўскім былі залічаны многія свабодныя людзі, якія мелі пэўныя надзелы зямлі, але не мелі залежных сялян і самі гэтую зямлю апрацоўвалі. Былі і такія шляхціцы, якія па розных прычынах увогуле не мелі ні сялян, ні зямлі. М. Любаўскі, разглядаючы становішча гэтай катэгорыі шляхты, прыйшоў да высновы, што ўвогуле шляхецкае саслоўе "не выдзелілася адразу і не абасобілася рэзка ад астатняе народнай масы"[2], і падкрэсліваў, што "баяры-шляхта спляталіся з верхнімі слаямі сялянства як на глебе землеўладання і павіннасцей, так і ў самой назве"[3]. Бывалі выпадкі, калі дробны шляхціц не мог паперамі даказаць сваю шляхетнасць і пазбаўляўся прывілей, якія належалі гэтаму саслоўю. Я. Юхо ўвогуле лічыць, што свабодных беззямельных людзей, хоць іх таксама называлі шляхтай, нельга адносіць да катэгорыі феадалаў, а трэба разглядаць як асаблівую катэгорыю юрыдычна свабодных людзей[4].

**Асаблівасці статуса духавенства ў ВКЛ.** Да прывілеяванага саслоўя шляхты па сваім сацыяльна-юрыдычным статусе адносілася і вышэйшае духавенства. Тут, на наш погляд, назіралася істотнае адрозненне ад агульнапрынятага тагачаснага еўрапейскага саслоўнага падзелу, дзе было два прывілеяваныя саслоўі – духавенства і дваранства і непрывілеяванае так званае трэцяе саслоўе – гараджане і сяляне. Духавенства станавілася адным з пануючых саслоўяў звычайна ў тых краінах, дзе пэўная канфесія была адзінай і магла значна ўплываць не толькі на духоўнае жыццё насельніцтва, але і на палітыку дзяржавы, на дзейнасць яе кіраўніцтва.

Але ў Вялікім Княстве Літоўскім абставіны былі іншыя. Духавенства звычайна не выдзялялася як катэгорыя, рэзка адрозная ад іншых прадстаўнікоў пануючага саслоўя. Наадварот, шматлікія дакументы, у тым ліку і статуты ВКЛ, залічваюць звычайна вышэйшых прадстаўнікоў цар-

---

[1] *Łowmiański H.* Studia nad dziejami Wielkiego księstwa Litewskiego. S. 424–425, 447–449.
[2] *Любавский М.К.* Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. М., 1910. С. 114.
[3] Там жа. С. 115.
[4] *Юхо Я.А.* Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы... С. 100.

коўнай іерархіі да вышэйшага стану феадалаў ("панов рад, духовных и светских")[1]. Трэба ўлічваць і тое, што ў Вялікім Княстве на працягу азначанага перыяду не было пераважнага панавання толькі адной канфесіі. Прадстаўнікі духавенства розных канфесій – каталіцкай, праваслаўнай, пратэстанцкай, уніяцкай, іудзейскай, ісламскай займалі неаднолькавае эканамічнае і палітычнае становішча ўнутры краіны. Да таго ж яно мянялася для розных канфесій па-рознаму, у тым ліку і у XV–XVI ст.

На пачатку XV ст. пераважнай канфесіяй на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага было хрысціянства праваслаўнага абраду. У 1458 г. Кіеўская мітраполія ўсяе Русі (у межах ВКЛ і Польшчы) канчаткова аддзялілася ад Маскоўскай.

З сярэдзіны XV ст. кіеўскія мітрапаліты выбіраліся звычайна з ураджэнцаў беларускіх і ўкраінскіх зямель, выхадцаў з духавенства, сем'яў сярэдняй і дробнай шляхты. З 12 мітрапалітаў, што займалі гэтую пасаду да Люблінскай уніі 1569 г., дзевяць мелі старажытныя радавыя маёнткі на Беларусі або займалі вышэйшыя месцы ў беларускай царкоўнай іерархіі[2]. На пасадах простых святароў часта знаходзіліся выхадцы з дробнай шляхты, мяшчан, а то і з заможных сялян.

З канца XIV – пачатку XV ст. улады пачалі афіцыйна падтрымліваць каталіцкую царкву. Пачатак гэтаму паклаў прывілей 1387 г. вялікага князя Ягайлы з даволі шырокімі правамі для тых феадалаў, якія прымалі хрышчэнне па каталіцкім абрадзе: "Кожны рыцар ці баярын, які прыняў каталіцкую веру, і яго нашчадкі, законныя спадчыннікі, маюць і будуць мець поўную і ўсялякую магчымасць уладаць, трымаць, карыстацца, прадаваць, аддаваць, замяніць, даць, падараваць, згодна з сваёй добрай воляй і жаданнем, замкі, валасці, вёскі і дамы і ўсё, чым валодаў бы па бацькоўскай спадчыне, як валодаюць, карыстаюцца і ўжываюць на падставе аднолькавых праваў нобілі ў іншых землях нашага каралеўства Польскага, каб не было адрознення ў правах, паколькі адзінства робіць тое, што яны падданыя адной кароны"[3].

Падобных праваў не было ў прадстаўнікоў іншых канфесій. Нават больш, каб забяспечыць перавагі ў дзейнасці каталіцкай царкве, у Вільні было заснавана каталіцкае біскупства. Граматай ад 17 лютага 1387 г. вялікі князь падараваў новастворанаму біскупству шэраг уладанняў, якія налічвалі ў агульнай колькасці 600 сялянскіх дымоў (каля 25% з іх знаходзілася на тэрыторыі Беларусі)[4]. Біскупства займела поўны фіскальны і эканамічны суверэнітэт на атрыманых землях. Да сярэдзіны XVI ст. ва ўладаннях Віленскага каталіцкага біскупства знаходзілася 300 вёсак і 16 мястэчак з 6 тыс. дымоў, у якіх пражывала каля 40 тыс. чалавек[5]. Больш за 60% гэтых уладанняў было заселена беларускім насельніцтвам[6]. "Калі ўлічыць, што ў наступныя стагоддзі прадстаўнікі вышэйшай царкоўнай іерархіі, у тым ліку і біскупы, атрымалі доступ да сенатарскіх пасадаў, то натуральна, што ўплыў каталіцкай царквы на дзяр-

---

[1] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588. Раздз. I, арт. 2. С. 80.
[2] *Галенчанка Г.* [і інш.]. Духавенства // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 3. С. 316.
[3] БЭФ. Т. 1. С. 101.
[4] *Мараш Я.Н.* Ватикан и католическая церковь в Белоруссии. Мн., 1971. С. 110.
[5] *Ochmański J.* Powstanie i rozwój latyfundium biskupstwa Wileńskiego (1387–1550). Poznań, 1963. S. 95–96.
[6] *Мараш Я.Н.* Ватикан и католическая церковь в Белоруссии. С. 112.

жаўныя справы станавіўся велізарным. Інтарэсы віленскіх біскупаў цесна перапляталіся з інтарэсамі літоўскіх і беларускіх магнатаў – Радзівілаў, Сапегаў і інш. Нярэдка гэтыя фаміліі звязваліся паміж сабой роднаснымі сувязямі. Усё гэта разам узятае садзейнічала ўмацаванню пазіцый каталіцкай царквы ў Беларусі і Літве...", – адзначае Я. Мараш[1].

Своеасаблівую ролю ў грамадска-палітычным і духоўным жыцці дзяржавы з другой паловы XVI ст. выконвала пратэстанцкае духавенства. Яно не аказвала значнага ўплыву на палітыку дзяржавы, як і не прэтэндавала на нейкія льготы ці прывілеі. Трэба мець на ўвазе, што ў пратэстантызме няма прынцыповай розніцы паміж духавенствам, свецкімі асобамі, шараговымі вернікамі ні ў пытаннях веравызнання, ні ў прававых адносінах. Таму прадстаўнікоў пратэстанцкага духавенства цяжка нават з вялікімі дапушчэннямі залічыць у склад вышэйшага духавенства ВКЛ, якое, як вядома, атаясамлівалася з вышэйшай шляхтай.

Яўрэйскае духавенства таксама не выходзіла на шырокія прасторы грамадска-палітычнага жыцця ВКЛ. Яўрэйскія абшчыны мелі ўнутранае самакіраванне, якое ўзначальвалі выбарныя рабіны. Паўнамоцтвы і перавагі апошніх тычыліся, як правіла, толькі ўнутранага жыцця яўрэйскіх абшчын.

Беларускія татары вызнавалі іслам суніцкага толку. Кіраўнікі мусульманскіх прыходаў – мулы ці імамы карысталіся пэўнымі перавагамі таксама ў асноўным унутры сваіх абшчын. Канфесійная дзейнасць яўрэйскіх і мусульманскіх арганізацый у Вялікім Княстве звычайна не выходзіла за іх межы і не аказвала значнага ўплыву на жыццё краіны. Не паспела ў азначаны перыяд зарэкамендаваць сябе і ўніяцкая царква, абвешчаная на Брэсцкім царкоўным саборы ў 1596 г.

Такім чынам, у XV–XVI ст. на Беларусі адзначалася наяўнасць некалькіх канфесій. Аднак "такое раздзяленне веравызнанняў у XVI ст. яшчэ не давала магчымасці духавенству аб'ядноўвацца ў адзіную саслоўную карпарацыю і ўстанавіць ідэалагічнае засілле якога-небудзь аднаго веравызнання"[2]. Разам з тым неабходна прызнаць, што духавенства займала асаблівае становішча ў сацыяльнай структуры грамадства, бо яго вярхі адносіліся да класа феадалаў, а нізы – да мяшчан і асабіста свабодных заможных сялян.

**Фарміраванне мяшчанскага саслоўя.** Адметным саслоўем у Вялікім Княстве Літоўскім з'яўлялася мяшчанства. Першапачаткова гэты тэрмін абазначаў усё асабіста свабоднае насельніцтва гарадоў Беларусі. Лічыцца, што да ўвядзення магдэбургскага права мяшчане, жыхары гарадоў, якія мелі ў горадзе ці за яго межамі зямельныя надзелы, былі абавязаны несці за гэта, як і баяры, ваенную службу[3]. Звычайна мяшчане вызваляліся ад іншых павіннасцей, якія ўскладаліся на валасць, – ад работ "на

---

[1] *Мараш Я.Н.* Ватикан и католическая церковь... С. 111.
[2] *Юхо Я.А.* Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы... С. 101.
[3] *Любавский М.К.* Очерк истории Литовско-Русского государства... С. 110; *Ён жа.* Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута 1529 г. М., 1829. С. 519, 527–528; *Хорошкевич А.Л.* Исторические судьбы белорусских и украинских земель... С. 92; *Ochmański J.* W kwestii agrarnego charakteru miast Wielkiego księstwa Litewskiego w XVI wieku // Studia Historica w 35-lecie pracy naukowej Henryka Łowmiańskiego. Warszawa, 1958. S. 286.

замак" і "на потребизны земские", але з цягам часу ўлады пры неабходнасці прыцягвалі да такіх работ і гараджан[1]. Крыніцы змяшчаюць шматлікія звесткі аб канфліктах мяшчан з жыхарамі прыгарадных валасцей у справе выканання тых ці іншых павіннасцей. Так, мяшчане Магілёва, якія звычайна выконвалі ўсе павіннасці сумесна з жыхарамі валасці, у сярэдзіне XVI ст. звярнуліся да вялікага князя з просьбай адмяніць ім гэты абавязак[2]. Яны даказвалі, што цяпер "болшим купецтвом ся обыходят, нижли перед тым своего мевали, а земль жадных волостных под собою не мают и их не уживают"[3].

Тэрмін "мяшчане", як лічаць даследчыкі, замацаваўся ў Беларусі за жыхарамі гарадоў прыблізна з 1460-х гг. і абазначаў асобнае падатковае саслоўе, якое ўключала ў сябе розныя катэгорыі гараджан – рамеснікаў, купцоў-гандляроў, служак, домаўладальнікаў і інш. Важна разумець, што паняцці "мешчанін" і "гараджанін" у XV–XVI ст. не былі тоеснымі. Гараджанамі лічылі ўсіх, хто жыў у горадзе, мяшчанамі ж толькі тых, хто меў спецыяльныя льготы і перавагі. Вось як абазначана насельніцтва Полацка ва ўстаўной грамаце вялікага князя Казіміра ад 1456 г.: "Смотрели есмо с паны радою нашою бояр Полоцких, з мещаны и с городские дворяны и с чорными людьми и со всим поспольством"[4]. Вядома, што гарадскія баяры вельмі часта карысталіся тымі ж правамі, што і мяшчане па магдэбургскім праве. Простыя ж, ці "чорныя", людзі такіх правоў не мелі. Акрамя таго, у структуры гарадскога насельніцтва пастаянную групу складалі жыхары, якія былі пераселены ў горад іх феадальнымі гаспадарамі і захоўвалі пры гэтым сваю асабістую залежнасць. У сацыяльнай структуры гарадскога насельніцтва Беларусі праглядваецца яшчэ адна група, існаванне якой было абумоўлена як ростам фальваркава-паншчыннай сістэмы, так і развіццём таварна-грашовых адносін. Група гэтая ў крыніцах звычайна абазначаецца тэрмінамі "людзныя" і "гульцяі"[5]. Гэтыя два тэрміны абазначалі бедных, абеззямеленых сялян, якія перасяліліся ў горад. Увогуле павелічэннне колькасці гарадскога насельнітва адбывалася не толькі за конт унутраных рэзерваў – натуральнага прыросту насельніцтва, а ў асноўным за кошт перасялення і папаўнення гарадоў беглымі сялянамі. Вось што адзначаў З. Капыскі: "У інтарэсах папаўнення гарадскога насельніцтва каралеўская ўлада часам нават пакідала без наступстваў пераход прыгонных каралеўскай эканоміі ў гарады, якія былі размешчаны ў межах гэтай эканоміі. Так, у 1526 г. гарадскія ўлады Гародні паведамлялі каралю, што "люди с волости ушли в Гродно и торгом занялись, а земли отчизны свои не держат и не пашут"; адміністратар жа эканоміі загадвае тых людзей з горада вярнуць у вёскі. Кароль наказаў адміністратару пакінуць гэтых сялян у горадзе[6].

[1] *Хорошекевич А.Л.* Исторические судьбы белорусских и украинских земель... С. 93–94.
[2] *Мелешко В.И.* Могилев в XVI – середине XVII в. Мн., 1988. С. 166.
[3] *Довнар-Запольский М.В.* Очерки по организации западнорусского крестьянства в XVI в. Киев, 1905. С. 38.
[4] Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археологическою комиссиею (далей – АЗР). Т. 1. СПб., 1846. С. 72.
[5] *Копысский З.Ю.* Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII в. Мн., 1975. С. 56.
[6] *Ён жа.* Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII в. Мн., 1966. С. 37.

У разгляданы час найбольшая дыферэнцыяцыя ў асяроддзі гараджан назіралася па маёмасным прынцыпе. Вярхушку гарадскога насельніцтва складала багатае купецтва, рамесныя майстры, якія стаялі на чале цэхаў, а таксама багатыя домаўладальнікі і некаторая частка землеўласнікаў. Менавіта гэтая частка гараджан разам з членамі асноўнага органа гарадскога самакіравання – магістрата трымала ў сваіх руках усю ўладу ў горадзе. Немалаважным для фарміравання структуры багатай гарадской вярхушкі з'яўлялася папаўненне колькасці гараджан за кошт дробнапамеснага ваеннаслужылага люду – баяр. Крыніцы адзначаюць наяўнасць баяр у большасці беларускіх гарадоў[1]. Да гарадской вярхушкі належала і шляхта, якая пражывала ў гарадах.

Сярэдні слой гараджан складалі ў першую чаргу рамесныя майстры, уладальнікі крам і рыначных латкоў, шараговае духавенства, служачыя гарадской і ўрадавай адміністрацыі. Сюды ўваходзілі таксама падмайстры, вучні з ліку паўнапраўных гараджан, якія з'яўляліся членамі сем'яў рамесных майстроў і ішлі ў рамястве шляхам бацькоў. Агульную колькасць сярэдняга слоя гараджан даследчыкі вызначаюць у межах 40–50% усіх жыхароў[2].

На ніжэйшай ступені сацыяльна-маёмаснай лесвіцы ў гарадах Беларусі знаходзіліся раней згаданыя "люзныя", "гульцяі" – усе бедныя ці збяднелыя мяшчане, яія складалі ў сярэднім каля трэці агульнай колькасці гарадскога насельніцтва.

Юрыдычнае афармленне мяшчанскае саслоўе атрымала ў Статутах ВКЛ 1529, 1566 і 1588 гг. Статут 1588 г. у юрыдычна-прававых адносінах нібыта нават ураўноўваў у правах мяшчан і шляхту: "А где бы теж мещанину нашому виленьскому в чом от шляхтича кривда деяласе, о то перед судом належным водлуг сего ж статуту земского мещанин права собе з шляхтичом доводити маеть"[3]. Нормы Статута 1588 г. давалі мяшчанам таксама права завяшчання маёмасці, судовага разбору па маёмасных і крымінальных справах і інш. Мяшчане ўсіх гаспадарскіх гарадоў былі асабіста свабоднымі людзьмі. Яны маглі мяняць сваё месца жыхарства і выязджаць за мяжу, ім гарантавалался права ўласнасці ў некаторых выпадках нават на земскія маёнткі. Але яны не дапускаліся на дзяржаўныя пасады і не мелі сваіх прадстаўнікоў ні ў радзе, ні ў сейме[4].

Акрамя агульнадзяржаўных актаў становішча мяшчанства вызначалася і ў розных спецыяльных дакументах, у першую чаргу ў вялікакняскіх граматах на магдэбургскае права. Услед за Вільняй (1387) і Берасцем (1390) на працягу XV–XVI ст. прывілеі на магдэбургскае права атрымалі амаль усе буйныя гарады Беларусі. Разам з дазволам на гарадское самакіраванне гэтыя гарады атрымлівалі разнастайныя, у тым ліку гандлёвыя і падатковыя, льготы. У вялікакняскіх граматах гарадам змяшчаліся таксама ўказанні аб вызваленні гараджан ад улады і суда ваявод і старостаў, дазвол на стварэнне выбарнага гарадскога суда і органаў самакіравання. Магдэбургскае права атрымлівалі як гаспадарскія, так і прыватнаўласніцкія гарады[5]. А. Грыцкевіч лічыць: "Асноўным прынцыпам

---

[1] *Копысский З.Ю.* Социально-политическое развитие городов... С. 69.
[2] Там жа. С. 71.
[3] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588. Раздз. III, арт. 35. С. 131.
[4] *Юхо Я.А.* Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы... С. 178.
[5] *Копысский З.Ю.* Экономическое развитие городов... С. 36–38.

самакіравання па магдэбургскім праве ... было канчатковае выдзяленне мяшчан як саслоўя з акаляючага горад ... бяспраўнага прыгоннага насельніцтва і наданне гэтаму саслоўю асобых перавагаў і льгот, замацаваных потым феадальным правам"[1]. Аднак не кожны, хто жыў у горадзе, аўтаматычна станавіўся мешчанінам і атрымліваў льготы і прывілеі ў адпаведнасці з магдэбургскім правам. Выпадалі з гэтага працэсу ў першую чаргу людзі, якія жылі ў гарадах і займаліся звычайнымі для горада заняткамі, але па сваім юрыдычна-прававым становішчы належалі прыватным ці духоўным феадалам. З. Капыскі адзначаў, што "вярхоўная ўлада надала магдэбургскае права не гарадам, а толькі частцы іх жыхароў, а менавіта той, якая да моманту падаравання не з'яўлялася залежнай ад асобных феадалаў. Так было ў вялікакняскіх гарадах, трохі інакш – у гарадах прыватнаўласніцкіх, дзе агульнае падданства ўладальніку горада зрабіла магчымым ператварэнне ўсіх жыхароў у адну абшчыну, у падданых феадала, юрыдычна ж падпарадкаваных магдэбургскаму праву"[2]. Права гэтае не было строга аднастайнае для ўсіх гарадоў Беларусі, у асобных з іх былі свае асаблівасці, якія з цягам часу таксама маглі змяняцца.

Такім чынам, вялікая частка гарадскога насельніцтва – мяшчанства таксама мела шэраг прывілей і гарантый, ператварыўшыся ў гарадское саслоўе. Разам з тым выразна відаць, што ўнутры гэтага саслоўя не было ні маёмаснага, ні прававога адзінства.

**Катэгорыі сялянства і іх асаблівасці.** У XV–XVI ст. самым шматлікім і, магчыма, самым бяспраўным у Вялікім Княстве Літоўскім быў клас-саслоўе сялянства, прадстаўнікі якога з'яўляліся дробнымі сельскагаспадарчымі вытворцамі і вялі індывідуальную гаспадарку сіламі ўласнай сям'і. Крыніцы ў разгляданы час называюць такіх сельскіх жыхароў па-рознаму: людзьмі, мужамі, мужыкамі, валашчанамі, падданымі, хлопамі[3]. У залежнасці ад таго, каму належала зямля, на якой вялі сваю гаспадарку сяляне, адзначаліся дзяржаўныя (вялікакняскія ці гаспадарскія), прыватнаўласніцкія і царкоўныя сяляне.

Адрозніваліся паміж сабой сяляне і характарам (формай ці ступенню) асабістай залежнасці ад феадалаў. Гэта былі наступныя катэгорыі: 1) "людзі пахожыя", ці "вольныя", 2) "людзі непахожыя", ці "айчызныя" ("отчічі"), 3) "чэлядзь нявольная" (рабы), 4) "закупы"[4]. У XV–XVI ст., калі інтэнсіўна ішоў працэс запрыгоньвання, тыя сяляне, якія фармальна яшчэ захоўвалі права на выхад з маёнтка аднаго феадала і пераход у маёнтак другога, называліся ўжо не проста "людзі", а "людзі пахожыя" ці "людзі вольныя". Людзі "непахожыя" такога права на пераход ужо не мелі[5]. Абмежаванне правоў сялянства на пераход ад аднаго землеўласніка да другога фактычна адлюстроўвала завяршэнне працэсу заканадаўчага афармлення прыгоннага права. Так, Статут ВКЛ 1588 г. даваў магчымасць селяніну "проч пойти" толькі ў тым выпадку, калі ён "... маеть заслужыти тому пану своему толко, колко на воли седел... А если бы

[1] *Грицкевич А.П.* Частновладельческие города Белоруссии в XVI–XVIII вв. Мн., 1975. С. 185.
[2] *Копысский З.Ю.* Социально-политическое развитие городов... С. 28.
[3] Социально-политическая борьба народных масс Белоруссии. Конец XIV в. – 1648 г. Мн., 1988. С. 24–35, 37–39, 41–55 і інш.; БЭФ. Т. 1. С. 123, 131, 132–135, 138–140 і інш.
[4] *Спиридонов М.Ф.* Закрепощение крестьянства Беларуси... С. 85.
[5] Там жа.

не хотел заслужыти, толко ж тогды маеть пенезми заплатити за кождую неделю по шести грошей"[1]. Як бачна, выканаць такія ўмовы было практычна немагчыма.

Сялянства рознілася паміж сабой па эканамічным становішчы, па характары павіннасцей і па форме выплаты рэнты. Так, крыніцы ў некаторых выпадках адзначаюць сялян багатых, сярэдніх і, вельмі часта, бедных ("лёзныя", "убогія"). І справа не ў тым, што беднае сялянства пераважала. Перавага амаль заўсёды была за сярэднім сялянствам, зямельны надзел якіх складаў паўвалокі і больш[2]; проста на беднякоў і гультаёў звярталі ўвагу пастолькі, паколькі гэта былі людзі, з якіх практычна нічога нельга было ўзяць – ні работы, ні грошай.

Па форме выплаты феадальнай рэнты вылучаліся тры асноўныя катэгорыі сялянства – цяглыя, чыншавыя і сяляне-даннікі. Цяглымі сялянамі называлі тых, асноўнай павіннасцю каго была служба цяглая ці паншчына. Асобае распаўсюджанне гэтая катэгорыя атрымала прыблізна на пачатку – у сярэдзіне XVI ст., падчас умацавання фальваркава-паншчыннай сістэмы гаспадарання. Другой катэгорыяй сялянства было чыншавае, ці асаднае, у павіннасцях якога пераважала грашовая рэнта (чынш). Рэнту данінай (прадуктамі промыслаў і сельскай гаспадаркі) выплачвалі сяляне-даннікі. Найбольш распаўсюджанымі яны былі ў гаспадарках Падняпроўскіх і Падзвінскіх валасцей[3]. Найменш забяспечанымі зямлёй з'яўляліся агароднікі, халупнікі і кутнікі[4].

У разгляданы час у Вялікім Княстве Літоўскім была распаўсюджана такая катэгорыя сялянства, як сяляне-слугі. Яны выконвалі на карысць феадалаў ваенныя, рамесныя і іншыя службы. Да сялян-слугаў належалі: ваенна-дваровыя слугі, слугі-рамеснікі (кавалі, бондары, калёснікі, саннікі, ганчары, млынары, півавары, дойліды, сядзельнікі і інш.), а таксама асочнікі, бортнікі, баброўнікі, рыбаловы, садоўнікі, стральцы, лоўчыя і інш. Сяляне-слугі з'яўляліся прывілеяванай часткай сялянства. Паводле заканадаўства пакаранне за забойства рамесніка было большым, чым за забойства простага селяніна. Сяляне-слугі звычайна, як і сельскія войты, атрымлівалі вольны ад павіннасцей зямельны надзел памерам у 1 валоку. Сацыяльнае становішча і ступень феадальнай залежнасці розных прадстаўнікоў сялян-слуг былі неаднолькавыя, адны з іх лічыліся прыгоннымі, іншыя яшчэ мелі права пераходу ад аднаго пана да другога[5].

Сялянства паводле законаў Вялікага Княства Літоўскага было адной з самых неабароненых катэгорый насельніцтва. Асноўнае абмежаванне іх правоў заключалася ў адмаўленні права ўласнасці на зямлю і ў забароне набываць ва ўласнасць маёнткі і землі. Ад імя вялікага князя пра гэта адназначна заяўлялася, што "простого стану человек, не осегнувши первей от нас, господара, вольности шляхетское, именей и кгрунтов шляхет-

---

[1] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588. Раздз. IX, арт 29. С. 268.
[2] *Голубеў В.Ф.* Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі XVI–XVIII ст. Мн., 1992. С. 155, 159, 162.
[3] *Похилевич Д.Л.* Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI–XVIII вв. Львов, 1957. С. 28–60.
[4] Там жа. С. 76–80.
[5] *Голубеў В.Ф.* Сяляне-слугі / Этнаграфія Беларусі. Мн., 1989. С. 488–489.

ских никоторым обычаем поседати, ани куплею своею на вечность одержати не может"[1].

Такім чынам, клас-саслоўе феадальна залежнага сялянства сфарміраваўся да сярэдзіны XVI ст. як група насельніцтва, што належала да людзей "простага стану", займалася сельскагаспадарчай дзейнасцю, працуючы на чужой зямлі. Развіццё фальваркава-паншчыннай сістэмы гаспадарання, іншыя пераўтварэнні вялі да ліквідацыі шматлікіх адметнасцей розных груп сялянства, паступова ствараючы адзіны кангламерат феадальна залежных сельскагаспадарчых працаўнікоў.

На працягу другой паловы XV–XVI ст. завяршыўся працэс фарміравання саслоўнай структуры грамадства. Гэты працэс знайшоў сваё адлюстраванне і замацаванне ў адпаведных артыкулах Статутаў ВКЛ 1529, 1566 і 1588 гг., дзе не толькі быў зафіксаваны падзел на адпаведныя саслоўі – станы, але і распрацаваны і праведзены ў жыццё (праўда, у межах феадальнага грамадства) прынцыпы іх узаемаадносін.

## 2. Органы саслоўнага прадстаўніцтва і ўлады

**Рада паноў як вышэйшы орган дзяржаўнай улады: станаўленне і пашырэнне функцый.** Вялікакняская ўлада ў Вялікім Княстве Літоўскім, Рускім, Жамойцкім і іншых зямель па традыцыі апіралася ў сваёй заканадаўчай, выканаўчай, судовай, ваеннай дзейнасці на вышэйшае кола феадальнай арыстакратыі. Пацвярджэннем таму з'яўляецца існаванне пры гаспадарах дарадчых органаў, куды ўваходзілі прадстаўнікі вялікакняскай фаміліі і найбольш буйныя землеўладальнікі. Сведчанні пра дзейнасць падобных дзяржаўных уладных інстытутаў адносяцца да часоў княжання Міндоўга, Гедыміна, Альгерда, Кейстута, Ягайлы, Вітаўта. Напрыклад, храніст Пётр з Дусбурга паведамляе пад 1326 г., "што літоўскі кароль меў каля сябе ўсіх як бы найлепшых людзей каралеўства, якія былі сабраны ў нейкім савеце". У грамаце вялікага князя Вітаўта 1388 г. знаходзім факт, што свае рашэнні ён узгадняў з радаю ("умыслили есмо с паны радами нашими")[2].

На першым часе свайго існавання княская рада выступала ў якасці выключна дарадчага органа, які не меў пэўнага складу і дакладна акрэсленых функцый. Аднак ужо падчас княжання Вітаўта абазначылася кола асоб, за якімі паступова замацавалася вызначэнне вялікакняскіх дарадцаў, ці паноў-рады. У гэтае кола ўваходзілі каталіцкія біскупы, ваяводы ды кашталяны віленскі і трокскі, жамойцкі староста, намеснікі, што ў канцы XVI ст. занялі месца былых удзельных князёў, маршалкі (земскі, дворны і гаспадарскі)[3].

Адасабленне рады ў самастойны, правамоцны без гаспадара орган улады адбывалася ў 30–50-я гг. XV ст. – час грамадзянскай вайны 30-х гг. і пачатку праўлення вялікага князя Казіміра. Менавіта ў гэты перыяд умацаваліся пазіцыі феадальнай знаці, калі ў яе асяродку шукалі падтрымкі дынасты, што хацелі стаць пераемнікамі Вітаўта на вялікакня-

[1] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588. Раздз. III, арт. 26. С. 123.
[2] АЗР. Т. 1. С. 23; *Пашуто В.Т.* Образование Литовского государства. М., 1959. С. 432–436.
[3] *Любавский М.К.* Очерк истории Литовско-Русского государства... С. 182–183.

скім пасадзе. Практычна паны-рада кіравалі дзяржавай, калі ў 1440 г. вялікім князем стаў 13-гадовы Казімір. Рада выступала таксама як вышэйшы ўрадавы орган і падчас працяглых адлучак гаспадара з Вялікага Княства пасля атрымання ім у 1447 г. польскай кароны. Зрабіць выснову пра значнае ўзмацненне ўплыву былога дарадчага органа можна ўжо на той падставе, што для ўзыходжання таго ці іншага прэтэндэнта на вялікакняскі трон патрабавалася згода паноў-рады. Пацвярджэнне таму знаходзім у летапісных сведчаннях. Як паведамляе "Хроніка Быхаўца", вялікі князь літоўскі Казімір у 1486 г. звярнуўся з просьбай да рады, каб "панове-рада ... взяли соби господарём на князство Литовское сына его среднего Александра-королевича. И панове-рада, видечи господара своего так покорно просячи ... на то призволили, по животе его взяти на Великое князство литовское сына его королевича Александра"[1].



Кароль польскі і вялікі князь літоўскі Аляксандр Ягелон на сейме. Гравюра XVI ст.

Пасля прыходу да ўлады ўдзячны вялікі князь Александр выдаў у 1492 г. прывілей, паводле якога гаспадар быў абавязаны весці дыпламатычныя зносіны з іншымі краінамі толькі па ўзгадненні з панамі раднымі; ва ўнутраных справах сваёй воляй не адмяняць нічога з таго, што было вырашана разам з радаю; без яе згоды не рабіць прызначэнні на дзяржаўныя пасады ці змяшчэнні з іх; распараджацца фінансамі толькі пад кантролем рады; забяспечыць удзел радных засядацеляў у вялікакняскім судзе[2].

Такім чынам, з канца XV ст. вялікакняская рада паўстае ў якасці вышэйшага органа дзяржаўнай улады, які абмяжоўваў уладныя паўнамоцтвы вялікага князя.

Склад рады канчаткова вызначыўся пры вялікіх князях Александру і Жыгімонце Старым. Дадаткова да вышэйназваных пасад, валоданне якімі дазваляла прымаць удзел у пасяджэннях рады пры Вітаўце, дабавіліся новыя, што ўтварыліся на працягу XV – пачатку XVI ст.: канцлер, падканцлер, падскарбіі, гетманы, харужыя, пісары. На працу ў радзе часам запрашаліся князі – прадстаўнікі вялікакняскай фаміліі, якія не займалі вышэйшых пасад у дзяржаўным апараце. А князёў Слуцкіх крыніцы адзначаюць у якасці пастаянных радных засядацеляў[3]. Згодна з адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэфомай 1565 г. у склад паноў радных былі

---

[1] Полное собрание русских летописей (далей – ПСРЛ). Т. 32. М., 1975. С. 163.

[2] *Любавский М.К.* Очерк истории Литовско-Русского государства... Приложение. С. 328–336.

[3] Расійскі Дзяржаўны архіў старажытных актаў (далей – РДАСА). Ф. 389, воп. 1, спр. 28, а. 123 адв.; *Любавский М.К.* Литовско-русский сейм. Опыт по истории учреждения и связи с внутренним строем и внешней жизнью государства. М., 1900. С. 332–342.

уведзены яшчэ асобы, якія займалі новастворыныя пасады ваявод – берасцейскага, менскага, мсціслаўскага, браслаўскага, валынскага і кашталянаў – берасцейскага, віцебскага, менскага, мсціслаўскага, наваградскага, полацкага, смаленскага, браслаўскага, валынскага, кіеўскага, падляшскага, жамойцкага[1].

Такім чынам, на канец 60-х гг. XVI ст. у склад рады ўваходзілі: князь Слуцкі, 4 каталіцкія біскупы (Віленскі, Жамойцкі, Кіеўскі, Луцкі), 13 ваяводаў, староста жамойцкі, 14 кашталянаў, названыя вышэй службовыя асобы дзяржаўныя апарату кіравання. Колькасць радных засядацеляў была меншай за колькасць пасад, якія дазвалялі прымаць удзел у працы рады. Гэта тлумачыцца тым, што адна асоба магла займаць адначасова розныя пасады. Так, віленскі ваявода звычайна з'яўляўся таксама канцлерам; трокскі кашталян – старостам жамойцкім; староста луцкі – маршалкам Валынскай зямлі. З улікам падобнай практыкі поўны склад рады да рэформы 1565 г. меў 45 асоб, а напярэдадні Люблінскай уніі (з дадаткам новых ваяводскіх, кашталянскіх пасад і павелічэннем колькасці маршалкаў) – 65 асоб[2].

Павялічаны склад рады садзейнічаў таму, што з яе вылучылася група найбольш уплывовых асоб, якая стварыла "тайную" раду. Складалася яна з каталіцкіх біскупаў, ваяводаў, кашталянаў віленскіх і трокскіх, старостаў жамойцкага і луцкага, вялікага гетмана, канцлера, падскарбія, маршалкаў земскага і дворнага. Асобы гэтыя называліся "старшымі панамі раднымі". Такое прадстаўніцтва ў тайнай радзе аформілася ў другой чвэрці XVI ст. У колькасных адносінах яно не перавышала 15 чалавек. Але ў поўным складзе як "тайная", так і ўся рада ніколі не засядала. На самых шматлюдных пасяджэннях "тайнай" рады збіралася 7–10, вельмі рэдка больш за 12 асоб. Звычайна 5–6, іншы раз 3–4, а то і 2 "старшыя" радныя засядацелі вырашалі справы ад усёй рады. Сярод іх, як правіла, былі віленскі біскуп, віленскі і трокскі ваяводы і кашталяны, што былі набліжаныя да вялікага князя[3]. Яны на пасяджэннях паноў-рады займалі месца на так званай "пярэдняй лавіцы" ў адрозненне ад іншых членаў рады другой "лавіцы". У адпаведнасці са сваім становішчам пералічаныя вышэйшыя чыноўнікі пачалі называцца "праднейшай" радай[4]. Менавіта гэтае ядро верхаводзіла ў вышэйшым органе ўлады Вялікага Княства Літоўскага. Кіруючую ролю гэтых асоб дакладна вызначаў храніст XVI ст.: «Сенат Вялікага княства Літоўскага, у якім вырашаюцца самыя важныя справы, складаецца з біскупа, ваяводы і кашталяна віленскіх, ваяводы і кашталяна трокскіх, кашталян трокскі адначасова з'яўляецца і старостам жамойцкім"[5].

Такім чынам, дакладна акрэсліваецца іерархія радных засядацеляў: ад так званай другой "лавіцы", якія толькі прымалі ўдзел у пасяджэннях рады, да "старшых паноў радных", што ігралі першыя ролі ў справе кіравання дзяржавай. Пра вялізную ўладу асоб, якія мелі пасады, што дазва-

---

[1] *Малиновский И.А.* Рада Великого Княжества Литовского. Т. 1. Томск, 1912. С. 100, 431–434.
[2] Там жа. С. 100, 431–434.
[3] Там жа. С. 26, 28, 99–100, 102.
[4] *Любавский М.К.* Литовско-русский сейм. С. 332–334.
[5] Цыт. па: *Kaminiecki W.* Społeczeństwo Litewskie w XV wieku. Warszawa, 1947. S. 108.

лялі займаць месца ў "праднейшай" радзе, сведчыць у 1533 г. кракаўскі біскуп Ян Хайенскі. Апавядаючы пра ўсёўладдзе ў Вялікім Княстве Літоўскім Альбрэхта Гаштаўта (канцлера і ваяводы віленскага) і братоў Радзівілаў, біскуп зазначаў: "Усё захапілі ў свае рукі гэтыя трое... Яны з жорсткасцю тыраняць іншых. Енкі і крыкі даходзяць да нябёсаў, справядлівасць загінула"[1].

**Змены ў этнарэлігійным складзе рады.** Сацыяльны склад рады быў аднастайным – яна выступала карпаратыўным органам буйных землеўласнікаў. Сярод яе засядацеляў знаходзіліся прадстаўнікі знатных родаў Вялікага Княства Літоўскага: Астрожскіх, Гаштаўтаў, Глінскіх, Глябовічаў, Гальшанскіх, Забярэзінскіх, Ільінічаў, Кезгайлаў, Кішак, Манівідаў, Мантыгірдавічаў, Няміровічаў, Осцікаў, Пацаў, Радзівілаў, Сапегаў, Солтанаў, Хадкевічаў і інш. На працягу стагоддзя – з сярэдзіны XV да сярэдзіны XVI ст. – панамі раднымі значыліся прадстаўнікі каля 50 знакамітых у Вялікім Княстве фамілій. Сярод іх колькасць радных засядацеляў з "рускіх" па паходжанні (сённяшніх беларускіх, украінскіх, велікарускіх) зямель была меншай (82) у параўнанні з колькасцю радных жамойцка-літоўскага паходжання (100)[2]. Пераважна апошнія мелі і кіруючыя пасады ў радзе. З 1492 па 1569 г. панамі раднымі, што ўтваралі "праднейшую" раду, былі 20 прадстаўнікоў жамойцка-літоўскага асяродку (Войцах Табар, Ян – з князёў літоўскіх, Манігірдавіч, шэсць Радзівілаў, тры Гальшанскія, два Забярэзінскія, два Осцікі, два Кезгайлы), два феадалы беларускага паходжання (Пратасевіч-Сушкоўскі, Глябовіч), пяць – украінскага (тры Хадкевічы, Збаражскі, Астрожскі) і адзін – польскага (Кішка)[3].

Тлумачыцца гэта ў першую чаргу панаваннем у дзяржаве буйных землеўладальнікаў каталіцкага веравызнання, што большасцю сваёй паходзілі з балцкіх зямель. Пры гэтым варта помніць, што не ўсе арыстакраты "рускіх" зямель Вялікага Княства прытрымліваліся праваслаўя. Той жа Пратасевіч-Серыкоўскі займаў пасаду віленскага біскупа, а з пералічаных вышэй засядацеляў "праднейшай" рады толькі Астрожскі і адзін з Хадкевічаў былі праваслаўнымі. А менавіта ж рэлігійная прыналежнасць у той час была адной з галоўных этнавызначальных прыкмет. Калі ўлічваць фактар паходжання і канфесійную прыналежнасць, то на праваслаўных прадстаўнікоў "рускіх" зямель Княства з канца XIV да сярэдзіны XVI ст. прыходзілася 20 назначэнняў на дзяржаўныя пасады з 468, заняцце якіх прадвызначала прысутнасць у шырокім складзе рады. Іх атрымалі 13 выхадцаў з сённяшніх беларускіх, 7 – з сённяшніх украінскіх зямель. Але наяўнасць гэтай невялікай прысутнасці дазваляе заключыць, што Гарадзельскі прывілей з яго знакамітым параграфам аб недапушчэнні "схізматыкаў" (некаталікоў) да кіравання дзяржавай, ня-

---

[1] Цыт. па: *Ochmański J.* Historiu Litwy. Wrocław, 1982. S. 113.
[2] *Любавский М.К.* Литовско-русский сейм. С. 347–352.
[3] *Малиновский И.А.* Рада Великого Княжества Литовского. С. 431, 433–434; *Boniecki A.* Poczot rodów w Wielkim księstwe Litewskim w XV i XVI w. Warszawa, 1887. S. 20–24, 56–59, 71–74, 76–83, 119–130, 391–395, 411–416; *Wolff S.* Kniaziowie Litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. XXII, XXIV; *Ён жа.* Senatorowie i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego. 1386–1795. Kraków, 1885. S. 9, 15, 19, 20, 22–24, 35, 37, 45, 55–58, 73–78, 81–89, 92, 105, 121, 148–151, 160–168, 174–179, 184–192, 221–225, 236, 262, 266, 296, 298, 317.

гледзячы на пацвярджэнні яго Жыгімонтам Старым (1529) і Жыгімонтам Аўгустам (1547) на практыцы строга не выконваўся.

Усё вынікала з таго, што вярхоўная ўлада, якую прадстаўлялі буйныя магнаты-каталікі, не магла падначаліць сваёй палітычнай волі ці хоць бы нейтралізаваць шматлікае праваслаўнае баярства "рускіх" зямель. Яно па-ранейшаму ўяўляла сабой салідную палітычную сілу, што імкнулася прабіцца да кіравання дзяржавай. Гэтая сіла дастаткова рашуча праявіла сябе пры выбранні пераемніка Вітаўта. Паслядоўнікі ж Свідрыгайлы на вялікакняскай пасадзе не маглі не ўлічваць урокаў грамадзянскай вайны 30-х гг. XV ст. і вымушаны былі праводзіць палітыку лавіравання: з аднаго боку, дагаджаць прыбліжанай да сябе каталіцкай знаці (той жа Гарадзельскі прывілей і яго пацвярджэнні), з другога – у этнічна і рэлігійна неаднароднай дзяржаве шукаць апору і сярод праваслаўных феадалаў "рускіх" зямель.

Асабліва выразна гэтая палітыка праявілася ў канцы XV – першых дзесяцігоддзях XVI ст., у час складанага знешнепалітычнага і няўстойлівага ўнутранага становішча Вялікага Княства Літоўскага. Няўдачы ў войнах з Вялікім Княствам Маскоўскім, унутрыпалітычныя ўзрушэнні (мяцеж Міхаіла Глінскага) прымушалі віленскі ўрад праводзіць палітыку ўцягвання знаці "рускага" краю ў палітычную эліту Вялікага Княства Літоўскага. З канца XV ст. значна пашыраюцца зямельныя ўладанні прадстаўнікоў знатных беларускіх, украінскіх родаў Глябовічаў, Ільінічаў, Сапегаў, Хадкевічаў, Багавіцінавічаў, Храптовічаў. Зямельнае багацце давала палітычную вагу. У канцы XV – першай палове XVI ст. сярод радных засядацеляў знаходзім феадалаў беларускага паходжання Глябовічаў, Ільінічаў, Сапегаў, Зяноўевічаў, Храптовічаў, Багавіцінавічаў, Вяжэвічаў, Друцкіх, Солтанаў, Грамык, Копацяў, Адзінцэвічаў, Стратовічаў, Саламярэцкіх і інш.[1] Пра тое, што ў першай палове XVI ст. вярхоўная ўлада Вялікага Княства Літоўскага пачала шырэй прыцягваць магнатаў "рускіх" зямель да кіравання дзяржавай, сведчыць статыстыка. Так, з 20 згаданых прызначэнняў на самыя высокія дзяржаўныя пасады праваслаўных феадалаў за перыяд з канца XIV ст. па 1569 г. 14 прыходзілася на час пасля 1500 г.

У першай палове XVI ст. праваслаўная знаць усходніх зямель Вялікага Княства сустракалася нават у складзе "праднейшай" рады. З 1522 г. па 1529 г. праваслаўны князь Канстанцін Астрожскі займаў пасаду трокскага ваяводы, што дазволіла яму сесці на першае месца раднай "лавіцы". Гэты факт выклікаў рэзкае абурэнне каталіцкай магнатэрыі, вынікам чаго стала з'яўленне прывілея Жыгімонта Старога, згодна з якім пасля смерці Астрожскага першае месца ў радзе павінна было перайсці да віленскага ваяводы[2]. Аднак ужо праз 20 гадоў у "праднейшай" радзе атрымаў першае месца магнат беларускага паходжання, праўда, каталік, Я. Глябовіч, які заняў пасаду віленскага ваяводы. А ў 1559 г. на пярэднюю "лавіцу" трапляе праваслаўны магнат украінскага паходжання Р. Хадкевіч, які атрымаў трокскае кашталянства[3].

---

[1] *Малиновский И.А.* Рада Великого княжества Литовского. С. 428–440.
[2] *Хорошкевич А.Л.* О международных аспектах религиозной политики Великого княжества Литовского времени первого Статута 1529 года // Первый Литовский статут 1529 г. Вильнюс, 1982. С 35.
[3] *Малиновский И.А.* Рада Великого княжества Литовского. С. 431.

Такім чынам, калі параграф Гарадзельскага прывілея, які забараняў праваслаўным засядаць у радзе, дзейнічаў да 20-х гг. XVI ст. хоць бы ў адносінах да рады "праднейшай", то з прызначэннем Астрожскага і Хадкевіча ён практычна губляў сілу закону, і, як зжыўшы сябе, быў канчаткова адменены ў 1563 г. З гэтага часу "достоинства и преложеньства всякие, и до рады нашое, и на уряды дворные и земские, не только подданые костелу римскому... обираны и прекладаны быть мають, але одинаково и заровно вси рыцерского стану з народу шляхетского люди веры хрестиянское, яко Литва, так и Русь, кождый водле заслуг и годности своее, от нас, господаря, на месца зацные и преложеньства с ласки нашое браны быти мають ..."[1]

Неабходна звярнуць увагу таксама на той факт, што сам тэкст граматы вялікага князя Жыгімонта Аўгуста ад 7 чэрвеня 1563 г. з'яўляецца пераканаўчым доказам удзелу праваслаўнай знаці ў пасяджэннях рады і да адмены § 9 Гарадзельскага прывілея. У гэтым дакуменце адзначаецца, што "беваючи не только римского костела послушные, але и грецкого, в лавицы рады предков наших и нашое, так же и иные вси страны, на радных служебах наших бываючи, верность и сталость свою к служебам предков наших и нашим охотне, яко добрым и верным подданым належит, завжды со всякою сталостью оказывали"[2].

І сапраўды, не даводзіцца сумнявацца, што праваслаўныя беларускія, украінскія, рускія землеўласнікі "охотне" служылі інтарэсам Вялікага Княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага і іншых зямель, выказваючы пры гэтым "верность и сталость". У першай палове XVI ст. карані патэнцыяльнага сепаратызму ў асобах радавых князёў і баярства, што ім служыла, былі ў асноўным ліквідаваны. На пасадах дзяржаўнага кіравання Вялікага Княства Літоўскага з'явілася ў гэты час "руская" знаць, якая ўвайшла ў моц пры вялікіх князях, павялічыла свае зямельныя ўладанні за кошт вялікакняскіх падараванняў. І, зразумела, падтрымлівала палітыку "гаспадара". Вялікае Княства Літоўскае стала іх дзяржавай. Нездарма ў першай палове XVI ст. у гаспадарскай радзе не сустракалася груповак, якія б утварыліся з прычыны этнічных ці рэлігійных адрозненняў.

Сярод паноў радных існавалі варожыя кланы, але ўзнікалі яны ў выніку зямельных, месніцкіх, спадчынных спрэчак. Вядома варожасць заступніка праваслаўя К. Астрожскага да заўзятага каталіка А. Гаштаўта, але той быў яшчэ больш варожа настроены да каталікоў Радзівілаў. Князь М. Глінскі ваяваў з Я. Забярэзінскім (абодва каталікі), Ст. Осцік – з Ю. Радзівілам (гэтыя фаміліі – разгалінаванне аднаго роду), князь А. Сангушка – з князем Ф.Чартарыйскім (абодва Гедымінавічы) і г.д.[3] У той жа час радныя засядацелі знаходзіліся паміж сабою ў шматразовым сваяцтве, нягледзячы ні на этнічную розніцу, ні на розніцу ў веравызнаннях. Так, украінскага паходжання Хадкевічы былі сваякамі князёў Карэцкіх (нашчадкі Гедыміна), прадстаўнікоў літоўскіх родаў Кезгайлаў, Пацаў; беларускага паходжання род Ільінічаў меў сваякоў сярод літоўскай арыстакратыі: Давойнаў, Гедыгольдавічаў, Забярэзінскіх, Радзівілаў; літоўскія князі Гальшанскія, Сангушкі былі ў сваяцтве з Сапегамі; Глябовічы – з Осцікамі і г.д.[4]

---

[1] БЭФ. Т. 1. С. 142–143.
[2] Там жа.
[3] *Малиновский И.А.* Рада Великого княжества Литовского. С. 57.
[4] Там жа.

У XVI ст. буйныя землеўладальнікі Вялікага Княства як жамойцка-літоўскага, так і беларускага, украінскага, рускага паходжання, каталікі, пратэстанты, праваслаўныя ўяўлялі адну сацыяльную групу, якая была аб'яднана агульнасцю палітычных, эканамічных, саслоўных інтарэсаў.

**Эвалюцыя соймавай практыкі.** Дастаткова шырокае прадстаўніцтва мелі феадалы з беларускіх зямель Вялікага Княства і ў другім саслоўна-прадстаўнічым органе дзяржаўнай улады – сейме, які канчаткова аформіўся ў канцы XVI ст. Яго з'яўленне было абумоўлена неабходнасцю пашырэння сацыяльнай апоры вярхоўнай улады Вялікага Княства Літоўскага. Бліжэй да сярэдзіны XVI ст. ужо дакладна вызначыліся супярэчнасці паміж арыстакратычнай знаццю і дробнай ды сярэдняй шляхтай, якая дамагалася роўных правоў з магнатэрыяй. У дастаткова складанай знешнепалітычнай сітуацыі (вайна з Масквой) і пры значным уплыве польскай шляхецкай сеймавай дэмакратыі, папулярнай у Вялікім Княстве, магнатэрыя мусіла ісці на ўступкі шляхецкаму асяроддзю ў справе дзяржаўнага кіраўніцтва.

У склад сейма ўваходзілі паны радныя, шматлікія службовыя асобы цэнтральнага і мясцовага дзяржаўнага апарату, а таксама шляхтва ўсіх зямель Вялікага Княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага. Спачатку шляхта запрашалася на сейм пагалоўна, што выклікала залішнюю шматлюднасць. Каб пазбегнуць гэтага, у 1512 г. было ўведзена шляхецкае прадстаўніцтва на сейме: два дэпутаты ад павета. Але ў той жа час не адмаўлялася магчымасць асабістай прысутнасці на сейме ўсялякага шляхціца[1]. З гэтай прычыны некаторыя сеймы былі колькасна перанасычанымі: Баркулабаўскі летапіс адзначае, напрыклад, што на Берасцейскім сейме 1544 г. "так же было множество людей, ... иж на обе стороны около Берестя колконадцать миль стояли"[2].



Кароль польскі
і вялікі князь літоўскі
Жыгімонт Стары

Першапачаткова ў сеймавую кампетэнцыю ўваходзіла вырашэнне пытанняў, якія былі звязаны з заключэннем уніі з Каралеўствам Польскім і выбраннем вялікіх князёў. Да абмеркавання гэтых лёсавызначальных для дзяржавы праблем прыцягваліся прадстаўнікі ўсіх зямель Вялікага Княства Літоўскага. Так, пасля смерці вялікага князя Казіміра былі накіраваны пасланні ад імя паноў-рады гаспадара Аляксандра ў Полацк, Віцебск, Смаленск, Кіеў, Луцк, у якіх выказваліся спадзяванні, што ўсё шляхецкае саслоўе пры выбранні новага валадара будзе "посполу за один с братьею сваею с паны-радою"[3].

Не выключалася з ліку выбаршчыкаў шляхта беларускіх зямель і пры наступных элекцыях (выбарах вялікага князя). "За вольным собраньем тых же всих станов и обывателей великого князьства» быў у 1506 г. узведзены на вяліка-

[1] *Любавский М.К.* Литовско-русский сейм. С. 203.
[2] ПСРЛ. Т. 32. С.174.
[3] АЗР. Т. 1. С. 115–116.

княскі пасад Жыгімонт Стары, а ў 1529 г. на прадстаўнічым сейме, сярод дэпутатаў якога сядзелі "смоляне и полочане, а возле полочан новгородцы, а возле их витебляне», яго пераемнікам быў абраны Жыгімонт Аўгуст[1]. Пры гэтых вялікіх князях пашыралася кола пытанняў, што абмяркоўваліся і вырашаліся на сеймах. На працягу XVI ст. на парадак дня сеймавых пасяджэнняў выносіліся ваенныя праблемы (абвяшчэнне баявых дзеянняў, норма вайсковай службы, вызначэнне падаткаў, на ваенныя патрэбы – "сярэбшчыны"), заканадаўчыя, судовыя[2].

Шырокі ўдзел шляхты беларускіх зямель у сеймавай практыцы, а значыць, і ўмацаванне яе ролі ў палітычным жыцці дзяржавы абумоўлівалася адноснай дэмакратычнасцю выбараў дэпутатаў. Як адзначалася, выбіралася па два прадстаўнікі ад павета (у выніку адміністрацыйнай рэформы 1565 г. Вялікае Княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае падзялялася на 30 паветаў, 16 з якіх цалкам ці часткова накладваліся на сённяшнія беларускія землі). Валодала шляхта і правам асабістага ўдзелу ў працы Сейма. Пры гэтым колькасныя суадносіны шляхты жамойцка-літоўскага рэгіёна і іншых зямель Вялікага Княства былі прыкладна роўнымі: з прыблізна 13 тысяч шляхецкіх сямей Княства каля 7 былі жыхарамі "рускіх" тэрыторый[3].

Геаграфія правядзення сеймавых пасяджэнняў была досыць разнастайнай і не абмяжоўвалася толькі Вільняй – сталіцай Вялікага Княства Літоўскага, хоць там яны арганізоўваліся найчасцей. Дастаткова перыядычна сеймы збіраліся і на сённяшніх беларускіх землях: у Берасці (1464, 1478, 1505, 1511, 1515–1516, 1518–1519, 1524, 1544, 1566), Навагрудку (1502, 1508, 1538), Гародні (1501, 1506, 1522)[4]. З прычыны аддаленасці ад цэнтра дзяржавы, маланаселенасці, блізкасці неспакойнай мяжы з Вялікім Княствам Маскоўскім у гарадах усходняй Беларусі сейм не збіраўся.

Такім чынам, да сярэдзіны XVI ст. шляхецкае саслоўе ўсіх зямель Вялікага Княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага дамаглося значнага пашырэння сваіх палітычных правоў, фармальна дасягнула юрыдычнай роўнасці з князямі і буйной знаццю. Устанаўленне вальнага (усеагульнага) сейма ў якасці найвышэйшага дзяржаўнага органа, які абмяжоўваў уладу вялікага князя, надало палітычнаму ладу Вялікага Княства Літоўскага рысы, што былі ўласцівыя саслоўнай манархіі. У гэтым жа рэчышчы неабходна трактаваць і ўтварэнне ў 1565 г., непасрэдна перад Люблінскай уніяй, павятовых сеймікаў мясцовай шляхты. На іх пасяджэннях абмяркоўваліся пытанні, якія ставіліся на разгляд вальнага сейма, а таксама вырашаліся мясцовыя справы.

Стварэнне павятовых сеймікаў – гэта чарговая саступка з боку перад тым усеўладнай магнатэрыі дробнаму і сярэдняму шляхецтву, што імкнулася да атрымання роўных з буйнымі землеўласнікамі правоў і такога ж вызначальнага палітычнага голасу ў сваім гаспадарстве, які мела ў суседняй Польшчы шырокае шляхецкае саслоўе.

---

[1] ПСРЛ. Т. 35. С. 236; *Любавский М.К.* Очерк истории Литовско-Русского государства... С. 204.

[2] Первый Литовский статут. Т. 1. Ч. 2. Вильнюс, 1985. Раздз. II, арт. 1; Статут Великого княжества Литовского 1566 г. // Временник императорского Московского общества истории и древностей российских. М., 1855. Кн. 23. Раздз. II, арт. 2; раздз. III, арт. 6, 12.

[3] *Ochmański S.* Historiu Litwy... S. 84–85.

[4] *Любавский М.К.* Литовско-русский сейм. С. 123, 125, 188–191, 203, 211, 223–228, 234–237, 271–288, 290–300; *Максимейко И.А.* Сеймы Литовско-Русского государства до Люблинской унии 1569 г. Харьков, 1902. С. 21, 92.

# ГЛАВА 4

## ЗНЕШНЕПАЛІТЫЧНАЕ СТАНОВІШЧА

### 1. Пераход да Масквы ініцыятывы ў "збіранні" ўсходнеславянскіх зямель

**"Вечнае даканчанне" 1449 г. і яго наступствы.** З прыходам да ўлады Казіміра Ягайлавіча, стабілізацыяй унутрыдзяржаўнага жыцця і ўмацаваннем межаў Вялікае Княства Літоўскае прыступіла да актывізацыі ўсходняй палітыкі. Адносіны з вялікім князем маскоўскім Васілём II, у якога знайшоў прытулак Юры Лугвенавіч, а потым і Міхаіл Жыгімонтавіч (Міхалюшка), былі з самага пачатку адкрыта непрыязныя. Князь Дзмітрый Шамяка – галоўны праціўнік Васіля II – наладзіў адносіны з віленскім урадам, што выклікала незадавальненне ў Маскве. Ужо ў 1442 г. без абвяшчэння вайны пачаліся ваенныя дзеянні: масквічы напалі на Вяземскае княства, а літвіны ў адказ атакавалі Мажайск, Казельск, Калугу і Вярэю.

У 1445–1446 гг. адносіны яшчэ раз абвастрыліся, і абодва бакі зноў пavaявалі прыгранічныя раёны. Казімір Ягайлавіч на гэты раз падпарадкаваў Казельск. У той жа час вялікі князь літоўскі заключыў "вечны мір" з Ноўгарадам Вялікім, пасадзіўшы там свайго князя ў якасці "апякальніка", а праз год ініцыяваў афармленне міру з Цвярскім княствам[1]. Грамата, падпісаная з Барысам Аляксандравічам, замацавала васальную залежнасць Цверы ад вялікага князя літоўскага.

Падчас дынастычнага крызісу ў Маскоўскім княстве да Казіміра Ягайлавіча звярнуўся князь Фёдар Львовіч Варатынскі з просьбай ад Івана Андрэевіча Мажайскага: мажайскі князь прасіў узвесці яго на крамлёўскі пасад, за што абяцаў саступіць гарады Ржэў і Медынь. Праўда, на віленскім двары наўрад ці паспелі разгледзець гэты план сур'ёзна[2], бо ўжо праз некалькі месяцаў Іван Андрэевіч заключыў дагавор з Васілём II. Да адкрытай вайны справа не дайшла. Асляплены, Васіль II у 1448 г. з дапамогай Цверы вярнуўся на маскоўскі трон і хутка ўмацаваў свае пазіцыі. З гэтага часу ўсходняя палітыка Казіміра Ягайлавіча пачала карэнным чынам мяняцца.

Вялікі князь Казімір Ягайлавіч прызнаў у Васілю II Сляпым (Цёмным) законнага маскоўскага ўладара і 31 ліпеня 1449 г. падпісаў з ім "вечнае даканчанне". Гэты трактат стаў адным з самых важных яго дыпламатычных актаў, якія прадвызначылі вялікія знешнепалітычныя змены. Сярод асноўных умоў дагавора пра "братэрства і любоў" было размежаванне сфер уплыву на памежныя землі Русі паміж Масквой і Вільняй як двума цэнтрамі іх збірання ды супольная абарона ад татар. Пагадненне дасягалася на аснове кампрамісу. Вялікі князь маскоўскі абавязаўся не ўмешвацца ў справы Смаленшчыны, пагаджаўся на асаблівыя адносіны Вільні з Цвярскім і Разанскім княствамі (разанскі і цвярскі князі ме-

---

[1] *Клюг Э.* Княжество Тверское (1247–1485). Тверь, 1994.
[2] *Natanson-Leski J.* Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. Cz.1. Granica Moskiewska w epoce Jagiellońskiej. Lwów; Warszawa, 1922. S. 48.

лі права "служыць" Літве), трактаваў Вярхоўскіх князёў як васалаў Казіміра, а вялікі князь літоўскі абяцаў не ўступацца за Ноўгарад, Пскоў ды Ржэў[1]. Выбраны ў Маскве мітрапаліт Іона (1448–1461), які адмовіўся падпарадкоўвацца Рыму і сарваў Фларэнтыйскую унію, быў прызнаны мітрапалітам і для праваслаўных ВКЛ. Асобны пункт дамовы тычыўся абавязкаў не прымаць князёў-перабежчыкаў: ва ўладаннях Казіміра – галоўнага саперніка маскоўскага князя Дзмітрыя Шамяку, а ў Маскоўскай дзяржаве – Міхаіла Жыгімонтавіча.

Як даўно прызнана ў гістарыяграфіі, трактат 1449 г. азначаў усталяванне "раўнавагі сіл паміж двума цэнтрамі аб'яднання рускіх зямель"[2]. Згодна з тэкстам граматы, дагавор сапраўды фіксаваў парытэт, аднак для Вільні гэта было крокам назад. Казімір Ягайлавіч пайшоў на ўступкі, якія не вымагаліся тагачаснымі суадносінамі сіл. Магчыма, адной з прычын слабасці яго пазіцый была небяспека, якая зыходзіла ад Міхаіла Жыгімонтавіча (Міхалюшкі). Атрымаўшы ў 1444 г. гарады Клецк, Старадуб і Бранск, той не задаволіўся, бо разлічваў на Трокі (як спадчыну Кейстутавага роду). Таму, уцёкшы ў Маскву, Міхалюшка прэтэндаваў на мітру вялікага князя літоўскага. Сярод князёў і паноў ВКЛ яго кандыдатура на віленскі стол у 1440-х гг. разглядалася досыць сур'ёзна, што сапраўды стварала небяспеку для Казіміра Ягайлавіча. Невыпадкова ўжо летам 1449 г. маскоўскія раці дапамагалі літвінамграміць Міхалюшку. Так "вечнае даканчанне" вырашала праблему галоўнага Казіміравага саперніка на віленскім троне.

Дамова 1449 г. мела далёкасяжныя вынікі. Для Вільні яна стала фактычна паваротным пунктам ранейшай усходняй палітыкі. Падпісаны дакумент азначаў, што сустрэчны рух Вільні і Масквы скончыўся і ВКЛ пераходзіла цяпер да абароны сваіх пазіцый. У адрозненне ад часоў Вітаўта вялікія князі літоўскія не ўмацоўвалі, а ўсё больш страчвалі ўплыў на землях Паўночнай і Усходняй Русі.

Неўзабаве пасля заключэння "вечнага даканчання" выявілася, што абодва бакі па-рознаму ставяцца да падпісанага трактата. Калі Казімір Ягайлавіч імкнуўся трымацца дадзенага слова і стаяў на варце прынятых дамоўленасцей, то Васіль II выкарыстоўваў дагаворы толькі для таго, каб стрымаць праціўніка да першага зручнага моманту. Так пачыналі фарміравацца розныя дыпламатычныя практыкі, розныя падыходы да міжнародных адносін.

Ужо ў 1451 г. Масква атакавала саюзніка Літвы цвярскога князя Барыса Аляксандравіча і прымусіла яго заключыць з Васілём II дагавор, які перакрэсліў ранейшую залежнасць Цверы ад ВКЛ. Цяпер цвярскі князь абавязаўся разам з Масквой выступаць "на Татар, и на Ляхи, и на Литву, и на Немцы"[3]. У 1454 г. да Масквы быў далучаны Мажайск. Мясцовы князь Іван Андрэевіч ратаваўся ўцёкамі ў ВКЛ. Неўзабаве пасля гэтага пад кантроль Васіля II трапіла і Разанскае княства. Хоць "вечнае даканчанне" прызнавала за Казімірам права на асаблівыя адносіны з Разанню, заключыць з ёю новы дагавор на аснове граматы Вітаўта так і не

---

[1] Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею (далей – АЗР). Т. 1. СПб., 1846. №.50.
[2] *Греков И.Б.* Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV–XVI вв. М., 1963. С. 156.
[3] Собрание государственных грамот и договоров. Ч. 1. М., 1813. № 76.

ўдалося, а ў 1456 г., калі разанскі князь Іван Фёдаравіч памёр, у Разані з'явіліся намеснікі вялікага князя маскоўскага. Цікава, што пры гэтым у Маскву быў вывезены разанскі княскі архіў – так Васіль II канфіскоўваў граматы, якія сведчылі пра сувязь Разані з Літвой.

У 1456 г. вялікі маскоўскі князь дамогся перагляду адносін і з Ноўгарадам, падпісаўшы з баярскай рэспублікай так званы Яжалбіцкі дагавор. Гэтая грамата, замацоўваючы падатак з Ноўгарада, патрабавала ад наўгародцаў, сярод іншага, завяраць свае дакументы маскоўскай пячаткай і не даваць прытулку "ліхадзеям"[1]. Цяпер у наўгародцаў не заставалася ілюзій наконт магчымасці лавіраваць паміж Масквой і Вільняй, застаючыся трэцяй сілай. Таму не прайшло і двух гадоў пасля заключэння Яжалбіцкага дагавора, як яны праз свайго пасадніка Івана Лукініча Шчоку папрасілі ў Казіміра Ягайлавіча прыслаць "князя на прыгарадзе". Казімір паслаў у Ноўгарад Юрыя Сямёнавіча Алелькавіча, аднак праз год той вярнуўся ў ВКЛ. І ўсё ж антымаскоўскія настроі ў баярскай рэспубліцы нарасталі, бо неўзабаве наўгародскае пасольства зноў звярнулася да Казіміра, просячы: "князя нам дай из своей державы". Пскоў трапіў у залежнасць ад Масквы ў 1460 г., калі Васіль II навязаў гораду свайго намесніка. Так за адно дзесяцігоддзе сілавых дзеянняў і напорыстай палітыкі, парушаючы ўмовы "вечнага даканчання", вялікі князь маскоўскі паспеў змяніць становішча практычна ўсіх саюзнікаў ВКЛ, а Казімір Ягайлавіч пры гэтым паслядоўна захоўваў нейтралітэт.

Князь Іван III Васільевіч у 1462 г. пераняў ад Васіля II не толькі крамлёўскі стол, але і прынцыпы бацькавай палітыкі, і праводзіць яе ўзяўся больш настойліва. Выкарыстаўшы бунт у Пскове, ён мацней паставіў у залежнасць гэты горад-рэспубліку і пазбавіў яе рэальнай самастойнасці. Наўгародцы, прадчуваючы такі ж вынік, зноў папрасілі ў ВКЛ "князя на кармленне". У лістападзе 1470 г. Казіміравым намеснікам у Ноўгарад прыехаў князь Міхаіл Алелькавіч. Пасля яго прыезду на гарадскім вечы была агучана праграма партыі Барэцкіх: "Не хотим за великого князя московского ни зватися отчиною его, но хотим за короля польского и великого князя литовского"[2]. Стараннем Алелькавіча і "пралітоўскага" наўгародскага баярства аформіўся дагавор паміж Ноўгарадам і вялікім князем літоўскім, які замацоўваў суверэнітэт Казіміра Ягайлавіча над паўночным горадам-рэспублікай, пакідаючы пры гэтым наўгародцам больш правоў, чым наўгародска-маскоўскі дагавор 1456 г.[3] Так "даканчальная" грамата 1471 г. захоўвала "старыну" Ноўгарада, гарантавала непарушнасць праваслаўя, царкоўную незалежнасць і, што асабліва важна, утрымлівала артыкулы ваенна-абарончага саюзу. Згодна з апошнімі, у выпадку нападу маскоўскай раці на наўгародцаў дапамагаць ім мусіў асабіста Казімір або, у яго адсутнасць, – "рада Літоўская".

На практыцы, аднак, ніякай дапамогі наўгародцы не дачакаліся, і нават намеснік Міхаіл Алелькавіч у сакавіку 1471 г. выехаў з Ноўгарада ў ВКЛ. Найверагодней, яго тэрміновы ад'езд быў абумоўлены тым, што князя Міхаіла хваляваў лёс кіеўскай вотчыны пасля смерці роднага брата кіеўскага князя Сямёна Алелькавіча. Аднак, як вядома, Казімір Ягайлавіч

---

[1] *Черепнин Л.В.* Русские феодальные архивы XIV–XV вв. Ч. 1. М.; Л., 1948. С. 363.
[2] Полное собрание русских летописей (далей – ПСРЛ). Т. 25. С. 284.
[3] *Черепнин Л.В.* Русские феодальные архивы XIV–XV вв. Ч. 1. С. 363–364.

ператварыў Кіеўскае княства ў намесніцтва і аддаў яго Марціну Гаштаўту. А Іван III ужо збіраў войска для сілавога падпарадкавання "здраднікаў". Прытым паход на Ноўгарад рыхтаваўся яшчэ ў 1470 г.[1], г.зн. ён не быў справакаваны дагаворам наўгародцаў з Казімірам.



Вялікі князь маскоўскі Іван III

Калі маскоўскае войска набліжалася да Ноўгарада Вялікага, горад папрасіў падтрымкі ў Інфлянцкага ордэна. Магістр Ёган Вольтгус фон Герзе станоўча паставіўся да просьбы і быў гатовы заключыць з наўгародцамі саюз[2]. Рыхтуючыся да актыўных дзеянняў, ён папрасіў дадатковых сіл у Караляўцы, аднак нямецкая дапамога спазнілася. Іван III дзейнічаў імкліва, і 14 ліпеня 1471 г. наўгародскае апалчэнне было разбіта маскоўскім войскам на рацэ Шалоні. З прычыны памежных канфліктаў паміж ВКЛ і Інфлянцкім ордэнам наўгародцы не змаглі паслаць ганца ў Вільню і папрасіць дапамогі. Вялікі князь маскоўскі пакараў смерцю лідэраў "пралітоўскай" партыі, ануляваў наўгародскі дагавор з Казімірам і ў тым жа годзе ў Корастыні падпісаў сваё пагадненне з Ноўгарадам. З тэксту Корастынскай граматы вынікала, што гэты мір заключаўся як "пажалаванне" вялікага князя ў адказ на "чалабіццe" наўгародцаў[3]. Ноўгарад адмаўляўся ад запрашэння літоўскіх князёў і абяцаў "неодступно" заставацца пры маскоўскім князі.

Чаму ж у складаны для наўгародцаў момант Казімір Ягайлавіч не прыйшоў на дапамогу саюзніку? Трэба ўлічваць, што фармальнага права ўмешвацца ў справы Ноўгарада Вялікага яго пазбавіла падпісанае ў 1449 г. "вечнае даканчанне". Цяжка, аднак, паверыць, што вялікі князь стаў поўным нявольнікам літары дагавора. Пералічваючы шэраг фактараў, якія не маглі не паўплываць на пазіцыі ВКЛ у наўгародскім крызісе (нечаканы напад Менглі-Гірэя, спусташэнні на інфлянцкіх межах, заангажаванасць Казіміра на барацьбу за чэшскі трон і венгерскую карону), польскі гісторык Л. Калянкоўскі бачыў ключ да адказу на гэтае пытанне ў цяжкаўлоўнай "змене суадносін дзяржаўных сіл ва Усходняй Еўропе"[4].

Неўзабаве пасля падпісання Корастынскай граматы сярод наўгародцаў зноў выспеў план аб'яднання з ВКЛ. Многія з іх "начаша тайне колебатися, и с королем ляцким и князем литовским ссылатися, зовуще его с воинствы в землю новгородскую", і Казімір быццам абяцаў прыйсці ў Ноўгарад[5]. Аднак Іван III увосень 1477 г., хутка сцягнуўшы да Ноўгарада з розных бакоў вялікія маскоўскія сілы, нават пскоўскія і цвярскія ра-

[1] *Базилевич К.В.* Внешняя политика Русского централизованного государства. М., 1952. С. 87.
[2] Liv- Est- und Curländisches Urkundenbuch. Bd.XII. Riga; Moskau, 1910. № 840. S. 478.
[3] *Черепнин Л.В.* Русскне феодальные архивы XIV–XV вв. Ч. 1. С. 369.
[4] *Kolankowski L.* Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. T. 1. 1337–1499. Warszawa, 1930. S. 313.
[5] *Татищев В.Н.* История Российская. Т. 5. С. 79.

ці, расправіўся з прыхільнікамі ВКЛ[1]. Гэтым разам баярская рэспубліка была канчаткова пазбаўлена аўтаноміі і падначалена ўладзе вялікага князя маскоўскага, а яе вечавыя інстытуты ліквідаваны[2]. Іван III загадаў нават канфіскаваць у наўгародцаў архіўныя граматы, – "чтоб докончания не было им с великими князи литовьскими и с королем"[3].

Страта паўночнага саюзніка балюча перажывалася ў Вільні, але Казімір Ягайлавіч зноў пакінуў яго без дапамогі. Вялікі князь дэманстраваў прыклады выразнага нежадання ваяваць з Масквой і па-ранейшаму трымаўся ўмоў "вечнага даканчання", шматразова парушанага яго саапернікам. Так, калі падчас наўгародскага паходу Івана III яго сыны Андрэй і Барыс уцяклі з сем'ямі ў Вялікія Лукі і папрасілі заступніцтва ў вялікага князя літоўскага – каб той "управил их в обидах с великим князем" (маскоўскім. – *Г.С.*), Казімір не стаў падтрымліваць бунтаўнікоў, толькі даў іх жонкам Віцебск. ВКЛ не валодала ні сродкамі, ні сіламі, каб дастаткова ўмацаваць сваю партыю сярод наўгародцаў, і ў крытычны момант на адкрыты ваенны канфлікт з Масквой не пайшло.

**Курс Масквы на гегемонію ва Усходняй Еўропе.** З падпарадкаваннем Ноўгарада Вялікага даследчыкі звязваюць з'яўленне комплекса гістарычна-палітычных ідэй, што сталі асновай афіцыйнай ідэалогіі Маскоўскай дзяржавы і яе цэнтралізатарскай палітыкі. Новыя летапісныя зводы, што ствараліся адразу пасля наўгародскіх паходаў (у 1472 і 1479 гг.), трактавалі далучэнне Ноўгарада як вяртанне ў склад "вотчыны" адной з яе частак. У іх упершыню выказвалася ідэя адзінства правячай дынастыі, а значыць, і адзінства гістарычнага працэсу на Русі[4]. Адсюль бярэ пачатак ператварэнне афіцыйных маскоўскіх летапісаў у "чытанку для палітычнага выхавання падданых"[5], важнае месца ў якой займала прапаганда "кіеўскай спадчыны", што стала эфектыўнай палітычнай зброяй у руках маскоўскага ўрада. Ужо ў 1478 г. Іван III запатрабаваў ад Казіміра Ягайлавіча Полацк, Віцебск, Смаленск ды іншыя гарады ВКЛ як сваю "вотчыну". Падобныя тэрытарыяльныя дамаганні, падмацаваныя тэорыяй "кіеўскай спадчыны", у апошняй трэці XV ст. істотна абвастралі адносіны паміж Масквой і Вільняй.

Не менш важным для ўзвелічэння ўлады вялікага князя маскоўскага і яго царкоўнага ўладыкі стаў тэзіс аб заняпадзе Царграда і пераносе сусветнага цэнтра праваслаўя на Русь, у Маскву, выказаны ў вялікакняскім зводзе 1479 г. Так маскоўская афіцыйная ідэалогія выкарыстала ідэі царкоўных твораў 1440–1460-х гг., скіраваных супраць Фларэнтыйскага сабора, – аснову тэорыі "Масква – трэці Рым", якая была канчаткова аформлена ў 1520-х гг. У захопе Канстанцінопаля туркамі (1453) маскоўскія ідэолагі бачылі кару за заключэнне Фларэнтыйскай уніі 1439 г.[6],

---

[1] *Белязин В.* Политика Ивана III в Юго-Восточной Прибалтике // Вестник МГУ. Сер. IX. История. 1964. № 6. С. 86.

[2] Падрабязна пра падпарадкаванне Ноўгарада Іванам III гл.: *Карпов Г.* История борьбы Московского государства с Польско-Литовским. 1462–1508 // Чтения в Обществе истории и древностей российских. Кн. 3-4. М., 1866. С.41–96.

[3] *Черепнин Л.В.* Русские феодальные архивы XIV–XV вв. Ч. 1. С. 323.

[4] *Гольдберг А.* У истоков московских историко-политических идей XV в. // ТОДРЛ. Вып. 24. Л., 1969. С. 148.

[5] *Приселков М.* История русского летописания XI–XIV вв. Л., 1940. С. 10.

[6] *Ševčenko I.* Byzantium and the Eastern Slavs after 1453 // Harvard Ukrainian Studies. V. II (1978). N. 1. P. 7.

і цяпер на ролю сталіцы універсальнай хрысціянскай дзяржавы мела прэтэндаваць Масква.

Шлюб Івана III з апошняй прадстаўніцай візантыйскага імператарскага дому Соф'яй Палеалог (1472) толькі наблізіў Маскву да наследавання палітычнай ролі "Рамейскага царства". У 1480 г. у "Пасланні на Угру" растоўскі архіепіскап Васіян, заклікаўшы Івана III выступіць супраць татарскага цара Ахмата, упершыню звярнуўся да яго як да сапраўднага "рускіх краін вялікага хрысціянскага цара". Гэты тытул утрымліваў далёкасяжную палітычную праграму – ён служыў легітымізацыяй дамагання ўлады маскоўскіх князёў і цароў над усімі ўсходнеславянскімі землямі, нават тымі, якія ніколі не ўваходзілі ў Маскоўскую дзяржаву. Вялікі князь літоўскі не валодаў такой эфектыўнай ідэалагічнай зброяй.

Пазіцыі ВКЛ у супрацьстаянні з Маскоўскай дзяржавай значна аслабіла і змена знешнепалітычнага курсу Крымскага ханства, кансалідаванага пад уладай дынастыі Гірэяў. Калі раней хан Ачы-Гірэй захоўваў мірныя адносіны з Казімірам Ягайлавічам, то яго наступнік Менглі-Гірэй з самага пачатку 1470-х гг. пайшоў на кантакты з Іванам III. Адной з прычын гэтага маглі стаць перагаворы паміж ВКЛ і варожай Крыму Вялікай Ардой, якія вяліся ў Сарай-Берку з мэтай утварэння антымаскоўскага саюзу[1]. Фармальна захоўваючы добрасуседскія адносіны з Вялікім Княствам і Каронай Польскай, Менглі-Гірэй стаў хутка зближацца з Масквой. Ён наўрад ці адважыўся б разрываць саюз з ВКЛ да таго часу, пакуль Крыму сур'ёзна пагражалі іншыя улусы Залатой Арды. Але саюз з узмацнелай Масквой мяняў сітуацыю, і ўжо ў 1474 г. перакопскія татары ажыццявілі набег на паўднёвыя ўладанні Казіміра Ягайлавіча.

Вялікі князь Іван III і сам настойліва шукаў шляхоў збліжэння з крымскім ханам. У яго ўзаемаадносінах з Крымам важным інструментам былі "памінкі" – грошы і падарункі, якія высылаліся крымскай знаці ў якасці ўзнагароды за дзеянні ў інтарэсах Масквы. Перагаворы аб саюзе супраць "вопчих врагов" маскоўскі князь пачаў з Менглі-Гірэем яшчэ ў 1472 г., аднак апошні хутка страціў ханскую ўладу, звергнуты ўладаром Вялікай Арды Ахмат-ханам. Калі ж пры турэцкай падтрымцы Менглі-Гірэй зноў вярнуў сабе Крымскае ханства, то не пазней чым у 1480 г. Іван III заключыў з ім наступальна-абарончы саюз супраць Вялікага Княства Літоўскага і Заволжскай Арды[2]. Саюз з Крымскім ханствам даваў Івану III магчымасць стрымліваць Ахмата-хана і ўплываць на Казіміра Ягайлавіча, з поўдня пагражаючы землям ВКЛ і Кароны. Гэты механізм хутка паказаў сваю эфектыўнасць.

Дыпламатыя ВКЛ у гэтых адносінах моцна саступала маскоўскай, і адной з прычын яе слабасці была адсутнасць гаспадара на віленскім двары. Падлічана, што ў межах ВКЛ ён наўрад ці правёў хоць трэцюю частку свайго княжання. Стаўшы ў 1447 г. польскім каралём, Казімір Ягайлавіч праводзіў у Кракаве намнога больш часу, чым у Вільні, і займаўся пераважна польскімі ды еўрапейскімі справамі. А лацінскую Еўропу та-

---

[1] *Греков И.Б.* Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV–XVI вв. С. 163.

[2] Сборник Русского исторического общества. Т. 41. С. 19; *Базилевич К.В.* Внешняя политика Русского централизованного государства... С. 106–107.

ды хвалявала найперш узрастанне пагрозы з боку Асманскай імперыі. Захоп Канстанцінопаля туркамі ў 1453 г., а потым і падпарадкаванне імі Крымскага ханства (1466) вымушалі Казіміра Ягайлавіча ўзгадняць сваю палітыку з антытурэцкімі планамі. Думаючы пра вайну з Портай, ён імкнуўся захоўваць мір з Масквой. Яшчэ больш увагі ў польскага караля патрабавала працяглая вайна Польшчы з Тэўтонскім ордэнам, што цягнулася з 1453 па 1466 г. ВКЛ у ёй афіцыйна не брала ніякага ўдзелу, бо трымалася "вечнага міру" з Ордэнам, падпісанага ў 1448 г.

Увесь гэты час праблемы ўсходняй палітыкі былі моцна занядбаныя віленскім дваром. Толькі ў 1470 г. Казімір Ягайлавіч упершыню пасля каранацыі наведаў Полацк, Віцебск і Смаленск. Але неўзабаве яму адкрылася перспектыва ўзвядзення сваіх сыноў на чэшскі і венгерскі троны, што зноў надоўга адцягнула вялікага князя ад надзённых праблем сваёй дзяржавы. Пастаянная адсутнасць манарха зніжала эфектыўнасць цэнтральнай улады, адмоўна адбівалася на дзяржаўнай палітыцы Вялікага Княства. Гэта справядліва выклікала незадаволенасць паноў і князёў. Паны-рада неаднаразова прасілі Казіміра, каб ён або стала знаходзіўся ў межах свайго княства, або згадзіўся на абранне новага гаспадара. Пытанне пра выбар новага вялікага князя тройчы ставілася гаспадарскай радай. У 1456 г. як кандыдат на віленскі пасад фігураваў Сямён Алелькавіч – праваслаўны слуцкі князь, праўнук Альгерда, якога выстаўляла палітычная эліта не толькі беларуска-ўкраінскіх, але і ўласна літоўскіх зямель. Іх партыю ўзначальвалі віленскі ваявода Ян Гаштаўт і праваслаўны князь Юры Астрожскі. У 1461 г. зноў прапанавалася кандыдатура Сямёна Алелькавіча. У якасці альтэрнатыўнага варыянта гаспадара прасілі перадаць вялікакняскую ўладу аднаму са сваіх сыноў. Аднак Казімір ні на што не пагаджаўся. У 1478 г. на нарадзе ў Берасці ён заявіў, што "пры сваім жыцці нікому не даручыць кіравання Літвою". На той жа сустрэчы было прынята рашэнне рыхтавацца да вайны з Масквою, і на наступны год Казімір прыехаў у ВКЛ.

Антымаскоўскі паход, у якім мусіў браць удзел і хан Ахмат, быў запланаваны на вясну 1480 г.[1] Татары бачылі свае інтарэсы ў супольным паходзе. Яшчэ ў 1476 г., калі хан Ахмат быў заняты крымскімі справамі, Іван III выкарыстаў зручную сітуацыю і спыніў выплату даніны Вялікай Ардзе[2]. Таму хану важна было правучыць маскоўскага васала. Летам 1480 г. Ахмат павёў супраць Івана III вялікую армію, а на злучэнне з татарамі, як адзначаў маскоўскі летапісец, павінна было прыйсці войска Казіміра[3]. Аднак армія ВКЛ так і не прыйшла да татар, і двухтыднёвае "стаянне" на Угры скончылася безвынікова. Пасля перагавораў, ініцыяваных Іванам III, і няўдалых спроб татарскай конніцы ў сярэдзіне кастрычніка 1480 г. пераправіцца цераз Угру хан Ахмат вырашыў адыходзіць у Арду.

Праўдападобна, нейкія з яго патрабаванняў былі прынятыя схільным да кампрамісу Іванам III. Акрамя таго, наступілі маразы, і татарскае войска, змучанае працяглым "стаяннем", мусіла хутчэй вяртацца дамоў.

[1] *Kolankowski L.* Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. T. 1. 1337–1499. S. 335–336.
[2] *Базилевич К.В.* Внешняя политика Русского централизованного государства... С. 108.
[3] ПСРЛ. Т. 20. С. 338.

Згодна з маскоўскім летапісам, па дарозе Ахмат "роспусти вои по всей земле Литовской"[1] – спустошыў 12 гарадоў у басейне Верхняй Акі, г.зн. уладанні "вярхоўскіх" князёў, якія з'яўляліся васаламі Казіміра Ягайлавіча. Паведамленне летапісца пра гэты ўчынак Ахмата выклікае пытанні, бо калі татары сапраўды спадзяваліся на дапамогу вялікага князя літоўскага, то пусташэнне яго ўладанняў не адпавядала іх інтарэсам. А праз некалькі месяцаў трагічна загінуў сам хан Ахмат: 6 студзеня 1481 г. ён быў забіты сапернікамі на данской зімоўцы. Гэтым скончыліся спробы адрадзіць магутнасць Залатой Арды, якая пазней, пры дзецях Ахмата толькі драбілася і слабела, не ўяўляючы былой пагрозы для Масквы.



Татарскі коннік.
З сярэднявечнай гравюры

**Непаслядоўнасць знешняй палітыкі ВКЛ.** Чаму ж кароль і вялікі князь Казімір не выкарыстаў шанцу і не пайшоў на дапамогу саюзніку? З магчымых прычын гісторыкі адзначаюць дзве найважнейшыя – напад Менглі-Гірэя на Падолле і выступленне супраць Казіміра яго васальных князёў. Незадаволенасць Казімірам Ягайлавічам, асабліва палітыкай цэнтралізацыі і ліквідацыі ўдзелаў, вылілася ў бунт праваслаўных удзельных князёў супраць манарха. У 1480 г. нашчадкі Альгерда слуцкі князь Міхаіл Алелькавіч і Фёдар Бельскі, а таксама Юры Гальшанскі ды Іван Глінскі падрыхтавалі замах на гаспадарскую сям'ю з мэтай ажыццяўлення дзяржаўнага перавароту. У змове ўдзельнічалі не толькі прадстаўнікі русінскай арыстакратыі, але і літоўскія паны[2]. Планавалася, што Казімір IV будзе забіты ў Кобрыні, куды ён меўся прыехаць на вяселле Фёдара Бельскага з Ганнай Кобрынскай. Аднак змоўшчыкаў своечасова выкрылі. Гальшанскага ды Алелькавіча схапілі і 30 жніўня 1481 г. пакаралі смерцю – прылюдна адсеклі галовы на адной з плошчаў у Вільні, а Бельскі з Глінскім уцяклі ў Маскву[3]. Там яны хацелі атрымаць дапамогу і абяцалі за гэта далучыць да маскоўскіх уладанняў беларускія землі "па Бярэзіну". Пазней гэтае іх выступленне выдавалася за праяву імкнення беларусаў да Масквы.

Падзеі 1480–1481 гг. у ВКЛ даўно прыцягвалі ўвагу даследчыкаў і атрымалі розныя інтэрпрэтацыі. У польскай гістарыяграфіі маштабнасць і матывы інцыдэнту ў ВКЛ ацэньвалася даволі стрымана. Напрыклад, Оскар Галецкі адзначаў, што змова мела характар радавой акцыі Алелькавічаў[4]. Падкрэслівалася таксама, што далучэнне ўсходніх зямель ВКЛ да Масквы не было мэтай змовы, а разглядалася як плата за маскоўскую дапамогу[5]. У расійскай савецкай гістарыяграфіі лічылася,

[1] Цыт. па: *Базилевич К.В.* Внешняя политика Русского централизованного государства... С. 138.
[2] Scriptores Rerum Prussicarum (далей – SRP). T.IV. Leipzig, 1870. S. 687.
[3] ПСРЛ. Т. 20. С. 348; Skarbiec dyplomatów papezkich, cesarskich, królewskich... / Zebrał i w treści opicał I. Daniłłowicz. T. II. Wilno, 1862. № 212.
[4] *Halecki O.* Dzieje unii jagiellońskiej. T. 1. Kraków, 1919. S. 425–426.
[5] *Papée F.* Polska i Litwa na przełomie wieków średnich. T. 1. Kraków, 1904. S. 75.

што гэта было паўстанне, якім азнаменаваўся рух праваслаўнага насельніцтва ВКЛ за далучэнне да Маскоўскай Русі. Так, І. Грэкаў бачыў за змовай князёў "шырокую аснову" барацьбы "за збліжэнне з Масквой" і дыпламатычную падрыхтоўку "далучэння Падняпроўя да Маскоўскай Русі"[1]. Паўстаннем праваслаўнага насельніцтва на чале з рускімі князямі называў падзеі 1480–1481 гг. таксама Л. Чарапнін[2]. Падобным чынам трактаваў іх і К. Базілевіч[3].

Можна зразумець жаданне расійскіх гісторыкаў гіпербалізаваць канфесійна-этнічны антаганізм у дзяржаве Ягайлавічаў і ў змове праваслаўных князёў убачыць цэлы "рух" супраць Казіміра, які паралізаваў ВКЛ, ды звязаць яго з "сильным движением православного населения в сторону присоединения к Москве"[4]. Аднак, напрыклад, меркаванні М. Грушэўскага аб тым, што князі кіраваліся намерам вярнуць Кіеўшчыну і выставіць Алелькавіча на вялікакняскі пасад[5], успрымаюцца намнога больш пераканаўча, чым версія пра этнічныя матывы выступлення. Важна, што не толькі польскія даследчыкі, але і згаданы М. Грушэўскі, і расійскі вучоны А. Праснякоў ставілі пад сумненне значнасць і маштабы інцыдэнту 1480–1481 гг., бачачы ў ім дынастычна-радавую змову[6].

Найверагодней гэта сапраўды была дынастычная змова старой княскай арыстакратыі, якая лічыла сябе паўнапраўнай пераемніцай віленскага пасада і не пагаджалася з ліквідацыяй удзелаў. Бунт князёў не меў ні этнічных, ні рэлігійных матываў і на грамадскі рух не апіраўся. Нямецкі гісторык Хорст Ябланоўскі, які грунтоўна даследаваў становішча тагачасных русінаў (беларускага і ўкраінскага насельніцтва) у Вялікім Княстве Літоўскім, не знайшоў ні рэлігійных, ні тым больш этнічных матываў у фактах пераходу часткі яго эліты ў падданства маскоўскага ўладара[7]. Да блізкіх вынікаў прыйшоў іншы заходні даследчык Освальд Бакус[8]. Арыентацыя тагачаснай палітычнай апазіцыі Казіміру Ягайлавічу наогул не адлюстроўвала настрояў шырокіх колаў грамадства.

Тым не менш змова такіх аўтарытэтных на Русі арыстакратычных родаў была надзвычай небяспечнай для Казіміра. Іх здрады дзяржаўным інтарэсам і навязаных адносін з маскоўскім урадам было дастаткова, каб стрымаць вялікага князя ад антымаскоўскай акцыі. Апрача ўнутранай небяспекі настроі на віленскім двары ў 1480 г. магло значна змяніць і ўварванне перакопскай Арды. Хоць Менглі-Гірэй сам накіраваў пасла да Казіміра Ягайлавіча для заключэння міру, пасля чаго ў Крым паспеў выехаць пасол Іван Глінскі з пацвярджэннем прыняцця дагавора, у сярэдзі-

[1] *Греков И.Б.* Очерки по истории международных отиошений Восточной Европы XIV–XVI вв. С. 192.
[2] *Черепнин Л.* Образование Русского централизованного государства в XIV–XV вв. М., 1960. С. 878.
[3] *Базилевич К.В.* Внешняя политика Русского централизованного государства... С. 153–154 і інш.
[4] Там жа. С.136, 138, 177.
[5] *Грушевський М.* Історія України–Русі. Т.4. Львів, 1907. С.229.
[6] *Пресняков А.Е.* Лекции по русской истории. Т.2. Западная Русь и Литовско-Русское государство. М., 1939. С.157.
[7] *Jablonowski H.* Westrussland zwischen Wilna und Moskau. Die politische Stellung und die politische Tendenzen der russischen Bevölkerung des Grossfürstentums Litauen im XV Jh. Leiden, 1953.
[8] *Backus O.* Motives of West Russian nobles in deserting Lithuania for Moscov 1377–1514. Lawrence; Kansas, 1957. S. 99.

не кастрычніка крымская конніца ўварвалася ў Падольскую (па іншых крыніцах – Валынскую) зямлю, "служа великому князю" (Івану III. – *Г.С.*)[1]. І адбылося гэта ў той самы час, калі хан Ахмат стаяў на Угры і чакаў падмогі з ВКЛ.

У выніку ў 1480 г. не толькі сарваўся план супольнага ўдару па Маскоўскім княстве дзвюх саюзных дзяржаў, які ў выпадку рэалізацыі найверагодней прынёс бы поспех, але на нейкі час разбурыўся і сам небяспечны для Івана III альянс. Падобным чынам былі змарнаваны і магчымасці ваеннага саюзу з Інфлянцкім ордэнам. Калі на пачатку 1480 г. пачалася вайна Івана III з Інфлянтамі, то ўжо 30 сакавіка магістр Бернд фон дэр Борг, які спадзяваўся на дапамогу Казіміра, інфармаваў яго, што высылае ў Кракаў пасла для перагавораў аб антымаскоўскім саюзе. На першы погляд, знешнепалітычная сітуацыя давала Казіміру шанц вярнуць ініцыятыву ў адносінах з маскоўскім князем. Але пскавічы, праслаўшы свайго пасадніка Васіля Лагіновіча, прасілі яго не дапамагаць магістру, які "виноват перед Псковом", – і Казімір не ўмяшаўся ў вайну. У канцы таго ж года Бернд фон дэр Борг усё яшчэ меў намер уключыць у саюз супраць Масквы як ВКЛ, так і Польскую Карону, але далей планаў справа не пайшла. Тым часам інфлянцкія немцы цярпелі няўдачы. Пасля безвыніковай аблогі Ізборска і Пскова страта крэпасцей Феліна, Ронебурга, Каркуса і Тарваста прымусіла магістра ў лютым 1481 г. заключыць з Іванам III 10-гадовае перамір'е[2].

Адмовіўшыся ад антымаскоўскай ваеннай кампаніі, Казімір Ягайлавіч у пачатку 1481 г. паслаў пасольства да вялікага князя маскоўскага, прапануючы яму "любоў і даканчанне"[3]. Аднак перагаворы не далі жаданых вынікаў. Праз год у Маскву быў накіраваны маршалак і полацкі намеснік Багдан Саковіч, які прасіў вярнуць Ноўгарад Вялікі: згодна з дамовай 1471 г. гэты горад-рэспубліка лічыўся падвасальным уладаннем Казіміра Ягайлавіча. У адказ на гэта Іван III выступіў з дамаганнем новых "своих городов, волостей и земель, которые король под собой держит".

**Перавага Масквы ў правядзенні ўсходняй палітыкі.** Калі ў адносінах з Масквой спроба ўнармаваць іх толькі абвастрыла напружанасць, то перагаворы з Крымам, якія вяліся ў 1480–1481 гг., скончыліся заключэннем саюзу паміж ханам і вялікім князем літоўскім. У той сітуацыі Масква запатрабавала ад Менглі-Гірэя не толькі разарваць саюз з Казімірам, але і паслаць у зямлю "недруга" татарскае войска, прычым маскоўскі князь асабліва настойваў на ўдары па Кіеўшчыне або Падольскай зямлі[4]. Апынуўшыся перад жорсткім выбарам, крымскі хан аддаў перавагу саюзу з Іванам III. Татарскі налёт на Кіеў у верасні 1482 г. аказаўся зусім нечаканым і настолькі знішчальным[5], што помніўся праз пакаленні. Катастрофа Кіева выклікала на віленскім двары рашучасць даць адпор Маскве, і ў 1483 г. на ўсходніх замках ВКЛ пачалі з'яўляцца войскі. Пасланцы Казіміра Стрэт Салтанавіч ды Івашка Рагозін заняліся на-

[1] *Базилевич К.В.* Внешняя политика Русского централизованного государства... С. 135.
[2] *Белязин В.* Политика Ивана III в Юго-Восточной Прибалтике. С. 87.
[3] Сборник Русского исторического общества. Т. 41. № 6. С. 26.
[4] *Базилевич К.В.* Внешняя политика Русского централизованного государства... С. 175–177.
[5] ПСРЛ. Т. 20. С. 349; *Грушевський М.* Історія України–Русі. Т. 4. С. 273.

ладжваннем саюзу з ханамі Вялікай Арды. Канцэнтрацыю сваіх сіл каля заходніх межаў праводзіў і Іван III, які таксама шукаў новых саюзнікаў. Вясною 1484 г. быў афармлены маскоўска-венгерскі альянс супраць Ягелонаў, саўдзельнікам якога стаў малдаўскі ваявода Стэфан.

Да вайны паміж Масквой і Вільняй не дайшло з-за звестак пра падрыхтоўку вялікага паходу турэцкага султана Баязета ва ўладанні Казіміра. Гэта прымусіла караля і вялікага князя ўсю ўвагу і сілы засяродзіць на паўднёвых межах дзяржавы. У 1484 г. Казімір Ягайлавіч ад'ехаў у Польшчу, каб заняцца агульнай мабілізацыяй, а з Вільні ў Маскву накіраваўся пасол Ян Юр'евіч Забярэзінскі, які павёз праект замірэння. Івану III было прапанавана таксама выдаць адну з дачок за Казіміравага сына. Місія Забярэзінскага мела свой плён: з абодвух бакоў былі адведзены ад мяжы сканцэнтраваныя раней войскі. Гэта дало магчымасць перавесці сілы на поўдзень, аднак не перашкодзіла султану Баязету з вялікай арміяй перапраўіцца праз Дунай і летам 1484 г. авалодаць чарнаморскімі фартэцыямі Кілія і Белгарад, што ўспрымалася як паражэнне польскага караля.

Турэцкая небяспека забірала ўсю ўвагу Казіміра Ягайлавіча, які да 1487 г. займаўся пераважна мабілізацыяй сіл супраць Баязета. Летам 1485 г. на паўднёвыя межы дзяржавы разам з кароннымі было выстаўлена і ўсё войска ВКЛ, а таксама харугвы многіх васалаў Казіміра. Увесь гэты час усходнія землі Княства заставаліся адкрытымі, і атака Івана III магла б скончыцца для іх фатальна. Таму абвастрэнне адносін з Масквой зноў не адпавядала інтарэсам Казіміра. Наадварот, рэзкае ўзрастанне пагрозы турэцкай экспансіі супраць Еўропы ўваскрашала праекты шырокай антытурэцкай кааліцыі, у якую меркавалася ўключыць і Маскоўскую дзяржаву. Між тым Іван III, апантаны ідэяй барацьбы з Казімірам, меў уласныя меркаванні наконт ворагаў і саюзнікаў. Развіваючы адносіны з Венгрыяй і навязваючы першыя кантакты з Габсбургамі, у 1484 г. ён разлічваў і на цеснае збліжэнне з Турцыяй[1]. Марна спрабуючы ўцягнуць яго ў антытурэцкую кааліцыю, Казімір у 1486 г. двойчы накіроўваў паслоў у Маскву, просячы выступіць "супраць таго ворага ўсяго хрысціянства", а маскоўскі пасланец у той самы час перадаваў Менглі-Гірэю ўказанні Івана III, які заклікаў перакопцаў ударыць на Кіеў і Падолле, і чым большае будзе спустошэнне – тым лепш.

Турэцкая небяспека не толькі прыкавала да паўднёвых межаў увагу Казіміра Ягайлавіча і ягонага двара, але і пазбавіла ўсялякай надзеі на дапамогу яго саюзнікаў на Русі. Чуткі пра тое, што магутны турэцкі султан "королю литовскому недруг", проста абяззбройвалі іх перад націскам Івана III. І калі разгром Ноўгарада Вялікага выклікаў хвалю антымаскоўскай рэакцыі рускіх удзельных князёў і іх чарговыя спробы заручыцца саюзам з Вільняй, то Іван III адказваў на гэта крайнімі контрмерамі і ўсталяваннем яшчэ больш жорсткага кантролю. Яшчэ ў 1483 г., парушаючы царкоўныя каноны, Масква прыслала ў Ноўгарад свайго епіскапа, які непавагай да "старыны" выклікаў "смуту" наўгародцаў. У адказ на яе новыя ўлады зноў наладзілі пакаранне мяцежнікаў. Калі зімой

---

[1] *Kolankowski L.* Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. T. 1. 1337–1499. S. 368.

1486/87 гг. тут выкрылі змову супраць маскоўскага намесніка, то ў дадатак да расправы са змоўшчыкамі каля 7 тыс. наўгародцаў было выслана ў маскоўскія землі[1]. Замест іх урад Івана III сяліў дзяцей баярскіх з Масквы, а каб канчаткова разбурыць вечавы лад Ноўгарада, праводзіў канфіскацыю баярскіх і манастырскіх зямель.

У 1483 г. Іван III навязаў Разані дагавор, які цалкам пазбаўляў яе палітычнай самастойнасці[2]. Калі цвярскі князь Міхаіл Барысавіч, бачачы гэта, змяніў свае адносіны да Масквы і заключыў саюз з Казімірам, абавязваючыся стаяць "за адно" супраць усіх ворагаў[3], то Іван III паслаў на Цвер вялікую раць, якая папаліла гарады і "плениша всю землю" цвярскога князя. У выніку ў сакавіку 1485 г. Міхаіл Барысавіч падпісаў новае маскоўска-цвярское даканчанне – фактычна антылітоўскі саюз, які цалкам пазбаўляў яго палітычнай самастойнасці[4]. Цвярская зямля – бацькаўшчына Ягайлавай маці, адзін з першых прэтэндэнтаў на лідэрства на Русі і даўні сапернік Масквы – цяпер стала "за адно" з Масквою і абавязвалася выступаць супраць "Літвы". Калі пасля гэтага цвярскі князь паспрабаваў яшчэ раз усталяваць сувязі з Казімірам, яго грамата была перахоплена і на Цвер зноў рушыла маскоўская армія. Тады Міхаіл Барысавіч уцёк у Вялікае Княства Літоўскае, куды за два гады да таго перабег вярэйскі князь Васіль Міхайлавіч.

Такім чынам, за першую палову 1480-х гг. Іван III дамогся перазаключэння дагавораў з усімі ўдзельнымі князямі, сэнс якога быў у поўнай ліквідацыі іх самастойнасці. Удзельныя князі, якія яшчэ нядаўна маглі "служыць" вялікаму князю літоўскаму, падпісалі "даканчання" з Масквой, у якіх называлі маскоўскага князя не толькі "старэйшым братам", але і "гаспадзінам", вялікім князем "усяе Русі"[5]. А Казімір Ягайлавіч, то заняты вайной з Ордэнам, то прываблены венгерскім ды чэшскім тронам, то паралізаваны турэцкай небяспекай, ніводнага разу не дапамог сваім саюзнікам ваеннай сілай.

У сярэдзіне 1480-х гг., маючы надзейным саюзнікам крымскага хана, Іван III мог узяцца за падпарадкаванне ўдзелаў Вялікай Арды. Падтрымліваючы дынастычнае супрацьборства ў Казані, ён хутка дамогся аслаблення гэтага ханства. Калі ў 1487 г. Казань была захоплена маскоўскім войскам, а казанскі хан зняволены і сасланы, новым ханам Іван III пасадзіў там Мухамед-Эміна як свайго васала. Неўзабаве ў арбіту маскоўскай залежнасці трапіла і Нагайская Арда. Вялікі князь Казімір і паны-рада імкнуліся вярнуцца да саюзу як з Менглі-Гірэем, на баку якога стаяла Турцыя, так і з улусамі Вялікай Арды. Але спробы перацягнуць крымскага хана на свой бок правальваліся стараннем маскоўскай дыпламатыі. Дзякуючы актыўнай дзейнасці гаспадарскіх паслоў у 1484 г. удалося заключыць "даканчанне" толькі з "Ахматавымі дзецьмі". У выніку ўзноўленага саюзу ў 1487 і 1490 гг. татары Вялікай Арды ў паразуменні з Казімірам Ягайлавічам ажыццявілі шэраг паходаў супраць Крыма[6], аднак гэта істотна не аслабіла пазіцый Менглі-Гірэя. Пры падтрымцы вялікага князя

[1] *Бернадский В.* Новгород и Новгородская земля в XV в. М.; Л., 1961. С. 322 і інш.
[2] *Черепнин Л.В.* Русские феодальные архивы XIV–XV вв. Ч. 1.С. 206.
[3] АЗР. Т. 1. № 79.
[4] *Черепнин Л.В.* Русские феодальные архивы XIV–XV вв. Ч. 1. С. 202–204.
[5] *Базилевич К.В.* Внешняя политика Русского централизованного государства... С. 205.
[6] Там жа. С. 190–191.

маскоўскага ён ужо ў пачатку 1490-х гг. святкаваў перамогу над паралізаванай унутранымі супярэчнасцямі ардой "Ахматавых дзяцей".

Цяпер, калі грозная раней Вялікая Арда перастала ўяўляць небяспеку для Масквы, Іван III атрымаў магчымасць засяродзіць усе сілы на барацьбе з Вялікім Княствам Літоўскім. Памежныя сутыкненні, што здараліся з пачатку 1480-х гг., у 1486-м набылі самы сур'ёзны характар. Без абвяшчэння вайны ў 1487 г. з санкцыі Івана III на ўсёй працягласці дзяржаўнай мяжы пачаліся ваенныя дзеянні, якія зводзіліся да пустошэння валасцей, прыналежных ВКЛ, і масавага вываду жыхароў у Маскоўскую дзяржаву. Так вялікі князь маскоўскі "войну по миру пустил"[1].

За 1480-я гг., пасля гістарычнага вызвалення ад Вялікай Арды на берагах Угры, сіла і аўтарытэт вялікага князя маскоўскага непараўнальна ўзраслі. Невыпадкова ў 1486 і 1489 гг. да яго прыязджаў габсбургскі пасол Мікалай Попель, які нават прапанаваў Івану III каралеўскую карону[2]. На імператарскім двары бачылі ў Маскве не столькі патэнцыйнага ўдзельніка антытурэцкага альянсу, колькі саюзніка для ціску на Казіміра Ягайлавіча з яго палітыкай дамагання Венгрыі і Чэхіі. І хоць гэтыя намеры не ажыццявіліся, дыпламатычныя кантакты з Габсбургскай імперыяй спрыялі міжнароднаму аўтарытэту Маскоўскай дзяржавы, а над Вялікім Княствам Літоўскім навісаў цень будучай габсбургска-маскоўскай кааліцыі.

## 2. Вялікае Княства Літоўскае перад пагрозай антыягелонскіх кааліцый канца XV – пачатку XVI ст.

**Вытокі антыягелонскай кааліцыі.** Праблематыка антыягелонскіх кааліцый Габсбургаў і Масквы супраць Ягелонскіх дзяржаў укладваецца ў даволі кампактны перыяд – з канца XV ст. па 1514 г. Яго асаблівасцю было ўзмацненне супольнасці гістарычнага працэсу ў маштабе ўсёй Еўропы – з "сумы дзяржаў" Еўропаператваралася ў іх сістэму, што надавала лакальным канфліктам агульнаеўрапейскую, сістэмную значнасць[3]. Апроч таго, у канцы XV – першай палове XVI ст. інтэнсіфікацыя міждзяржаўных зносін прывяла да ўзнікнення сучаснай сістэмы арганізацыі пасольскай службы – сталых дыпламатычных прадстаўніцтваў[4].

На гэтым фоне ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе адбываліся палітыка-дынастычныя працэсы, якія шмат у чым вызначылі далейшае развіццё дзяржаў рэгіёна. Да пачатку 1490-х гг. ужо амаль паўстагоддзя манархам Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага з'яўляўся патрыярх дынастыі Казімір Ягайлавіч – дасведчаны палітык і бацька вялікай сям'і. Яго старэйшы сын Уладзіслаў у 1471 г. быў абраны на чэшскі трон і ўвенчаны каронай св. Вацлава. Пасля таго як у 1490 г. аказаўся вакантным венгерскі трон, Уладзіслаў пад імем Уласла стаў і венгерскім

---

[1] АЗР. Т. 1. № 110.

[2] *Uebersberger H.* Österreich und Russland seit dem Ende der XV Jh. Wien, 1605. S. 11.

[3] *Feuter E.* Geschichte des europäischen Staatensystems von 1492 bis 1559. München; Berlin, 1919. S. 45–46; *Ивонин Ю.Е.* У истоков европейской дипломатии нового времени. Мн., 1984. С. 4.

[4] История Европы. Т. 3. От средневековья к новому времени (конец XV – первая половина XVII в.). М., 1993. С. 385.

каралём, атрымаўшы карону св. Стэфана (Іштвана). Венгрыя і Чэхія аказаліся аб'яднаныя персанальнай уніяй, як да таго былі злучаны ВКЛ і Польшча – дзяржавы Казіміра, бацькі Уладзіслава.

Дзяржавы Ягелонаў у канцы XV – пачатку XVI ст. знаходзіліся ў перыядзе дынамічнага развіцця саслоўна-прадстаўнічых манархій. Вылучалася хіба што Вялікае Княства Літоўскае са спадчыннай уладай гаспадара, але там у выніку земскіх прывілеяў канстытуявалася ўлада магнатаў – рада паноў. Такім чынам, ва ўсіх Ягелонскіх дзяржавах вярхоўная ўлада так ці інакш абмяжоўвалася, шляхта і баяры ігралі ўсё больш значную ролю ва ўнутраным жыцці сваіх дзяржаў, а праз замацаванне інстытуту выбарнасці манарха ствараліся магчымасці для знешняга ўплыву на прыняцце рашэнняў пра вярхоўную ўладу. Тое, што Ягелоны ўладарылі ў стольніх даволі вялікіх дзяржавах, было не толькі праявай сілы, але і выклікам для іх саміх. Прэтэндэнтамі на венгерскую і чэшскую карону лічылі сябе таксама Габсбургі – аўстрыйскія эрцгерцагі. Прадстаўнікі менавіта гэтай дынастыі пачынаючы з 1438 г. абіраліся нямецкімі каралямі і імператарамі Свяшчэннай Рымскай імперыі.

Яшчэ адзін сусед Вялікага Княства Літоўскага, а менавіта Вялікае Княства Маскоўскае, у часы ўладарання Івана III у канцы XV ст. рыхтавалася зрабіць першыя крокі па наданні сабе больш грандыёзнага статуса, чым проста цэнтр дынастычных уладанняў. Незадоўга перад тым, як у 1480 г. Масква канчаткова пазбавілася ад улады манголаў, Іван ажаніўся з Соф'яй Палеалог, пляменніцай апошняга візантыйскага імператара. Маскоўскі вялікакняскі двор атрымаў візантыйскія велічнасць і цырыманіял. У ідэалагічнае абарачэнне была запушчаная легенда пра тое, што імператар Канстанцін Манамах дараваў знакі імператарскай улады і карону кіеўскаму князю Уладзіміру Манамаху. А тая карона з'яўляецца рэгаліяй вялікіх князёў маскоўскіх. Гэтым самым заднім чыслом Кіеў надзяляўся імперскім статусам, а Масква абвяшчалася пераемніцай Кіева і спадкаемцай імперскай традыцыі. Акрамя ўсяго іншага, змена статуса азначала фармуляванне знешнепалітычнай праграмы, якая патэнцыйна дазваляла Маскве прэтэндаваць на ўсе тэрыторыі, што калі-небудзь кіраваліся кім-небудзь з Рурыкавічаў. Ужо ў 1500–1501 гг. манахам Філафеем у асноўных рысах была сфармулявана канцэпцыя "Масква – трэці Рым", якая павінна была ператварыць Маскву ў адзін з найбольш значных цэнтраў хрысціянскай цывілізацыі.

Такім чынам, Ягелоны ў сваёй актыўнай цэнтральна-еўрапейскай палітыцы і ў вернасці ўласнай дынастычный айчыне – Вялікаму Княству Літоўскаму – апынуліся паміж двума дынамічнымі дзяржаўнымі ўтварэннямі і на перасячэнні інтарэсаў двух амбітных лідэраў. Сама раскладка палітычнага пасьянса рыхтавала дыпламатычны саюз паміж Максіміліянам I і Іванам III.

Першыя ініцыятывы па ўсталяванні рэгулярных дыпламатычных кантактаў паміж Габсбургамі і маскоўскімі ўладарамі звязаны з наведваннямі Масквы ў другой палове 1480-х гг. сілезскім рыцарам Мікалаем Попелем. На працягу 1483–1486 гг. Попель пабываў практычна ва ўсіх краінах Еўропы, акрамя Скандынавіі і Балканаў[1]. Хутчэй за ўсё Попель

---

[1] Біяграфічныя звесткі пра М. Попеля гл.: *Fiedler J.* Nicolaus Poppel, erster Gesandter Österreichs in Russland. Wien, 1857; дыярыуш падарожжа апублікаваны ў скарочаным варыянце: *Klose S.* Darstellung der inneren Verhältnisse der Stadt Breslau vom Jahre 1458 bis zum Jahre 1526 // Stenzel G. Scriptores Rerum Silesiacarum. Breslau, 1847. S. 361–375.

не выконваў канкрэтных сакрэтных заданняў, затое азнаямляльна-інфармацыйная місія яго падарожжа сапраўды для імператарскага двара сумненняў не выклікае[1].

Ва ўсякім выпадку менавіта пасля паведамлення Попеля пра Маскоўскую дзяржаву і яе адносіны з Вялікім Княствам Літоўскім і Каралеўствам Польскім, зробленага на Нюрнбергскім райхстагу, сілезскі рыцар у 1488 г. зноў быў накіраваны ў Маскву, куды ўжо як афіцыйны пасол імператара ён прыехаў у канцы студзеня 1489 г. Ад імя імператара Попель прапанаваў маскоўскаму ўладару каралеўскую карону, прычым ужо тады ён абгрунтоўваў мэтазгоднасць прыняцця кароны тым, што "ляхове того боятся вельми, коли твоя милость кралем будешь, иж тогды вся Русская земля, что под кралем польским, отступит от него и твоей милости будут послушни"[2].

22 сакавіка 1489 г., адразу пасля ад'езду Попеля з Масквы Іван III накіраваў да імператара і яго сына Максіміліяна пасла грэка Юрыя Траханіёта, які прыехаў у Маскву разам з Соф'яй Палеалог. Першае маскоўскае пасольства было прынятае на райхстагу ў Франкфурце 25 ліпеня 1489 г. Палітычныя мэты пасольства ўяўляюцца не да канца яснымі. Магчыма, перад ім стаялі і інфармацыйна-азнаямленчыя задачы[3]. У Маскву Юры Траханіёт вярнуўся з паслом Рымскага караля Максіміліяна Георгам фон Турнам (Дэлятарам), якога Іван III прыняў 18 ліпеня 1490 г. Інтэнсіўныя перамовы прывялі да афармлення габсбургска-маскоўскага саюзу[4].

19 жніўня 1490 г. "послалъ князь великий къ королю къ Максимиану къ Римскому пословъ своихъ: Юриа Грека да Василия Кулешина". Апроч інструкцый паслам і "грамоты верющей" ад 16 жніўня ў рэестрах захаваўся і тэкст саюзнага дагавора ў той версіі, якая сыходзіла з Масквы[5]. Мэты саюзу фармуляваліся наступным чынам: "...где будетъ тобе, нашему брату Максимиану кралю, надобе наша помочь на твоихъ недруговъ, и намъ тебе помагати, где будетъ намъ мочно; а где будетъ намъ надобе твоя помочь на нашихъ недруговъ, и тебе намъ помагати, где будетъ тебе мочно". Масква абяцала падтрымку Максіміліяну ў венгерскіх справах, а сама ўпершыню ў адносінах з Імперыяй сфармулявала тэму "Кіеўскай спадчыны" – паводле тэксту дагавора рымскі кароль абавязваўся дапа-

[1] *Карамзин Н.* История государства Российского. Т. 6. СПб., 1819. С. 209; *Соловьев С.* История России. Ч. 1. СПб., 1851. С. 1489; *Пресняков А.* Московское царство. Пг., 1918. С. 3; *Костомаров Н.И.* Русская история в жизнеописаниях ее главнейших деятелей. М., 1991. С. 162.

[2] *Базилевич К.В.* Внешняя политика Русского централизованного государства... С. 231–232; *Хорошкевич А.Л.* Русское государство в системе международных отношений конца XV – начала XVI в. М., 1980. С. 96; Памятники дипломатических сношений Древней России с державами иностранными. Ч. 1. Сношения с государствами европейскими. Памятники дипломатическихъ сношений с Империею Римскою. Т. 1 (с 1488 по 1594 год). СПб., 1851 (далей – ПДС). Ст. 11.

[3] *Базилевич К.В.* Внешняя политика Русского централизованного государства... С. 234.

[4] *Костомаров Н.И.* Русская история... С. 164.

[5] ПДС. Ст. 37–38; Index Actorum Saeculi XV ad Res Publicas Poloniae spectantium que quidem typis edita sunt exceptis his, quae dr. A. Prochaska in „Codice Vitoldi" et dr. A. Sokołowski atque dr. J. Szujski in „Codice epistolari saeculi XV" ediderunt collegit prof. dr. Anatolius Lewicki // Monumenta medii aevi historica res gestas Poloniae illustrantia. T. XI: Actorum saeculi XV ad Res Publicas Poloniae spectantium indicem. Cracoviae, 1888 (далей – Index Actorum) № 4580, p. 520; *Lichnowsky E.M.* Geschichte des Hauses Habsburg. T. VIII. Wien, 1845. № 9. S. 752; *Щербатов М.М.* История Российская от древнейших времен. Т. 4. Ч. 3. СПб., 1784. С. 207–211.

магчы Івану III у барацьбе за Вялікае Княства Кіеўскае, а гэта была ўжо дакладная дэкларацыя імкнення да расчлянення Вялікага Княства Літоўскага. Прадуглежвалася, што кожны з альянтаў мог самастойна пачаць ваенныя дзеянні, як толькі атрымае паведамленне, што партнёр па саюзе знаходзіцца ў стане ўзброенага канфлікту з Ягелонамі.

Маскоўскія паслы прыбылі ў Нюрнберг 22 сакавіка 1491 г. і якраз заспелі дыскусію на райхстагу пра фінансаванне далейшай барацьбы за Венгрыю[1]. Праблема заключалася ў тым, што 17 лістапада 1490 г. Максіміліян заняў Буду, але ландскнехты з прычыны затрымкі выплаты грошай узнялі бунт. Войскі ж Уладзіслава Ягелона падступілі да Вены. У такіх умовах саюз з Іванам III набываў для Максіміліяна асаблівае значэнне[2].

Расійскае пасольства вярнулася ў Маскву 30 жніўня 1491 г. Яно прывезла зацверджаны каралём Максіміліянам тэкст саюзнага дагавору: "...приехали послы великого князя... отъ Максимиана... а привезли отъ него грамоту докончальную с золотою печатью"[3]. У рэгістрах Пасольскай палаты падаецца пераклад каралеўскай граматы[4]. Асноўны тэкст акта мае значныя тэксталагічныя супадзенні з расійскай версіяй. Мэты габсбургска-маскоўскага саюзу былі сфармуляваны зыходзячы з маскоўскіх прапаноў: "...быти намъ съ нимъ темъ деломъ... противъ твоихъ недруговъ наша помочь будетъ надобе, и мы тебе хотимъ помогати сколько можемъ со всею нашою силою; и ты также, где намъ будетъ твоя помочь на нашихъ недруговъ надобе, и тебе намъ помогати, где тебе будетъ мощно со всею силою. А почнешъ ты, нашъ братъ любовной, съ Божиею помочью доставати своего отечества Великого Княжства Киевского, что тянетъ к твоему Государьству Русских земель, что за собою держитъ Казимеръ король и его дети..." Такім чынам, дамова паміж вялікім князем маскоўскім і рымскім каралём адразу мела антыягелонскі характар.

Узімку 1491/92 гг., падчас знаходжання ў Маскве пасла Георга фон Турна (Дэлятора), дыпламатыя Габсбургаў зрабіла захады па рэалізацыі антыягелонскага альянсу з Расіяй. Пасол прасіў вялікага князя маскоўскага ўзяць «въ свое соблюденье» вялікага магістра (прускага) і магістра лівонскага, а таксама Данцыг[5]. Фактычна гэта азначала спробу перагляду Торуньскага міру 1466 г., паводле якога вялікі магістр у Прусіі станавіўся васалам польскага караля. Тады маскоўскі ўладар прапанаваў: «...и коли къ намъ пришлютъ прусский магистръ и ливонский магистръ своихъ людей о томъ бити челомъ, и мы, посмотря по ихъ челобитью, своего для брата Максимилиана короля, хотимъ ихъ жаловати, приняти ихъ въ свое соблюденье, и хотимъ за нихъ стояти и грамоту свою на то имъ дадимъ, какъ будетъ пригоже»[6]. Дзякуючы такому асцярож-

---

[1] *Uebersberger H.* Österreich und Russland seit dem Ende des XV. Jahrhunderts. Bd. I. Wien; Leipzig, 1906. S. 25.

[2] *Хорошкевич А.Л.* Русское государство в системе международных отношений конца XV – начала XVI в. М., 1980. С. 97.

[3] ПДС. Ст. 65.

[4] Index Actorum. № 4609, p. 523; № 4614, p. 523; Описи Царского архива XVI в. и архива Посольского приказа 1614 г. / Под ред. С.О. Шмидта. М., 1960. С. 112.

[5] ПДС. Ст. 73–75; *Казакова Н.А.* Русско-ливонские и русско-ганзейские отношения. Конец XIV – начало XVI в. Л., 1975. С. 174—175; *Балязин В.Н.* Политика Ивана III в юго-восточной Прибалтике // Вестник МГУ. Серия IX. История. 1964. № 6. С. 89–90.

[6] ПДС. Ст. 80–81.

наму адказу дзеянні на балтыйскім напрамку былі аднесены на будучыню. Але планы ў галоўным кірунку саюзу – цэнтральнаеўрапейскім – таксама не былі рэалізаваныя. 7 лістапада 1491 г. Максіміліян Габсбург і Уладзіслаў Ягелон Венгерскі заключылі Прэсбургскі (Пажонскі) мір, які азначаў часовы кампраміс паміж дзвюма дынастыямі.

Паводле дамоўленасці Уладзіслаў, кароль чэшскі, ажаніўшыся з удавою апошняга венгерскага караля Матыяша Корвіна Беатрычэ Неапалітанскай, атрымаў венгерскую карону. Каралю Максіміліяну вярталіся аўстрыйскія землі ды выплачвалася кантрыбуцыя ў памеры 100 тыс. венгерскіх гульдэнаў. У дагаворы меўся адзін вельмі важны пункт, які сведчыў, што гульня ў гэты палітыка-дынастычны пасьянс яшчэ не скончана – у выпадку спынення мужчынскай лініі нашчадкаў Уладзіслава Ягелона венгерскі трон пераходзіў да Максіміліяна Габсбурга ці яго спадкаемцаў. У габсбургска-маскоўскіх саюзных адносінах наступіла паўза.

Факт дыпламатычных кантактаў не застаўся па-за ўвагай Ягелонаў. Пра гэта сведчыць тэкст "пасольства" да князёў мазавецкіх Конрада і Януша (пасля сакавіка 1493 г.)[1]. Вялікі князь Аляксандр інфармаваў князёў мазавецкіх, што "дошли до насъ слухи, што жъ княз мистр Лифлянтский, поспол зъ его Законом прысяги дали з некоторыми напротивъ намъ и панъствамъ нашымъ, чого ся не надеваемъ по ихъ м(и)л(о)сти, ижъ бы то мели чынити противъ намъ, маючы с нами и з нашымъ панъством записъ вечного миру. Естли бы то они чынили, тогды бы они некаковъ зрушивали записъ вечного миру, который жо записъ Мы держали и хочемъ деръжати". Дададзім, што менавіта імператар, які быў фармальным сюзерэнам Нямецкага ордэна, у тым ліку і яго часткі ў Лівоніі, бачыў нямецкія прыбалтыйскія дзяржавы ў шэрагах антыягелонскай кааліцыі. Тую ж тэму працягвала "пасольства" да лівонскага магістра[2]. Тут вялікі князь дэманструе дыпламатычную гнуткасць – у тэксце паўтаралася інфармацыя пра чуткі аб удзеле Лівоніі ў антыягелонскім саюзе, але Аляксандр заяўляў, што «верыть... ижъ нине Ваша милость того чынити не будете».

**Узнаўленне ідэі саюзу супраць Ягелонаў і контрмеры ВКЛ.** Новы пасол імператара Юдок Гартынгер накіраваўся ў Маскву ў 1502 г., але прыбыў туды толькі ў 1504 г.[3] Запіс пасольскай прамовы ўтрымлівае асноўныя прапановы імператара. Максіміліян "требуетъ помощи и совета противу своихъ недруговъ...". 16 мая імператарскаму паслу была выдадзена грамата Івана Васільевіча да Максіміліяна. У гэтай грамаце маскоўскі ўладар фармуляваў прэтэнзіі ўжо не толькі да ВКЛ, але і даЛіво-

---

[1] Метрыка ВКЛ. Кніга запісаў 5 (далей – ЛМ-5): Российский государственный архив древних актов. Ф. 389, оп. 1, д. 5; Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. КМФ-18. Воп. 1, спр. 5, а. 156 v.; Lietuvos Metrika – Lithuanian Metrica – Литовская Метрика. Kn. 5 (1427–1506): Užrašymų knyga 5 / Parengė Egidijus Banionis. Vilnius, 1993 (далей – LM-5), № 20, p. 72; Описание документов и бумаг, хранящихся в Московскомъ архиве Министерства юстиции. Кн. XXI. М., 1915 (далей – ОДБМАМЮ). С. 4, Кн. 5, № 26.

[2] ЛМ-5. Арк. 156 v. – 157 v.; LM-5. № 21. С. 72–73; ОДБМАМЮ. С. 4, Кн. 5, № 27. Гл. таксама: *Дзярновіч А.* "Вялікая антыягелонская кааліцыя" кан. XV–XVI ст. і праблема эмансіпацыі беларускай гістарыяграфіі // Наш радавод. Кн. 7. Гродна, 1996. С. 173–179.

[3] ПДС. Ст. 116–117; *Щербатов М.М.* История Российская от древнейших времен. Т. 4. Ч. 3. СПб., 1784. С. 255–257.

нii. У выніку наступнай місіі пасла Гартынгера ў 1506 г.[1] практычна быў узноўлены саюзны дагавор паміж Свяшчэннай Рымскай імперыяй і Вялікім Княствам Маскоўскім[2].

І зноў у Габсбургаў інтарэс да маскоўскага хаўрусніка ўзбудзілі вугорскія падзеі. У 1505 г. у Венгрыі шляхецкая антыгабсбургская партыя заявіла пра скасаванне Прэсбургскага дагавора ды дамаглася пастановы пра абранне, у выпадку адсутнасці ў Уладзіслава Ягелона нашчадка, наступным каралём венгра. Летам 1506 г. Максіміліян увайшоў на тэрыторыю Венгрыі і змусіў венгерскую шляхту пацвердзіць пункты Прэсбургскага дагавора, у працяг якога 19 чэрвеня 1506 г. быў заключаны новы дагавор Максіміліяна з Уладзіславам. Унук Максіміліяна Фердынанд мусіў заручыцца з прынцэсай Ганнай, дачкою Уладзіслава, а сын венгерскага караля Людовік – з адной з унучак Максіміліяна.



Вялікі князь маскоўскі Васіль III (1505–1533)

У 1508 г. па ініцыятыве ўцекача ў Маскву Міхаіла Глінскага ўжо новы вялікі князь Васіль III спрабаваў узнавіць антыягелонскі альянс[3]. Але ўрэгуляванне венгерска-габсбургскіх адносін зрабіла саюз з Масквой не самай актуальнай тэмай для Максіміліяна.

У гэты ж самы час, у першае дзесяцігоддзе XVI ст., Вялікае Княства Літоўскае здолела супрацьпаставіць ідэі антыягелонскай кааліцыі даволі нечаканы дыпламатычны крок – саюз з Лівоніяй, які быў заключаны ў 1501 г. Гэты саюз стаў тым палітыка-дыпламатычным праектам, які шмат што вызначыў у адносінах паміж ВКЛ і Лівоніяй на працягу ўсёй першай паловы XVI ст. – змяніў адносіны паміж гэтымі дзяржавамі і стаў адной з прычын нерэалізацыі маштабных планаў антыягелонскай кааліцыі. Вялікі князь Аляксандр падпісаў тэкст саюзнага дагавора з Лівоніяй супраць вялікага князя Маскоўскага 3 сакавіка 1501 г. 21 чэрвеня 1501 г. саюзны дагавор падпісаў лівонскі магістр. Такім чынам, мяркуемы ўдзельнік антыягелонскай кааліцыі не толькі выпаў з яе шэрагаў, але і стаў альянтам ВКЛ[4]. Для самой Лівоніі дзеянне гэтай саюзнай дамовы

---

[1] ПДС. Ст. 144; Liv-, Est- und Curländisches Urkundenbuch. Zweite Abteilung, Band 1: 1494, Ende Mai – 1500 / Herausgegeben von Leonid Arbusow. Riga; Moskau, 1900. № 780. S. 598.

[2] Пра няпоўную яснасць сутнасці перамоваў у 1506 г. (і, магчыма, 1507 г.) гл.: *Бауэр В.* Сношения России с германскими императорами в конце XV и в начале XVI в. // Журнал Министерства народного просвещения. 1870. Кн. 3. С. 76–78; *Uebersberger H.* Österreich und Russland... S. 65; *Хорошкевич А.Л.* Русское государство в системе международных отношений... С. 118–119.

[3] ПДС. Ст. 151–154.

[4] Абставіны заключэння саюзу гл.: *Дзярновіч А.І.* Працэдура падпісання міжнародных дамоваў у пачатку XVI ст. (на прыкладзе саюзнай дамовы 1501 г. паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Лівоніяй) // Беларусь і свет. Т. 2. Мн., 2000. С. 34–44; *Ён жа.* Саюзны дагавор 1501 г. ВКЛ з Лівоніяй і дынастычны крызіс 1497–1499 гг. у Расіі // Весці НАН Беларусі. Сер. гуманітар. навук. 2003. № 1. С. 62–66.

азначала пагаршэнне адносін з імператарам і вялікім магістрам у Прусіі. Між іншым, патрабаванні разрыву саюзу з ВКЛ маскоўскія ўладары вылучалі на працягу ўсяго першага дзесяцігоддзя XVI ст.[1], г.зн. дзесяцігадовага тэрміну дзеяння дагавора. У сваю чаргу вялікія магістры Нямецкага ордэна ў Прусіі таксама аказвалі палітычны ціск на Лівонію з нагоды яе саюзных адносін з ВКЛ[2]. Пасля смерці 19 жніўня 1506 г. вялікага князя Аляксандра пацвердзіць саюз з Лівоніяй жадаў ужо новы кароль і вялікі князь Жыгімонт. І менавіта на гэты ж перыяд прыпала актывізацыя намаганняў імператара Максіміляна I і вялікага князя Васіля III па рэалізацыі планаў антыягелонскай кааліцыі.

У 1507 г. распачалася новая вайна паміж ВКЛ і Вялікім Княствам Маскоўскім. На падставе саюзнага дагавору 1501 г. магло дайсці да сумесных дзеянняў абедзвюх дзяржаў. Але імператар Максіміліян у 1508 г. забараніў лівонскаму магістру выступаць у падтрымку ВКЛ[3]. Ліст Максіміляна і фактычная згода Лівонскага магістра яму падпарадкавацца выклікалі незадаволенасць Жыгімонта. У сваім адказе лівонскаму пасольству[4] ён заявіў, што калі магістр заключаў саюз з вялікім князем Аляксандрам, то "о Римъскомъ Королю и Его послушенстве и заказане валкъ абы покоя жадного не вспоминали". У сваіх адносінах з ВКЛ лівонскі магістр усё ж не мог ігнараваць патрабаванні імператара пра захаванне міру з Маскоўскай дзяржавай. Лівонія замірылася з Васілём III яшчэ на 14 гадоў. Але тут магістру Вальтэру фон Плетэнбергу ўдалося юрыдычна не парушыць саюзнай дамовы з ВКЛ ад 1501 г. – Вялікае Княства Літоўскае 19 верасня 1508 г. само заключыла з мір з Масквой[5].

**Поспехі дыпламатыі ВКЛ.** Чарговы перыяд дыпламатычнай актыўнасці вядзе свой адлік ад 1512 г., калі распачалася новая вайна паміж Вялікімі Княствамі Маскоўскім і Літоўскім (1512–1522). Тады ж, пасля заключэння 19 лютага 1512 г. сакрэтнай дамовы караля і вялікага князя Жыгімонта з лідэрам буйнейшай магнацкай групоўкі Венгрыі Янашам Запальяні, зноў абвастрыліся габсбургска-ягелонскія супярэчнасці. Жыгімонт, акрамя іншага, ажаніўся з сястрой Запальяні Барбарай, што ўмацоўвала пазіцыі Ягелонаў у Венгрыі. Імператар Максіміліян, на гэты раз супольна з вялікім магістрам у Прусіі Альбрэхтам, пачаў аднаўляць антыягелонскую кааліцыю. Адзін дакумент, а менавіта пісьмовы адказ імператара Генрыху Мільціцу і Георгу Поленцу, паслам Альбрэхта, датаваны 17 жніўня 1514 г., дае ўяўленне пра плануемых удзельнікаў вялікай

---

[1] Liv-, Est- und Curländisches Urkundenbuch. Zweite Abteilung, Band 2: 1501–1505 / Herausgegeben von Leonid Arbusow. Riga; Moskau, 1905. № 796, S. 610; *Казакова Н.А.* Русско-ливонские и русско-ганзейские отношения... С. 243.

[2] Гл. падрабязней: *Дзярновіч А.І.* "...in nostra Livonia". Дакументальныя крыніцы па гісторыі палітычных адносінаў паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Лівоніяй у канцы XV – першай палове XVI ст.: Сістэматызацыя і актавы аналіз. Мн., 2003. С. 267–295.

[3] ЛМ-8. А. 92; Lietuvos Metrika – Lithuanian Metrica – Литовская Метрика. Kn. 8 (1499–1514): U rašymų knyga 8 / Parengė Algirdas Baliulis, Romualdas Firkovičius, Darius Antanavičius. Vilnius, 1995. № 74. P. 120–121 (далей – LM-8); ОДБМАМЮ. С. 147, Кн. 8, № 71; *Дзярновіч А.* "Вялікая антыягелонская кааліцыя"... С. 173–179.

[4] ЛМ-8. А. 87 v. – 88 v.; копія: ЛМ-7. А. 141–144; LM-8. N. 71. P. 115–117; ОДБМАМЮ. С. 92, Кн. 7, № 68 (ЛМ-7).

[5] АЗР. Т. 2. 1506–1544 гг. СПб., 1848. № 43.

антыягелонскай лігі[1]. У склад кааліцыі ў 1514 г., паводле планаў імператара, акрамя яго самога ды вялікага князя Маскоўскага павінны былі ўвайсці вялікі магістр Нямецкага ордэна (у Прусіі), магістр у Лівоніі, кароль Даніі, маркграфы Ёахім і Фрыдрых Брандэнбургскія, герцагі Саксонскія Фрыдрых і Ёган, малдаўскі гаспадар.

У расійскіх Пасольскіх кнігах адсутнічаюць звесткі пра зносіны Масквы і Імперыі на працягу 1509–1515 гг. Таму мы не маем поўнай інфармацыі пра вельмі важныя перамовы 1514 г., калі намаганні па стварэнні антыягелонскай кааліцыі дасягнулі апагея. Між тым, паводле Вопісу архіва Пасольскага прыказа 1614 г. вядома, што на працягу 1512– 1513 гг. таксама адбываліся дыпламатычныя кантакты паміж прадстаўнікамі Імперыі і Масквы[2]. Акрамя таго, у 1513 г. па просьбе Васіля III Максіміліян накіраваў з Любека морам аддзолы наймітаў, гарматы, а таксама італьянскіх і нямецкіх майстроў, дасведчаных у аблогах замкаў[3].

У архіве Пасольскага прыказа захоўваўся арыгінал паслання Максіміліяна 1514 г., якое трапіла ў Маскву ў выніку лютаўскай 1514 г. місіі пасла Георга Шнітцэнпаўмера, які прыехаў у Расію пасля перамоваў у Кёнігсбергу. На першы план для імператара ў праекце антыягелонскай кааліцыі выступае ўжо не венгерская праблема, а пруская тэма: "А что вам ваш и наш неприятель Зигимунд, король польский и великий князь литовский, нам и вам великие неправды учинил, и непрестанно стоит против немецких чинов, или орденов, и некоторые иные замки в Пруссии держит под собою неправдою, и мыслит уставы тех немецких чинов и Прусские земли разорити и утеснити, также и от вашего государства, ваш замок Киев и иные русские крепости неправдою за собою держит". Як бачым, прэтэнзіі Масквы на Кіеў і на ўсю гістарычную Русь у выніку 18-гадовай практыкі ўзаемных дыпламатычных зносін сталі для габсбургскай дыпламатыі аксіяматычнымі. Сярод гісторыкаў таксама распаўсюджана меркаванне, што прыезд Шнітцэнпаўмера ў Маскву натхніў Васіля III зрабіць трэцюю спробу авалодання Смаленскам[4], на гэты раз – паспяховую.

4 жніўня 1514 г. у прысутнасці расійскіх паслоў Дзмітрыя Ласкірава і Елізара Сукава імператар Максіміліян падпісаў і зацвердзіў дагавор з Васілём III, тэкст якога ўзнік у выніку місіі Шнітцэнпаўмера. Але нечакана крыху пазней імператар накіраваў у Маскву сваіх паслоў Якаба Эслера і

---

[1] Русско-ливонские акты / Собранные К.Е. Наперским. СПб., 1868 (далей – РЛА). № 333. С. 299–300; Skarbiec diplomatów... Т. II. № 2264; Index corporis Historico-diplomatici Livoniae, Esthoniae, Curoniae oder Kurze-Auszug aus derjenigen Urkunden-Sammlung, welche für die Geschichte und das alte Staatsrecht Liv-Estn- und Kurlands. Zweiter Theil: vom Jahre 1450 bis zum Jahre 1631 incl. Riga; Dorpat, 1835 (далей – Index corporis). № 2636; *Voigt J.* Geschichte Pruessens, von den altesten Zeiten bis zum Untergange der Herrschaft Deutschen Orders. Bd. IX. Königsberg, 1839. S. 464.

[2] Описи Царского архива XVI в. и архива Посольского приказа 1614 года. М., 1960. С. 113.

[3] Acta Tomiciana. Epistole, legotines, responsa, actiones, res geste. Serenissimi Principis Sigismundi, eius nominis Primi, Regis Polonie, Magni Ducis Lithuanie, Russie, Prussie, Masovia Domini per Stanislaum Górski... collecte et in tomos digestae (далей – Acta Tomiciana). T. II, 1512– 1513. Posnaniae, 1852. N. 143, 178–181; *Иловайский Д.И.* Царская Русь (Московско-царский период. Первая половина или XVI в.). М., 2002. С. 625–626.

[4] *Хорошкевич А.Л.* Русское государство в системе международных отношений... С. 125.

Морыца Бургштэлера, што прывезлі зменены тэкст дагавора[1]. У гэтым дакуменце ўжо нічога не пісалася пра абавязкі Максіміляна выступіць супраць Ягелонаў. Зрэшты, як адзначаюць гісторыкі, што вывучаюць палітыку Габсбургаў, падобны тып вядзення спраў быў уласцівы Максіміляну: здавалася б, перамовы паспяхова завяршаліся і патрабавалася толькі падпісаць дасягнутае пагадненне, але Максіміліян высоўваў новыя ўмовы ды выказваў сваю нязгоду з прапановамі другога боку. У выніку перамовы спыняліся, а Максіміліян выйграваў патрэбны час[2].

Але вялікі магістр у Прусіі Альбрэхт Брандэнбургскі, жадаючы пазбавіцца ад кантролю Кракава, спрабаваў праводзіць сваю палітыку ў кірунку стварэння кааліцыі. Інструкцыя вялікага магістра сваім паслам да караля Даніі, датаваная кастрычнікам 1514 г.[3], ілюструе гэтыя імкненні. У дакуменце выкладаецца ідэя Максіміляна аб саюзе імператара з Масквой, Даніяй і Прусіяй супраць Польшчы і ВКЛ. Разам з тым у адказе на ліст Жыгімонта Альбрэхт адмаўляў свой удзел у антыягелонскай лізе[4]. А 5 сакавіка 1515 г. вялікі магістр пісаў рыжскаму арцыбіскупу пра неабходнасць утрымліваць мір з вялікім князем Маскоўскім, каб не наносіць шкоды адносінам Ордэна з імператарам[5].

Сам жа імператар Максіміліян, не жадаючы ўступаць ў рэальнае ваеннае сутыкненне з Ягелонамі, пасля пераможнай для ВКЛ і Польшчы бітвы пад Оршай 8 верасня 1515 г. пайшоў на кампраміс з суседзямі. На Венскім кангрэсе 1515 г. Габсбургі замацавалі свае спадчынныя правы на венгерскую і чэшскую кароны. Як прадстаўнік ВКЛ у Венскім кангрэсе браў удзел Богуш Багавіцінавіч. Ён жа выпраўляўся ў складзе пасольства ў Імперыю ў 1518 г.[6], а таксама спадарожнічаў барону Герберштэйну ў яго паездцы ў Маскву. Гэта сведчыць пра ролю пана Богуша ў арганізацыі палітычных сувязей Вялікага Княства Літоўскага як часткі Ягелонскай манархіі са Свяшчэннай Рымскай імперыяй нямецкай нацыі.

Імператар Максіміліян перагледзеў свае адносіны з Масквой і, як і яго пераемнік Карл V, спрабаваў выступаць ужо як пасрэднік у перамо-

---

[1] Гл. падрабязней: *Fiedler J.* Die Allianz zwischen Maximilian I. und Wassili Iwanowicz // Sitzungsberichte der Wiener Akademie der Wissenschaften. Philologisch-historische Classe. 1863. Bd. 43. S. 183–289; *Писаревский Г.К.* К истории сношений России с Германией в начале XVI в. // Чтения Общества истории и древностей Российских. 1895, Кн. 1.

[2] *Ивонин Ю.Е., Ивонина Л.И.* Властители судеб Европы... С. 44.

[3] Дополнения к Актам историческим, относящимся к России. Собраны в иностранных архивах и библиотеках и изданные Археографическою комиссиею. СПб., 1848 (далей – Дополнения АИ). № 144. С. 358–360; Index corporis, № 2646; РЛА. № 336. С. 301.

[4] Geheimes Staatsarchiv Preussischer Kulturbesitz, Berlin-Dahlem. N. 20224 (старая сігнатура – Schiebl. LXXI.53) (захоўваецца разам з лістом Жыгімонта); Дополнения АИ. № 147. С. 362; *Voigt J.* Geschichte Pruessens, von den altesten Zeiten bis zum Untergange der Herrschaft Deutschen Ordens. Bd. IX. Königsberg, 1839. S. 465; Skarbiec diplomatów... № 2266; Index corporis, № 2645; РЛА. № 335. С. 301; Regesta historico-diplomatica Ordinis Sanctae Mariae Theutonicorum 1198–1525. Pars I: Index Tabularii Ordinis S. Mariae Theutonicorum. Regesten zum Ordensbriefarchiv. Vol. 3: 1511–1525 / Herausgegeben von Walther Hubatsch. Göttingen, 1973. N. 20224. S. 61.

[5] Дополнения АИ. № 149. С. 364–365. Index corporis, № 2683; РЛА. № 341. С. 305; *Балязин В.Н.* Россия и Тевтонский орден // Вопросы истории. 1963. № 6. С. 67.

[6] *Дзярновіч А.* Метрыка ВКЛ аб адносінах Вялікага княства Літоўскага і Святой Рымскай імперыі // Беларускі гістарычны часопіс. 1995. № 4. С. 90–99; *Кананові У.* Богуш Міхал Багавіцінавіч – вялікакняжацкі дыпламат Жыгімонта Старога // Штогоднік Інстытута гісторыі НАН Беларусі. 1999. С. 31–39.

вах паміж Васілём III і Жыгімонтам Ягелонам. Усё ж апошні ўчынак у знак прыхільнасці былому саюзу Максіміліян зрабіў. Калі ў выніку бітвы пад Оршай 8 верасня 1514 г. быў узяты расійскі палон, кароль і вялікі князь Жыгімонт накіраваў папе Льву X чатырнаццаць палонных маскоўскіх дваран. Іх эскартаваў Мікалай Вольскі. У аўстрыйскіх уладаннях на аддзел Вольскага напалі рэйтары Максіміліяна і адабралі палон[1]. Масквічы праз Любек морам былі вернуты на радзіму.



Максіміліян I Габсбург.
Гравюра XVI ст.

**Канец Тэўтонскага ордэна. Вынікі і ўрокі антыягелонскай кааліцыі.** Некаторыя з пастаноў Венскага кангрэса прывялі да незапланаваных наступстваў. Так, прызнанне Торуньскага трактата 1466 г. (за нязначнымі выключэннямі) выклікала моцнае незадавальненне магістра Тэўтонскага ордэна Альбрэхта, штурхаючы яго на шлях узброенай барацьбы за вяртанне былой незалежнасці ад Кракава.

Ордэн стаў рыхтавацца да вайны і пры пасрэдніцтве Дзітрыха Шонберга, які ў 1515, 1517 і 1518 гг. наведаў вялікага князя Васіля III, заключыў наступальна-абарончы саюз з Масквой. Ужо ў 1517 г. ордэнскія ўлады жадалі не толькі вяртання Заходняй (так званай каралеўскай) Прусіі, але нават далучэння тэрыторый Літвы і Жамойці[2]. Вялікае Княства зноў станавілася ахвярай пруска-польскага супрацьстаяння.

Максіміліян I стрымліваў ад развязвання вайны як прускага магістра, так і вялікага князя маскоўскага. Першаму ён заяўляў, што "цэласнасць Літвы" адпавядае супольным еўрапейскім інтарэсам, тады як узрастанне магутнасці Маскоўскай дзяржавы ўяўляе небяспеку. Да Васіля III імператар прыслаў пасольства на чале з баронам Герберштэйнам, якое мела на мэце схіліць гасудара да міру.

Пруска-маскоўскі наступальны саюз і адкрытая падрыхтоўка вялікага магістра, а потым і імператара да агрэсіі справакавалі прэвентыўныя дзеянні Польшчы. У лістападзе 1519 г., калі стала вядома, што маскоўскі пасланец аказаў Альбрэхту матэрыяльную падтрымку, каронны сейм прыняў ухвалу аб вайне з Ордэнам. Яе мэтай было прымусіць Альбрэхта Гогенцолерна зноў прызнаць Торуньскі трактат. Вялікае Княства не брала ніякага ўдзелу ў дзеяннях супраць Ордэна. Афіцыйна гэта тлумачылася тым, што яно было занята цяжкай вайной з Маскоўскай дзяржавай, аднак не выключана, што паны-рада трымаліся літары Мельнаўскага і Брэсцкага пагадненняў з Ордэнам.

У маі 1520 г. дзесяцітысячная польская армія на чале з гетманам Мікалаем Фірлеем наблізілася да Каралявца і запатрабавала капітуляцыі.

---

[1] Acta Tomiciana. T. III, 1514–1515. Posnaniae, 1853. N. 541.
[2] *Biskup M., Labuda G.* Dzieje Zakonu krzyżackiego w Prusach. Gdańsk, 1986. S. 469.

Магістр Альбрэхт мусіў распачаць перамовы, якія завяршыліся падпісаннем 5 красавіка 1521 г. кампрамісных умоў чатырохгадовага замірэння. Пры гэтым Васіль III адмовіўся падтрымліваць свайго саюзніка. Секулярызаваўшы сваю дзяржаву, Альбрэхт Гогенцолерн быў вымушаны ў 1525 г. прынесці ў Кракаве прысягу на вернасць каралю польскаму і вялікаму князю літоўскаму Жыгімонту.

Трэба зазначыць, што кракаўскі польска-прускі дагавор, як і трактат 1466 г., ніяк не закранаў ВКЛ. Таму афіцыйна адносіны Вялікага Княства з Прускім герцагствам па ініцыятыве Альбрэхта былі асобна ўнармаваны віленскім дагаворам у 1529 г. Ён, рэгулюючы найперш гандаль і межы, грунтаваўся ў асноўным на Мельнаўскім трактаце 1422 г., новым пунктам стала толькі агаворка пра ўзаемадапамогу ў выпадку вайны.

Такім чынам, спробы стварэння антыягелонскай кааліцыі ў канцы XV – пачатку XVI ст. не дасягнулі тых мэт, якія ставілі перад сабой яе ўдзельнікі. Нават больш, для асобных з іх, як, напрыклад, Тэўтонскага ордэна, яна мела даволі трагічныя наступствы. Нават у лепшыя часы кааліцыя не набыла запланаваных маштабаў. Рэальная колькасць удзельнікаў перамоў была меншая, чым разлічвалі Габсбургі – канкрэтна праект стварэння кааліцыі абмяркоўвалі дыпламаты Імперыі, Вялікага Княства Маскоўскага, Нямецкага ордэна ў Прусіі. Сама ідэя ўтварэння вялікай антыягелонскай кааліцыі была ў той час дастаткова утапічнай. Паміж мяркуемымі ўдзельнікамі кааліцыі існавалі супярэчнасці, а праект кааліцыі аказаўся палітыка-дыпламатычнай абстракцыяй. Нават на найвышэйшым этапе перамоў не вялося гаворкі пра канкрэтныя абавязкі бакоў. У выніку ідэя кааліцыі засталася палітыка-дыпламатычным праектам, якіх шмат выпрацоўвалі ў тагачаснай Еўропе.

У гэтых палітыка-дыпламатычных планах Вялікае Княства Літоўскае аказалася заложнікам дынастычнай палітыкі Ягелонаў. Да няпростых адносін з Масквой для ВКЛ дадаліся складанасці, а часам і палітыка-дыпламатычнае супрацьстаянне з імператарам і вялікімі магістрамі ў Прусіі. Але дыпламатыя ВКЛ у такой напружанай сітуацыі здолела супрацьпаставіць планам антыягелонскай кааліцыі свой дыпламатычны праект – пайсці на саюз з Лівоніяй, якая з'яўлялася часткай нямецкага свету. Гэты саюз быў заключаны ў 1501 г. у часы вялікага князя Аляксандра, яшчэ да аднаўлення персанальнай уніі ВКЛ з Польшчай. Найбольш выдатнымі дыпламатамі ВКЛ у зносінах з Лівоніяй былі Войцах Янавіч Клочка, Войцах Нарбутавіч, Юрый Косцевіч, Юрый Янавіч Завішыч, Станіслаў Глебавіч, а таксама супрацоўнікі Канцылярыі ВКЛ Іван Сямёнавіч Сапега і Адам Якубавіч з Котры. З лівонскага боку справамі саюзу з ВКЛ ад імя магістра Вальтэра фон Плетэнберга займаліся дынабургскі комтур Ёган Вінке фон Аверберг, Клаўс Гальстэвер, Ёган Гільдорп. Ці быў саюз з Лівоніяй роўным па сваёй значнасці з ідэяй антыягелонскай кааліцыі? Бадай што не. Гэта быў у пэўным сэнсе лакальны, затое дзейсны праект. І ўсю першую палову маскоўскія ды прускія дыпламаты ў зносінах з Лівоніяй прыгадвалі яго, імкнучыся не дапусціць у далейшым.

## 3. Войны ВКЛ з Маскоўскай дзяржавай у канцы XV – першай трэці XVI ст.

**Пачатак ваенных дзеянняў і няўдачы ВКЛ.** У другой палове XV ст. стала імкліва крэпнуць і расці тэрытарыяльна Вялікае Княства Маскоўскае (ВКМ). Пастунова яно падпарадкавала сабе суседнія рускія княствы: Наўгародскае, Цвярское і іншыя, вызвалілася ад васальнай залежнасці ад Арды. Рост ВКМ лагічна выклікаў сутыкненне з Вялікім Княствам Літоўскім (ВКЛ).

Супярэчнасці паміж ВКЛ і ВКМ накапляліся гадамі і ўрэшце выліліся ў войны. Першая з іх пачалася ў 1492 г.[1] і ўяўляла сабой рэакцыю ВКМ на смерць караля польскага і вялікага князя літоўскага Казіміра Ягелончыка (7 чэрвеня 1492 г.). Вялікім князем літоўскім быў абраны Аляксандр, сын Казіміра. Прычынай вайны сталі тэрытарыяльныя прэтэнзіі ВКМ, якія не мелі пад сабой ніякіх аб'ектыўных падстаў (яшчэ ў маі 1492 г. вялікі князь маскоўскі Іван III паслаў да Казіміра пасольства з тэрытарыяльнымі дамаганнямі, але пасольства вярнулася назад, даведаўшыся пра смерць Казіміра).



Вялікі князь літоўскі Аляксандр. Гравюра XVI ст.

У жніўні 1492 г. войска ВКЛ на чале з Ф. Целяпнёвым, Абаленскім, захапіла Любуцк і Мцэнск, а баяр і жыхароў гарадоў вывела ў палон. Восенню войскі ВКМ занялі Хлепень і Рагачоў, спалілі Масальск. У гэты час (лістапад–снежань) у падданства да Івана III перайшлі князі парубежных раёнаў ВКЛ – С.Ф. Варатынскі, М.Р. Мязецкі, А. і В. Бялеўскія, А.Ю. Вяземскі[2], што дазволіла ВКМ без цяжкасцей авалодаць землямі ў вярхоўі Акі. Напрыклад, пры пераходзе ў падданства да Івана III С.Ф. Варатынскага апошні заняў Серпейск і Мязецк. ВКЛ не магло пакінуць беспакаранымі такія дзеянні. Войскі ВКЛ пад кіраўніцтвам смаленскага намесніка Юрыя Глябовіча спешна рушылі ў гэты рэгіён і без супраціўлення занялі Серпейск і Мязецк. У вызваленых гарадах былі пакінуты гарнізоны, і войска вярнулася ў глыб ВКЛ. ВКМ сабрала значныя сілы, якія рушылі "на Литовские грады"[3]. Бачачы дарэмнасць супраціўлення, здаўся без бою Мязецк, а Серпейск і Апакаў былі ўзяты штурмам і ў пакаранне спалены. У гэты ж час другая групоўка войск ВКМ за-

---

[1] Вайне папярэднічалі ўзаемныя пагранічныя канфлікты: *Зимин А.А.* Россия на рубеже XV–XVI столетий. М., 1982. С. 93–109; *Kolankowski L.* Polska Jagellonów. Dzieje polityczny. Lwów, 1936. S. 123.

[2] 5 студзеня 1503 г. Іванам III быў пасланы ў ВКЛ Дз. Загразскі з весткай аб пераходзе гэтых князёў да яго на службу (разам з Загразскім С.Ф. Варатынскі паслаў вялікаму князю літоўскаму сваю "отказную" грамату): РИО. Т. 35. С. 80–81.

[3] Сучасныя тэрыторыі, якія ў канцы XV – пачатку XVI ст. уваходзілі ў склад ВКЛ, летапісцы Паўночна-Усходняй Русі не называлі "Русской землёй": *Горский А.А.* Москва и Орда. М., 2000. С. 155.

хапіла Вязьму[1]. ВКМ рыхтавалася да пашырэння тэатра ваенных дзеянняў: канцэнтраваліся войскі ў Пскове, Вялікіх Луках, Цверы, Ноўгарадзе, праводзіліся перамовы з Тэўтонскім ордэнам, мазавецкім князем Конрадам, Крымскім ханствам аб уступленні іх у вайну на баку ВКМ.

Вялікае Княства Літоўскае не было падрыхтавана да шырокіх ваенных дзеянняў. Для пошуку дапамогі ў 1494 г. былі накіраваны паслы ў Інфлянты, Валахію (Малдавію), Вялікую (Заволжскую) Арду, Крымскае ханства (19 снежня), Польшчу (30 кастрычніка 1492 г.). Урэшце сярод кіруючых колаў ВКЛ нарадзілася ідэя ажаніць вялікага князя літоўскага Аляксандра з дачкой вялікага князя маскоўскага Івана III Аленай і тым самым вырашыць праблему ўзаемаадносін з ВКМ. Распачаліся папярэднія перамовы на гэты конт. У выніку 17 студзеня 1494 г. у Маскву прыехала "вялікае пасольства" ВКЛ на чале з трокскім ваяводам П. Яновічам. У ходзе складаных перамоў 5 лютага было падпісана пагадненне аб "вечным міры". Па ўмовах пагаднення ВКЛ адмаўлялася ад прэтэнзій на Ноўгарад, Пскоў, Цвер, Разань, прызнавала ад'езды Вярхоўскіх князёў, але спецыяльна гаварылася пра забарону прымаць у наступным перабежчыкаў з абодвух бакоў. ВКЛ згадзілася на адыход да ВКМ Вяземскіх зямель і часткі Вярхоўскіх княстваў па р. Угру (Варатынск, Адоеў і інш.). Затое ВКМ перадавала ВКЛ Масальск, Мцэнск, Серпейск, Любуцк і іншыя гарады, якія былі захоплены падчас вайны. Абедзве дзяржавы абвяшчаліся саюзнікамі супраць агульных ворагаў; агаворваліся механізмы рашэння спрэчных пытанняў[2]. Пасля падпісання міру пасольства ВКЛ правяло перамовы аб сватаўстве Аляксандра да дачкі Івана III. Пасля атрымання згоды Івана III на гэтае вяселле адбыліся заручыны. 12 лютага пасольства ВКЛ ад'ехала на радзіму; з ім жа былі адпушчаны палонныя, узятыя ў ходзе кампаніі 1492–1493 гг. Княжна Алена выехала з Масквы 6 студзеня 1495 г., 15 лютага адбылося яе вянчанне з вялікім князем літоўскім Аляксандрам.

Пасля замірэння адносіны паміж ВКМ і ВКЛ складваліся неадназначна. Пастаянна дзейнічалі пасольствы паміж дзяржавамі, якія часта не маглі знайсці ўзаемаразумення. Гэта дало падставы даследчыку Натансону-Лескаму назваць 1494–1499 гады часам "саламянага спакою"[3].

У канцы 1490-х гг. адносіны паміж ВКМ і ВКЛ зноў абвастрыліся. Прычынай гэтага было непрызнанне ВКЛ за вялікім князем маскоўскім тытула вялікага князя і "государа всея Руси". Маскоўская дзяржава стала рыхтавацца да вайны. Быў заключаны ваенны саюз з Крымскім ханствам, наладжаны добрыя адносіны з Турцыяй, дыпламаты ВКМ працавалі ў Інфлянтах, Даніі[4]. Акрамя таго, у землі ВКЛ былі накіраваны тайныя пасланнікі да ўдзельных князёў ВКЛ на памежных з ВКМ землях, якім было прапанавана перайсці ў падданства да Івана III на выгадных умовах[5].

---

[1] ПСРЛ. Т. 24. С. 210, 211; РЛ. Т. 3. С. 299; Т. 4. С. 463, 464.
[2] *Базилевич К.В.* Внешняя политика Русского централизованного государства... С. 318–390.
[3] *Natanson-Leski J.* Dzieje granicy... S. 82.
[4] *Хорошкевич А.Л.* Русское государство в системе международных отношений... С. 113–115.
[5] ПСРЛ. Т. 32. С. 99, 166.

У жніўні 1499 г. у Маскве знаходзілася пасольства ВКЛ пад кіраўніцтвам Глябовіча для ўрэгулявання спрэчных пытанняў, але бакам не ўдалося прыйсці да паразумення. У канцы 1499 – пачатку 1500 г. з ВКЛ на службу да Івана III перайшоў, разам з вотчынай, князь Сямён Іванавіч Бельскі. Пасля да Івана III перайшлі некаторыя князі Масальскія і Хацетаўскія. Войскі ВКМ занялі Мцэнск, Серпейск, Масальск[1]. З боку ўдзельных князёў такі пераход на службу быў дзяржаўнай здрадай Вялікаму Княству Літоўсскаму наогул і вялікаму князю літоўскаму Аляксандру ў прыватнасці. З боку Івана III прыняцце князёў з ВКЛ было парушэннем мірнага пагаднення 1494 г.

У адказ кіраўніцтва ВКЛ зноў паслала ў Маскву пасольства на чале са смаленскім намеснікам С. Кішкам, якое прыбыло на месца ў красавіку 1500 г. Пасольства павінна было вырашаць праблемы паміж дзяржавамі, у першую чаргу пытанне з С. Бельскім. Вялікі князь Аляксандр пайшоў на кампраміс: патрабуючы вярнуць князёў-перабежчыкаў як здраднікаў і больш не чыніць шкоды памежным тэрыторыям (гэта лагічна выцякала з умоў мірнага дагавора 1494 г.), Аляксандр прызнаў тытул Івана III і ўпершыню назваў яго "государом всея Руси". Але пасольства ВКЛ не выканала сваіх задач, бо Іван III канчаткова вырашыў пачаць вайну, быў да яе добра падрыхтаваны і верыў у поспех. Паслы ВКЛ вярнуліся назад ні з чым.

3 мая 1500 г. войска ВКМ на чале з ваяводам Я. Захар'іным было накіравана ў межы ВКЛ. Толькі пасля гэтага паслалі ганца І. Целяшова да ўрада ВКЛ з граматай, у якой аб'яўлялася вайна. Афіцыйнай прычынай вайны ВКМ былі абвешчаны ганенні праваслаўнага насельніцтва ў ВКЛ і асабіста вялікай княгіні літоўскай Алены[2].

---

[1] РИО. Т. 35. С. 302; АЗР. Т. 1. С. 204, 206.

[2] Афіцыйна крыніцамі гэтай версіі для ВКМ выступала інфармацыя пад'ячага Ф. Шастакова і князя-перабежчыка С. Бельскага. Падставай нараджэння сярод кіруючых колаў ВКМ гэтай версіі, якая была створана менавіта там і не адлюстроўвала рэальнага становішча спраў, магло паслужыць тое, што ў канцы XV ст. у ВКЛ узнікла ідэя правядзення палітыкі аб'яднання каталікоў і праваслаўных у краіне накшталт Фларэнтыйскай уніі 1439 г. Ініцыятарам гэтай палітыкі быў вялікі князь Аляксандр, а з вядомых прыхільнікаў яе згадваюцца гаспадарскі пісар Іван Сапега і кіеўскі мітрапаліт, смаленскі епіскап Іосіф Балгарынавіч. Але гэтая спроба не насіла характару гвалтоўных дзеянняў. Праваслаўнае насельніцтва ВКЛ, духавенства, як праваслаўнае, так і каталіцкае, не падтрымала ідэю такога аб'яднання, і ўлады ВКЛ адмовіліся ад яе рэалізацыі. Праваслаўнае насельніцтва ні ў цэнтры дзяржавы, ні тым больш на яе ўскрайку не падвяргалася рэлігійнаму прымусу ці прыгнёту. Вось што пісала Алена свайму бацьку Івану III у лісце, які быў дастаўлены ў час пасольства Івана Сапегі: "Вспомни господин государь, отец, что я служебница и девка твоя и ты отдал меня за такого же брата, как и ты сам. Ведаешь, государь, отец мой, что ты со мною дал и что я ему принесла; однако государь и муж мой король и великий князь Александр, ничего того не жалуючи, взял меня с доброю волею и держал в чести и в жаловании и в той любви, какая прилична мужу к своей подруге; и теперь держить в той же мере, ни мало не нарушая первой ласки и жалования, позволяет мне сохранять греческую веру, ходить по своим церквам, держать на своем дворе священников, дьяконов и певцов для совершения литургии и другой службы божией, как в литовской земле, так и в Польше и в Кракове и по всем городам. Мой государь муж не только в этом, да и в других делах, ни в чем перед тобою не отступил от своего договора и крестного целования": РИО. Т. 35. С. 370.

"Хронікі Літоўская і Жамойтская" так тлумачылі пачатак вайны 1500–1503 гг.: вялікі князь маскоўскі, "большего розширения панства своего прагнучи", пачаў вайну з ВКЛ, а зачэпкай для пачатку вайны было тое, што Аляксандр не будаваў для Алены праваслаўнай царквы на тэрыторыі Віленскага замка і што, па сцверджаннях маскоўскага боку, Аляксандр парушаў мірны дагавор: ПСРЛ. Т. 32. С. 99. (З а ў в а г а. "Хронікі Літоўская і Жамойтская" з-за памылкі перапісчыка гавораць у гэты час пра вялікага князя маскоўскага Васіля III Іванавіча, а не Івана III Васільевіча.)



Маскоўскія вершнікі.
Гравюра XVI ст.

Ваенныя дзеянні развіваліся даволі імкліва. Адна групоўка войск ВКМ на чале з Я. Захар'іным накіравалася ў бок Бранска і авалодала ім (фактычна, горад у гэты час быў безабаронным: пажарам былі знішчаны ўмацаванні). Пасля авалодання Бранскам Я. Захар'ін прыняў на службу да Івана III ноўгарад-северскага князя В.В. Шамячыча і старадубскага князя В.С. Мажайскага-Старадубскага[1].

Другая групоўка войск ВКМ на чале з Ю. Захар'іным дзейнічала на смаленскім напрамку і авалодала Дарагабужам. Акрамя таго, у Вялікіх Луках знаходзілася трэцяя групоўка войск ВКМ, якая ў наступным захапіла Тарапец. У Цверы стаяў рэзерв.

Улады ВКЛ з пачаткам вайны разгарнулі актыўную дзейнасць па арганізацыі адпору нападу. З пераходам на службу да Івана III парубежных князёў ВКЛ патрэбна было фактычна занава ствараць абарону ўсходніх межаў краіны. Было сабрана войска. Адна група войск ВКЛ на чале з гетманам К.І. Астрожскім была накіравана да Смаленска. Яна падышла да горада ў канцы чэрвеня 1500 г. Для прадухілення аб'яднання некалькіх груповак маскоўскіх войск (у дапамогу групоўцы каля Дарагабужа былі пасланы сілы з Севершчыны, падмацаванне з Масквы і рэзерв з Цверы) і для іх разгрому Астрожскі выступіў са Смаленска. Але ў гэты час войскі ВКМ ужо аб'ядналіся каля Дарагабужа.

14 ліпеня адбылася бітва на Ведрашы пад Дарагабужам паміж войскамі ВКЛ і ВКМ. У ходзе жорсткай шасцігадзіннай бітвы войскі ВКЛ пацярпелі сакрушальнае паражэнне. Рашаючым у ходзе бітвы аказаўся ўдар у тыл войскам ВКЛ засаднага палка ВКМ. У палон трапіў гетман К. Астрожскі і іншыя военачальнікі[2]. Рэшткі войск ВКЛ адышлі да Смаленска, але і маскоўскія войскі пацярпелі вялікі ўрон і страцілі наступальны патэнцыял.

Групоўка войск ВКЛ на чале з Аляксандрам, якая спачатку стаяла каля Менска, пасля каля Барысава, даведаўшыся пра паражэнне пры Ведрашы, пайшла да Полацка, тым самым прыкрываючы стратэгічна важны раён ад магчымага нападу.

З самага пачатку вайны ВКЛ разгарнула актыўную дыпламатычную дзейнасць па пошуку саюзнікаў у вайне і па нейтралізацыі саюзнікаў ВКМ. Пасольства ВКЛ у Крымскім ханстве, якое было адпраўлена 27 лістапада 1500 г., не змагло адгаварыць крымскага хана Менглі-Гірэя ад ва-

[1] ПСРЛ. Т. 32. С. 99, 166.

[2] *Каштанов С.М.* Социально-политическая история России конца VI – первой половины XVI в. М., 1967. С. 155–164; *Казаков О.* Бітва на річці Ведроші 14. VII 1500 р. // Український історічний журнал. Київ, 1998. № 5. С. 52–62; *Herbst S.* Bitwa nad Wiedroszą 1500 roku // Wieki średnie. Praca ofiarowane Tadeuszowi Manteufflowi w 60 rocznicę urodzin. Warszawa, 1962. S. 275–282.

еннага саюзу з Масквой. Асноўнай прычынай няўдачы дыпламатыі ў гэтым напрамку была традыцыйная накіраванасць ВКЛ на саюз з Вялікай Ардой, заўзятым сапернікам Крымскага ханства. Паслы ВКЛ пабывалі ў Валахіі, Вялікай Ардзе (пасольствы былі адпраўлены на мяжы мая-чэрвеня 1500 г.), Лівонскім ордэне, у Польшчы і Венгрыі (у гэты час тут правілі браты Аляксандра: Ян Альбрэхт – кароль польскі, Уладзіслаў – кароль Венгрыі і Чэхіі). Адным з вынікаў пасольстваў стала адпраўка Польшчай і ВКЛ паслоў у Маскоўскую дзяржаву. 21 лютага 1501 г. паслы з Вільні і Кракава сумесна прыбылі ў Маскву для вырашэння спрэчных пытанняў і спынення вайны, але беспаспяхова.

У маі 1501 г. маскоўскія войскі зноў рушылі на ВКЛ. А ў чэрвені 1501 г. на ВКЛ здзейснілі напад крымскія татары.

У 1501 г. дзякуючы намаганням згаданых пасольстваў у вайну на баку ВКЛ уступілі Вялікая Арда і Лівонскі ордэн. Войскі Арды захапілі Рыльск і Ноўгарад-Северскі, але, не атрымаўшы дапамогі з боку ВКЛ, адкачавалі на зімоўку ў стэп. Умовы зімоўкі аказаліся дрэннымі[1]. Вялікая Арда аслабела і вясной 1502 г. была разгромлена Крымскім ханствам і перастала існаваць.

Лівонскі ордэн, які ў той час узначальваў магістр Вальтэр фон Плятэрберг, пачаў ваенныя дзеянні супраць ВКМ у маі 1501 г. У жніўні 1501 г. адбылася сутычка паміж інфлянцкімі і маскоўскімі войскамі пад Ізборскам. Войскі ВКЛ на чале з чэхам Багумілам Чэрнінам не паспелі да гэтай бітвы. Згодна з планам ваенных дзеянняў інфлянцкія войскі павінны былі злучыцца з войскамі ВКЛ і дзейнічаць скаардынавана[2], але гэтага не адбылося.


Шлем рыцара ВКЛ, знойдзены ў г. Мсціслаў на месце сутычкі з маскоўскім войскам у 1502 г.

17 чэрвеня 1501 г. памёр польскі кароль Ян Альбрэхт. Пасля яго смерці вялікі князь літоўскі Аляксандр выехаў у Польшчу і 3 кастрычніка быў выбраны каралём. У змаганні за карону Аляксандр правёў лета і восень 1501 г. у Польшчы, дзе прабыў яшчэ амаль палову 1502 г. Адсутнасць вялікага князя і спадзяванні на дапамогу палякаў абумовілі пасіўнасць войск ВКЛ у другой палове 1501 г.[3]

Затое маскоўскія войскі восенню 1501 г. рушылі на Мсціслаўшчыну і 4 лістапада перамаглі ў бітве пад Мсціславам групу войск ВКЛ на чале з М. Мсціслаўскім-Заслаўскім і А. Дашкевічам. Для адцягвання сіл ад Мсціслава гетман найвышэйшы і кашталян трокскі Станіслаў Кезгайла і Багуміл Чэрнін з Полацка нападалі на землі ВКМ. На гэтым кампанія 1501 г. скончылася.

---

[1] Литовская метрика. Книга записов 5, арк. 241,247; *Базилевич К.В.* Внешняя политика Русского централизованного государства... С. 484–487; *Kuczyński S.* Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządamy Litwy. Warszawa, 1836. С. 323–326.

[2] *Базилевич К.В.* Внешняя политика Русского централизованного государства... С. 466–481, 495–499; *Зимин А.А.* Россия на рубеже XV–XVI столетий. М., 1982. С. 189–193.

[3] *Papee F.* Aleksandr Jagiellończyk. Kraków, 1949. S. 65.

Летам 1502 г. адбыўся паход маскоўскіх войск на Смаленск. Яны захапілі і спалілі Оршу, рабавалі Мсціслаўшчыну, землі Віцебшчыны і Полаччыны. У гэты час у ВКЛ прыехаў Аляксандр і прывёў з сабой надворнае войска, наёмнікаў. Літвінскія сілы разам з атрадамі, якія прыйшлі з Аляксандрам, рушылі на дапамогу Смаленску. З іх прыбліжэннем войскі ВКМ знялі аблогу Смаленска і адышлі. Але затое 13 верасня 1502 г. войскі Інфлянцкага ордэна, саюзніка ВКЛ, былі ўшчэнт разбіты масквічамі ля возера Смолінскага ў пскоўскай зямлі. У наступным дзеянні ваюючых бакоў мелі лакальны характар і абмяжоўваліся невялікімі рэйдамі. Бакі былі аслаблены ваеннымі дзеяннямі і шукалі замірэння.

4 сакавіка 1503 г. у Маскву прыбыло пасольства ВКЛ. Пасля цяжкіх перамоў 28 сакавіка было падпісана перамір'е на 6 год з 1503 да 1509 г. Яго ўмовы былі ганебнымі для ВКЛ, але Княства не мела належнага ваеннага патэнцыялу, каб адстаяць больш выгадныя. Вільня была вымушана, нягледзячы на ўсе намаганні сваіх дыпламатаў, прызнаць фактычны пераход пад уладу Масквы захопленых зямель. Але ён не быў прызнаны ВКЛ законным і канчатковым, што і абумовіла падпісанне толькі перамір'я, а не міру. Па ўмовах перамір'я Вялікае Княства страціла апошнія вярхоўскія княствы (Мцэнск, Масальск, Серпейск, Любуцк), Старадубскае і Ноўгарад-Северскае княствы (Чарнігаў, Старадуб, Гомель, Ноўгарад-Северскі, Рыльск), частку Смаленшчыны (Бранск, Радагошч, Почап, Трубчэўск, Тарапец, Дарагабуж, Белую), Кіеўшчыны (Любеч, Пуціўль), Полаччыны (Остру, Невель), Мсціслаўшчыны (Мглін, Хатомель, Папову Гару).

**Пошукі рэваншу. Мяцеж М. Глінскага.** Улады ВКЛ ратыфікавалі дамову аб перамір'і 1503 г. і пачалі чакаць спрыяльных умоў для іх змянення. 27 кастрычніка 1505 г. памёр Іван III, і вялікім князем маскоўскім стаў Васіль III. У Вільні сталі дамагацца вяртання тэрыторый, страчаных падчас заваёў Івана III. Пры вялікім князі літоўскім Аляксандры гэтыя патрабаванні не былі канчаткова аформлены з-за неабходнасці арганізацыі адпору рабаўнічым нападам крымскіх татар. Кароткачасова набегі татар спыніліся пасля іх разгрому войскамі ВКЛ на чале з М. Глінскім пад Клецкам 5 жніўня 1506 г.[1] У хуткім часе пасля бітвы вялікі князь літоўскі Аляксандр памёр (19 жніўня).

20 кастрычніка 1506 г. вялікім князем літоўскім быў абраны Жыгімонт Стары (8 снежня ён быў абраны і польскім каралём). Жыгімонт Стары быў паслядоўным прыхільнікам вяртання страчаных зямель.

У лютым 1507 г. Віленскі сейм прыняў рашэнне аб вяртанні тэрыторый, якія былі заваёваны ВКМ.

У сакавіку–красавіку ў Маскве знаходзілася пасольства ВКЛ, якое ультыматыўна патрабавала ад новага вялікага князя маскоўскага Васіля III вярнуць уладанні ВКЛ, якія былі захоплены ВКМ пры Іване III. Гэтае пасольства мела таксама тайную місію да брата Васіля III Юрыя Іванавіча з прапановай падтрымкі яго ў выпадку захопу ім вялікакняскай улады ў Маскве. Але місія не прынесла чаканых вынікаў.

Адначасова з накіраваннем пасольства ў Маскву ВКЛ праводзіла мерапрыемствы па падрыхтоўцы да ваенных дзеянняў. Дыпламаты ак-

[1] *Варонін В.* Два лісты пра бітву пад Клецкам у 1506 г. // Беларускі гістарычны агляд. Мн., 1995. Т. 2. Сш. 2. С. 279–290; *Finkel L.* List Mihaiła Glińskiego o bitwie pod Kleckiem w 1506 r. // Kwartalnik Historyczny. 1915. R. 19. Z. 1/4.

тыўна працавалі ў Крымскім ханстве і дабіліся абяцання ваяваць разам з Вялікім Княствам супраць Маскоўскай дзяржавы і зрабіць напад на Чарнігаў і Пуціўль. Але ў 1507 г. крымскія татары не праводзілі ваенных акцый. У Польшчы вяліся перамовы аб ваеннай дапамозе. Пасольствы ВКЛ з прапановай аб саюзе знаходзіліся ў Інфлянтах і ў Казанскім ханстве, але іх дзейнасць была непаспяховай[1].

Урад ВКМ не прыняў патрабаванні Вільні. Ён заявіў аб гатоўнасці пачаць ваенныя дзеянні супраць ВКЛ і пачаў іх першым. У красавіку 1507 г. маскоўскія войскі былі пасланы на Полаччыну (з Вялікіх Лук) і Смаленшчыну (з Дарагабужа). Яны абмінулі крэпасці і пустошылі валасці ў глыбіні ВКЛ, даходзячы да Бярэзіны.

Для арганізацыі адпору Жыгімонт Стары пераехаў з Польшчы ў Вялікае Княства Літоўскае. Па яго загадзе гетман літоўскі тэрмінова збіраў каля Менска паспалітае рушэнне (каля 14 тыс. чалавек). Але пакуль яно сабралася (гэта адбылося ў чэрвені), войскі ВКМ пакінулі тэрыторыю ВКЛ. Паспалітае рушэнне перабазіравалася ў раён Друцка, адкуль рабіла дробныя рабаўнічыя набегі на парубежныя землі Маскоўскай дзяржавы (у ліпені 1507 г. атрад ВКЛ спаліў Чарнігаў[2]). У хуткім часе паспалітае рушэнне было распушчана.

У кастрычніку – лістападзе 1507 г. войскі ВКМ на чале з ваяводамі В. Холмскім і Я. Захар'іным зноў дзейнічалі ў верхнім Падняпроўі, асадзілі Крычаў і Мсціслаў. Для ваеннага адпору ў ВКЛ другі раз сабралася паспалітае рушэнне, і калі яно падыходзіла на дапамогу асаджаным гарадам, войскі Васіля III зноў вярнуліся ў свае землі.

Нечакана вайна з ВКМ ускладнілася ўнутрыпалітычнай праблемай. У лютым 1508 г. М.Л. Глінскі ўзняў бунт супраць Жыгімонта Старога[3]. Глінскі сабраў каля 2 тыс. сваіх прыхільнікаў і васалаў. Цэнтрам бунтаўшчыкоў стаў Тураў, быў захоплены Мазыр, атрады Глінскага дзейнічалі каля Слуцка, Менска, Оўруча, Жытоміра і іншых гарадоў.

Вясной 1508 г. у стане мяцежнікаў з'явіўся ўпаўнаважаны Васіля III Нікіта Губа Маклакоў, які дамовіўся аб пераходзе М. Глінскага ў падданства да Васіля III. Глінскаму абяцалася ваенная падтрымка і перадача ў яго кіраванне мясцовасцей, якія будуць ім заваёваны. М. Глінскі асаджаў Слуцк, на дапамогу яму Масква прыслала В.І. Шамячыча з вой-

---

[1] НГАБ. Ф. КМФ-18. воп. 1, спр. 7, арк. 17, 29; АЗР. С. 8, 13–14, 21; *Малиновский И.А.* Сборник материалов, относящихся к истории панов-рады Великого княжества Литовского. Томск, 1901. Ч. 2. № XIX, XXIII.

[2] ПСРЛ. Т. 24. С. 216; РИО. Т. 35. С. 483.

[3] Бунт насіў характар авантуры М.Л. Глінскага. Ён быў незадаволены зніжэннем свайго ўплыву пры двары вялікага князя пасля смерці Аляксандра, пры якім ён з'яўляўся адным з першых дарадцаў вялікага князя. Але пры Жыгімонце Старым з-за прыдворных інтрыг Яна Забярэзінскага і іншых вяльмож, М. Глінскі страціў сваё становішча. Жыгімонт Стары не спяшаўся ўрэгуляваць спрэчныя пытанні, і М. Глінскі вырашыў сам пакараць крыўдзіцеляў. Яго атрад захапіў і забіў Я. Забярэзінскага. Пасля гэтага М. Глінскі спрабаваў наладзіць перамовы з Жыгімонтам, каб той дараваў яму, але гэтага не адбылося. Акрамя таго, М. Глінскі, шукаючы падтрымкі, пасылаў сваіх паслоў і ў Крымскае ханства. Пасля няўдалых перамоў з кіраўніцтвам ВКЛ М. Глінскі вырашыў перайсці ў падданства да вялікага князя маскоўскага: *Кром М.М.* Меж Русью и Литвой... М., 1995. С. 121–129, 187; *Ён жа.* Человек на всякий час: авантюрная карьера князя М.Глинского // Родина. М., 1996. № 6. С. 49–50; *Зимин А.А.* Россия на пороге нового времени (Очерки политической истории первой трети XVI в.). М., 1972. С. 85.

14 Зак. 1594

скам. У гэты час групоўкі маскоўскіх войск з Вялікіх Лук на чале з Д. Шчэням і з Масквы на чале з Я. Захар'іным дзейнічалі каля Смаленска. Яшчэ адна групоўка была паслана пад Полацк.

У маі 1508 г. войскі Глінскага і Шамячыча трымалі ў аблозе Менск і рабілі рэйды ў глыб тэрыторыі ВКЛ (даходзілі да Слоніма і нават на адлегласць да 8 міль ад Вільні).

У гэты час каля Ліды збіраліся паспалітае рушэнне ВКЛ, а з Польшчы на дапамогу падыходзіла 4–5-тысячнае войска (у яго склад уваходзілі наёмнікі, прыдворная харугва і добраахвотнікі) пад кіраўніцтвам Мікалая Фірлея, ваяводы любельскага. Аб'яднаныя сілы (каля 15–16 тыс. чалавек) на чале з гетманам К. Астрожскім, які ў верасні 1507 г. якраз уцёк з ВКМ, рушылі на пачатку чэрвеня на непрыяцеля. Глінскі і Шамячыч адступілі без бою на ўсход і прынялі ўдзел у аблозе Оршы. 13 ліпеня войскі ВКЛ на чале ўжо з самім Жыгімонтам падышлі да Оршы. Не прыняўшы бою, групоўка маскоўскіх войск зняла аблогу і ў ноч на 23 ліпеня адступіла ад горада.

У жніўні 1508 г. К. Астрожскі і М. Фірлей праводзілі рэйды на Севершчыне, у гэты час ВКЛ адваявала Любеч. Быў вызвалены Мазыр, і як следства М. Глінскі і яго прыхільнікі вымушаны былі пераехаць у ВКМ, праўда некаторыя засталіся ў ВКЛ і прасілі даравань ім удзел у бунце.



Цяжкая кавалерыя ВКЛ. З карціны ананімнага мастака "Бітва пад Оршай"

Невялікая групоўка войск ВКЛ на чале з маршалкам гаспадарскім Станіславам Кішкам, рухаючыся ў глыб тэрыторыі ВКМ, захапіла Дарагабуж і Тарапец, а некаторыя атрады даходзілі да Вязьмы і Мажайска. Аднак войскі ВКМ ударам у адказ адваявалі занятую тэрыторыю[1]. Адначасова з гэтымі ваеннымі рэйдамі ВКЛ распачало перамовы аб замірэнні.

9 верасня 1508 г. было падпісана пагадненне аб "вечным міры", якое замацоўвала межы згодна з дагаворам 1503 г., толькі ВКЛ дабілася далучэння да сябе Любеча з прылеглай тэрыторыяй; было дамоўлена аб абмене палоннымі. Прызнавалася права М. Глінскага і яго прыхільнікаў на асабісты ад'езд у Маскву. Адначасова заключаўся ваенны саюз супраць "всех недругов".

**Вайна 1512–1522 гг. Страта Смаленска. Бітва пад Оршай.** Умовы міру 1508 г. не задаволілі Маскву. З 1510 г. яна непасрэдна займалася падрыхтоўкай да вайны: дыпламатычнай дзейнасцю, набыццём лепшага ўзбраення, у першую чаргу асаднай артылерыі, і г.д. Асноўнай мэтай вайны было авалоданне Смаленскам. Дыпламатычнымі шляхамі Масква заручылася падтрымкай Лівонскага і Тэўтонскага ордэнаў.

---

[1] *Natanson-Leski J.* Dzieje granicy... S. 104; *Herbst S.* Wojna moskiewska 1507–1508. // Księga ku czci O. Haleckiego wydana w 25-lecie Jego pracy naukowiej. Warszawa, 1935. S. 29–54. *Зимин А.А.* Россия на пороге нового времени. С. 84–89.

Восенню 1512 г. ВКМ аб'явіла вайну ВКЛ. Афіцыйнымі прычынамі вайны з боку ВКМ называліся прыцясненне ўдавы Аляксандра Алены (сястры Васіля III) і саюз ВКЛ з Крымскім ханствам. Гэтыя прычыны мелі яўна выражаны прапагандысцкі характар і мэту апраўдаць пачатак вайны. На самой справе паслы ВКМ нават не захацелі наведаць вялікую княгіню Алену, каб даведацца пра яе рэальнае становішча. Што да саюзу з Крымам, то ён уваходзіў у кампетэнцыю двухбаковых адносін ВКЛ і Крымскага ханства[1]. Дарэчы, гэты саюз не супярэчыў "вечнаму міру" 1508 г., у якім Крымскае ханства не ўваходзіла ў ранг агульнага ворага, супраць якога ВКМ і ВКЛ павінны былі весці барацьбу.

У лістападзе 1512 г. група маскоўскіх войск на чале з князем І.М. Рэпніным-Абаленскім і канюшым І.А. Чалядніным рушыла да Смаленска. Яна спаліла пасады Смаленска і накіравалася да Оршы і Друцка. Сюды ж з Вялікіх Лук ішла групоўка войск на чале з князем В.С. Адоеўскім. У гэтым рэгіёне войскі ВКМ дзейнічалі падчас так званага першага паходу на Смаленск і праводзілі свае аперацыі пад Полацкам, Віцебскам, Браславам, Мсціславам, Крычавам, Оршай, Друцкам, Барысавам. Менскам. Адна з груповак маскоўскіх войск зрабіла рэйд пад Кіеў[2].

У снежні 1512 г. на Смаленск рушыла асноўная група войск ВКМ на чале з Васілём III, якая асаджала крэпасць у студзені–лютым. Смаленск мужна вытрымаў шасцітыднёвую аблогу.

У ліпені 1513 г. маскоўскія войскі другі раз пайшлі да Смаленска і зноў пачалі аблогу, якая працягвалася з верасня да пачатку лістапада. Восенню 1513 г. каля Смаленска было сканцэнтравана вялікае войска (60-тысячная армія з вялікай колькасцю гармат і 2 тыс. пішчаляў). Гарнізон і жыхары горада гераічна трымалі абарону. У гэты ж час на Полаччыне дзейнічала 24-тысячная групоўка войск ВКМ, 8-тысячная – пад Віцебскам, а 14-тысячная – пад Оршай[3]. ВКЛ прымала экстраныя меры па арганізацыі адпору. Было сабрана войска пад кіраўніцтвам К. Астрожскага, якому на дапамогу прыйшлі ваенныя атрады з Польшчы. Войска ВКЛ рушыла на ўсход краіны. Пад яго націскам войскі ВКМ адышлі з-пад Полацка і Віцебска, а каля Оршы наогул былі разбіты. У лістападзе 1513 г. войскі Васіля III былі адведзены і ад Смаленска.

Трэці паход ВКМ на Смаленск пачаўся ў канцы мая 1514 г. Рашэнне адносна яго было прынята ў лютым 1514 г. Тады ж дзякуючы дыпламатыі ВКМ і перш за ўсё выкарыстанай ёю міжнароднай сітуацыі была

---

[1] Саюз ВКЛ і Крымскага ханства, які быў заключаны Жыгімонтам Старым у 1512 г., трэба лічыць дыпламатычнай перамогай. Гэты саюз пераманіў у ВКМ патэнцыяльнага агрэсіўнага саюзніка, што дало адносны спакой для паўднёвых зямель ВКЛ (саюз быў заключаны на ўмовах выплаты ВКЛ Крымскаму ханству ўпамінак). У адносінах з Крымскім ханствам ВКЛ пастаянна адчувала канкурэнцыю ВКМ, якое таксама імкнулася займець Крымскае ханства ў якасці саюзніка. Падрабязней за гэта гл.: *Кузнецов А.Б.* Дипломатическая борьба России за безопасность южных границ (первая половина XVI в.). Мн., 1986. С. 15–52; *Хорошкевич А.* Русь, Крым и Астрахань в начале XVI в. // Центральна і Східна Європа в XV–XVIII століттях: питанне соціально-економічної та політичної історії. До 100-річча від дня народження професора Дмітра Похилевича. Львів. 1998. С. 162–172.

[2] ПСРЛ. Т. 4. Ч. 1. Вып. 3. Л., 1926. С. 538.

[3] *Рябинин И.* Новое известие о Литве и Московитах // Чтения в Императорском обществе истории и древностей российских при Московском университете. М., 1906. Кн. III, Смесь. С. 5 [гэтыя лічбы, хутчэй за ўсё завышаны].

аформлена ваенная кааліцыя супраць Польшчы і ВКЛ у складзе ВКМ, Свяшчэннай Рымскай імперыі, Тэўтонскага ордэна, Даніі, Брандэнбургскага курфюрства. Паводле пагаднення ў выпадку перамогі членаў кааліцыі германскі імператар Максіміліян I прызнаваў права ВКМ на землі ВКЛ, а Васіль III – права Вены на некаторыя землі Польшчы.

Выкарыстоўваючы вопыт ранейшых паходаў, улады ВКМ добра падрыхтаваліся. У паходзе ўдзельнічала 80-тысячная групоўка войск, а галоўнае – вялікі аддзел асаднай артылерыі.

Пачалася аблога Смаленска і інтэнсіўны абстрэл яго з гармат. 31 ліпеня (па іншых крыніцах – 29, 30 ліпеня, 1 жніўня) Смаленск капітуляваў. Дакладныя прычыны прыняцця такога рашэння абаронцамі невядомыя. У літаратуры гаварыцца пра наступныя магчымыя прычыны: угаворы М. Глінскага, які асабіста ведаў кіраўнікоў абароны і абяцаў выгадныя ўмовы здачы, асабістыя гарантыі; адсутнасць дапамогі з боку войск ВКЛ; стомленасць абаронцаў ад фактычна бесперапынных трох аблогаў і іх страх перад асаднай артылерыяй ВКМ; прарасійскія сімпатыі жыхароў Смаленска і г.д.[1] Страта Смаленска мела вялікае ваеннае і палітычнае значэнне. Ён займаў вельмі важнае стратэгічнае становішча і з'яўляўся як "ключом да Масквы", так і "ключом да Літвы"; валоданне гэтым горадам сімвалізавала перавагу аднаго з бакоў у дадзеным рэгіёне[2].

Імкнучыся развіць поспех, Васіль III паслаў у глыб ВКЛ свае асноўныя сілы, якія ў наступным былі сканцэнтраваны каля Оршы. Пад уплывам узнікшых абставін для захавання сіл і выратавання зямель ад рабавання на бок Масквы перайшоў князь М. Мсціслаўскі з г. Мсціслава, гарады Крычаў і Дуброўна.

У гэты час сабранае Жыгімонтам Старым войска рушыла на непрыяцеля. У склад аб'яднаных сіл ВКЛ і Польшчы ўваходзіла паспалітае рушэнне (16 тыс. коннікаў), 14 тыс. польскіх коннікаў, 2,5 тыс. конных польскіх добраахвотнікаў і 3 тыс. наёмнай пяхоты. Жыгімонт Стары пакінуў пры сабе 4 тыс. ратнікаў, астатняе войска (каля 30 тыс. чалавек) пад камандаваннем К. Астрожскага было накіравана насустрач войскам ВКМ (каля 60–80 тыс. чалавек) пад Оршу.

8 верасня 1514 г. адбылася Аршанская бітва (бітва пад Крапіўнай). У ходзе бітвы войскі ВКМ былі поўнасцю разбіты. Іх страты склалі да 30–40 тыс., у палон былі ўзяты Булгакаў-Голіца, Чаляднін і іншыя маскоўскія ваяводы.

Непасрэдным наступствам аршанскай перамогі стаў пераход на бок ВКЛ князя М. Мсціслаўскага з г. Мсціслава і гарадоў Крычава і Дуброўны.

Пасля Аршанскай бітвы К. Астрожскі рушыў да Смаленска і праз чатыры тыдні аблажыў яго. Але войска ВКЛ, якое прыйшло да Смаленска, не прызначалася для вядзення аблогі і не мела належнага ваеннага і ін-

---

[1] *Кашпровский Е.И.* Борьба Василия III Ивановича с Сигизмундом I Казимировичем из-за обладания Смоленском (1507–1522). Нежин, 1899. С. 40–65; *Кром М.М.* Меж Русью и Литвой... С. 188–192; *Зимин А.А.* Россия на пороге нового времени. С. 151–162; *Korzon T.* Dzeje wojen i wojskowości w Polsce. T. 1. Kraków, 1912. C. 250–253; *Natonson-Leski J.* Dzieje granicy... S. 108–110; *Kolankowski L.* Polska Jagellonów... S. 199–203.

[2] *Błaszczyk G.* Litwa na przełomie średniowiecza i nowożytności 1492–1569. Poznań, 2002. S. 55.

жынернага забеспячэння. Акрамя таго, у самім Смаленску намесніку Васіля III В. Шуйскаму з даносу здрадцы ўдалося раскрыць падполле смалян на чале з епіскапам Варсанафеем; рыхтавалася паўстанне ў горадзе[1], на якое разлічваў К. Астрожскі. Таму вярнуць Смаленск Астрожскаму не ўдалося.



Бітва пад Оршай.
З брашуры А. Крыцкага 1515 г.

Аршанская перамога была ўдала выкарыстана дыпламатычнымі коламі ВКЛ. На Венскім кангрэсе ў 1515 г. дыпламатам Жыгімонта Старога ўдалося дабіцца выхаду імператара Максіміляна з кааліцыі супраць Ягелонаў.

На працягу 1515–1518 гг. ваенныя дзеянні вяліся вяла і мелі выгляд невялікіх рэйдаў на тэрыторыі праціўніка. Вясной 1515 г. маскоўскае войска зрабіла рэйд на Рослаў – былі спалены Браслаў і Друя. Войскі ВКЛ на чале з старостам чаркаскім А. Дашкевічам і кіеўскім ваяводам А. Неміровічам пры падтрымцы крымскіх ататр зрабілі рэйд па Северщчыне. У 1515 г. войскі Васіля III падступалі да Полацка, Віцебска, Мсціслава, а войска ВКЛ пад кіраўніцтвам паляка Януша Сверчоўскага – на Вялікія Лукі і Тарапец. У 1516 г. войскі ВКМ дзейнічалі ў раёне Віцебска, а ВКЛ – у раёне Гомеля.

У 1517 г. літоўскае войска на чале з Астрожскім з Полацка рушыла на Пскоўшчыну. Была абложана Апочка, асобныя атрады рабілі рэйды да Пскова, Краснага, Варонеча, Веллі. У ваеннай кампаніі дзейнічалі і польскія атрады на чале з Янушам Сверчоўскім. Адначасова з пачаткам паходу ВКЛ паслала ў ВКМ сваіх паслоў для вядзення перамоў аб спыненні ваенных дзеянняў і заключэнні міру. Паход на Апочку ў выпадку яго паспяховасці расцэньваўся ўрадам ВКЛ як адзін з аргументаў падчас будучых перамоў. Але яго аблога (верасень – пачатак кастрычніка) была беспаспяховай, і з канцэнтрацыяй маскоўскіх войск вакол Апочкі войскі ВКЛ адышлі.

Летам 1517 г. у Маскву прыбыло пасольства ВКЛ, якое пры пасрэдніцтве імператарскага ўпаўнаважанага С. Герберштэйна спрабавала дамовіцца аб спыненні вайны, але ўмовы абодвух бакоў былі ўзаемна непрымальнымі.

У 1518 г. войскі ВКМ зноў дзейнічалі на Полаччыне (з Вялікіх Лук), Віцебшчыне (з Белай), у Падняпроўі (са Смаленска і Старадуба). 29 ліпе-

[1] Арганізатары і ўдзельнікі падрыхтоўкі паўстання па загадзе В.В. Шуйскага пры падыходзе войск К. Астрожскага былі павешаны на сценах Смаленска разам з падарункамі, якія яны атрымалі ад Васіля III пры здачы Смаленска. Толькі смаленскі епіскап не быў пакараны смерцю, а быў адпраўлены ў Дарагабуж. У наступным, нягледзячы на абяцанні і грамату Васіля III смалянам, што яны не будуць выселены з сваёй мясцовасці, значная іх частка была перасялена ў Маскву. Адным з іх былі дадзены крамы, а іншым памесці. Гл.: *Зимин А.А.* Формирование боярской аристократии в России во второй половине XV – первой трети XVI в. М., 1988. С. 165–167.

ня войскі ВКЛ на чале з Альбрэхтам Гаштольдам і Юрыем Радзівілам пад Полацкам разбілі маскоўскія сілы, рэшткі якіх адышлі ў межы Маскоўскай дзяржавы. Але іншыя групоўкі праціўніка працягвалі дзейнічаць, і некаторыя атрады даходзілі нават да Менска, Слуцка, Наваградка і ледзь не да самай Вільні[1].

1519 год быў для ВКЛ даволі складаным. У вайну на баку Масквы ўступіў Тэўтонскі ордэн. У ліпені на Кіеўшчыну і Валынь уварвалася 40-тысячнае войска Крымскага ханства, якое разбіла войскі Польшчы і ВКЛ (на чале з Астрожскім) пад Сокалем. Адначасова арганізоўваўся напад Тэўтонскага ордэна на Польшчу, які, праўда, не адбыўся. Войскі ж ВКМ трыма групоўкамі рушылі на тэрыторыю ВКЛ. Асноўнай задачай гэтых рэйдаў была дэманстрацыя ваеннай сілы і рабаванне тэрыторыі, г.зн. падрыў ваеннага і эканамічнага патэнцыялу Вялікага Княства Літоўскага. Маскоўскія атрады даходзілі да Крэва, Ашмян, Маркава, Лебедзева, нават да Меднікаў (20 міль ад Вільні).

У лютым 1520 г. адбыўся рэйд войск ВКМ на чале з ваяводам В. Гадуновым пад Полацк і Віцебск[2]. Гэта было апошнім актыўным актам у вайне. Дыпламаты Жыгімонта Старога ўдалося заключыць пагадненне з Крымскім ханствам, а Тэўтонскі ордэн пацярпеў ад Жыгімонта некалькі паражэнняў і не мог быць памагатым Васіля III, ды і сама Маскоўская дзяржава, як і ВКЛ, была стомлена вайной. Летам 1520 г. у Маскве пасольства ВКЛ дамовілася пра спыненне ваенных дзеянняў, прычым неафіцыйна размовы аб перамір'і пачаў расійскі бок.

Але варожыя адносіны паміж сапернікамі не спыняліся. У тым жа 1520 г. стала назірацца значная гандлёвая актыўнасць маскоўскіх купцоў на Балтыцы ў заходнім кірунку, улады Польшчы і ВКЛ рашучымі мерамі падавілі яе: былі наняты гданьскія каперы, якім Жыгімонст Стары выдаў прывілей на права грабяжу расійскіх гандлёвых караблёў і якія блакіравалі для расійскіх купцоў Усходнюю Балтыку[3]. У 1521 г. пры падтрымцы ВКЛ ажыццявіўся паход крымскіх татар на ВКМ.

У жніўні–верасні 1522 г. у Маскву прыбыло "вялікае пасольства" Жыгімонта Старога на чале з полацкім ваяводам П. Кішкам. 14 верасня было падпісана перамір'е на 5 гадоў, пасля чаго меркавалася падпісаць вечны мір. Асноўным спрэчным пытаннем, з-за якога падпісанне не адбылося, быў Смаленск. ВКМ не хацела яго аддаваць, а ВКЛ не хацела прызнаваць яго страту. У выніку кампрамісу Смаленск прадаўжаў знаходзіцца пад уладай Масквы, але ў тытул Васіля III не ўпісвалася тытулаванне "князь смаленскі"; шматлікі "маскоўскі палон" заставаўся ў ВКЛ.

У 1526 г. перамір'е было падоўжана пры садзейнічанні Гербейштэйна яшчэ на 7 гадоў[4], у сакавіку 1532 г. – яшчэ на год. Гады перамір'я не заўсёды праходзілі беспраблемна[5].

---

[1] *Зимин А.А.* Россия на пороге нового времени. С. 189.

[2] *Кашпровский Е.И.* Борьба Василия III Ивановича с Сигизмундом I... С. 70; *Зимин А.А.* Россия на пороге нового времени. С. 170–202; С. 195–196. *Korzon T.* Dzieje wojen... S. 255–256.

[3] *Хорошкевич А.Л.* Русское государство в системе международных отношений... С. 162.

[4] *Герберштейн С.* Записки о Московии. М., 1988. С. 276–281; РИО. Т. 35. С. 845–849; АЗР. Т. 2. С. 219–220; ПСРЛ. Т. 8. М., 1853. С. 279.

[5] *Сідарэнка Б.* "Старадубская вайна" (Вайна Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай 1534–1537 гг.) // Беларускі гістарычны часопіс. 1988. № 1. С. 37.

**Старадубская вайна. Усталяванне раўнавагі сіл.** У канцы 1533 г. ВКЛ паспрабавала ўзнавіць перамовы. Пасланец Жыгімонта Старога быў накіраваны ў Маскву з прапановай "вечнага міру" ці перамір'я і меў даручэнне высветліць магчымасць прыезду вялікіх паслоў[1]. У ноч з 3 на 4 снежня 1533 г. памёр Васіль III. Вялікім князем маскоўскім стаў старэйшы сын Васіля III Іван, якому ў гэты час было ўсяго 3 гады. Гэтая вестка абудзіла ў Вільні надзею.

Кіраўніцтва ВКЛ вырашыла, што настаў зручны момант для пачатку вайны за вяртанне страчаных тэрыторый: гэтаму спрыялі малалецтва вялікага князя маскоўскага, наяўнасць у Маскве апазіцыі ўладзе[2], варожыя адносіны да Маскоўскай дзяржавы Крымскага ханства.

І хоць у Маскве ў пачатку 1534 г. пачаліся мірныя перамовы, 8 студзеня Жыгімонт Стары прыняў рашэнне аб скліканні 15 лютага ў Вільні вальнага сейма. 8 лютага ён прад'явіў ультыматум маскоўскаму паслу Цімафею Братнікаву, які прыбыў у ВКЛ з паведамленнем аб смерці Васіля III з прапановай захавання існуючага становішча. Ультыматум Жыгімонта Старога ўтрымліваў патрабаванне вярнуць ВКЛ тэрыторыі, што адышлі да Масквы ў канцы XV – пачатку XVI ст.

Вальны сейм працягваўся з сярэдзіны лютага да сярэдзіны сакавіка. Большасцю галасоў ён прыняў рашэнне пачаць вайну і ўхваліў ваенныя прыгатаванні (скліканне паспалітага рушэння, вярбоўка наёмнікаў, збор сярэбшчыны на 3 гады). Ваяводам і намеснікам парубежных тэрыторый загадана было заставацца на памежных замках і падрыхтоўваць іх на выпадак вайны. Вялікі князь 14 сакавіка падпісаў універсал па збіранні паспалітага рушэння з пачатку красавіка і не пазней за 23 мая 1534 г. каля Менска пад кіраўніцтвам гетмана ВКЛ Юрыя Радзівіла (гетман з 1531 г.)[3].

У маі паспалітае рушэнне сабралася каля Менска. У тым жа месяцы невялікія атрады войск ВКЛ рабілі разведвальныя рэйды на Севершчыну. Яны даходзілі да Чарнігава, Ноўгарад-Северскага, Старадуба, Радагошча, Бранска. Ваенныя дзеянні былі скаардынаваны з набегамі крымскіх татар на паўднёвыя землі ВКМ, але яны рабіліся невялікімі сіламі і не былі паспяховымі[4].

У пачатку жніўня мсціслаўскі дзяржаўца Юрый Зяноўевіч выслаў разведвальны атрад, які разбіў маскоўскі атрад колькасцю 1100 чалавек[5].

18 жніўня гетман ВКЛ Ю. Радзівіл прывёў 20-тысячнае войска пад Магілёў. У гэты час да Жыгімонта Старога перабеглі маскоўскія баяры Сямён Бельскі і Іван Ляцкі з атрадам у 400 коней[6]. З-пад Магілёва частка войск ВКЛ на чале з І. Вішнявецкім была накіравана пад Смаленск, а частка, пад кіраўніцтвам князя А. Немiровіча – на СеверШчыну. Асноўныя ж сілы засталіся пад Магілёвам на "Друцкіх палях". Немiровіч

---

[1] РИО. Т. 39. СПб., 1887. С. 2.
[2] *Кром М.М.* Судьба регентского совета при малолетнем Иване IV: Новые данные о внутриполитической борьбе конца 1533–1534 гг. // Отечественная история. М., 1996. № 5. С. 40–43.
[3] *Малиновский И.А.* Сборник материалов, относящихся к истории панов-рады... С. 212–214; *Максимейко Н.А.* Сеймы Литовско-Русского государства до Люблинской унии 1569 г. Приложения. Харьков, 1902. С. 85–87.
[4] ПСРЛ. Т. 13. С. 81–82.
[5] *Kolankowski L.* Zygmunt August Wielki książe Litwy do roku 1548. S. 125.
[6] ПСРЛ. Т. 26. С. 316; Т. 35. С. 236; АЗР. Т. 2. С. 333.

трымаў у аблозе Старадуб, Почап, Чарнігаў, захапіў Радагошч. Гэта здарылася з-за памылкі абаронцаў, у якіх пры спальванні пасадаў горада для лепшай абароны крэпасці загарэлася сама крэпасць. Але захоп Радагошча фактычна нічога не даў ВКЛ, бо ён знаходзіўся далёка ад межаў ВКЛ і ўтрымліваць яго было немагчыма. У ходзе аблогі Старадуба 11 верасня адбылася бітва. Падчас вылазкі абаронцы горада захапілі ў палон ротмістра Сухадольскага і 7 ці 40 пішчальнікаў. Літвіны ж вынік гэтай бітвы расцэньвалі як сваю перамогу. Вярнуўшыся, войска раз'ехалася[1].

Да восені 1534 г. асноўная частка маскоўскіх войск знаходзілася на поўдні краіны для прадухілення магчымага нападу крымскіх татар. Восенню стала вядома, што нападу не будзе, і Маскоўская дзяржава зрабіла перагрупіроўку войск для набегу ("изгона") на тэрыторыю ВКЛ[2].



Польская наёмная пяхота.
Фрэска першай паловы XVI ст.

Позняй восенню 1534 – зімой 1535 г. войскі ВКМ зрабілі рэйды па тэрыторыі ВКЛ. Тры групоўкі – з Пскова, Смаленска, Старадуба – практычна не сустракаючы адпору, дайшлі да Браслава, Навагрудка. Пскоўская і Смаленская групоўкі злучыліся пад Маладзечнам і рушылі ў бок Вільні, да якой не дайшлі некалькі дзесяткаў кіламетраў.

Для ваеннай кампаніі 1535 г. ВКЛ наняло 5 тыс. жаўнераў у Польшчы і адтуль жа атрымала дапамогу – 1 тыс. коннікаў і 500 чалавек пяхоты. І зноў было склікана паспалітае рушэнне. Войскі сабраліся ў канцы мая 1535 г. пад Рэчыцай (каля 30 тыс. чалавек). У ліпені войскі ВКЛ пачалі паход на Севершчыну. 16 ліпеня яны занялі Гомель, жыхары якога самі адчынілі вароты. 29 жніўня, пасля месячнай аблогі, штурмам быў узяты Старадуб. Поспех штурму быў абумоўлены выкарыстаннем асаджаючымі (польскім атрадам) дагэтуль не ўжыванага ва Усходняй Еўропе прыёму падкопу і закладання пад сцены крэпасці міны, у выніку выбуху якой утварыўся праём у сцяне. Пасля ўзяцця Старадуба войскі ВКЛ занялі гарады Почап і Радагошч.

Праводзіліся мерапрыемствы па адбудове захопленых крэпасцей і замацаванні на адваяванай тэрыторыі[3]. Але з-за недахопу грошай у скарбе, у першую чаргу для ўтрымання наёмнага войска, якое б выконвала функцыю гарнізонаў, крэпасці не былі адноўлены, і войскі ВКЛ вярнуліся на сваю тэрыторыю. Ваенныя поспехі той кампаніі фактычна не былі выкарыстаны. У 1536 г. ВКМ аднавіла на Севершчыне свае крэпасці.

---

[1] АЗР. Т. 2. № 179. С. 331.
[2] *Малиновский И.А.* Сборник материалов, относящихся к истроии панов-рады... С. 218–219.
[3] Там жа. С. 227–232.

У чэрвені 1535 г. адна групоўка маскоўскіх войск дзейнічала на Полаччыне, дзе спаліла пасад Віцебска; другая – на Мсціслаўшчыне. Там былі спалены Крычаў, Дуброўна, Орша, узяты ў аблогу Мсціслаў, Радомль. У канцы ліпеня пад Крычавам войскі ВКМ пацярпелі паражэнне. У адказ масквічы збудавалі новыя крэпасці Себеж і Завалач на Полаччыне і Веліж на сваёй тэрыторыі. Каб прадухіліць дапамогу ВКЛ з боку Польшчы, на яе тэрыторыю, дзякуючы намаганням маскоўскай дыпламатыі, зрабіў з поўдня напад валошскі гаспадар.

У лютым 1536 г. ваенныя сілы ВКЛ няўдала спрабавалі захапіць Себеж. Летам таго ж года маскоўскія войскі дзейнічалі ў Падняпроўі, але былі разбіты пад Крычавам. На гэтым ваенныя дзеянні спыніліся.

І ВКЛ і ВКМ сталі шукаць замірэння. Пасля спрэчак пра месца перамоў Жыгімонт прыслаў у Маскву "вялікае пасольства", якое прыбыло 12 студзеня 1537 г. Пачаліся цяжкія і доўгія перамовы. Спачатку бакі высвятлялі, хто распачаў вайну, прад'яўлялі тэрытарыяльныя прэтэнзіі: Масква патрабавала Кіеў і Полацк, Вільня – Ноўгарад і Пскоў. Паслы ВКЛ дамагаліся вяртання ўсёй Северскай зямлі і разбурэння збудаваных замкаў – Себежа, Завалача, Веліжа, маскоўскі бок настойваў на даваенных межах і вяртанні палонных. Вільня згаджалася аддаць усіх палонных за Чарнігаў.

Толькі 16 лютага 1537 г. было дасягнута кампраміснае пагадненне, якое прадугледжвала 5-гадовае перамір'е. Гомель з усёй зямлёй заставаўся ў складзе ВКЛ, Себеж і Завалач перадаваліся ВКМ. Астатняя мяжа заставалася ў асноўным нязменнай. Перамір'е 1537 г. было прадоўжана 23 сакавіка 1542 г. на 7 гадоў, 19 студзеня 1549 г. на 5 гадоў, у жніўні 1553 г. на 2 гады, у студзені 1556 г. на 6 год[1].

У цэлым пра войны канца XV – першай трэці XVI ст. можна сказаць, што яны паказалі раўнавагу сіл у рэгіёне. На пачатку ваенных дзеянняў ВКМ паказала сябе больш падрыхтаваным да вайны, выявіла вялікую мабільнасць узброеных сіл. Гэтым абумоўліваліся няўдачы ВКЛ і яго тэрытарыяльныя страты. Паступова ў Вялікім Княстве быў прыняты шэраг мер, якія дазволілі эфектыўна змагацца з Маскоўскай дзяржавай і нават пераходзіць у наступленні. Вопыт ваенных дзеянняў паказаў для ВКЛ эфектыўнасць прымянення наёмных войск, як і значную баяздольнасць войск краіны пры правядзенні аперацый разам з войскамі Польшчы. Аб жорсткасці вайны гаворыць тое, што толькі двойчы падпісваліся мірныя дамовы (1494 і 1508 гг.), і то непрацяглыя, а ў астатніх выпадках падпісваліся толькі перамір'і.

У ходзе войн ВКЛ страціла значную частку сваіх дзяржаўных тэрыторый (ад Вязьмы да Смаленска уключна) і насельніцтва. Але такія цяжкія страты паслужылі адной з прычын хуткай кансалідацыі грамадства ВКЛ і выхавання грамадзянскай еднасці, нягледзячы на канфесійныя і этнічныя адрозненні насельніцтва краіны.

Але нельга расцэньваць адносіны ВКЛ і ВКМ у канцы XV – першай палове XVI ст. як пастаянна варожыя. Адначасова з войнамі і існаваннем спрэчных пытанняў ішоў станоўчы працэс развіцця двухбаковых адносін[2].

---

[1] РЛ. Т. 5. С. 53, 78, 169, 199.
[2] *Błaszczyk G.* Litwa na przełomie średniowiecza i nowożytności 1492–1569. S. 62–63.

## 4. Барацьба супраць татарскіх набегаў

**Узрастанне пагрозы з боку Крымскага ханства.** У канцы XV ст. ВКЛ сутыкнулася з неабходнасцю супрацьдзеяння набегам крымскіх татар. Крымскае ханства ўзнікла ў сярэдзіне XV ст. на тэрыторыі слабеючай Залатой Арды. Крымская (Перакопская) арда ў другой палове XIII – першай трэці XV ст. існавала як Крымскі юрт (удзел) Залатой Арды. Ім кіраваў залатаардынскі намеснік, які часта быў залежны ад метраполіі толькі намінальна. У 1446–1449 гг. у Крыме ўсталявалася асобная ханская дынастыя Гірэяў і было заснавана самастойнае Крымскае ханства. Першым ханам стаў Хаджы-Гірэй, які прытрымліваўся сяброўскіх адносін з ВКЛ і Польшчай[1]. Дакладна паходжанне Хаджы-Гірэя невядома. Польскія хронікі сцвярджаюць, што ён нарадзіўся ў ВКЛ і захапіў уладу ў Крыме дзякуючы падтрымцы вялікага князя літоўскага Казіміра Ягелончыка і татарскага крымскага роду Шырын. У 1466 г. пасля барацьбы паміж сынамі Хаджы-Гірэя ханам стаў яго малодшы сын Менглі. Менглі-Гірэю дапамагла ўсталявацца ва ўладзе Асманская імперыя, якая ў гэты час (1453) ужо захапіла Канстанцінопаль.

Спачатку Крымскае ханства ўключала ў сябе толькі цэнтральны Крым, а даперакопскія, нагайскія орды і гарады крымскага ўзбярэжжа не былі яму падуладны. У 1475 г. Атаманская Порта ўстанавіла кантроль за генуэзскімі калоніямі на крымскім узбярэжжы (Кафай і інш.) і стварыла на іх базе Санджак Асманскай імперыі. У такіх умовах Крымскае ханства апынулася ў васальнай залежнасці ад турэцкага султана[2], які атрымаў права прызначаць крымскіх ханаў, але з умовай, што прызначаны хан павінен быў быць з роду Гірэяў і султан не мог пакараць яго смерцю. Адносіны ВКЛ і Крымскага ханства ў такіх умовах спачатку заставаліся даволі добрасуседскімі. І хоць у 1474 г. крымскія татары ажыццявілі значны набег на Падолле і Чырвоную Русь, але калі ў сакавіку 1474 г. і ў сакавіку 1475 г. паслы Вялікага Княства Маскоўскага ў час перамоў з крымскім ханам прапаноўвалі саюз супраць караля польскага і вялікага князя літоўскага Казіміра, Менглі-Гірэй не пажадаў парушаць сяброўскіх адносін з ВКЛ[3]. У 1476 г. быў нават заключаны саюз між Казімірам і Менглі-Гірэем.

Становішча змянілася пасля таго, як хан Залатой (Вялікай) Арды Ахмат, саюзнік ВКЛ у барацьбе з мацнеючай Маскоўскай дзяржавай, у выніку двух паходаў на Крым пасадзіў у 1476 г. на Крымскае ханства свайго прыхільніка Джанібека. Толькі ў 1478 г. Менглі-Гірэю з дапамогай

---

[1] У наступным крымскімі ханамі былі Менглі-Гірэй (1466–1467?), Нур Даўлет Гірэй (1467–1469?), Менглі-Гірэй (1469–1474), Айдар (1575), Джанібек (1476), Нур Даўлет Гірэй (1476 – канец 1478), Менглі-Гірэй (1478/79–студзень 1515), Махмед-Гірэй (студзень 1515 – восень 1522/23), Газі-Гірэй (лістапад 1523 – красавік 1524), Сайдат-Гірэй (красавік 1524 – май 1532), Іслам-Гірэй (май – верасень 1532), Саіп-Гірэй (верасень 1532 – восень 1551) і г.д.: *Podhorodecki L.* Chanat Krymski i jego stosunki z Polską w XV–XVIII w. Warszawa, 1987. S. 309; *Герберштейн С.* Записки о Московии. С. 386; *Греков И.Б.* Очерки по истории международных отношеиий Восточной Европы XIV–XVI вв. С. 152. Змена ханаў часта прыводзіла да міжусобнай барацьбы паміж прэтэндэтамі на ханскі трон.

[2] *Греков И.Б.* Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV–XVI вв. С. 152–155.

[3] *Горский А.А.* Москва и Орда. С. 163–164.

Асманскай імперыі ўдалося вярнуць сабе ханства. Менглі-Гірэй адразу стаў праводзіць перамовы з ВКМ. І ў красавіку 1480 г. быў заключаны саюз Крымскага ханства з Масквой супраць агульных ворагаў – Залатой Арды і ВКЛ, супраць Ахмата і Казіміра[1]. Менглі-Гірэй адразу ж – у 1480 г. – зрабіў выправу на ВКЛ. Перад гэтым для ўрэгулявання адносін з Крымскім ханствам з Вялікага Княства быў адпраўлены ў якасці пасла Іван Глінскі, але ён не паспеў даехаць да месца прызначэння, бо крымчакі ўжо выступілі ў паход. А ў 1482 г. Крымскім ханствам быў здзейснены шырокамаштабны напад на ВКЛ – быў узяты і разрабаваны Кіеў (горад і замак).

З 90-х гг. XV ст. крымчакі нападалі на ВКЛ ледзь не штогод, а то рабілі і па 2–3 паходы ў год. Пры гэтым Менглі-Гірэй узгадняў час наездаў з вялікім князям маскоўскім, з якім у яго існавалі саюзныя дагаворы аб сумесных дзеяннях супраць агульных ворагаў.

Тым не менш Вялікае Княства не лічыла Крымскае ханства сваім патэнцыяльным непрыяцелем, якім стала для яго Маскоўская дзяржава, што прад'яўляла Вільні тэрытарыяльныя прэтэнзіі. Дыпламатыя ВКЛ старалася, асабліва ў час войнаў з ВКМ, перацягнуць Крымскае ханства на свой бок, ці хоць бы нейтралізаваць яго. З такімі мэтамі дзейнічалі пасольствы ВКЛ у Крымскім княстве ў 1492, 1500 і іншых гадах[2]. Але дыпламатычным місіям у гэты час не ўдавалася вырашыць пастаўленыя задачы. Асноўнай прычынай безвыніковасці літоўскай дыпламатыі ў гэтым напрамку была традыцыйная скіраванасць Вільні на саюз з Вялікай Ардой. ВКЛ гэты саюз быў патрэбны, бо Вялікая Арда была яго саюзнікам у змаганні з усходнім суседам – Вялікім Княствам Маскоўскім.

А Вялікая Арда была зацятым сапернікам Крымскага ханства з-за спрэчак паміж імі аб спадчыне Залатой Арды. Крымскае ханства прэтэндавала на старшынство сярод усіх татарскіх орд і ставіла сабе за мэту падпарадкаванне ўсіх зямель колішняй Залатой Арды. Гэта была знешнепалітычная праграма Крымскага ханства.

Імкненне крымскіх ханаў разбіць Вялікую Арду адпавядала і знешнепалітычным памкненням Маскоўскай дзяржавы, якая імкнулася пазбавіцца як ад пастаяннай пагрозы з боку свайго былога сюзерэна, так і ад самой згадкі пра яго існаванне. Супадзенне мэтаў і прывяло да працяглага саюзу Вялікага Княства Маскоўскага і Крымскага княства.

Сітуацыя пачала мяняцца пасля 1502 г., калі Вялікая Арда перастала існаваць[3], але крымскія напады на ВКЛ працягваліся. У такіх абставінах, па-першае, ВКЛ не было нічым скавана ў правядзенні перамоў з Крымам; яму не патрэбна было лавіраваць паміж двума ханствамі. Па-другое, Маскоўская дзяржава паступова асэнсоўвала, што далейшае рэалізацыя Крымскім ханствам знешнепалітычных мэт па ўсталяванні

---

[1] *Горский А.А.* Москва и Орда. С. 164.

[2] АЗР. Т. 1. Спб. 1846. С. 118–120, 210; Литовская метрика. Книга записей 5 (1427–1506) Lietuvos Metrika (ЛМ. КЗ-5). Вильнюс, 1994. С. 55–56, 156–159, 163–167.

[3] Як адзначалася, у 1501 г. Вялікая Арда ўступіла у вайну ВКМ з ВКЛ на баку апошняга. Войскі Вялікай Арды захапілі Рыльск і Ноўгарад-Северскі, але не атрымаўшы дапамогі з боку ВКЛ, адкачавалі на зімоўку ў стэп. Умовы зімоўкі аказаліся дрэннымі. Ваенны патэнцыял Вялікай Арды быў аслаблены і вясной 1502 г.яна была разгромлена Крымскім ханствам і перастала існаваць: *Базилевич К.В.* Внешняя политика русского централизованного государства... С. 484–487.

кантролю над іншымі ханствамі не адпавядала яе інтарэсам. ВКМ не патрэбна было моцнае Крымскае ханства, якое б заняло месца Залатой Арды. З пункту гледжання Масквы было больш бяспечна мець некалькі невялікіх татарскіх ханстваў, якія было б лягчэй кантраляваць, а ў наступным і падпарадкаваць. Але гэта супярэчыла намерам Крымскага ханства. Дадзеная супярэчнасць у наступным і прывяла да разрыву Крымам саюзных адносін з ВКМ[1].

Асновай ваеннай моцы крымскіх татар была лёгкая кавалерыя. Ваенны патэнцыял Крыма ў канцы XV – пачатку XVI ст. быў значным. Гэта час росквіту Крымскага ханства як дзяржавы. Яго ўзброеныя сілы знаходзіліся на ўздыме і былі здольныя рэалізоўваць задачы не толькі па рабаванні дрэнна абароненых зямель, але і па ўзяцці гарадоў, нават умацаваных (Кіеў, Звенігарад, Чуднаў, Асцёр і інш.)[2]. Войскі крымскіх татар уяўлялі грозную сілу і ў адкрытым палявым баі. Узаемаадносіны ў вайсковых адзінках былі падпарадкаваны прынцыпу асабістай адданасці камандзіру і безагаворачнага выканання яго загадаў. Адсюль – высокая дысцыплінаванасць войск, якая дапаўнялася адчайнасцю і мужнасцю. Акрамя таго, перавагамі татарскай конніцы былі высокая мабільнасць як у стратэгічным, так і тактычным плане, а таксама звязаная з гэтым раптоўнасць нападу. Татарскія загоны дасягалі Беларусі за 8–10 дзён, за дзень яны маглі праходзіць 180–220 км.

**Татарскія набегі на беларускія землі.** Яскравым прыкладам мабільнасці крымскага войска быў паход крымчакоў 1503 г., калі яны за адзін дзень (30 жніўня) пераправіліся праз Прыпяць і ў гэты ж дзень апынуліся каля Слуцка і Капыля. Менавіта таму слуцкі князь Сямён Алелькавіч не паспеў сабраць войска і вымушаны быў абараняцца наяўнымі ў замку сіламі[3]. Раптоўнасць дасягалася і непрадказальнасцю часу нападу, і нявызначанасцю маршруту. Час набегу быў адвольны і залежаў ад рашэння палітычнай эліты ханства ці яе часткі. Набегі крымскіх татар адбываліся ў розныя часы (пераважна ў канцы лета – восенню), цягнуліся ад некалькіх дзён да некалькіх месяцаў і ажыццяўляліся з прыцягненнем рознай колькасці вояроў: ад некалькіх сот да некалькіх тысяч (трэба ўлічваць, што крыніцы падаюць розную колькасць татарскіх войск падчас аднаго паходу, пры гэтым часта значна завышаную). Але можна сцвярджаць, што ў буйных набегах на тэрыторыю Беларусі прымала ўдзел 5–12-тысячнае татарскае войска)[4].

Адны татарскія напады насілі характар дзяржаўна-палітычных акцый, другія мелі толькі рабаўнічыя мэты і часта адбываліся без дазволу і ведама крымскага хана. Некаторыя наезды, асабліва невялікія, у шэрагу выпадкаў выклікаліся цяжкім эканамічным становішчам татар (недахо-

---

[1] *Хорошкевич А.* Русь и Крым. От союза к противостояиию. Конец XV – начало XVI вв. М., 2001. С. 164–188.

[2] *Ochmański J.* Organizacija obrony w Wielkim kșestwie Litewskim przed napadami tatarów krymskih w XV–XVI wieku. //Studia i materiały do historii wojskowości. T. V. Warszawa, 1960. S. 371.

[3] ПСРЛ. Т. 32. С. 169; *Кананові́ч У.І.* Крымскія напады на Беларусь // Гісторыка-археалагічны зборнік. № 1. Мн., 1997. С. 140.

[4] *Варонін В.* Два лісты пра бітву пад Клецкам у 1506 г. //Беларускі гістарычны агляд. Мн., 1995. Т. 2. Сш. 2. С. 286–289; *Кананові́ч У.І.* Крымскія напады на Беларусь. С. 140–144; *Ochmański J.* Organizacija obrony w Wielkim kșestwie Litewskim... S. 358–361.

пам харчавання, галечай і г.д.) і мелі за мэту яго паляпшэнне шляхам рабавання зямель ВКЛ. Незалежна ад мэтаў набегаў яны заўсёды прыносілі з сабой спустапіэнне і рабаванне тэрыторый. Вось як апісваюцца наступствы татарскага нападу 1526–1527 гг. для насельніцтва Мазырскай і Пціцкай валасцей: "(татары) шкоды им великии поделали, збожя и домы их пожгли, и статки их вси: кони и быдло разобрали, и (...) на корень спустошили и сказили, и самых иных з жонами и з детьми в полон повели"[1].


Вывад палону татарамі.
З сярэднявечнай гравюры

Маршрут руху татарскай конніцы ў залежнасці ад мэты нападу пралягаў па "Чорным шляху", "Кучманскім шляху" і "Мурамскім шляху"[2]. "Чорны шлях" пралягаў па водападзеле Дняпра і Паўднёвага Буга і накіроўваўся на Кіеўшчыну, Валынь. "Кучманскі шлях" ішоў па водападзеле Паўднёвага Буга і Днястра да Падольскай зямлі, Валыні, Польшчы. "Мурамскі шлях" размяшчаўся на водападзеле Дняпра і Дона і вёў праз Лоеву Гару на Беларусь. Ён жа ў асноўным выкарыстоўваўся крымскімі татарамі і для нападаў на землі Маскоўскай дзяржавы. Кожны шлях меў мноства разгалінаванняў, і прадбачыць канкрэтны шлях руху крымчакоў было фактычна немагчыма.

У перыяд 1474–1569 гг. татары здзейснілі 75 набегаў на ВКЛ[3]. Асноўная колькасць нападаў прыпадала на паўднёвыя землі Вялікага Княства (Валынь, Падолле, Кіеўшчыну) і Кароны Польскай, але многія з іх дасягалі беларускіх зямель. З-за адсутнасці належнай сістэмы абароны паўднёвых зямель ВКЛ конніца крымскіх татар урывалася на яе тэрыторыю і праз Украіну дасягала тэрыторыі Беларусі.

Упершыню крымскія загоны з'явіліся на беларускіх землях вясной 1497 г., калі крымчакі ажыццявілі напад на Кіеўшчыну. У красавіку 1497 г. яны дзейнічалі ў Алеўскай і Мазырскай валасцях. У час гэтага нападу 1 мая ў вёсцы Скрыгалава каля Мазыра татарскім атрадам быў схоплены і забіты мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі Макарый[4].

У 1500 г. падчас магутных набегаў на Валынь і Малапольшчу крымскія татары двойчы ўрываліся на паўднёвы захад Беларусі, спустошылі Берасцейшчыну, спалілі Берасце і Камянец (утрымаліся толькі замкі). Татарскія атрады дзейнічалі і каля Турава. Разрабаваўшы значную тэрыторыю, яны вярнуліся ў Крым.

[1] ЛМ, КЗ-12. Вильнюс, 2001. С. 479.
[2] Źródła dziejowe. T. 22. Polska XVI wieku pod względom geograficzno-statystycznym. T. XI. Ziemie Ruskie. Ukraina (Kijów–Bracław), dział III / Wydał A. Jabłonowski. Warszawa, 1887. S. 49–52.
[3] *Ochmański J.* Organizacija obrony w Wielkim księstwie Litewskim... S. 364.
[4] Skarbiec dyplomatów... T. II. Wilna,1862. S. 247; ПСРЛ. Т. 35. С. 124; *Kołankowski L.* Polska Jagellonów. Dzieje polityczny / Wyd. trzecie poprawione i uzypełnione; do druku przygotował Z. Kołankowski. Olsztyn, 1991. S. 116.

У 1502 г. татары ўварваліся на Палессе. Яны спустошылі Тураўшчыну і суседнія тэрыторыі за Прыпяццю. Па загадзе караля польскага і вялікага князя літоўскага Аляксандра ў ВКЛ была спешна створана вайсковая група на чале з слуцкім князем Сямёнам Алелькавічам і каронным гетманам Янам Бучацкім. Неўзабаве яны разбілі загон крымскіх татар на рацэ Уша (40 км ад Бабруйска)[1].

У 1503 г. крымскія татарскія загоны зноў з'явіліся на Беларусі. У канцы жніўня 1503 г. пад кіраўніцтвам царэвіча Біці яны дзейнічалі ў наваколлі Слуцка, Капыля, Клецка, Нясвіжа, за 40 км ад Наваградка. Напад быў нечаканым, і крымчакі без перашкод вярнуліся ў Крым. Восенню таго ж года 3-тысячны татарскі атрад зноў быў пад Слуцкам, дайшоў да Наваградка і накіраваўся назад у Крым праз Палессе. Гетман літоўскі С. Кішка, Альбрэхт Гаштольд, Юры Неміровіч, князь Сямён Алелькавіч спешна сабралі войска і рушылі ў пагоню за татарамі. Хутка войскі ВКЛ дагналі крымчакоў і разбілі іх за мілю ад Давыд-Гарадка[2].

Набегі крымскіх татар 1500–1503 гг. былі скаардынаваны з ваеннымі дзеяннямі Маскоўскай дзяржавы супраць ВКЛ. І калі 25 сакавіка 1503 г. паміж дзвюма дзяржавамі было заключана перамір'е, вялікі князь маскоўскі Іван III тайна паведамляў Менглі-Гірэю, што яно не будзе вечным, а будзе выкарыстана для падрыхтоўкі новай вайны. Тым не менш ён прапаноўваў хану таксама заключыць мір з вялікім князем літоўскім Аляксандрам. Менглі-Гірэй дбаў пра свае інтарэсы і працягваў набегі на ВКЛ.

У 1505 г. яго сынамі быў здзейснены вялікі паход на ВКЛ. Крымская конніца (каля 5 тыс.) пранікла глыбока на тэрыторыю Беларусі, пераправіўшыся праз Днепр каля Лоевай Гары (Лоева). Адна частка крымскага войска на чале з царэвічам Махметам накіравалася да Менска, дзе 15 жніўня размясцілася лагерам (кошам). Адтуль царэвіч Махмет накіраваў загоны да Полацка, Віцебска, Друцка. Татарамі былі спалены гарады Менск, Лагойск, Свіслач і інш. У гэты ж час другая частка крымскага войска на чале з царэвічамі Біці і Бурнашом падышла да Слуцка, абарону якога ўзначаліла слуцкая княгіня Анастасія. Татары штурмавалі Слуцк, "чинячи подмёты и подкладаючи огонь, але случане боронилися добре и много татар побили з места стреляючи"[3]. Страціўшы надзею авалодаць Слуцкам, татарскі загон накіраваўся да Наваградка. Але і тут крымчакі не змаглі ўзяць горад, бо ўмела была наладжана абарона горада і замка наваградскім намеснікам Альбрэхтам Гаштольдам. Урэшце і першы і другі татарскія загоны пакінулі тэрыторыю ВКЛ.

**Бітва пад Клецкам 1506 г. Спад інтэнсіўнасці паходаў татар.** У пачатку 1506 г. крымскае войска зноў рушыла ў паход. Асноўныя яго сілы дзейнічалі на Малапольшчы, другая частка – у Беларусі. Пасля татары

---

[1] ПСРЛ. Т. 32. С. 101, 169; *Stryjkowski M.* Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiej Rusi. T. 2. Warszawa. 1846. S. 310, 318; *Łowmiański H.* Polityka Jagiellonów. Poznań, 1999. S. 415–416.

[2] ПСРЛ. Т. 32. С. 169–170; *Stryjkowski M.* Kronika polska... T. 2. S. 319; *Łowmiański H.* Polityka Jagiellonów... S. 416. Некаторыя даследчыкі адносяць гэты напад да 1504 г.; сцвярджаецца таксама, што напад 1502 г. трэба адносіць да 1503 г., а "Хроніка" Стрыйкоўскага паведамляе пра паход крымчакоў у маі – чэрвені 1506 г. на ВКЛ, хоць іншыя крыніцы такой інфармацыі не ўтрымліваюць: *Канановіч У.І.* Крымскія напады на Беларусь... С. 144–145.

[3] ПСРЛ. Т. 32. С. 101, 170–171; Т. 35. С. 107; *Stryjkowski M.* Kronika polska... T. 2. S. 326.

без перашкод вярнуліся ў Крым. У канцы ліпеня 1506 г. вялікае татарскае войска ўварвалася ў цэнтральную Беларусь і размясцілася кошам каля Клецка; татарскія загоны былі пасланы да Менска, Ашмян, Крэва, Ліды, Навагрудка, Слуцка, Ваўкавыска і інш. У гэты час кароль польскі і вялікі князь літоўскі Аляксандр з дваром знаходзіўся ў Лідзе, ён цяжка хварэў. Але вырашылі даць адпор татарскаму нападу. Было хутка сабрана паспалітае рушэнне на чале з гетманам С. Кішкам. Некалькі дзён войска ВКЛ стаяла каля Навагрудка, і калі была атрыманы надзейныя звесткі пра знаходжанне татарскага лагера, 4 жніўня яно рушыла да Клецка.

Нечакана С. Кішка захварэў і перадаў кіраўніцтва войскам дворнаму маршалку М. Глінскаму. 5 жніўня 1506 г. літвінскія сілы падышлі да Клецка і сутыкнуліся з падрыхтаваным да бітвы татарскім войскам на рацэ Лані. Спачатку праціўнікі перастрэльваліся праз раку. А калі ваяры ВКЛ наладзілі дзве пераправы, войска Глінскага пачало перапраўляцца на супрацьлеглы бераг. Татары, імкнучыся разбіць літвінаў паасобку, усімі сіламі нанеслі ўдар па іх правым крыле. Яно панесла цяжкія страты, але трымалася. У гэты час конніца левага крыла войск ВКЛ хутка пераадолела Лань па левай пераправе і нанесла імклівы ўдар у тыл татарам. Татарская конніца была рассечана на дзве часткі. Урэшце правае і левае крыло літвінаў сумесным ударам ушчэнт разбілі крымчакоў. Сутычкі з татарскімі атрадамі, якія вярталіся з загонаў да свайго коша пад Клецк, доўжыліся яшчэ некалькі дзён. У выніку войскі ВКЛ атрымалі бліскучую перамогу[1].


Бітва з татарамі.
Гравюра пачатку XVI ст.

Перамога пад Клецкам 1506 г. на нейкі час спыніла набегі крымчакоў. У 1507 г. дыпламаты ВКЛ актыўна працавалі ў Крыме і дабіліся ад татар абяцання ваяваць разам з Вялікім Княствам супраць Маскоўскай дзяржавы і зрабіць напад на Чарнігаў і Пуціўль. У 1507 г. крымскія татары не праводзілі актыўных ваенных акцый, хоць у ліпені і быў здзейснены першы паход Крымскага ханства на ўладанні Масквы[2].

Але дамова 1507 г. аказалася нетрывалай, і ў 1508 г. крымчакі здзейснілі буйны напад на Валынь. У гэты час невялікія татарскія загоны двойчы пранікалі на беларускія землі[3]. Адзін з іх дзейнічаў на Случчыне. Непадалёк ад Слуцка ён атакаваў на маршы пешую роту ротмістра Лукаша Мараўскага. Нягледзячы на колькасную перавагу нападаючых, ротмістр не разгубіўся. Ён арганізаваў абарону, паставіўшы павозкі ў круг і стварыўшы тым са-

---

[1] *Варонін В.* Два лісты пра бітву пад Клецкам у 1506 г. // Беларускі гістарычны агляд. Т. 2. Сш. 2. С. 279–290; *Finkel L.* List Michaiła Glińskego o bitwie pod Kleckiem w 1506 r. // Kwartalnik Historyczny. 1915. R. 29, z. 1/4. S. 296–300.

[2] *Kołankowski L.* Polska Jagellonów... S. 132–133; *Загоровский В.П.* История вхождения Центрального Черноземья в состав Российского государства в XVI веке. Воронеж, 1991. С. 4–51.

[3] *Łowmiański H.* Polityka Jagiellonów... S. 423.

мым умацаваны лагер. Рота Мараўскага не толькі ўмела адбіла ўсе напады крымскай конніцы, але і прымусіла яе да ўцёкаў. Разгром крымчакоў быў завершаны конніцай, прысланай на дапамогу слуцкай княгіняй Анастасіяй. Другі татарскі загон быў разбіты К. Астрожскім каля гэтага ж горада[1].

У 1510 г. войска Крымскага ханства (каля 15 тыс.) на чале з царэвічам Біці ўварвалася ў цэнтральныя раёны ВКЛ. Кіраўніцтва дзяржавы не паспела стварыць арганізаванага супраціўлення. Крымчакі беспакарана рабавалі, пустошылі землі Вялікага Княства, даходзячы аж за Вільню, і бесперашкодна вярнуліся ў Крым. У тым самым годзе царэвіч Біці здзейсніў напад на Валахію і, вяртаючыся назад, патануў пры пераправе праз р. Днестр[2]. З яго гібеллю ў Крыме не стала аднаго з актыўнейшых ініцыятараў і кіраўнікоў глыбокіх рэйдаў у ВКЛ. У сувязі з гэым татарскія набегі амаль перасталі дасягаць беларускіх зямель.

Нягледзячы на пастаянныя крымскія напады, Вільня настойліва вяла перамовы з Крымам. Яны ішлі з пераменным поспехам. Дзякуючы шматгадовай дыпламатычнай працы ў 1512 г. нарэшце быў заключаны саюз ВКЛ і Крымскага ханства. На гэта паўплывала буйная перамога Вялікага Княства над крымчакамі ў красавіку 1512 г. на р. Лапушна пад Вішняўцом на Валыні[3]. Гэты саюз пераманіў у Маскоўскай дзяржавы патэнцыйнага агрэсіўнага саюзніка, што дало адносны спакой паўднёвым землям ВКЛ. Саюз быў заключаны на ўмовах выплаты Крымскаму ханству ўпамінак у памеры 15 тыс. залатых[4]. Ён не быў трывалым і не спыніў напады Крыма. Татарскія наезды працягваліся, але ў асноўным былі скіраваны на ўкраінскія землі[5].

25 кастрычніка 1520 г. дыпламатыі Жыгімонта Старога ўдалося заключыць новае пагадненне з Крымскім ханствам аб саюзе. У выніку ў 1521 г. пры падтрымцы ВКЛ ажыццяўляўся паход крымскіх татар на Маскоўскую дзяржаву. Нягледзячы на гэта, у тым жа годзе 5-тысячны атрад крымчакоў дайшоў да Слуцка, Пінска; былі спалены Мазыр, Тураў.

У снежні 1526 – студзені 1527 г. татарскае войска пры падтрымцы туркаў зноў напала на землі ВКЛ. Асноўны ўдар прыйшоўся на ўкраінскія землі. На Беларусі крымчакі пустошылі наваколлі Пінска, Турава, Слуцка. Частка іх сіл была разбіта К. Астрожскім каля Слуцка. Асноўная ж частка крымскага загона была разгромлена пад Альшаніцай, за 40 міль ад Кіева 27 студзеня 1527 г. войскамі ВКЛ пад кіраўніцтвам Канстанціна Астрожскага, Юрыя Слуцкага і Астафея Дашкевіча[6].

Апошні набег крымскіх татар, які дасягаў тэрыторыі Беларусі (у асноўным ён быў скіраваны на Кіеўшчыну), адбыўся ў 1530 г. Ён ажыццяўляўся нязначнымі сіламі і без цяжкасцей быў адбіты[7].

---

[1] *Stryjkowski M.* Kronika polska... T. 2. S. 351; *Podhorodecki L.* Chanat Krymski i jego stosunki z Polską w XV–XVIII w. S. 87.
[2] ПСРЛ. Т. 32. С. 104; *Stryjkowski M.* Kronika polska... T. 2. S. 362.
[3] *Kolankowski L.* Polska Jagellonów. Dzieje... S. 140–141.
[4] *Ён жа.* Zygmunt August Wielki książe Litwy do roku 1548. Lwów, 1913. S. 119.
[5] *Ochmański J.* Organizacija obrony w Wielkim księstwie Litewskim... S. 362–363; Напрыклад, 1519 год склаўся для ВКЛ даволі цяжка. У ліпені на Кіеўшчыну і Валынь уварвалася вялікае войска Крымскага ханства, якое разбіла войскі Польшчы і ВКЛ (на чале з Астрожскім) пад Сокалем.
[6] ПСРЛ. Т. 32. С. 107.
[7] Там жа. Т. 35. С. 170; *Ochmański J.* Organizacija obrony w Wielkim księstwie Litewskim... S. 363.

У перыяд з 1497 па 1530 г. тэрыторыя Беларусі спазнала 15 буйных і дробных набегаў крымскіх татар (табл. 9).

*Табліца 9.* Набегі крымскіх татар на тэрыторыю Беларусі[1]

| Нумар п/п | Год набегу | Раён дзеяння | Процідзеянне з боку ВКЛ |
|---|---|---|---|
| 1 | 1497 | Напад на Кіеўшчыну, *Мазыршчыну* | Выйшлі беспакаранымі |
| 2 | 1500 | Два буйныя паходы на Валынь і Малапольшчу, *Берасцейшчыну* | Выйшлі беспакаранымі |
| 3 | 1500 | | |
| 4 | 1502 | Напад на *Палессе*; буйны напад на Малапольшчу | Разбіты войскамі ВКЛ |
| 5 | 1503 | Два напады на *беларускія землі*, трэці на Падолле (разбіты польскімі войскамі) | Адзін разбіты войскамі ВКЛ |
| 6 | 1503 | | |
| 7 | 1505 | Буйны напад на *цэнтральную Беларусь* (*Менск*, *Слуцк* і інш.) | Выйшлі беспакаранымі |
| 8 | 1506 | Напад на Малапольшчу, другі атрад – на *беларускія землі* | Выйшлі беспакаранымі |
| 9 | 1506 | Буйны паход на *беларускія землі* | Разбіты пад Клецкам |
| 10 | 1508 | Два напады на *беларускія землі* | Разбіты пад Слуцкам |
| 11 | 1508 | | Разбіты пад Слуцкам |
| 12 | 1510 | Буйны напад на цэнтральныя раёны ВКЛ, у тым ліку і *Беларусь* | Выйшлі беспакаранымі |
| 13 | 1521 | Напад значных сіл на *беларускія землі* | Выйшлі беспакаранымі |
| 14 | 1527 | Буйны напад на *паўднёвыя землі Беларусі* і паўночныя землі Украіны | Разбіты |
| 15 | 1530 | Напад на Кіеўшчыну і *беларускія землі* | Разбіты |

**Комплекс мер ВКЛ па забеспячэнні бяспекі паўднёвых межаў.** Для эфектыўнага супрацьдзеяння набегам крымскіх татар кіраўніцтва ВКЛ мусіла вырашаць шэраг задач. Першачарговай з'яўлялася цэнтралізаваная арганізацыя ваеннага адпору. Па-другое, неабходна было павысіць абараназдольнасць зямель, якія ляжалі на шляху татарскіх наездаў. Па-трэцяе, важнае роля адводзілася дыпламатычнай працы па нейтралізацыі агрэсіўнай палітыкі Крымскага ханства супраць ВКЛ і Польшчы.

Частая арганізацыя адпору татарскім загонам была справай амаль што немагчымай, бо ВКЛ вымушана было весці ваенныя дзеянні адначасова і супраць Маскоўскай дзяржавы, Валахіі, Турцыі. Апошнія высту-

[1] Складзена на падставе: *Ochmański J.* Organizacija obrony w Wielkim księstwie Litewskim... S. 362–363; *Кананові́ч У.І.* Крымскія напады на Беларусь // Гісторыка-археалагічны зборнік. № 1. С. 135–155; *Podhorodecki L.* Chanat Krymski i jego stosunki z Polską... S. 87; ПСРЛ. Т. 32. С. 101, 104, 169–171; Т. 35. С. 124, 170.

палі як прыярытэтныя працiўнікі, паколькі ставілі сваёй мэтай не рабаванне зямель, а мэтанакіраваны захоп тэрыторыі[1]. Калі ж войска ВКЛ усё ж такі ўдавалася сабраць, яно мужна змагалася з татарскім загонамі, выкарыстоўваючы як свае перавагі, так і пралікі крымчакоў.

Недахопам татарскага войска было тое, што яно хутка трацiла сваю баяздольнасць пры доўгім і ўпартым супрацiўленні працiўніка, тым больш пры сваім паражэнні. Баяздольнасць татарскага войска зніжалася таксама на заключных этапах паходаў, калі войска абцяжарвалася нарабаваным дабром і "палонам". У выніку яно трацiла сваю мабільнасць, а набліжаючыся на зваротным шляху да Крыма, і пільнасць. З улікам гэтага была выпрацавана новая тактыка барацьбы з татарскімі загонамі. Пасля іх уварвання на тэрыторыю ВКЛ збіраліся неабходныя войскі для адпору. Але яны не адразу нападалі на татарскую конніцу, якая яшчэ не страціла наступальнага парыву. Калі ж татарскія загоны ўжо вярталіся дадому, войскі ВКЛ нечакана нападалі на іх і дабіваліся поўнай перамогі[2]. Такая тактыка была выкарыстана і пад Вішняўцом, і пад Альшаніцай.



Даспехі
цяжкаўзброенага вершніка ВКЛ
першай паловы XVI ст.

У цэлым са згаданых 75 паходаў крымскіх татар на ВКЛ і Польшчу 35 былі няўдалымі. З іх 24 разбілі воіны ВКЛ, 8 – войскі Каралеўства Польскага і 3 – сумесна[3]. Акрамя таго, у адказ на татарскія напады ВКЛ таксама рабіла вылазкі на падкантрольную крымчакам тэрыторыю і руйнавала іх гаспадарку. Асноўная роля ў гэтым, як і ў першасным адпоры татарскім загонам, належала парубежным землям, іх ваяводам і дзяржаўцам: кіеўскаму ваяводзе, канеўскаму і чаркаскаму дзяржаўцу, валынскім ураднікам і інш. У сувязі з гэтым актыўна прыцягвалася для барацьбы супраць татар ваеннаслужылае насельніцтва Мазыршчыны, Брагіншчыны, бо гэтыя землі былі часткай Кіеўскай зямлі. Апісанне Мазырскага замка 1552 г. зафіксавала даўні звычай баяр-шляхты, якая мела маёнткі на Мазыршчыне ці дамы ў Мазыры, пры неабходнасці несці ваенную службу пры кіеўскім ваяводзе[4]. Асабліва праславіліся ў барацьбе з татарамі кіеўскі ваявода Андрэй Неміровіч і канеўскі і чаркаскі дзяржаўца Астафей Дашкевіч. Значнай была роля ў барацьбе з крымчакамі і слуцкіх князёў Алелькавічаў. У гэты ж час фарміруецца спецыяльная сіла па супрацьдзеянні татарам – казакі.

---

[1] *Podhorodecki L.* Chanat Krymski i jego stosunki s Polską... S. 60–64.
[2] *Герберштейн С.* Записки о Московии. С. 167, 188.
[3] *Ochmański J.* Organizacija obrony w Wielkim ksęstwie Litewskim... S. 396.
[4] Архив Юго-Западной России. Ч. 7. Т. 1. Киев, 1886. С. 617.

Для павышэння абарончага патэнцыялу тэрыторый ВКЛ будаваліся, аднаўляліся і рамантаваліся замкі, удасканальвалася арганізацыя старожы. Адзначаныя мерапрыемствы мелі мэтай прадухіленне і папярэджванне татарскіх набегаў, зніжэнне іх эфектыўнасці, высвятленне найбольш верагодных часу і кірунку нападу.

Асноўны цяжар у гэтым плане лажыўся на ўкраінскія замкі і гарады. Асабліва руплівая праца па ўмацаванні абараназдольнасці паўднёвых межаў ВКЛ была разгорнута пры Жыгімонце Старым. Але і на Беларусі многія замкі паказалі сябе надзейнымі пунктамі абароны ад татар: Слуцк, Берасце, Наваградак, Менск і інш. Гэтыя замкі будавала мясцовае насельніцтва, якое актыўна ўдзельнічала і ў іх абароне. Акрамя гэтага, насельніцтва паўднёва-ўсходняй Беларусі прыцягвалася да пабудовы замка ў Кіеве і да забеспячэння яго правіянтам. Хоць нельга сказаць, што ў гэтым кірунку рабілася ўсё магчымае. Напрыклад, Лоеўскі замак, неабходны для кантролю за брадамі праз Днепр, быў пабудаваны толькі ў другой палове XVI ст., пры любецкім старосце кіеўскім кашталяне Паўлу Сапегу (1520–1580), які за свае ўласныя сродкі "замок и место на Лоевой горе на шляху татарском заложил"[1]. Да гэтага ахова брадоў каля Лоевай гары знаходзілася ў кампетэнцыі рэчыцкага дзяржаўцы, якому дапамагалі несці старожу рэчыцкія мяшчане.

Дыпламатычная праца па нейтралізацыі агрэсіўнай палітыкі Крымскага ханства супраць ВКЛ і Кароны Польскай праводзілася паслядоўна і амаль беспярэпынна.

У адносінах з Крымскім княствам ВКЛ пастаянна адчувала канкурэнцыю Маскоўскай дзяржавы, якая таксама імкнулася займець і ўтрымаць Крымскае ханства ў якасці саюзніка. Маскоўскія дыпламаты ўсяляк задобрывалі сваіх прыхільнікаў у Крыме: дарылі разнастайныя падарункі, абяцалі дапамогу ў барацьбе Крымскага ханства супраць астраханскіх і нагайскіх орд[2].

Дыпламатыя ВКЛ таксама выкарыстоўвала разнастайныя сродкі: асабістыя падарункі палітычнай эліце Крымскага ханства, абяцанне дапамогі супраць агульных ворагаў і г.д. У якасці аргумента дыпламатыя ВКЛ выкарыстоўвала знаходжанне ў палоне ў ВКЛ (з 1505 г.) апошняга хана Вялікай арды Шых-Ахмета[3]. Крымскі хан небеспадстаўна бачыў у палонным хане магчымага саперніка і прэтэндэнта на сваю пасаду. У сувязі з гэтым ён быў больш падатлівым адносна запатрабаванняў дыпламатыі ВКЛ. Літоўскія дыпламаты імкнуліся запэўніць крымскіх ханаў у небяспецы ўзвышэння Масквы.

У выніку шматгадовай працы, як ужо адзначалася, дыпламатыі ВКЛ у 1506–1507 гг. удалося разарваць саюз Крымскага ханства і Маскоўскай дзяржавы, а ў 1512 г. – заключыць ваенна-палітычны саюз з Крымам.

---

[1] Sapiehowie: Materiały historyczno-genealogiczne i majątkowie. T. 1. Petersburg, 1890. S. 286. (Аўтар выказвае глыбокую падзяку У.І. Пашкевічу за дадзеную інфармацыю.); Źródła dziejowe. T. 22. Polska XVI wieku… / Wydał A. Jabłonowski. S. 76.

[2] *Кузнецов А.Б.* Дипломатическая борьба России за безопасность южных границ (первая половина XVI в.). Мн., 1986. С. 15–52; *Хорошкевич А.* Русь, Крым и Астрахань в начале XVI в. //Центральна і Східна Європа в XV–XVIII століттях: питання соціально-економічної та політичної історії. До 100-річча від дня народження професора Дмітра Похилевича. С. 162–172.

[3] *Kołankowski L.* Polska Jagellonów. Dzieje… S. 129, 139, 150.

Аналагічны саюз быў заключаны ў 1520 г.[1] У пачатку 30-х г. XVI ст. ВКЛ удалося займець у якасці свайго прыхільніка аднаго з прэтэндэнтаў на ханскі прастол – Іслам-Гірэя, які пасля міжусобнай барацьбы ў маі 1532 г. на кароткі час нават стаў крымскім ханам, прычым Гірэй знаходзіўся ў пэўнай залежнасці ад Вялікага Княства. У гэтай сувязі Жыгімонт Стары звяртаўся да хана Іслама як да "брата і *сына*" (курсіў наш. – *А.Д.*), а не як да "брата", як тое мела месца ў дачыненні да іншых ханаў і азначала, згодна з дыпламатычным пратаколам, роўнасць бакоў. А калі Іслам не знаходзіўся на ханскім прастоле, кароль польскі і вялікі князь літоўскі звяртаўся да яго толькі як да "сына", г.зн. як да залежнай асобы[2]. Дзеля бяспекі паўднёвых межаў дыпламаты дзейнічалі не толькі ў Крыме, але і ў Турцыі, сюзерэне Крыма. У 1532, 1540 гг. былі заключаны дамовы з Турцыяй і Крымам аб сяброўскіх адносінах[3].

Не апошнюю ролю ва ўзаемаадносінах Вільні і Крыма мела пытанне выплаты Крымскаму ханству ўпамінак. Напрыклад, пасля смерці Менглі-Гірэя і заняцця ханскага прастола яго сынам Махметам апошні схіліўся да саюзу з ВКЛ дзякуючы своечасовай прысылцы каралём польскім і вялікім князем літоўскім Жыгімонтам Старым упамінак (у наступным ВКЛ не ўдалося наладзіць трывалых саюзных адносін з Махмет-Гірэем). Каралі польскія і вялікія князі літоўскія згаджаліся рабіць такія выплаты штогод "не с повинности, але для (...) приязни"[4]. Па дамове 1512 г. устанаўліваўся дакладны памер упамінак у 15 тыс. залатых (50% выдавала ВКЛ, а 50% – Польшча)[5]. Для гэтых выплат збіраўся спецыяльны падатак – ардыншчына. Напрыклад, у 1530 г. ардыншчына склала 961 капу грошаў, а скарбовыя расходы на крымскія справы ў гэты час – 764 капы і 23 грошы[6]. Усяго за перыяд праўлення Жыгімонта Старога і Жыгімонта Аўгуста выплата ўпамінак склала вялізную суму ў памеры 400 тыс. злотых[7]. Пры гэтым выплата ўпамінак не гарантавала надзейнай бяспекі ад крымчакоў, бо іх атрады часам нападалі на тэрыторыю ВКЛ без згоды крымскага хана. Тым не менш упамінкі змяншалі верагоднасць такіх нападаў.

У цэлым, можна канстатаваць, што комплекс мер з боку ВКЛ, накіраваных на падтрыманне бяспекі паўднёвых межаў, прыносіў вынікі. З 20-х г. XVI ст. набегі крымскага ханства становяцца больш рэдкімі і не такімі спусташальнымі і глыбокімі, як раней. З 30-х гг. набегі крымскіх татар не дасягалі тэрыторыі Беларусі. Крымчакі ўжо асцерагаліся нападаць малымі сіламі. Трэба, аднак, прызнаць: хоць пагроза крымскіх нападаў зменшылася, але іх патэнцыяльная небяспека захоўвалася.

---

[1] *Kolankowski L.* Polska Jagellonów. Dzieje... S. 154–155; *Konopczyński W.* Dzieje Polski nowożytnej. T. 1. 1506–1648. Warszawa, 1936. S. 10, 37.
[2] ЛМ, КЗ-15. Вильнюс, 2002. С. 233, 235, 239, 241, 251.
[3] *Черкас Б.* Політичні відносини Великого князівства Литовського з Кримським ханатом у 1533–1540 рр. //Україна в Центрально-Східній Європі (з найдавніших часів до кінця XVIII ст.). Вип. 3. Київ, 2003. С. 117–129.
[4] АЗР. Т. 2. С. 148.
[5] *Довнар-Запольский М.* Литовские упоминки татарскнм ордам. Скарбовая книга. Симферополь, 1898. С. 18.
[6] Там жа. С. 16.
[7] *Kolankowski L.* Problemy Krymu... // Kwartalnik historyczny. 1935. S. 286.

# ГЛАВА 5

# ІНФЛЯНЦКАЯ ВАЙНА І ЎТВАРЭННЕ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ

## 1. Пачатак Інфлянцкай вайны. Баявыя дзеянні на тэрыторыі Беларусі

**Абвастрэнне сітуацыі ў Інфлянтах.** Да сярэдзіны XVI ст. Інфлянцкая (Лівонская) дзяржава апынулася ў абставінах сур'ёзнага ўнутрыпалітычнага крызісу[1]. Гэта праявілася ў першую чаргу ў раздрабленні палітычнай улады і падзенні яе аўтарытэту. Немалую ролю ў гэтым адыгралі сацыяльныя і этнічныя антаганізмы. Пабудаваныя на сярэднявечных прынцыпах кіравання, інфлянцкія ўладныя структуры выявілі сваю недзеяздольнасць у новых умовах XVI ст. Усё гэта ўвасобілася перш за ўсё ў ваенным аслабленні Інфлянцкай дзяржавы.

Крызісным становішчам Інфлянтаў не прамарудзілі скарыстацца ў сваіх інтарэсах узмацнелыя суседнія краіны. Маскоўская дзяржава і Вялікае Княства Літоўскае амаль што сінхронна прыступілі да дзеянняў па пашырэнні свайго ўплыву ў Інфлянтах. Жыгімонт Аўгуст пачаў праяўляць пільную зацікаўленасць справамі ў Інфлянтах з 1552 г. У хуткім часе па ініцыятыве прускага князя Альбрэхта каралеўскі двор пачаў будаваць планы па ўзмацненні свайго ўплыву ў Інфлянцкай дзяржаве. У агульных рысах яны былі распрацаваны ў 1554–1555 гг.[2] З другой паловы 50-х гг. XVI ст. інфлянцкі напрамак паступова становіцца прыярытэтным у знешняй палітыцы ВКЛ.

Зацікаўленасць ВКЛ у падпарадкаванні Інфлянтаў вынікала са стратэгічна-абарончых меркаванняў і гандлёва-эканамічных інтарэсаў краіны. Геапалітычнае становішча Інфлянтаў дазваляла кантраляваць паўночныя раёны Маскоўскай дзяржавы, стварыць супраць яе шырокі наступальна-абарончы плацдарм. Адначасова кантроль над інфлянцкай тэрыторыяй даваў магчымасць сачыць за развіццём падзей у Балтыйскім моры і будаваць уласную балтыйскую палітыку, маючы выдатную партовую інфраструктуру. Як паказалі польскія даследчыкі, памкненні да ўсталявання кантролю над басейнам Балтыйскага мора з'яўляліся адной з галоўных знешнепалітычных задач для Жыгімонта Аўгуста[3].

Кантраляванне Інфлянтаў было важным з пункту гледжання гандлёва-эканамічных інтарэсаў ВКЛ. Рака Дзвіна звязвала з Лівоніяй яго паўночна-ўсходнія раёны. Цесна злучанай з Інфлянтамі была таксама Жамойцкая зямля. Дзвінскі гандлёвы шлях з'яўляўся адным з найважнейшых выхадаў да Балтыйскага мора і звязваў ВКЛ з Заходняй Еўро-

---

[1] *Арбузов Л.А.* Очерк истории Лифляндии, Эстляндии и Курляндии. СПб., 1912. С. 212–217.

[2] *Jasnowski J.* Mikołaj Czarny Radziwiłł (1515–1565): kanclerz i marszałek ziemski Wielkiego Księstwa Litewskiego, wojewoda wileński. Warszawa, 1939. S. 197; *Olewnik J.* Polsko-pruski plan inkorporacji Inflant do monarchii jagillońskiej z lat 1552–1555 i jego pierwsze stadium realizacji // Kommunikaty Mazursko-Warmińskie. 1978, r. 4. S. 52–57; *Wijaczka J.* Prusy Książęce a Polska, Litwa i Inflanty w połowie XVI wieku: działalność dypłomatyczna Asverusa von Brandta w latach 1544–1558. Kielce, 1992. S. 70–75.

[3] *Bodniak S.* Polska a Bałtyk za ostatniego Jagiełłona. Kórnik, 1946. S. 280–282; *Lepszy K.* Dzieje floty polskiej. Gdańsk, 1947. S. 237–239.

пай[1]. Спрыяльная кан'юнктура ў гандлі збожжам і іншымі таварамі дыктавалі неабходнасць авалодання ключавымі гандлёвымі артэрыямі дзеля павялічэння аб'ёмаў гандлёвага абмену з заходнееўрапейскімі краінамі[2].

Зацікаўленасць у вышэйшых кіруючых колах ВКЛ, безумоўна, выклікалі багатыя зямельныя масівы ў Інфлянтах. Магчымасць пашырыць землеўладанні за кошт добра апрацаваных інфлянцкіх земляў вабіла літоўскую магнатэрыю і шляхту. Гэты каланізацыйны фактар асабліва выразна праяўляўся ў грамадскіх настроях у першыя гады Інфлянцкай вайны[3]. Аднак кіраўніцтва ВКЛ было вымушана ахалоджваць падобныя памкненні, стараючыся заручыцца падтрымкай мясцовай эліты ў Лівоніі.

Сутнасць планаў Жыгімонта Аўгуста і Альбрэхта па падпарадкаванні Інфлянтаў заключалася ў авалоданні ключавымі адміністрацыйнымі пасадамі праз сваіх стаўленікаў і далейшай секулярызацыі духоўных дзяржаўных утварэнняў, г.зн. наданні ім свецкага характару. За ўзор трансфармацыі палітычнага ладу і дзяржаўных структур была выбрана пруская мадэль. Правадніком гэтых планаў у Інфлянтах павінен быў стаць рыжскі арцыбіскуп Вільгельм[4].

Аднак рэалізацыя данай палітыкі сутыкнулася з жорсткім супрацьдзеяннем з боку Інфлянцкага ордэна. Ордэнскі магістр В. Фюрстэнберг справядліва бачыў у іх пагрозу для існавання Інфлянцкай дзяржавы. Арышт рыжскага арцыбіскупа ордэнскімі ўладамі ў 1556 г. рэзка пагоршыў адносіны Ордэна з Польшчай і ВКЛ. Засяродзіць увагу на інфлянцкіх справах кіраўніцтву ВКЛ дазволіла заключанае ў гэтым жа годзе шасцігадовае перамір'е з Маскоўскай дзяржавай, а таксама параўнальна добрыя адносіны з Крымскім ханствам.

У 1557 г. Жыгімонт Аўгуст аб'явіў вайну Інфлянцкаму ордэну. Польска-літоўска-прускае войска рушыла ў напрамку Інфлянтаў. У выніку праведзеных на мяжы ВКЛ з Інфлянтамі перамоў Ордэн быў вымушаны пагадзіцца на ўмовы гаспадара Польшчы і ВКЛ[5]. Дзякуючы заключанай Пазвольскай дамове ва ўнутрыпалітычным канфлікце ў Інфлянтах верх узяла пралітоўская партыя. У хуткім часе гэта прывяло да выбару на пасаду магістра Інфлянцкага ордэна Г. Кетлера[6].

Трохі раней, у 1554 г., канчаўся тэрмін перамір'я паміж Інфлянтамі і Маскоўскай дзяржавай. З мэтай яго падаўжэння ў Маскве адбыліся перамовы, якім было наканавана стаць вузлавым момантам у шэрагу падзей, што прывяло да вайны. У выніку перамоў было падпісана чарговае пагадненне. Новае значэнне атрымаў пункт аб "юр'еўскай даніне". Згодна з ім Дэрпцкае біскупства павінна было выплаціць пскоўскаму намесніку вялікую грашовую суму, якую дэрптцы запазычылі за апошнія 50 год. Для збору даніны даваўся трохгадовы тэрмін[7].

---

[1] Сборник императорского Русского исторического общества (далей – РИО). Т. 1. СПб., 1892. С. 87–89.

[2] *Павулан А. А.* Хозяйственное и политическое значение даугавского торгового пути в XIII–XVII вв. // Экономические связи Прибалтики с Россией. Рига, 1968. С. 45–46.

[3] Русская историческая библиотека (далей – РИБ). Т. 30. Юрьев, 1914. С. 270–271.

[4] *Karwowski S.* Wcielenie Inflant do Litwy i Polski 1558–1561. Poznań, 1873. S. 21–23; *Jasnowski J.* Mikołaj Czarny Radziwiłł... S. 145–148; *Wijaczka J.* Prusy Książęce... S. 71–75.

[5] *Jasnowski J.* Mikołaj Czarny Radziwiłł... S. 180–187.

[6] *Арбузов Л. А.* Очерк истории Лифляндии... С. 125–126.

[7] *Шаскольский И. П.* Русско-ливонские переговоры 1554 г. и вопрос о ливонской дани // Международные связи России до XVII в. М., 1961. С. 398.

У тэксце дамовы меўся таксама пункт пра забарону ўступлення Інфлянтаў у ваенныя саюзы з Польшчай, Літвой і Швецыяй. Аднак 14 верасня 1557 г. паміж ВКЛ і Інфлянтамі было падпісана патаемнае пагадненне аб ваеннай узаемадапамозе, якое павінна было пачаць дзейнічаць пасля сканчэння ў 1562 г. перамір'я ВКЛ з Масквой. Калі б Інфлянцкая дзяржава падверглася інтэрвенцыі раней гэтага тэрміну, ВКЛ не было абавязанае дапамагаць свайму паўночнаму суседу[1].

22 студзеня 1558 г. выправай маскоўскага войска ў глыб Інфлянтаў распачалася Інфлянцкая вайна. Былі спустошаны значныя абшары[2]. Як аказалася, з ваенна-стратэгічнага пункту гледжання ў гэтай акцыі былі вельмі цьмяныя мэты. Па сваім характары яна нагадвала тагачасныя набегі крымскіх татар на рускія землі без выразнай задачы захопу тэрыторыі[3].

З пачаткам вайны кіраўніцтва Інфлянтаў ліхаманкава стала шукаць знешняй дапамогі. У сакавіку 1558 г. у Вільню спешна прыбыло інфлянцкае пасольства. Аднак Жыгімонт Аўгуст адмовіў Інфлянтам у дапамозе, параіўшы заключыць з Масквой замірэнне на любых умовах да 1562 г., г.зн. да сканчэння тэрміну літоўска-маскоўскага перамір'я[4]. Для кіраўніцтва ВКЛ пачатак ваенных дзеянняў у Лівоніі быў поўнай нечаканасцю. Яно яўна не разлічвала на такое хуткае разгортванне вайны з боку Масквы.

На пачатку 1558 г. ВКЛ апынулася ў складаным знешнепалітычным становішчы. Разам з абвастрэннем сітуацыі ў Інфлянтах зноў нагадала пра сябе даўняя праблема на паўднёвым памежжы. Нечаканая выправа крымскіх татар у канцы 1557 г. у глыб Падолля і Валыні (па сведчаннях маскоўскага боку, татарскае войска дасягала 20 тыс. чалавек) прымусіла літвінаў чарговы раз звярнуць увагу на свае дачыненні з Крымскім ханствам. Іх пагаршэнне скоўвала ініцыятыву кіраўніцтва ВКЛ на іншых напрамках.

Прапанаваны Масквой у лютым 1558 г. антыкрымскі саюз прымушаў задумацца пра выбар знешнепалітычных прыярытэтаў. Стрыманую пазіцыю заняў М. Радзівіл Чорны. Ён заявіў, што хана "изгонити из Крыму не хитро", аднак гэта можа выклікаць вайну з Турцыяй, а няма ўпэўненасці, што ў гэтым выпадку Іван IV "на своем слове устоит" і не нанясе ВКЛ удар у спіну. Нягледзячы на скепсіс канцлера ВКЛ, маскоўскія прапановы не былі адразу ж адхілены. Аднак Жыгімонт Аўгуст выслаў у Стамбул свайго пасланца са скаргай на варожыя дзеянні крымскага хана Даўлет-Гірэя. У выніку мір з Асманскай імперыяй і яе васалам Крымскім ханствам быў пацверджаны, а набег 1557 г. ахарактарызаваны як прыкрае непаразуменне[5]. Літвіны, такім чынам, здолелі забяспечыць сабе мір на паўднёвай мяжы. Адразу ж пасля гэтага Маскве далі зразумець,

---

[1] *Karwowski S.* Wcielenie Inflant do Litwy i Polski... S. 42; *Jasnowski J.* Mikołaj Czarny Radziwiłł... S. 184–185.

[2] Полное собрание русских летописей (далей – ПСРЛ). Т. 13. Патриаршая, или Никоновская, летопись. М., 1965. С. 289–290.

[3] Цікава, што асноўную частку Маскоўскага войска складалі асобы татарскага паходжання: ПСРЛ. Т. 13. С. 287; Разрядная книга 1475–1598 гг. М., 1966. С. 170–171.

[4] *Jasnowski J.* Mikołaj Czarny Radziwiłł... S. 240–242.

[5] РИО. Т. 59. СПб., 1887. С. 535–551, 577; *Флоря Б.Н.* Проект антитурецкой коалиции в середине XVI в. // Россия, Польша и Причерноморье в XV–XVIII вв. / Под ред. Б.А. Рыбакова. М., 1979. С. 77–80.

што антыкрымскае пагадненне з ёю заключана не будзе. У Вільні існаванне Крымскага ханства разглядалася як стрымальны фактар, які не дазваляў Маскоўскай дзяржаве на поўную моц разгарнуць ваенныя дзеянні супраць Вялікага Княства[1].



Маскоўскі цар Іван IV

Пасля безвыніковых перамоў аб вечным міры на пачатку 1559 г. літоўскія паслы ўпершыню звярнуліся да інфлянцкай праблемы. Акцэнтавалася ўвага Івана IV на недапушчэнні "хрысціянскага кровапраліцця" і на кроўных сувязях Жыгімонта Аўгуста з рыжскім арцыбіскупам Вільгельмам, што давала яму падставы заступіцца за Інфлянты[2]. У Літве добра разумелі, што пасля авалодання Інфлянтамі Масква адразу распачне вайну з ВКЛ[3]. Таму вельмі важным быў перахоп ініцыятывы, а ліхаманкавы пошук кіраўніцтвам Інфлянцкага ордэна знешняй ваеннай дапамогі толькі ствараў спрыяльныя ўмовы для гэтага.

Заключэнне ў сакавіку 1559 г. шасцімесячнага перамір'я з Маскоўскай дзяржавай дало Інфлянтам час для правядзення неабходных перамоў. Вынікам візіту лівонскага магістра Г. Кетлера ў Вільню сталася заключэнне 31 жніўня 1559 г. дамовы, паводле якой тэрыторыя Інфлянцкага ордэна пераходзіла пад асабістую абарону Жыгімонта Аўгуста. На ўмяшанне ў інфлянцкі канфлікт была атрымана згода вальнага сейма ВКЛ[4]. Літвіны абавязваліся абараняць Інфлянты ад нападаў праціўніка і вярнуць захопленыя маскоўскім войскам інфлянцкія землі на паўночным усходзе краіны. Узамен яны атрымлівалі пад грашовы заклад паўднёва-ўсходнюю частку тэрыторыі Інфлянтаў з замкамі Баўска, Розітэн, Люцэн, Дынабург і Зэльбург. Пасля сканчэння вайны Ордэн меў права выкупіць гэтыя землі. Да заканчэння тэрміну маскоўска-інфлянцкага перамір'я літвіны павінны былі паведаміць Маскве пра пераход Інфлянтаў пад абарону ВКЛ. У гэты ж тэрмін у закладзеных замках павінны былі размясціцца літоўскія гарнізоны. Вызначэнне межаў паміж Інфлянтамі і ВКЛ адкладвалася на канец вайны. На такіх жа ўмовах праз два тыдні да Віленскай дамовы далучыўся рыжскі арцыбіскуп Вільгельм, аддаючы пад заклад замкі Марыенгаўзен і Ленэвард, а таксама двары Лобань і Бірзэн[5].

**Уступленне ВКЛ у Лівонскую вайну.** Заключэнне Віленскай дамовы 1559 г. азначала ўступленне ВКЛ у лік удзельнікаў Інфлянцкай вайны. Кіраўніцтва ВКЛ увяло на тэрыторыю Інфлянтаў свой вайсковы кантынгент, які замацаваўся ў паўднёва-ўсходніх раёнах, памежных з Мас-

---

[1] Османская империя и страны Центральной, Восточной и Юго-Восточной Европы в XV–XVI вв.: Главные тенденции политических взаимоотношений / Отв. ред. И.Б. Греков. М., 1984. С. 259.
[2] РИО. Т. 59. С. 578.
[3] *Любавский М.К.* Литовско-русский сейм: Опыт по истории учреждения в связи с внутренним строем и внешнею жизнью государства. М., 1900. С. 95–96 (дадаткі).
[4] РИБ. Т. 30. С. 270–271, 273–274.
[5] *Jasnowski J.* Mikołaj Czarny Radziwiłł... S. 250–251.

коўскай дзяржавай. Размяшчэнне ўласных гарнізонаў у інфлянцкіх замках з'яўлялася важнай задачай. У другой палове 1560 г. войскі Княства знаходзіліся ў новых умацаваных пунктах, у тым ліку ў Рэвелі, Вендэне, Вольмары і інш.[1] Увогуле ж літоўская сфера ўплыву за 1560–1561 гг. працягнулася да лініі замкаў Пернава–Гельмэт–Эрмэс–Шванэнбург–Марыенгаўзен.

Уступленне ў інфлянцкі канфлікт суправаджалася імкненнем кіраўніцтва ВКЛ пазбегнуць пагаршэння адносін з Масквой. На дыпламатычным фронце літоўскія радныя паны рабілі спробы пераканаць маскоўскіх прадстаўнікоў у тым, што ўвядзенне войск у Лівонію было абумоўлена ціскам з боку палякаў[2]. Цалкам магчыма, што літвіны за спінай інфлянцаў шукалі кампрамісны варыянт вырашэння інфлянцкай праблемы праз узаемавыгадны падзел тэрыторыі Інфлянтаў. Вядома, што на пачатку 1560 г. М. Радзівіл Чорны звяртаўся да маскоўскага боку з прапановай "зговор учинити"[3]. Сапраўды, літвінаў наўрад ці цікавіў дэрпцкі рэгіён, які быў ужо акупіраваны войскамі Івана IV. Галоўнымі задачамі для ВКЛ было забеспячэнне абароны па лініі Дзвіны, якая звязвала паўночна-ўсходнія раёны краіны з Балтыйскім морам, і аваладанне найважнейшымі гандлёвымі партамі на марскім узбярэжжы.

Маскоўскі бок у сваю чаргу не жадаў шукаць кампрамісу з літвінамі, выказваючыся ў катэгарычным тоне: "...король ныне вступился государя нашего в данную землю Ливонскую; и толко король того дела не оставит, и за то без кровопролитья быти не может"[4]. Пакрысе ў Вільні прыходзілі да разумення таго, што, нягледзячы на зробленыя дыпламатычныя намаганні, захаваць мір з Маскоўскай дзяржавай і адначасова ўмацоўваць свае пазіцыі ў Інфлянтах немагчыма.

У жніўні 1560 г. паблізу інфлянцкіх замкаў Вендэн і Вольмар адбыліся першыя сутычкі паміж маскоўскімі і літоўскімі вайсковымі атрадамі. Звесткі пра іх вынікі супярэчлівыя. М. Стрыйкоўскі піша пра поўную перамогу літоўскай вайсковай групоўкі над вялікім маскоўскім войскам, "якое, пачуўшы пра нашых, уцякло да Масквы"[5]. Авангарду літвінаў на чале з А. Палубенскім усё ж такі ўдалося ўступіць у бой з маскоўскім разведвальным атрадам колькасцю 400 чалавек, які быў ушчэнт разбіты. З супрацьлеглага боку крыніцы паведамляюць пра цалкам адваротныя вынікі[6].

З цягам часу канфлікт толькі абвастраўся. У лютым 1561 г. пасланцам ВКЛ Я. Шымковічу і Я. Гайку было заяўлена ў Маскве: "...а похочет за Ливонскую землю стояти, и он (Іван IV. – *А.Я.*) за нее стоит, как хочет"[7]. Гэтыя пагрозы былі ўспрыняты ў Вільні вельмі сур'ёзна. 21 сакавіка 1561 г. да ўсіх старостаў памежных замкаў былі накіраваны лісты,

---

[1] Lietuvos Metrika = Lithuanian Metrica = Литовская Метрика (далей – LM). Kn. 564 / Parengė A. Baliulis. Vilnius, 1996. P. 38.
[2] РИО. Т. 59. С. 600–601.
[3] Памятники истории Восточной Европы: Источники XV–XVII вв. Т. 2: "Выписки из посольских книг" о сношениях Российского государства с Польско-Литовским 1488–1572 гг. М.; Варшава, 1997. С. 213.
[4] РИО. Т. 59. С. 594.
[5] *Stryjkowski M.* Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiej Rusi. T. 2. Warszawa, 1846. S. 411.
[6] Псковские летописи (далей – ПЛ). Вып. 2 / Под ред. А.Н. Насонова. М., 1955. С. 240.
[7] Там жа. С. 44.

"абы до замков своих ехали и у осторожности мешкали". На май 1561 г. прызначаўся збор паспалітага рушэння. Аднак да шырокамаштабных ваенных дзеянняў не дайшло. Маскоўскі бок вырашыў пачакаць да поўнага высвятлення пазіцыі ВКЛ.

У верасні 1561 г. літоўская вайсковая групоўка на чале з найвышэйшым гетманам М. Радзівілам Рудым адбіла ў маскоўскага войска замак Тарваст. Эфект ад гэтай перамогі быў малым, улічваючы захоп у гэты ж час непрыяцелем Феліна – адной з наймацнейшых фартэцый (крэпасцей) у Інфлянтах. Гарнізон у захопленым замку Тарваст, які не меў важнага стратэгічнага значэння, было вырашана не пакідаць. Неўзабаве сюды вярнуліся маскоўскія ратнікі[1]. Цалкам верагодна, што аблога Тарваста была распачата, каб паказаць інфлянцкаму кіраўніцтву намеры літвінаў змагацца за адваяванне ў Масквы захопленых тэрыторый. Гэтая падзея моцна ўразіла маскоўскі двор і толькі ўзмацніла напружанасць узаемаадносін ВКЛ і Маскоўскай дзяржавы.

Страта Рэвеля ўлетку 1561 г. і яго пераход пад юрысдыкцыю Швецыі, якая таксама ўступіла ў змаганне за інфлянцкія землі, паказала кіраўніцтву Вялікага Княства патрэбу ў больш шчыльным падпарадкаванні сабе падкантрольнай тэрыторыі Інфлянцкай дзяржавы[2]. У жніўні 1561 г. адбыўся візіт канцлера ВКЛ М. Радзівіла Чорнага ў Рыгу. На перамовах Радзівіл выклаў прапановы свайго гаспадара, якія прадугледжвалі, між іншым, пераход Рыгі і правабярэжных Інфлянтаў пад непасрэдны пратэктарат Жыгімонта Аўгуста. У якасці ўмоў інфлянцкі бок прасіў захаваць свабоду пратэстанцкага веравызнання, пацвердзіць ільготы і прывілеі даўнейшых часоў, абараніць мясцовае кіраўніцтва ад магчымых абвінавачанняў германскага імператара ў здрадзе сваім васальным абавязкам, гарантаваць тутэйшаму нямецкаму насельніцтву займанне кіруючых пасад, весці вайну за вызваленне занятых непрыяцелем інфлянцкіх тэрыторый. Магістр Ордэна Г. Кетлер і рыжскі арцыбіскуп Вільгельм жадалі захаваць уладу ў якасці васалаў Жыгімонта Аўгуста.

Перамовы прадоўжыліся ў Вільні. Інфлянцкія прадстаўнікі заявілі пра сваё імкненне перайсці пад пратэктарат адразу і ВКЛ, і Польшчы. Іх не задавальнялі аб'ёмы і эфектыўнасць вайсковай дапамогі з боку Вялікага Княства. Гэта разыходзілася з пазіцыяй літоўскіх радных паноў на чале з М. Радзівілам Чорным, якія не жадалі дзяліцца з палякамі выгодамі ад падпарадкавання Інфлянтаў. Польскі сейм у сваю чаргу заняў індыферэнтную пазіцыю адносна інфлянцкіх спраў, заклікаючы Жыгімонта Аўгуста звярнуцца да ўнутрыпалітычных праблем. Урэшце, з улікам пагрозы нанясення царскімі войскамі новых удараў па тэрыторыі Інфлянтаў, кампраміс быў знойдзены. У заключанай 28 лістапада 1561 г. дамове (у гісторыю яна ўвайшла пад назвай Pacta Subiectionis) Інфлянты фармальна пераходзілі пад персанальную юрысдыкцыю (пратэктарат) Жыгімонта Аўгуста як гаспадара Польшчы і ВКЛ[3].

Дамова прадугледжвала ліквідацыю Інфлянцкай дзяржавы ў яе старым выглядзе і стварэнне на гэтай тэрыторыі новых дзяржаўных струк-

---

[1] LM. Kn. 564. P. 41, 43–45, 412; ПСРЛ. Т. 13. С. 310.

[2] *Czapliński W.* Stanowisko państw skandynawskich wobec sprawy inflanckiej w latach 1558–1561 // Zapiski Historyczne. 1963. T. 28, z. 3. S. 404–405.

[3] *Jasnowski J.* Mikołaj Czarny Radziwiłł... S. 280–291.

тур, падначаленых польска-літоўскаму гаспадару. На левабярэжнай частцы Інфлянтаў было створана Курляндскае герцагства на чале з герцагам Г. Кетлерам. Справа па цячэнні Дзвіны ўтваралася Задзвінскае герцагства, якое фармальна належала Жыгімонту Аўгусту як вярхоўнаму валадару. Кіруючыя паўнамоцтвы тут таксама атрымаў Г. Кетлер[1]. Артыкулы пагаднення ўключалі ў сябе асноўныя просьбы інфлянцкага боку. Да іх дадаліся: дазвол біць уласную манету, намінал якой не адрозніваўся ад літоўскага гроша, наданне аўтаномнага статуса судовым органам, вызваленне ад падаткаў на неакрэслены тэрмін па прычыне ваенных спусташэнняў, забарона гандлю для асоб яўрэйскага паходжання[2].

Такім чынам, Інфлянты захавалі поўную самастойнасць ва ўнутрыпалітычных справах і фактычна атрымалі статус "дзяржавы ў дзяржаве". Дзякуючы вайсковым гарнізонам кіраўніцтва ВКЛ мела магчымасць кантраляваць тут палітычную сітуацыю. Жыгімонт Аўгуст не мог пайсці на рэальнае далучэнне (інкарпарацыю) інфлянцкай тэрыторыі да ВКЛ з-за нежадання псаваць адносіны са Свяшчэннай Рымскай імперыяй германскай нацыі, чыім васалам намінальна з'яўляліся Інфлянты. Важным было таксама пазітыўнае стаўленне да інфлянцкай палітыкі ВКЛ з боку еўрапейскай грамадскай думкі. У кампрамісным характары вырашэння "інфлянцкай праблемы" выразна адчуваецца выкарыстанне метадаў, уласцівых палітычнай дзейнасці Жыгімонта Аўгуста. Варта пры гэтым адзначыць, што неўзабаве, у 1566 г., Інфлянты ўсё ж такі былі далучаны да ВКЛ і перасталі карыстацца шырокай унутрыпалітычнай аўтаноміяй[3].

Заключэнне дамовы 1561 г. было відавочным поспехам палітыкі ВКЛ, але ён не быў поўным з-за ўхілення рыжан ад яе падпісання. Рыга звязвала сабою дзвінскі шлях з Балтыйскім морам. Гэта абумоўлівала важнае стратэгічнае значэнне горада. Развітая партовая інфраструктура горада давала выдатныя магчымасці для гандлю з Еўропай. Авалоданне кантролем над Рыгай было адной з найгалоўнейшых задач кіраўніцтва як ВКЛ, так і Маскоўскай дзяржавы.

Выказваючы ў 1561 г. лаяльнасць літоўскаму гаспадару, Рыга пагаджалася толькі на ваеннае супрацоўніцтва. Аднак гарнізон ВКЛ там так і не быў размешчаны. Горад заставаўся незалежным да 1581 г. Праўда, у знешніх зносінах яго самастойнасць была намінальнай. Літвіны выкупілі Дзюнамундэ, які знаходзіўся ў самым



Даспех Мікалая Радзівіла Чорнага. Сярэдзіна XVI ст.

[1] История Латвийской ССР. Т. 1. Рига, 1952. С. 175–177.
[2] biór pamiętników historycznych o dawney Polszcze. T. 2 / Wyd. J.N. Niemcewicz. Warszawa, 1822. S. 35–37; *Dogiel M.* Codex diplomaticus regni Poloniae et magni ducatus Lithuaniae. T. V. Vilnae, 1765.
[3] История Латвийской ССР. Т. 1. С. 175.

вусці Дзвіны, і такім чынам усталявалі кантроль за выхадам рыжскіх караблёў у Балтыйскае мора[1].

Захаванне самастойнасці Рыгай і шырокая ўнутрыпалітычная аўтаномія, дадзеная Інфлянтам, выклікала расчараванне і незадаволенасць М. Радзівіла Чорнага. "Малацьба сена" – так ён ахарактарызаваў сваю працу ў Інфлянтах незадоўга да смерці ў 1565 г.[2] Фармальна Княства дасягнула значных поспехаў, распаўсюдзіўшы свой уплыў на большую частку тэрыторыі былой Інфлянцкай дзяржавы. Аднак літоўскія палітычныя эліты не атрымалі магчымасці займаць тут кіруючыя пасады і набываць зямельныя ўладанні. Замест гэтага на плечы кіруючых колаў ВКЛ была ўскладзена задача абароны Інфлянтаў. Утрыманне значнага кантынгенту наёмных жаўнераў дорага абыходзілася дзяржаўнаму скарбу ВКЛ. Ужо на пачатку 60-х гг. XVI ст. выявіўся недахоп сродкаў для арганізацыі эфектыўнай абароны гэтых зямель. Да таго ж з'явілася рэальная пагроза шырокамаштабнай вайны з Маскоўскай дзяржавай.

Развіццё падзей у Інфлянтах у канцы 50-х – пачатку 60-х гг. XVI ст. вызначыла непазбежнасць новай вайны паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай. Нягледзячы на намаганні літоўскіх радных паноў прадоўжыць перамір'е, стала зразумелым, што прадухіліць вайну будзе вельмі цяжка.

**Ваенныя дзеянні 1562 г.** Пасольства Б. Корсака, высланае ў Маскву на пачатку 1562 г., пацярпела поўны крах. Гэта канчаткова выявіла марнасць міралюбных ініцыятыў кіруючых колаў ВКЛ[3]. Напрыканцы сакавіка 1562 г. маскоўскія войскі здзейснілі напад на памежныя раёны Полацкай зямлі[4], учынілі шэраг набегаў на ваколіцы Оршы, Дуброўны і Мсціслава, спаліўшы пасады гэтых гарадоў. Атрад Г. Мяшчэрскага, выступіўшы са Старадуба, завяваў "могилевские и чичерские и пропойские места"[5]. 20 мая 1562 г. вялікае маскоўскае войска на чале з А. Курбскім падышло да Віцебска. Трохдзённая стаянне ля горада скончылася тым, што былі спалены пасады і спустошаны ваколіцы. Неўзабаве царскія ратнікі вярнуліся ў Вялікія Лукі, спаліўшы па дарозе пасады Суража[6].

Паспалітае рушэнне ВКЛ, сабранае ў маі 1562 г., здзейсніла шэраг нападаў на маскоўскія воласці, у прыватнасці, выпаліла ваколіцы Смаленска і беспаспяхова атакавала веліжскія ўмацаванні[7]. Другая вайсковая групоўка, напэўна наёмнікі, спустошыла раёны Себежа і Апочкі[8].

Адначасова віленскі двор шукаў вайсковай падтрымкі звонку. Плёнам дыпламатычных намаганняў стала дамоўленасць паміж ВКЛ і Крымам аб узгодненых ваенных дзеяннях. На пачатку ліпеня 1562 г. крымскае войска падышло да Мцэнска. У выніку Іван IV загадаў спыніць падрыхтоўку вялікай выправы супраць ВКЛ, скіраваўшы ўсе сілы на адпор татар[9].

---

[1] *Jasnowski J.* Mikołaj Czarny Radziwiłł... S. 293, 302–305.

[2] Listy oryginalne Zygmunta Augusta do Mikołaja Czarnego Radziwiłła / Wyd. S. Lachowicz. Wilno, 1842. S. 161.

[3] РИО. Т. 71. С. 47–67.

[4] LM. Kn. 564. P. 92.

[5] ПСРЛ. Т. 13. С. 340–341.

[6] ПСРЛ. Т. 29. М., 1965. С. 298–299; Listy Zygmunta Augusta do Radziwiłłów / Opr. I. Kaniewska. Kraków, 1999. № 225. S. 381–382.

[7] LM. Kn. 564. P. 98–100; *Stryjkowski M.* Kronika polska... S. 412.

[8] ПЛ. Вып. 2. С. 242.

[9] Османская империя... С. 262.

Значная ваенная падзея адбылася 19 жніўня 1562 г. паблізу Невеля, дзе сутыкнуліся групоўка наёмных жаўнераў на чале з польскім ротмістрам С. Леснявольскім і маскоўскае войска пад камандай А. Курбскага. Па словах Івана Грознага, 15 тыс. маскоўскіх ратнікаў супрацьстаяла 4 тыс. палякаў і літвінаў[1]. Л. Гурніцкі пералічвае дзевяць польскіх ротмістраў, чые роты ўдзельнічалі ў бітве. Гэта прыкладна паўтары-дзве тысячы чалавек, што адпавядае даным іншых польскіх хронік[2].

Польска-літоўскі атрад удала размясціўся ў цесным балотным месцы, якое было з двух бакоў акружана вадой, і на працягу цэлага дня стрымліваў націск пераважных сіл непрыяцеля, робячы паспяховыя вылазкі невялікіх груп коннікаў. Урэшце, выкарыстаўшы спрыяльны момант, роты палякаў і літвінаў з годнасцю адступілі[3]. Літоўскае войска страціла ўсяго 15–16 чалавек. З маскоўскага боку на полі бою засталося, па розных даных, ад 1500 да 7–8 тыс. чалавек[4]. Гэтае паражэнне царскага войска стала адной з галоўных прычын пагаршэння адносін Івана IV з А. Курбскім, які праз два гады эміграваў у Літву.

Восенню 1562 г. большай актыўнасцю вызначаўся літоўскі бок. Літвіны ў верасні 1562 г. зноў зрабілі напад на себежскія воласці[5]. Аршанскі староста Ф. Кміта здзейсніў выправу пад Старадуб, дзе меў "поторжки з людьми московскими", з якіх выйшаў пераможцам[6]. З надыходам зімы баявыя дзеянні паступова згортваліся.

Ваеннымі дзеяннямі 1562 г. скончыўся пачатковы этап супрацьстаяння Вялікага княства Літоўскага і Маскоўскай дзяржавы. Двухбаковыя ўдары, якія адбыліся ў гэтым годзе, не мелі на мэце дасягнення значных ваенных вынікаў, калі не лічыць спусташэнне паселішчаў і рабаванне мясцовага насельніцтва. У задачы абодвух бакоў не ўваходзіла працяглая аблога ўмацаваных пунктаў і планамерная заваёва тэрыторыі праціўніка. У цэлым гэтыя дзеянні павінны былі высветліць наяўныя сілы і рэсурсы, якія меліся ў кожнага з бакоў, і выявілі прыкладную раўнавагу пры лакальных формах барацьбы.

**Страта Полацка ў 1563 г.** Пачынаючы з верасня 1562 г., маскоўскае кіраўніцтва пачало рыхтавацца да маштабнай выправы на ВКЛ. Сам час яе падрыхтоўкі і правядзення паказваў, што ўлады імкнуліся максімальна выкарыстаць фактар нечаканасці. У восеньскі перыяд баявыя дзеянні, як правіла, згортваліся з-за неспрыяльных умоў надвор'я і немагчымасці здабываць правіянт без вялікіх выдаткаў. У зімовы ж час на ваенным фронце надыходзіла амаль поўнае зацішша. У гэтых абставінах Іван IV вырашыў ажыццявіць без перабольшання дзёрзкую ваенную аперацыю. Мала хто мог меркаваць, што для ўдару будзе абраны Полацк. Выбар менавіта Полацка дыктаваўся, напэўна, яго размяшчэннем на рацэ Дзвіне. Захоп горада адрэзаў бы Віцебск ад дзвінскага шляху, а ўсё

---

[1] Переписка Ивана Грозного с Андреем Курбским / Текст подгот. Я.С. Лурье и Ю.Д. Рыков; отв. ред Д.С. Лихачев. М., 1993. С. 42–43.
[2] *Górnicki Ł.* Dzieje w Koronie Polskiej w r. 1538 do r. 1572. Sanok, 1855. S. 128.
[3] *Bielski M.* Polska. T. 2. Sanok, 1856. S. 1152.
[4] Leśniowolski S. // Polski Słownik Biograficzny. T. 17, z. 72. Wrocław etc., 1972. S. 185; *Bielski M.* Polska. T. 2. S. 1152.
[5] ПЛ. Вып. 2. С. 243.
[6] Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной России (далей – АСД). Т. 4. Вильна, 1867. С. 7–8.

паўночна-ўсходняе памежжа ВКЛ – ад цэнтра краіны. Аднак найважнейшым было тое, што Полацк перакрываў сувязь па Дзвіне з Інфлянтамі. Адсюль досыць зручна было пагражаць інфлянцкай тэрыторыі, у тым ліку і далёкай Рызе – канчатковай мэце змагання Івана IV.

У сваім абгрунтаванні выправы на Полацк маскоўскае кіраўніцтва называла чатыры прычыны[1]. Першая з іх мела яўны ідэалагічны характар – дыскрымінацыя праваслаўнага насельніцтва з боку пратэстантаў-лютэран. Асаблівы рэлігійны каларыт полацкай выправе надавала ўзяцце маскоўскім царом з сабою крыжа Еўфрасінні Полацкай, які перад гэтым захоўваўся ў Смаленску. Тым самым абгрунтоўвалася справядлівасць акцыі, якая прымала характар вяртання святыні на сваё месца.

Наступныя тры абгрунтаванні выправы на Полацк цалкам упісваюцца ў кантэкст тагачасных канфліктных маскоўска-літоўскіх адносін. Гэта ігнараванне літоўскім бокам царскага тытула Івана Грознага, сутыкненне інтарэсаў у Інфлянтах і нацкоўванне крымскіх татар на Маскоўскую дзяржаву, што засведчыў перахоп лістоў Жыгімонта Аўгуста ў Крым. Увага пры гэтым акцэнтавалася перш за ўсё на інфлянцкіх справах, дзе ў супрацьстаянні з ВКЛ Масква, безумоўна, прайграла першы этап барацьбы.

Рашэнне аб падрыхтоўцы вялікай выправы маскоўскага войска на ВКЛ было прынята ў верасні 1562 г. Усе мерапрыемствы павінны былі праводзіцца ў строгай сакрэтнасці. Пачаткам выправы трэба лічыць 30 лістапада, калі з Масквы ў Мажайск выступіў цар Іван IV. Зрабіўшы там роспіс палкоў, ён прызначыў канчатковую дату збору на 5 студзеня 1563 г. у Вялікіх Луках[2].

Складаным і адкрытым для дыскусіі застаецца пытанне пра колькасць маскоўскага войска. Пасля супастаўлення розных даных і меркаванняў можна прыйсці да высновы, што актыўная частка войска складала не больш за 60 тыс. чалавек. Аднак у ім мелася і вялікая колькасць дапаможных сіл. Трэба таксама адзначыць, што ў войску было 150–200 гармат разнастайнага калібру[3].

Што гэтаму вялізнаму войску змаглі супрацьпаставіць літвіны? Колькасць узброеных людзей, якія трапілі пасля захопу Полацка ў маскоўскі палон, складала ўсяго 2 тыс. чалавек. Вядома, што тут знаходзіліся тры польскія наёмныя роты колькасцю 500 чалавек. У замку мелася ад 20 да 40 гармат[4].

---

[1] ПСРЛ. Т. 29. С. 302–303.

[2] Витебская старина. Т. 4. / Изд. А. Сапунов (далей – ВС). Витебск, 1885. С. 27–45.; ПСРЛ. Т. 29. С. 303–304; *Александров Д. Н., Володихин Д. М.* Борьба за Полоцк между Литвой и Русью в XII–XVI вв. М., 1994. С. 91–94; *Mienicki R.* Stanisław Dowojno, wojewoda połocki // Ateneum Wileńskie (далей – AW). 1937. R. 12. S. 459–461; *Gwanini A.* Sarmacji Europejskiej. Warszawa, 1768. S. 108–109; ВС. Т. 4. С. 119–120; Biblioteka Raczyńskich w Poznaniu. Sygn. 93. № 146; *Piwarski K.* Niedoszła wyprawa t. zw. Radoszkowicka Zygmunta Augusta na Moskwę (rok 1567–1568) // AW. 1927. R. IV. Z. 13. S. 261; *Natanson-Leski J.* Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. Lwów; Warszawa, 1922; *Скрынников Р.Г.* Царство террора. СПб., 1992. С. 155; *Сагановіч Г.* Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя. Мн., 2001. С. 191–192; *Ён жа.* Полацкая вайна: 1563–1579 гг. //Адраджэнне. Вып.1. Мн., 1995. С. 63.

[3] *Сагановіч Г.* Захоп Полацка Іванам IV паводле нямецкіх "лятучых лісткоў" 1563 г. // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі. Полацк, 1998. С. 267; *Stryjkowski M.* Kronika polska... Т. 2. S. 413.

[4] ВС. Т. 4. С. 121–122; *Сагановіч Г.* Захоп Полацка... С. 267.

Пра збор маскоўскага войска ў Вялікіх Луках у памежных замках ВКЛ даведаліся ўжо на пачатку 1563 г. Аднак ліхаманкавыя спробы рады ВКЛ арганізаваць дапамогу Полацку скончыліся поўным фіяска. Прадпісанні рады шляхта папросту праігнаравала. Падчас аблогі Полацка пад камандай гетмана было толькі 2 тыс. жаўнераў з Вялікага Княства і 1400 польскіх наймітаў. З такім малым войскам змагацца супраць маскоўскай навалы было немагчыма. Яно прастаяла ў бяздзейнасці на рацэ Чарніца ўвесь час аблогі і было вымушана адступіць перад небяспекай удару пераважных сіл непрыяцеля[1].

Маскоўскія палкі падышлі да Полацка 31 студзеня 1563 г. і за кароткі час акружылі горад з усіх бакоў. Яго абаронцы адразу пачалі чыніць непрыяцелю перашкоды, абстрэльваючы яго пазіцыі і робячы баявыя вылазкі. Аднак ход падзей развіваўся яўна не на карысць палачан. Дапамога не падыходзіла, і 5 лютага 1563 г. полацкія ўлады вырашылі пайсці на перамовы з непрыяцелем. Яны прасілі спынення агню да 9 лютага 1563 г., каб высветліць, ці згодны палачане на здачу горада. Маскоўскае камандаванне выкарыстала перамовы для далейшага ўмацавання сваіх пазіцый вакол горада. Увесь гэты час царскія ратнікі набліжалі свае гарматы да сцен полацкага пасада. А ўвечары 7 лютага 1563 г. да Полацка падышла цяжкая артылерыя, якая адыграла ў далейшым галоўную ролю ў бамбардзіраванні крэпасці[2].



Маскоўскі вершнік.
Гравюра другой паловы XVI ст.

9 лютага 1563 г. С. Давойна, зразумеўшы безвыніковасць перамоў і ўбачыўшы размяшчэнне маскоўскай артылерыі прама пад пасадскімі сценамі, распарадзіўся запаліць і пакінуць добра ўмацаваны пасад горада. Маскоўскія ратнікі ўварваліся ў пасадскую частку і завязалі бой з палачанамі. Простыя жыхары, якія знаходзіліся тут, убачыўшы такі паварот падзей, вырашылі не ісці ў Верхні замак, а падацца ў маскоўскі лагер[3]. Там апынулася ад 11 да 20 тыс. палачан. Дзеянні С. Давойны выклікалі крытыку з боку мясцовай шляхецкай эліты і польскіх ротмістраў. Разлад у лагеры абаронцаў не спрыяў наладжванню дзейснага супрацоўлення і стаў адной з прычын няўдалай абароны горада[4].

Пажар пасада дазволіў маскоўцам падцягнуць артылерыю яшчэ бліжэй да замкавых сцен. Да 13 лютага гарматы былі расстаўлены па ўсім перыметры ўмацаванняў. Суцэльны абстрэл замка на працягу 13–14 лютага, а таксама падпал ягоных сцен канчаткова вырашылі справу. У крэпасці разгарэўся пажар, затушыць які не было ніякай магчымасці. Пала-

[1] ВС. Т. 4. С. 53–54; *Stryjkowski M.* Kronika polska... T. 2. S. 413.

[2] *Александров Д. Н., Володихин Д. М.* Борьба за Полоцк... С. 99–100; ПСРЛ. Т. 29. С. 308–310.

[3] У нямецкіх “лятучых лістках” сцвярджаецца, што горад запалілі самі полацкія мяшчане: *Сагановіч Г.* Захоп Полацка... С. 255; ВС. Т. 4. С. 120.

[4] *Górnicki Ł.* Dzieje w Koronie Polskiej... S. 125–126; *Stryjkowski M.* Kronika polska... T. 2. S. 413; ВС. Т. 4. С. 52.

чане не праяўлялі актыўнага супраціўлення, яўна ўражаныя нечакана моцным і інтэнсіўным артылерыйскім агнём[1]. Безнадзейнасць становішча прымусіла палачан пайсці на перамовы і здацца на міласць ворагу. Маскоўскае войска ўвайшло ў горад 15 лютага 1563 г. Пры гэтым татары, якія знаходзіліся на царскай службе, пасеклі па невядомых прычынах манахаў-бернардынцаў[2]. Сам Іван IV загадаў утапіць усіх яўрэяў, якія адмовіліся прыняць хрышчэнне[3]. Большасць полацкага мяшчанства падверглася прымусовай дэпартацыі ў глыб Маскоўскай дзяржавы. Па звестках іншаземных крыніц, было выведзена да 50–60 тыс. чалавек[4]. У той жа час звесткі пра масавае знішчэнне полацкіх мяшчан і шляхты хутчэй за ўсё з'яўляюцца несапраўднымі[5].

Узяцце Полацка царскай арміяй было, бясспрэчна, самай буйной падзеяй першага этапу Інфлянцкай вайны. Авалоданне гэтым горадам забяспечыла маскоўскім войскам выгаднае стратэгічнае становішча. На іх баку адразу аказалася значная ваенная перавага. Поспех Івана IV выклікаў вялікі міжнародны рэзананс[6]. Апынуўшыся ў цяжкім становішчы і не маючы магчымасцей для хуткага рэваншу, кіраўніцтва ВКЛ вырашыла як мага хутчэй заключыць перамір'е. Маскоўскі двор пагадзіўся на перамір'е да 15 жніўня 1563 г.[7] У чэрвені 1563 г. маскоўскае кіраўніцтва прапанавала падоўжыць яго да 1 лістапада[8]. У сваю чаргу літоўскі бок заявіў аб жаданні захоўваць мір ажно да 25 сакавіка 1564 г.[9] Аднак у Маскве пагадзіліся трымаць перамір'е толькі да 6 снежня 1563 г.[10] Дыпламатычныя зносіны павінны былі завяршыцца прыездам у Маскву вялікага пасольства з ВКЛ.

Існаванне мірнай дамоўленасці не перашкодзіла маскоўскаму боку заняцца далучэннем зямель на левым беразе Дзвіны. Цар зыходзіў з ідавочнага для сябе палажэння, што цяпер усё Полацкае ваяводства па праве мацнейшага належыць яму. Вынікам маскоўскіх рэйдаў у глыб Полаччыны, якія адбыліся ўлетку 1563 г., было прывядзенне мясцовага насельніцтва да прысягі на вернасць маскоўскай уладзе, а разам з тым – звыклае спусташэнне тэрыторый. Быў спалены Лукомль, "шкоды немалые" былі нанесены ў Лепелі, Чарэі (самы далёкі пункт, якога царскія ратнікі дасягнулі на поўдні), Глыбокім, Беразвечы, Галамыслі і інш. Мноства "людей тамошних" было забрана з усёй маёмасцю ў палон[11]. Такім чынам, нападам маскоўскага войска ўлетку 1563 г. падверглася

---

[1] ПСРЛ. Т. 29. С. 311.
[2] Klasztory bernardyńskie w Polsce w jej granicach historycznych. Kalwaria Zebrzydowska, 1985. S. 265; Дзве гісторыі Полацка // Беларускі гістарычны агляд. 1997. Т. 4. Сш. 1-2 (6-7). С. 213.
[3] ПЛ. Вып. 2. С. 244.
[4] *Gwanini A.* Sarmacji Europejskiej. S. 108–109; *Kappeler A.* Ivan Groznyj im Spiegel des auslandischen Druckschriften seiner Zeit. Frankfurt/M., 1972. S. 116.
[5] Historiae Ruthenicae Scriptores extere XVI saeculi. Vol. I. Berlin-Petropoli, 1841. S. 16, 116.
[6] *Pirożyński J.* Z dziejów obiegu informacji w Europie XVI wieku: Nowiny z Polski w kolekcji Jana Jakuba Wicka w Zurychu z lat 1560–1587. Kraków, 1995. S. 250.
[7] Книга посольская. Т. 1. № 153. С. 227–228.
[8] РИО. Т. 71. С. 145–146.
[9] Книга посольская. Т. 1. № 155. С. 230–231; РИО. Т. 71. С. 167.
[10] Книга посольская. Т. 1. № 161. С. 242–243; РИО. Т. 71. С. 170–173.
[11] Книга посольская. Т. 1. № 157. С. 234–236; ПСРЛ. Т. 29. С. 325; НГАБ. Ф. КМФ-18, воп. 1, спр. 37, арк. 570–570 адв.

амаль уся левабярэжная Полаччына. Гэта была самая разгорнутая кампанія, ажыццёўленая царскімі “служылымі людзьмі” на тэрыторыі Полацкай зямлі за ўвесь час Інфлянцкай вайны.

Вялікае Княства не збіралася мірыцца з Масквой. У Вільні былі ўпэўнены ў бесперспектыўнасці перамоў і падрыхтоўцы маскоўскім бокам пад іх прыкрыццём новага ўдару па Літве. Жыгімонт Аўгуст прама пісаў крымскаму хану, што ў Маскву паслы выпраўлены толькі для вызвалення палонных. У Княстве, нягледзячы на адпраўку пасольства, быў абвешчаны збор паспалітага рушэння на 21 лістапада 1563 г.[1] У Вільні спадзяваліся на дапамогу крымскага хана, якога прасілі выступіць у выпадку патрэбы ў напрамку Смаленска, дзе магло б адбыцца злучэнне літоўскіх і крымскіх сіл. Аднак сапраўдны рэванш кіраўніцтва ВКЛ планавала ўзяць улетку 1564 г. Менавіта таму паслы, адпраўленыя ў Маскву, павінны былі згаджацца на заключэнне перамір’я толькі да 1 ліпеня 1564 г. Жыгімонт Аўгуст зноў вялікія надзеі ўскладаў на падтрымку з боку Крыма, просячы хана аб сумесным удары па маскоўскіх землях[2].

Пасольства з ВКЛ у складзе крайчага Юрыя Хадкевіча, маршалка дворскага, дзяржаўцы ляхавіцкага Рыгора Валовіча і пісара Міхайлы Гарабурды прыбыло ў Маскву 5 снежня 1563 г.[3] Перамовы пачаліся з прад’яўлення маскоўскім прадстаўніцтвам максімальных тэрытарыяльных прэтэнзій. Затым бакі перайшлі да абмеркавання канкрэтных спраў. Маскоўскі бок прама выказваўся за ўключэнне ў склад акупаванай тэрыторыі ўсёй Полацкай зямлі, разам з Лукомлем і Дрысай, а таксама за доўгатэрміновае перамір’е – на 10–15 год. Літоўскія паслы лічылі, што часовай мяжой паміж ВКЛ і зонай маскоўскага панавання ў Полацкай зямлі павінна быць лінія ракі Дзвіны. Яны згаджаліся на маленькую саступку, даючы згоду на прызнанне за маскоўскім бокам тэрыторыі, адлеглай ад Полацка на левым беразе Дзвіны роўна на адну мілю (прыкладна 8–9 км). У Інфлянтах літвіны прапанавалі прызнаць набыткі кожнага з бакоў. Аднак маскоўскае кіраўніцтва не задаволіў такі падзел іх “вотчыны”, і перамовы скончыліся беспаспяхова[4].

**Ульская бітва 1564 г.** Зрыў перамоў прывёў да аднаўлення ваенных дзеянняў. Цалкам верагодна, што выправа на Літву планавалася ўжо перад пачаткам перамоў. Маскоўскія дыпламаты прапанавалі нерэальныя ўмовы, на якія літвіны проста не маглі пагадзіцца. Бачачы безвыніковасць перамоўнага працэсу, 18 снежня 1563 г. маскоўскія баяры пагрозліва заявілі: “И государь наш, з Божиею волею вотчину Полотцко взял, так и вперед своего искати хочет, и делом своим длити не хочет, рать государя нашего готова на конех сидит”. У студзені 1564 г. ваенныя дзеянні былі адноўлены.

Вялікія групоўкі маскоўскага войска адначасова выступілі з Полацка і Смаленска[5]. Яны павінны былі рухацца ў напрамку Оршы і сустрэцца непа-

[1] РИБ. Т. 30. С. 721–722, 757–758.
[2] Книга посольская. Т. 1. № 163. С. 244–246.
[3] РИО. Т. 71. С. 196.
[4] Там жа. С. 187–302.
[5] ВС. Т. 4. С. 84; Копия с письма, присланного литовским гетманом в Варшаву на имя пана Радивила (далей – Письмо Радивила) // Чтения в обществе истории и древностей Российских при Московском университете. 1847, кн. 3, отд. 3. С.1; ПСРЛ. Т. 13, 2-я пол. С. 377; Т. 29. С. 329.

далёку ад горада. Пасля злучэння царскія сілы планавалі рушыць у бок Менска і Наваградка[1]. Асноўнай мэтай з'яўлялася спусташэнне тэрыторыі: маскоўскае войска, што выступіўла з Полацка, "мело ити до Друцких поль через панство его королевской милости, чинечи плен и шкоду...".

Галоўным военачальнікам полацкай групоўкі з'яўляўся Пётр Шуйскі, а смаленскай – Васіль Сярэбраны. Пасля аб'яднання маскоўскае войска перагрупавалася ў пяць палкоў – з дадаткам палкоў левай і правай рукі[2]. Зімовая выправа 1564 г. па сваіх маштабах была вельмі значнай. Групоўка Шуйскага магла налічваць ад 17–18 тыс. чалавек (найбольш праўдзівая інфармацыя, пададзеная М. Радзівілам Рудым) да 30 тыс. У групоўку Сярэбранага магло ўваходзіць 50 тыс. чалавек[3].


Даспех Мікалая Радзівіла Рудога

Што да войска ВКЛ, то звесткі пра яго колькасць з'яўляюцца не менш супярэчлівымі. Крыніцы фіксуюць ад 4 да 10 тыс. ваяроў[4]. На чале войска знаходзіліся найвышэйшы гетман Мікалай Радзівіл Руды і польны гетман Рыгор Хадкевіч. Перад бітвай асноўныя сілы войска ВКЛ знаходзіліся ў Лукомлі. Добра папрацавала літоўская разведка. Атрымаўшы звесткі аб руху маскоўскага войска, 26 студзеня 1564 г. літвіны пайшлі насустрач яму ў напрамку Улы. Дайшоўшы да Чашнік, гетманы даведаліся пра сутыкненне "старожы" з непрыяцельскімі дазорамі. Наперад былі высланы роты Б. Корсака і Р. Бакі. Неўзабаве адбылася першая сутычка гэтых рот з маскоўскім авангардам. Відаць па ўсім, атака была паспяховай, хоць ротмістры і прасілі падмацавання. На дапамогу былі адпраўлены роты Саламярэцкага і Сапегі. Праз нейкі час на вялікае поле пад Іванскам падцягнулася асноўная групоўка жаўнераў. Літоўскае войска старанна падрыхтавалася да ўдару: "там обачивши Московские гуфы застановилися, и сождавшися, вси сполечне гуфы расправили". Літвіны нанеслі ўдар з двух бакоў – з фронту, а затым і з тылу: "яко ся з ними (маскоўскімі ратнікамі. – *А.Я.*) поткали, заразом их сперли, аж потом почали тыл додавати, и так теж гоначи за ними били их...". Літоўскія жаўнеры гналіся за разбітым непрыяцелем пяць міль, пры гэтым шмат царскіх людзей патанула ў рэках і загі-

[1] ПСРЛ. Т. 13. С. 377; Т. 29. С. 329; *Stryjkowski M.* Kronika polska... Т. 2. S. 415.
[2] Разрядная книга 1550–1636 гг. Вып. 1 / Сост. Л.Ф. Кузьмина. М., 1975. С. 126–128.
[3] *Stryjkowski M.* Kronika polska... Т.2. S.414; *Bielski M.* Polska... Т. 2. S. 1153; Письмо Радивила. С. 2; ВС. С. 84–85; *Paprocki B.* Herby rycerstwa polskiego. Kraków, 1858. S. 854.
[4] *Commendoni J.F.* Pamiętniki o dawnej Polsce z czasów Zygmunta Augusta. Wilno, 1847. S. 45–46; *Stryjkowski M.* Kronika polska... Т. 2. S. 414; *Paprocki B.* Herby rycerstwa polskiego. S. 854; Uchansciana, czyli zbiór dokumentów, wyjaśniających życie i działalność Jakóba Uchańskiego, arcybiskupa gnieznieńskiego / Wyd. T. Wierzbowski. T. 3 (далей – Uchansciana). Warszawa, 1890. S. 47; *Bielski M.* Polska. Т. 2. S. 1153.

нула ад рук сялян з навакольных вёсак. Менавіта падчас пагоні палегла асноўная колькасць маскоўцаў[1].

Польскае наёмнае войска, размешчанае на тэрыторыі ВКЛ, у Ульскай бітве 1564 г. не ўдзельнічала. На момант бою яно знаходзілася паблізу Барысава. Даведаўшыся пра бой, палякі рушылі ў бок тэатра ваенных дзеянняў, аднак неўзабаве былі затрыманы загадам найвышэйшага гетмана М. Радзівіла Рудога, які пасля разгрому маскоўскіх сіл не бачыў у гэтым патрэбы. Пазней польскія жаўнеры наракалі, што іх наўмысна затрымалі далёка ад месца баявых дзеянняў, каб не падзяліцца пераможнымі вынікамі[2].

Камандаванне войска ВКЛ добра ведала аб прысутнасці ў межах дзяржавы другога непрыяцельскага войска, якое на момант бітвы пад Улай знаходзілася ў раёне Дуброўны, умацаваўшыся там, па сведчаннях Я. Уханскага, лагерам[3]. Гэта не дазваляла лічыць, што ваенная пагроза цалкам ліквідавана. Таму пасля пачатковай эйфарыі прыйшло разуменне, што неабходна расправіцца і са смаленскай групоўкай праціўніка, якая яшчэ нічога не ведала пра разгром войска П. Шуйскага.

Вызначальную ролю ў баявых дзеяннях супраць смаленскай групоўкі адыграў аршанскі староста і ротмістр Філон Кміта. Ён, а таксама браслаўскі староста Юры Осцік, оўруцкі дзяржаўца Андрэй Капуста і гаспадарскі маршалак Каленік (Каляніцкі) Тышкевіч выступілі ў напрамку непрыяцеля. Усяго пад камандаваннем Ф. Кміты знаходзілася ад пяцісот да 2 тыс. коннікаў.

Хутчэй за ўсё акцыя, здзейсненая пад кіраўніцтвам Ф. Кміты, адбылася на пачатку лютага 1564 г. Даведаўшыся аб дакладным размяшчэнні маскоўскага войска, ён вырашыў справакаваць у ім панічныя настроі. Аршанскі староста выслаў у бок маскоўскага лагера трох дубраўлянцаў (на чале з нейкім Жданам). Яны везлі да камандуючага дубровенскім гарнізонам ліст, у якім паведамлялася, што неўзабаве да гэтага замка падыдзе вялікае войска літвінаў. Высланыя Кмітам казакі мелі пры сабе таксама спецыяльна складзены рэестр забітых і паланёных падчас Ульскай бітвы маскоўскіх ратнікаў. Маршрут быў выпрацаваны так, што яны не маглі не трапіць у рукі непрыяцельскай "старожы". Пасля азнаямлення з адабранымі паперамі ў маскоўскім войску пачалася паніка. Царскія ваяводы не жадалі сустракацца з літоўскім войскам, думаючы толькі пра адыход у бяспечнае месца[4].

Кіраўніцтва ВКЛ імкнулася выкарыстаць перамогу ў Ульскай бітве ў прапагандысцкіх мэтах, акцэнтуючы ўвагу на тым, што літвіны справіліся з маскоўскімі войскамі ўласнымі сіламі, без дапамогі палякаў. М. Радзівіл Чорны згарнуў перамовы аб уніі ВКЛ з Польшчай, якія ішлі на Варшаўскім сейме, спаслаўшыся на важныя справы ў ВКЛ. Заключэнне уніі было адцягнута на пяць гадоў.

Галоўны ваенны вынік Ульскай бітвы 1564 г. заключаўся для літвінаў у знішчэнні значнай колькасці жывой сілы праціўніка, у першую чаргу

[1] *Commendoni J.F.* Pamiętniki o dawnej Polsce... S. 49; *Gwagnin A.* Sarmacji Europejskiej. S. 127; ВС. С. 84–85.
[2] *Bielski M.* Polska. T. 2. S. 1153.
[3] Uchansciana... S. 47.
[4] Там жа; *Paprocki B.* Herby rycerstwa polskiego. S. 854; *Stryjkowski M.* Kronika polska... S. 415.

каманднага саставу войска. Аднак адсутнасць тэрытарыяльных змен пасля бітвы змяншала яе канчатковы ваенна-стратэгічны эфект. Войска ВКЛ не прыняло належных мер па адабранні ў праціўніка захопленых зямель. Маскоўскія войскі засталіся валадарыць на ўсім абшары правабярэжнай Полаччыны і на частцы левабярэжжа Дзвіны. Літвіны так і не здолелі ў бліжэйшым часе пераламаць ход падзей на сваю карысць.

**Ваенныя дзеянні пасля 1564 г.** Улетку 1564 г. ваенныя дзеянні зноў, як у 1562 г., прынялі форму раптоўных удараў невялікіх вайсковых атрадаў па памежных тэрыторыях праціўніка. Пастаянна адбываліся ўварванні літоўскіх жаўнераў з Інфлянтаў на Пскоўшчыну і ў дэрпцкую акругу. Час ад часу маскоўскім войскам ўдавалася даваць адпор. Так, Васіль Вешнякоў у жніўні 1564 г. разграміў атрад літвінаў каля Краснага гарадка, што на Пскоўшчыне[1].

Адным з асноўных цэнтраў, адкуль ажыццяўляліся напады на тэрыторыю ВКЛ, па-ранейшаму заставаўся Смаленск. У канцы ліпеня 1564 г. смаленскі ваявода Васіль Бутурлін зваяваў мсціслаўскія, крычаўскія і магілёўскія воласці, у выніку чаго ў палон былі ўзяты 4787 чалавек.

Маскоўскае камандаванне не пакінула намераў больш шырокага захопу тэрыторыі ВКЛ. 22 чэрвеня 1564 г. Юрый Такмакоў з шасцітысячным войскам, накіраваўшыся з Невеля, падышоў да Азярышча, найбольш аддаленай крэпасці на паўночна-ўсходнім ускрайку ВКЛ. Чатыры дні працягвалася яе аблога, пакуль на дапамогу не прыйшоў двухтысячны атрад літвінаў, высланы з Віцебска Ст. Пацам[2].

Да ідэі правядзення шырокамаштабнай аперацыі супраць Маскоўскай дзяржавы ў ВКЛ вярнуліся толькі восенню 1564 г. Цяпер стаўка была зроблена на наёмныя сілы. У войску знаходзілася 4900 коннікаў і 3700 драбаў (пехацінцаў), не лічачы ротаў з ВКЛ, у якіх, паводле попісу, амаль усе былі палякі[3]. Мэтай ваеннага паходу быў выбраны Полацк. Літоўска-польскае войска падышло да горада 16 верасня 1564 г. Войска не было падрыхтавана весці аблогу, яно амаль што не мела гармат. Літоўскае камандаванне спадзявалася на адкрытую бітву[4]. Аднак маскоўскія ратнікі зачыніліся ў полацкіх сценах, выбраўшы звыклую для сябе тактыку працяглай абароны. На дапамогу Полацку выступіла значная вайсковая групоўка з Вялікіх Лукаў. Яе прысутнасць не спатрэбілася. 4 кастрычніка 1564 г. літвіны адступілі, так і не пачаўшых актыўных дзеянняў па аблозе замка.

Пасіўныя дзеянні пад Полацкам хутка абярнуліся для літвінаў адчувальным паражэннем. Маскоўскае войска пад камандаваннем казанскага цара Сімяёна, Івана Пронскага і Васіля Сярэбранага, што выступіла з Вялікіх Лукаў, 6 лістапада 1564 г. захапіла замак Азярышча, найбольш аддалены абарончы пункт на правым беразе Дзвіны[5]. Захоп Азярышча быў асабліва прыкрай падзеяй на фоне бліскучай перамогі пад Улай на пачатку года. Яшчэ раз было засведчана, што Княства не можа супрацьпаставіць націску непрыяцеля эфектыўную абарону. Гэтая страта ма-

---

[1] ПЛ. Вып. 2. С. 245–246.
[2] ПСРЛ. Т. 29. С. 335; *Piwarski K.* Niedoszła wyprawa t. zw. Radoszkowicka Zygmunta Augusta na Moskwę (rok 1567–1568) // AW, 1928, r. 6, z. 14. S. 263.
[3] Biblioteka Narodowa w Warszawie, rkp. III. 6609, № 11, k. 26v–28.
[4] *Stryjkowski M.* Kronika polska... T. 2. S. 414.
[5] ПСРЛ. Т. 29. С. 340–341.

ральна прыгнятала кіраўніцтва ВКЛ. Радныя паны дайшлі да таго, што параілі гаспадару спаліць Дрысу, Дуброўну, Сураж і Радамль, мяркуючы, што надзей на іх утрыманне ўжо не існуе.

У 1565 г. ваенныя дзеянні страцілі сваю маштабнасць, зноў прыняўшы характар спусташальных выпраў нязначных вайсковых атрадаў на памежныя землі праціўніка. Адной з найбольш заўважных падзей стаў рэйд польскай коннай групоўкі на пачатку сакавіка 1565 г. на тэрыторыю Пскоўскай зямлі. Пасля непрацяглай аблогі Краснага гарадка польскія вайскоўцы мелі сустрэчу з атрадам І.А. Шуйскага, які прыйшоў з Вялікіх Лукаў: "...литовские люди, сведав наших и наряд отпустив, да шли наших людеи искати, (...) и потравилися наши с ними не много"[1]. Поспех, відавочна, быў за польскімі коннікамі. Пасля гэтай сутычкі яны наладзілі пагоню за маскоўскім непрыяцелем, але не дагнаўшы яго, учынілі спусташэнні па ўсёй паўднёва-заходняй частцы Пскоўшчыны: "...воевали много земли псковскои, (...) полону много вывели, и помесциковы и христианьские дворы жгли, церкви не жгли"[2]. Пскоўскія, а таксама дэрпцкія воласці з'яўляліся і надалей аб'ектам пастаянных нападаў з боку падначаленай Літве часткі Інфлянтаў.

Становішча на ўсходнім памежжы ВКЛ таксама было неспакойным. Размешчаныя тут польскія наёмнікі на чале з Цікоўскім здзейснілі паход у раён Смаленска. Яны спалілі прадмесці горада і разбілі атрад непрыяцеля ў адкрытым полі. Затым групоўка польскіх коннікаў павярнула ў бок Северскай зямлі, дзе спустошыла шматлікія воласці.

Удалай выправай на Почап вызначыўся Ф. Кміта. Спаліўшы горад і забраўшы значную здабычу, яго атрад накіраваўся да Старадуба, дзе спаліў навакольныя воласці[3]. Аднак здзейсненая ім разам з кіеўскім ваяводам К. Астрожскім вясной 1565 г. выправа на Чарнігаў скончылася безвынікова[4].

Раз-пораз царскім людзям удавалася супрацьдзейнічаць нападам ліцвінаў. Так, 8 чэрвеня 1565 г. смаленскі ваявода П. Марозаў разбіў віцебскіх казакаў пад камандаваннем С. Бірулі, якія ваявалі смаленскую акругу; у палоне апынуліся 62 чалавекі, у тым ліку князь Сяргей Лукомскі. Праз два дні тое ж самае здарылася з мсціслаўскім атрадам, які налічваў 1200 чалавек. Маскоўскія ратнікі ўзялі ў палон 23 "языкі". Няўдалым для ліцвінаў аказаўся і паход на раслаўскія воласці – пры вяртанні атрад пад камандаваннем І. Лычка падвергся нападу, у выніку чаго ў палон быў узяты сам камандзір[5]. Увогуле, баявыя дзеянні 1565 г. не вызначаліся інтэнсіўнасцю. Актыўнай вайне ў 1565–1566 гг. перашкаджала эпідэмія чумы, якая ахапіла ў гэты час Навагрудчыну, Полаччыну і Смаленшчыну[6]. Яна суцішылася толькі прыкладна ў другой палове 1566 г.

У сярэдзіне 1565 г. па ініцыятыве літоўскага боку былі адноўлены дыпламатычныя зносіны з Масквой. У чэрвені–ліпені 1566 г. у Маскве

---

[1] ПЛ. Вып. 2. С. 255.
[2] Там жа; Biblioteka Czartoryskich. Teki Naruszewicza. Sygn. 74. IV. № 132.
[3] *Stryjkowski M.* Kronika polska... T. 2. T. 415; *Paprocki B.* Herby rycerstwa polskiego. S. 855; *Gwanini A.* Sarmacji Europejskiej. S. 117; *Górnicki Ł.* Dzieje w Koronie Polskiej... S. 129; *Bielski M.* Polska. T. 2. S. 1155.
[4] АСД. Т. 4. С. 210–211.
[5] ПСРЛ. Т. 29. С. 346.
[6] ПЛ. Вып. 2. С. 248–249.

прайшлі перамовы, на якія Вільня мела вялікія спадзяванні. У Літве не збіраліся надоўга мірыцца з існуючым станам рэчаў, тут збіраліся заключыць толькі кароткачасовае перамір'е[1]. Галоўнай прычынай няўдалага заканчэння перамоў сталі, як і раней, тэрытарыяльныя прэтэнзіі Івана IV у Інфлянтах. Маскоўскае кіраўніцтва без усялякіх агаворак патрабавала перадачы яму Рыгі і тэрыторыі Задзвінскага герцагства. Узамен царскія прадстаўнікі нават былі згодны аддаць літвінам Полацк. Аднак літоўскі бок такое вырашэнне праблемы абсалютна не задавальняла. У такіх абставінах кампраміс не мог быць знойдзены. Да таго ж на скліканым у Маскве Земскім саборы было пацверджана жаданне розных сацыяльных пластоў Маскоўскай дзяржавы далей змагацца за Інфлянты[2].

Каб выйграць час, у ВКЛ было паслана пасольства на чале з Ф. Умным-Калычовым. У гэтага пасольства былі чыста разведвальныя мэты. Аднак у хуткім часе пасля пачатку перамоў у канцы ліпеня 1567 г. у Гародні кіраўніцтва ВКЛ разгадала намеры маскоўскай дэлегацыі. Ёй быў аказаны няветлівы прыём. З-за гэтага царскім паслам не ўдалося выканаць пастаўленых задач[3].

У жніўні 1566 г. кіраўніцтва ВКЛ было вымушана канстатаваць, што пад прыкрыццём перамоў маскоўскія войскі актывізавалі сваю дзейнасць на Полаччыне. У Полацкай зямлі ў кароткія тэрміны непрыяцелем будаваліся невялікія замкі, дзе зручна маглі размясціцца вайсковыя гарнізоны. Гэта не магло не выклікаць з літоўскага боку адпаведнай рэакцыі. Вясной 1567 г. у паўночна-ўсходнія землі ВКЛ быў накіраваны з паўнамоцтвамі польнага гетмана Раман Сангушка. Ужо адна з першых ягоных акцый прынесла значны поспех. 20 ліпеня 1567 г. у ваколіцах возера Суша адбылася бітва, у якой быў разгромлены вялікі атрад маскоўскіх ратнікаў, што ішоў на абарону будаванага там замка. У распараджэнні Сангушкі знаходзілася групоўка наёмных жаўнераў колькасцю да 2 тыс. чалавек. Каб выкарыстаць фактар нечаканасці, было вырашана ўчыніць напад на маскоўскі лагер за некалькі гадзін да світанку. Драбам удалося без шуму ачысціць шлях ад загароджаў, зробленых непрыяцелем. Нанесены знянацку ўдар ашаламіў 8-тысячнае маскоўскае войска, якое нават не паспела агледзецца, як было разбіта[4]. Татарскі военачальнік Амурат і князь Васіль Палецкі былі забіты. Ваяводзе Пятру Сярэбранаму ўдалося ўцячы ў Полацк[5].

У першай дэкадзе верасня 1567 г. адбылася яшчэ адна значная сутычка літоўскага войска з царскімі людзьмі. Гэта быў атрад пад камандаваннем І. Шчарбатага і Ю. Баратынскага, які накіроўваўся з Улы ў Сушу. Ён налічваў, паводле інфармацыі польскіх храністаў, 9 тыс. чалавек. З літоўскага боку яму супрацьстаяла 2129 коннікаў і чатыры пешыя казацкія роты. Сангушка выкарыстаў тактыку паступовага ўвядзення ў бой свежых сіл. Дзякуючы гэтаму маскоўскія ваяры хутка прыйшлі ў замяшальніцтва. У палон былі ўзяты галоўныя ваяводы, а таксама яшчэ

[1] РИО. Т. 71. С. 336–341.

[2] *Зимин А.А.* Земский собор 1566 г. // Исторические записки. 1962. № 71. С. 202–207.

[3] РИО. Т. 71. С. 465–468, 487–491; *Piwarski K.* Niedoszła wyprawa... S. 269–271, 280–281.

[4] *Paprocki B.* Herby rycerstwa polskiego. S. 830; ПСРЛ. Т. 29. С. 355.

[5] *Stryjkowski M.* Kronika polska... T. 2. S. 416.

80 "знатных людзей". Страты літвінаў склалі 3 чалавекі забітымі і 30 параненымі[1].

1567 год стаў часам найбольшага напружання ваенных рэсурсаў Вялікага Княства. Акрамя ўтрымання значнага кантынгенту наёмных жаўнераў, кіраўніцтва ВКЛ пайшло на скліканне ўсеагульнага паспалітага рушэння. Па самых сціплых падліках, у канцы 1567 г. пад Маладзечна з'ехалася не менш як 27 тыс. баяздольных шляхціцаў. Аднак ніякіх актыўных дзеянняў гэтае вялікае войска не пачынала. Змарнаваўшы час, на пачатку 1568 г. шляхціцы пачалі раз'язджацца. Толькі ў лютым 1568 г. па ініцыятыве Яна Хадкевіча літвіны вырашылі здзейсніць наступальную акцыю супраць маскоўскіх сіл. Аб'ектам для ўдару быў выбраны не так даўно збудаваны замак Ула. Аднак аблога гэтага замка скончылася поўным фіяска. Няўзгодненасць дзеянняў вайскоўцаў ВКЛ ледзь не прывяла да захопу непрыяцелем падчас адчайнай вылазкі літоўскіх гармат. Неўзабаве абаронцы крэпасці атрымалі падмацаванне з Полацка. Пасля трохтыднёвага знаходжання пад мурамі замка войска Я. Хадкевіча мусіла адысці, "боючися теж того, абы про тот голод люди (...) до конца не повтекали"[2].

Больш удала дзейнічаў аршанскі староста Ф. Кміта, які амаль што адначасова з акцыяй Я. Хадкевіча пад Улай ажыццявіў буйную выправу ў напрамку Смаленска. Маскоўскі атрад, які выйшаў з горада для адпору, быў разгромлены. Пагарцаваўшы па ваколіцах, літоўскія вайскоўцы вярнуліся назад[3].

Цэнтрам актыўнай дзейнасці літоўскіх ваяроў увесь час заставаўся Віцебск, дзе ваяводам з 1566 г. быў Станіслаў Пац. У 1566–1569 гг. віцябляне нанеслі некалькі смелых удараў па непрыяцелю. Аб'ектамі нападзенняў звычайна былі два замкі – Усвяты і Веліж. Здараліся сутыкненні з ворагам і па дарозе да іх.

20 (28?) жніўня 1568 г. адбылася адна з самых значных аперацый пасля 1564 г. – захоп войскам ВКЛ добра ўмацаванага замка Ула. Камандуючым аперацыяй быў Р. Сангушка. Штуршком для пачатку дзеянняў паслужыла інфармацыя ад шпегаў, згодна з якой большая частка маскоўскага гарнізона пакінула замак. Літвінам удалося без шуму падступіць да сцен замка. Нягледзячы на нечаканасць нападзення, маскоўцы пачалі аказваць упартае супраціўленне. Пераломам у змаганні адбыўся пасля пераправы роты М. Салагуба праз раку Ула. Гэта было поўнай нечаканасцю для маскоўскіх ратнікаў. Выяўленне броду дазволіла, мяркуючы па ўсім, акружыць крэпасць. Неўзабаве раптоўны націск, учынены коннымі ротамі Р. Войны, Ю. Тышкевіча і Б. Лукомскага, што падаспелі якраз у патрэбны час, канчаткова вырашыў зыход справы на карысць літвінаў. У палон было ўзята 300 чалавек знатнага паходжання, сярод якіх аказаліся і ваяводы замка. Крэпасць амаль поўнасцю згарэла; не ўдалося выратаваць ад агню ў вялікай колькасці ні амуніцыі, ні зброі, ні харчовых запасаў.

Маскоўскае камандаванне не магло змірыцца са стратай такога важнага стратэгічнага пункта. З мэтай адабрання Улы восенню 1568 г. рыхтава-

---

[1] *Paprocki B.* Herby rycerstwa polskiego. S. 830; ПСРЛ. Т. 29. С. 355; *Stryjkowski M.* Kronika polska... Т. 2. S. 416–417.

[2] Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею (далей – АЗР). Т. 3. С. 143.

[3] *Stryjkowski M.* Kronika polska... Т. 2. S. 417; *Bielski M.* Polska... Т. 2 . S. 1165.

лася буйнамаштабная выправа. Аднак перашкодай для яе ажыццяўлення стала вестка аб "моровом поветрии" ў ваколіцах Полацка і Улы. Паход на паўдарозе быў спынены[1]. Літвіны дзякуючы гэтым акалічнасцям атрымалі неабходны час для трывалага замацавання ў вусці Улы.

Замест паходу на Улу 6-тысячнае маскоўскае войска 29 верасня 1568 г. падышло да Віцебска. Запаліўшы пасады, яно прастаяла пад горадам два дні, не пачынаючы больш ніякіх актыўных дзеянняў. Ст. Пац здзяйсняў частыя вылазкі з замка, дзякуючы чаму на трэцюю ноч непрыяцель быў вымушаны адступіць. Віцябляне працягвалі атакаваць адступаючае войска[2].

Літвіны ж зноў досыць нечакана нават для саміх сябе дамагліся гучнага поспеху. 11 студзеня 1569 г. войска братоў Палубенскіх, пераапрануўшыся ў царскіх апрычнікаў, захапіла замак Ізборск, які знаходзіўся на мяжы Пскоўскай зямлі з Інфлянтамі. Ізборскі гарнізон ад нечаканасці не аказаў супраціўлення. Маскоўскае кіраўніцтва выправіла пад Ізборск вялікае войска на чале з М. Марозавым і І. Шарамецевым. Пасля непрацяглай аблогі літвіны здалі замак. У маскоўскім палоне апынулася прыкладна сто чалавек[3].

Нягледзячы на ўсе гэтыя баявыя дзеянні лакальнага характару, ужо ў канцы 1568 г. пазначылася тэндэнцыя на заключэнне перамір'я паміж варагуючымі бакамі. Яе адлюстраваннем сталі перасылкі ганцоў і двухбаковыя абяцанні перапыніць ваенныя акцыі на час правядзення перамоў[4].

Улетку 1570 г. паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай нарэшце было заключана перамір'е тэрмінам на тры гады[5]. Спачатку літвіны прапанавалі заключыць яго на адзін год, а маскоўцы – на цэлых пяць[6]. Абодва бакі абавязваліся не будаваць у Полацкай зямлі новых замкаў. Адначасова была дасягнута дамоўленасць наконт абмену палоннымі.



Царскія ратнікі ў Інфлянтах. Нямецкая гравюра 1579 г.

Пагадненне было заключана на фоне істотнага паляпшэння знешнепалітычнага становішча ВКЛ. Швецыя з непрымірымага ворага зрабілася ў выніку змены ўлады ў краіне саюзнікам Княства. Было заключана трывалае перамір'е з Асманскай імперыяй. У Маскве ж напрыканцы 60-х гг. XVI ст. пачаўся сур'ёзны ўнутрыпалітычны крызіс. Івану IV у гэты час было зусім не да вайны[7]. Аднак у ВКЛ адсутнічалі ўнутраныя рэзервы для таго, каб скарыстаць спрыяльную знешнепалітычную сітуацыю для кардынальнага пералому ходу вайны на сваю карысць.

---

1 Archiwum XX Sanguszków w Sławucie. T. VII. Lwów, 1910. S. 295–296.
2 *Stryjkowski M.* Kronika polska... T. 2. S. 418.
3 РИО. Т. 71. С. 584.
4 АЗР. Т. 3. С. 147–148.
5 Книга посольская. Кн. 1. С. 293–301, 304–309.
6 РИО. Т. 71. С. 712–713.
7 *Скрынников Р.Г.* Царство террора. С. 325–340.

Ваенныя дзеянні 60-х гг. XVI ст. паказалі бясспрэчную перавагу літоўскага войска ў адкрытым змаганні. Аднак літвіны саступалі маскоўскім ратнікам у правядзенні аблогавых аперацый. Гэта стала прычынай значных тэрытарыяльных стратаў ВКЛ на Полаччыне. Пасля шырокамаштабных аперацый 1563–1564 гг. ваенныя дзеянні набылі лакальны характар. У 1566 г. царскія войскі пачалі замацаванне на захопленай тэрыторыі Полаччыны, у выніку чаго там з'явіліся новыя абарончыя пункты. У другой палове 60-х гг. літвінам пакрысе ўдавалася схіліць перавагу ў ваенным супрацьстаянні на свой бок. Важнай ваеннай перамогай было адабранне Улы ў 1568 г. Аднак цэнтральная ўлада ў ВКЛ не змагла арганізаваць буйнамаштабных ваенных акцый. Вільня мела пільную патрэбу ў мірнай перадышцы для ўзнаўлення сваіх рэсурсаў і вырашэння важных унутрыпалітычных пытанняў. Не менш зацікаўленай у міры была і Маскоўская дзяржава. Вынікам кампрамісу з'явілася заключэнне трохгадовага перамір'я ў 1570 г.

## 2. Люблінская унія 1569 г.

**Перадумовы уніі.** З пачаткам Інфлянцкай вайны Вялікае Княства Літоўскае апынулася ў надзвычай цяжкім становішчы. Вайсковая дэзарганізацыя, недахоп фінансавых сродкаў абумовілі няўдачы ў ваенных дзеяннях, якія з 1562 г. ужо вяліся на тэрыторыі Беларусі. Быў страчаны кантроль над значнай часткай Інфлянтаў, здадзены Полацк. Безупынна раслі падаткі (сярэбшчына ў 1560-я гг. была ўтрая і нават у пяць разоў большая, чым у 30-я ці 40-я гг. XVI ст.[1]), закладаліся гаспадарскія маёнткі, што, аднак, не прыносіла жаданых вынікаў. Стала відавочна, што аднаасобна спыніць агрэсію Маскоўскай дзяржавы, а тым больш вярнуць страчаныя землі Княства не можа. Такая сітуацыя вымушала палітычную эліту ВКЛ ісці на больш шчыльныя кантакты з Каралеўствам Польскім. У той жа час кіруючыя колы Польшчы адназначна звязвалі сваю дапамогу літвінам у вайне з заключэннем дзяржаўнай уніі паміж краінамі. Паступова ідэю моцнай уніі падтрымаў кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт Аўгуст. У 1560-я гг. адбыўся шэраг сеймаў, як супольных, так і асобных у ВКЛ і Польшчы, на якіх абмяркоўваліся ўмовы будучага унітарнага саюзу.

У верасні 1562 г. з'езд шляхты ВКЛ, што адбыўся пад Віцебскам, вылучыў асноўныя пастулаты уніі з Польшчай: правядзенне супольных сеймаў для абрання будучага караля і вялікага князя, арганізацыя сумеснай абароны, збліжэнне дзяржаўна-прававога поля дзвюх краін. Без выканання гэтых патрабаванняў шляхта адмаўлялася плаціць падаткі, у тым ліку і сярэбшчыну[2]. Традыцыйна, гэтая ініцыятыва трактуецца як

---

[1] *Łowmiański H.* Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983. S. 448–452.

[2] *Halecki O.* Sejm obozowy szlachty litewskiej pod Witebskiem 1562 r. i jego petycja o unię z Polską (Przyczynek do dziejów parlamentaryzmu litewskiego i genezy unii lubelskiej) // Przegląd Historyczny. 1914. T.18, z.3. S. 320–352; *Lulewicz H.* Gniewów o unię ciąg dalszy (Stosunki polsko-litewskie w latach 1569–1588). Warszawa, 2002. S. 18–19; *Rachuba A.* Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1569–1763. Warszawa, 2002. S. 39.

сведчанне супярэчнасцей паміж шляхтай, якая імкнулася да уніі дзеля атрымання польскіх правоў і свабод, і магнатэрыяй, што ўсяляк блакіравала заключэнне уніі, каб не дапусціць палітычнай эмансіпацыі сярэдняга і дробнага шляхецтва і не згубіць свайго сацыяльна-палітычнага ўплыву ў аб'яднанай краіне[1]. Аднак ужо сам склад пасольства, накіраванага з-пад Віцебска да Жыгімонта Аўгуста, не дазваляе гаварыць пра выключна шляхецкі характар віцебскай канфедэрацыі 1562 г. Узначалілі дэпутацыю магнаты: стольнік ВКЛ Ян Хадкевіч і Мальхер Шэмет. Правамерна трактаваць гэтае выступленне з пункту гледжання ўнутрыпалітычнай барацьбы ў ВКЛ паміж Радзівіламі і Хадкевічамі[2]. Ды і аналіз саміх патрабаванняў дазваляе сказаць, што канфедэрацыя 1562 г. была не рэхам на ідэю уніі, а заклікам аб дапамозе ў вайне. Ні шляхта, ні магнаты не хацелі інкарпарацыі ў склад Каралеўства Польскага, яны хацелі толькі дзяржаўнага саюзу з агульным манархам і сеймам для вырашэння абаронных і іншых агульных спраў.

Страта 15 лютага 1563 г. Полацка ў ходзе Інфлянцкай вайны яшчэ больш выразна паказала неабходнасць для ВКЛ моцнага саюзу з Польшчай. У маі–чэрвені гэтага года адбыўся сейм Княства ў Вільні. Літвіны згадзіліся на перамовы аб уніі і накіравалі на сейм у Варшаву дэлегацыю ад паноў-рады, шляхты і г. Вільні ў складзе 28 чалавек. Віленскі сейм распрацаваў інструкцыю, на якіх умовах ВКЛ магло заключыць унію. Такімі ўмовамі былі заключэнне пастаяннага саюзу дзвюх дзяржаў, якія мелі агульнага манарха, выбіранага са згоды абодвух бакоў, а таксама супольныя сеймы дзеля вырашэння агульных спраў. У той жа час павінны былі захоўвацца ўсе правы і вольнасці ВКЛ, асобыя сеймы і суды, пасады, заканадаўства, войска[3]. Палітычная эліта Княства падкрэслівала, што перамовы аб уніі патрэбны, каб атрымаць польскую дапамогу ў Інфлянцкай вайне[4].

Падчас перамоў на сейме ў Варшаве, які адбыўся на мяжы 1563–1564 гг., з усёй выразнасцю выявіліся супярэчнасці ў поглядах на характар будучага унітарнага саюзу паміж палякамі і літвінамі. Польскі бок фактычна настойваў на інкарпарацыі ВКЛ у склад Польшчы. Літвіны не хацелі ісці далей за саюз з агульным манархам і супольнай знешняй палітыкай[5]. Час цягнуўся ў бясплённых спрэчках, а пасля перамогі войска

[1] *Лойка П.А.* Шляхта беларускіх зямель у грамадска-палітычным жыцці Рэчы Паспалітай другой паловы XVI – першай трэці XVII ст. Мн., 2002. С. 32; *Любавский М.К.* Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. М., 1910. С. 275–276; *Пичета В.И.* Белоруссия и Литва XV–XVI в. (Исследования по истории соц.-экон., полит. и культ. развития). М., 1961. С. 543–546; *Kosman M.* Historia Białorusi. Wrocław; Kraków; Gdańsk, 1979. S. 103.

[2] *Янушкевіч А.* Унія з Каронай ва ўнутранай палітыцы ВКЛ перад Люблінскім соймам 1569 г. // Беларускі гістарычны агляд. Т. 10, сш. 1-2 (18-19). 2003. С. 33–36; *Kempa T.* Rywalizacja Radziwiłłów i Chodkiewiczów o pierwsze miejsce w elicie politycznej Wielkiego Księstwa Litewskiego w latach 60. i 70. XVI wieku // History, culture and language of Lithuania. Poznań, 2000. S. 195–219.

[3] *Лаппо И.* Литовский Статут 1588 года. Т. 1, ч. 1. Каунас, 1934. С. 235; *Любавский М.К.* Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. С. 277–278; *Wisner H.* Unia. Sceny z przeszłosci Polski i Litwy. Warszawa, 1988. S. 105.

[4] РИБ. Т. 30. Литовская Метрика. Отд. 1–2. Ч. 3. Книги публичных дел / Ред. И.И. Лаппо. Юрьев, 1914. С. 324–325.

[5] *Янушкевіч А.* Унія з Каронай ва ўнутранай палітыцы ВКЛ перад Люблінскім соймам 1569 г. С. 42–45.

ВКЛ над маскоўцамі 26 студзеня 1564 г. ў бітве пад Улай дэлегацыя Княства на чале з віленскім ваяводам і канцлерам Мікалаем Радзівілам Чорным увогуле 22 лютага гэтага ж года пакінула Варшаву і сарвала перамовы.

Ужо без літвінаў на Варшаўскім сейме былі прыняты два важныя для будучай уніі рашэнні. 13 сакавіка 1564 г. Жыгімонт Аўгуст саступіў Польшчы свае спадчынныя (дзедзічныя) правы на ВКЛ. У той жа дзень быў прыняты "Reces w sprawie okolo unii litewskiej" ("Вырак у справе, якая тычыцца літоўскай уніі"), у якім былі зацверджаны ўмовы аб'яднання Княства і Каралеўства (фактычна інкарпарацыя Польшчай ВКЛ). Саюз грунтаваўся на акце Мельніцкай уніі 1501 г.[1] Такім чынам, польскі бок вызначыўся з умовамі будучай уніі. Падобна, што і Жыгімонт Аўгуст больш схіляўся да польскага варыянту аб'яднання дзвюх дзяржаў. Увогуле, у гэты час гаспадар выступае актыўным прыхільнікам аб'яднання ВКЛ і Каралеўства Польскага. Як правіла, вылучаюць дзве галоўныя прычыны такой пазіцыі Жыгімонта Аўгуста: разуменне, што толькі разам краіны могуць перамагчы ў Інфлянцкай вайне і прадчуванне згасання дынастыі Ягелонаў, пасля чаго быў магчымы разрыў нават персанальнай уніі паміж Княствам і Каралеўствам[2]. Грамадскую ж думку ў ВКЛ наконт польскіх умоў уніі адлюстроўвае ананімны твор "Razmowa Polaka z Litwinem" (1564): "...хацелі б разам з Вамі быць, мець Вашыя вольнасці, але страчваць сваю дзяржаву не жадаем"[3].

З 1564 г. палітычная эліта ВКЛ усяляк імкнулася адцягнуць абмеркаванне уніі. Гэтаму садзейнічала змена ходу Інфлянцкай вайны, звязаная з некаторымі поспехамі, дасягнутымі войскам Княства, а таксама абвастрэннем адносін Маскоўскай дзяржавы з Крымскім ханствам[4]. Акрамя таго, шмат часу займалі рэформы дзяржаўнага ладу ВКЛ. Таму безвынікова закончыліся сеймы ў Парчове (лета 1564 г.) і Пётракаве (сакавік 1565 г.)[5].

У 1564–1566 гг. у ВКЛ былі праведзены адміністрацыйна-тэрытарыяльная і судовая рэформы. Былі ўтвораны паветы як судовыя, адміністрацыйныя, ваенныя і палітычныя адзінкі. Быў уведзены зразумелы, агульны для ўсёй краіны дзяржаўны лад. У паветах склікаліся сеймікі, на якіх выбіралася па два дэпутаты на вальны сейм. Увогуле, роля сейма ў дзяржаўным жыцці значна пашыралася. Быў зацверджаны новы

---

[1] *Halecki O.* Dzieje unii jagiellońskiej. T.2. Kraków, 1920. S. 256–260, 288; *Lulewicz H.* Gniewów o unię ciąg dalszy... S. 24–25, 35. Мельніцкая унія была заключана 23 кастрычніка 1501 г. Паводле яе ўмоў, у ВКЛ і Каралеўства Польскае павінен быў быць адзіны гаспадар, выбраны ў Польшчы на супольным сейме, агульныя сеймы (праводзіліся пачаргова ў Княстве і Кароне), адзіная манета, але захоўваліся асобныя суды і пасады. За ВКЛ пакідаліся тытул і пячатка, знішчалася асобнасць межаў дзвюх дзяржаў, адмянялася забарона палякам сяліцца і займаць дзяржаўныя пасады ў ВКЛ, гаспадар павінен быў пацвярджаць правы і вольнасці абедзвюх краін. На унію прысягнулі кароль і вялікі князь Аляксандр, польскі бок і тыя літвіны, хто быў у Мельніку. Затым унія павінна была быць зацверджана ўсімі станамі ВКЛ. Аднак гэтага па шэрагу прычын не адбылося: *Любавский М.* Очерки истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. С. 182.

[2] *Lulewicz H.* Gniewów o unię ciąg dalszy... S. 37–38.

[3] *Лаппо И.* Литовский Статут 1588 года. Т. 1, ч. 1. С. 242.

[4] *Сагановіч Г.М.* Полацкая вайна: 1563–1579 гг. // Адраджэнне. Вып. 1. С. 67–70.

[5] *Янушкевіч А.* Унія з Каронай ва ўнутранай палітыцы ВКЛ перад Люблінскім соймам 1569 г. С. 46.

Статут. Рэформа судаводства абмежавала судовыя паўнамоцтвы магнатэрыі, што было адной з прычын яе палітычнай магутнасці[1]. Магнатэрыя Княства пайшла на рэформы 1564–1566 гг. пад уплывам Жыгімонта Аўгуста, які быў прынцыпова настроены на аб'яднанне ВКЛ і Каралеўства Польскага і праводзіў палітыку, скіраваную на адаптацыю польскіх форм дзяржаўнага ўладкавання ў Княстве[2]. Таксама праз пашырэнне сацыяльна-палітычных правоў павятовага шляхецтва магнаты ВКЛ спрабавалі атрымаць саюзніка ў сваёй палітыцы зацягвання унійных перамоў[3].

Перамовы аб уніі былі працягнуты ў 1566 г. На сейме ў Берасці (красавік–жнівень 1566 г.) літвіны яшчэ раз вызначылі сваё бачанне аб'яднанай краіны: адзіны манарх, які абіраецца разам ВКЛ і Каралеўствам Польскім, супольныя сеймы збіраюцца ў абедзвюх дзяржавах па чарзе, адзіная знешняя палітыка, але законы, кіраванне і межы – асобныя[4]. Па сутнасці, пазіцыя палітычнай эліты Княства ў адносінах да ўмоў уніі заставалася той жа, што і ў 1563 г. Такім чынам, і шляхта, і магнаты імкнуліся да персанальнай уніі, ваенна-абарончага саюзу з захаваннем самастойнасці Княства. З гэтымі ўмовамі дэлегацыя ВКЛ на чале з Мікалаем Нарушэвічам і Юрыем Осцікам накіравалася ў ліпені 1566 г. у Люблін на сейм Каралеўства Польскага, але толькі для азнаямлення палякаў з пазіцыяй ВКЛ, а не для заключэння уніі. Урэшце, Люблінскі сейм 1566 г. скончыўся безвынікова[5].

Аднак у канцы 1567 г. неабходнасць уніі стала відавочнай для ўсяго палітычнага народа ВКЛ. Перамовы з маскоўскім пасольствам, якія праводзіліся ўлетку гэтага года ў Гародні, зайшлі ў тупік. Умовы, вылучаныя пасламі Маскоўскай дзяржавы, былі непрымальнымі для літвінаў[6]. У той жа час буйная ваенная кампанія, арганізаваная ў ВКЛ (агульная колькасць войска разам з паспалітым рушэннем, наёмнікамі і польскімі атрадамі налічвала каля 50 тыс. чалавек), скончылася безвынікова[7]. Правал так званай радашковіцкай выправы, нягледзячы на асабістую прысутнасць у войску Жыгімонта Аўгуста, яскрава паказаў неабходнасць для ВКЛ знешняй дапамогі ў паспяховым вядзенні Інфлянцкай вайны. Гэта ў сваю чаргу падштурхнула Княства да актывізацыі перамоў з палякамі аб уніі.

Увосень 1567 г. на з'ездзе земскай службы ў Лебедзева шляхта і паны-рада ВКЛ прасілі Жыгімонта Аўгуста склікаць у наступным годзе супольны з палякамі сейм для заключэння уніі[8]. Можна меркаваць, што кароль і вялікі князь свядома выкарыстаў збор паспалітага рушэння дзе-

---

[1] *Rachuba A.* Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1569–1763. S. 45–53.
[2] Там жа. S. 45.
[3] *Пичета В.И.* Белоруссия и Литва XV–XVI в. С. 547–548.
[4] *Довнар-Запольский М.* Польско-литовская уния на сеймах до 1569 года. М., 1897. С. 18.
[5] *Wisner H.* Unia. Sceny z przeszlosci Polski i Litwy. S. 110; *Янушкевіч А.* Унія з Каронай ва ўнутранай палітыцы ВКЛ перад Люблінскім соймам 1569 г. С. 47.
[6] *Соловьев С.М.* История России с древнейших времен. М., 2001. Кн. 3 (1463–1584): Т. 6. С. 774–775.
[7] *Сагановіч Г.М.* Полацкая вайна: 1563–1579 гг. С. 72–74.
[8] *Rachuba A.* Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1569–1763. S. 61.

ля прапаганды уніі і атрымання згоды на яе з боку шырокіх шляхецкіх мас ВКЛ[1]. Увогуле, ідэя саюзу з Польшчай была досыць распаўсюджана сярод шляхецтва. Напярэдадні Люблінскага сейма 1569 г. жамойцкі сеймік даў сваім паслам наказ – без заключэння уніі назад не вяртацца. Крыху пазней, у маі 1569 г., такі наказ атрымалі і берасцейскія паслы. Паслы Валыні, Падляшша і Жамойці атрымалі ад сваіх выбарцаў неабмежаваныя паўнамоцтвы ў справе уніі[2]. У 1566 г. паслы Віцебскага ваяводства прасілі хутчэй склікаць сейм з Каралеўствам Польскім, бо апасаліся захопу маскоўскімі войскамі[3].

Зразумела, што шляхта больш за магнатаў цярпела ад вайны і была зацікаўлена ў заключэнні саюзу з Польшчай. Аднак развіццё падзей у 1560-я гг. паказвае, што шляхта ішла ў фарватэры палітыкі магнацкіх груповак (Радзівілаў ці Хадкевічаў) і не была самастойнай палітычнай сілай, у тым ліку ў пытанні заключэння уніі. Тым больш няма аніякіх падстаў сцвярджаць, што шляхта ВКЛ падтрымлівала польскі, інкарпарацыйны варыянт аб'яднання. Як магнатэрыя, так і шляхецтва выступалі за раўнапраўны саюз дзвюх дзяржаў з адзіным манархам, агульнай знешняй палітыкай і супольнай абаронай пры захаванні шырокай унутранай аўтаноміі ВКЛ.

На Гарадзенскім сейме ў красавіку–ліпені 1568 г. усе станы ВКЛ зноў прасілі Жыгімонта Аўгуста склікаць агульны з Каралеўствам Польскім сейм, каб весці на ім перамовы аб унітарным саюзе паміж дзвюма краінамі[4]. Згода была атрымана. Павятовыя сеймікі ў ВКЛ былі прызначаны на 11 лістапада 1568 г., абраныя на іх паслы 9 снежня павінны былі сабрацца ў Воіне, каб папярэдне абмеркаваць з панамі-радай і Жыгімонтам Аўгустам прынцыпы і ўмовы будучай уніі, а 23 снежня 1568 г. павінен быў пачаць працу супольны сейм у Любліне[5]. У гаспадарскіх інструкцыях на павятовыя сеймікі галоўнай прычынай неабходнасці аб'яднання з Польшчай называлася небяспека ад Маскоўскай дзяржавы[6]. На з'ездзе ў Воіне 21 снежня 1568 г. Жыгімонт Аўгуст выдаў прывілей, у якім абавязваўся не парушаць правоў і свабод Княства, не станавіцца адназначна на нейкі бок у пытанні уніі, калі прадстаўнікі ВКЛ або Каралеўства Польскага не будуць на яе згаджацца, а таксама гарантаваў літвінам права свабодна пакінуць сейм у выпадку парушэння іх вольнасцей[7]. Гэта была апошняя спробай палітычнай эліты ВКЛ абараніць свае інтарэсы, свой погляд на ўмовы уніі напярэдадні вырашальнага сейма ў Любліне.

**Люблінскі сейм 1569 г.** З'езд у Воіне зацягнуўся, таму ў Любліне пачалі працу толькі 10 студзеня 1569 г. Дэлегацыю ВКЛ узначальвалі най-

---

[1] *Янушкевіч А.* Унія з Каронай ва ўнутранай палітыцы ВКЛ перад Люблінскім соймам 1569 г. С. 52–54.
[2] АСД. Т. 7 (1433–1791). Вильна, 1870. С. 40; *Lulewicz H.* Gniewów o unię ciąg dalszy... S. 19–20.
[3] *Лаппо И.* Литовский Статут 1588 года. Т. 1, ч. 1. С. 231, 242–243; *Довнар-Запольский М.* Польско-литовская уния на сеймах до 1569 года. С. 21.
[4] *Rachuba A.* Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1569–1763. S. 62–63.
[5] *Лаппо И.* Литовский Статут 1588 года. Т. 1, ч. 1. С. 243.
[6] *Любавский М.* Литовско-русский сейм. С. 209–212 (приложения).
[7] Akta unii Polski z Litwą 1385–1791 / Wyd. S. Kutrzeba i W. Semkowicz. Kraków, 1932. S. 189–192; *Lulewicz H.* Gniewów o unię ciąg dalszy... S. 25.



Партрэт Мікалая Радзівіла Рудога

больш уплывовыя ўрадоўцы і фактычна лідэры дзвюх "партый" у Княстве: віленскі ваявода, канцлер Мікалай Радзівіл Руды і староста жамойцкі, маршалак земскі Ян Хадкевіч. Актыўна ў перамовах удзельнічалі падканцлер, дворны маршалак Астафей Валовіч і земскі падскарбі Мікалай Нарушэвіч. Доўгі час, да канца студзеня, літвіны не прыступалі да абмеркавання уніі, бо хацелі, каб спачатку Жыгімонт Аўгуст зацвердзіў некаторыя папраўкі Статута. Пасля прадстаўнікі ВКЛ настойвалі на тым, што саюз павінен быць заключаны на аснове "брацкай любові", а не на падставе старых прывілеяў[1].

Спрэчкі ўласна аб умовах аб'яднання пачаліся 12 лютага, калі літвіны атрымалі праект уніі, складзены біскупам кракаўскім Філіпам Паднеўскім і разгледжаны пасламі Польшчы[2]. Згодна з гэтым планам ВКЛ і Каралеўства Польскае, "паводле даўняй інкарпарацыі", утваралі адзінае непадзельнае цела, адзіны народ. У новай дзяржаве павінен быў быць адзіны кіраўнік – кароль польскі, які выбіраўся галасамі ад Княства і Каралеўства ў Польшчы (Кракаве), а ўзвядзенне на вялікакняскі пасад павінна было спыніцца. Сейм таксама меў быць супольным для ВКЛ і Каралеўства Польскага. Усе пастановы і рашэнні павінны былі прымацца толькі са згоды сенатараў абодвух народаў. Манета, паводле праекта, мела быць аднолькавай адносна вагі, пробы і надпісу. Усе міжнародныя справы (пагадненні, заключэнні міру, пасольствы ў памежныя і іншыя краіны) неабходна было вырашаць супольна, а ранейшыя дамовы, якія маглі прынесці шкоду літвінам або палякам, трэба было прызнаць неправамоцнымі. Згодна з праектам у будучай краіне пакідалася толькі адна пячатка – пячатка Каралеўства, але абяцалася захаваць Княству ўсе яго правы, прывілеі, вольнасці, звычаі, годнасці і ўрады. Адмяняліся ўсялякія пошліны для духоўных і свецкіх людзей шляхецкага стану. Асабліва падкрэслім тое, што палякі прапаноўвалі дазволіць палякам у ВКЛ і літвінам у Каралеўстве Польскім набываць ці атрымліваць любым іншым шляхам зямельныя надзелы і займаць любыя свецкія і духоўныя пасады. Таксама ў праекце гарантавалася не распаўсюджваць на Княства экзекуцыю сталовых уладанняў і зямель, зацверджаную ў 1504 г. на сейме ў Пётракаве[3].

15 лютага свой варыянт уніі праз Яна Хадкевіча прапанавалі дэлегаты ад ВКЛ: у прэрагатыву агульных органаў улады ўваходзілі толькі пы-

---

[1] Дневник Люблинского сейма 1569 года: Соединение Великого Княжества Литовского с Королевством Польским / Изд. М. Коялович. СПб., 1869. С. 10–14, 19–21, 661; Archiwum książąt Sanguszków w Sławucie. T. 7: 1554–1572. Lwów, 1910. S. 319.

[2] Дневник Люблинского сейма 1569 года: Соединение Великого Княжества Литовского с Королевством Польским. С. 68–73.

[3] Маецца на ўвазе права выкупу прыватнымі асобамі каралеўскіх уладанняў, зямель, перададзеных у часовае трыманне.

танні знешняй палітыкі і ў першую чаргу – абарона, ва ўнутраных справах Княства захоўвала самастойнасць. Літвіны прапаноўвалі, каб адзіны гаспадар – кароль польскі і вялікі князь літоўскі – выбіраўся агульнымі галасамі пры роўнай колькасці "выбаршчыкаў" ад абедзвюх дзяржаў. Абранне павінна было праходзіць на мяжы Каралеўства і Княства. Захоўвалася б традыцыя асобнага каранавання і ўзвядзення на вялікакняскі пасад, а таксама асобная прысяга на захаванне правоў, вольнасцей, звычаяў, урадаў і прывілеяў ВКЛ і Каралеўства Польскага. У адрозненне ад польскага праекта захоўваліся пячаткі абедзвюх краін. Асобным пунктам была рэгламентавана сумесная абарона будучай дзяржавы. Супольны сейм павінен быў займацца пытаннямі абрання караля і вялікага князя, абароны дзяржавы, абвяшчэння вайны і заключэння міру, адпраўкі пасольстваў у замежжа. Паседжанні гэтых сеймаў мелі б адбывацца пачаргова: у ВКЛ і Каралеўстве Польскім. Паралельна з агульным сеймам прапаноўвалася захаваць асобныя сеймы ў абедзвюх краінах дзеля вырашэння іх унутраных праблемаў. Захоўваліся б у Княстве і найвышэйшыя дзяржаўныя пасады: маршалак, канцлер, падскарбі і гетман. Дазвалялася палякам у ВКЛ атрымліваць зямельныя надзелы, але ўсялякія пасады (духоўныя, свецкія, земскія, дворныя і судовыя) маглі займаць толькі ўраджэнцы Княства. Манета павінна быць аднолькавай па вазе, аднак манета, якая чаканілася б у ВКЛ, павінна мець і асобны надпіс. Экзекуцыя не павінна была распаўсюджвацца на Княства, бо ў адваротным выпадку літвіны пагражалі разрывам уніі[1]. Прадстаўнікі ВКЛ яшчэ раз адмовіліся весці перамовы на аснове ранейшых прывілеяў. Так, яны не прызнавалі дзейсным акт Мельніцкай уніі 1501 г., бо той не быў ратыфікаваны станамі Княства, як не прызнавалі літвіны і правамоцнасць Рэцэса і Дэкларацыі аб уніі, прынятых на Варшаўскім сейме 13 сакавіка 1564 г. і зацверджаных толькі польскай пячаткай, а дэлегацыя ВКЛ нават не мела паўнамоцтваў заключаць тады унію[2].

Пазіцыю літвінаў яскрава ілюструюць словы старосты жамойцкага Яна Хадкевіча: "У цэласнасці, значнай уладзе, аздобе ўрадаў усялякіх, у пэўным аб'ёме межаў аж да сённяшняга дня ВКЛ стаяла і стаіць... Былі выпадкі, калі ў Літве былі князі, якія не былі ў той жа час каралямі польскімі, што не перашкаджала братэрскай міласці нашай... На рукапісе Вашым... тытул і абрад узвядзення на княскі пасад вялікага князя літоўскага знішчаюцца, гаворыцца аб зацвярджэнні правоў толькі пячаткай каронная і толькі аб сеймах каронных, гэта нічога нам не абяцае, толькі: "crescit Ausonia Albae ruinis"[3]... Гэты рукапіс знішчае нам гаспадара і тытул яго ... дзяржаву нашу, годнасць, усялякія свабоды, урады, узнагароды, міласці, чаго мы з Вамі ні пісьмова, ні словамі не жадаем абмяркоўваць... Мы згубім нашу дзяржаву, вялікага князя і аб'яднаем з Вашымі нашыя ўрады, дык якія ж будуць гэта пасады ВКЛ, калі не будзе ні гэтага Княства, ні вялікага князя?.. Не меншым прыніжэннем для нас ёсць тое, што Вы жадаеце, супраць нашых правоў і свабод, атрымліваць

[1] Дневник Люблинского сейма 1569 года: Соединение Великого Княжества Литовского с Королевством Польским. С. 74–82.

[2] Дарэчы, сумняваліся ў легітымнасці Рэцэса на сваіх пасяджэннях і некаторыя прадстаўнікі польскага боку: Там жа. С. 33, 37, 52, 53.

[3] Скажоны выраз Ціта Лівія: "Рым павялічваецца руінамі Італіі."

пасады ВКЛ, незалежна ці ёсць у вас аселасць у Княстве ці няма. А што нам ад такіх урадаў літоўскіх, якіх бы літвін займаць не мог?.. А калі ж... Вы не пажадаеце заключыць з намі унію як браты, але... да інкарпарацыі і старых дамоў нас цягнуць жадаеце, чаго мы ні ў якім выпадку ўчыніць не можам, тады нам нельга будзе тут далей знаходзіцца і чаго іншага пачынаць, а толькі ад'ехаць"[1].

Такім чынам, адразу выявілася прынцыповае разыходжанне ў поглядах на сутнасць уніі ў дэлегацый Княства і Каралеўства. Літвіны выступалі за ўтварэнне дзяржавы, звязанай толькі вайсковым саюзам, сумеснай знешняй палітыкай і агульным уладаром, а палякі прапаноўвалі фактычную інкарпарацыю ВКЛ у склад Каралеўства Польскага.

Безумоўна, польскі бок не пагадзіўся на ўмовы Княства. Прадстаўнікі Кароны спрабавалі прымусіць літвінаў пайсці на заключэнне уніі праз ужыванне ўладных паўнамоцтваў Жыгімонтам Аўгустам. 24 лютага польскія паслы звярнуліся да караля з просьбай, каб той давёў справу уніі да заканчэння сваёй уладай. Жыгімонт Аўгуст так і зрабіў, загадаўшы 28 лютага паслам і сенатарам ВКЛ прыйсці на сумеснае з палякамі пасяджэнне[2]. Гэта, дарэчы, было парушэннем тых гарантый, якія даў гаспадар літвінам на з'ездзе ў Воіне. Не прымаючы польскіх умоў і такіх метадаў перамоў, дэлегацыя ВКЛ наважылася на скрайні ўчынак – каб разладзіць працу сейма і калі не сарваць заключэнне уніі, дык хоць неяк паўплываць на пазіцыю палякаў і Жыгімонта Аўгуста – раніцай 1 сакавіка, не папярэдзіўшы ні гаспадара, ні польскі бок, паны-рада і паслы Княства пакінулі Люблін[3]. Рашэнне прымалася вельмі хутка (падобна, на падставе эмоцый, а не з халодным палітычным разлікам), бо яшчэ раніцай 28 лютага М. Радзівіл Руды заклікаў хутчэй прыехаць на сейм свайго пляменніка Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіротку[4]. Магчыма дапусціць, што такое рашэнне было прынята салідарна ўсімі галоўнымі асобамі ў дэлегацыі ВКЛ, найперш М. Радзівілам і Я. Хадкевічам, бо з'ехалі з Любліна ўсе літвіны, як паны-рада, так і паслы. Засталіся толькі А. Валовіч і пісар Міхал Гарабурда, каб інфармаваць Вільню аб далейшых падзеях.

Аднак такі крок зрабіў пазіцыю Жыгімонта Аўгуста і палякаў (асабліва пасольскай ізбы) яшчэ больш жорсткай. Ужо 1 сакавіка паслы Познаньскага, Сандамірскага і Калішскага ваяводстваў пачалі патрабаваць далучыць да Польшчы Валынь і Падляшша, патрабавалі ад караля заключыць унію сілай. Сенатары Каралеўства таксама патрабавалі прыняць прывілей аб уніі без удзелу літвінаў, далучыць да Каралеўства Польскага Валынь і Падляшша, распаўсюдзіць на гэтыя тэрыторыі польскую юрысдыкцыю, прывесці валынскіх і падляшскіх урадоўцаў да прысягі Каралеўству. У той жа дзень Жыгімонт Аўгуст у сваёй прамове перад пасламі і сенатарамі Каралеўства Польскага, выказаўшы абурэнне паводзінамі дэлегацыі ВКЛ, паабяцаў прывесці справу уніі да заканчэння

[1] Дневник Люблинского сейма 1569 года: Соединение Великого Княжества Литовского с Королевством Польским. С. 75–78.
[2] Там жа. С. 109.
[3] Там жа. С. 121.
[4] *Kempa T.* Mikołaj Krzysztof Radziwiłł "Sierotka" (1549–1616) wojewoda wileński. Warszawa, 2000. S. 54.


Кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт Аўгуст

такім чынам, як яму параяць сенатары і паслы, і даў згоду на далучэнне да Польшчы Валыні, Усходняга Падолля і Падляшша[1].

5 сакавіка 1569 г. Жыгімонт Аўгуст выдаў адпаведны універсал, у якім абавязваў урадоўцаў згаданых зямель прынесці прысягу, уводзіў польскую юрысдыкцыю, гарантаваў захаванне ранейшых правоў, прывілеяў, вольнасцей, ураўноўваў шляхту гэтых зямель са шляхтай Каралеўства, абяцаў не распаўсюджваць экзекуцыю, а для тых, хто не выканае патрабаванняў універсала, прадугледжвалася канфіскацыя пасад і ўладанняў[2].

Найбольш прыхільнымі да ідэі інкарпарацыі з усіх зямель ВКЛ аказаліся прадстаўнікі Падляшша, частка з якіх з Любліна не з'ехалі і ўжо 5 сакавіка далі згоду на далучэнне да Каралеўства. 9 сакавіка некаторыя падляшскія паслы прынеслі прысягу палякам, хто добраахвотна, а хто і пад пагрозай канфіскацыі староства. Затое адмовіўся прысягаць, нават пад пагрозай канфіскацыі маёнткаў у гэтых землях, А. Валовіч. Акрамя таго, палякі наракалі на падканцлера ВКЛ, што той рассылаў па Валыні граматы, што заклікалі не вяртацца на сейм[3].

Акрамя далучэння Валыні і Падляшша польскі бок разглядаў умовы і шляхі заключэння уніі з ВКЛ. Земскія паслы Польшчы займалі самую скрайнюю пазіцыю ў гэтым пытанні. Яны патрабавалі заключыць унію без удзелу літвінаў і ажыццявіць яе нават з дапамогай паспалітага рушэння. Больш уважаную пазіцыю мелі сенатары Каралеўства, што можна заўважыць, прааналізаваўшы праект уніі, які яны вынеслі на разгляд паслам 14 сакавіка[4]. У адрозненне ад першага польскага праекта ў ім прадугледжвалася захаванне дзвюх пячатак – ВКЛ і Каралеўства Польскага, сумесныя сеймы, у прэрагатыву якіх уваходзіла б абранне караля і вялікага князя, абарона дзяржавы, абвяшчэнне вайны ці заключэнне міру, прыём і накіраванне пасольстваў, прыняцце агульных канстытуцый і статутаў. Сеймы прапаноўвалася праводзіць па чарзе ў кожнай краіне, прадугледжвалася захаванне асобных сеймаў Княства і Каралеўства, а таксама ўсіх пасад, займаць якія маглі толькі мясцовыя ўраджэнцы. Абмежаванняў на атрыманне зямлі не прадугледжвалася. Аднак земскія паслы адхілілі гэты праект, палічыўшы занадта мяккім. 24 сакавіка 1569 г. Жыгімонт Аўгуст выдаў прывілей, у якім зацвердзіў умовы будучай уніі паміж Княствам і Каралеўствам[5].

---

[1] Дневник Люблинского сейма 1569 года: Соединение Великого Княжества Литовского с Королевством Польским. С. 123.

[2] Там жа. С. 189–191; Akta unii Polski z Litwą 1385–1791 / Wyd. S. Kutrzeba i W. Semkowicz. S. 193–207; Volumina Legum. T. 2. Petersburg, 1859. C. 77–84.

[3] Дневник Люблинского сейма 1569 года: Соединение Великого Княжества Литовского с Королевством Польским. С. 155–156, 166–169, 184–186, 257; *Halecki O.* Przyłączenie Podlasia, Wołynia i Kijowszczyzny do Korony w roku 1569. Kraków, 1915. S. 32.

[4] Дневник Люблинского сейма 1569 года: Соединение Великого Княжества Литовского с Королевством Польским. С. 193, 194, 688.

[5] Akta unii Polski z Litwą 1385–1791 / Wyd. S. Kutrzeba i W. Semkowicz. S. 220–227.

Спачатку ў ВКЛ у святле да такога павароту падзей пераважалі досыць радыкальныя настроі. Некаторыя сенатары Княства былі гатовы нават на абвяшчэнне паспалітага рушэння на землях Валыні і Падляшша для барацьбы з палякамі. 2 красавіка палякі адзначалі, што літвіны (безумоўна, сенатары) збіраліся ехаць па дапамогу да татар, але ад гэтага, паводле польскіх звестак, іх угаварыла адмовіцца каталіцкая шляхта. Яна ж таксама перараканала магнатаў накіраваць дэпутацыю ў Люблін[1].

Хутка ў ВКЛ убачылі, што тактыка канфрантацыі не дае плёну, а хутчэй наадварот, прыносіць толькі шкоду дзяржаве. Неабходна было шукаць шляхі выйсця з узнікшага становішча. Акрамя таго, у Княстве ні на хвіліну не забывалі пра пастаянную небяспеку з боку Маскоўскай дзяржавы. А ваенна-эканамічны патэнцыял краіны быў амаль вычарпаны. Так, у сакавіку 1569 г. земскі падскарбі М. Нарушэвіч адзначаў, што скарбу трэба расплачвацца з жаўнерамі, выдаткоўваць грошы на ўтрыманне крэпасцей, а сродкаў няма, прыбыткаў не паступае, і ён не ведае адкуль іх узяць[2].

22–24 сакавіка 1569 г. у Вільні адбыўся з'езд паноў-рады ВКЛ, які быў скліканы з ініцыятывы віленскага ваяводы М. Радзівіла Рудога[3]. У ім узялі ўдзел вышэйшыя ўрадоўцы дзяржавы і тыя магнаты, хто валодаў маёнткамі ў Падляшшы і Валыні: віленскі біскуп Валерыян Пратасевіч, луцкі біскуп Вікторын Вірбіцкі, М. Радзівіл Руды, віленскі кашталян і найвышэйшы гетман ВКЛ Рыгор Хадкевіч, трокскі ваявода Стэфан Збаражскі, трокскі кашталян Юры Хадкевіч, Я. Хадкевіч, брацлаўскі ваявода і палявы гетман ВКЛ Раман Сангушка, менскі ваявода Габрыэль Гарнастай, кіеўскі кашталян Павел Сапега, навагрудскі кашталян Рыгор Валовіч, А. Валовіч, М.К. Радзівіл Сіротка[4]. На з'ездзе перамаглі прыхільнікі аднаўлення перамоў з Польшчай, прадстаўленыя перш за ўсё Хадкевічамі. У Вільні былі выпрацаваны кампрамісныя ўмовы уніі ("Артыкулы да уніі"): літвіны згаджаліся на адзінага караля і вялікага князя, агульную знешнюю палітыку, супольныя сеймы пры захаванні, аднак, асобных сеймаў ВКЛ, а таксама патрабавалі вяртання Княству Падляшша і Валыні[5]. Пад "Артыкуламі..." стаялі подпісы Валерыяна Пратасевіча, Рыгора, Юрыя і Яна Хадкевічаў, якія заяўлялі, што схіляць і астатніх да падпісання гэтага дакумента. Подпіс М. Радзівіла Рудога там так і не з'явіўся. Ён, верагодна, застаўся на больш жорсткіх пазіцыях у пытанні перамоў з палякамі і гаспадаром. У Люблін было накіравана спецыяльнае пасольства на чале з Янам Хадкевічам. У яго склад таксама ўвайшлі віцебскі кашталян Павел Пац, Астафей Валовіч, падчашы ВКЛ Мікалай Кішка і крайчы ВКЛ Крыштоф Радзівіл Пярун (сын М. Радзівіла Рудога)[6].

Тым часам Жыгімонт Аўгуст таксама імкнуўся схіліць галоўных дзеючых асоб палітычнай эліты ВКЛ да заключэння уніі. Яшчэ ў 1568 г., на-

---

[1] Дневник Люблинского сейма 1569 года: Соединение Великого Княжества Литовского с Королевством Польским. С. 187–188, 250–251.

[2] *Любавский М.* Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. С. 286.

[3] Archiwum książąt Sanguszków w Sławucie. T. VII. S. 320–322.

[4] *Halecki O.* Przyłączenie Podlasia, Wołynia i Kijowszczyzny do Korony w roku 1569. S. 94.

[5] Там жа. S. 94–104.

[6] Дневник Люблинского сейма 1569 года: Соединение Великого Княжества Литовского с Королевством Польским. С. 258.

пярэдадні Люблінскага сейма надзвычай шчодрыя маёмасныя і грашовыя наданні атрымалі Ян Хадкевіч і М.К. Радзівіл Сіротка, а ў лютым-красавіку 1569 г. вельмі выгодныя прывілеі былі выдадзены Мікалаю Нарушэвічу і Астафею Валовічу (як і іншым прадстаўнікам роду Валовічаў)[1].

5 красавіка пасольства ВКЛ прыехала ў Люблін. Выступаў з прамовай перад Жыгімонтам Аўгустам, польскімі сенатарамі і пасламі Ян Хадкевіч, які патлумачыў прычыну ад'езду з Любліна прадстаўнікоў Княства. Староста жамойцкі спасылаўся на тое, што земскія паслы атрымалі на павятовых сейміках наказы заключыць унію не на аснове старых прывілеяў, а на аснове "сардэчнага братэрства". Таму, не прыйшоўшы да згоды з польскім бокам і выконваючы сеймікавыя інструкцыя, літвіны пакінулі сейм. Далей, Ян Хадкевіч патрабаваў вярнуць Княству Валынь і Падляшша і даказваў даўнюю прыналежнасць гэтых зямель да ВКЛ: яны заўжды былі ўласнасцю Княства, сам Жыгімонт Аўгуст прысягнуў захоўваць тэрытарыяльную цэласнасць дзяржавы.

Літвіны пацвердзілі, што яны не супраць уніі, якая захавае іх правы і роўнасць паміж дзяржавамі, таму прасілі даць ім яе праект, каб абмеркаваць яго на сейміках у Княстве, а затым на новым супольным сейме завяршыць справу уніі. Дарэчы, у гэтай прамове Ян Хадкевіч падкрэсліў асноўную прычыну, што штурхала літвінаў да аб'яднання з Польшчай, і галоўную небяспеку, якую яны бачылі ў уніі. Жамойцкі староста адзначыў, што палякі, забраўшы Падляшша і Валынь: "... астатак Літвы ў пашчу ворага пакідаюць, які ... выкарыстоўвае нягоды, каб прылеглыя да яго землі нашыя сваім тыранствам паглынуць. Вораг... прасуне далей свае межы... Народ літоўскі ад уніі ніколі не бегаў, аднак такой жадае, якая б годнасці і славе ВКЛ не была супярэчна і народа нашага з зямлі не выкараніла"[2].

Аднак Жыгімонт Аўгуст не пагадзіўся з ідэяй склікання новага сейма. Верагодна, гаспадар апасаўся, што паны-рада ВКЛ у чарговы раз імкнуцца любым чынам зацягнуць і адкласці заключэнне уніі. Ён прызначыў у ВКЛ павятовыя сеймікі на 10 мая, а 30 мая прадстаўнікі Княства мусілі прыехаць у Люблін. У сеймавых лістах да паноў-рады кароль і вялікі князь адназначна вызначыў, што сеймікі павінны надаць сваім дэпутатам неабмежаваныя паўнамоцтвы "ку сконъченью тое справы унии, такъже и для обмышлеванья около обороны оного панства н(а)шого Великого Князства Литовъского".

У больш жорсткім тоне вытрымана інструкцыя гаспадарскім паслам на павятовыя сеймікі. У ёй Жыгімонт Аўгуст здзіўляўся, што "сами добровольне просите о зуниеванье для вальки потужное и о соимы спольные для того, а кгды на съеим пословъ выправуете, замероную имъ моц даете и на становеня унеи новыи обычаи, не толко старых листовъ не держыте, але теж и певных намов на соимехъ, около унеи вчыненихъ, отступаете". На яго думку, падобнымі паводзінамі літвіны толькі памнажалі недавер

[1] *Kempa T.* Mikołaj Krzysztof Radziwiłł "Sierotka" (1549–1616) wojewoda wileński. S. 51; Lietuvos Metrika = Lithuanian Metrica = Литовская Метрика. Kn. 51: 1566–1574. Vilnius, 2000. P. 241–242; *Lulewicz H.* Gniewów o unię ciąg dalszy... S. 28–29.

[2] Дневник Люблинского сейма 1569 года: Соединение Великого Княжества Литовского с Королевством Польским. С. 258–265.

паміж Княствам і Каронай і спрыялі ворагам. Нагадваў гаспадар і пра карысць аб'яднання для паспяховага вядзення вайны. Абяцаў, што будзе "пострегати ..., ижбы в ровности тые панства захованы были а одно над другое ся не вывышало"[1]. Выказваючы незадавальненне паводзінамі ліцвінаў, Жыгімонт Аўгуст спрабаваў уплываць на павятовую шляхту ВКЛ, каб тая заняла адрозную ад магнатэрыі пазіцыю і абрала прыхільных да уніі паслоў.

Тым часам у Любліне чакалі прысягі ад валынян, якія ў адрозненне ад прадстаўнікоў Падляшша імкнуліся гэтай працэдуры пазбегнуць ці як мінімум адцягнуць яе. Магутныя магнацкія фаміліі Астрожскіх, Збаражскіх, Вішнявецкіх, Чартарыйскіх займалі пазіцыю чакання. Неабходна адзначыць, што і некаторыя сенатары Падляшша былі супраць інкарпарацыі ў склад Польшчы: 2 мая падляшскі ваявода Васіль Тышкевіч і падляшскі кашталян Рыгор Трызна былі нават пазбаўлены сваіх пасад за адмову прынесці прысягу, сын трокскага ваяводы Пётр Збаражскі прысягнуў толькі 21 мая[2]. 4 красавіка ў Люблін прыйшлі лісты ад валынян (біскупа луцкага В. Вірбіцкага, ваяводаў валынскага Аляксандра Чартарыйскага і кіеўскага Канстанціна Астрожскага; пазней падобны ліст прыйшоў і ад кіеўскага кашталяна Паўла Сапегі), якія тлумачылі сваю адсутнасць на сейме або хваробамі, або нязвыклымі пячаткамі, прыкладзенымі да грамат, якімі іх заклікалі вярнуцца[3]. Такія ж лісты прыйшлі ў Люблін і 16 мая.

Толькі пасля паўторнага патрабавання Жыгімонта Аўгуста з'явіцца на сейм і пагрозы канфіскацыі пасад і ўладанняў паслы і сенатары Валыні прыехалі ў Люблін. Працэс прынясення прысягі цягнуўся са спрэчкамі ад 23 мая да 1 чэрвеня. Найбольш цвёрдую пазіцыю заняла арыстакратыя: Раман Сангушка, князь Канстанцін Вішнявецкі, К. Астрожскі, А. Чартарыйскі і староста луцкі, вінніцкі і брацлаўскі Богуш Карэцкі спачатку адмаўляліся прыносіць прысягу Кароне, грунтуючыся на тым, што ўжо прысягалі вялікаму князю літоўскаму. Аднак пад пагрозай страты маёнткаў і пасад былі вымушаны саступіць. 26 мая прысягнулі Астафей Валовіч і Стэфан Збаражскі, але толькі як уладальнікі маёнткаў на Валыні і Падляшшы, а не як урадоўцы Княства[4].

Адчуўшы слабасць ВКЛ, польскі бок пайшоў яшчэ далей. Пачалі гучаць галасы, што да Валыні таксама належаць Кіеў, Берасце, Пінск, Кобрын, а значыць і іх трэба інкарпараваць у склад Каралеўства, таксама з'явілася ідэя аддаць Прусіі Жамойць, калі ліцвіны не пойдуць на заключэнне уніі. 28 мая маршалак пасольскай ізбы Станіслаў Чарнкоўскі заявіў, што Кіеў і ўся Кіеўская зямля належаць Каралеўству, а 5 чэрвеня Жыгімонт Аўгуст далучыў Кіеўшчыну да Польшчы[5]. Магчымасці для

---

[1] Lietuvos Metrika = Lithuanian Metrica = Литовская Метрика / Liet. istorijos inst. Kn. 532: 1569–1571. Vilnius, 2001. P. 30–37.

[2] АСД. Т. 7 (1433–1791). С. 35; Дневник Люблинского сейма 1569 года: Соединение Великого Княжества Литовского с Королевством Польским. С. 334–335, 375.

[3] Дневник Люблинского сейма 1569 года: Соединение Великого Княжества Литовского с Королевством Польским. С. 252–253, 329.

[4] АСД. Т. 7 (1433–1791). С. 37–39; Дневник Люблинского сейма 1569 года: Соединение Великого Княжества Литовского с Королевством Польским. С. 375–387, 396–400.

[5] Дневник Люблинского сейма 1569 года: Соединение Великого Княжества Литовского с Королевством Польским. С. 405; Akta unii Polski z Litwą 1385–1791 / Wyd. S. Kutrzeba i W. Semkowicz. S. 308–319; Volumina Legum. T. 2. S. 84–87.

палітычнага манеўру прадстаўнікі Княства фактычна не мелі. Пасля далучэння да Кароны Падляшша, Усходняга Падолля, Валыні і Кіеўшчыны тэрыторыя ВКЛ скарацілася амаль да сучасных зямель Літвы і Беларусі, значная частка якіх была акупавана маскоўскім войскам. Апынуўшыся ў такім крытычным становішчы, літвіны былі вымушаны пайсці на ўступкі.

Першыя радныя паны ВКЛ прыбылі ў Люблін ужо 4 чэрвеня. Дэлегацыя Княства была прадстаўлена 25 раднымі панамі. З першых асоб дзяржавы на сейме не з'явіліся толькі віленскі біскуп В. Пратасевіч (па стане здароўя) і віленскі ваявода М. Радзівіл Руды. Прыехалі амаль усе ваяводы і кашталяны ВКЛ, за выключэннем полацкіх, віцебскіх і мсціслаўскіх. Адсутнасць ваяводаў і кашталянаў з гэтых зямель на сейме ў Любліне можна растлумачыць хутчэй за ўсё патрэбай пільнаваць паўночна-ўсходнія межы ВКЛ ад нападу маскоўскіх войск. Прыбылі на сейм амаль у поўным складзе земскія паслы ВКЛ, акрамя паслоў Полацкага ваяводства, затое былі прадстаўнікі Смаленскага ваяводства[1].

У той жа дзень, 4 чэрвеня, адбылася сустрэча літвінаў з Жыгімонтам Аўгустам. З прамовай звярнуўся Ян Хадкевіч і закрануў спрэчныя пытанні, якія планавалася вырашыць непасрэдна з гаспадаром, без удзелу палякаў. Да гэтых пытанняў належалі ўмовы уніі, вяртанне адарваных зямель. Аднак Жыгімонт Аўгуст адклаў усё да сумеснага пасяджэння з польскімі сенатарамі і земскімі пасламі[2]. 7 чэрвеня дэлегацыя Княства прыступіла да абмеркавання ўмоў аб'яднання. У час працы Люблінскага сейма перамовы з боку ВКЛ вёў Ян Хадкевіч. Літвіны згаджаліся заключыць унію на аснове прывілея Аляксандра 1501 г. (Мельніцкая унія) і прапанавалі свой праект уніі: захаванне тытула вялікага князя літоўскага, пячатак Каралеўства і Княства, уладар дзяржавы павінен прысягаць як ВКЛ, так і Каралеўству Польскаму; у абедзвюх дзяржавах павінны захоўвацца ганаровыя і службовыя пасады; супольныя сеймы праводзяцца ў кожнай з краін пачаргова[3]. Акрамя таго, літвіны імкнуліся аспрэчыць правамоцнасць прывілея Жыгімонта Аўгуста ад 24 сакавіка 1569 г., бо той быў прыняты без удзелу дэлегатаў ад ВКЛ і без іх згоды. Але польскі бок ужо мог дыктаваць свае ўмовы і не асабліва прыслухоўваўся да аргументаў з боку Княства[4].

Пасля напружаных спрэчак 27 чэрвеня Ян Хадкевіч ад імя паноў-рады і паслоў ВКЛ згадзіўся на унію, але ўнёс прапанову захаваць для ўнутраных спраў краіны пячатку Княства, пакінуць Інфлянты ў валоданні ВКЛ і не ўзгадваць кантумацыйны прывілей, г.зн. запіс аб тым, што літвіны прыехалі на сейм па загадзе Жыгімонта Аўгуста. Напэўна, агульны настрой дэлегацыі ВКЛ перадаў Я. Хадкевіч у наступных сваіх словах: "Нам і нашым унукам будзе вельмі крыўдна, калі на гэтую справу з часам прыйдзецца глядзець не з любоўю, а са смуткам, ці калі б нас вінавацілі, што мы такога заняволення свайго не бачылі..."[5]

[1] Akta unii Polski z Litwą 1385–1791 / Wyd. S. Kutrzeba i W. Semkowicz. S. 355–356.
[2] АСД. Т. 7 (1433–1791). С. 40.
[3] Дневник Люблинского сейма 1569 года: Соединение Великого Княжества Литовского с Королевством Польским. С. 411–412.
[4] АСД. Т. 7 (1433–1791). С. 43–47.
[5] Дневник Люблинского сейма 1569 года: Соединение Великого Княжества Литовского с Королевством Польским. С. 467–471.



Люблінскі сейм 1569 г.

**Утварэнне Рэчы Паспалітай.** Прысягай сенатараў і паслоў Каралеўства Польскага і ВКЛ 1 ліпеня 1569 г. быў зацверджаны акт дзяржаўнай уніі паміж краінамі і ўтворана Рэч Паспалітая (РП)[1]. У цэлым, умовы саюзу адпавядалі тым, што былі вызначаны ў прывілеі Жыгімонта Аўгуста 24 сакавіка 1569 г. Згодна з прывілеем аб уніі ад 1 ліпеня, адзіны кароль польскі і вялікі князь літоўскі абіраўся супольна Княствам і Каралеўствам. Асобнае выбранне (элекцыя) і ўзвядзенне на пасад вялікага князя было ліквідавана, і нават "... каб ніякага падабенства на гэта не было". Месцам абрання вызначылі Польшчу, а каранацыі – Кракаў. Адсутнасць прадстаўнікоў якога-небудзь суб'екта дзяржавы не было перашкодай для выбараў, галоўнае – каб усе бакі былі запрошаны на элекцыю. ВКЛ захоўвала тытул і ўсе свае ўрады ў непарушнасці. Пры каранацыі новы ўладар павінен быў прысягнуць і зацвердзіць "... на адзіным лісце і ў аднолькавых словах, на вечныя часы, правы, прывілеі і вольнасці падданых усіх, абодвух народаў і дзяржаў злучаных". Вышэйшым прадстаўнічым органам дзяржавы стаў супольны вальны сейм. Скліканне асобных сеймаў як у ВКЛ, так і ў Каралеўстве Польскім забаранялася. Замест іх павінны былі збірацца толькі агульныя сеймы ў Польшчы, дзе каралю і сенатарам Кароны і Княства здавалася б найбольш зручным. Гарантавалася, што крэпасці і землі, занятыя ворагам, будуць вернуты былым уладальнікам. Заключэнне міжнародных дамоў і адпраўка замежных пасольстваў мелі адбывацца толькі "...з ведама і згоды абодвух народаў", а перамір'і ці пагадненні, шкодныя любому суб'екту Рэчы Паспалітай, скасоўваліся. Манета ў ВКЛ і Каралеўстве Польскім павінна была быць аднолькавай вагі, формы, пробы і з аднолькавым надпісам; палякі ў Княстве, а літвіны ў Кароне маглі атрымліваць уладанні ўсялякім чынам; экзекуцыя ўладанняў каралеўскага стала на ВКЛ не распаўсюджвалася, а іх раздача ў Княстве з гэтага часу спынялася.

Такім чынам, як сцвярджаў прывілей, Каралеўства Польскае і Вялікае Княства Літоўскае з'яўляліся адзіным, непадзельным целам, а таксама адной супольнай Рэч Паспалітай, у якой дзве дзяржавы і два народы аб'ядноўваліся ў адзін народ і адну дзяржаву[2].

---

[1] Дневник Люблинского сейма 1569 года: Соединение Великого Княжества Литовского с Королевством Польским. С. 485–490.
[2] Volumina Legum. T. 2. S. 89–91.

Аднак на гэтым Люблінскі сейм не скончыўся. 2 ліпеня адбылося сумеснае пасяджэнне сенатараў ВКЛ і Каралеўства Польскага. Гэты дзень можна лічыць пачаткам першага вальнага сейма Рэчы Паспалітай. На сейме трэба было разгледзець пытанні, якія не ўвайшлі ў прывілей на унію і былі адкладзены да супольных нарад. Такімі пытаннямі былі: арганізацыя абароны ВКЛ (паспалітым рушэннем ці наёмным войскам), чаканка новай аднолькавай манеты ў РП, прысяга прадстаўнікоў Інфлянтаў (зараз ці на наступным сейме), адпраўка пасольства да вялікага князя маскоўскага Івана IV, захаванне кампетэнцыі ўрадаў ВКЛ, вызначэнне месца склікання супольных сеймаў, спосабу і месца абрання караля, забеспячэнне нашчадкаў Жыгімонта Аўгуста, месца княскіх родаў ВКЛ у сенаце РП (гаворка ішла пра захаванне за князем слуцкім Юрыем Алелькавічам дзедзічнага месца ў сенаце адразу пасля віленскага біскупа)[1].

Праўда, аўтаматычнага аб'яднання сенатараў і паслоў Польшчы ды ВКЛ у агульныя сенат і пасольскую ізбу дасягнуць не ўдалося. Падчас сейма дэлегацыя ВКЛ захоўвала пэўную адмежаванасць ад польскага боку. Так, ёсць звесткі пра асобныя петыцыі і артыкулы, якія 17 і 30 ліпеня, 2 жніўня падавалі літвіны каралю і вялікаму князю, сенату і пасольскай ізбе, пра асобную камісію, складзеную толькі з паслоў Княства для рэдагавання спрэчных сеймавых канстытуцый, а таксама пра асобную нараду земскіх паслоў ВКЛ (2 жніўня)[2]. На нашу думку, гэта было абумоўлена розніцай сацыяльна-палітычных інтарэсаў і праблем, якія стаялі перад Каронай і Княствам.

Першачарговую ўвагу літвіны скіравалі на вырашэнне пытання аб кампетэнцыі ўрадаў Княства. Найперш мелася на ўвазе ўрэгуляванне паўнамоцтваў земскага маршалка ВКЛ Яна Хадкевіча і маршалка вялікага Каралеўства Польскага Яна Фірлея. 4 ліпеня паслы Віленскага ваяводства заявілі, што нічога абмяркоўваць не будуць, пакуль не вырашыцца гэты канфлікт, спрэчкі па пытаннях кампетэнцыі ўрадаў маршалкаў адбываліся і ў сенаце. Калі польскія паслы 16 ліпеня вырашылі прыступіць да абмеркавання захадаў па абароне ВКЛ, земскія паслы Княства зноў заявілі, што ні ў якіх нарадах браць удзел не будуць, пакуль не вырашыцца спрэчка вакол урадаў маршалкаў. 17 ліпеня на сумесным пасяджэнні сената і пасольскай ізбы, пры ўдзеле Жыгімонта Аўгуста, гаспадарскі маршалак Мальхер Сноўскі ад імя ўсіх паслоў ВКЛ яшчэ раз пацвердзіў пазіцыю літвінаў[3]. Такая настойлівасць сенатараў і паслоў Княства прымусіла Жыгімонта Аўгуста 19 ліпеня выдаць пастанову, якая часова рэгулявала кампетэнцыю земскіх і дворных маршалкаў Каралеўства і Княства. На пасяджэннях сената вялікі маршалак Каралеўства Польскага даваў галасы польскім сенатарам, маршалак земскі ВКЛ – літвінам. На сеймах у Польшчы ўлада належала маршалку Кароны, калі сейм адбываўся б у ВКЛ, то ўсе прэрагатывы меў бы маршалак Княства. Судовая ўлада польскага маршалка не распаўсюджвалася на літвінаў, іх судзіць мог толькі літвін. Змешаныя справы павінны былі

---

[1] Дневник Люблинского сейма 1569 года: Соединение Великого Княжества Литовского с Королевством Польским. С. 491–492.
[2] Там жа. С. 569, 589, 600, 602.
[3] Там жа. С. 502, 524, 526, 561, 569–570.

разглядаць абодва маршалкі. Разам яны мелі і прымаць замежныя пасольствы. Земскаму маршалку ВКЛ надавалася частка горада, у якой ён павінен быў раздаваць гасподы сенатарам і паслам Княства. Канчатковае ўрэгуляванне кампетэнцый маршалкоўскіх урадаў было адкладзена да наступнага сейма[1]. Падобным чынам былі ўрэгуляваны паўнамоцтвы іншых дворных ураднікаў ВКЛ і Каралеўства Польскага[2].

Наступнай задачай, якую павінен быў вырашыць сейм, стала вызначэнне захадаў па абароне ВКЛ. Сенатары Княства выказаліся за наём войска, вядзенне наступальнай вайны і выступілі супраць склікання паспалітага рушэння, якое прынесла б дзяржаве болей страт, чым карысці. Для найму жаўнераў неабходны былі фінансавыя сродкі, г.зн. новыя падаткі, асноўны цяжар якіх лёг бы на сярэднюю і дробную шляхту. Верагодна таму земскія паслы ВКЛ, перад тым як падаваць свае меркаванні наконт абароны, прасілі караля ліквідаваць у Княстве цяжкія, ухваленыя раней пaборы, адмовіліся ад пастаяннага (наёмнага) войска і выказаліся за супольнае з палякамі паспалітае рушэнне. У выніку спрэчак, паслы падтрымалі намеры Жыгімонта Аўгуста весці ў будучым вайну і ўсё ж згадзіліся на падатак. Пачынаючы з 3 жніўня ў пасольскай ізбе пачалі ўзгадняць умовы пабору на абарону. Да 11 жніўня падатковы універсал быў канчаткова ўзгоднены паміж Жыгімонтам Аўгустам, сенатарамі і пасламі[3]. Таксама было вырашана накіраваць у Маскоўскую дзяржаву вялікае пасольства Рэчы Паспалітай. З гэтай інфармацыяй з сейма ў Маскву накіраваўся ганец Андрэй Халецкі[4].

На працягу сейма літвіны неаднаразова ўздымалі пытанне аб статусе Інфлянтаў у складзе Рэчы Паспалітай. Прадстаўнікі ВКЛ яшчэ 1 ліпеня дамагаліся, каб паслы ад гэтай правінцыі прысягалі разам з імі. За далучэнне Інфлянтаў да Княства выступаў Ян Хадкевіч – інфлянцкі адміністратар і гетман. Аднак палякі выказалі свае прэтэнзіі на Інфлянты, і прынясенне прысягі было перанесена надалей. 1 жніўня земскія паслы ВКЛ прадставілі ў ізбе свае артыкулы, якія не паспелі падаць на абмеркаванне сената і караля раней. У першым артыкуле літвіны прапаноўвалі далучыць Інфлянты да Княства. Зноў польскі бок выступіў адназначна супраць, і артыкулы адправілі на дапрацоўку[5].

11 жніўня было выдадзена пацвярджэнне уніі паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім. Другі артыкул гэтага прывілея на вечныя часы зацвярджаў далучэнне да Кароны зямель Валыні, Кіеўшчыны, Падолля і Падляшша[6]. Варшава станавілася месцам правядзення вальных сеймаў РП, быў таксама вызначаны парадак месц у сенаце. У выніку па-за сенатам аказаліся князь слуцкі, падскарбі дворны, шэраг дворных ураднікаў (напрыклад, падчашы, крайчы, стольнік), гаспадарскія маршалкі. Як спробу ўвесці ў межы сената РП прадстаўнікоў арыстакратычных родаў,

[1] Zbiór pamiętników do dziejów polskich. T. 2. S. 17–18.
[2] Документы Московского архива Министерства юстиции (далей – ДМАМЮ). М., 1897. Т. 1. С. 498.
[3] Дневник Люблинского сейма 1569 года: Соединение Великого Княжества Литовского с Королевством Польским. С. 496–499, 585–586, 600–601, 621–622, 630.
[4] АСД. Т. 7 (1433–1791). С. 48.
[5] Дневник Люблинского сейма 1569 года: Соединение Великого Княжества Литовского с Королевством Польским. С. 487, 499, 598–599.
[6] Volumina Legum. T. 2. S. 92–93.

якія раней уваходзілі ў склад паноў-рады ВКЛ, можна разглядаць просьбу літвінаў аб утварэнні новых ваяводстваў: Гарадзенскага і Ковенскага. Аднак Жыгімонт Аўгуст адхіліў гэтую прапанову[1]. Пэўнай кампенсацыяй можна лічыць утварэнне пасадаў смаленскіх ваяводы і кашталяна, нягледзячы на тое, што Смаленскае ваяводства яшчэ з пачатку XVI ст. знаходзілася ў складзе Маскоўскай дзяржавы[2].

12 жніўня Жыгімонт Аўгуст выдаў дакумент з адказам на просьбы, звернутыя да яго на сейме прадстаўнікамі ВКЛ. Просьбы гэтыя датычылі як агульнадзяржаўных спраў, так і мясцовых праблем шляхты[3]. На просьбу вярнуць Княству Валынь і Падляшша кароль і вялікі князь адказаў, што "вжо не есть потреба того вспоминати". Гарантаваў Жыгімонт Аўгуст літвінам, што манета ВКЛ, "которая до того часу бита, знижона и ничимъ зменшена" не будзе. Адсутнасць афіцыйнай пастановы аб курсе грошай прыводзіла да таго, што большая па вартасці манета ВКЛ бралася па аднолькавым курсе з польскай манетай. А гэта прыводзіла да значных фінансавых страт для літвінаў.

Паслы развіталіся з Жыгімонтам Аўгустам 12 жніўня, і сейм афіцыйна завяршыў працу[4]. Інфлянты пераходзілі ў агульнае падпарадкаванне Княству і Каралеўству, дакладнае вызначэнне статуса правінцыі адкладвалася да наступнага сейма. Была прынята канстытуцыя аб удакладненні Статута ВКЛ 1566 г. Паводле яе неабходна было вялікакняскае права прывесці ў адпаведнасць з польскім, а праект удакладненняў камісія мелася прадставіць на будучым вальным сейме. Шэраг важных пытанняў застаўся нявырашаным. На наступны сейм быў перанесены разгляд фінансавага забеспячэння нашчадкаў Жыгімонта Аўгуста, механізму існавання краіны ў бескаралеўе, спосабу і месца элекцыі, заснавання пастаяннага дзяржаўнага скарбу, судовай рэформы[5].

Асноўнай прычынай, якая штурхала палітычны народ ВКЛ да уніі з Польшчай, была небяспека знешняй агрэсіі, перш за ўсё з боку Маскоўскай дзяржавы. Ужо хрэстаматыйнымі сталі словы М. Радзівіла Рудога, сказаныя ім 25 студзеня 1569 г. на сейме ў Любліне: "... на нашых храбтах быў вораг, калі мы ехалі сюды, прагнучы пастанавіць з вамі унію..., мы пачалі імкнуцца да яе амаль бегам, тады як продкі нашыя ішлі да яе вельмі ціха..."[6]. Усе станы ВКЛ, і магнатэрыя, і шляхецтва, былі зацікаўлены ў саюзе з Польшчай. Яны бачылі ў ім сродак выйсця з таго цяжкага становішча, у якім апынулася Княства з-за Інфлянцкай вайны. Трэба таксама памятаць, што эліты ВКЛ і Каралеўства Польскага ўжо амаль два стагоддзі былі шчыльна звязаны паміж сабой культурна, генеалагічна, эканамічна, а з 1564–1566 гг. дзве краіны сталі падобнымі і адносна дзяржаўнага ладу. Польшча была натуральным і бліжэйшым са-

[1] ДМАМЮ. Т. 1. С. 500.
[2] Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: Spisy. T. 4: Ziemia smoleńska i województwo smoleńskie XIV–XVIII wiek. Warszawa, 2003. S. 86, 214. Цікава, што смаленскім ваяводам стаў Васіль Тышкевіч, а кашталянам — Рыгор Трызна, г.зн. тыя, хто быў пазбаўлены пасадаў падляшскіх ваяводы і кашталяна.
[3] ДМАМЮ. Т. 1. С. 497–502.
[4] Дневник Люблинского сейма 1569 года: Соединение Великого Княжества Литовского с Королевством Польским. С. 630–636.
[5] Там жа. С. 631; Volumina Legum. T. 2. S. 94, 100–101.
[6] Дневник Люблинского сейма 1569 года: Соединение Великого Княжества Литовского с Королевством Польским. С. 19–21.

юзнікам. Прыхільнікам уніі быў і Жыгімонт Аўгуст. Аналіз "літоўскіх" праектаў уніі сведчыць, што ВКЛ хацела бачыць у будучай Рэчы Паспалітай саюз раўнапраўных дзяржаў, злучаных адзіным манархам і агульнай знешняй палітыкай, пры безумоўным захаванні ўнутранай самастойнасці. Непрымальнай была для літвінаў польская ідэя інкарпарацыі ВКЛ у склад Кароны (за выключэннем Падляшша – значна спаланізаванага рэгіёна). Няма падстаў сцвярджаць, што шляхта ВКЛ свядома імкнулася да уніі з мэтай атрымаць польскія правы і вольнасці. Самастойнага палітычнага руху сярэдняй і дробнай шляхты ВКЛ не было; яна займала, як правіла, пасіўную пазіцыю і ішла ў рэчышчы палітыкі магнатэрыі.



Габелен, выраблены ў гонар Люблінскай уніі 1569 г.

Апынуўшыся ў крытычным становішчы, палітычная эліта ВКЛ была вымушана пайсці на падпісанне 1 ліпеня 1569 г. акта дзяржаўнай уніі з Польшчай. У Рэчы Паспалітай агульнымі былі кароль, сейм, сенат, знешняя палітыка і фінансы, аднак Княства захавала свае пасады, скарб, канцылярыю, войска, тытул, судовую і прававую сістэмы, тэрытарыяльную адасобленасць, а таксама сваю дзяржаўную (старабеларускую) мову. Шэраг пытанняў акт Люблінскай уніі так і не вырашыў. Не была канчаткова размежавана кампетэнцыя маршалкаў, не ўсталяваны курс грошай ВКЛ і Каралеўства Польскага, адпаведны іх рэальнай вартасці. Актуальным заставалася забеспячэнне абароны краіны ад магчымай агрэсіі з боку Маскоўскай дзяржавы. На Люблінскім сейме 1569 г. збольшага была вызначана структура агульных інстытутаў улады Рэчы Паспалітай, аднак усталяванне механізму існавання дзяржавы падчас бескаралеўя і парадку будучай элекцыі так і не адбылося.

**Дзяржаўна-палітычныя вынікі уніі. Карэкціроўка люблінскага акта.** Першае ўражанне ў Княстве ад вынікаў уніі было шокавым, прычым як для магнатаў, так і для шляхты, якая ў свой час дамагалася злучэння з Польшчай. Вышэйшай знаці Люблінская унія пагражала поўнай стратай былога палітычнага вяршэнства ў ВКЛ. Сейм, дзе магнацтва праводзіла свае рашэнні, юрыдычна перастаў існаваць. У агульны ж сенат Рэчы Паспалітай шмат былых радных проста не трапілі. Ды і тыя нешматлікія галасы сенатараў з Княства заглушаліся больш шматлюдным польскім прадстаўніцтвам у сенаце Рэчы Паспалітай. Тое ж самае адбывалася і ў сейме, дзе са 180 абраных на сейміках па ўсёй Рэчы Паспалітай паслоў толькі 46 прыходзіліся на ВКЛ (з іх 34 – з беларускіх паветаў)[1].

Палітычная дыскрымінацыя дапаўнялася эканамічнай. Дазвол польскай шляхце атрымліваць зямельныя ўладанні ў межах Княства стварыў небяспечнага канкурэнта для мясцовай знаці.

[1] Historia Sejmu polskiego. T. 1. S. 174; *Kosman M.* Historia Białorusi. S. 127–128.

Большая частка пануючага класа ВКЛ у апошняй трэці XVI ст. праяўляла незалежніцкія, антыпольскія настроі. Вялікакняскія палітыкі імкнуліся вывесці дзяржаву з таго тупіка, у якім яна апынулася ў выніку Люблінскай уніі. Дзяржаўнымі дзеячамі ВКЛ, сеймікавымі дэпутатамі не аднойчы выказвалася польскім "братам" патрабаванне аб вяртанні паўднёвых зямель як да заключэння уніі, так і ў паслялюблінскі перыяд. Згадаем фразу канцлера Астафія Валовіча, што прагучала 10 сакавіка 1569 г.: "...здавна ку Великому князству Литовскому належало, и кгдыж земли Подлешское и Волынское иначей не розумно ли разумель не могу лодно же Великое князство Литовское належить и присягою его королевской милости и подданых оного панства утверждаю, то есть Великому князству, а не Короне...»

Лагічным працягам такой пазіцыі была інструкцыя паслам ад Віленскага ваяводства на каранацыйны сейм 8 мая 1573 г., якая ўтрымлівала наказ "о земли Киевскую, Волынскую, Подляшскую и Браславскую от сполку стародавного Великого княства Литовского, не через застоновенье унии отлучоных, абы тые земли зася да ВКЛ по давному обычаю были прывернены. И мають Панове послове обывателей оных земель, на том сойме будучых, яко братьи наше милое и ласкавое про збою ужывати, иж бы на давную повинность, и кревность нашу сполную помнечи, до одного сполку з нами знесли»[1]. Тлумачылася гэтае патрабаванне найперш патрэбай абароны ад усходніх і паўднёвых суседзяў, аднак яно не было выканана ўладамі Рэчы Паспалітай. Украінскія землі з 1569 г. лічыліся часткай Каралеўства Польскага.

Эпоха бескаралеўя, якая наступіла пасля смерці Жыгімонта II Аўгуста (1572), у большай ступені падкрэслівала розніцу паміж дзвюма дзяржавамі. Вялікакняская шляхта карысталася любым выпадкам для таго, каб паказаць палякам адасобленасць інтарэсаў Княства. Ва ўсіх учынках палякаў яны бачылі каварства, імкненне парушыць іх правы. Мікалай Радзівіл Сіротка быў упэўнены ў тым, што нельга давяраць ніводнаму паляку, таму што самыя надзейныя з іх становяцца здраднікамі. На з'ездзе ў Ломжы прама гаварылася пра гэта: "...Польшча нічога не робіць з намі чыстасардэчна і па-брацку, а ўсё загадвае, як сваім прыгонным".



Меч, зламаны над труной Жыгімонта Аўгуста ў знак згасання дынастыі Ягелонаў

Са свайго боку палякі таксама абвінавачвалі літвінаў у каварстве. Найбольшага напружання супрацьстаянне паміж кіруючымі коламі дзвюх частак Рэчы Паспалітай дасягнула падчас выбарчай кампаніі. Паны-рада ў сваёй адозве ад 8 студзеня 1587 г. да вялікакняскай шляхты аб скліканні сеймікаў для выбараў на вальны сейм у Варшаве абураліся, што нават дату склікання элекцыйнага (выбарчага) сейма вызначылі "без ведомості нашае, не поразумевшысе з намі...".

[1] Цыт. па: *Лойка П.А.* Шляхта беларускіх зямель у грамадска-палітычным жыцці Рэчы Паспалітай другой паловы XVI – першай трэці XVII ст. С. 41.

Прынцыповым пунктам вялікакняскай шляхты ў адносінах з польскай "братею" ў часы безуладдзя з'явілася тое, каб "народ литовский ровную моц и владзу во всём мел з народам польским»[1]. Менавіта гэтыя патрабаванні шляхты да толькі што абранага караля Рэчы Паспалітай Генрыха Валуа знайшлі адлюстраванне ў інструкцыі паслам на каранацыйны сейм 1573 г. ад Віленскага ваяводства.

У супрацьвагу Люблінскай пастанове пра абавязковасць правядзеня соймавых пасяджэнняў толькі на польскай тэрыторыі вялікакняская шляхта настойліва патрабавала збіраць вальныя сеймы "по перемену: раз в Полще, у Варшаве, а другий – в Литве, у Вильни, в Берестю, або в Городке». Сваё патрабаванне яна матывавала значнымі фінансавымі расходамі. Аднак намаганні яе далі плён толькі ў 1673 г., калі сейм прыняў пастанову, паводле якой кожны трэці вальны сейм павінен быў збірацца ў "Вялікім княстве Літоўскім у горадзе Гародні", а маршалкам абірацца адзін з мясцовых дэпутатаў[2].

Узаемаабінавачанні тычыліся таксама валютнага і мытнага саюзаў. Валютная сітуацыя вымушала шляхту ВКЛ адстойваць бесперапынную дзейнасць свайго манетнага двара і патрабаваць, каб абавязкова вытрымліваліся валютныя курсы польскага і літоўскага гроша (апошні быў даражэй).

Дастаткова было да Каралеўства Польскага фінансавых і матэрыяльных прэтэнзій. На шляхецкіх сейміках яны паўставалі перыядычна, асабліва ў часы бескаралеўя.

Пасля ўцёкаў Генрыха Валуа ў Францыю вялікакняская шляхта практычна ўхілілася ад выбіраня каралём Стэфана Баторыя. Літоўскае пасольства ўпершыню з'явілася да яго ў Варшаву ўжо пасля каранацыі і прызнала Стэфана Баторыя гаспадаром. Дзесяцігоддзе (1576–1586) каралявання Стэфана Баторыя было адзначана актыўнымі баявымі дзеяннямі ў Інфлянцкай вайне, у якой актыўны ўдзел прымала шляхта беларускіх зямель. Стэфан Баторый добра зарыентаваўся ў гэтых абставінах і ацаніў памкненні шляхты. Менавіта ў гэты час былі зроблены значныя ўступкі літвінскаму боку ў дзяржаўна-прававой самастойнасці ВКЛ. Самым значным здабыткам з'явілася стварэнне асобага Галоўнага трыбунала ВКЛ (1581).

Непасрэднай зачэпкай для ініцыявання вялікакняскай шляхтай пытання арганізацыі вышэйшага апеляцыйнага суда ВКЛ было зацвярджэнне пастановай вальнага сейма 1578 г. у Варшаве дзейнасці Кароннага трыбунала. У адказ літвінскі бок вынес пытанне аб утварэнні Трыбунала ВКЛ на разгляд вальнага сейма 1579 г. і непасрэдна звярнуўся да Стэфана Баторыя аб тэрміновым вырашэнні праблемы. Кароль з увагай падышоў да запытаў і ў сваім лісце ад 29 красавіка 1580 г. паабяцаў як найхутчэй задаволіць іх. 9 сакавіка 1581 г. ён падпісаў грамату аб усталяванні Галоўнага трыбунала ВКЛ, у якім найважнейшую ролю адыгрывалі прадстаўнікі шырокага кола шляхецкага саслоўя: "...судей обранье быти мает ...кого сами похочуть, быле бы человека годного, не бракуючи особами»[3]. Дзейнасць абраных у суд асоб працягвалася адзін год. На наступны тэрмін абранне адбывалася на так званым дэпутацкім сейміку, які збіраўся штогод.

[1] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. 1. Мн., 1994. С. 230.
[2] ГАСА. АР. Аддз. II, N. 242, a. 8.
[3] БЭФ. Мн., 1959. Т. 1. С. 158–159.

Судовая практыка Галоўнага трыбунала ВКЛ заўсёды была ў полі зроку шляхты беларускіх зямель, бо тут разглядаліся канфлікты, нязгоды з рашэннямі паветовай адміністрацыі, апеляцыі па выраках гродскіх, земскіх судоў.

Самым драматычным і працяглым стала трэцяе бескаралеўе, якое зноў агаліла супярэчнасці паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім, а таксама прывяло да ўнутрыпалітычных канфліктаў у Кароне. Пры гэтым была падрыхтавана глеба для чарговых саступак вялікакняскай шляхце. Галоўным было ўвядзенне ў дзеянне падрыхтаванай трэцяй рэдакцыі Статута, які канчаткова ўмацаваў дзяржаўную самастойнасць, адасобленасць ВКЛ у складзе федэратыўнай Рэчы Паспалітай. Зацверджаныя каралём Жыгімонтам III 28 студзеня 1588 г. артыкулы Статута скасоўвалі многія пастановы акта Люблінскай уніі. Найбольш паказальным з'яўлялася тое, што ў Статуце сама унія не ўпамінаецца ўвогуле. Паводле зместу гэтага заканадаўчага помніка ВКЛ з'яўлялася дзяржавай не толькі з асобным заканадаўствам, але і ўласнай тэрыторыяй, апаратам улады, войскам і фінансамі. Згодна з палажэннямі Статута вялікі князь абавязваўся захоўваць дзяржаву – "Слаўнае Вялікае княства". Статут утрымліваў і антыпольскую праграму вяртання тэрыторыі: "...тое, што было непрыяцелямі гэтай дзяржавы адарвана, разабрана і да іншай краіны ад той дзяржавы нашай калісьці прывернута, то ўсё ва ўласнасць гэтага Вялікага княства вярнуць, далучыць і межы направіць абяцаем"[1].



Статут ВКЛ 1588 г.

І, вядома ж, самым яскравым з'явіўся згаданы вышэй артыкул 12 раздзела III Статута – звышпрынцыповы пункт прапановы Люблінскага сейма для палякаў аб набыцці зямельнай уласнасці і дзяржаўных пасад у межах ВКЛ.

Прыняцце Статута 1588 г. – гэта, натуральна, вынік актыўнай шляхецкай пазіцыі ў яго падтрымку. Жорсткая канфрантацыя ў польскім грамадстве пры выбарах караля, літвінскія антыпольскія ініцыятывы прывялі да таго, што шляхта ВКЛ упэўнілася ў сваёй моцы, магчымасці правядзення самастойнай палітыкі, выкарыстання саюзных умоў з Польшчай у сваіх інтарэсах.

Асноўнымі канфліктнымі момантамі ў адносінах ВКЛ з Польшчай доўгі час з'яўляліся тэрытарыяльныя прэтэнзіі і грашовыя ўзаемаразлікі, што тычыліся ў першую чаргу фінансавання войска, знешнепалітычных ваенных і дыпламатычных акцый. Вядома, што як толькі быў падпісаны акт Люблінскай уніі, сейм 12 жніўня 1569 г. зацвердзіў так званы "паборавы універсал", які значна павялічыў падаткі. Праз 20 гадоў яны

[1] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Мн., 1989. Раздз. III, арт. 1, 4.

павялічыліся ў 1,5–2 разы. Англійскі пасол Джордж Кэроў, які наведаў Рэч Паспалітую напрыканцы XVI ст., дакладваў каралеве Елізавеце, што ў фінансавых адносінах "Літва з'яўляецца данніцай Польшчы". З студзеня 1615 г. шляхта Вількамірскага павета скардзілася каралю на тое, што "спаганяюцца велізарныя паборы. Падаткі, якія мы і падданыя нашыя не ў стане ўносіць"[1].

Неаднойчы на сейміках ВКЛ літвінскай шляхце даводзілася адстойваць свае інтарэсы пры разглядзе фінансавых пытанняў – аб аплаце жаўнераў, бюджэтных выдатках і г.д.

Балючым заставалася пытанне аб украінскіх землях ВКЛ. Калі захады па вяртанні гэтых зямель не прынеслі плёну, вялікакняская шляхта ў канцы XVI – першай трэці XVII ст. стала патрабаваць вызначыць канкрэтныя межы паміж ВКЛ і Польшчай, для чаго неабходна было дакладнае размежаванне Берасцейскага ваяводства і Гарадзенскага павета з Падляшшам, Мазырскай зямлі з Кіеўскім паветам.

Памежныя спрэчкі працягваліся дзесяцігоддзямі, яны сталі традыцыйнымі для шляхецкага абмеркавання на павятовых сейміках і генеральных сеймах. Каб аслабіць антыпольскія настроі сярод вялікакняскай шляхты, час ад часу кароль і вальны сейм Рэчы Паспалітай прымалі кампрамісныя рашэнні. Прыкладам таму з'яўляецца Дэўлінскае пагадненне 1618 г., паводле якога Польшчы перадавалася Чарнігаўшчына і Ноўгарад-Северскія землі, да ВКЛ жа далучаліся Смаленшчына і Старадуб. У гэтай сувязі неабходна адзначыць першае дзесяцігоддзе XVI ст., калі з-за Смаленска разгарэўся тэрытарыяльны канфлікт паміж ВКЛ і Польшчай, у якім шляхта ВКЛ адстойвала права на адзінаасобнае валоданне сваімі былымі землямі. Смаленск, які з другой паловы XIV ст. з'яўляўся часткай ВКЛ, на пачатку XVI ст. быў далучаны да Вялікага Княства Маскоўскага. У чэрвені 1611 г. ён быў адваяваны войскам Рэчы Паспалітай, і адразу ўзнікла пытанне аб уладальніку. Нягледзячы на моцны ціск з боку літвінскай шляхты, сейм Рэчы Паспалітай 1611 г. не задаволіў іх патрабаванне валодання Смаленшчынай. Гэта прымусіла канцлера ВКЛ Льва Сапегу выступіць з рэзкім пратэстам. Яго падтрымала шляхта беларускіх зямель. Пратэсты мелі плён, пацвярджаннем гэтаму сталі вышэйзгаданыя ўмовы Дэўлінскага пагаднення 1618 г.[2]

Такім чынам, адносіны паміж двума суб'ектамі Рэчы Паспалітай – ВКЛ і Польшчай пасля Люблінскай уніі складваліся даволі неадназначна. У апошняй трэці XVI ст. шляхта беларускіх зямель успрымала Польшчу як заходнюю суседку, да якой мела шмат прэтэнзій – тэрытарыяльных, памежных, фінансавых. Тым не менш федэратыўная еднасць была "праверана" і вытрымана падчас трох бескаралеўяў 70–80-х гг. XVI ст. Польска-вялікакняскія адносіны будаваліся не столькі на артыкулах акта Люблінскай уніі, колькі на аснове дзяржаўна-заканадаўчых рэалій, якія абаранялі інтарэсы ВКЛ.

Кампраміснае суіснаванне дзвюх дзяржаў пры ўзаемным неўмяшальніцтве ва ўнутраныя справы адна другой гарантавала ім збліжэнне. Першыя дзесяцігоддзі XVII ст. адзначаліся супольнымі ўсходнімі выправа-

[1] Бумаги Флорентийского Центрального архива, касающиеся до России. М., 1871. С. 363.
[2] *Лойка П.А.* Шляхта беларускіх зямель у грамадска-палітычным жыцці Рэчы Паспалітай другой паловы XVI – першай трэці XVII ст. С. 54.

мі, абаронай ад ворагаў, а таксама агульнай патрэбай захавання сваіх правоў і вольнасцей. Усё гэта паспрыяла далейшай інкарпарацыі шляхты ВКЛ у "польскі народ шляхетны". Ужо ў 20-я гг. XVII ст.назіралася аб'яднанне палітычных інтарэсаў шляхецкіх станаў Польшчы і ВКЛ. Паказальнымі з'яўляюцца словы гетмана Януша Радзівіла: "На гэты час у Рэчы Паспалітай нязгод і ўзбунтавання ніякага... няма" і "ніколі ў Польшчы і ў Літве большай згоды не было, як зараз".

## 3. Працяг і завяршэнне Інфлянцкай вайны

**Хісткасць перамір'я 1570–1573 гг.** Дагавор 1570 г. аб трохгадовым перамір'і ні ў Вільні, ні ў Маскве не лічыўся трывалым. У Вялікім Княстве баяліся, што цар у кожны момант можа яго парушыць, а сам Іван IV спяшаўся выкарыстаць перадышку для пошуку саюзнікаў і вайны са шведамі ў Эстоніі. Вясной 1571 г. ён накіраваў пасла ў Стамбул, каб заключыць пагадненне з асманскай Портай. Саюз з Турцыяй гарантаваў бы яму межы з неспакойным Крымскім ханствам, небяспеку ўварванняў якога прадэманстраваў паход Даўлет-Гірэя: разбіўшы пад Тулай апрычнае войска, той спаліў пасады Масквы і вывеў у Крым вялікі палон[1]. У лістападзе 1571 г. Іван IV пачаў паход супраць шведаў з Ноўгарада Вялікага, але праз месяц нечакана спыніў дзеянні і прапанаваў мір пры ўмове, што Швецыя верне яму Рэвель (Талін) і ўсе інфлянцкія землі[2].

Жыгімонт Аўгуст не парушаў перамір'я і нават адмовіўся ад прапановы крымскіх татар у 1572 г. разам з імі ўдарыць па Маскве[3]. Ён спадзяваўся вярнуць Полацк мірным шляхам, у абмен на саступкі ў Інфлянтах. Выглядала, што маскоўскі цар папярэдне пагаджаўся на такі варыянт. Для перагавораў рыхтавалася пасольства ў Маскву, але 21 чэрвеня 1572 г. кароль і вялікі князь памёр, так і не ажыццявіўшы сваіх намераў. У Рэчы Паспалітай пачаўся перыяд першага бескаралеўя (1572–1573), і адносіны з Масквой адразу набылі іншы характар.

Карыстаючыся момантам, пакуль Рэч Паспалітая была занята ўнутранымі клопатамі, Іван IV намагаўся выціснуць шведаў з Прыбалтыкі. У верасні 1572 г. ён прывёў вялікае войска ў Эстонію, і 1 студзеня 1573 г. яго ратнікам удалося захапіць Пайду[4]. З іншага боку, не спыняючы вайны ў Інфлянтах, цар разам з аўстрыйскім эрцгерцагам Эрнестам, шведскім каралём Юханам III і французскім прынцам Генрыхам стаў прэтэндаваць на вакантны каралеўскі пасад.

**Бескаралеўе і праект падзелу Рэчы Паспалітай.** Хоць магнаты ВКЛ былі супраць маскоўскага тырана, кандыдатура цара карысталася пэўнай папулярнасцю ў шляхты, таму зімой і вясной 1573 г. з Іванам IV вяліся перагаворы аб магчымасцях яго абрання. Калі ж выявілася, што пазіцыі цара і прыхільнікаў яго кандыдатуры ў Рэчы Паспалітай узаемавыключальныя, у Івана IV не засталося ніякіх шансаў. Перамога на першай свабоднай элекцыі ў маі 1573 г. Генрыха Валуа, за якім стаяла Пор-

---

[1] *Горсей Дж.* Записки о России. XVI – начало XVII в. М., 1990. С. 56–57; *Скрынников Р.Г.* Царство террора. С. 421–427.
[2] *Зимин А.* Опричнина Ивана Грозного. М., 1964. С. 466–468.
[3] *Cynarski S.* Zygmunt August. Wrocław etc., 1988. S. 187.
[4] *Зимин А.* Опричнина Ивана Грозного. С. 466–468.



Кароль польскі і вялікі князь літоўскі Генрых Валуа

та, зблізіла Маскву з Венай, гатовых любым шляхам перашкодзіць французскаму кандыдату атрымаць польскую карону[1]. Габсбургі прапанавалі цару разам выступіць супраць Рэчы Паспалітай, каб раздзяліць яе: Івану IV дасталося б ВКЛ, а Габсбургам – Польшча. Аднак пасля прыезду Генрыха Валуа ў Рэч Паспалітую ні Вена, ні Масква ўсё ж не пачалі вайны, а ўжо ў чэрвені 1574 г. новаабраны кароль уцёк у Францыю, каб пасля смерці брата пераняць французскую карону.

Падчас другога бескаралеўя (1574–1575) цар Іван IV разам з сынам Фёдарам зноў уключыўся ў выбарчую кампанію ў Рэчы Паспалітай. Каб перашкодзіць абранню сяміградскага князя Стэфана Баторыя, Масква ўзгадняла сваю палітыку з Венай[2]. Імператарскае пасольства на чале з Гансам Кобенцлам схіліла цара да падтрымкі аўстрыйскага эрцгерцага Эрнеста, пасля перамогі якога Іван IV атрымаў бы ВКЛ. У выпадку правалу як маскоўскай, так і венскай кандыдатуры цар збіраўся "с братом своим Максимилияном Цесарем промышляти и войною их кручинити и того себе государства (Рэч Паспалітую. – *Г.С.*) доступати"[3].

Калі ў 1575 г. на Варшаўскім сейме сенатары прагаласавалі за Максіміліяна II, але большасцю шляхты каралём быў абраны Стэфан Баторый, імператар не мог атрымаць польскую карону[4]. Тады маскоўскія паслы прывезлі ў Рэгенсбург праект падзелу Рэчы Паспалітай паміж царом і Габсбургамі[5]. Згодна з ім Масква павінна была завалодаць ВКЛ і Інфлянтамі, а імператар атрымаў бы Польшчу і Прусію. Толькі смерць імператара ў кастрычніку 1576 г. спісала гэты небяспечны план у архіў[6].

**Стэфан Баторый і ўзнаўленне вайны.** Пасля абрання каралём польскім і вялікім князем літоўскім Стэфана Баторыя, які адразу сутыкнуўся з цяжкасцямі (Гданьск паўстаў і адмовіўся прызнаваць новага караля), цар Іван IV распачаў маштабныя ваенныя дзеянні ў Інфлянтах, каб паспець канчаткова падпарадкаваць іх. У 1576 г. маскоўская армія тройчы брала ў аблогу Рэвель, але цярпела няўдачы. Тым не менш пакуль Стэфан Баторый быў заняты падпарадкаваннем Гданьска, маскоўскія ваяводы за 1577 г. занялі ў Інфлянтах большасць земляў і гарадоў, якія належалі Рэчы Паспалітай[7]. Нязначныя сілы ВКЛ, якія дзейнічалі там, не

---

[1] *Королюк В.Д.* Ливонская война. Из истории внешней политики Русского централизованного государства во второй половине XVI в. М., 1954. С. 103–104.

[2] *Флоря Б.Н.* Иван Грозный – претендент на польскую корону // Исторический архив. Вып. 1. М., 1992. С. 173–182.

[3] Памятники дипломатических сношений древней России с державами иностранными. Т. 1. СПб., 1851. Ст. 567.

[4] Падрабязней гл.: *Augustynowicz Ch.* Die Kandidaten und Interessen des Hauses Habsburg in Polen-Litauen während des zweiten Interregnum 1574–1576. Wien, 2001. S. 127–129.

[5] *Baczkowski K.* Projekty rozbiorów państw suwerennych w późnym średniowieczu i u początku doby nowożytnej. Kraków, 2001. S. 12–13.

[6] *Uebersberger H.* Österreich und Russland seit dem Ende des 15. Jahrhundert. Bd. 1. 1488–1605. Wien; Leipzig, 1906. S. 85–120.

[7] *Королюк В.Д.* Ливонская война. С. 96.

маглі іх стрымаць, хоць нярэдка дамагаліся поспеху. Так, калі восенню 1578 г. царская армія пачала штурм Вендэна (Цэсіса), то войска ВКЛ з палякамі, да якога ўпершыню далучыліся шведы, 21 кастрычніка нанесла ёй цяжкае паражэнне[1]. Пазней Крыштафу Радзівілу ўдалося спаліць Дэрпт і знішчыць некаторыя іншыя крэпасці.

Перагаворы паслоў Стэфана Баторыя з Іванам IV аб умовах магчымага міру выявілі ўзаемавыключальныя пазіцыі: цар патрабаваў, каб яны адмовіліся ад Полацка і занятых ім Інфлянтаў, а пасольства Рэчы Паспалітай ставіла галоўнай умовай вяртанне ўсіх заваяваных зямель ВКЛ і Інфлянтаў. Вайна была непазбежнай. Стэфан Баторый думаў пра паход на Полацк і Смаленск яшчэ ў 1577 г.[2] І як толькі яму ўдалося супакоіць Гданьск, а ў 1578 г. канчаткова ўрэгуляваць адносіны з Крымам, пачалася падрыхтоўка да наступальных дзеянняў.

Антымаскоўскую праграму новаабранага манарха асабліва падтрымалі магнаты і шляхта ВКЛ. Варшаўскі сейм у сакавіку 1578 г. ухваліў рашэнне аб пачатку вайны супраць Масквы і вызначыў праграму падрыхтоўкі да ваенных дзеянняў. Для паходу вялікай арміі збіраліся транспартныя сродкі, запасы харчавання, фуражу і інш. Закуп зброі і боезапасаў праводзіўся як за мяжой, так і ў гарадах Беларусі і Літвы. Ручная агнястрэльная зброя партыямі куплялася ў майстроў Вільні, Пінска, Мядзеля, Браслава, а таксама ў збраяроў Польшчы. Гарматы адліваліся ў Вільні (па малюнках самога Баторыя), перавозіліся з Мальбарка і Гданьска[3]. Калі Стэфан Баторый прыехаў у Вялікае Княства, то тут яго ў патрыятычным парыве віталі магнаты і шляхта, якія даўно чакалі рэваншу ў вайне з Масквой і вяртання сваіх зямель[4]. У Гародні манарх абмеркаваў план вайны і звярнуўся да ўсіх станаў ВКЛ з адозвай, каб тыя "з міласці сваёй, а не з жаднай павіннасці" выставілі паспалітае рушэнне[5]. Тыя адгукнуліся на заклік, і земскае войска склала аснову дзеючай арміі.

Каля мястэчка Свір, на мяжы беларуска-літоўскай дзяржавы з маскоўскімі ўладаннямі, у траўні 1579 г. сабраліся аб'яднаныя сілы ВКЛ і Кароны. Пры агульнай мабілізацыі 56 тыс. (30 500 чалавек у ВКЛ і 25 500 – у Кароне) агульная колькасць войска, выкарыстанага на тэатры ваенных дзеянняў, склала 41 тыс., сярод якіх было 30 тыс. конніцы. Большасць гэтай арміі ўтваралі харугвы Вялікага Княства – 23 тыс., з якіх 10 тыс. налічвалі магнацкія почты, 9 тыс. – паспалітае рушэнне і 4 тыс. – найманыя жаўнеры[6].

**Паход на Полацк.** Літвіны раілі ісці на Пскоў як самую важную маскоўскую цвярдыню, на той момант яшчэ мала падрыхтаваную для абаро-

[1] Newe Zeitung. Von der herrlichen victori und Sieg, welchen die Polnischen, Schwedischen und Deutshen kriegsleut für der Stadt Wenden in Lyfflandt in diesem 1578. Jar wieder den schrecklichen Feind und Ertztyrannen den Moscowiter erhalten. Danzig, 1578.

[2] *Новодворский В.* Борьба за Ливонию между Москвою и Речью Посполитой (1570–1582). СПб., 1904. С. 65.

[3] *Kotarski H.* Wojsko polsko-litewskie podczas wojny inflanckiej 1576–1582 // Studia i materiały do historii wojskowości. T. XVII. Cz. 1. Warszawa, 1971. S. 79.

[4] *Stryjkowski M.* Kronika polska... T. 2. S. 428; *Лаппо И.И.* Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569–1586). Т.1. СПб., 1901. С. 178.

[5] *Лаппо И.И.* Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория. С. 179.

[6] *Kotarski H.* Wojsko polsko-litewskie... S. 104.



Кароль польскі
і вялікі князь літоўскі
Стэфан Баторый
Гравюра XVI ст.

ны[1]. Аднак на ваеннай нарадзе было вырашана, што першы ўдар трэба наносіць па Полацку. Аргументы Стэфана Баторыя наконт прыярытэтнасці Полацка як мэты першага паходу пераконвалі: канцэнтрацыя арміі вакол яго не агаляла межы ВКЛ і не адкрывала тылы, а ўзяцце Полацка дазваляла ўмацаваць пазіцыі Віцебска і Дынабурга, адрэзаўшы Інфлянты ад цэнтральных маскоўскіх правінцый. Немалаважным уяўляўся і псіхалагічны фактар: наколькі балюча перажывалася страта Полацка ў Беларусі і Літве, настолькі акрыляльным магло быць яго вяртанне на самым пачатку вайны. Прыкрываць паўднёва-ўсходнія межы Рэчы Паспалітай ад магчымага ўварвання царскай арміі было даручана каронным сілам – палявому гетману Мікалаю Сяняўскаму і казацкаму гетману Міхаілу Вішнявецкаму.

Палявая друкарня караля, што дзейнічала пры абозе, 12 ліпеня ў Свіры выпусціла "Маніфест да войска", перакладзены на некалькі моў[2]. Вайна абвяшчалася справядлівай і законнай, а яе прычыны звязваліся з тым, што Іван IV учыніў шмат шкоды хрысціянам у Інфлянтах і ВКЛ, дзе падступна захапіў Полацк, а таксама з немагчымасцю заключыць мір з царом[3].

Армія пайшла на Полацк уздоўж Дзвіны, пераправіўшыся каля Дзісны па пантонных мастах на яе правы бераг. Каб прадухіліць умацаванне полацкага гарнізона дадатковымі сіламі, наперад быў высланы авангард конніцы віленскага ваяводы Мікалая Радзівіла і венгры Каспара Бекеша, якія адразу заблакіравалі горад. Край за шаснаццаць гадоў акупацыі абязлюдзеў і здзічэў: "палі, што цягнуцца ад Дзвіны і Дзісны да Полацка, заставаліся дзікімі і не апрацаванымі, у выніку чаго... выраслі шматлікія і вельмі густыя лясы"[4]. Бездарожжа і няспынныя дажджы замаруджвалі рух вялікай арміі. Па шляху харугвы з ходу займалі збудаваныя царскім войскам крэпасці: 23 ліпеня – Казьяны, 31 ліпеня – Краснае[5].

Даведаўшыся пра набліжэнне арміі Баторыя, маскоўскія ваяводы Полацка паспрабавалі застрашыць наступаўшых: яны "пакутніцкім чынам умярцвілі польскіх і літоўскіх палонных, якіх з даўняга часу трымалі ў цяжкіх аковах, і, прывязаўшы іх трупы да бёрнаў, спусцілі па рацэ Дзвіне насустрач..."[6].

**Аблога Полацка і яе цяжкасці.** Армія Рэчы Паспалітай пачала аблогу 11 жніўня. Пад горадам быў надрукаваны універсал-зварот да маскоўскага цара і ўсіх яго падданых, у якім прапаноўвалася не супра-

[1] *Гейденштейн Р.* Записки о Московской войне (1578–1582). СПб., 1889. С. 42.
[2] Edictum regium Svirense ad milites. Ex quo causae suscepti in Magnum Moscouiae Ducem belli cognoscentur. Warszawa, 1579; *Filipczak-Kocur A.* Die deutschen neuen Zeitungen und die Kriege von Stefan Bathory mit Ivan dem Schrecklichen (1579–1581) // Zeszyty Naukowe Uniwersytetu Jagiellońskiego, Prace Historyczne. Z. 111 (1994). S. 82–83.
[3] Витебская старина. Изд. А.Сапунов. Т. IV. Ч. 1. Витебск, 1885. С. 147–148.
[4] *Гейденштейн Р.* Записки о Московской войне. С. 49.
[5] *Коркунов М.* Карта военных действий между русскими и поляками в 1579 г. // Журнал министерства народного просвещения. 1837. № 7. С. 235–249.
[6] *Гейденштейн Р.* Записки о Московской войне. С. 53.

ціўляцца, а пераходзіць на бок караля або пакінуць гарады і воласці ВКЛ. Тым, хто складзе зброю, Стэфан Баторый гарантаваў захаванне асабістых правоў і бяспеку[1]. Маскоўская залога Полацка, якая налічвала каля 6000 чалавек, адразу запаліла пасады, і ўсе абаронцы перайшлі ў Верхні замак,ператвораны за гады валодання ў непрыступную фартэцыю. З ходу захапіць яе не ўяўлялася магчымым. Да ўсіх цяжкасцей далучыліся аб'ектыўныя фактары: акупаваная зона і сумежныя з ёю раёны Полаччыны былі дазвання спустошаны, таму адразу ж паўстала вострая праблема пракорму вялікага войска Рэчы Паспалітай. Армія пачала галадаць, у пошуках яды даводзілася пасылаць раз'езды ў аддаленыя землі па левым беразе Дзвіны. Тым часам бясконцыя дажджы так узнялі ўзровень вады ў рацэ, што яна затапіла масты і стварыла шмат цяжкасцей для аблогі. Ад залевы драўляныя ўмацаванні моцна набрынялі, так што ўсе намаганні запаліць іх агнявымі ядрамі аказаліся марнымі. Залога ж баранілася надзвычай упарта.

Цар Іван IV стаяў тады з 40-тысячным войскам у Ноўгарадзе Вялікім, не адважваючыся на значныя контрдзеянні. Ён баяўся адкрытай палявой сутычкі з арміяй Рэчы Паспалітай і не меў праграмы дзеянняў. У сярэдзіне ліпеня выслаў на дапамогу Полацку 8 тыс. стральцоў Барыса Шэіна і Фёдара Шарамецева, але такой колькасці магло хапаць толькі на пад'езд. З Пскова цар накіраваў на ВКЛ татарскія загоны, якія ў пачатку жніўня дасягнулі Біржаў, але калі ў Біржах з войскам з'явіўся жамойцкі староста Мікалай Тальваш, татары павярнулі назад. Са свайго боку Стэфан Баторый, прыкрываючы галоўныя сілы, сканцэнтраваныя пад Полацкам, яшчэ на пачатку выправы накіраваў у Інфлянты і пад Пскоў пад'езд Мацея Дэмбінскага, на Севершчыну – князя Канстанціна Астрожскага, а ў бок Смаленска – Філона Кміту Чарнабыльскага з некалькімі ротамі наймітаў. Асабліва паспяховым аказаўся паход аршанскага старасты, які "в земли неприятельской, звлаща под замком смоленским, знакомитую шкоду починил", за што пасля завяршэння полацкай кампаніі манарх узнагародзіў Філона сенатарскім званнем з тытулам смаленскага ваяводы[2].

**Перамогі над Дзвіною.** Моцныя дажджы, што амаль няспынна ішлі ўсё лета, былі саюзнікам царскага гарнізона ў Полацку. Працяглая аблога засмучала нават караля, які прагнуў рашучых дзеянняў, хоць на генеральны штурм не адважваўся[3]. Але пад канец жніўня дажджы нарэшце скончыліся, і гэта адразу ж змяніла сітуацыю.



Узяцце Полацка войскамі Стэфана Баторыя. Гравюра XVI ст.

---

[1] *Natanson-Leski J.* Epoka Stefana Batorego w dziejach granicy wschodniej Rzeczypospolitej. Warszawa, 1930. S. 46.

[2] Лісты Ф.С. Кміты-Чарнобыльскага // Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці / Уклад. А. Коршунаў. Мн., 1975. С. 104–105.

[3] *Besala J.* Stefan Batory. Warszawa, 1992. S. 275.

Як толькі 29 жніўня ўдалося запаліць драўляныя вежы горада, на наступны ж дзень абаронцы паддаліся. Пасланцы ад баяр і ратнікаў выйшлі "выговорить жизнь". Толькі епіскап Кіпрыян з ваяводамі, баючыся гневу цара[1], адгаворваў ад капітуляцыі і закрыўся ў Сафійскім саборы[2]. Тых, хто адбіваўся да канца, паланілі, астатнім дазволілі выбіраць паміж службай каралю і вяртаннем у Маскоўскую дзяржаву. Некаторыя царскія ваяводы (Фёдар Шарамецеў, Барыс Шэін, князь Міхаіл Лыкаў і Юры Булгакаў), адпушчаныя на свабоду, не пажадалі вяртацца ў Маскоўшчыну. Але большая частка гарнізона скарысталася правам і вярнулася да цара, які загадаў размяшчаць такіх ратнікаў у іншых памежных замках – каб удзелам у далейшай вайне змылі ганьбу здачы Полацка[3].

З-за смуроду ад непахаваных трупаў у адваяваным Полацку не ўдалося правесці набажэнства ў гонар перамогі, як таго хацеў кароль і вялікі князь. Урачыстая служба прайшла проста ў вайсковым лагеры. У горадзе быў пакінуты гарнізон у складзе 400 жаўнераў конніцы і 500 пяхоты, а галоўныя сілы арміі пасля перадышкі рушылі на іншыя замкі Полаччыны. Ужо 4 верасня харугвамі Канстанціна Лукомскага была занята Туроўля, залога якой уцякла, пакінуўшы сваіх ваяводаў[4]. На падпарадкаванне Сокала, адной з самых моцных маскоўскіх цвердзяў на Полаччыне, на чале 3 тыс. пяхоты і конніцы рушыў вялікі гетман каронны Мікалай Мялецкі. Гарнізон гэтай крэпасці, які налічваў каля 5 тыс. адборных ратнікаў, нават пасля капітуляцыі Полацка адчайна адбіваўся. Толькі 11 верасня, пасля двух дзён аблогі і штурмаў, польская і нямецкая пяхота ўварвалася ў крэпасць Сокал. Гэты дзень аказаўся самым крывавым за ўсю кампанію: ад рук наступаўшых і ў агні падпаленых умацаванняў загінула каля 4 тыс. царскіх ратнікаў, палегла і шмат пяхоты Мялецкага[5]. Пасля Сокала полацкі ваявода Мікалай Дарагастайскі аблажыў крэпасць Сушу і ўгаварыў яе гарнізон здацца: 6 кастрычніка 1579 г. каля 6 тыс. маскоўскіх ратнікаў выйшла з крэпасці, пакінуўшы ўсю зброю, запасы пораху і прадуктаў[6]. Нарэшце ў снежні 1579 г. казацкія фарміраванні захапілі Няшчэрду. Пад маскоўскай уладай на Беларусі заставаліся толькі Себеж, Завалач, Азярышча ды Усвяты.

Так першы год узноўленай вайны прынёс вялікае паражэнне Маскоўскаму царству. Падчас Полацкай кампаніі былі знішчаны ці захоплены ў палон больш за 10 тыс. маскоўскіх ратнікаў і 16 ваяводаў, здабыта 120 цяжкіх гармат і сотні зацінных пішчаляў, тысячы руляў ручной агнястрэльнай зброі[7]. Падзеленае на тры групоўкі войска адышло на зімовы адпачынак да Галоўчына, Шклова і Магілёва. Цар Іван IV пасля страты Полацка змяніў тон сваіх пасланняў і выказаў жаданне памірыцца. Ён пісаў да Стэфана Баторыя, што хоча "доброй приязни и братства", папракаў караля ў праліванні хрысціянскай крыві[8]. Аднак кароль пачаў вайну не дзеля вяртання аднаго Полацка.

---

[1] *Коркунов М.* Карта военных действий между русскими и поляками... С. 246.
[2] *Гейденштейн Р.* Записки о Московской войне. С. 68.
[3] *Новодворский В.* Борьба за Ливонию... С. 106–107.
[4] *Stryjkowski M.* Kronika polska... S. 430.
[5] *Kotarski H.* Wojsko polsko-litewskie... T. XVII. Cz. 1. S. 109.
[6] *Stryjkowski M.* Kronika polska... S. 431; *Новодворский В.* Борьба за Ливонию... С. 112.
[7] *Kotarski H.* Wojsko polsko-litewskie... Cz. 2. S. 104.
[8] ПСРЛ. Т. 32. С. 176.

**Працяг вайны і паход 1580 г.** Вальны сейм, праведзены ў Варшаве ў снежні 1579 і пачатку 1580 г., даў згоду на працяг вайны і ўхваліў такія ж падаткі, як у 1578 г.[1] Новы паход супраць Івана IV быў падрыхтаваны на лета. Вайне паспрабавалі надаць рэлігійнае вымярэнне, выдаючы яе за барацьбу супраць "схізматыкаў", аднак гэта не азначала, што яна ўспрымалася шляхтай у катэгорыях супрацьпастаўлення заходняга і ўсходняга хрысціянства. У ВКЛ яе аднолькава падтрымліваў палітычны народ і праваслаўнага, і пратэстанцкага веравызнання[2]. Цар Іван IV усю першую палову года дыпламатычнымі сродкамі спрабаваў затрымаць пачатак ваеннай кампаніі да позняй восені[3], аднак Стэфан Баторый не перапыняў падрыхтоўкі да паходу. Яшчэ больш рашуча ён стаў дзейнічаць, калі адкрылася, што ў выніку намаганняў царскага пасла Нашчокіна быў завербаваны Грыгоры Осцік і ў ВКЛ рыхтавалася змова[4].

15 чэрвеня Стэфан Баторый з Вільні праз Менск і Барысаў накіраваўся пад Чашнікі, дзе было загадана канцэнтравацца ўсёй арміі. Адтуль адыходзілі дарогі на Вялікія Лукі і на Смаленск. Маскоўскі цар не ведаў пра напрамак паходу, хоць высылаў шпегаў збіраць інфармацыю ажно да Вільні. У сярэдзіне ліпеня ў Маскве найбольш верагодным лічылі ўдар па Пскове ці па Смаленску[5]. Між тым ваенная нарада, праведзеная каралём 18 ліпеня пад Чашнікамі, канчаткова вызначыла мэтай паходу Вялікія Лукі. Захоп гэтага горада дазваляў цалкам адрэзаць Маскву ад Інфлянтаў, вяртанне якіх было галоўнай задачай вайны. Немалаважнае значэнне мела і тое, што з Вялікіх Лукаў найзручней было б ударыць па Пскове, авалодаць якім Стэфан Баторый намерваўся ў наступным годзе[6]. Каб адцягнуць увагу непрыяцеля, кароль паслаў на Смаленшчыну вопытнага ў дыверсійнай вайне Філона Кміту Чарнабыльскага, якому было даручана ахоўваць мяжу ВКЛ з боку Смаленшчыны. У жніўні, а потым і на пачатку верасня Кміта на чале малога аддзела конніцы, сабранай на Аршаншчыне, хадзіў у раён Смаленска, папаліў прадмесці і дасягнуў Дарагабужа, але на зваротным шляху пацярпеў ад царскага войска[7].

Тым часам галоўная армія Рэчы Паспалітай, падрыхтаваная лепш, чым у часе Полацкай кампаніі (кароль засведчыў гэта ў Лукомлі, дзе правёў ваенны агляд), пачала рух на Вялікія Лукі ўздоўж Дзвіны і Усвячкі. З Чашнікаў войска прыйшло да Віцебска, дзе раздзялілася: галоўныя сілы адразу рушылі ў напрамку Вялікіх Лукаў, а частка харугваў на чале з каронным канцлерам Янам Замойскім была накіравана на Веліж (хоць літвіны прасілі караля даверыць узяцце гэтага горада ім)[8]. Пасля таго як

---

[1] Volumina Legum. T. II. Sankt-Peterburg, 1859. S. 198–206.
[2] *Grala H.* Vom bellum defensivum zum bellum externum. Die Auffassung des polnisch-litauischen Adels von den Gr nden des Livl ndisches Krieges 1558–1582 // Die Wahrnehmung und Darstellung von Kriegen im Mitterlalter und in der Frühen Neuzeit. Hg. Von H.Brunner. Wiesbaden, 2000. S. 264–265.
[3] *Новодворский В.* Борьба за Ливонию... С. 126– 133.
[4] *Kraushar A.* Lament Hrehoreho Ościka // Roczniki Towarzystwa Przyjaciól Nauk Poznańskiego. T. 18. Poznań, 1891. S. 389–395.
[5] Документы Ливонской войны (подлинное делопроизводство приказов и воевод) 1571–1580 гг. // Памятники истории Восточной Европы / Ред. серии И. Граля. Т. 3. М.; Варшава, 1998. С. 207–208.
[6] *Nowak T., Wimmer J.* Dzieje oręża polskiego do roku 1793. Warszawa, 1968. S. 198.
[7] *Olejnik K.* Stefan Batory, 1533–1586. Warszawa, 1988. S. 207.
[8] *Гейденштейн Р.* Записки о Московской войне. С.112.

у выніку абстрэлу вогненнымі ядрамі ўмацаванні Веліжа загарэліся, 6 жніўня кантынгент Замойскага здабыў яго, паланіўшы нават двух ваявод. Па распараджэнні Стэфана Баторыя палонныя маскоўскія ратнікі былі адпушчаны на волю[1]. У тыя ж дні Мікалай Радзівіл авалодаў Усвятамі (ён паддаўся яшчэ хутчэй, чым Веліж), а Мікалай Дарагастайскі з полацкай шляхтай аблажыў Невель.



Двухручны меч
Мікалая Радзівіла Рудога

**Трыумфы другога паходу.** У канцы жніўня армія Рэчы Паспалітай пачала аблогу Вялікіх Лукаў. Шасцітысячны гарнізон цвярдыні адмовіўся абараняць горад і спаліў яго, схаваўшыся ў моцным замку. Аднак умацаванні былі драўляныя, і артылерыйскі абстрэл, пачаты 1 верасня, моцна шкодзіў ім[2]. Пазіцыі маскоўскага цара Івана IV залежалі ад поспехаў арміі Стэфана Баторыя, і, паколькі аблога была эфектыўнай, а спроба прыслаць абложаным дапамогу і боезапасы праз ваяводу В. Хілкова[3] не ўдалася, царскія паслы ўжо 2 верасня 1580 г. прыехалі пад Вялікія Лукі з прапановай заключыць перамір'е. Іван IV дэклараваў гатоўнасць адмовіцца не толькі ад Полацка, але і ад Курляндыі і іншых інфлянцкіх зямель[4]. Аднак кароль разумеў, што цар хоча перамовамі як найдаўжэй цягнуць час, і аблога працягвалася. Калі 4 верасня ўдалося запаліць адну з драўляных веж вялікалуцкіх умацаванняў і пажар стаў ахопліваць увесь замак, абаронцы схіліліся да капітуляцыі. Падчас перадачы крэпасці венгерская і польская пяхота выйшла з-пад кантролю камандзіраў і кінулася рабаваць, забіваць, хапаць палонных[5]. Сотні марадзёраў не звярнулі ўвагі нават на пажар, які перакінуўся на парахавыя склады. У выніку выбух магутнай сілы разбурыў фартэцыю і пахаваў тых, хто заставаўся ў яе сценах. Баторый адразу распарадзіўся адбудаваць замак, пакінуўшы ў Луках больш за 3 тыс. жаўнераў на чале з Філонам Кмітам-Чарнабыльскім.

Яшчэ падчас аблогі Вялікіх Лукаў праводзіліся аперацыі супраць іншых замкаў Івана IV. Полацкі ваявода Мікалай Дарагастайскі трымаў у аблозе Невель, які 29 верасня 1580 г. таксама капітуляваў, а праз 13 дзён паддалося Азярышча, абаронцы якога паверылі на слова Мікалаю Радзівілу[6]. Двухтысячны аддзел гусараў Я. Збаражскага пайшоў на Тарапец і 21 верасня разграміў там удвая большыя сілы князя В. Хілкова, захапіўшы ў палон ваявод Нашчокіна і Чарамісінава[7]. Нарэшце 25 кастрычніка капітуляваў гарадок Завалач, маскоўскі гарнізон якога, як і з іншых замкаў, быў адпушчаны на свабоду.

---

[1] *Stryjkowski M.* Kronika polska... S. 432.
[2] *Nowak T., Wimmer J.* Dzieje oręża polskiego do roku 1793. S. 199.
[3] Документы Ливонской войны. С. 227–230.
[4] *Королюк В.Д.* Ливонская война. С. 104.
[5] *Działyński Ł.* Diariusz oblężenia i zdobycia Wieliża, Wielkich Łuk i Zawołocia // Sprawy wojenne króla Stefana Batorego / Ed. I. Połkowski. Kraków, 1887. S. 234.
[6] *Stryjkowski M.* Kronika polska... S. 435.
[7] *Laskowski O.* Wyprawa pod Toropiec. Ze studiów nad wojnami moskiewskimi Stefana Batorego // Przegląd Historyczno-Wojskowy. T. 9 (1936–1937). S. 47–79.

Кампанія 1580 г. яшчэ больш пераканаўча паказала ваенную перавагу войска Рэчы Паспалітай над маскоўскай арміяй. Яе конніца цалкам кантралявала тэатр ваенных дзеянняў, а пяхота ўмела здабывала самыя непрыступныя крэпасці. Усе замкі басейна Дзвіны, якія мелі важнае стратэгічнае значэнне, аказаліся ў руках арміі Рэчы Паспалітай. Па ваеннай тэхніцы памесная армія Маскоўскай дзяржавы не магла параўнацца з жаўнерамі Стэфана Баторыя, асабліва з вопытнымі наймітамі, многія з якіх прайшлі праз войны ў Францыі, Іспаніі, Італіі і інш.[1]

Аднак нягледзячы на ваенныя поспехі, у Вялікім Княстве з 1580 г. шырыліся пацыфісцкія настроі[2]. Шляхта Беларусі і Літвы была задаволеная вяртаннем сваіх тэрыторый, а далучэння іншых земляў не дамагалася. Ад эпідэміі тыфу, якая ахапіла тады Рэч Паспалітую, пашыраючыся ад Кракава да межаў Вялікага Княства, моцна пацярпела армія: даследчыкі мяркуюць, што з 48 тыс. жаўнераў, якія бралі ўдзел у вялікалуцкай выправе, яе ахвярай стала каля 10 тыс. чалавек. Усё гэта нарадзіла апазіцыю планам далейшай вайны, якая паступова нарастала і рабілася сур'ёзнай перашкодай для падрыхтоўкі трэцяй выправы, запланаванай на 1581 г.

**Варшаўскі сейм і падрыхтоўка трэцяй выправы.** Вальны сейм 1581 г., што праходзіў у Варшаве з 22 студзеня па 8 сакавіка, згадзіўся на працяг вайны і ўхваліў збор падаткаў на трэці паход супраць Маскоўскай дзяржавы. Стэфан Баторый кіраваў падрыхтоўкай да кампаніі з Гародні. 1581 год пачаўся ўдалым дыверсійным рэйдам казакоў Філона Кміты да Вялікага Ноўгарада і Старой Русы, якія здабылі Холм і без страт вярнуліся з палонам[3]. Маскоўскі цар прысылаў ганцоў і згаджаўся саступіць каралю ўсе Інфлянты (за выключэннем некалькіх гарадкоў), аддаваў Полацк, Усвяты і Азярышча, – каб толькі пакінуць сабе гарады Вялікія Лукі, Холм, Веліж і Завалач[4]. Аднак перамовы з царскім пасламі, якія прыбылі ў Вільню 26 мая, скончыліся безвынікова: выслухаўшы патрабаванні Стэфана Баторыя (аддаць Інфлянты, кампенсаваць затраты на папярэднія ваенныя кампаніі, вызваліць палонных і інш.), маскоўскія дыпламаты спасылаліся на адсутнасць у іх адпаведных указанняў[5].

У ліпені 1581 г. Стэфан Баторый пачаў збіраць пад Полацкам войска для трэцяй выправы – паходу на Пскоў. Маскоўскія ўрадавыя колы са свайго боку рыхтавалі контрнаступальныя дзеянні, мяркуючы атакаваць Беларускае Падняпроўе. Цар зноў не меў яснай праграмы дзеянняў, бо не ведаў, куды будзе скіраваны ўдар арміі Баторыя: ён чакаў паходу і на Смаленск, і на Тарапец, і на Ноўгарад Вялікі, і на Пскоў[6]. Маскоўскія ваяводы сабралі пад Мажайскам і Дарагабужам ад 40 да 70 тыс. чалавек і чакалі загаду. Пад канец чэрвеня, калі яшчэ доўжыліся перамовы аб за-

---

[1] *Frost R.* The Northern Wars. War, State and Society in Northern Europe, 1558–1721. London, 2000. P. 48, 60ff.; *Ён жа.* W sprawie zachodniej techniki wojskowej w okresie Wojen Północnych (1558–1721) // Między Zachodem a Wschodem. Toruń, 2002. S. 297f.

[2] *Grala H.* Vom bellum defensivum zum bellum externum. S. 266.

[3] Дневник последнего похода Стефана Батория на Россию (осада Пскова) и дипломатическай переписка того времени (1581–1582) / Изд. М. Коялович. СПб., 1867. С. 756.

[4] *Королюк В.* Ливонская война. С. 103–104.

[5] *Одэрборн П.* Праўдзівы і грунтоўны аповед пра веру русаў // Беларускі гістарычны агляд. Т. 12. 2005. С. 186–187.

[6] *Буганов В.И.* Документы о Ливонской войне // Археографический ежегодник за 1960 г. М., 1962. С. 271–272.



Умацаванні Пскова.
Паводле плана канца XVII ст.

мірэнні, ад 20 да 30 тыс. войска ўварвалася ў ВКЛ і стала пустошыць землі на правабярэжжы Дняпра. Яны спрабавалі захапіць Дуброўну, Оршу, Чэрыкаў, Мсціслаў і Радамль, але замкі добра адбіваліся. Аўтар Баркулабаўскага летапісу з жалем адзначыў, што князь Сярэбраны "место славное Могилев выжег", а таксама што непрыяцелі «Шклов, Копысу, села велми выпустошили»[1]. Каля Магілёва дайшло да бітвы паміж харугвамі Вялікага Княства і маскоўскім войскам, у выніку якой "Москву от Могилева отперли, побили, отогнали"[2]. Пад канец ліпеня царскі ваявода Д. Хварасцін канчаткова адвёў свае фарміраванні пад Дарагабуж. Так контрнаступальная кампанія Івана IV скончылася безвынікова.

Армія Стэфана Баторыя збіралася вельмі марудна і толькі 21 ліпеня дзвюма калонамі з Полацка рушыла на Завалач і далей. Па дарозе кароль выдаў "вайсковыя артыкулы", якімі ўстанаўляў жорсткую дысцыпліну: "Каб ніхто не смеў жыўнасці псаваць,... таксама ніхто не можа вёскі... і цэрквы паліць, сялян маскоўскіх, папоў, дзяцей, жонак і дзевак іх мардаваць і гвалты якія ім чыніць, і ў вязенне або ў няволю [іх] не браць"[3]. На ваеннай нарадзе ў Завалачы кароль нечакана прапанаваў замест Пскова пайсці на Вялікі Ноўгарад, зусім не падрыхтаваны да абароны[4], аднак праграма паходу не змянілася, і 47-тысячная армія Рэчы Паспалітай працягвала рух на Пскоў. Палку палявога гетмана Крыштафа Радзівіла спачатку даручылі прыкрываць ВКЛ у раёнах Магілёва і Оршы, але потым кароль паслаў яго разам з конніцай Філона Кміты на Тарапец і Холм, каб навесці страх на царскае войска і ўстрымаць яго ад нападу.

**Цяжкасці пад Псковам.** Пскоўскі паход быў горш падрыхтаваны за папярэднія кампаніі і пачаўся відавочна запозна. А Пскоў – вялікі і багаты горад, абнесены каменнай фартыфікацыяй, паспеў добра падрыхтавацца да абароны. Ужо першыя дні аблогі, пачатай 28 жніўня, пацвердзілі трывожныя прадчуванні. Для атачэння ўсяго горада не хапіла войска, выявіліся праблемы і з узбраеннем. Напрыклад, бурачых гарматаў было толькі 20. Вылазкі з Пскова і іншых замкаў ускладнялі дзеянні арміі Рэчы Паспалітай[5]. Пасля няўдалага штурму, калі 7 верасня венгерская і нямецкая пяхота кінулася ў занадта вузкі пралом і панесла цяжкія страты, надзеі на поспех стала яшчэ менш. У дадатак неспадзявана для ўсіх у лагеры Стэфана Баторыя забракавала пораху.

[1] ПСРЛ. Т. 32. С. 175.
[2] Тамсама.
[3] Polskie ustawy i artykuły wojskowe od XV do XVII w. / Wyd. S. Kutrzeba. Kraków, 1937. S. 153–156; Дневник последнего похода Стефана Батория на Россию. С. 48.
[4] *Piotrowski J.* Dziennik wyprawy Stefana Batorego pod Pskow r. 1581. Kraków, 1894. S. 41.
[5] *Nowak T., Wimmer J.* Dzieje oręża polskiego do roku 1793. S. 200.

Пскавічы таксама перажывалі цяжкі час. Па чутках, чэрнь у горадзе жадала перайсці на бок караля, таму Шуйскі прымусіў усіх зноў прысягнуць цару[1]. Між тым Іван IV фактычна пакінуў Пскоў на волю лёсу. З вялікім войскам ён стаяў у Старыцы, "страхом одержим бе"[2]. Цар да таго нерваваўся, што ў дні аблогі Пскова распачаў "казнь великую всяких чинов людем..."[3]. На дапамогу Пскову з Вялікага Ноўгарада быў высланы толькі сямітысячны корпус маскоўскага войска, які ўдалося цалкам разбіць. Асабліва паспяховым аказаўся і дыверсійны рэйд корпуса конніцы Крыштафа Радзівіла з Філонам Кмітам (разам 5600 коннікаў) у глыбіню Маскоўскай дзяржавы. Яны зайшлі ажно да Волгі, разграмілі царскія фарміраванні каля Ржэва і ледзь не захапілі ў палон самога цара, які знаходзіўся ў Старыцы[4]. Аднак гэтыя поспехі не маглі палепшыць цяжкага становішча войска пад сценамі Пскова. У 1581 г. у першыя дні кастрычніка ўжо выпаў снег. Жаўнеры пакутавалі ад холаду і капалі сабе зямлянкі. З-за халадоў, голаду і ліхаманкі хварэла амаль трэць асабовага саставу ўсяго войска[5]. У сітуацыі роспачы 2 лістапада на ваеннай нарадзе было прынята рашэнне спыніць аблогу і абмежавацца блакадай Пскова. Пад фартэцыяй пакінулі меншую частку арміі, а астатніх адвялі адпачываць на зімовыя кватэры – у маскоўскія землі паміж Порхавам і Старой Русай.

**Перамір'е як паражэнне Івана IV.** Нягледзячы на цяжкасці, Стэфан Баторый дэманстраваў рашучы намер дамагчыся пастаўленай мэты ў наступным годзе. Да больш актыўных дзеянняў перайшлі і шведы, якія восенню 1581 г. занялі Нарву. У той сітуацыі Іван IV накіраваў пад Пскоў сваіх паслоў для заключэння міру, дазволіўшы ім пагаджацца на саступку ўсіх Інфлянтаў узамен на Полацк, Вялікія Лукі і іншыя землі, занятыя Стэфанам Баторыем у 1579–1580 гг.

Перамовам, пачатым у вёсцы Ям Запольскі, што паміж Порхавам і Завалачам, пасярэднічаў папскі легат Ян Пасевін. У цара не заставалася козыраў, і 15 студзеня 1582 г. тут было падпісана пагадненне аб 10-гадовым перамір'і. Яго ўмовамі прадугледжвалася, што Іван IV цалкам адмаўляецца ад Інфлянтаў на карысць Рэчы Паспалітай і ад Полацка з гарадамі Веліж, Усвяты, Азярышча і Себеж, а Стэфан Баторый вяртае ўласна расійскія землі – Вялікія Лукі, Завалач, Красны Гарадок – і адводзіць сваю армію ў межы Рэчы Паспалітай. Хоць, як адзначыў тагачасны гісторык, царскія ваяводы "оставляли Ливонию не с меньшим го-



Памятны медаль з выявай Стэфана Баторыя ў гонар вяртання Полацка і Лівоніі. 1582 г.

[1] Дневник последнего похода Стефана Батория на Россию. С. 96.
[2] Псковские летописи // ПСРЛ. Т. 5. Вып. 2. М., 2000. С. 263.
[3] *Тихомиров М.Н.* Малоизвестные летописные памятники XVI в. // Исторические записки. Т. 10. М., 1951. С. 89.
[4] *Piotrowski J.* Dziennik wyprawy Stefana Batorego pod Pskow r. 1581. S. 141; *Besala J.* Stefan Batory. S. 354.
[5] *Гейденштейн Р.* Записки о Московской войне. С. 242.

рем, как если бы дело шло о самой московской области"[1], Маскоўская дзяржава цалкам пазбаўлялася выхаду да Балтыйскага мора. Гэта было цяжкае паражэнне Івана IV у ім жа развязаным міжнародным канфлікце. Па словах пскоўскага летапісца, "царь Иван не на велико время чужую землю взем, а по мале и своей не удержа, а люди вдвое погуби"[2].

Расія больш чым на стагоддзе адмовілася ад актыўнай барацьбы за выхад да Балтыйскага мора. Інфлянты сталі правінцыяй Рэчы Паспалітай (Рыга з захаваннем усіх правоў была ўключана ў яе склад 16 лістапада 1582 г.). Толькі паўночная частка Інфлянтаў (землі Эстоніі) засталася ва ўладанні Швецыі, што пазней спрычынілася да глыбокага антаганізму паміж Шведскім каралеўствам і Рэччу Паспалітай, які абярнуўся войнамі першай паловы XVII ст.[3]

Як для ўсяго Вялікага Княства Літоўскага, так і ў прыватнасці для Беларусі, што пацярпела больш за іншыя землі, завяршэнне Інфлянцкай вайны стала асабліва важнай гістарычнай падзеяй. Ям-Запольскі мір замацаваў у складзе беларуска-літоўскай дзяржавы не толькі вернуты Полацк, але і іншыя этнічна беларускія тэрыторыі.

# ГЛАВА 6

# ЦАРКВА І КАНФЕСІІ Ў КАНЦЫ XV – ПАЧАТКУ XVI ст.

## 1. Развіццё царкоўна-рэлігійных адносін. Хрысціянскія цэрквы

**Уніяцкія тэндэнцыі ў ВКЛ на мяжы стагоддзяў.** Неадэкватнасць агульнадзяржаўнага статуса праваслаўнай і каталіцкай цэркваў, ускладненне геапалітычнага становішча ВКЛ і растучыя ўплывы беларуска-ўкраінскай знаці па-свойму адбіваліся на стаўленні да праектаў уніі ўсіх новых мітрапалітаў другой паловы XV ст.[4] У той ці іншай ступені яны разлічвалі на падтрымку вярхоўнай улады ў пашырэнні імунітэт-

[1] *Гейденштейн Р.* Записки о Московской войне. С. 253.
[2] Псковские летописи // ПСРЛ. Т. 5. Вып. 2. С. 262.
[3] *Янушкевіч А.* Інфлянцкая вайна 1558–1582 г. у кантэксце міжнародных адносін ва Усходняй Еўропе // Сацыяльна-эканамічныя і прававыя даследаванні. 2005. № 2. С. 150.
[4] Асноўныя працы: *Mončak I.* Florentine ecumenism in the Kyivan church. Rome, 1987; *Pietkiewicz K.* Wielkie Księstwo Litewskie pod rządami Aleksandra Jagiellończyka. Poznań, 1995; *Гудзяк Б.* Криза і реформа: Київска митрополия, Царгородський патріархат і генеза Берестейської унії. Львів, 2000; *Кіркене Г.* Інтэграцыйныя працэсы ў ВКЛ: царкоўная унія // Беларускі гістарычны агляд. Вільня, 2005. С. 21–35; *Макарий, митр.* История русской церкви... Кн.5. М., 1996. С. 28–84; *Плигузов А.* От Флорентийской унии к автокефалии русской церкви // Harvard Ukrainian Studies – Камень Краеугъльнъ. Vol. XIX. 1995. P. 513 etc.; *Флоря Б.Н.* Попытки осуществления церковной унии в Великом княжестве Литовском в последней четверти XV – начале XVI века // Славяне и их соседи. Вып. 7. М., 1999. С. 40–81; *Ён жа.* Попытки заключения церковной унии в Великом Княжестве Литовском и Брестская уния // Katolicyzm w Rosji i Prawosławie w Polsce (XI–XX w.). Warszawa, 1997. S. 77–86; *Halecki O.* Od unii Florenckiej do unii Brzeskiej. T. 1–2. Lublin, 1997; *Ziegler A.* Der Union des Konzils von Florenz in der russischen Kirche. Würzburg, 1938.

ных і іншых правоў царквы на каталіцкі ўзор, а польскія каралі і вялікія князі літоўскія хісталіся ў вызначэнні сваёй пазіцыі. Акты Фларэнтыйскай уніі фармальна захоўвалі сваю правамоцнасць.

Большасць паспалітага насельніцтва Беларусі і Украіны, епіскапату і простага кліру, праваслаўных князёў прытрымлівалася "грэцкіх" царкоўных канонаў, абраднасці і ўсяго ўнутранага ладу праваслаўнай царквы. Уплыў гэтых фактараў відавочна адбіўся на змене канфесійнай арыентацыі стаўленіка Ісідора Грыгорыя Балгарына, які ў канцы жыцця аднавіў канфесійныя адносіны з канстанцінопальскім патрыярхам Дыянісіем, праціўнікам царкоўнай уніі.

Пэўныя ваганні і значную канфесійную эрозію ў адносінах да царкоўнай уніі, збліжэння з рымскімі пантыфікамі з боку асобных груп беларуска-ўкраінскай саноўнай і арыстакратычнай знаці даследчыкі бачаць у некаторых пісьмовых сведчаннях апошняй трэці XV ст.

У 1476 г. з новым пасланнем да папы Сікста IV звярнуліся элект (кандыдат) у кіеўскія мітрапаліты Місаіл, архімандрыты галоўных на той час віленскага Троіцкага і Кіева-Пячорскага манастыроў і шэраг даволі вядомых і ўплывовых асоб – князі Фёдар Бельскі, Дзмітрый Вяземскі, пан Солтан Аляксандравіч і інш. На думку многіх даследчыкаў, згаданае пасланне з'яўляецца фальсіфікатам уніяцкага мітрапаліта Пацея, надрукаваным ім у пачатку XVII ст. у сваіх палемічных мэтах. Знойдзеныя нядаўна два спіскі паслання, датаваныя не пазней чым сярэдзінай XVI ст., як і адсутнасць імёнаў епіскапаў у тэксце, надрукаваным Пацеем, што было б зручна пры падрыхтоўцы фальсіфіката, – аргумент на карысць яго сапраўднасці[1].

Пасланне Сіксту IV, як і іншыя падобныя факты, у тым ліку прызнанне уніі асобнымі свецкімі службоўцамі з роду Солтанаў і Сапегаў[2], сведчаць пра тое, што пэўныя не вельмі шматлікія свецкія і духоўныя колы мелі намер прыстасавацца да ўнутранай і знешняй палітыкі вярхоўнай улады, у тым ліку ў канфесійных адносінах. Вынікі перапіскі з папствам не ўражвалі, адказ невядомы. У канцы XV – пачатку XVI ст. пад уздзеяннем унутраных супярэчнасцей і драматычнай ваенна-стратэгічнай кан'юнктуры ў асяроддзі вярхоўнай улады зарадзіліся новыя планы адраджэння уніяцкай ідэі. Польская каталіцкая іерархія з часоў Збігнева Алясніцкага пастаянна выступала за поўную каталізацыю "схізматычнай" царквы. Вялікі князь Аляксандр, які больш рэальна ацэньваў неспрыяльныя для ВКЛ геапалітычныя змены, уласныя дынастычныя інтарэсы ( жанаты з дачкой Івана III – Аленай) і разлікі кароннага духавенства, выношваў планы адраджэння Фларэнтыйскай уніі. Пры дапамо-

---

[1] Гл.: *Бучинський Б.* "Грамота Місаїла" і "Грамота Нифонта" // Записки Українського наукового товариства в Київі. Ки. 13. Київ, 1914. С. 5–44; *Ён жа.* Змагання до унії Руської Церкви з Римом в роках 1498–1506 // Записки Українського наукового товариства в Київі. Кн. 4. 1909. С. 100–136; кн. 5. 1909. С. 61–87; кн.6. 1909. С. 5–53; *Галенчанка Г.Я.* Пасланне да папы рымскага Сікста IV 1476 г. Паходжанне помніка // Наш радавод. Беларусы і палякі: дыялог народаў і культур. X–XX ст. Мат-лы міжнар. круглага стала: Гродна. 28–30 верасня 1999 г. Кн. 8. Гродна; Беласток, 1999 (2000). С. 79–107.

[2] *Paravicini A. u. W.* Alexander Soltan ex Lithuania ritum grecorum sectans // Zwischen Christianisierung und Europäisierung: Beiträge zur Geschichte Osteuropas in Mittelalter und Früher Neuzeit. Stuttgart, 1998. P. 367–401.

зе рымскага папы ён заручыўся падтрымкай віленскага біскупа Альбрэхта Табара і смаленскага епіскапа Іосіфа Балгарынавіча (былы ігумен слуцкага Троіцкага манастыра), які ў 1500 г. атрымаў мітрапаліцкую кафедру.



Абраз "Маці Божая Адзігітрыя Смаленская" XVI ст.

Іосіф звярнуўся да папы Аляксандра VI з прапановай прыняць Кіеўскую мітраполію пад патранат рымскага прастола. Гэтая спроба была зроблена ў той перыяд, калі наспявала і пачалася новая няўдалая вайна з усходнім суседам. Упершыню маскоўскія ўлады побач з вядомымі прэтэнзіямі на палітычную спадчыну Старажытнай Русі публічна падмацавалі свае акцыі неабходнасцю абараняць праваслаўнае насельніцтва ВКЛ ад прыцяснення каталікамі, што разам з ваеннай пагрозаю выклікала абвастрэнне ўнутрыпалітычных супярэчнасцей у ВКЛ. Характэрна, што сам папа з непрытоеным скептыцызмам паставіўся да новага плана уніі. У пасланні да Аляксандра ён падкрэсліў, што "дагэтуль адбываліся толькі беспаспяховыя спробы уніі". У сувязі з абвастрэннем сацыяльнай і канфесійнай напружанасці ў Беларусі віленскі біскуп хадайнічаў перад пантыфікам аб узмацненні судовых магчымасцей. Змены ў юрысдыкцыі каталіцкай царквы (часовае атрыманне некаторых правоў свецкай улады) зацвердзілі вялікі князь літоўскі, а потым папа Аляксандр VI. Папская була ад 5 кастрычніка 1499 г. бясспрэчна датычыцца "рускіх" схізматыкаў Віленскага біскупства (галоўным чынам беларусаў), а таксама татараў, другая була ад 23 чэрвеня 1501 г. згадвае праваслаўнае насельніцтва той жа каталіцкай дыяцэзіі.

6 сакавіка 1504 г. кароль і вялікі князь літоўскі Аляксандр пацвердзіў прывілей Уладзіслава 1443 г., што санкцыянаваў Фларэнтыйскую унію, але асобных практычных наступстваў гэта ўжо не мела. Правал уніяцкіх планаў вярхоўнай улады Польшчы і ВКЛ, падтрыманых віленскім біскупам, кіеўскім архіпастырам, і з пэўнымі засцярогамі рымскай курыяй, прызнаў гнезненскі архібіскуп Ян Ласкі ў сваёй прамове на першым Латэранскім саборы ў красавіку 1514 г. Да апошняй трэці XVI ст. планы царкоўна-канфесійнай уніі шырока публічна ў ВКЛ не абмяркоўваліся.

Практыка палітычнага жыцця пацвердзіла, што пры існуючым этнаканфесійным раскладзе, традыцыйных настроях большасці праваслаўнага насельніцтва, апазіцыі рэлігійным рэформам з боку пануючых колаў польскай, літоўскай, беларускай і ўкраінскай знаці, растучых міжнародных уплывах Маскоўскай Русі і яе поспехах у стратэгічнай канфрантацыі з Княствам гэтыя планы былі бесперспектыўнымі.

Нельга не браць пад увагу і палітычнае збліжэнне ў першай палове XVI ст. Польшчы і ВКЛ з Турцыяй, пад патранатам якой знаходзіліся Крымскае ханства і Канстанцінопальская патрыярхія[1]. Асманскія янычары ўдзельнічалі ў крымскім паходзе Даўлет-Гірэя на Русь летам 1555 г. і ў бітве на Судзьбішчах[2].

**Канфесійная палітыка вярхоўнай улады. Каталіцкая царква ў Беларусі.** Канфесійная палітыка апошніх Ягелонаў на землях ВКЛ пераважна вызначалася яе сувязямі з Польшчай, Цэнтральнай і Заходняй Еўропай, адносінамі з Маскоўскай Руссю, ростам палітычнай актыўнасці беларускай і літоўскай шляхты і магнатэрыі. У адрозненне ад Кароны правячыя колы ВКЛ больш актыўна папаўняліся праваслаўнымі прадстаўнікамі беларускай і ўкраінскай шляхты, а рэформы ў заканадаўстве і фарміраванне саслоўна-прадстаўнічай сістэмы з яе адпаведнымі інстытутамі (сеймамі) паступова адкрывалі шлях да такой этнаканфесійнай дыфузіі. Вярхоўная ўлада, пануючыя і прывілеяваныя колы незалежна ад іх сацыяльнага і этнаканфесійнага статуса былі зацікаўлены ў выкарыстанні рэсурсаў усяго ВКЛ для пераадольвання ваенна-палітычнага і фінансавага крызісу. Этнаграфічная Літва ў гэтым сэнсе была амаль вычарпана. Свае мэты ў пэўнай кансалідацыі шляхты хрысціянскіх канфесій мелі прывілеяваныя пласты Беларусі, Літвы і Украіны і персанальна Жыгімонт Стары і Жыгімонт Аўгуст, якія ўлічвалі дынастычныя інтарэсы Ягелонаў у ВКЛ, яго незалежніцкія традыцыі і выступалі вярхоўнымі пратэктарамі ўсіх афіцыйна прызнаных цэркваў.

Спалучэнне гэтых абставін вымушала ад апошніх Ягелонаў і блізкіх да іх колаў размежаванай і вельмі асцярожнай канфесійнай палітыкі: з аднаго боку, прыкладаліся намаганні да поўнага ці магчымага захавання прывілей каталіцкай царквы і, з другога, публічна акцэнтавалася апякунская роля польска-вялікакняскіх манархаў у дачыненні да праваслаўнай царквы і вернікаў[3]. З аслабленнем вярхоўнай улады (змяншэннем дамена і ростам скарбовых расходаў) у канцы XV – сярэдзіне XVI ст. значна ўзрасла патранальная і фінансавая падтрымка каталіцкай царквы ВКЛ (уключаючы фундушы на заснаванне новых парафій і намінацыі на высокія духоўныя пасады) з боку каталіцкіх магнатаў і радных паноў або адасобленых груповак і кааліцый, што выступалі супраць прэтэнзій праваслаўных "нуворышаў" (казус Канстанціна Іванавіча Астрожскага).

Каталіцкая царква публічна (найбольш выразна ў адносінах з лацінскай Еўропай і ў шэрагу земскіх прывілеяў) па-ранейшаму прагалошвалася "нашай" канфесіяй, што адпавядала ўмовам дзяржаўных уній з Каронай і сувязям з Захадам. Яе канфесійныя і палітычныя ўплывы былі асабліва адчувальныя ў прыдворных і заможных літоўскіх шляхецкіх колах, духоўнай іерархіі, якія былі зацікаўлены ў захаванні свайго статуса.

---

[1] *Греков И.Б.* Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV–XVI вв. М., 1963. С. 284–287.

[2] *Хорошкевич А.Л.* Россия в системе международных отношений середины XVI века. М., 2003. С. 161–162.

[3] Гл.: *Chodynicki K.* Kościół prawosławny a Rzeczpospolita Polska. Zarys historyczny 1370–1632. Warszawa, 1934; *Łapiński A.* Kościoł prawosławny // Rozprawy historyczne Towarzystwa naukowego warszawskiego. T. XIX. Warszawa, 1938.



Касцёл Св. Ганны ў Вільні. XVI ст.

У першай палове XVI ст. каталіцкая іерархія ВКЛ, у першую чаргу віленскія біскупы прыкладалі значныя намаганні да рэфармавання яе царкоўнага статуса, стала удзельнічалі ў радзе паноў, вальных сеймах, у знешнепалітычных кантактах з Польшчай і Вялікім Княствам Маскоўскім. У дыпламатычных адносінах з маскоўскімі свецкімі і царкоўнымі ўладамі і баярамі каталікі часам супрацоўнічалі з праваслаўнымі мітрапалітамі ВКЛ.

Вышэйшая іерархія каталіцкіх біскупстваў ВКЛ (уключаючы членаў капітулаў), як і раней, пераважна паходзіла са шляхецкага стану. Некалькі віленскіх біскупаў былі князямі, магнатамі, два вылучаліся сваёй роднасцю з вялікакняскай дынастыяй – Ян "з князёў літоўскіх" (пазашлюбны сын Жыгімонта Старога) і Павел Гальшанскі. Дзяржаўныя, дынастычныя інтарэсы і падрыхтоўка каталіцкага кліру з ліку літвінаў у Кракаўскім і некаторых іншых замежных універсітэтах дазволілі істотна змяніць этнічны склад кандыдатаў на сан ардынарных біскупаў. У 1462–1569 гг. кафедру Віленскага біскупства ўзначальвалі чатыры літоўцы, адзін паляк, адзін выхадзец з мяшчанскай сям'і, этнічнае паходжанне якога не высветлена (А. Гаскевіч, 1481–1491 гг.)[1]. Падобныя ж працэсы адбіліся на складзе іншых біскупстваў ВКЛ.

"Нацыяналізацыя" Віленскага, Жамойцкага і Луцкага біскупстваў ураўнаважвалася іх падначаленнем гнезненскаму прымасу, які, праўда, не вельмі ўмешваўся ў звычайныя справы. Этапы пашырэння ўладанняў каталіцкай царквы ў ВКЛ, у тым ліку ў Беларусі, няблага даследаваны гісторыкамі[2].

Парафіяльная структура каталіцкай царквы ў другой палове XV – першай палове XVI ст., як і раней, развівалася галоўным чынам шляхам узрастання шчыльнасці парафій у межах Гарадзенскага, Наваградскага, Ваўкавыскага, Ашмянскага і Менскага паветаў: з канца XIV да сярэдзіны XVI ст. на тэрыторыі Віленскага біскупства былі створаны 259 парафій, Луцкага – больш за 100. З трыццаці трох самых багатых парафій (з колькасцю дымоў больш за 50) 22 былі заснаваны на землях Беларусі. У тым ліку самая багатая – у Віцебску. Па падліках Е. Ахманскага, каля дзвюх

[1] *Ochmański J.* Biskupstwo Wileńskie w średniowieczu. Ustrój i uposażenie. Poznań, 1972. S. 5–17.

[2] Там жа. С. 55–94; *Błaszczyk G.* Diecezja żmudzka od XV do początku XVII wieku. Ustrój. Poznań, 1993. S. 136–234; *Ochmański J.* Renta feudalna i gospodarstwo dworskie w dobrach biskupstwa wileńskiego od końca XIV do połowy XVI wieku. Poznań, 1961; *Turonek J.* Kształtowanie się sieci parafii rzymskokatolickich na Białorusi w latach 1387–1781 // Katolicyzm w Rosji i Prawosławie w Polsce (XI–XX w.). S. 176–191.

трацей зямельных уладанняў Віленскага біскупства знаходзіліся на землях Беларусі. Па аб'ёме землеўладання (каля 11 500 дымоў) і колькасці падданых (каля 81 тыс. абодвух палоў) латыфундыя віленскай дыяцэзіі пераўзыходзіла найбольш буйныя польскія біскупствы Гнезненскае, Кракаўскае, Познаньскае, Влоцлаўскае, але саступала ім у даходнасці.

Куды меншымі былі ўладанні Луцкага біскупства ў Беларусі, якія ўваходзілі галоўным чынам у склад Камянецкага і Стаўскага ключоў. Сваю юрыдыку ў Берасці меў берасцейскі капітул Луцкага біскупства. Натуральна, што і па памерах сваёй земскай маёмасці каталіцкія біскупы, акрамя кіеўскага, уваходзілі ў групу багатых уладальнікаў. Па канцылярскім перапісе 1528 г. віленскі біскуп павінен быў выстаўляць са сваіх свецкіх уладанняў 236 конных вершнікаў (3776 дымоў), луцкі і берасцейскі – 122, жамойцкі – 79 . З найбольш заможнага ў Беларусі ўладыцтва Полацкага, Віцебскага і Мсціслаўскага ў сярэдзіне XVI ст. выстаўляліся 50 коней. Прыкметныя ўладанні мелі ў Беларусі Кіева-Пячорскі і некаторыя іншыя ўкраінскія манастыры і кіеўская мітрапаліцкая кафедра[1].

Да ўтварэння Рэчы Паспалітай на землях ВКЛ дзейнічалі 8 каталіцкіх ордэнаў, 18 манастыроў у Віленскай дыяцэзіі, 7 – у Луцкай, у Кіеўскай – 1. Каля 1403 г. францысканцы абаснаваліся ў Лідзе, у сярэдзіне XV ст. бернардынцы ў Пінску, у 1498 г. – у Полацку. У 1410 г. заснаваны аўгусціянскі манастыр у Берасці, у 1492 г. у Гародні[2]. Каталіцкія манастыры Беларусі лічыліся "жабрацкімі" і не мелі вялікіх уладанняў. У 1560-х гг. была заснавана калегія ордэна езуітаў у Вільні, што стала пераломным момантам у развіцці абнаўленчай рэформы каталіцызму ў ВКЛ.

Развіццё і пашырэнне каталіцкай арганізацыйнай структуры на землях Беларусі было галоўным чынам звязана з ростам польскага і літоўскага асадніцтва, аб чым пераканаўча сведчаць попісы шляхты заходніх паветаў у рэвізіях войска ВКЛ 1528, 1565, 1567 гг. Некалькі ўсходніх парафій існавалі ў Полацку і Віцебску; яны падтрымлівалі гандлёвыя сувязі з Масквой, Рыгай, Ноўгарадам і Лівоніяй. Да таго ж там заўсёды меліся значныя гарнізоны наёмнай і сваёй шляхты.

Тэрытарыяльная экспансія каталіцкай царквы, зразумела, закранала сацыяльныя інтарэсы сялян і мяшчан Беларусі, як і прадстаўнікоў іншых этнічных груп, у тым ліку літоўцаў, якія былі ёй падначалены. Пашырэнне магдэбургскага права на землях ВКЛ і земскія прывілеі ў пэўнай ступені рэгулявалі гарадскія этнаканфесійныя адносіны, права царкоўных і прыватных юрыдык. У канцы XV – першай палове XVI ст. некалькі ўзрасла колькасць рэлігійных канверсій з боку праваслаўных паноў, шляхты, пераважна звязанай з прыдворнай ці іншай службовай дзейнасцю[3], асобных прадстаўнікоў мяшчанскага стану, але няма звес-

[1] *Ochmański J.* Biskupstwo Wileńskie... S. 55–91, 106–110; *Błaszczyk G.* Diecezja żmudzka od XV do początku XVII wieku. Ustrój. S. 136–234; Полоцкая ревизия 1552 г. / Подг. И.И. Лаппо; ródła Dziejowe. T. IX. Zemie Ruskie. Ukraina. (Kijów–Brasław) / Oprac. A. Jabłonowski. Warszawa, 1894.

[2] *Błaszczyk G.* Litwa na przełomie średniowiecza i nowożytności 1492–1569. Poznań, 2002. S. 250–252.

[3] Солтан Аляксандравіч, яго брат Іван, гаспадарскія пісары Іван Сапега, Ян Юр'евіч Глебавіч, кн. Сямён Глебавіч Пронскі і інш. Гл.: Kopiarz rzymski Erazma Ciołka z pocz. Wieku XVI-go / Oprac. S.Kutrzeba, J. Fijałek // Archiwum Komisji historycznej. Ser. 2. T. 1. Kraków, 1923. S. 73–75, 81–83; Codex epistolaris saeculi decimi quinti / Ed. A. Lewicki. T. 3. Cracovie, 1894. № 371; Баркулабаўская хроніка // Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці / Укл. А.Ф. Коршунаў. Мн., 1975. С. 113.

так пра масавы пераход да каталіцтва з боку асноўных пластоў беларускага насельніцтва.

Правы каталіцкай царквы сістэматычна пацвярджаліся ва ўсіх агульнадзяржаўных прывілеях. Юрыдычна захоўвалася таксама большасць старых "канфесійных" артыкулаў, што датычыліся праваслаўнай царквы. Апошні раз яны згадваюцца ў шэрагу гаспадарскіх прывілеяў, якія ляглі ў аснову вялікага пацвярджальнага акта Жыгімонта Аўгуста 1551 г. Рэальная нівеліроўка асноўных сацыяльных, а ў пэўнай ступені таксама канфесійных і палітычных правоў шляхты ВКЛ (часткова і гараджан) адбылася значна раней – у гаспадарскіх прывілеях 1434, 1447 гг., а пазней асабліва – у трох Статутах ВКЛ – 1529, 1566, 1588 гг. Прывілеі 60-х гг. публічна прызналі беспадстаўнасць канфесійных абмежаванняў, бо, як сказана ў іх, праваслаўная шляхта, князі, паны і баярства здаўна даказалі сваю адданасць гаспадару і айчыне.

Распаўсюджанне Рэфармацыі ў ВКЛ у другой-трэцяй чвэрці XVI ст. дадаткова ўскладніла манапольную двухканфесійную царкоўна-хрысціянскую супольнасць, але наўрад ці значна пахіснула рэлігійныя традыцыі гарадскога і тым больш вясковага насельніцтва.

**Змены ў структурнай арганізацыі, становішчы праваслаўнай іерархіі.** Пагадненні з Польшчай у другой палове XV – першым дзесяцігоддзі XVI ст., як і асобныя перыяды поўнай самастойнасці ВКЛ, не сталі пераломным этапам у гісторыі праваслаўнай царквы ў ВКЛ. Яны мала закранулі яе матэрыяльныя асновы, бо і раней пажалаванні вярхоўнай улады і літоўскай знаці не былі значнай падмогай для асноўных мітрапаліцкіх і епархіяльных цэнтраў і ўсёй праваслаўнай іерархіі. У параўнанні з XIII–XIV ст. змены больш прыкметна адбіліся на персанальным складзе праваслаўных архіпастыраў, колькасці манастыроў, цэркваў і праваслаўнага насельніцтва, што ў значнай ступені было абумоўлена дэмаграфічнымі і каланізацыйнымі зрухамі.



Верхняя царква ў Гародні. XIV–XV ст. Рэканструкцыя

З 12 архіпастыраў (пасля мітрапаліта Грыгорыя, які ў 1469 г. адмовіўся ад уніі і аднавіў сувязі з Канстанцінопалем) да Люблінскай уніі 1569 г. прынамсі чатыры мелі значныя ўладанні ў полацка-віцебскіх землях або ў Падляшшы і на Смаленшчыне (Місаіл, элект, 1476–1480, Іосіф Балгарынавіч, 1498–1501, Іона II, 1502–1506, Іосіф Солтан, 1507–1521), пяць да свайго вынясення займалі пасады полацкіх і пінска-тураўскіх епіскапаў (мітрапаліты Сімяон, 1480–1488, Іона Глезна, 1489–1495, Іосіф III, 1522–1534, Макарый, 1534–1556, Іона Пратасавіч, 1568–1576).

Практычна нічога не вядома пра паходжанне і папярэднія службы мітрапаліта Макарыя I (1495–1497), які з 80-х гг. дзяржаў ад Сімяона мітрапаліта віленскі Свята-Троіцкі манастыр. У час падарожжа Макарыя ў Кіеў 1 мая 1497 г. ён быў забіты крымскімі татарамі ў сяле Скрыгалава каля Мазыра[1]. Не стаўленым ігуменам Троіцкага манастыра ў ся-

[1] *Макарий, митр.* История русской церкви... Кн. 5. С. 62.

рэдзіне XVI ст. быў таксама Сільвестр Бялькевіч, мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі ў 1556–1567 гг.

Відавочна, што землі Беларусі адыгрывалі асноўную ролю ў духоўных кар'ерах вышэйшых праваслаўных іерархаў з сярэдзіны 70-х гг. XV ст. да Люблінскай уніі. У гэты ж перыяд усе кіеўскія мітрапаліты (выключаючы выхадца з Цверы Спірыдона, які не быў прызнаны ні ў ВКЛ, ні ў Маскве)[1] былі мясцовымі ўраджэнцамі. Адбылося практычна поўнае "абдзяржаўленне" Кіеўскай мітраполіі.

Па сацыяльным паходжанні большасць згаданых мітрапалітаў былі з шляхецкіх і царкоўных родаў, сярод іх адсутнічалі асобы княжацкага ці магнацкага роду[2].

З апошняй трэці XV ст. адносіны кіеўскіх мітрапалітаў з канстанцінопальскім патрыярхатам, які ў 1484 г. пад уплывам Порты канчаткова адмовіўся ад Фларэнтыйскай уніі, набылі пераважна фармальны характар. Многія архіпастыры атрымлівалі граматы вярхоўнай улады ВКЛ раней, чым кананічнае благаслаўленне ў Царградзе, нярэдка пры жыцці сваіх папярэднікаў на мітраполіі. У 1495 г. чарговы іерарх Макарый I (мянушка Чорт) быў узведзены ў сан мітрапаліта ў Вільні саборам епіскапаў з удзелам уладзімірскага ўладыкі Васіяна, полацкага Лукі, тураўскага Васіяна, луцкага Іоны. Благаславёныя граматы патрыярха былі дастаўлены ў ВКЛ у канцы наступнага года. На заўвагу патрыяршага пасланніка епіскапы спасылаліся на неадкладныя патрэбы, правілы св. апосталаў і прэцэдэнт часоў Вітаўта, саборнае пастаўленне Цамблака[3].

Пад уплывам палітычных падзей другой паловы XV – сярэдзіны XVI ст. некалькі змянілася канфігурацыя прыгранічных епархій. У пачатку XVI ст. чарнігаўска-бранскія і смаленскія землі адышлі да Вялікага Княства Маскоўскага. Пасля ўтварэння ў 1539 г. Галіцкай мітраполіі з кафедрай у Львове агульны архіпастыр стаў называцца "мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і ўсяе Русі".

У саборнай грамаце мітрапаліта Міхайлы Рагозы ад 12 чэрвеня 1595 г. адзначаны 7 суфраганій: уладзімірска-берасцейская, луцка-астрожская, полацка-віцебская, перамышльска-самборская, львоўская, холмская, пінская і тураўская[4].

З-за адсутнасці прамых сведчанняў вельмі цяжка вызначыць колькасць прыходаў і цэркваў на землях ВКЛ ці непасрэдна на тэрыторыі Беларусі. Канкрэтныя звесткі, што сустракаюцца ў працах гісторыкаў, не маюць грунтоўных доказаў[5].

---

[1] *Турилов А.А.* Забытое сочинение митрополита Саввы-Спиридона литовского периода его творчества // Славяне и их соседи. Вып. 7. М., 1999.

[2] Звесткі аб паходжанні электа Місаіла ад князёў Пструцкіх (*Чистович И.* Очерк истории западноруссой церкви. СПб., 1882. Т. 1. С. 144–145) недакладныя. Гл.: *Wolff J.* Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. 669–670.

[3] *Макарий, митр.* История русской церкви... Т.5. С. 62; Руский феодальный архив XIV – первой трети XVI века / Составители А.И.Плигузов, Г.В.Семенченко. Вып. III. М., 1987. Прилож. № 20. С. 634–635...

[4] *Покровский И.* Русские епархии в XVI–XVII вв. Казань, 1897. Т. 1. Прил.; Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею (далей – АЗР). СПб., 1861. Т. IV. № 68, 103, пацвярджальная грамата Жыгімонта III.

[5] Белоруссия и Литва. Исторические судьбы северо-западного края./ Изд. П.Н. Батюшкова. СПб., 1890. С. 78–79, 110–111, 133–134, 144–146, 151–152, 166–167; *Киприанович Г.Я.* Исторический очерк православия, католичества и унии в Белоруссии и Литве с древнейшего да настоящего времени. Вильна, 1885. С. 26, 32–36; *Чистович И.* Очерк истории западнорусской церкви. Ч. 1.

Большасць цэркваў размяшчалася ў вёсках і мястэчках. Маскоўскія пісцы ў попісу прыгранічных валасцей Полацкага павета ў 1580 г. зарэгістравалі 41 храм[1].

Найбольш дакладныя, хоць часам заніжаныя, звесткі паведамляюць матэрыялы рэвізій буйных і сярэдніх гарадоў Беларусі: Берасце, 1556 г., 9; Віцебск, 1552, 7, да "иншых церквей в месте немало, нежели к ним людей, земли и наданья нет»; Гародня, 1561, 6; Магілёў, 1552, 5; Навагрудак, 1568, 10 «наданья и фундованья стародавного»; Пінск, 1552–1555, 14; Полацк, 1552, 9; Клецк, 1552–1555, 5. У Мазыры (1552), Дабучыне (Пружанах) і Кобрыне (1568) – па тры. У Слоніме, Слуцку і Менску ў сярэдзіне XVI ст. налічвалася адпаведна 6, 5, 2 царквы[2].

Перабольшаныя звесткі ў мэтах эмацыйнага ўздзеяння сустракаюцца ў некаторых творах палемічных пісьменнікаў. Вядомы Пётр Скарга ў сваім творы "Берестейский собор и оборона его» (1596) адзначыў, што ў час распаўсюджання Рэфармацыі толькі ў Навагрудскім ваяводстве былі спустошаны 650 цэркваў. Іпацій Пацей сцвярджаў пазней, што ва ўсім панстве яго каралеўскай міласці зніклі больш за тысячу цэркваў, "коли не было кому з них» (праваслаўных шляхціцаў) "въступоватися и мовити»[3].

Апошняя лічба даволі верагодна стыкуецца з найбольш раннімі з вядомых нам абагульняльных звестак, якія прыведзены ў пасланні ў Рым папскага нунцыя Торэса ў 1621 г.: 2169 уніяцкіх, 1089 праваслаўных цэркваў ва ўсёй уніяцкай мітраполіі[4]. Апошняя ў 20-х гг. XVII ст. афіцыйна ахоплівала ўсе землі ВКЛ і часткова Польшчы, і значная частка уніяцкіх цэркваў узнікла на месце праваслаўных. Калі давяраць інфармацыі Торэса, можна дапусціць, што ў XV – сярэдзіне XVI ст. колькасць грэка-візантыйскіх храмаў на землях ВКЛ наўрад ці пераўзыходзіла 1,5–2 тыс.

Па апублікаваных актавых матэрыялах можна прыблізна вызначыць колькасць праваслаўных манастыроў, якія (за рэдкім выключэннем) стала дзейнічалі ў XV – сярэдзіне XVI ст.: у Браслаўскім павеце – 2, Берасцейскім – 3, Віцебскім – 4, Гародзенскім – 3, Менскім – 4, Мазырскім – 2, Мсціслаўскім – 3, Наваградскім – 7, Аршанскім – 5, Ашмянскім – 2, Полацкім – 9 (са старажытнарускімі – 17), Слонімскім – 2, усяго – 51, з няпэўнымі – 56. З іх 8–10 жаночых.

У Лідскім, Ваўкавыскім, Рэчыцкім паветах сталых манастыроў, верагодна, не існавала. У сталіцы ВКЛ у першай палове XVI ст. дзейнічалі 14 касцёлаў, 16 цэркваў, 3 праваслаўныя і 4 каталіцкія манастыры. Вільня, Наваградак, Менск, Полацк, Смаленск (да 1514 г.) і кананічны Кіеў былі асноўнымі царкоўна-манастырскімі цэнтрамі праваслаўнай мітраполіі ў межах ВКЛ. Тут вырашаліся надзённыя і больш важныя справы, фарміравалася вышэйшая царкоўная адміністрацыя, сядзелі намеснікі і службоўцы, працавалі судовыя і іншыя царкоўныя органы,

---

[1] Писцовые книги XVI в. СПб., 1877. С. 425–455; *Оглоблин Н.Н.* Объяснительная записка к карте Полоцкого повета во второй половине XVI в. // Сборник археологического института. Кн. 3. СПб., 1880. С. 3–13.

[2] На падставе выданняў Віленскай, Санкт-Пецярбургскай і іншых археаграфічных камісій канца XIX – пачатку XX ст.

[3] Русская историческая библиотека (далей – РИБ). Т. 19. Пг., 1903. С. 677, 214.

[4] *Załęski S.* Jezuici w Polsce. T. 11. Lwów, 1901. S. 62; Relacye nuncyuszów apostolskich i innych osób w Polsce od roku 1548 do 1690. T.11. Berlin; Poznań, 1864. S. 165.

скрыпторыі, канцылярыі, рэгуляваліся і наладжваліся адносіны са свецкай уладай, шляхтай і паспалітым насельніцтвам, іншымі царкоўнымі арганізацыямі.



Царква абарончага тыпу ў Супраслі. Пачатак XVI ст.

Прававы статус праваслаўнай царквы ў канцы XV – сярэдзіне XVI ст. не вельмі змяніўся, але атрымаў пашыраную заканадаўчую аснову. Граматай Аляксандра ад 20 сакавіка 1499 г., дадзенай на імя "нарэчанага" кіеўскага мітрапаліта Ніфанта, быў зацверджаны "Свиток Ярослава", які вызначыў асноўныя ўнутраныя правы царквы і яе ўзаемаадносіны са свецкімі ўладамі. Акт 1499 г. з невялікімі зменамі быў пацверджаны наступнымі прывілеямі 1502 і 1511 гг. Больш канкрэтна правы царквы абгаворваліся ў пацвярджэннях земельных ("абласных") прывілеяў, асобных актах , што выдаваліся праваслаўным мітрапалітам і епіскапам, непасрэдна ці ўскосна закраналіся ў агульназемскіх прывілеях і статутах ВКЛ. Асобны прававы статус праваслаўнай царквы ў параўнанні з каталіцкай не вельмі ўплываў на яе пануючае становішча ў Беларусі і Украіне, асабліва сярод сялянства. Ён не задавальняў пэўныя колы духоўнай іерархіі, гарадскога насельніцтва і шляхты, якія актыўна ўдзельнічалі ў царкоўным, грамадска-палітычным і гаспадарчым жыцці Беларусі і ўсяго Княства.

Негатыўна ўплывалі на становішча царквы ў цэлым звужэнне кананічнай тэрыторыі Кіеўскай мітраполіі ў выніку войнаў, абмежаванасць яе землеўладання і фінансавых даходаў, растучае ўмяшальніцтва свецкага чынніка ў кананічныя справы

Выкарыстанне кананічных прынцыпаў падавання храмаў і "хлябоў духоўных" царкоўнаму кліру, якое раней пераважна належала духавенству, манастырам і цэрквам , у сярэдзіне XVI ст. усё часцей трансфармавалася ў рэальнае права распараджэння царкоўнай маёмасцю і залежным царкоўным людам з боку шляхты. Крызісныя тэндэнцыі ў становішчы праваслаўнай царквы ВКЛ у сярэдзіне XVI ст. не маглі пераадолець ні рэдкія царкоўныя саборы, ні вальныя соймы, дзе праваслаўная шляхта часам закранала царкоўна-канфесійную праблематыку.

Большасць насельніцтва Беларусі, уключаючы прывілеяваныя станы, да сярэдзіны XVI ст. прытрымлівалася веравызнання сваіх продкаў. Простае, асабліва сялянскае, насельніцтва ў складаных і не вельмі спрыяльных сацыяльных і палітычных умовах заставалася асноўным захавальнікам абшчынных і іншых традыцый, "старыны", веры, мовы, звычаяў, народнай духоўнай, матэрыяльнай культуры і ментальнасці. Пэўнае значэнне мелі таксама даўняе панаванне "рускай" веры ва усёй Русі ва ўсіх яе вымярэннях, своеасаблівы статус праваслаў'я ў ВКЛ у канцы XIV–XVI ст., і нарэшце ўласная разнастайная дзейнасць царквы, яе зрастанне з культурна-моўнымі і канфесійнымі традыцыямі, ментальнасцю, паўсядзённым жыццём і побытам.

## 2. Царква і канфесіі этнічных меншасцей

**Іудаізм.** Пасля шматлікіх паўстанняў супраць Рымскай імперыі розныя еўрапейскія і часткова азіяцкія краіны сталі паволі абжываць яўрэйскія эмігранты. Ва ўсіх краінах рассеяння яўрэйскія абшчыны (выключаючы першыя хрысціянскія супольнасці) захоўвалі свае традыцыйныя звычаі, грамадскі і сямейны лад, сваю старажытную монатэістычную рэлігію. Па сведчаннях навукоўцаў і хрысціянскіх тэолагаў, яна ўплывала на станаўленне дзвюх роднасных, але ўжо сусветных рэлігій: хрысціянства і ісламу. Многія кнігі Старога Запавету (разам з Новым) ляжаць у аснове як хрысціянскай Бібліі, так і іудзейскай Торы (Пяцікніжжа).

Актыўны наплыў яўрэйскіх перасяленцаў у межы Польшчы і ВКЛ пачаўся ў XIV ст. пад уздзеяннем рэлігійных праследаванняў. Амаль ва ўсіх еўрапейскіх краінах (асабліва ў крызісныя перыяды) феадальнай знаці, духоўнай іерархіі, гарадскому патрыцыяту, ды і канкурэнтам у купецкіх і службовых сферах было зручна абвінавачваць нехрысціян, чужаземцаў, якім прыпісвалі ўсё – ад частых пандэмій і пажараў да разарэнняў, голаду і іншых сацыяльных і прыродных бядотаў. Спрычынілася да гэтых ганенняў і каталіцкае духавенства, што адзначыў і сам папа Павел VI, падсумоўваючы вынікі мінулага тысячагоддзя ў дзейнасці каталіцкай царквы ў свеце.

Аб'ектыўна спрыяла сярэдневяковым паклёпам і ганенням адміністрацыйная, рэлігійная і побытавая адасобленасць яўрэйскіх абшчын і тыя галоўныя заняткі, што былі заканадаўча вызначаны ім у той час. Апошнія – гандлёвая, фінансавая, рамесніцкая дзейнасць – лічыліся ганебнымі або другараднымі для прывілеяваных дваранскіх, шляхецкіх і іншых колаў. У тых еўрапейскіх краінах, дзе параўнальна доўга захоўвалася талерантнае стаўленне да "няверных" (Іспанія, Польшча часоў Казіміра Вялікага, некаторыя іншыя княствы), новыя пасяленцы прыкметна спрычыніліся да развіцця гаспадаркі, гандлёвых і фінансавых сувязей, гарадскога асадніцтва, у больш развітых княствах – да фарміравання перадумоў буржуазнага ладу. Больш набывалі гэтыя дзяржавы, чым страчвалі.

Першыя прывілеі былі нададзены Вітаўтам у 1388–1389 гг. пяці буйным іудзейскім абшчынам (кагалам) ВКЛ у Троках, Берасці, Гародні, Луцку, Уладзіміры Валынскім[1]. У XV – першай палове XVI ст. узніклі новыя: у Віцебску, Кобрыне, Клецку, Магілёве, Менску, Навагрудку, Пінску, Полацку, Слоніме, Оршы і іншых населеных пунктах. Па актавых дакументах відавочна, што пэўныя групы яўрэйскага насельніцтва, з якога асобна ад хрысціян бралі падаткі, існавалі ў шмат якіх іншых гарадах і мястэчках[2].

Іудзейскія кагалы ствараліся на прынцыпах аўтаномнага самакіравання і часткова нагадвалі гарадскія абшчыны ВКЛ з магдэбургскім правам. Іх узначальвалі выбарныя равіны, суддзі (даяны), якія вырашалі ўнутраныя справы абшчыны, раскладку і збор падаткаў, расходы на

---

[1] Рэлігія і царква на Беларусі. Мн., 2001. С. 135; Беларусіка-Albaruthenica. Вып. 4. Мн., 1995.

[2] *Baron Salo W.* A social and religious of the Jews. Vol. XVI: Poland-Lithuania 1500–1650. New York; London, 1976; Славяне и их соседи. Еврейское население Центральной, Восточной и Юго-Восточной Европы... М., 1993.

ўтрыманне школ (ешыботаў), багадзельняў, судовыя цяжбы і інш. Адносіны з уладай рэгуляваліся праз пасрэдніцтва выбарных старшых і дзяржаўных ураднікаў. Агульныя справы вырашаліся на ваадзе, своеасаблівым канфесійным сейме прадстаўнікоў рэгіянальных абшчын. Важным рэлігійным, духоўным і асветніцкім цэнтрам абшчын былі малельныя храмы, сінагогі, што па сваіх знешніх шатровых формах нярэдка нагадвалі біблейскі каўчэг. Іудзейскія абшчыны, як і больш позрія рэфармацыйныя зборы, якія, па пратэстанцкіх сцверджаннях, аднаўлялі сціплыя раннехрысціянскія звычаі і абрады, не ведалі разгалінаванай царкоўнай іерархіі, не мелі ікон і скульптурных выяў людзей у храмах. Асноўнай святыняй у сінагогах была Тора ў пергаментных скрутках. У сінагогах праходзілі ўсе абшчынныя рэлігійныя цырымоніі, пропаведзі, вывучаўся і тлумачыўся талмуд, іншыя прававыя і свяшчэнныя кнігі, спасцігаліся этычныя, побытавыя і маральныя нормы паводзін вернікаў. Рэлігійныя традыцыі і практычныя інтарэсы абумоўлівалі даволі высокі ўзровень школьнай адукацыі ў ешыботах. Тут вывучаліся рэлігійныя каноны, стараяўрэйская літургічная пісьменнасць і мова (іўрыт) і гутарковы ідыш, што панаваў у асяроддзі эмігрантаў з нямецкіх княстваў. Няблага вывучалася і "руская" (беларуская) мова, неабходная ў розных сферах жыцця і дзейнасці ў Беларусі і ва ўсім Княстве і ў кантактах паміж рознымі групамі эмігрантаў. Адзін з першых біблейскіх зводаў, перакладзеных у пачатку XVI ст. на беларускую мову, быў створаны, верагодна, для патрэб яўрэйскай абшчыны (магчыма, у Вільні). Яўрэйскае (мужчынскае) насельніцтва Беларусі было ледзь не пагалоўна пісьменным, што адпавядала імператывам іудзейскай канфесіі.

Наіўна было б абрысоўваць міжканфесійныя адносіны ў ВКЛ толькі ў панегірычных фарбах. Існавалі і дзікія забабоны, накшталт крывавых наветаў (хоць каноны іудаізму забаранялі ўсякае кровапраліцце), канфліктныя сітуацыі, што ў немалой ступені былі звязаны з фінансавай, гандлёвай, арэнднай, прадпрымальніцкай, гаспадарчай дзейнасцю і закраналі інтарэсы многіх станаў. Існавалі і прававыя абмежаванні, стэрэатыпы этнаканфесійнай прадузятасці, імкненне выкарыстаць іх у сваіх мэтах. Галоўнае было, аднак, у тым, што асноўныя нехрысціянскія канфесіі (іудаізм і іслам) дзейнічалі афіцыйна, ва ўмовах дзяржаўнай талерантнасці, маглі разлічваць на падтрымку вярхоўнай і мясцовай улады. На землях Літвы і Беларусі ў часы апошніх Ягелонаў не зарэгістраваны выпадкі публічнага пакарання іншаверцаў па этнаканфесійных абвінавачаннях. Такой талерантнасці не было ў большасці краін Заходняй і Цэнтральнай Еўропы. Акрамя таго, непасрэдныя кантакты і зацікаўленасць поліэтнічнага насельніцтва Беларусі ў розных сферах дзейнасці і яе выніках спрыялі збліжэнню і знаёмству народаў.

**Іслам.** Другой значнай этнаканфесійнай групай былі татары, у XIV ст. – складаная супольнасць перасяленцаў з мангольскіх і турэцкіх плямён, якія карысталіся рознымі моўнымі дыялектамі і адрозніваліся асаблівасцямі культуры і сваіх гістарычных шляхоў[1].

---

[1] *Zakrzewski A.* O asymilacji Tatarów w Rzeczypospolitej w XVI – XVIII w. // Tryumfy i porażki. Warszawa, 1989. S. 78; *Думін С.У., Канапацкі І.Б.* Беларускія татары. Мінулае і сучаснае. Мн., 1993; Татары-мусульмане на землях Беларусі, Літвы і Польшчы. Першая міжнародная навукова-практычная канферэнцыя. Менск, 26–27 сакавіка 1993 г. Мн., 1985.

Этнічная і моўная разнастайнасць "літоўскіх татар", як прынята іх называць у гістарыяграфіі, была абумоўлена і значнай храналагічнай працяжнасцю, у межах якой новыя групы перасяленцаў далучаліся да старых ці фарміравалі свае этнатэрытарыяльныя структуры і пункты асадніцтва. Мелі значэнне таксама ранейшы сацыяльны статус, прафесійныя навыкі, што ў значнай ступені вызначала іх новае становішча, магчымасць дзяржаўнага авансу, вольнасці і павіннасці.

Прычыны асадніцтва татар на землях Літвы, Беларусі, Украіны мелі розны, пераважна палітычны, характар: ужо ў часы Гедыміна, Альгерда і Кейстута і іх нашчадкаў татары ўдзельнічалі ў войнах і сутыкненнях з Тэўтонскім ордэнам, знакамітай Грунвальдскай бітве, атрымлівалі зямельныя надзелы, выконвалі службовыя абавязкі. Гвалтоўныя змены ўлады ў Крымскай Ардзе вымушалі да эміграцыі пэўныя групы апальных князёў, мурзаў з падначаленым ім насельніцтвам. Пачатак масавай міграцыі ваенна-службовых татар звязваецца даследчыкамі з часамі Вітаўта, які асадзіў у ВКЛ разбітага Цімурам у 1395 г. хана Залатой Арды Тахтамыша з яго войскам. Паход Вітаўта з Тахтамышам пад Азоў у 1397 г. папоўніў шэрагі новых палонных і добраахвотных перасяленцаў.

Татар ВКЛ па сацыяльных крытэрыях звычайна падзяляюць на некалькі асноўных групы. Першую групу складалі гаспадарскія татары, нашчадкі ардынскіх ханаў і мурзаў з тытуламі князёў, што атрымлівалі за сваю ваенную службу вялікакняскія даніны (татаршчызны) і карысталіся прывілеямі шляхты, акрамя ўдзелу ў органах саслоўнага прадстаўніцтва (сеймах і сейміках); другую – так званыя татары-казакі, блізкія сваім статусам да службовага баярства; наступную, найбольш шматлікую – простыя татары, што пражывалі ў прыватных і вялікакняскіх гарадах, мястэчках і вёсках, гадавалі коней, займаліся агародніцтвам, рамізніцтвам, гарбарствам, рознымі іншымі рамёствамі, выконвалі гаспадарчыя і службовыя павіннасці. Асобныя нешматлікія групы татар складалі духоўныя асобы і адукаваныя татарскія пісары, талмачы пры гаспадарскім двары ў Вільні і вялікакняскай канцылярыі, якія ведалі "рускую", татарскую, арабскую і іншыя мовы, актыўна ўдзельнічалі ў пасольствах у Крым, забяспечвалі дыпламатычныя кантакты з Портай.

Агульная лічба татар у XV–XVI ст. наўрад ці пераўзыходзіла 7–10 тыс. Згодна з попісам войска ВКЛ 1528 г. татары выстаўлялі 678 коней у 8 харугвах[1], што ў перакладзе на колькасць жыхароў у дымах прыблізна складае 4,5 тыс. асоб. Лічба гарадскіх і местачковых татар невядома.

Згодна з ардынскай практыкай ваеннаслужачыя татары рассяляліся ў Беларусі і Літве не па тэрытарыяльным, а па родаплемянным прынцыпе, улусамі і харужствамі, а ў ваенных адносінах падзяляліся на атрады (сцягі), шта часта супадалі з апошнімі. Рассяленне гаспадарскіх татар пераважна на захадзе Беларусі і ордэнскім памежжы Літвы, паблізу ад важных палітычных і абарончых цэнтраў ВКЛ было абумоўлена стратэгічнымі мэтамі. Юрыдычны статус гаспадарскіх татар удакладняўся ва

[1] *Błaszczyk G.* Litwa na przełomie średniowiecza i nowożytności 1492–1569. S. 232–233.

ўсіх статутах ВКЛ, прывілеях 1560-х гг. і іншых публічна-прававых актах[1].

Заканадаўства не закранала асноўных рэлігійных правоў татар, але дапускала пэўнае ўшчамленне іх як прадстаўнікоў "нявернай" канфесіі: акрамя згаданых палітычных правоў абмежаванні датычыліся права мець хрысціянскую чэлядзь, займаць земскія пасады. Будаўніцтва мячэцей патрабавала гаспадарскіх прывілеяў і санкцый каталіцкага біскупа.

Абсалютную большасць татар ВКЛ аб'ядноўвала агульная рэлігія – іслам суніцкага напрамку, якую прынеслі з сабой рознапляменныя мігранты з Крыма і іншых ханстваў раздробленай Залатой Арды. Выключэнне складалі ахрышчаныя перасяленцы ці палонныя з Паўночна-Усходняй Русі і тыя даволі рэдкія пераважна службовыя татары, якія разлічвалі на хуткую прыдворную ці ваенную кар'еру[2]. Прадстаўнікі некаторых татарскіх родаў (Глінскія, Солтаны і інш.) сапраўды дамагліся многага ў рыцарскіх і нават духоўных справах.

Заканадаўчая талерантнасць ВКЛ была не толькі забяспечана рацыянальнай палітыкай вярхоўнай улады, яна заставалася рэальнай інтэгральнай часткай шляхецкіх кардынальных правоў XVI – пачатку XVII ст. Практыка канфесійнага жыцця, зразумела, не была поўнасцю адэкватная законам, але ў значнай ступені ўплывала на палітычную лаяльнасць этнічных груп і іх царкоўных арганізацый. Па словах дробнага шляхціца, правазнаўцы Якуба Завішы, "ні жыдоўская, ні татарская секты ніякай шкоды не чыняць каталіцкай веры, за некалькі стагоддзяў ніхто нічога заразнага ад іх не ўспрыняў, і ўвогуле часта і так бывае, няверныя становяцца вернымі"[3]. Цэнтрамі духоўнага, літургічнага і будзённага жыцця татар былі культавыя будынкі – мячэці (масджыды). Мула, знаўца мусульманскіх навук, ажыццяўляў набажэнствы, кіраваў сходамі, вырашаў адміністрацыйныя і судовыя справы. Кананічнай была ўнутраная арганізацыя мячэцей (пры пабудове адна сцяна заўсёды арыентавалася на Меку). Да будынка прыстройваліся стромкія мінарэты для муэдзінаў[4].

Непадалёку па асаблівых канонах звычайна размяшчаўся могільнік. Асноўнымі літургічнымі кнігамі былі тэфсіры (Каран з падрадковым перакладам з арабскага), кітабы[5].

Адсутнасць духоўнай іерархіі, прастата і сціпласць мячэцей, як і іудзейскіх сінагог, – сведчанне вельмі старажытнага паходжання гэтых веравызнанняў і культавых пабудоў. Рэлігія заставалася важным сродкам захавання айчыннай і боскай веры, этнічнай свядомасці і ментальнасці, выхавання і адукацыі[6]. Адносная нешматлікасць мячэцей на землях Бе-

---

[1] Гл.: *Tyszkiewicz J.* Tatarzy na Litwie i w Polsce. Studia z dziejów XIII–XVIII w. Warszawa, 1889; *Borawski P.* Tatarzy w dawnej Rzeczypospolitej. Warszawa, 1986; *Sobczak J.* Położenie prawne ludności tatarskiej w Wielkim Księstwie Litewskim. Warszawa; Poznań, 1988; *Grygajtis K.* Nadania hospodarcze dla tatarów litewskich. Próba charakterystyki problemu // Prace Naukowe Wyższej Szkoły Pedagogicznej w Częstochowie. Seria: Zeszyty Historyczne. 2000. Z. VI. S. 144–166.

[2] *Zakrzewski A.* O asymilacji Tatarów... S. 85–91.

[3] *Там жа*; *Zawisza J.* Wkrócenie procesu koronnego. Kraków, 1899 (1-е выд. 1613 г.).

[4] *Лакотка А.І.* Бераг вандраванняў, ці Адкуль у Беларусі мячэці. Мн., 1994.

[5] *Антонович А.К.* Белорусские тексты, писанные арабским письмом и их графико-орфографическая система. Вильнюс, 1968; *Łapicz C.* Kitab tatarów litewsko-polskich. (Paleografia. Grafica. Język). Toruń, 1986.

[6] Ісламская культура татараў-мусульман Беларусі. Літвы і Польшчы і яе ўзаемадзеянне з беларускай і іншымі культурамі. Вып. 1. Мн., 1996.

ларусі і Літвы (некалькі ў XIV–XV ст. і каля 8 у XVI) сведчыць пра асаблівасці тэрытарыяльнага рассялення асноўных груп татарскага насельніцтва[1]. У культурным, службовым, вытворчым і рэлігійным жыцці татараў выразна прасочваюцца ўплывы беларускай і польскай мовы пры кананічным захаванні ў свяшчэнных кнігах арабскай графікі. Пэўнай асіміляцыі татар спрыялі таксама шлюбы з хрысціянкамі, хоць гэта супярэчыла як свецкаму, так і ісламскаму праву.

Свае асаблівасці рэлігійнага жыцця захоўвалі і іншыя малыя этнічныя групы, у тым ліку караімы (татарскага паходжання, прыхільнікі сваёй версіі іудаізму), армяне. Поліэтнічнасць, дзяржаўнае сужыццё і незвычайная разнастайнасць царкоўных арганізацый і веравання нямала здзіўлялі практычна ўсіх наведвальнікаў Беларусі і Літвы ў XIV–XVI ст.

## 3. Рэфармацыя

**Перадумовы рэфармацыі.** Рэфармацыя пачала распаўсюджвацца на Беларусі з сярэдзіны XYI ст. Яна развівалася ў рэчышчы еўрапейскага рэфармацыйнага руху і ўспрыняла знешнія формы заходнееўрапейскага пратэстантызму – яго асноўныя кірункі, дагматыку, формы царкоўнай арганізацыі, але мела своеасаблівыя рысы. Значныя зрухі ў грамадска-палітычным і духоўным жыцці Вялікага Княства Літоўскага, агульны культурны ўздым і пашырэнне кантактаў з краінамі Заходняй і Цэнтральнай Еўропы абумовілі сувязь Рэфармацыі з праявамі рэнесансна-гуманістычнай культуры. І гуманізм, і Рэфармацыя неслі новы, адметны ад сярэднявечнага светапогляд, што знайшло сваё адлюстраванне ў звяртанні да біблейскіх першакрыніц, развіцці секулярызацыйных тэндэнцый у грамадскім жыцці, прызнанні этнакультурнага, палітычнага і нават тэалагічнага значэння нацыянальных моў разам з мовамі кананічнай пісьменнасці.

Вядома, што пэўная несумяшчальнасць галоўных пазіцый гуманізму і Рэфармацыі прывяла да таго, што многія заходнееўрапейскія гуманісты, што спачатку віталі Рэфармацыю, потым адышлі ад яе (у прыватнасці, Эразм з Ратэрдама). У пытанні аб ідэі верацярпімасці і асуджэнні рэлігійных ганенняў выразна адлюстравалася супрацьстаянне гуманістаў і рэфарматараў. Аднак, на думку беларускага даследчыка С. Падокшына, ва ўсходнееўрапейскім рэгіёне гуманізм і Рэфармацыя не супрацьстаялі так выразна, як у заходнееўрапейскіх краінах. Прадстаўнікі радыкальна-рэфармацынага руху "рэнесансна-гуманістычна вырашалі многія сацыяльныя, маральныя, палітычныя, рэлігійна-філасофскія, культурныя пытанні: духоўнай свабоды, ролі розуму ў пазнанні, адносіны да антычнай культуры, свецкіх ведаў, філасофіі, верацярпімасці"[2].

Рэфармацыйныя ідэі пранікалі ў Вялікае Княства Літоўскае праз суседнія краіны – Прускае княства (з 1525 г. лютэранства стала тут афіцыйнай рэлігіяй) і Польшчу. Прускі князь Альбрэхт Гогенцолерн у 1544 г. заснаваў у Караляўцы лютэранскі універсітэт, прызначаны ў ас-

---

[1] Гл. падрабязней: *Drozd A., Dziekan M., Majda T.* Meczety i cmentarze tatarów polsko-litewskich. Warszawa, 1999.

[2] *Падокшын С.А.* Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі. Мн., 1990. С. 53.

ноўным для студэнтаў з Польшчы і ВКЛ. Каралявец стаў галоўным лютэранскім цэнтрам гэтага рэгіёна, тут ратаваліся ад ганенняў пратэстанты з іншых краін, адсюль на суседнія тэрыторыі распаўсюджвалася рэфармацыйная літаратура.

Ад пачатку свайго развіцця Рэфармацыя ў Беларусі была цесна звязана з польскім пратэстанцкім рухам. Пэўныя ўплывы рэфармацыйных ідэй у Польшчы прымусілі Жыгімонта І Старога ўжо ў 1520–1525 гг. (праз некалькі год пасля выступлення Лютэра) выдаць эдыкты супраць распаўсюджання лютэранскіх кніг. Эдыкты 1534 і 1540 гг. пад пагрозай канфіскацыі маёмасці і пакарання смерцю забаранялі навучанне ў пратэстанцкіх універсітэтах. Але ва ўмовах талерантнасці і слабасці каралеўскай улады эдыкты, якія абмяжоўвалі шляхецкія вольнасці, фактычна не дзейнічалі. На сейме 1543 г. яны былі часткова адменены. Праўда, суровасць пакарання за парушэнне эдыктаў часова выклікала рэзкае змяншэнне колькасці студэнтаў з Польшчы і ВКЛ у пратэстанцкіх універсітэтах. Найбольшай папулярнасцю сярод моладзі з гэтых краін у 40–50-х гг. XVI ст. карысталіся рэарганізаваны Філіпам Меланхтонам універсітэт у Вітэнбергу, універсітэты ў Франкфурце, Ліпску, Караляўцы. У матрыкулах таго часу мы знаходзім імёны Яна і Мікалая Сапегаў, Яна Хадкевіча, Яна і Ёзэфа Валовічаў, Вацлава Агрыпы і інш.[1]



Медаль з вывай вялікага князя Жыгімонта Старога. Медзь, пазалота. 1527 г.

Ідэі гуманізму, рэформы касцёла і адукацыі шырока распаўсюджваліся сярод інтэлектуальнай эліты Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы. Ажыўленая карэспандэнцыя вялася з выдатным гуманістам Эразмам Ратэрдамскім, рабіліся спробы запрасіць яго ў Кракаўскі універсітэт. Адзін з прафесараў Кракаўскага універсітэта – Якуб з Ілжы быў абвінавачаны ў лютэранскай "ерасі". Сярод яго студэнтаў у 20–30-я гг. XVI ст. былі будучыя дзеячы рэфармацыйнага руху ВКЛ і Польшчы: Фелікс Круцігер, Сымон Зацыус, Абрахам Кульва, Ян з Казьмінак і Лаўрэнцій Дыскордыя[2]. Ян з Казьмінак і Лаўрэнцій Дыскордыя ў 40-я гг. былі прыдворнымі прапаведнікамі Жыгімонта Аўгуста і разам з ім часта наведвалі Вільню.

Духоўная атмасфера сталіцы ВКЛ, якая здаўна мела шматэтнічнае і поліканфесійнае насельніцтва, садзейнічала ўспрыманню новых рэлігійных паветаў. У 1539 г. ураджэнец Літвы Абрахам Кульва арганізаваў тут школу, у якой навучалася каля 60 асоб. Рэлігійныя ідэі, якімі ён захапіўся ў час наведвання еўрапейскіх пратэстанцкіх універсітэтаў, Кульва выкладаў не толькі ў школе, але і слухачам у касцёле св. Ганны. Кара-

[1] *Żołądź-Strzelczyk D.* Peregrinatio academica. Studia młodzieży polskiej z Korony i Litwy na akademiach i uniwersytetach niemieckich w XVI i pierwszej połowie XVII wieku. Poznań, 1996.

[2] *Urban W.* Jakub z Iłży i jego uczniowie // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. T. XXXVI, 1992. S. 209–212.

леўскі эдыкт 1542 г. прымусіў яго пакінуць Вільню і пасяліцца ў Караляўцы, дзе ён стаў прафесарам універсітэта[1].

Пасля смерці ў 1548 г. Жыгімонта I каралеўскі і вялікакняскі трон заняў яго сын Жыгімонт Аўгуст, які імкнуўся да ўтварэння талерантнай цывілізаванай дзяржавы, рабіў усё, каб пазбегнуць рэлігійных войн. Ён намагаўся абмежаваць палітычны ўплыў Апостальскай сталіцы, нават нейкі час падтрымліваў ідэю стварэння Народнага сабора, які б аб'яднаў прадстаўнікоў усіх хрысціянскіх канфесій. Адным з аўтараў гэтай канцэпцыі, якая прадугледжвала адпраўленне набажэнства на роднай мове, прычасце пад двума відамі, ліквідацыю цэлібату для духавенства, быў выдатны польскі гуманіст Андрэй Фрыч Маджэўскі. На хвалі Рэфармацыі пытанне аб скліканні сабора, падтрыманае і некаторымі каталіцкімі біскупамі, абмяркоўвалася на сеймах у 50-я гг. XVI ст. Аднак адмоўныя адносіны Рыма да гэтай ідэі не дазволілі яе ажыццявіць[2].

Крызісныя тэндэнцыі ў нетрах каталіцкай і праваслаўнай цэркваў, а таксама традыцыі рэлігійнай талерантнасці паскорылі працэс распаўсюджвання Рэфармацыі.

**Сацыяльны склад рэфармацыйнага руху.** Своеасаблівасць Рэфармацыі ў Вялікім Княстве Літоўскім выяўлялася ў тым, што яго галоўнай сацыяльнай асновай быў прывілеяваны стан – магнаты, частка сярэдняй і дробнай шляхты (нярэдка магнацкая "кліентура"). Як адзначае польскі даследчык М. Косман, шляхта ВКЛ звярнулася да Рэфармацыі "не столькі з-за канфлікту з касцёлам, колькі з-за таго, што пратэстанцкія веравызнанні былі для яе і для дзяржавы больш карыснымі. З іх дапамогай яна імкнулася галоўным чынам паспрыяць ажыўленню інтэлектуальнага жыцця"[3]. Сацыяльна-эканамічныя супярэчнасці паміж шляхтай і духавенствам ВКЛ хоць і не мелі такога вострага характару, як у Польшчы, тым не менш адыгралі пэўную ролю ў далучэнні шляхты да Рэфармацыі. Матэрыялы сеймаў 40–50-х гг. XVI ст. змяшчаюць патрабаванні шляхецкай апазіцыі да каталіцкага і праваслаўнага духавенства, каб яно разам з ёй несла павіннасці ваеннага часу, не займала больш за дзве духоўныя пасады, "бо ад іх большы ўціск людзі маюць, чым ад свецкіх". Чуліся патрабаванні аб пазбаўленні духоўных асобаў права ўдзелу ў свецкіх судах, каб "яны сваю ўласнасць не вывозілі за мяжу, а на абарону Рэчы Паспалітай пасля сваёй смерці абарочвалі"[4].

Можна пагадзіцца з думкай М. Космана, што эканамічнае пытанне не іграла першапачатковай ролі ў развіцці Рэфармацыі ў ВКЛ. Аднак трэба ўлічваць, што частка шляхты была зацікаўлена ў секулярызацыі землеўладання. Пратэстанцкія зборы з'яўляліся не ва ўсіх секулярызаваных уладаннях. Землі касцёлаў далучаліся да маёнткаў шляхты, самі ж касцёлы прыходзілі ў заняпад і не аднаўляліся[5].

---

[1] *Barycz H.* Abracham Kulwiec // Polski słownik biograficzny. T. XVI.

[2] *Litak St.* W dobie reform i polemik religijnych // Chrześcijaństwo w Polsce. Lublin, 1992. S. 208–209.

[3] *Kosman M.* Reformacja i kontrreformacja w Wielkim Księstwie Litewskim w świetle propagandy wyznaniowej. Wrocław, 1973. S. 39.

[4] РИБ. Т. 30. Юрьев, 1914. С. 113, 118, 123, 153–154, 240.

[5] *Бумблаускас А.* Положение костелов в Великом княжестве Литовском а период реформации (вторая половина XVI в.). История // Научные труды высших учебных заведений Литовской ССР. Вильнюс, 1990. С. 119.

Падарожжы за мяжу, навучанне ў еўрапейскіх універсітэтах шляхецкай моладзі таксама садзейнічалі ўспрыманню новых рэлігійных павеваў, пашырэнню кругагляду, наладжванню культурных і палітычных кантактаў. Акрамя таго, прывілеяваныя слаі мелі сродкі на заснаванне збораў і па сваім грамадска-палітычным статусе маглі апекаваць іх.

Унутраны крызіс праваслаўнай царквы, яе прававое становішча ў дзяржаве, нізкі ўзровень адукацыі цэўным чынам паўплывалі на далучэнне да Рэфармацыі праваслаўнай магнатэрыі[1]. Наспелыя патрэбы новых форм адносін дзяржавы, грамадства і царквы стымулявалі ўспрыманне рэфармацыйных павеваў[2].

Можна меркаваць, што стварэнне новай царкоўнай арганізацыі, незалежнай ад вярхоўнай улады, адпавядала мэтам той часткі палітычнай эліты, якая негатыўна ставілася да дзяржаўнай уніі з Польшчай, імкнулася захаваць палітычны суверэнітэт ВКЛ і свой статус.

Ідэі Рэфармацыі, асабліва на яе пачатковым этапе, успрыняла найбольш уплывовая, палітычна актыўная шляхта. Адной з такіх постацей, што кардынальна паўплывалі на царкоўна-рэлігійнае і культурнае жыццё ВКЛ, быў віленскі ваявода, канцлер ВКЛ Мікалай Радзівіл Чорны. З яго імем звязана распаўсюджанне і арганізацыя рэфармацыйнай царквы ў ВКЛ. Яго палітычны ўплыў і аўтарытэт у значнай ступені садзейнічалі пераходу шляхты ў пратэстантызм у 50–60-я гг. XVI ст. Радзівіл Чорны, які падтрымліваў сувязі з карыфеямі заходнееўрапейскага пратэстантызму і прадстаўнікамі асноўных пратэстанцкіх плыняў у Рэчы Паспалітай, стаў галоўным пратэктарам Рэфармацыі ў ВКЛ. Высока ацэньваў Радзівіла Абрахам Кульва (яны былі асабіста знаёмы і, як мяркуюць, менавіта Кульва зацікавіў Радзівіла вучэннем Лютэра), пра што Радзівілу паведамляў прускі князь Альбрэхт у лісце ад 21 студзеня 1545 г.[3]

Прадстаўнікі шмат якіх шляхецкіх родаў далучыліся да Рэфармацыі (акрамя Радзівілаў гэта – Сапегі, Валовічы, Глябовічы, Зяновічы, Кішкі, Хадкевічы, Нарушэвічы, Пацы і інш.). Напярэдадні Люблінскай уніі пратэстанцкія магнаты былі шырока прадстаўлены ў радзе ВКЛ – у 1569 г. у яе склад уваходзіла 17 пратэстантаў, 9 праваслаўных, 2 каталікі[4].

Прывілеяванае становішча царкоўных юрыдык паўплывала на далучэнне да Рэфармацыі часткі гарадскога насельніцтва Беларусі. Выяўленыя крыніцы не даюць падстаў сцвярджаць пра актыўны, тым больш самастойны ўдзел гарадскога насельніцтва ў рэфармацыйным руху. Найбольш выразна дзейнасць мяшчан праявілася ў справах рэфармацыйных збораў, якія размяшчаліся ў буйных гарадах: Менску, Віцебску, Полацку і асабліва ў Вільні . У віленскай абшчыне мясцовыя гараджане выконвалі гаспадарчыя функцыі (будаўнікоў, эканомаў, дазорцаў над могілкамі і шпіталямі)[5].

---

[1] *Liedke M.* Przyczyny recepcji wyznań reformowanych przez ruskich przedstawiceli elity politycznej Wielkiego Księstwa Litewskiego w drugiej połowie XVI w. // Władza i prestiż. Magnateria Rzeczypospolitej w XVI–XVIII wieku. Białystok, 2003. C. 593–597.

[2] *Lukšaitė I.* Reformacja Lietuvos Did iojoje Kunigaikštystėje ir Ma ojoje Lietuvoje. XVI a. trečias dešimtmetis – XVII a. pirmas dešimtmetis. Vilnius, 1999. S. 59.

[3] Elementa ad fontium editionos. LXI. Romae, 1985. P. 4–5.

[4] *Малиновский И.* Рада Великого княжества Литовского. Ч. 2. Вып. 2. Томск, 1912. С. 399–420; *Merczyng H.* Zbory i senatorowie protestanccy w Dawnej Rzeczypospolitej. Warszawa, 1904. S. 138–139. Dodatek.

[5] Monumenta Reformationis Polonicae et Lithuanicae. Ser. IV, zesz. 2: Akta synodów prowincjalnych Jednoty Litewskiej 1611–1625. Wilno, 1915. S. 5.

Беларускае сялянства, як і пераважная колькасць мяшчан, захоўвала рэлігійныя традыцыі, тым больш што замена каталіцкага ці праваслаўнага кліру пратэстанцкім не ўплывала на становішча сялян і іншага залежнага люду. Кальвініскская царква мела свае зямельныя ўладанні, і на яе карысць несліся тыя ж павіннасці, што і ў іншых царкоўных маёнтках. Ян Кішка, жамойцкі староста ў тастаменце ад 6 ліпеня 1592 г. наказвае сваім нашчадкам не адлучаць падданых ад іх веры і не абцяжарваць дадатковымі павіннасцямі. Пратэстанцкая шляхта мела магчымасць вызначаць рэлігійны статус сваіх падданых і часам ужывала меры прымусу. Інструкцыя ад 4 чэрвеня 1583 г. канцлера ВКЛ Астафія Валовіча абавязвала яго падданых кожную нядзелю наведваць евангеліцкую царкву і прадугледжвала пакаранне за невыкананне гэтай пастановы. Відавочна, што невялікая частка беларускага сялянства была далучана да Рэфармацыі, аднак гэтая рэлігійная канверсія ў асноўным насіла фармальны характар.

**Арганізацыя пратэстанцкай царквы. Сіноды. Зборы.** На развіццё Рэфармацыі ў ВКЛ уплывала ідэалогія заходнееўрапейскага пратэстантызму, рэлігійная канцэпцыя чэшскіх братоў, ідэі італьянскіх вальнадумцаў (Фауста Соцына, Георгія Бляндраты і інш.) і ўскосным чынам – руская "ерась".

Пратэстанцкі гісторык XVII ст. Андрэй Венгерскі ў сваім творы "Гісторыка-храналагічная сістэма славянскіх цэркваў..." паведамляе аб уцёках у Літву і з'яўленні ў Віцебску ў сярэдзіне XVI ст. трох праваслаўных манахаў з Расіі (Феадосія Касога, Арцёмія і Фамы); яны "асуджалі ідалапаклонніцкія абрады, знішчалі ідалаў, выкідвалі іх з дамоў і храмаў і ў сваіх казаннях і пісаннях заклікалі просты люд звяртацца да Бога толькі праз Ісуса Хрыста пры дапамозе Святога Духа". Іх прапаведніцкая дзейнасць выклікала варожасць духавенства і значнай часткі гараджан, уцекачы былі вымушаны накіравацца "ў глыб Літвы, дзе больш свабодна гучала евангельскае слова"[1].

У Вільні рускія ўцекачы карысталіся падтрымкай Радзівіла Чорнага, сустракаліся з выдатным польскім рэфарматарам Янам Ласкім, заходнееўрапейскімі пратэстантамі, якія адзначалі блізкасць іх поглядаў да цвінгліянства, а старца Арцёмія называлі "другім Лютэрам, ці хутчэй Цвінглі"[2].

З сярэдзіны 50-х гг. XVI ст. у Польшчы збіраліся сіноды іншаверцаў, на якіх абмяркоўваліся пытанні дактрынальнага і арганізацыйнага афармлення пратэстанцкай царквы. На некаторых з іх прысутнічалі паслы з ВКЛ. У 1555 г. у Казьмінках была заключана унія з чэшскімі братамі аб агульнай канфесіі. Аднак шляхту не прываблівае аскетызм чэшсіх абшчын, якія былі распаўсюджаны ў Вялікай Польшчы.

Нягледзячы на тое што рэфармацыйны рух у ВКЛ пачаў развівацца ў форме лютэранства, гэтая канфесія ў далейшым не атрымала шырокага

---

[1] *Regenvolscius* (*Wengerski A.*). Systema historico-chronologicum Ecclesiarum Slavonicarum... Utrecht, 1652. P. 262–263; *Малышевский И.* Подложное письмо половца Ивана Смеры к великому князю Владимиру // Труды Киевской духовной академии. 1876. Вып. 6. С. 522–523.

[2] *Голенченко Г.Я.* Идейные и культурные связи восточнославяиских народов в XVI –середине XVII в. Мн., 1989. С. 107–109.

распаўсюджання. Падначаленасць лютэранскай царквы свецкай уладзе не задавальняла шляхту. Лютэранства (так званае аўгсбургскае веравызнанне) было пашырана ў асноўным сярод гараджан-іншаземцаў, якія такім чынам акрэслівалі сваю рэлігійную адасобленасць, і сярод нязначнай часткі шляхты, звязанай з нямецкай культурай. Яе галоўным цэнтрам у ВКЛ была Вільня, дзе існавалі нямецкая і польская абшчыны. Лютэранскі збор у Вільні паўстаў каля 1555 г.[1]

Найбольшае распаўсюджанне ў Беларусі (і ва ўсёй Рэчы Паспалітай) атрымаў кальвінізм. Менавіта рэспубліканская арганізацыя кальвініcцкай царквы, незалежнасць яе свецкіх патронаў у рэлігійных справах ад вярхоўнай улады адпавядалі імкненню шляхты быць "вольнымі панамі". У лісце да Кальвіна Л. Соцын адзначаў, што для шляхты "...рэлігійная вольнасць звязана з вольнасцю палітычнай, якой яна ўсімі сродкамі стараецца дабіцца"[2]. У тагачасных крыніцах кальвініcцкія цэрквы часам называлі "гельвецкімі" (г.зн. швейцарскімі) ці евангелісцкімі.


Жан Кальвін,
заснавальнік кальвінізму

Асноўныя рэфармацыйныя плыні ў ВКЛ – кальвінізм, лютэранства, антытрынітарызм – у 50–60-я гг. ХУІ ст. аформіліся ў самастойныя рэфармацыйныя цэрквы (зборы). Тэрмінам "збор" вызначаюць як пратэстанцкую абшчыну, так і пратэстанцкую царкву (нярэдка – проста дом для малення).

Новыя тэндэнцыі ў нетрах праваслаўнай царквы выявіліся ў спробах яе рэфармавання ў апошняй чвэрці XVI ст., у дзейнасці брацтваў, рэлігійна-палемічнай публіцыстыцы і грамадскай думцы[3].

Пачаткам арганізацыі кальвініcцкай царквы ў ВКЛ можна лічыць першы сход Віленскай абшчыны 14 снежня 1557 г., які правёў віленскі суперінтэндант Сымон Зацыус. З гэтага часу падобныя сходы, верагодна, адбываліся рэгулярна. Пратаколы першых шасці сходаў былі надрукаваны ў 1559 г. у Берасцейскай друкарні. На першых сходках пратэстанты ВКЛ канчаткова вызначылі сваю канфесію – кальвінізм – і выразна адасобіліся ад "новахрышчэнцаў, арыян" (антытрынітарыяў) і "капернаітаў" (лютэран). Дарэчы, пратакол ад 8 лютага 1558 г . змяшчае адно з першых упамінанняў пра дзейнасць у ВКЛ Сымона Буднага. Ён быў прызначаны на пасаду выкладчыка катэхізіса Віленскага збора з аплатай 10 польскіх злотых за квартал[4].

Да канца XVI ст. у асноўным склалася арганізацыйна-тэрытарыяльная структура кальвініcцкай царквы Рэчы Паспалітай. Яна ўключала тры правінцыі – Вялікапольскую, Малапольскую і Літоўскую (у апош-

[1] *Adamowicz A.* Kościoł augsburski w Wilnie. Wilno, 1855.
[2] Цыт. па: *Jobert A.* Od Lutra do Mohyły. Warszawa, 1994. S. 73.
[3] *Дмитриев М.В.* Православие и реформация. Реформационные движения в восточнославянских землях Речи Посполитой во второй половине XVI в. М., 1990.
[4] Monumenta Reformationis Polonicae et Lithuanicae. Ser. X, zesz. 1: Akta, tho iest sprawy Zboru krześciańskiego Wileńskiego. Wilno, 1913. S. 12.

нюю ўваходзілі землі сучаснай Літвы, Беларусі, Падляшша). У пачатку XVII ст. Літоўская правінцыя складалася з шасці дыстрыктаў: Віленскі (сюды ўваходзілі Вільня, Трокі, Ашмяны, Ліда, Браслаў), Завілейскі (Вількамір, Упіта, Коўна), Наваградскі (Наваградак, Рэчыца, Мазыр, Ваўкавыск), Рускі, ці Беларускі (Менск, Орша, Полацк, Мсціслаў, Віцебск), Берасцейскі, ці Падляшскі (Берасце, Гародня, Пінск, Слонім), Жамойцкі (Жамойць)[1]. Дыстрыкты ўзначальваліся суперінтэндантамі.

Арганізацыйным і кіруючым цэнтрам Літоўскай правінцыі быў Віленскі правінцыяльны сінод, на які штогод збіраліся прадстаўнікі ўсіх збораў ВКЛ. Пытанні ўнутранага жыцця дыстрыктаў і асобных абшчын вырашаліся на дыстрыктавых (партыкулярных) сінодах. У дзейнасці збораў прымалі ўдзел "сеньёры" – свецкія і духоўныя асобы, якія выбіраліся са шляхецкага і мяшчанскага станаў. Віленскі сінод прымаў рашэнні па бягучых справах асобных абшчын, прызначаў міністраў, сеньёраў і суперінтэндантаў. Большасць пастаноў сінода звязана з разглядам прыватна-прававых і царкоўна-рэлігійных спраў членаў пратэстанцкіх абшчын (дысцыплінарныя, судовыя, шлюбаразводныя, тастаменты і інш.). У актах сінода таксама сустракаюцца звесткі аб даравальных запісах, фундушах на зборы, шпіталі, школы.

Сінод меў сваю агульную касу (калекту), якую складалі фундушы пратэстанцкай шляхты і мяшчанства. Калекту выкарыстоўвалі для матэрыяльнай падтрымкі збораў, якія не мелі багатага патрона, на пенсіі для састарэлых міністраў і іх удоў, на стыпендыі вучням, якіх сінод рэкамендаваў для навучання ў мясцовых кальвінісцкіх гімназіях ці замежных універсітэтах. Кальвінісцкая царква ў набажэнстве і справаводстве выкарыстоўвала польскую мову. На жаль, матэрыялы віленскіх сінодаў другой паловы XVI – пачатку XVII ст. загінулі ў час пагрому Віленскага збора ў 1611 г.

Агульны сінод трох правінцый называўся генеральным. Арганізацыйныя уставы генеральных сінодаў ў Сандаміры (1570), Кракаве (1573), Пётракове (1578), Уладзіслаўлі (1583), Торуні (1595) былі абавязковымі для ўсіх евангелічных абшчын, яны вызначалі абавязкі духавенства (міністраў, суперінтэндантаў) і свецкіх сеньёраў, парадак правядзення сінодаў (дыстрыктавых, правінцыяльных, генеральных), пытанні ўнутрыцаркоўнай дысцыпліны, школьнай справы. У рабоце генеральных сінодаў, якія ў асноўным праходзілі ў Польшчы, удзельнічалі і прадстаўнікі ВКЛ.

Іншы раз, з улікам пажаданняў пратэстантаў з ВКЛ, сіноды праходзілі на тэрыторыі Княства. Так, на сінодзе 1565 г. у мястэчку Венграве, якое знаходзілася на мяжы ВКЛ і Кароны, адзначалася: "...браты, якія жывуць у княстве Літоўскім, скардзіліся..., што яны заўсёды на сіноды ў Польшчу прыязджалі, а польскіх братоў у Літве не бывала. Нават калі ў княстве адбываўся нейкі сінодзік, то там палякаў не бачылі. Аб гэтым таксама нябожчык пан Радзівіл, ваявода віленскі, да польскіх збораў пісаў"[2].

У 1570 г. у Вільні была заключана згода паміж канфесіямі, якія прызнавалі догмат аб св. Тройцы, – лютэранамі, кальвіністамі і чэшскімі

---

[1] Monumenta Reformationis... Ser. IV, zesz. 2: Akta synodów prowincjalnych Jednoty Litewskiej 1611–1625. S. 24.

[2] Akta synodów różnowierczych w Polsce / Oprac. M. Sipayłło. T. II. Warszawa, 1972. S. 197–198.

братамі. Пазней, на Сандамірскім генеральным сінодзе 1570 г., паслы з Літвы прадставілі сваё пагадненне, каб адзначыць адасобленасць ад антытрынітарыяў. У Сандаміры быў дасягнуты кансенсус паміж кальвіністамі, лютэранамі і абшчынай чэшскіх братоў усёй Рэчы Паспалітай. Так званая Сандамірская згода захоўвала за кожнай з гэтых канфесій права на сваю дактрыну, але прадугледжвала сумесную абарону супраць каталікоў і арыян. На гэтым жа сінодзе была прынята кампрамісная канфесійная дактрына кальвіністаў Рэчы Паспалітай. Тэрмін "канфесія Сандамерская" пачаў ужывацца кальвіністамі Княтсва і Польшчы ў тастаментах, фундушах і іншых дакументах.

Першыя рэфармацыйныя абшчыны ўзніклі ў прыватных уладаннях. Большасць збораў існавала пад патранатам фундатараў, якія ахвяравалі сродкі на ўзвядзенне зборавых будынкаў (часам яны размяшчаліся ў былых касцёле ці царкве), зямельныя надзелы, школы, шпіталі (прытулкі для "ўбогіх"). Матэрыяльны дабрабыт пратэстанцкіх святароў (казнадзеяў, міністраў) залежаў ад шляхецкіх патронаў, якія забяспечвалі іх сродкамі на пражыццё – зямельнымі ўладаннямі, грашовым і прадуктовым утрыманнем (юргельтам). Калі патрон ці яго нашчадкі адыходзілі ад рэфармацыйнага руху, збор часцей за ўсё занепадаў ці перадаваўся каталікам.


Мікалай Радзівіл Чорны

Першы ў Беларусі збор быў заснаваны каля 1553 г. Радзівілам Чорным у замку ў Берасці. Першым міністрам збора быў Сымон Зацыус, будучы суперінтэндант ВКЛ. Яго энергічная пастарская дзейнасць прывяла да канфлікту з каталіцкім луцкім біскупам Валерыянам Пратасевічам. Сымон Зацыус быў вымушаны пакінуць Берасце і пераехаць каля 1557 г. у Вільню, дзе прымаў удзел у арганізацыі віленскай абшчыны.

Большасць збораў размяшчалася ў заходніх і цэнтральных паветах, дзе існавалі буйныя прыватнаўласніцкія маёнткі. Адносна разнародны этнарэлігійны склад насельніцтва гэтага рэгіёна ў параўнанні з усходняй часткай Беларусі, дзе пераважала праваслаўнае насельніцтва, абумовіў большую распаўсюджанасць тут Рэфармацыі. Ва ўсходніх паветах першыя зборы паўставалі галоўным чынам у буйных гарадах – Полацку і Віцебску.

Андрэй Венгерскі адзначаў, што дзейнасць збеглых рускіх манахаў у Віцебску не была бясплённай, бо ў хуткім часе пасля выгнання іх з горада віцебскія жыхары запрасілі да сябе "...з Літвы і Кароны прапаведнікаў чыстай рэлігіі і збудавалі храм у Ніжнім замку, побач з царквой Раства Хрыстова". Прывілей Жыгімонта Аўгуста ад 14 чэрвеня 1562 г. па просьбе мясцовых "баяр, шляхты, бурмістраў, райцаў і мяшчан" дазваляў стварэнне ў Віцебску кальвінскага збора – "...ку науце детем и для хоженя их ку слуханю слова Божего дом збудовати и казнодею ховати..." пры ўмове, што "...в костелах рымских и в церквах руских обычаев и

справ давных отменяти они не мают, того владыка нехай бы стерег"[1]. Фундушы князёў Друцкіх-Сакалінскіх віцебскаму збору дазваляюць устанавіць яго месцазнаходжанне: "... У Ніжнім замку ... каля Вялікай вуліцы на паввароце, ідучы да Брамы замка Вышняга падвор Якуба Пушкара, што стаіць на пляцы Івана Шапкі, і таксама падвор Андрэя Ключніка, на каторым пляцы збор стаіць"[2].

Арганізацыя пратэстанцкай абшчыны ў Полацку звязана з імем аднаго з рускіх уцекачоў – Фамы, якога А. Венгерскі характарызаваў як найбольш красамоўнага і дасведчанага ў Святым Пісанні. У Полацку ён ажаніўся. У рускіх крыніцах ёсць звесткі "про Фоміну жену Люторова, про полочанку"[3]. Пасля захопу ў лютым 1563 г. Полацка войскам Івана IV Фаму як "ерэтыка" па загадзе цара ўтапілі ў Дзвіне[4]. Але рэфармацыйны рух працягваў карыстацца пэўнай падтрымкай у горадзе. У 1579 г. пасля вяртання Полацка ў склад ВКЛ полацкім ваяводам Мікалаем Манвідам Дарагастайскім быў закладзены новы збор[5].

Адным з самых ранніх вядомых нам дакументаў пра існаванне збора ў Менску з'яўляецца сведчанне надання яму ў 1596 г. рэчыцкім старостам князем Ярашам Іванавічам Жыжэмскім зямельных уладанняў і дома ў Менску[6]. Дом з пляцам і рознымі гаспадарчымі пабудовамі знаходзіўся на вуліцы Юр'еўскай (частка цяперашняй вул. Інтэрнацыянальнай каля Кастрычніцкай плошчы), агарод падыходзіў аж да ракі Свіслач.

Да 1588 г. адносіцца фундушовы запіс на збор у Навагрудку ўдавы віцебскага кашталяна Малхера Сноўскага – Барбары Сноўскай. Магчыма, збор паўстаў там раней[7]. У Навагрудку існавала і арыянская абшчына; з ім звязана дзейнасць вядомага педагога Яна Ліцынія Намыслоўскага, рэктара Іўеўскай школы. Пасля смерці Яна Кішкі ў 1592 г. Іўе перайшло да яго спадкаемцаў-кальвіністаў, і Намыслоўскі асталяваўся ў Навагрудку ў якасці міністра арыянскага збора. У 1594 г. ён удзельнічаў у тэалагічным дыспуце, які адбыўся ў Навагрудку з вучоным езуітам Марцінам Сміглецкім. Суддзямі на дыспуце былі з боку арыян – навагрудскі маршалак Васіль Зянкевіч і Лявон Маклок, з боку кальвіністаў – Ян Пац і Андрэй Завіша[8].

У другой палове ХУІ ст. існавалі зборы ў радзівілаўскіх уладаннях у Беларусі – Беліцы, Клецку, Койданаве, Нясвіжы, Сяльцы; уладаннях Кішкаў – Іўі, Холхле, Лоску, Любчы, Солах; Яна Глябовіча – у Заслаўі і Дуброўне (Аршанскі павет); Юрыя Зяновіча ў Смаргоні, Яна Абрамовіча ў Варнянах. Зборы былі таксама ў Ашмяне Мураванай, Оршы, Гнезна, Гальшанах, Жодзішках, Іказні, Кухцічах, Палачанах, Свіранах і інш. Усяго ў другой палове ХУІ ст. на тэрыторыі Беларусі дзейнічала каля 40 збораў.

---

[1] Monumenta Reformationis... Ser. I, zesz. 1 Wyd. 2. Wilno, 1925. S. 8.

[2] Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі Літвы імя М. Мажвідаса (далей – АР НБ Літвы). Ф. 93, спр. 1783.

[3] Описи царского архива XVII в. и архива Посольского приказа 1614 / Под ред. С.О. Шмидта. М., 1960. С. 42.

[4] *Mienicki R.* Egzulanci Poloccy (1563–1580) // Atheneum Wileńskie. R. 1933/34. Wilno, 1934. S. 45.

[5] Аддзел рукапісаў Бібліятэкі Акадэміі навук Літвы. Ф. 40, спр. 242.

[6] АР НБ Літвы. Ф. 93, спр. 831, 833.

[7] *Lukšaitė I.* Reformacja Lietuvos... S. 586–587.

[8] *Szczucki L.* Jan Licynius Namysłowski // Studia nad arianizmem pod red. L. Chmaja. Warszawa, 1959. S. 146.

**Антытрынітарыі.** Амаль адначасова з працэсам арганізацыі кальвінісцкай царквы на генеральных сінодах абвастралася дыскусія па пытаннях дагматыкі. Рэлігійна-філасофскія і сацыяльна-палітычныя супярэчнасці прывялі рэфармацыйны рух да расколу. У 60-я гг. XVI ст. сфарміраваўся антытрынітарскі рух, радыкальны накірунак Рэфармацыі. Яго прыхільнікаў у ВКЛ называлі "літоўскімі братамі", "арыянамі" (свяшчэннік Арый з Александрыі у IV ст.н.э. выступіў супраць адзінасутнасці св. Тройцы). Антытрынітарыі адмаўлялі догмат св. Тройцы, хрышчэнне немаўлят, ужывалі практыку паўторнага хрышчэння ў сталым узросце (анабаптысты, ці "новахрышчэнцы"), прызнавалі за Ісусам Хрыстом толькі чалавечую, а не Боскую сутнасць. У сацыяльна-палітычным плане антытрынітарыі выступалі супраць "нявольніцтва", вярхоўнай улады, прыватнай уласнасці, удзелу ў войнах[1].

Антытрынітарыі праследаваліся ў краінах Заходняй Еўропы, многія з іх знаходзілі паратунак у Рэчы Паспалітай, дзе актыўна ўдзельнічалі ў рэфармацыйным руху (Ф. Станкар, Г. Бляндрата, Ф. Лісманін, Ф. Соцын). Адным з першых прапаведнікаў антытрынітарызму ў Рэчы Паспалітай быў Пётр Гезка з падляшскага мястэчка Ганёндз. Першым патронам Пятра з Ганёндза быў Радзівіл Чорны, які паслаў яго са сваімі лістамі на сінод у Сецеміне. Выступленне Пятра на сінодзе і выданне ім у 1556 г. у Кракаве свайго твора "Аб сыне Божым, чалавеку Хрысце" выклікала абурэнне ў кальвіністаў. Піньчаўскі сінод 1556 г. адлучыў яго ад царквы. Па загадзе Радзівіла Чорнага быў знішчаны ўвесь тыраж выдання. На сінодзе 1558 г. у Берасці Пётр выступіў супраць хрышчэння дзяцей. З канца 60-х гг. ён выконваў абавязкі казнадзея збора ў Венграве на Падляшшы, уладанні Кішкаў.

Ідэі антытрынітарызму знаходзілі ўсё больш прыхільнікаў, у тым ліку і ў асяроддзі Радзівіла Чорнага (Сымон Будны, Лаўрэнцій Крышкоўскі, Тамаш Фальконіуш (Сакалоўскі), былы лекар каралевы Боны, італьянец Георгій Бляндрата). Кальвін, які вёў ажыўленую перапіску з пратэстантамі ВКЛ, сурова выказаўся пра погляды і дзейнасць Бляндраты. У 1561 г. па даручэнні Радзівіла Чорнага ў Швейцарыю для вырашэння тэалагічна-дактрынальных сумненняў быў накіраваны Марцін Чаховіц з лістамі ад Радзівіла і кальвіністаў Польшчы і ВКЛ. У час сустрэчы з Кальвінам і кіраўніком цюрыхскіх пратэстантаў Г. Булінгерам М. Чаховіц спрабаваў абараніць Бляндрату, які абвінавачваўся ў распаўсюджванні ідэй Сервета, але без поспеху. Кальвін перадаў праз Чаховіца 5 лістоў , у якіх перасцерагаў ад уздзеяння "ерасі" Бляндраты. Лісты да Радзівіла і Віленскага збора былі вытрыманы ў асабліва рэзкім тоне, таму Радзівіл палічыў за лепшае ўтаіць іх[2]. Можна меркаваць, што ў апошнія гады жыцця Радзівіл Чорны схіляўся да антытрынітарызму (памёр у 1565 г.). У яго мястэчку Морды на Падляшшы 6 чэрвеня 1563 г. адбыўся сінод, на які "збегліся як да агня 42 асобы", у асноўным тыя, хто не прызнаваў догмат св. Тройцы[3]. З гэтага часу яны збіраліся на асобныя ад кальвіністаў сіноды. Першы генеральны сінод антытрынітарыяў ад-

[1] *Подокшин С.А.* Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы. Мн., 1970.
[2] *Szczucki L.* Marcin Czechowic. Warszawa, 1964. S. 28–37.
[3] Akta synodów różnowierczych. T. II. S. 152, 325–326 (dodatek).

быўся ў Бжэзінах 10 чэрвеня 1565 г., на ім прысутнічалі 32 духоўныя асобы і 18 свецкіх прадстаўнікоў[1].

У Беларусі ў другой палове XVI ст. дзейнічалі арыянскія абшчыны ў Наваградку, Лоску, Клецку, Іўі, Любчы, Нясвіжы.

Самым выдатным прадстаўніком антытрынітарызму ў ВКЛ быў Сымон Будны. Рэлігійна-філасофская дактрына Буднага была заснавана на рацыянальным падыходзе да хрысціянскай дагматыкі, Святога Пісання. Свае сумненні аб сапраўднасці царкоўнага догмату св. Тройцы Будны выказаў яшчэ ў 1563 г. у пасланні да кіраўніка цюрыхскіх пратэстантаў Генрыха Булінгера. Разважанні пра догмат св. Тройцы Будны падмацоўваў канкрэтнымі прыкладамі з першакрыніц, даказваў, што тэзіс аб прадвечнай боскасці Хрыста з'явіўся ў выніку скажонага тлумачэння слоў, ён адмаўляў Хрысту ў боскай сутнасці і сцвярджаў яго чалавечую натуру. Будны не быў атэістам, ён імкнуўся ўзнавіць і ўзвысіць грамадства на нескажонай хрысціянскай аснове. У канцы 50-х гг. XVI ст. Будны наведаў Слуцк, дзе пад апекай князя Юрыя Алелькавіча асталяваўся адзін з рускіх уцекачоў – Арцёмій. Будны быў асабіста знаёмы з ім, дасылаў яму свае творы, меў намер арганізаваць у Слуцку "рускую" друкарню[2]. Верагодна, рэлігійныя разыходжанні перашкодзілі гэтаму. Арцёмій паважаў Буднага за вучонасць, заклікаў адступіцца ад "ерасі". Арцёмію, былому ігумену Троіца-Сергіева манастыра, зняволенаму за вальнадумства ў Салавецкі манастыр, адкуль ён збег у ВКЛ, рэлігійныя пераканання "Сымона ератыка Буднага" здаваліся недазваляльна дзёрзкімі, богазневажальнымі.

Аднак Будны адвяргаў сацыяльна-палітычны радыкалізм – ён прызнаваў неабходнасць існавання дзяржавы як гаранта законнасці, права мець уласную маёмасць, удзельнічаць у справядлівых войнах. Ён упарта адстойваў свае погляды на сумесных з "польскімі братамі" сінодах. У каментарыях да "Новага Запавету" 1574 г. – аднаго са сваіх найбольш значных і смелых твораў, Будны закранаў пытанні рэлігійнага фанатызму, асудзіў Кальвіна, па загадзе якога ў Жэневе быў пакараны смерцю Мігель Сервет.

У сваім творы "Аб свецкай уладзе" (Лоск, 1583 г.) Будны апісаў дыспут, які праходзіў у 1568 г. у мястэчку Іўе , дзе яго асноўнымі апанентамі выступілі Павел з Візны і Якуб з Калінаўкі. У прадмове да кнігі Будны паведамляў, што праз год пасля Іўеўскага сінода Якуб выехаў у Ракаў. У 1569 г. прадстаўнікі сацыяльна-радыкальнага крыла заснавалі ў Ракаве (Сандамірскае ваяводства) абшчыну, якая павінна была ажыццявіць на практыцы ідэі агульнай маёмасці, сацыяльнай роўнасці, абавязковасці фізічнай працы. Ракаўская абшчына існавала да 1638 г., яна стала цэнтрам антытрынітарызму ў Рэчы Паспалітай. У Ракаве дзейнічала школа, якую называлі акадэміяй, друкарня, адбываліся сіноды.

**Варшаўская канфедэрацыя.** Рэфармацыя адыграла пэўную ролю ў дэмакратызацыі палітычнага жыцця краіны, зацвярджэнні прынцыпаў верацярпімасці. Можна меркаваць, што поспехі рэфармацыйнага руху і

---

[1] Akta synodów różnowierczych. T. II. S. 193.

[2] *Szczucki L.* Szymona Budnego relacja o początkach i rozwoju anabaptyzmu w zborze mniejszym // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. 1986. T. XXXI. S. 104.

моцныя пазіцыі, якія займалі магнаты-пратэстанты ў вышэйшых органах, паўплывалі на выданне ў Вільні ў 1563 г. прывілея Жыгімонта Аўгуста, які быў пацверджаны і пашыраны ў 1568 г. у Гародні. Гэтымі прывілеямі ўся шляхта ВКЛ "веры хрысціянскай" ураўноўвалася ў правах.


Канцлер Астафій Валовіч

Эвалюцыя грамадска-палітычнага ладу Рэчы Паспалітай, спецыфіка яе этнаканфесійнага складу, уплыў пратэстанцкай эліты пэўным чынам садзейнічалі прыняццю Варшаўскай канфедэрацыі. Абвастрэнне палітычнай сітуацыі ў час бескаралеўя 1572–1573 гг. патрабавала далейшага заканадаўчага замацавання прававога статуса пратэстантаў. На канвакацыйным сейме 28 студзеня 1573 г. у Варшаве была прынята канфедэрацыя, якая гарантавала рэлігійную свабоду шляхецкаму саслоўю Рэчы Паспалітай. Сярод паслоў, якія падпісалі канфедэрацыю, амаль палову складалі каталікі. Адзіным каталіцкім біскупам, які падпісаў канфедэрацыю, быў кракаўскі біскуп Францішак Красінскі. Ад ВКЛ свае подпісы паставілі падканцлер Астафей Валовіч, віцебскі кашталян Павел Пац, берасцейскі пісар Адам Пацей (будучы уніяцкі мітрапаліт Іпацій Пацей)[1]. Статус закона канфедэрацыя атрымала ў 1576 г., калі яна была пацверджана Стэфанам Баторыем і ўключана ў сеймавыя канстытуцыі, што фармальна забяспечыла прававую абароненасць пратэстантаў. Вопыт рэлігійных войнаў у Францыі, Нідэрландах, Германіі, рэальнае разуменне палітычнай сітуацыі патрабавалі ад вярхоўнай улады падтрымкі ідэі рэлігійнага міру.

Варшаўская канфедэрацыя была перакладзена на "рускую" мову і ўключана ў III Статут ВКЛ 1588 г. Акт канфедэрацыі рэгуляваў адносіны паміж хрысціянскімі канфесіямі: " А иж в Речи Посполитой ест розность немалая з стороны веры хрестияньское... обецуем то собе сполне за нас и за потомки нашы на вечные часы под обовязком присеги, под верою, честию и сумненьем нашим, иж, которые естесмо розни в вере, покой межи собою заховати, а для розное веры и отмены в костелех крови не проливати..."[2]

Варшаўская канфедэрацыя сведчыла пра паглыбленне і пашырэнне шляхецкіх правоў, але яна не парушала правоў каталіцкага касцёла. Як адзначаў сучаснік, канфедэрацыя "...не з'яўляецца артыкулам рэлігіі і веры, але палітычным артыкулам міру і грамадскага спакою..."[3] Таму шмат шчырых прыхільнікаў яе было і ў асяроддзі непратэстанцкай шляхты, для якой падтрымка верацярпімасці была сродкам абароны сваіх шляхецкіх вольнасцей.

[1] *Budka Wl.* Kto podpisał konfederację Warszawską 1573 r.? // Reformacja w Polsce. Rocz.1, № 4, 1921. S. 318.
[2] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Мн., 1989. С. 113.
[3] *Korolko M.* Spory i polemiki wokół konfederacji Warszawskiej w latach 1573–1576 // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. T. XVIII, 1973. S. 75.

Як пэўны недахоп Варшаўскай канфедэрацыі трэба адзначыць прававую недапрацаванасць – не былі вызначаны гарантыі свабоды веравызнання, сістэма пакаранняў за парушэнне яе пунктаў. Усё гэта ў далейшым, па меры поспехаў контррэфармацыі прывяло да пагаршэння становішча некаталіцкіх канфесій. Тым не менш заканадаўчае замацаванне асноўных юрыдычных норм верацярпімасці мела вялікае значэнне.

**Уздзеянне Рэфармацыі на адукацыю і кнігадрукаванне.** Рэфармацыйная адукацыя імкнулася выкарыстоўваць еўрапейскі педагагічны вопыт. У час падарожжа ў Швейцарыю па даручэнні Радзівіла Чорнага Марцін Чаховіц у 1562 г. сустракаўся ў Цюрыху з вядомым пратэстанцкім педагогам Янам Вольфам і звярнуўся да яго з просьбай даць апісанне цюрыхскай школы, каб на яе ўзор арганізаваць школу ў Вільні[1]. Верагодна, школа пры Віленскім зборы, які знаходзіўся пад патранатам Радзівіла Чорнага, дзейнічала ўжо з 1557 г. Сярод яе настаўнікаў былі Сымон Будны і Марцін Чаховіц. Спачатку школа была пачатковай, у 1568 г. яна налічвала каля 10 вучняў, потым стала сярэдняй – у канцы XVI ст. мела ўжо пяць класаў і столькі ж настаўнікаў. Пратэстанцкія школы ў ВКЛ адчувалі недахоп высокакваліфікаваных настаўнікаў. Суровую (аднак не зусім справядлівую) ацэнку ўзроўню віленскай школы перад прыбыццём у Вільню езуітаў даў тагачасны віленскі войт Аўгуст Ратундус у лісце да кардынала Ст. Гозія: "Віленская школа, нягледзячы на моцнага пратэктара, мела кепскіх настаўнікаў; шляхта, якая аддавала туды сваіх сыноў, была вельмі незадаволена іх нізкім узроўнем"[2].

Спробам стварыць на базе віленскай школы ў 70-я гг. XVI ст. вышэйшую рэфармацыйную навучальную ўстанову накшталт еўрапейскіх універсітэтаў перашкодзіла супраціўленне прыхільнікаў контррэфармацыі. Нягледзячы на пратэсты магнатаў-пратэстантаў, у 1579 г. Стэфан Баторый зацвердзіў пераўтварэнне Віленскай езуіцкай калегіі ў акадэмію.

У 80–90-я гг. XVI ст. ва ўладанні Яна Кішкі – Іўі дзейнічала арыянская школа, якую сучаснікі называлі акадэміяй. Іўеўская школа мела высокі ўзровень выкладання дзякуючы намаганням яе рэктара – Яна Ліцынія Намыслоўскага. Ураджэнец Сілезіі, Намыслоўскі атрымаў выдатную адукацыю ў Еўропе, ведаў лацінскую, нямецкую і грэчаскую мовы. Іўеўская школа стала інтэлектуальным цэнтрам Наваградчыны, тут вучыліся дзеці шляхты розных веравызнанняў. Для патрэб школы Намыслоўскі падрыхтаваў маральна-павучальны дапаможнік "Павучанні, неабходныя для жыцця" (Лоск, 1589 г.) – тыповы для рэнесанснай культуры зборнік "практычнай паэзіі". Праграма навучання Іўеўскай школы, якую Намыслоўскі выклаў у форме лацінскага верша, арыентавалася не на сектанцка-рэлігійны, а на свецкі, гуманістычны характар адукацыі. Яна прадугледжвала вывучэнне антычных аўтараў (Гамера, Вергілія, Цыцэрона і інш.). Распрацаваны Намыслоўскім падручнік па логіцы "Дапаможнік па навуках Арыстоцелевых" (Лоск, 1586 г.) не толькі навучаў асновам логікі, але і павінен быў рыхтаваць вучняў да тэалагічных дыспутаў. Даследчыкі прасочваюць пэўныя аналогіі паміж вучэбнымі праграмамі Намыслоўскага і вядомага нямецкага педагога Яна Штурма[3]. Пасля 1592 г. школа была закрыта.

---

[1] *Szczucki L.* Marcin Czechowic. S. 32.
[2] *Piechnik L., ks.* Początki Akademii Wileńskiej 1570–1599. Rzym, 1984. S. 33.
[3] *Szczucki L.* Jan Licynius Namysłowski. S. 132–137.

Пачатковыя школы існавалі пры шмат якіх зборах. Праўда, фундацыя на школу не заўсёды азначала яе рэальнае існаванне, гэта магла быць дэманстрацыя "добрых намераў". Нам мала вядома аб праграме навучання ў пачатковых школах, яны ўтрымліваліся за кошт фундатара ці агульнай калекты пры Віленскім зборы. Найбольш здольных вучняў Віленскі сінод пасылаў вучыцца ў пратэстанцкія еўрапейскія універсітэты.

Вялікі патэнцыял рэфармацыйнай адукацыі быў рэалізаваны толькі ў нязначнай ступені. Навучальныя ўстановы згасалі разам са зборамі. Адсутнасць вышэйшай рэфармацыйнай навучальнай установы ў Вялікім Княстве Літоўскім вымушала шляхецкую моладзь атрымліваць адукацыю ў езуіцкіх калегіях і Віленскай акадэміі. На вучобу за мяжой не ўсе мелі сродкі.

Рэфармацыйнае кнігадрукаванне ў Беларусі ўзнікла практычна адначасова з фарміраваннем рэфармацыйнай царквы. У 1553 г. пры зборы ў Берасці пры падтрымцы Радзівіла Чорнага для прапаганды рэфармацыйных ідэй была арганізавана першая на тэрыторыі Беларусі (а таксама першая рэфармацыйная ў ВКЛ) друкарня. Яна дзейнічала да 1570 г. З дакументаў 1566 г. вядома, што друкарня размяшчалася на Рыначнай плошчы, а на Яўрэйскай вуліцы жыў "Якуб-друкар"[1]. У Берасці працавалі запрошаныя Радзівілам з Польшчы друкары і выдаўца: гуманіст Бернард Ваяўудка, звязаны з эразміянскім колам у Кракаве, Станіслаў Мурмеліус і таленавіты перакладчык, паэт, музыкант-кампазітар Цыпрыян Базылік.

У Берасці было надрукавана каля 40 тытулаў (назваў) кніг на польскай мове. Тут выходзіла не толькі рэлігійная, але і свецкая літаратура: збор юрыдычна-прававых сачыненняў Б. Граіцкага, палітычны твор віленскага войта А. Ратундуса "Размова паляка з літвінам", ананімная антыкаталіцкая сатыра "Пратэй", гістарычныя і вершаваныя творы. Тут выйшаў таксама першы друкаваны нотны зборнік у Беларусі – "Берасцейскі канцыянал" Яна Зарэмбы (1558); у перакладзе і апрацоўцы Ц. Базыліка – "Гісторыя жорсткіх ганенняў царквы Божай..." (1567), якая змяшчала мартыралог пратэстанцкіх пакутнікаў пачынаючы ад Віклефа і Гуса; "Гісторыя пра жыццё і слаўныя справы Георгія Кастрыёта..." (1569) пра вызваленчую барацьбу балканскіх народаў супраць асманскага панавання.

Выдатнае месца ў гісторыі кнігадрукавання ВКЛ і Польшчы належыць выданню Берасцейскай (ці Радзівілаўскай) кальвіністкай Бібліі 1563 г., якая выйшла "уласным коштам" Радзівіла Чорнага. У прысвячэнні Жыгімонту Аўгусту Радзівіл адзначае, што выданнем гэтай кнігі спадзяецца заслужыць падзяку "народа языка славянскага". У тастаменце ад 27 мая 1565 г. Радзівіл завяшчаў усе экземпляры Бібліі таму збору, дзе ён будзе пахаваны, і школе пры ім (спачатку Радзівіл быў пахаваны пры Віленскім зборы)[2]. Берасцейская Біблія была ўключана ў польскі індэкс забароненых кніг, складзены ў Кракаве ў 1603 г. Нягледзячы на гэта, у 1617 г. Віленскі сінод пастанавіў, каб Берасцейская Біблія была пры кожным зборы ВКЛ.

---

[1] Документы Московского архива Министерства юстиции. Т. 1. М., 1897. С. 205, 208.

[2] *Augustyniak U.* Testamenty ewangelików reformowanych w Wielkim Księstwie Litewskim. Warszawa, 1992. S. 20.



"Катэхізіс" Сымона Буднага, выдадзены ў Нясвіжы ў 1562 г.

У 1561–1562 гг. Будны разам са сваімі аднадумцамі Лаўрэнціем Крышкоўскім і Мацеем Кавячынскім пры падтрымцы Радзівіла Чорнага арганізаваў у Нясвіжы друкарню. З яе выйшлі першыя ў Беларусі друкаваныя творы на старабеларускай мове – Катэхізіс 1562 г. і "Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам" С. Буднага (апошні твор не захаваўся). Кірылічная прадукцыя друкарні, безумоўна, прызначалася для распаўсюджання рэфармацыйных ідэй сярод беларусаў.

Трэба, аднак, заўважыць, што большая частка "паспалітага" насельніцтва ў XVI ст. захоўвала свае праваслаўныя традыцыі і абыякава ставілася да новай веры. Магчыма, па гэтай прычыне з 1563 г. Нясвіжская друкарня цалкам перайшла на выпуск польска-лацінскіх выданняў, у асноўным арыянскага характару. Тут былі надрукаваны палемічныя творы Гжэгажа Паўла, "Нясвіжскі канцыянал" (1563–1564 гг., сярод аўтараў значыліся Мікалай Рэй, Андрэй Тшыцескі, Марцін Чаховіц). У Нясвіжскай друкарні Мацея Кавячынскага пачала друкавацца новая рэдакцыя Бібліі ў перакладзе і з каментарыямі С. Буднага, а пасля яго смерці скончана "стараннем і накладам" яго братоў Гектара і Альбрахта. Яна выйшла ў свет у 1572 г. без указання месца выдання (як мяркуюць, у Заслаўі ці Уздзе). Усяго вядома 12 тытулаў друкарні ў Нясвіжы.

Прыкладна ў 1573 г. абсталяванне друкарні выкупіў у Кавячынскіх блізкі да антытрынітарызму магнат Ян Кішка і размясціў у сваім замку ў Лоску. Фактычным ідэйным кіраўніком друкарні стаў С. Будны, які адначасова быў хатнім прапаведнікам Кішкі. Вядома каля 20 яе выданняў на польскай і лацінскай мовах, яна была цэнтрам арыянскага кнігадрукавання ў ВКЛ. У ліку найбольш значных выданняў Лоскай друкарні – творы і пераклады Сымона Буднага: "Новы Запавет" (1574), "Пра галоўныя артыкулы хрысціянскай веры" (1576) і інш. Варта ўзгадаць таксама твор Эрнста Варамунда Фрыза "Пра фурыі, або вар'яцтвы французскія" – аб падзеях Варфаламееўскай ночы (1576 г., пераклад Буднага), палемічныя творы М. Чаховіца і А. Волана, вучэбныя кнігі рэктара арыянскай школы ў Іўі Яна Ліцынія Намыслоўскага.

Асобнае месца ў дзейнасці Лоскай друкарні займае першае ў Рэчы Паспалітай выданне на польскай мове выдатнага твора Андрэя Фрыча Маджэўскага "Аб удасканаленні Рэчы Паспалітай" (1577 г., пераклад Ц. Базыліка, прадмовы напісаны каталіком М. Стрыйкоўскім, кальвіністам А. Воланам, антытрынітарыем С. Будным). Выданне і пераклад фінансаваў полацкі ваявода Мікалай Манвід Дарагастайскі. Маджэўскі належаў да тых гуманістаў, чые погляды паўплывалі на развіццё рэфармацыйнай ідэалогіі. На яго думку, у органах улады павінны быць прад-

стаўлены ўсе станы, а не толькі шляхецкі. Ён прапаноўваў увесці адзінае для ўсіх станаў юрыдычнае права, надаць свецкі характар школьнай адукацыі, правесці рэфармаванне касцёла. С. Будны ў прадмове да кнігі са смуткам адзначаў, што іншаземцы высока ацэньваюць Маджэўскага, а суайчыннікі ледзь ведаюць і імя яго, і працы.

Друкарня ў Лоску перастала дзейнічаць пасля 1592 г.

У 70-я гг. XVI ст. нядоўга існавала прыватная друкарня беларускага шляхціца, паплечніка і аднадумца Сымона Буднага – Васіля Цяпінскага (магчыма, у яго радавым маёнтку Цяпіна ў Полацкім павеце). Цяпінскі ў прадмове да Евангелля, надрукаванага паралельна на царкоўна-славянскай і старажытнабеларускай мовах, падкрэсліваў неабходнасць адраджэння роднай мовы, процідзеяння паланізацыйным тэндэнцыям. Ён з горыччу адзначаў "...езыка своего славного занедбане, а просто взгарду" ў сучасным яму грамадстве.

Амаль усе вядомыя нам рэфармацыйныя старадрукі выйшлі на польскай і часткова на лацінскай мове. Рэфармацыю ў ВКЛ падтрымала пераважна тая частка грамадства (магнатэрыя, частка шляхты), якой асабліва ўласціва рэцэпцыя польскай культуры. Гэтым тлумачыцца перавага польскай мовы ў рэфармацыйным кнігадрукаванні Беларусі і арыентацыя кніжнай прадукцыі на беларускую паланізаваную шляхту.

Змены ў грамадска-палітычным жыцці пасля заключэння Люблінскай уніі 1569 г., умацаванне пазіцый польскай знаці і каталіцкай царквы ў Рэчы Паспалітай, раскол у рэфармацыйным руху, нарастанне контррэфармацыйных тэндэнцый узмацнілі культурна-канфесійныя паланізацыйныя працэсы сярод шляхты Беларусі. У каталіцызм вярталіся не толькі былыя каталікі. Прадстаўнікі некаторых праваслаўных родаў, нядаўнія пратэстанты (Валовічы, Збаражскія, Хадкевічы, Сапегі) таксама прымалі каталіцкую веру.

Распаўсюджанне гуманістычнай і рэфармацыйнай ідэалогіі спрыяла эвалюцыі духоўнай культуры Беларусі, працэсам фарміравання шляхецкай дэмакратыі, тэндэнцыям рэлігійнай талерантнасці. Рэфармацыя падняла на новы ўзровень свецкія або ў значнай ступені секулярызаваныя міжнародныя культурныя сувязі. Разам з тым яна паскорыла культурную паланізацыю значных слаёў шляхты, таму што не апіралася на беларускія і ўсходнеславянскія моўныя і пісьмовыя традыцыі.

## 4. Пачатак Контррэфармацыі

**Каталіцкая рэформа.** Поспехі Рэфармацыі вымусілі каталіцкі касцёл правесці сур'ёзныя ўнутраныя рэформы. На Усяленскім Трыдэнцкім саборы (працягваўся з 1545 г. па 1563 г. з перапынкамі) былі дакладна вызначаны і пацверджаны асноўныя каталіцкія догматы і асуджаны палажэнні пратэстантызму, якія з'яўляліся асаблівым прадметам дыскусій (Святое Пісанне як асноўная крыніца веры, вучэнне пра апраўданне верай, інтэрпрэтацыя таінстваў, набажэнства на роднай мове і інш.). Пастановы сабора былі таксама накіраваны на ўмацаванне ўлады папы рымскага, удасканаленне ўнутрыцаркоўнай дысцыпліны, паляпшэнне адукацыі духавенства. У 1559 г. папа рымскі зацвердзіў першы індэкс

забароненых кніг (яны былі прызнаны шкоднымі для каталіцкай веры). У індэкс былі ўключаны творы не толькі пратэстанцкіх аўтараў, але і гуманістаў (у тым ліку Андрэя Фрыча Маджэўскага).

У сярэдзіне 50-х гг. XVI ст. была створана пастаянная папская нунцыятура ў Польшчы, што дазволіла Апостальскай сталіцы больш дакладна арыентавацца ў царкоўна-рэлігійных справах Кароны Польскай і Вялікага Княства Літоўскага. Папскі нунцый Алаізій Ліпамана ў час знаходжання ў Вільні сустрэўся з віленскім ваяводам Мікалаем Радзівілам Чорным. Ліпамана, які слаба арыентаваўся ў палітычнай і рэлігійнай сітуацыі ў ВКЛ, накіраваў Радзівілу ліст з папрокамі ў адступніцтве ад каталіцтва і пастарскімі павучаннямі. І змест, і тон гэтага ліста былі недарэчнымі пры звароце да такой асобы, як віленскі ваявода. Да таго ж распаўсюдзіліся чуткі, што Ліпамана неаднаразова прапаноўваў Жыгімонту Аўгусту прыняць жорсткія меры супраць пратэстанцкай шляхты, аднак кароль адказаў, што ён "пануе над вольным народам і яго ўлада правамі (шляхецкімі – *Л.І.*) абмежавана"[1]. Ад імя Радзівіла[2] Ліпамана была паслана водпаведзь, аўтар якой лічыў непрымальнымі і супраціўнымі запаветам Хрыста метады барацьбы з іншадумствам: "вольных у сваіх думках і справах людзей адлучаць ад сапраўднай веры крывёй і жорсткасцю"[3].

Перапіска гэтая мела вялікі грамадскі рэзананс, дзейнасць нунцыя была ўспрынята як бесцырымоннае ўмяшанне ва ўнутраныя справы краіны, і ён быў вымушаны ў 1557 г. вярнуцца ў Рым.

Даўнія традыцыі адноснай рэлігійнай талерантнасці, абумоўленай суіснаваннем розных рэлігій і канфесій, прававое становішча шляхты патрабавалі выкарыстання больш дыпламатычных форм і метадаў супрацьдзеяння Рэфармацыі, чым у іншых краінах Еўропы. Езуіт Пётр Канізій у час візіту ў Польшчу ў 1558–1559 гг. сцвярджаў, што ў гэтым краі не павінны прымяняцца рэпрэсіўныя меры супраць іншаверцаў, патрэбны рэформы кліру і фарміраванне свецкай каталіцкай інтэлігенцыі. Але да гэтай высновы ён прыйшоў ужо пасля няўдалай місіі Алаізія Ліпамана.

У 1564 г. Жыгімонт Аўгуст пад уплывам папскага нунцыя Камендоні прыняў пастановы Трыдэнцкага сабора, пацверджаныя епіскапатам Рэчы Паспалітай на Пётракаўскім сінодзе ў 1577г. Палітычнае і дактры-

---

[1] Relacye nuncyuszów apostolskich i innych osób o Polsce. T. 1. Berlin; Poznań, 1864. S. 15.

[2] Наўрад ці Радзівіл быў фактычным аўтарам гэтага ліста, насычанага філасофска-тэалагічнымі сентэнцыямі. Некаторыя даследчыкі лічылі аўтарам Пятра Паўла Вяргерыя, італьянца па паходжанні, былога юстынапалітанскага біскупа, з 1544 г. лютэраніна, віднага дзеяча еўрапейскай Рэфармацыі, які з місіянерскай мэтай наведваў Рэч Паспалітую ў 1556–1557 і 1559–1560 гг.: *Bukowski J.* Dzieje Reformacyi w Polsce od wejscia jej do Polski aż do jej upadku. T. 2. Kraków, 1888. S. 386; *Grabowski T.* Literatura luterska w Polsce XVI w. Poznań, 1920. S. 143–145. У іншых даследаваннях выказваецца думка, што аўтарам быў асабісты сакратар Радзівіла Чорнага, лінгвіст і лексікограф, складальнік лацінска-польскага слоўніка Ян Манчыньскі ці наогул ліст мог мець некалькі аўтараў: *Jasnowski J.* Mikołaj Czarny Radziwiłł (1515–1565). Warszawa, 1939 // Rozprawy historyczne Towarzystwa naukowego warszawskiego. T. XXII. S. 205–206; *Barycz H.* Jan Mączyński // Polski słownik biograficzny. T. XX/ 2, zesz. 85. Wrocław, etc., 1975. S. 337.

[3] *Chrzanowski Ign.* Dwa listy łacińskie, Aloizego Lipomana i Mikołaja Radziwiłła, w przekładzie polskim Mikołaja Reja // Z wieku Mikołaja Reja. Warszawa, 1905. S. 98.

нальнае ўзмацненне касцёла дазволіла аднавіць і ўдасканаліць яго арганізацыйную структуру, пашырыць парафіяльную сетку, рэарганізаваць вучэбна-адукацыйную сістэму, што станоўча адбілася на яго стане ў грамадстве.

Вялікую ролю ў рэалізацыі каталіцкай рэформы адыграў ордэн езуітаў ("Таварыства Ісуса"), які арганізаваў Ігнацый Лаёла для ўмацавання пазіцый каталіцызму і барацьбы з рэфармацыйным рухам. У 1540 г. папа Павел III зацвердзіў стварэнне гэтага ордэна. Дынамічны, з жорсткай унутранай арганізацыя і дысцыплінай, падпарадкаваны непасрэдна папе рымскаму, ордэн разгарнуў дзейнасць у краінах Еўропы. Езуіты прымалі ў свае шэрагі найбольш здольных асоб: каб стаць правадзейным членам ордэна, трэбы было вучыцца каля 12 гадоў. Ордэн меў добрую матэрыяльную базу – папскія прывілеі дазвалялі езуітам займацца гандлёвымі і банкаўскімі справамі. Асноўны акцэнт у сваёй дзейнасці яны рабілі на стварэнні навучальных устаноў, якія маглі б падрыхтаваць палітычную і інтэлектуальную эліту[1]. Езуіты ўмела прыстасоўваліся да мясцовых умоў, энергічна займаліся місіянерскай дзейнасцю, праводзілі дабрачынныя акцыі.

**Дзейнасць езуітаў у Вялікім Княстве Літоўскім.** У час уздыму рэфармацыйнага руху вярхоўная ўлада і каталіцкая іерархія разумелі, што касцёл не здольны вытрымаць націск Рэфармацыі самастойна, без дапамогі звонку. Такую дапамогу мог аказаць езуіцкі ордэн. У 1564 г. езуіты пачалі сваю дзейнасць у Польшчы, дзе заснавалі першыя калегіі ў Браневе і Пултуску. Стварэнне ў Вільні езуіцкай навучальнай установы палегчыла б навучанне мясцовай моладзі, падрыхтоўку кліру, дазволіла б пашырыць уплыў ордэна не толькі на каталікоў, але і на праваслаўных і пратэстантаў. Віленскі біскуп Валерыян Пратасевіч звярнуўся да езуітаў з просьбай аб арганізацыі ў Вільні езуіцкай калегіі. Для яе патрэб ён купіў вялікі мураваны дом за 10 тыс. злотых, такую ж суму запісаў на закуп нерухомасці, 4 тыс. злотых – на забеспячэнне неабходным абсталяваннем[2]. Езуіты прыбылі ў Вільню ў 1569 г. Афіцыйна калегія была адкрыта ў 1570 г. Валерыян Пратасевіч у звароце да вернікаў свайго біскупства тлумачыў прычыны, па якіх яна была створана: выкананне адной з пастаноў Трыдэнцкага сабора аб падрыхтоўцы адукаваных дзеячаў касцёла; недахоп у ВКЛ навучальных устаноў, "дзе моладзь магла б атрымліваць адукацыю, а насельніцтва здабываць дабрадзейнасць і асвету". Ён падкрэсліваў, што "не ўсе, хоць ад прыроды здольныя і надзеленыя кемлівасцю, могуць адважыцца на выдаткі, якіх патрабуе падарожжа да іншых краёў і школ, каб выгадаваць свае таленты"[3]. Рэктарам калегіі стаў Станіслаў Варшавіцкі У першы год навучалася каля 160 чалавек, у 1576 – каля 500. У калегіі выкладаліся курсы філасофіі, матэматыкі, маральнай і палемічнай тэалогіі, з 1578 г. – поўны курс тэалогіі.

Імклівае развіццё віленскай калегіі рыхтавала глебу для яе пераўтварэння ў Акадэмію. Жыгімонт Аўгуст завяшчаў будучай езуіцкай Акадэміі сваю каштоўную бібліятэку. Вельмі прыхільна ставіўся да ідэі стварэння езуіцкай вышэйшай навучальнай установы ў Вільні Стэфан Бато-

[1] *Tazbir J.* Piotr Skarga. Szetmierz kontrreformacji. Warszawa, 1978. S. 34–36.
[2] *Piechnik L., ks.* Początki Akademii Wileńskiej... S. 43.
[3] Там жа. S. 185.

рый. Аднак ён сутыкнуўся з супрацьдзеяннем пратэстантаў, якія таксама мелі намер арганізаваць у Вільні свой універсітэт. Як адзначаў у сваіх запісках каралеўскі сакратар, будучы львоўскі арцыбіскуп Ян Дзмітрый Салікоўскі, на доказы сенатараў-пратэстантаў, што арганізацыя езуіцкай Акадэміі з'яўляецца прыгнётам рэфармацыйнага веравызнання і супярэчыць шляхецкім вольнасцям і прывілеям, кароль быццам бы запытаў у віленскага ваяводы, канцлера Мікалая Радзівіла Рудога: "Адкуль тая вольнасць, якая не хоча вучыцца і ўмець, ...тыя прывілеі жыць у варварстве, няведанні Бога, дабрадзейнасці і добрых звычаяў, і ніколі не пазнаць ні веры хрысціянскай, ні вольных навук?" Падканцлер Астафій Валовіч не хацеў прыкласці пячаткі ВКЛ да дэкрэта аб заснаванні езуіцкай Акадэміі і згадзіўся толькі пасля пагрозы караля пазбавіць яго пячаткі і пасады[1].

30 кастрычніка 1579 г. папа рымскі Грыгорый XIII выдаў булу, якая ўзводзіла віленскую калегію ў ранг універсітэта. Першым рэктарам стаў Пётр Скарга. У XVI ст. Акадэмія мела тры факультэты – філасофскі, тэалагічны і вольных навук (гуманітарны). На апошнім рыхтавалі вучняў для слухання курсаў філасофіі і тэалогіі. Тэалагічны факультэт быў прызначаны для духоўных асоб. Свецкая моладзь у асноўным набывала гуманітарную адукацыю, толькі нязначная яе частка вучылася на філасофскім факультэце. Студэнты атрымлівалі веды па рыторыцы, паэтыцы, вывучалі класічныя мовы: латынь, грэчаскую, яўрэйскую. У праграму навучання была таксама ўключана папулярная сярод магнатаў і шляхты нямецкая мова. У 1579 г. па просьбе кангрэгацыі правінцыі (ВКЛ да 1608 г. уваходзіла ў Польскую езуіцкую правінцыю) генерал ордэна дазволіў вывучэнне ў Акадэміі рускай (беларускай. – *Л.І.*) мовы. У "рускім класе" штодзень вывучалі чытанне і пісьмо, тлумачылі выбраныя тэксты з Евангелля ці Катэхізіса і вучылі іх на памяць[2].

Высокі ўзровень выкладання, добрая арганізацыя вучэбнага працэсу, магчымасць атрымаць бясплатную адукацыю абумовілі папулярнасць Віленскай акадэміі ў моладзі розных веравызнанняў і рознага сацыяльнага паходжання. Так, праваслаўны шляхціц Васіль Загароўскі ў тастаменце 1577 г. пісаў, каб яго сыноў пасля навучання рускай грамаце і латыні ў хатніх настаўнікаў паслалі "ў Вільню да езуітаў, бо там добра дзяцей вучаць"[3]. З асаблівым гонарам езуіты падкрэслівалі, што многія вучні паходзяць са знакамітых літоўскіх і рускіх родаў. Сярод іх – будучы вялікі гетман Ян Караль Хадкевіч, Мікалай Пац, Ежы Тышкевіч, Крыштаф Весялоўскі, Аляксандр Раецкі, князь Палубінскі і інш.[4]

Ордэн імкнуўся ствараць свае калегіі ў буйных гарадах і магнацкіх рэзідэнцыях. Пасля вяртання Полацка Вялікаму Княству Літоўскаму ў 1579 г. пры садзейнічанні Стэфана Баторыя езуіты абасналіся ў горадзе. Насельніцтва Полацка ў пераважнай большасці было праваслаўным і абыякава ставілася да езуіцкай місіі. Езуіты скардзіліся на цяжкасці сваёй дзейнасці ў Полацку, называлі яго "другой Індыяй". Абурэнне

---

[1] *Solikowski J.D.* Krótki pamiętnik rzeczy polskich od zgonu Zygmunta Augusta... do roku 1590. / Przekł. Wł. Syrokomla. Petersburg; Mohylew, 1855. S. 54–55.
[2] *Piechnik L., ks.* Początki Akademii Wileńskiej... S. 85.
[3] Архив Юго-Западной России. Ч. 1. Киев, 1859. № 16. С. 74.
[4] *Piechnik L., ks.* Początki Akademii Wileńskiej.... S. 115.

выклікала рашэнне Стэфана Баторыя аддаць амаль усе праваслаўныя манастыры і цэрквы ў горадзе езуітам на заснаванне іх калегіі. Рэктарам калегіі ў Полацку быў прызначаны выдатны арганізатар Пётр Скарга, які актыўна садзейнічаў яе стварэнню. Калі ў 1581 г. адкрыліся два першыя класы полацкай школы, там, як пісаў езуіт С. Растоўскі, было не больш за пяць вучняў. У 90-я гг. XVI ст. пашырылася праграма навучання – былі ўключаны граматыка, сінтаксіс, паэтыка. З увядзеннем у 1605 г. курса рыторыкі калегія ў Полацку атрымала статус сярэдняй навучальнай установы. У 1617–1618 гг. калегія налічвала ўжо 81 вучня[1].

Пасля рэлігійнай канверсіі старэйшага сына Радзівіла Чорнага – Мікалая Крыштафа па мянушцы Сіротка другім па значэнні пасля Вільні езуіцкім цэнтрам у ВКЛ стаў Нясвіж. У 1572 г. спыніла сваю дзейнасць Нясвіжская рэфармацыйная друкарня, былі выгнаны пратэстанцкія святары. Па ініцыятыве Радзівіла Сіроткі ў сярэдзіне 80-х гг. XVI ст. у Нясвіжы была заснавана езуіцкая калегія, адораная ім багатым фундушам. Навучэнцам выкладалі граматыку, сінтаксіс, паэтыку, рыторыку. Каля 1597 г. у праграму навучання быў уключаны курс маральнай і палемічнай тэалогіі. Ужо ў першыя гады існавання калегіі ў ёй навучалася 80 чалавек[2].



Мікалай Радзівіл Сіротка

Дзеячы ордэна выкарыстоўвалі розныя метады для ўмацавання і распаўсюджання каталіцызму – выступалі з пропаведзямі, выкладалі катэхізіс на гарадскіх плошчах, арганізоўвалі дыспуты з іншаверцамі, стваралі школьныя тэатры, якія ў сваіх пастаноўках часта звярталіся да свецкай тэматыкі, звязанай з неназойлівай прапагандай каталіцтва. Нярэдка ў час эпідэмій і прыродных катаклізмаў езуіты арганізоўвалі дабрачынныя акцыі. Пры шмат якіх калегіях існавалі аптэкі, што забяспечвалі бясплатнымі лекамі не толькі езуітаў, але і мясцовае насельніцтва. Падчас эпідэміі ў 1571–1573 гг. у Вільні памерлі пяць езуітаў, якія даглядалі хворых[3]. У 1572 г. па ініцыятыве рэктара езуіцкай калегіі Ст. Варшавіцкага гарадскія ўлады Вільні арганізавалі для галодных сялян дапамогу[4]. Як і пратэстанцкія палемісты, езуіты выступалі супраць празмернага прыгнёту сялян.

Найбольш актыўную дзейнасць езуіты разгарнулі сярод магнатэрыі і шляхты, выкарыстоўвалі метады перакanання, асабістыя кантакты. Вынікам былі першыя рэлігійныя канверсіі ў асяроддзі магнатаў. Перакананы Ст. Варшавіцкім, з якім ён у маладосці вучыўся ў пратэстанцкім

[1] *Блинова Т.Б.* Иезуиты в Беларуси. Роль иезуитов в организации образования и просвещения. Гродно, 2002. С. 55.
[2] *Там жа.* С.55—56; *Кетра Т.* Mikołaj Krzysztof Radziwiłł Sierotka (1549–1616). S. 152–153.
[3] *Obirek St.* Jezuici w Rzeczypospolitej Obojga Narodów w latach 1564–1668. Kraków, 1996. S. 119.
[4] *Kosman M.* Reformacja i kontrreformacja... S. 126.

універсітэце ў Вітэнбергу, у 1571 г. ад Рэфармацыі адышоў віленскі кашталян, губернатар Інфлянтаў Ян Хадкевіч. Пад уплывам езуітаў сыны Радзівіла Чорнага сталі руплівымі каталікамі. Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка актыўна падтрымліваў езуітаў, выступаў супраць рэлігійных вольнасцей для пратэстантаў, якіх ён называў "д'ябальскімі слугамі". Шмат сродкаў Радзівіл Сіротка ахвяраваў на будаўніцтва, рэстаўрацыю і ўтрыманне культавых устаноў у сваіх шматлікіх уладаннях. У яго мецэнацтве спалучаліся палкая набожнасць і глыбокая зацікаўленасць мастацтвамі. Асаблівую ўвагу ён надаваў Нясвіжу як сваёй галоўнай рэзідэнцыі – там былі пабудаваны езуіцкі касцёл Божага цела, кляштары бернардзінцаў і бенедыкцінак, заснавана калегія. У яго віленскай друкарні (і пры яго фінансавай падтрымцы) выходзілі творы езуіцкіх дзеячаў, у першую чаргу Пятра Скаргі. Пасля 1586 г. Радзівіл перадаў друкарню Віленскай езуіцкай акадэміі. Мікалай Крыштаф прыклаў шмат намаганняў, каб яго малодшы брат Юрый Радзівіл прыняў духоўны сан і стаў віленскім, а потым кракаўскім біскупам, кардыналам.

Кальвінізм пакінулі таксама будучы канцлер ВКЛ Леў Сапега, прадстаўнікі родаў Валовічаў, Кішкаў, Пацаў. Пераход шляхты ў каталіцтва быў звязаны не толькі з езуіцкай прапагандай, але і з унутранай палітыкай Рэчы Паспалітай, улады якой падтрымлівалі пануючае становішча каталіцкага касцёла. У рэлігійных канверсіях адлюстравалася расчараванне шляхты ў пратэстантызме, які ў адрозненне ад посттрыдэнцкага каталіцкага касцёла не мог даць грамадству адзіны і абгрунтаваны светапогляд. Дагматычныя разыходжанні паміж рознымі плынямі аслабілі рэфармацыйны рух. Замест таго каб паглыбляцца ў інтэлектуальныя спрэчкі, якія грамадства ў масе сваёй не разумела, езуіты актыўна займаліся рэформай адукацыі кліру, школьнай справай, прапагандай сярод уплывовай шляхты[1].



Леў Сапега (1557–1633)

**Развіццё контррэфармацыі.** Контррэфармацыя дзейнічала не толькі метадам перакanання, часам яна ўжывала і гвалтоўныя спосабы барацьбы з Рэфармацыяй. Аднак у апошняй чвэрці XVI ст. шляхта розных веравызнанняў мела ў ВКЛ роўныя правы, праявы рэлігійнай нецярпімасці не знаходзілі ў яе падтрымкі. Калі ў 1581 г. у Вільні па загадзе віленскага біскупа Юрыя Радзівіла былі спалены кнігі віленскай пратэстанцкай друкарні, гэта выклікала абурэнне ў грамадскіх колах. Стэфан Баторый быў вымушаны з абозу пад Псковам, дзе ён на той час знаходзіўся, звярнуцца да віленскага намесніка, кальвініста Яна Абрамовіча з патрабаваннем пакараць вінаватых каталікоў, якія выступаюць "супраць людзей і міністраў евангелісцкага і саскага (лютэранскага. – *Л.І.*) збораў".

[1] *Kosman M.* Reformacja i kontrreformacja... S. 111.

Беларускі шляхціц-пратэстант Фёдар Еўлашоўскі ў сваіх мемуарах, напісаных у пачатку XVII ст., успамінаў, як у часы Баторыя ён быў запрошаны да віленскага каноніка Барталамея Нядзвецкага і якое здзіўленне выклікала ў гасцей-іншаземцаў тое, што за адным сталом сядзяць людзі розных веравызнанняў, як добрыя сябры: "...хвалили то влоши, мовечи, же ту бог жыве, а кганили свое домове права..."[1]

Разам з тым нарастанне контррэфармацыйных тэндэнцый спрыяла беспакараным дзеянням супраць пратэстантаў. Так, у 1591 г. быў спалены збор у Вільні, па ўсёй верагоднасці, студэнтамі езуіцкай Акадэміі. Аднак вінаватыя не былі пакараны.

Асаблівае значэнне езуіты надавалі місіянерскай працы сярод праваслаўнага насельніцтва. Яны адмовіліся ад першапачатковых амбіцыйных планаў распаўсюджання каталіцызму на Маскоўскую дзяржаву і сканцэнтравалі сваю дзейнасць у межах Рэчы Паспалітай. Езуіты Пётр Скарга і Бенядзікт Гербест выступілі з ідэяй далучэння да каталіцтва праваслаўнай царквы пад вяршэнствам папы рымскага. Аднак рэзкія выпады ў іх творах супраць праваслаўя (асабліва ў брашуры Б. Гербеста "Высновы веры рымскага касцёла і гісторыя грэчаскага нявольніцтва", выдадзенай у 1586 г.)[2] выклікалі абурэнне.

З пачаткам рэалізацыі планаў стварэння царкоўнай уніі пратэстанты і праваслаўныя сталі наладжваць больш цесныя кантакты для абароны сваіх правоў. У пасланні да генеральнага пратэстанцкага сінода ў Торуні ў 1595 г. кіеўскі ваявода Канстанцін Астрожскі прапанаваў пратэстантам разам выступаць за свае "вольнасці і свабоды".

Пратэстанцкая і праваслаўная шляхта ў 1597 г., ужо пасля заключэння Берасцейскай уніі, рабіла спробы стварэння саюзу. Ініцыятыва зыходзіла ад пратэстантаў – Крыштафа Радзівіла, Яна Абрамовіча, Мікалая Тальваша, якія прапанавалі прадстаўнікам праваслаўнай шляхты сабрацца на генеральны з'езд у Слоніме, каб абмеркаваць магчымасць пагаднення і падпісання сумеснай уніі[3]. Гаворка ішла пра палітычны, а не рэлігійны альянс. З'езд адбыўся ў маі 1599 г. у віленскім палацы Канстанціна Астрожскага. На з'ездзе быў зачытаны тэкст канфедэрацыі, у якім адзначаліся шматлікія напады на зборы і цэрквы, зневажанне рэлігійных святыняў, грабяжы, дыскрымінацыйная намінацыйная палітыка вярхоўнай улады, судовыя дэкрэты, якія ўшчамлялі правы іх канфесій. Мэтай саюзу абвяшчалася абарона сваіх храмаў і духавенства, хадайніцтва на сеймах, сейміках і перад духоўнай уладай аб пакаранні арганізатараў і выканаўцаў гвалтаў. Былі прызначаны апекуны збораў і цэркваў ва ўсёй Рэчы Паспалітай (126 асоб)[4]. Аднак акт застаўся толькі пракламацыяй; ён не меў моцы двухбаковага пагаднення. Праект уніі праваслаўнай і пратэстанцкай цэркваў не быў рэалізаваны – вельмі выразна праявіліся дагматычныя размежаванні . Аднак і на працягу першай паловы XVII ст. праваслаўная і пратэстанцкая шляхта нярэдка выступала разам у абарону сваіх правоў.

---

[1] *Фёдар Еўлашоўскі.* Успаміны // Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVII ст. Мн., 1983. С. 33.
[2] РИБ. Т. 7.
[3] *Jarmiński Z.* Bez użycia siły. Warszawa, 1992. S. 233.
[4] Там жа. S. 240.

Трыдэнцкія рэформы, як і дзейнасць езуітаў, адыгралі пазітыўную ролю ў развіцці асветніцтва і школьнай справы, удасканаленні і ўзмацненні арганізацыйнай структуры касцёла. Аднак спроба манапалізацыі каталіцкім касцёлам духоўнага жыцця абмяжоўвала магчымасці яго развіцця, парушала прынцыпы рэлігійнай талерантнасці.

## 5. Берасцейская унія

**Стан праваслаўнай царквы.** Заключэнне дзяржаўнай уніі з Польшчай, развіццё Рэфармацыі і Контррэфармацыі, каталіцкая рэформа змянілі палітычную і рэлігійную сітуацыю ў Вялікім Княстве Літоўскім. Крызісныя тэндэнцыі ў праваслаўнай царкве (страта многіх уладанняў, адсутнасць падрыхтаванага кліру, недахопы ў сістэме царкоўнага навучання і інш.) былі асабліва відавочнымі на фоне рэформ у посттрыдэнцкім каталіцкім касцёле з яго арганізацыйнай цэнтралізаванасцю, шырокімі палітычнымі сувязямі, добра наладжанай сістэмай адукацыі, актыўнай місіянерскай дзейнасцю. Рэлігійныя канверсіі, асабліва з сярэдзіны XVI ст., калі частка праваслаўнай шляхты далучылася да Рэфармацыі, яшчэ больш аслабілі пазіцыі праваслаўя. Невыпадкова Іпацій Пацей з абурэннем пісаў пазней у “Антырызісе”: “Хто на сеймах або сеймиках о тое мовил, коли церкви од геретыков, апостатов на шопы, на стайни оборочано? Хто за владыки и за духавенство, за попы бедныя слово намнейшее промовил...”[1]. Люблінская унія паскорыла працэс культурна-канфесійнай паланізацыі шляхты Беларусі.

Нягледзячы на агульназемскія прывілеі 1563 і 1568 гг., якія адмянялі дыскрымінацыйныя артыкулы Гарадзельскага прывілея 1413 г. і надзялялі роўнымі грамадзянскімі правамі шляхту “веры хрысціянскай” (трэба падкрэсліць, што гэтыя прывілеі заканадаўча ўраўнялі правы праваслаўнай шляхты, але не царквы), вышэйшае праваслаўнае духавенства не было дапушчана ні ў раду, ні пазней – у сенат. Калі мітрапаліт Іона III Пратасевіч у 1568 г. паставіў пытанне аб удзеле праваслаўных іерархаў у радзе ВКЛ, Жыгімонт Аўгуст адказаў, што яно пакуль вырашацца не будзе[2]. Вядома, што гэта абмяжоўвала магчымасці праваслаўнай іерархіі ўплываць на стан царквы ў дзяржаве і не садзейнічала яе прэстыжу ў грамадстве.

Даўняя традыцыя “падавання”, згодна з якой свецкія патроны мелі права прызначаць на царкоўныя пасады, распараджацца і кіраваць царкоўнай маёмасцю і даходамі з яе, у XVI ст. прывяла да заняпаду ўнутрыцаркоўнай структуры. Цэрквы і манастыры ў прыватных маёмасцях былі ў падаванні сваіх уладальнікаў ці дзяржаўцаў, нават калі яны не з’яўляліся іх фундатарамі; у гаспадарскіх уладаннях – у падаванні караля альбо яго старастаў і намеснікаў, у гарадах – у падаванні караля ці гарадской абшчыны, калі яна была фундатарам. Мітрапаліцкая і епіскапскія кафедры былі ў падаванні караля[3]. Царкоўныя пасады (“хлябы духоўныя”) былі крыніцай даходаў і для свецкай улады, і для тых, хто па-

[1] РИБ. Т. 19. С. 677.
[2] РИБ. Т. 30. С. 492.
[3] *Грушевський М.С.* Історія України–Руси. Т. 5. Львів, 1905. С.482.

сады атрымліваў. Праваслаўны клір у большай ступені, чым ад сваёй іерархіі, залежаў ад свецкіх патронаў, якія дазвалялі сабе ўмешвацца ў справы, што ўваходзілі ў кампетэнцыю духоўных улад. У 1558 г. мітрапаліт скардзіўся, што ва ўладаннях князёў Слуцкіхураднікі ў справы духоўныя "вступают, судят исправуют и роспусты чинят и вины духовные на себе берут", а духоўным асобам у слуцкія маёнткі "въезджати и справ духовных судити и справовати забороняют"[1].

Насуперак рашэнню Віленскага сабора 1509 г. аб забароне набываць царкоўныя пасады яшчэ пры жыцці асоб, якія іх займаюць, гэтая практыка працягвалася. Сільвестр Бялькевіч (1556–1567) і Ілья Куча (1577–1579) атрымалі каралеўскія граматы на мітрапаліцкую кафедру яшчэ пры жыцці іх папярэднікаў. Такія ж прызначэнні рабіліся і на епіскапскія кафедры, у прыватнасці – Турава-Пінскую і Полацкую. Часам на адну пасаду прызначаліся два кандыдаты, што прыводзіла нават да ўзброеных сутычак паміж імі[2]. Звычайнай з'явай была раздача духоўных "годнасцей" цывільным асобам, нават жанатым, якія нярэдка выконвалі свае абавязкі без пасвячэння ў сан. Па просьбе мітрапаліта Іоны на Гарадзенскім сейме 1568 г. была прынята пастанова пазбаўляць "хлябоў духоўных" свецкіх асоб, калі яны на працягу трох месяцаў не прымалі духоўны сан. Здаралася, што прывілеі на царкоўныя пасады і маёмасці атрымлівалі каталікі. У III Статут ВКЛ 1588 г. было ўключана патрабаванне, каб пасады і "добра костелов грецких людем тое ж греческое веры даваны быти мають", аднак ранейшая практыка працягвалася.

Асабліва цярпелі праваслаўныя манастыры, якія амаль бескантрольна раздаваліся свецкім асобам, часам пры ўмове пасвячэння іх у сан. На прыкладзе мінскага Уваскрэсенскага манастыра можна прасачыць, як злоўжыванні маёмаснымі правамі спусташалі яго. У 1570 г. манастыр атрымаў шляхціц Іван Бак, пры якім у манастыры не засталося ні святара, ні манаха, набажэнствы амаль не адбываліся, а манастырскае сяло Трасцянец Бак перадаў князю Пятру Горскаму. У 1576 г. манастыр у Бака быў адабраны і перададзены спачатку Богушу Нявельскаму, а потым Стэфану Дастаеўскаму. Калі стала вядома, што Дастаеўскі нават не праваслаўнай веры, а манастыр трымае толькі для свайго ўжытку і прывёў яго ў заняпад, манастыр каралеўскай граматай у 1579 г. быў аддадзены мінскаму зямяніну Міхайлу Рагозе з умовай, каб ён стаў манахам і архімандрытам гэтага манастыра да сваёй смерці[3].

У 1589 г. мітрапаліт з епіскапамі звярнуліся да караля са скаргай на тое, што калі пры цэрквах ці манастырах не было духоўнай асобы, то мясцовыя свецкія ўраднікі да запаўнення вакантных месцаў тыя манастыры, цэрквы з маёмасцямі і царкоўныя скарбы "в моц, в справу и заведанье свое берут и на себе уживают". За той час не толькі царкоўныя маёнткі і фальваркі бяднелі і падданыя абкладаліся "нязвыклымі" чыншамі і падаткамі, але і прывілеі, лісты, фундушы гінулі невядома дзе. Жыгімонт III задаволіў просьбу праваслаўнага духавенства, каб у далейшым

[1] АЗР. СПб., 1848. Т. 3. № 22.
[2] Гл. *Макарий, митр.* История русской церкви... Т. 5. С. 188–192.
[3] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. С. 113.

вакантныя месцы і царкоўная маёмасць да прызначэння духоўнай асобы знаходзіліся ў распараджэнні не свецкіх улад, а епархіяльнага крыласа[1].

Разам з тым трэба адзначыць, што часам праваслаўная шляхта абараняла інтарэсы царквы. Па просьбе полацкай шляхты на сейме 1559 г. Жыгімонт Аўгуст дазволіў прызначыць свецкіх апекуноў для нагляду за "дамамі" св. Сафіі і св. Спаса "абы от владыки и от игумении знишченья именья церковные не терпели"[2].

Занепакоенасць сумным станам царквы праяўляла праваслаўная шляхта ў пасланні 1585 г. да мітрапаліта Анісіфора Дзявочкі. Яна адзначала, што, парушаючы царкоўныя каноны, епіскапы і ігумены ў манастырах жывуць з жонкамі і дзецьмі, што " с крестов великих малыя чинят, и с того, што было Богу к чти и к хвале подано, с того святокрадство учинено...". Асабліва ў лісце падкрэслівалася, што епіскапы прызначаюцца без удзелу мясцовай шляхты, "без свидетелей и без братьи своее, чого вашей милости и правила забороняют" і з гэтай прычыны епіскапскія кафедры займаюць асобы, "негодные" высокага сану[3].

Зразумела, што такія "пастыры" былі не вельмі падрыхтаваны належным чынам адпраўляць свае абавязкі, клапаціцца пра дабрабыт царквы, асветніцтва сваёй паствы. Такое ж становішча назіралася і ў асяроддзі ніжэйшага духавенства, якое ў масе сваёй было малаадукаваным. Семінарый для падрыхтоўкі духоўных асоб не было, у лепшым выпадку будучыя святары навучаліся ў царкоўных пачатковых школах ці пры манастырах. Часта месца святара пераходзіла ад бацькі да сына ці зяця. Нізкі маральны ўзровень часткі праваслаўнага духавенства, адсутнасць высокаадукаванага кліру падрывалі аўтарытэт царквы ў грамадстве. Князь Канстанцін Астрожскі адзначаў заняпад праваслаўнай вучонасці ў лісце да Іпація Пацея: "...размножылася паміж людзьмі такое гультайства, млявасць, адступніцтва з-за таго, што зніклі настаўнікі, зніклі праваднікі слова Божага, зніклі навукі, зніклі казанні, а тым самым настала знішчэнне і змяншэнне хвалы Божай і Царквы Яго, настаў голад слухання слова Божага, таму прыйшло адступніцтва ад веры і закону"[4]. Калі Астрожскаму трэба было напісаць адказ на прысвячэнне яму твора П. Скаргі "Аб адзінстве царквы", ён даручыў гэта зрабіць антытрынітарыю Матавіле, бо не змог знайсці падрыхтаванага палеміста ў праваслаўным асяроддзі.

Афіцыйна вярхоўная ўлада абараняла правы праваслаўнай царквы, аднак яе палітыка была непаслядоўнай – яна сама парушала свае пастановы. Практыка распараджэння царкоўнымі бенефіцыямі і духоўнымі пасадамі стала распаўсюджанай з'явай і не садзейнічала ўмацаванню ўлады і аўтарытэту духоўнай іерархіі.

Пасля канчаткова краху Візантыйскай імперыі ў 1453 г. Канстанцінопальскі патрыярхат знаходзіўся ў палітычнай залежнасці ад Атаманскай Порты. Патрыярхі былі вымушаны часта прасіць фінансавай дапамогі ў фармальна залежных ад іх манаполій ці праваслаўных правіцеляў. Па дарозе ў Маскву патрыяршыя эмісары наведвалі Украіну і Беларусь. Часам царкоўныя місіі былі звязаны з дыпламатычнымі абавязка-

[1] *Макарий, митр.* История русской церкви... Т. 5. С. 220–221.
[2] АЗР. СПб., 1851. Т. 4, № 14. С. 16–19.
[3] АЗР. Т. 3, № 146.
[4] АЗР. Т. 4, № 45. С. 65.

мі, што давала падставу для абвінавачвання іх у шпіёнстве на карысць турэцкага султана. Асманскае панаванне прынесла патрыярхату вялікія маральныя і матэрыяльныя страты, парушыла традыцыю сталых кантактаў з Кіеўскай мітраполіяй. У такіх умовах ён не мог аказваць дзейсную падтрымку і дапамогу праваслаўнай царкве ВКЛ. "Нам барзо малый ратунок от восточников наших, так в письме, яко и в науках церкве Божой потребных. А не див: бо тиранство поганьское и неволя через так долгий век все вынищила, иж тепер чого у себе не маем, всего у противников наших позычати и доведыватися мусим", – пісаў Іпацій Пацей у лісце да Канстанціна Астрожскага[1].

**Праекты царкоўнай уніі.** З ідэяй рэлігійнага адзінства ў XVI ст. выступалі прадстаўнікі розных хрысціянскіх канфесій. З экуменічных пазіцый яе разглядалі каталікі Станіслаў Ажахоўскі і Андрэй Фрыч Маджэўскі (дарэчы, абодва нейкі час знаходзіліся пад уплывам ідэй Рэфармацыі), пратэктар праваслаўнай царквы, кіеўскі ваявода князь Канстанцін Канстанцінавіч Астрожскі. Станіслаў Ажахоўскі, паляк па бацьку, з боку маці – унук праваслаўнага святара, гаварыў пра сябе: "па паходжанні русін, па нацыі паляк" ("gente Ruthenus, natione Polonus") . Будучы ксяндзом, ажаніўся і быў пазбаўлены сану. У 50-х гг. знаходзіўся пры двары Мікалая Радзівіла Чорнага, потым стаў руплівым абаронцам каталіцтва і выступаў супраць пратэстантаў. У сваіх творах Ажахоўскі адзначаў, што унія магла б спрыяць рэформе касцёла і процідзеянню рэфармацыйнаму руху, выступаў супраць цэлібату ксяндзоў. На яго думку, праваслаўная царква разам з каталіцтвам з'яўляецца часткай Усяленскага касцёла, а праваслаўныя і "лацінікі" розняцца толькі мовай і звычаямі. Адсутнасць усходніх патрыярхаў на Трыдэнцкім саборы выклікала ў Ажахоўскага сумненні адносна яго ўсяленскага характару.

Блізкіх да Ажахоўскага поглядаў на адзінства хрысціянскай царквы прытрымліваўся выдатны польскі гуманіст, аўтар палітычных твораў Андрэй Фрыч Маджэўскі. У сваім вядомым трактаце "Аб удасканаленні Рэчы Паспалітай" (Базель, 1554, 1559 гг.) выступіў з ідэяй склікання усеагульнага экуменічнага сабора, які б аб'яднаў не толькі касцёлы "рымскай веры", але і ўсходнія цэрквы – грэчаскую, эфіопскую, і тыя, што знаходзяцца на землях Рэчы Паспалітай: армянскую, рускую. Маджэўскі сцвярджаў, што без іх не можа быць агульнага аб'яднання, "бо нельга лічыць Усяленскім касцёлам толькі рымскі касцёл. Што з'яўляецца часткай, не можа быць цэласцю". Ён таксама лічыў, што палітычнае адзінства народаў Рэчы Паспалітай можа прывесці іх да адзінства рэлігійнага.

У адрозненне ад папярэдніх аўтараў, якія не мелі дакладнай канцэпцыі уніі, Канстанцін Астрожскі ў сваім праекце, выкладзеным у лісце да Іпація Пацея ад 21 чэрвеня 1593 г.[2], вызначыў канкрэтныя ўмовы аб'яднання цэркваў: захаванне абраднасці, уладанняў праваслаўнай царквы; наданне праваслаўнай іерархіі тых жа правоў, якімі валодала каталіцкае духавенства (права засядаць у радзе); недапушчальнасць прымусу да пераходу ў каталіцтва, асабліва пры заключэнні шлюбу, "як то звыклі чи-

[1] АЗР. Т. 4. № 70. С. 99.
[2] Там жа. № 45. С. 63–66.

нити"; ухваленне праекта уніі канстанцінопальскім і маскоўскім патрыярхамі, а таксама малдаўскім гаспадаром; паляпшэнне сістэмы адукацыі, асабліва для духоўных асоб, " же быхмо мели учоные пресвитеры и казнодеи добрые: бо за тым, што наук нет, великое грубиянство в наших духовных умножилося". Астрожскі прапанаваў праект універсальнай уніі, які прадугледжваў аб'яднанне ўсіх цэркваў.

Іншы погляд на унію мы бачым у творах езуітаў Бенядзікта Гербеста, Антонія Пасевіна і Пятра Скаргі. Пастановы Трыдэнцкага сабора не прызнавалі магчымасці дыскусій і кампрамісаў у дагматычных пытаннях, вызначылі палітыку нецярпімасці да іншаверцаў. У духу трыдэнцкіх рэформаў рэлігійнае аб'яднанне разглядалася як інкарпарацыя праваслаўнай царквы ў сістэму рымскага каталіцызму, прызнанне абсалютнага вяршэнства папы[1].



Пётр Скарга. Партрэт XVII ст.

Найбольш паслядоўна з гістарычным і дагматычным абгрунтаваннем ідэі рэлігійнай уніі выступіў Пётр Скарга. Яго твор "Аб адзінстве царквы Божай пад адным пастарам і аб грэчаскім адступніцтве ад яе"[2] быў напісаны ў 1574 г., а выйшаў у 1577 г. у віленскай друкарні Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі. Скарга пісаў пра старадаўнасць уніяцкіх традыцый у грэка-праваслаўнай царкве, пра значэнне Фларэнтыйскай уніі і ў той жа час адзначаў, што грэчаская царква ніколі не была роўнай рымскай царкве, больш за 300 год яна была "паслухмянай" Рыму. Ён абвінавачваў грэкаў у расколе (схізме), адступніцтве, якое "так блізка ад ерасі, як колас ад зерня, вернутага ў зямлю", адзначаў поўную залежнасць патрыярхаў ад Атаманскай Порты. Скарга лічыў, што духоўнае выратаванне "схізматыкаў" магчыма толькі на шляху аб'яднання цэркваў пад вяршэнствам папы рымскага і прызнання каталіцкіх догматаў, аднак дапускаў захаванне праваслаўнай абраднасці. Ён назваў 19 "памылак" праваслаўных і тры асноўныя прычыны заняпаду царквы: шлюб святароў, залежнасць духоўных асоб ад свецкіх і выкарыстанне славянскай мовы, з якой, па сцверджанні Скаргі, "ніхто ніколі не стане вучоным", асабліва ў навуцы духоўнай. Скарга выказваў упэўненасць, што унія можа адыграць станоўчую ролю ў развіцці культурна-рэлігійнага і палітычнага жыцця "рускага" народа Рэчы Паспалітай: праз каталіцтва далучыць да еўрапейскай культуры, пакончыць з грубасцю і невуцтвам духавенства, палегчыць доступ да

---

[1] *Дмитрієв М.* Концепції унії в церковних і державних колах Речі Посполитої кінця XVI ст. // Історичний контекст, укладення Берестейської унії і перше поунійне покоління. Матеріали Перших "Берестейских читань". Львів. 1995. С. 39–100 (разам з дыскусіяй).

[2] РИБ. Т. 7. Кн. 2. С. 223–526.

дзяржаўных пасад. Кніга "Аб адзінстве царквы Божай..." прысвячалася Канстанціну Астрожскаму і была прызначана для распаўсюджвання сярод "рускага" насельніцтва Рэчы Паспалітай, якое адрэагавала адпаведным чынам: па сведчанні Скаргі, усё выданне было выкуплена "багатай Руссю" і знішчана.

Скарга выступіў з ідэяй рэгіянальнай царкоўнай уніі, якая ў тагачасных умовах была больш рэальнай, чым планы Апостальскай сталіцы аб'яднаць у духу Фларэнтыйскай уніі ўсе ўсходнія цэрквы[1]. Планы стварэння антытурэцкай кааліцыі абумовілі палітыку Апостальскай сталіцы ў адносінах да праваслаўнага свету. У час пантыфікату папы Грыгорыя XIII (1572—1585) у Рыме былі арганізаваны "Грэчаская кангрэгацыя" і "Грэчаская калегія". Меркавалася, што ў калегіі будуць рыхтаваць студэнтаў для місіянерскай дзейнасці сярод хрысціян Усходняй царквы. У 1577 г. выйшлі з друку акты Фларэнтыйскай уніі на грэчаскай мове[2]. Рым выношваў планы распаўсюджання каталіцызму ў Расіі і магчымай уніі з Маскоўскай царквой. У 1581—1582 гг. папскі легат, італьянскі езуіт Антоніа Пасевін знаходзіўся ў Маскве як пасрэднік на перагаворах паміж Іванам IV і Стэфанам Баторыем. Адначасова ён спрабаваў высветліць магчымасць рэлігійнай уніі, праводзіў дыскусіі з царом па пытаннях дагматыкі. Пасля сваёй беспаспяховай рэлігійнай місіі ў Маскве Пасевін пераканаўся, што больш рэальнай задачай можа быць падрыхтоўка рэгіянальнай уніі ў межах Рэчы Паспалітай[3]. Аднак у 80-я гг. XVI ст. місіянерская дзейнасць у ВКЛ яшчэ не мела мэты практычнага ажыццяўлення ідэі уніі, яна абмяжоўвалася прапагандай каталіцызму ў праваслаўным асяроддзі (асабліва сярод знаці).

**Спробы рэформаў. Саборы 90-х гг.** Агульны крызіс праваслаўнай царквы вымусіў яе іерархаў шукаць выйсця ў рэформах. У 1588 г. па дарозе ў Маскву Кіеўскую мітраполію ўпершыню наведаў канстанцінопальскі патрыярх Ерамія II. Дарэчы, яго праезд па Беларусі адзначае Баркулабаўская хроніка: "...был на Орши патриарха цариградский... на Москву ехал до князя Федора Ивановича, а з ним три владыки. Всих было при нем коней 50"[4]. У 1589 г., вяртаючыся з Масквы, дзе ён пад прымусам, з парушэннем кананічнага права ўзвёў на патрыяршы прастол маскоўскага мітрапаліта Іова, Ерамія ў час знаходжання ў Рэчы Паспалітай ажыццявіў шэраг важных акцый, накіраваных на паляпшэнне ўнутранага стану царквы. Былі пазбаўлены духоўнага сану святары-двоежэнцы і траяжэнцы (двойчы і тройчы жанатыя, што супярэчыла царкоўным правілам) з вымовай пінскаму епіскапу Лявонцію Пелчыцкаму за тое, што ён іх у сваёй епархіі ўтаіў[5]. Патрыярх пазбавіў сану кіеўскага мітрапаліта Анісіфора Дзявочку за двоежэнства. На мітрапаліцкую кафедру, па просьбе і выбары "панов рады и рыцерства великого княжества Литовского, закону и послушенства церкви Греческой", каралеўскай граматай 27 ліпеня 1589 г. быў зацверджаны Міхаіл Рагоза, архімандрыт менскага Уваскрэсенскага ма-

[1] *Halecki O.* Od unii Florenckiej do unii Brzeskiej. T. 2. Lublin, 1997. S. 12.
[2] *Гудзяк Б.* Криза і реформа... С. 35–36.
[3] *Halecki O.* Od unii Florenckiej do unii Brzeskiej. T. 2. S. 25.
[4] Баркулабаўская хроніка // Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці / Укл. А.Ф. Коршунаў. С. 121.
[5] АЗР. Т. 4. № 17. С. 21–22.

настыра. Каб атрымліваць дакладную інфармацыю і мець магчымасць уплываць на справы Кіеўскай мітраполіі, Ерамія прызначыў сваім асабістым экзархам (намеснікам) луцкага епіскапа Кірылу Тарлецкага, надзяліўшы яго паўнамоцтвамі, амаль роўнымі мітрапаліцкім[1]. Патрыярх надаў стаўрапігію Львоўскаму і Віленскаму брацтвам, падтрымаў Львоўскае брацтва ў яго спрэчках з епіскапам Гедэонам Балабанам.

Вельмі важным было рашэнне аб скліканні штогадовых праваслаўных сабораў у Берасці. Дагэтуль яны адбываліся нерэгулярна, верагодна, пасля 1509 г. іх не было зусім. Першы сабор адбыўся ўжо пасля ад'езду патрыярха, у чэрвені 1590 г.[2] На ім адзначалася, што "... на церков святую Восточную пренагабанье и частые гоненія, преследованіе великое и тяжары нигды незвыклые и неслыханые от станов розных на нас находят; также великіе нестроенія меж духовенством". Пастановы сабора прадугледжвалі суровыя санкцыі для тых духоўных асоб, якія без важных прычын будуць на іх адсутнічаць, забаранялі раздаваць манастыры свецкім асобам, умешвацца епіскапам у справы іншых парафій, асудзілі дзеянні Гедэона Балабана ў адносінах да Львоўскага брацтва.

З 1590 г. пачынаецца этап канкрэтнай падрыхтоўкі царкоўнай уніі. Непасрэднымі ініцыятатарамі выступілі праваслаўныя іерархі. На сустрэчы летам 1590 г. чатырох епіскапаў – луцкага Кірылы Тарлецкага, тураўскага і пінскага Лявонція Пелчынскага, холмскага Дыянісія Збіруйскага, львоўскага Гедэона Балабана – было вырашана прызнаць вяршэнства папы рымскага пры ўмове захавання праваслаўнай абраднасці і прадастаўлення каралём пэўных вольнасцей іерархам. Гэтае рашэнне было ўключана ў тайную дэкларацыю іерархаў, прынятую адразу пасля Берасцейскага сабора 1590 г. ( аднак без паразумення з іншымі епіскапамі і мітрапалітам) і адрасаваную Жыгімонту III[3]. Пазітыўны адказ на прапанову епіскапаў кароль даў толькі ў маі 1592 г. Верагодна, што на той час ён лічыў ідэю уніі неактульнай. Можна меркаваць, што на апазіцыйны настрой часткі епіскапаў паўплывалі рашэнні сабора. Па сведчанні аднаго з іерархаў, холмскага епіскапа Дыянісія Збіруйскага, яны не хацелі дазволіць мітрапаліту "пашырыць над сабой юрысдыкцыю больш, чым яму належала"[4].

На саборы 1591 г. пытанне аб уніі не ўздымалася. Гэта можна растлумачыць як абыякавасцю да яе з боку вярхоўнай улады, так і адсутнасцю ў саміх епіскапаў дакладнай праграмы. Затое тут была прынята канкрэтная праграма рэформаў царквы[5], якая прадугледжвала ўмацаванне ўлады епіскапату, абарону ўнутрыцаркоўнага жыцця ад умяшання свецкай улады, развіццё школьнай справы, кнігадрукавання, парадак іх фінансавання, вызначыла статус брацтваў.

Наступны сабор адбыўся ў 1593 г. На ім прысутнічаў новы уладзіміра-берасцейскі епіскап, былы берасцейскі кашталян Адам Пацей (па рэкамендацыі Канстанціна Астрожскага ён у 1593 г. быў пастаўлены на

[1] *Chodynicki K.* Kościół prawosławny a Rzeczpospolita Polska. Zarys historyczny. 1370–1632. Warszawa, 1932. S. 125–126.
[2] АЗР. Т. 4. № 25.
[3] РИБ. Т. 19. С. 620–622.
[4] *Грушевський М.С.* Історія України–Руси. С. 564.
[5] *Жукович П.* Брестский собор 1591 г. (по новооткрытой грамоте, содержащей деяния его) // Известия ОРЯС имп. АН. Т. 12, кн. 2. СПб., 1907. С. 45–71.

епіскапскую кафедру і прыняў імя Іпацій). Гэта быў высокаадукаваны чалавек, таленавіты палеміст. Заклапочаны цяжкім становішчам спраў у праваслаўнай царкве, ён адмовіўся ад свецкай кар'еры, сенатарскага месца берасцейскага кашталяна. Але калі пераканаўся, што для рэфармавання царквы трэба шукаць паразумення з прыхільнікамі уніі, якіх падтрымлівалі кароль і ўплывовае каталіцкае духавенства, а не аслаблены Усходні патрыярхат, то стаў адным з найбольш ініцыятыўных і дзейных у справе уніі. Менавіта Пацею у 1593 г. накіраваў Канстанцін Астрожскі свой праект уніі.

Саборы, якія праходзілі ў Берасці ў пачатку 90-х гг., імкнуліся вырашаць пытанні ўдасканалення царкоўнага жыцця і шляхі яго рэалізацыі. У правядзенні рэформ епіскапат у гэты час разлічваў на свае сілы. Аднак няздольнасць большай часткі праваслаўнай іерархіі падпарадкоўвацца царкоўным канонам, супярэчнасці паміж палітыкай епіскапату і інтарэсамі свецкіх колаў (шляхецкія патроны, брацтвы) не дазволілі ажыццявіць праграму рэформ і вымусілі яе звярнуцца да ідэі уніі з Рымам[1].

**Падрыхтоўка уніі.** Працэс рэфармавання праваслаўнай царквы спалучаўся з адначасовымі дзеяннямі епіскапаў па падрыхтоўцы уніі. 27 чэрвеня 1594 г. у Сокалі адбыўся з'езд епіскапаў, дзе да іх далучыўся перамышльскі епіскап Міхаіл Капысценскі. Тады ж былі вызначаны ўмовы аб'яднання з Рымам. Больш дакладна пра унію было заяўлена ў снежні 1594 г., падчас нарады Кірылы Тарлецкага і Іпація Пацея з луцкім каталіцкім біскупам Бернардам Мацяёўскім у яго рэзідэнцыі Торчыне каля Луцка. У заяве ад 2 снежня 1594 г., падпісанай мітрапалітам і епіскапамі[2], выказвалася шкадаванне, што шмат "ерасей" размножылася паміж людзьмі, якія пакідаюць праваслаўную веру, адмаўляюць догмат св. Тройцы – "а то ни за чим иншим наиболей, одно за розрозненьем нашим с паны Римляны...". Калі ўсе хрысціяне прызнавалі папу рымскага і павінаваліся яму, тады ў царкве Божай заўсёды быў парадак і цяжка было "еретиком и ереси их роскоренивати". Ератычныя секты зараз "моц свою беруть" таму што шмат "старьших и первопрестолников " (г.зн. патрыярхаў) стала. Епіскапы выказалі пажаданне аб'яднацца з рымскім касцёлам "под единым пастыром" і абяцалі "и другую братью нашу духовную и увесь люд посполитый" да адзінства прывесці.



Кароль і вялікі князь літоўскі Жыгімонт III Ваза. Гравюра Статута 1588 г.

У студзені 1594 г. быў падрыхтаваны яшчэ адзін дакумент – з папярэднімі ўмовамі ("артыкуламі") уніі, прызначаны для Жыгімонта III[3]. У пачатку дакумента востра раскрыты-

[1] *Флоря Б.Н.* Брестские синоды и Брестская уния // Славяне и их соседи. Католицизм и православие в средние века. М., 1991. С. 50–53.
[2] АЗР. Т. 4. № 53. С. 77–78.
[3] Там жа. № 55. С. 79–81.

каваны ўсходнія патрыярхі за тое, што не клапоцяцца пра дабрабыт царквы, не праводзяць дыспутаў з іншаверцамі, а "набравши скарбов, один другого там в земли поганской скупують". Праваслаўныя епіскапы звярталіся да караля з просьбай пры заключэнні уніі дараваць ім такія ж вольнасці, якія мела каталіцкае духавенства, і зацвердзіць наступныя ўмовы: не парушаць цэркваў, епіскапстваў, цырымоній, а таксама абрадаў "водлуг старого календару"; надаць вышэйшаму духавенству месца ў радзе;ануляваць прывілеі патрыярхаў брацтвам; даць епіскапам гарантыі, каб "клятвы або неблагословенства" патрыярха не мелі для іх ніякіх вынікаў, а духоўныя з Грэцыі, "которых можем смело назвати шпекгами" не мелі над імі ўлады, "бо только з нас выбравши и выграбивши не только пенязми, але и книгами, образы, што ся им подобает, и вывозят в землю Турецкую...". Епіскапы выказалі пажаданне, каб іх па старадаўнім звычаі пасвячаў у сан кіеўскі мітрапаліт, а мітрапаліта – епіскапы з благаславення папы, але без усялякай платы. Змест "артыкулаў" сведчыць, што епіскапат разлічваў на захаванне царкоўных праваслаўных традыцый, на ўмацаванне сваёй улады і прэстыжу. Сярод вышэйшага праваслаўнага духавенства і свецкіх пратэктараў праваслаўя (у прыватнасці, Канстанціна Астрожскага) ідэя царкоўнай уніі разглядвалася як сродак рэфармавання і ўдасканалення царкоўнай арганізацыі пры захаванні поўнай яе аўтаноміі.

Умовы уніі праваслаўных іерархаў, якія былі складзены ў Торчыне, падобныя да ўмоў, што ўтрымліваў праект Канстанціна Астрожскага. На думку расійскага даследчыка С. Якавенкі, прынцыповым адрозненнем было разуменне ролі ўсходніх патрыярхаў. Астрожскі лічыў неабходным заручыцца іх згодай на заключэнне уніі. Епіскапат жа, прызнаючы вяршэнства папы, прасіў караля абараніць яго ад умяшальніцтва патрыярхаў[1]. Аднак не толькі разыходжанні ў поглядах прывялі Астрожскага ў лагер непрымірымых праціўнікаў уніі. Яго абурыла таемнасць у справе падрыхтоўкі уніі і тое, што ён быў адлучаны ад удзелу ў яе абмеркаванні (дарэчы, як і іншая праваслаўная знаць). Іпацій Пацей пісаў Астрожскаму, што сучасны стан праваслаўнай царквы вымушае яе губляць вернікаў: "...отпадают не по одному, але громадами, видечи нашу непотужность", перасцерагаў князя ад кантактаў з пратэстантамі: "А што мне рачиш залецать порядок иноверцов: хотя бы был налепший, коли не на правом фундамете, все то за сметье стóить, и школы их, и друкарни, и множество казнодеев.... ми ся не подобают овые присмаки, которыя В[аша] М[илость] у них упатруеш"[2].

Канчатковая канцэпцыя уніі з Рымам была выпрацавана на Берасцейскім саборы ў чэрвені 1595 г. Яна была сфармулявана ў 33 пунктах і змешчана ў дакуменце "Артыкулы, якія належаць да з'яднання з Рымскай царквой"[3]. "Артыкулы" датаваны 11 чэрвеня 1595 г. Змест іх у скарочаным выкладзе наступны:

---

[1] *Яковенко С.Г.* Православная иерархия Речи Посполитой и планы церковной унии в 1590–1594 гг. // Славяне и их соседи. Католицизм и православие в средние века. С. 46.

[2] АЗР. Т. 4. № 63.

[3] Польскі і лацінскі тэкст гэтага дакумента змешчаны ў выданні: Documenta Unionis Berestensis eiusque auctorum (1590–1600) / Ed. A.G. Welykyj. Romae, 1970. № 41, 42. С. 61—75. У нашым выданні выкарыстаны ўкраінскі пераклад артыкулаў з польскамоўнага тэксту, змешчаны ў кн.: *Гудзяк Б.* Криза і реформа... Додаток 3. С. 331–337.

1. Вызнанне кампраміснага для абедзвюх цэркваў сімвала веры (Святы Дух зыходзіць ад Бога Айца праз Сына).

2. Захаванне нязменнымі ўсіх літургій, цырымоній і абрадаў Усходняй царквы, адпраўленне іх на царкоўнаславянскай мове.

3. Таінства прычасця павінна адбывацца пад двума відамі – хлебам і віном.

4. Захаванне традыцыйнай формы абраду Хрышчэння.

5. "Аб Чысцілішчы не ўдаемся ў спрэчку, але мы гатовы, каб Царква нас навучыла".

6. Увядзенне для уніятаў новага (грыгарыянскага) календара ("калі нельга ўжываць стары"), але пры ўмове непарушнасці Пасхалій.

7. Не прымушаць да ўдзелу ў працэсіі ў дзень Цела Гасподня.

8. Не прымушаць да ўдзелу ў іншых каталіцкіх святах і цырымоніях.

9. Захаванне шлюбу святароў.

10. Прызначэнне на высокія духоўныя пасады толькі праваслаўных "русінаў". Кароль зацвярджае аднаго з чатырох кандыдатаў, прапанаваных духавенствам.

11. Епіскапы пасвячаюцца мітрапалітам, а рымскі папа пасвячае толькі мітрапаліта.

12. Наданне вышэйшаму духавенству месца ў сенаце.

13. Каб рэшта "народу рэлігіі грэчаскай", якая пазней далучыцца да уніі, не папракала іх (епіскапаў).

14. Каб пасланцы з Грэцыі не мелі права адлучаць уніятаў ад царквы. Забараніць выконваць духоўныя абавязкі святарам, якія адмовяцца падпарадкавацца уніяцкай іерархіі.

15. Забараніць пераход уніятаў у каталіцтва.

16. Дазволіць змешаныя шлюбы паміж католікамі і "руссю", аднак не прымушаць да змены канфесіі.

17. Вяртанне (на пэўных умовах) царкоўных уладанняў, якія супрацьпраўна знаходзяцца ў свецкіх асоб.

18. Пасля смерці мітрапаліта і епіскапаў да абрання пераемнікаў царкоўнымі маёнткамі павінны распараджацца не свецкія ўраднікі, а крылас.

19. Архімандрыты, ігумены, манахі і іх манастыры, як і раней, павінны падпарадкоўвацца свайму епіскапу.

20. Прадстаўніцтва дзвюх духоўных асоб ў Трыбунале.

21. Каб духавенства мела тыя ж правы, што і каталіцкае – вызваленне ад падаткаў, непадлегласць свецкім уладам.

22. Не забараняць званіць у званы ў Вялікую Пятніцу.

23. Не забараняць публічна несці да хворых Святыя Тайны.

24. Дазволіць у царкоўныя святы праводзіць працэсіі "па нашаму звычаю".

25. Не абарочваць цэрквы і манастыры ў касцёлы.

26. Калі брацтвы згодзяцца прыняць унію, то павінны падпарадкоўвацца мітрапаліту ці епіскапу той епархіі, у якой яны знаходзяцца.

27. Дазволіць заснаваць школы і семінарыі грэчаскай і славянскай мовы, а таксама друкарні пад наглядам і з ведама мітрапаліта і епіскапа.

28. Свецкія асобы павінны падтрымліваць санкцыі епіскапаў супраць духавенства ў сваіх уладаннях.

29. Цэрквы ў вялікіх гарадах павінны знаходзіцца пад юрысдыкцыяй епіскапаў, а не свецкіх улад.

30. Іерархія царквы і касцёла павінна прызнаваць права адна другой на адлучэнне.

31. Калі праваслаўныя Усходняй царквы далучацца да уніі, і з дазволу Усяленскай царквы будуць унесены змены ў правапарадак і абрады Грэчаскай царквы, каб мы бралі ў гэтым удзел, як людзі адной рэлігіі.

32. Закрыць дзяржаўныя межы для тых, хто хоча атрымаць у Грэцыі царкоўныя паўнамоцтвы на юрысдыкцыю ў Кіеўскай мітраполіі.

33. "Артыкулы" павінны быць зацверджаны папай і каралём, каб, будучы ўпэўненымі ў захаванні нашай веры, таінстваў і цырымоній, маглі прыступаць да уніі.

Змест "Артыкулаў" сведчыць, што яго аўтары (а даследчыкі лічаць, што галоўным складальнікам дакумента быў Іпацій Пацей) імкнуліся захаваць традыцыі праваслаўнай царквы, нормы царкоўнага жыцця, спадзяваліся атрымаць тыя ж правы, што і каталіцкае духавенства.

Перад афіцыйным заключэннем уніі артыкулы павінны былі быць зацверджаны каралём Жыгімонтам III і папай Кліментам VIII. Сабор дэлегаваў у Рым Іпація Пацея і Кірылу Тарлецкага. Да папы Клімента VIII было падрыхтавана пасланне аб намеры заключыць унію на ўмовах, прынятых на Фларэнтыйскім саборы. У пасланні падкрэслівалася, што толькі пры захаванні "веры, сакраментаў і ўсіх цырымоній і абрадаў Усходняй царквы, ні у чым іх не парушаючы", епіскапы могуць папе "послушенство пристойное отдати". Ліст да папы падпісалі мітрапаліт Міхаіл Рагоза і усе вышэйшыя іерархі – епіскап уладзімірскі і берасцейскі Іпацій Пацей, епіскап луцкі і астрожскі Кірыла Тарлецкі, нарачоны архіепіскап полацкі і віцебскі Грыгорый [Загорскі], епіскап перамышльскі і самбарскі Міхаіл Капысценскі, епіскап львоўскі Гедэон Балабан, епіскап холмскі Дыянісій Збіруйскі, епіскап пінскі і тураўскі Лявонцій Пелчыцкі, нарачоны епіскап пінскі і тураўскі Іона Гогаль[1].

Былі зроблены дзве версіі "Артыкулаў": адна для Жыгімонта III, другая – для папы, якую павінен быў перадаць у Рым папскі нунцый Джэрманіка Маласпіна. Варыянт, прызначаны для папы, змяшчаў 20 артыкулаў. 14 артыкулаў, выкананне якіх знаходзілася ў кампетэнцыі дзяржаўнай улады (арт. 10, 12, 14, 17–21, 25–29, 32), былі накіраваны каралю[2].

Прывілеямі ад 30 ліпеня і 2 жніўня 1595 г.[3] Жыгімонт III задаволіў значную частку пажаданняў епіскапаў і ўзяў пад сваю абарону іерархаў у выпадку адлучэння іх ад царквы ўсходнімі патрыярхамі. Аднак пытанне аб прадстаўніцтве уніяцкіх епіскапаў у Сенаце і Трыбунале кароль не мог вырашаць асабіста – гэта была кампетэнцыя сейма. На просьбу не абарочваць праваслаўныя манастыры і цэрквы ў касцёлы кароль адказаў, што ён згодзен забараніць падобныя акцыі ў каралеўскіх уладаннях, але не можа прымусіць да гэтага свецкіх патронаў. Не знайшлі свайго адлюстравання ў прывілеях артыкулы аб вызваленні ад падаткаў, забароне уніятам прымаць каталіцтва, аб змешаных шлюбах.

---

1 АЗР. Т. 4. № 68. С. 94–95.
2 *Гудзяк Б.* Криза і реформа... С. 295.
3 АЗР. Т. 4. № 78. С. 109–111; № 79. С. 111–113.

Пэўная таемнасць пры падрыхтоўцы уніі, рашэнні, прынятыя вузкім колам, без удзелу нават такіх аўтарытэтных праваслаўных "дзеячаў", як кіеўскі ваявода Канстанцін Астрожскі і наваградскі ваявода Фёдар Скумін-Тышкевіч, маглі выклікаць упартае супраціўленне ў праваслаўным грамадстве. Гэта разумеў і мітрапаліт Міхаіл Рагоза. Яго пазіцыя ў адносінах да уніі была няпэўнай, зменлівай. У абставінах, калі большая частка епіскапату падтрымлівала унію, ён вымушаны быў далучыцца да яе, аднак працягваў хістацца. У яго лістах да Скуміна-Тышкевіча адчуваецца разгубленасць і цяжар адказнасці. "А без воли и рады ВМ и собратьи моей, и позволенья посполитых людей, вделати того не важил ся: взял себе на розмышление на 6 недель", – пісаў ён 14 чэрвеня 1595 г., дасылючы Тышкевічу "Артыкулы"[1].

16 чэрвеня 1595 г. Іпацій Пацей накіраваў Канстанціну Астрожскаму ліст, у якім звяртаў увагу князя на тое, што ў "Артыкулы" ўключаны многія аспекты з праекта уніі, прапанаванага самім Астрожскім у 1593 г. У адказ Пацей атрымаў ад князя суровую водпаведзь. 24 чэрвеня 1595 г. Астрожскі звярнуўся да праваслаўных з акружным пасланнем, у якім заклікаў іх разам процістаяць намаганням "мнимых пастыров" навязаць унію. Праціўнікі уніі патрабавалі склікання агульнага сабора праваслаўнага духавенства і шляхты. Аднак Жыгімонт III у лісце да Астрожскага 28 чэрвеня 1595 г. заўважыў, што з'езды больш ускладняюць справы, "ниж што доброго будовать"[2].


Іпацій Пацей

З мэтай стварэння агульнай апазіцыі Астрожскі ў жніўні 1595 г. накіраваў свайго пасланніка Каспара Лушкоўскага на пратэстанцкі генеральны сінод у Торуні. У лісце да сінода[3] князь адзначаў, што справа уніі вырашалася "патаемна, скрытна, без сінода, без рады нашай", падкрэсліваў блізкасць царкоўных абрадаў праваслаўных і пратэстантаў, звяртаўся да "братоў сваіх хрысціянскіх" за падтрымкай перад пагрозай "вольнасцям і свабодам усіх рэлігій хрысціянскіх". Пратэстанцкі сінод з разуменнем паставіўся да паслання Астрожскага, але ніякай пастановы на гэты конт не прыняў. Неасцярожная фраза ў лісце Астрожскага, што ў выпадку гвалтоўных дзеянняў ён можа прывесці з сабой "калі не 20 тысяч, то ўжо пэўна 15", выклікала адмоўную рэакцыю ўлады. Прыхільнікі уніі нават абвінавацілі князя, што ён хоча выступіць супраць караля.

22 верасня 1595 г. адбылася нарада, дзе ў прысутнасці папскага нунцыя Д. Маласпіна, некаторых сенатараў і каталіцкіх іерархаў абмяр-

---

[1] АЗР. Т. 4. № 69. С. 95–97.
[2] Там жа. № 76. С. 106–108.
[3] Akta synodów różnowierczych w Polsce. (1571–1632) / Oprac. M. Sipayłło T. 3. S. 596–599.

коўвалася сітуацыя, што склалася ў выніку супраціўлення уніі, а таксама выраплалася пытанне аб пасольстве Іпація Пацея і Кірылы Тарлецкага ў Рым. На нарадзе адзначалася, што пад уплывам агітацыі брацтваў і пасланнія К. Астрожскага народ настроены супраць уніі. Некаторыя "русіны" нават звярнуліся да канстанцінопальскага патрыярха з просьбай аб зверажэнні мітрапаліта і епіскапаў – прыхільнікаў уніі. У такім выпадку заключэнне уніі стала б нерэальным. Таксама выказвалася заклапочанасць, што далейшыя крокі на шляху да уніі прывядуць да парушэння міру і спакою ў Рэчы Паспалітай. Некаторыя ўдзельнікі нарады лічылі, што Жыгімонт III не павінен парушаць прывілеі, дадзеныя "грэчаскай" царкве, і прапаноўвалі адкласці паездку епіскапаў у Рым, склікаць праваслаўны сабор для абмеркавання пытання аб уніі ці агульны сінод каталіцкай іерархіі, які б ажыццявіў інкарпарацыю "рускага" епіскапату і духавенства.

Другая група ўдзельнікаў нарады лічыла, што трэба паскорыць ад'езд епіскапаў у Рым і не спадзявацца на новы сабор, які Астрожскі прапанаваў правесці з прадстаўнікамі розных "сектаў". Чакаць жа склікання агульнага сінода каталіцкага духавенства – значыць не скарыстаць зручны момант. Па сведчанні нунцыя, на нараду былі запрошаны І. Пацей і К. Тарлецкі, якія настойвалі на хуткім ад'ездзе. Па словах епіскапаў, калі патрыярх пазбавіць іх духоўнага сану, то "русіны" будуць іх успрымаць не як пастыраў, а як прыватных заклеймаваных асоб[1].

**Унія ў Рыме і Берасці.** Кірыла Тарлецкі і Іпацій Пацей, дэлегаваныя Берасцейскім сінодам 1595 г. у Апостальскую сталіцу да папы рымскага, прыбылі ў Рым 15 лістапада 1595 г. і знаходзіліся там да сакавіка 1596 г. Для іх паездкі быў прызначаны фундуш: 50 флорынаў даў Жыгімонт III, па 300 флорынаў – Радзівіл Сіротка і папскі нунцый Д. Маласпіна, 200 флорынаў – Леў Сапега.

Дакументы, якія тычыліся заключэння уніі, разглядаліся ў Кангрэгацыі інквізіцыі і ў Грэчаскай кангрэгацыі. Водгукі рымскіх тэолагаў на "Артыкулы" захаваліся ў перакaзе іншых асоб. Вядомы толькі два водгука – дамініканскага тэолага Х. Сарагосы і адзін ананімны[2]. Абодва тэолагі выказвалі думку, што уніяты павінны прыняць каталіцкі погляд на догмат аб паходжанні Святога Духа ("filioque" – і ад Сына) , адмовіцца ад кампраміснага падыходу да календара. Тэолагі не прызнавалі права праваслаўнай царквы ставіць якія-небудзь умовы аб'яднання, таму што прыналежнасць да касцёла, на іх думку, з'яўляецца абавязковай для чалавека.

23 снежня 1595 г. адбылася ўрачыстая аўдыенцыя ў папы рымскага, на якой прысутнічалі вышэйшыя чыны рымскай курыі. Іпацій Пацей выступаў на лаціне, Кірыла Тарлецкі – на "рускай" мове. Ад імя мітрапаліта і праваслаўнага епіскапату Рэчы Паспалітай яны прадставілі папе вызнанне веры з "filioque", у якім абвяшчалася вернасць рашэнням Фларэнтыйскага і Трыдэнцкага сабораў, прызнаваўся догмат аб прымаце папы рымскага, чысцілішча, аддаваліся анафеме памылкі, ерасі і схізмы.

---

[1] *Halecki O.* Od unii Florenckiej do unii Brzeskiej. T. 2 S. 151–157; *Дмитриев М.В., Флоря Б.Н., Яковенко С.Г.* Брестская уния 1596 г. и общественно-политическая борьба на Украине и в Белоруссии в конце XVI – начале XVII в. Ч. 1. М., 1996. С. 181–183.

[2] *Дмитриев М.В.* Посольство Ипатия Потея и Кирилла Терлецкого в Рим в 1595–1596 годах // Славяноведение. М., 1996. № 2. С. 13–21.

У гэты ж дзень папа Клімент VIII абвясціў канстытуцыю “Magnus Dominus”, у якой адлюстраваўся рымскі погляд на унію. Калі праваслаўныя епіскапы ўяўлялі унію як акт уз'яднання, то ў Апостальскай сталіцы яе ўспрымалі як далучэнне. У канстытуцыі было адзначана, што праваслаўным дазваляецца ўжываць іх абрады і цырымоніі ў такой ступені, у якой “яны не супярэчаць ісціне і навуцы каталіцкай веры і не выключаюць адзінства з Рымскім Касцёлам”[1]. Аб захаванні праваслаўнага веравучэння, “сваёй веры” ў канстытуцыі нічога не гаварылася.

Папская була “Decet Romanum Pontificet” ад 23 лютага 1596 г. вызначыла парадак пасвячэння епіскапаў у сан. З прычыны вялікай аддаленасці Кіеўскай мітраполіі ад Рыма пасвячаць епіскапаў дазвалялася мясцоваму мітрапаліту, аднак мітрапаліт павінен быў атрымаць сан ад папы. Клімент VIII накіраваў 16 сваіх пасланняў (бреве) – каралю, духоўным і свецкім асобам Рэчы Паспалітай. У многіх з іх ён пісаў пра неабходнасць даць месца ў сенаце уніяцкаму духавенству.



Царква Св. Мікалая,
у якой адбыўся Берасцейскі сабор.
Фрагмент гравюры XVIII ст.

Пасля вяртання епіскапаў з Рыма ў пачатку мая 1596 г. іх намаганні былі накіраваны на падрыхтоўку сабора, які павінен быў, у пэўнай ступені фармальна, зацвердзіць унію. На саборы, што адбываўся 6(16) кастрычніка 1596 г. у Берасці, прысутнічалі каралеўскія прадстаўнікі – трокскі ваявода Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка, канцлер ВКЛ Леў Сапега, берасцейскі староста, падскарбій ВКЛ Дзмітрый Халецкі. Папу рымскага на саборы прадстаўлялі: львоўскі арцыбіскуп Ян Дзмітрый Салікоўскі, луцкі біскуп Бернард Мацяёўскі, холмскі біскуп Станіслаў Гамалінскі. У сінодзе прымалі ўдзел пяць былых праваслаўных епіскапаў: уладзімірскі – Іпацій Пацей, луцкі – Кірыла Тарлецкі, холмскі – Дзмітрый Збіруйскі, пінскі – Іона, полацкі архіепіскап Герман, архімандрыты, ніжэйшае духавенства, езуіцкія тэолагі Пётр Скарга, Юстын Раб, Марцін Латэрна, грэчаскі багаслоў Пётр Аркудзій. На сінодзе, які праходзіў у царкве Св. Мікалая пад кіраўніцтвам мітрапаліта Міхаіла Рагозы, 8 (18) кастрычніка была ўрачыста абвешчана царкоўная унія. Сінод заклікаў усіх праваслаўных Рэчы Паспалітай далучыцца да яе.

Адначасова ў Берасці, у доме пратэстанта Райскага (часовай рэзідэнцыі Канстанціна Астрожскага) апазіцыя праводзіла свой, антыуніяцкі сабор. У ім бралі ўдзел два епіскапы: львоўскі Гедэон Балабан і перамышльскі Міхаіл Капысценскі, экзарх канстанцінопальскага патрыярха Нікіфар, экзарх александрыйскага патрыярха Кірыл Лукарыс, дзевяць архі-

[1] “Magnus Dominus et laudabilis nimis” // *Гудзяк Б.* Криза і реформа... Додаток 3. С. 344.

мандрытаў (кіева-пячорскі, супрасльскі, пінскі, дзерманскі, дубенскі, дарагабужскі, лаўрышаўскі, перасопніцкі, сцяпанскі і смаленскі), 16 пратапопаў і больш за 200 прадстаўнікоў кліру. Са свецкіх асоб прысутнічалі Канстанцін Астрожскі, яго сын, валынскі ваявода Аляксандр, наваградскі кашталян Аляксандр Палубенскі, валынскі стольнік Андрэй Багавіцін і інш.; прадстаўнікі брацтваў – віленскага, бельскага, львоўскага; шэраг прадстаўнікоў шляхты і мяшчанства з Львоўскага, Віленскага, Бельскага, Пінскага, Берасцейскага, Галіцкага, Кіеўскага, Камянецкага, Менскага, Луцкага і іншых паветаў. На думку некаторых даследчыкаў, паводле складу ўдзельнікаў, згодна з царкоўным кананічным правам, гэты сабор быў легальным і правамоцным[1].

Антыуніяцкі сінод 9 (19) кастрычніка выступіў супраць уніі, аддаў анафеме уніяцкіх епіскапаў, заклікаў праваслаўных да непаслушэнства ім. У сваю чаргу іерархі-уніяты пазбавілі духоўнага сану Г. Балабана. Рашэнні Берасцейскіх сабораў стварылі новую царкоўна-рэлігійную сітуацыю і значна абвастрылі этнаканфесійныя адносіны.

Распрацоўка экуменічнай ідэі царкоўнай уніі праходзіла ва ўмовах вострага крызісу праваслаўнай царквы, які адзначалі ўсе пласты грамадства. Але выйсце з крызісу яны бачылі па-рознаму, не было адзінства поглядаў нават паміж прадстаўнікамі епіскапату. Спробы правядзення рэформ у 90-я гг. XVI ст. суправаджаліся не толькі пошукамі пагадненняў, але і канфліктамі, у прыватнасці паміж епіскапатам і брацтвамі, якім аказвала падтрымку частка праваслаўнай знаці. Брацтвы лічылі іерархію няздольнай ажыццявіць рэформы і вывесці царкву з крызісу. Зварот патрыярхаў да ідэі уніі з Рымам быў выкліканы не толькі імкненнем да адзінства хрысціянскага свету, удасканалення духоўнага і арганізацыйнага становішча праваслаўнай царквы, але і іх няздатнасцю ўласнымі сіламі справіцца з апазіцыяй і рэфармаваць царкву.

Пытанне аб поўным ураўнаванні правоў каталіцкай і праваслаўнай царквы не магло быць вырашана, таму што пазіцыі каталіцкай царквы ў дзяржаве былі моцнымі і яна не згаджалася страціць сваё прывілеяванае становішча. Прывілеі ў асноўным тычыліся іерархаў, а не царквы ў цэлым, таму унія не атрымала падтрымкі ў шырокім праваслаўным грамадстве[2].

Разам з тым унія спрыяла распаўсюджванню новых культурных павеваў, якія ўступалі ў складанае ўзаемадзеянне з мясцовымі культурна-гістарычнымі традыцыямі, суправаджаліся дэзінтэграцыяй былой этнакультурнай супольнасці народа, зменамі ў культурнай, моўнай і царкоўна-рэлігійнай сітуацыі[3].

---

[1] *Mironowicz A.* Podlaskie ośrodki i organizacje prawosławne w XVI i XVII wieku. Białystok, 1991. S. 112–114.

[2] Брестская уния 1596 г. и общественно-политическая борьба на Украине и в Белоруссии в конце XVI – начале XVII в. Ч. 1. М., 1996. С. 194–196.

[3] *Голенченко Г.Я.* Идейные и культурные связи восточнославянских народов в XVI – середине XVII в. С. 211.

# РАЗДЗЕЛ 3

# ЭТНАКУЛЬТУРНЫЯ ПРАЦЭСЫ

## ГЛАВА 1

## ЭТНІЧНЫЯ ПРАЦЭСЫ І ТРАДЫЦЫЙНАЯ БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА

### 1. Станаўленне беларускага этнасу

**Гістарычныя ўмовы фарміравання.** Адначасова з паступальным развіццём грамадска-палітычнага жыцця, удасканаленнем гаспадаркі ды культуры ў Беларусі адбываўся працэс фарміравання беларускай народнасці. Ён заняў даволі працяглы час і праходзіў пад уплывам геаграфічна-кліматычных, сацыяльна-эканамічных, царкоўна-рэлігійных фактараў, а таксама агульных этнакультурных тэндэнцый, уласцівых усёй тагачаснай еўрапейскай цывілізацыі.

У цэлым сярод рысаў, якія вызначаюць сутнасць любой народнасці, неабходна назваць наступныя: наяўнасць адзінай тэрыторыі, адметнасці мовы, культуры, народных традыцый, а таксама веравызнанне, этнічная самасвядомасць і эндаэтнонім (саманазва)[1]. Праблема складвання новага этнасу, як пэўнага сістэмнага ўтварэння прыродна-культурна-сацыяльнага характару, заўсёды цікавіла навукоўцаў. Пры гэтым пытанне – на якім менавіта этапе асобныя этнічныя супольнасці кансалідуюцца ў адзіную народнасць? – па-ранейшаму выклікае дыскусію[2]. Каб паспрабаваць разабрацца з гэтым, трэба зразумець, што першаснае месца тут займаюць: самаарганізацыйныя працэсы, эканамічныя і культурныя сувязі паміж асобнымі суполкамі, назапашванне ўласных традыцый, узаемастасункі з навакольным прыродным асяроддзем.

Станаўленне беларускага этнасу сягае сваімі каранямі ў дапісьмовую гісторыю Беларусі. Рассяленне балтаў на тэрыторыі, дзе пражывала фіна-ўгорскае насельніцтва, а затым і прыход сюды славян у значнай ступені вырашылі далейшы кірунак эвалюцыі тутэйшага грамадства[3]. Пры гэтым крывічы, дрыгавічы, радзімічы не толькі заклалі аснову для фарміравання беларускай народнасці, але і ў значнай ступені паўплывалі і на адпаведныя этнічныя працэсы, што адбываліся ў суседніх рэгіёнах[4].

---

[1] Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. 1. Мн., 1994. С. 192–198.
[2] *Анціпенка А.* Этнас, нацыя, нацыянальная самасвядомасць // Беларусіка - Albaruthenica. Кн. 3. Мн., 1994. С. 406–407.
[3] *Заяц Ю.* Паходжанне беларусаў // Матэрыялы па гісторыі Беларусі. Мн., 1998. С. 5–9.
[4] *Пичета В.И.* Образование белорусского народа // Вопросы истории. 1946. № 5-6. С. 16.

У далейшым, у час існавання старажытнабеларускіх княстваў, ішло актыўнае культурнае ўзаемадзеянне айчынных этнатэрытарыяльных супольнасцей, што было выклікана дзяржаўна-палітычнай і канфесійнай інтэграцыяй у межах Кіеўскай Русі. Неабходна прызнаць, што якраз у гэты перыяд адбывалася складванне агульных для ўсходніх славян рысаў культуры і мовы. Да таго ж меўся тут і такі моцны кансалідуючы фактар, як агульны этнонім "Русь"[1]. Разам з тым абагульняльныя этнічныя працэсы ў рэгіёне ў тыя часы калі ўсё ж і пачаліся, то не былі цалкам завершаны. Тлумачыцца гэта даволі трывалымі пазіцыямі старадаўніх племянных саюзаў і адсутнасцю на прасторах Кіеўскай Русі моцнай цэнтральнай улады. Дадзены факт абумовіў паступовае складванне якасна новых этнасацыяльных тэндэнцый, пры якіх некаторыя найлепш развітыя тэрыторыі паступова ўсё больш і больш адасабляліся адна ад адной, а мясцовыя лакальныя этнічныя адзінкі распачалі працэс узаемазліцця. Менавіта гэта і стала непасрэднай прычынай вылучэння ў тым ліку і асобнай беларускай народнасці.

**Аб'яднальныя і кансалідацыйныя працэсы.** У асноўным этнагенез беларусаў звязаны з тэрыторыямі Верхняга Падняпроўя, Сярэдняга Падзвіння і Прыпяцкага Палесся, пэўных арэалаў Панямоння і Пабужжа. Трэба ўлічваць, што працэс складвання беларускага этнасу выходзіў за межы сучаснай Рэспублікі Беларусь. Ён закранаў асобныя тэрыторыі сучаснай Літвы (Вільня і яе наваколле), Латвіі (Даўгаўпілс), Польшчы (Беласток і Бяла Падляска), Расіі (Смаленск, Невель, Бранск) і Украіны (Любяшоў)[2]. Нельга таксама гаварыць і пра чыста славянскія карані беларусаў, бо этнакультурныя працэсы, якія адбываліся тут, тычыліся не толькі крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў, севяран, драўлян, валынян, але і балтаў (літва, ятвягі, дзяволтва)[3]. Падобнае ўзаемадзеянне культурна неаднародных плямёнаў аказала значны ўплыў на фарміраванне беларускай народнасці, бо яе этнічная прастора была не ізаляванай ад знешняга ўздзеяння, што пэўным чынам перашкаджала паскарэнню этнацэнтрычных тэндэнцый і ўскладняла магчымасць самаідэнтыфікацыі тутэйшага грамадства.

Усё адзначанае, а таксама даволі складаная палітычная гісторыя рэгіёна сталі асноўнымі прычынамі запаволенай кансалідацыі насельніцтва першых раннефеадальных княстваў (Полацкага, Тураўскага) у агульны беларускі этнас. Раннія айчынныя этнадзяржаўныя ўтварэнні, безумоўна, мелі дастаткова высокую ступень самаарганізацыі. Аднак асновай фарміравання асобных этнасаў Полацк ці Тураў, зразумела, не сталі, чаму да таго ж паспрыяў пачатак феадальнай раздробленасці. Яна прывяла да ўзнікнення на беларускіх землях каля двух дзясяткаў новых княстваў, унутры якіх таксама адбываліся інтэграцыйныя працэсы. Вынікам іх развіцця стала надзвычай стракатая этнакультурная карта Бе-

---

[1] *Бромлей Ю.В.* Современные проблемы этнографии. М., 1981. С. 278; *Пашуто В.Т., Флоря Б.Н., Хорошкевич А.Л.* Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. М., 1982. С. 76, 127.

[2] *Станкевіч Я.* Этнографічныя й гісторычныя тэрыторыі й граніцы Беларусі. Нью-Ёрк, 1953. С. 4–12.

[3] *Карский Е.Ф.* Белорусы. Введение к изучению языка и народной словесности. Кн. 1. Вильна, 1904. С. 80.

ларусі другой паловы XII–XIII ст., калі тут панавалі шматлікія раннедзяржаўныя зямляцкія супольнасці (палачане, віцябчане, смаляне, случане, мянчане, мсціслаўцы, наваградцы, берасцяне і інш.)[1]. Адной з прычын іх узнікнення можна лічыць адметнасць тагачаснага дзяржаўнага ладу ва ўсходніх славян: сацыяльны пласт феадалаў толькі знаходзіўся на стадыі фарміравання, і значную ролю адыгрывалі гарады, якія мелі веча і ўласнае апалчэнне. Урбанізацыя Беларусі знаходзілася ў цеснай сувязі з ростам колькасці ўдзельных княстваў. Пры гэтым іх сталіцы выконвалі настолькі важную адміністрацыйную, гаспадарчую і культурную ролю ў паўсядзённым жыцці навакольнага насельніцтва, што яно стала ўспрымаць іх у якасці тэрытарыяльных і этнасацыяльных дамінантаў, што і прывяло неўзабаве да з'яўлення асобных зямляцтваў (лакальныя згуртаванні насельніцтва пэўных тэрыторый).

Дыскусійнай у айчыннай гістарыяграфіі застаецца і праблема далейшай кансалідацыі згаданых зямляцтваў у адзіны беларускі этнас. Агульнапрынятая канцэпцыя адзначае, што гэта стала магчымым толькі дзякуючы ўтварэнню ВКЛ[2]. Разам з тым, на думку айчыннага этнографа М. Піліпенкі, паміж перыядам панавання зямляцтваў і часам узнікнення народнасці існаваў яшчэ і прамежкавы этап. Згодна з яго меркаваннем, моцнае культурнае ўздзеянне Полацка і Турава прывяло да складвання адпаведных лакальных этнічных груп, а менавіта – палешукоў у басейне р. Прыпяць (былыя дрыгавічы і драўляне) і беларусцаў у падзвінска-дняпроўскім рэгіёне (былыя крывічы). Іх наступная кансалідацыя адбывалася дзякуючы хуткаму развіццю заходняга і цэнтральнага рэгіёнаў Беларусі (спачатку Навагрудак–Гародня–Ваўкавыск–Слонім, а пазней яшчэ і Менск–Магілёў), якія ў XIII–XIV ст. сталі дамінаваць у тутэйшым палітычным і гаспадарчым жыцці. Якраз мясцовае насельніцтва, па меркаванні М. Піліпенкі, і можна лічыць "першай беларускай рэгіянальнай культурай", бо яно не толькі здолела пераняць і ўспрыняць лепшыя здабыткі матэрыяльнай і духоўнай культуры палешукоў ды беларусцаў, але і стала паміж імі трывалым пасрэднікам, што прывяло, урэшце, да іх узаемазліцця ў адзіны этнас[3].

Падобная разнапланавасць падыходаў, аднак, не змяняе агульнага сцверджання, што на перыяд феадальнай раздробленасці прыходзіцца і этнічнае размежаванне насельніцтва тагачаснай Беларусі. Да таго ж заснаванне ВКЛ паскорыла працэс этнагенезу беларусаў, бо ўмацавала сацыяльна-эканамічныя і культурныя сувязі паміж рознымі тутэйшымі тэрыторыямі. Важным фактарам была наяўнасць знешняй пагрозы (татара-манголы і крыжакі), што абумовіла актывізацыю ўнутрыэтнічнай і ў пэўнай ступені таксама і палітычнай кансалідацыі. Адной з асноўных яе праяў стала пашырэнне і ўмацаванне ўнутраных сувязей паміж асобнымі рэгіёнамі. Першапачаткова гэта датычылася, верагодна, больш грамадска-палітычных і эканамічных кантактаў, калі вёска ўцягвалася ў гандлёвыя сувязі з горадам, развіваліся грашова-крэдытныя адносіны, удасканальвалася рамяство і інш.

---

[1] *Сагановіч Г.* Нарыс гісторыі Беларусі. Мн., 2001. С. 177.
[2] *Карский Е.Ф.* Белорусы... Кн. 1. С. 113–114.
[3] *Пилипенко М.Ф.* Возникновение Белоруссии. Новая концепция. Мн., 1991. С. 72–90.

Азначаны працэс згладжваў асобныя вытворчыя ды паўсядзённа-бытавыя адрозненні, спрыяў актывізацыі моўнай інтэграцыі. Знаходжанне ў межах адзінай краіны, безумоўна, падштурхнула працэс складвання дзяржаўнай самасвядомасці, якая і дапамагала жыхарам асобных удзельных княстваў пераадольваць існуючую палітычную, гаспадарчую і этнічна-культурную размежаванасць. Лёгкасць аб'яднання шматлікіх дзяржаўных утварэнняў у складзе ВКЛ шмат у чым тлумачылася наяўнасцю знешняй пагрозы і сацыяльна-эканамічнымі фактарамі.

**Поліэтнічны склад насельніцтва Беларусі. Павелічэнне яго колькасці.** Ужо ў пачатку фарміравання ВКЛ уяўляла сабою шматэтнічнае ўтварэнне. Насельніцтва Беларусі ўжо з XIV ст. з'яўлялася асноўным этнічным масівам новай дзяржавы, займаючы найбольш заселеныя і эканамічна развітыя тэрыторыі. Этнакультурныя ўзаемакантакты з балтамі мелі старадаўнія карані, якія сягалі ў перыяд прыходу сюды славян і асіміляцыі імі значнай часткі мясцовага насельніцтва. Пасля ж утварэння ВКЛ адносіны суседніх этнасаў яшчэ больш умацаваліся, чаму спрыяла і наяўнасць пагрозы з боку крыжакаў. Па гэтай жа прычыне на беларускія землі ў XIII–XIV ст. перасяляліся буйныя групы прусаў, жамойтаў, аўкшайтаў, ятвягаў і латыголаў, якія шукалі тут паратунку ад бесперапынных набегаў манахаў-рыцараў[1]. Большая частка прыбыўшых сюды балтаў хутка злілася з карэнным насельніцтвам, якое ў сваю чаргу ўспрыняло некаторыя са здабыткаў іх культуры (у беларускай мове з'явіліся такія словы, як *свіран, дойлід* і г.д.)[2]. Дамінуючае становішча пры гэтым заставалася за "русінамі" (беларусамі і ўкраінцамі), якія ў ВКЛ складалі асноўную этнічную частку – балцкае насельніцтва не перавышала 20%, ды і то было ў значнай ступені "абрушчана"[3].

Разам з тым па прычыне складанага геапалітычнага становішча новая дзяржава не засталася краінай толькі продкаў сучасных літоўцаў, беларусаў ды ўкраінцаў. Ужо ў часы свайго заснавання яна была вымушана весці ўпартую барацьбу з Галіцка-Валынскім княствам, якое прэтэндавала на вядучыя пазіцыі ў рэгіёне і лічыла сябе сапраўдным спадкаемцам Кіеўскай Русі[4]. Яго паглынанне ў час княжання Гедыміна і Альгерда, а таксама паступовае пашырэнне падкантрольных ВКЛ тэрыторый на ўсходзе прывяло да ўключэння ў склад дзяржавы новых этнатэрытарыяльных супольнасцей.

У XIV–XVI ст. прыток на беларускія землі іншаземных элементаў значна ўзрос. Вялікія князі літоўскія лічылі неабходным паскорыць гаспадарчае развіццё дзяржавы і таму запрашалі перасяленцаў з Еўропы (Германіі, Венгрыі, Чэхіі, Францыі, Шатландыі)[5]. Шмат прышлага насельніцтва апынулася ў Беларусі і з прычыны ваенных канфліктаў – з Польшчы, Маскоўскай Русі і Украіны сюды прымусам прывозілі ваеннапалонных, да таго ж асядалі тут і іншаземныя наёмнікі з вялікакняскай

---

[1] Полное собрание русских летописей (далее – ПСРЛ). Т. 2. М., 1962. С. 874, 877.
[2] Беларусы. Т. 4: Вытокі і этнічнае развіццё. Мн., 2001. С. 63.
[3] *Łowmiański H.* Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983. S. 390.
[4] *Пашуто В.Т., Флоря Б.Н., Хорошкевич А.Л.* Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. С. 72–73; ПСРЛ. Т. 2. С. 871.
[5] Живописная Россия. Т. 3. Ч. 1. СПб.; М., 1882. С. 21; *Свяжынскі Ул.* Народы і мовы // Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т. 1. Мн., 2005. С. 58–66.

арміі. У выніку актывізаваліся міжэтнічныя сувязі, куды больш адчувальнымі на беларускіх землях сталі стасункі паміж традыцыямі і культурамі розных народаў, што ў першую чаргу праявілася ў пашырэнні іншаэтнічных элементаў у народнай гаворцы, абрадах, адзенні і г.д.[1]

З часоў Гедыміна на беларускія землі сталі перасяляцца асобныя групы палякаў. Яны прыязджалі сюды з мэтай несці пэўную службу ці пасяляліся па нейкіх уласных меркаваннях (усяго некалькі дзясяткаў тысяч чалавек). У большасці гэта была дробная шляхта, а таксама гандляры. У сельскай мясцовасці яны засноўвалі шматлікія засценкі і ваколіцы, некаторыя набывалі назву Ляхаўка[2] ў змешаным этнічным наваколлі. У азначаны перыяд менавіта палякі былі асноўнымі носьбітамі еўрапейскай культурнай традыцыі ў Беларусі. Шмат у чым якраз трывалыя сувязі ВКЛ з Польшчай прывялі да пераходу беларусаў у XIV–XVI ст. на новы каляндар, які вёў летазлічэнне ад нараджэння Хрыста (у Расіі да канца XVII ст. лічылі гады ад стварэння свету). Паланізмы пранікалі і ў гутарковую мову (*кашуля*, *менавіта*, *абавязак*); неад'емным элементам народнага адзення стаў пашыраны ў Польшчы андарак[3].

Надзвычай стракаты поліэтнічны і шматканфесійны склад насельніцтва Беларусі вызначаўся яшчэ і прысутнасцю тут шэрага прышлых груп. Палітычнае саперніцтва ў Паўночна-Усходняй Русі ў пэўнай ступені паўплывала на эміграцыю ў Беларусь жыхароў Цвярскога, Наўгародскага, Пскоўскага княстваў. З XIV ст. з тэрыторыі Польшчы і Германіі сюды пачалі перасяляцца яўрэі, якія пераважна схіляліся да артадаксальнага іудаізму[4]. З гэтага ж часу ў раёне Менска, Слуцка, Гародні, Ашмян, Навагрудка, Іўя, Давыд-Гарадка ўзніклі даволі вялікія абшчыны татар, сярод якіх дамінавалі мусульмане-суніты[5]. Жылі яны даволі ізалявана ад астатняга насельніцтва, не маглі жаніцца з хрысціянкамі, валодаць прыгоннымі-хрысціянамі[6]. Нягледзячы на гэта, пэўны ўплыў іх на беларускую гутарковую мову адчуваўся і праявіўся ў пашырэнні слоў *кабан*, *тавар*, *атаман*, *казак*, *ямшчык*[7]. У сярэдзіне XV ст. на беларускіх землях з'явіліся цыганы. У адрозненне ад іншых еўрапейскіх краін яны тут знаходзіліся пад апекай дзяржавы – мелі права свабодна вандраваць па тэрыторыі ВКЛ, жыць па ўласных законах, займацца рамяством, каняводствам[8].

Стракаты поліэтнічны склад насельніцтва Беларусі ў значнай ступені паўплываў на фарміраванне феадальнай сацыяльна-класавай структуры тутэйшага грамадства. Так, у асяроддзі ўладнай эліты гэта праявілася ў паўлегендарных версіях паходжання тых ці іншых шляхецкіх родаў. Значная іх частка вяла свой радавод ад уладароў і баяр Кіеўскай Русі

---

[1] *Лыч Л., Навіцкі У.* Гісторыя культуры Беларусі. Мн., 1996. С.35–37.
[2] Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси (далей – АСД). Т. 1. Вильно, 1867. С. 63–64, 99.
[3] *Пилипенко М.Ф.* Возникновение Белоруссии. С. 98–101.
[4] Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1. Мн., 1936. С. 305–308.
[5] *Канапацкі І.* Татары // Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. Т. 2. Мн., 2006. С. 663–664.
[6] Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1. С. 249; Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Мн., 1989. С. 315.
[7] Гістарычная лексікалогія беларускай мовы / А.І. Жураўскі [і інш.]. Мн., 1970. С. 89–150.
[8] *Калінін В.* Цыганы на Беларусі // З гісторыяй на "Вы". Вып. 2. Мн., 1994. С. 334.

18 Зак. 1594

(Друцкія, Дольскія, Чацвярцінскія, Агінскія, Астрожскія, Масальскія, Саламярэцкія), а таксама вялікіх князёў літоўскіх ці іх набліжаных (Радзівілы, Сапегі, Тышкевічы, Хадкевічы)[1]. Гэта падзяляла "рускую" і "літоўскую" арыстакратыю прыблізна на дзве роўныя часткі – напрыканцы XV ст. у ВКЛ налічвалася каля 13 тыс. шляхецкіх сямей, з якіх 7 тыс. мелі ўсходнеславянскія карані[2]. Трэба таксама ўлічваць і тое, што літоўскае паходжанне не магло спыніць працэс частковай асіміляцыі "нашчадкаў Міндоўга і Гедыміна", асабліва тых, што надоўга асядалі на землях Беларусі і Украіны[3]. Былі сярод айчыннай шляхты і прадстаўнікі іншых этнічных груп – ад немцаў вялі свой радавод Тызенгаўзы, ад палякаў – Патоцкія і Кішкі, ад татар – Глінскія. У далейшым (не раней за сярэдзіну XVI ст.) увесь гэты стракаты поліэтнічны масіў зліўся ў адзіны "шляхецкі народ", у асяроддзі якога ўжо панавала тэорыя агульнага сармацкага паходжання. Згодна з ёю склаліся дакладныя стэрэатыпы жыцця і паводзін прывілеяванага саслоўя, якія павінны былі якасна адрозніваць яго прадстаўнікоў ад простага люду: кансерватызм, набожнасць, гасціннасць, шчодрасць, ахвярнасць у дачыненні да рэлігіі, мужнасць, паказная сентыментальнасць, схільнасць да нашэння нацыянальнай вопраткі і зброі[4].

Моцна адчувалася этнічнае дзяленне ў гарадах і мястэчках Беларусі, чаму спрыяла і марудная кансалідацыя айчыннага мяшчанства (сам тэрмін замацаваўся тут на працягу XV ст.). Большая частка гараджан была падзелена па прафесійнай ці канфесійнай прыкмеце і жыла дастаткова ізалявана, кіруючыся ў паўсядзённасці правіламі ўласных цэхаў, гільдый і брацтваў. У асобных слабодах і прадмесцях сяліліся прышлыя этнічныя групы (палякі, яўрэі, татары), якія жылі кампактнымі абшчынамі з захаваннем уласных культурна-бытавых традыцый. Іх роля ў гарадах Беларусі паступова ўзрастала – у пачатку XVI ст. перасяленцы складалі ўжо да 20% гарадскога насельніцтва (на захадзе Беларусі – 25%)[5]. Нягледзячы на гэта, менавіта беларусы пераважалі ў большасці буйных населеных пунктаў ВКЛ. У сталіцы ВКЛ яны складалі вельмі значную групу месцічаў усходнеславянскага паходжання. У "Списке русских городов дальних и ближних", складзеным пісцамі кіеўскага мітрапаліта Кіпрыяна (XIV ст.), узгадваюцца Коўна, Вількамір і Трокі, дзе меліся буйныя праваслаўныя абшчыны[6].

Пашырэнне гандлю і рамяства, складванне адзінага ўнутранага рынку прывяло да ўзрастання ролі айчынных гарадоў і мястэчак. Якраз у XIV–XV ст. у Беларусі распачаліся актыўныя урбаністычныя працэсы:

[1] *Пашуто В.Т., Флоря Б.Н., Хорошкевич А.Л.* Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. С. 90; *Сыракомля У.* Вандроўкі па маіх былых ваколіцах. Мн., 2002. С. 91–92.

[2] *Ochmański H.* Historya Litwy. Wrocław, 1978. S. 84–85.

[3] *Любавский М.К.* Литовско-русский сейм. М., 1900. С. 68, 91, 154.

[4] *Литвин М.* О нравах татар, литовцев и москвитян. М., 1994. С. 43; *Рогов А.И.* Основные особенности развития русско-польских культурных связей в эпоху Возрождения // Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в. М., 1976. С. 167–168.

[5] *Копыский З.Ю.* Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII вв. Мн., 1966. С. 119–144.

[6] Белоруссия в эпоху феодализма (далей – БЭФ). Т. 1. Мн., 1959. С. 112; *Тихомиров М.Н.* Список русских городов дальних и ближних // Исторические записки. 1952. № 40. С. 214–225.

былі заснаваны Бабруйск (1337), Ашмяны (1341), Дрыса (1386, зараз – Верхнядзвінск), Ігумен (1387, зараз – Чэрвень), Маладзечна (1388), Быхаў (1393), Карэлічы (1395), Валожын (1407), Талачын (1433), Шчучын (1436), Лепель (1439), Смалявічы (1448), Лунінец (1449), Драгічын (1452), Мядзель (1454), Астравец (1468), Зэльва (1470), Жлобін (1492), Косава (1494), Дзятлава (1498) і г.д.[1] Відавочна, што сам факт іх з'яўлення сведчыць пра складванне ў Беларусі новай сістэмы тэрытарыяльна-эканамічных сувязей з дамінаваннем цэнтральнага рэгіёна. Агульная ж колькасць насельніцтва беларускіх зямель напрыканцы XV ст. перавысіла 2 млн чалавек (гараджан налічвалася да 300 тыс.)[2].

**Этнаканфесійнае становішча на беларускіх землях.** У адрозненне ад Полацкага, Тураўскага і іншых старажытнабеларускіх княстваў ВКЛ з прычыны адметнасцей свайго геапалітычнага становішча і поліэтнічнага складу насельніцтва ў канфесійным плане не было аднародным. Да канца XV ст. у рэгіёне адбыўся дастаткова трывалы канфесійны падзел мясцовага насельніцтва на асобныя этнарэлігійныя групы (літоўцы спачатку пераважна язычнікі, пазней – каталікі, русіны (беларусы і ўкраінцы) – праваслаўныя, татары – мусульмане, яўрэі – іудзеі), якія па шэрагу адметных прыкмет (самасвядомасць, культурна-бытавы ўклад, мова) адрозніваліся адна ад адной.

Важным момантам было тое, што да сярэдзіны XVI ст. на прасторы ВКЛ не назіралася значнага рэлігійнага антаганізму паміж прадстаўнікамі розных канфесій. Толькі ў асяроддзі ўладнай эліты на землях Беларусі і Украіны пасля Крэўскай і Гарадзельскай уній праяўляліся пэўныя тэндэнцыі да акаталічвання, але і яны былі надзвычай рэдкімі[3]. Магчымасць атрымаць дадатковыя правы і пасады, а таксама змена веры пры ўступленні ў шлюб з прадстаўніком каталіцкай веры – вось асноўныя прычыны добраахвотнай адмовы некаторай часткі праваслаўнай шляхты ад веравызнання продкаў.

Прынцып талерантнасці ў гэтым пытанні быў практычна непахісным. У старадаўніх дакументах захаваліся такія словы Гедыміна: "Каб хрысціяне паважалі ды славілі Бога па-свойму, Русь па-свойму, палякі па-свойму, а мы славім па-нашаму звычаю"[4]. У грамаце ж Вітаўта наконт пашырэння каталіцтва адзначалася наступнае: "каторы б русін... хацеў бы па сваёй волі хрысціцца, няхай хрысціцца, а каторы б не схацеў, хай будзе сваёй веры"[5].

Пры такім становішчы і з улікам дамінавання ўсходнеславянскіх земляў у ВКЛ няма нічога дзіўнага ў тым, што праваслаўная царква тут займала пануючае месца. Аднаўленне ж у XV ст. асобнай Кіеўскай мітраполіі спрыяла інтэграцыі праваслаўных абшчын у межах ВКЛ і прывяло да паступовага складвання мясцовых адметнасцей (існаванне брацтваў,

---

[1] *Alexandrowicz St.* Wykaz miast i miasteczek Białorusi i Litwy do połowy XVII wieku // Acta Baltico-Slavica (далей – ABS). T. VII. Białystok, 1970. S. 65–105.
[2] *Карпачев А.М., Козловский П.Г.* Динамика численности населения Белоруссии во второй половине XVII–XVIII вв. // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы. Л., 1972. С. 86–89.
[3] БЭФ. Т. 1. С. 101–102, 115–121.
[4] *Сагановіч Г.* Рэлігійная талеранцыя ў Вялікім княстве Літоўскім // Матэрыялы па гісторыі Беларусі. С. 30.
[5] *Kosman M.* Historia Białorusi. Wrocław; Warszawa; Kraków; Gdańsk, 1979. S. 76.



Царква абарончага тыпу ў в. Сынкавічы. Канец XV – пачатак XVI ст.

асаблівасці ў святкаванні некаторых рэлігійных свят, наяўнасць культу уласных святых)[1]. Пры гэтым на дадзеным этапе свайго развіцця мясцовая праваслаўная царква па ранейшаму знаходзілася пад істотным культурным уплывам візантыйскай традыцыі[2]. Разам з тым дазвол выкарыстоўваць у час богаслужэння некананічныя мовы спрыяў пранікненню ў асяроддзе праваслаўнага кліру старабеларускай гаворкі. Адчувалася гэта і пры перакладзе з грэчаскай мовы шматлікіх твораў рэлігійнага характару.

Што ж да каталіцкай царквы, то, як адзначалася вышэй, яна пачала актыўна пранікаць на тэрыторыю Беларусі з часоў Міндоўга. Пасля уніі з Польшчай вялікія князі ўжо адкрыта падтрымлівалі яе дзейнасць у ВКЛ. Да 1500 г. на беларускіх землях было заснавана каля 90 каталіцкіх парафій, у якіх на сродкі мясцовай шляхты будаваліся касцёлы: Абольцы (1387), Гайна (1387), Крэва (1387), Менск (1390), Берасце (1390), Быстрыца (1390), Наваградак (1393), Ашмяны (1398), Браслаў (1406), Вішнева (1424), Гародня (1430), Клецк (1437), Свір (1452), Відзы (1481), Полацк (1498) і інш.[3] Найбольш трывала каталікі ўмацаваліся ў азначаны час у паўночна-заходняй Беларусі, дзе было шмат палякаў і неславянскага насельніцтва (літоўцы, прусы, ятвягі, латышы). Пашырэнню ўплыву каталіцкай царквы спрыяў пачатак працэсу яе ўкаранення ў розныя сферы грамадска-культурнага жыцця (фарміраванне культу мясцовых святых і пакутнікаў, з'яўленне цудатворных абразоў і мошчаў, пашырэнне заходнееўрапейскага календара, папулярызацыя каталіцкіх свят і абрадаў)[4]. Важным фактарам тут было і тое, што мясцовы каталіцкі клір першапачаткова карыстаўся блізкай славянскай, а часам і старабеларускай мовай, што рабіла касцёл даволі даступным для шырокіх колаў тутэйшага грамадства.

Перамога контррэфармацыі, дзейнасць езуітаў і паступовае ўзмацненне ўплыву Польшчы прывялі да абвастрэння канфесійнай сітуацыі на тэрыторыі Беларусі[5]. Нарастаючы антаганізм з канца XVI ст. праявіўся

---

[1] *Слюнькова И.Н.* Монастыри восточной и западной традиций. М., 2002. С. 43–44.

[2] Імя тваё Белая Русь / Укл. Г. Сагановіч. Мн., 1991. С. 261.

[3] *Гринблат М.Я.* Белорусы. Мн., 1968. С. 157; *Кулагін А.М.* Каталіцкія храмы на Беларусі. Мн., 2000. С. 17, 27, 160, 162, 166; *Ochmański J.* Biskupstwo Wileńskie w średniowieczu. Poznań, 1972. S. 59–63.

[4] *Кутшеба С.* Очерк истории общественно-государственного строя Польши. СПб., 1907. С. 23–25, 63–66.

[5] БЭФ. Т. 1. С. 385–389.

ў падзеле тагачаснага грамадства па рэлігійнай прыкмеце. Пры гэтым адным з вызначальных фактараў у яго жыцці стала канфесійная самасвядомасць, якая часам нават падмяняла нацыянальнае самаўсведамленне. Разам з тым нельга лічыць, што такі паварот падзей толькі негатыўным чынам адбіўся на фарміраванні беларускай народнасці. Знешняя пагроза страты шэрага самабытных рыс народнай культуры спрыяла часам нават паскарэнню кансалідацыйных працэсаў. Так, паводле даволі пашыранай у айчыннай гістарыяграфіі тэорыі, станаўленне агульнага этноніма – беларусы – адбылося пазней якраз дзякуючы нарастаючаму ціску з боку уніятаў і каталікоў на мясцовае праваслаўнае насельніцтва[1].

Існаванне на тэрыторыі Беларусі асобных этнарэлігійных груп з цягам часу стала ў пэўнай ступені супадаць з сацыяльнай дыферэнцыяцыяй мясцовага насельніцтва. Тутэйшая арыстакратыя па ўласным жаданні дыстанцыравалася ад асяроддзя простага народа і пад уплывам сацыяльных фактараў і з прычыны захаплення еўрапейскай культурай пачала страчваць уласцівыя ёй спрадвеку этнічныя рысы і адметнасці. Наступнае ж узмацненне ўплыву з боку Польшчы прывяло нават да яе частковай асіміляцыі[2]. У асяроддзі ж беларускага мяшчанства ўскладненне канфесійнай сітуацыі стала адчувацца ўжо з XIV ст., калі пачаў афармляцца яго падзел на "рускае" і "лацінскае". У далейшым, аднак, значная частка былых праваслаўных гараджан стала вызнаваць пратэстантызм і уніяцтва. Адчуваўся тут уплыў і маёмаснай няроўнасці – заможная вярхушка мяшчанства прытрымлівалася пераважна каталіцызму і уніяцтва, а ў асяроддзі гарадскіх нізоў пэўную папулярнасць набылі радыкальныя пратэстанцкія рухі (арыяне). Што ж да беларускага сялянства, то яно аказалася найбольш кансерватыўным колам тагачаснага грамадства. Змены ў канфесійнай арыентацыі тут адбываліся ў большасці выпадкаў згодна з пажаданнямі феадалаў[3]. Якраз такім чынам тут спачатку пашырыўся кальвінізм ды лютэранства, а затым і уніяцтва. Пры гэтым айчыннай вёсцы былі больш уласцівы пэўныя сацыяльныя тэндэнцыі (асабліва ў час актывізацыі запрыгоньвання).

У цэлым, аднак, менавіта ў Беларусі працяглы час (да канца XVI ст.) панавала верацярпімасць, якую можна лічыць адной з праяў талерантнасці ў шырокім сэнсе гэтага слова. Адпаведная рыса ментальнасці беларусаў звязана і з поліэтнічным складам грамадства ВКЛ, і з праблемай яго шматканфесійнасці. Пры гэтым павага да іншых поглядаў, звычаяў, ладу жыцця, культуры ў беларусаў супадала з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй, з адстойваннем уласных нацыянальных, дзяржаўных і этнакультурных інтарэсаў[4].

**Узроўні этнічнай, сацыяльнай і дзяржаўнай свядомасці.** Пачуццё самасвядомасці зарадзілася яшчэ на самым пачатку чалавечай цывілізацыі. Першай праявай сацыяльнай самаарганізацыі стала групавая свядомасць, якая аказалася своеасаблівым "пускавым" механізмам узгодненай калектыўнай дзейнасці. Далейшаму сцвярджэнню самасвядомасці

---

[1] *Марзалюк І.А.* Людзі даўняй Беларусі. Этнаканфесійныя і сацыякультурныя стэрэатыпы (X–XVII ст.). Магілёў, 2003. С. 90–91.
[2] *Павлищев Н.И.* Польская анархия. Ч. 1. СПб., 1878. С. 47–57, 200–203.
[3] Этнаграфія беларусаў / В.К. Бандарчык [і інш.]. Мн., 1985. С. 84–89.
[4] *Касцюк М.П.* Высакародныя рысы талерантнасці // Беларусь. 1994. № 12. С. 5.

моцна паспрыяла язычніцтва, якое стымулявала пераход да падобнай, ці інакш – аднатыпнай, дзейнасці, што пазней выйшла за першапачатковыя межы і стала вызначаць агульныя спосабы жыццядзейнасці на ўсёй тэрыторыі пражывання таго ці іншага племені.

У час фарміравання дзяржаўнасці і этнагенезу беларусаў пачала складвацца і іх этнічная ментальнасць. На яе самабытнасць і непаўторнасць істотным чынам паўплываў сінтэз тутэйшых язычніцкіх традыцый з хрысціянскай рэлігіяй. Пры гэтым яе мірнае і павольнае пашырэнне на тутэйшых землях не зруйнавала мясцовую самабытную народную культуру, якая ўдала дапоўніла і ўзбагаціла царкоўныя каноны[1]. Аб'яднанне ж уласцівай хрысціянству духоўнасці і старадаўняй міфалогіі лепшым чынам праявілася ў беларускіх абрадах ды фальклоры.

Не менш значным аспектам у складванні самасвядомасці беларусаў было і тое, што яны працяглы час знаходзіліся пад уздзеяннем двух грамадска-сацыяльных напрамкаў – заходнееўрапейскага і візантыйска-рускага. Напрамкі гэтыя мелі як палярныя бакі (адпаведна панаванне індывідуалізму і калектывізму), так і пэўнае падабенства (кансерватызм, нецярпімасць, экспансіянізм)[2]. Вынікам іх прысутнасці ў Беларусі стала выпрацоўка тутэйшым грамадствам уласнага стаўлення да знешняга ўплыву з творчай пераапрацоўкай іншаземнага вопыту. На ўзроўні гаспадарчага развіцця тут можна ў якасці прыкладу прывесці пашырэнне ў ВКЛ магдэбургскага права і цэхаў. У палітычным жыцці падобны падыход праявіўся ў выбарнасці манарха, а таксама ў наяўнасці вальных сеймаў, ваяводскіх і павятовых сеймікаў.

Моцны знешні ўплыў, а таксама агульная з суседнімі народамі этнагістарычная спадчына ў пэўнай ступені ўскладнілі працэс фарміравання этнічнай самасвядомасці беларусаў. Разам з тым само яе ўзнікненне ўжо можна разглядаць як найлепшы паказчык высокага ўзроўню кансалідацыі розных этнічных і сацыяльных груп насельніцтва, што пражывалі на пэўнай тэрыторыі. Адметнымі ж рысамі тут, безумоўна, з'явіліся этнацэнтрызм, патрыятызм і пачуццё ўласнай годнасці.

На гэтым узроўні для беларусаў (як і іншых еўрапейскіх народаў) характэрна пэўная дваістасць, звязаная з тым, што жыхары асобных тэрыторый і прадстаўнікі розных сацыяльных груп усведамлялі сваю этнічную тоеснасць неаднолькава. Так, у асяроддзі сялянства і насельніцтва дробных мястэчак усё яшчэ дамінавалі перадэтнічныя формы свядомасці з наяўнасцю вельмі пашыраных і ўстойлівых саманазваў тыпу "тутэйшыя", "тубыльцы", "свае" і "мясцовыя"[3]. Гэтыя этнацэнтрычныя пацяцці сведчылі пра адсутнасць у іх на дадзеным этапе эвалюцыі вострага імкнення да самаіндэнтыфікацыі, якое адыходзіла на другі план перад куды больш актуальнымі эканамічнымі праблемамі. Зусім па-іншаму ішлі справы ў жыхароў памежных рэгіёнаў, а таксама буйных гарадоў, дзе

---

[1] *Конан У.* Архетыпы беларускага менталітэту: спроба рэканструкцыі паводле нацыянальнай міфалогіі і казачнага эпасу // Беларусіка-Albaruthenica. Кн. 2. Мн., 1993. С. 22.

[2] *Абдзіраловіч І.* Адвечным шляхам. Дасьледзіны беларускага сьветагляду. Мн., 1993. С. 8–18.

[3] *Шейн П.В.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Т. 3. СПб., 1902. С. 98.

людзі з прычыны магчымасці супастаўлення куды больш востра разумелі сваё этнічнае адзінства[1].

На гэткім фоне неабходна адзначыць наяўнасць у тагачаснай Беларусі некалькіх узроўняў этнасацыяльнай самасвядомасці, якія не супярэчылі, а дапаўнялі і ўзбагачалі адзін аднаго. Так, найбольш дробным і вузкалакальным тут можна лічыць атаесамленне простага вясковага насельніцтва ("мужы", "людзі") з той тэрыторыяй, на якой і праходзіла большая частка іх паўсядзённага жыцця. Падобныя этніконы былі надзвычай устойлівыя і фактычна не залежалі ад агульнага палітычнага становішча. Большай дынамікай вызначаўся наступны ўзровень, таксама ўтвораны па дакладным тэрытарыяльным прынцыпе (валасць ці павет). Тут ужо адчуваліся і агульныя этнічныя тэндэнцыі (у дакументах сустракаецца падзел на "літоўскія" і "рускія" валасці)[2]. Куды больш відавочна яны прасочваліся на ўзроўні так званых зямляцтваў, якія атрымлівалі свае назвы ад урбаніма – назвы цэнтральнага пасялення[3]. Кожнае з іх можна разглядаць як складанае субэтнічнае ўтварэнне з разгалінаванай этнасацыяльнай арганізацыяй, уласнай многавяковай гісторыяй, культурнымі і моўнымі адметнасцямі (Полаччына, Смаленшчына, Панёманскія валасці і інш.)[4].

Праблема аб'яднання асобных зямляцтваў у часы фарміравання беларускай народнасці ўжо разглядалася вышэй; тут трэба таксама адзначыць тое, што ўтварэнне поліэтнічнага ВКЛ выклікала да жыцця яшчэ адзін прамежкавы ўзровень, які непасрэдна датычыўся этнічнай самасвядомасці. Маецца на ўвазе дакладнае размежаванне ўсяго тутэйшага насельніцтва на балцкае (аўкштайты, жамойты) і ўсходнеславянскае (русіны, беларусцы). Разам з тым адсутнасць паміж імі адчувальнага нацыянальнага антаганізму дазволіла паралельна з узмацненнем дзяржавы скласціся і агульнаграмадзянскай саманазве "літвін"[5].

Падобнае развіццё падзей стала вызначальным пры станаўленні дзяржаўнай (палітычнай) свядомасці ў асяроддзі тагачаснага грамадства ВКЛ. Гэтая дзяржава на стадыі свайго фарміравання ўяўляла хутчэй не вельмі трывалую дынастычную канфедэрацыю ўсходнеславянскіх княстваў і балцкіх плямён. Аднак ужо ў XIV–XV ст. патрыятычныя настроі ахапілі спачатку арыстакратыю, а за ёю і шырокія колы духавенства і мяшчанства[6]. Пры гэтым этнаканфесійныя аспекты ў адпаведных жыццёвых сітуацыях тут ужо ўспрымаліся як другасныя. Таму зусім не дзіўна, што менавіта Смаленск у XV ст. як цэнтр айчыннага летапісання стаў месцам складвання новай дзяржаўнай ідэалогіі ВКЛ. Пасля ж яго захопу ў 1514 г. маскоўскім войскам у Беларусь выехала 50 тутэйшых баярскіх родаў і мноства мяшчан[7]. Пры гэтым найлепшым доказам гар-

---

[1] *Баргдановіч А.* Пытанні вывучэння этнічнай самасвядомасці // Старонкі гісторыі і культуры Беларусі. Мн., 1997. С. 39.

[2] Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею (далей – АЗР). Т. 2. СПб., 1848. С. 86.

[3] АЗР. Т. 1. СПб., 1846. С. 186, 310, 322.

[4] Полоцкие грамоты XIII–XVI вв. Вып. 2. М., 1978. С. 144–146.

[5] *Сагановіч Г.* Нарыс гісторыі Беларусі. С. 178–180.

[6] *Пашуто В.Т., Флоря Б.Н., Хорошкевич А.Л.* Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. С. 76.

[7] *Марзалюк І.А.* Людзі даўняй Беларусі... С. 184.

манічнага суіснавання розных узроўняў этнічнай, а таксама палітычнай самасвядомасці могуць служыць асобныя старонкі біяграфіі Ф. Скарыны, які лічыў сабе і палачанінам, і русінам, і літвінам адначасова, што характарызавала яго паходжанне, моўна-культурную і дзяржаўную прыналежнасць[1].



Сукня



Сукня



Сукня



Жупан



Шуба

Уборы жыхароў Рэчы Паспалітай канца XVI ст.

**Саманазвы і этнонімы. Паходжанне тэрміна "Белая Русь".** Нават з улікам вышэй пералічаных адметнасцей складвання самасвядомасці беларусаў трэба прызнаць, што на пэўнай стадыі развіцця назіралася частковае аслабленне этнічнай супольнасці тутэйшага насельніцтва. Новыя культурна-эканамічныя стасункі розных рэгіёнаў не маглі хутка замяніць ужо існуючыя роднасныя сувязі. Менавіта з гэтым звязана і запаруджанае пашырэнне ў асяроддзі беларусаў асноўнага знешняга праяўлення этнічнай самасвядомасці – уласнай саманазвы.

Практычна ўвесь перыяд існавання ВКЛ у якасці самастойнай дзяржавы ў дачыненні да тутэйшага ўсходнеславянскага насельніцтва ўжываўся этнонім "рускія" ці "русіны". Звязана гэта з шэрагам абставін пераважна гістарычнага, а таксама канфесійнага плану. Сам тэрмін "русь" сягае сваімі каранямі ў час дамінавання ў рэгіёне Кіева (першапачаткова менавіта так называлася сярэднедняпроўская эліта)[2]. У дагаворы з Візантыяй ад 911 г. сярод "рускіх" гарадоў называецца і Полацк[3]. У наступныя стагоддзі пад гэтым тэрмінам сталі разумець усё насельніцтва тутэйшых раннефеадальных княстваў (у "Аповесці мінулых гадоў" словы, вытворныя ад "русь", узгадваюцца звыш 270 разоў)[4]. Менавіта гэты фактар і абумовіў сур'ёзныя праблемы пры яго ўжыванні ў далейшым, як у час панавання феадальнай раздробленасці, так і ў перыяд узвышэння ВКЛ і Маскоўскага царства.

У XIII–XVI ст. можна ўжо гаварыць пра пераход тэрміна "русь" на ўзровень метаэтноніма, калі на стадыі свайго фарміравання яго актыўна ўжывалі адразу некалькі этнасаў (беларусы, украінцы, рускія)[5]. У сучаснай айчыннай гістарыяграфіі існуе меркаванне, што асноўнай прычынай устойлівага захавання гэтага тэрміна ў азначаны перыяд з'яўляецца рэлігійны фактар. Слова "русін" пры такім падыходзе адпавядала хутчэй не этнічнай, а канфесійнай прыналежнасці[6].

---

1 *Александровіч С.Х.* Кнігі і людзі. Мн., 1976. С. 11–15.
2 Беларусы. Т. 4. С. 28.
3 Повесть временных лет. Ч. 2. М.; Л., 1950. С. 266–268.
4 Памятники истории Киевского государства IX–XII вв. Л., 1936. С. 60.
5 ПСРЛ. Т. 35. М., 1980. С. 92, 147, 150, 167–168, 195.
6 *Лыч Л., Навіцкі У.* Гісторыя культуры Беларусі. С. 32–35.

Разам з тым ужыванне агульнай саманазвы рознымі этнасамі яшчэ не сведчыла пра ўсведамленне імі свайго адзінства. Наадварот, розная палітычная гісторыя, неаднолькавы ўзровень эканамічнага развіцця і культурныя адметнасці прывялі да паглыблення размежавання паміж імі, што ў першую чаргу праявілася на ўзроўні самасвядомасці.

Прадстаўнікі кожнага з гэтых этнасаў лічылі сапраўднымі "рускімі" толькі сябе, а суседзям давалі іншыя найменні. Жыхары Маскоўскага царства называлі сваіх заходніх суседзяў літвінамі (дабаўляючы часам "рускага паходжання"). У адказ на гэта беларусы і ўкраінцы абазначалі іх па прыналежнасці да пэўных тэрытарыяльных утварэнняў (пскавічы, наўгародцы) ці па агульнадзяржаўнай назве (масквічы, маскавіты, маскалі)[1]. Апошняя назва, дарэчы, у другой палове XV ст. усё больш стала набываць рысы, уласцівыя не палітоніму, а этноніму. Гэта спрыяла далейшаму ўмацаванню тэрміна "русь" у межах ВКЛ, дзе ён таксама меў унутранае дзяленне – беларусы звалі ўкраінцаў казакамі, чаркасамі, валынянамі і г.д., а тыя ў сваю чаргу абазначалі ўсіх астатніх жыхароў гэтай краіны як літвінаў ці членаў асобных буйных зямляцтваў[2].

Прычыны падобнага размежавання, якое існавала нават насуперак адзінай веры, крыюцца ў працэсах фарміравання асобных усходнеславянскіх народнасцей, што паралельна праходзілі якраз у той час. Пры гэтым паняцце "русін" у дачыненні да беларусаў, украінцаў і рускіх усё больш выходзіла за рамкі толькі канфесіянізму і насычалася самабытнымі этнічнымі адметнасцямі (мова, грамадскі і гаспадарчы лад жыцця, матэрыяльная і духоўная культура), якія на думку М. Грынблата, сталі відавочна праяўляцца ў дачыненні да беларускіх зямель ужо ў XIV–XV ст.[3]

На фоне паступовай трансфармацыі сэнсу вядучага ва ўсходнеславянскім свеце тагачаснага эндаэтноніма новае гучанне атрымалі тэрміны "Літва" і "літвін". На першапачатковым этапе свайго існавання (з XI ст.) так нызываўся толькі асобны балцкі племянны саюз, што пазней стаў адным з ініцыятараў утварэння ВКЛ. У XIII–XV ст. у якасці тапоніма гэтая назва выкарыстоўвалася і для абазначэння значнай часткі Заходняй і Цэнтральнай Беларусі (міжрэчча Нёмана і Віліі). Умоўная мяжа паміж ёю ды ўсходне- і паўднёвабела-


Бекеша


Бекеша


Кафтан


Каўпак


Каўпак

Уборы жыхароў Рэчы Паспалітай канца XVI ст.

---

[1] ПСРЛ. Т. 35. С. 110, 122, 126; Русско-белорусские связи: сб. документов. (1570–1667). Мн., 1963. С. 94–97, 103, 109–114.
[2] *Чаквин И.В., Терешкович П.В.* Из истории становления национального самосознания белорусов // Сов. этнография. 1990. № 6. С. 44.
[3] *Гринблат М.Я.* Белорусы. С. 50.



Нясвіжскі касцёл Божага Цела

рускімі землямі праходзіла па лініі Браслаў–Дзісна–Барысаў–Слуцк–Баранавічы–Пружаны–Слонім–Ваўкавыск[1]. У такім вузкім сэнсе яе можна разглядаць як субэтнічную тэрытарыяльную адзінку ВКЛ накшталт Жамойці, Палесся, Падолля, Валыні ці Падляшша, толькі з куды больш стракатым складам мясцовага насельніцтва. Пры гэтым унутры яго таксама не было адзінства: Літва падзялялася на Панёманскую і Завілейскую, а "літвінамі" называлі сябе ці тутэйшыя беларусы, якія называлі балтаў па іх лакальным этнагеаграфіным рассяленні (ятвягі, аукштайты, жамойты, латыголы, прусы, самагіты), ці літоўцы, што атаясамлівалі мясцовых славян з "гудамі" ці "гудасамі"[2].

Разам з тым адначасова з умацаваннем цэнтральнай улады і складваннем дзяржаўнай самасвядомасці азначаныя тэрміны сталі ўжывацца і ў больш шырокім сэнсе, абазначаючы грамадзянскую прыналежнасць усяго насельніцтва ВКЛ без уліку этнічных адметнасцей. Пашырэнню назвы "Літва" як агульнапрынятага палітоніма спрыяла фарміраванне мясцовай эліты з высокім узроўнем адукацыі і інтэлектуальнага развіцця. Патрэба ж у дзяржаўнай самаіндэнтыфікацыі ў першую чаргу праявілася ў асяроддзі правячай арыстакратыі і мяшчанства, што тлумачылася іх высокаразвітай самасвядомасцю: "літвін рускі па паходжанні", "рускія князі літоўскага роду"[3].

Значна паскорыліся адзначаныя працэсы ў XVI ст., калі ВКЛ трапіла ў сферу ўплыву Рэнесанса і Рэфармацыі. Куды больш адчувальна стаў праяўляцца агульнадзяржаўны патрыятызм. Канфесійная ж аднароднасць, уласцівая да гэтага насельніцтву беларускіх зямель, наадварот, пачала ўсё больш і больш размывацца з прычыны пашырэння спачатку пратэстанцкіх рухаў, а потым і уніяцтва.

Трэба адзначыць, што ў дадзены перыяд тэрмін "Русь" ужо страціў практычна ўсе тыя свае якасці, што дазвалялі яму ўпэўнена існаваць у ранейшыя эпохі (у плане метаэтноніма). Этнічныя адметнасці сталі пераважаць над канфесійнымі – русінамі называлі сабе і асобныя каталікі, і

---

[1] Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1. С. 333–338.
[2] *Насевіч В., Спірыдонаў М.* "Русь" у складзе ВКЛ у XVI ст. // З глыбі вякоў: Наш край. Вып. 1. Мн., 1996. С. 9–17.
[3] Русско-белорусские связи. С. 11; *Чаквин И.В., Терешкович П.В.* Из истории становления национального самосознания белорусов. С. 44.

пратэстанты, і уніяты. Да таго ж у другой палове XVI ст. Маскоўская дзяржава атрымала афіцыйную назву "Рускае царства" і трывалы этнонім "Расія"[1]. Утварэнне ж Рэчы Паспалітай і шматгадовая Лівонская вайна яшчэ больш паглыбілі размежаванне ўсходнеславянскіх народаў.

Такім чынам беларускія і ўкраінскія землі апынуліся ў даволі складаным становішчы. З аднаго боку, на іх усё больш актыўна прэтэндавала Масква, і наяўнасць тутэйшай саманазвы "рускія" давала ёй для гэтага пэўныя падставы. З другога боку, само паняцце "Русь" усё менш і менш адлюстроўвала этнакультурныя адметнасці гэтага рэгіёна і да таго ж патрабавала ўжо дадатковага ўдакладнення – "Русь літоўская". Выйсце было знойдзена ў паступовым пашырэнні на азначаных тэрыторыях заходнееўрапейскай тэрміналогіі з падзелам на Белую (Мсціслаўскае, Віцебскае, Смаленскае, Полацкае ваяводствы), Чорную (Наваградскае, Менскае ваяводствы) і Чырвоную (украінскія ваяводствы) Русь[2]. Усе гэтыя назвы так ці інакш час ад часу ўжываліся і самімі ўсходнімі славянамі пачынаючы яшчэ з XIV–XV ст., але іх дакладнае паходжанне дагэтуль адназначна не высветлена.

Сярод найбольш пашыраных і папулярных тэорый узнікнення назвы "Белая Русь" можна назваць наступныя. Вядомы рускі гісторык XVIII ст. В. Тацішчаў меркаваў, што яна паходзіць ад белага колеру льнянога адзення тутэйшых жыхароў, а таксама "цэнтральнага" размяшчэння азначанага рэгіёна ў славянскім свеце[3]. Айчынны этнограф Я. Карскі адзначаў верагоднасць уплыву на ўтварэнне тэрміна антрапалагічных асаблівасцей беларусаў – "бландынаў з блакітнымі ці светла-шэрымі вачамі"[4]. Беларускі мовазнаўца П. Крапівін звязваў паходжанне назвы з наяўнасцю ў рэгіёне вялікай колькасці рэк і азёр, а тэрмін "Белая Русь" з гэтай нагоды перакладаў як "Чыстая Вада"[5]. Украінскі філолаг-славіст Р. Ільінскі лічыў, што горад Бельск на тэрыторыі сучаснай Польшчы мог даць адпаведную назву ўсёй падкантрольнай яму тэрыторыі[6]. Савецкі гісторык А. Салаўёў сцвярджаў, што тэрмін "белы" азначаў вольнасць і магутнасць рэгіёна[7]. Расійскі даследчык В. Іваноў даказваў, што яшчэ да прыняцця хрысціянства ў Еўропе існавала традыцыя суадносіць асноўныя колеры з напрамкамі свету (поўнач – чорны, поўдзень – чырвоны, захад – белы, усход – жоўты ці блакітны). Адсюль, на яго думку, цалкам лагічным было б змясціць Белую Русь на захад ад іншых старажытнарускіх княстваў[8]. Сучасны ж магілёўскі гісторык І. Марзалюк разглядае беларусаў як "праваслаўных русінаў", што захавалі пасля пашырэння уніяцтва "чысціню" сваёй веры[9]. Трэба прызнаць,

---

1 *Ламанский В.* Белая Русь // Живая старина. Вып. 3. СПб., 1891. С. 249.

2 *Улащик Н.Н.* Белая и Чёрная Русь в «Хронике» Матея Стрыйковского // Исследование по истории и историографии феодализма. М., 1982. С. 238–239.

3 *Татищев В.Н.* История России. Т. 1. М.; Л., 1962. С. 287.

4 *Карский Е.Ф.* Белорусы... Кн. 1. С. 117.

5 *Крапівін П.Ф.* Паходжанне назваў "Русь", "Белая Русь", "Чорная Русь" і "Чырвоная Русь" // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1956. № 3. С. 53–66.

6 *Ильинский Г.А.* К вопросу о происхождении названия "Белая Русь" // Slawia. Praha. 1927. № 2-3. S. 388–393.

7 *Соловьёв А.В.* Великая, Малая и Белая Русь // Вопросы истории. 1947. № 7. С. 24–38.

8 *Иванов В.В.* Цветовая символика в географических названиях в свете данных типологии (к названию Белоруссии) // Балто-славянские исследования. М., 1981. С. 163–177.

9 *Марзалюк І.А.* Людзі даўняй Беларусі... С. 90–91.

што на сённяшні момант існуюць і іншыя шматлікія гіпотэзы паходжання назвы "Белая Русь"[1]. Што ж да тэрмінаў "Чорная Русь" і "Чырвоная Русь", то найбольшай папулярнасцю зараз карыстаецца версія іх з'яўлення ў якасці супрацьвагі тэрміну "Белая Русь"[2].

Так ці інакш, але не выклікае сумненняў той факт, што ўсе гэтыя назвы сягаюць сваімі каранямі ў дакументальную спадчыну Заходняй і Цэнтральнай Еўропы. Тэрмін "Белая Русь", напрыклад, сустракаецца і ў аповядах невядомага англійскага місіянера (XIII ст.), і ў паўднёванямецкага паэта П. Сухенвірта, ды і ў польскага летапісца Я. Чарнкоўскага (абодва – XIV ст.), і ў асабістай перапісцы крыжакаў з еўрапейскімі манархамі (XV ст.), і на асобных еўрапейскіх картах, напрыклад венецыянца Фра Маўра (1459). Пры гэтым у самой Беларусі ён узгадваецца ў азначаны час толькі аднойчы – у апавяданні пра памесце Бортнікі, захопленае полацкім намеснікам у 1407 г.[3]

Доўгі час дакладнай лакалізацыі тэрміна "Белая Русь", аднак, не існавала. Гэтая назва ўжывалася ў дачыненні да розных зямель, у тым ліку не толькі ў межах сучаснай Беларусі. Карэнным чынам становішча пачало змяняцца ў другой палове XVI – пачатку XVII ст., калі тэрмін "Белая Русь" стаў трывала звязвацца спачатку з тэрыторыяй Полаччыны, а пазней пашырыўся на ўсіх усходнеславянскіх землях ВКЛ.

Рэгулярным становіцца выкарыстанне этноніма "беларусец", які найчасцей ужываўся ў дадатак да агульнадзяржаўнага палітоніма "літвін беларусец Ашмянскага павета", "літоўка беларуска Мсціслаўскага павета". Сустракалася таксама і яго прывязка да пэўнай тэрыторыі ці сацыяльнага стану – "беларусец Лідскага павета", "віцябчанін беларусец пасадскі чалавек" і г.д.[4] Важным момантам у яго замацаванні стала паступовае атаесамленне праваслаўнай веры ў ВКЛ як "беларускай" – "шляхціц веры беларускай". Менавіта гэты аспект, дарэчы, першым знайшоў і афіцыйнае прызнанне – з 1675 г. Магілёўская праваслаўная епархія ў разнастайных дакументах неаднаразова называлася Беларускай. Вышэй азначаныя факты сведчаць пра тое, што ў паняцце "беларусцы" першапачаткова ўкладваўся менавіта этнаканфесійны сэнс, у той час як яго палітычнае напаўненне ўвогуле адсутнічала. Хутчэй за ўсё якраз гэтая акалічнасць і прывяла да таго, што пашырэнне назвы "Белая Русь" на ўвесь этнас заняло працяглы час і завяршылася толькі ў пачатку XX ст. Разам з тым падобны факт не з'яўляецца чымсьці не маючым аналагаў – сучаснае разуменне такія паняцці, як "французы" і "немцы", набылі толькі ў канцы XVIII–XIX ст.[5]

**Прыкметы этнічнасці: светапогляд і мова беларусаў.** Светапогляд беларусаў стаў адной з асноў кансалідацыі іх у адзіны этнас. Дзякуючы яму грамадства адчувала сваю тоеснасць. Найбольш важнымі аспектамі

[1] *Белы А.* Хроніка "Белай Русі": Нарыс гісторыі адной назвы. Мн., 2000. С. 7–12; 184–187.

[2] Імя тваё Белая Русь. С. 26; *Рылюк Г.Я.* Истоки географических названий Беларуси. Мн., 1997. С. 115–122.

[3] *Сагановіч Г.М.* Да гісторыі назвы "Белая Русь" // Старонкі гісторыі Беларусі. Мн., 1992. С. 66–67.

[4] Русско-белорусские связи. С. 94, 95, 103, 109–131, 161, 222.

[5] *Белы А.* Хроніка "Белай Русі". С. 160, 188; *Насевіч В., Спірыдонаў М.* "Русь" у складзе ВКЛ у XVI ст. С. 15.

тут былі адносіны да прыродных з'яў, грамадска-палітычных падзей, разуменне людзьмі свайго месца ў свеце, выпрацоўка сістэмы агульначалавечых каштоўнасцей з наяўнасцю ідэалаў, нормаў паводзін, кірункаў стваральнай дзейнасці. Усё гэта адлюстроўвалася ў менталітэце беларусаў, які эвалюцыяніраваў адначасова з іх фарміраваннем у якасці асобнага народа.

Уласцівыя беларускаму этнасу адметнасці мыслення, уяўленняў і пачуццяў складваліся на працягу стагоддзяў. Шмат што тут было запазычана яшчэ з часоў язычніцтва. Так, першабытны політэізм саступіў месца хрысціянству, але яго ўздзеянне адчувалася яшчэ працяглы час. Пакланенне агню, вадзе, валунам, хатняму ачагу, хлебу было ўласціва беларусам і ў перыяд Сярэднявечча; людзі верылі ў іх уласцівасць абараніць ад хвароб, няшчасцяў і г.д.[1] Шанавалася і сама зямля, што нараджала, карміла, паіла, апранала і ўрэшце ізноў забірала да сябе насяляючых яе людзей. Жменьку роднай зямлі людзі нават бралі з сабою ў вандраванне. Падобны пантэізм у беларусаў спалучаўся з адчуваннем сваёй тоеснасці з навакольным светам[2].

Адным з вынікаў гэтага стала абагаўленне і адушаўленне прыроды, што прывяло да насычэння народнага фальклору адпаведнымі казкамі, паданнямі і інш. Іх аналіз сведчыць, якую вялікую моц беларусы надавалі і некаторым словам і сказам – асобныя выразы маглі адвесці ліха ці вярнуць здароўе, а іншыя – праклясці ворага. Існаваў нават цэлы комплекс прыкмет і забабонаў, у якім адчуваўся подых глыбокай старажытнасці[3]. Язычніцкая па сутнасці сваёй вера ў існаванне душы (незалежны ад матэрыяльнага свету духоўны пачатак) была ўспрынята нават хрысціянскай царквою. Пры гэтым беларусы верылі ў магчымасць душы пакідаць цела ў час сну, пасяляцца ў жывёлах, пабудовах, зброі і камянях; вандраваць па зямлі пасля смерці свайго носьбіта, наведваць іншыя недасягальныя для людзей цудоўныя мясціны[4]. Менавіта прызнанне практычна неабмежаваных здольнасцей чалавечай душы прывяло да ўзнікнення веры ў прывіды, злых і добрых духаў. Апошнія жылі паблізу ад чалавека ("дамавікі", "хлеўнікі", "лазнікі") альбо ў аддаленых лясных гушчарах ("лесавікі") ці вадаёмах ("вадзянікі"). Часам яны дапамагалі людзям, але маглі прынесці і шкоду, калі чымсьці іх раззлаваць[5]. На гэтакім фоне знайшло сваё месца і хрысціянства, якое, аднак, на беларускіх землях ніколі не выглядала безумоўнай і ўсепаглынальнай верай: Бог у народных прыказках, зразумела, карыстаўся вялізнай пашанай і павагай, але разам з тым ніколі не з'яўляўся бязмежна ўсемагутным і цалкам справядлівым[6].

Адным з вынікаў ускладнення старадаўняй культуры і светапогляду беларусаў стала фарміраванне цэлага комплексу ўяўленняў пра належ-

---

[1] *Меховский М.* Трактат о двух Сарматиях. М.; Л., 1936. С. 100; *Шпилевский П.М.* Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. С.99, 107.
[2] *Голубеў В., Кітурка І.* Нарысы гісторыі беларускай дзяржаўнасці. Мн., 2004. С. 14.
[3] Беларускі фальклор: Хрэстаматыя / Уклад. К.П. Кабашнікаў [і інш.]. Мн., 1996. С.44–54, 391–418, 426–570.
[4] *Богданович А.Е.* Пережитки древнего миросозерцания у белоруссов. Гродно, 1895. С. 45–58.
[5] Живописная Россия. Т. 3. Ч. 2. С. 271.
[6] *Дубянецкі Э.* Светапогляд беларусаў // Беларусіка-Albaruthenica. Кн. 3. Мн., 1994. С. 411–416.

ныя нормы паўсядзённага жыцця. На пачатковай стадыі яны, хоць і прымаліся бясспрэчна ўсім грамадствам, былі "няпісанымі" і з'яўляліся звычаёвым правам[1]. Яго росквіт на беларускіх землях прыйшоўся якраз на XIII–XIV ст., калі выпрацаваныя вякамі правілы паводзін былі не толькі ўзгоднены з догматамі хрысціянскай царквы, але і прыстасаваны да феадальнай рэчаіснасці ВКЛ. У далейшым менавіта яны заклалі аснову для стварэння першых айчынных заканадаўчых зводаў[2]. Характэрнымі рысамі звычаёвага права былі яго вельмі ўстойлівая форма і наяўнасць рэгіянальных асаблівасцей. Дзяленне ж на зямельнае, спадчыннае і сямейнае права звязана з вызначальнымі сферамі ўнутранай і знешняй камунікацыі тагачаснага грамадства[3].

Асобнай і важнай праявай этнічнасці з'яўляецца мова. Фарміравалася яна як народна-гутарковая. Але з ускладненнем грамадскага і культурнага жыцця яе эвалюцыя прывяла да ўзнікнення новай сістэмы камунікацыі – пісьменнасці, якая пэўным чынам узаемадзейнічала са сваёй народнай асновай. Вынікам гэтага стала паступовае складванне беларускай літаратурнай мовы з ужываннем кірылічнага алфавіта. Пры гэтым неабходна адзначыць, што першапачаткова кірыліца прызначалася для пашырэння ў значнай колькасці краін Усходняй Еўропы, але кожная з іх прыстасавала візантыйска-славянскі алфавіт для перадачы адметнасцей уласнай гутарковай мовы.

У Беларусі таксама адбываліся гэтыя працэсы. Прамежкавым этапам тут стала, згодна з меркаваннем спецыялістаў, існаванне двух дыялектаў (паўночна-ўсходняга і паўднёва-заходняга), што было абумоўлена прысутнасцю ў рэгіёне буйных сацыяльна-этнічных утварэнняў крывічоў і дрыгавічоў (апошні раз узгадваюцца ў летапісах у XII ст.). Наданне Наваградку статуса сталіцы новай дзяржавы і апора яго ў першую чаргу на культурныя здабыткі Полаччыны спрыялі ўзнікненню новай сярэднебеларускай гаворкі, якая выступіла ў ролі асноўнага кансалідуючага фактару пры складванні агульнай старабеларускай мовы. Упершыню яе адметныя рысы былі зафіксаваны ў дакументальных крыніцах XIII ст. Фарміраванне асноўных уласцівых беларускай гаворцы фанетычных, граматычных і лексічных адметнасцей працягвалася да XVI ст. Менавіта ў азначаны час развіліся такія яе асаблівасці, як цвёрдае *р* (*крыўда*), дзеканне і цеканне (*дзеці, маці*), фрыкатыўны гук [г] (*галава*), пачатковы прыстаўны гук [в] (*вуліца*), аканне (*вада*) і інш.[4] Пашырэнню агульнага запасу ўжывальных слоў у значнай меры садзейнічалі запазычанні з іншых моў (паланізмы, лацінізмы, германізмы, царкоўнаславянізмы, літуанізмы, цюркізмы)[5].

На фарміраванне беларускай літаратурнай мовы істотным чынам паўплывалі змены ў культурна-асветным жыцці. Пашырэнне пісьменнасці, актывізацыя дзейнасці скрыпторыяў, паглыбленне жанравай раз-

---

1 Грамадскі быт і культура сельскага насельніцтва Беларусі / В.К. Бандарчык [і інш.]. Мн., 1993. С. 61; *Леонтович Ф.И.* Источники русско-литовского права. Варшава, 1893. С. 5–6.

2 Статут Вялікага княства Літоўскага 1529 г. Мн., 1960. С. 15–18.

3 *Карпушка Т.П.* Звычаёвае сямейнае права Беларусі // Быт і культура беларусаў. Мн., 1984. С. 49–50.

4 АСД. Т. 1. С. VII.

5 *Гринблат М.Я.* Белорусы. С. 47.

настайнасці садзейнічалі таму, што колькасць рукапісных кніг значна ўзрасла. Акрамя традыцыйных рэлігійных твораў стала з'яўляцца ўсё больш кніг свецкага характару (арыгінальных і перакладных), актывізавалася і дзяржаўнае справаводства. Агульнапрыняты ў папярэднюю эпоху устаў з вытанчанымі геаметрычна дакладнымі абрысамі літар з канца XIV ст. саступіў месца іншаму тыпу кірылічнага пісьма – паўуставу. Апошні вызначаўся меншай акуратнасцю і наяўнасцю вялікай колькасці скарачэнняў[1].

Падобная эвалюцыя суправаджалася і так званым "абеларушчваннем" царкоўна-славянскай мовы, калі ўласцівыя народнай гаворцы словы і звароты ўсё часцей ужываліся пры напісанні разнастайных дзелавых дакументаў, актавых кніг і г.д. Адной з праяў гэтага стала пашырэнне ў Беларусі скорапісу – свабоднага ад кананічных абмежаванняў тыпу пісьма з падзелам на словы і прысутнасцю індывідуальных асаблівасцей почырку пісца.

Як ужо адзначалася, найбольш раннія айчынныя пісьмовыя помнікі, дзе фіксуецца народная аснова, датуюцца яшчэ XIII ст. Так, у напісанай у той час берасцяной грамаце (знойдзена ў 1959 г. у Віцебску) прасочваецца адчувальнае цеканне[2]. Цвёрдаэрасць і дзеканне ўласцівы надпісам на Барысавых камянях[3]. Яны ж, а таксама аканне і яканне прадстаўлены ў гандлёвай дамове Полацка, Віцебска і Смаленска з Рыгай і Гоцкім берагам (1229), дагаворы Полацка і Рыгі (1407), іншых аналагічных дакументах, створаных у падзвінска-дняпроўскім рэгіёне[4].

**Духоўныя архетыпы, жыллё, адзенне, побыт і звычаі беларусаў.** Беларускі этнас, як і любая іншая самаактыўная сацыяльная сістэма, з пачатку свайго фарміравання імкнуўся прыстасаваць навакольнае прыроднае асяроддзе для сваіх патрэб. Вядучым механізмам сацыяльнай адаптацыі з'яўлялася паступовае стварэнне і далейшае ўзбагачэнне матэрыяльнай, а таксама духоўнай культуры. Пры гэтым яе наяўнасць не толькі аблягчала паўсядзённае жыццё грамадства, але і выконвала куды больш важную функцыю – забеспячэнне этнакультурнай пераемнасці пакаленняў з мэтай захавання і ўмацавання адметных нацыянальных рыс.


Сяляне XV ст.

Менавіта па гэтай прычыне ў складаным спектры айчыннай гісторыка-культурнай спадчыны этнаграфічныя помнікі займаюць асобнае і вызначальнае месца – яны даюць дакладную характарыстыку адметнасцей беларускай нацыі, адлюстроўваюць разнастайнасць і багацце яе самабытнай культуры. Сярод фактараў, што заўсёды знач-

[1] *Лабынцаў Ю.* Пачатае Скарынам. Беларуская друкаваная літаратура эпохі Рэнесансу. Мн., 1990. С. 119–120.

[2] Очерки по археологии Белоруссии / Б.Д. Будько [и др.]. Ч. 1. Мн., 1972. С. 176–177; *Сагановіч Г.* Нарыс гісторыі Беларусі. С. 176–177.

[3] *Без-Корнилович М.О.* Исторические сведения о примечательных местах в Белоруссии. СПб., 1855. С. 324–325.

[4] Витебская старина (далей – ВС). Т. 1. Витебск, 1883. С 15; Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы. Ч. 1. Мн., 1961. С. 53–56.

на ўплывалі на працэс фарміравання матэрыяльнай і духоўнай культуры, далёка не апошняе месца займаюць асноўныя заняткі беларусаў. З прычыны асаблівасцей мясцовых прыродна-кліматычных умоў у Беларусі здаўна дамінавала земляробства, а гэта ў сваю чаргу знайшло адлюстраванне ў нацыянальным адзенні, абрадах і фальклоры.

Тэхніка апрацоўкі зямлі развівалася даволі марруднымі тэмпамі. Працяглы час асноўнай прыладай працы была драўляная саха з жалезнымі сашнікамі. Важнымі прыладамі працы ў паляводстве з'яўляліся барана, серп, каса, вілы (сахор), граблі, жорны і г.д.[1] Асноўнымі сельскагаспадарчымі культурамі на беларускіх землях здаўна былі жыта, авёс, пшаніца, грэчка, проса, лён, каноплі, сланечнік, хмель і г.д.

З іншых традыцыйных заняткаў беларусаў нельга не назваць жывёлагадоўлю, якая забяспечвала людзей высокакаларыйнымі прадуктамі харчавання, а таксама цяглавай і транспартнай сілай, сыравінай, угнаеннямі. У Беларусі гадавалі кароў, валоў, коней, свіней, авечак[2]. Разводзілі таксама хатніх птушак (куры, гусі, качкі). Дадатковую ролю ў сельскай гаспадарцы адыгрывала агародніцтва з вырошчваннем капусты, буракоў, морквы, агуркоў, цыбулі, рэдзькі, бобу, гароху, фасолі, а таксама садаўніцтва (яблыні, вішні, грушы, слівы)[3]. Яшчэ адным вельмі патрэбным заняткам беларусаў з'яўлялася пчалярства, што зарадзілася ў першабытны перыяд у выглядзе бортніцтва (збор мёду дзікіх пчол). Доўгі час важнае значэнне захоўвалі збіральніцтва, паляванне (гоны з сабакамі, аблавы, засады) і рыбалоўства (запруда, лучэнне восцямі, лоўля стаўнымі і сеткавымі прыладамі, а таксама на вуду)[4].

Яшчэ ў часы панавання натуральнай гаспадаркі ў Беларусі шырока развіліся хатнія промыслы і рамёствы, якія паступова ператварыліся ў асобную катэгорыю народнай творчасці. Сярод уласцівых ім рысаў вылучаліся: трывалая сувязь эстэтычнай і дэкаратыўнай функцый вырабаў народных майстроў з дакладным бытавым прызначэннем; замена прафесійнай падрыхтоўкі назапашаным за стагоддзі вопытам, што перадаваўся з пакалення ў пакаленне; адносна танны і даступны матэрыял, непасрэдна звязаны з асноўнымі заняткамі; поўная ананімнасць твораў, пры якой вядомасць атрымліваў не сам майстар, а цэлы рэгіён, дзе асобны промысел набываў самабытныя і непаўторныя якасці; трывалая сувязь народных рамёстваў з вераваннямі і звычаямі, што праявілася ў арнаментацыі твораў салярным, раслінным і геаметрычным узорам[5].

Адным з асноўных відаў народных промыслаў з'яўлялася ткацтва. У перыяд Сярэднявечча лён і воўна былі асноўнай сыравінай для гэтага народнага промыслу. Практычна ў кожнай сялянскай хаце меліся пра-

[1] Народная сельскагаспадарчая тэхніка беларусаў / Л.У. Мінько [і інш.]. Мн., 1974. С. 17–88.

[2] *Без-Корнилович М.О.* Исторические сведения о примечательных местах в Белоруссии. С. 310–311; Грамадскі быт і культура сельскага насельніцтва Беларусі. С. 124–125.

[3] *Пашуто В.Т., Флоря Б.Н., Хорошкевич А.Л.* Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. С. 81; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1. С. 63–64.

[4] *Шпилевский П.М.* Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. С.125–128; *Щеглова В.В.* Роль охоты в снабжении мясом населения Беларуси в X–XIV вв. // Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусі. Мн., 1993. С. 74.

[5] *Кацар М.С.* Беларускі арнамент. Ткацтва. Вышыўка. Мн., 1996. С. 10–12; *Конан У.* Беларуская мастацкая культура ў эпоху сярэднявечча // Мастацтва. 1999. № 11. С. 6.

сніцы, калаўроты (неабходны для вырабу ніці), а таксама кросны (драўляны ткацкі станок з нажным прывадам)[1]. На кроснах і ствараліся разнастайныя па сваім функцыянальным прызначэнні тканіны. Вельмі пашыраны быў выраб ручнікоў, якія выкарыстоўваліся і ў паўсядзённым жыцці (выціралі рукі, насілі ежу ў поле), і ў народных абрадах (на іх клалі нованароджаных, ставілі каравай, упрыгожвалі абразы і дзіцячыя люлькі, спускалі труну ў магілу). Выкарыстоўваліся тканіны і ў аздабленні жытла вяскоўцаў і гараджан. Шмат увагі ўдзялялася вырабу адзення; яно вызначалася ўстойлівасцю і кансерватызмам, а агульны стан, а таксама знешні выгляд заўсёды залежаў ад прыродна-кліматычных умоў, асноўных заняткаў насельніцтва, узроўню грамадскага развіцця і маёмаснага стану чалавека. У Беларусі з яе ўмерана-кантынентальным кліматам пераважала цёплае і закрытае адзенне. Арнаментацыя адзення мела магічную абарончую функцыю[2].

Не менш папулярнымі ў Беларусі былі рамёствы, звязаныя з апрацоўкай дрэва. Здаўна вядома некалькі яго відаў: глухое даўбленне, трохгранна-выемчатае выразанне, прапілоўка, рэльефна-аб'ёмная разьба. Пры гэтым адной з адметных рысаў беларускай матэрыяльнай культуры з'яўлялася мастацкае ўпрыгожанне разнастайнай разьбой будынкаў, мэблі і посуду[3]. Мясцовай асаблівасцю лічыцца адсутнасць афарбоўкі (у большасці выпадкаў) і апора на натуральную прыгажосць матэрыялу. Трэба таксама адзначыць спалучэнне эстэтычных і магічных функцый. Так, знешні дэкор сялянскіх хат абараняў іх ад пранікнення ўнутр нячыстай сілы (ганак, ліштвы, карнізы, вільчык). Асобным кірункам мастацкай апрацоўкі дрэва стаў выраб цацак, якія размалёўваліся і мелі рухомыя часткі, што рабіла іх даволі рэалістычнымі[4].

Значнае развіццё атрымала ганчарства. Шырокая даступнасць матэрыялу, адносная лёгкасць вырабу (ганчарнае кола складалася з двух драўляных дыскаў, устаноўленых на адной восі), а таксама прастата нанясення арнаменту на сырую гліну перад абпальваннем зрабілі кераміку яскравым праяўленнем мастацкай творчасці. Дамінаваў тут посуд, які аздабляўся геаметрычным малюнкам (гаршкі, міскі, талеркі, кубкі, макотры і інш.)[5]. Выраблялiся з гліны і цацкі-свістулькі, якія ўвасаблялі старадаўняе павер'е, быццам адпаведныя гукі здольныя адагнаць злых духаў (самы пашыраны персанаж – вершнік).

Шырока быў развіты ў Беларусі і такі від рамяства, як кавальства. Менавіта каваль лічыўся найбольш паважаным чалавекам у вёсцы, бо праз працу з агнём і распаленым металам ён быццам бы быў звязаны з тым светам. Большая частка ягоных вырабаў мела чыста утылітарнае прызначэнне (лапаты, сякеры, пілы, косы, сярпы) і толькі зрэдку аздаблялася сціплым арнаментам – спецыяльнымі зубіламі ці прабойнікамі выбіваўся геаметрычны узор з рысак і кропак[6]. Цалкам фантазія каваля

[1] Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1. С. 160.
[2] Беларуская народная культура. Ватэнштэт. 1946. С. 3–11; *Улащик Н.* Одежда белорусоа XVI–XVIII вв.// Древняя одежда народов Восточной Европы. М., 1986. С. 135.
[3] Археалогія Беларусі. Т. 4. Мн., 2001. С. 366–367.
[4] *Сахута Я.М.* Беларускае народнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. Мн., 2001. С. 8–29.
[5] Очерки по археологии Белоруссин. Ч. 1. С. 155–157.
[6] Археалогія Беларусі. Т. 4. С. 260–266.

і яго творчае натхненне праяўлялася пры выкананні даволі рэдкіх індывідуальных заказаў. Так, з часоў Сярэднявечча вядомы сапраўдныя шэдэўры айчыннага кавальскага мастацтва – мудрагелістыя дзвярныя замкі і ручкі, каваныя элементы куфраў і інш.[1]

Цікавай адметнасцю матэрыяльнай культуры беларускага народа з'яўляецца выгляд сельскіх паселішчаў, дзе векавыя традыцыі захоўваліся працяглы час у практычна нязменным стане[2]. Здаўна вёскі ў Беларусі мелі пераважна хаатычную ці лінейную планіроўку (вулічная пачала пашырацца толькі з XVI ст.)[3]. Найбольш заселенымі былі Панямонне, Падзвінне, Пабужжа (за выключэннем Белавежскай пушчы), ніжняе цячэнне Прыпяці, а таксама Слуцка-Нясвіжская і Тураўская раўніны. Толькі ў Цэнтральнай Беларусі сустракаліся адносна вялікія сельскія паселішчы з 20–40 дварамі, а на іншых тэрыторыях пераважалі невялічкія вёсачкі, хутары ды засценкі[4].

Сама вёска – гэта комплекс сялянскіх двароў, грамадскіх і культавых пабудоў. Сялянскі двор складаўся з жылля, лазні, калодзежа і разнастайных гаспадарчых аб'ектаў (хлеў, адрына, свіран, стаўня, вазоўня, пуня, гумно, піўніца, сырнік, лядоўня, вяндлярня, саладоўня)[5]. Будынкі маглі ставіцца на мураваны фундамент, мелі зрубную канструкцыю і накрываліся двух- ці чатырохсхільным дахам. Шырокае распаўсюджанне атрымалі вадзяныя млыны, якія выкарыстоўваліся для памолу мукі, вырабу круп, сукна, пораху, паперы, здабывання руды, распілоўкі дрэва і г.д.[6]

Дагэтуль у Беларусі сустракаецца некалькі асноўных тыпаў сялянскіх двароў. Найбольш старажытным лічыцца замкнёны, ці вяночны, тып сядзібы, які зараз больш распаўсюджаны на поўначы і ўсходзе Беларусі. Будынкі тут размяшчаліся квадратам і выходзілі на вуліцы глухімі сценамі. Такая кампазіцыя мела абарончы характар і прадугледжвала вялікі ўнутраны гаспадарчы двор[7]. З XVI ст. у Беларусі з'явіўся лінейны, ці пагонны, тып сядзібы, абумоўлены існаваннем цераспалосіцы. Зараз ён сустракаецца ў Заходняй і Цэнтральнай Беларусі. Яго характэрная рыса – размяшчэнне жылых і гаспадарчых пабудоў у адзін рад пад агульным дахам. Часам лінейная сядзіба дасягала 50 м, а жылая частка магла быць атынкавана[8]. У больш познія часы пашырылася сядзіба з не звязанымі паміж сабой пабудовамі. Гэта найбольш эфектыўны тып у сучасных умовах, які характэрны практычна для ўсёй Еўропы. У Беларусі на працягу стагоддзяў склалася шэсць гісторыка-этнаграфічных рэгіёнаў народнага дойлідства (Паазер'е, Падняпроўе, Панямонне, Усходняе ды Заходняе Палессе, Цэнтральная Беларусь), і кожны з іх мае даволі іс-

---

[1] *Кацер М.С.* Народно-прикладное искусство Белоруссии. Мн., 1972. С. 54–56.
[2] Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1. С. 52–55.
[3] *Похилевич Д.Л.* Землеустройство и поземельный кадастр в Белоруссии, Литве и Украине в XVI–XVII вв. // Материалы по истории земледелия в СССР. Т. 1. М., 1952. С. 75–78.
[4] *Титов В.С.* Историко-этнографическое районирование материальной культуры белорусов. Мн., 1983. С. 24–30.
[5] Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1. С. 87, 91.
[6] *Якимович Ю.А.* Зодчество Белоруссии XVI – середины XVII в. Мн., 1991. С. 23–24.
[7] Беларускае народнае жыллё / В.К Бандарчык [і інш.]. Мн., 1973. С. 23–30.
[8] *Локотко А.* Общие и региональные особенности народного жилища Белоруссии. Мн., 1985. С. 32–38.

тотныя адметнасці ў агульнай планіроўцы вёскі, тэхніцы будаўніцтва і аздабленні асабістых пабудоў і г.д.[1]

У цэлым сялянскія хаты працяглы час былі аднакамернымі, з печчу без коміна (да XIX ст.), і толькі з развіццём таварна-грашовых адносін сталі шырока ўжывацца двух- і трохкамерныя пабудовы з сенцамі і гаспадарчай каморай. Традыцыйна ўваход у хату размяшчаўся з поўдня, а вокны меліся толькі ў дзвюх сценах – тарцовай параднай і адной з бакавых. У куце каля дзвярэй знаходзілася печ, па дыяганалі ад яе была покуць з абразамі. Суседні з ёй кут лічыўся гаспадарчым – менавіта тут займаліся ў вольны час народнымі рамёствамі. Кут насупраць печы называўся "середой" альбо "бабіным кутом" – тут гатавалася ежа. Да адмены прыгоннага права падлога звычайна была глінабітнай і толькі ў нізінных балоцістых месцах з дошак. Традыцыя бяліць печ была выклікана жаданнем стварыць ілюзію пашырэння прасторы[2].

Што ж да хатняга начыння, то яно пераважна складалася з мэблі прысценкавага тыпу. У жылой частцы дома звычайна мелася ўсяго дзве асноўныя лаўкі – масіўныя плоскія дошкі на ножках ці калодках, устаноўленыя стацыянарна ўздоўж сцен і злучаныя разам на покуці. Перад імі ставіўся стол, над якім, па старадаўняй традыцыі, вешаўся саламяны "павук". Мелася ў хаце і пераносная лаўка-ўслон, зробленая з расколатага ствала дрэва з роўна падпілаванымі сукамі-ножкамі. Яе паменшаны варыянт – табурэт-зэдлік з трыма ножкамі, асновай для якога звычайна было апрацаванае карэнішча. Акрамя іх абавязковымі атрыбутамі сялянскай хаты былі палаці, куфры і лучнікі (вертыкальна ўстаноўленыя палкі для трымання лучыны)[3]. Пры неабходнасці ўстанаўлівалася і дзіцячая люлька, якую плялі з лазы і падвешвалі да столі, а пазней сталі рабіць з дрэва і ўстанаўліваць на дугападобныя калодкі. Над ёю прымацоўваліся розныя цацкі, якія не толькі мелі забаўляльна-развіваючы характар, але і выконвалі магічна-абарончую функцыю (часцей за ўсё гэта была драўляная птушка з хвастом і крыламі, набранымі з фігурных дошчачак)[4].

Яскрава духоўная культура беларусаў праявілася ў народных святах і абрадах, што па традыцыі падзяляюцца на сямейныя і каляндарныя. Да першай групы адносяць нараджэнне, вяселле і пахаванне. Так, радзіннае свята адзначалася толькі жанатымі мужчынамі і замужнімі жанчынамі. Пры гэтым цэнтральным персанажам свята была павітуха, якая гатавала спецыяльную "бабіну кашу" з ячных ці грэцкіх круп і частавала ёй гасцей. Мэтай свята з'яўляўся клопат пра здароўе і дабрабыт дзіцяці, чаму прысвячаліся спецыяльныя песні (у тым ліку "хрэсьбінныя"), прыказкі і пажаданні[5]. Вельмі цікавыя абрады былі звязаны з вяселлем. Нават сватаўство адбывалася па дакладна распісаных ролях. У само вяселле таксама быў уключаны цэлы комплекс абрадаў, святочных песень і страў[6].

---

[1] *Лакотка А.І.* Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры. Мн., 1999. С. 98–108.

[2] *Сыракомля У.* Вандроўкі па маіх былых ваколіцах. С. 185.

[3] Археалогія Беларусі. Т. 4. С. 88–90.

[4] *Молчанова Л.А.* Материальная культура белорусов. Мн., 1968. С. 111–123.

[5] Беларускі фальклор: Хрэстаматыя. С. 252–284, 391–418; Беларускія абрадавыя песні / Зап. У. Раговіча. Мн., 1985. С. 87–88; Беларускія народныя абрады / Л.П. Касцюкавец. Мн., 1994. С. 87–102.

[6] Беларускія абрадавыя песні. С. 37–43, 49–57, 61–86; *Няфёд У.І.* Гісторыя беларускага тэатра. Мн., 1982. С. 9–13; *Сысой У.М.* З крыніц спрадвечных. Мн., 1997. С. 300–330.

Асобнае пачэснае месца тут займаў вясельны свяшчэнны каравай, традыцыя выпякання якога сягае ў язычніцкі час. Вынас яго гасцям адбываўся з выкананнем цэлага цыкла каравайных песень[1]. Што ж да пахавання, то яно заўсёды суправаджалася жалобнымі галашэннямі (існуе сем асноўных іх цыклаў) і абавязковым наборам рытуальных страў (каша, клёцкі)[2].

Адным з найбольш важных каляндарных свят у беларусаў заўсёды былі Каляды, якія адзначаліся з 24 снежня па 6 студзеня. Іх святкаванне вызначалася трыма абрадавымі вячэрамі (куццямі), стол для якіх аздабляўся саломай, накрытай белым абрусам, і ставіўся ў куце хаты. На Вялікую куццю звычайнымі пачастункамі былі рыба, аладкі з макам, суп з крупамі ці грыбамі, аўсяны кісель, гарох і, зразумела, куцця (ячная каша). Багатая куцця перад Новым годам адрознівалася больш разнастайнымі стравамі (смажанае сала, падліўкі, каўбасы з кашай, студзень). На апошнюю, Галодную, куццю стравы зноў былі посныя[3]. Калядныя святы мелі цікавае фальклорнае напаўненне. Увядзенне ў свята калядніку з іх песнямі і тэатральнымі пастаноўкамі значна ўзбагаціла народны фальклор[4]. Неад'емным элементам свята была і варажба.

Цікавым старажытнаславянскім святам была Масленіца, ці провады зімы. Яно працягвалася цэлы тыдзень і папярэднічала вялікаму посту перад Пасхай (Вялікаднем). Збіраючыся на свята, людзі марылі пра добры ўраджаі і магчымасць прадоўжыць свой род, а таму яно суправаджалася рознымі абрадавымі і магічнымі дзеяннямі, у якіх прымалі ўдзел выключна жанчыны. Асноўнай стравай свята былі бліны[5]. Лагічным працягам Масленіцы з'яўляўся старадаўні язычніцкі абрад гукання вясны, які звычайна прыходзіўся на Дабравешчанне. Згодна з абрадам на пагорку распальвалася вогнішча, вакол якога збіралася моладзь (вадзілі карагоды, спявалі "вяснянкі")[6].

Асобнае месца ў веснавых святах належала Вялікадню – святу ў гонар сонца, абуджэння прыроды і пачатку "вялікіх дзён" у сельскай гаспадарцы[7]. Хрысціянская царква прызначыла на гэты дзень свята Уваскрэсення Хрыста (Пасха). Яшчэ напярэдадні Вялікадня чыста прыбіралі ў хаце, пяклі пірагі і выраблялі "пісанкі" – пафарбаваныя ў розны колер яйкі з мудрагелістым узорам (наносіўся воскам, які пасля афарбоўкі растапліваўся)[8]. Абавязковым лічылася і асвячэнне прадуктаў у час усяночнай службы ў храме. Неад'емным элементам свята з'яўляліся велікодныя песні з пажаданнямі багатага ўраджаю, здароўя і шчасця, якія выконваліся валачобнікамі[9].

---

[1] Беларускія абрадавыя песні. С. 44–48, 58–59; Беларускія народныя абрады. С. 105–127.

[2] *Сысоў У.М.* Беларуская пахавальная абраднасць. Мн., 1995. С. 13–84.

[3] *Без-Корнилович М.О.* Исторические сведения о примечательных местах в Белоруссии. С. 246–249; *Ліцьвінка В.* Святы і абрады беларусаў. Мн., 2001. С. 163–180.

[4] *Няфёд У.І.* Гісторыя беларускага тэатра. С. 11–12; Земляробчы каляндар: Абрады і звычаі. Мн., 2003. С. 78–134.

[5] Этнаграфія Беларусі: Энцыклапедыя. Мн., 1989. С. 309.

[6] *Ліцьвінка В.* Святы і абрады беларусаў. С. 40–48.

[7] Беларускія народныя абрады. С. 21–43.

[8] *Сахута Я.М.* Беларускае народнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. С. 72–76.

[9] Беларускія абрадавыя песні. С. 19; *Васілевіч У.* Беларускі народны каляндар. Мн., 1993. С. 70–72.

Яшчэ адным святам, што шырока адзначалася ў Беларусі ў час летняга сонцастаяння, было Купалле. Яго адметнасць – у пераносе святкавання з населеных пунктаў на лясную паляну ці ўзгорак над ракой, дзе распальваўся агонь. Пры гэтым купальскі агонь атаясамліваўся з сонцам, а таму меў сілу даваць ураджай і праганяць смерць. Праз агонь было прынята скакаць дзеля ачышчэння, вакол яго вадзілі карагоды[1]. Важным момантам Купалля было шуканне папараць-кветкі, а таксама рытуальнае купанне і пусканне вянкоў па цячэнні. Купальскія песні складалі істотную частку беларускага фальклору. Яны адлюстроўвалі розныя моманты святкавання Купалля і паэтызавалі тэму кахання[2].

Асобную групу каляндарных абрадаў складалі памінальныя Дзяды і Радуніца. Памінальныя абрады спраўляліся звычайна некалькі разоў на год, вясной і восенню. Абавязковым у гэтыя дні было наведванне могілак, а таксама рытуальная вячэра: гарох, поліўка з рыбы і мяса, аладкі, каша і малако. Пасярод стала клалі бохан хлеба. Лічылася, што ўсе гэтыя стравы пакаштуюць таксама і дзяды-продкі, якіх успаміналі ў час вячэры ў малітвах[3].

Абрады спрыялі развіццю і ўзбагачэнню народна-паэтычнай творчасці беларусаў. Пры гэтым каляндарна-абрадавая паэзія займала ў айчынным фальклоры адно з вядучых месцаў (25 песенных разнавіднасцей). Яе ўнутранае чляненне на веснавы, летні, восеньскі і зімовы цыклы не толькі адлюстроўвае змены пары года, але і цесна звязана з заняткамі, што прыпадалі на кожную пару. Вясною гэта захаванне хатняй жывёлы і надзея на добры плён; летам – ахова палеткаў і клопат пра ўраджай; восенню – уборачныя работы ды збіранне дароў лесу (грыбы, ягады, арэхі); зімою – спадзяванне на агульны дабрабыт[4]. Акрамя каляндарна-абрадавай у склад фальклору таксама ўваходзяць сямейна-абрадавая (радзінныя, вясельныя, памінальныя песні), апавядальная (казкі, паданні, легенды) і дзіцячая (калыханкі, лічылкі, скорагаворкі, дражнілкі, загадкі, забаўлянкі) вусна-паэтычная народная творчасць[5].

Арыгінальным відам айчыннай народнай культуры з'яўляецца нацыянальная кухня, фарміраванне якой адбывалася на працягу стагоддзяў і заўсёды мела трывалыя сувязі з побытам, абрадамі і звычаямі беларусаў. Асновы сучаснага айчыннага кулінарнага майстэрства закладваліся ў часы Сярэднявечча. Яго фарміраванню садзейнічалі мясцовыя прыродна-кліматычныя ўмовы і асноўныя заняткі беларусаў. Саслоўная няроўнасць таксама паўплывала на паступовае размежаванне арыстакратычнага і народнага харчавання, хоць да XVI ст. яны адрозніваліся больш па колькасці спажываных прадуктаў, чым па асартыменце. У цэлым жа для народнага харчавання характэрна эканомнае расходаванне прадуктаў, адносна невялікі час прыгатавання страў, ад-

[1] Беларускія народныя абрады. С. 68–86; Живописная Россия. С. 263–266.
[2] Земляробчы каляндар: Абрады і звычаі. С. 60–64, 248, 250; *Сысоў У.М.* З крыніц спрадвечных. С. 150–164.
[3] *Васілевіч У.* Беларускі народны каляндар. С. 73; *Ліцьвінка В.* Святы і абрады беларусаў. С. 153–161.
[4] Беларускія абрадавыя песні. С. 29–36; *Васілевіч У.* Беларускі народны каляндар. С. 7, 8, 13, 17, 19, 21, 26, 34, 35, 37, 41, 49, 53, 66.
[5] *Русецкі А.У.* Мастацкая культура Беларусі. Віцебск, 2002. С. 160; *Сыракомля У.* Вандроўкі па маіх былых ваколіцах. С. 190–192.

мова ад празмернага смажання і выкарыстання прыпраў у вялікай колькасці.

З улікам дамінавання ў Беларусі земляробства ганаровае месца ў кулінарыі займалі мучныя і крупяныя стравы. Вельмі вялікая роля адводзілася ў паўсядзённым харчаванні хлебу, які звычайна пяклі раз на тыдзень боханамі вагой да 6 кг. Менавіта каравай быў абавязковым элементам большасці святочных і рытуальных абрадаў, народнага фальклору наогул[1]. Са старажытнасці вядомы і разнастайныя замяняльнікі хлеба – бліны, што трапілі да нас з Балкан, сачні, праснакі, пірагі. Акрамя таго, з мучных страў былі шырока вядомы зацірка і галушкі. З забытых зараз у Беларусі страў можна назваць жур, які ўяўляў сабою кісель з падсмажанай аўсянай мукі, а таксама абавязковае харчаванне тагачасных ваяроў – аўсянае талакно[2]. Лепшая па якасці мука аддавалася на прыгатаванне розных прысмакаў (хрусты і пернікі). Значнае месца ў рацыёне нашых продкаў займалі кашы з ячных, аўсяных і грэцкіх круп, якія таксама лічыліся абрадавымі стравамі. Вялікую ролю адыгрывалі ў харчаванні малочныя прадукты. Вядома наступная паслядоўнасць пераапрацоўкі малака: закісленне, здыманне з кіслага малака смятаны, збіванне са смятаны масла, перапрацоўка кіслага малака ў тварог, выраб з яго сыру. Для прыдання разнастайнасці паўсядзённаму харчаванню мноства страў гатавалі з гародніны (гарох, буракі, капуста, цыбуля, часнок, хрэн, агуркі, рэпа) і садавіны (яблыкі, грушы, слівы). Вялікае значэнне надавался збіральніцтву, якое дазваляла дапоўніць рацыён грыбамі, ягадамі, мёдам, а таксама рыбалоўству[3]. Рыбныя стравы асабліва высока цаніліся ў Беларусі, бо ў доўгія месяцы рэлігійных пастоў менавіта рыба замяняла мяса[4].

Што ж да мясных страў, то якраз тут арыстакратычная і народная кухня размяжоўваліся найбольш дакладна. Калі збяднелыя колы грамадства частаваліся мяснымі прысмакамі толькі ў святочныя дні, то ў харчаванні шляхты яны былі абавязковымі ў паўсядзённым жыцці. Папаўняліся запасы мяса ў тым ліку і праз паляванне, калі мяса здабытых жывёл салілі, вялілі ці вэндзілі, для чаго ўзводзіліся спецыяльныя вяндлярні. Яшчэ адным адрозненнем шляхецкай кулінарыі ад простанароднай было ўжыванне шляхтай прывазных прадуктаў – вінаградныя віны, сушаная паўднёвая садавіна, аліўкавы алей, разнастайныя прыправы (перац, карыца, гваздзіка, імбір, шафран, лаўровы ліст, міндаль)[5].

З XVI ст. уплыў кулінарыі Заходняй Еўропы ў Беларусі значна пашырыўся. Пры гэтым змяненні ў харчаванні адчувалі ўсе колы насельніцтва. Так, народная кухня папоўнілася за кошт розных супоў, сярод якіх вылучаліся боршч, вараная капуста, расол (кіслы суп), а таксама граматка, ці фарамушка, з піва, што падавалася ў посныя дні[6].

Важным кірункам беларускай кухні можна лічыць прыгатаванне розных напояў. У Беларусі здаўна асаблівую папулярнасць меў пітны ліпавы мёд. Акрамя яго гатавалі вішнёўкі і маліннікі, для чаго бралася пароўну мёду і ягад. Характэрным пітвом для беларусаў быў "крупнік", які

---

1 Беларускія народныя абрады. С. 105–127.
2 Белорусская кухня / В.А. Болотникова [и др.]. Мн., 1994. С. 69.
3 *Корзун І.* З гісторыі беларускай народнай кухні // Беларусь. 1959. № 7. С. 24–25.
4 *Сабаленка Э.Р.* Беларусы // Францыск Скарына і яго час. Мн., 1988. С. 261.
5 *Меховский М.* Трактат о двух Сарматиях. С. 111.
6 Белорусская кухня. С. 27, 43.

варылі з гарэлкі, мёду, перцу, карыцы, гваздзікі і мускатнага арэха. Былі пашыраны розныя настойкі (анісаўка, палынаўка). З XV ст. ужывалася гарэлка і без якіх-небудзь дадаткаў – у сярэднявечнай Беларусі яна мела назву "аквавіта", што з латыні перакладалася як "вада жыцця"[1]. З XVI ст. было пашырана піва, якое выраблялася з пшанічнага і ячменнага соладу. З безалкагольных напояў беларусы ўжывалі бярозавы і кляновы сок[2].

Трэба адзначыць, што фарміраванне беларускага этнасу ў цэлым завяршылася ў XVI–XVII ст. Менавіта тады вызначылася этнічная тэрыторыя, эндаэтнонім, склаліся літаратурная мова, а таксама розныя ўзроўні самасвядомасці. Гэта прывяло да ўтварэння ў межах еўрапейскай цывілізацыі новага архетыпу, які можна разглядаць у якасці генетычна закадзіраваных на псіхафізічным узроўні мадэлей паводзін, што перадаваліся з пакалення ў пакаленне і дагэтуль адрозніваюць беларусаў ад іншых народаў. Пры гэтым надзвычай важную ролю тут адыграў просты люд і яго паўсядзённая культура (міфалогія, фальклор, абрады, звычаі). Дзякуючы сваёй стабільнасці і трываласці яна, нягледзячы на розныя нягоды, рэгулярна ўзнаўляла этнічную ментальнасць беларусаў і ўрэшце дазволіла ім узняцца на ўзровень асобнай нацыі.

## 2. Культура Беларусі XIV–XV стст.

**"Руская" (старабеларуская) мова ў культурным і грамадска-палітычным жыцці ВКЛ.** Сярод найбольш яскравых адметнасцей ВКЛ трэба адзначыць яго шматэтнічнасць, рэлігійную талерантнасць і шматмоўнасць. Апошняя разумеецца не толькі як шырокае выкарыстанне рознымі этнічнымі групамі ўласных гаворак, але і актыўнае ўжыванне так званых "моў міждзяржаўных зносін" сярэднявечнай Усходняй Еўропы – латыні і царкоўна-славянскай мовы ("язык словенскі"). Падобная стракатасць пры этнічных межах, якія яшчэ толькі складваліся, і наяўнасці ў рэгіёне блізкіх паводле духу народных гаворак унесла пэўную блытаніну ў праблему вывучэння эвалюцыі беларускай, украінскай і рускай моў. Так, на ўзроўні паўсядзённага ўжытку беларуская мова працяглы час мела шырока распаўсюджаную саманазву "проста мова", што можна разумець як прыналежнасць яе да колаў ніжэйшых саслоўяў[3]. Што ж да тагачаснай пісьменнасці, вядомай зараз па шматлікіх афіцыйных і царкоўных дакументах, то тут даволі часта прымяняўся тэрмін "язык рускі", які абазначаў агульнапрызнаную дзяржаўную мову ВКЛ да канца XVII ст.[4]

Пры гэтым, згодна з меркаваннем шэрага айчынных даследчыкаў, яе канкрэтны змест і этнічныя адметнасці шмат у чым залежалі ад паходжання пісараў вялікакняскай канцылярыі. Так, пры Вітаўце сярод іх пераважалі выхадцы з Валыні, і ў тыя часы пад "языком рускім" у ВКЛ фактычна разумелася тутэйшая гутарковая мова, дапоўненая шэрагам

---

[1] *Зайкоўскі Э.М., Тычка Г.К.* Старадаўняя беларуская кухня. Мн., 1995. С. 9–25.
[2] Белорусская кухня. С. 36.
[3] Грамадскі быт і культура сельскага насельніцтва Беларусі. С. 37.
[4] *Карский Е.Ф.* Труды по белорусскому и другим славянским языкам. М., 1962. С. 29.

агульнапрынятых тэрмінаў[1]. У час праўлення іншых вялікіх князёў дамінавалі ўраджэнцы Беларусі, і якраз характэрныя для старабеларускай мовы асаблівасці фіксуюцца спецыялістамі ў тагачасных дакументах – у прывілеі Ягайлы аб пашырэнні правоў каталіцкай царквы ў ВКЛ (1387), а таксама ў славутым Судзебніку Казіміра Ягелончыка (1468)[2]. Апошні пры гэтым не толькі заклаў аснову айчыннага заканадаўства, але і ўвёў у яго тыповыя для беларускага звычаёвага права фразы і моўныя звароты, што пазней шырока былі ўжыты складальнікамі статутаў ВКЛ[3]. Паспрыяла гэтаму і стабілізацыя на мяжы XV–XVI ст. мовы вялікакняскай канцылярыі, дасягненне ёю агульнапрынятай нормы, што дазволіла старабеларускай літаратурнай мове скласціся ў азначаны час у асобны самастойны комплекс[4].

У цэлым не выклікае сумненняў, што дзяржаўны ў ВКЛ "язык рускі" ўяўляў сабою складанае поліэтнічнае ўтварэнне. Дамінавалі тут, безумоўна, старабеларуская і стараўкраінская мовы, якія можна разглядаць нават у якасці дзвюх асобных дзяржаўных моў гэтай краіны (на стадыі яе фарміравання). Разам з тым нельга не ўлічваць і прысутнасці ў тагачасным афіцыйным справаводстве запазычанняў з іншых моў, у тым ліку польскай, літоўскай, царкоўна-славянскай, лацінскай.

Пры ўсім гэтым абагульняльнае найменне дзяржаўнай мовы ВКЛ як "рускай", на наш погляд, было звязана не з яе фанетычнымі адметнасцямі, а з куды больш важнай праблемай палітыка-культурнага супрацьстаяння з Масквой. Абедзве гэтыя дзяржавы лічылі сябе збіральніцамі спадчыны Кіеўскай Русі і менавіта з гэтай нагоды актыўна ўжывалі ўласцівую ёй тэрміналогію. Уладары Маскоўскага княства абвясцілі сябе "гасударамі ўсяе Русі", што дазваляла ім прэтэндаваць на беларускія і ўкраінскія землі: "Вестно есть всем... Москва, Белая Русь, Волынь, Подоля, Украина... единокровны и единорастаны, се бо суть и ныне все общеединым именем Русь нарицаются"[5]. Падобным чынам ставілася да гэтага пытання і Вільня, якая пакуль яшчэ не адмовілася канчаткова ад ідэі пашырэння ўласных уладанняў на ўсход. У адказ на гэта, дарэчы, у той жа Маскве часам дзяржаўная мова ВКЛ называлася "літоўскай" альбо "літвінскай", што павінна было адрозніваць яе ад насычанай азіяцкімі запазычаннямі мясцовай гаворкі[6].

Дарэчы, гэтая гаворка ў Беларусі звалася "маскоўскай" і катэгарычна адмяжоўвалася ад старабеларускай, якая на такім складаным фоне знаходзілася ў даволі выйгрышным становішчы[7]. Землі, дзе яна была пашырана, размяшчаліся ў цэнтры дзяржавы. Менавіта тут было сканцэнтравана грамадскае, эканамічнае і культурнае жыццё ўсяго рэгіёна. Іх хут-

---

[1] *Свяжынскі У.М.* Украінская мова ў моўнай сітуацыі ВКЛ // Беларусь–Украіна: гістарычны вопыт узаемаадносін. Мн., 2004. С. 104.

[2] БЭФ. Т. 1. С. 128–130.

[3] *Альт Т.* Мова Літоўскага Статута // Беларуская лінгвістыка. Вып. 14. Мн., 1978. С. 48; *Лаппо И.И.* Судебник Казимира Ягайловича // Записки Русского научного института в Белграде. Вып. 17. Белград, 1939. С. 29–36.

[4] *Юхо Я.А.* Крыніцы беларуска-літоўскага права. Мн., 1991. С. 29–30, 73–75.

[5] ПСРЛ. Т. 2. С. 236.

[6] *Ласкоў І.* Адкуль пайшла беларуская мова // З гісторыяй на "Вы". Вып. 2. С. 298–312.

[7] *Старостенко В.В.* Становление национального самосознання белорусов: этапы и основополагающие идеи. Могилев, 2001. С. 62–63.

кая урбанізацыя і гаспадарчае развіццё прывялі да трансфармацыі мовы з рэгіянальнай сацыяльна-камунікатыўнай сістэмы ў наддыялектную форму зносін, якая аказвала істотны ўплыў на ўвесь усходнеславянскі свет. Доказам гэтага могуць служыць ужо згаданыя славутыя прававыя акты, а таксама першынство за ёй у тутэйшай друкарскай справе.

Нягледзячы на далейшыя асіміляцыйныя працэсы, беларуская мова і ў наступныя стагоддзі захоўвалася ў якасці важнага сацыякультурнага элемента паўсядзённага жыцця тутэйшага грамадства, якое праяўляла свае патрыятычныя настроі якраз праз ужыванне ў справаводстве дакументаў, складзеных "па старыне"[1].

Істотны ўплыў аказала старабеларуская мова і на культуру іншых народаў, што пражывалі на тэрыторыі ВКЛ. Тутэйшыя яўрэі і цыганы ўспрынялі яе ў якасці паўсядзённай, для татар жа яна ўвогуле стала роднай. Так, унікальнымі тагачаснымі дакументальнымі помнікамі з'яўляюцца тутэйшыя арабскія рукапісныя кнігі, напісаныя татарамі, якія пасяліліся ў XIV–XV ст. у ВКЛ і паступова прыстасавалі ўласную сістэму пісьма да беларускай фанетыкі. Яны сталі ўжываць беларускую мову, а для абазначэння некаторых гукаў, якіх няма ў арабскім пісьме, стварылі спецыяльныя літары (*дз*, *ц*, *ж*, *ч*, *п*)[2]. У выніку з'явіліся унікальныя рукапісныя помнікі, напісаныя арабскім шрыфтам на беларускай народнай мове (кітабы, тэфсіры, хамаілы, тэджвіды). Змест гэтакіх кітаб (ад араб. kitab – кніга) складалі ўсходнія легенды, казкі, прыгодніцкія аповесці, апісанні мусульманскіх рытуалаў, маральна-этычныя павучанні для моладзі (пра шанаванне бацькоў, гасцей, бедных, сірот, суседзяў), варажба па літарах Карана, соннікі і г.д.[3]

**Адукацыя, пісьменнасць, кніжнасць.** Адметнай рысай тагачаснага грамадскага і культурнага жыцця Беларусі было панаванне ў ім царквы. У шэрагу гарадоў ды мястэчак пры храмах і манастырах дзейнічалі школы граматы, дзе ўсе жадаючыя маглі засвоіць асновы пісьма, чытання і лічэння (звычайна на гэта адводзілася два-тры гады). Шырокай папулярнасцю карысталіся вандроўныя настаўнікі – "майстры граматы", якія за грошы, а часам і проста за харчы вучылі дзяцей асновам азбукі і пісьменнасці[4]. Працэс навучання грунтаваўся на літаразлучальным метадзе, запазычаным у старажытнай Грэцыі: спачатку вывучаліся асобныя літары, потым – склады з найчасцей ужывальных разам галоснай і зычнай, затым праходзілі злучэнне трох літар і г.д. Вяршыняй вучобы лічылася засваенне цітлаў (надрадковыя знакі, што абазначалі скарочанае напісанне слоў ці лікавае значэнне літар)[5]. Галоўным недахопам тагачаснай асветы была адсутнасць спецыялізаваных падручнікаў. У якасці іх выкарыстоўваліся даступныя настаўнікам кнігі (пераважна рэлігійнага характару). Трэба ўлічваць і тое, што рукапісныя (на пергаменце) творы каштавалі вельмі дорага і, такім чынам, колькасць настаўнікаў меншала. Распаўсюджанне паперы часткова выправіла становішча, але застава-

---

1 АЗР. Т. 3. СПб., 1848. С. 187.

2 *Антанович А.* Краткий обзор текстов, писанных арабским письмом // Полесье. М., 1968. С. 263.

3 *Лыч Л., Навіцкі У.* Гісторыя культуры Беларусі. С. 27.

4 Грамадскі быт і культура сельскага насельніцтва Беларусі. С. 133–135.

5 *Ботвинник М.Б.* У истоков учебной книги. Мн., 1964. С. 39.

лася іншая праблема – рукапісныя кнігі таго часу маглі мець розныя сістэмы пісьма (устаў, паўустаў, скарапіс) і адрозніваліся адна ад адной індывідуальнымі адметнасцямі почырку пісца. У выніку засваенне азбукі спрыяла хутчэй пашырэнню прыватнай перапіскі, чым знаёмству адукаваных колаў свецкага грамадства з еўрапейскай ці антычнай літаратурнай спадчынай (да распаўсюджання друкаваных выданняў)[1].

Зусім не дзіўна таму, што вядучымі асветнікамі ў тагачаснай Беларусі па-ранейшаму заставаліся святары. У канцы XII – пачатку XIII ст. шырокую вядомасць атрымаў манах Аўраамій Смаленскі Працалюбівы (памёр у 1219 г.)[2]. У сваім родным горадзе ён збіраў і перапісваў кнігі, дапамагаў дзейнасці тутэйшай школы граматы, пісаў словы і павучанні, з якімі звяртаўся да гараджан[3].

На мяжы XIII–XIV ст. шмат намаганняў для пашырэння ў Беларусі адукацыі і пісьменнасці прыклаў мітрапаліт Кіпрыян (1330–1406)[4]. У сваіх прамовах і лістах ён неаднаразова заклікаў да распаўсюджвання сярод мясцовага насельніцтва духоўнай асветы і забеспячэння тутэйшых храмаў богаслужэбнымі кнігамі (праз адкрыццё новых школ, скрыпторыяў і пераклад кананічных твораў)[5]. Адной з мэтаў дзейнасці святарства мітрапаліт лічыў маральнае ўдасканаленне грамадства з выхаваннем яго ў належным рэлігійным духу.

Значнае месца ў падобным асветніцкім кірунку належыць і яго пераемніку Грыгорыю Цамблаку (1364–1420), які з 1414 г. займаў пасаду мітрапаліта ВКЛ[6], пра што гаварылася вышэй. У час свайго знаходжання ў Вільні і Наваградку ён стварыў каля дзясятка твораў (усяго вядома 40). Сярод іх – "Пахвальнае слова Яўфімію Тырнаўскаму", "Надмагільнае слова св. Дзмітрыю", "Слова на Ушэсце", твор палемічнага характару "Як трымаюць веру немцы", стыхір "На Прачыстую" і інш. Усе яны напісаны пад уплывам візантыйскай кананічнай літаратуры, але разам з тым вызначаюцца глыбінным сэнсам, разнастайнасцю вобразных сродкаў, а таксама маюць выразную патрыятычную афарбоўку[7].

**Узнаўленне летапісання. Пашырэнне жанравай разнастайнасці літаратуры.** Яшчэ больш яскрава асаблівасці тагачаснай айчыннай літаратуры праявіліся ў летапісанні, якое пасля ўтварэння ВКЛ набыло новае гучанне. Абумоўлівалася гэта ў першую чаргу мэтай, якая ставілася вялікімі князямі. Неабходна было стварыць агульнадзяржаўныя летапісы, дзе б з цэнтралізатарскіх пазіцый была адлюстравана гісторыя Беларусі, Літвы, Украіны і абгрунтавана гістарычная заканамернасць і неабходнасць аб'яднання большасці ўсходнеславянскіх княстваў у новай дзяржаве – ВКЛ. Пры гэтым мясцовае летапісанне павінна было перашко-

[1] Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі / Пад рэд. С.А. Умрэйка. Мн., 1968. С. 11–12.
[2] *Доўнар-Запольскі М.В.* Гісторыя Беларусі. Мн., 1994. С. 49–50.
[3] Гісторыя беларускай літаратуры: Старажытны перыяд / М.М. Грынчык [і інш.]. Мн., 1998. С. 38.
[4] *Немировский Е.Л.* Иван Фёдоров в Белоруссии. М., 1979. С. 115.
[5] Нарысы па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязяў / В.А. Каваленка [і інш]. Кн. 1. Мн., 1993. С. 65–66.
[6] Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1. С. 528.
[7] Памяць: Гістор.-дакумент. хроніка Навагрудскага раёна. Мн., 1996. С. 81–83, 91; *Хаўратовіч І.П.* Цамблак Грыгорый // Мысліцелі і асветнікі Беларусі. Мн., 1995. С. 151–154.

дзіць распаўсюджанню ідэй аб Вялікім Княстве Маскоўскім як адзіным сапраўдным спадкаемцы Кіеўскай Русі.

Трэба ўлічваць, што беларуска-літоўскія летапісы і хронікі складваліся ў асяроддзі феадалаў, а таму і падзеі там адлюстроўваліся ў адпаведнасці з рыцарскімі ідэаламі. Пры гэтым у параўнанні з папярэднімі часамі эвалюцыяніравала і сама структура летапісаў, дзе традыцыйнае пагадовае адлюстраванне адметных падзей паступова замянялася цыкламі займальных гістарычных твораў апавядальнага жанру з відавочным ідэалагічным і выхаваўчым падтэкстам.

Першым агульнадзяржаўным беларуска-літоўскім творам у гэтым жанры стаў "Летапісец вялікіх князёў літоўскіх", які быў складзены ў Смаленску на старабеларускай мове невядомай асобай з асяроддзя мясцовага епіскапа Герасіма (пазней мітрапаліт). Ён датуецца канцом 1420-х гг. і ўпершыню ў айчыннай дакументальнай спадчыне быў практычна цалкам прысвечаны палітычнай гісторыі ВКЛ (ад смерці Гедыміна і да канца XIV ст.). "Летапісец..." быў створаны ў форме хронікі і складаўся з шэрага гістарычных апавяданняў. Сярод асноўных персанажаў тут фігуруюць Кейстут (першая частка) і Вітаўт (другая частка). Яны паказваюцца ў ролі руплівых манархаў, якія ўмацоўвалі сваю дзяржаву[1]. Адметнасцю твора стала яго арыентацыя на адносна шырокае кола чытачоў, што праявілася ў напружанасці сюжэтнай лініі, захапляльным апісанні драматычных сцэн, дынаміцы і маляўнічасці апавядання. Поўная яго рэдакцыя таксама ўключала "Аповесць пра Падолле", дзе абгрунтоўвалася правамоцнасць далучэння ўкраінскіх зямель да ВКЛ і давалася кароткая гісторыя гэтага рэгіёна[2].

Практычна адразу ж пасля стварэння "Летапісца вялікіх князёў літоўскіх" у Смаленску распачалася праца па напісанні першага агульнадзяржаўнага летапіснага зводу ВКЛ, які ў сучаснай літаратуры вядомы як Беларуска-літоўскі летапіс 1446 г. Адна з асноўных мэт працы – паказаць пераемнасць Кіеўскай Русі і ВКЛ. З гэтай прычыны традыцыйная пагадовая частка ахоплівала ў ім апісанне падзей за 854–1446 гг. Асноўны масіў гістарычнай інфармацыі быў узяты са шматлікіх старажытнарускіх летапісаў часоў Кіеўскай Русі, а таксама з сучасных яго аўтару твораў, складзеных у Вільні, Маскве, Кіеве і г.д.[3] Падобны кампілятыўны характар летапісу прывёў да таго, што адлюстраванне асобных падзей тут не толькі адрознівалася па стылі, але і мела істотныя моўныя адметнасці (пры апісанні часоў ВКЛ ужывалася старабеларуская мова). Акрамя "Летапісца вялікіх князёў літоўскіх" (у поўным аб'ёме) сюды таксама была ўключана і "Пахвала Вітаўту" (1428) – унікальны для тагачаснай айчыннай літаратуры твор панегірычнага жанру, дзе вялікі князь быў паказаны агульнапрызнаным і мудрым уладаром[4].

У цэлым трэба адзначыць, што летапісанне з прычыны яго ідэалагічнай афарбоўкі вялося ў ВКЛ на дзяржаўным узроўні нерэгулярна. Нягледзячы на гэта, яго агульнапрызнаным цэнтрам і ў далейшым заставаўся Смаленск. Так, у 1495 г. з ведама вялікага князя Аляксандра і па загадзе

---

[1] ПСРЛ. Т. 35. С. 61–67.
[2] *Чамярыцкі В.А.* Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. Мн., 1969. С. 97–116.
[3] ПСРЛ. Т. 35. С. 36–58.
[4] Там жа. С. 58–59.

смаленскага епіскапа Іосіфа мясцовы манах Аўраамка склаў новы летапісны звод[1]. У адрозненне ад папярэдніх твораў Летапіс Аўраамкі выкарыстоўваў у якасці асновы аналагічныя зводы, створаныя ў Паўночна-Заходняй Русі (Ноўгарад, Пскоў). Важнай адметнасцю яго ад папярэдніх летапісаў, напісаных у Смаленску, было тое, што акцэнт тут рабіўся не на гісторыі ВКЛ, а на асвятленні праблем, звязаных з распадам Кіеўскай Русі і утварэннем Маскоўскага княства[2]. Верагодным тлумачэннем такой арыентацыі кнігапісца можа быць пачатак войнаў паміж двума асноўнымі "збіральнікамі рускіх зямель" і выкліканае гэтым жаданне ўладнай эліты ВКЛ больш даведацца пра свайго новага саперніка. Сам летапіс даводзіць выклад падзей да 1469 г. і акрамя асноўнай часткі ўтрымлівае яшчэ і каштоўныя дакументы юрыдычнага характару (у тым ліку і "Рускую праўду")[3].

Не выклікае сумненняў, што тагачасныя летапісы – гэта адна з праяў значнай актывізацыі этнакультурных працэсаў на беларускіх землях. Той факт, што ў летапісных крыніцах акцэнт рабіўся на адметных грамадска-палітычных падзеях, не толькі сведчыў аб самасцвярджэнні ў ВКЛ дзяржаўнай ідэалогіі, але і выкрываў імкненне іх стваральнікаў прадэманстраваць сваю перавагу над суседзямі. І гэта выглядае цалкам лагічна, бо на пэўным этапе фарміравання беларускай народнасці яе асобныя прадстаўнікі пачалі ўсведамляць сваю этнагістарычную адметнасць праз усхваленне славутых асоб, з якімі былі звязаны найбольш істотныя моманты станаўлення як новай дзяржавы, так і новага этнасу.

Далейшаму развіццю пісьменнасці на беларускіх землях спрыяла пашырэнне на працягу XV ст. ужывання паперы. Нягледзячы на адсутнасць у той час уласнай яе вытворчасці, прывезеная з еўрапейскіх краін папера ўсё роўна каштавала менш, чым пергамент. Дзякуючы гэтаму айчынныя рукапісныя кнігі сталі даступнымі большаму колу тагачаснага грамадства.

Адным з вядучых прыватных цэнтраў пісьменнасці ў тагачаснай Беларусі быў Слуцк. У пачатку XV ст. тут умацавалася княжацкая дынастыя Алелькавічаў, якія вызначаліся не толькі актыўнай грамадска-палітычнай пазіцыяй, але і сваім удзелам у культурным развіцці ВКЛ. Згодна з ускоснымі сведчаннямі, яшчэ пры заснавальніку рода князю Аляксандру Алельку (памёр у 1454 г.) у адным са слуцкіх манастыроў вялося летапісанне, дзе адлюстроўвалася гісторыя горада і яго наваколля (заснаванне Новага горада побач са Старым, будаўніцтва на дзядзінцы ў 1409 г. царквы св. Багародзіцы і г.д.)[4]. У слуцкім скрыпторыі на працягу XV ст. ішла таксама актыўная перапіска кніг. Большай часткай гэта былі літургічныя ды багаслоўскія творы. Захоўваліся яны як пры двары саміх Алелькаў, так і ў слуцкім Троіцкім манастыры, дзе існаваў буйны кнігазбор. Створаны ён быў дзякуючы фундатарскай дзейнасці трох пакаленняў Алелькаў (князя Аляксандра, яго сыноў Сямёна і Міхала, а такса-

[1] *Пашуто В.Т., Флоря Б.Н., Хорошкевич А.Л.* Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. С. 131.
[2] ПСРЛ. Т. 35. С. 85–90.
[3] *Шахматов А.А.* Обозрение русских летописных сводов XIV–XVI вв. М.; Л., 1938. С. 231–255.
[4] *Улащик Н.Н.* Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985. С. 233–236.

ма ўнукаў Васіля і Сямёна)[1]. Менавіта яны запрашалі сюды на працу лепшых айчынных кнігапісцаў. Вядома, напрыклад, што ў 1487 г. па даручэнні настаяцеля Троіцкага манастыра Іосіфа Балгарынавіча ўраджэнец Смаленска Антон Сямёнаў "сын Челюстикина" напісаў тут кнігу "Фёдар Студыт". Створанае прыблізна ў той жа час у гэтым скрыпторыі Тэтра-Евангелле з прадмовамі Феафілакта Балгарскага было падаравана князем Юрыем Сямёнавічам Алелькам у 1500 г. Кіева-Пячорскай лаўры і пазней неаднаразова перапісвалася тутэйшымі манахамі[2].

Акрамя Слуцка значныя цэнтры па перапісванні кніг дзейнічалі пры манастырах і княжацкіх рэзідэнцыях у Наваградку, Вільні, Пінску, Полацку, Супраслі, Жыровічах і Віцебску. На першым месцы сярод іх прадукцыі стаялі кнігі рэлігійнага зместу. На працягу XIII–XV ст. былі створаны новыя шэдэўры айчыннага кнігапісання – Аршанскае, Полацкае, Мсціжскае, Друцкае, Лаўрышаўскае, Жыровіцкае евангеллі, а таксама Смаленскі ды Мсціслаўскі псалтыры[3]. Адметнае месца ў гэтым спісе належыць Евангеллю, якое ў XIV ст. было напісана ў в. Лаўрышава (цяпер Навагрудскі раён) царкоўна-славянскай мовай з асобнымі беларускімі гутарковымі элементамі і аздоблена 18 мініяцюрамі[4]. Яго вокладку ўпрыгожвалі біруза, рубіны і ізумруды, а таксама срэбная пласцінка з рэльефнай выявай св. Дзмітрыя Салунскага са шчытом і кап'ём у руках[5].


Абклад Лаўрышаўскага евангелля

Працягвалі перапісвацца ў беларускіх скрыпторыях і жыціі розных святых, дзе распавядалася пра зямное жыццё і здзейсненыя цуды свецкіх асоб, кананізаваных хрысціянскай царквой. Менавіта ў спісе XIV ст. дайшло да нас "Жыціе Ефрасінні Полацкай". Не меншай вядомасцю карысталася "Казанне пра віленскіх пакутнікаў Іаана, Антонія і Яўстафія", перакладзенае ў XV ст. з грэчаскай мовы на царкоўна-славянскую[6]. З чэшскай мовы ў XV – пачатку XVI ст. было перакладзена "Казанне пра Сівілу-прарочыцу", якая, згодна з паданнем, прадказала нараджэнне Хрыста, з'яўленне хрысціянскай царквы і немінучы канец свету. З латыні ў XV ст. былі перакладзены "Жыціе Аляксея, чалавека божага" і "Аповесць пра трох каралёў", дзе распавядалася пра адмову ад зямных даброт, падзвіжніцтва і дабрачыннасць[7].

---

[1] Памяць: Гістор.-дакумент. хроніка Слуцкага раёна і г. Слуцка. Мн., 2000. С. 34–35, 40.
[2] *Грицкевич А.П.* Книжное дело в феодальном Слуцке в XVI–XVIII вв. // Вопросы библиографоведения и библиотековедения. 1983. Вып. 4. С. 54; *Родчанка Р.* Слуцкая старасветчына. Мн., 1991. С. 15–29.
[3] *Червонная С., Богданас К.* Искусство Литвы. М., 1972. С. 27.
[4] *Попова Г.С.* Русская книжная миниатюра XI–XV вв. // Древнерусское искусство. Сб. 3. М., 1983. С. 36.
[5] *Лыч. Л., Навіцкі У.* Гісторыя культуры Беларусі. С. 23.
[6] Кніга жыцій і хаджэнняў / Уклад. А. Мельнікаў. Мн., 1994. С. 135–139.
[7] Гісторыя беларускай літаратуры: Старажытны перыяд. С. 66; Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. Т. 1. С. 125.

Пад уплывам заходнееўрапейскай культуры ўвесь час узрастала і колькасць свецкіх перакладных ("Александрыя", "Аповесць пра Трыстана і Ізольду", "Гісторыя пра Трою", "Гісторыя пра Атылу"), а таксама кампілятыўных твораў[1]. Сярод апошніх пераважалі літаратурна-філасофскія і маральна-этычныя зборнікі – "фларылегіі", у якіх былі змешчаны асобныя ўрыўкі з Біблii і раннехрысціянскіх аўтараў (выказванні, афарызмы, павучанні). Найбольшай папулярнасцю ў ВКЛ карысталася так званая "Пчала" – перакладзены на стараславянскую мову твор канца XII – пачатку XIII ст. На беларускіх землях у якасці вучэбна-дыдактычнага дапаможніка ён актыўна выкарыстоўваўся ў пачатковых школах да XVII ст.[2] Асноўныя яго раздзелы (пра дабрачыннасць, праўду і крыўду, дабро і зло, сяброўства і варожасць) былі ўзяты са Старога і Новага Запавету. Дапаўнялі іх вытрымкі з твораў славутых антычных аўтараў (Гамера, Герадота, Сакрата, Платона, Арыстоцеля, Дэмакрыта), а таксама адпаведныя зместу яскравыя народныя прымаўкі і прыказкі[3].

Далейшае развіццё атрымаў у Беларусі і такі асобны літаратурны жанр, як мемуарныя апісанні вандраванняў па розных краінах свету. 1375 г. датуецца стварэнне "Хаджэння" смаленскага архімандрыта Грэфенія, які здзейсніў паломніцтва ў Палесціну і падрабязна апісаў тамашнія святыні[4]. Гэты твор напісаны пад відавочным уздзеяннем царкоўна-рэлігійнай літаратуры, але ў далейшым аналагічныя нататкі вандроўнікаў прымалі ўсё больш свецкі характар. Напрыклад, у "Хаджэнні ў Царград і Іерусалім" дзяка Ігнація Смаляніна (канец XIV ст.) шмат увагі ўдзяляецца апісанню краявідаў Прычарнамор'я, асабістым уражанням ад плавання на караблі, развaжанням пра палітычнае становішча ў Візантыі (у прыватнасці, пра каранацыю імператара Мануіла) і ўсхваленні прыгажосці ўбачаных палацаў і храмаў[5]. У падобным духу напісана і "Хаджэнне" ў Палесціну, Сінай і Егіпет полацкага іераманаха Варсанофія (1462), якое знаёміла чытачоў з дзіўным і невядомым арабскім светам. Да таго ж аўтар наведаў Малдову, Белград, Крыт, Родас і Кіпр – мясціны, пра якія на беларускіх землях ведалі таксама няшмат[6].

**Абарончая архітэктура Беларусі.** Развіццё феадальных адносін, умацаванне знешніх эканамічных і культурных сувязей у XIV–XV ст. пачало адчувацца і ў паступовай трансфармацыі айчыннага дойлідства. У першую чаргу гэта праявілася ў яго пераарыентацыі з ужывання выключна візантыйскіх і мясцовых будаўнічых традыцый на выкарыстанне таксама і найбольш каштоўных здабыткаў тагачаснай заходнееўрапейскай архітэктуры.

Трэба адзначыць, што абарончыя збудаванні большасці беларускіх гарадоў часоў станаўлення ВКЛ па-ранейшаму складаліся з рова і вала з

---

[1] Гісторыя беларускай літаратуры: Старажытны перыяд. С. 302–311.
[2] *Конан У.М.* Усходнеславянская культура // Францыск Скарына і яго час. Мн., 1988. С. 529.
[3] Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии / В.М. Конон [и др.]. Мн., 1977. С. 15–16; *Конан У.М.* Беларуская мастацкая культура ў эпоху сярэднявечча // Мастацтва. 1999. № 12. С. 8.
[4] *Гаранін С.* Шляхамі даўніх вандраванняў. Мн., 1999. С. 40–52.
[5] Гісторыя беларускай літаратуры: Старажытны перыяд. С. 67–68.
[6] Книга хождений. Записки русских путешественников IX–XV вв. / Сост. Н.И. Прокофьев. М., 1984. С. 276–285, 343–349.

драўлянымі сценамі, якія акружалі дзядзінец, вакольны горад і некаторыя з пасадаў. Ускладненне сістэмы ўмацаванняў ішло праз узвядзенне па вуглах крэпасці і пры ўваходзе шмат'ярусных драўляных вежаў. Разам з тым абвастрэнне міжусобных канфліктаў і ўзросшая знешняя пагроза з боку крыжакаў і татара-манголаў патрабавала куды больш сур'ёзнага ўмацавання традыцыйных абарончых збудаванняў.

Выйсце было знойдзена ва ўзвядзенні ў самых важных гарадах рэгіёна мураваных вежаў, якія з'яўляліся найбольш умацаванымі цэнтрамі абароны крэпасці. Звычайна яны мелі вышыню да 30 м і некалькі асноўных ярусаў, значна пераўзыходзілі астатнюю гарадскую забудову, а таму наверсе вежаў размяшчалася адкрытая пляцоўка для назірання за наваколлем. На беларускія землі вежы як абарончыя збудаванні пашырыліся з Заходняй Украіны, а таму сярод даследчыкаў яны вядомы пад назвай "валынскія вежы". У іх канструкцыі адчуваецца моцнае ўздзеянне заходнееўрапейскіх архітэктурна-мастацкіх стыляў. Так, раманскі стыль тут праявіўся ў выкарыстанні вялікапамернай брусковай цэглы, складзенай у вендскай (балтыйскай) сістэме муроўкі (таўшчыня сцен 2,5–3 м), а таксама ў паўцыркульных завяршэннях ваконных праёмаў і плоскіх ніш[1]. Уплыў жа готыкі прасочваецца ва ўжыванні каркасных канструкцый у купальным завяршэнні верхняга яруса і наяўнасці шэрага байніц стральчатай формы[2].

Будаўніцтва падобных "валынскіх" вежаў у Беларусі распачалося яшчэ ў апошняй чвэрці XIII ст. і працягвалася больш за два стагоддзі. Па функцыянальным прызначэнні іх можна падзяліць на некалькі асноўных груп. У Берасці, Полацку і Тураве адпаведныя мураваныя збудаванні цыліндрычнай формы размяшчаліся пасярод жыллёвай забудовы, паблізу ад асноўнай гарадской брамы[3]. У Гародні складзеная з цэглы вежа размяшчалася звонку за перыметрам сцен, што было неабходна для лепшага прыкрыцця подступаў да моста і брамы[4]. У Наваградку першапачаткова мураванымі былі толькі квадратныя ў плане вежы-брамы, якія абаранялі ўваход як у дзядзінец, так і ў вакольны горад[5].

Разам з тым даволі хутка стала зразумела, што падобныя адносна невялікія і адзінкавыя збудаванні маглі быць паспяхова выкарыстаны толькі ў час дробных канфліктаў паміж удзельнымі княствамі альбо пры абароне ад нападаў невялікіх татарскіх атрадаў. Стрымліваць жа крыжакаў з іх куды больш дасканалай тактыкай аблогі працяглы час яны не маглі. Менавіта гэта і было асноўнай прычынай пераходу да будаўніцтва ў найбольш стратэгічна важных месцах Беларусі цалкам мураваных замкавых комплексаў. Узорам для першых з іх сталі крыжацкія цытадэлі ў Прыбалтыцы. Па кампазіцыі яны адносіліся да тыпу "кастэляў", што з французскай мовы можна перакласці як невялікая крэпасць. У Беларусі іх будаўніцтва распачалося па загадзе вялікага князя Гедыміна.

---

[1] *Трусаў А.* Манументальнае дойлідства Беларусі XI–XVIII ст. Мн., 2001. С. 112–113.
[2] *Янкавічэне А.С.* Самабытныя рысы беларускай готыкі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1974. № 1. С. 15–21.
[3] ВС. Т. 4. Витебск, 1885. С. 9; Документы Московского архива Министерства юстиции (далей – ДМАМЮ). Т. 1. М., 1897. С. 442–448; ПСРЛ. Т. 2. С. 925, 927.
[4] *Воронин Н.Н.* Древнее Гродно. М., 1954. С. 129–137; ПСРЛ. Т. 2. С. 878.
[5] *Ткачев М.А.* Замки Беларуси. С. 6–15.




Крэўскі замак. Рэканструкцыя

У пачатку XIV ст. замак-кастэль быў узведзены ў в. Крэва (зараз Смаргонскі раён). Ён размясціўся на штучна створаным насыпе ў сутоцы рэк Крэвянка і Шляхцянка і ў плане нагадваў чатырохвугольнік (85×109×72×97 м). Яго сцены таўшчынёй да 3 м і вышынёй 13 м мелі каменную аснову і цагляную баявую галерэю ўверсе. Дзве вежы замка былі размешчаны па дыяганалі і ўзведзены пазней за сцены. Паўночная пяціпавярховая Княская вежа выступала за агульны перыметр і мела вялікія памеры (18,7×17 м). Уваход у яе быў магчымы толькі з баявой галерэі. Верхнія ярусы адводзіліся пад княскія пакоі і мелі вялікія аконныя праёмы са стральчатымі завяршэннямі. Другая чатырохпавярховая Малая вежа (11×10,7 м) была прыбудавана да сцен знутры[1]. Пасля Гедыміна Крэўскі замак належаў Альгерду і Ягайле. У 1382 г. па загадзе апошняга тут быў забіты вялікі князь Кейстут[2]. У 1385 г. у замку заключылі Крэўскую унію. У 1503–1506 гг. яго асаджалі крымскія татары. У далейшым замак страціў стратэгічнае значэнне і прыйшоў у заняпад. У гады Першай сусветнай вайны лінія фронту праходзіла праз Крэва і ён быў моцна пашкоджаны артылерыяй[3].

Яшчэ адзін замак-кастэль у 1320-я гг. узвялі ў Лідзе. Ён таксама размяшчаўся на штучным насыпе, на балоцістых берагах рэк Лідзеі і Каменкі, а ў плане нагадваў няправільны чатырохвугольнік (93,5×83,5×80×84 м). Яго сцены, складзеныя з валуноў, мелі вышыню 12 м і таўшчыню да 2 м. У верхняй іх частцы знаходзілася цагляная баявая галерэя з байніцамі праз кожныя 2,4 м. Адметнасцю замка было тое, што дыяганальна пастаўленыя вежы тут не былі вынесены за агульны перыметр. Паўднёва-заходняя квадратная ў плане вежа (11,3×11,3 м) будавалася разам

[1] Археалогія Беларусі. Т. 4. С. 75–76, 95.
[2] Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1. С. 75–76.
[3] *Дзярновіч А.І., Трусаў А.А., Чарняўскі І.М.* Лёс Крэва. Мн., 1993. С. 4–5, 32–36; Памяць: Гістор.-дакумент. хроніка Смаргонскага раёна. Мн., 2004. С. 112–113, 569.

з замкам, а паўночна-ўсходнюю ўзвялі толькі на мяжы XIV–XV ст.[1] Яна мела большыя памеры (12×12,5 м з таўшчынёй сцен да 3 м) і прыкрывала галоўны ўваход у комплекс. Апошні быў выкананы ў выглядзе паўсядзённай Малой брамы (шырынёй 2,5 м і вышынёй 3 м) і параднай Вялікай брамы (шырыня дасягала 4,5 м, а вышыня – 6 м)[2]. Лідскі замак прыкрываў ад крыжакаў Навагрудак, а таму ён неаднаразова штурмаваўся рыцарамі. Ужо ў 1384 г. крыжакі ўзялі яго прыступам, але аблогі 1392 і 1394 гг. ён вытрымаў[3]. Пазней замак некалькі разоў захоплівалі казакі і рускія войскі, а ў пачатку XVIII ст. шведы ўзарвалі яго вежы[4]. З 1978 г. праводзіцца рэстаўрацыя Лідскага замка, і зараз большая частка работ ужо завершана.

Наяўнасць у Беларусі шэрага замкаў-кастэляў усё ж не магла стрымаць бесперапынныя напады крыжакаў, якія сталі пагражаць буйным гарадам рэгіёна. Пры гэтым выкарыстанне імі пры асадзе той жа Гародні бамбардаў і даагнёвай артылерыі рабіла яе састарэлыя ўмацаванні малаэфектыўнымі[5]. Таму ў 1398–1402 гг. па загадзе Вітаўта тут быў узведзены новы мураваны замак. У плане ён паўтараў абрысы папярэдняга дзядзінца і меў форму няправільнага трохвугольніка (120×90×70 м). У замку налічвалася пяць вежаў. Сцены мелі таўшчыню да 3 м і баявую галерэю наверсе. Размяшчаўся ў замку і двухпавярховы мураваны палац (45×15 м), які быў прыбудаваны да крапасной сцяны[6]. З вонкавага боку вежы, сцены і палац былі ўмацаваны контрфорсамі[7]. Ад горада замак аддзяляўся 50-метровым ровам, праз які быў перакінуты пад'ёмны мост. Перад ім, на месцы былога вакольнага горада, быў утвораны Ніжні замак[8]. Пасля перамогі над крыжакамі Гародня не страціла свайго важнага значэння з прычыны ўдалага геаграфічнага месцазнаходжання на палове шляху з Кракава ў Вільню. Дзякуючы гэтаму Гарадзенскі замак ператварыўся ў адну з асноўных вялікакняскіх рэзідэнцый, якая ў другой палове XVI ст. па загадзе караля Стэфана Баторыя была значна перабудавана ў стылі рэнесансу[9]. Да нашага часу ад замка Вітаўта захаваліся фрагменты сцен, рэшткі падмуркаў палаца і перабудаваная вежа-брама.

Яшчэ адзін славуты замак знаходзіўся ў Навагрудку. У 1394 г. крыжакі значна пашкодзілі тутэйшы драўляны замак з мураванай вежай-брамай[10]. У выніку да 1410 г. тут праводзіліся значныя будаўнічыя работы, якія можна лічыць першым этапам узвядзення Навагрудскага замка[11]. За гэты час драўляныя ўмацаванні паступова замяняліся на мураваныя. Былая вежа-брама захавалася і атрымала назву Шчытоўка.

[1] *Краўцэвіч А., Трусаў А.* Археалагічнае вывучэнне Лідскага замка і г. Ліды // З глыбі вякоў. Мн., 1992. С. 84; *Трусаў А.А.* Старадаўніх муроў адраджэнне: Мінулае і сучаснасць Лідскага замка. Мн., 1990. С. 12–22.
[2] *Трусаў А.А.* Старонкі мураванай кнігі. Ми., 1990. С. 52–55.
[3] ПСРЛ. Т. 35. С. 71, 101, 137.
[4] Памяць. Ліда. Лідскі раён. Мн., 2004. С. 70–74.
[5] *Длугош Я.* Грюнвальдская битва. М., 1962. С. 22.
[6] Археалогія Беларусі. Т. 4. С. 69, 96.
[7] *Трусаў А.А., Собаль В.Е., Здановіч Н.І.* Стары замак у Гродна. Мн., 1993. С. 24–25.
[8] ПСРЛ. Т. 2. С. 67.
[9] *Краўцэвіч А.К.* Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV–XVIII ст. Мн., 1991. С. 84.
[10] Памяць: Гістор.-дакумент. хроніка Навагрудскага раёна. С. 71, 90.
[11] *Гуревич Ф.Д.* Древний Новогрудок. М., 1981. С. 5.

Квадратная ў плане (11,4×11,4 м), яна мела пяць паверхаў, вышыню 25 м і таўшчыню сцен каля 2,7 м. Іх прарaзалі вузкія байніцы, а ўнізе знаходзілася вялікая ўязная брама. Ва ўсходнім куце комплексу была ўзведзена трохпавярховая Касцельная вежа (9×9 м). На адваротным баку крэпасці з'явіліся трохпавярховыя Малая брама (8×10 м) і Пасадская вежа (7,7×7,7 м). Паміж сабой гэтыя чатыры вежы злучаліся цаглянай сцяной агульнай працягласцю больш за 180 м. Акрамя таго, на ўсходнім схіле ўзгорка над крыніцай пабудавалі Калодзежную вежу (8×8 м), якая сцяною даўжынёй 21 м была звязана з замкам[1]. Частка вежаў і сцен была ўмацавана контрфорсамі. Такім чынам, толькі паўночна-заходні бок захоўваў драўляныя ўмацаванні. Меўся на тэрыторыі комплексу і невялікі двухпавярховы мураваны палац, дзе жыў яго камендант.

У такім выглядзе Навагрaдскі замак праіснаваў да канца XV ст., калі ўзмацнілася пагроза нападаў крымскіх татар. У сувязі з гэтым пачаўся другі этап яго будаўніцтва. Замест ацалелых драўляных умацаванняў узвялі пяціпавярховую вежу Дазорца (14×14 м). З Шчытоўкай і Пасадскай вежай яе звязвалі мураваныя сцены. Да таго ж на схіле ўзгорка каля Калодзежнай вежы з'явілася Меская брама, злучаная з ёй і Малой Брамай тоўстымі сценамі. Дзякуючы гэтаму з боку горада быў утвораны дадатковы ніжні пояс абароны. З паўночнага і паўночна-заходняга боку подступы да замка таксама прыкрываў вал вышынёй да 30 м з драўлянымі ўмацаваннямі наверсе[2]. Працягваў выконваць свае абарончыя функцыі і Малы замак з мураванай брамай. У выніку Навагрaдак у тыя часы лічыўся адным з найбольш магутных у Беларусі, і татары ў час аблог 1505 і 1506 гг. так і не здолелі яго захапіць[3]. Аднак у сярэдзіне XVII ст. яго двойчы штурмам узялі рускія войскі, а ў 1706 г. шведы ўзарвалі замак[4]. Зараз над Навагрaдкам узвышаюцца толькі рэшткі Шчытоўкі і Касцельнай вежы.

З далейшым развіццём ВКЛ колькасць добра ўмацаваных крэпасцей на беларускіх землях увесь час памнажалася. Магутныя мураваныя цытадэлі былі ўзведзены ў XIV–XV ст. у Віцебску і Оршы[5]. Працягвалі функцыянаваць і старыя драўляныя замкі ў Полацку, Магілёве, Мазыры і ў іншых месцах[6]. Будаваліся новыя ўмацаванні вакол пасадаў айчынных гарадоў. Да таго ж акрамя вялікакняскіх замкаў у Беларусі з цягам часу сталі з'яўляцца і прыватныя крэпасці, якія служылі сядзібамі асобных шляхецкіх родаў. Першапачаткова яны мелі пераважна драўляныя ўмацаванні, але паступова назапашаныя багацці дазволілі найбольш заможным магнатам распачаць узвядзенне і буйных мураваных замкаў.

Прыкладам такога замка з'яўляецца абарончы комплекс у Міры (цяпер Карэліцкі раён), які зараз уключаны ў спіс сусветнай архітэктурнай спадчыны ЮНЕСКА. У 1506 г. татары спустошылі Мір[7]. Па загадзе яго

---

[1] Археалогія Беларусі. Т. 4. С. 77–78.
[2] *Чантурия В.А.* Архитектурные памятники Белоруссии. Мн., 1982. С. 157–159.
[3] Хроника Быховца / Отв. ред. М.Н. Тихомиров. М., 1966. С. 121; *Сыракомля У.* Вандроўкі па маіх былых ваколіцах. С. 49–50.
[4] Памяць. Навагрудскі раён. С. 91.
[5] ДМАМЮ. Т. 1. С. 123–125; ПСРЛ. Т. 32. М., 1975. С. 45.
[6] БЭФ. Т. 1. С. 276–277; *Лаппо И.И.* Полоцкая ревизия 1552 г. М., 1905. С. 1–15; Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці. Мн., 1975. С. 114.
[7] ПСРЛ. Т. 2. С. 101, 169–170.

гаспадара Ю. Ільініча аднаўленчыя работы прадугледжвалі стварэнне мураванай цытадэлі, якая павінна была знаходзіцца на штучным востраве. Згодна з планам замак уяўляў сабой квадрат 75×75 м. Па вуглах ён меў чатыры пяціпавярховыя вежы вышынёй да 27 м, што моцна выступалі за перыметр сцен. Яшчэ адна вежа знаходзілася ў цэнтры заходняй сцяны, мела 6 паверхаў і выконвала функцыю брамы. Ніжняя частка вежаў была квадратнай у плане (10×10 м), а верхняя – васьміграннай[1]. Усе яны былі самастойнымі цэнтрамі абароны з байніцамі на кожным узроўні і давалі магчымасць весці кругавы абстрэл.



Мірскі замак (сучасны выгляд)

Сцены замка мелі 10-метровую вышыню і тры ярусы байніц: на ўзроўні зямлі тут размяшчалася больш за 30 гармат; на вышыні 8 м у сцяне ішоў калідор з байніцамі на абодва бакі, які звязваў паміж сабой усе вежы. Уверсе сцен была зроблена баявая галерэя з парапетамі і байніцамі, пазней накрытая двухсхільным чарапічным дахам. Адметнасцю Мірскага замка з'яўляўся яго арыгінальны знешні дэкор. Фасады вежаў былі аздоблены living рознымі па форме і велічыні плоскімі нішамі і цаглянымі арнаментальнымі паясамі. Замкавыя сцены таксама мелі дэкаратыўную апрацоўку ў выглядзе двух арнаментальных паясоў. Разам з тым знешні дэкор амаль не закранаў ніжні ўзровень сцен і вежаў, абарончы характар якіх яшчэ больш падкрэслівалі ўмураваныя ў фасады камяні. На падобным прадстаўнічым знешнім фоне даволі сціпла выглядаў "палац" Ільінічаў – невялікі аднапавярховы будынак у паўднёва-заходнім куце комплексу[2]. Аднак у такім выглядзе Мірскі замак праіснаваў нядоўга. Ужо ў

[1] Археалогія Беларусі. Т. 4. С. 69, 78–79.
[2] *Калнін В.В.* Мірскі замак. Мн., 2002. С. 35–46.

другой палове XVI ст. па ініцыятыве новых гаспадароў князёў Радзівілаў ён быў перабудаваны ў стылі рэнесансу[1].

Яшчэ адзін прыватны гатычны замак у пачатку XVI ст. быў узведзены А. Гаштольдам у в. Геранёны (Іўеўскі раён). Сам чатырохвежавы замак меў невялікія памеры (27×27 м) і драўляны палац унутры (у канцы гэтага ж стагоддзя заменены на мураваны)[2]. Галоўны цяжар абароны прыпадаў на знешні земляны вал. На ім размяшчаліся чатыры арыгінальныя двух'ярусныя вежы-рандэлі. Іх ніжні ўзровень быў схаваны ў тоўшчы вала, а на верхняй адкрытай пляцоўцы знаходзіліся гарматы[3]. Адна з вежаў выконвала функцыю брамы. Справа ад яе быў зроблены вялікі насыпны выступ, які прыкрываў падыходы да брамы і з'яўляўся прататыпам бастыёнаў, што пазней атрымалі ў Беларусі шырокае распаўсюджанне. На жаль, у час войнаў сярэдзіны XVII – пачатку XVIII ст. Геранёнскі замак быў значна пашкоджаны і пазней прыйшоў у поўны заняпад[4].

У цэлым жа гэты пачатковы этап мураванага абарончага дойлідства Беларусі мае шэраг агульных адметных рыс. Па-першае, пры ўзвядзенні замкаў дамінаваў гатычны стыль, які праявіўся ў каркасна-нервюрнай канструкцыі скляпенняў тутэйшых вежаў і палацаў, а таксама ў шырокім ужыванні стральчатых завяршэнняў уваходных парталаў і ваконных праёмаў. Па-другое, падобнае мураванае будаўніцтва заставалася ўсё яшчэ вельмі дарагой справай і вялося выключна для патрэб вялікага князя і найбольш заможных магнатаў. Па-трэцяе, хоць развіццё айчынных замкаў і прайшло ўжо вялікі шлях ад звычайных апорных пунктаў да велізарных крапасных комплексаў, апошнія пакуль яшчэ мелі падкрэслена абарончы і даволі аскетычны характар.

**Храмавае дойлідства.** Вызначальным момантам у эвалюцыі айчыннай культавай архітэктуры стаў заняпад у другой палове XII ст. Полацкай, Віцебскай і Гародзенскай школ дойлідства. У выніку больш за сто год на беларускіх землях увогуле не ўзводзіліся мураваныя храмы[5]. Толькі напрыканцы XIII ст. становішча пачало змяняцца. Іпацьеўскі летапіс паведамляе, што адначасова з узвядзеннем "валынскіх" вежаў у Берасці і Камянцы там былі пабудаваны і праваслаўныя цэрквы[6]. На жаль, абодва гэтыя храмы не захаваліся: камянецкая Благавешчанская царква была разбурана яшчэ ў Сярэднявеччы, а рэшткі брэсцкай царквы св. Пятра ўзарвалі ў XIX ст. пры будаўніцтве крэпасці. Нягледзячы на тое, што дакладных звестак аб іх знешнім вобліку да нас не дайшло, можна даволі ўпэўнена сцвярджаць пра наяўнасць тут асобных рыс як візантыйскага, так і раманскага стылю. Па сваёй кампазіцыі гэта былі крыжова-купальныя, трохапсідныя храмы са сценамі, складзенымі ў тэхніцы балтыйскай муроўкі з вялікапамернай цэглы. У Іпацьеўскім летапісе адзначаецца таксама будаўніцтва вялікім князем Войшалкам у XIII ст.

[1] *Сыракомля У.* Вандроўкі па маіх былых ваколіцах. С. 55.
[2] *Чарняўскі І.М.* Развіццё палацава-замкавых комплексаў Беларусі ў канцы XV–XVII стст. // Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусі. С. 68.
[3] Археалогія Беларусі. Т. 4. С. 72.
[4] Страчаная спадчына. Мн., 2003. С. 17–19.
[5] *Кушнярэвіч А.М.* Культавае дойлідства Беларусі XIII–XVI стст. Мн., 1993. С.19.
[6] ПСРЛ. Т. 2. С. 925, 927.

яшчэ аднаго мураванага храма ў в. Лаўрышава пад Наваградкам, але яго сляды пакуль не знойдзены[1].

Галоўная адметнасць культавай архітэктуры Беларусі таго перыяду заключалася ў тым, што візантыйскія традыцыі саступалі месца заходнееўрапейскім. Адной з першых праяў такой тэндэнцыі ў царкоўным будаўніцтве стала ўзвядзенне на мяжы XIII і XIV ст. гарадзенскай Верхняй царквы. Яна знаходзілася на тэрыторыі дзядзінца на рэштках Ніжняй царквы[2]. Гэта быў невялікі квадратны храм памерам 8,9×8,9 м з паўкруглай апсідай. Ён меў высокі гатычны дах і нервюрныя скляпенні. Фасады царквы ўпрыгожвалі плоскія нішы і шліфаваныя камяні. Яшчэ адзін падобны храм быў пабудаваны ў пачатку XIV ст. на тэрыторыі Наваградскага замка. Адносна невялікая царква (12,2×13 м) мела даволі тоўстыя сцены (да 1,2 м), усяго адну апсіду і была перакрыта нервюрнымі скляпеннямі[3]. Цікава тое, што акрамя рэлігійнай яна доўгі час адыгрывала і важную грамадскую функцыю – на працягу XVII–XVIII ст. у ёй адбываліся пасяджэнні Трыбунала ВКЛ[4].

Новым этапам у мураваным храмавым дойлідстве Беларусі можна лічыць канец XIV–XV стагоддзі, калі ў Беларусі з'явіўся шэраг храмаў, пабудаваных у гатычным стылі. У Гародні, напрыклад, у 1380-я гг. на Рынкавай плошчы быў узведзены Марыінскі касцёл, які больш вядомы пад назвай "Фара Вітаўта". Ён уяўляў сабою трохнефавую базіліку буйных памераў (58,6×23 м) з вялікай чатырох'ярусная вежай-званіцай на галоўным фасадзе (узарваны ў 1961 г.)[5].

Сярод іншых тагачасных гатычных храмаў трэба адзначыць касцёл у в. Ішкалдзь (Баранавіцкі раён), які быў узведзены ў 1470-я гг.[6] Па сваёй кампазіцыі гэта бязвежавы трохнефавы храм памерам 26,4×13,5 м. Яго цэнтральны неф і алтарная частка былі перакрыты нервюрнымі скляпеннямі, а вузкія бакавыя нефы больш нагадвалі абыходную галерэю. Галоўны фасад храма завяршаўся завостраным шчытом з плоскімі нішамі. Сцены былі ўмацаваны контрфорсамі, якія на бакавых фасадах чаргаваліся са стральчатымі вокнамі. Аналагічнае кампазіцыйнае рашэнне меў спачатку і пабудаваны ў першай палове XV ст. касцёл у в. Уселюб пад Наваградкам[7]. У далейшым, аднак, гэты храм быў значна перабудаваны і да першапачатковай амаль квадратнай у плане малітоўнай залы былі дабаўлены гранёная апсіда з дзвюма бакавымі сакрысціямі (мяжа XVI–XVII ст.) ды трох'ярусная вежа-званіца (пачатак XX ст.)[8].



Касцёл у в. Ішкалдзь Баранавіцкага раёна

---

[1] ПСРЛ. Т. 2. С. 496, 519; *Кулагін А.М.* Праваслаўныя храмы Беларусі. Мн., 2001. С. 111.
[2] *Воронин Н.Н.* Древнее Гродно. С. 182–183.
[3] *Трусов О.А.* Памятники монументального зодчества Белоруссии IX–XVII вв. Мн., 1988. С. 48–52.
[4] *Кушнярэвіч А.М.* Культавае дойлідства Беларусі XIII–XVI ст. С. 28.
[5] Археалогія Беларусі. Т. 4. С. 103–104.
[6] *Габрусь Т.В.* Мураваныя харалы. Сакральная архітэктура Беларусі. Мн., 2001. С. 31.
[7] Археалогія Беларусі. Т. 4. С. 103.
[8] Архітэктура Беларусі. У 4 т. / Пад рэд. В.І. Лакотка. Т. 1. Мн., 2005. С. 231–234.

Мураваны касцёл быў узведзены ў пачатку XVI ст. і ў Гнезна (зараз вёска Ваўкавыскага раёна). У цэнтры яго галоўнага фасада знаходзілася васьміграння чатырох'ярусная вежа вышынёй 31 м[1]. Памеры самога храма пры гэтым былі адносна невялікімі – 21,5×13,7 м, а таўшчыня сцен складала каля 1 м. Позняя готыка тут праявілася ў наяўнасці контрфорсаў, стральчатых завяршэннях ваконных праёмаў і прысутнасці акна-ружы над галоўным уваходам[2].

Сінтэз готыкі з візантыйскімі традыцыямі прывёў да з'яўлення ў Беларусі унікальнага для еўрапейскага дойлідства тыпу цэркваў-крэпасцей. Чатыры вуглавыя абарончыя вежы і цэнтральны вежападобны купал набыў пасля рэканструкцыі ў канцы XV ст. полацкі Сафійскі сабор[3]. На жаль, у такім выглядзе ён вядомы зараз толькі па тагачасных гравюрах, бо ў XVII ст. гэты храм быў часткова перабудаваны уніятамі, а ў пачатку XVIII ст. яго ўвогуле ўзарвалі рускія войскі ў час Паўночнай вайны[4].

У Зэльвенскім раёне да нашага часу ў амаль нязменным выглядзе захавалася царква-крэпасць каля в. Сынкавічы, якая зараз уключана ў каталог помнікаў сусветнай архітэктуры. Узведзены з цэглы ў пачатку XVI ст. храм адзначаецца манументальнасцю і адносіцца да тыпу трохнефавых базілік з трыма апсідамі, над якімі для прыдання канструкцыі цэльнасці быў створаны агульны дах[5]. Памеры царквы – 17,5×13 м, пры таўшчыні сцен 1,5 м. Яна мела высока размешчаныя стральчатыя вокны і нервюрныя скляпенні. Па вуглах былі ўзведзены чатыры абарончыя вежы, якія з'яўляліся самастойнымі збудаваннямі, далучанымі да асноўнага аб'ёму. Умацаваныя контрфорсамі вежы на парадным фасадзе мелі гранёную форму, а з боку апсід круглую[6]. Фасады храма ўпрыгожвалі разнастайныя нішы і аркатурны фрыз. Байніцы бліжняга і дальняга бою знаходзіліся ў вежах і на паддашку, дзе месціся баявая галерэя[7].



Царква абарончага тыпу
ў в. Мураванка. Пачатак XVI ст.

Яшчэ адна, вельмі падобная на папярэдні храм па сваёй канструкцыі і размяшчэнні байніц, царква-крэпасць была пабудавана ў 1516–1542 гг. каля в. Мураванка (Шчучынскі раён)[8]. Яе памеры складалі 21,7×14,8 м, а таўшчыня сцен дасягала 2 м. Гэта таксама была трохнефавая базіліка,

[1] Памятники искусства Советского Союза: Белоруссия. Литва, Латвия, Эстония / Сост. В.А. Чантурия. М., 1986. С. 364.
[2] *Кулагін А.М.* Каталіцкія храмы на Беларусі. С. 39, 73–74, 153, 174.
[3] *Ткачоў М.А.* Новае пра Сафійскі сабор // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1972. № 2. С. 18–23.
[4] Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т. 2. Мн., 2006. С. 454.
[5] Беларусы. Т. 2. Дойлідства. Мн., 1997. С. 164.
[6] *Шчакаціхін М.* Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Т. 1. Мн., 1928. С. 243–253.
[7] *Ткачев М.* Замки Беларуси. Мн., 2002. С. 190.
[8] *Кушнярэвіч А.М.* Культавае дойлідства Беларусі XIII–XVI стст. С. 75.

але ўсяго з адной буйной апсідай. Пад уплывам Рэнесанса тут больш увагі аддавалася знешняму дэкору ў выглядзе нішаў розных форм і памераў, што ўпрыгожвалі сцены, вежы і апсіду. У цэнтры ж галоўнага фасада было змешчана гатычнае акно-ружа. Удасканаленне канструкцыі скляпенняў дазволіла ўтварыць з нервюраў дэкаратыўную зорчатую столь[1]. Усе чатыры абарончыя вежы храма мелі цыліндрычную форму і ў адрозненне ад Сынкавіцкай царквы з'яўляліся неад'емным элементам кампазіцыі. Храм быў моцна пашкоджаны шведамі ў 1706 г., а ў 1870-я гг. яго часткова перабудавалі – перад уваходам з'явіўся бабінец з невялікімі вежачкамі, а ў вежах на галоўным фасадзе быў надбудаваны яшчэ адзін паверх[2].

Такім чынам, аднаўленне мураванага культавага дойлідства ў Беларусі не прывяло да простага капіравання ўжо існуючай архітэктурнай спадчыны. Эканамічная і культурная арыентацыя ВКЛ на Заходнюю і Цэнтральную Еўропу, а таксама пашырэнне каталіцызму прывялі да пранікнення на беларускія землі раманскага, а пазней і гатычнага стылю. Іх сінтэз з мясцовымі будаўнічымі традыцыямі аказаўся даволі ўдалым, і ў далейшым падобнае "змяшэнне" розных архітэктурна-мастацкіх прыёмаў стала адметнай рысай айчыннай архітэктуры.

**Мастацтва.** Айчыннае мастацтва перыяду XIV–XV ст. вызначалася шэрагам адметных рыс. Па-першае, яно па-ранейшаму мела пераважна рэлігійны характар, але колькасць твораў, арыентаваных на свецкае грамадства, увесь час павялічвалася. Па-другое, узмацненне цэнтральнай улады спрыяла ўзрастанню ролі вялікакняскага двара як у палітычна-гаспадарчым, так і ў культурным жыцці краіны. Пры гэтым фундатарская дзейнасць вялікага князя ў пэўнай ступені кампенсавала яе нізкі ўзровень развіцця ў асяроддзі магнатаў і шляхты, дзе адпаведныя традыцыі яшчэ толькі пачалі фарміравацца. Па-трэцяе, дамінаванне "заходняга вектара" ў знешняй палітыцы ВКЛ прывяло да таго, што візантыйскія культурныя традыцыі пачалі паступова выцясняцца з шырокага ўжытку заходнееўрапейскімі мастацкімі стылявымі напрамкамі.

У выніку гэтага айчыннаму мастацтву XIV–XV ст. быў ужо ўласцівы сінтэз розных культурных традыцый. Сярод іх, таксама як і ў архітэктуры, на беларускіх землях у азначаны перыяд найбольшы ўплыў мелі візантыйскі, раманскі і гатычны стылі.

Для першага з іх – візантыйскага – было характэрна выкарыстанне здабыткаў антычнасці з апорай на жывапіс і амаль поўным ігнараваннем аб'ёмнай скульптуры. Характар твораў быў падкрэслена святочна-ўрачысты, што акрамя іншага прывяло да істотнай трансфармацыі кампазіцыйнага рашэння – інфармацыйны пейзажна-архітэктурны фон змяніўся на абстрактна-сімвалічны аднаколерны (часцей за ўсё залацісты). Самі ж выявы святых падаваліся ў плоскаснай манеры з пэўным адыходам ад рэчаіснасці, што датычылася ў першую чаргу прапорцый і каляровай гамы[3].

Улічваў асобныя традыцыі антычнай культуры і раманскі стыль. Разам з тым не трэба забываць, што ён склаўся ўжо ў якасці першага ўласна

[1] Архітэктура Беларусі. Т. 1. С. 264–268.
[2] *Трацэўскі У.В.* Цэрквы-крэпасці ў Сынкавічах і Малым Мажэйкаве. Мн., 1989. С. 11–15.
[3] *Медведев И.П.* Византийский гуманизм XIV–XV вв. Л., 1976. С. 11–49, 160–170.

еўрапейскага мастацкага напрамку, а таму меў і арыгінальныя рысы. У ім таксама панавала рэлігійная тэматыка, але з падачы каталіцкай царквы галоўнай мэтай тагачасных жывапісцаў было жаданне адлюстраваць менавіта магутнасць і веліч Бога. З гэтым звязана і пашырэнне выяў Страшнага Суду[1]. Выява Бога-Айца, таксама як і фігура Хрыста, заўсёды дамінавала над астатнімі, значна пераўзыходзячы іх па памерах. Другой адметнасцю раманскага стылю ў мастацтве сталі шматлікія адступленні ад рэальных прапорцый (празмерна вялікія галовы, маленькія ногі і рукі), што было выклікана жаданнем падкрэсліць асобны жэст і вылучыць індывідуальныя рысы персанажаў[2]. Адзенне пры гэтым паказвалася даволі схематычна. Увага гледача канцэнтравалася на маральных і духоўных каштоўнасцях вобразаў. Шмат месца займаў і арнамент, які складаўся з геаметрычных фігур альбо матываў флоры і фауны. Панаванне “звярынага стылю” – яшчэ адна прыкмета раманскага мастацтва, што каранілася ў язычніцтве[3]. Раманская тэхніка жывапісу вызначалася адсутнасцю паўтаноў і дамінаваннем яркіх насычаных фарбаў, часта раздзеленых паміж сабой чорнымі лініямі.



Архангел Міхаіл з Троіцкага касцёла г.п. Шарашова. 1470–1480 гг.

Працягам падобных творчых пошукаў стала выпрацоўка гатычнага стылю, які ў мастацтве праявіўся ў паглыбленні і ўскладненні сінтэзу розных яго кірункаў. Нягледзячы на тое што рэлігійная тэматыка з прызнаннем панавання ў свеце вышэйшых ірацыянальных сіл па-ранейшаму пераважала, колькасць сюжэтаў істотным чынам пашырылася, а на першае месца выйшла скульптура, якая стала асноўным элементам аздаблення фасадаў і алтароў каталіцкіх храмаў. Пры гэтым застыласць раманскіх статуй змянілася дынамічнай рухомасцю фігур з выразным рытмам драпіровак. Важным момантам было і тое, што поруч з кампазіцыямі на тэму Святога Пісання сталі з'яўляцца і свецкія скульптурныя кампазіцыі з жыцця рамеснікаў ды сялян. З'явіліся ў касцёлах таго часу і створкавыя алтары, дзе пазалочаныя скульптуры змяшчаліся ў цэнтры, а рухомыя бакавыя часткі распісваліся. Пры гэтым яшчэ больш узрасло парушэнне прапорцый чалавечага цела пры стварэнні вобразаў святых (праявілася ў іх празмернай выцягнутасці), што павінна было падкрэсліць іх боскае паходжанне[4].

Што ж да Беларусі, то пранікненне сюды заходнееўрапейскіх стыляў пачалося яшчэ ў XII–XIII ст. У айчынным фрэскавым жывапісе раманскія традыцыі праявіліся ў росписах Пятніцкай царквы Бельчыцкага манастыра пад Полацкам. У фрэсцы “Стрэчанне” ўсе фігуры былі размешчаны на адной лініі, над якой уздымалася толькі галава юнага Хрыста, што падкрэслівала значнасць ме-

---

[1] *Лазарев В.* Древнерусские мозаики и фрески. М., 1973. С. 59.
[2] *Самусік А.Ф.* Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. Мн., 2004. С. 63–64.
[3] Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1. Мн., 1972. С. 179–180.
[4] *Качановский В.В.* История культуры Западной Европы. Мн., 1998. С. 51–66.

навіта гэтага персанажа. У фрэсцы "Раскрыжаванне" таксама прасочваюцца раманскія рысы – фігуры Маці Боскай і апостала Іаана, размешчаныя па адзін бок крыжа, былі значна паменшаны і быццам аддалены ад гледача. Акцэнт тут рабіўся на крыжы, у параўнанні з якім нават цела Хрыста здавалася зменшаным[1]. Драматызм моманту падкрэсліваўся напісаным у вельмі экспрэсіўнай манеры тварам Хрыста. Такім чынам, хоць візантыйскі канон жывапісу і дамінаваў у Беларусі, але раманская тэндэнцыя манументалізацыі вобразаў таксама прысутнічала. Мелі раманскія рысы і фрэскі Полацкага храма-пахавальні, які ўваходзіў у комплекс Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра. Можна меркаваць, што роспісы гэтага храма вызначаліся насычанай афарбоўкай і выразнымі лініямі контураў. Асаблівая ўвага ўдзялялася тварам святых, што павінно было сведчыць пра эмацыянальнае напружанне вобразаў[2].

На жаль, аб далейшай эвалюцыі айчыннага фрэскавага жывапісу зараз можна меркаваць толькі тэарэтычна. З прычыны шматлікіх войнаў ды рабаванняў айчыннай гісторыка-культурнай спадчыны, а таксама даволі рэгулярнай перабудовы большасці мясцовых храмаў у Беларусі не захавалася аніводнага прыкладу гатычных фрэсак, хоць пра іх існаванне вядома з дакументальных крыніц (палацы ў Гародні, Полацку, касцёл у Ішкалдзі). Разам з тым творы беларускіх мастакоў (у дакументах называліся "русінамі") ацалелі ў замках і храмах Польшчы, дзе яны з'явіліся пасля Крэўскай уніі і былі вядомы пад назвай "грэчаскага сценапісу" (Гнезна, Люблін, Вісліца, Кракаў і Сандамір). У цэлым для іх характэрны падкрэсленая манументальнасць вобразаў, вытанчаны каларыт, суразмернасць прапорцый, выразнасць малюнка і інш. Новым тут стала ўзмацненне экспрэсіі твораў, што дасягалася ў тым ліку і праз акцэнтаванне ўвагі на найбольш напружаных і драматычных біблейскіх сюжэтах[3].

Пад уплывам заходнееўрапейскага мастацтва зарадзіўся ў Беларусі і свецкі фрэскавы партрэт. Адметнымі рысамі яго сталі "застылыя", амаль безжыццёвыя твары персанажаў, што практычна цалкам адпавядала іканапіснай традыцыі. Разам з тым відавочна і тое, што імкненне да адлюстравання ўнутранага свету чалавека, яго маральнага аблічча ў дадзеных творах мела падкрэслена свецкі пачатак. У якасці прыкладаў можна прывесці фрэскі з выявамі Ягайлы ў Люблiне і Вітаўта ў Троках пачатку XV ст.[4] Вядома, што і ў Віцебску на сцяне Міхайлаўскай царквы таксама меўся партрэт Альгерда з жонкай Ульянай, але ён, на жаль, да нашага часу не захаваўся[5]. Пад Мсціславам яшчэ ў XIX ст. у царкве Ануфрыеўскага манастыра захоўваліся партрэты тутэйшых фундатараў – князя Юрыя Мсціслаўскага (1395–1458) і яго жонкі Соф'і[6].

---

[1] Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1. С. 211.
[2] Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Віцебская вобласць. Мн., 1985. С. 337–338, 356–360; *Рапапорт П.А.* Полоцкое зодчество XII в. // Сов. археология. 1980. № 3. С. 152–156.
[3] Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 1. Мн., 1987. С. 174–183.
[4] *Кацер М.С.* Изобразительное искусство Белоруссии дооктябрьского периода. Мн., 1969. С. 40.
[5] ВС. Т. 1-2. Витебск, 1885. С. 615.
[6] *Без-Корнилович М.О.* Исторические сведения о примечательных местах в Белоруссии. С. 184.

Эвалюцыяніравала ў азначаны перыяд і тэхніка стварэння абразоў. Асобна вылучаўся тут палеска-валынскі іканапіс. Найбольш ранні з ацалелых абразоў – "Маці Божая Дарагабужская" (мяжа XIII–XIV ст.). У пінскай Варварынскай царкве дагэтуль захоўваецца абраз "Маці Адзігітрыя Божая Іерусалімская", які датуецца XV ст. На пазалочаным фоне тут прадстаўлена сама Маці Божая з маленькім Хрыстом у левай руцэ. Галоўны акцэнт быў зроблены на твар Маці Божай – у адпаведнасці з традыцыяй ён суровы і падкрэслена ўрычысты. Добра была падабрана і каларыстычная гама з дамінаваннем сініх і цёмна-чырвоных таноў. У верхніх вуглах абраза былі размешчаны выявы анёлаў, якія трымалі сімвалы будучых пакут Хрыста[1]. У цэлым гэты выдатны твор іканапісу насычаны ўнутранай гармоніяй, духоўным адзінствам, а яго кампазіцыйнае рашэнне адметнае сваёй велічнасцю, што характэрна для кананічнай візантыйскай манеры рэлігійнага жывапісу[2].

Разам з тым, згодна з апісаннямі, пранікалі ў айчынны іканапіс і гатычныя традыцыі, якія праяўляліся ў нервовай, ломкай лініі, якой мадэляваліся рысы твару і рук, імклівым, кінутым у бок позірку, выцянчаным сілуэце і ў выразным рытме складак адзення[3].

З працягам летапісання і перапісвання кніг далейшае развіццё ў Беларусі атрымала гравюра, у якой візантыйскія традыцыі таксама цесна перапляліся з раманска-гатычнымі. Адметнасцю яе ў тыя часы стала значнае пашырэнне побач з выявамі людзей так званага звярынага стылю. У апошнім, дарэчы, акрамя рэальна існуючых жывёл ды птушак прысутнічалі і фантастычныя істоты з народных казак і паданняў (кітаврас, птушка-сірын). Важным фактарам у трансфармацыі кніжнай гравюры стала ўзмацненне сувязей ВКЛ з Балгарыяй і Сербіяй, адкуль у азначаны перыяд прыязджалі майстры-ізографы. Іх уплыў праявіўся ў першую чаргу ва ўключэнні ў аздабленне тэксту складаных геаметрычных арнаментальных кампазіцый з ромбаў, авалаў, квадратаў, кругоў і г.д. Найлепшым чынам усе вышэй пералічаныя рысы былі ўвасоблены ў зробленых у XIV–XV ст. Мсціжскім, Друцкім, Полацкім нядзельным і Жыровіцкім евангеллях, а таксама Смаленскім псалтыры.

Найвыдатнейшым тагачасным дакументальным помнікам з'яўляецца Радзівілаўскі летапіс, які, верагодна, быў створаны ў Смаленску ў 1485–1495 гг. Сам яго тэкст мае традыцыйны змест ("Аповесць мінулых гадоў" і апісанне падзей у Паўночна-Усходняй Русі за 1112–1206 гг.)[4]. Непаўторнасць яму прыдаюць 617 каляровых мініяцюр, тэматычна звязаных з матэрыялам. Зроблены яны пад несумненным уплывам мастацтва Заходняй Еўропы і маюць унікальны апавядальны характар – паказваюць знешні выгляд тагачасных гарадоў і асобных будынкаў, адзенне людзей, іх заняткі, рэчы паўсядзённага ўжытку, прылады працы і зброю. Асобныя мініяцюры апавядаюць пра ваенныя паходы, бітвы, паўстанні і іншыя адметныя падзеі мінулага – "Рагнеда і Рагвалод", "Бітва на Нямізе", "Вызваленне кіяўлянамі Усяслава Чарадзея"[5].

[1] Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 1. С. 193.
[2] *Лазарев В.Н.* Византийская живопись. М., 1971. С. 261–262.
[3] *Лазука Б.А.* Гісторыя мастацтваў. Мн., 2003. С. 206–208.
[4] Нарысы па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязяў. Кн. 1. С. 75–76.
[5] *Подобедова О.И.* Миниатюры русских исторических рукописей. М., 1968. С. 91–92.

На жаль, тагачасныя скульптуры, якія ўпрыгожвалі храмы і княжацкія палацы, вырабляліся пераважна з дрэва і ў большасці не дайшлі да нашых дзён. Сярод ацалелых вылучаецца выява Хрыста з кампазіцыі "Распяцце" канца XIV ст. з в. Галубічы Глыбоцкага раёна. Суровасць вобраза, акцэнт на пакуты, манументальнасць і лаканізм выразных сродкаў прыдаюць ёй падабенства з аналагічнымі еўрапейскімі раманскімі творамі. У 1470–1480-я гг. былі выкананы скульптурныя выявы архангела Міхаіла (в. Шарашова, Пружанскі раён) і архангела Рафаіла з Товіям (в. Ялава, Пружанскі раён), а ў пачатку XVI ст. вобразы Марыі Магдаліны і Іаана Багаслова (в. Мсцібава, Ваўкавыскі раён). Перавага готыкі тут праявілася ў экспрэсіўнай напружанасці поз персанажаў, выцягнутасці прапорцый іх целаў, быццам бы "накрухмаленых" складках адзення і інш. Цікавым мастацкім помнікам з'яўляецца і "Святы Гжэгаж" (Полацк, канец XV – пачатак XVI ст.). Цалкам рэалістычны вобраз ужо сталага чалавека ў вольнай позе (сядзіць у крэсле) сведчыць пра значныя змены, што адбыліся ў тагачаснай скульптуры[1]. Подых готыкі тут яшчэ вельмі адчувальны (рэзкасць і схематызм у перадачы асобных элементаў адзення, акцэнт на перанесеныя пакуты і стомленасць персанажа), але ёсць тут ужо і новыя рысы – набліжанасць да выявы простага чалавека, увага да яго ўнутранага свету і пачуццё ўласнай годнасці[2].


Святы Гжэгаж.
Пачатак XVI ст.

Распавядаючы пра тагачаснае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, трэба адзначыць далейшае развіццё тэхналогіі і прыёмаў, звязаных з вырабам айчыннымі разьбярамі абразкоў. Унікальным мастацкім помнікам таго часу з'яўляецца славуты абраз "Маці Боская Жыровіцкая". Паводле падання ён вядомы з 1470 г. і ўяўляе сабою адносна невялікі авал з яшмы, на якім змешчана рэльефная выява Маці Божай з маленькім Хрыстом у правай руцэ. Іх фігуры вытанчаны, вакол галоў рэльефныя німбы, а адзенне паказана даволі схематычна – вылучаюцца вузкія промнепадобныя складкі. Згодна з паданнем, гэты абраз знайшлі ў лесе пастушкі, і ў далейшым ён стаў лічыцца цудатворным (шмат разоў узнаўляўся іканапісцамі)[3].

Неабходна таксама асобна спыніцца на працы пінскага майстра Ананія (канец XV – пачатак XVI ст.). У драўляным абразку "Прамудрасць створы сабе храм" ён у круглых медальёнах рознай велічыні паказаў славутыя Саламонавы прытчы. Да таго ж, выкарыстоўваючы рознавысокі аб'ёмны рэльеф, Ананій змясціў побач з імі выявы Маці Боскай, св. Сафіі, Іаана Дамаскіна, анёлаў, шэрага простых людзей у малітоўных позах, а таксама контуры велічнага храма[4].

---

[1] *Конан У.М.* Беларуская мастацкая культура ў эпоху сярэднявечча. С. 13.
[2] *Высоцкая Н.Ф.* Скульптура и резьба Беларуси XII–XVIII вв. Мн., 1998. С. 10, 56, 58–59.
[3] *Пуцко В.* Жыровіцкі рэльеф // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1989. № 2. С. 24.
[4] *Плешанова И.И.* Два резных деревянных образка в собрании Русского музея // Памятники культуры. Новые открытия. Л., 1979. С. 209–217.

**Артыстычныя рамёствы. Музыка.** Важнай прыкметай этнічнасці беларусаў з'яўляецца іх хранатып, які фіксуецца на псіхафізіялагічным узроўні і адлюстроўвае ўспрыманне імі навакольнага асяроддзя. Унікальнасць падобных эмацыйна-пачуццёвых рэакцый можна лічыць характэрнай адметнасцю асобных этнасаў. Іх найлепшае праяўленне – народны фальклор, музыка ды танцы, дзе ў тэмбры, інтанацыях, мелодыі і рытмізаваных рухах праcочваюцца непаўторныя нацыяльныя рысы.

Самабытнай праявай беларускіх народных традыцый і фальклору стала далейшае развіццё ў азначаны перыяд артыстычных рамёстваў. Пры гэтым урбанізацыя і рэгулярнае правядзенне ў большасці з гарадоў буйных кірмашоў прыдалі ім новы імпульс. Неад'емным элементам паўсядзённага жыцця тагачаснага грамадства стала прысутнасць на гандлёвых плошчах гарадоў і мястэчак вандроўных музыкаў (гусляроў, дудароў, лірнікаў), а таксама скамарохаў[1]. Іх творчасць спалучала розныя віды сцэнічнага мастацтва (вакальнае, танцавальнае, цыркавое) і вызначалася імправізацыяй, рэпертуар складаўся з фальклорных і паўсядзённых сюжэтаў (пераважалі сатыра і фарс). Паступова з'явіліся і аселыя музыкі ды скамарохі, якія часцей за ўсё знаходзіліся пры рэзідэнцыях буйных феадалаў. У асобную групу вылучыліся музыкі-самавучкі, што жылі ў сельскай мясцовасці[2]. Акрамя забаўляльнай яны выконвалі і адказныя грамадскія функцыі, бо іх прысутнасць была абавязковай у час каляндарных і сямейных свят ды абрадаў (калядніці, валачобнікі). З часоў Вітаўта пры дварах манархаў і вышэйшых магнатаў вядомыя блазны і "карчы"[3].

Сярод тагачасных народных інструментаў па-ранейшаму значнае месца займалі гуслі, пад якія публіцы распавядаліся старадаўнія быліны і эпічныя паэмы. Арыгінальнымі музычным інструментамі сярэднявечнай Беларусі былі "дуда-каза" ці "валынка", а таксама "ліра-арганіструм" у выглядзе вялікай скрыпкі з ручкай і шэрагам клавішаў[4]. Агульным тут было поліфанічнае гучанне – на фоне "нізкага" гуку, які пастаянна ўзнаўляўся, найгравалася адносна нескладаная мелодыя. Разам з тым ігра на іх усё ж патрабавала пэўнай падрыхтоўкі, а таму большасць вандроўных труп выкарыстоўвала простыя інструменты – трашчоткі, флейты, жалейкі, бубны і г.д. Трэба таксама адзначыць, што з'яўленне падобных прафесійных выканаўцаў узбагаціла і сам беларускі фальклор, надаўшы яму дадатковую меладычнасць, рытмічнасць, гарманічныя звароты і непаўторны каларыт[5].

У азначаны перыяд адбывалася і станаўленне народнага харэаграфічнага мастацтва, якое мела сваімі вытокамі самабытны беларускі фальклор і абрады. Найбольш старажытным жанрам тут лічыцца карагод, які спалучаў песні з гульнямі і танцамі. Апошнія пачынаючы з XIV ст. вылучы-

[1] Музыкальный театр Белоруссии. Дооктябрьский период / Г.И. Барышев [и др.]. Мн., 1990. С. 50–52.
[2] *Без-Корнилович М.О.* Исторические сведения о примечательных местах в Белоруссии. С. 241.
[3] Валачобныя песні / Склад. Г. Барташэвіч, Л. Салавей. Мн., 1980. С. 51–57, 319–330, 411–426; Monumenta medii aevi historica res gestas Poloniae illustrantia. T. 6: Codex epistolaris Vitoldi Magni Ducis Lithuaniae. 1376–1430. Cracoviae, 1882. S. 798–799.
[4] *Назіна І.Д.* Музычная інфармацыя ў Бібліі Францыска Скарыны // Помнікі культуры. Новыя адкрыцці. Мн., 1985. С. 133–134.
[5] Беларуская народная культура. С. 13–18.

ліся на беларускіх землях у самастойны від музычнай творчасці (“Лявоніха”, “Таўкачыкі”, “Крыжачок”, “Мяцеліца”, “Мікіта”, “Лянок”)[1].

На мяжу XIV–XV ст. прыходзіцца і зараджэнне першых айчынных прыватных капэл і аркестраў. Вядома, што Ягайла неаднаразова запрашаў да сябе музыкантаў-русінаў, якія пры выкананні выкарыстоўвалі флейты, трубы, лютні, арфы, віёлы і г.д. Найбольш ранняе ўпамінанне клавікорда ў Еўропе звязана з яго прадстаўленнем у 1408 г. пры двары Вітаўта[2].

Асобным напрамкам у фарміраванні нацыянальнай музычнай культуры можна лічыць царкоўную музыку, якая з'яўлялася абавязковым элементам службы ў храме. Менавіта ў азначаны перыяд адбывалася прыстасаванне візантыйскай пеўчай гімнаграфіі да мясцовых патрэб. Сярод асноўных відаў гэтага музычнага напрамку можна назваць літургічныя і богаслужэбныя спевы, касцельную арганную музыку, царкоўны перазвон. Адметнасцю рэлігійнай музыкі быў яе ўрачыста-эмацыянальны характар, разлічаны на аказанне моцнага знешняга ўздзеяння на просты народ, – малітвы і канты выконваліся салістамі ці хорам, а біблейскія тэксты чыталіся рэчытатывам[3]. Асобнае месца тут займаў так званы “знаменны спеў” ці “асмаглассе” – вакальная сістэма з 8 галасоў-ладоў, што мелі асобныя наборы напеваў, якія адпавядалі царкоўна-каляндарнаму цыклу. Паходзіў ён з Візантыі, але да XV ст. у Беларусі склалася яго рэгіянальная разнавіднасць. Паралельна з ім паступова пашыраўся і аднагалосы богаслужэбны праваслаўны спеў. Найбольшай папулярнасцю ў той час карысталіся царкоўны гімн “Багародзіца”, а таксама збор харавых і сольных песень “Песнапенні аб Ефрасінні Полацкай”[4].

Уздым праваслаўнай музыкі прывёў да пашырэння адпаведных школ (Полацк, Тураў, Віцебск), пачалі складвацца рукапісныя нотныя зборнікі і пеўчыя азбукі. Шэраг рэлігійных тэкстаў распявалася таксама ў традыцыйных дзяменственным, вялікім, малым і грэчаскім стылях. Найбольш пашыраны ў Беларусі былі кіеўскі і балгарскі распевы, а таксама вытворныя ад іх мясцовыя меладычныя варыянты (віленскія, супрасльскія і інш.). Пры гэтым, на думку вядомага айчыннага даследчыка У. Конана, дзякуючы ўсім вышэй пералічаным музычным якасцям праваслаўная літургія па сваёй структуры чымсьці была набліжана да антычнага тэатра, што, зразумела, не датычылася яе зместу і сэнсу[5].

Аналізуючы ў цэлым эвалюцыю айчыннай культуры ў XIV–XV ст., трэба ўлічваць, што ў азначаны час актыўна праходзіла фарміраванне беларускай народнасці. Адкрытая для знешняга культурнага ўздзеяння Беларусь ўвабрала найлепшыя здабыткі як візантыйскіх, так і заходнееўрапейскіх архітэктурна-мастацкіх традыцый. Пашырэнне асветніцтва і пісьменнасці заклала асновы свецкага гуманістычнага светапогляду. Пры гэтым менавіта ў дадзены адрэзак часу на беларускіх землях пачалі

---

[1] *Русецкі А.У.* Мастацкая культура Беларусі. Віцебск, 2002. С. 161; *Няфёд У.І.* Гісторыя беларускага тэатра. С. 10–12.

[2] Музыка Беларусі эпох сярэднявечча і Рэнесанса. Хрэстаматыя / Склад. В.У. Дадзіёмава. Т. 1. Мн., 2005. С. 6–7.

[3] *Конан У.М.* Беларуская мастацкая культура ў эпоху сярэднявечча. С. 8.

[4] Музыка Беларусі эпох сярэднявечча і Рэнесанса. Хрэстаматыя. Т. 1. С. 6, 8.

[5] Беларускае асветніцтва: вопыт тысячагоддзя / Гал. рэд. В.І. Лугоўскі. Кн. 1. Мн., 2000. С. 37.

афармляцца самабытныя рысы народнай культуры (дойлідства, жывапіс, вуснапаэтычная творчасць). Такім чынам, відавочна: мясцовае насельніцтва, кансалідуючыся ў адзіны этнас, актыўна развівала ўласныя духоўныя і матэрыяльныя каштоўнасці, высокі ўзровень якіх сведчыў пра вялікі ўнутраны патэнцыял беларускага народа.

Глава 2

# У РЭЧЫШЧЫ РЭНЕСАНСУ І АГУЛЬНАЕЎРАПЕЙСКІХ ПАВЕВАЎ

## 1. Традыцыі і навацыі ў духоўнай культуры Беларусі

**Характэрныя рысы і своеасаблівасць рэнесансавай культуры.** У XIV–XV ст. у Еўропе адбываўся працэс генезісу капіталістычных адносін і пачынала складвацца буржуазнае грамадства. Яскравай праявай гэтага стаў росквіт культуры. Карэнныя змены ў светаўспрыманні прывялі да рэвізіі здабыткаў Сярэднявечча і спрыялі фарміраванню свецкай культуры Новага часу. Абудзілася нацыянальная самасвядомасць, пачаўся духоўны ўздым, паскорылася развіццё навукі, архітэктуры, мастацтва.

У якасці ідэальнага ўзору была абрана антычнасць, вывучэнне і перапрацоўка культурных традыцый якой далі штуршок новым творчым пошукам, што дазволіла пераадолець састарэлую схаластыку і рэлігійны кансерватызм з іх вузкімі тэалагічна-рэлігійнымі межамі[1]. Гэтая адметнасць новага стылю вызначыла і яго назву. Тэрмін “рэнесанс” паходзіў ад слова renaitre – адраджаць. Узнік новы стылявы напрамак у Італіі. Яго агульнаеўрапейская перыядызацыя ўключае тры асноўныя этапы: протарэнесанс (XIV–XV ст.), Высокае Адраджэнне (канец XV – першая чвэрць XVI ст.), позняе Адраджэнне (другая палова XVI – пачатак XVII ст.)[2]. У адрозненне ад папярэдніх стыляў ідэі Адраджэння творча перапрацоўваліся ў розных краінах з улікам мясцовых традыцый і асаблівасцей. Шырокую вядомасць атрымала Паўночнае Адраджэнне, якое было цесна звязана з Рэфармацыяй і нацыянальна-культурным рухам у Нідэрландах у час буржуазнай рэвалюцыі[3].

Рэнесанс заклаў асновы такой культурнай традыцыі, дзе панаваў свецкі пачатак і прагрэсіўны гуманістычны светапогляд. Адна з галоўных прычын гэтага – узвышэнне “трэцяга саслоўя”, у асяроддзі якога ў акрэслены час сфарміравалася творчая інтэлігенцыя, непасрэдна звязаная з навукай і мастацтвам (літаратары, філосафы, мастакі, скульптары, медыкі, настаўнікі)[4]. Тагачасным ідэалам з’ўляўся ўжо не магутны ры-

[1] *Лосев А.Ф.* Эстетика Возрождения. М., 1978. С. 49–79.
[2] *Качановский В.В.* История культуры Западной Европы. Мн., 1998. С. 67–69.
[3] *Бенеш О.* Искусство Северного Возрождения. М., 1973. С. 102–116.
[4] *Баткин Л.М.* Итальянские гуманисты: стиль жизни, стиль мышления. М., 1978. С. 16–18.

цар з мудрагелістым кодэксам паводзін, а чалавек з пачуццём уласнай годнасці, дзейны і вольны эрудыт-навуковец з глыбокімі і ўсебаковымі ведамі ў карысных для паўсядзённага жыцця прадметах. Італьянскі мысліцель Дж. Піка дэла Мірандала адзначаў: "О вышэйшае і чароўнае шчасце чалавека, якому дадзена мець тое, што пажадае, і быць тым, чым хоча!"[1] Пры гэтым наватарства ў інтэлектуальнай працы стала разглядацца гуманістамі як найлепшы шлях да самавыяўлення і самасцвярджэння.

Менавіта інтэлігенцыя стала ініцыятарам выпрацоўкі новай свецкай ідэалогіі і культуры, дзе на першым месцы стаяў ужо не Бог і хрысціянская царква, а чалавек. Згодна з аптымістычнымі меркаваннямі тагачасных асветнікаў, існавала абсалютная духоўная свабода, якую царква і дзяржава не маглі кантраляваць ніякім чынам[2]. Выходзячы з гэтага, яны лічылі для сябе відавочным, што магчымасці асобы ў самапазнанні і аб'ектыўна-крытычным вывучэнні навакольнага свету нічым не абмежаваны. Істотным лічылася і шырыня кругагляду. Л. да Вінчы падкрэсліваў: "Набыццё ўсялякага пазнання заўсёды карысна для розуму, бо ён зможа адкінуць непатрэбнае і захаваць карыснае"[3].

Вызначальную ролю стала адыгрываць тэорыя аб самакаштоўнасці чалавечага жыцця з канцэнтраваннем увагі на праблемах зямнога прызначэння чалавека. Адсюль бярэ пачатак і ўласцівы Рэнесансу культ рэальнага паўсядзённага жыцця – чалавек павінен быў атрымаць узнагароду за сваю працу яшчэ пры жыцці, а не ў замагільным свеце[4]. Славуты італьянскі вучоны-гуманіст Ф. Петрарка з гэтай нагоды пісаў наступнае: "Пакуль чалавек знаходзіцца тут, ён павінен дамагацца той славы, на якую можа тут разлічваць, а тую, вялікую, ён зазнае на нябёсах, дзе ён не пажадае ўжо і думаць аб гэтай зямной. Значыць, парадак такі, каб смяротныя найперш клапаціліся аб смяротных рэчах і каб вечнае ішло за мінучым"[5].

Якраз падобныя погляды і абумовілі хуткае развіццё ў час Рэнесанса свецкай культуры. Пры гэтым росквіт яе акрамя іншага быў звязаны і з дабрачыннай дзейнасцю мецэнатаў, што паходзілі з заможных колаў грамадства. Свецкая культурная традыцыя акрэсліла новыя творчыя арыенціры і заклала асновы цэлага комплексу адметных мастацка-выяўленчых сродкаў, падыходаў і жанраў[6].

Росквіт Рэнесанса прыйшоўся на XV–XVI ст., калі ў Італіі хуткімі тэмпамі развівалася свецкая архітэктура, навука, літаратура. Славутымі прадстаўнікамі тагачаснага італьянскага мастацтва былі Рафаэль (Рафаэла Санці), Тыцыян (Тыцыяна Вечэліо), Мікеланджэла Буанароці, Бенвенута Чэліні. Дзякуючы кнігадрукаванню і пратэстантызму Рэнесанс

---

[1] История эстетики. Памятники мировой эстетической мысли. Т. 1. М., 1962. С. 508.
[2] *Брагина Л.М.* Итальянский гуманизм. М., 1977. С. 7, 185–194, 223; *Горфункель А.Х.* Философия эпохи Возрождения. М., 1980. С. 96–99.
[3] *Да Винчи, Л.* Избранные естествеинонаучные произведения. М., 1955. С. 12.
[4] *Ревякина Н.В.* Проблемы человека в итальянском гуманизме второй половины XIV – первой половины XV в. М., 1977. С. 27–46, 54–60, 77–80.
[5] *Петрарка Ф.* Автобиография. Исповедь. Сонеты. М., 1915. С. 212.
[6] *Голенищев-Кутузов И.Н.* Итальянское Возрождение и славянские литературы. М., 1958. С. 10; *Саверчанка І.В.* Aurea mediocritas. Кніжна-пісьмовая культура Беларусі. Мн., 1998. С. 24.

пашырыўся і на іншыя рэгіёны Еўропы, дзе сярод яго актыўных прыхільнікаў былі У. Шэкспір, А. Дзюрэр, М. Сервантэс, М. Капернік, М. Мантэнь, Э. Ратэрдамскі, Ф. Рабле і інш.[1]

У цэлым відавочна, што шэрагам важных паказчыкаў Рэнесанс істотна адрозніваўся ад папярэдняй яму сярэднявечнай культуры. Той факт, што новай палітычнай і эканамічнай эліце ўжо не падыходзіў ранейшы аскетызм ды адлучанасць ад свету, якраз і абумовіў станаўленне новай свецкай культурнай традыцыі. Вылучэнне ў асобны элемент грамадства колаў інтэлігенцыі зрабіў немагчымым вяртанне да старых парадкаў, бо прага да ведаў, новыя дасягненні навукі і тэхнікі, а таксама спрадвечнае імкненне людзей да прыгажосці пераадолелі састарэлыя царкоўныя забабоны і кансерватызм, адкрыўшы перад чалавечай цывілізацыяй новыя гарызонты.

**Асноўныя напрамкі развіцця духоўнай культуры Беларусі ў XVI ст.** Калі ў заходнееўрапейскіх краінах Рэнесанс эвалюцыяніраваў паступова, на працягу звыш двух стагоддзяў размываючы феадальны ўклад і ўмацоўваючы ў грамадстве гуманістычны светапогляд, то на беларускіх землях гэтыя падзеі адбыліся ў значна больш кароткі тэрмін і хутчэй нагадвалі некалькі магутных хваляў, якія прынеслі з сабою новае светаўспрыманне і істотным чынам паўплывалі на паўсядзённасць. Пад іх уздзеяннем феадалізм пачаў здаваць свае пазіцыі. Новыя гуманістычныя ідэі перапляталіся з трывалымі пазіцыямі схаластыкі. Свецкія элементы культуры злучаліся з рэлігійнымі, хрысціянскія – з язычніцкімі і мусульманскімі, навуковыя падыходы аб'ядноўваліся з містычнымі. У айчыннай літаратуры адначасова адбывалася крытычнае засваенне лепшых перакладных твораў і стварэнне ўласных арыгінальных прац як свецкага, так і рэлігійнага плану, прычым складанае суіснаванне гэтых фактараў не перашкаджала іх далейшаму ўдасканаленню і развіццю. Наадварот, яны ўзбагачалі адзін аднаго і паскаралі агульную эвалюцыю мясцовага грамадства[2]. Не выклікае сумненняў, што пранікненне на беларускія землі спачатку каталіцызму, а пазней рэнесансавага гуманізму і рэфарматарскіх ідэй абумовіла значнае ўзрастанне агульнай напружанасці ў грамадска-сацыяльнай сферы ВКЛ. Разам з тым гэты факт аказаўся надзвычай спрыяльным для ўмацавання ў рэгіёне свецкай культурнай традыцыі – значна актывізавалася літаратурнае жыццё, кнігавыдавецкая справа, рэзка ўзрасла колькасць навучальных устаноў і друкарань.

У выніку азначаных падзей у Беларусі XVI ст. суіснавалі і ўзаемадзейнічалі самыя розныя традыцыі, падыходы, тэорыі, ідэі і канцэпцыі. Айчынная культура ў гэты час уяўляла сабою дынамічную сістэму, дзе паступальнае развіццё адбывалася праз сутыкненне і сінтэз часам супрацьлеглых поглядаў і тэндэнцый. Прычына гэтага крыецца ў наяўнасці ў тутэйшым грамадстве шматлікіх кансерватыўна-фундаментальных каштоўнасцей, якія склаліся на этапе станаўлення дзяржаўнасці пад

---

[1] *Лосев А.Ф.* Эстетика Возрождения. С. 367–374; *Падокшын С.А.* Беларуская думка ў кантэксце гісторыі і культуры. Мн., 2003. С. 72–73.

[2] *Майхровіч С.К.* Нарыс гісторыі старажытнай беларускай літаратуры XIV–XVIII ст. Мн., 1980. С. 53.

моцным уплывам візантыйскай культурнай традыцыі[1]. Аднак час змяніўся, і апошняя пэўным чынам ужо стала супярэчыць існуючаму на беларускіх землях грамадска-палітычнаму ладу, сваёй артадаксальнасцю стрымліваючы далейшую мадэрнізацыю. Менавіта гэтым можна растлумачыць непрыманне часткай правячай эліты традыцый праваслаўя і пошук альтэрнатывы ў каталіцызме, пратэстантызме і уніяцтве[2].

Пры ўсім гэтым трэба ўлічваць і тое, што Беларусь яшчэ не была ў поўнай меры падрыхтавана да прыходу Новага часу з яго даволі радыкальнай ідэалогіяй. У ВКЛ былі практычна не развіты буржуазныя адносіны, а значная частка тутэйшых гарадоў належала прыватным уласнікам[3]. Што ж да саміх магнатаў, то ў іх асяроддзі рэнесансава-рэфарматарскія павевы ўспрымаліся ў большасці выпадкаў як магчымасць наблізіцца па ўзроўні жыцця да еўрапейскай арыстакратыі. Пры гэтым карэнных змен у бок станаўлення капіталістычнага грамадства яны, зразумела, не пачыналі; наадварот, якраз у гэты час на беларускіх землях актывізавалася, напрыклад, запрыгоньванне сялянства. Іх намаганні па ўкараненні асобных традыцый Рэнесанса ў асяроддзі сваіх падданых (наданне гарадам частковага магдэбургскага права, адкрыццё друкарняў і школ) не неслі асаблівай пагрозы існуючаму ладу[4]. Прычына гэтага крыецца ў слабым руху ў адказ з боку мяшчанства, якому пакуль яшчэ была ўласціва недастатковая ідэйная і сацыяльна-палітычная сталасць.

Такім чынам, эпоха Адраджэння на беларускіх землях сутыкнулася з моцным супрацьдзеяннем, якое не дазволіла ёй разгарнуцца тут у поўнай меры. Сярод асноўных праяў спецыфічнасці Новага часу ў ВКЛ можна назваць наступныя. Па-першае, у Беларусі часоў Рэнесанса адчувальным было імкненне знайсці кампраміснае рашэнне праблемы суіснавання традыцыйна-кансерватыўнага і гуманістычнага светапоглядаў. У выніку адбылося іх творчае засваенне з выбарам найбольш актуальных на дадзеным этапе развіцця норм, каштоўнасцей, прынцыпаў і ідэй. Па-другое, пры такім падыходзе на беларускіх землях даволі востра стала адчувацца шматукладнасць тагачаснага грамадства. Пры гэтым царква і рэлігія захавалі адно з вядучых месц у дзяржаве, з чым акрамя іншага звязана і параўнальна слабае развіццё мясцовай свецкай культуры. У той жа час сам гуманістычна-рэнесансавы светапогляд у ВКЛ найбольш праявіўся ў якасці рэлігійнага рацыяналізму і вальнадумства. Па-трэцяе, як след вышэй азначаных фактараў у айчынных гарадах яшчэ не атрымаў належнага развіцця раннебуржуазны індывідуалізм, а панаваў хутчэй грамадзянскі гуманізм. Па-чацвёртае, незавершанасць культурна-нацыянальнай кансалідацыі беларусаў і шматэтнічны характар ВКЛ пры адначасовым моцным знешнім уздзеянні прывялі да пашырэння полілінгвізму ў айчынным грамадстве, што істотна паўплывала на станаўленне новай свецкай літаратуры. Па-пятае, запозненае з'яўленне ў Беларусі рэне-

---

[1] *Кацер М.С.* Народно-прикладное искусство Белоруссии. Мн., 1972. С. 46.

[2] Гісторыя беларускай літаратуры / Пад рэд. М.А. Лазарука, А.А. Семяновіча. Мн., 1998. С. 93.

[3] *Василенок С.И.* Фольклор и литература Белоруссии эпохи феодализма. М., 1961. С. 41–42.

[4] *Падокшын С.А.* Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі. Мн., 1990. С. 45–47.

сансавых ідэй не дазволіла ім радыкальна трасфармаваць тутэйшае грамадства з прычыны пачатку каталіцкай рэакцыі і вяртання старых схаластычных традыцый[1].

З улікам усіх гэтых акалічнасцей распаўсюджанне Рэнесанса ў Беларусі адбывалася ў некалькі этапаў. У першай палове XVI ст. ён толькі пачаў сваё станаўленне ў рэгіёне і ўнёс у грамадскую свядомасць разуменне неабходнасці пэўных змен у духоўна-рэлігійным і сацыяльна-палітычным жыцці. У наступныя дзесяцігоддзі адбыўся ўжо сапраўдны сінтэз агульнаеўрапейскай рэфармацыйна-гуманістычнай традыцыі з мясцовай сацыяльна-палітычнай практыкай. Гэта прывяло да ўмацавання нацыянальнай самасвядомасці і паскарэння фарміравання беларускай народнасці. У пачатку ж XVII ст. па прычыне наступлення контррэфармацыі і цесна звязанага з ёй барока ідэі эпохі Адраджэння страцілі ў Беларусі практычную актуальнасць, але засталіся важным элементам айчыннай сацыяльна-прававой, філасофскай і грамадскай думкі[2].

**Перакладчыцкая і кнігавыдавецкая справа. Ф. Скарына –беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар і асветнік.** У XV – пачатку XVI ст. грамадска-сацыяльнае развіццё ВКЛ праходзіла ў даволі спрыяльных умовах. Значна актывізаўся працэс фарміравання беларускай народнасці і ўмацавання дзяржаўнай самасвядомасці. Не менш важным аказалася і стабільнае гаспадарчае развіццё, якое садзейнічала пашырэнню знешніх сувязей, росту дабрабыту гарадоў і шляхецкага саслоўя.

Яскравай праявай усіх гэтых фактараў стала паскарэнне культурнага развіцця ў цэлым і пашырэнне пісьменнасці ў прыватнасці. Папяровыя рукапісныя кнігі былі куды больш танныя, чым пергаментныя, а таму магчымасць іх набыцця з'явілася і ў сярэдніх землеўласнікаў ды мяшчан. Гэтаму ж спрыяла і больш актыўнае выкарыстанне старабеларускай мовы, што прывяло да дэмакратызацыі і збліжэння з народнай гаворкай царкоўна-славянскай мовы[3].

З улікам усяго сказанага вышэй цалкам лагічным выглядае і пачатак у XV ст. шырокай перакладчыцкай дзейнасці ў Беларусі. У асноўным увага тут звярталася на еўрапейскія творы свецкага ці рэлігійнага характару, якія былі напісаны пераважна на латыні ці нямецкай мове. Пры перакладзе яны звычайна творча перапрацоўваліся з улікам запатрабаванняў мясцовага грамадства.

Асобнае месца ў гэтым працэсе займалі пераклады Бібліі. Адным з першых павеваў Рэнесанса і Рэфармацыі, што дайшлі да Беларусі, было імкненне шырокіх колаў грамадства зрабіць царкоўную службу больш зразумелай. У праваслаўных храмах тагачаснай Беларусі пераважалі рукапісныя царкоўна-славянскія пераклады асобных біблейскіх кніг[4]. Як правіла, яны мелі свае вытокі ў перыядзе асветніцкай дзейнасці Кірыла

---

[1] *Высоцкая Н.Ф.* Своеасаблівасць Рэнесанса ў Беларусі // Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння. Мн., 1994. С. 11; Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии / В.М. Конон [и др.]. Мн., 1977. С. 28, 88–94; *Русецкі А.У.* Мастацкая культура Беларусі. Віцебск, 2002. С. 142.

[2] *Падокшын С.А.* Беларуская думка ў кантэксце гісторыі і культуры. Мн., 2003. С. 76.

[3] *Чапко В.У., Грыцкевіч А.П.* Эпоха Ф. Скарыны // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968. С. 9–14.

[4] Идеи гуманизма в общественио-политической и философской мысли Белоруссии. С. 15.

ды Мяфодзія і альбо былі мясцовага паходжання (перапісаны з візантыйскіх крыніц), альбо траплялі сюды з Расіі (Наўгародская "Генадзіеўская Біблія" 1499)[1].

Пры гэтым тагачаснае духавенства было супраць азнаямлення народных мас з усім тэкстам Бібліі і дазваляла распаўсюджваць толькі вузкаслужбовыя яе часткі (Евангеллі, Псалтыр, Апостал). Пры такім падыходзе сутыкнуліся два супрацьлеглыя кірункі: з аднаго боку, узрастаючы попыт у грамадстве на кнігі і, з другога – нежаданне царквы дзяліцца назапашанымі ведамі.

Выйсце было знойдзена ў пашырэнні свецкай рэнесансавай культуры і новага гуманістычнага светапогляду. Апорай у гэтым сталі гарады і арыстакратыя, якія імкнуліся пазбавіцца ўсеахопнага кантролю царквы. Галоўным сродкам дасягнення пастаўленай мэты аказалася вынаходніцтва кнігадрукавання, што дазваляла знішчыць манаполію манастырскіх скрыпторыяў на выданне кніг.

Як вядома, першынство ў гэтай справе належыць немцу І. Гутэнбергу, які ў сярэдзіне XV ст. заснаваў друкарню ў Майнцы[2]. Пачатак выдавецкай справы быў абумоўлены хуткім грамадска-сацыяльным, эканамічным і культурным развіццём у тагачаснай Еўропе. Друкаваная кніга адрознівалася ад рукапісных твораў, што папярэднічалі ёй, масавасцю і таннасцю, а значыць, была куды больш даступнай. Яе ж арыентацыя на шырокага чытача абумовіла актыўнае выкарыстанне ў кнігадрукаванні менавіта нацыянальных моў[3].


Прага. Фрагмент гравюры Г. Шэдэля. 1493 г.

Асобным накірункам еўрапейскага кнігадрукавання стала выданне твораў, набраных кірылічным шрыфтам. Ужо ў 1488 і 1489 гг. адпаведна ў Празе і Кутна-Горы ўбачылі свет першыя друкаваныя пераклады Бібліі на чэшскую мову, дзе шырока ўжываліся адметныя праявы народнай гаворкі. У 1491 г. у Кракаве была заснавана прыватная друкарня Ш. Фіёля, якая таксама выкарыстоўвала кірылічны шрыфт ("Васьмігалоснік", "Часаслоў")[4]. Адным з вядучых цэнтраў кнігадрукавання на славянскай мове на мяжы XV–XVI ст. стала Венецыя. Менавіта ў тутэйшых выданнях найлепш праявілася імкненне асветнікаў эпохі Рэнесанса аддаць нацыянальным мовам першынство ва ўсіх аспектах паўсядзённага жыцця. У прадмове да выдадзенай тут "Бібліі Чэшскай" (1506) адкрыта гавары-

[1] Нарысы па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязяў / В.А. Кавалеика [і інш.]. Кн. 1. Мн., 1993. С. 92, 142–143; *Міроўскі Я.Л.* "Генадзіеўская Біблія" // Францыск Скарына і яго час. Мн., 1988. С. 302.

[2] *Василенок С.И.* Фольклор и литература Белоруссии эпохи феодализма. С. 116.

[3] *Киселева Л.И.* Письмо и книга в Западной Европе в средние века. СПб., 2003. С. 190–195.

[4] Живописная Россия. Т. 3. Ч. 1. СПб.; М., 1882. С. 99.

лася аб неабходнасці пашырэння народнай асветы і друкарскай справы сярод усіх славянскіх народаў[1].

Падобныя меркаванні падзяляла большая частка тагачаснага грамадства, у тым ліку і ў ВКЛ. Уладнай эліце, да таго ж, друкарні былі неабходны для стабілізацыі становішча ў заканадаўчай сферы і пашырэння сярод насельніцтва дзяржаўнай ідэалогіі. Гараджане ж бачылі ў іх дзейнасці магчымасць аблегчыць сваім дзецям доступ да адукацыі.

Менавіта апошні фактар стаў для з'яўлення кнігадрукавання ў ВКЛ вырашальным. 6 жніўня 1517 г. у Празе, у прыватнай друкарні, Ф. Скарына (каля 1490 г. – каля 1551 г.) выдаў "Псалтыр" – богаслужэбную кнігу, якая ў тыя часы ў Беларусі актыўна выкарыстоўвалася ў якасці дапаможніка пры навучанні чытанню і пісьму ў школах граматы. Сам айчынны першадрукар так абазначыў мэты сваёй кнігі ў прадмове: "детем малым початок всякое доброе науквы, дорослым помножение в науце"[2].

Славуты ўраджэнец Полацка – яскравы прадстаўнік новага часу – эпохі Адраджэння. Яго бацька Лука Скарына быў заможным купцом, ажыццяўляў гандлёвыя аперацыі з Вільняй і Рыгай. Назапашаныя ім сродкі дазволілі Ф. Скарыне атрымаць выдатную па тым часе адукацыю ў Кракаўскім і Падуанскім універсітэтах. Пражскі перыяд яго жыцця стаў найбольш удалым – на працягу 1517–1519 гг. ён выдаў у гэтым горадзе 23 кнігі Старога Запавету. Пасля пераезду ў Вільню Ф. Скарына арганізаваў першую ў ВКЛ друкарню, у якой убачылі свет "Малая падарожная кніжыца" (1522) і "Апостал" (1525)[3]. Яго асабісты літаратурны талент найлепш праявіўся ў прадмовах і пасляслоўях да гэтых выданняў. Яны вызначаліся арыгінальным філасофска-разважальным, павучальным і маральна-эстэтычным зместам і сцвярджалі годнасць чалавечай асобы, а таксама веру першадрукара ў сілу розуму чалавека і яго неўтаймоўнае імкненне да ведаў і асветы.


Партрэт Ф. Скарыны. 1517 г.

Нягледзячы на тое што ўсе выданні Ф. Скарыны былі рэлігійнага характару і арыентаваліся на ранейшыя рукапісныя крыніцы, царкоўна-славянскі тэкст тут быў істотна набліжаны да беларускай народнай мовы (у галіне фанетыкі, граматыкі і лексікі). Дзякуючы гэтаму архаічныя і састарэлыя словы ды звароты замяняліся пашыранымі аналагамі з народнай паўсядзённай гаворкі. Гэта дазволіла Ф. Скары-

[1] Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры / Ю.С. Пшыркоў. Т. 1. Мн., 1968. С. 165.
[2] *Скарына Ф.* Творы: прадмовы, сказанні, пасляслоўі, акафісты, пасхалія. Мн., 1990. С. 17.
[3] *Бярозкіна Н.* Францыск Скарына – беларускі асветнік і першадрукар // Гісторыя выдавецкай дзейнасці ў Польшчы і Беларусі ў XVI – XX стст. Мн., 2003. С. 8–12.

не, не парываючы цалкам з царкоўнай пісьмовай традыцыяй, зрабіць свае выданні больш зразумелымі і даступнымі для ўсіх жадаючых[1]. Сярод асноўных мэт, якія ставіў перад сабою айчынны першадрукар, можна вылучыць пашырэнне духоўнай асветы сярод простага народа, а таксама выхаванне ў яго высокіх маральных і грамадзянскіх якасцей.

Першынство Беларусі ў кнігавыдавецкай справе заклала пачатак яе лідэрству ва ўсходнеславянскім рэгіёне па агульным узроўні развіцця культуры. Адбылося гэта шмат у чым дзякуючы дзейнасці пратэстантаў, якія з сярэдзіны XVI ст. распачалі сваю актыўную працу ў ВКЛ. Менавіта імі была прадоўжана і кнігавыдавецкая справа на беларускіх землях. Так, у 1553 г. у Берасці была выдадзена Біблія, у тэкстах якой добра прасочваўся ўплыў беларускай народнай мовы[2]. Вядомы дзеяч Рэфармацыі С. Будны (каля 1530 г. – 1593 г.) надрукаваў у 1562 г. у Нясвіжы беларускамоўны Катэхізіс[3]. У далейшым ён стаў ініцыятарам перавыдання Бібліі (1572), Новага Запавета (1574), а таксама аўтарам шэрага палемічных трактатаў. Яго сучаснікам і аднадумцам быў В. Цяпінскі (1530-я гг. – каля 1600 г.), які ў 1570-я гг. ажыццявіў пераклад на родную мову і выданне Евангелля[4]. Няцяжка заўважыць, што ў адрозненне ад заходнееўрапейскіх гуманістаў айчынныя асветнікі другой паловы XVI ст. не адвяргалі цалкам здабыткі Сярэднявечча, а творча перапрацоўвалі іх з улікам новых павеваў і ідэй.

Вялізнае значэнне для развіцця як кнігавыдавецкай справы, так і ўсёй айчыннай літаратуры мела дзейнасць у 1574–1623 гг. прыватнай друкарні братоў Лукі і Кузьмы Мамонічаў у Вільні. Выдавала яна кнігі самага шырокага спектра. У 1586 г. тут быў надрукаваны “Трыбунал абываталям Вялікага княства Літоўскага”, а праз два гады – трэці Статут ВКЛ. З’яўленне гэтых зборнікаў юрыдычных дакументаў было надзвычай актуальным і паспрыяла істотнаму змяншэнню негатыўных вынікаў для ВКЛ ад заключэння Люблінскай уніі. Мамонічы актыўна фінансавалі і выданне рэлігійнай літаратуры (Часаслоў, Апостал, Псалтыр, Евангелле, “Павучанні” І. Дамаскіна і І. Златавуста), якая шырока выкарыстоўвалася ў тагачасным навучальным працэсе. Меліся сярод прадукцыі друкарні і непасрэдна вучэбныя выданні (“Граматыка славенская”, “Дыялектыка”, “Буквар”). Усяго ж за час дзейнасці друкарні выйшла 85 кніг, пераважна беларускамоўных[5].

Трэба ўлічваць, што друкарня Мамонічаў была не адзінай у тагачаснай Беларусі. Да сярэдзіны XVII ст. тут было заснавана 30 падобных майстэрань па выпуску разнастайнай кніжнай прадукцыі. Палова з іх сканцэнтравалася ў Вільні, а іншыя працавалі ў Менску, Магілёве, Заблудаве, Буйнічах, Слуцку, Куцеіне, Ашмянах, Любчы, Лоску, Супраслі і г.д.[6] У цэлым да 1599 г. у ВКЛ было выдадзена 324 кнігі, з якіх 151 на латыні, 114 на польскай, 50 на беларускай і 9 на іншых мовах[7].

---

[1] *Алексютовіч М.А.* Светапогляд Ф. Скарыны / 450 год беларускага кнігадрукавання. С. 101–113.
[2] *Лабынцаў Ю.* Пачатае Скарынам. Беларуская друкаваная літаратура эпохі Рэнесанса. Мн., 1990. С. 170.
[3] *Сыракомля У.* Вандроўкі па маіх былых ваколіцах. Мн., 2002. С. 96.
[4] Гісторыя беларускай літаратуры. С. 182–186, 202.
[5] *Прашковіч М.І.* Культурна-асветная роля друкарні Мамонічаў // 450 год беларускага кнігадрукавання. С. 158–168.
[6] *Саверчанка І.В.* Aurea mediocritas. С. 22–23.
[7] *Анушкин А.* На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970. С. 3.

**Свецкая літаратура.** Не менш важным кірункам пашырэння свецкай культуры стала арыентацыя яго паслядоўнікаў на традыцыі антычнасці. Пераклады славутых старажытнагрэчаскіх і старажытнарымскіх твораў былі вядомы і ў сярэднявечнай Еўропе, але якраз у час Рэнесанса ўзнаўляецца не абмежаваная рэлігійнымі забабонамі свецкая літаратурная традыцыя, якая не прызнавала ніякіх перашкод у стваральнай творчасці і сцвярджала першынство агульначалавечых каштоўнасцей. Спроба адрадзіць "сапраўдную латынь" часоў Рымскай імперыі і жаданне наблізіцца ў творчым пошуку да славутых тагачасных аўтараў стымулявала развіццё рэнесансавай паэзіі.

У Беларусі пачынальнікам свецкай літаратурнай традыцыі можна лічыць Міколу Гусоўскага (1470-я гг. – пасля 1533 г.). У 1523 г. у Кракаве ён выдаў героіка-эпічную паэму "Песня пра зубра", напісаную ім пад уплывам ідэй Адраджэння ў час знаходжання ў Італіі. Змест твора заснаваны на асабістых назіраннях, уражаннях і перажываннях аўтара, вызначаецца арыгінальнасцю і самабытнасцю. Зубр у паэме – гэта алегарычны вобраз роднага краю, яго магутнасці. З вялікім мастацкім талентам апісаў М. Гусоўскі маляўнічую прыроду Беларусі і паляванне на зубра. Гістарычна дакладна і праўдзіва ён падаў гераічнае мінулае ВКЛ, усл авіў постаць Вітаўта, даў трапныя апісанні заняткаў і звычаяў беларусаў[1]. Чырвонай ніткай праз усю паэму праходзіць галоўная ідэя тагачасных гуманістаў – глыбокая пашана да чалавека як да разважлівай, дзейнай, гарманічна развітой духоўна і фізічна асобы, перад якой адкрыты ўсе магчымасці да далейшага самаўдасканалення[2].

Прадаўжальнікам паэтычнай традыцыі ў Беларусі быў Андрэй Рымша (каля 1550 г. – пасля 1595 г.). У 1581 г. ён выдаў рыфмаваную "Храналогію", у якой біблейскія падзеі былі размеркаваны па каляндарным прынцыпе. Цікава, што паэт, нягледзячы на сціслыя памеры твора, даў найменні кожнага месяца на трох мовах (старабеларускай літаратурнай, старажытнаяўрэйскай, народнай)[3]. Менавіта А. Рымша стаў пачынальнікам у ВКЛ і панегірычнай паэзіі: яму належаць прасякнутыя патрыятычным духам вершаваныя беларускамоўныя ўхваленні на гербы А. Валовіча (1585), Л. Сапегі (1588) і Ф. Скуміна (1591)[4]. Знаходзячыся на службе ў К. Радзівіла, ён прысвяціў яму паэму-панегірык (1585), напісаную ў выглядзе ўспамінаў пра ўдзел князя ў Лівонскай вайне з майстэрскім апісаннем батальных сцэн[5].

Дзейнасць айчынных рэфарматараў у галіне культуры ўскалыхнула тутэйшае грамадскае жыццё. Рэлігійнае вальнадумства ў гэты час развівалася ва ўмовах складвання ў ВКЛ раннебуржуазных адносін, а таму ўздзейнічала на даволі шырокія колы насельніцтва Беларусі. Гуманізм, рацыяналізм і верацярпімасць сталі асноўнымі прынцыпамі, што хвалявалі тагачаснае грамадства. Дзякуючы гэтаму на беларускіх землях узнікае новы від кніжнасці – палемічная літаратура, у якой канкрэтныя

---

[1] *Гусоўскі М.* Песня пра зубра: На лацінскай, беларускай і рускай мовах. Мн., 1980. С. 57–60, 69–75, 80–82, 94–100, 104–105.
[2] *Конон В.М.* От Ренессанса к классицизму. Становление эстетической мысли Белоруссии. М., 1978. С. 55–63.
[3] Гісторыя беларускай літаратуры: Старажытны перыяд. Мн., 1998. С. 272–274.
[4] Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. У 2 т. Т. 2. Мн., 2006. С. 524.
[5] *Саверчанка І.В.* Старажытная паэзія Беларусі. Мн., 1992. С. 41–55, 94–103, 208–211.

прыклады з рэальнага жыцця прывязваліся да пэўных пастулатаў, узятых з твораў антычных і схаластычных аўтараў ці дзеячаў эпохі Адраджэння.

Пачаткам ажыўленай рэлігійнай палемікі ў ВКЛ лічыцца 1577 год, калі ў Вільні была надрукавана кніга езуіта П. Скаргі "Аб адзінстве Царквы Божай". Яе аўтар абгрунтоўваў неабходнасць з'яднання каталіцкай і праваслаўнай канфесій згодна з пастулатамі Фларэнтыйскай уніі. Дадзеная праца не пакінула абыякавай значную частку айчыннага грамадства, якое падзялілася на прыхільнікаў і праціўнікаў гэтай прапановы. У палеміцы прынялі ўдзел вядомыя літаратары, а таксама палітычныя ды рэлігійныя дзеячы таго часу – В. Суражскі, М. Сматрыцкі, А. Курбскі, І. Пацей і інш.[1] Канкрэтным вынікам яе стала заключэнне Берасцейкай царкоўнай уніі.

Пашыраным жанрам палемічнай літаратуры аказаліся сацыяльна арыентаваныя прамовы-пропаведзі, у якіх асуджалася ўзмацненне прыгону (Якуб з Калінаўкі, Л. Крышкоўскі), паглыбленне маёмаснай ды юрыдычнай няроўнасці (Павел з Візны), абаранялася свабода сумлення і роўнасць усіх канфесій (Пётр з Гонёндза)[2].

Славутымі тагачаснымі публіцыстамі з'яўляліся азначаныя вышэй рэфарматарскія друкары. Выдатны прамоўца С. Будны, напрыклад, стаў аўтарам шэрага філасофскіх ды багаслоўскіх трактатаў, у якіх прадэманстраваў майстэрскае валоданне рознымі літаратурнымі прыёмамі і добрае веданне логікі, гісторыі, філалогіі ("Пра дзве прыроды Хрыста" (1575), "Пра найважнейшыя палажэнні хрысціянскай веры" (1576), "Пра свецкую ўладу" (1583) і г.д.). Галоўная іх мэта заключалася ў выпрацоўцы аўтарам уласнага рацыянальнага бачання маральна-этычнага ідэалу, які б панаваў у пабудаванай па законах справядлівасці ўзорнай дзяржаве. Згодна з меркаваннем С. Буднага, у апошняй павінна дамінаваць сацыяльная гармонія і мірнае суіснаванне ўсіх колаў грамадства, а асветны манарх павінен кіраваць сваімі падданымі толькі з улікам парад мудрых і вучоных набліжаных. Пры гэтым С. Будны лічыў недапушчальным дагматызм, нецярпімасць і фанатызм[3].



Сымон Будны

Блізкіх поглядаў прытрымліваўся і В. Цяпінскі (Амельяновіч). Ён адзін з першых у ВКЛ акцэнтаваў увагу грамадства на неабходнасці абароны і развіцця народнай мовы і асветы як важнейшых фактараў умацавання самасвядомасці, этнічнай індэнтычнасці тутэйшага грамадства[4]. Занепакоены заняпадам айчыннай культуры, асветнік заклікаў уладную

---

[1] *Саверчанка І.В.* Aurea mediocritas. С. 92–104.

[2] Идеи гуманизма в общественно-политнческой и философской мысли Белоруссии. С. 33–35.

[3] *Саверчанка І.В.* Сымон Будны – гуманіст і рэфарматар. Мн., 1993. С. 72–81, 115–120, 128–134, 153–159, 165–174, 191–201.

[4] Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Мн., 1961. С. 90.

эліту да пашырэння фундатарскай справы і актыўнага змагання супраць паланізацыі і акаталічвання[1].

Еўрапейскую вядомасць атрымалі публіцыстычныя творы яшчэ аднаго тагачаснага айчыннага палітычнага дзеяча і філосафа – А. Волана (1530 – 1610). У яго трактатах "Пра палітычную, або грамадзянскую свабоду" (1572), "Пра шчаслівае жыццё, або найвышэйшае чалавечае дабро" (1596), "Пра ўладара і ўласцівыя яму дабрачыннасці" (1608) панаваў рыцыянальна-натуралістычны светапогляд, згодна з якім кожны грамадзянін павінен мець свабоду ў асабістым жыцці і карыстанні маёмасцю, падпарадкоўваючыся пры гэтым у першую чаргу маральна-этычным прынцыпам: "як хочаце, каб з вамі абыходзіліся людзі, так і вы абыходзьцеся з імі"[2]. Агульная ж мэта дзяржаўнага кіравання, на яго думку, заключалася ў дасягненні агульнай карысці і сацыяльнага міру.

Сярод іншых тагачасных твораў неабходна адзначыць трактат Міхалона Літвіна "Пра норавы татар, літвінаў і маскавітаў" (каля 1550 г.). У ім аўтар ідэалізуе ВКЛ часоў Вітаўта і параўноўвае яго ў сучасным стане з Маскоўскім царствам. Ён заклікае да значных гаспадарчых рэформаў (падаткаабкладанне магнацкіх ды шляхецкіх маёнткаў, змяненне сістэмы размеркавання дзяржаўных пасад) і пашырэння такіх спрадвечных маральных прынцыпаў, як працавітасць ды ўмеркаванасць. Акрамя таго, у творы давалася апісанне побыту мясцовага насельніцтва, прыводзіліся звесткі пра становішча жанчын у тагачасным грамадстве і г.д.[3] У першай палове XVII ст. была створана славутая сатырычная "Прамова Мялешкі". У гэтай гумарыстычнай беларускамоўнай пародыі на сеймавую прамову (нібыта казанай смаленскім кашталянам І. Мялешкам) крытыкаваліся норавы і звычкі шляхты, асуджалася знішчэнне народных традыцый і бяздумнае перайманне ўсяго замежнага (у першую чаргу – польскага і нямецкага)[4].

Пад уплывам Рэнесанса зарадзіўся ў Беларусі і літаратурны эпістолярны жанр. Найбольш ранняй яго праявай сталі беларускамоўныя "Водпісы" аршанскага старосты Ф. Кміты-Чарнабыльскага. Усяго захавалася каля 30 яго лістоў-данясенняў у Вільню (1573–1574). Тут ён не толькі апісваў падзеі Лівонскай вайны, але і разглядаў унутраныя праблемы рэгіёна, крытыкаваў уладную эліту за бяздзейнасць і адсутнасць патрыятызму[5]. Асаблівую літаратурную каштоўнасць гэтам водпісам надае тое, што староста ўдала выкарыстоўваў для падмацавання сваіх аргументаў народныя прымаўкі і прыказкі[6].

З азначанага бачна, што пад уплывам эпохі Адраджэння ўзрастала цікавасць да так званай "гісторыі паўсядзённасці". Вынікам гэтага стала зараджэнне айчыннай аўтабіяграфічнай прозы, што праявілася ў з'яўленні шматлікіх запісак, мемуараў і дыярыушаў. Іх стваральнікамі былі

---

[1] Гісторыя палітычнай і прававой думкі Беларусі. XVI–XVIII стст. Хрэстаматыя / Пад рэд. Т.У. Доўнар. Мн., 2004. С. 193–198.
[2] *Сокол С.Ф.* Социологическая и политическая мысль в Белоруссии во второй половине XVI века. Мн., 1974. С. 64–100.
[3] *Литвин М.* О нравах татар, литовцев и москвитян. М., 1994. С. 35–43, 75–88, 94.
[4] Гісторыя беларускай літаратуры: Старажытны перыяд. С. 213–215.
[5] *Саверчанка І.* Эпісталярная спадчына Філона Кліты-Чарнабыльскага // Беларускі гістарычны часопіс. 2006. № 5.
[6] Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці. Мн., 1975. С. 11–25, 87.

прадстаўнікі шляхецкага і духоўнага саслоўя, а самі творы ўяўлялі сабой літаратурна-гістарычныя ўспаміны аўтараў пра важныя гістарычныя падзеі, непасрэднымі сведкамі якіх яны былі. Пры гэтым панаваў хранагічны прынцып падачы матэрыялу.

Адным з першых падобных твораў у Беларусі стаў ананімны “Дзённік Люблінскага сейма 1569 года”, дзе падрабязна, з майстэрскім апісаннем нават самых дробных бытавых сцэнак, распавядаецца пра няўдалую барацьбу прадстаўнікоў ВКЛ за захаванне самастойнасці сваёй краіны. Сапраўднымі патрыётамі тут паказаны літоўскі падканцлер А. Валовіч і жамойцкі староста Я. Хадкевіч[1]. Пры гэтым прамова старосты перад каралём, сенатарамі і пасламі 27 чэрвеня 1569 г. – гэта, безумоўна, лепшы ўзор тагачаснага аратарскага майстэрства[2]. Яна прасякнута глыбінным філасофска-патрыятычны сэнсам, адзначана трагедыйным духам і насычана непаўторнымі эмацыянальна-вобразнымі адступленнямі. Не меншае значэнне маюць і “Гістарычныя запіскі” Ф. Еўлашоўскага (другая палова XVI – пачатак XVII ст.), у якіх апісваліся падзеі Лівонскай вайны і таксама ўзгадваўся працэс падпісання Люблінскай уніі[3]. Сярод іншых тагачасных мемуараў трэба адзначыць лацінамоўныя 8-томныя “Пэрэгрынацыі” князя М. К. Радзівіла Сіроткі, дзе ён літаратурна дасканала і маляўніча распавядаў пра свае замежныя вандраванні (1601)[4].

Дзённік Люблінскага сейма 1569 г. Першая старонка

Некаторыя з мемуараў набывалі арыгінальныя, спецыфічныя рысы. Напрыклад, праваслаўны святар Фёдар Філіповіч Магілёвец у сваіх нататках не столькі адлюстраваў падзеі, звязаныя асабіста з ім, колькі прысвяціў уласныя запісы гісторыі родных мясцін[5]. Так з’явіўся унікальны Баркалабаўскі летапіс, дзе бурлівыя падзеі XVI ст. паказаны на фоне жыцця невялікай вёскі пад Быхавам[6]. Побач з апісаннем тагачаснага жыцця аднасяльчан (1563–1608) аўтар распавядае пра пабудову Магілёўскага замка, захоп Полацка войскам Івана Грознага, Берасцейскую царкоўную унію і г.д. Змешчаны тут і цікавыя дакументы – ліст Івана Грознага да Стэфана Баторыя (1580), грамата Жыгімонта III (1592), “Універсал рокашу 1606 г.”[7]

[1] Дневник Люблинского сейма 1569 года. СПб., 1869. С. 12–14, 176–178, 395–396, 407, 408, 411, 415, 424–425.
[2] Там жа. С. 467–471.
[3] *Свяжынскі У.М.* “Гістарычныя запіскі” Ф. Еўлашоўскага. Мн., 1990. С. 14–23, 90–122.
[4] Кніга жыцій і хаджэнняў / Уклад. А. Мельнікаў. Мн., 1994. С. 165–448.
[5] *Вайтовіч Н.Т.* Баркалабаўскі летапіс. Мн., 1977. С. 6–17; *Улащик Н.Н.* Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985. С. 79–81.
[6] Полное собрание русских летописей (далей – ПСРЛ). Т. 32. М., 1975. С. 174–192.
[7] Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці. С. 26–38.

**Летапісы, афіцыйнае і прыватнае справаводства.** Значнае ўздзеянне новага гуманістычнага светапогляду ў першай трэці XVI ст. адчувала і старадаўняя айчынная рукапісная традыцыя. У першую чаргу гэта адбілася на агульнадзяржаўных творах свецкага характару. Так, летапісы ў азначаны перыяд усё больш белетрызаваліся, а ў іх змест часцей сталі ўключацца вусна-паэтычныя легенды і паданні, а таксама гісторыка-лірычныя аповесці. Напрыклад, тагачасны летапісны звод Красінскага быў дапоўнены такімі славутымі творамі, як "Александрыя" і "Сказанне пра Сівілу-прарочыцу", а летапіс Рачынскага – "Аповесцю пра Трыстана і Ізольду", а таксама "Гісторыяй пра Атылу"[1].

У 1520-я гг. у Вільні на старабеларускай мове была створана "Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага". Зварот да антычнасці тут пад ціскам ідэалагічных запатрабаванняў часу арыгінальным чынам праявіўся ў істотнай карэкціроўцы гісторыі ВКЛ. У яе быў уведзены ў якасці заснавальніка літоўскага народа рымскі патрыцый часоў імператара Нерона Палемон. Гэта дазваляла мясцовай шляхце адстойваць сваё высакароднае паходжанне ад знаці Рымскай імперыі. У творы прыводзяцца і цікавыя рэальныя факты з гістарычнага мінулага Беларусі. Тут маюцца звесткі пра існаванне ў Полацку веча, змешчана эпічнае народнае паданне аб заснаванні Вільні Гедымінам, даецца апісанне язычніцкіх абрадаў, апісваюцца бітвы з крыжакамі і татарамі[2]. У сярэдзіне XVI ст. хроніка была дапоўнена яшчэ і лірыка-сатырычнай "Аповесцю пра Жыгімонта і Барбару Радзівіл", у якой распавядалася пра каханне і тайнае вянчанне вялікага князя літоўскага і караля Польшчы Жыгімонта II Аўгуста і дачкі аднаго з найбольш уплывовых тагачасных магнатаў Беларусі. Падзеі ў гэтым творы адбываліся на шырокім гістарычным фоне. Пры гэтым невядомы аўтар з пэўнай доляй іроніі апісаў тагачаснае шляхецкае асяроддзе ВКЛ і Польшчы[3].

Важным этапам у развіцці беларускага летапісання і беларускай гістарычнай прозы стала створаная ў жанры займальнай гістарычнай аповесці "Хроніка Быхаўца" (першая трэць XVI ст.). Гэта самы поўны звод агульнадзяржаўных летапісаў і хронік, які ўключаў Беларуска-літоўскі летапіс 1446 г., Галіцка-Валынскі летапіс, Хроніку ВКЛ і інш. Акрамя таго, сюды былі ўключаны ў якасці завершаных белетрызаваных твораў асобныя гістарычныя апавяданні (паход Альгерда на Маскву, паражэнне арміі Вітаўта на р. Ворскле, апісанні Грунвальдскай ды Клецкай бітваў), а таксама гісторыі ўзнікнення асобных родаў (Алелькавічы, Гаштольды)[4]. Сваю назву твор атрымаў ад прозвішча памешчыка А. Быхаўца, у бібліятэцы якога ў 1820-я гг. яна была знойдзена (маёнтак Магілёўцы пад Ваўкавыскам)[5]. Пагадовыя запісы ў ім арганічна звязаны з гістарычнымі паданнямі і разважаннямі храніста. Асаблівая ўвага тут надаецца аповесці пра Міндоўга і Войшалка, княжанням Гедыміна, Альгерда, Ві-

---

[1] ПСРЛ. Т. 35. М., 1980. С. 11–12.
[2] *Чамярыцкі В.* Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. Мн., 1969. С. 144–162.
[3] Беларускія летапісы і хронікі / Уклад. У. Арлоў. Мн., 1997. С. 173–176; ПСРЛ. Т. 35. С. 282.
[4] Хроника Быховца / Отв. ред. М.Н. Тихомиров. М., 1966. С. 58–59, 74–75, 78–80, 122–124.
[5] *Улащик Н.Н.* Введение в изучение белорусско-литовского летописания. С. 66–74.

таўта, Казіміра IV і Аляксандра[1]. Мэтай храніста было імкненне найбольш поўна апісаць гісторыю ВКЛ, сцвердзіць палітычную магутнасць і незалежнасць дзяржавы, паказаць веліч і самабытнасць яе гістарычнага мінулага. Адным з кірункаў дасягнення гэтай мэты, на думку аўтара, была неабходнасць абуджэння цікавасці суайчыннікаў да багатай гераічнай гісторыі Айчыны, пашырэнне патрыятычных настрояў.

Важнымі помнікамі Беларусі XVI ст. з'яўляліся і разнастайныя афіцыйныя дакументы. На першым месцы тут знаходзіцца Метрыка ВКЛ. Сярод змешчаных у ёй дакументаў былі даравальныя граматы, вялікакняскія прывілеі, сеймавыя пастановы, попісы войска, гарадскія і валасныя граматы, перапісы асобных староства і эканомій, генеалагічныя кнігі, межавыя карты і інш. Да афіцыйных дакументальных помнікаў ВКЛ трэба аднесці таксама Актавыя кнігі. Гэта кнігі судовых устаноў, куды заносіліся скаргі істцоў, пярэчанні адказчыкаў, пратаколы допытаў, данясенні чыноўнікаў, тастаменты, дагаворы куплі-продажу маёнткаў, падараванні, пагадненні аб арэндзе, пазыкі, прывілеі вялікіх князёў, пастановы сеймаў і судоў. Вялікую каштоўнасць зараз уяўляюць інвентары з апісаннямі шляхецкіх і царкоўных уладанняў. У іх давалася падрабязнае апісанне населеных пунктаў па вуліцах, агляд шляхецкіх сядзіб (жыллёвыя і гаспадарчыя пабудовы, планіроўка, інтэр'еры), звесткі аб размяшчэнні храмаў, заезных двароў і г.д. Толькі дзякуючы інвентарам зараз можна прасачыць гісторыю некаторых айчынных замкаў і рэзідэнцый феадалаў на працягу цэлых стагоддзяў[2].

**Бібліятэкі.** Пашырэнне пісьменнасці і ўзрастанне агульнага культурнага ўзроўню тагачаснага грамадства спрыяла развіццю ў Беларусі бібліятэчнай справы. Як і ў ранейшыя часы, буйныя кнігазборы захоўваліся ў манастырах. У 1494 г. у слуцкім Троіцкім манастыры было 45 кніг (26 "давнопереписанных", 19 "новопереписанных"), а ў пінскім Ляшчынскім манастыры ў сярэдзіне XVI ст. мелася 34 кнігі[3]. Р. Гейдэнштэйн даў апісанне бібліятэкі пры полацкім Сафійскім саборы: "Кроме летописей, в ней было много сочинений греческих отцов церкви... все на славянском языке. Большая часть из них, по свидетельству летописей, была переведена на этот язык с греческого Мефодием и Константином"[4].

Разам з тым падобныя манастырскія бібліятэкі паступова пачалі эвалюцыяніраваць. Па-першае, тут акрамя рукапісных твораў сталі з'яўляцца "бітыя", ці па-іншаму – друкаваныя, кнігі. Па-другое, папаўняліся яны ўжо не толькі намаганнямі манахаў, але і дзякуючы мецэнацкай дзейнасці айчынных магнатаў. Г. Ходкевіч, з'яўляючы апекуном Супрасльскага праваслаўнага манастыра, фундаваў тутэйшую бібліятэку, якая на 1557 г. складалася з 202 рукапісных і 7 друкаваных кніг (з дазволу магната імі карыстаўся М. Стрыйкоўскі)[5]. Вядома таксама, што шляхецкі род Солтанаў у тыя часы меў уласную бібліятэку ў

[1] Хроника Быховца. С. 41–44, 49–60, 70–106.
[2] *Пичета В.И.* Белоруссия и Литва XV–XVI вв. М., 1961. С. 647–650.
[3] Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею (далей – АЗР). Т. 1. СПб., 1846. С. 137.
[4] *Гейденштейн Р.* Записки о Московской войне. СПб., 1889. С. 71.
[5] Акты, издаваемые Виленскою Археографическою комиссиею (далей – АВК). Т. 9. Вильно, 1878. С. 481–483.



Храніст
Мацей Стрыйкоўскі
(1547–1592)

Жыровіцкім манастыры[1]. У завяшчанні ж старосты чачэрскага і прапойскага К. Зяновіча наконт уласнага кнігазбору гаворыцца наступнае: "Библиотеку, которую я... собрал при своей жизни... прошу не расчленять, держать в Сморгони при каменном сборе и, даст Бог, ещё приумножить"[2].

Пад уздзеяннем Рэнесанса ў ВКЛ у радавых рэзідэнцыях мясцовай арыстакратыі пачалі складвацца і першыя прыватныя бібліятэкі. Прыклад быў пададзены вялікім князем Жыгімонтам І Старым, які пры актыўным удзеле сваёй жонкі каралевы Боны заклаў у Вільні буйны кнігазбор. У ім былі шматлікія кнігі рэлігійнага, лекарскага і юрыдычнага характару. Шырока былі прадстаўлены рэдкія выданні антычных і сярэднявечных эпасаў, а таксама прац італьянскіх гуманістаў. Меліся унікальныя помнікі ўсходнеславянскай пісьменнасці (мясцовыя, польскія і чэшскія)[3]. У далейшым гэтая бібліятэка перайшла ва ўласнасць Жыгімонта II Аўгуста, які яшчэ больш пашырыў яе. Па ўспамінах сучаснікаў, у склад кнігазбору вялікага князя ўваходзіла "всё, что в его время было напечатано на всех языках; кроме того множество рукописей"[4]. Пасля смерці манарха згодна з завяшчаннем бібліятэка была перададзена Віленскаму езуіцкаму калегіуму. У 1570 г. езуіты атрымалі таксама і каштоўную бібліятэку пасля смерці віленскага біскупа Г. Альбінія, дзе меліся рэдкія выданні філасофскага і гістарычнага плану, выдадзеныя пад рэдакцыяй Э. Ратэрдамскага ў Базелі (творы Плутарха, І. Флавія і г.д.)[5]. У цэлым дзякуючы ўсім гэтым падараванням на пачатак XVII ст. бібліятэка Віленскай езуіцкай акадэміі лічылася адной з лепшых у ВКЛ і ўключала звыш 300 тамоў[6].

Ствараліся ў XVI ст. і прыватныя кнігазборы айчыннымі магнатамі. У канцлера ВКЛ А. Гаштольда ў Вільні і Геранёнах (зараз Воранаўскі раён) мелася да 70 кніг, 20 з якіх былі "рускімі" творамі, 40 – лацінскімі, а астатнія чэшскімі, польскімі і г.д. Гэты кнігазбор меў ужо выразныя рысы свецкай бібліятэкі – тут пераважалі летапісы і гісторыка-эпічная перакладная літаратура (калі род згас, кнігазбор быў далучаны да бібліятэкі Жыгімонта II Аўгуста). Найбуйнейшы айчынны кнігазбор XVI ст. належаў канцлеру ВКЛ Л. Сапегу. У яго склад уваходзіла да 3 тыс. тамоў,

[1] *Скеп'ян А.А.* Бібліятэкі Беларусі ў XVI–XVII стст. // Гісторыя выдавецкай дзейнасці ў Польшчы і Беларусі ў XVI–XX стст. Мн., 2003. С. 34.

[2] *Голенченко Г.Я.* Крупные светские частновладельческие библиотеки Белоруссии и Литвы второй половины XVI – середины XVII в. // Фёдоровские чтения. 1982. М., 1987. С. 102.

[3] *Чамярыцкі В.* Ад Нерона – да Боны, ад Боны да Нерона: старонкі беларуска-італьянскіх сувязяў эпохі Адраджэння // Ад Полацка і Нясвіжа да Падуі і Венецыі. Мн., 1994. С. 61.

[4] Живописная Россия. Т. 3. Ч. 1. СПб.; М., 1882. С. 106.

[5] *Рейгельманас Н.* О некоторых записях на книгах XV–XVI вв. литовских библиотек // Фёдоровские чтения. 1982. С. 75–76.

[6] *Bielinski J.* Uniwersytet Wileński. (1579–1831). T. 1. Kraków, 1899. S. 275.

сярод якіх таксама дамінавалі творы свецкага характару (Вергілій, Цыцэрон і інш.)[1]. З сярэдзіны XVI ст. бярэ свой пачатак збіранне кніг і дакументаў у Нясвіжы (амаль адначасова тут была заснавана і бібліятэка)[2]. Адметнасцю такіх прыватных кнігазбораў была наяўнасць пры іх архіўных сховішчаў, дзе галоўны акцэнт рабіўся на падрабязным апісанні ўладанняў гаспадара. Да таго ж тут захоўвалася асабістая перапіска са славутымі асобамі, што павінна было падкрэсліць значнасць роду і яго ўплыў на тагачасныя знешне- і ўнутрыпалітычныя падзеі[3].

Адбывалася ў XVI ст. станаўленне і прыватных бібліятэк заможных мяшчан. Вядома, што ў Вільні ў сваякоў Ф. Скарыны працяглы час захоўваліся сабраныя ім кнігі[4]. Меўся буйны кнігазбор і ў берасцейскага радцы Гурына Фёдаравіча. На 1624 г. у ім налічвалася некалькі дзясяткаў кніг (у тым ліку шэраг траўнікаў). Найбольшую каштоўнасць у ім мелі "Апостол, Псалтырь друку Скорины"[5].

**Традыцыйная праваслаўная кніжнасць.** Новыя гуманістычныя павевы ў літаратуры прывялі да выцяснення твораў старажытнай праваслаўнай кніжнасці на перыферыю культурнага жыцця Беларусі. Разам з тым гэта не азначала, што старадаўнія манастырскія скрыпторыі спынілі сваю дзейнасць. Той жа Слуцк дзякуючы дабрачыннай дзейнасці князёў Алелькавічаў па-ранейшаму заставаўся адным з вядучых цэнтраў па вырабе рукапісных богаслужэбных кніг. Так, у 1539 г. за кошт слуцкіх уладароў было напісана Вялізнае евангелле для Успенскай царквы ў тутэйшым замку. Шэраг евангелляў у гэты час былі ахвяраваны князямі кіеўскім храмам. Унікальнае Евангелле ў Слуцку было створана ў канцы XVI ст. Пачыналася яно нязвыклай і даволі арыгінальнай прадмовай: "Не чудисе, благоразсудительное читателю, сее светое Евангелие, которое сам светое памети Юрий Юриевич Олелько княжа благочестивое Слуцкое року божого 1582 сам своею рукою власною переписав, что починает золотом, а далие простим чернилом, и Минею, бо тое оучинилосе не от скупости, але от ревности великой ко благочестию светому; дабы такое переписмо скоро до скутку своего пришло..."[6]. Такі актыўны ўдзел слуцкага князя ў асветніцкай справе быў з'явай, што не мела аналагаў у Беларусі. Само ж Евангелле, якое, дарэчы, прызначалася для тутэйшага Троіцкага манастыра, згодна з традыцыяй было напісана на царкоўна-славянскай мове[7]. Асноўны тэкст у ім размяшчаўся на аркушах з чарпанай паперы ў дзве калонкі па 20 радкоў. Гэты шэдэўр айчыннага рукапісання меў даволі вялікія памеры і ўключаў 259 аркушаў[8].

---

[1] *Нікалаеў М.* Аблічча сярэдневяковай бібліятэкі: кнігазборы Сапегаў // Мастацтва Беларусі. 1985. № 7. С. 64–65.

[2] *Иконников В.С.* Опыт русской историографии. Т. 1. Кн. 2. Киев, 1892. С. 1241.

[3] *Шпилевский П.М.* Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. Мн., 1992. С. 76–77, 83–84.

[4] Открытие Ф. Скорины / Сост. Г.Я. Голеиченко. Мн., 1989. С. 53–54.

[5] АВК. Т. 6. Вильно, 1872. С. 163.

[6] *Снитко А.К.* Описание рукописей и старопечатных книг в Слуцком монастыре // Известия Отделения русского языка и словесности Российской Академии наук. 1911. Т. 16. Кн. 1. С. 210.

[7] *Родчанка Р.* Слуцкая старасветчына. Мн., 1991. С. 29.

[8] *Грыцкевіч А.* Рэгіянальная культура Случчыны ў XVI–XVIII стст. // Беларусіка-Albaruthenica. Кн. 3. Мн., 1994. С. 27; *Кацер М.С.* Изобразительное искусство Белоруссии дооктябрьского периода. Мн., 1969. С. 51–53.

У 1519 г. быў створаны і Супрасльскі зборнік (напісаны ў тутэйшым праваслаўным манастыры), у якім былі змешчаны 26 палемічных артыкулаў у абарону праваслаўнай царквы і візантыйскіх традыцый. Сярод іншых тутэйшых твораў асаблівую каштоўнасць мае “Пахвала гетману Канстанціну Астрожскаму”. У ёй выдатны айчынны палкаводзец параўноўваецца з антычным героем Антыёхам (палкаводцам Аляксандра Македонскага), індыйскім царом Порам і армянскім царом Тыгранам, а таксама сцвярджаецца, што беларускія ваяры на чале з гетманам “уподобилися есте своим мужеством храбрым макидонянам”[1].

Апалагетам прыхільнікаў традыцыйнага кансерватыўнага ўкладу жыцця і маральнай чысціні грамадства стаў князь Андрэй Курбскі (1528–1583). Уцякач з Масквы, ён быў ветліва прыняты ў ВКЛ, дзе праявіў сябе акрамя іншага і ў якасці таленавітага літаратара[2]. Ён перакладаў кнігі І. Златавуста, Г. Багаслова, Д. Арэапагіта. Найбольшай вядомасцю карысталася яго перапіска з Іванам Грозным, у якой князь асуджаў неабмежаванае самаўладдзе. Акрамя таго, у шэрагу сваіх твораў ён рэзка выступаў супраць паступовага пашырэння ў Беларусі свецкай рэнесансавай культуры, размывання царкоўна-славянскай мовы народнай гаворкай, абвінавачваў Ф. Скарыну ў ерасі, а рэлігійнае кнігадрукаванне лічыў надзвычай шкоднай справай[3].

Разам з тым, нават нягледзячы на наяўнасць у ВКЛ даволі шырокіх кансерватыўных колаў, агульны аналіз эвалюцыі тагачаснай айчыннай літаратурнай традыцыі сведчыць аб тым, што дзякуючы новым павевам, непасрэдна звязаным з эпохай Адраджэння, яна ўступіла ў якасна новы этап свайго развіцця. Яго характэрныя рысы – сацыяльная скіраванасць твораў, узмацненне аўтарскага пачатку, паглыбленне індывідуалізацыі ў падачы матэрыялу, пашырэнне тэматыкі і выяўленчых магчымасцей, складванне новых падыходаў у выпрацоўцы сюжэтных ліній і г.д. Пры гэтым галоўным стала сугучнасць літаратурных твораў запатрабаванням часу, што рабіла іх важным элементам тагачаснага грамадска-сацыяльнага і культурнага жыцця Беларусі.

**Фарміраванне айчыннай сістэмы асветы.** У пачатку XVI ст. сістэма адукацыі на беларускіх землях усё яшчэ была надзвычай слаба развіта. Нешматлікія школы канцэнтраваліся пераважна ў манастырах і давалі толькі пачатковую адукацыю. Ужо першыя айчынныя асветнікі-гуманісты ўздымалі пытанне аб неабходнасці як мага больш шырокага і хутчэйшага развіцця народнай асветы. Пры гэтым асноўны акцэнт яны рабілі на аблягчэнне выкарыстання кніг рэлігійнага характару ў якасці падручнікаў, у тым ліку і для самаадукацыі. Так, Ф. Скарына ў прадмове да сваёй кнігі “Быццё” (1519) пісаў: “В сей книзе всее прироженое мудрости... законы и право... пописаны суть... научение седми наук вызволеных достаточное...”[4]. Згодна з далейшымі яго рэкамендацыямі, каб вывучыць рыторыку, трэба чытаць кнігі Саламонавы, арыфметыку – кнігі Маісее-

---

[1] ПСРЛ. Т. 35. С. 126.
[2] Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1. Мн., 1936. С. 536.
[3] *Голенченко Г.Я.* Идейные и культурные связи восточнославянских народов в XVI – середине XVII в. Мн., 1989. С. 117–118; *Пічэта У.І.* Гісторыя Беларусі. Мн., 2005. С. 171–172.
[4] *Скарына Ф.* Творы: прадмовы, сказанні, пасляслоўі, акафісты, пасхалія. С. 46.

вы, геаметрыю – кнігі Ісуса Навіна, гісторыю – кнігі Суддзяў і Махавеяў, мараль і этыку – кнігі Ісуса Сірахава і г.д.[1]

Разам з тым было відавочна, што такі падыход хоць і мог у пэўнай ступені ўзняць узровень асветы ў грамадстве, у цэлым не быў здольны забяспечыць патрэбы цэнтральных і мясцовых дзяржаўных органаў, царквы, гарадскога самакіравання і прыватных асоб у добра адукаваных чыноўніках, прававедах, медыках, настаўніках і г.д. Дзяржава ў сваю чаргу таксама не была яшчэ здольна разгарнуць шырокую асветніцкую дзейнасць. Адзінай спробай у гэтым кірунку з'явілася адкрыццё ў 1566 г. у Вільні па ініцыятыве вялікага князя Жыгімонта II Аўгуста вучылішча цывільнага права св. Іаана. Рэктарам яе стаў запрошаны з Іспаніі правазнаўца П. Раізій, які быў адным са складальнікаў Статута ВКЛ 1566 г.[2] У гэтай навучальнай установе акрамя выкладання агульнаадукацыйных прадметаў акцэнт рабіўся на паглыбленае засваенне юрыдычных навук (мясцовае, рымскае, грэчаскае, саксонскае, магдэбургскае права), якія чыталіся на універсітэцкім узроўні[3].

Куды больш паспяхова на ніве народнай асветы ішлі справы ў розных канфесій, якія такім чынам імкнуліся пашырыць кола сваіх прыхільнікаў і забяспечыць сябе добра падрыхтаванымі святарамі-прапаведнікамі. Параўнальна высокім узроўнем педагагічнага майстэрства вызначаліся айчынныя кальвініcцкія навучальныя ўстановы, якія адкрываліся на прыватныя ахвяраванні айчынных магнатаў. Ствараліся яны арганізавана пад кантролем віленскага евангелічна-рэфарматарскага Сінода, які прызначаў рэктараў і настаўнікаў, а таксама сеньёраў (апекуноў) асобных школ.

Была распачата кальвіністамі і праца па выданні ўласных вучэбных дапаможнікаў. Азначаны вышэй "Катэхізіс" С. Буднага (1562) шырока ўжываўся пры вывучэнні кальвініcцкага веравучэння, мовы і права. Па меркаванні самога аўтара, ён прызначаўся для людзей "христианьских языка русского", каб яны "не только в чужоземских языцѣх кохали, але... славного языка словенъского розмиловали и оным ся бавити рачили"[4].

Першае з айчынных вучылішчаў кальвіністаў было заснавана ў сярэдзіне XVI ст. па ініцыятыве Мікалая Радзівіла ў Вільні. Яно мела пяць класаў і шырокую вучэбную праграму. Тут выкладаліся асновы кальвінізму, латынь, старажытнагрэчаская мова, рыторыка, паэтыка, матэматыка, гісторыя, права. Пры школе была добрая бібліятэка, дзе меліся працы Катона, Цыцэрона, Вергілія, Гарацыя, Арыстоцеля, Ксенафонта, Дэмасфена, Кастэльёна. Сярод рэктараў гэтай школы былі ўраджэнцы Беларусі – Пётр Сестранцэвіч і Павел Дзімітровіч. У 1558–1560 гг. асновы кальвініcцкага веравучэння тут выкладаў Сымон Будны. Сярод яе выхаванцаў быў будучы уніяцкі мітрапаліт Іосіф Руцкі. Дадзеная навучальная ўстанова карысталася шырокай папулярнасцю – яна падтрымлівала трывалыя сувязі з Цюрыхам, а вучыцца сюды прыязджалі юнакі не толькі з Беларусі і Літвы, але таксама з Прусіі і Курляндыі[5].

---

[1] Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. С. 36–37.
[2] *Юхо І.* Крыніцы беларуска-літоўскага права. Мн., 1991. С. 79.
[3] Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі. Мн., 1968. С. 27.
[4] Хрэстаматыя: Беларуская літаратура XI – пачатку XX ст. Класікі. Мн., 2004. С. 56.
[5] *Лыч Л.* Пратэстанцкая царква ў нацыянальна-культурным жыцці Беларусі: традыцыі і сучаснасць // Штогоднік Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Мн., 1999. С. 113.

Не менш вядомай была і Слуцкая кальвініская гімназія, утвораная ў 1617 г. князем Я. Радзівілам на сродкі сваёй жонкі Соф'і Алелькавіч[1]. Тут было тры класы з 8-гадовым тэрмінам навучання. У гімназіі выкладаліся старажытнаяўрэйская, старажытнагрэчаская, нямецкая і польская мовы, латынь, асновы логікі, рыторыкі, права, гісторыя, матэматыка, фізіка, гімнастыка, музыка, фехтаванне, спевы. Адным з кірункаў навучання былі дыспуты з каталікамі і праваслаўнымі, а таксама пастаноўкі ў школьным тэатры. Слуцкая навучальная ўстанова мела трывалыя сувязі з універсітэтамі Гейдэльберга, Кёнігсберга, Берліна, Франкфурта на Одэры, Марбурга, Лейдэна, Эдынбурга і Оксфарда, куды адпраўляла на вучобу лепшых сваіх выхаванцаў[2].

Акрамя вышэй пералічаных кальвіністы мелі свае вучылішчы таксама ў Віцебску, Гародні, Заслаўі, Менску, Наваградку, Оршы і Полацку. Нягледзячы на тое што сюды прымаліся выхадцы з усіх саслоўяў і любых веравызнанняў, усе яны адрозніваліся набліжаным да манастырскага строгім унутраным статутам і былі скіраваны на падрыхтоўку пастыраў[3].

З іншых пратэстанцкіх школ у тагачаснай Беларусі асобнае месца займала арыянская "акадэмія" ў Іўі, заснаваная ў сярэдзіне XVI ст. Я. Кішкам. Вучыліся ў ёй пераважна юнакі арыянскага рэфармацыйнага веравызнання, але прымаліся таксама каталікі і праваслаўныя. Выкладаліся старажытныя і сучасныя мовы, творы антычных аўтараў, логіка, этыка, права, арыфметыка. У 1585–1593 гг. яе рэктарам быў Ян Ліцыній Намыслоўскі, які ў славутай Лоскай друкарні выдаў вучэбна-метадычныя падручнікі па логіцы Арыстоцеля, маралі і замежных мовах[4]. На жаль, пасля смерці фундатара гэтая навучальная ўстанова прыйшла ў заняпад і была закрыта ў канцы XVI ст. У Беларусі арыянскія школы існавалі таксама ў Клецку, Койданаве, Любчы, Лоску, Нясвіжы і Наваградку[5].

Істотна адзначыліся ў асветніцкай справе і іншыя канфесіі. Пэўнае развіццё атрымалі брацкія школы, якія адкрываліся пры рэлігійна-нацыянальных арганізацыях гараджан з канца XVI ст. Найбольшых поспехаў дабілася праваслаўная царква, якая да сярэдзіны XVII ст. заснавала каля 20 такіх школ у Беларусі і Украіне[6]. Шырокай вядомасцю карысталася Віленская пяцікласная брацкая школа, адкрытая ў 1584 г. з дазволу караля С. Баторыя[7]. Выкладалі тут пераважна мясцовыя ўраджэнцы (Л. Карповіч, І. Бабрыковіч, Л. і С. Зізаніі, М. Сматрыцкі і інш.), а таксама некаторыя выпускнікі замежных універсітэтаў. Праваслаўныя трохкласныя брацкія школы па каралеўскіх прывілеях былі таксама заснаваны ў Магілёве (1578), Берасці (1591) і Менску (1592)[8]. Дзейнічалі яны пры мясцовых манастырах на прыватныя ахвяраванні тутэйшых мяшчан і шляхты. На чале школ стаяў рэктар, які прызначаўся брацт-

[1] *Глебов И.* Историческая записка о Слуцкой гимназии с 1617–1630–1901. Вильна, 1903. С. 169–170.
[2] *Родченко Г.В.* Старейшая школа Белоруссии // Вопросы истории школы и педагогики в БССР. Мн., 1976. С. 4–16.
[3] *Глебов И.* Историческая записка о Слуцкой гимназии с 1617–1630–1901. С. 6.
[4] *Лабынцаў Ю.* Пачатае Скарынам. С. 174.
[5] Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі. С. 24–25.
[6] *Харлампович К.* Западнорусские православные школы XVI – начала XVII вв. Казань, 1898. С. 13.
[7] АЗР. Т. 3. СПб., 1848. С. 287.
[8] Беларускі архіў (далей – БА). Т. 1. Мн., 1927. С. 68, 131, 167, 182; Т. 3. Мн., 1930. С. 66, 132; Белоруссия в эпоху феодализма (далей – БЭФ). Т. 1. Мн., 1959. С. 424.

# Вялікае княства Літоўскае каля 1245–1430 г.




НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ

- ВІЛЬНЯ — Сталіцы дзяржаў
- Полацк — Цэнтры земель і ўдзельных княстваў
- Орша — Іншыя гарады

ГРАНІЦЫ

- дзяржаў к 1430 г.
- далучаных тэрыторый
- ВКЛ у 1430 г.
- Граніца сучаснай Рэспублікі Беларусь
- 1404 — Даты далучэння тэрыторый да ВКЛ
- ВЯЛІКІ НОЎГАРАД — Дзяржавы, залежныя ад Вітаўта ў канцы яго праўлення
- X1362 — Вялікія паходы літоўскіх князёў і найбольш значныя бітвы

ТЭРЫТОРЫІ

- залежныя ад Міндоўга каля 1250 г.
- ВКЛ пры Віцене каля 1310 г.
- далучаныя да ВКЛ
- пры Гедыміне (1316–1341 гг.)
- пры Альгердзе (1245–1377 гг.)
- пры Кейстуце (1381–1382 гг.)
- пры Вітаўце (1392–1430 гг.)
- Маскоўскага княства ў 70-х гг. XIII ст.
- далучаныя да Масквы да 1425 г.
- спрэчныя паміж ВКЛ і суседнімі дзяржавамі
- якія намінальна ўваходзілі ў склад Вялікіх княстваў Маскоўскага і Літоўскага, фактычна – частка Поля (месца татарскіх качэўяў)

# Вялікае княства Літоўскае ў 1430-1548 гг.




**НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ**

- **ВІЛЬНА** — Сталіцы дзяржаў
- **ПОЛАЦК** — Цэнтры ваяводстваў і зямель ВКЛ і Каралеўства Польшча
- **Друцк** — Цэнтры княжацкіх уладанняў
- *Орша* — Іншыя гарады

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у 1487 г.
- далучаных тэрыторый
- ВКЛ у сярэдзіне XVI ст.
- Граніца сучаснай Рэспублікі Беларусь

Даты далучэння тэрыторый

- 1508 — да ВКЛ
- 1503 — да Вялікага княства Маскоўскага

**ТЭРЫТОРЫІ**

далучаныя да Масквы

- па "вечнаму міру" 1494 г.
- па перамір'ю 1503 г.
- па перамір'ю 1522 г.
- па перамір'ю 1537 г.

вернутыя ў склад ВКЛ

- па "вечнаму міру" 1508 г.
- па перамір'ю 1537 г.
- якія намінальна ўваходзілі ў склад вялікіх княстваў Літоўскага і маскоўскага, фактычна – частка Поля
- Раёны, у якіх было падтрымана выступленне М.Глінскага ў 1508 г.

Напрамкі і даты паходаў войскаў

- 1514 ВКЛ
- 1500 Вялікага княства Маскоўскага
- 1514 Месцы і даты найбольш значных бітваў
- Напрамкі набегаў крымскіх татар

вам. У найбольш буйных брацкіх школах выкладаліся лацінская, грэчаская, нямецкая, польская і царкоўнаславянская мовы, маральнае багаслоўе, рыторыка, арыфметыка[1].

Пасля Берасцейскай уніі шэраг брацкіх школ перайшоў пад кантроль уніятаў – Берасце (1597), Магілёў (1618–1619). Пры гэтым улады прыхільна ставіліся да пашырэння уніяцкіх школ. У 1605 г. каралеўскім прывілеем віленскаму Троіцкаму манастыру было дазволена адкрыць уласныя школы ў Наваградку, Менску "и по инших месцах", што тлумачылася добрай падрыхтаванасцю тутэйшых манахаў "в науках вызволеных"[2].

Акрамя брацкіх школ праваслаўныя навучальныя ўстановы для свецкай моладзі працягвалі па традыцыі дзейнічаць і пры мясцовых манастырах. Адна з іх была заснавана ў 1570-я гг. у Слуцку былым ігуменам Троіца-Сергіева манастыра Арцеміем, які быў вымушаны збегчы з Расіі ў Беларусь з-за абвінавачання ў вальнадумстве[3]. Гэтая школа неўзабаве ператварылася ў адзін з вядучых айчынных багаслоўскіх цэнтраў і славілася выкладаннем царкоўнаславянскай, старажытнагрэчаскай і лацінскай моў. Тое, што тут вучыліся дзеці віленскага кашталяна Г. Хадкевіча, лепшым чынам сведчыць пра высокі статус дадзенай навучальнай установы ў сістэме адукацыі ВКЛ[4].

Для навучання ў праваслаўных і уніяцкіх школах звычайна выкарыстоўваліся царкоўныя кнігі (Псалтыр, Часаслоў, жыціі святых). Пачалі ствараццца і спецыяльныя падручнікі. Першынство тут належала "Азбуцы" І. Фёдарава, якая была выдадзена на аснове рэлігійнай літаратуры, а таксама еўрапейскіх і славянскіх буквароў у 1574 г. у Львове (першы тыраж склаў 2 тыс. экземпляраў)[5]. Яе структура была тыповай для таго часу і грунтавалася на літаразлучальным метадзе. Акрамя алфавіта і спалучэння двух і трох літар тут даваліся спражэнне дзеясловаў, звесткі пра склад і націск ("прасодыя"), а таксама арфаграфія найбольш пашыраных слоў[6].

Шырокай папулярнасцю ў Беларусі карысталіся "Граматыкі славенскія" Л. Зізанія (1596) і М. Сматрыцкага (1619). Мэтай іх стварэння было жаданне аўтараў даказаць, што народная гаворка – гэта не толькі штучнае злучэнне асобных мясцовых дыялектаў, але і рэгулярная, заснаваная на правілах граматыкі літаратурная мова, што падыходзіла для навуковага пазнання свету і нічым не саступала латыні ці старажытнагрэчаскай мове. З гэтай нагоды ў Граматыках дэталёва разглядалася арфаграфія, прасодыя, этымалогія і сінтаксіс[7]. Надзвычай важным момантам стала

---

[1] *Медынский Е.Н.* Братские школы Украины и Белоруссии в XVI – XVII вв. и их роль в воссоединении Украины с Россией. М., 1954. С. 50–70; *Мещеряков В.П.* Братские школы Белоруссии. Мн., 1977. С. 20–44.

[2] Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографической комиссией (далей – Акты ЮЗР). Т. 2. СПб., 1865. С. 70.

[3] Нарысы па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязяў. Кн. 1. С. 112; *Родчанка Р.* Слуцкая старасветчына. С. 27–28.

[4] *Грицкевич А.П.* Книжное дело в феодальном Слуцке в XVI–XVIII вв. // Вопросы библиографоведения и библиотековедения. 1983. Вып. 4. С. 53.

[5] Азбука Ивана Фёдорова. М., 1983. Л. 1–57.

[6] *Ботвинник М.Б.* У истоков учебной книги. Мн., 1964. С. 34–66.

[7] *Ён жа.* Лаврентий Зизаний. Мн., 1973. С. 175–177; *Короткий В.* Творческий путь Мелетия Смотрицкого. Мн., 1987. С. 121.

ўключэнне ў падобныя творы тлумачальнага слоўніка, дзе асобныя царкоўнаславянскія словы перакладаліся на беларускую мову (“врач – лекар”, “внимаю – зрозумеваю” і інш.). У далейшым падобны кірунак атрымаў асаблівае развіццё, і ў славутым “Лексіконе” П. Бярынды (1627) ужо разглядалася 4 тыс. слоў.

**Езуіты ў адукацыйнай справе Беларусі.** Паралельна з іншымі канфесіямі ўласную сістэму адукацыі ў Беларусі ствapaла і каталіцкая царква. Не жадаючы адставаць ад сваіх канкурэнтаў, яна пайшла на пэўную рэформу ўласных школ, якія сталі дзяліцца на два асноўныя тыпы. Па-першае, гэта былі кафедральныя вучылішчы (Полацк, Віцебск, Берасце, Гародня, Менск, Магілёў). Як правіла, яны мелі тры класы, а сярод прадметаў, што вывучаліся тут, былі старажытныя мовы, арыфметыка, спевы і музыка. Кіравалі імі тутэйшыя біскупы праз спецыяльных цыркатараў (наглядчыкаў). Па-другое, даволі шырокае распаўсюджанне атрымала сетка пачатковых парафіяльных школ, дзе праграма была абмежавана выкладаннем асноў граматы, арыфметыкі і рэлігійнай музыкі (Друя, Лепель, Талачын, Масты, Докшыцы, Горкі, Лагойск, Ашмяны, Ляхавічы)[1].


Заняткі ва універсітэце

Значныя змены ў структуры каталіцкай адукацыі адбыліся пад уплывам контррэфармацыі. У 1569 г. першыя манахі езуіцкага ордэна на чале з П. Скаргай па запрашэнні віленскага біскупа В. Пратасевіча прыбылі ў Вільню, дзе з дазволу вялікага князя адкрылі сваю першую на абшарах ВКЛ навучальную ўстанову для свецкай моладзі (калегіум)[2]. Згодна з прывілеем С. Баторыя ад 7 ліпеня 1578 г., пацверджаным спецыяльнай булай рымскага папы ад 30 кастрычніка 1579 г., гэтая школа была рэарганізавана ў акадэмію, роўную ў правах з Кракаўскім універсітэтам. Яна прысвойвала вучоныя ступені і мела ўласную юрысдыкцыю[3].

Спачатку было адкрыта два факультэты (філасофскі і тэалагічны). На першым з іх выкладаліся гуманітарныя ды прыродазнаўчыя прадметы, а таксама старажытныя і сучасныя мовы (акрамя традыцыйных курсаў шмат увагі ўдзялялася арабскай мове); на другім – багаслоўскія навукі. Захавалася і пяцікласнае сярэдняе аддзяленне. Навучальны працэс меў ступеньчаты характар: пасля заканчэння курса калегіума лепшыя з выхаванцаў пераходзілі на філасофскі факультэт, а пазней найбольш выдатныя яго выпускнікі траплялі на тэалагічны. Свайго росквіту Вілен-

---

1 *Селицкий С.В., Мещеряков В.П.* Просвещение и педагогическая мысль в XIV – первой половине XVII в. // Очерки истории науки и культуры Беларуси. Мн., 1996. С. 149–150; *Харлампович К.* Западнорусские православные школы XVI – начала XVII вв. С. 7–23.

2 Живописная Россия. Т. 3. Ч. 1. С. 102.

3 *Łukaszewicz J.* Historya szkoł w Koronie i w Wielkim Księstwie Litewskim od najdawniejszych czasów az do roku 1794. T. 1. Poznań, 1849. S. 122–124.

ская акадэмія дасягнула ў першай трэці XVII ст., калі тут працавала да 70 прафесараў і выкладчыкаў, а колькасць студэнтаў перавышала 1200[1].

Відавочна, што езуіты не абмежавалі сваю дзейнасць толькі сталіцай ВКЛ. У канцы XVI – пачатку XVII ст. пры поўнай падтрымцы ўлад яны здолелі значна манапалізаваць асветніцкую справу ва ўсёй Рэчы Паспалітай. Найбольшай вядомасцю ў Беларусі карысталіся езуіцкія калегіумы ў Полацку (1582), Нясвіжы (1584), Оршы (1612), Берасці (1615), Гародні (1625), Пінску (1630) і г.д.[2] Па ўзроўні падрыхтоўкі выкладчыкаў і якасці выхавання яны не саступалі аналагічным сярэднім навучальным установам Заходняй Еўропы.

Асноўнай задачай выхавання ў езуітаў было пашырэнне сярод выхаванцаў "вучонай і красамоўнай набожнасці" (docta et eloquens pietas). Вучэбны курс у іх калегіумах быў падзелены на некалькі этапаў, якія ўяўлялі сабой закончаныя навучальныя цыклы. Сярэдняя адукацыя давалася ў пяцікласным малодшым аддзяленні (studia inferiora), дзе вывучаліся лацінская, старажытнагрэчаская і польская мовы, антычная літаратура, рыторыка, стылістыка, міфалогія, гісторыя, геаграфія, логіка, арыфметыка, этыка, фехтаванне, верхавая язда, музыка і танцы[3]. Для тых, хто жадалі паступіць у акадэмію ці стаць членам ордэна, прадугледжваўся яшчэ адзін год навучання. Апошнія да таго ж былі абавязаны скончыць дадаткова старэйшае філасофскае аддзяленне (studia superiora), дзе на працягу 2–3 год яны паглыблялі свае веды ў логіцы, этыцы, матэматыцы і атрымлівалі ганаровае званне магістраў. Пры гэтым поўны курс філасофіі ў Беларусі меў толькі калегіум у Нясвіжы. Найбольш заможныя езуіцкія школы маглі адкрываць яшчэ і чатырохгадовое багаслоўскае аддзяленне, якое рыхтавала выкладчыкаў для старэйшых класаў (Вільня, Гародня, Полацк, Пінск). У ім праходзілі маральнае, палемічнае, дагматычнае, казуістычнае багаслоўе, кананічнае права і г.д.[4]

Неабходна адзначыць, што адсутнасць платы за навучанне і адносна вялікая, звыш двух дзесяткаў, колькасць езуіцкіх школ розных тыпаў дазволілі значна павысіць адукаванасць тагачаснага беларускага грамадства. Разам з тым менавіта езуіты істотным чынам абвастрылі рэлігійнае пытанне ў Рэчы Паспалітай. Яны ніколі не прызнавалі магчымасці мірнага суіснавання з іншымі канфесіямі і сталі галоўнымі ініцыятарамі масавых пагромаў пратэстанцкіх абшчын у 1588 і 1591 гг. Бесперапынныя канфлікты адбываліся ў езуітаў і з праваслаўным насельніцтвам беларускіх гарадоў. У красавіку 1598 г. студэнты Віленскай езуіцкай акадэміі, напрыклад, напалі на Віленскую брацкую школу: "дахи побили, з ручниц и луков стреляли, челядь школьную и слуг церковных поранили"[5].

Такім чынам, місіянерская дзейнасць езуіцкага ордэна ў значнай ступені паўплывала на размежаванне Беларусі на супрацьлеглыя "лагеры фанатыкаў" і абумовіла яе паступовае акаталічванне. Да таго ж, нягле-

---

[1] *Janowski L.* Wszechnica Wileńska. 1578–1842. Wilno, 1921. S. 3–6.

[2] БЭФ. Т. 1. С. 160–161.

[3] *Самусік А.Ф.* Выкладанне дысцыплін гуманітарнага цыкла ў езуіцкіх навучальных установах Беларусі (другая палова XVI – сярэдзіна XVIII стагоддзя) // Веснік адукацыі. 2006. № 1. С. 64–71.

[4] Учебные заведения Литвы до присоединения ея к России // Журнал Министерства народного просвещения (далей – ЖМНП). 1862. № 10. С. 75–92.

[5] АВК. Т. 8. Вильно, 1875. С. 93.

дзячы на ўсе іх поспехі ў адукацыйнай справе, навуковая думка пад кантролем езуітаў зноў была зведзена пераважна да сярэднявечнай схаластыкі і тэалогіі.

**Школьныя тэатры.** Хуткае развіццё публічнай сістэмы асветы ў ВКЛ стала зыходным пунктам у развіцці айчыннага тэатра. У пратэстанцкіх навучальных установах, уніяцкіх семінарыях, праваслаўных брацкіх школах, езуіцкіх калегіумах засноўваліся школьныя тэатры. Пры Полацкім езуіцкім калегіуме тэатр быў адкрыты ў 1585 г., Нясвіжскім – у 1586 г., Берасцейскім – у 1615 г.[1] Галоўная іх мэта – зацікавіць выхаванцаў у вывучэнні латыні, царкоўнай гісторыі і шэрага іншых прадметаў. Акрамя таго, публічныя выступленні перад гараджанамі павышалі аўтарытэт дадзеных навучальных устаноў. Кіравалі гэтымі тэатрамі тутэйшыя настаўнікі, а выканаўцамі былі самі вучні. У адрозненне ад пастановак народных артыстычных гуртоў пастаноўкі школьных тэатраў вызначаліся большым кансерватызмам і мелі падкрэслена рэлігійна-павучальны характар[2]. Разам з тым часам і ў іх можна было заўважыць запазычанні з беларускага фальклору, асабліва пры пастаноўках камічных інтэрмедый[3].

Меліся ў дзейнасці школьных тэатраў і пэўныя адметнасці. Так, у брацкіх школах акрамя тэатралізаваных пастановак абавязковым лічылася наяўнасць вучнёўскага хору з выкананнем ім шматгалосых спеваў[4]. Што ж да езуітаў, то ў іх шырока ўжываліся містэрыі іміраклі (дыялогі). Акрамя таго, яны ўдала выкарыстоўвалі розныя гукавыя, візуальныя і аптычныя эфекты, практыкавалі частую змену дэкарацый.

Першы езуіцкі школьны тэатр стаў дзейнічаць у ВКЛ пры Віленскай акадэміі ў пачатку 1580-х гг. Пераважна ў ім ставіліся творы заходнееўрапейскіх драматургаў-лацяністаў (Н. Касена, Я. Бідэрмана, Н. Авацына) – камедыі, драмы, трагікамедыі, літургічныя п'есы. Разам з тым у акадэміі меўся і свой аўтар – езуіт К. Пянткоўскі, які ажыццявіў на тутэйшай сцэне пастаноўку шэрага сваіх п'ес. У 1582 г. пад яго кіраўніцтвам шырокай публіцы быў прадстаўлены "Дыялог аб міры для караля Стэфана", у якім просты салдат звяртаўся да манарха з просьбай не ваяваць болей, бо гэта "вялікая шкода для падданых"[5]. Праз два гады К. Пянткоўскі паставіў у тэатры ўласную п'есу "Цімон Гардзіюд", у сюжэтную лінію якой упершыню быў уведзены беларускамоўны шавец. Гэты пасталюдзін удала выкарыстоўваў прыродную кемлівасць і народны гумар, высмейваючы псеўдавучонасць іншага героя твора – самаўпэўненага і ганарлівага філосафа. У Полацкім езуіцкім калегіуме ў 1586 г. быў прадстаўлены "для большага натхнення народа дыялог аб стойкасці пакутнікаў у час катавання і аб узнагародзе на небе", пры гэтым "гараджане... атрымалі асалоду"[6]. У 1593 г. навучэнцы калегіума паставілі трагікамедыю "Аталія", і зноў сярод меркаванняў аб спектаклі былі толькі ўхвалы – "надзіва спадаба-

---

[1] *Дадзіёмава В.У.* Нарысы гісторыі музычнай культуры Беларусі. Мн., 2001. С. 43.

[2] *Прокопцева В.П.* Музыкальное образование // Очерки истории науки и культуры Беларуси. С. 280.

[3] *Дадзіёмава В.У.* Гісторыя музычнай культуры Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII ст. Мн., 1994. С. 13.

[4] *Харлампович К.* Западнорусские православные школы XVI – начала XVII вв. С. 6, 51, 63–78, 160–166, 199.

[5] Dramaty staropolskie. T. 4. Warszawa, 1961. S. 390.

[6] *Hernas C.* Barok. Warszawa, 1973. S. 163.

лася", "поўнае захапленне". Пры пастаноўках пераважна выкарыстоўвалася латынь і польская мова, але ў 1603 г. у Полацку была "дадзена народу і шляхце... драма аб хлябах на народнай мове"[1].

**Народнае музычна-тэатральнае мастацтва.** Песенная творчасць па-ранейшаму дамінавала ў тагачасным айчынным народным музычным мастацтве. Сярод асноўных яе жанраў працягвалі сваё развіццё гісторыка-гераічны эпас, рэлігійныя, бытавыя, жартоўныя і любоўна-лірычныя творы[2]. Якраз у гэты час паглыбілася самабытнасць беларускай народнай песні, арыентаванай на псіхалагічную насычанасць, універсальнасць выкарыстання, індывідуалізацыю вобразаў і шматгалоснасць выканання[3]. Падобная вусная творчасць арганічна дапаўнялася танцамі. Пераважаў тут карагод, у якім прасочваліся два супрацьлеглыя напрамкі – пэўная стандартызацыя выканання і свабодная імправізацыя асобных мастацкіх прыёмаў[4]. Дзякуючы гэтаму ў далейшым з карагода вылучыліся новыя танцавальныя формы, што надалі айчыннаму народнаму танцу непаўторны каларыт[5].

Станоўчае ўздзеянне на развіццё народнага музычнага мастацтва аказала кнігавыдавецкая справа. Ф. Скарына лічыў Біблію творам энцыклапедычнага плану, а таму ў прадмовах адзначаў карысць яе для спевакоў ды музыкаў: "Восхощеш ли пак учитися музики, то ест певници, премножество стихов и песен светых по всей книзе сеи знайдеши..."[6]. Акрамя таго, каб наблізіць выдадзеныя кнігі да простага чытача, зрабіць іх больш даступнымі і зразумелымі, першадрукар атаясамліваў біблейскія музычныя інструменты з народнымі (*сапёлка*, *свірэль*, *бубен*, *дуда*, *гуслі*, *прегудніца*, *смык*, *звонец*), тлумачачы між іншым іх адметнасці, тэхналогію вырабу і манеру ігры[7].

Падобны сінкрэтычны падыход існаваў і ў далейшым. Так, пратэстанты шырока выкарыстоўвалі пры богаслужэнні рэлігійныя песні, якім былі ўласцівы ўзвышанасць пачуццяў, строгасць форм, прастата выразных сродкаў. Зыходзячы з традыцый нідэрландскай поліфанічнай музыкі, яны стварылі цэлыя зборнікі падобных песень – канцыяналы; апошнія актыўна ўжываліся ў народным асяроддзі. Найбольш старажытны айчынны друкаваны канцыянал – "Песні хвал Боскіх" – быў выдадзены ў Берасці Я. Зарэмбай у 1558 г. (пры ўдзеле Вацлава з Шамотула)[8]. Актыўную дапамогу ў яго стварэнні аказаў і Ц. Базылік, які займаў месца прыдворнага музыканта М. Радзівіла Чорнага і ў азначаны час кіраваў Берасцейскай друкарняй. Сам ён таксама быў вядомым тагачасным кампазітарам – у 1556–1559 гг. у Кракаве былі выдадзены 11 ягоных чатырохгалосых песень, а ў 1558–1569 гг. у Берасці рэгулярна друкаваліся зборнікі яго песень і псалмоў[9]. Унікальны песенны зборнік у 1563 г. быў

---

[1] Гісторыя беларускага тэатра. Т. 1. Мн., 1983. С. 131–132, 139–141, 155–156; Народны тэатр. Мн., 1983. С. 28–29.

[2] Беларускі фальклор: Хрэстаматыя. Мн., 1996. С. 5–16.

[3] Беларуская народная вуснапаэтычная творчасць. Мн., 1967. С. 229–232.

[4] Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра. Т. 1. Мн., 1997. С. 10–13.

[5] *Лыч Л., Навіцкі У.* Гісторыя культуры Беларусі. С. 45–46; *Русецкі А.У.* Мастацкая культура Беларусі. С. 161.

[6] Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. С. 36.

[7] *Назіна І.Д.* Музычная інфармацыя ў Бібліі Францыска Скарыны. С. 133–135.

[8] *Дадзіёмава В.У.* Нарысы гісторыі музычнай культуры Беларусі. С. 27–30.

[9] Помнікі музычнай культуры Беларусі. Вып. 2. Мн., 1995. С. 6–7, 10–20.

надрукаваны ў Нясвіжы. Усяго тут было змешчана 110 твораў. Найбольшую цікавасць уяўляюць паэтычныя помнікі фальклорнага плану (народныя бяседна-застольныя і жартоўныя песні) аб працы і каханні, справядлівасці і людской дабрыні[1].

Развіццю свецкай музычнай традыцыі спрыяла заснаванне пры вялікакняскім і магнацкіх дварах прыдворных капэл і аркестраў. Прыклад усім тут быў пададзены Жыгімонтам І Старым, яго жонкай каралевай Бонай, а таксама іх сынам Жыгімонтам ІІ Аўгустам. Вядома, што ў 1543 г. у Гародні была арганізавана "Літоўская капэла", якая праіснавала звыш паўстагоддзя. У яе склад уваходзіла да 15 музыкантаў і спевакоў як з ліку тутэйшых ураджэнцаў, так і запрошаных з іншых еўрапейскіх краін (Х. Бланк, Г. Браўн, П. Гертсан, В. Кулакоўскі, М. Кавянчук, Я. Міхаловіч і інш.). У часы праўлення Стэфана Баторыя ў Гародні жыў і працаваў польскі кампазітар В. Длугарай. Да нашага часу захаваліся яго фантазіі і пераапрацоўкі італьянскіх твораў для лютні[2]. Прыдворным капельмайстрам, спеваком, кампазітарам і музыкантам Жыгімонта ІІ Аўгуста, Стэфана Баторыя і Жыгімонта ІІІ Вазы быў К. Клабан з Караляўца. Для Гродзенскай капэлы ён напісаў цэлы шэраг музычных твораў (захаваліся спевы для лютні), а ў гонар уступлення Жыгімонта ІІІ Вазы на трон Рэчы Паспалітай у 1588 г. ім былі выдадзены "Спевы Славянскай Каліопы", якія ўключалі шэсць песень панегірычнага зместу[3]. Буйны аркестр са 100 музыкантаў трымаў М. Радзівіл Чорны[4]. Па запрашэнні айчынных магнатаў у ВКЛ плённа працавалі венгерскі лютніст В. Бакфарка, італьянскія выканаўцы Л. Марэнцыо і М. Галілей (брат славутага астранома), якія пашырылі ў Беларусі традыцыі рэнесансавай вакальна-харавой і танцавальнай музыкі[5].

Ажыўленне гарадскога жыцця, а таксама пашырэнне дзякуючы валочнай памеры кірмашоў спрыялі далейшаму развіццю ў Беларусі народнага тэатральна-музычнага мастацтва. Значна ўзрасла колькасць вандроўных і аселых скамарохаў, якія складалі цэлыя трупы з 60–100 чалавек ("ватагі") і выступалі на рынкавых плошчах айчынных гарадоў ды мястэчак, пры корчмах, шляхецкіх рэзідэнцыях[6]. Аналіз гарадскіх актаў таго часу сведчыць аб вылучэнні скамарошніцтва ў разрад асобнай прафесіі (у 1604 г. у Магілёве жыло 13 скамарохаў) і наяўнасці ў іх дакладнай спецыялізацыі – танцоры, бахары-казальнікі, канатаходцы, жанглёры, сілачы, спевакі, лялечнікі, музыкі, мядзведнікі, акцёры і інш.[7] Асобным адгалінаваннем скамарошніцтва сталі валачобнікі – народныя спевакі-акцёры, якія выконвалі абрадавыя і рэлігійныя песні ў Вялікдзень (Пасху). Іх гурты складаліся з 5–10 выхаванцаў наваколь-

---

[1] *Дадзіёмава В.У.* Гісторыя музычнай культуры Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII ст. С. 10; *Смольский Б.С.* Музыкально-критическая (эстетическая) мысль // Очерки истории науки и культуры Беларуси. С. 272–273.

[2] *Дадзіёмава В.У.* Гісторыя музычнай культуры Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII ст. С. 18–19.

[3] Помнікі музычнай культуры Беларусі / Уклад. В.У. Дадзіёмава. Вып. 2. С. 8, 39–42, 59–75.

[4] Музыка Беларусі эпох сярэднявечча і Рэнесанса. Хрэстаматыя. Т. 1. Мн., 2005. С. 10.

[5] *Дадзіёмава В.У.* Нарысы гісторыі музычнай культуры Беларусі. С. 16.

[6] Музыкальный театр Белоруссии. Дооктябрьский период. Мн., 1990. С. 50–57.

[7] Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской. Вып. 30. Витебск, 1903. С. 40–44; *Пашуто В.Т., Флоря Б.Н., Хорошкевич А.Л.* Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. М., 1982. С. 128–129.

ных школ і ўключалі пачынальніка, падхватнікаў (спявалі прыпеў), музыку-дудара і механошу (збіраў падарункі). Ідэі гуманізму і пратэстантызму ў творчасці скамарохаў праявіліся ў вальнадумстве, а таксама сатыры, скіраванай супраць арыстакратыі і царквы. Актывізацыя знешніх кантактаў ВКЛ дазволіла значна пашырыць пералік музычных інструментаў, што выкарыстоўваліся скамарохамі; менавіта ў XVI ст. на беларускіх землях з'явіліся цымбалы, якія сталі пазней неад'емным элементам айчыннай народнай музыкі[1].

Гэтым жа стагоддзем датуецца і пачатак ужывання ў Беларусі славутай батлейкі. Галоўнае прызначэнне гэтага лялечнага тэатра – пастаноўка літургічных драм, пераважна звязаных з калядным цыклам хрысціянскіх свят (да канца XVII ст. выконваліся выключна вучнёўскай моладдзю). Адсюль, дарэчы, паходзіць і яе назва, бо ў біблейскім горадзе Віфлеем (Бэтлеем) і нарадзіўся Ісус Хрыстос. Найбольшае пашырэнне ў Беларусі атрымала двух'ярусная батлейка. Верхні яе ўзровень уяўляў сабою памяшканне, дзе адбылося боскае нараджэнне. Тут выконваліся пралогавыя сцэны з нараджэннем Хрыста, пакланеннем вешчуноў, духоўнымі песнямі і кантамі. Ніжні ўзровень меў выгляд палаца цара Ірада, дзе праходзіла асноўная частка літургічнай драмы[2]. Часам разыгрываліся тут і асобныя сцэнкі (інтэрмедыі) з паўсядзённага жыцця, якія апіраліся на фальклорную традыцыю і ў гратэскным выглядзе паказвалі прадстаўнікоў гарадской эліты, святароў і шляхціцаў, якіх заўсёды перамагаў хітры ды разважлівы прасталюдзін[3]. Паступова ў батлеечных пастаноўках усё часцей і часцей стала ўжывацца імправізацыя. А для ўзмацнення відовішчнага эфекту тэатральная пастаноўка дапаўнялася харавымі спевамі і ігрой музыкаў[4].

Такім чынам, відавочна, што народная культурная традыцыя таксама адчула дабратворны ўплыў эпохі Адраджэння. Далейшае яе ўзбагачэнне і насычэнне новымі рысамі гарманічна дапоўніла ўжо наяўную першааснову.

У цэлым, падсумоўваючы развіццё духоўнай культуры Беларусі ў час распаўсюджвання гуманістычна-рэнесансавых ідэй, трэба адзначыць карэнныя змены, скіраваныя ў першую чаргу на секулярызацыю тутэйшага грамадства. Праявілася яна ў актывізацыі працэсу выхаду з-пад уплыву рэлігіі розных сфер жыцця мясцовага насельніцтва (палітыкі, права, асветы, мастацтва, сямейна-бытавых адносін). Менавіта гэтае ўзмацненне свецкага пачатку з'яўляецца найбольш адметнай з'явай эпохі Адраджэння на беларускіх землях. Не менш важным момантам стала таксама істотнае пашырэнне заходнееўрапейскага ўплыву, які дапамог у пэўнай меры пераадолець тутэйшы адвечны кансерватызм і зрабіць важны крок да ўмацавання этнічнай самасвядомасці ды актывізацыі прагрэсіўных этнакультурных працэсаў.

---

[1] Гісторыя беларускага тэатра / М. Каладзінскі [і інш.]. С. 56–69; Народны тэатр. С. 17–28.

[2] Беларускі фальклор: Хрэстаматыя. С. 768–790; Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра / Уклад. А.В. Сабалеўскі. Т. 1. С. 101–148.

[3] *Романов Е.Р.* Белорусский сборник. Вып. 8. Вильно, 1912. С. 73.

[4] *Барышаў Г.І., Саннікаў А.К.* Беларускі народны тэатр батлейка і яго ўзаемасувязі з рускім вяртэпам і польскай шопкай. Мн., 1963. С. 6–43; Народны тэатр / Уклад. М.В. Каладзінскі. С. 32–41.

## 2. Уплыў эпохі Адраджэння на матэрыяльную культуру Беларусі

**Дзяржаўныя дзеячы ВКЛ і іх роля ў развіцці айчыннай культуры.** Адной з найбольш яскравых праяў подыху Адраджэння ў Беларусі стала фарміраванне на працягу XVI ст. новага складу правячай у ВКЛ эліты. Старыя шляхецкія роды, што ўзвысіліся ў часы Гедыміна, Ягайлы і Вітаўта, паступова пачалі зыходзіць з грамадска-палітычнай арэны. Згасанне славутых некалі княжацкіх ды баярскіх сямей Гальшанскіх, Манівідавічаў, Гаштольдаў, Ільінічаў, Забярэзінскіх, Кезгайлаў, Глінскіх, Друцкіх, Мсціслаўскіх прывяло да паступовага ўзвышэння новых магнацкіх дамоў, якія і ў эканамічным, і ў культурна-асветным плане былі арыентаваны пераважна на Заходнюю Еўропу[1]. Прагрэсіўным момантам тут стала перайманне імі трыдыцыі мецэнацтва як ганаровага абавязку сумленнага грамадзяніна. Да таго ж іх рэзідэнцыі паступова пачалі ператварацца ў "сядзібы музаў" – рэгіянальныя культурна-асветныя цэнтры, куды з'язджаліся з розных краін і плённа працавалі шматлікія навукоўцы, багасловы, медыкі, філосафы, архітэктары, мастакі, скульптары[2].

Самым знакамітымі сярод такіх айчынных магнацкіх родаў "новага гатунку" сталі, безумоўна, Радзівілы. Іх узвышэнне прыйшлося на XV ст., калі Радзівіл Осцікавіч (памёр у 1477 г.) праславіўся як вопытны дыпламат і таленавіты палкаводзец. Яго ўнук, маршалак земскі і кашталян трокскі Ян Радзівіл Барадаты (1474–1522) стаў заснавальнікам нясвіжска-алыцкай галіны роду[3]. Сын Яна Радзівіла Мікалай Радзівіл Чорны (1515–1565) можа лічыцца найбольш яскравым прадстаўніком новай эліты ВКЛ. Адукацыю ён атрымаў пры каралеўскім двары ў Кракаве разам з будучым вялікім князем Жыгімонтам II Аўгустам. Далейшая яго кар'ера была бліскучай – ва ўзросце 32 гадоў Мікалай Радзівіл быў ужо паслом ВКЛ у Свяшчэннай Рымскай імперыі. Пасля вяртання на Радзіму ён заняў вышэйшыя дзяржаўныя пасады (канцлер літоўскі, ваявода віленскі) і прыняў самы актыўны ўдзел у палітычным, гаспадарчым і культурным жыцці краіны[4]. Па яго ініцыятыве былі падпісаны важныя пагадненні з Польшчай, Свяшчэннай Рымскай імперыяй, Лівонскім ордэнам і Расіяй. У якасці канцлера ВКЛ Мікалай Радзівіл стаяў на чале правядзення аграрнай, судовай і павятовай рэформаў. Жадаючы кансалідаваць айчыннае грамадства, ён стаў галоўным заступнікам кальвіністаў у Беларусі. Якраз М. Радзівіл Чорны справядліва лічыцца і пачынальнікам мецэнацкай справы ў Беларусі – на яго сродкі былі заснаваны друкарні ў Берасці і Нясвіжы, пад апекай князя працавалі С. Будны, Ц. Базылік, М. Кавячынскі, М. Чаховіц і інш.[5]

Не менш карысці ды славы прынёс ВКЛ і знакаміты род Сапегаў, росквіт якога прыйшоўся на другую палову XVI ст. Заслуга ў гэтым цалкам

---

[1] *Лойка П.А.* Шляхта беларускіх зямель у грамадска-палітычным жыцці Рэчы Паспалітай другой паловы XVI – першай трэці XVII ст. Мн., 2002. С. 22–24.
[2] *Падокшын С.А.* Беларуская думка ў кантэксце гісторыі і культуры. С. 23.
[3] *Шпилевский П.М.* Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. С. 68.
[4] *Сыракомля У.* Вандроўкі па маіх былых ваколіцах. Мн., 2002. С. 93–95.
[5] Политическая и правовая мысль в Белоруссии в XVI – первой половине XVII в. Мн., 1984. С. 130–132; *Шышыгіна-Патоцкая К.Я.* Нясвіж і Радзівілы. Мн., 2002. С. 93–106.

належыць выхаванцу Нясвіжскай кальвініцкай школы і Лейпцыгскага універсітэта Льву Сапегу (1557–1633), якога можна лічыць дзяржаўным дзеячам агульнаеўрапейскага ўзроўню. Займаючы пасады канцлера ВКЛ, віленскага ваяводы і гетмана вялікага літоўскага, ён сканцэнтраваў у сваіх руках значную вышэйшую ўладу ў краіне[1]. Не дзіўна, што якраз пры яго актыўным удзеле быў утвораны Трыбунал ВКЛ, складзены трэці Статут ВКЛ, заключана Берасцейская царкоўная унія. Выдатна адукаваны, ён праявіў свой талент і як публіцыст – у прадмове да славутага зводу законаў "Зварот да ўсіх саслоўяў" Л. Сапега ўдала выкарыстаў розныя *стылістычныя сродкі (метафары), здолеў літаратурна дасканала і трапна* давесці свае меркаванні да грамадства[2]. Ён лічыў, што выданне заканадаўчых кодэксаў перашкодзіць манарху ператварыцца ў тырана, а ва ўмацаванні пазіцый мяшчанства бачыў шлях да паступовай дэмакратызацыі грамадства[3].

Сярод іншых славутых прадстаўнікоў тагачаснай уладнай эліты можна назваць шэраг выдатных асоб, якія істотным чынам паспрыялі паступовай трансфармацыі і мадэрнізацыі дзяржаўнага ладу сваёй краіны, а таксама садзейнічалі пашырэнню на беларускіх землях прагрэсіўных ідэй Адраджэння.

Так, канцлер літоўскі Астафій Валовіч (1520–1587) з'яўляўся адным з ініцыятараў стварэння другога Статута ВКЛ і фундатарам асветніцкай дзейнасці В. Цяпінскага і С. Буднага. Выхаванец шэрага еўрапейскіх універсітэтаў віленскі кашталян і сенатар Ян Кішка (памёр у 1592 г.) не аднойчы на сеймах адстойваў свабоду веравызнання і шмат сродкаў уклаў у распаўсюджванне ў Беларусі арыянства. Гетман вялікі літоўскі Рыгор Хадкевіч (памёр у 1572 ці 1573 г.) прыняў у сваім маёнтку ў Заблудаве пад Гародняй уцекачоў з Масквы І. Фёдарава і П. Мсціслаўца, якія ратаваліся ў ВКЛ ад праследу маскоўскага цара і праваслаўнай царквы[4]. Ён даў ім магчымасць адрадзіць сваю асветніцкую справу ў Беларусі пад уласнай апекай. Выдадзенае ў Заблудаўскай друкарні "Евангелле вучыцельнае" (1569) утрымлівала "Слова на ўшэсце Кірыла Тураўскага". Прадмова да яго была напісана самім гетманам, які з пазіцый асветніцтва заклікаў да таго, каб "научение людем закону греческого ширилося»[5].

Такім чынам, многія айчынныя магнаты XVI – пачатку XVII ст., атрымліваючы ў маладосці выдатную адукацыю пераважна ў еўрапейскіх навучальных установах, імкнуліся рэфармаваць сваю краіну, наблізіўшы яе да больш высока развітых Нідэрландаў, Францыі і Свяшчэннай Рымскай імперыі. Цалкам ажыццявіць гэта яны, зразумела, не маглі, бо мясцовае шляхецкае асяроддзе ніколі б не згадзілася на адмену прыгоннага права. Разам з тым праведзеныя пры іх непасрэдным удзеле гаспадарчыя пераўтварэнні, а таксама падтрымка ды распаўсюджанне імі

[1] *Дубатоўка В.* Архіпелаг Сапегаў. Мн., 2002. С. 138–139; *Саверчанка І.В.* Канцлер Вялікага Княства: Леў Сапега. Мн., 1992. С. 27–49.
[2] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Мн., 1989. С. 47–48.
[3] *Майхровіч С.К.* Нарыс гісторыі старажытнай беларускай літаратуры... С. 44.
[4] Нарысы па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязяў. Кн. 1. С. 138–144, 184–185; *Немировский Е.Л.* Иван Фёдоров в Белоруссии. М., 1979. С. 69–71, 84–88.
[5] *Щепкина М.В.* Переводы предисловий и послесловий первопечатных книг // У истоков русского книгопечатания. М., 1959. С. 221–234.

свецкай гуманістычнай культуры дазваляюць разглядаць гэтых, а таксама шэраг іншых дзяржаўных дзеячаў як носьбітаў новага рэнесансавага светапогляду. Вельмі важным у дадзеным выпадку з'яўляецца тое, што прагрэсіўныя дзеянні ўладнай вярхушкі ВКЛ сталі ўзорам для значнай часткі беларускай шляхты і мяшчанства, якія імкнуліся даць сваім нашчадкам належную адукацыю, выдзялялі значныя сродкі на адкрыццё школ, будаўніцтва храмаў, выдавецкую справу і г.д.

**Рэнесанс у горадабудаўніцтве Беларусі.** Рэнесансавая культура здзейсніла сапраўдны пераварот у паўсядзённым жыцці беларускага грамадства. Свецкая па сваёй сутнасці, яна спрыяла пачатку разлажэння сярэднявечнага быту. Творчы пошук і выкарыстанне антычных традыцый у архітэктуры дазволілі ўвесці ва ўжытак такія дэкаратыўныя элементы, як рустоўка першых паверхаў (апрацоўка сцяны каменнымі блокамі альбо імітацыя яе), атынкоўка і пабелка фасадаў, карнізы, паўадкрытыя галерэі, кафляныя печы, калоны і пілястры (імітацыя калоны ў выглядзе вертыкальнага выступу на сцяне з ордэрнымі элементамі). Яны значна ўзбагацілі знешні выгляд і ўнутраныя інтэр'еры тагачасных будынкаў[1]. Шырока пачала рэалізоўвацца канцэпцыя "ідэальнага горада", распрацаваная італьянскімі архітэктарамі[2]. Згодна з ёю ўсе гарадскія элементы павінны былі ўтвараць адзіны гарманічны ансамбль з геаметрычнай сеткай вуліц, прасторнай гандлёвай плошчай і наяўнасцю значных грамадскіх збудаванняў (ратушы, гандлёвыя рады)[3].

На працягу XV–XVI ст. гарады Беларусі развіваліся паскоранымі тэмпамі, што было выклікана актывізацыяй гандлю і дастаткова стабільным унутраным становішчам у краіне. У выніку гэтага адбыўся значны рост насельніцтва, што прывяло да пашырэння плошчы гарадоў. Побач са старымі гарадскімі кварталамі сталі ўзнікаць "новыя гарады" – месцы сканцэнтравання грамадскага і эканамічнага жыцця. У Менску, напрыклад, у гэты час з'явіліся Ракаўскае і Троіцкае прадмесці, а таксама пачаў фарміравацца Верхні горад[4]. У Гародні з сярэдзіны XVI ст. стаў засяляцца супрацьлеглы бераг Нёмана, дзе ўзнік Занёманскі пасад з новай гандлёвай плошчай[5].

Істотна змянілі сваё аблічча і некаторыя з прыватных гарадоў Беларусі, дзе канцэпцыя "ідэальнага горада" знайшла найлепшае ўвасабленне. Італьянскія майстры ажыццявілі шырокамаштабнае будаўніцтва ў Нясвіжы, які атрымаў рэгулярную планіроўку ў выглядзе квадрата з прамавугольнымі кварталамі і гандлёвай плошчай у цэнтры. Па перыметры ён быў абнесены землянымі валамі з бастыёнамі. Уваход у горад абаранялі мураваныя збудаванні, з якіх да нашага часу ацалела Слуцкая брама і адна з вежаў (канец XVI ст.). Таксама быў значна перабудаваны Быхаў, які стаў уяўляць сабой паўкруг, падзелены папалам вялікай плошчай[6]. Слуцк у плане наблізіўся да круга памерам у 120 гектараў. Кож-

---

[1] *Самусік А.Ф.* Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. Мн., 2004. С. 87–88.
[2] *Лосев А.Ф.* Эстетика Возрождения. С. 76–77.
[3] Культура эпохи Возрождения / Отв. ред. А.Н. Немилов. М., 1986. С. 54–68.
[4] *Дружчыц В.* Места Менск у канцы XV і пачатку XVI ст. // Працы Беларускага дзяржаўнага універсітэта. 1926. № 12. С. 16; *Сыракомля У.* Мінск. Мн., 1992. С. 67.
[5] Страчаная спадчына. С. 288; *Якимович Ю.А.* Зодчество Беларуси XVI – середины XVII в. Мн., 1991. С. 87.
[6] *Слюнькова И.Н.* Архитектура городов Верхнего Приднепровья XVII – середины XIX в. Мн., 1992. С. 41–44.

ны з вышэй пералічаных гарадоў дадаткова да гарадскіх умацаванняў меў і замак-цытадэль, дзе знаходзілася рэзідэнцыя феадала[1].

Помнікаў рэнесансавага жылля гараджан у Беларусі, на жаль, не захавалася. Аднак з тагачасных гравюр (Гародня, 1568–1572 гг.) вядома, што былі пашыраны пераважна прамавугольныя ў плане адна- і двухпавярховыя дамы з мансардай пад двухсхільным дахам. Галоўнае значэнне ў кампазіцыі адыгрываў тарцовы вулічны фасад, які звычайна быў завершаны трохвугольным шчытом з акном пасярэдзіне. Меліся будынкі і з выступаючым верхнім паверхам, які ўтрымліваўся на слупах. Шырокую папулярнасць у тыя часы набылі пабудовы, узведзеныя на аснове фахверкавай канструкцыі ("прускага муру"), дзе драўляныя стойкі і бэлькі ўтваралі каркас, прамежкі паміж якімі запаўняліся цэглай альбо былі глінабітнымі[2]. Часам толькі вулічны фасад быў мураваны, а астатняя частка будынка рабілася з дрэва. У Гародні, на тэрыторыі кляштара брыгітак, ацалеў лямус (XVII ст.), які служыў інтэрнатам для манашак. Гэта двухпавярховы будынак, складзены з масіўных бярвёнаў з двух'яруснай арачнай галерэяй на галоўным фасадзе[3].

Найбольш значнымі грамадскімі пабудовамі таго часу былі ратушы, якія ўзводзіліся ў гарадах з магдэбургскім правам. Менавіта тут засядаў магістрат (выбарны орган самакіравання). Звычайна яны мелі некалькі паверхаў і абарончую вежу з дазорнай пляцоўкай наверсе. Так, гарадзенская ратуша ўяўляла сабою двухпавярховы будынак з галерэяй на верхнім ярусе. Размешчаная ў цэнтры пабудовы вежа завяршалася складаным купалам, шпіль якога ўпрыгожваў герб горада. У канцы XVI ст. мураваная двухпавярховая ратуша была пабудавана і ў Нясвіжы. Яна размяшчалася ў цэнтры гандлёвай плошчы і з трох бакоў была акружана гандлёвымі радамі, змураванымі ў выглядзе рэнесансавай арачнай галерэі з атыкам[4]. Сама ратуша мела лаканічнае архітэктурнае рашэнне і была пазбаўлена знешняга дэкору. У цэнтры яе параднага фасада была ўзведзена шасціярусная вежа з гадзіннікам і высокім складаным купалам, шпіль якога ўпрыгожваў герб горада[5].

Неад'емным элементам гандлёвай плошчы былі таксама і гандлёвыя рады, з'яўленне якіх выклікала надзвычайная шчыльнасць забудовы гарадскіх цэнтраў. Найбольш старажытным з'яўляўся замкнёны тып, калі рады акружалі плошчу па перыметры і мелі некалькі брам[6]. Аднак у некаторых выпадках, як адзначалася вышэй, гандлёвы комплекс размяшчаўся ў цэнтры плошчы, пры гэтым кожная крама выходзіла на яе тарцом з уваходам. У Слоніме, напрыклад, на рынкавай плошчы быў узведзены буйны комплекс падобных гандлёвых радоў, які складаўся са 150 крам[7].

---

[1] *Ткачоў М.А.* Замкі і людзі. Мн., 1991. С. 11–18, 23–26, 80–81; *Чантурия В.А.* Атлас памятников архитектуры и мемориальных комплексов. Мн., 1983. С. 9, 63–64.
[2] *Лакотка А.І.* Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры. Мн., 1999. С. 264–266.
[3] Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 1. Мн., 1987. С. 152–154.
[4] *Сыракомля У.* Вандроўкі па маіх былых ваколіцах. С. 100–101.
[5] *Габрусь Т.В.* Новыя звесткі аб грамадзянскіх пабудовах Нясвіжа канца XVI ст. // Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння. Мн., 1994. С. 176–177; *Чантурия В.А.* Архитектурные памятники Белоруссии. Мн., 1982. С. 76–80.
[6] Беларусы. У 8 т. Т. 2. Дойлідства / Пад рэд. А.І. Лакотка. Мн., 1997. С. 346.
[7] *Трусаў А.А.* Старонкі мураванай кнігі. Мн., 1990. С. 126.

Акрамя гэтага, у тыя часы ў Беларусі актыўна будаваліся корчмы, аўстэрыі і гасціныя дамы, што знаходзіліся як у буйных населеных пунктах, так і на скрыжаваннях гандлёвых шляхоў ці ў асобных вёсках. Яны былі не толькі своеасаблівымі гасцініцамі, але і месцам правядзення ўрачыстасцей, сходаў і сеймікаў. Іх прататыпам з'яўлялася традыцыйнае народнае жыллё з комплексам гаспадарчых пабудоў[1]. Асноўны будынак тут звычайна складаўся са святліцы і сенцаў. Святліца мела глінабітную падлогу і дзве кафляныя печы – адна з іх служыла для абагравання памяшкання, а другая была прыстасавана для гатавання ежы. Пасярод святліцы стаяў стол, акружаны лавамі, уздоўж сцен размяшчаліся паліцы і шафы. Прасторныя сенцы нярэдка служылі і стайняй для коней[2].

Такім чынам, пад уплывам Рэнесанса беларускія гарады сталі паступова змяняць свой знешні выгляд на заходнееўрапейскі манер. Гарадская забудова пачала страчваць хаатычны сярэднявечны выгляд і набываць пэўны рэгулярны характар, што можна з упэўненасцю лічыць асновай для складвання ў далейшым гарманічных грамадска-жыллёвых і культавых ансамбляў.

**Пераўтварэнне замкаў у палацава-паркавыя комплексы.** Важным момантам у развіцці тагачаснай айчыннай архітэктуры стаў пачатак пераўтварэння тутэйшых феадальных замкаў у шыкоўныя палацава-паркавыя комплексы, якія ўсё больш страчвалі абарончы характар. З прычыны развіцця артылерыі і фартыфікацыйнай справы магутныя каліські мураваныя замкі ўжо не маглі гарантаваць сваім гаспадарам бяспеку і спакой. Таму ўвесь цяжар абароны стаў прыходзіцца на насыпаны па перыметры высокі вал са шматлікімі бастыёнамі, на якіх устанаўліваліся гарматы.

Адной з першых у Беларусі цытадэляў новага тыпу стаў Заслаўскі замак ваяводы трокскага Я. Глябовіча, узведзены ў другой палове XVI ст. Галоўны акцэнт пры абароне тут рабіўся на знешні пояс бастыёнаў (з гарматнымі пляцоўкамі), якіх мелася ажно восем – чатыры вуглавыя і чатыры прамежкавыя[3]. Апошнія прыкрывалі падыходы да вала, што ў вышыню дасягаў 8 м. Пры ўваходзе ў замак, каля паўднёва-ўсходняга бастыёна, знаходзілася двухпавярховая мураваная брама з высокім чатырохсхільным чарапічным дахам і таўшчынёю вонкавай сцяны 2,4 м. Падыходы да замка з усіх бакоў засцерагалі штучныя водныя перашкоды[4].

Што ж да саміх рэзідэнцый айчынных феадалаў, то яны набывалі ўсё больш рэпрэзентатыўны выгляд – мелі шырокія вокны, вытанчаныя вежы, разнастайнае ляпное аздабленне фасадаў, а таксама насычаныя арыгінальным дэкорам унутраныя інтэр'еры[5]. Пачатак гэтаму працэсу паклаў кароль Стэфан Баторый, які у 1580-я гг. загадаў пераўтварыць аскетычны Гарадзенскі замак Вітаўта ў буйны палацавы комплекс у стылі рэнесансу. Тры абарончыя вежы былі разбураны[6]. Змяніла свой выгляд і

[1] Археалогія Беларусі. Т. 4. Мн., 2001. С. 45.
[2] Беларусы. Т. 2. Дойлідства. С. 350–354.
[3] *Ткачоў М.А.* Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі ў XIII–XVIII ст. Мн., 1978. С. 80–81.
[4] *Заяц Ю.А.* Заславль в эпоху феодализма. Мн., 1995. С. 17–36.
[5] *Чарняўскі І.М.* Развіццё палацава-замкавых комплексаў Беларусі ў канцы XV–XVII ст.// Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусі. Мн., 1993. С. 68–71.
[6] Археалогія Беларусі. Т. 4. С. 76–77, 96.

вежа-брама, якую накрылі купалам, а на другім паверсе зрабілі вялікі пакой з трыма вокнамі, мармуровай падлогай і камінам. Яшчэ адна вежа, размешчаная над Нёманам, увогуле была прыстасавана пад лазню з "алебастравай залай" на верхнім узроўні. Значна быў пашыраны і палац (60×21 м), які меў два асноўныя паверхі. Яго фасады былі аздоблены роспісамі, дэкаратыўным атыкам, мармуровымі ліштвамі, эркерамі з фігурнымі завяршэннямі. Першы паверх палаца быў адведзены для ваенных і гаспадарчых патрэб. Каралеўскія памяшканні знаходзіліся наверсе, і трапіць сюды можна было з унутранага двара па лесвіцы з балюстрадай. Яны мелі высокія ляпныя столі, мармуровыя, паркетныя ці керамічныя падлогі, печы з паліхромнай кафлі і г.д. Крытая галерэя вяла адсюль у вежу-браму і лазню. З Новым замкам, які таксама быў перабудаваны, каралеўскую рэзідэнцыю злучаў мост з 16 вежачкамі. Усе збудаванні Старога замка былі атынкаваны, а дахі накрыты чырвонай чарапіцай[1].

Перабудоўваліся ў палацы і некаторыя са старых прыватных гатычных замкаў. У канцы XVI – пачатку XVII ст. такі лёс напаткаў, напрыклад, Мірскі замак. Па загадзе яго новага гаспадара М. К. Радзівіла Сіроткі да паўночнай і ўсходняй сцен быў прыбудаваны трохпавярховы Г-падобны корпус пад высокім дахам, дзякуючы якому палац амаль не саступаў па вышыні вежам. Ён меў больш за 40 пакояў, сярод якіх былі і буйныя парадныя залы (Збройная, Партрэтная і інш.)[2]. Пры ўзвядзенні палаца ў сценах былі замураваны байніцы, а на ўзроўні другога і трэцяга паверхаў прабіты вялікія вокны. Вежа-брама была пераўтворана ў капліцу з гадзіннікам на фасадзе. Адчуваўся ўплыў рэнесансу і ў знешнім дэкоры комплекса (рацыянальнасць і лаканізм выразных сродкаў, паўцыркульныя ці арачныя завяршэнні ніш, пабеленыя сцены палаца). Увесь цяжар абароны быў перакладзены на знешнія валы з бастыёнамі, якія ўтваралі прамавугольнік памерам 170×150 м. Мелася тут і мураваная вежа-брама, размешчаная насупраць галоўнага ўваходу ў замак[3].

Важным адрозненнем абноўленага Мірскага замка ад усіх іншых тагачасных айчынных рэзідэнцый магнатаў стала размяшчэнне на паўночны ўсход ад яго першага ў Беларусі "італьянскага саду". Ён быў разбіты за перыметрам вала, а трапіць сюды можна было па арачным мосце, які праходзіў над ім і злучаўся з палацам на ўзроўні другога паверха. Звестак аб тагачасным выглядзе самога парку захавалася няшмат – вядома, што ён быў прамавугольны ў плане, меў геаметрычна дакладную сетку алей і шэраг ліпавых баскетаў (кампактныя кампазіцыі з дрэў і кустоўя)[4]. Разам з тым сам факт яго стварэння сведчыў пра карэнныя змены ў светапоглядзе тагачаснага грамадства. У часы Сярэднявечча сады пераважна разбіваліся ў манастырах і лічыліся сімвалам "нябеснага раю". Да таго ж да XVI ст. яны мелі выключна практычную функцыю – тут вырошчвалі садавіну, гародніну і лекавыя расліны[5].

---

[1] *Трусаў А.А., Собаль В.Е., Здановіч Н.І.* Стары замак у Гродна. Мн., 1993. С. 25–28.
[2] *Калнін В.В.* Мірскі замак. Мн., 2002. С. 66–75.
[3] *Шчакаціхін М.* Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Т. 1. Мн., 1993. С. 198–214.
[4] *Будыко Н.С.* Парки дворцово-замковых комплексов в Несвиже и Мире // Строительство и архитектура Белоруссии. 1979. № 1. С. 26–27.
[5] *Федорук А.Т.* Садово-парковое искусство Белоруссии. Мн., 1989. С. 14.



Нясвіжскі замак у канцы XVI ст.
З гравюры Т. Макоўскага

У канцы XVI ст. пад уплывам рэнесансу было распачата стварэнне яшчэ адной знакамітай рэзідэнцыі Радзівілаў – Нясвіжскага замка. Яго ўзвядзеннем займаўся вядомы італьянскі дойлід Я.М. Бернардоні. У плане замак меў прамавугольную форму памерам 170×110 м і быў акружаны ровам з вадой. Абмураваныя каменнем бастыёны замка з'яўляліся асноўным элементам яго абароны. З боку горада была ўзведзена мураваная брама з вежай. На тэрыторыі замка знаходзіліся тры асобна размешчаныя мураваныя карпусы, якія ўтваралі ўнутраны парадны двор. Цэнтральнае месца займаў трохпавярховы палац, пастаўлены насупраць брамы. Злева ад яго знаходзілася трохпавярховая казарма з высокай вежай, а справа – двухпавярховы гаспадарчы будынак[1]. Нясвіжскі замак у такім выглядзе з'яўляўся галоўнай цытадэллю Радзівілаў да пачатку XVIII ст., калі яго значна пашкодзілі шведы ў час Паўночнай вайны[2].

Рэнесансавы замак з 1580-х гг. узводзіўся ў в. Любча пад Навагрудкам па ініцыятыве віленскага ваяводы Я. Кішкі. Ён меў форму прамавугольніка памерам 64×87 м і знаходзіўся на ўзвышшы каля Нёмана. З трох бакоў яго акружаў роў шырынёй 30 м і глыбінёй да 10 м. Абарончыя ўмацаванні замка ўключалі драўляныя сцены, а таксама 4 ці 5 вежаў, якія па канструкцыі нагадвалі мірскія (чатырохгранная аснова і васьміграння верхні ярус)[3]. Да нашых дзён захавалася дзве мураваныя вежы, чатырохпавярховая брама (10×10 м) з 20 гарматнымі і 24 мушкетнымі байніцамі, а таксама вуглавая трохпавярховая вежа (9×9 м) з 4 гарматнымі і 16 мушкетнымі байніцамі. Іх знешні дэкор быў больш лаканічным, чым у Міры, і ўключаў пілястры паабапал брамы, карнізы і ліштвы. На тэрыторыі замка быў пабудаваны драўляны палац пад чатырохсхільным дахам з мансардай у цэнтры. У XVII ст. пры Радзівілах Любчанскі замак перабудоўваўся пад палац, для чаго ў вежах на верхніх ярусах замест байніц прабілі вялікія вокны. У 1655 г. Любчу спалілі казакі, і замак паступова прыйшоў у заняпад[4].

Яшчэ адзін замкава-палацавы комплекс у 1620-я гг. быў пабудаваны ў Быхаве канцлерам Л. Сапегай. Ён займаў узвышша над Дняпром памерам 77×100 м. Ад горада яго аддзяляў роў шырынёй да 27 м. З гэтага бо-

[1] *Ткачев М.А.* Замки Беларуси. Мн., 2002. С. 148–152; *Федорук А.Т.* Садово-парковое искусство Белоруссии. С. 201–202.
[2] *Сыракомля У.* Вандроўкі па маіх былых ваколіцах. С. 118–119.
[3] *Чарняўскі І., Саітгарэева С.* Замак у Любчы // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1984. № 4. С. 30–32.
[4] *Краўцэвіч А.К.* Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV–XVII ст. Мн., 1991. С. 106–107; *Ткачоў М.А.* Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі ў XIII–XVIII ст. С. 70–72.

ку знаходзілася мураваная брама і дзве вуглавыя вежы, злучаныя паміж сабой аднапавярховымі крыламі[1]. Сам двухпавярховы палац тут меў Г-падобны выгляд і дзве дазорныя вежы. Жылыя пакоі і вялікая парадная зала размяшчаліся на верхнім паверсе, і трапіць сюды можна было з паўадкрытай рэнесансавай галерэі, прыбудаванай да дваровага фасада. Пазней замак быў перабудаваны і захаваўся да нашых дзён[2].

На дойлідства Беларусі значны ўплыў аказала і Паўночнае Адраджэнне. Менавіта пад уплывам галандскага маньерызму ў першай палове XVII ст. быў пабудаваны для падканцлера ВКЛ П. Сапегі Гальшанскі замак (Ашмянскі раён). У плане ён меў выгляд прамавугольніка (88,6×95,6 м). Замкнёны ўнутраны двор утваралі Г-падобны трохпавярховы палац, а таксама адна- і двухпавярховыя службовыя карпусы. Сцены замка былі прарэзаны вялікімі ваконнымі праёмамі. Па вуглах замка ўзвышаліся чатыры стромкія вежы, а яшчэ адна, самая высокая, са шлемападобным купалам, упрыгожвала цэнтр галоўнага фасада палаца. Тут таксама размяшчаліся жылыя пакоі, а таму замест байніц былі зроблены вокны[3]. Уваход у комплекс быў выкананы ў выглядзе вялікай аркі, прабітай у сцяне аднаго з карпусоў. Абарончыя функцыі цалкам перакладаліся на знешнія валы і роў, што акружалі замак. Першы паверх палаца адводзіўся пад гаспадарчыя памяшканні, на другім размясціліся парадныя залы, а трэці прыстасавалі пад жыллё магната. Фасады замка мелі багатае дэкаратыўна-пластычнае аздабленне, якое ўключала складаны фігурны атык, разьблёныя ліштвы, вітражы, рустоўку, плоскія нішы і інш.[4] Да нашых дзён ад некалі шыкоўнага замка захаваліся толькі рэшткі дзвюх вежаў і ўсходняга крыла.

Буйны замкавы комплекс у стылі Паўночнага Адраджэння быў створаны ў 1620-х гг. і ў в. Смаляны (Аршанскі раён) па ініцыятыве князя С. Сангушкі. Ён займаў пляцоўку памерам 100×200 м і меў выгляд замкнёнага прамавугольніка. У выпадку небяспекі наваколле магло штучна затапляцца[5]. Сам замак меў чатыры вуглавыя трох'ярусныя вежы і пяціярусную вежу-браму, якія паміж сабой былі злучаны трохпавярховым палацам. Яго фасады былі цалкам атынкаваны і пабелены. Вежы да таго ж мелі разнастайны вытанчаны ляпны дэкор, які аздабляў шматлікія плоскія нішы і вялікія вокны. Інтэр'еры палаца па загадзе гаспадара былі ўпрыгожаны фрэскамі на рэлігійныя сюжэты, тэмы смерці і забыцця. Да нашых дзён тут захаваўся толькі фрагмент вежы-брамы[6].

Акрамя палацава-замкавых комплексаў на Беларусі ўзводзіліся і ўмацаваныя сядзібы. Так, у в. Гайцюнішкі Воранаўскага раёна ацалеў дом-крэпасць, пабудаваны ў 1613 г. эмігрантам з Галандыі П. Нонхартам, які займаў пасаду ўпраўляючага каралеўскімі збудаваннямі ў Вільні. Кампактны двухпавярховы будынак (15×34 м) меў тоўстыя сцены (да 1,5 м) з цыліндрычнымі вежамі па вуглах[7]. У цэнтры параднага фаса-

---

[1] Археалогія Беларусі. Т. 4. С. 70.
[2] *Чантурия В.А.* Архитектурные памятники Белоруссии. С. 209.
[3] *Чарняўскі І.М.* Замак у Гальшанах // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1983. № 3. С. 41–43.
[4] *Трусов О.А.* Памятники монументального зодчества Белоруссии XI–XVII вв. Мн., 1988. С. 47–48, 121–123.
[5] Археалогія Беларусі. Т. 4. С. 70; *Трусаў А.А.* Старонкі мураванай кнігі. С. 133.
[6] *Шынкевіч А.М.* Аршанская даўніна. Мн., 1992. С. 91–95.
[7] Археалогія Беларусі. Т. 4. С. 70.

да размяшчалася буйная трохпавярховая прамавугольная ў плане вежа. Першы паверх прызначаўся для гарнізона, а верхнія былі адведзены для гаспадара. Па перыметры дом акружаў вал з бастыёнамі і роў[1].

Такім чынам, пад уплывам Рэнесанса рэзідэнцыі айчынных магнатаў паступова пачалі страчваць абарончы характар і пераўтварацца ў палацавыя комплексы. Разам з тым наяўнасць тут бастыённай сістэмы ўмацаванняў захоўвала за імі статус магутных прыватных крэпасцей. У цэлым жа сам факт з'яўлення прадстаўнічых сядзіб тутэйшай арыстакратыі сведчыў аб хуткім пашырэнні свецкай культуры ў Беларусі. Пры гэтым трэба ўлічваць, што практычна ў кожнай з іх мелася добрая бібліятэка, уласная карцінная галерэя, музычная капэла і г.д.

**Культавае дойлідства эпохі Рэнесанса ў Беларусі.** Далейшае развіццё пад уплывам Рэнесанса атрымала і айчыннае культавае дойлідства. Будаўніцтва храмаў у Беларусі ў азначаны перыяд адбывалася пераважна ў змешаным гатычна-рэнесансавым стылі[2]. Так, у згаданай раней Мураванкаўскай царкве-крэпасці побач з готыкай відавочна прасочваецца і ўплыў эпохі Адраджэння. Па-першае, на парадным фасадзе царквы шчыт мае двух'ярусную кампазіцыю і фігурныя абрысы. Па-другое, тут была ўзведзена ўсяго адна вялікая апсіда. Па-трэцяе, цыліндрычныя вежы храма арганічна звязаны з асноўным аб'ёмам, што надае яму больш кампактны і ўраўнаважаны характар. Па-чацвёртае, фасады царквы насычаны дэкорам, і галоўны элемент іх – рытмічная і ўпарадкаваная сістэма атынкаваных плоскіх пераважна арачных ніш розных памераў. Па-пятае, у параўнанні з Сынкавіцкай царквой-крэпасцю Мураванкаўскі храм мае куды слабей распрацаваную сістэму байніц, што сведчыць пра пэўнае аслабленне тут абарончай функцыі[3].



Кальвінскі збор у Заслаўі

Аднак не падобнае паступовае размыванне готыкі было галоўнай адметнасцю рэнесансу ў айчынным культавым дойлідстве. Найбольш характэрнай праявай новага часу стала з'яўленне на беларускіх землях у другой палове XVI – пачатку XVII ст. пратэстанцкіх храмаў і ў першую чаргу – кальвінскіх збораў. Апошнія звычайна мелі планіроўку аднанефавага зальнага храма з шматграннай апсідай і прытворам з высокай вежай-званіцай. Кампазіцыя храмаў у адпаведнасці з аскетычнымі прынцыпамі кальвіністаў вырашалася ў простых і суровых формах, а знешні дэкор абмяжоўваўся плоскімі нішамі і

---

[1] Памятники искусства Советского Союза: Белоруссия, Литва, Латвия, Эстония. М., 1986. С. 363–364; *Якимович Ю.А.* Зодчество Беларуси XVI – середины XVII в. С. 79.

[2] Архітэктура Беларусі. Т. 1. Мн., 2005. С. 269–271.

[3] *Габрусь Т.В.* Мураваныя харалы. Сакральная архітэктура беларускага барока. Мн., 2001. С. 39; *Кушнярэвіч А.М.* Культавае дойлідства Беларусі XIII–XVI стст. Мн., 1993. С. 71–83.

# ВКЛ у другой палове XVI ст. Утварэнне Рэчы Паспалітай




**НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ**

- ВІЛЬНЯ — Сталіцы дзяржаў
- ПОЛАЦК — Цэнтры ваяводстваў Рэчы Паспалітай
- Друцк — Цэнтры паветаў Рэчы Паспалітай
- Барысаў — Іншыя гарады і населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у канцы XVI ст.
- ваяводстваў ВКЛ
- Рэчы Паспалітай у канцы XVI ст.
- далучаных тэрыторый
- Граніца сучаснай Рэспублікі Беларусь
- Паходы Стэфана Баторыя 1579–1581 гг.

Месцы і даты заключэння

- 1569 — Люблінскай уніі паміж ВКЛ і Каралеўствам Польшча
- 1582 — Ям-Запольскага міра паміж Рэччу Паспалітай і Маскоўскім царствам

**ТЭРЫТОРЫІ**

- ВКЛ да заключэння Люблінскай уніі 1569 г.
- Каралеўства Польшча да 1569 г.
- ВКЛ, якія былі інкарпараваны ў склад Каралеўства Польшча паводле ўмоваў Люблінскай уніі
- Мазырскага павета Кіеўскага ваеводства, якія засталіся ў складзе ВКЛ
- занятыя маскоўскімі войскамі ў ходзе Лівонскай вайны (да канца 1577 г.)
- Маскоўскага царства і Лівонскага ордэна, сцверджаныя за Рэччу Паспалітай паводле ўмоваў Ям-Запольскага міру 1582 г.

Віктар Цемушаў

# Эканоміка Беларусі ў XVI ст.




**НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ**

- ВІЛЬНА — Сталіцы дзяржаў
- ПОЛАЦК — Цэнтры ваяводстваў Рэчы Паспалітай
- Друцк — Цэнтры паветаў Рэчы Паспалітай
- *Барысаў* — Іншыя гарады і населеныя пункты
- Буйныя гандлёвыя цэнтры
- МЕНСК 6 — Буйныя цэнтры рамеснай дзейнасці (з пазначэннем прыблізнай колькасці прафесій)

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у канцы XVI ст.
- ваяводстваў ВКЛ
- Рэчы Паспалітай у канцы XVI ст.
- Граніца сучаснай Рэспублікі Беларусь

**ТЭРЫТОРЫІ**

- ВКЛ у канцы XVI ст.
- Каралеўства Польшча ў канцы XVI ст.

***Асноўныя цэнтры вытворчасці***

- жалеза і вырабаў с яго
- ліцейнай
- зброі
- будаўнічай
- кафлі
- дрэваапрацоўчай
- паперы
- шкляных вырабаў
- скуры і вырабаў з яе
- тканін і адзення

***Асноўныя раёны***

- нарыхтоўкі драўніны
- лоўлі рыбы
- здабычы футравых жывёл
- Асноўныя сухапутныя шляхі
- Асноўныя водныя шляхі

***Патокі тавараў***

- Вываз — з Беларусі
- Увоз — у Беларусь

Віктар Цямушаў

карнізам. Часам пры будаўніцтве збораў выкарыстоўваліся традыцыі сярэднявечнай абарончай архітэктуры (тоўстыя сцены, байніцы, контрфорсы)[1]. Цікава, што некаторыя з іх з'яўляліся своеасаблівымі цэнтрамі абароны мясцовых замкавых комплексаў. Заслаўскі храм, напрыклад, знаходзіўся на тэрыторыі аднаго з першых у Беларусі бастыённых замкаў. Яго 35-метровая пяціярусная вежа-званіца з'яўлялася галоўнай дамінантай усяго комплексу і была прыстасавана для нясення кругласутачнай варты. Зруйнаваны ў канцы 1940-х гг. кальвінскі збор у Дзяржынску (пачатак XVII ст.) па перыметры быў акружаны ровам, а таксама мураванымі сценамі з 9 конусападобнымі вежамі, якія мелі два ўзроўні байніц[2].

Яскравай адметнасцю айчынных збораў была арыгінальнасць архітэктурнага рашэння і непаўторнасць асобных элементаў кампазіцыі. Так, калі разглядаць Заслаўскі збор (будаўнічыя работы пачаліся ў 1577 г.), то гэты храм не меў апсіды, а яго знешні дэкор акрамя традыцыйных плоскіх ніш уключаў яшчэ пілястры і рустоўку вуглавых частак. Унікальны кальвінскі збор быў пабудаваны ў 1617 г. у Смаргоні. Асноўны аб'ём з высока размешчанымі над зямлёй паўцыркульнымі вокнамі ў плане меў васьміграннную форму і быў накрыты вялікім купалам. Па перыметры яго акружаў атык з пілястрамі і паўцыркульнымі аркамі. Уваход у храм быў аформлены ў выглядзе двух'яруснай ступеньчатай вежы, збоку ад якой знаходзілася яшчэ адна цыліндрычная вежа меншых памераў з вітой лесвіцай унутры[3]. Сапраўднымі шэдэўрамі культавага дойлідства часоў Рэнесанса з'яўляюцца таксама зборы ў Дзераўной (1590, зараз Стаўбцоўскі раён), Жодзішках (1612, Смаргонскі раён) і Кухцічах (1560–1570, Уздзенскі раён)[4].

Успрынялі традыцыі Рэнесанса і некаторыя з узведзеных у тыя часы касцёлаў, для якіх быў характэрны бязвежавы тып храма. Да іх ліку можна аднесці касцёлы ў Чарнаўчыцах (1583–1595, Брэсцкі раён), Новым Свержані (1588, Стаўбцоўскі раён), Замосці (1620, Слуцкі раён) і Крамяніцы-Дольнай (1617–1620, Зэльвенскі раён). У плане гэта былі прамавугольныя храмы з адной буйной апсідай, двухсхільным дахам і даволі вялікімі віконнымі праёмамі з паўкруглымі завяршэннямі. Фасад часам упрыгожваўся плоскімі прамавугольнымі і круглымі нішамі[5].

Менш папулярным Рэнесанс быў у праваслаўнай канфесіі. Тут можна ўзгадаць толькі царкву ў Новым Свержані (1590, Стаўбцоўскі раён), якая па сваёй кампазіцыі вельмі нагадвае размешчаны на супрацьлеглым баку плошчы касцёл[6]. Яна аднанефавая з масіўнай вежай перад уваходам і паўцыркульнымі плоскімі нішамі на фасадах. Галоўнай жа адметнасцю храма стаў невялікі фігурны барочны купал з галоўкай[7].

---

[1] Беларусы. Т. 2. С. 159–163.

[2] *Адзярыха М.* Апісанне Койданаўскага замку // З глыбі вякоў. Мн., 1992. С. 214–220; *Ткачоў М.А.* Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі. С. 80–82, 135.

[3] *Ткачев М.А.* Замки Беларуси. С. 198–200.

[4] *Бажэнаў Ю.* Кухціцкі збор – сведка гісторыі // Беларускі гістарычны часопіс. 2003. № 3. С. 56–61; Гісторыя беларускага мастацтва / Гал. рэд. С.В. Марцэлеў. Т. 1. С. 164–165.

[5] *Кулагін А.М.* Каталіцкія храмы на Беларусі. Мн., 2000. С. 65–66, 81–82, 111–112, 155; *Слюнькова И.Н.* Монастыри восточной и западной традиций. Наследие архитектуры Беларуси. М., 2002. С. 163, 183.

[6] *Шпилевский П.М.* Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. С. 91.

[7] *Габрусь Т.В.* Мураваныя харалы. С. 72–73; *Кулагін А.М.* Праваслаўныя храмы на Беларусі. Мн., 2002. С. 147–148.

21 Зак. 1594

Спадчынай часоў Адраджэння з'яўляюцца таксама капліцы, якія выконвалі функцыю родавых пахавальняў. У в. Быцень Івацэвіцкага раёна ў 1654 г. у барочна-рэнесансавым стылі быў узведзены кампактны храм з васьміграпным купалам, прамавугольнымі плоскімі нішамі на фасадах і паўцыркульнымі завяршэннямі вокнаў[1]. Пабудавалі капліцу ў 1633 г. у в. Гайцюнішкі і Ионхарты. Сцены гэтага храма былі ўмацаваны вялізнымі контрфорсамі, схілы якіх пакрывала чарапіца[2].

Акрамя хрысціянскіх храмаў у стылі рэнесансу ўзводзіліся сінагогі. Захавалася сінагога ў Быхаве (пачатак XVII ст.). Гэта цэнтрычная пабудова памерам 20×21 м з таўшчынёй сцен да 2 м. Асаблівасць яе кампазіцыі – круглая вуглавая вежа, якая значна выступала за межы сцен і мела яўны абарончы характар. Акрамя таго, у паддашку храма была зроблена баявая галерэя з байніцамі. З іншых сінагог таго часу трэба назваць храмы ў Шклове, Пінску, Наваградку і Слоніме, якія, аднак, ужо мелі і асобныя рысы барока[3].

Такім чынам, уплыў рэнесансу дастаткова шырока адчуваўся ў айчыннай культавай архітэктуры. Дзякуючы яго сінтэзу з іншымі стылямі беларускія храмы XVI – пачатку XVII ст. паступова пачалі пазбаўляцца сярэднявечнай манументальнасці і лаканізму выяўленчых сродкаў. Да таго ж менавіта ў гэты час у айчынным культавым дойлідстве значна ўзмацніўся ўплыў заходнееўрапескай архітэктуры, якая пачала дамінаваць у мясцовых храмах усіх канфесій.

**Выяўленчае і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва.** Мастацтва часоў Адраджэння арыентавалася на пачуццёвае глыбіннае ўспрыманне, з наяўнасцю перспектывы і аб'ёмнага трохмернага адлюстравання навакольнага свету. Усё большую ролю пачынала адыгрываць суб'ектыўнае бачанне самаго мастака, прафесія якога вызначылася ў самастойны від дзейнасці[4]. Асноўным аб'ектам мастацкага творчага пошуку станавілася рэчаіснасць, а рэлігійныя сюжэты секулярызаваліся (выявы святых падобныя да простых людзей)[5].

У параўнанні з архітэктурай у беларускім мастацтве Рэнесанс стаў праяўляцца значна раней – з пачатку XVI ст. Уласцівае Адраджэнню імкненне пазнаць чалавека і раскрыць яго ўнутраны свет стала галоўнай прычынай развіцця свецкага жывапісу[6]. Пры гэтым рэнесансавы партрэт у адрозненне ад гатычнага адмаўляў старыя рэлігійныя каноны і імкнуўся дакладна перадаць індывідуальнасць персанажаў, хоць асобныя рысы іканапісу тут усё ж захоўваліся[7].

Першай праявай рэнесансавага жывапісу ў ВКЛ можна лічыць пачатак калекцыяніравання твораў славутых майстроў італьянскага Адраджэння. У Ніжнім замку ў Вільні Жыгімонт I Стары і Жыгімонт II Аўгуст сабралі пад уплывам каралевы Боны вялікую колькасць твораў мастакоў школы Тыцыяна. Значнае пашырэнне свецкага партрэта на Беларусі адбылося з сярэдзіны XVI ст., калі свецкі жывапіс выйшаў за ме-

---

1 Страчаная спадчына. С. 141–144.
2 *Кулагін А.М.* Каталіцкія храмы на Беларусі. С. 33.
3 *Чантурия В.А.* Архитектурные памятники Белоруссии. С. 144–145, 209–210.
4 *Баткин Л.М.* Итальянские гуманисты... С. 43–46.
5 *Падокшын С.А.* Беларуская думка ў кантэксце гісторыі і культуры. С. 71.
6 Культура эпохи Возрождения. С. 80–88.
7 Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 1. С. 205.

жы толькі каралеўска-вялікакняскага кола і карцінныя галерэі з'явіліся ў рэзідэнцыях айчынных магнатаў (Нясвіж, Слуцк, Смаляны). На гэты ж час, дарэчы, прыходзяцца звесткі і аб першым зборы твораў жывапісу заможным гараджанінам – у полацкага купца Якава Хадыкі мелася "16 картин на полотне"[1].

Запрошаныя ў Беларусь еўрапейскія мастакі (немцы А. Бінк, А. Вейдэ і Г. Хэльвіг, італьянцы Дж. дэль Монтэ і К. Італа), а таксама мясцовыя жывапісцы (Грахоўскі, Навоша, Нікіфар, Іеранім, Семяновіч, А. Антановіч, Я. Літвін, Д. Івановіч) працавалі пераважна ў рэчышчы маньерызму, што праявілася ў застыласці твараў і частковым прыхарошванні вобразаў[2]. Усяго на працягу XV–XVI ст. у дакументах адзначана дзейнасць на беларускіх землях 26 жывапісцаў, творы якіх насілі пераважна рэпрэзентатыўны характар. Карціны мелі ўраўнаважаную кампазіцыю.


Юрый Радзівіл Геркулес. Карціна XVI ст.

Мужчыны падаваліся як мужныя ваяўнічыя асобы, часам у рыцарскіх даспехах (партрэт Ю. Радзівіла, другая палова XVI ст.) ці ў парадным адзенні (партрэт Міхаіла Барысавіча, канец XVI ст.). Ствараліся ў тыя часы і вывы духоўных асоб (партрэты М. Гедройца, 1585 г.; Е. Радзівіла, 1590 г.; П. Скаргі, 1612 г.), якія паказваліся спакойнымі і ўпэўненымі ва ўласнай годнасці[3]. Пры адлюстраванні жанчын на першае месца выходзіла жаданне паказаць акрамя шляхетнай велічы яшчэ і іх прыгажосць, а таксама багацце адзення. Асобнае месца ў тагачасным жывапісе займае партрэт Кацярыны Слуцкай (1580), дзе яна паказана ў адзенні ўдавы. Прыглушаныя тоны дазволілі мастаку засяродзіць сваю ўвагу на твары княгіні, які быў выкананы ў рэалістычнай манеры[4]. Значнае месца ў партрэтах стала адводзіцца і прадметам абсталявання. Характэрным прыкладам гэтага можа служыць партрэт Кацярыны Астрожскай (1597). Каля апранутай у шыкоўнае іспанскае плацце княгіні размешчаны столік з гадзіннікам, які сімвалізіруе хуткабежнасць часу і абмежаванасць чалавечага жыцця. Агульным для ўсіх вышэй пералічаных твораў, нягледзячы на відавочны псіхалагізм выяўлення персанажаў, можна лічыць наяўнасць адчувальных рысаў сярэднявечных школ жывапісу, што праявілася ў пэўнай плоскаснасці, рафінаванасці, статычнасці і застыласці вобразаў, а таксама нерухомасці позірку[5].

[1] АВК. Т. 9. Вильно, 1878. С. 470.
[2] *Высоцкая Н.Ф.* Мастакі і малярскія цэхі ў Беларусі XVI–XVIII ст. // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1976. № 2. С. 48.
[3] Жывапіс Беларусі XII–XVIII ст. / Н.Ф. Высоцкая, Т.А. Карповіч. Мн., 1980. С. 113.
[4] Памяць. Гістор.-дакумент. хроніка Слуцкага раёна і г. Слуцка. Мн., 2000. С. 55–56.
[5] Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 1. С. 206–213; *Кацер М.С.* Изобразительное искусство Белоруссии дооктябрьского периода. Мн., 1969. С. 40–48, 71–79.

Развіццё айчыннага гравюрнага мастацтва ў Беларусі звязана з дзейнасцю Ф. Скарыны. У яго кнігах змешчана значная колькасць гравюр, дзе пад уплывам венецыянскіх майстроў і А. Дзюрэра цесна перапляталіся гатычныя і рэнесансавыя традыцыі. Але апошнія ўжо дамінавалі. Лепшае сведчанне гэтага – аўтапартрэт першадрукара, сам факт змяшчэння якога ў рэлігійных кнігах сведчыць пра пачатак секулярызацыі царкоўнага жыцця. Адпавядае ідэям Адраджэння і кампазіцыя гэтай гравюры. Ф. Скарына паказаны ў момант напружанай інтэлектуальнай дзейнасці надзвычай рэлістычна – ён апрануты ў тагачаснае еўрапейскае адзенне і знаходзіцца ў сваім рабочым кабінеце ў час працы над рукапісам у акружэнні розных паўсядзённых рэчаў (глобус, гадзіннік, ліхтар, кнігі і інш.)[1]. Наогул жа яго гравюрам уласціва кампазіцыйная цэласнасць, рэалістычнасць, гераізацыя вобразаў, папулярызацыя новых архітэктурных форм і прыёмаў. Цікава, што выявы біблейскіх персанажаў былі часам набліжаны да сучасных першадрукару простых людзей (сялян і рамеснікаў), апранутых у тыповае тагачаснае адзенне[2].

Сярод іншых тагачасных гравюр можна адзначыць рэалістычны партрэт В. Цяпінскага (1576), на якім ён паказаны ў еўрапейскай вопратцы. Вобраз яго ярка індывідуальны, лёгкая ўсмешка падкрэслівае добразычлівасць і душэўную цеплыню. Важным новаўвядзеннем можна лічыць і тое, што партрэт друкара быў падпісаны на старабеларускай мове[3].

Асобнай тэмай тагачаснага мастацтва гравюры былі гарадскія краявіды (Гародня, Нясвіж і Полацк), дзе дакладна паказваліся абрысы і асноўныя дамінанты – замкі, ратушы і храмы. Шырокую вядомасць, напрыклад, атрымала дзейнасць Т. Макоўскага (1562 ці 1572 г. – каля 1630 г.) у Нясвіжы, дзе ён не толькі працаваў як мастак, але і кіраваў друкарняй Радзівілаў. Сярод найбольш славутых яго гравюр выявы быццам з "птушынага палёту" Вільні, Трокаў, Нясвіжа, Клецка, Масквы, а таксама серыя "Аблога Смаленска"[4].

У беларускім іканапісе рэнесанс стаў адчувацца з сярэдзіны XVI ст., хоць размыванне старадаўніх традыцый пачалося ў ім раней – праз узрастанне ўплыву заходнееўрапейскага мастацтва. У тагачасных абразах назіралася імкненне да канкрэтызацыі выяў святых. Дзякуючы гэтаму абразы пачыналі адлюстроўваць густы і традыцыі народнага мастацтва: узнёслыя пачуцці і ўяўленні перадаваліся праз звыклыя і набліжаныя да паўсядзённасці формы. Паступова перадача індывідуальных рыс характару стала настолькі канкрэтнай, а адчувальнасць фактуры жывога цела настолькі шчырай, што твор ужо больш нагадваў свецкі партрэт, чым абраз.

Пры гэтым праз павышаную ўвагу да навакольнай рэчаіснасці значна ўзбагачалася кампазіцыя: задні план насычаўся своеасаблівымі кулісамі ў выглядзе рэнесансавых збудаванняў. Праз уплывалі традыцыі заходнееў-

---

[1] *Галенчанка Г.Я.* Партрэты першадрукара // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1972. № 1. С. 28–29.

[2] *Пуцко В.Г.* Творчы метад ілюстратараў Скарынінскай Бібліі // Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння. С. 24–30; *Шматаў В.Ф.* Беларуская кніжная гравюра XVI–XVIII ст. Мн., 1984. С. 33–53.

[3] *Падокшын С.А.* Беларуская думка ў кантэксце гісторыі і культуры. С. 86; *Шматаў В.Ф.* Беларуская кніжная гравюра... С. 58–60.

[4] *Кацер М.С.* Изобразительное искусство Белоруссии дооктябрьского периода. С. 101–102.

рапейскіх іканапісных школ і на арнаментацыю айчынных абразоў рэльефнай разьбой з раслiннымі матывамі: сплеценныя з кветак і лістоў узоры слаліся па-за постацямі святых. Важным момантам таксама станавілася адухоўленасць вобразаў і ўраўнаважанасць кампазіцыі. Разам з тым візантыйскі ўплыў па-ранейшаму захоўваў у Беларусі моцныя пазіцыі, што праявілася ў плоскаснай манеры малюнка і застыласці фігур святых[1].

Так, абраз "Маці Божая Іерусалімская" са Здзітава (Жабінкаўскі раён) багата арнаментаваны рэльефнай разьбой, якая па манеры і стылю набліжана да рэнесансавай (буйныя пераплеценыя сцяблiны і лісты). Да таго ж насычаная лірызмам выява святой тут крыху павернута, што стварала ілюзію некаторай прасторавай глыбіні, а яе твар крыху падрумянены. Адухоўленасць вобразаў, гарманічнае спалучэнне жамчужна-шэрых, залацістых і прыглушаных чырвоных тонаў, ураўнаважанасць кампазіцыі – гэта праявы Адраджэння ў абразе "Міколы-цудатворцы" з Ляхаўцаў (Маларыцкі раён). Абразы "Маці Божая Адзігітрыя" з Дубінца і "Маці Божая Замілаванне" з Маларыты выкананы пад істотным уплывам кананічнай візантыйскай іканаграфіі (вытанчаная графічная манера пісьма, шчыльнае каларыстычнае вырашэнне), але разам з тым і тут адчуваюцца новыя павевы – пад уздзеяннем італа-крыцкай школы іканапісу німбы святых вылучаны разьблёным рэльефам[2]. Абраз "Параскева Пятніца" са Случчыны ўвогуле з'яўляецца копіяй гравюры "Петка" з выдадзенай сербскай калоніяй у Венецыі кнігі "Мінея выбраная" (1538). Пры гэтым фон на ёй аздоблены разьблёным рэнесансавым арнаментам, а сама выява святой вызначаецца пэўнай аб'ёмнасцю і святлоценявой мадэліроўкай твару. Арыгінальна выглядае скрутак, што яна трымае ў руцэ – насуперак логіцы ён разгортваецца ўверх[3]. Абразы "Маці Божая Баркулабаўская" з Быхава і "Старазапаветная Тройца" (Камянецкі раён) аздоблены стромкай высокарэльефнай разьбой. Асобую цікавасць уяўляе размяшчэнне св. Тройцы на фоне звычайнага тагачаснага гарадскога пейзажу, да таго ж на стале перад імі знаходзіцца сучасны посуд (відэльцы, нажы, чаркі, міска)[4].

У выніку падобнага спалучэння візантыйскай, сярэднявечнай і рэнесансавай традыцый у Беларусі пачала складвацца самабытная іканапісная школа, характэрнымі рысамі якой былі: уласныя падыходы і бачанне малюнка, манеры разьбы і пісьма (паэтапнае нанясенне фарбаў для стварэння пэўнай рэльефнасці), перанясенне падзей свяшчэннай гісторыі ў сучаснае гледачу асяроддзе, спалучэнне сімвалізму і індывідуалізму, дакладная перадача дробных дэталей, павышаная дэкаратыўнасць і інш.

Што ж да алтарных размалёвак, то тут куды мацней чым у іканапісе праявілася характэрная для Рэнесанса ўвага да зямной прыгажосці звы-

---

1 *Быцева І.М., Хадыка Ю.В.* Разьба па фонах абразоў як датуючая прыкмета // Помнікі культуры. Новыя адкрыцці. Мн., 1985. С. 44; *Фадзеева В.Я.* Этнаграфічныя рэаліі ў беларускім іканапісу XVI–XVIII стст. // Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння. С. 202–206.

2 *Кацер М.С.* Изобразительное искусство Белоруссии доокябрьского периода. С. 65–70.

3 Жывапіс Беларусі XII–XVIII стст. С. 26; *Слюнькова И.Н.* Монастыри восточной и западной традиций. С. 47.

4 *Без-Корнилович М.О.* Исторические сведения о примечательных местах в Белоруссии. СПб., 1855. С. 205; *Хадыка А.Ю., Хадыка Ю.В.* Рэнесанс у беларускім новым іканапісу // Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння. С. 63–67.



Абраз “Пакланенне вешчуноў”. Першая палова XVI ст.

чайнага чалавека, да яго пачуццяў і клопатаў. Акрамя яскравых індывідуальных рыс персанажаў якасна новым можна лічыць пашырэнне ў ім бытавых і этнаграфічных рыс, а таксама падкрэслена апавядальны характар саміх роспісаў. Дагэтуль ацалела унікальная алтарная карціна “Пакланенне вешчуноў” (1514–1522) з в. Дрысвяты (Браслаўскі раён). Яна была створана хутчэй за ўсё мясцовым мастаком пад уплывам Паўночнага Адраджэння (нямецкая школа Л. Кранаха Старэйшага) і вылучаецца спакоем ды ўраўнаважанасцю кампазіцыі, дакладнай перадачай чалавечых фігур, іх вопраткі, рэалістычным архітэктурным краявідам задняга плану, аб’ёмнай мадэліроўкай форм, удалым выкарыстаннем святлоценявых эфектаў[1].

Захоўваліся ў Беларусі і старадаўнія традыцыі аздаблення евангелляў[2]. Так, ужо згаданае вышэй Слуцкае евангелле мела вокладку, аздобленую чырвоным аксамітам. Мастацкую каштоўнасць твору прыдавалі мудрагелістыя каляровыя арнаментальныя застаўкі, а таксама выкананыя ў старажытным візантыйскім стылі заглаўныя ініцыялы. У Шарашоўскім евангеллі традыцыйна пададзены тэкст з ініцыяламі, застаўкамі і раслінным арнаментам на палях у візантыйскай традыцыі быў дапоўнены чатырма арыгінальнымі мініяцюрамі з выявамі евангелістаў[3].

Развіццё скульптуры ў стылі рэнесансу пачалося толькі ў канцы XVI ст., што тлумачыцца працягам дамінавання тут рэлігійнай тэматыкі. Разам з тым і ў больш ранніх гатычных творах можна ўбачыць асобныя прыкметы новага часу. У выяве св. Гжэгажа з Полацка добра бачна складанасць і неадназначнасць чалавечага характару персанажа, прапорцыі фігуры пададзены дакладна, вялікая ўвага нададзена твару. У далейшым уплыў рэнесансу толькі ўзрастаў – назіраецца імкненне скульптараў паказаць індывідуалізм персанажа і дакладныя формы яго фігуры, прасочваецца пільная ўвага да бытавых абставін. Пластыка набывае аб’ёмнасць, фон часам ператвараецца ў архітэктурны пейзаж, рэльеф становіцца шматпланавым і прасторавым[4]. Пад уплывам рэнесансу значныя змяненні адбываюцца ў афармленні храмаў. З’яўляюцца прысценкавыя ярусныя алтары, дзе размяшчаюцца парныя статуарныя паліхромныя скульптуры (найбольш папулярная тэма – “Марыя з дзіцем”).

---

[1] *Лосев А.Ф.* Эстетика Возрождения. С. 369; *Церашчатава В.В., Ярашэвіч А.А.* Рэнесансавы алтарны абраз “Пакланенне вешчуноў” з Дрысвят // Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння. С. 84–88.

[2] *Кацер М.С.* Народно-прикладное искусство Белоруссии. С. 59.

[3] *Высоцкая Н.Ф.* Своеасаблівасць Рэнесанса ў Беларусі. С. 13; *Кацер М.С.* Народно-прикладное искусство Белоруссии. С. 59.

[4] *Лявонава А.К.* Некаторыя пытанні развіцця беларускай гатычнай скульптуры // Помнікі культуры. Новыя адкрыцці. С. 58.

Якасна новым напрамкам развіцця скульптуры можна лічыць з'яўленне ў Беларусі надмагілляў, якія выконваліся па італьянскіх узорах з мармуру ці каменю і змяшчаліся ў храмах побач з алтаром альбо ў крыптах, што з цягам часу пераўтвараліся ў фамільныя пахавальні. Імкненне захаваць свой вобраз, зацвердзіць прэстыж роду, ушанаваць памяць памерлых адпавядала духу новага гуманістычнага светаўспрымання. Адно з найбольш ранніх надмагілляў у ВКЛ было выканана італьянцам Б.З. дэ Джыяноцісам ва ўшанаванне памяці А. Гаштольда (Вільня, 1541). У далейшым гэтую традыцыю ўспрынялі і Радзівілы. У Нясвіжскім касцёле езуітаў захавалася дзіцячае надмагілле М.К. Радзівіла (1588) і ўмураваны ў сцяну бюст апранутага рымскім арыстакратам М.К. Радзівіла Сіроткі (пачатак XVII ст.)[1]. У Менску захоўваецца надмагілле П. Сапегі і трох яго жонак (1599, Гальшаны). Фігуры памерлых тут размешчаны свабодна, галовы – на падушках. Гэта хутчэй адпачынак, чым смерць, што адпавядала тагачаснай гуманістычнай канцэпцыі. Амаль пазбаўленыя эмоцый, яны ўвасабляюць годнасць і знакамітасць свайго славутага роду. У Чарнаўчыцкім касцёле ацалела мармуровае надмагілле фундатара храма М. Вольскага і яго жонкі (1620-я гг.)[2].



Надмагілле Альбрэхта Гаштольда ў Віленскім кафедральным саборы. 1539–1541

Пераўтварэнне замкаў у палацы прымушала іх уладальнікаў клапаціцца і пра аздабленне ўнутраных інтэр'ераў сваіх рэзідэнцый. Шырока ўжывалася ляпніна, паркетная ці керамічная падлога, рэнесансавая мэбля з Еўропы. Печы з простага сродку для абагрэву памяшканняў дзякуючы рэльефнай паліхромнай кафлі ператварыліся ў важны дэкаратыўны элемент аздаблення парадных інтэр'ераў і сталі сапраўднымі творамі новага свецкага мастацтва з выявамі радавых гербаў, партрэтаў гаспадароў, раслiннымі і міфалагічнымі кампазіцыямі[3].

Такім чынам, Рэнесанс у айчынным мастацтве не толькі ахапіў усе напрамкі, што існавалі да яго, але і прынёс шмат чаго новага ў жывапіс, скульптуру і г.д. Вельмі адчувальным пад яго ўплывам стала ўздзеянне заходнееўрапейскай культуры, якое праяўлялася нават у праваслаўнай культурнай традыцыі (іканапіс). Надзвычай важным момантам было і ўзмацненне свецкага пачатку, бо гэта сведчыла пра пераход да наступнай стадыі развіцця грамадства. Відавочна, што гуманістычная накіраванасць большасці тагачасных твораў яскрава пацвердзіла факт складвання новага больш прагрэсіўнага светаўспрымання.

---

[1] *Сыракомля У.* Вандроўкі па маіх былых ваколіцах. С. 84.

[2] *Лявонава А.К.* Скульптурны партрэт эпохі Рэнесанса // Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння. С. 116–118.

[3] *Лазука Б.А.* Гісторыя мастацтваў. Мн., 2003. С. 227–229.

**Міжнародныя культурныя сувязі Беларусі.** Беларусь у складзе ВКЛ уяўляла сабою рэгіён, адкрыты для знешняга культурнага ўздзеяння. У першую чаргу гэта датычылася кантактаў з Заходняй Еўропай, чые дасягненні ў развіцці літаратуры, архітэктуры, мастацтва разглядаліся айчынным грамадствам як прыклад для пераймання. Важную ролю ў фарміраванні гэтага напрамку светапогляду адыграла Адраджэнне. Дзякуючы яму адбылося пераадоленне сярэднявечнай рэлігійнай замкнёнасці ды сканцэнтраванасці толькі на культурных здабытках хрысціянскай царквы. На змену ім прыйшлі шматбаковыя сувязі з заходнееўрапейскімі краінамі, што адкрыла айчыннаму грамадству доступ да антычнай і рэнесансавай культурных традыцый.

Сярод прычын складвання падобнай тэндэнцыі можна вылучыць: па-першае, падабенства дзяржаўнага ладу і сацыяльных адносін; па-другое, паступовы заняпад візантыйскай культурнай традыцыі, артадаксальнасць якой ужо не адпавядала рэаліям часу; па-трэцяе, пранікненне ў Беларусь каталіцкіх манаскіх ордэнаў – адных з асноўных носьбітаў еўрапейскай культуры; па-чацвёртае, трывалыя гандлёвыя сувязі (з Францыі ў Беларусь прывозілі габелены, з Італіі – аксаміт, тафту, атлас, з Германіі – побытавыя рэчы з металу); па-пятае, зацікаўленасць дзяржаў Еўропы у пашырэнні свайго ўплыву на ВКЛ як верагоднага саюзніка ў барацьбе супраць Асманскай імперыі. Пры гэтым спецыфіку, інтэнсіўнасць і асноўныя напрамкі міжнародных кантактаў Беларусі заўсёды вызначала яе важнае геапалітычнае становішча пасрэдніцы паміж Еўропай і Усходам[1].

Найбольш яскравымі праявамі культурных кантактаў Беларусі з Цэнтральнай і Заходняй Еўропай стала адпраўка на вучобу ў еўрапейскія універсітэты моладзі з асяроддзя багатай шляхты і (радзей) заможнага мяшчанства. Афіцыйна такое права “для лепшого шчастья набытия, а любо учинков рытерских” было замацавана яшчэ прывілеем 1447 г. вялікага князя Казіміра IV Ягелончыка[2]. Меўся падобны дазвол вольна пакідаць межы ВКЛ і ў асобным артыкуле Статута ВКЛ 1588 г.: “Княжата и панове хоруговные, шляхта и кождый человек рицерский и всякого стану того паньства Великого князства Литовского мели вольность и моц выехать и выйти с тых земель наших Великого князства для набытья наук, в писме цвиченья и учинков рыцерских”[3]. Усяго за XIV–XVI ст. гэтакай магчымасцю з мэтай павышэння ўласнай адукацыі скарысталася да 700 ураджэнцаў ВКЛ (каля паловы з іх атрымалі ступені бакалаўраў). Геаграфія падобных вандровак была вельмі шырокай – Германія (Берлін, Лейпцыг, Вітэнберг, Нюрнберг, Цюбінген, Інгальштат, Грэйфсвальд), Італія (Падуя, Рым, Балонья), Швейцарыя (Базель), Прусія (Кёнігсберг), Францыя (Парыж), Англія (Лондан, Эдынбург) і інш.[4]

Асноўная частка беларускай моладзі адпраўлялася на вучобу ва універсітэты Прагі і Кракава. За XIV–XVI ст. тут атрымалі вышэйшую аду-

---

[1] *Высоцкая Н.Ф.* Своеасаблівасць Рэнесанса ў Беларусі // Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння. С. 14; *Майхровіч С.К.* Нарыс гісторыі старажытнай беларускай літаратуры. С. 57.

[2] БЭФ. Т. 1. С. 125.

[3] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. Мн., 1989. С. 120.

[4] *Галенчанка Г.Я.* Еўрапейскія сувязі Беларусі ў этна-канфесійным і духоўным кантэксце (XIII – сярэдзіна XVII ст.). Мн., 1998. С. 10.

кацыю не менш за 430 выхадцаў з Беларусі і Літвы. Нядзіўна, што тут нават былі заснаваны асобныя "літвінскія калегіі", адкрытыя адпаведна ў 1379 і 1409 гг. У тутэйшых метрычных кнігах зафіксаваны ўраджэнцы Берасця, Менска, Ваўкавыска, Віцебска, Гародні, Клецка, Любані, Оршы, Пінска, Полацка і іх ваколіц[1]. У 1545 г. прускі герцаг Альбрэхт на ўласныя сродкі арганізаваў канвікт для 8 літвінаў-пратэстантаў у Кёнігсбергскім універсітэце[2].

Асабліва была пашырана традыцыя атрымання ў Еўропе вышэйшай адукацыі ў Слуцку. Прыклад падданым паказвалі самі князі Алелькавічы. Вядома, што ў пачатку 1580-х гг. у Інгальштацкім універсітэце (Баварыя) вучыўся Аляксандр Алелькавіч, якога суправаджала 15 маладых шляхціцаў. Яны ўваходзілі ў акружэнне маладога князя і ў час навучання знаходзіліся на поўным яго забеспячэнні. Сустракаюцца ў метрыках еўрапейскіх універсітэтаў і іншыя прозвішчы случан. Так, у 1499 г. у Лейпцыгскім універсітэце слухаў лекцыі Павел са Слуцка. У 1504–1507 гг. у Кракаўскім універсітэце навучаўся Вінцусь са Слуцка, які атрымаў ступень бакалаўра. У спісах выхаванцаў Кёнігсбергскага універсітэта за другую палову XVI ст. сустракаюцца прозвішчы трох ураджэнцаў Слуцка – Іван Родзіч (1552), Канстанцін Запольскі (1573) і Якаў Слуцкі (1579)[3].

Выдатная на той час адукацыя дазволіла шмат каму з беларусаў пасля асветніцкай вандроўкі па еўрапейскіх краінах (некаторыя заканчвалі адразу некалькі універсітэтаў) заняць пачэснае месца ў гісторыі як айчыннай, так і еўрапейскай культуры. Найбольш славуты тут Ф. Скарына, які пасля заканчэння з дыпломам бакалаўра Кракаўскага універсітэта (1506) адправіўся на вучобу ў Падую, дзе ў 1512 г. быў абвешчаны доктарам медыцыны. Акрамя першадрукара Кракаўскі універсітэт скончылі Л. Крышкоўскі, С. Жак, Ц. Базылік, а С. Будны да таго ж яшчэ і пратэстанцкі універсітэт у Базелі[4]. А. Волан навучаўся ва універсітэтах Кёнігсберга і Франкфурта-на-Одэры. М. Смятрыцкі як хатні настаўнік юнага князя Багдана Саламярэцкага ў канцы XVI ст. наведаў Лейпцыгскі, Нюрнбергскі і Вітэнбергскі універсітэты, дзе пазнаёміўся з прафесарамі гэтых "чужеземских Академий вызволеных наук"[5]. Зразумела, што ўсе яны праз перапіску, асабістыя кантакты падтрымлівалі трывалую сувязь з замежжам і ў далейшым.



Абраз Вострабрамскай Божай Маці

[1] *Сагановіч Г.* Нарыс гісторыі Беларусі. Мн., 2001. С. 163–164.
[2] Живописная Россия. Т. 3. Ч. 1. С. 102.
[3] *Грыцкевіч А.* Рэгіянальная культура Случчыны ў XVI–XVIII стст. // Беларусіка-Albaruthenica. Кн. 3. С. 25–26; *Чапко В.У., Грыцкевіч А.П.* Эпоха Ф. Скарыны // 450 год беларускага кнігадрукавання. С. 34.
[4] *Мещеряков В.П.* Братские школы Белоруссии. Мн., 1977. С. 7.
[5] *Короткий В.* Творческий путь Мелетия Смотрицкого. С. 27.

Усё адзначанае дазваляе сцвярджаць, што нашы асветнікі адыгрывалі значную ролю ў грамадскім жыцці не толькі ВКЛ, але і іншых краін Еўропы. Творы А. Волана з крытыкай каталіцызму і дзеянняў Ватыкана неаднаразова перавыдаваліся гугенотамі ў Францыі і пратэстантамі ў Германіі. Друкаваныя кнігі Ф. Скарыны сталі ўзорам для цюбінгенскіх выданняў нямецкага прапаведніка П. Трубера (у тым ліку – "Азбука", 1550) і польскага выдаўца езуіта Вуйка[1]. "Пэрэгрынацыі" князя М. К. Радзівіла Сіроткі ўвогуле набылі агульнаеўрапейскую вядомасць. Іх першае выданне ажыццявілася ў нямецкім Бруксбергу ў 1601 г. За наступнае стагоддзе яны шэсць разоў перавыдаваліся ў Кракаве, а на абшарах Расіі шырока былі пашыраны ў рукапісных спісах[2]. Выпускнік Віленскай езуіцкай акадэміі і Рымскага універсітэта М. Сміглецкі стаў аўтарам двухтомнай "Логікі" (Вільна, 1618), якая да сярэдзіны XIX ст. лічылася ў Еўропе адным з лепшых вучэбных дапаможнікаў па гэтым прадмеце і толькі ў Оксфардзе ў першыя гады пасля свайго выхаду ў свет перавыдавалася тройчы (1634, 1638, 1658)[3].

Важнае значэнне мела таксама і тое, што еўрапейскую універсітэцкую адукацыю атрымлівалі прадстаўнікі практычна ўсёй тагачаснай правячай у ВКЛ эліты (Радзівілы, Хадкевічы, Сапегі, Валовічы). Галоўным для іх тут было далучэнне да еўрапейскай культуры, атрыманне карысных навыкаў у сферы права, дыпламатыі і эканомікі. Да таго ж, у час свайго навучання яны наладжвалі непасрэдныя кантакты з еўрапейскай арыстакратыяй. Таму не дзіўна, што лагічным працягам іх вандроўкі магла стаць служба пры адным з манаршых еўрапейскіх двароў ці ў войску. Так, М. Глінскі пасля вучобы ў Германіі, Італіі і Іспаніі служыў у войску саксонскага герцага Альбрэхта і, як пісаў С. Герберштэйн, "прайшоўшы ўсе ступені вайсковай службы, набыў сабе слаўнае імя"[4]. Заўсёды з радасцю прымаў у сябе шляхту ВКЛ імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі, які часам надаваў лепшым з яе асяроддзя тытулы графаў (А. Гаштольд, 1529 г.) і князёў (М. Радзівіл Чорны, 1547 г.)[5].

Айчынныя магнаты карысталіся пашанай і ў асяроддзі еўрапейскай арыстакратыі. У 1601 г. па ініцыятыве аўстрыйскага эрцгерцага Фердынанда (брат імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Максіміляна II) была выдадзена "Кніга пра знакамітых воінаў", дзе сярод 125 выяў тагачасных манархаў, герцагаў, князёў ды графаў былі змешчаны гравюрныя партрэты М. Радзівіла Чорнага, М. Радзівіла Рудога і М. К. Радзівіла Сіроткі ў рыцарскіх даспехах. Тут жа распавядалася пра іх жыццёвы лёс і подзвігі ў час войнаў. Такім чынам Габсбургі яшчэ раз прызнавалі значную ролю прадстаўнікоў беларускага магнацкага роду ў еўрапейскай палітыцы[6].

Карысталася папулярнасцю ў Еўропе і сама Беларусь. Толькі ў азначаны час выйшаў цэлы шэраг адметных твораў, дзе апісвалася наша кра-

---

1 *Галенчанка Г.Я.* Францыск Скарына – беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар. Мн., 1993. С. 206.
2 Кніга жыццій і хаджэнняў. Мн., 1994. С. 479.
3 История Вильнюского университета. Вильнюс, 1979. С. 33.
4 *Герберштэйн С.* Записки о Московии. М., 1988. С. 188.
5 *Сыракомля У.* Вандроўкі па маіх былых ваколіцах. С. 93.
6 *Ткачэнка М.І.* Амбразская калекцыя даспехаў і гравіраваныя партрэты Радзівілаў // Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння. С. 54–59.

іна. У пачатку XVI ст. беларускія землі наведаў нямецкі дыпламат С. Герберштэйн, які даў звесткі аб тагачасным вобліку Бабруйска, Берасця, Віцебска, Гародні, Крэва, Менска, Мазыра, Магілёва, Дуброўны, Мсціслава, Оршы і Полацка, а таксама распавёў пра вайсковыя перамогі К. Астрожскага і мяцеж М. Глінскага. Яго твор "Запіскі аб маскоўскіх справах" быў надрукаваны ў Вене ў 1549 г. і пазней перавыдаваўся каля дваццаці разоў. У ім падрабязнае апісанне атрымалі таксама заняткі і побыт беларусаў, іх рэлігійныя веравання, абрады[1]. У 1578 г. у Кракаве выйшла першае выданне "Хронікі Еўрапейскай Сарматыі" А. Гваньіні. Італьянец па паходжанні, ён працяглы час служыў у ВКЛ, дзе нават займаў пэўны час пасаду каменданта Віцебска. У сваім творы ён даў шмат звестак па гісторыі і геаграфіі Беларусі, апісаў шэраг тутэйшых гарадоў. У 1582–1612 гг. сакратаром вялікіх князёў літоўскіх быў вядомы нямецкі храніст Р. Гейдэнштэйн. У сваім творы "Запіскі пра Маскоўскую вайну" (1584) дыпламат прыводзіў цікавы матэрыял аб заключным перыядзе Лівонскай вайны, дэталёва апісаў аблогу і штурм войскамі Рэчы Паспалітай Полацка[2]. Акрамя названых аўтараў свае літаратурныя замалёўкі тагачаснай Беларусі пакінулі венецыянец Р. Барберыні (1565), пасол Свяшчэннай Рымскай імперыі князь Д. фон Бухаў (1575), нямецкі вандроўнік С. Кіхель (1586), англійскі пасол Д. Горсі (1591), рускі купец Т. Карабейнікаў (1593) і інш.[3] Шмат у чым, дарэчы, толькі дзякуючы ўзрастаючай цікавасці да Беларусі свет пабачыла і славутая "Песня пра зубра" М. Гусоўскага, напісаная ў 1521–1522 гг. па заказе папы рымскага Льва X[4].

У XVI ст. акрамя публіцыстычных твораў і часам даволі недакладных нататкаў з'яўляюцца першыя навуковыя трактаты, дзе Беларусь вывучалася ў геаграфічным, гістарычным і бытавым плане. Шырокай папулярнасцю ў Еўропе карыстаўся твор польскага даследчыка М. Мяхоўскага "Трактат аб дзвюх Сарматыях" (1517). У сваім апісанні Еўрапейскай (Паўночнай) Сарматыі ён узгадвае Полацк, Віцебск і Смаленск, а таксама апісвае самыя буйныя рэкі рэгіёна (Днепр, Дзвіна, Нёман, Вілія)[5]. Выдатнай працай па айчыннай гісторыі стала "Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі" М. Стрыйкоўскага (1582). Яна ахоплівае перыяд ад стварэння свету да 1580 г. і акумулюе матэрыялы, сабраныя больш чым 150 аўтарамі (Герадотам, Страбонам, Я. Длугашам, М. Кромерам, М. Бельскім і інш.). Мінулае Беларусі тут падавалася ў адпаведнасці з тагачаснымі летапісамі. Акрамя палітычнай гісторыі шмат увагі аўтар удзяліў апісанню побыту насельніцтва, яго звычаяў і традыцый[6]. Пазней гэты твор неаднаразова перакладаўся на розныя еўрапейскія мовы і стаў не толькі унікальнай крыніцай для навукоўцаў (В. Тацішчаў, М. Карамзін, І. Лялевель, Т. Нарбут), але і літаратараў (Ю. Нямцэвіч, А. Міцкевіч)[7].

---

[1] *Герберштэйн С.* Записки о Московии. С. 185–193.
[2] *Гейденштейн Р.* Записки о Московской войне. С. 42–73.
[3] *Грыцкевіч В.П., Мальдзіс А.І.* Шляхі вялі праз Беларусь. Мн., 1980. С. 18–21.
[4] *Голубеў В., Кітурка І.* Нарысы гісторыі беларускай дзяржаўнасці. Мн., 2004. С. 47.
[5] *Меховский М.* Трактат о двух Сарматиях. М.; Л., 1936. С. 98–112.
[6] Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы. Ч. 1. С. 387–397.
[7] *Рогов А.И.* Русско-польские культурные связи в эпоху Возрождения. М., 1966. С. 4–14; *Чамярыцкі В.* Ад Нероиа – да Боны, ад Боны да Нерона: старонкі беларуска-італьянскіх сувязяў эпохі Адраджэння // Ад Полацка і Нясвіжа да Падуі і Венецыі. С. 64.



Сярэбраны келіх XVI ст.

Падобная праеўрапейская арыентацыя беларускага грамадства не магла не паўплываць на нарастаючыя змены ў паўсядзённым жыцці насельніцтва самога Вялікага Княства. Менавіта пашырэнне міжнародных кантактаў з Еўропай садзейнічала хуткаму распаўсюджванню ў Беларусі магдэбургскага права, цэхавай сістэмы, фальваркаў, еўрапейскіх архітэктурна-мастацкіх стыляў, музыкі і г.д. Важную ролю ў развіцці айчыннай культуры адыгрывала запрашэнне сюды еўрапейскіх дойлідаў, жывапісцаў і майстроў-рамеснікаў для забеспячэння патрэб дзяржавы і правячай эліты (аздабленне вялікакняскіх і прыватных рэзідэнцый, узвядзенне храмаў, стварэнне карцінных галерэй, чаканка манет).

Істотна паўплываў на ўсе вышэй пералічаныя працэсы заключаны ў 1518 г. шлюб паміж дачкой міланскага герцага Бонай Сфорцай і вялікім князем літоўскім Жыгімонтам І Старым. Разам з высакароднай італьянкай у Беларусь прыбыла цэлая світа, якая акрамя прадстаўнікоў арыстакратыі ўключала паэтаў, мастакоў, скульптараў, медыкаў і г.д. Прывезла Бона з сабою таксама выдатную калекцыю жывапісу і бібліятэку[1]. Дзякуючы ўсяму гэтаму былі ўсталяваны трывалыя сувязі паміж італьянскай і мясцовай элітай. Вядома, напрыклад, што неапалітанскі арыстакрат П. Сцыпіён дэль Кампа, які прыбыў разам з каралевай, ўвогуле застаўся ў Беларусі і ў далейшым яго нашчадкі сталі ўладальнікамі буйных маёнткаў у Гарадзенскім, Лідскім, Ваўкавыскім і Мазырскім паветах. У сваю чаргу ўжо згаданы Ф. Еўлашоўскі ў сваіх славутых мемуарах з гонарам адзначаў, што яго сын Яўхім звыш дзесяці год служыў пры двары знакамітых князёў Ганзага ў Мантуі[2].

Далейшаму пранікненню еўрапейскай культуры ў Беларусь значна паспрыяла Рэфармацыя (трывалыя сувязі з пратэстанцкімі абшчынамі ў Швейцарыі, Германіі, Нідэрландах, Польшчы) і контррэфармацыя (прыбыццё ў ВКЛ езуітаў). Да таго ж умацаванне кантактаў з Заходняй Еўропай і пашырэнне асветы сярод мясцовага грамадства спрыяла перакладу ды выданню ўсё новых і новых славутых твораў. Так, у 1572 г. у ВКЛ выйшлі ў свет “Прамовы” Дэмасфена, а ў 1595 г. – славутая “Гісторыя іўдзейскай вайны” І. Флавія. Асобнае месца займалі культурныя кантакты з Сербіяй, праз якую да нас траплялa значная частка перакладных літаратурных твораў. Вядома, што славуты рыцарскі эпас “Раман аб Трыстане” спачатку быў перакладзены на сербскую мову і толькі пазней паўторным перакладам адаптаваны для шырокага беларускага чытача[3].

---

[1] *Чамярыцкі В.* Ад Нерона – да Боны, ад Боны да Нерона: старонкі беларуска-італьянскіх сувязяў эпохі Адраджэння // Ад Полацка і Нясвіжа да Падуі і Венецыі. С. 61.

[2] Помнікі мемуарнай літаратуры XVII ст. Мн., 1983. С. 53.

[3] *Высоцкая Н.Ф.* Своеасаблівасць Рэнесанса ў Беларусі // Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння. С. 13; *Майхровіч С.К.* Нарыс гісторыі старажытнай беларускай літаратуры XIV–XVIII стст. С. 57.

Такім чынам, аналізуючы стан міжнародных культурных кантактаў Беларусі ў XVI ст., неабходна адзначыць іх нарастанне і ўзаеманакіраванасць. Трэба ўлічваць, што нягледзячы на моцны знешні ўплыў, Беларусь здолела захаваць сваю самабытнасць і унікальнасць. Усе здабыткі Захаду, што траплялі сюды, творча засвойваліся і перапрацоўваліся. Гэта ператварала беларускія землі ў насычаны мясцовымі нацыянальнымі адметнасцямі непаўторны элемент еўрапейскай цывілізацыі, які не толькі прыкрываў яе знешнія межы з усходу, але і арганічна дапаўняў тыповыя для ўсіх тутэйшых краін сацыяльна-эканамічныя і этнакультурныя працэсы арыгінальнымі рысамі.

Пры гэтым трэба адзначыць выключную ролю Рэнесанса ў далучэнні Беларусі да лепшых здабыткаў еўрапейскай цывілізацыі. Нават нягледзячы на захаванне трывалых пазіцый за кансерватарамі, ВКЛ, а значыць і Беларусь, зрабіла вызначальны крок наперад, які абудзіў тутэйшае грамадства. Дзякуючы гуманістычна-рэнесансавым ідэям новае напаўненне ў асяроддзі насельніцтва ВКЛ набылі такія паняцці, як нацыянальная самасвядомасць і пачуццё патрыятызму. Няма нічога дзіўнага, што якраз у гэты час завяршылася фарміраванне айчыннай літаратурнай мовы і склаліся асноўныя рысы беларускай народнасці.

Разам з тым менавіта ў XVI ст. у айчыннай гісторыі вызначыліся новыя трывожныя тэндэнцыі, што ў далейшым істотным чынам пагоршылі стан яе гаспадаркі і культуры. Ужо Люблінская 1569 г. і Берасцейская 1569 г. уніі значна ўскладнілі міжнародныя і этнаканфесійныя адносіны ў ВКЛ. Войны з Расіяй прывялі да таго, што Смаленск – вядучы некалі ў ВКЛ асветны цэнтр з 1514 г. амаль на стагоддзе аказаўся падпарадкаваны Маскве, якая ператварыла яго ў памежную крэпасць. Старажытны Полацк у ходзе Лівонскай вайны перажыў сапраўднае спусташэнне – па сведчанні Р. Гейдэнштэйна "царкоўныя і іншыя скарбы былі вывезены ў Расію і Польшчу"[1]. Адначасова з гэтым абвастрэнне сацыяльных адносін спрыяла ўзрастанню напружанасці ў асяроддзі простага насельніцтва. Вынікі магчымага спалучэння сялянскага паўстання з казацкім рухам яскрава прадэманстраваў прыход на беларускія землі атрада С. Налівайкі, які ў 1595 г. захапіў Петрыкаў, Слуцк, Магілёў, Давыд-Гарадок, Тураў і Пінск[2].

Як вядома, у XVII ст. сацыяльная палітыка пануючых колаў Рэчы Паспалітай, разбуральныя ваенныя канфлікты з усходнім суседам і бязлітасныя рэйды казакаў прывялі да сапраўднага "крывавага патопу", што не абышоў аніводны куток Беларусі. Аднак вялізныя страты насельніцтва і зацяжны гаспадарчы крызіс ужо не былі здольны спыніць працэс далейшага развіцця этнічнай культуры ды самасвядомасці беларускага народа. Грамадска-сацыяльныя пераўтварэнні, якія адбыліся ў XVI ст., мелі настолькі глыбінны ўсеахопны характар, што перад творчым уздзеяннем эпохі Адраджэння аказаліся бяссільнымі і наступныя разбуральныя войны, і Контррэфрмацыя, і паступова ўзрастаючы знешні культурны ўціск з боку Польшчы ды Расіі.

---

1 *Гейденштейн Р.* Записки о Московской войне. С. 71.
2 Беларускія летапісы і хронікі. С. 235–236.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Перыяд знаходжання беларусіх зямель у складзе Вялкага Княства Літоўскага з'явіўся для іх вызначальным. Да моманту стварэння гэтай дзяржавы Усходняя Еўропа ў палітычным плане ўяўляла сабой кангламерат рускіх княстваў – асколкаў дзяржавы Рурыкавічаў, звязаных паміж сабой сваяцтвам дынастаў, рэлігіяй, культурай і памяццю пра былую ролю Кіева як цэнтра ўсёй Русі. Напачатку дадзенага перыяду пазначылася тэндэнцыя па ўзнаўленні былога адзінства і барацьба за так званае збіранне рускіх зямель стала краевугольным каменем знешнепалітычнай сітуацыі ва Усходняй Еўропе ажно да канца XVIII ст.

У канцы XII – пачатку XIII ст. вылучылася некалькі цэнтраў, якія прэтэндавалі на лідэрства ва Усходняй Еўропе. Аднак мангола-татарскае нашэсце, што на доўгі час пазбавіла палітычнай ініцыятывы большасць рускіх княстваў, абумовіла высоўванне на пярэдні план Панямоння, для якога мангольская пагроза стала не крахам, а наадварот, каталізатарам палітычнай актыўнасці. Націск мангола-татараў з поўдня і крыжакаў з поўначы прымусілі балцкае і славянскае насельніцтва гэтага рэгіёна шукаць збліжэння. Вынікам стала утварэнне новай дзяржавы, што атрымала ў далейшым назву Вялікае Княства Літоўскае. Ужо з самага пачатку свайго існавання гэтая дзяржава насіла поліэтнічны характар і яе станаўленне было неадрыўным ад праблемы "збірання рускіх зямель". У працэсе такога збірання новай дзяржаве даводзілася пераадольваць супраціўленне не толькі Залатой Арды, якая лічыла рускія землі сваім улусам, але і князёў самой Русі, якія, будучы падпарадкаваны татарамі, не гублялі надзеі пры дапамозе усходніх правіцеляў умацаваць сваю ўладу на як мага большай тэрыторыі. Такім чынам, ужо ў XIII ст. былі сфарміраваны галоўныя знешнепалітычныя вузлы ва Усходняй Еўропе – барацьба за вызваленне ўсходнеславянскіх зямель ад улады Залатой Арды, супрацьстаянне крыжацкай агрэсіі і змаганне Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ) за "збіранне рускіх зямель" з Галіцка-Валынскім княствам, а затым з Маскоўскай дзяржавай.

У падобнай спуацыі тэрытарыяльнае ўмацаванне ВКЛ у значнай ступені залежала не толькі ад сілы зброі, але і ад свядомага выбару насельніцтва, а ў яшчэ большай ступені - палітычнай эліты слявянскіх зямель. Аўтаномны статус, які гарантавала новая дзяржава новадалучаным тэрыторыям, рэлігійная і культурная талерантнасць, а таксама дастатковая гарантыя ад знешняй пагрозы абумоўлівалі, на першым часе, прывабнасць Вялікага Княства Літоўскага, тэрыторыя якога да канца XIV ст. хутка павялічвалася менавіта за кошт княстваў былой Русі. У гэ-

ты час у склад ВКЛ увайшлі ўсе беларускія і большая частка ўкраінскіх зямель.

Пры палітычным дамініраванні дынастыі балцкага (літоўскага) паходжання ў ВКЛ назіралася культурная і эканамічная перавага славянскіх рэгіёнаў. Гэта прыводзіла да таго, што жыхары беларускіх і украінскіх тэрыторый не толькі захоўвалі сваю самабытнасць, але і аказвалі значны ўплыў на балцкае насельніцтва, паступова культурна асімілюючы яго. "Руская" мова, якая паступова эвалюцыянавала ў старабеларускую, з'ўлялася ў Вялікім Княстве афіцыйнай, а значная частка літоўскай знаці, у тым ліку і прадстаўнікоў правячай дынастыі, прымала праваслаўе. Хрышчэнне Літвы ў каталіцтва пасля Крэўскай уніі 1385 г. панізіла статус праваслаўя і старой візантыйскай культуры, адкрыўшы шлях для пранікнення заходніх павеваў. Сярод з'яў агульнаеўрапейскага маштабу, якія аказалі найбольшы ўплыў на духоўнае жыццё ВКЛ, можна назваць Рэнесанс, Рэфармацыю і Контррэфармацыю. Такім чынам, у XV–XVI стст. на беларускіх землях адбываўся сімбіёз візантыйска-рускіх традыцый і заходнееўрапейскіх інавацый, вынікам чаго стала складванне спецыфічнага аблічча мясцовай культуры, у якой спалучаліся рысы як Усходу, так і Захаду. Аднак той факт, што менавіта "русская" культура стала асновай фарміравання "высокай" культуры усёй дзяржавы, абумовіў спрыяльныя ўмовы для развіцця беларускага этнасу. Можна сцвярджаць, што складанне беларускай народнасці адбывалася не насуперак, а дзякуючы існаванню Вялікага Княства Літоўскага і ў сувязі з гэтым ВКЛ можа разглядацца не толью як літоўская, але і як беларуская дзяржава, дзе вектары культурнага развіцця беларускага этнасу і дзяржавы ў цэлым да канца XVI ст. практычна супадалі.

Перыяд ВКЛ стаў для беларускіх зямель надзвычай важным і ў плане развіцця эканомікі. Развіццё феадалізму прывяло да афармлення саслоўнай структуры дзяржавы, канчатковага запрыгоньвання сялянства і ўключэння Вялікага Княства ў агульнаеўрапейскі рынак, дзе яно мела аграрную спецыялізацыю. Выгаднасць экспарту сельскагаспадарчай прадукцыі абумовіла з'яўленне фальварка і правядзенне аграрнай рэформы – валочнай памеры. Пашырэнне таварна-грашовых адносін прывяло да новай урбаністычнай хвалі і складання густой сеткі гарадскіх пасяленняў. З мэтай прыцягнення сюды новых жыхароў, галоўным чынам рамеснікаў, гарадам надавалася самакіраванне на магдэбургскім праве; рамеснікі і гандляры імкнуліся да ўмацавання сваіх пазіцый шляхам стварэння карпаратыўных прафесійных арганізацый – цэхаў і гільдый. Беларускі горад XV–XVI стст. набывае рысы тыповага еўрапейскага сярэдневяковага горада.

Разам з тым падзеі канца XIV ст., якія паспрыялі культурнаму і эканамічнаму развіццю беларускіх зямель і ВКЛ у цэлым, прывялі ў далейшым і да негатыўных наступстваў. Імкненне заахвоціць язычніцкае насельніцва Літвы да пераходу ў каталіцтва, чаго патрабавалі ўмовы Крэўскай уніі 1385 г., і неабходнасць спынення крыжацкай агрэсіі абумовілі наданне каталікам выключных правоў, што закранала інтарэсы праваслаўнага насельніцтва. У выніку ВКЛ страціла для рускіх зямель значную частку сваёй прывабнасці. Гэта дало дадатковыя аргументы галоўнаму палітычнаму саперніку ВКЛ – Маскоўскай дзяржаве, якая не толькі прэтэндавала на ролю абаронцы праваслаўя, але і даказала ў

1380 г. на Куліковым полі здольнасць забяспечыць сваім сатэлітам дастатковую абарону ад знешняга ворага. І калі да сярэдзіны XV ст. ВКЛ, апіраючыся на сілу зброі, працягвала дамініраваць ва ўсходнееўрапейскім рэгіёне, то да канца гэтага стагоддзя ініцыятыва ў "збіранні рускіх зямель" пераходзіць да Масквы. Не ў апошнюю чаргу гэта было абумоўлена тым, што вялікі князь літоўскі, ён жа кароль польскі Казімір праводзіў асноўны час у Кракаве, бліскуча вырашаючы справы Польшчы і сваёй дынастыі, але цалкам ігнаруючы знешнепалітычныя інтарэсы ВКЛ. Пасля смерці гэтага манарха пачалася серыя няўдалых войн з Масквой, у выніку чаго Вялікае Княства Літоўскае страціла каля трэці сваіх тэрыторый на ўсходзе.

Неабходнасць кіравання дзяржавай у адсутнасць манарха абумовіла узвышэнне дарадчага органа пры яго асобе – паноў-рады. Паступова роля паноў-рады ўмацавалася настолькі, што без яе згоды вялікі князь быў не ў стане прымаць рашэнні па важнейшых пытаннях. Далейшае абмежаванне ролі манарха было звязана з неабходнасцю атрымання згоды шляхты на збіранне падаткаў на ваенныя патрэбы. У выніку афармляецца шляхецкі орган парламенцкага тыпу – сейм, а ВКЛ пераўтвараецца ў саслоўна-прадстаўнічую манархію, прычым улада манарха мела тэндэнцыю да большага аслаблення.

XVI стагоддзе стала ў гісторыі Беларусі адным з паваротных момантаў па цэлым шэрагу паказчыкаў. Як ужо адзначалася, у гэты час беларускія землі былі ўключаны ў агульнаеўрапейскі рынак, што паклала канец характэрнаму для сярэднявечча натуральнаму характару гаспадаркі. Гэта было абумоўлена агульнаеўрапейскімі працэсамі – вялікімі геаграфічнымі адкрыццямі, прытокам каштоўных металаў з Новага Свету, пацягнуўшым за сабой "рэвалюцыю цэн", і складаннем рэгіянальнай спецыялізацыі. Нават канчатковае запрыгоньванне сялянства ў ВКЛ было выклікана не столькі ўнутранымі патрэбамі панскіх маёнткаў, колькі ростам таварнасці сельскагаспадарчай вытворчасці і імкненнем феадалаў забяспечыць максімальны прырост экспарту збожжа на Захад. У выніку прадстаўнікі ваенна-служылага люду сталі больш дбаць пра павышэнне прыбытковасці сваіх уладанняў, а клопат пра нясенне ваеннай службы стаў для іх непажаданым абавязкам. Феадальнае апалчэнне – паспалітае рушэнне – усё больш выцяснялася наёмнымі войскамі, што падрывала асноўны прынцып феадальнага землеўладання. У той жа час феадалы ўсё больш настойліва патрабавалі актыўнага ўдзелу ў вырашэнні дзяржаўных пытанняў, што прывяло да палітычнай эмансіпацыі шляхты, афармлення ў сярэдзіне XVI ст. шляхецкага саслоўя і саслоўна-прадстаўнічага характару манархіі ВКЛ. Згасанне дынастыі Ягелонаў, панаванне якой стала цэлай эпохай у цэнтральна-ўсходнееўрапейскім рэгіёне, прывяло да канчатковага ўсталявання практыкі выбарнасці манархаў. Для прыцягнення сімпатый выбаршчыкаў – шляхты – апошнія былі вымушаны ісці на прадастаўленне пануючаму саслоўю ўсё большых прывілеяў, аж пакуль дзяржава Гедымінавічаў не пераўтварылася ў своеасаблівую шляхецкую рэспубліку – "рэч паспалітую" з намінальнай уладай караля і вялікага князя.

Значныя змены адбыліся і ў галіне культуры. Як і ў іншых краях Еўропы, на беларускіх землях распаўсюджваюцца павевы Рэнесансу.

Традыцыйныя хрысціянскія канфесіі, праваслаўе і каталіцтва, адчуваюць моцную канкурэнцыю з боку пратэстанцкіх цэркваў. Супраціўдзеянне іх пашырэнню вылілася ў пачатак Контррэфармацыі, у межах якой у наступным перыядзе рэлігійнай талерантнасці ў дзяржаве быў пакладзены канец.

Кардынальныя змены адбыліся і ў знешнепалітычный сітуацыі. Калі да канца XV ст. ВКЛ, разам са сваімі саюзнікамі па ягелонскай кааліцыі, займала ў рэгіёне дамінуючае становішча, то ў канцы XV – пачатку XVI ст. дзяржавам, што знаходзіліся пад уладай Ягелонаў, давялося весці цяжкую і не заўсёды ўдалую барацьбу за захаванне свайго лідэрства. У выніку ВКЛ перайшло ад пашырэння сваіх зямель да іх абароны і стала больш лаяльным да перспектывы цеснага палітычнага саюзу з Польшчай. Гэта ўрэшце прывяло да Люблінскай уніі 1569 г. і ўтварэння Рэчы Паспалітай "абодвух народаў". У XVI ст. былі развязаны некаторыя асноўныя вузлы знешнепалітычных супярэчнасцей. Пасля прызнання Тэўтонскім і Лівонскім ордэнамі васальнай залежнасці ад Польшчы і ВКЛ была ліквідавана крыжацкая пагроза, а падпарадкаванне Маскоўскай дзяржавай Казанскага і Астраханскага ханстваў вырашыла праблему небяспекі з боку Залатой Арды. Аднак у тэты час у рэгіёне на пярэдні план выходзяць новыя магутныя сілы – Швецыя на Балтыцы і Асманская імперыя на Чорным моры. Барацьба з гэтымі сапернікамі стала для Рэчы Паспалітай адной з галоўных задач у наступным перыядзе – у XVII і XVIII стст.

Такім чынам, XVI стагоддзе стала для беларускіх зямель паваротным практычна ва ўсіх сферах. Таму гэтае стагоддзе можа лічыцца тут канцом сярэднявечча і пачаткам Новага часу. Ён стаў для Беларусі сапраўды новым: яна ўступіла ў яго ў складзе новай дзяржавы – Рэчы Паспалітай, якой давялося вырашаць новыя задачы. З'явілася новая канфесія – уніяцтва, якая, на думку яе прыхільнікаў, павінна была прынесці рэлігійную гармонію. Пасля перыяду змены каралёў на троне ўсталявалася новая дынастыя Вазаў. Аднак новы перыяд далёка не ва ўсім стаў для беларускіх зямель спрыяльным. Пасля непрацяглага перыяду ўсплёску магутнасці Рэч Паспалітая была ўцягнута ў бездань палітычных і эканамічных катаклізмаў, якія ў далейшым прывялі да аслаблення і знікнення гэтай дзяржавы з палітычнай карты Еўропы.

# БІБЛІЯГРАФІЯ

*Антонович В.Б.* Монографии по истории Западной и Юго-Западной России. Киев, 1885.

Архітэктура Беларусі: Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1993

Асвета і педагагічная думка ў Беларусі: Са старажытных часоў да 1917 г. Мн., 1985.

Асветнікі зямлі беларускай (X – пачатак XX ст.): Энцыклапедычны даведнік. Мн., 2001.

*Базилевич К. В.* Внешняя политика русского централизованного государства: Вторая половина XV в. М., 1952.

*Бардах Ю.* Штудыі з гісторыі Вялікага княства Літоўскага. Мн., 2002.

*Бардах Ю., Леснодарский Б., Пиетрчак М.* История государства и права Польши. М., 1980.

*Без-Корнилович М.* Исторические сведения о примечательных местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся. СПб., 1855.

*Белы А.* Хроніка Белай Русі: Нарыс гісторыі адной геаграфічнай назвы. Мн., 2000.

*Бохан Ю.М.* Наёмнае войска ў Вялікім княстве Літоўскім у XV–XVI стст. Мн., 2004.

*Бохан Ю.М.* Узбраенне войска Вялікага княства Літоўскага (другая палова XIV – канец XVI ст.) Мн., 2002.

*Вішнеўскі А.Ф.* Гісторыя дзяржавы і права Беларусі. Мн., 2003.

*Войтович Л.* Удільні князівства Рюриковичів і Гедеміновичів у XII–XVI стст. Львів, 1996.

Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя: У 2 т. Мн., 2006–2007.

*Галенчанка Г.Я.* Францыск Скарына – беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар. Мн., 1993.

Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў: У 2 т. 2-е выд. Мн., 2006–2007.

Гісторыя Беларускай ССР: У 5 т. Т. 1. Першабытнаабшчынны лад на тэрыторыі Беларусі. Эпоха феадалізму. Мн., 1972.

Гісторыя сялянства Беларусі: У 3 т. Т. 1. Гісторыя сялянства Беларусі ад старажытнасці да 1861 г. Мн., 1997.

*Голубеў В.Ф.* Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі XVI–XVIII стст. Мн., 1992.

*Горский А.А.* Москва и Орда. М., 2000.

*Греков И.Б.* Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV–XVI вв. М., 1963.

*Гринблат М.Я.* Белорусы: Очерки происхождения и этнической истории. Мн., 1968.

*Грицкевич А.П.* Частновладельческие города Беларуси в XVI–XVIII вв. Мн., 1975.

*Груша А.І.* Канцылярыя Вялікага княства Літоўскага. Мн., 2006.

*Грушевский А.С.* Города Великого княжества Литовского в XIV–XVI вв.: Старина и борьба за старину. Киев, 1918.

*Грушевськiй М.* Історія України-Руси. 2-е вид. Київ, 1993–1997.

*Гудзяк Б.* Криза і реформа. Київська митраполія, Царгородський патріархат і генеза Берестейскої унії. Львів, 2000.

*Дзербіна Г.В.* Права і сям'я Беларусі эпохі Рэнесансу. Мн., 1997.

*Довнар-Запольский М.В.* Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Т. I. Киев, 1901.

*Доўнар-Запольскі М.В.* Гісторыя Беларусі. Мн., 1994.

*Ермаловіч М.* Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд. Мн., 1994.

*Зимин А.А.* Россия на рубеже XV–XVI столетий. М., 1982.

*Кананові У.І.* Крымскія напады на Беларусь // Гісторыка-археалагічны зборнік. № 1. Мн., 1997. С. 135–155.

*Копысский З.Ю.* Источниковедение аграрной истории Белоруссии. Мн., 1978.

*Копысский З.Ю.* Социально-политическое развитие городов Беларуси в XVI – первой половине XVII в. Мн., 1975.

*Копысский З.Ю.* Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII в. Мн., 1966.

*Крайцэвіч А.К.* Стварэнне Вялікага княства Літоўскага. Мн., 1998.

*Кром М.М.* Меж Русью и Литвой: Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV – первой трети XVI в. М., 1995.

*Лазутка С.А.* Лнтовский Статут – феодальный кодекс Великого княжества Литовского. Вильнюс, 1984.

*Лаппо И.И.* Великое княжество Литовское во второй половине XVI столетия: Литовско-русский повет и его сеймик. Юрьев, 1911.

*Лаппо И.И.* Великое Княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569–1586). Т. 1. СПб., 1901.

*Лаппо И.И.* Литовский Статут 1588 г. Т. 1, ч. 1–2. Каунас, 1934–1936.

*Ластоўскі В.* Гісторыя Крыўскай кнігі. Коўна, 1926.

*Левко Н.О.* Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси: Формирование и развитие. Мн., 2004.

*Литвин Михалон.* О нравах татар, литовцев и москвитян. М., 1994.

*Лойка П.А.* Прыватнаўласніцкія сяляне Беларусі. Эвалюцыя феадальнай рэнты ў другой палове XVI–XVIII стст. Мн., 1991.

*Лойка П.А.* Шляхта беларускіх зямель у грамадска-палітычным жыцці Рэчы Паспалітай другой паловы XVI – першай трэці XVII ст. Мн., 2001.

*Любавский М.К.* Литовско-русский сейм: Опыт по истории учреждения в связи с внутренним строем и внешнею жизнью государства. М., 1900.

*Любавский М.К.* Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. 2-е изд. М., 1915.

*Любавский М.К.* Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута: Исторические очерки. М., 1892.

Магдэбургскае права на Беларусі. Мн., 1999.

*Макарий.* История русской церкви. СПб., 1881.

*Максимейко Н.А.* Сеймы Литовско-Руского государства до Люблинской унии 1569 г. Харьков, 1902.

*Малиновский И.А.* Рада Великого княжества Литовского в связи с боярской думой древней России: В 2 ч. Томск, 1904. Вып. 1. Томск, 1912. Вып. 2.

*Малиновский И.А.* Сборник материалов, относящихся к истории панов-рады Великого княжества Литовского. Томск, 1901. Ч. 1–2.

*Марзалюк І.А.* Людзі даўняй Беларусі: этнаканфесійныя і сацыякультурныя стэрэатыпы (X–XVII стст.). Магілёў, 2003.

*Мелешко В.И.* Могилев в XVI – первой половине XVII в. Мн., 1988.

*Місарэвіч Н.В.* Магдэбургскае права на Беларусі. Гродна , 2003.

Мысліцелі і асветнікі Беларусі: Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1995.

*Назіна. І.Дз.* Беларускія народныя музычныя інструменты. Мн., 1997.

Нарысы гісторыі Беларусі: У 2 ч. Мн., 1994. Ч. 1.

*Насевіч В.Л.* Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: Падзеі і асобы. Мн., 1993.

*Нікалаеў М.* Палата кнігапісная: Рукапісная кніга на Беларусі ў X–XVIII стагоддзях. Мн., 1993.

Османская империя и страны Центральной, Восточной и Юго-Восточной Европы в XV–XVI вв. М., 1984.

*Падокшын С.А.* Унія. Дзяржаўнасць. Культура: (Філасофска-гістарычны аналіз ). Мн., 1998.

*Падокшын С.А.* Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мн., 1990.

*Пашуто В.Т.* Образование Литовского государства. М., 1959.

*Пашуто В.Т., Флоря Б.Н., Хорошкевич А.Л.* Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства. М., 1982.

*Пилипенко М.Ф.* Возникновение Белоруссии: Новая концепция. Мн., 1991.

*Пичета В.И.* Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве. 2-е изд. М., 1958.

*Пичета В.И.* Белоруссия и Литва: (Исследования по истории соц.-экон., полит. и культ. развития). М., 1961.

*Похилевич Д.Л.* Изменение правового положения крестьян Великого княжества Литовского в XVI в. // Наукові записки Львівського державного університету імені Івана Франка. Т. 25. Сер. істор. Львів, 1953. Вип. 6. С. 147–176.

*Похилевич Д.Л.* Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI–XVIII вв. Львов, 1957.

*Саверчанка І.* Aurea mediocritas: Кніжна-пісьмовая культура Беларусі: Адраджэнне і ранняе барока. Мн., 1998.

*Саверчанка І.* Астафей Валовіч: (Гісторыка-біяграфічны нарыс). Мн., 1992.

*Сагановіч Г.М.* Войска Вялікага княства Літоўскага ў XVI–XVII стст. Мн., 1994.

*Сагановіч Г.М.* Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя. Мн., 2001.

*Сокол С.Ф.* Политическая и правовая мысль в Белоруссии XVI – І-й половины XVII в. Мн.,1984.

*Спиридонов М.Ф.* Закрепощение крестьянства Беларуси (XV–XVI вв.). Мн., 1993.

*Спиридонов М.Ф.* Заславль в XVI в. Мн., 1989.

*Старостина И.П.* Судебник Казимира 1468 г. // Древнейшие государства на территории СССР. М., 1991.

Статут Великого княжества Литовского 1529 г. Мн., 1960.

Статут Вялікага княства Літоўскага 1566 г. Мн., 2003.

Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэкст. Даведнік. Каментарыі. Мн., 1989.

*Стрэнкоўскі С.П.* Вольнасці і прывілеі гарадоў заходняй часткі ВКЛ. Мн., 1997.

*Ткачоў М.А.* Замкі і людзі. Мн., 1991.

*Улащик Н.Н.* Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985.

Францыск Скарына і яго час: Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1988.

*Хорошкевич А.* Русь и Крым: От союза к противостоянию: Конец XV – начало XVI вв. М., 2001.

*Хорошкевич А. Л.* Русское государство в системе международных отношений конца XV – начала XVI в. М., 1980.

*Цітоў В.С.* Народная спадчына: матэрыяльная культура ў лакальна-тыпалагічнай разнавіднасці. Мн., 1991.

*Черкас Б.* Україна в політичних відносинах Великого князівства Литовського з Кримським ханатом (1515–1540). Київ, 2006.

*Шчахаціхін М.* Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Мн., 1928. Т. 1.

Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Мн., 1993–2003.

Этнаграфія Беларусаў: Гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя. Мн., 1985.

*Юхо И.А.* Правовое положение населения Белоруссии в XVI в. Мн., 1978.

*Юхо Я.А.* Крыніцы беларуска-літоўскага права. Мн., 1991.

*Яковенко Н.М.* Українска шляхта з кінца XIV до середини XVII ст.: (Волинь і Центральна Україна). Київ, 1993.

*Якубовский И.* Земские привилеи Великого княжества Литовского // Журнал Министерства народного просвещения. 1903. № 4, 6.

*Янушкевич А.М.* Вялікае княства Літоўскае і Інфлянцкая вайна 1558–1570 гг. Мн., 2007.

*Ясинский М.* Уставные земские грамоты Литовско-Русского государства. Киев, 1889.

*Alexandrowicz St.* Geneza i rozwój sieci miasteczek Białorusi i Litwy do połowy XVII w. // Acta Baltico-Slavica. VII (1970).

*Błaszczyk G.* Dzieje stosunków Polsko-Litewskich od czasow najdawnejszych do współczesności. T. 1. Trudne początki. Poznań, 1998.

*Błaszczyk G.* Litwa na przełomie średniowiecza i nowożytności 1492 – 1569. Poznań, 2002.

Castrum, urbis et bellum. Баранавічы, 2002.

*Halecki O.* Dzieje unii Jagiellońskiej: W 2 t. Kraków, 1919–1920.

*Kaspierczak S.* Rozwój gospodarski folwarocznej na Litwie i Bialorusi do polowy XVI wieku. Poznań, 1965.

*Kołankowski L.* Polska Jagellonów. Dzieje polityczny. 3-e wyd., poprawione i uzypełnione / Do druku przygotował Z. Kołankowski. Olsztyn, 1991.

*Kołankowski L.* Zygmunt August Wielki książe Litwy do roku 1548. Lwów, 1913.

*Kołodziejczyk D.* Ottoman-Polish diplomatic relation (15-th – 18-th century). Brill; Leiden; Boston; Köln, 2000.

*Korczak L.* Litewska Rada Wielkoksiążęca w XV wieku. Kraków, 1998.

*Kuczyński S.* Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządamy Litwy. Warszawa, 1936.

Kultura Wielkiego księstwa Litewskiego analizy i obrazy. Kraków. 2006.

*Lulewicz H.* Gniewów o unię ciag dalszy. Stosunki polsko-litewskie w latach 1569–1588. Warszawa, 2002.

*Łowmiacski H.* Prusy – Litwa – Krzyżacy. Warszawa, 1989.

*Łowmiacski H.* Studia nad dziejami Wielkiego księstwa Litewskiego. Poznań, 1983.

*Łowmiacski H.* Studia nad początkami spoleczeństwa i państwa litewskiego. Wilno, 1931. T. 1–2.

*Machovenko J.* Nelietuviškų žemių teisinė padėtis Lietuvos Didžiojoje Kunigaikštystėje (XIV–XVIII a.). Vilnius, 1999.

*Natanson-Leski J.* Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. Cz. 1. Granica Moskiewska w epoce Jagiellońskiej. Lwów; Warszawa. 1922.

*Ochmański J.* Biskupstwo wileńskie w średniowieczu: Ustroj i uposażenie. Poznań, 1972.

*Ochmański J.* Dawna Litwa: Studia historyczne. Olsztyn, 1986.

*Ochmański J.* Historia Litwy. 3-e wyd. Wrocław etc., 1990.

*Ochmański J.* Organizacija obrony w Wielkim księstwie Litewskim przed napadami tatarów krymskicm w XV–XVI wieku // Studia i materialy do historii wojskowośći. Warszawa,1960. T. 5. S. 349–398.

*Papee F.* Aleksandr Jagiellończyk. Kraków, 1949.

*Paszkiewicz H.* Jagiellonowie a Moskwa. Litwa a Moskwa w XIII–XIV wieku. Warszawa, 1933. T. 1.

*Pietkiewicz K.* Wielkie księstwo Litewskie pod rządami Aleksandra Jagiellończyka. Poznań, 1995.

*Podhorodecki L.* Chanat Krymski i jego stosunki z Polską w XV–XVIII w. Warszawa, 1987.

Puszcze wielkoksiążęce na północnym Podlasiu i zachodniej Grodzieńszczynie w XV–XVI wieku (podziały, administracja, służby leśne i wodne). Olsztyn, 2007.

*Rachuba A.* Wielkie księstwo Litewskie w systemie parlamientarnym Rzeczypospolitej w latach 1569–1763. Warszawa, 2002.

*Sienkiewicz W.* Bojarzy-szlachta i ziemianie w dobrach przywatnych w Wielkim księstwie Litewskim w I połowie XVI w. // Zapiski Historyczne. T. 48 (1983). Z. 4.

Urzędnicy centralni i dygnitarzy Wielkiego księstwa Litewskiego XIV–XVIII w. Spisy / Red. A. Rachuby. Warszawa, 2003.

*Wawrzyńczyk A.* Studia z dziejów handlu Polski z Wielkim księstwem Litewskim i Rosją w XVI wieku. Warszawa,1956.

*Wolff J.* Kniaziowie litewsko-ruscy od końca XIV w. Warszawa, 1895.

*Wolff J.* Senatorowie i dygnitarze Wielkiego księstwa Litewskiego 1386–1795. Kraków, 1885.

# ХРАНАЛОГІЯ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ Ў ПЕРЫЯД ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

**1201 г.** Закладка г. Рыгі інфлянцкім біскупам Альбрэхтам.

**1229 г.** Гандлёвы дагавор Смаленскага, Віцебскага і Полацкага княстваў з Рыгай, Гоцкай зямлёй.

**1237 г.** Аб'яднанне Ордэна мечаносцаў з Тэўтонскім ордэнам. Стварэнне Лівонскага ордэна.

**1253 г.** Каранацыя Міндоўга.

**1263 г.** Забойства Міндоўга.

**1264 г., 22 снежня.** Гандлёвы дагавор Полацка (падпісаны князям Гердзенем) з Рыгай і Лівонскім ордэнам.

**1263–1264 гг.** Княжанне ў ВКЛ Траняты.

**1264–1267 гг.** Княжанне ў ВКЛ Войшалка.

**1267–1270 гг.** Княжанне ў ВКЛ Шварна Данілавіча.

**1270–1282 гг.** Княжанне ў ВКЛ Трайдзена.

**1276–1288 гг.** Пабудова Камянецкай вежы дойлідам Алексам па загадзе валынскага князя Уладзіміра Васількавіча.

**1284 г.** Першы паход крыжакаў на Гародню.

**1293–1316 гг.** Княжанне ў ВКЛ Віценя.

**1314 г.** Перамога гарадзенскага старосты Давыда над крыжакамі пад Наваградкам.

**1316–1341 гг.** Княжанне ў ВКЛ Гедыміна.

**1317–1330, 1354–1364, 1415–1420 гг.** Існаванне літоўскай праваслаўнай мітраполіі.

**1320 г.** Уваходжанне Віцебскай зямлі ў склад ВКЛ.

**1325 г.** Заключэнне саюзу паміж Гедымінам і Уладзіславам Лакеткам.

**1341–1345 гг.** Княжанне ў ВКЛ Яўнута.

**1345–1377 гг.** Княжанне ў ВКЛ Альгерда.

**1348 г., 2 лютага.** Бітва на р. Стрэве.

**1362 (1363?) г.** Бітва на Сініх Водах.

**1368–1372 гг.** Вайна Вялікага Княства Літоўскага з Вялікім Княствам Маскоўскім.

**1377–1381, 1382–1392 гг.** Княжанне ў ВКЛ Ягайлы.

**1380 г., 8 верасня.** Кулікоўская бітва.

**1381–1382 гг.** Княжанне ў ВКЛ Кейстута.

**1385 г., 14 жніўня.** Крэўскі акт аб умовах шлюбу Ягайлы з Ядвігай.

**1386 г., 16 лютага.** Каранацыя Ягайлы як польскага караля ў Кракаве на Вавелі.

**1387 г., 20 лютага.** Першы агульназемскі прывілей ВКЛ.

**1387 г., 22 лютага.** Прывілей Ягайлы каталіцкай царкве ў ВКЛ.

**1388 г., 24 чэрвеня.** Прывілей Вітаўта берасцейскім яўрэям.

**1390 г.** Атрыманне магдэбургскага права Берасцем.
**1392 г., 5 жніўня.** Востраўскае пагадненне.
**1392–1430 гг.** Княжанне ў ВКЛ Вітаўта.
**1398 г., 12 кастрычніка.** Салінскі дагавор паміж ВКЛ і Тэўтонскім ордэнам.
**1399 г., 12 жніўня.** Бітва на Ворскле.
**1401 г.** Віленска-Радамская унія.
**1406 г.** Полацка-рыжскі гандлёвы (Копыскі) дагавор.
**1409–411 гг.** "Вялікая вайна" Польскага каралеўства і ВКЛ супраць Тэўтонскага ордэна.
**1410 г., 15 ліпеня.** Грунвальдская бітва.
**1411 г., 1 лютага.** Торуньскі мірны дагавор.
**1413 г., 2 кастрычніка.** Гарадзельская унія.
**1413 г.** Утварэнне Віленскага і Троцкага ваяводстваў.
**1425 г., 1427 г.** Гандлёвыя дагаворы паміж Вялікім княствам Літоўскім і Ноўгарадам, Псковам, Разанскім і Цвярскім княствамі.
**1430–1432 гг.** Княжанне ў ВКЛ Свідрыгайлы.
**1432 г., 1 верасня.** Замах на Свідрыгайлу ў Ашмянах.
**1432–1340 гг.** Княжанне ў ВКЛ Жыгімонта Кейстутавіча.
**1432–1439 гг.** Феадальная (грамадзянская) вайна ў ВКЛ.
**1434 г., 6 мая.** Агульназемскі прывілей Жыгімонта Кейстутавіча.
**1440 г., 20 сакавіка.** Забойства Жыгімонта Кейстутавіча.
**1440–1492 гг.** Княжанне ў ВКЛ Казіміра Ягайлавіча.
**1446 г.** Стварэнне Беларуска-літоўскага летапісу.
**1447 г., 2 мая.** Агульназемскі прывілей Казіміра Ягайлавіча.
**1449 г., 31 ліпеня.** "Вечнае даканчэнне" Вялікага Княства Літоўскага з Вялікім Княствам Маскоўскім.
**1468 г., 29 лютага.** Выданне Судзебніка Казіміра Ягайлавіча.
**1472 г.** Стварэнне ў межах ВКЛ асобнай Кіеўскай праваслаўнай мітраполіі.
**1481 г.** Замах на Казіміра Ягайлавіча.
**Каля 1490 – каля 1551 г.** Жыццё і дзейнасць Ф. Скарыны.
**1492–1506 гг.** Княжанне ў ВКЛ Аляксандра.
**1492 г., 6 жніўня.** Агульназемскі прывілей Аляксандра.
**1492–1494 гг.** Вайна Вялікага Княства Маскоўскага з Вялікім Княствам Літоўскім.
**1496 г.** Атрыманне магдэбургскага права Гародняй.
**1497, 1500, 1502, 1503, 1505, 1506, 1508, 1510, 1521, 1527, 1530 гг.** Напады крымскіх татар на тэрыторыю Беларусі.
**1498 г.** Атрыманне магдэбургскага права Полацкам.
**1499 г.** Атрыманне магдэбургскага права Менскам.
**1500–1503 гг.** Вайна Вялікага Княства Маскоўскага з Вялікім Княствам Літоўскім.
**1500 г., 14 ліпеня.** Бітва на Ведрашы.
**1501 г.** Прыняцце акта Мельніцкай уніі (не рэалізавана).
**1503 г., 16 ліпеня.** Выданне прывілея Віцебскай зямлі.
**1503 г.** Атрыманне магдэбургскага права Камянцом.
**Каля 1504 г.** Утварэнне Полацкага ваяводства.
**1506 г., 5 жніўня.** Бітва пад Клецкам.
**1506–1548 гг.** Княжанне ў ВКЛ Жыгімонта Старога.
**1506 г., 7 снежня.** Агульназемскі прывілей Жыгімонта Старога.
**1507 г.** Утварэнне Наваградскага ваяводства.
**1507–1508 гг.** Вайна Вялікага Княства Маскоўскага з Вялікім Княствам Літоўскім.

